Зянон Пазьняк

# ЦЯЖКІ ЧАС

## Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн. 2, артыкулы і матэр'ялы (IV 1996–2002)

II

Варшава–Нью Ёрк–Вільня
"Беларускія Ведамасьці",
Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве
2010 г.

# ЦЯЖКІ ЧАС

## *(Прадмова)*

Гэтая кніга ёсьць другі том задуманага чатырохтомнага выданьня аб канцэпцыі нацыянальнай незалежнасьці і *новага беларускага Адраджэньня*. Неабходнасьць такога накірунку працы намі была асэнсавана адразу пасьля расколу Беларускага Народнага Фронту (1999 г.) і стварэньня на Беларусі падстаўной (не адраджэнскай) „апазыцыі" пры дапамозе чужых сіл: перш за ўсё – нямецкай выведкі (Ганс Вік) у супрацоўніцтве з КГБ. Эксклюзыўна па гэтай тэме мной быў падрыхтаваны і выдадзены ў 2002 годзе зборнік артыкулаў пад назвай „Новае стагоддзе,"* а ў 2009 г. зборнік „Нацыянальныя каштоўнасьці", які ўключыў некаторыя ўжо надрукаваныя там артыкулы. У такім жа накірунку з 2000 года плённа пачаў працаваць Уладзімер Старчанка (на той час намесьнік Старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ). У гэтым зборніку (у дадатку) мы зьмяшчаем адзін зь яго выдатных артыкулаў „Вялікая Чарнобыльская вайна". Улічваючы неабходнасьць гістарычнай і тэарэтычнай распрацоўкі тэмы аб нацыянальна-вызвольным змаганьні ў XX стагоддзі, КХП-БНФ арганізавала шэраг навукова-тэарэтычных канфэрэнцыяў аб праблемах нацыянальнай барацьбы за незалежнасьць (напрыклад, пастаянна дзеючая канфэрэнцыя *Ідэалы БНР і Адраджэньне Беларусі*) з прыцягненьнем шырэйшых колаў дасьледчыкаў і інтэлектуалаў.

Мы, сябры Фронту, добра разумеем, што без пасьлядоўнай тэорыі беларускага Адраджэньня і выбудаванай канцэпцыі нацыянальна-вызвольнай барацьбы нашае змаганьне не набудзе моцы і глыбіні, не дасягне грунту, які самарэалізуецца ў народным пакаленьні, незалежна ад посьпехаў і паразаў, уздымаў і адступленьняў. Урэшце трэба паспрабаваць зрабіць тое, чаго не зрабілі нашыя змагары ні ў XIX, ні ў XX стагоддзях: сістэматызаваць прынцыпы і канцэпцыю барацьбы за волю і дзяржаўнае адраджэньне нацыі.

Аднак ва ўмовах практычнай барацьбы займацца напісаньнем спэцыяльнай абагульняючай тэарэтычнай працы аказалася не рэальным з прычыны яе працаёмкасьці і поўнай нястачы часу на такое дасьледваньне. І тады за аснову быў узяты іншы падыход: абагульненьне палітычнай практыкі і працэсу змаганьня, які выявіўся ў палітычных ацэнках, асэнсаваньнях, у інфармацыі пра падзеі і факты, у аналізе і высновах, што вынікалі з вопыту, у праграмах, канцэпцыях і плянах, прагнозах і праектах, – ва ўсім, што складала жывое цела і дух нацыянальна-дэмакратычнага і вызвольнага змаганьня ад канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя і па сёньняшні дзень.

Усё гэта выяўляе практычную дарогу нашага руху ў плыні змагарнага і месцамі ўжо гістарычнага часу; усё гэта зафіксавана ў шэрагу артыкулаў, выступаў і ў працах, якія я пісаў альбо спэцыяльна дзеля высьвятленьня пэўных палажэньняў і пэўных праблемаў, альбо зыходзячы з палітычнай неабходнасьці тых ці іншых дзеяньняў і задачаў Народнага Фронту (пазьней – КХП-БНФ).

Першы том „Развагі" (1990–III.1996 гг.), які выдадзены мной ў 2007 годзе і сфармаваны па практычна-гістарычным прынцыпе, здаецца, што (па станоўчых ацэнках прыхільных да Беларусі і да Фронту людзей) апраўдаў мае спадзяваньні.

Гэтая другая кніга абымае час ад красавіка 1996 года і па 2002 год уключна і складзена па такой жа схеме, як і „Развагі": аўтарскія тэксты, ілюстрацыі плюс дадаткі, дзе пададзены дакуманты, розныя інфармацыйныя артыкулы і матэрыялы, фатаграфіі, сканаваныя копіі газэт і часопісаў. У канцы кнігі зьмешчаны паказьнік прозьвішчаў і сьпіс фатаграфіяў.

Пэрыяд, адлюстраваны ў кнізе, супадае з бадай што найцяжэйшым жыцьцёвым станам і паваротам у маім асабістым жыцьці – змаганьнем у эміграцыі, кіраваньнем фронтаўскай змагарнай дзейнасьцю з-за мяжы. Гэтай справе пасьвечана ўсё без астатку, але цыкл, у якім разгортвалася нашае новае змаганьне, ня быў ужо часам грамадзкага ўздыму. Беларусь спакваля апускалася ў цемру ганьбы і вынішчэньня, перажываючы вельмі цяжкі час.

У гэтым часе – калі разбураюць і душаць усё беларускае – мы, фронтаўцы (КХП-БНФ), адну з галоўных задачаў нашай дзейнасьці акрэсьлілі як нацыянальнае асьветніцтва і прапаганда ідэй Адраджэньня. Былі вызначаныя прыярытэты. Асьветніцкая ўстаноўка (і нават тэхналёгія) выразна адбілася ў гэтай кнізе.

Няхай чытача не зьдзіўляюць частыя паўтарэньні пэўных характарыстык, высноваў і азначэньняў (напрыклад, пра ўнутраную акупацыю, расейскі гэбізм, падстаўную апазыцыю, дзейнасьць Віка, Беларускую салідарнасьць, значэньне мовы, Чарнобыль, Курапаты, Слуцк, расейскія прэтэнзіі, падвойныя стандарты Эўразьвязу і г. д. Усё яно паўтараецца і разгортваецца ў розных тэмах, артыкулах і зваротах з году ў год, бо гэтага вымагае тэхналягічны зьмест прапаганды асьветніцтва: каб ідэі і факты засвойваліся, яны павінны паўтарацца. Тым больш, што калі да фронтаўцаў яны даходзяць сістэмна, то да іншых – выбарачна; але асноўныя пазыцыі мусяць быць засвоены.

Практычна, усе працы гэтай кнігі былі альбо надрукаваныя, альбо зьмешчаныя ў Сеціве, альбо тыражна распаўсюджаныя.

Кабінэтнае напісаньне, зразумела, вымагала б іншага выкладаньня тэмы. Але затое тут адлюстраваны (у пэўнай ступені, вядома) летапіс палітычных падзеяў і грамадзкіх праблемаў (відаць разьвіцьцё руху) з гледзішча і ў кантэксьце бягучага часу, выяўляючы заканамернасьці ў змаганьні і ў ходзе падзей. Вядома, шэраг прац напісаны

* Амаль цалкам зьмешчаны ў гэтым томе асобным блёкам (гл. стар. ...) – *З. П.*

спэцыяльна з гледзішча праграмнага абагульненьня і асэнсаваньня працэсаў (напрыклад, ***„Беларускі шлях”***, ***„Вызвольны рух”***, ***„Канец імпэрыі альбо крызіс алігархіі”***, ***„Новае стагоддзе,”*** і г. д.), але ўсе яны, як я лічу, вынікалі з запатрабаваньня часу і становішча, зьмяшчалі адказы на пытаньні, якія ўзьніклі і якія будуць яшчэ стаяць доўга.

Клясычнае нацыянальнае адраджэньне, дзе б яно ні было, зьвяртаецца да гісторыі, змагаецца за сцьвярджэньне нацыянальнай мовы, культуры і дзяржаўнай незалежнасьці. Гэтак сама разьвіваўся і беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Але ёсьць выключная гістарычная асаблівасьць беларускага змаганьня, якую я назваў бы „беларускай (дакладней, літоўскай) трагедыяй”. Пачалася яна з таго, што ў XVIII ст. супраць вялікай літоўскай славянскай цывілізацыі *(ВКЛ)* і Польшчы аб'ядналася заходняя Эўропа (немцы) і ўсходняя тыранія (Масква). Наша вялікая дзяржава перастала існаваць. Аднак мэта маскоўскага забору была ня проста павелічэньне тэрыторыі, а вынішчэньне нас як народа, разбурэньне культуры, ліквідацыя адукацыі, рэлігіі, вытворчасьці, землеўладаньня і сацыяльных вярхоў грамадзтва; наступны этап – русіфікацыя астатняга насельніцтва. Па іхняй задуме, нішто не павінна было нагадваць пра Вялікае Княства, і ніколі ўжо не павінна была паўстаць Літва-Беларусь.

Сто гадоў каласальнай вынішчальнай дзейнасьці Масквы мелі вынікі; разбуральнікі прывялі, так бы мовячы, у контурны стан схему гістарычнага зьнішчэньня Літвы. На канец XIX стагоддзя была цалкам ліквідавана беларуская школа, асьвета і адукацыя, была цалкам забаронена беларуская (ліцьвінская) мова ў афіцыйным ужытку. Народ страціў сваю рэлігію (Вунію), сваю асьвечаную эліту (набілітэт) і сацыяльныя вярхі, назву краіны і назву сябе.

І тады настала ноч. Падкрэсьліваю, „ноч” настала тады, калі людзі забыліся, як называюцца. Жыла вялікая народная культура, традыцыі, у масе сялян і мяшчан гучэлі старажытныя прыўкрасныя песьні, паўсюдна гучэла вялікая прыгожая мова, зямлю насялялі лагодныя сьветлыя людзі, якія ў большасьці не маглі ўжо адказаць на першаснае пытаньне: хто яны ёсьць. Менавалі сябе „тутэйшымі”, „мужыкамі”, „палешукамі”, „каталікамі” і г. д. – гэта быў далейшы шлях у магілу.

Беларускае нацыянальнае адраджэньне, як і ў цэлым у Эўропе, узьнікала на этнічнай аснове. Быў скарыстаны новы кансалідацыйна-этнічны тэрмін „Беларусь”, які напачатку з цяжкасьцю засвойваўся ў цэнтральных і заходніх тэрыторыях ВКЛ, дзе ён раней рэдка ўжываўся, але ўжо на пачатку XX стагоддзя новая назва стала ўсеагульнай. Посьпех новай кансалідацыі быў хуткі і выніковы.

9 сакавіка 1918 года было аб'яўлена аб стварэньні ***Беларускай Народнай Рэспубліцы***, а 25 Сакавіка прадэкляравана яе незалежнасьць. БНР, фактычна, прадэкляравала аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага ў межах пасьля 1569 года (акрамя былой Жмудзі, якая ў лютым таго ж 1918 года аб'явіла пра стварэньне незалежнай дзяржавы „Літвы”). Для Беларусі адчыніліся выдатныя пэрспэктывы аднаўленьня дзяржаўнасьці і нацыянальнага адраджэньня. Здавалася, яшчэ крок – і здарыцца Боскі цуд, адродзіцца справядлівасьць гісторыі.

Што адбылося ў сапраўднасьці – вядома. БНР разарвалі, падзялілі, расчлянілі па частках. Прытым, заўважце, зроблена гэта, як і ў XVIII стагоддзі, – тымі ж самымі чужымі сіламі, плюс памылковая палітыка толькі што адноўленай Польшчы.

Справядлівасьць мы адрадзілі толькі 25 жніўня 1991 года, калі малымі сіламі (у асноўным дэпутацкай Апазыцыі БНФ, але з апорай на ўвесь Народны Фронт і пры падтрымцы народа), удалося ня толькі дамагчыся рэальнай незалежнасьці Беларусі, але і закласьці заканадаўчыя асновы незалежнай дзяржавы.

Дык у чым жа „Беларуская трагедыя”? Яна ў пэрманэнтна страчаным часе, у страчаным, скрадзеным, абрабаваным, адабраным беларускім часе незалежнага і вольнага разьвіцьця. Адсутнасьць гэтага часу загамавала, затрымала наш нацыянальны рух і, галоўнае, – не дазволіла сінтэзаваць у сьведамасьці пакаленьняў мінулае і цяперашняе, новае і гістарычнае, Літву і Беларусь, Вялікае Княства і Рэспубліку Беларусь. Сінтэз мусіць мець ня толькі сутнаснае (мастацтва, гісторыя, навука, культура і г. д.) але, таксама, фармальнае выяўленьне, адлюстраванае ў Канстытуцыі, сымвалах і нават у назве краіны (якая можа стаць поўнай і кароткай з гістарычным дадаткам, сутнасным азначэньнем і г. д.).

Жыцьцё не стаіць на месцы. У 1918 годзе стартавалі вольная Польшча, Беларусь, Летува, Латвія. Нашыя вольныя суседзі пайшлі наперад у сваім нацыянальна-культурным разьвіцьці. Для беларусаў жа час спыніўся на 73 гады, і ня толькі спыніўся – быў адкручаны назад у „тутэйшасьць”, у „мужыкоў” праз вынішчэньне і мільёны ахвяр. Ніхто ня стаў чакаць, пакуль мы ўваскрэсьнем, і кожны з суседзяў патрактаваў нас, нашу „бясхозную” гісторыю і культуру так, як лічыў сабе зручным. Пад бальшавіцка-маскоўскай акупацыяй забаронена было ўсё: і ВКЛ, і Вунія, і БНР, і Адраджэньне. Нават словы гэтыя былі забароненыя і лічыліся „ілжывымі” буржуазно-националистическими терминами”.

25 Жнівень 1991 года – гістарычны паварот у лёсе Беларусі. За тры гады, нават ня маючы народнай улады, краіна стала падымацца з каленяў, пачало разьвівацца нацыянальнае мастацтва, тэатр, літаратура, імгненна адрадзілася беларуская школа, беларуская гістарычная навука, паўсюдна годна загучэла беларуская мова.

Зь ліпеня 1994 года – унутраная акупацыя ўлады ў Беларусі (пры падтрымцы Расеі) прамаскоўскімі сіламі, антынацыянальная палітыка, антыбеларускі рэжым, аўтарытарная дыктатура. Зноў вынішчэньне ўсяго беларускага, зноў ліквідацыя беларускіх школаў, сымвалаў, фальсіфікацыя гісторыі, задушэньне мовы. Зноў спынены і страчаны час нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Прытым Беларусь ня тое што спынілі на мэнтальным узроўні 1994 года, не – яе апусьцілі глыбока ў 80-я, у СССР, на ўзровень эпохі маразму позьняга Брэжнева.

Нашыя меншыя суседзі ўжо даўно ў НАТО, у Эўразьвязе, у Шэнгенскай дамове, у цывілізаваным сьвеце, у нацыянальным вобліку і спосабе жыцьця.

А мы.., дзе мы? Вось што азначае трагедыя страчанага часу, якая сталася трагедыяй Беларусі.

Я называю гэта трагедыяй, бо трагедыя – гэта такая зьява, якая заканчваецца перамогай духу. Перамога народнага духу ня дасьць нам загінуць. Спыніцца сізіфаў залом. У цяжкім часе, у якім мы цяпер жывём, адна з задачаў здаровых і жывых людзей – спрыяць нацыянальнаму захаваньню і ўзвышэньню народнага духа.

Гэты „цяжкі час", відаць, стане імемназыўным, бо мы ніколі ня мелі яшчэ ўнутранай акупацыі, унутранага антыбеларускага рэжыму. Гэта зьява фармальна новая для грамадзтва, і шмат хто на сёньняшні дзень ня можа зразумець, што адбываецца, чаму гэты рэжым зьвязаўся з Масквой, нішчыць мову, культуру, гандлюе суверэнітэтам і душыць народ. Але і ня ў гэтым яшчэ справа. Мы, беларусы, нават у самыя змрочныя часы, калі нас расстрэльвалі тысячамі, адбіралі зямлю ды везьлі ў Сібір, мы ніколі дагэтуль не перажывалі нацыянальнай ганьбы, роспачы за сваё бясьсільле, за апатыю і прыніжэньне, сораму за тое, што робіцца ў нашым доме. Яшчэ ніколі ніхто гэтак гнюсна і подла, нахабна, штодзённа не пляваў нам у твар.


(Фота Марта Мартавіча)

*2. 25 Сакавіка 2007 г. «Дэманстрацыя» антыбеларускага рэжыму ў Менску.*

Гэты час ня мінецца, відаць, бясьследна. Мы павінны будзем потым зрабіць захады на будучыню з праекцыяй на пакаленьні, каб ніколі тое, што ёсьць цяпер, не паўтарылася больш у Беларусі. Мы мусім потым зрабіць ня толькі палітычны, але й маральны, метафізічны аналіз зьявы, якая, зрэшты, ня новая ў сьвеце, калі да ўлады прыходзіць цемра, зло, якое ўсьведамляе сябе злом.

Палітычныя аспэкты грамадзкага зла часткова раскрытыя ў гэтай кнізе, маральна псіхалягічныя – патрабуюць яшчэ дасьледчыка.

Прамакоўскі рэжым на Беларусі ў чарговы раз прадэманстраваў людзям гэтак жа, як некалі антычалавечыя рэжымы ў Нямеччыне і ў Расеі, што адбываецца з грамадзтвам, калі да ўлады прыходзіць цемра, бескультур'е, перыфэрыйнае думаньне, асобы, апантаныя фобіямі і ідэямі-фікс. Тады дно робіцца верхам, і ўсё добрае, чыстае, сьветлае – глуміцца па вызначэньню.

Для беларускай нацыі і культуры гэта вельмі небясьпечны і надзвычай разбуральны рэжым якраз тым, што зьнішчэньне нацыянальнага духа, нацыянальнай вітальнасьці народа ёсьць ягонай палітыкай і мэтай, пагрунтаванай на маніякальнай падсьведамасьці аднаго чалавека, які апынуўся на вяршыні ўлады. Зададзенасьць гэтай мэты (ліквідацыі нацыянальнай тоеснасьці народа) вынікае ня толькі зь дзеяньняў і заяваў рэжыму, але і з наўпроставых выказваньняў галоўнага выканаўцы. 2-га сакавіка 2006 г., напрыклад, на так званым „усебеларускім сходзе" Лукашэнка заявіў перад усімі: „Я абараняю не сябе. Я ўжо наеўся гэтай улады. Для мяне вельмі важна паставіць моцную кропку ў гэтым жыцьці, каб нікому, хто прыйдзе пасьля мяне, не захацелася павярнуць назад краіну. Каб краіна ішла гэтай дарогай" і г. д. (Страшна нават уявіць, каб Беларусь засталася ў гэтым маразме – „ішла гэтай дарогай".)

Палітыка цяперашняга рэжыму адкрыта антыбеларуская і простая, як сякера. Але людзі, якія ўжо страцілі нацыянальную тоеснасьць, ня ў стане (як ні дзіўна) відавочнае – бачыць. Як і сто гадоў таму, мы сутыкнуліся зь неабходнасьцю тлумачыць людзям простыя рэчы нашага ня толькі народнага, але і этнічнага існаваньня.

З гэтых „простых рэчаў" галоўным ёсьць вяртаньне ў сьведамасьць людзей страчанага першаснага, менавіта: ***трэба каб чалавек валодаў ацэначным вылучэньнем чужога і каштоўнасным усьведамленьнем свайго***. Этнас, як вядома, не ўзьнікае, калі не існуе калектыўнага ўсьведамленьня ***сваіх і чужых***, *(альбо – **ворагаў і сваіх)***. Адпаведна і нівеліроўка (асіміляцыя) этнаса магчыма толькі пасьля разбурэньня калектыўнай ацэначнай катэгорыі ***„чужых".*** Не ўсялякая імпэрская палітыка дзейнічае сьведама на этнічным узроўні, але ўсялякая палітыка асіміляцыі накіравана на тое, каб разбурыць (зьмікшыраваць) гэтую мяжу пасьля разбурэньня культуры (зьнішчэньне мовы і культуры – першы этап прымусовай асіміляцыі).

Нацыянальная палітыка расейскай імпэрыі і яе клонаў (СССР, РФ) – гэта якраз самая што ні ёсьць гвалтоўная, дзікая русіфікацыя. За амаль дзьвесьце гадоў каляніялізму (асабліва за часы СССР) маскоўская палітыка на Беларусі пакінула свой сьлед. Насельніцтва і пакаленьне новай незалежнай Беларусі павінна б было як найхутчэй зразумець пэрманэнтную чужасьць і небясьпеку, якія зыходзяць ад расейскага імпэрыялізму. Гэтае веданьне абавязковае (зьяўляецца, як кажуць, катэгарычным імпэратывам) дзеля нармальнага існаваньня незалежнай Беларусі. Калі ***ўсьведамленьне „калектыўнага чужога" як пагрозы і крыніцы небясьпекі*** ня вернецца цалкам у палітыка-этнічную

сьведамасьць беларусаў, тады застаецца і працягваецца параліч нацыі і неадэкватная рэакцыя на сваю нацыянальную сьмерць.

У часы расейска-савецкага генацыду 30-х гадоў мінулага стагоддзя гэта выявілася лапідарна даслоўна. Тысячы беларусаў, якіх расстрэльвалі ў Курапатах, казалі перад ямай, напоўненай трупамі, аднолькавую фразу – пыталіся ў катаў: „За што?" Ніхто зь іх не разумеў, што іх забіваюць за тое, што яны беларусы, бо забойцы гаварылі эўфэмізмамі ("ворагі народа" і т. п.). Многія, сьведкі расстрэлаў, зь якімі я гаварыў у 80-х гадах, зьдзіўляліся: „Ну, няхай бы (маўляў) немцы, а то ж свае".

Ні мільёны замардаваных ды расстраляных беларусаў, ні сьведкі расстрэлаў так і не зразумелі, што адбылося, хто і чаму расстрэльваў. Гэта гісторыя, якая выклікае ў мяне здранцьвеньне.

Калі немцы (фашысты, значыцца) зьнішчалі габрэяў, то яны (габрэі) ведалі, „за што". За тое, што габрэй. Ішлі ў газавыя камэры, як на ахвяру Апакаліпсісу. Халакост ускалыхнуў чалавецтва, згуртаваў усіх габрэяў. Трагедыя скончылася перамогай духа.

Тым часам у курапацкіх магільных ямах, на ўскапанай, палітай крывёю зямлі Курапатаў нашчадкі расстраляных беларусаў па сёньняшні дзень п'юць гарэлку, смажаць шашлыкі ды ламаюць крыжы.

Вось што такое ***нівеліроўка этнічнай сьведамасьці і нераспазнаньне чужых***. Асьветніцкая задача дзейнасьці Народнага Фронту – дапамагчы суайчыньнікам разабрацца ў прычынах нашага людзкога нацыянальнага цярпеньня і сьмерці. У 1993 годзе я напісаў артыкул на гэтую тэму ***„Аб рускім імпэрыялізме і яго небясьпецы"***. Матэрыял трапіў у „яблычка" – пачаўся ўсяленскі расейска-гэбісцкі лямант (напэўна, зямля паплыла ў іх з-пад ног). Ахвярам зьнялі павязку з вачэй, і русіфікатары запанікавалі.

Цяжкі час небясьпечны сваімі наступствамі. Кожны кароткі пэрыяд адраджэньня меў свае дасягненьні і свой уздым духа. Кожны доўгі пэрыяд нішчэньня народа пакінуў свае разбуральныя і часта – неаднаўляльныя руіны, але ў прынцыпе ўсё добрае, здольнае і жыцьцёвае можа мець працяг.

Савецкі пэрыяд акупацыі ліквідаваў селяніна-гаспадара, але пакінуў яшчэ беларускую вёску зь беларускімі школамі і насельніцтвам. „Цяжкі час" – час адмысловай антыбеларускай палітыкі (аграгарадкі, калгасная сістэма, ліквідацыя асяродкаў адукацыі і культуры), практычна, ужо ліквідаваў і гэтую рэшту этнічнай крыніцы нацыі.

Цяжкі час – гэта ня толькі пасьлядоўнае вынішчэньне ўсяго беларускага, гэта ёсьць улада цемры і хамства, непавагі да чалавека, зьдзеку над сьветлым, чыстым і добрым. Цяжкі час – гэта масавае паталягічнае п'янства, гэта разбурэньне нармальнай лексікі, абніжэньне нораваў і культуры, страта весялосьці і добрых людзей. Гэта час панурага чалавека.

Гэты том ( наступны, што будзе за ім) і тое, што тут напісана і сабрана, ёсьць адлюстраваньне змаганьня з цяжкім часам. Міне гэты час, і ў памяці сьветлых пакаленьняў беларусаў ён застанецца як кур'ёз ці мо' як кашмарны сон, які непрыемна ўспамінаць; ці як прыклад таго, як нельга жыць, як нельга маўчаць, як нельга не шанаваць Беларусь і аддаваць уладу ў рукі чужых і цёмных людзей.

Гэты час яшчэ працягваецца, але ён ужо мёртвы, і толькі па інэрцыі коціцца ў дол. Наперадзе новая Беларусь. І нішто ня спыніць яе хады.

*1 сакавіка 2009 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# 1996. IV–XII

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

### ПРАДМОВА ДА ВЫДАНЬНЯ

*Гэты артыкул быў напісаны ў пачатку траўня 1996 г. на канспіратыўным становішчы, калі КГБ і расейская агентура шнырылі па ўсім Менску, імкнучыся мяне схапіць. Тэкст быў перададзены ў сядзібу БНФ з просьбай пераслаць у „Пагоню" і „Народную Волю". Ва Ўправе БНФ, відаць, не сьпяшаліся, і ў час аднаго з чарговых вобыскаў у сядзібе Фронту міліцыя і гэбэ сканфіскавалі артыкул. Адначасна таемна зьнікла копія рукапісу артыкула, што захоўвала ў нас дома мая жонка, якая на той час была яшчэ на Беларусі.*

*Тым ня менш тэкст усё ж апынуўся ў рэдакцыі, і ў чэрвені „Пагоня" надрукавала яго ў трох нумарах.*

*Праз год (18 жніўня 1997 г.) у рэдакцыю „Пагоні" наскочылі кагэбісты і ўчынілі ператрус з санкцыі сьледчага КГБ* ***па асабліва важных справах*** *В. Камароўскага. Шукалі рукапіс майго артыкула „Беларускі шлях".*

*Аказваецца, 19 чэрвеня 1997 г. па загаду „зьверху" была ўзбуджана крымінальная справа №238 супраць мяне па факту мінулагодняй публікацыі „Беларускага шляху". „Сьледзтва" вялося па артыкулу* ***71 КК****, які прадугледжвае пакараньне за парушэньне нацыянальнага і расавага раўнапраўя, а таксама раўнапраўя грамадзянаў у іх адносінах да рэлігіі. Прадугледжваецца пазбаўленьне волі да трох гадоў.*

*Гэта „асаблівая важная" „справа" цягнецца па сёньняшні дзень, і, відаць, з прычыны яе „асаблівай важнасьці," не падлягае перадаўненьню.*

*У рэальнасьці ўзбуджэньне такога роду „справы" абумоўлена палітычным перасьледам і зьяўляецца вынікам даволі тупой палітычнай тэхналёгіі. Зьмест артыкула „Беларускі шлях" ня мае дачыненьня ні да расавага, ні да нацыянальнага, ні рэлігійнага „раўнапраўя". Але пад фармулёўкі трэба было нешта падабраць.*

*Узбуджэньне крымінальнай справы мела на мэце дзьве задачы: пасеяць сумніў аб маёй дзейнасьці ў галовах заходніх палітыкаў (на Захадзе, звычайна, усяму вераць) і другое – мець фармальную прычыну, каб арыштаваць мяне пры пераезьдзе мяжы (паколькі існуе загад Лукашэнкі „пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць"). Тут тыповы гэбоўскі спосаб дзеяньня рэжыму на Беларусі: на кожнага „не свайго", і нават патэнцыяльна не свайго, таемна заводзіцца крымінальная справа.*

*Усё гэта ў рэпрэсіўных традыцыях расейскага НКВД-КГБ – перасьледы, арышты, турма, расстрэлы за друкаванае слова, за вершы, за літаратуру. Але тут іншае – адбываецца акупацыйны перасьлед усяго беларускага і найперш – беларускіх палітыкаў і беларускіх ідэй.*

*Тэкст друкуецца тут паводле рукапісу, які застаўся ў мяне.*

### ПРАДМОВА

Некалькі гадоў таму, здаецца дзесьці ў 1993-м, мне прышлося пісаць пра сёньняшні дзень Беларусі ў артыкуле на рускай мове *„О русском империализме и его опасности"*. Рэакцыя рускай пятай калёны, камуністаў і кагэбістаў была тады блізкая да істэрыкі. Зразумела чаму – дакладнае траплянньне. Шмат хто тады, на жаль, ня здолеў зразумець зьместу. Сьляпы дарогі ня бачыць. Груз савецкай прапаганды вісеў яшчэ над народам. Аднак, я буду тут, як і раней, гаварыць пра рэальнасьць, а не пра ўяўленьні.

Я разумею, што ізноў можа прыйсьці папуліст і павесьці даверлівых за сабой. Але мая задача – папярэдзіць, дапамагчы іншым стаць людзьмі беларускай нацыі, здольнымі адэкватна ўспрымаць рэчаіснасьць і адрозьніваць дабро ад зла, праўду ад хлусьні, сяброў ад ворагаў. Нацыя абапіраецца на народ, а не на натоўп. Натоўп чакае правадыра. Народ жа – змагаецца за свабоду.

### РЭЖЫМ

Якія правы цяпер мае чалавек на Беларусі? Якія гарантыі правоў? Ніякіх. Можа хто нязгодны? Што ж, адгорнем разьдзел **2** Канстытуцыі „Асоба, грамадзтва, дзяржава" і паглядзім.

**Артыкул 21**. *„Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзянаў Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі..."* Няўжо „гарантуе"? І што засталося ад гэтых свабодаў?

**Артыкул 23**. *„Усе роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў."* Няўжо „ўсе роўныя"? І прэзыдэнцкі заўгас Ціцянкоў, і рабочы Антончык, да якога па рашэньні суда прыйшлі на кватэру апісваць маёмасьць за тое, што ён раскрыў махінацыі Ціцянкова?

**Артыкул 25**. *„Дзяржава забясьпечвае свабоду, недатыкальнасьць і годнасьць асобы..."* Няўжо „забясьпечвае"? І дэпутатам, якіх па волі Лукашэнкі батальён войска зьбівае ў парляманце, і тым маладым людзям, старым і жанчынам, якіх „спэцназы" і АМАПы зьбіваюць ботамі, палкамі і кулакамі на вуліцах за падняцьце нацыянальнага сьцяга?

*„...Ніхто не павінен падвяргацца катаваньням, жорсткаму, бесчалавечнаму альбо прыніжаючаму яго годнасьць абыходжаньню і пакараньню..."* Але ці так яно, панове? Нагледзеліся мы ўжо на гэтае „ніхто", наслухаліся, начыталіся роспачных лістоў з „сьледчых ізалятараў", ведаем, як зьдзекаваліся там з ***М. Сядова***, ***В. Сіўчыка***, з сотняў незаконна схопленых людзей 26 красавіка, зь іх жонак, дзяцей і матак пад сьценамі турмы ў Менску, з украінцаў – грамадзянаў іншай дзяржавы; ведаем шмат.

**Артыкул 28**. *„Кожны мае права на абарону ад незаконнага ўмяшальніцтва ў яго асабістае жыцьцё, у тым ліку ад замаху на таямніцу яго карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленьняў, на яго гонар і годнасьць."* Няўжо „гарантуецца свабода меркаваньняў", калі нават Старшыні Вярхоўнага Савета ***Мечыславу Грыбу*** прэзыдэнцкія стаўленьнікі не далі магчымасьці выступіць на дзяржаўным тэлебачаньні? Я не кажу ўжо пра апазыцыю, беларускую патрыятычную інтэлігенцыю і іншых людзей, што не словаблудзяць рэжыму. Якая „свабода меркаваньняў", калі *спэцназ* б'е журналістаў палкамі па твары, калі незалежныя газэты вымушаны друкавацца за мяжой, а астатнія газэты, дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне манапалізаваныя прэзыдэнтам, дзе ён, як шаман, прамаўляе свае чатырохгадзінныя маналёгі пра тое, які ён усенародна абраны і як будзе добра, калі Беларусь захопіць імпэрская Расея. Абмежаваньне свабоды слова і манапалізацыя сродкаў масавай

інфармацыі – гэта грубае парушэньне Канстытуцыі і правоў чалавека!

**Артыкул 34**. *„Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманьне, захаваньне і распаўсюджваньне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасьці дзяржаўных органаў, грамадзкіх аб'яднаньняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцьці...*

*Дзяржаўныя органы, грамадзкія аб'яднаньні, афіцыйныя асобы абавязаны прадставіць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь магчымасьць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы."*

Няўжо такое права „гарантуецца" усім у той час, калі асабістая ахова прэзыдэнта на першамайскай дэманстрацыі нападае на тэлежурналістаў, адбірае касэты, разьбівае камэры, пагражае? Калі журналістаў Лукашэнка падзяліў на „сваіх" і „чужых" („чэсных" і „нячэсных") і сам вырашае, каго зь іх дапусьціць на прэс-канфэрэнцыю, а каго не? Якая там „інфармацыя", „матэрыялы", калі нават Генэральны пракурор ня можа даведацца, што гэта за „спэцыяльны прэзыдэнцкі фонд", куды якраз пайшлі грошы ад кантрабанды тавараў па зьдзелцы А. Лукашэнкі і фірмы „Торгэкспо"? (Дарэчы, гэтым нанесеныя страты дзяржаве на 320 мільёнаў даляраў, пра што напісана мной у газэце *„Пагоня"* і М. Нікітчанкам у *„Народнай Волі"*. Мной жа пісьмова, з прыкладаньнем дакумантаў, інфармаваны Генеральны пракурор, Кантрольная палата і Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі.)

**Артыкул 35**. Тут гаворыцца пра *„свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня"*. Што гэта за „свабода", людзі Беларусі і ўвесь сьвет ужо добра ўбачылі 24 сакавіка, 2 і 26 красавіка. Прэзыдэнтам былі груба парушаны асноўныя правы людзей, грамадзянаў Беларусі, зьняважаны іх гонар і годнасьць, створаны пагрозы здароўю і жыцьцю, парушаны нормы міжнароднага права, калі дзеля зьбіцьця беларусаў Лукашэнка пусьціў на Беларусь афіцэраў спэцыяльнага аддзелу міліцыі зь іншай дзяржавы, зьвярнуўшыся ў Маскву. Ня дзіўна, што так пазьверску зьбівалі нашых людзей 26 красавіка.

Я зьвяртаю ўвагу на нізкасьць гэтага ўчынку прэзыдэнцкай улады ў 10-я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы. Гэта хамскі зьдзек над народам тых, хто ўкінуў яго ў попел радыяцыйнай сьмерці, хто рыхтаваў і рыхтуе яму фізічную сьмерць.

**Артыкул 38**. *„Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна выбіраць..."* О, гэта мы добра ведаем, чаго вартая „свабода выбіраць", асабліва на вёсцы; як дзейнічае „вертыкаль", выбарчыя камісіі, пракуроры, КГБ, міліцыя, як галасуюць, складаюць сьпісы выбаршчыкаў, як падлічваюць галасы і г.д.

**Артыкул 41**. *„Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу..."* Гэтае „права" асабліва добра адчуваюць тыя людзі, якіх звальняюць з працы (альбо не бяруць на працу) за прыналежнасьць да *Беларускага Народнага Фронту*. Я ўжо не кажу пра тысячы беспрацоўных.

*„Грамадзяне маюць права... на аб'яднаньне ў прафэсійныя саюзы... і права на забастоўку."* Гэтае „права" таксама добра ведаюць сябры „Свабоднага прафсаюзу Беларусі", забароненага самавольствам А. Лукашэнкі, а „права на забастоўку" – работнікі Менскага метрапалітэну, забастоўка якіх у жніўні 1995 г. была задушана сілаю ўзброенага АМАПу і *„спэцназу"*, а забастоўшчыкі схопленыя, інтэрнаваныя і звольненыя з працы.

**Артыкул 42**.*"Асобы, што працуюць па найму, маюць права на ўзнагароджваньне за выкананую працу..."* Так, „узнагароджваюць"... з затрымкай зарплаты на 4-5 месяцаў. Я ўжо не кажу пра памер „узнагароды".

**Артыкул 52**. *„Кожны, хто знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, абавязаны выконваць яе Канстытуцыю, законы і паважаць нацыянальныя традыцыі."*

**Артыкул 53**. *„Кожны абавязаны паважаць годнасьць, правы, свабоды, законныя інтарэсы іншых асобаў."*

Пра павагу годнасьці і правоў можна нават і не гаварыць. З боку ўлады яна адсутнічае зусім. Тое ж і пра павагу да нацыянальных традыцыяў. Бачылі мы, як прэзыдэнцка-палкоўніцкая група ўлады зьневажала беларускія нацыянальныя сымвалы, беларускую мову, як зачынялі беларускія школы, зьнішчалі беларускія падручнікі, цэнзуравалі энцыкляпэдыі, разбуралі беларускую сістэму адукацыі, здымалі беларускія праграмы з радыё і тэлебачаньня, сьціралі беларускія надпісы і г.д.

Першым, хто груба парушыў абавязак выконваць Канстытуцыю *(арт. 99)*, стаў чалавек, які, паклаўшы руку на Канстытуцыю, кляўся перад усім народам „выконваць Канстытуцыю." За адзін год знаходжаньня на пасадзе прэзыдэнта А. Лукашэнка дзясяткі разоў парушаў Канстытуцыю і правы чалавека на Беларусі. Канстытуцыйны суд прызнаў, што 11 указаў прэзыдэнта парушаюць Канстытуцыю. Але рэжым адмовіўся выконваць рашэньні Канстытуцыйнага суда.

Паўстае пытаньне, што сталася на Беларусі, што тут за ўлада, чыя тут дзяржава, чыё кіраваньне, калі парушаюцца Канстытуцыя і законы, калі няма свабоды слова і друку, а сродкі масавай інфармацыі манапалізаваныя адной групай прэзыдэнцкай улады, калі забаронены вольныя прафсаюзы і забастоўкі, разбураюць беларускія школы і культуру, здаюць чужой дзяржаве (Расеі) эканамічныя каштоўнасьці краіны (транзыт, мытную справу, межы, нафтахімічны комплекс, прадпрыемствы і г.д.), калі немагчыма правесьці свабодныя дэмакратычныя выбары і ніхто ня мае гарантыяў бясьпекі ад палітычнага перасьледу, ад грубага парушэньня яго чалавечых правоў, зьнявагі нацыянальнай і чалавечай годнасьці? Беларусы, якіх 80 адсоткаў усяго насельніцтва, пастаўлены ў становішча нацыянальнай меншасьці. Адбываецца перасьлед усяго беларускага, відаць нянавісьць прэзыдэнцкай улады да беларускай мовы і культуры, да людзей, што шануюць Беларусь, відаць імкненьне ўсё беларускае зьнішчыць і затаптаць. І ўсё гэта з новай сілай пачалося зь лета 1994 года – з часу ўступленьня Лукашэнкі на пасаду прэзыдэнта Беларусі і захопу расейскімі спэцслужбамі галоўных пасадаў і вузлавых пазыцыяў у сістэме кіраўніцтва краіны.

Сутнасьць рэжыму выразна выказаў (прагаварыўся) сам А. Лукашэнка ў інтэрв'ю карэспандэнту нямецкага часопіса „Гандэльсблят", дзе ён прызнаўся ў сваіх сымпатыях да гітлераўскага „парадку" 30-х гадоў, які ён лічыць за ўзор для свайго „прэзыдэнцкага" кіраваньня на Беларусі.

„Гітлерызм" А. Лукашэнкі, які раней быў афіцэрам КГБ (палітруком) у памежных войсках, намесьнікам начальніка турмы і г.д., грунтуецца на сьветапогляднай мітусьні тых групаў савецкага кагэбісцкага „ахоўніцтва", што, не прымаючы Брэжнева і афіцыёз, хапаліся за панславізм, імпэрскую ідэю Расеі, змагаліся з „чуркамі" (г. зн. людзьмі з Азіі), „жыдамасонамі" і т.п.

Цяпер яны прыдумалі фантом „славянаў" (як некалі Гітлер „арыйцаў") і „триединую Русь" (***формула русіфікацыі Украіны і Беларусі***).

Скасабочаны „фашызм" Лукашэнкі кагэбісцкага імпэрскага паходжаньня, таму ён выразна антыбеларускі, антынацыянальны. Гэтаму ягонаму „фашызму" (дакладней, „русізму") непатрэбная Беларусь як незалежная дзяржава, непатрэбная беларуская мова і беларуская культура, непатрэбныя носьбіты гэтай мовы і культуры.

Такія сьветапоглядныя паводзіны падмацаваныя яшчэ і тым, што якраз расейскія спэцслужбы на Беларусі і КГБ падтрымалі Лукашэнку на выбарах 1994 г. і прывялі яго да ўлады.

Гэта чалавек Масквы, які арыентуецца на Маскву і праводзіць на Беларусі маскоўскую імпэрскую палітыку. Тут і знаходзіцца адказ на зьдзіўленыя пытаньні наіўных заходніх палітыкаў і журналістаў – маўляў, як гэта прэзыдэнт Беларусі выступае супраць незалежнасьці сваёй краіны? Яны ніяк ня могуць гэтага зразумець. Яны не ўсьведамляюць, што Лукашэнка захацеў стаць прэзыдэнтам Расеі („нового союзного государства”). Таму ён імкнецца, каб „саюз двух” стаў адной дзяржавай. Тады яму застанецца правесьці толькі прэзыдэнцкія выбары. Лукашэнка ўжо і грошы прызапасіў на выбары і прэзыдэнцкі банк, і прэзыдэнцкі фонд стварыў.

Ельцыну не з рукі такі паварот, таму ён, як бачыце, пячэцца пра „суверэнітэт” двух краінаў, а руская дыпляматыя і разьведка паўсюдна паўтараюць, што як толькі Ельцын выйграе выбары, то ён быццам бы пакіне гульню ў інтэграцыю.

Але гэтага ня будзе. Які б урад ні сядзеў у Крамлі, якім бы ён сябе ні называў: дэмакратычным, камуністычным, рускім, незалежным і т.п. – ён заўсёды будзе праводзіць імпэрскую захопніцкую палітыку адносна Беларусі. Заўсёды, пакуль існуе Расея як імпэрская і каляніяльная краіна.

Беларусь ляжыць у зоне яе стратэгічных экспансіяніцкіх інтарэсаў на Захадзе. Беларусь для Расеі – транспартны, таварны калідор у Эўропу. Для расейскай ваеншчыны тут вузлавы стратэгічны пляцдарм для ракетаў і мабільных сілаў, зь якога можна трымаць у напрузе Польшчу, Украіну, Летуву і марыць пра аднаўленьне Савецкага Саюза і савецка-расейскай імпэрыі. Ня трэба супакойваць сябе, што гэта авантура, што Расея, якая імкнецца зноў стаць вялікай звышдзяржавай, ужо ня ў стане ёй быць. Гэта так, але ў гісторыі найбольш небясьпечнымі былі пры ўладзе якраз людзі шалёныя, хваравіта амбіцыйныя і авантурысты.

## АНЭКСІЯ

Падпісаньне 2 красавіка гэтага года дамовы аб саюзе паміж Расеяй і Беларусяй якраз і ёсьць тая небясьпечная авантура, якая можа прынесьці вялікія няшчасьці нашаму народу. Амаль ніхто не чытаў і ня бачыў тэксту дамовы, падпісанай Ельцыным і Лукашэнкам. Яно і зразумела. Бо гэта не „дамова”, гэта змова. Тэкст не надрукавалі.

З тэксту (які я, аднак, маю) добра відаць плян расейскай анэксіі Беларусі і зьмест здрады Лукашэнкі. *Першы этап*, згодна дамовы, павінен закончыцца ў 1996 годзе. Гэта пэрыяд уніфікацыі і стварэньня грунту для ліквідацыі незалежнай Беларусі. Плянуецца ўніфікаваць з Расеяй транспартную сістэму, інфраструктуру, мытную справу, статыстыку, пэнсійнае і сацыяльнае заканадаўства, пытаньні міграцыі і грамадзянства (каб кожны са 150-мільённай Расеі мог спакойна, з поўным правам прыехаць на Беларусь, жыць, працаваць, мець нашу маёмасьць, піць гарэлку і „пользоваться русским языком”. Адпаведна каб і беларусы маглі дабраахвотна выехаць у Сібір).

У гэтым жа годзе рашаецца пытаньне аб уніфікацыі беларускіх узброеных сілаў і аб агульнай ахове межаў Расеі і Беларусі, а таксама аб уніфікацыі адзінай сістэмы адукацыі з Расеяй (!) і паглыбленьні культурных сувязяў. Падводзіцца база для стварэньня адзінай валюты.

*Другі этап* павінен пачацца па намерах ў 1997 годзе і будзе абазначаць правядзеньне ўсеагульнага рэфэрэндуму па далучэньні да Расеі.

*Трэці этап* не апісаны, бо той, хто складаў і падпісаў гэты плян, не сумняваўся ў перамозе на рэфэрэндуме, калі беларусы будуць задушаны ўласнымі рукамі і іхняя дзяржава перастане існаваць. Аднак трэці этап усё ж праглядваецца ў тэксьце пакта Лукашэнкі-Ельцына. Гэта этап вынарадаваньня беларускай нацыі пры дапамозе рычагоў міграцыі, інвазіі рускай імпэрскай культуры і сістэмы рускай школьнай і вышэйшай адукацыі (магчыма, яшчэ таксама пры дапамозе Чарнобыля, хаця ў тэксьце не адлюстравана, якім спосабам). Зрэшты, што гадаць, гэты спосаб ужо ажыцьцяўляецца ў нас на нашых вачах.

Перад намі шматхадовы захопніцкі плян. Да гэтага часу яго пасьпяхова ажыцьцяўлялі і стваралі нам, беларусам, „імідж” нікчэмнага народа Эўропы (і гэта пры нашай магутнай гістарычнай культуры). Аднак падпісаньне пакту Лукашэнкі-Ельцына сарвала заслону з акупацыйнай палітыкі Масквы ў дачыненьні да Беларусі. Пашыраецца рух супраціўленьня акупацыі і прамаскоўскаму рэжыму Лукашэнкі. Можна не сумнявацца, што імпэрская Расея падавіцца Беларусьсю і прайграе тут сваю халодную вайну. Ельцын зрабіў фатальную памылку (тыповую для вялікадзяржаўнікаў і імпэрцаў), груба замахнуўшыся на мірную Беларусь, зьвязаўшыся з неўраўнаважанай безадказнай асобай.

## ІМПЭРЫЯ

Хацелася б яшчэ раз нагадаць і засьцерагчыся ад ілюзіяў. ***Расея ня будзе дэмакратычнай краінай, бо па сваёй структуры, традыцыях улады, грамадзкіх стэрэатыпах, гісторыі, тыпу культуры, мэнтальнасьці людзей – гэта тыповая імпэрыя з крымінальнай псіхалёгіяй і агрэсіўнай палітыкай***. Імпэрыя і дэмакратыя несумяшчальныя (і гэта цалкам пацьверджана гістарычным вопытам), бо імпэрыя прадугледжвае не дэмакратычную, не нацыянальную, а імпэрскую сьвядомасьць. Імпэрская сьвядомасьць накіраваная на экстэнсіўнае разьвіцьцё. Яна адваротная вектару нацыянальнай сьвядомасьці, імкнецца не да адмежаваньня ад непадобнага, чужога (як робіць гэта этнас, нацыя), а да паглынаньня яго. Таму вобраз ***суседа*** (ацэнкі, характэрнай для этнаса і нацыі) зьмяняецца тут вобразам ***ворага***, цярпімасьць – ксэнафобіяй, узаемадзеяньне – агрэсіяй (захопам, уплывам, падпарадкаваньнем, разбурэньнем і г.д.).

Як толькі ў імпэрыі пачынаюць разьвівацца дэмакратычныя працэсы – яна пачынае разбурацца, бо зьяўляюцца нацыянальна-вызвольныя рухі. Гэтак абвалілася ўся эўрапейская імпэрска-каляніяльная сістэма ў сярэдзіне XX стагоддзя і разваліўся Савецкі Саюз (адна з формаў імпэрскай Расеі).

Імпэрская супольнасьць імкнецца жыць не за кошт іманэнтнага, творчага разьвіцьця сваіх унутраных этнічных, нацыянальных рэсурсаў (гэта і складана, бо імпэрыя заўсёды шматковая), а за кошт экстэнсіўнага выкарыстаньня іншых этнічных супольнасьцяў, паглынаючы іх. У аснове такіх паводзінаў ляжыць усьведамленьне сьвету, якое бярэ свой пачатак яшчэ ў імпэрыі Чынгіз-хана. Тым часам ***комплекс нерэалізаванасьці асобы, выхаваны ў няволі, пераўтвараецца ў агрэсіўнасьць.***

Імпэрыі існавалі спрадвеку. Яны папулярна акрэсьлены ў літаратуры як зло. Але дзіўна, што гэты грамадзкі фэномэн вывучаны найменш. З усіх бакоў разгледжаны этнасы і іх арганізацыі – род, племя, народ, нацыя. Супольнасьць „імпэрыя” як зьява няўстойлівая амаль ня вывучана, хаця выяўлена шмат агульных заканамернасьцяў імпэрыяў, асабліва пры іх распадзе.

Доўгатрывалыя імпэрыі, як правіла, часта дазваньня разбураюць свае этнасы. Пасьля распаду такой імпэрыі часам застаецца мёртвая імпэрская мова (бо этнічны носьбіт імпэрскай мовы нежыцьцяз-

дольны, альбо ўжо зьнік). Клясычныя прыклады – распад Рымскай і Отаманскай імпэрыяў. На руінах імпэрыі застаецца шэраг раней прыгнечаных народаў, якія ўтвараюць свае нацыянальныя дзяржавы.

Дапускаю, што ў Расеі яшчэ няма ніводнага чалавека, які б усьведамляў, што руская мова ў пэрспэктыве можа стаць мёртвай мовай, а рускія як этнас могуць канчаткова зьнікнуць з твару зямлі. Такое зьнікненьне, аднак, магчымае і абумоўлена імпэрскай арганізацыяй грамадзтва, ягонай сьвядомасьцю.

Зрэшты, гэта толькі верагоднасьць, але зразумела, што выратаваць рускую народнасьць ад катаклізму мог бы распад Расеі, калі б там былі людзі, якія б думалі нацыянальна, а не па-імпэрску. На жаль, гэтага не назіраецца, за выключэньнем хіба асобных дзеячоў, якіх ніхто ня слухае і ня хоча чуць.

Аб „дэмакратыі" ў Расеі можна гаварыць толькі вельмі ўмоўна. Імпэрская хваля затапіла ўсё. Тыя людзі ў Расеі, што яшчэ 4-5 гадоў таму называлі сябе дэмакратамі, цяпер практыкуюцца ў махровай імпэрскай фразэалёгіі. Жахлівая расейска-чачэнская вайна, разьвязаная мафіёзна-палітыканскай Масквой, паказала ўвесь антыдэмакратызм і амаральнасьць імпэрскага грамадзтва. Цяпер, праўда, пачынаецца часовае ацьверазеньне, зьбіраюцца нават подпісы супраць вайны. Але вось новае выпрабаваньне, новая авантура – мірны захоп Беларусі. І як тады, на пачатку чачэнскай „кампаніі", цяпер зноў не знаходзіцца ў Расеі ніводнага разумнага чалавека, які б задумаўся сярод гэтага імпэрскага чаду і сказаў бы: спыніцеся, ня лезьце на Беларусь.

Там гэтага не разумеюць. У Расеі, практычна, усе падтрымліваюць агрэсіўную палітыку „інтэграцыі" супраць незалежнай Беларусі.

Маючы такога небясьпечнага суседа, як Расея, мы ня можам ня ведаць яе, не вывучаць, не задумвацца над праблемай узаемадачыненьняў з Усходам. Я ўжо пісаў раней, што сутнасьць эўрапейскай культуры выяўляецца ў дачыненьнях да чалавека як асобы першаснай перад дзяржавай. У нармальных, мірных умовах правы чалавека ставяцца вельмі высока. Улада і закон забясьпечвае гарантыі гэтых правоў. Там, дзе ў сьвядомасьці грамадзтва канчаюцца чалавечыя правы і іх прыярытэты, там, дзе зьнікае каштоўнасьць асобы, – там канчаецца і Эўропа. А менавіта за Дняпром, па этнічнай мяжы Беларусі і Украіны з Расеяй.

Расея – гэта краіна прыніжанай і зьняважанай несвабоднай асобы. Гэта, дарэчы, галоўная тэма апазыцыйнай рускай літаратуры, якая выконвала там ролю палітычнай ідэалёгіі. Ня дзіўна, што шмат якіх пісьменьнікаў у Расеі перасьледвалі і забівалі.

Першасным у расейскім грамадзтве зьяўляюцца не інтарэсы чалавека, а інтарэсы дзяржавы, імпэрыі, імпэрскай ідэалёгіі і імпэрскай улады. Прыярытэт не асабоваму, а агульнаму.

Адэпты імпэрскай ідэалёгіі выхваляюцца гэтым як адметнасьцю „расейскай цывілізацыі".

Расейскае грамадзтва глыбока сэрвільнае, чалавек не знаходзіць, як правіла, ніякай абароны сваіх правоў асобы перад дзяржаўным бюракратам, перад багатым і моцным. З прычыны разбуранасьці этнасу, амаль што не існуе звычаёвых традыцыяў, што абаранялі б асобу (напрыклад, моцы рэлігійных дагматаў ці кроўнай помсты, ці падзелу на касты, як у Індыі і г.д.). Бюракратычнае права імпэрскага грамадзтва рэальна абараняе толькі ўладу.

Ратуючыся ў безвыходным становішчы, рускі чалавек пачынае хлусіць самому сабе і хапаецца за дзяржаўную ідэалёгію, за імпэрскія прынцыпы, за пазыцыю моцных, за перавагу сілы, выдае сваю капітуляцыю (якую можа і не ўсьведамляе) за ўласны сьветапогляд. Растаптаны начальствам і пагарджаны, нават п'яны, лежачы ў гразі, ён будзе крычаць за „вялікую русь" і біць сябе ў грудзі – „я русский". Зьняважаны, кінуты ў ГУЛАГ, прыніжаны, зьбіты і зьнявечаны сталінскімі бальшавікамі, перад расстрэлам яго апошнія словы былі: „да здравствует Сталин".

Гэта крайнія прыклады. Паміж імі сотні звычайных. Такіх, як радасьць ***усяго*** рускага грамадзтва (акрамя Герцана) з прычыны задушэньня ў 1864 г. паўстаньня ў Беларусі і Польшчы (гэта добра апісаў К. Чукоўскі. Гл. „Поэт и палач", – 1923 г.). Радасьць ***усяго*** рускага грамадзтва з прычыны пакту Лукашэнкі-Ельцына і пэрспэктывы захопу Беларусі – гэта ёсьць прыняцьцё перад надыходзячымі прэзыдэнцкімі выбарамі, практычна, ***ўсімі*** палітычнымі сіламі Расеі імпэрскай ідэі і пазыцыяў махровага рускага імпэрыялізму. Кола замкнулася. І ніхто з былых рускіх дэмакратаў не ўсьведамляе, што ўсіх іх даўно перамог Жырыноўскі, вярнуў іх на імпэрскія кругі свае. Пасьпяховы тэхналягічны экспэрымэнт КГБ у Расеі.

***Змагаючыся за Беларусь, за правы асобы, людзі павінны добра ведаць, што за ўлада, што за краіна пагражае нашай незалежнасьці.*** Ня можа быць неадэкватных паводзінаў, неадпаведных уяўленьняў, марных спадзяваньняў. Клясычныя прыклады – савецкі тэрор у 30-х гадах, калі людзі (у бальшыні) не разумелі матывацыі дзеяньняў улады.

Памятаю мяне ўразіў адзін прыклад з гісторыі расейскага генацыду над сьвятой беларускай Вуніяй у XIX ст. Прыбыў расейскі карны казацкі атрад у Беларусь для расправы над непакорнымі вуніятамі. Каб не дапусьціць карнікаў у сяло і да царквы, беларускія старцы і жанчыны вуніяткі разам зь дзецьмі ляглі ўпоперак вуліцы перад капытамі коней. Яны, народжаныя ў беларускім грамадзтве, думалі, што такім чынам ня пусьцяць атрад, бо немагчыма ж паехаць па людзях. Ня пойдзе нават конь.

Аднак карнікі нават не спыніліся і паехалі табуном па чалавечых целах. Беларусы-вуніяты, якія ляглі пад капыты, думалі, што на конях сядзяць такія ж людзі, як і яны. Але тыя былі іншымі. І ахвяры пра гэта ня ведалі.

Беларускае постсавецкае грамадзтва яшчэ знаходзіцца ў палоне камуністычных прапагандысцкіх стэрэатыпаў аб Расеі, аб яе ролі ў СНД, у сьвеце, аб „вечнай дружбе", аб „рускім народзе", які быццам бы „тварэц гісторыі" і г.д. Ілюзіяў ня зьнішчылі нават карціны бязьлітаснага, крывавага тэрору расейскай арміі супраць чачэнскага народу (хоць шмат каму расплюшчылі вочы).

Расейская прапаганда, апраўдваючы намеры анэксіі Беларусі, як і раней, ужывае яшчэ выдумкі накшталт „гістарычнага адзінства беларускага і рускага народаў", „гістарычнай дружбы" (чаго ніколі не было, усё якраз наадварот) і іншыя выразы, разьлічаныя хіба што на адсталых. Аднак маладая Беларусь адраджаецца і добра ведае, што наша гісторыя дачыненьняў з Расеяй – гэта гісторыя амаль неперапыннай вайны. Гістарычная Беларусь (гэта зн. Літва) і Расея стаялі стагоддзямі адна перад адной як натуральныя ворагі. (Прытым Расея ня раз праводзіла генацыд беларускага насельніцтва ў час інвазіі на нашыя тэрыторыі.) Калі ж наша краіна ў канцы XVIII ст. упала разам з Польшчай пад націскам трох імпэрыяў, то потым кожнае пакаленьне паўставала супраць акупантаў. Пяць разоў за стагоддзе. Шостае пакаленьне ў 1918 г. аднавіла незалежную Беларусь і было зноў зьнішчана ў 30-х гадах рускімі бальшавікамі. Мы – людзі восьмага і дзявятага пакаленьняў – вярнулі незалежнасьць і незалежную дзяржаву. Мы павінны цяпер абараніць і адрадзіць нашу Бацькаўшчыну, чаго б нам гэта ні каштавала. Але найперш ***мы павінны збавіцца ад ілюзіяў антыбеларускай векавой прапаганды.***

Ніякія „саюзы", ніякія „садружнасьці", ніякія „калектыўныя бясьпекі", ніякія іншыя формы ўзаемапавязанасьці Беларусі з імпэрскай Расеяй, нават выключна фармальныя, не прывядуць

да дабра. Зближэньне Беларусі і Расеі тут супярэчыць прыродзе рэчаў. Розныя маштабы, розныя мэты, розны зьмест. Тут павінна дзейнічаць табу: ***асьцярожна – імпэрыя зла!*** Не набліжайцеся, не задзірайцеся. Добрыя адносіны праз добрую мяжу.*

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Наш шлях пазначаны нашай гісторыяй. Беларусь (Вялікае Княства Літоўскае) – некалі наймацнейшая краіна на ўсходзе Эўропы, бараніла і трымала ўсходнія эўрапейскія рубяжы, стварыла яшчэ ў XVI стагоддзі Канстытуцыю і прававую вялікакняскую шляхецкую рэспубліку, распаўсюдзіла на пачатку XVI ст. кнігадрукаваньне ва ўсходняй Эўропе, жыла (гарады і мястэчкі) па Магдэбургскаму праву. Мы цяпер, адраджаючы нашу незалежнасьць пасьля камуністычнага катаклізму, ня можам пра гэта ня ведаць, ня памятаць і гэтага не разумець. У беларусаў ёсьць што адбудоўваць і адраджаць – і веліч, і дзяржаву, і культуру, і ўсьведамленьне сваёй годнасьці перад векавым варварствам з усходу.

У 1988 годзе ўтварыўся Беларускі Народны Фронт, які сінтэзаваў усе ранейшыя адраджэнскія тэндэнцыі, пазыцыі і нацыянальна-вызвольныя арганізацыі ў выразнай дэмакратычнай адраджэнскай плятформе. Грунт плятформы БНФ складаюць: ***дзяржаўная незалежнасьць Беларусі, нацыянальна-культурнае адраджэньне, дэмакратыя, рынкавая эканоміка, эканамічнае і культурнае супрацоўніцтва з Эўропай і з усім заходнім сьветам***.

У 1990-1993 гг. Народнаму Фронту неверагоднымі высілкамі (перш за ўсё, дзякуючы працы дэпутатаў ад БНФ у парляманце) удалося запачаткаваць і пазначыць пункцірам, практычна, усе гэтыя пазыцыі. Большасьць зь іх адзначаны ў Канстытуцыі, у распрацоўцы якой дэпутаты Фронту прынялі чынны ўдзел.

Што засталося цяпер у рэальнасьці? Незалежнасьць пад пагрозай. Замест дэмакратыі – аўтарытарны антыбеларускі рэжым і самаўладзтва. Правы вольнай асобы растаптаныя, чалавек зьняважаны. Замест рынкавай эканомікі – мафіёзная карупцыя як элемэнт дзяржаўнай палітыкі. Замест нацыянальна-культурнага адраджэньня – разбурэньне беларускай школы, друку, кнігавыдаўніцтва, задушэньне і ахайваньне беларускай мовы, зьдзек над суверэнітэтам, зьнявага людзей. Замест адмежаваньня ад савецкай мінуласьці — вайсковы саюз з расейскай ваеншчынай, якая праводзіць генацыд у Ічкерыі. Замест супрацоўніцтва з Эўропай – ізаляцыя ад яе і безадказная (прэзыдэнцкая) ксэнафобія да Захаду.

Праграма Народнага Фронту і гістарычная задача беларускай нацыі, ня гледзячы на вялікія дасягненьні, яшчэ не ажыцьцёўленыя канчаткова. Таму Беларускі Народны Фронт дзейнічае, змагаецца і жыве.

Наш шлях – гэта найперш моцная і гарантаваная дзяржаўная незалежнасьць. Бо толькі будучы свабоднымі, нацыянальна арганізаванымі і незалежнымі, мы, беларусы, зможам рэалізаваць вынікі сваёй працы, свайго існаваньня і сваіх ідэй. Толькі незалежныя, у сваёй дзяржаве, мы зможам адрадзіць сваю нацыянальную годнасьць і забясьпечыць гістарычную будучыню. Толькі будучы паўнаўладнымі гаспадарамі на сваёй свабоднай, дадзенай Богам зямлі.

Дэмакратыя нам патрэбная, каб рэалізаваць свабоду і абавязкі кожнага чалавека, каб адчыніць магчымасьці для асобы і гарантаваць выкананьне законаў.

Павага да патрэбаў, правоў і абавязкаў асобы, замацаваная ў традыцыях і ў законе, неабходная нам таму, што мы, беларусы, спрадвеку лічым чалавека найвялікшай каштоўнасьцю ў жыцьці і засьведчылі гэта ў сваёй культуры і гісторыі.

Рынкавыя дачыненьні нам патрэбныя таму, што Беларусь – гэта краіна з эканомікай адкрытага тыпу (мы ня маем лішніх энэргетычных рэсурсаў). Таму мы павінны, абавязаны вытвараць добрыя тавары і гандляваць.

Быць свабодным без уласнасьці цяжка і амаль немагчыма. Таму беларускі грамадзянін павінен мець права на прыватную ўласнасьць, валодаць і распараджацца ёй. Уласнасьць павінна памнажацца, жыцьцё лепшаць, а чалавек з сваёй працы багацець. Найлепшы спосаб арганізацыі працы ў ажыцьцяўленьні гэтага, як даказалі вопыт і практыка, ёсьць рынкавая эканоміка. Таму мы за рынкавую эканоміку, ў якой чалавек мае ўмовы і гарантыі прадпрымальніцкай дзейнасьці, гарантыі прававой і сацыяльнай абароненасьці.

Вось чаму Народны Фронт, гаворачы пра рынкавую эканоміку і дбаючы пра сацыяльную абарону чалавека, вялікую ўвагу зьвяртае на традыцыйную мараль, каштоўнасьці хрысьціянскай рэлігіі і здаровую сям'ю як аснову грамадзтва.

Нацыянальна-культурнае адраджэньне беларусам неабходнае, каб самарэалізавацца як грамадзтву культурных асобаў, здольных усьведамляць свае калектыўныя (нацыянальныя) задачы, дзеяньні і плянаваць паводзіны; каб рэалізавацца як грамадзтва асобаў, здольных убачыць узаемазалежнасьць сваіх асабістых і нацыянальных інтарэсаў і падтрымліваць, абараняць іх праз салідарнасьць і самаарганізацыю.

Калі ж нацыянальнага ўсьведамленьня няма, альбо калі яно не разьвітае, не абапертае глыбока на традыцыі і нацыянальную культуру, тады грамадзтва ня ў стане сьвядома кіраваць сваімі паводзінамі і робіцца падобным на натоўп, які можна загнаць куды хочаш, былі б паганятыя. Грамадзтва-натоўп заўсёды будзе аб'ектам эксплуатацыі іншых. Яно лёгка ўлягае прапагандзе і ашуканству, кідаецца ў крайнасьці, схільнае да жорсткасьці і агрэсіўнасьці, паддаецца сацыяльнаму „мазахізму", пошуку ворагаў, вінаватых і г.д. Натоўп – страшная самаразбуральная сіла, калі ён у руках маніпулятараў. Грамадзтва-натоўп, задзейнічанае ў агульнанацыянальным маштабе, здольнае падпісаць **прыгавор** самому сабе (усё залежыць ад маніпулятараў) – прадаць сваю зямлю, сымвалы, магілы, жыцьцёвую прастору, адмовіцца ад свабоды, забараніць сваю мову ці жыцьцё чалавека (прыклады пэрыяду сталінізму), падтрымаць вар'ята, тырана, дыктатара...

Беларускі Народны Фронт невыпадкова называецца „Адраджэньне". БНФ выступае як стваральная сіла беларускай нацыі. БНФ гаворыць і абавязаны гаварыць толькі праўду. Бо праз праўду магчымае маральнае адраджэньне нацыянальнай асобы і маральнае станаўленьне моладзі. Нельга хлусіць маладым. Хлусьня патрэбная грамадзтву-натоўпу, гэта мэтад маніпулятараў, які яны імкнуцца ўвесьці ў норму палітыкі.

Для таго, каб ажыцьцяўляць праграму БНФ, патрэбны грунт у грамадзтве, на які б можна было абаперціся. Патрэбнае грамадзкае ўсьведамленьне нацыянальных каштоўнасьцяў і разуменьне нацыянальных інтарэсаў. Але грамадзтва ёсьць такое, якое ёсьць – „савецкае". І ўтварылася замкнутае кола. Для таго каб эфэктыўна ўплываць на культурна-нацыянальнае адраджэньне нацыі, патрэбна ўлада. Для дасягненьня ўлады на прынцыпах БНФ патрэбна ***нацыянальная салідарнасьць***.

Некаторыя людзі, якія не займаюцца палітыкай, увесь час раяць прарваць гэты круг проста: прыкінуцца і абяцаць тое, чаго хоча тая

* Ёсьць яшчэ адзін аспэкт у гэтаў гаворцы: Беларусь (гістарычная Літва, калі казаць па сутнасьці) аб'ектыўна зацікаўлена, каб перастала існаваць „імпэрыя зла" на усходзе. Пакуль яна існуе, ніякай гарантыі незалежнасьці і ніякага спакойнага жыцьця наша краіна мець ня будзе. Становішча мусіць быць абавязкова ўлічана ў фармаваньні дзяржаўнай палітыкі. – *(З. П.)*.

частка, што вызначаецца як грамадзтва-натоўп. Маўляў, потым, дасягнуўшы ўлады, можна гаварыць і рабіць іншае.

Але гэта тыповы бальшавізм. Толькі бальшавікі ўмелі абыходзіцца з ашуканым народам, які ўспрыняў ашуканства як праўду. Як яны абыходзіліся – вядома (і што атрымалася з „землю – крестьянам” таксама).

Палітыка – гэта ня забаўка і ня „брудная справа”, як, відаць, некаторыя думаюць. Якія палітыкі, гэтакая і палітыка. У гісторыі невядома ніводнага прыкладу, калі б мэтадам сьвядомага ашуканства народа і хлусьні былі дасягнуты станоўчыя вынікі. Мэта і мэтад у чалавечым вымярэньні ўзаемазьвязаныя і ўзаемазалежныя. Адна і тая ж зьява ня можа быць адначасна добрай і дрэннай, чорнай і белай. Тут альбо – альбо.

Кожны беларус ведае, што ён беларус і што мова яго – беларуская. Цяпер ужо няма „тутэйшых” – людзей без ніякага аблічча. Але ў гэтай першасьвядомасьці не хапае культурна-нацыянальнага грунту, амаль страчана пераемнасьць пакаленьняў.

Народнаму Фронту прыходзіцца адразу рабіць некалькі справаў. У гэтых абставінах ён ідзе шляхам грамадзка-палітычнай працы і палітычнай барацьбы адначасова – пашырае кола абаронцаў незалежнасьці, павялічвае культурна-асэнсаваную і палітычна актыўную сфэру людзей.

Мы робім тое, што трэба рабіць цяпер, што рабілі ўсе, хто прайшоў шлях нацыянальна-культурнага адраджэньня. Зьменяцца абставіны – зьменіцца і дзейнасьць Фронту (як гэта сталася з „Саюдзісам” і інш.) Гэты час яшчэ наперадзе. Але ўжо ёсьць у нас і нацыянальная цяпершчына.

У 1988 годзе, калі стварыўся Фронт, пачыналася амаль з нуля. Амаль ніхто тады не вымаўляў слова „незалежнасьць”. Мала хто чуў пра *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг*. У Беларусі не было такога становішча, як у Латвіі, Эстоніі ці Летуве, што мелі 22 гады незалежнасьці і захавалі традыцыі.

Нацыянальнае станаўленьне дэмакратыі на Беларусі магло б пайсьці хутка, калі б дзейнічала прапарцыйна-мажарытарная сістэма выбараў у парлямант. Партыі атрымалі б рэальнае прадстаўніцтва ва ўладзе, што ажывіла б палітычнае жыцьцё, стварыла б дзейсны нацыянальна-дэмакратычны парлямант, паспрыяла б утварэньню выпрацаванай палітычнай эліты грамадзтва. БНФ яшчэ ў 1990 годзе стварыў праект такога закона. Але стары камуністычны Вярхоўны Савет заблякаваў гэты праект.

Аб нэўтралітэце. Ёе патрэбны быў Беларусі, каб стаць на ногі і засьцерагчыся ад Расеі. У 1990 г., выступіўшы ў парляманце з ідэяй нэўтралітэту, мы разумелі, што раптоўны, рэзкі кірунак у бок заходняй дэмакратыі і лучнасьці з Эўропай не падрыхтавана было яшчэ ўспрыняць беларускае грамадзтва. Гэта магло б таксама раззлаваць Маскву і выклікаць зь яе боку (пакуль мы былі яшчэ слабымі) агрэсіўныя дзеяньні ўвогуле супраць нашай незалежнасьці. Павінен сказаць, што ў агульным пляне мы выйгралі пазыцыю аб нэўтралітэце (заканадаўча замацавалі яе), пакуль бесхрыбетная палітыка ўляганьня перад намэнклятурай, якой прытрымліваўся С. Шушкевіч, не прывяла да таго, што Беларусь зацягнулі ў „калектыўную бясьпеку” з Расеяй (што С. Шушкевіч і падпісаў). Пагрозьлівае становішча неяк трывала, пакуль ня быў заключаны пакт Лукашэнкі-Ельцына, які засьведчыў палітыку ціхай акупацыі Беларусі і намеры анэксіі з боку Масквы. Узьнікла становішча накшталт неаб'яўленай вайны. У гэтых абставінах гаварыць пра імкненьне Беларусі да нэўтралітэту стала бяссэнсоўным. Сытуацыя вымагае іншай пазыцыі – змаганьня і пашуку саюзьнікаў.

Трэба ўлічыць, што ўсе ўсходне-эўрапейскія краіны выказаліся за ўступленьне ў НАТО. У тым, што яны там будуць (уключаючы Украіну і Балтыйскія дзяржавы) не сумняваецца Генэральны сакратар НАТО сп. Саляна, які абгрунтаваў неабходнасьць іх уступленьня ў Паўночна-Атлянтычны Альянс.

Цяпер Беларусь вымушаная ратавацца ад агрэсіўнага наступу Расеі на дзяржаўныя інтарэсы нашай незалежнасьці. Рэчаіснасьць яшчэ раз паказала (тым, хто сумняваўся), што ніякім нэўтралітэтам расейскую агрэсіўнасьць ня спыніш і не супакоіш. Яна вынікае з самой прыроды расейскай улады і будзе да таго часу, пакуль будзе існаваць Расея ў форме дзяржаўнай імпэрскай структуры.

Улічваючы становішча, мы (Беларускі Народны Фронт, беларускае грамадзтва) павінны засьведчыць (перш за ўсё самым сабе) сваё імкненьне бачыць Беларусь у НАТО. Гэта паратунак для Беларусі, гарантыі для дэмакратыі і незалежнасьці нашай дзяржавы.

Эканамічнае і культурнае супрацоўніцтва, улучэньне ў Эўропу абазначае для нас тое, што разам са станаўленьнем на ногі, разам з рухам рэфэрмаў і з нацыянальна-культурным адраджэньнем, забесьпячэньнем дэмакратычных свабодаў, правоў і абавязкаў людзей, мы будзем імкнуцца ўвайсьці ў розныя эўрапейскія міжнародныя арганізацыі, удзельнічаць у эканамічных, культурных, мытных, праватных, экалягічных, спартыўных і інш. пагадненьнях і фондах, мець свабодны ўезд і выезд ва ўсе краіны Эўропы, магчымасьць свабодна гандляваць, а моладзі вучыцца ў гэтых краінах, выкарыстоўваючы абмен, фонды, міжнародныя ініцыятывы, сумесныя дасьледваньні і іншыя магчымасьці.

Мы павінны паставіць на сваіх усходніх межах заслон наркабізнэсу, крымінальшчыне і мафіі, гарантаваць паступленьне інвэстыцыяў у нашу эканоміку і магчымасьць на-




***3. 24 сакавіка 1996 г. Менск. Знакаміты мітынг Народнага Фронту ў абарону незалежнасьці Беларусі і супраць лукашэнкаўскага «саюзу» з Расеяй.***

шым заходнім партнёрам весьці эфэктыўны гандаль з усходам (выгадны і для нас) праз нашу тэрыторыю.

Дарэчы, нават цяпер, калі згортваецца беларускае прадпрымальніцтва і рэжым праводзіць ізаляцыянісцкую палітыку адносна Захаду, аб'ём нашага гандлёвага абароту з краінамі Захаду складае 50 адсоткаў. Нам па шмат якіх пазыцыях больш выгадна гандляваць з Захадам, чым з Расеяй, прадпрыемствы якой завінаваціліся Беларусі трыльёны рублёў з прычыны сваёй неплацёжаздольнасьці за пастаўленыя беларускія тавары. Я ўжо не кажу пра нізкую якасьць расейскіх вырабаў у параўнаньні з заходнімі.

Словам, рынак там, дзе плацяць за тавары і паслугі. Калі Расея ня можа (альбо ня хоча) плаціць, то які там для нас рынак?

Беларусам – людзям усходнеэўрапейскай культуры – натуральна, добра, выгадна наладжваць сувязі з эўрапейскімі краінамі і ўлучацца ў эўрапейскую сістэму ўзаемаадносінаў. Нам зручна ўзаемадзейнічаць з тымі краінамі, дзе людзі культурныя, дзе ўмеюць добра арганізаваць працу і заможна жыць.

Нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі, узаемадачыненьні з эўрапейскімі краінамі на аснове прынцыпаў дэмакратыі – гэта найлепшая засьцярога ад усходняга таталітарызму, ад дзяржаўнага бандытызму і тэрарызму, ад псіхалёгіі цынізму і неверагоднай хлусьні, ад хамства і бессэнсоўнай жорсткасьці, ад якой так нацярпеўся просты беларус за два стагоддзі царскай і бальшавіцкай імпэрыяў.

Далей ад Расеі! Далей ад яе страшнай палітыкі! Далей ад імпэрыі! У нас свой сьветлы беларускі шлях, свой цёплы, чалавечы беларускі дом, зь якога відаць сяброўская супольнасьць блізкіх нам людзей, краінаў і народаў. Імкнемся ж да гэтага дому, будуйма яго разам, абараняйма яго ад бяды.

## ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Паставіўшы кропку ў развагах пра наш беларускі шлях, лічу неабходным дадаць яшчэ некалькі слоў сваім чытачам. Падзеі 26 красавіка (пабіцьцё дэманстрантаў) і пасьля яго, паводзіны ўладаў, прэзыдэнта, спэцслужбаў, міліцыі, парляманта, пракуратуры, судоў, потым неверагодная нахабная і агрэсіўная хлусьня генэралаў, палкоўнікаў і прэзыдэнта пра нашу моладзь і „Чарнобыльскі шлях", адносіны да незаконна схопленых і кінутых у турмы сотняў людзей, да іх сваякоў – увачавідкі паказваюць, што ў Беларусі ***антыбеларускі акупацыйны рэжым***. Ідзе вайна рэжыму супраць беларускага народу. Закон тут ўжо памёр.

Для рэжыму, для „іх" (гэта ж відаць) увогуле не існуе наш народ і наш беларускі чалавек. Яны яго ненавідзяць і не паважаюць. Нянавісьць да людзей і хлусьня чужародных ўладаў, як чад, як смог, здаецца, вісіць у паветры, пранікае ва ўсе поры нашага грамадзкага арганізму.

Выхад артыкулу *„Беларускі шлях"* ва ўмовах унутранай акупацыі Беларусі можа выклікаць чарговы прыступ лукашэнкаўска-замэталінскай гістэрыкі і шаблоннай ілжы. Зноў пачнуць палохаць рускіх у Беларусі, накшталт таго, што БНФ, маўляў, будзе іх высяляць у Расею, немаведама да чаго „прымушаць" і нават „уничтожать" (расейскі гэбіст інакш думаць ня ўмее).

Спэцслужбамі Расеі даўно задзейнічана ўся сістэма прапаганды, каб стварыць уяўленьне аб нібыта вострым існаваньні праблемы рускіх у вольных, незалежных краінах.



(Фота з Сеціва)

*4. 24 Сакавіка 1996 г. Менск. Шэсьце Народнага Фронту.*

Нейкіх істотных вынікаў і дывідэндаў Расеі такая прапаганда ўвогуле не прынесла. Вайна ж у Ічкерыі, Будзёнаўск, Дагестан паказалі, што кагэбісцкім прапагандыстам наогул не абходзіць лёс гэтых рускіх. Іхняе існаваньне там цікавіць кагэбісцкіх прапагандыстаў толькі дзеля таго, каб рабіць імпэрскую палітыку на Каўказе, у краінах Балтыі, на Беларусі і г.д.

Так што не палохайце рускіх, панове палкоўнікі. Культурная, дэмакратычная, зьвязаная з Эўропай Беларусь, дзе шануюцца праца і правы людзей, будзе значна больш прыцягальнай краінай, чым мафіёзна-бюракратычная Расея зь яе войнамі, бяспраўем і імпэрыялізмам.

Многія рускія на Беларусі разумеюць гэта, падтрымліваюць беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух, уваходзяць у беларускія партыі і арганізацыі, валодаюць беларускай мовай і г.д. У БНФ шмат такіх рускіх людзей, у тым ліку і ў кіраўніцтве.

Тут няма „нацыянальнай праблемы". Іншая справа, што імпэрска-камуністычныя сілы хочуць стварыць такую „праблему" і выкарыстаць у сваіх інтарэсах.

Супрацоўнічаючы з сваімі калегамі-змагарамі ў Народным Фронце – з рускімі, украінцамі, армянамі і інш., – бачачы іхнюю салідарнасьць з намі, разуменьне адзінай справы, мяркую, што нічога ў імпэрыялістаў-рэваншыстаў не атрымаецца ў Беларусі, як не атрымалася ўжо нідзе. Імпэрыя ўсяроўна сканае гэтак жа, як сканаў яе камунізм.

*3-га траўня 1996 г., Менск.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Пагоня", – 1996, 14-20 чэрвеня, № 24; 21-27 чэрвеня, № 25; 28 чэрвеня-4 ліпеня, № 26).*

# ДУРАНЬ ШУКАЕ ВОРАГАЎ, РАЗУМНЫ – СЯБРОЎ

Да якой бы культуры ні належыў чалавек, зь якога б народа ён ні паходзіў, у жыцці ёсць агульныя для ўсіх вызначальныя каштоўнасьці, якія выяўляюць маральную сутнасьць чалавека. Адной зь іх зьяўляецца Боскі дар – здольнасць суперажываць боль, гора, цярпеньне іншага чалавека. Шчыра скажу, што для мяне гэтая якасьць у чалавеку найгалоўнейшая. Калі няма душы і сэрца, розум – не памочнік.

У 80-х гадах, калі выпала магчымасьць бліжэй пазнаёміцца зь немцамі, мяне ўразіла тое, чаго я раней ня ведаў, – як глыбока ў нямецкім грамадзтве зайшоў працэс пакаяньня за гітлераўскія злачынствы. Сапраўды, я бачыў людзей, якім сорамна і цяжка за грахі іншых, за грахі бацькоў. І яны, невінаватыя, неяк непрыкметна ўзялі крыж віны на сябе. І сапраўды, Бог памагае нямецкаму народу.

Што ў нас, у Беларусі, што ў Расеі? Другую Сусветную вайну разьвязалі разам Сталін і Гітлер. Бальшавікі зьнішчылі ў ГУЛАГу дзясяткі мільёнаў невінаватых людзей. Мільёны пісалі даносы, мільёны былі стукачамі. І вось XX зьезд, XXII-гі, Перабудова, Курапаты, распад СССР, адкрыццё праўды. Пакаяліся? Не. Чаму? Таму што СавецкІ Саюз выйграў вайну. Зло стала нормай, нават гонарам. У чым каяцца (думаў „просты савецкі чалавек”.)?..

Добра, што быў пераможаны нямецкі фашызм. Але канчатковая перамога адбылася ў душах. І зрабілі гэта самыя немцы.

А хто пераможа камунізм? Хто пераможа карозію душ на 1/6 зямной сушы? Тэнгіз Абуладзэ?* Адно злачынства цягне за сабой іншае злачынства. Паводзіны бацькоў вызначаюць паводзіны дзяцей.

Вугоршчына, Чэхаславаччына, Аўганістан. Дзесяць гадоў бруднай вайны. Ордэны, медалі, героі, інваліды. Заплаканыя маці. Некаторыя зрабілі са свайго гора прафэсію. Пакаяліся? Не, ня тыя, каго пасылалі забіваць, а ўсё грамадзтва?

Маўчанне. А тым часам, калі распачалі вайну, у Аўганістане было 15 мільёнаў жыхароў. На працягу вайны было забіта ***1 мільён 400 тысячаў*** аўганцаў. Амаль 10 адсоткаў насельніцтва. (!) Каго забівапі? Аўганскіх паўстанцаў? Увесь свет ведае, каго забівалі, хто забіваў і як гэта рабілася.

Трэба стаць на калені і прасіць даравання. У Бога. Бо нашы салдаты-беларусы там ваявалі, а грамадзтва маўчала. Праўда, людзі ня ведалі, што ў сапраўднасьці там адбываецца. Але ж цяпер ведаюць...

Ічкерыя. Дзякуй Богу, што мы – незалежная краіна, мы ня ўдзельнічалі ў гэтай вайне. Але хіба можам мы, эўрапейцы, мы, народ, які прайшоў праз сталінскі і гітлераўскі генацыд, які ведае, што такое вынішчэньне, Чарнобыль, – хіба можам мы зноў маўчаць, спакойна глядзець, як забіваюць мірных жыхароў, разбураюць вёскі і гарады, бамбуюць паселішчы, зьнішчаюць чачэнскі народ! Хіба можна не падтрымаць яго маральна, не падняць свой голас у яго абарону, супраць масавых забойстваў, якія асудзіў увесь свет, а наша краіна падпісала і ратыфікавала ўсе міжнародныя дакументы па правах чалавека?

У Кракаве я наведаў чачэнскі інфармацыйны цэнтр. Ня дай Бог нікому такой долі. У людзей, якія там працуюць, забілі ўсіх – бацькоў, маці, жонак, дзяцей, спалілі дамы і сядзібы. Яны працуюць над паратункам чачэнскіх дзяцей, моладзі, інтэлігенцыі ад смерці. Дзяцей размяркоўваюць па сем'ях у Інгушэціі і Дагестане; моладзь стараюцца ўладкаваць ва ўнівэрсытэты і школы іншых краінаў, каб захаваць інтэлект, будучыню нацыі і не азлобіцца ў вайне.

Кожны народ непаўторны, мае свае традыцыі і культуру, зямлю, якая яму дасталася ад продкаў. Кожны мае права на свабоду і можа сам вызначаць, як яму жыць. Кожны мае права і абавязак абараняць сваю радзіму і сваё жыццё. Гэта аснова цывілізаванага парадку ў сьвеце. Хіба Расея выкрэсьліла сябе з гэтага парадку? Чаго яна ўехала туды са сваімі танкамі, чаго разьвязала зноў брудную вайну?!

Карэньне жахлівага чачэнскага генацыду ў нафце, у мільярдных даходах расейскіх кампаніяў, прыбыткі якіх апынуліся пад пагрозай. Ці ведаюць нашыя маўклівыя людзі, якія глядзяць толькі расейскае тэлебачаньне, што вытварае расейская тэрарыстычная армія ў Ічкерыі, абараняючы інтарэсы гэтых нафтавых кампаніяў? Відаць, не. Бо калі б ведалі, то зь іх грудзей пачуўся б стогн жаху і ўтрапеньня.

Чачэнцы, апынуўшыся зноў перад небясьпекай поўнага вынішчэньня, бароняць сваё жыццё і народнае існаваньне. Іх паставілі ва ўмовы, калі ўсе сродкі прыдатныя для абароны свайго жыцьця, бо справядлівасьць за імі. (Аналягічная сытуацыя адлюстравана і ў крымінальным заканадаўстве, калі чалавек, ба-



(Фота У. Кармілкіна)

*5. На вуліцах Менска, 1996 г.*

* Маецца на ўвазе яго нашумелы фільм «Пакаяньне». – (Заўвага выд.).

ронячыся ад забойцы, забівае яго. Суд на баку таго, на каго напалі.)

Кожны народ варты павагі. Паважаць народ – значыць паважаць і асобаў, якіх ён шануе як нацыянальных герояў. Гэтую простую ісьціну разумеюць у Савеце Эўропы, дзе трагічная смерць ***Джахара Дудаева*** была ўшанавана хвілінай маўчання. Гэта разумеюць у Польшчы, ва Украіне, дзе імем Дудаева ўжо названыя вуліцы. Гэта разумеюць усюды, дзе ёсць культура і дзе сэрцы ў людзей не паабрасталі шэрсцю. Гэта разумеюць і ў Беларусі, дзе ўвогуле ставяцца паважна да сьмерці чалавека. Але, на жаль, савецкі чалавек ёсць савецкі чалавек. Ён усё ацэньвае з пазыцыяў нянавісьці. Людзі, прафэсійна пішучыя і як быццам інфармаваныя, і тут (у ацэнцы сьмерці Дудаева) не пагрэбвалі прадэманстраваць сваю нізасць. Самы важкі аргумант нянавісці – Дудаеў разагнаў парлямант. А калі б, ня дай Бог, гэтак жа гнюсна забілі Ельцына, які таксама разагнаў парлямант, зрабіў значна больш зла, чым дабра, і да таго ж не зьяўляецца нацыянальным героем – вы б таксама абурыліся б хвілінай маўчання? Калі так, то гэта, панове, дзікунства (гэта псіхалогія варвараў). Калі не, то логікі тут няма. Застаецца толькі матывацыя савецкага чалавека – «ненавижу всех врагов».



*5а. Вайна ў Чачэніі. Чачэнскія ўцекачы.*

Чачэнцы – гэта народ сваістай культуры, традыцыяў і ўзаемаадносінаў, якія ў іх маюць мацнейшы грунт, чым эўрапейскія традыцыі парлямантарызму і дэмакратыі. Нельга адной меркай мераць брытанцаў і чачэнцаў, бо адна справа ў чачэнцаў, іншая – у брытанцаў. Мерайце Дудаева ацэнкамі і меркамі чачэнскага народа, а не з пазыцыяў сваёй палітычнай абмежаванасьці.

***Пасля падпісаньня 2 красавіка пакту Лукашэнкі-Ельцына распачаты працэсы ціхай акупацыі Беларусі. Адпрацоўваецца першы этап анэксіі, абазначаны ў тэксьце Лукашэнкаўска-Ельцынскай дамовы.*** Гэтую новую рэальнасьць мы ўжо перажываем з 26 красавіка. Сутыкненьне грамадзтва з лукашэнкаўскім рэжымам і расейскай імпэрскай палітыкай на Беларусі непазьбежнае. Яно ўжо пачалося. ***Калі нашае грамдзтва ня будзе мець правільных арыентыраў у ацэнцы расейскай палітыкі і, перш за ўсё, у разуменьні сутнасьці расейска-чачэнскай вайны, яно будзе асуджана на неадэкватныя рэакцыі і ў канчатковым выніку можа прайграць змаганьне з расейскім імпэрыялізмам і антынародным рэжымам у Беларусі***.

Як гэта ня сумна, але чачэнцы, фактычна, цаной сваёй крыві расплюшчваюць вочы іншым на зьмест і сутнасць імпэрскай палітыкі Масквы. Калі казаць аб'ектыўна, то ***яны змагаюцца і за нашу свабоду***.

І яшчэ аб тым ды гэтым. Палітычныя дзеяньні – гэта заўсёды дзеяньні на пэрспэктыву, разьлічаныя на пэўны час. Дзеяньне павінна мець акцэнт. Інакш яно ня будзе працаваць.

Акцэнт аб немінучым распадзе СССР праз два гады і забароне КПСС быў зроблены мной ў 1989 годзе ў наўпроставым эфіры тэлебачаньня. (Вельмі цікавай была рэакцыя публікі і КПБ.) Акцэнт працаваў якраз два гады. За гэты час усе вызначыліся і выказаліся. Камуністы мільён разоў паведамілі, што гэта «чушь» і г.д.

Акцэнт аб сталінізме быў пастаўлены 3 чэрвеня 1988 г. артыкулам ***«Курапаты – дарога смерці»*** (хаця да гэтага было шмат чаго).

Акцэнт аб рускім імпэрыялізме і яго небясьпецы быў пастаўлены тры гады таму публікацыяй артыкула. (Дзеянне яго яшчэ не вычарпана.)

Можна шмат пра што расказаць, але, мяркую, што разам са зьменай сытуацыі замест «пишущих совков» зьявяцца беларускія аналітыкі-прафэсіяналы, якія навучацца элементарна разумець, што да чаго.

Думаю, што міне час, і шмат хто яшчэ вернецца і да пытаньня пра расейскую «імпэрыю» (і адэкватна яго зразумее як вялікую небясьпеку для Беларусі), і да Ічкерыі, і да Дудаева з тым жа пафасам, толькі з другога боку. Папера церпіць. А караван ідзе.

Мы ня можам не разабрацца, што адбываецца ў сьвеце, бо сьвет адзіны. Нельга быць абыякавымі да гора, пакутаў і бяды іншых людзей. Інакш мы застанемся ў адзіноце, пагарджаныя, і ніхто не дапаможа нам. Успомнім пра нашы традыцыі. Адносіны да іншых – гэта адносіны і да сябе. Давайце найперш шукаць ня ворагаў, а сяброў. Ворагі нас знойдуць самы і мы іх ведаем.

*Менск, пачатак траўня 1996 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: («Свабода». – 14 траўня 1996 г).*

# ЗАЯВА АБ РЭЖЫМЕ НА БЕЛАРУСІ

*25 ліпеня 1996 г. у Маскве* старшыня думскага камітэту па бясьпецы, камуніст **В. Ілюхін** выступіў з правакацыйнай заявай аб тым, што нібыта ў Варшаве прадстаўнікамі ЦРУ рыхтуецца „апэрацыя” з мэтай скінуць прэзідэнта А. Лукашэнку.

На Беларусі зараз у выніку разбуральнай дзейнасьці прэзыдэнта ў палітыцы, эканоміцы і культуры ўзьнік глыбокі сістэмны крызіс. Рэальнае беспрацоўе перакрочыла 20 адсоткаў. Стаяць заводы, большасьць прадпрыемстваў працуюць не на поўную магутнасьць. На некалькі месяцаў затрымана зарплата. Рэзка павялічваюцца цэны, паралізаваныя фінансавыя адносіны, імкліва падае жыцьцёвы ўзровень насельніцтва. Вынікам такога становішча можа стаць сацыяльны выбух, страйкі і дэманстрацыі, патрабаваньне імпічманту прэзыдэнта. Менавіта пра гэта і гавораць *Беларускі Народны Фронт* і ўсе дэмакратычныя апазыцыйныя арганізацыі на Беларусі.

А. Лукашэнка і камуністычныя сілы ў Расеі, якія яго падтрымліваюць, адчуваюць гэтую пагрозу прамаскоўскаму рэжыму на Беларусі і стараюцца распачаць прэвентыўныя дзеяньні, аб’явіўшы, што дэманстрацыі, страйкі і імпічмант, якія чакаюцца, рыхтуюць агенты ЦРУ у Варшаве, і заклікаюць А. Лукашэнку прыняць у сувязі з гэтым „прафіляктычныя меры”.

Гэта стары прымітыўны прыём КГБ, калі зьяву, якая чакаецца і якую немагчыма прадухіліць, аб’яўляюць падрыўной акцыяй ЦРУ. І тады, калі яна (з прычыны натуральных працэсаў) надыходзіць, рэжым пачынае ўжываць сілу, апраўдваючы насільле быццам бы барацьбой з ЦРУ, ворагамі народу і г.д. У выніку такой міфатворчасьці камуністамі і органамі НКВД у былым Савецкім Саюзе былі замардаваныя мільёны людзей. Цяпер мы зноў бачым гэты рэліктавы сцэнар і заклікі ўжыць „прафіляктычныя меры”.

Мы вымушаны зьвярнуць увагу на сцьвярджэньні ў правакацыйный заяве расейскага камуніста, што „апэрацыя” быццам бы рыхтуецца ў Варшаве і што прадбачыцца „ліквідацыя аднаго, альбо двух кіраўнікоў беларускай апазыцыі”, каб потым віну за забойства ўскласьці на Лукашэнку.

Мы лічым, што гэтыя словы В. Ілюхіна пацьвярджаюць схільнасьць А. Лукашэнкі да плянаваньня дзяржаўнага тэрарызму. Я, старшыня апазыцыйнага *Беларускага Народнага Фронту* ***Зянон Пазьняк***, і прэс-сакратар БНФ, прадстаўнік *Беларускага Гэльсінскага Камітэту* за мяжой ***Сяргей Навумчык*** вымушаны былі пакінуць Беларусь, ратуючыся ад палітычнага перасьледу з боку рэжыму, пагрозы нашаму жыцьцю і свабодзе. Мы затрымаліся на два месяцы ў Варшаве, пачалі выпускаць там інфармацыйны бюлетэнь аб Беларусі, правялі шэраг прэс-канферэнцыяў і сустрэчаў з палітыкамі і афіцыйнымі асобамі. Наша законная дзейнасьць у Польшчы і іншых эўрапейскіх краінах выклікала выключную нянавісьць рэжыму. Зьявілася афіцыйная заява Міністэрства замежных справаў ураду Лукашэнкі, дзе было сказана, што „асаблівую заклапочанасьць беларускага боку выклікаюць кантакты зь лідарам БНФ афіцыйных асобаў некоторых дзяржаваў, што можа быць расцэнена як ускосная падтрьмка сілаў апазыцыі”.

„У сувязі з гэтым Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь упаўнаважана заявіць, што такія дзеяньні афіцыйных колаў іншых дзяржаваў могуць нанесьці ўрон (г. зн., шкоду – *рэд.*) дружалюбным двухбаковым адносінам”.

*Потым зьявілася распараджэньне памежным службам Рэспублікі Беларусь, каб* ***Пазьняка і Навумчыка „пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць”***, Лукашэнка аб’явіў нас *„ворагамі народа”* і аддаў тайны загад спэцслужбам нас *„нэўтралізаваць”*.

Цяпер вырашаецца пытаньне аб прызначэньні ў Варшаву спэцыяльнага рэзыдэнта Лукашэнкі, прадстаўніка Міністэрства ўнутраных справаў, які павінен адсочваць нашу дзейнасьць і нашае месцазнаходжаньне.

Наступны этап у гэтай шызафрэнічнай рабоце – правакацыйныя выказваньні В. Ілюхіна ў Маскве. Так што Варшаву яны выбралі не выпадкова.

Адкрытае, цынічнае абмеркаваньне пытаньня аб нашым забойстве павінна шакаваць міжнародную грамадзкасьць. Выказваньні Ілюхіна пацьвярджаюць, што *Лукашэнка рыхтуе забойства*. Гэты факт глыбока абурае нас. Мы бачым тут праявы міжнароднага тэрарызму на дзяржаўнай аснове. У прававой краіне пракуратура павінна была б узбудзіць крымінальную справу па выказваньнях Ілюхіна і дзеяньнях Лукашэнкі.

Мы мяркуем, што сумеснымі намаганьнямі лукашэнкаўскага рэжыму на Беларусі і камуністаў у Расеі рыхтуецца прэвэнтыўная распарава над беларускім *Нацыянальна-Вызвольным рухам* і дэмакратыяй. Канчатковая перамога камуністычнай рэакцыі і антыпраўнага рэжыму на Беларусі зробіць вельмі кепскі ўплыў на вольную Польшчу і вольную Ўкраіну, на Балтыйскія дзяржавы, стымулюе рэанімацыю камуністычнай улады ва Ўсходняй Еўропе, парушыць балянс і без таго хісткай стабільнасьці ў гэтым месцы.

Мы лічым, што ўсе здаровыя сілы ў беларускім грамадзтве павінны паставіцца вельмі сур’ёзна да будучыні сваёй краіны, абараніць правы чалавека, абараніць нацыянальную годнасьць, беларускую мову і культуру, суверэнітэт і дабрабыт краіны і не дапусціць рэалізацыі авантурных плянаў прамаскоўскага рэжыму на Беларусі.

***ЗЯНОН ПАЗЬНЯК***
***старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»***
***СЯРГЕЙ НАВУМЧЫК***
***прэс-сакратар БНФ, прадстаўнік Беларускага Гэльсінскага Камітэту за мяжой***

*Ліпень-жнівень 1996 г., Вашынгтон.*

*Надрукавана: („Беларус”, – 1996, верасень-кастрычнік, №438).*


(Фота з друку)

***6. Рэжым супраць Народнага Фронту.***

# КАНСТЫТУЦЫЯ ДЫКТАТУРЫ

***(Камэнтар да праекту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які прапанаваны прэзыдэнтам Лукашэнкам на рэфэрэндум)***

*Гэты камэнтар напісаны яшчэ ў верасьні 1996 года па просьбе Амэрыканскага Кангрэсу адвакатаў па правах чалавека і потым прапанаваны многім недзяржаўным газэтам на Беларусі, пачынаючы ад „Народнай Волі". Тады гэты матэрыял быў своечасовы і патрэбны, але яго не надрукавалі.*

*Большасьць недзяржаўнага друку на Беларусі (як правіла, рускамоўнага ці замежнага) апынулася, на жаль, у руках людзей лібэральна-інтэрскага кшталту, для якіх беларускае нацыянальнае Адраджэньне страшнейшае за Расею, камунізм і Лукашэнку, якога яны ня любяць. Таму дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту гэтымі газэтамі, як правіла, замоўчваецца, альбо падаецца ў скажоным сьвятле. Сытуацыя на Беларусі, аднак, разьвіваецца так, што ёсьць неабходнасьць надрукаваць гэты тэкст цяпер, праз чатыры месяцы пасьля напісаньня.**

## ПАТАЛЁГІЯ ХВАРАВІТЫХ ПАМКНЕНЬНЯЎ

Знаёмства з праектам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, пасьпешліва падрыхтаванай ананімнай групай у адміністрацыі прэзыдэнта Лукашэнкі і вынесенай у парушэньне дзеючай Канстытуцыі на рэфэрэндум, дазваляе зрабіць наступныя высновы.

Зьмест гэтага праекта Канстытуцыі не паддаецца разумнаму аналізу па разьдзелах і тэмах, зыходзячы з прынцыпу падзелаў уладаў, паколькі ўвесь ягоны тэкст прасякнуты адзінай мэтай – прававарога забесьпячэньня адзінаасобнай, абсалютнай і ўсеаб'ёмнай улады прэзыдэнта. Гэтаму падпарадкаваны сэнс усіх разьдзелаў, прававых палажэньняў і дзіўная лёгіка праекта, месцамі падобнага на заблытаную тэхнічную інструкцыю.

Мы лічым, аднак, што гэты дакумант уяўляе пэўную цікавасьць для аналізу анатоміі аўтарытарнай улады і тыповага яе разуменьня ў шмат якіх краінах постсавецкага блёку, якія выкарыстоўваюць прэзыдэнцкую форму праўленьня. Гэты праект можа зьяўляцца матэрыялам для вывучэньня і абагульненьняў. Але калі ён будзе „працягнуты" праз рэфэрэндум і атрымае вагу асноўнага закона, грамадзтву, у якім гэта здарыцца, гарантаваныя незьлічоныя беды, паколькі яно само заканадаўча зацьвярджае дыктатуру і поўную залежнасьць ад волі аднае асобы.

Нам не даводзілася ніколі чытаць нешта падобнае. Мы схільныя бачыць тут паталёгію хваравітых памкненьняў да непадзельнага ўладараньня над грамадзтвам і людзьмі, да кіраваньня ўсімі і ўсім з боку чалавека, які ня мае на гэта ніякіх апраўдальных альбо нават фармальных падстаў (адукацыі, выхаваньня, культуры, заслуг перад грамадзтвам, проста добрых справаў альбо хоць бы здаровага сэнсу).

Тым ня менш, праект дыктатарскай канстытуцыі прапанаваны грамадзтву праз манаполію ўлады, праз манаполію ўладнай прапаганды, манаполію на радыё, тэлебачаньне ды іншыя сродкі масавай інфармацыі.

## ЯШЭ НЯ БОГ, АЛЕ ЎЖО І НЯ ПАПА РЫМСКІ

Галоўнай тэмаю праекта зьяўляецца „прэзыдэнт", ягоныя правы, дзеяньні, узаемадачыненьні. Усё гэта ў асноўным выкладзена ў разьдзеле 4 і замацавана ў разьдзеле 8, дзе сказана, што разьдзел 4 (і, натуральна ж, разьдзел 8) – „ня могуць быць перагледжаныя парлямантам".

Артыкул 79 главы 3 аб прэзыдэнце настолькі красамоўна вызначае, што такое ёсьць „прэзыдэнт" Рэспублікі Беларусь, што лічым неабходным працытаваць яго цалкам: „Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь **зьяўляецца** Кіраўніком дзяржавы *(так і напісана, зь вялікай літары – З.П., С.Н.)* гарантам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, правоў і свабодаў чалавека і грамадзяніна. Прэзыдэнт **увасабляе** адзінства народа, **гарантуе** рэалізацыю асноўных напрамкаў унутранай і зьнешняй палітыкі, **прадстаўляе** Рэспубліку Беларусь ва ўзаемаадносінах зь іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі. Прэзыдэнт **прымае меры** па ахове дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе нацыянальнай бясьпекі і тэрытарыяльнай цэласнасьці, **забясьпечвае** палітычную і эканамічную стабільнасьць, пераемнасьць і ўзаемадзеяньне органаў дзяржаўнай улады, **ажыцьцяўляе** пасрэдніцтва паміж органамі дзяржаўнай улады, дзяржавай і грамадзтвам. Прэзыдэнт **валодае** недатыкальнасьцю, яго гонар і годнасьць ахоўваецца законам".

У дзеючай Канстытуцыі Беларусі адпаведны артыкул *(95-ы)* гучыць наступным чынам: „Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь зьяўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады".

Пашырэньне гэтага артыкула ў лукашэнкаўскім праекце, наданьне прэзыдэнту ўсіх верагодных і неверагодных правоў не прадугледжвае, аднак, аніякіх абавязкаў прэзыдэнта перад грамадзтвам і законам. Да прыкладу, адзначаецца, што прэзыдэнт зьяўляецца „гарантам Канстытуцыі" і адначасна з праекта вынікае, што прэзыдэнт не нясе ніякай адказнасьці перад Канстытуцыяй. Палажэньне дзеючай Канстытуцыі *(артыкул 104)* пра тое, што прэзыдэнт можа быць адхілены ад пасады ў выпадку парушэньня ім Канстытуцыі, у лукашэнкаўскім праекце адсутнічае. Адказнасьць за парушэньне законаў і Канстытуцыі ўскладаецца (адпаведна праекту) на іншыя дзяржаўныя органы і на парлямант, дзейнасьць якіх у выпадку сыстэматычнага альбо грубага *(?)* парушэньня Канстытуцыі спыняецца рашэньнем прэзыдэнта *(артыкул 94)*. Сам жа прэзыдэнт выведзены з-пад адказнасьці за парушэньне правоў чалавека, законаў і Канстытуцыі.

У праекце не закладзеныя нават ускосныя механізмы ўздзеяньня на прэзыдэнта ў выпадку парушэньня закона зь яго боку, ня кажучы ўжо пра адсутнасьць палажэньняў аб адказнасьці і абавязках. У адпаведнасьці з сэнсам праекта, прэзыдэнт вышэй за Канстытуцыю. Ён на ёй клянецца і зьяўляецца яе „гарантам", „гарантуе рэалізацыю", „прадстаўляе", „прымае", „забясьпечвае", „ажыцьцяўляе" і гэтак далей, і нават „увасабляе адзінства народа". У гісторыі сэнс апошняга палітычна-юрыдычнага паняцьця там, дзе яно ўжывалася, расшыфроўвалася звычайна як „адзін народ – адзін фюрар", які „валодае недатыкальнасьцю" і „ажыцьцяўляе *(заўважце!)* „пасрэдніцтва паміж органамі дзяржаўнае ўлады, дзяржавай і „грамадзтвам".

Яшчэ ня Бог, але ўжо і не прэзыдэнт, і нават ужо ня Папа Рымскі, а нешта значна болш вялікае.

## АРЫФМЕТЫКА ЎЛАДЫ

Артыкул 88 праекта вызначае, што прэзыдэнт „можа быць датэрмінова адхілены ад пасады… пры стойкай нясдольнасьці па стану здароўя выконваць свае абавязкі" і „за дзяржаўную здраду і іншае цяжкае злачынства". Аднак са зьместу вынікае, што нават у гэтым выпадку адстаўка прэзыдэнта немагчымая без ягонай згоды.

* Гэта прадмова да друку ў "Беларускіх Ведамасьцях". – *(З. П.)*.

Для адхіленьня прэзыдэнта *(артыкул 88)* патрэбна 2/3 галасоў Палаты прадстаўнікоў (дэпутаты якой, паміж іншым, могуць быць сябрамі прэзыдэнцкага ўраду, прызначацца на іншыя пасады прэзыдэнтам) і 3/4 галасоў Сэнату, 1/3 дэпутатаў якога прызначаецца асабіста прэзыдэнтам. Арыфметыка зразумелая. Адхіліць прэзыдэнта ў Сэнаце немагчыма. Якая палітыка за гэтым хаваецца, мы гэтаксама добра ведаем. Мала таго – калі абедзьве палаты не пасьпеюць разглядзець пытаньне і прыняць па ім рашэньне на працягу месяца з моманту выстаўленьня абвінавачаньня, – гэта азначае скасаваньне абвінавачваньня. Праект дае прэзыдэнту шмат магчымасьцяў прадухіліць ініцыяваньне сваёй адстаўкі альбо зацягнуць прыняцьцё рашэньня на тэрмін, больш чым месяц.

Гэты праект Канстытуцыі створаны па патрабаваньні А. Лукашэнкі пад канкрэтнага чалавека – Лукашэнку – і пад сытуацыю, якая сёньня існуе ў краіне. Прадугледжаныя ня толькі ўсе правы і выключныя паўнамоцтвы для прэзыдэнта, ня толькі вывад яго з-пад закона, ня толькі практычная немагчымасьць адхіленьня яго ад пасады, але нават недапушчэньне да верагоднага ўдзелу ў выбарах яго палітычных апанэнтаў.

У артыкуле 80 гаворыцца, што прэзыдэнтам можа быць абраны грамадзянін Беларусі, які пражыў у Рэспубліцы Беларусь ня менш дзесяці гадоў „непасрэдна перад выбарамі”. Гэта азначае, што грамадзянам, якія перад выбарамі на доўгі тэрмін ад’язджалі за мяжу, альбо (яшчэ горш) у эміграцыю, удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у якасьці кандыдата забаронена.

У артыкуле 84 праекта пералічаныя 28 пунктаў галоўных функцыяў прэзыдэнта. Лягчэй было б проста працытаваць гэты аб’ёмісты артыкул, каб усё было зразумела. Калі ж коратка, то прэзыдэнт у сістэме дзяржаўнае ўлады можа вызначаць усё. Ён робіць усе кадравыя прызначэньні ва ўрадзе і ўсе вызваленьні ад пасадаў, „прызначае кіраўнікоў ворганаў дзяржаўнага кіраваньня і вызначае іх статус, прызначае прадстаўнікоў прэзыдэнта ў парляманце і іншых службовых асобаў”, прызначае і вызваляе Генэральнага пракурора, Старшыню і сяброў Праўленьня Нацыянальнага банку, Старшыню і сяброў Вышэйшага Суда, Старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю, Дзяржаўнага сакратара Савета бясьпекі, старшыню і пяць сяброў Канстытуцыйнага Суда *(гэта значыць палову)*, шэсьць сяброў *(палову)* Цэнтральнае выбарчае камісіі і гэтак далей. Дарэчы, астатніх сяброў Канстытуцыйнага Суда і Цэнтрвыбаркаму абірае Сэнат, які на 1/3 фармуецца прэзыдэнтам. Зразумела, што сябры Канстытуцыйнага Суда і Цэнтрвыбаркаму будуць (у сваёй большасьці) гэтаксама залежныя ад прэзыдэнта.

Тое, што некаторыя прэзыдэнцкія кадравыя прызначэньні павінныя прайсьці праз Сэнат, сутнасьці не мяняе, бо (як ужо казалася) Сэнат заўсёды будзе ў той ці іншай ступені залежыць ад прэзыдэнта.

Калі ж Палата прадстаўнікоў двойчы не зацьвердзіць прапанаваную прэзыдэнтам кандыдатуру прэм’ер-міністра, пытаньне вырашаецца па-камісарску проста: парлямант *(абедзьве палаты; артыкулы 106, 93 і 94)* – распускаецца прэзыдэнтам.

## ПАРЛЯМАНТ ЗАМЕСТ АНУЧЫ

З праекта вынікае поўная *(падкрэсьліваем)* залежнасьць парляманту ад прэзыдэнта. Адсутнічаюць уладная, фактычна, заканадаўчая, і нават у нейкай ступені працэдурная самастойнасьць парляманту. Фактычна, прэзыдэнт мае права распусьціць парлямант у любы час.

Асабліва абсурдна гучыць артыкул 94, дзе сказана, што „паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў могуць быць датэрміновa спыненыя пры адмаўленьні ў даверы ўраду, альбо пры двухразавай нязгодзе на прызначэньне прэм’ер-міністра”.

Вось і паспрабуйце цяпер, парлямант, выказаць недавер ураду з прычыны (да прыкладу) невыкананьня бюджэту. Альбо – не зацьвердзі прэм’ера, калі той злодзей, альбо (у лепшым выпадку) дурань. Апынешся ў адстаўцы ўсім складам, з усімі „паўнамоцтвамі” і ў поўнай адпаведнасьці з Канстытуцыяй.

Але і гэта яшчэ ня ўсё. Далей – болей. Прэзыдэнт можа зрабіць мудрагеліста. Артыкул 106 праекта гаворыць: „Прэм’ер-міністр можа паставіць перад Палатай прадстаўнікоў пытаньне пра давер Ураду па прадстаўленай праграме альбо па канкрэтнай прычыне. Калі парлямант у даверы адмаўляе, Прэзыдэнт можа ў дзесяцідзённы тэрмін прыняць рашэньне пра адстаўку парляманту альбо роспуск палатаў”.

Ну, як вам? Звычайна такія месцы перачытваеш двойчы, каб пераканацца, ці сапраўды так напісана. Але напісана менавіта гэтак. Зразумела, што парлямант па такой Канстытуцыі згодзіцца з усім і зацьвердзіць усё, што патрэбна прэзыдэнту альбо ягонаму ўраду.

Прэзыдэнт і ягоны ўрад пры жаданьні могуць выціраць аб парлямант ногі. У адпаведнасьці з артыкулам 100, калі патрэбны прэзыдэнту законапраект не праходзіць у абедзьвюх палатах, тады „Прэзыдэнт альбо па ягоным даручэньні Ўрад могуць патрабаваць, каб Палата прадстаўнікоў прыняла канчатковае рашэньне”. Прычым, каб прагаласавалі ня менш 3/5 дэпутатаў ад поўнага складу.

Вось тут, спадары дэпутаты, паспрабуйце не прагаласаваць, калі ў Канстытуцыі запісана „прыняць канчатковае рашэньне” і што „прэзыдэнт можа патрабаваць”. Парляманцкага крызісу ня будзе. „Непрыняцьцё канчатковага рашэньня” будзе кваліфікавацца як грубае альбо сістэматычнае парушэньне Канстытуцыі, і парлямант распусьцяць.

Далей – яшчэ болей (хаця куды ўжо болей). Артыкул 99 канстатуе: „Прэзыдэнт альбо па ягоным даручэньні Ўрад, маюць права ўносіць прапановы ў Палату прадстаўнікоў і Сэнат аб абвяшчэньні закона тэрміновым. Палата прадстаўнікоў і Сэнат у гэтым выпадку абавязаныя *(!)* разгледзець гэты праект на працягу дзесяці дзён з дня ўнясеньня на іх разгляд… Па патрабаваньню *(!)* Прэзыдэнта альбо (зь ягонай згоды) Урада, Палата прадстаўнікоў, Сэнат на сваіх паседжаньнях прымаюць рашэньні, галасуючы ў цэлым за ўвесь унесены Ўрадам праект альбо ягоную частку, захаваўшы толькі тыя папраўкі, якія прапанаваныя альбо прынятыя Прэзыдэнтам ці Ўрадам”.

Усё гэтае юрыдычна-працэдурнае дзікунства (калі з дапамогай канстытуцыйнай нормы парлямант прымушаюць галасаваць „у цэлым” за чужы заканапраект, і толькі „за”) мае простае тлумачэньне. Лукашэнка жадае сам выдаваць законы. Ён ня можа згадзіцца, што нават такі прапанаваны ім і цалкам ад яго залежны квазіпарлямант можа выдаваць вышэйшыя дзяржаўныя акты – законы, а ён (больш, чым правадыр, больш, чым старшыня калгасу) – можа пісаць толькі ўказы, якія ніжэйшыя за законы. Вось і зрабілі памочнікі артыкул у Канстытуцыю. Як маглі, так і зрабілі.

Але гэтага мала. У артыкуле 101 праекта вызначана, што „па прапанове Прэзыдэнта” парлямант можа яму „дэлегаваць заканадаўчыя паўнамоцтвы на выданьне дэкрэтаў, якія будуць мець сілу закона”. На падставе лукашэнкаўскай канстытуцыі можна не сумнявацца, што такое „дэлегаваньне” будзе яму забясьпечана. І Лукашэнка, відавочна, не сумняваецца – але страху-

ецца. У тым жа артыкуле напісана наступнае: „У мэтах асаблівай неабходнасьці і тэрміновасьці прэзыдэнт па сваёй ініцыятыве альбо па прапанове Ўраду можа выдаваць часовыя дэкрэты, якія будуць мець сілу закона". Як бачым – не патрэбна і „дэлегаваньне". Тэрміны „часовасьці" пры гэтым ня вызначаныя.

„Парлямант", калі патрэбна, дык зацьвердзіць. А магчыма, гэта нават і не спатрэбіцца, тым болей, што ніжэй запісана: „Гэтыя дэкрэты захоўваюць сілу, калі яны не скасаваныя парлямантам".

Здавалася б, вось прэзыдэнт ужо выдае законы, вось і заканадаўчая функцыя квазіпарляманта абмежаваная да мінімуму. Чаго яшчэ болей? Аказваецца – можна і болей. Лукашэнка павінен вызначаць усё. У разьдзеле 8 *(які, падкрэсьліваем, ня можа быць перагледжаны парлямантам)* зьяўляецца своеасаблівы юрыдычны шэдэўр у шулерскай фармулёўцы, якую варта працытаваць: „У выпадку разыходжаньня дэкрэта альбо ўказа з законам закон мае вяршэнства толькі тады, калі паўнамоцтвы на выданьне дэкрэта альбо ўказа былі прадастаўленыя законам".

Па аб'ёму цынізму і грубага ўзурпатарства гэтае палажэньне не саступае палажэньням пра роспуск парляманта. На практыцы ж гэта азначае, што прэзыдэнт можа выдаваць любыя дэкрэты альбо ўказы, не клапоцячыся пра адпаведнасьць іх законам, бо ў гэтым выпадку *(у выпадку іх супярэчлівасьці)* яны вышэйшыя за закон. Калі прэзыдэнту не падабаецца якое-небудзь палажэньне ў законе, ён можа выдаць указ. Будзе дзейнічаць норма ўказу.

Зьнявага парляманта выяўляецца нават у працэдуры ягоных узаемадачыненьняў з прэзыдэнтам і ўрадам. Парляманту ўказана *(артыкул 97)*, які законы ён можа прымаць. Тое, што яму не дазваляецца, тое і не ўказана. Ягоны лёс – выкананьне волі прэзыдэнта і ўрада. Да прыкладу, прэзыдэнт зьвяртаецца з пасланьнямі да народа і парляманта, якія „заслухоўваюцца без абмеркаваньня" *(артыкул 84)*. На сэсіі парляманта „Прэзыдэнт, яго прадстаўнікі, прэм'ер-міністар і члены ўраду, – сказана далей *(артыкул 103)*, – могуць выступаць па-за чаргой тых, хто запісаўся, столькі разоў, колькі гэтага запатрабуюць" *(„тыя, хто запісаўся" – гэта дэпутаты парляманта)*.

Калі заканадаўчыя функцыі парляманта ў праекце моцна абмежаваныя, то кантрольная функцыя за выкананьнем законаў і бюджэту зусім ліквідаваная. У адрозьненьне ад цяперашняй Канстытуцыі, у праекце адсутнічае глава пра Кантрольную палату парляманта. Прэзыдэнт стварае „Камітэт дзяржаўнага кантролю" *(артыкул 129-131)*, прызначае яго старшыню і праз яго сам сябе кантралюе *(выкарыстаньне бюджэту, фінансавая і падаткавая дзейнасьць і гэтак далей)*.

Ёсьць, аднак, яшчэ адна істотная прычына зьяўленьня ў праекце гэтых цемрашальскіх, антыпраўных, антыдэмакратычных палажэньняў. Гэта – імкненьне Лукашэнкі пазьбегнуць юрыдычнай адказнасьці за шматлікія парушэньні дзеючай Канстытуцыі і выданьне антыканстытуцыйных указаў. Таму і адсутнічае ў праекце палажэньне аб адказнасьці прэзыдэнта за парушэньне Канстытуцыі, а ўказы ў выпадку іх разыходжаньня з законам загадваецца лічыць вышэйшымі за закон. Прыняцьцём новай канстытуцыі на рэфэрэндуме Лукашэнка гэтаксама спадзяецца запабегнуць немінучага суду за свае ўчынкі *(паколькі Канстытуцыя 1994 года тады спыняе дзейнасьць)*.

## СУД НЯ БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНЫМ

Сытуацыю, у якой (у выпадку прыняцьця гэтага праекта) апынецца Канстытуцыйны Суд, варта разгледзець больш падрабязна.

Істотным адрозьненьнем гэтага праекта зьяўляецца тое, што, ў адпаведнасьці зь ім, рашэньні Канстытуцыйнага Суду ўжо ня будуць мець абавязковай сілы і ня будуць зьяўляцца канчатковымі. Канстытуцыя 1994 года прадугледжвае, што, з моманту вынясеньня рашэньня аб неадпаведнасьці Канстытуцыі, нарматыўныя акты цалкам альбо часткова страчваюць юрыдычную моц. Гэта тычыцца і нарматыўна-праўных актаў міжнародных аб'яднаньняў, у якія ўваходзіць Беларусь, а таксама міжнародных дамоваў. Прыкметна, што повадам для выбуху грамадзка-палітычнай актыўнасьці на Беларусі вясной-летам сёлетняга году зьявілася менавіта падпісаньне Лукашэнкам і Ельцыным 2 красавіка беларуска-расейскага пагадненьня, якое пагражае ліквідацыяй суверэнітэту Беларусі. У больш шырокім сэнсе адсутнасьць у праекце прынцыпу абавязковасьці рашэньняў ліквідуе прынцып вяршэнства Канстытуцыйнага Суда як вышэйшага арбітра ў пытаньнях канстытуцыйнай законнасьці.

Цяпер усе сябры Канстытуцыйнага Суда, як і ягоны старшыня, абіраюцца Вярхоўным Саветам. У сукупнасьці з 11-гадовым тэрмінам паўнамоцтваў суддзяў гэта дае істотныя гарантыі незалежнасьці Суда ад выканаўчай улады. Праект жа прадугледжвае прызначэньне паловы суддзяў *(у тым ліку і старшыні)* непасрэдна прэзыдэнтам. Калі ўлічыць, што астатняя палова суддзяў абіраецца не Палатай прадстаўнікоў, а ў значнай ступені падкантрольным прэзыдэнту Сэнатам, то зусім відавочна: прэзыдэнт аўтаматычна атрымоўвае магчымасьць заблякаваць, практычна, любое рашэньне Суда. Хаця праект і вызначае тэрмін паўнамоцтваў суддзяў – 11гадоў, – але не гаворыцца пра тое, што прэзыдэнт ня мае права адклікаць прызначаных ім суддзяў да сканчэньня гэтага тэрміну.

Сумнеўна выглядае і прынцып абавязковай наяўнасьці вучонай ступені для кандыдатаў на пасаду сябра Суду. У камуністычныя часы крытэрыям для наданьня вучоных ступеняў, у тым ліку і ў юрыспрудэнцыі, даволі часта зьяўляліся не навуковыя дасягненьні, а ляяльнасьць да ўладаў. Варта зазначыць, што цяпер камісія па наданьню вучоных ступеняў знаходзіцца ў сістэме выканаўчае ўлады, гэта значыць – падкантрольныя прэзыдэнту.

Праект прадугледжвае абавязак Суду па прапанове прэзыдэнта даваць заключэньні аб наяўнасьці фактаў сістэматычнага і грубага парушэньня Канстытуцыі палатамі парляманту, што ў далейшым можа быць падставай для роспуску парляманту. Цяперашняя Канстытуцыя дае Суду права выносіць заключэньні пра парушэньне Канстытуцыі з боку прэзыдэнта, што зьяўляецца ключавым момантам у працэдуры імпічманту. Гэтага права Канстытуцыйны Суд пазбаўляецца. Паказальна, што на сёньняшні дзень шаснаццаць указаў альбо распараджэньняў Лукашэнкі прызнаныя Канстытуцыйным Судом цалкам альбо часткова не адпаведнымі Канстытуцыі. Згодна праекта, цяпер ужо ніхто ня здолее вынесьці паўнапраўны вэрдыкт аб канстытуцыйнасьці якіх бы там ні было рашэньняў прэзыдэнта. Зрэшты, як ужо казалася, праект і не прадугледжвае адстаўкі прэзыдэнта з прычыны грубага і сыстэматычнага парушэньня Канстытуцыі.

У адрозьненьне ад цяперашняй Канстытуцыі, праект значна аслабляе незалежнасьць як Канстытуцыйнага Суда ў цэлым, так і суддзяў па-асобку.

Напрыклад, адсутнічае палажэньне, якое забараняе суддзям займаць тыя альбо іншыя штатныя пасады ў дзяржаўным апараце. У артыкуле 111 сказана толькі пра тое, што суддзі ня могуць

выконваць „іншую аплочваемую працу”. Аднак здараецца, што тыя альбо іншыя асобы займаюць пасады і без непасрэднага грашовага ўзнагароджаньня. Скажам, нішто не перашкодзіць аднаму альбо нават некалькім сябрам Суда заняць пасаду «неаплочваемага» дарадцы прэзыдэнта.

У параўнаньні з Канстытуцыяй 1994 года, ліквідаваныя наступныя правы сяброў Канстытуцыйнага Суда:

– імунітэт суддзяў, які цяпер роўны імунітэту дэпутатаў парляманта і забараняе арышт, абшукваньне, агляд асабістых рэчаў;

– права суддзяў у любы момант падаць у адстаўку;

– гарантыя ад уздзеяньня на суддзяў з боку каго б там ні было.

Апошняе палажэньне (забарона ўздзеяньня на Суд і суддзяў) мае прынцыповую значнасьць ва ўмовах пастаяннага ціску на Канстытуцыйны Суд з боку Лукашэнкі і ягонай адміністрацыі. Хаця артыкул 110 главы 6 „Суд” і вызначае, што „ўмяшальніцтва ў дзейнасьць суддзяў пры ажыцьцяўленьні правасуддзя недапушчальнае і вядзе адказнасьць па закону», але абсалютна відавочна, што ў дадзеным выпадку паняцьце «правасуддзе» не ахоплівае кантроль за канстытуцыйнасьцю нарматыўных актаў і, пры жаданьні, дае магчымасьць выключыць з гэтага палажэньня сяброў Канстытуцыйнага Суда. Гэткім чынам, Канстытуцыйны Суд, ня толькі пазбаўляецца дэклараванай функцыі кантролю за канстытуцыйнасьцю нарматыўных актаў, але і ў значнай ступені робіцца залежным ад прэзыдэнта. У праекце Канстытуцыі відавочна імкненьне падпарадкаваць яго прэзыдэнту.

Дзейнасьць гэтага воргана зьведзеная да ўзроўню юрыдычнай канстытуцыйнай экспэртызы, якая не прадугледжвае ніякіх юрыдычных вынікаў.

## ПА ПРЫКЛАДУ АДОЛЬФА

У артыкуле 84 праекта, дзе вызначаныя важнейшыя функцыі і паўнамоцтвы прэзыдэнта, першым пунктам, здавалася б, нечакана запісана: „…прызначае рэспубліканскія рэфэрэндумы”. Не пытаньні суверэнітэту, нацыянальнай бясьпекі на першым месцы, як у цяперашняй Канстытуцыі, а менавіта прызначэньне рэфэрэндуму ёсьць першае і галоўнае. І гэта зусім не капрыз хваравітай псіхікі.

Рэфэрэндум у аўтарытарным недэмакратычным грамадзтве ёсьць магутная палітычная і праўная зброя дыктатуры. Узурпаваўшы ўладу і манапалізаваўшы прэсу, хунта альбо дыктатар, лёгка маніпулюючы масавай сьвядомасьцю, могуць шляхам арганізацыі „падтрымкі народа” дамагчыся быццам бы легітымнага апраўданьня любым, нават самым ганебным, нават крымінальным дзеяньням. Адольф Гітлер у 1934 годзе атрымаў 90 адсоткаў народнае любові, камуністы ў СССР заўсёды мелі 99,9 адсоткаў, Садам Хусэйн – амаль сто (здаралася, што і больш, чым сто).

Хунта Лукашэнкі гэта разумее. Таму ў главу 2 аб рэфэрэндуме ўнесеныя палажэньні, што рэфэрэндум прызначае прэзыдэнт „па ўласнай ініцыятыве”, а таксама па прапанове Сэната і Палаты прадстаўнікоў. Тут жа абмежавана магчымасьць ініцыяваньня рэфэрэндума самім народам шляхам ўвядзеньня раўназначных квотаў подпісаў па вобласьцях і горадзе Менску, што ўскладняе


(Фота У. Кармілкіна)

*7. Сакавік у Менску. 30.03.1996 г. АМАП.*

працу і не заўсёды рэальна. Але галоўнае – гэта парушае правы людзей на свабоднае волевыяўленьне, паколькі Беларусь унітарная дзяржава, а беларусы – адзіная нацыя, а не фэдэрацыя. Квоты на подпісы па вобласьцях тут не прымальныя. Хунта Лукашэнкі, аднак, паклапацілася, каб зброю рэфэрэндума, гэтак жа як і ўладу, і сродкі масавай інфармацыі, трымаць ў сваіх руках.

## НА ШЛЯХУ ДА КАНФЛІКТУ

Знаёмства з асноўнымі палажэньнямі Канстытуцыі, вынесенымі на рэфэрэндум, дазваляе зрабіць выснову, што праект, перанасычаны папулісцкімі фразамі і неюрыдычнымі фармулёўкамі, выкліканы выключна палітычнымі мэтамі цяперашняй сытуацыі: жаданьнем Лукашэнкі пазбавіцца адказнасьці за незаконныя дзеяньні і паталягічным імкненьнем да абсалютнай і непадзельнай улады. Гэта ня столькі юрыдычны, колькі палітычны дакумант – прыклад недэмакратычнай канстытуцыі, якая зацьвярджае непадзельнае аўтарытарнае права на ўладу.

У праекце ліквідаваны асноўны дэмакратычны прынцып – самастойнасьці і падзелу галінаў улады. Парлямант і суды, уся кадравая палітыка ў сістэме ўлады, заканатворчы працэс, усе ўладныя прыярытэты і магчымасьці, кантрольныя функцыі, фінансы і бюджэт – усё аддаецца ў рукі аднаго чалавека – прэзыдэнта краіны, зьняць якога, прыцягнуць да адказнасьці, зьмяніць (на законных падставах), практычна, немагчыма. Зьберажэньню і гарантыям неабмежаванай аднаасобнай ўлады прэзыдэнта падпарадкаваныя ўвесь сэнс і зьмест праекту.

Гэтую канстытуцыю, у выпадку яе прыняцьця, немагчыма рэалізаваць нават у тым варыянце, у якім яна створана. Яе прыняцьце будзе выглядаць чыста палітычным актам, які дае падставы зацьвердзіць дыктатуру і расправіцца з апазыцыяй. Далейшае разьвіцьцё ўзаемаадносінаў улады і грамадзтва, калі яно паспрабуе жыць па лукашэнкаўскай канстытуцыі, можа прывесьці толькі да канфлікту. Шляху легітымнага вырашэньня гэтага канфлікту лукашэнкаўская канстытуцыя не прапануе.

Больш за ўсё ад заплянаванага рэфэрэндуму і потым ад дзеяньняў улады на падставе аўтарытарнай канстытуцыі пацерпіць беларуская нацыя (калі яна ўвогуле выжыве пасьля такіх маніпуляцыяў. Ня варта забывацца, што за сьпіной Лукашэнкі стаіць расейскі імпэрыялізм і камуна-фашысцкая палітыка).

Аднак мы гэтаксама зьвяртаем увагу на нэгатыўныя міжнародныя наступствы ў выніку канстытуцыйнага замацаваньня пракамуністычнай прарасейскай дыктатуры ў краіне Ўсходняй Эўропы.

У гісторыі з рэфэрэндумамі на Беларусі ёсьць моманты амаль ірацыянальныя. Травеньскі рэфэрэндум 1995 года, які зганьбіў нацыю, праводзіўся ў парушэньне Канстытуцыі, якая не дазваляе рабіць усенароднае галасаваньне па пытаньнях мовы, міжнароднае палітыкі і гэтак далей. Цяпер сытуацыя паўтараецца. Згодна з цяперашняй Канстытуцыяй, на рэфэрэндум выносяцца толькі „зьмяненьні і дадаткі Канстытуцыі”, але ніяк не сама Канстытуцыя. Пры гэтым, галасуюць (зноў жа) толькі па „рашэньню аб зьмяненьні і дапаўненьні” Канстытуцыі, а не па ўсёй Канстытуцыі. І рашэньне лічыцца станоўчым, калі прагаласуе ня менш як 2/3 удзельнікаў рэфэрэндума, як таго патрабуе артыкул 36 Закона аб рэфэрэндуме.

Тым ня менш, парлямант ня толькі прызначыў дату рэфэрэндума, але ўплывовая фракцыя камуністаў вынесла на ўсеагульнае галасаваньне яшчэ адзін (уласны) праект канстытуцыі, змагаючыся такім чынам супраць рэфэрэндума, за які самі ж раней і прагаласавалі. Тым ня менш, факт застаецца фактам: вынясеньне на рэфэрэндум праекта Канстытуцыі, а не паправак і дадаткаў, – незаконнае.*

*30 верасьня 1996 г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК, Сяргей НАВУМЧЫК***

*Надрукавана: (Беларус, – 1996, верасень-кастрычнік, №438; Пагоня, – 1996, 15-21 лістапада; Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 1(5).*

---

* Насуперак дзеючай Канстытуцыі праект „канстытуцыі дыктатуры” быў праведзены праз рэфэрэндум і прыняты шляхам фальсіфікацыі галасаваньня – *(З.П.)*

# НЕ ЗАДАВАЙЦЕ ІМ ПЫТАНЬНЕ „ЗА ШТО?”

Найвялікшая мэта беларускай нацыі – стварыць незалежную дэмакратычную дзяржаву і адрадзіць духоўную нацыянальную культуру. Калі будуць мова, сьвядомасьць і незалежнасьць – усё астатняе прыдасца, бо пры наяўнасьці гэтых чыньнікаў грамадзтва атрымлівае моцны імпульс унутранага творчага разьвіцьця. Дзеля гэтага – з юнацкіх гадоў – і ўся мая праца. Гэтага мне хацелася. Гэта сталася потым сэнсам майго жыцьця.



(Фота з друку)

*8. Менск. «Гарылы» рэжыму зьбіваюць дэманстранта.*

Што мяне найбольш уразіла ў час найцяжэйшых дасьледваньняў гісторыі Курапатаў – гэта бязвольнае сьляпае „нічоганеразуменьне” ў бальшавіцкіх ахвяраў. На краі крывавай курапацкай ямы, перад расстрэлам у іх было адно пытаньне: „За што?” Калі па іх ноччу прыходзілі, яны казалі жонкам: „Гэта памылка, дарагая, разьбяруцца, і я вярнуся”. Сьведчу: не вярнуўся ніхто (і ніхто не „разьбіраўся”).

Пытаньне „За што?” ў беларускага „сярэднестатыстычнага” жыхара яшчэ наперадзе. Цяпер ён пакуль гаворыць: „Прэзідэнт харошій – но яму мешают”.

Са злом можна вынікова змагацца, толькі будучы жывым і свабодным. Вось чаму былыя палкоўнікі і інструктары палітаддзелаў, прывыклыя мець справу зь людзьмі тыпу „за што”, ашалелі ад злосьці, калі я і Сяргей Навумчык (як толькі міліцыя аблажыла кварталы, дзе мы жывём) адразу выехалі за мяжу. Спачатку ў Расею, потым на Ўкраіну.

Пытаньне стаіць па-бальшавіцку проста: альбо яны паступова вынішчаць нашую нацыю, нашу дзяржаву, нашу культуру і нашых змагароў за гэтую культуру – альбо мы пераможам. Не задавайце ім пытаньня „за што?”. За тое, што вы хочаце быць свабоднымі людзьмі, жыць у сваёй незалежнай дзяржаве, пад сваім сьвятым Бел-Чырвона-Белым нацыянальным сьцягам, карыстацца на дзяржаўным узроўні сваёй беларускай мовай і багацець з сваёй працы. Прамаскоўская хунта Лукашэнкі гэтага ня хоча.

Праглядаючы свой вымушаны шлях, пройдзены за чатыры месяцы разам з Сяргеем Навумчыкам па Ўкраіне, Чэхіі, Польшчы, Вялікабрытаніі і Злучаных Штатах Амэрыкі, я спакойны, бо ўсё ж такі зроблена шмат, і ўсё – у патрэбны час, калі на Беларусі ўзьнялася актыўная хваля супраціўленьня рэжыму, калі трэба было ратаваць галадаючых і кінутых у турму, тлумачыць заходняму грамадзтву і палітыкам сутнасьць рэжыму і падзеяў на Беларусі, арганізоўваць міжнародную падтрымку беларускай дэмакратыі, выдаваць інфармацыйныя бюлетэні.

Ці ведалі пра нашую працу на Беларусі? Бадай, тое-сёе, ведалі, але найбольш – у органах улады. Яны яе першыя і ацанілі, выдаўшы заяву МЗС аб тым, што „асаблівую заклапочанасьць беларускага боку выклікаюць кантакты з лідэрам БНФ афіцыйных асобаў некаторых дзяржаў”. І далей: „Такія дзеяньні афіцыйных колаў іншых дзяржаў могуць нанесьці ўрон (г. зн., шкоду *–З.П.)* дружалюбным двухбаковым адносінам”.

Ня больш і ня менш. Я быў сьведкам, як „афіцыйныя колы іншых дзяржаў” сьмяяліся з гэтых недарэчных пагрозаў.

Тады Замяталін, Нісьцюк ды іншыя палкоўнікі і функцыянеры пачалі „аўтарытэтна” заяўляць, што „Пазьняку і Навумчыку нішто не пагражае”, што „яны могуць у любы час прыехаць на Беларусь”. Я папрасіў С. Навумчыка застацца ў Варшаве, а сам прыехаў 26 красавіка на ***Чарнобыльскі Шлях.*** КГБ адразу схапіў таксіста, які мяне вёз з вакзала. Дапытваліся – дзе я. Пачаліся ловы. Беспасьпяхова. Пасьля мітынгу кінуліся ўсьлед за машынай, у якой я ехаў. І тут не пашанцавала. Тады вечарам да сядзібы БНФ пад’ехалі два аўтобусы з аўтаматчыкамі ў чорных масках, якія ўварваліся ў памяшканьне. Пахапалі людзей, сарвалі харугвы, але мне разам з некаторымі сябрамі ўдалося выйсьці праз іншыя дзьверы.

Назаўтра Лукашэнка наладзіў разнос шэфу КГБ і намесьніку міністра ўнутраных справаў за тое, што мяне не затрымалі (*гл. „Свабода”, 3 траўня 1996*). А неўзабаве на ўсіх памежных пастах Беларусі з’явілася распараджэньне***: „Пазьняка З.С. і Навумчыка С.І. пры выезьдзе-ўезьдзе – затрымаць”*** (*„Свабода”, 1996, 21 траўня*).

Вось вам і „не пагражае”. Тыповыя, дарэчы, бальшавікі. Яны як тыя полаўцы ці печанегі – запрасіць у госьці ў свой шацёр чужога князя і там забіць. Як загадаеце ім давяраць?

Наступны сцэнар быў даволі грубы. Пачалі псаваць адносіны з Польшчай, зьняважылі і дэпартавалі Мар’яна Кшаклеўскага, зьбіраліся зачыніць свабодны выезд праз мяжу (але пакуль адклалі). Потым, пасьля выхаду нашых ***„Беларускіх Ведамасьцяў”*** і шэрагу заяваў, Лукашэнка пачаў пагражаць нам у сваіх інтэрв’ю, абзываючы „ворагамі народа”. З канфэдэцы-



(Фота з друку)

*9. Менск. «Гарылы» рэжыму б’юць дэманстранта на Нямізе.*

яльных і дакладных крыніцаў мы даведаліся, што Лукашэнка даў заданьне сваім спэцслужбам нас „неўтралізаваць". Стала вядома таскама, што ў пасольства Беларусі ў Польшчы прызначаецца спэцыяльны рэзыдэнт ад Міністэрства ўнутраных справаў са спэцзаданьнем ў адсочваньні нашай дзейнасьці і месцазнаходжаньня. Паляваньне пачалося.

25 ліпеня ў Маскве старшыня думскага камітэту па бясьпецы камуніст В. Ілюхін агарошыў сьвет цалкам шызафрэнічнай бязглуздзіцай пра ЦРУ ў Варшаве, якое нібыта плянавала адстаўку Лукашэнкі, і забойства аднаго ці двух кіраўнікоў беларускай апазыцыі (каб потым зваліць гэта на Лукашэнку).

Трэба сказаць, што такія правакацыі – тыповыя прыёмы былых савецкіх спэцслужбаў, калі падзеі, якія чакаюцца ці рыхтуюцца самім КГБ, заранёў аб'яўляюцца дыверсіяй ЦРУ (каб зьняць з сябе адказнасьць, заблытаць людзей і мець мажлівасьць правесьці рэпрэсіі). Можна дадаць, што гэткае сачыненьне магло нарадзіцца няйначай як у палкоўніцкіх галовах з акружэньня Лукашэнкі. Яны яшчэ, бачыце, нават канчаткова ня вырашылі, забіваць Навумчыка ці не забіваць, як гаворыцца – „мнения разделились" (са мной жа, трэба думаць, справа зразумелая). Вельмі небясьпечна, калі ўлада ў руках такіх крымінальных людзей.

Ні я, ні Сяргей Навумчык ня схільныя ставіцца легкадумна да загадаў і распаражэньняў Лукашэнкі нас „затрымаць", „нэўтралізаваць" і г.д. Мы добра памятаем 12 красавіка 1995 года, калі ў парлямант па загаду Лукашэнкі былі ўведзеныя войскі і зьбітыя ***дэпутаты Апазыцыі БНФ***, Цяпер існуе рэальная пагроза нашым жыцьцям і свабодзе.

На жаль, на працягу чатырох месяцаў дэмакраты на Беларусі так і не зразумелі, што неабходна было абараняць мае з Навумчыкам чалавечыя правы, незалежна ад сімпатыяў і антыпатыяў. Хаця б таму, што самы могуць апынуцца ў падобным становішчы. Не зразумелі нават тады, калі я ім настойліва пра гэта казаў. Магчыма, гэта ад запалоханасьці ці нявопытнасьці.

Сітуацыя, якую стварыў рэжым Лукашэнкі, немагчымасьць вяртацца на Беларусь з

прычыны пагрозы жыцьцю і свабодзе, прымусілі нас прыняць рашэньне прасіць палітычнага прытулку ў ЗША, У змаганьні з крымінальнай (і да таго ж, чужой) уладай зыходзіць трэба часам з патрабаваньняў палітычнага прагматызму. У нас застаюцца беларускае грамадзянства, беларускія пашпарты і дакуманты, усе правы і абавязкі, але мы трапім пад пэўную апеку Злучаных Штатаў, будзем мець права на пражываньне ў ЗША і магчымасьць перамяшчэньня. Дарэчы, „фінансавых ільготаў", на якія, паводле словаў былога камсамольскага функцыянера Падгайнага, можна „красиво пожить" – у нашым выпадку ня будзе. Гэта тэрміналёгія яшчэ з цэкоўскага «Блакнота агітатара і палітінфарматара,» паводле якога хацелі „красиво пожить" падгайныя.

Што датычыць працы, то гэта будзе палітычная дзейнасьць па ўсім сьвеце. Мы перакананыя, што зараз ўсе беларусы, незалежна ад месца іх знаходжаньня, павінны набліжаць вызваленьне нашай Бацькаўшчыны ад антыпраўнага, антыбеларускага рэжыму. Мяркую, што будзе ўмацаваная Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, магчыма, створыцца рух у падтрымку яе ідэалаў.

Нашая заява пра палітычны прытулак і дзьве прэс-канфэрэнцыі зноў прыцягнулі ўвагу ўсяго сьвету да праблемаў Беларусі. Мы просім таксама правесьці слуханьні ў Кангрэсе ЗША пра парушэньні правоў чалавека на Беларусі.

Склалася асаблівая сытуацыя. На карту пастаўлены лёс лукашэнкаўскага рэжыму. Шмат што залежыць таксама і ад паводзінаў беларускай дэмакратыі. Тут неабходны палітычны падыход, гэта значыць, трэба зыходзіць не ад асобы (люблю – не люблю Пазьняка), а ад нацыянальных інтарэсаў (люблю вольную Беларусь). Ці гатовая да гэтага беларуская дэмакратыя? Баюся, што яшчэ не. Тут, як кажуць, што маем, тое маем.

Калі я слухаю публічнае выказваньне паплечніка, які кажа, што ён, у адрозьненьні ад Пазьняка, ніколі не пакінуў бы радзіму, пачынаеш думаць, што такі чалавек ня ведае, што гаворыць. Так мы ніколі ня выйдзем з палітычных лапцяў, спадары. Намі будуць гандляваць ня толькі ў Крамлі, але і ў Кара-Кумах.

Цяпер рэжым зноў выдаў заяву МЗС, што нам нішто не пагражае, што „нет никаких оснований утверждать, что по отношению к З. Позняку и С. Наумчику якобы существует угроза политического или физического гонения". Цікава, ці надрукаваная гэтая заява на Беларусі? Калі надрукаваная, то за каго яе аўтары прымаюць беларусаў? Раіў бы МЗС надрукаваць дзьве свае заявы разам – адну красавіцкую (яе я цытаваў раней), а другую цяперашнюю. (Тут заяўлена, што ўрад Беларусі бароніць правы чалавека).



***10. Дэманстрацыя ў Менску.***

Вельмі своеасаблівая творчасьць. А дзеля паўнаты ўяўленьняў раіў бы яшчэ зьмясьціць побач сьведчаньні сотняў людзей, якіх зьбівалі і катавалі на вуліцах Менска і ў міліцэйскіх пастарунках. Дарэчы, кіраўнікі МЗС могуць узяць гэтыя сьведчаньні ў Беларускім Гэльсінскім Камітэце.

Я ведаю цану расейска-бальшавіцкім „нет никаких гонений". 26 красавіка асабіста пераканаўся, чаго вартыя гэтыя фальшывыя заявы палкоўнікаў і кагэбізаваных пісакаў.

Пакуль на Беларусі існуе вар'яцкі антыбеларускі рэжым, ні я, ні Сяргей Навумчык, на жаль, ня можам вярнуцца. Мы гэта добра ведаем і разумеем. Але мы будзем набліжаць гэты дзень, так, як рабілі гэта на Беларусі і цяжкія чатыры месяцы па-за Радзімай. Кіраўнік Фронту не павінен быць у турме, каб яго потым „нэўтралізавалі" (калі казаць іхняй тэрміналёгіяй). Не атрымалася, спадары! І не атрымаецца. Мы выехалі часова, каб змагацца за Беларусь, за нармальнае жыцьцё на нашай зямлі, за правы людзей, за будучыню нашай дарагой Бацькаўшчыны.

*2 жніўня 1996 г. Нью-Ёрк.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ***

*Надрукавана: („Пагоня", – 1996, 9-15 жніўня; „Wiadomosci Bialoruskie", – 1996, Nr. 4 – Nie pytajcie ich „za co?"); („Народная Воля", – 1996, жнівень, №71, пад загалоўкам: „Мы выехалі часова, каб змагацца за Беларусь, за нармальнае жыццё на нашай зямлі, за правы людзей,за будучыню нашай Бацькаушчывы»).*

# ЗЬНІШЧАЮЦЬ КУРАПАТЫ

У канцы 80-х гадоў ужо бурліла Эстонія, Латвія і Летува. Там пачаўся нацыянальна-вызваленчы рух, які пашыраўся і потым прывёў да частковага распаду савецкай імпэрыі. На Беларусі была ціша. Здэнацыяналізаваны абывацель, па-першае, нічога ня ведаў, бо інфармацыя была пад кантролем КПСС. А калі і ведаў, то нічога не разумеў: „Чэво эцім эстонцам нада?"



(Фотарэпрадукцыя з кн. З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Менск, 1994, стар. 172)

*11. Курапаты – 1988. Раскоп №8. Косьці расстраляных (52 асобіны).*



(Фотарэпрадукцыя з кн. З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Менск, 1994, стар. 49)

*12. Курапаты – 1988. Парэшткі расстраляных.*

Узарвалі гэтае сьпячае грамадзтва Курапаты. Паход на Курапаты 18 чэрвеня 1988 года стаўся, фактычна, першай свабоднай дэманстрацыяй пратэсту супраць камуністычнага рэжыму. Інфармацыя пра Курапаты падзейнічала на беларусаў, як выбух бомбы. Антычалавечы рэжым атрымаў сьмяротны ўдар, ад якога ўжо не паправіўся.

Цяпер, калі ўлада на Беларусі ў руках неўраўнаважанае асобы, усталяваны прасавецкі рэжым і пачаліся рэпрэсіі супраць Народнага Фронту, – зноў асьмялелі камуністы.

Мэтадычна зьнішчаюцца Курапаты. Ноччу раскопваюцца і разбураюцца магілы. Быццам бы „невядомыя" прыязджаюць сюды, калі цёмна, на машынах з сабакамі, выстаўляюць сваю ахову і робяць чорную справу. Для тых, каго бацькі гэтых цемнякоў забілі 60 гадоў таму, генацыд яшчэ працягваецца – зьдзекуюцца над касьцямі.

Усе мае звароты да ўладаў, пачынаючы з 1988 году, у міліцыю і пракуратуру не далі выніку. У лепшым выпадку былі толькі дзяжурныя адпіскі. Мне стала зразумела, што гэтыя арганізацыі і гэтыя людзі атрымалі іншыя наказы і нічога ня будуць рабіць дзеля таго, каб спыніць кашчуннае злачынства.

Ужо ў эміграцыі я атрымаў новыя сьведчаньні і фотаздымкі разбурэньня Курапатаў. Вывернуты велізарны сямімэтровы Крыж Пакуты, які ў 1989 годзе людзі прынесьлі за 7 кілёмэтраў на руках, які асьвечаны сьвятарамі ўсіх хрысьціянскіх канфэсіяў. Але камуністы ёсьць камуністы – зло без берагоў, ненавісьнікі ўсяго беларускага, сьветлага, добрага, вечнага.

Памятны знак прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана – лавачка з паліраванага граніту – зьнявечаны. Спрабавалі зьбіць літары тэксту-пасьвячэньня беларускаму народу ад народу Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Ці патрэбныя да гэтага вандалізму якія-небудзь камэнтары? Памятаю, як ў студзені 1994 года КГБ і кебічаўскі ўрад шалёна імкнуліся перашкодзіць візыту Клінтана ў Курапаты. Самлёту, на якім везьлі памятны знак прэзыдэнта, спачатку не дазволілі пасадку ў Менску, і ён мусіў вярнуцца ў Франкфурт. Потым ляцеў паўторна. Клінтану адмовілі даваць кэдэбісцкую ахову ў Курапаты. Ня грэбавалі нават патэлефанаваць ананімна ў амбасаду ЗША і сказаць, што ў Курапатах быццам бы пакладзеная міна. Але прэзыдэнт Клінтан усё ж наведаў Курапаты. Ён, між іншым, спытаўся, чаму беларускія ўлады так дрэнна ставяцца да Курапатаў. Я адказаў: „Таму што ў Беларусі кіруюць нашчадкі тых, хто забіваў у Курапатах".

Вандалізм у месцы нацыянальнага мартыралёгу – што можа быць больш подлым! Хіба чалавек, у якога ёсьць нешта Боскае ў душы, можа замахнуцца на Крыж Пакуты!?

Памятаю, як у 1950-1960 гадах бальшавікі сьпілоўвалі крыжы пры беларускіх дарогах. Вечарам стаяў – нараньні няма. Але людзі ведалі, хто гэта рабіў, і казалі: „Бог яго пакарае". І – дзіўная рэч – караў. Усе тыя, хто зьнішчаў крыжы, дрэнна скончылі. То тапіліся, то сьпіваліся, то хварэлі, то жонка памерла. Вось вам і містыка, вось вам і фальклёр. Факт. Зло супярэчыць самой прыродзе зьяваў.

Дрэнна скончыў і камунізм. Але варварства ў Курапатах паказвае, што як толькі дзе камунізм пачынае падымаць галаву – яны гатовыя ўсё пачаць спачатку. Бо такая ўжо цёмная прырода гэтага зла.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*14.08.96., Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („ Беларус", – 1996, – верасень-кастрычнік, №438).*

# ЛОШЫЦА – МЕСЦА БАЛЬШАВІЦКІХ РАССТРЭЛАЎ

Горад Менск – своеасаблівы мартыралёг. І пачаў ён сваю летапісную трагічную гісторыю ў 1067 годзе ад запісу ў летапісе пра яго поўнае зьнішчэньне.

Пэрыяд бальшавіцкай акупацыі таксама быў бязьлітасны. Горад выглядаў, нібы фабрыка сьмерці. Акрамя *Курапатаў*, тут было яшчэ каля дзясятка месцаў, дзе адбываліся масавыя расстрэлы. Страляніна ў горадзе гучэла кожную ноч на працягу многіх гадоў. Стралялі ў патыліцу камуністычным ахвярам. Іх звозілі ў

Менск адусюль. Расстрэльвалі ***ў Курапатах, у лесе Ваньковіча*** (цяперашні парк Чалюскінцаў у цэнтры Менска). Некалькі гадоў таму Беларускі Народны Фронт паставіў тут крыж. Потым расстрэльвалі на ўсход ад лесу Ваньковіча, *кілёмэтраў за 5-7 па Барысаўскім тракце*. У пачатку 60-х гадоў пахаваньні выявілі тут пры пракладцы дарогі. Рэшткі расстраляных былі зьнішчаны пры ўдзеле КГБ.

У гэтым жа раёне (леса Ваньковіча і Сьляпянкі) знаходзілася *злавесная дача Цанавы* (кіраўніка НКВД на Беларусі). Тут таксама пастаянна расстрэльвалі. Дзе жылі, там і забівалі. Там і закопвалі.

Расстрэльвалі таксама ***ў лесе ля вёскі Дроздава*** каля Курапатаў і тут жа побач, ***у мясцовасьці Інтэрбуршчына***, ***каля вёскі Баравая***, далей – ***у Зацені***. Пасьля вайны, у канцы саракавых, бальшавікі расстрэльвалі людзей ***за менскай Кальварыяй, па дарозе на Ракаў***, і далей – ***у раёне Кунцаўшчыны***. Яшчэ далей, ***ля вёскі Тарасава***, у чэрвені 1941 года энкавэдзісты расстралялі некалькі сот палітвязьняў.

На працягу ўсяго 1937 года кожны дзень забівалі людзей у глыбокіх ярах ***каля вёскі Лошыца***, што за Камвольным камбінатам на ўскраіне Менска. Мясцовыя людзі памяталі і ведалі пра гэтыя забойствы.

У 1988 годзе я некалькі разоў размаўляў са сьведкам лошыцкіх расстрэлаў спадарыняй ***Верай Шумскай*** (аўдыёзапіс гутаркі захоўваецца), якой тады ўжо ішоў дзявяты дзясятак. Людзей прывозілі на грузавіках, рукі іх былі закручаны назад і зьвязаны дротам. Прывозілі, як правіла, рана на сьвітаньні. Энкавэдзісты асабліва не хаваліся. У расстрэлах бралі таксама ўдзел мясцовыя камуністычныя актывісты, стукачы і падонкі, якім проста хацелася пастраляць у чалавека. Гэтакім актывістам плацілі за расстрэл 50 капеек. За тыдзень такі энтузіяст мог зарабіць на бутэльку гарэлкі. Энкавэдзісты выхваляліся, што пускаюць у расход „врагов народа”. Расстраляных закопвалі ў вялікіх ямах, як і ў Курапатах.

У 1988 годзе, у час археалагічных дасьледваньняў Курапатаў, я вырашыў адначасна дасьледваць Лошыцу. Калі я прыехаў сюды з камандай археолагаў, я не паверыў сваім вачам… Яроў не было. Не было вялікіх марэнных узгоркаў, на якіх раней рос яблыневы сад. Не было і саду. Яры плошчай каля трох *га* былі засыпаны мокрым галечным жвірам і ўтрамбаваныя катком. Узгоркі ссунуты бульдозерам у яры, сад высечаны, яблыневыя дрэвы сьцягнуты ў кучы.

За паўкілёмэтра – кантора прыгараднага калгаса. Старшыня быў вельмі зьдзіўлены, калі даведаўся, што яры засыпаны. Яшчэ два тыдні перад гэтым яны былі. Нехта прарабіў тытанічную працу. Потым я даведаўся, што некалькі месяцаў таму гэтую тэрыторыю забралі ў калгаса і перадалі ў валоданьне гораду Менску. Горад хуценька пачаў тут рабіць стаянку для машын (на яме, на касьцях). Цяпер гэта ўсё пакрыта асфальтам, стаяць аўтамабілі, пабудавана прахадная, у якой сядзіць вечны адстаўнік, былы палкоўнік савецкай арміі, і правярае дакуманты.

Я яшчэ раз пераканаўся ў злавеснай прасутнасьці КГБ. Трэба – дык будуць і горы капаць, і рэкі засыпаць. На гэты раз яны пасьпелі. Дасьледваць лошыцкія магілы, практычна, ужо немагчыма (хаця тэарэтычна такая магчымасьць існуе). Засталіся толькі галасы сьведкаў на магнітнай стужцы і Боскі суд для забойцаў наперадзе.

У 1995 годзе на Дзень Задушны і Дзяды актывісты Беларускага Народнага Фронту паставілі тут вялікі драўляны крыж і сьвятары асьвяцілі яго з малітвай.

Такіх месцаў, як Курапаты, як Лошыца, надзвычай шмат на Беларусі. Мы пра іх ведаем і памятаем пра генацыд.

*1996 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларус, – 1996, верасень-кастрычнік, №438; Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 1(5), с. 16).*



***13. Лошыца – 1996. Засыпаны яр – месца масавых расстрэлаў у 1937 г.***

# ВОСЕНЬ-96. ВЫБРАНЫЯ ЛІСТКІ

**Спадару Старшыні Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
Сямёну Георгіевічу ШАРЭЦКАМУ**

## № 1
## ЗВАРОТ
## ДА ДЭПУТАТАЎ ПАРЛЯМАНТУ*

Спадары дэпутаты!

Падтрымліваю і вітаю вашыя станоўчыя ініцыятывы па захаваньні законнасьці і абароне парлямэнтарызму ў Рэспубліцы Беларусь. Але ў гэты пагрозьлівы для грамадзтва час адчуваю абавязак зьвярнуцца да вас як грамадзянін Беларусі, як былы дэпутат Вярхоўнага Савета, як старшыня *Народнага Фронту.*

Над Беларусяй навісла пагроза жорсткай, нічым не абмежаванай, абсалютнай дыктатуры неўраўнаважанай асобы аднаго чалавека. Лукашэнка ставіць мэту шляхам рэфэрэндуму легітымізаваць захоп улады, узаконіць дыктатуру і рэпрэсіі супраць іншадумцаў, зьняць зь сябе адказнасьць за разбурэньне беларускай дзяржавы, культуры і эканомікі. Сытуацыя, падобная як у Нямеччыне 1934 г., калі Гітлер праводзіў рэфэрэндум аб наданьні яму абсалютнай улады – і атрымаў яе. Ва ўмовах прэзыдэнцкай манаполіі на радыё, тэлебачаньне і друк, ва ўмовах беззаконьня і ўзурпацыі ўлады, ва ўмовах, калі прэзыдэнт бескантрольна распараджаецца бюджэтам дзяржавы, любы рэфэрэндум, які праводзіць узурпатар, будзе выйграны ўзурпатарам.

Калі рэфэрэндум адбываецца – рэжым перамагае. Ніякія выбары і давыбары ня будуць тады ўжо мець значэньня (ня трэба ў іх і ўдзельнічаць), бо зьменіцца Канстытуцыя. Вярхоўны Савет пасьля рэфэрэндуму будзе ліквідаваны законна, на падставе нібыта волевыяўленьня народа законным і абсалютным дыктатарам. Рэпрэсіі будуць таксама „законныя„, асьвечаныя „воляй народа”, беззаконьне і крымінальшчына ўлады стануць законнымі дзеяньнямі авантурыстаў, якія будуць размахваць народным мандатам на народнае зьнішчэньне.

У гэтым становішчы адзінае, што можа прадухіліць дыктатуру шалёнага – гэта імпічмант (адхіленьне ад улады) прэзыдэнта Лукашэнкі. Калі пастанова аб імпічманце тэрмінова ня будзе прынята, Вярхоўны Савет XIII скліканьня гэтым самым падпіша прысуд сабе і прысуд нацыі. У краіне не застанецца тады ніякай улады і ніякай сілы, якая б магла легітымна спыніць беззаконьне і дыктатуру.

Ня трэба баяцца, што пасьля аб’яўленьня імпічманту ўзурпатар ужыве сілу і „распусьціць” Вярхоўны Савет. Беззаконьнем, сілай Вярхоўны Савет не распускаецца. Імпічмант, прыняты парлямантам, стане законным актам. Усе дзеяньні ўзурпатара пасьля імпічманту (калі яны ўзьнікнуць), у тым ліку і правядзеньне рэфэрэндуму, ня будуць мець легітымнага характару. Рэжым авантурыстаў будзе пазбаўлены ўсялякіх пэрспэктываў, страціць усялякую падтрымку.

Падкрэсьліваю: рэфэрэндум Лукашэнкі накіраваны на легітымізацыю дыктатуры. Імпічмант жа пазбаўляе яго гэтай магчымасьці. Аб’явіць імпічмант можа толькі Вярхоўны Савет.

Спадары дэпутаты, рэальнасьць такая, што лёс нацыі сёньня ў вашых руках, і часу амаль не засталося. Зрабіце хутка патрэбны крок для Беларусі. Выканайце свой абавязак перад законам, краінай і будучыняй.**

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*11 верасьня 1996 г.*

---

* Парадкуючы паперы, я натрапіў на даўні дакумант. Гэта вядомая гісторыя – мой зварот да дэпутатаў парляманту 13-га скліканьня, які я паслаў ім 11-га верасьня 1996 г. Яго зачыталі на Сэсіі і са спазьненьнем узяліся за справу, якой потым нізка здрадзіў і ўсё праваліў тыхчасовы старшыня Вярхоўнага Савета Сымон Шарэцкі.

** *Надрукавана: (Пагоня, – 1996, 27 верасьня – 3 кастрычніка; Беларускія Ведамасьці, – 2001, №5 (35), с. 18).*

## № 2

**Лявону Баршчэўскаму, Юры Беленькаму, Вінцуку Вячорку, Станіславу Гусаку, Юры Хадыку, Вячаславу Сіўчыку, Валянціну Асташынскаму, Алесю Бяляцкаму, Віктару Кароліку, Анатолю Крывароту**

Паважаныя калегі!

На Беларусі цяпер адбываецца дзяржаўны пераварот, кульмінацыя якога чакаецца 24 лістапада. Вымушаны яшчэ раз паўтарыць тое, што казаў тры дні таму.

Істотна зьмяніць становішча могуць цяпер толькі патрабаваньні вуліцы аб імпічманце. Вывесьці людзей на вуліцу можа толькі *Народны Фронт*.

Аднак складваецца ўражаньне, што кіраўніцтва БНФ недастаткова займаецца аператыўнай арганізацыяй людзей на мітынгах і зборах.

Абсалютна не дапушчальна, каб намэнклятурны сьпікер парляманту ці які-небудзь дэпутат выходзіў і ўгаворваў людзей разыйсьціся. Накіроўваць і адказваць за мерапрыемства павінен арганізатар – *Народны Фронт*, ягонае кіраўніцтва і ягоныя прадстаўнікі.

Народ выходзіць на плошчу не абараняць слабы парлямант, вінаваты ў шмат якіх нашых бедах, а патрабаваць ад яго выканаць Канстытуцыю і пачаць працэдуру імпічманту. Патрабаваць цьвёрда і грозна.

Ня трэба слухаць канфармісцкія разважаньні дэпутатаў. Хай вяртаюцца ў залю і прымаюць рашэньні. Гэтаму парляманту засталося існаваць сем дзён, а „парлямантары” яшчэ, відаць, нічога не разумеюць.

Прашу вас рабіць усё, як трэба: павінен быць плян сходу, арганізатары, адказныя кіраўнікі ад БНФ за мерапрыемства. Людзі павінны іх ведаць, павінна быць створана грамадзкая ахова збору людзей (успомніце 24-25 жніўня 1991 г.).

Дарагія сябры! Ведаю пра вашу ахвярную працу і прашу не крыўдаваць адзін на аднаго, а дзейнічаць, згодна неабходнасьці, дзеля Бацькаўшчыны.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*18 лістапада 1996 г., Нью-Ёрк.*
*7 гадзін па менскім часе (адпраўлена па факсе).*

## № 3
## ЗВАРОТ
## ДА ЗМАГАРОЎ НА ПЛОШЧЫ
## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Людзі Беларусі! Я ведаю, вы прыйшлі на плошчу як свабодныя грамадзяне з пачуцьцём годнасьці, каб рашуча абараніць Беларусь ад здрады, подласьці і дыктатуры.

Мы павінны ведаць, хто перад намі. Перад намі слабы, канфармісцкі, бесхрыбетны парлямант. Недапушчальна, каб ён разьбегся і расчысьціў дарогу дыктатуры.

Людзі на плошчы ня могуць абараняць бесхрыбетных. Але яны могуць прымусіць іх выконваць абавязкі, законы і Канстытуцыю, якая вымагае адхіліць Лукашэнку ад улады. Людзі могуць патрабаваць цьвёрда і грозна – *выконвайце Канстытуцыю!*

***Не падтрымка парляманту, а – патрабаваньне!***

Беларусь не забылася, што гэты парлямант амаль адзінагалосна ратыфікаваў ганебную здраду – антыканстытуцыйны пакт Лукашэнкі-Ельцына. Беларусь не забылася, што *асобы, якія ходзяць цяпер у дысыдэнтах, напралом прывялі Лукашэнку да ўлады, топчучы ўсё людзкае, беларускае.*

Беларусь бачыць, як у час змаганьня так званыя „дэмакраты" адзін за другім шмыгаюць у Маскву, прапануюць свае паслугі – „дэмакратычна" прадаць Беларусь. Не пакаяньне патрэбна ад іх Беларусі, а адкупленьне і справа.

***Змыйце ганьбу, спадары-дэпутаты!***
***Аб'явіце імпічмант Лукашэнку!***

Парляманту засталося існаваць некалькі дзён. На іхным баку права, закон, Канстытуцыя, абавязак перад нацыяй і вольныя людзі. Чаму яны не спыняюць узурпацыю і дыктатуру!? Чаму не выконваюць свой сьвяты канстытуцыйны абавязак?

Паважаныя спадарыні і спадары! Калі зь Вярхоўнага Савета спусьціцца зноў хтосьці да вас і пераканаўча пачне ўгаворваць вас разыйсьціся, накіруйце яго назад просьценька ў Авальную залю і зрабіце наказ, каб ішоў працаваць і прымаць рашэньні, і каб без патрэбы не выходзіў. Ня ён вас зьбіраў, не яму вас і распускаць.

Дарагія сябры! Дарагія змагары! Маё сэрца з вамі. Не пакідайце плошчу, пакуль парлямант не распачне працэдуру імпічманту і пакуль не завершыць яе. Памятайце, лёс Беларусі на вашых плячах.

Падтрымлівайце *Беларускі Народны Фронт*! Верце яму, ён ніколі вам ня здраджваў. Ён заўсёды быў за Беларусь. Верце тым, хто дзеля Бацькаўшчыны ахвяраваўся сваёй крывёй, асабістай свабодай і родным домам. Верце тым, хто сьмелы, хто змагаецца і церпіць.

*19 лістапада 1996 г., Нью-Ёрк,*
*7 гадзін па менскім часе*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***

## № 4
## НАПІСАНАЕ ПРАЗ НЕАБХОДНАСЬЦЬ
## (АДЗІН ЗЬ ЛІСТОЎ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ)

**Я. М. Спадару Сямёну Георгіевічу Шарэцкаму**

Паважаны Сямён Георгіевіч!

Не знаходжу разумнага вытлумачэньня Вашаму ўчынку – згадзіцца адклікаць іск пра імпічмант узамен на безадказнае абяцаньне Лукашэнкі лічыць рэфэрэндум, які ён самавольна праводзіць, „кансультатыўным".

Хіба можа быць кампраміс з законам ці гандаль правам? Хіба тое, што прэзыдэнт парушыў дзясяткі разоў Канстытуцыю, правы чалавека і законы, перастала быць фактам? Парушальнік сваім самадурствам загнаў сам сябе ў яму, а Вы ў рашаючы час разам з Чарнамырдзіным і кампаніяй яго адтуль ні з таго ні з сяго выцягнулі, каб ён Вас першага ж і прыкончыў. (Няўжо Вы хоць на секунду паверылі, што Лукашэнка будзе выконваць абяцаньні?) Больш няўдалага ўчынку на вядомым мне палітычным даляглядзе, чым той, што Вы зрабілі, я ня памятаю. Няўжо Вы рашылі дабраахвотна зганьбіць самога сябе? Навошта?

Няўжо Вы не разумееце, што, як толькі Канстытуцыйны Суд прыняў бы рашэньне і задаволіў бы іск пра імпічмант, лёс лукашэнкаўскага прэзыдэнцтва, яго хунты і дыктатуры быў бы вырашаны і сытуацыя хутка перамянілася б (пры разумных дзеяньнях, вядома). Вы маглі б пачаць рэформы, падрыхтаваць пэрспэктывы краіне, аднавіць растаптанае шалёным. Вы хоць разумееце, што ў адну і тую ж ваду цяжка ўвайсьці двойчы?

Што Вы натварылі? У Чарнамырдзіна свая крамлёўская карысьць. Ім патрэбны Лукашэнка (хоць яны грэбуюць ім і ня любяць яго), бо ён здае расейцам Беларусь, нашу эканоміку, нацыянальныя інтарэсы. Чаму Вы дазволілі ім абыйсьціся з Вамі, як з хлапчуком?

Сямён Георгіевіч! Для палітыка, які стаіць ля стырна кіраўніцтва дзяржавай, няма нічога больш важнага, чым Бацькаўшчына, народ і нацыя – няма нічога важнейшага за шчасьце і інтарэсы Беларусі. Не глядзіце на Маскву, як Лукашэнка. Глядзіце на Беларусь.

За апошні месяц мне ўдалося ў пэўнай ступені ініцыяваць і ўдзельнічаць у трох палітычных сходах па праблемах Беларусі (Круглы стол у „Гуман райтс вотч", палітычны „гірынг" у Кангрэсе ЗША і 22 лістапада канфэрэнцыя ў Карнэгі-Фондзе, які гуртуе палітычную эліту Амэрыкі). Усюды выказана падтрымка дэмакратыі на Беларусі. Усюды афіцыйна сказана, што Амэрыка не прызнае нелегітымнага рэфэрэндуму. 22-га лістапада была выказана думка Дзярждэпартаманту аб тым, што Беларусі трэба ўвогуле адмяніць незаконны рэфэрэндум. У палітычных колах Амэрыкі занепакоены націскам Расеі на Беларусь і гатовыя падтрымаць беларускія інтарэсы. Пра гэта я казаў 22-23 лістапада ў інтэрв'ю на *CNN*. Гэта разумеюць у сьвеце. Ды, відаць, дрэнна чуюць на Беларусі. Інакш не рабілі б неабдуманых учынкаў.

Я ведаю, што Вы спахапіліся і хочаце ўсё паправіць. Ня буду Вам больш нічога раіць, бо тут і так усё зразумела.

Зычу толькі Вам выправіць усё да рэшты*, быць цьвёрдым,

---

* На жаль, усе мае лісты С. Шарэцкаму (як і гэты, што тут), якія я пісаў, сьціснуўшы сэрца і разумеючы, што пішу неадпаведнаму чалавеку, і ўсе мае стараньні не мабілізавалі на хуткія дзеяньні ні яго, ні дэпутатаў ВС 13-га скліканьня. Калі спахапіліся, то часу засталося вельмі мала, ды й позна. Шарэцкі зглуміў (іншага слова не падбярэш), змарнаваў і сапсаваў усё, што можна было сапсаваць і змарнаваць. Апошні адмоўны ўчынак, які ён утварыў, будучы на пасадзе старшыні ВС ўжо за мяжой, – гэта сьведама праваліў магчымасьць стварэньня легітымнага беларускага ураду ў эміграцыі, які даў бы моцныя шанцы ў змаганьні з рэжымам. Памятаю, пасьля чарговай нарады аб стварэньні ураду, якая адбылася ў 2000 годзе па маёй ініцыятыве ў Вашынгтоне з адпаведным колам асобаў, Станіслаў Шушкевіч, вышаўшы пасьля паседжаньня, раптам ўзарваўся: „Зянон Станіслававіч, што вы носіцеся з гэтым... (тут ён ўжыў не зусім нарматыўнае слова). Ён жа ўсё збэсьціў, усіх нас прадаў, гэта ж хітразады тып, савок, які клапоціцца толькі пра сваю скуру, а цяпер займаецца тым, каб перавезьці маёмасьць ў Амэрыку і самому сюды

перакананым, актыўным і пасьлядоўным беларусам. Імпічмант абавязкова павінен адбыцца. Інакш – рэпрэсіі, разбурэньне краіны і дыктатура.

вільнуць. Пляваць яму на ўсіх і на Беларусь! Ён вас водзіць за нос, а вы ня бачыце. Вы наіўны чалавек".

Я ня быў наіўным чалавекам і шмат што бачыў, але я доўга займаўся Шарэцкім, бо спадзяваўся: павінен жа ён разумець.., такі цяжкі стан на Бацькаўшчыне... Ну ёсьць жа, пэўна, у чалавека недзе кропля сьмеласьці, душы і сумленьня. Ну калі ня ў сэрцы, то хоць ў калене, у назе, хоць ў чаравіку? Калі б я ня выкарыстаў ўсе магчымасьці, то не дараваў бы сабе. Але на гэты раз Шушкевіч меў рацыю. Калгасьнік № 2 ў ганебным пантэоне рэжымнай ўлады па свойму абдурыў ўсіх і, здаецца, нават самога сябе. Прыехаўшы ў Амэрыку, ён пасяліўся ў Кліўлендзе ў габрэйскім квартале, дзе яму дапамаглі дастаць таннае сацыяльнае жыльлё, стаў пісаць артыкульчыкі па-руску ў бясплатных рэклямных габрэйскіх газэтах аб цывілізацыйнай ролі габрэяў у Беларусі, у беларускай дыяспары стаў выступаць супраць палітікі (увогуле супраць палітікі), супраць Рады БНР, супраць Івонкі Сурвілы, Пазьняка і Народнага Фронту. Натуральна, ніхто зь беларусаў яго ў Кліўлендзе сур'ёзна не ўспрыняў. Неўзабаве ён пераехаў на захад Амэрыкі да сваіх сыноў-бізнэсмэнаў, жуе сабе рэшту свайго жыцьця, сядзіць ціха, піша тэксты з крытыкай трацкізму-камунізму, на аснове якога ўсё жыцьцё будаваў свой сьціплы дабрабыт і адметную псіхалогію.

Не крыўдуйце на мяне за словы, выказаныя наўпрост, і за адкрытасьць. Я быў вельмі ўражаны.

З павагай

***Зянон Пазьняк***

*24 лістапада 1996 г.,*
*Нью-Ёрк,*
*9.00 менскага часу*

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ:

## ПАРУШЭНЬНЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА, БЯСПРАЎЕ І ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСАЎ

Антыпраўны рэжым на Беларусі пачаў фармавацца адразу, як толькі (на папулісцкай хвалі барацьбы з карупцыяй) прыйшоў да ўлады былы дырэктар саўгасу і звязаны з КГБ А. Лукашэнка. Прасавецкі і прарасейска арыентаваны функцыянер, стаўшы прэзыдэнтам Беларусі, пачаў абапірацца на найбольш рэакцыйныя, па-савецку настроеныя колы ваенных камуністычных пэнсіянераў, маргінальныя пласты насельніцтва, "сацыялістычную" вёску і расейскія спэцслужбы. Выразна вызначыўся курс на ліквідацыю дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі, на згортваньне кволых эканамічных рэформаў і зьнішчэньне беларускай культуры, перш за ўсё, беларускай мовы, школы, друку і гуманітарнай навукі. Адбываецца гвалт над правамі чалавека і ўмацаваньне адзінаасобнай ўлады прэзыдэнта.



*13а. „Гарылы" ў акцыі супраць моладзі.*

***Палітыка, якую праводзіць Лукашэнка, ёсьць адлюстраваньне ўнутранай акупацыі Беларусі Расеяй.*** Гэта выяўляецца ў кадравых разьмеркаваньнях дзяржаўных пасадаў, у здачы нацыянальных інтарэсаў і нацыянальнай уласнасьці расейскаму прыватна-дзяржаўнаму капіталу, у ліквідацыі дзяржаўнай мяжы, у заключэньні дыскрымінацыйных, нераўнапраўных пагадненьняў з Расеяй, у зьнішчэньні беларускай нацыянальнай структуры духоўнага і культурнага развіцьця народу, ў зьняважэньні беларускай нацыі. У гэтым – сутнасьць усёй палітыкі аўтарытарнага рэжыму і корань усіх парушэньняў правоў чалавека на Беларусі.

Пасьля прыходу да ўлады, хунта Лукашэнкі адразу павяла палітыку адкрытай нянавісьці да ўсяго беларускага. У першы 1995/1996 навучальны год Лукашэнка зачыніў сотні беларускіх школ. У Менску іх засталося толькі 26, і толькі дзякуючы гераічнаму змаганьню бацькоў і настаўнікаў. Набор вучняў ў беларускія клясы скарацілі ў 1995/1996 годзе ў тры разы (было 57 адсоткаў, стала 21). Паўсюдна, сілком і ашуканствам, адчыняюць і зноў навязваюць беларусам рускія школы. Па асабістым распараджэньні Лукашэнкі былі зьнішчаныя новыя беларускія падручнікі для школаў і рэкамэндавана вярнуць рускія камуністычныя. Скарачаецца колькасьць беларускай пэрыёдыкі і беларускіх кніг, уведзена чыноўніцкая цэнзура. Шмат якія беларускія навуковыя і энцыклапэдычныя выданьні перайначваюць з пазыцыяў рэжыму і камуністычнага рэтраградства, падрыхтаваныя ж выданьні не пускаюць ў друк. Пад ціскам прэзыдэнцкага актыву згортваецца дзейнасьць беларускіх гуманітарных навукова-дасьледчых цэнтраў.

Адбываецца перасьлед за размову на беларускай мове, за пашану да нацыянальнага *Бел-Чырвона-Белага сьцягу*, да беларускага гэрбу *"Пагоня"*, за павагу да нацыянальных традыцыяў, за

сьведчаньні нацыянальнай этнічнай сьвядомасьці. Прадстаўнікі ўладаў і дзяржаўныя чыноўнікі, якія падтрымліваюць Лукашэнку, адмаўляюцца даваць якія-небудзь тлумачэньні і весьці размову зь людзьмі, калі грамадзяне зьвяртаюцца да іх на беларускай мове.

Праводзіцца адпаведная кадравая палітыка. Кіраўнікі і афіцыйныя асобы беларускага паходжаньня замяняюцца рускімі людзьмі, адданымі прэзыдэнту з антыбеларускімі поглядамі.

Этнацыд адбываецца ў абставінах поўнага бяспраўя. Людзей месяцамі трымаюць у турмах без суду, зьбіваюць і катуюць, адмаўляюць у паслугах адваката, фальсіфікуюць пратаколы і паказаньні, ілжэсьведчаць пры садзеяньні агентуры і пагражаюць сьмерцю. Па волі Лукашэнкі сістэматычна праслухоўваюцца памяшканьні і тэлефоны палітычных апанэнтаў, дэпутатаў парляманту, службовых асобаў, дыпляматаў. Заціснутая свабода слова і друку. Тэлебачаньне і радыё, усе асноўныя тыражныя газэты поўнасьцю манапалізаваныя прэзыдэнцкай хунтай. Друк незалежных дэмакратычных газэтаў выгнаны за межы краіны. Адбываецца прапагандысцкая апрацоўка насельніцтва і замбаваньне людзей праз аднабаковыя сродкі масавай інфармацыі.

Да журналістаў і іх сем'яў, якія аб'ектыўна асьвятляюць падзеі на Беларусі, стасуюцца запалохваньні, шантаж, пагрозы і фізічныя расправы з боку аховы прэзыдэнта. Зламана права чалавека на свабоду думак, меркаваньняў, мітынгаў, сходаў і дэманстрацыяў. Грамадзтва расколваюць па канфэсійных прыкметах.

Лукашэнка цалкам ігнаруе законы, Канстытуцыю, нормы грамадзкіх паводзінаў. У парушэньне закону ім спыненая дзейнасьць свабодных прафсаюзаў. Членаў прафсаюзу перасьледуюць за арганізацыю забастовак і грамадзкую дзейнасьць, незаконна звальняюць з працы, даводзяць да сьмерці. Працоўным не выплочваюць зарплаты, на працягу 3-6 месяцаў, пагражаюць звальненьнем за палітычныя погляды.

Груба парушанае права асобы на здароў'е і здаровае жыццё, на чыстае навакольнае асяроддзе. Лукашэнка прымае захады, каб вярнуць людзей жыць у радыяцыйна забруджаныя чарнобылем землі. Ён асабіста даў даручэньне міністрам абароны і ўнутраных справаў распрацаваць плян і правесьці шырокамаштабныя сумесныя вайсковыя вучэньні (манэўры) у трыццацікіляметровай радыяцыйнай чарнобыльскай зоне, адкуль выселеныя ўсе людзі з прычыны надзвычайнай небясьпекі для жыцьця. Прытым загадана спаліць там і ўзарваць шэсьць тысячаў радыёактыўных будынкаў, якія засталіся. Калі гэта зробяць, то асабліва небясьпечная зона пашырыцца яшчэ на 30-40 кілёмэтраў, не гаворачы ўжо пра страту здароўя салдатамі і афіцэрамі.



*14. «Не» зьнішчэньню Беларусі! Пратэст супраць антыбеларускага рэжыму. Менск.*


*15. Напад на пікет «людзей у цывільным». Менск.*

Такія пляны і дзеяньні адносна ўласнага народу – вынік псіхічнай неадпаведнасьці Лукашэнкі. Чарнобыльскі генацыд можа працягваць толькі апантаная нянавісьцю асоба. Аднак такія паводзіны цалкам укладваюцца ў антыбеларускую акупацыйную палітыку лукашэнкаўскага рэжыму і падтрымліваюцца афіцыйнай Масквой. Афіцыйная пазыцыя і палітыка вялікадзяржаўных імпэрскіх колаў Расеі ў дачыненьні да Беларусі, падтрымка імі Лукашэнкі ёсьць адна з галоўных прычынаў грубых парушэньняў правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларус”. – Сьнежань 1996, №440).*

# RĘKA MOSKWY

*(Rozmowa z Zianonem PAŹNIAKIEM, przebywającym na emigracji Przewodniczącym Białoruskiego Frontu Narodowego)*

– **Prezydent Łukaszenka podpisał nową konstytucję, rozszerzającą jego uprawnienia i powołał nowy parlament, w którym wiekszość stanowią jego zwolennicy. Jak poważny cios zadaje to opozycji?**

– Na Białorusi rzadzi przemoc – to kontynuacja okupacji moskiewskiej, tyle ze poprzez Łukaszenkę. W najbliszym czasie na pewno zostaną podjęte działania, by na początku przyszłego roku rozpocząć łączenie lub może tworzenie jakiejś konfederacji z Rosją. To przejaw moskiewskiej polityki dążącej do zagarnięcia Białorusi. Łukaszenka realizuje ją od dawna jako zaangażowany KGB i marionetka Moskwy. Premier Rosji Wiktor Czernomyrdin nie był w Mińsku aż do czasu, gdy pojawiła się groźba, że dyktatura zostanie obalona. Wtedy przyleciał nocą z Sieljezniowem i Strojewem, by ratować reżim. No i uratowali.

– **Jakie działania może teraz podjąć opozycja?**

– Opozycja – *Front Narodowy* – zamierza prowadzić permanentną walkę z reżimem. Będą organizowane wiece, demonstracje, pikiety i protesty. Nie szkodzi, że wiekszość posłów przeszła na stronę junty. Prawomocny parlament nadal może się zbierać, a celem będzie zjednoczenie Rady Najwyższej.

– **Wiekszość społeczeństwa popiera jednak prezydenta.**

– Twierdzenie takie jest pozbawione sensu. Wiekszość społeczeństwa popierała Hitlera, wybrało go 90 proc. Niemców, wiekszość – zapewne 120 proc. – opowiada się za Saddamem Husajnem, 99 proc. popierało partię komunistyczną, Zwiazek Radziecki, Moskwę itd. W centrum Europy przeprowadza sie eksperyment polegający na ogłupianiu ludzi, prowadzona jest polityka dezinformacji. Czy w takiej sytuacji można mówić, że naród coś wybiera?

– **Jeżeli tak dużo na Białorusi zależy od Moskwy, co zależy od Białorusinów?**

– Kiedy wiosną 1996 r. uciekałem z Białorusi przed śmiercią, prześladowaniami i więzieniem, zauważyłem, że na Zachodzie Białoruś została już skreślona z księgi życia politycznego. Ameryka odwróciła się. Ale sytuacja sie zmieniła, gdy *Front Narodowy* wyszedł na ulice i polała sie krew. Nikt nie uznał łukaszenkowskiego referendum. Teraz, kiedy mamy poparcie społeczności miedzynarodowej, Moskwa nie będzie już dominującym czynnikiem na Białorusi. W 1995 r., będąc w Polsce, słyszałem, jak Polacy mówili z pogardą o narodzie, który odwrócił się od swojej ojczyzny, od ojczystej mowy. Ale dzisiaj społeczeństwo polskie zupełnie inaczej nas ocenia. Premier Cimoszewicz powiedział, że uchodźcom białoruskim będzie przyznawany azyl polityczny. Sejm przyjął rezolucję popierającą demokrację i nie uznającą referendum. Komitet Helsinski wystąpił o utworzenie miedzynarodowej komisji, badającej przestrzeganie praw człowieka na Białorusi.

– **Jak ocenia pan inicjatywę prezydentów Polski, Litwy i Ukrainy, zmierzającą do wywarcia wpływu na prezydenta Łukaszenkę, by przestrzegał zasad demokratycznych?**

– Myśle, że państwa te rozumieją, iż to, co się dzieje na Białorusi, jest bezpośrednim zagrożeniem dla nich, ukazuje dążenie Rosji do poszerzenia swoich wpływów na zachód. Proszę sobie przypomnieć, co mówi Łukaszenka: że otworzy Rosji korytarz do Prus Wschodnich. A przecież Białoruś nie ma granicy z Prusami Wschodnimi. Kiedy na Białorusi zapanuje promoskiewska dyktatura, ani Polska, ani Ukraina nie będą „miały sprawy" z Moskwą – będą „miały sprawę" z Łukaszenką. Rosjanie bedą działali w białych rękawiczkach, mówiąc, że to wewnętrzna sprawa Białorusi.

– **Czy presja wywierana przez rządy zachodnie jest wystarczająca?**

– Nie wątpię w stanowisko Stanów Zjednoczonych, chociaż wiem, jaki jest stosunek administracji Clintona do Rosji. Zdanie Ameryki jest decydujące dla wielu organizacji w Europie. Myśle, że podjęte zostaną konkretne działania, by wpływać na reżim np. poprzez naciski gospodarcze. Mam nadzieję, że Zachód w większym stopniu dopomoże demokracji.



(Фота У. Кармілкіна)

*16. Арышт „ворага рэжыму". Менск.*

– **Czy spodziewa sie pan zaostrzenia protestów na Białorusi? Czy może dojść do krwawych starć?**

– Nie wykluczam takiej możliwości, gdyż bardzo dobrze znam Łukaszenkę. Obserwowałem go w parlamencie niemal przez sześć lat. Ten człowiek nie może żyć bez wrogów, bez krwi i prześladowań. Wrogowie są mu potrzebni, bo w przeciwnym razie nie może istnieć dyktatura i nie będzie dla niego poparcia. Na pewno dojdzie do konfliktu, ale nie spodziewam się wielkiego oporu, manifestacji z udziałem setek tysięcy ludzi. Sądzę, że walkę rozpocznie Front Narodowy, potem na ulice wyjdzie młodzież, wiarygodnie robotnicy (prawda wątpię). Chociażby dlatego, że sytuacja gospodarcza będzie się pogarszała, stopa życiowa się obniży (ale, przetrwają).

– **Uważa pan, że to sytuacja gospodarcza będzie miała decydujący wpływ?**

– Nie. Białorusini zdolni są wiele wycierpieć, nigdy nie liczą na pomoc państwa. Decydujące będą nie sprawy gospodarcze, ale narodowościowe. ***Idea narodowa***. To największa idea, która może zjednoczyć naród.

***Rozmawiał Paweł Bawolec***

*Londyn*

*Надрукавана: („Wprost". – 1996, №50, 15 grudzień).*

# ЗВАРОТ ДА ПАЛІТЫЧНЫХ, ГРАМАДЗКІХ І ПАРЛЯМАНЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ ПОЛЬШЧЫ, УКРАІНЫ, ЛАТВІІ І ЛЕТУВЫ

У Беларусі пры садзеяньні кіраўніцтва Расеі з 7-га па 24 лістапада 1996 года адбыўся дзяржаўны антыканстытуцыйны пераварот. Ідзе супрацьпраўнае ўсталяваньне абсалютнай улады Лукашэнкі. У Эўропе ў канцы XX стагоддзя ўзьнік рэжым і новы фюрэр, які адкрыта ўсхваляе парадак Гітлера, наладжвае аўтадафэ зь беларускіх кніг і зьнішчае культуру карэннага дзесяцімільённага народа, які даў назоў незалежнай дзяржаве. Прадаўжаюцца рэпрэсіі і перасьлед іншадумцаў, якія залічваюцца ў ворагі прэзыдэнта. Паралізавана дзейнасьць праляманту. Ствараюцца незаконныя органы ўлады і антыпраўныя сілавыя структуры, не выконваюцца законы і Канстытуцыя, абмежавана свабода слова, груба парушаюцца правы чалавека, праводзіцца палітыка этнацыду і перасьледу беларусаў, зачынена і ліквідавана большасьць беларускіх школаў, зьнішчаны беларускія школьныя падручнікі, выпушчаныя пасьля краху КПСС за часы незалежнасьці.

Паралізавана прадпрыймальніцкая дзейнасьць, фінансы, эканоміка. Нацыянальная ўласнасьць захопліваецца расейскай мафіяй. Гаспадарчы развал некалі эканамічна магутнай Беларусі ёсьць сродак палітыкі, мэтад падрыхтоўкі да захопу нацыянальных багацьцяў краіны расейскім мафіёзным капіталам.

Тое, што адбываецца на Беларусі ў апошнія два з паловай гады, ёсьць халодная вайна, унутраная акупацыя Беларусі Расеяй, вынік крамлёўскай палітыкі.

За плячыма Лукашэнкі стаіць расейская дзяржаўная мафія і імпэрская палітыка Расеі, яе прэтэнзіі на вызначальную ролю ва Ўсходняй Эўропе, на падзел сьвету на сфэры ўплыву, на інтэграцыю па прынцыпах мафіёзнага нэакаляніялізму. Невыпадкова, што Лукашэнка найбольш блізкі з пракамуністычна-шавіністычнымі коламі Расеі, якія імкнуцца да рэваншу, да аднаўленьня СССР і расейскай імпэрыі, да палітыкі агрэсіі і дыктату, да павелічэньня ціску на Ўкраіну, Польшчу, на краіны Балтыі. Невыпадкова, што ў ноч з 21 на 22 лістапада Расея ўмяшалася ў беларускія справы і выратавала лукашэнкаўскі рэжым на Беларусі, які вісеў на валаску.

Крэмль зацікаўлены ў такіх кіраўніках Беларусі, якія вектар разьвіцьця сваёй краіны паварочвалі б на ўсход, у бок Расеі, у бок ваеннага саюзу з Расеяй, у бок інтэграцыі са сьмяротна хворай і мафіёзнай расейскай эканомікай. Лукашэнка якраз такі.

Ён выступае як разбуральнік беларускай дзяржаўнасьці, як дзеяч, які гатовы ажыцьцяўляць расейскія інтарэсы ва ўласнай краіне і Ўсходняй Эўропе. Тое, што нязручна рабіць вопытнай Маскве, яна зробіць рукамі закамплексаванага Лукашэнкі.

Беларускі Народны Фронт – пасьлядоўная дэмакратычная сіла і нацыянальная апазыцыя да рэжыму Лукашэнкі – стаіць на дыямэтральна супрацьлеглай пазыцыі. Заходні вектар разьвіцьця, вяртаньне ў сістэму эўрапейскіх дачыненьняў, нацыянальна-культурнае адраджэньне, дэмакратыя, правы чалавека, рынкавая эканоміка, інтэграцыя ў Эўропу, уступленьне ў сістэму бясьпекі НАТО – вось галоўныя прынцыпы і галоўныя адрозьненьні дэмакратыі ад дыктатуры на Беларусі. Дыктатура цягне назад, на ўсход, у залежнасьць, у імпэрскую Расею. Дэмакратыя – на захад, да незалежнасьці, да свабоды і нацыянальнага адраджэньня. Паміж гэтымі сіламі і разыгрываецца канфлікт і драма на Беларусі.

Дыктатура на Беларусі ёсьць пагроза дэмакратыі і спакою ва Ўсходняй Эўропе. Дыктатура ёсьць выпрабаваньне для эўрапейскай дэмакратыі. Пагадзіцца з дыктатурай на Беларусі – значыць спыніць гаворку пра дэмакратыю. Прызнаць беззаконьне на Беларусі – значыць пагадзіцца з верагоднасьцю бясправўя ў сваіх краінах. Прызнаць дыктатуру на Беларусі – значыць прыняць пэрспэктыву расейска-імпэрскага наступу і згадзіцца з пагрозай суверэнітэту.

Зьвяртаюся да палітычных, грамадзкіх і парляманцкіх арганізацыяў Польшчы, Украіны, Латвіі і Летувы. Выявіце салідарнасьць з барацьбой беларусаў супраць прамаскоўскай дыктатуры і ўнутранай акупацыі Беларусі. Выступайце супраць прамаскоўскага антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі, супраць расейскай акупацыйнай палітыкі.

Беларускі Народны Фронт, які моцна трымае ў руках Беларускі сьцяг, які сцьвярджае дэмакратычную нацыянальную ідэю, які, нясучы страты, ахвярна змагаецца за свабоду і месца Беларусі ў культурнай Эўропе, з удзячнасьцю прымае вашую маральную падтрымку і разуменьне.

Мы зыходзім з агульнасьці нашых гістарычных і ідэйных інтарэсаў як краінаў-суседзяў.

Мы ня можам цярпець, зьдзеку над народам, правам і чалавекам, дзе б яно ні было. Бо мы ня можам перастаць быць людзьмі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*12 сьнежня 1996 г. Нью-Ёрк*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 1(5).*


(Фота з Сецiва)

***17. «Стой! Кто такой?!»***

# БЕЛАРУСЬ НА ШЛЯХУ ВЫПРАБАВАНЬНЯЎ

**21-24 лістапада 1996 года пры садзеяньні Расеі на Беларусі адбыўся антыканстытуцыйны дзяржаўны пераварот. Уся ўлада ў краіне захоплена прамаскоўскай групай Лукашэнкі.**

**Спынена дзейнасьць парляманту, ліквідаваная Кантрольная палата, якая ажыцьцяўляла нагляд за дзяржаўным бюджэтам, паралізавана праца Канстытуцыйнага Суда і іншых ворганаў улады. Былы дырэктар саўгаса і дробны супрацоўнік КГБ непадзельна ўзурпаваў абсалютную ўладу ў дзяржаве.**

* * *

У 1994 г. Масква, выкарыстоўваючы Лукашэнку, свае спэцслужбы і рускую пятую калёну на Беларусі, распачала ўнутраную акупацыю нашай краіны, захоп ключавых пазыцыяў ва ўладзе, у сілавых структурах улады, у грамадзтве і эканоміцы. Неўзабаве Расея і яе дзяржаўная мафія завалодалі часткова беларускімі межамі, памежнай і мытнай службай, праніклі ў беларускі транзыт, ў беларускую нафтахімічную прамысловасьць.

З пачатку 1996 г. пачалася інтэнсіфікацыя захопніцкай палітыкі Масквы. Рыхтавалі на вясну дагавор і ліквідацыю Беларусі праз аб'яднаньне з Расеяй. Гэтыя пляны ім не ўдалося ажыцьцявіць, дзякуючы рэзкаму і адчайнаму супраціўленьню Беларускага Народнага Фронту і беларускай моладзі.

Народнаму Фронту ўдалося ініцыяваць і ажыцьцявіць дзьве задачы, распрацаваныя БНФ яшчэ ў 1995 годзе: згуртаваць шырокую антылукашэнкаўскую апазыцыю і павярнуць сусьветную грамадзкую думку супраць лукашэнкаўскай дыктатуры і бяспраўя, выказаць падтрымку дэмакратычнай незалежнай Беларусі.

У лістападзе рэжым Лукашэнкі, нягледзячы на агрэсіўнасьць і паказную рашучасьць, ужо вісеў на валаску. 22 лістапада Канстытуцыйны Суд павінен быў прыняць (у гэтым ніхто не сумняваўся) заключэньне аб парушэньнях Канстытуцыі і імпічманце прэзыдэнта. Становішча для рэжыму склалася крытычнае.

Тады Крэмль, парушыўшы ўсе правілы і дыпляматычныя ўмоўнасьці, адкрыта ўмяшаўся ў справы Беларусі. Вечарам 21 лістапада ў Менск няпрошана прыляцела ўсё кіраўніцтва Расеі на чале з Чарнамырдзіным* ратаваць рэжым Лукашэнкі. І выратавалі, дзякуючы, перш за ўсё, алягічнаму, палітычна інфантыльнаму і здрадніцкаму ўчынку старшыні беларускага парляманту, які паддаўся ўгаворам Масквы, і блытанай капітулянцкай пазыцыі старшыні беларускага Канстытуцыйнага Суда. Гэтыя людзі былі дрэнна падрыхтаваныя да дзяржаўнае дзейнасьці, не адчувалі адказнасьці за нацыю. Таму так бяздарна сапсавалі ўсю справу, сутыкнуўшыся з першым сур'ёзным выпрабаваньнем.

24 лістапада антыканстытуцыйны прамаскоўскі дзяржаўны пераварот, які праводзіўся шляхам валявой імітацыі рэфэрэндуму, быў завершаны.

* * *

Цяпер на Беларусі ўмацоўваецца дыктатура. Захоп улады Масквой адбываецца мэтанакіравана і пасьлядоўна, але пакуль што бяз рэзкіх рухаў, публічных заяваў і адкрытасьці. Аналягічна дзейнічаў Сталін у 20-я гады. Гэта інкубацыйны пэрыяд дыктатуры. Робіцца замена кадраў, расстаноўка на ключавыя пазыцыі прамаскоўскіх людзей. Хунта стварае цяпер свае структуры, распускае, зачыняе беларускія законныя ворганы ўлады і ўстановы. Ідзе падрыхтоўка Беларусі да здачы пад Расею. Рэпрэсіі супраць беларусаў набываюць тыпова таталітарны энкавэдзісцкі характар. На людзей ужо не нападаюць адкрыта на мітынгах і дэманстрацыях батальёны спэцназу. Людзей хапаюць потым, на вуліцах, паадзіночку групы суб'ектаў у цывільным, зьбіваюць, развозяць у турмы і спэцпрыёмнікі, а потым без адваката твораць закрыты лукашэнкаўскі суд.

За Лукашэнкам, і асабліва пасьля лістападаўскага перавароту, расейцы паводзяць сябе на Беларусі, як у сваім хляве. Прыязджаюць, не пытаючыся, калі захочуць, розныя маскоўскія кіраўнікі, палітыкі, пастаянна дэманструюць сваю непавагу да беларускага суверэнітэту, грэблівасьць і ёрніцтва да нашай культуры, мовы, нашых незалежных ідэй.

На Беларусі Масква імкнецца ўзяць рэванш за паражэньне ў Чачэніі і не хавае сваіх захопніцкіх плянаў. Беларусь чакаюць новыя цяжкія выпрабаваньні, якія пачнуцца з новага году. Аднак Расея пралічылася.

Супраціўленьне дыктатуры ў 1996 г. зрабіла сваю справу. Цяпер дасягнуць мэты Расея можа толькі грубым ашуканствам, паламаньнем права і абапіраючыся на непрызнаны ў сьвеце антыканстытуцыйны лукашэнкаўскі рэжым. А гэта дрэнная, грубая, прымітыўная палітыка ў Эўропе канца XX стагоддзя. Посьпехі яе недаўгавечныя.

* * *

Тым часам нам змагацца так, як да 24 лістапада, ужо нельга. Ня тая сытуацыя. Вораг ськінуў маску і грэбліва кінуў выклік усёй беларускай нацыі, якую, не хаваючыся, лічыць натоўпам сваіх халуёў.

Лістападаўскі пераварот шмат каму адчыніў вочы на элемэнтарныя рэчы, пра якія ім увесь час казаў Беларускі Народны Фронт. Няма ворага больш небясьпечнага для Беларусі, чым рускі імпэрыялізм. І ніхто так не вынішчаў нас, нашую мову, нашую зямлю і нашую культуру, як „вялікі брацкі" сусед.

***Ёсьць сьветазарныя ісьціны і вечныя каштоўнасьці, якіх трэба трымацца, каб быць чалавекам. Гэта Бог, гэта нацыя і ўсе людзі, гэта беларуская мова, гэта беларуская культура, гэта памяць пра продкаў і нашая зямля, якую яны нам пакінулі. Гэта іхныя магілы, якія нельга бурыць, таптаць.***

Беларуская ідэя цяпер у барацьбе з расейскай акупацыяй і яе калгасна-саўгасным прамаскоўскім рэжымам павінна аб'яднаць усіх беларусаў. Усіх, незалежна ад сацыяльна-палітычнай арыентацыі, паходжаньня, партыйнасьці і роду ранейшых заняткаў. Для нас цяпер, калі над нашай краінай, над нашай нацыянальнай незалежнасьцю зноў навісла маскоўска-імпэрскае акупацыйнае мурло, ніякія крытэрыі больш ня маюць значэньня, акрамя крытэрыя беларускай культуры і беларускай свабоды.

Цяпер, як у Каліноўскага:

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь!

– Так. Узаемна.

*16 сьнежня 1996 г., Нью-Ёрк.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 1(5).*

# 1997

## БЕЛАРУСЬ ЖЫВЕ І ЗМАГАЕЦЦА

Адразу пасьля лістападаўскага перавароту на Беларусі Крэмль, разам з лукашэнкаўскай хунтай, пачаўператасоўку кіруючых кадраў. Зьмененыя старшыня КДБ і Генэральны пракурор, міністар абароны, міністар фінансаў, старшыня Вярхоўнага і Канстытуцыйнага судоў, цэлы шэраг іншых міністраў і намесьнікаў. Гэты працэс яшчэ доўжыцца. Прытым паўсюдна прызначаюць і ставяць кіраўнікамі рускіх і агентаў расейскіх спэцслужбаў. У якасьці „беларуса" па паходжаньні тут фігуруе толькі новапрызначаны міністар замежных справаў **Іван Антановіч**, фігура надзвычай адыёзная, былы капэсэсаўскі функцыянер, камуніст і тайняк, які па здольнасьцях да хлусьні саступае, бадай, толькі Лукашэнку.

Былы міністар замежных справаў **Сянько**, прафэсійны дыплямат, выраблены апаратчык (закончыў школу КГБ у Маскве) і адданы службіст лукашэнкавай хунты чакае новага прызначэньня. Гэтак жа, як і яго намесьнік, рускі разьведчык **Цэпкала**, якога плянуюць накіраваць у ЗША.

Канфуз атрымаўся з вакансіяй прэм'ер-міністра. Крэмль і маскоўская фінансавая групоўка тайна піхалі сюды сваю стаўленьніцу, вядомую лукашэнкаўскую фаварытку банкірку **Віньнікаву**. Аднак Лукашэнка нешта не падзяліў зь Віньнікавай і, успыхнуўшы нянавісьцю, публічна заявіў, што зробіць яе прыбіральшчыцай. Даведаўшыся пра пляны сваіх маскоўскіх патронаў наконт Віньнікавай, Лукашэнка, што называецца, закусіў цуглі і арыштаваў „харошую рускую жэншчыну". Цяпер фаварытка калгаснага дыктатара сядзіць у турме КГБ у Менску з усімі патрэбнымі абвінавачваньнямі.

У лукашэнкаўскі „парлямант" уключаны зь небыцьця такія адпрацаваныя капэсэсаўскія кадры, як былы 1-ы сакратар ЦК КПБ **Малафееў**, вядомы **Дзямянцей** („шастой мікрафон"), былы старшыня Вярхоўнага суду запойны алкаголік **Каравай**, дырэктар Менскага піўзаводу і былая дэпутатка Вярхоўнага Савету СССР **Дубко** і г.д.

У эканоміцы працягваецца заплянаваны абвал. Словам, акупанты і разбуральнікі Беларусі працуюць. Эканамічны сэнс гэтай мафіёзнай палітыкі расейскага ўзору можна вызначыць адным словам – рабаваньне. Палітычны зьмест больш складаны. Праз эканамічны развал, раскраданьне багацьцяў ствараюцца ўмовы для інкарпарацыі Беларусі ў Расею.

У 1996 годзе мне неаднаразова прыходзілася казаць і пісаць пра расейскі плян акупацыі Беларусі і пра новыя расейскія ініцыятывы, якія павінны ўзьнікнуць у пачатку 1997 году. „Ініцыятывы" ўжо выказаныя. Б. Ельцын прапанаваў „аб'яднаць" Беларусь з Расеяй і сыграць у чарговы рэфэрэндум.

Беларускі Народны Фронт гатовы да грамадзкага змаганьня з расейскай нэакаляніяльнай палітыкай. Пытаньне, аднак, у тым, ці гатовае да гэтага беларускае грамадзтва?

Пасьля нахабнай заявы Ельцына БНФ праводзіць няспыннае пікетаваньне расейскай амбасады ў Менску з пратэстам супраць палітыкі і плянаў расейскай акупацыі Беларусі. Арыштаваныя й кінутыя ў турму на кароткія тэрміны дзясяткі фронтаўцаў. Але пікеты, мітынгі, дэманстрацыі адбываюцца мэтадычна. Людзі настроеныя рашуча. Схапіць сваіх не даюць. 10-га студзеня, напрыклад, на групу фронтаўцаў, што вярталіся зь пікету, напалі пераапранутыя ахоўнікі Лукашэнкі. Бойка пачалася такая, што спыніўся вулічны рух. Пікетчыкі (дзе, між іншым, было шмат жанчын і пажылых людзей) разагналі лукашэнкаўскіх паслугачоў і нікога не дазволілі схапіць.

Задача ў Фронце пастаўлена выразная і паведамлена адкрыта – падрыхтаваць грамадзтва да масавага супраціўленьня антыбеларускаму рэжыму і захопніцкай палітыцы Масквы. Мы добра ўсьведамляем, што цяпер ***толькі нацыянальная беларуская ідэя можа аб'яднаць беларусаў на змаганьне з рэжымам і акупацыяй***.

На 25 Сакавіка ў сьвяты Дзень Незалежнасьці Беларусі ўжо прызначаны вялікі мітынг і дэманстрацыя. Гэты рух за свабоду і незалежнасьць будзе пашырацца. Гнілая Расейская імпэрыя не павінна таптацца на нашай зямлі.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларус", – 1997, студзень, №441).*




***18. Дэманстрацыя БНФ.***

# СЛОВА ДА ЧЫТАЧА „БЕЛАРУСКІХ ВЕДАМАСЬЦЯЎ”

Пачаўся 1997 год. Які ён будзе для Беларусі? Магчыма, шмат хто задае сабе такое пытаньне. Мяркую, аднак, што нам, беларусам, даўно, і асабліва цяпер, ня варта спадзявацца на прароцтвы. Лепш паверым ва ўласныя сілы. Тады мы ўсё вернем і адбудуем.

Паверыць у свае сілы – азначае пазбавіцца ад ілюзіяў. Свабодны чалавек не павінен жыць ілюзіямі і міфамі. Па-першае, трэба яшчэ шмат каму зразумець, што ніхто нічога за беларусаў ня зробіць і ня будзе рабіць. Ніхто ня будзе змагацца ні за іх свабоду, ні за іх культуру, ні за іх дабрабыт, калі яны самыя ня будуць змагацца і гэтага хацець.

Трэба перастаць думаць, што „неяк жа ж будзе” ці што будзе толькі дрэнна і прыйдзе канец. Будзе так, як мы зробім.

Нядаўна трэснуў акупацыйны міф, які б я схарактэрызаваў як ілюзію беларускага ідыятызму – „Расія нам паможэт”.

Не „паможэт”, таму што вось ужо трэці год адкрыта вядзе халодную вайну супраць Беларусі, выкарыстоўваючы хунту Лукашэнкі і нэакаляніяльную палітыку. Імпэрская Расея ёсьць наш адвечны і пастаянны вораг. І пакуль існуе Расея і яе імпэрская палітыка – датуль незалежнасьць, свабода Беларусі будуць пад пагрозай.

Цяпер шмат каму трэба (і як найхутчэй) пазбаўляцца ад прымітыўнай лібэральнай ілюзіі, што „в России есть иные силы”, што „руская дэмакратыя нас падтрымае”.

Няма ў Расеі іншых сілаў, акрамя імпэрскіх. Ніколі руская імпэрская дэмакратыя (якая ў Расеі заўсёды была нікчэмнай) – ніколі яна не дапамагала беларусам, не дапамагае і ня будзе дапамагаць, бо яна ня ёсьць дэмакратыя ў эўрапейскім сэнсе. ***„Руская дэмакратыя” – гэта асаблівы род імпэрскай ідэалёгіі, якая спараджала то бальшавікоў, то Ельцына. Яе дзейнасьць – гэта бадзяньне паміж царом і таталітарызмам. Бо вышэйшая каштоўнасьць „рускай дэмакратыі” ёсьць не свабода, не правы чалавека, людзей і народаў, а расейская імпэрыя.***

Нармальным людзям на Беларусі тэрмінова трэба пазбаўляцца ад ілюзіі (калі хто яшчэ не пазбавіўся), што ўсё тое вар'яцтва, вынішчэньне і разбурэньне, якія мэтадычна робяцца ў нашай краіне, сталіся (як некаторыя думаюць) толькі з-за дурной дзейнасьці Лукашэнкі.

За дзейнасьцю Лукашэнкі, аднак, стаіць палітыка Крамля. Ідзе ўнутраная акупацыя Беларусі Расеяй праз хунту Лукашэнкі. Плян акупацыі выконваецца пасьлядоўна і па графіку. Я пісаў пра гэты плян падрабязна яшчэ ў траўні 1996 года у артыкуле „Беларускі шлях”, які паслаў у „Народную Волю” і шэраг іншых газэтаў і які, на жаль, як і іншыя мае матэрыялы, рэдактары пастараліся не надрукаваць*. Гэта – баязьлівыя паводзіны. Цікава, што свой плян расейцы імкнуцца ажыцьцяўляць нават у дэталях.

У гэтым становішчы перамагчы могуць тыя, у каго ёсьць духоўная ідэя, здольнасьць ахвяравацца і мець вытрымку. На Беларусі такой арганізаванай сілай зьяўляецца толькі Народны Фронт, які трымае ў руках сьцяг Беларускай ідэі – Незалежнасьці, Свабоды і нацыянальнага Адраджэньня. У 1996 годзе БНФ выдатна прадэманстраваў сваю здольнасьць да ахвярнага змаганьня за вольную Беларусь. У той жа час прыхільнікі лібэральных плятформаў і абстрактнай дэмакратыі, людзі па-за нацыянальнай салідарнасьцю, па-за беларускай ідэяй прадэманстравалі сваю няздольнасьць да барацьбы, ганебна правалілі агульную справу нацыянальнай апазыцыі.

На вайне няма трэцяй сілы, няма „трэцяга боку”. На вайне, як на вайне: альбо Беларусь – альбо Расея. І тут, у першую чаргу беларускім інтэлектуалам, трэба пазбавіцца ілюзіяў, што ў гэтай вайне адкінутая рэжымам намэнклятура, людзі з „інтэрскай” сьвядомасьцю і лібэральнымі ўяўленьнямі ахвяруюцца за Беларусь. Той, хто так думае, той робіць фатальную памылку. ***Лібэральная намэнклятура і лібэральная дэмакратыя ў канфлікце паміж Беларусяй і Расеяй заўсёды будзе займаць палавіністую пазыцыю і ўрэшце рэшт прадасьць нацыянальную справу. Так было, так будзе прадаўжацца, бо такая прырода лібэралізму.*** Калі Народны Фронт змагаўся на вуліцах, мерз дзень і ноч на плошчы, стаяў у пікетах, лібэралы йшлі побач. І адначасна езьдзілі ў Маскву, прапаноўвалі сябе купіць. Маўляў, яны б „інтэгравалі” лепш, чым Лукашэнка, яны б лепш прадалі Беларусь, купіце нас, купіце!

Пазалукашэнкаўская апазыцыйная лібэральная намэнклятура ёсьць тое асяроддзе, у якім Расея шукае і (у выпадку неабходнасьці) будзе шукаць замену Лукашэнку. Гэта нутром адчуваюць інтэры і лібэралы. Будзе недаравальнай памылкай, калі гэта позна зразумее шырокае беларускае адраджэньне.**

Народны Фронт павінен цяпер замацаваць посьпехі сваёй замежнай палітыкі, арганізоўваць шырокае змаганьне з расейскай акупацыяй і яе рэжымам на Беларусі.

Нягледзячы на нелегітымнасьць антыбеларускага рэжыму на Беларусі, нягледзячы на непрызнаньне яго міжнароднай супольнасьцю, Расея, выконваючы свой плян акупацыі, у пачатку новага 1997 году (як і прадугледжана графікам) прапанавала Лукашэнку аб'яднаць Беларусь з Расеяй. І тут жа атрымала згоду і сустрэчную ініцыятыву. Усё гэта цынічна разыгрываецца на вачах міжнароднай супольнасьці і на віду беларускага грамадзтва, якое Крэмль не прымае, відаць, у разьлік (ці лічыць мо' за ідыёта). Чакаюцца новыя акупацыйныя ініцыятывы Масквы. Ня трэба іх недаацэньваць, але ня трэба і палохацца.

Нарэшце, Расея знайшла шлях і партнёра, зь якім і скруціць сабе галаву. Усё, што яны робяць, ёсьць антыпраўнае, антыгуманнае і антызаконнае. Беларусь не Чачэнія. На жаль, не Чачэнія, але і, на шчасьце, не Чачэнія. Патэнцыял нашага грамадзтва яшчэ не раскрыты. Але калі ён раскрыецца, не сумняваюся – літасьці ня будзе.

Нарэшце, беларус пачынае разумець, што рускі імпэрыяліст – яго вораг, непрыяцель і разбуральнік. Калі ж краіна ў небясьпецы, дзейнічае адзін заклік: усе на барацьбу з ворагам. Усе на барацьбу з расейскай акупацыяй, усе на барацьбу з крымінальнай хунтай.

Вопыт змаганьня 1996 года паказвае, што Народны Фронт зноў павінен браць ініцыятыву і кіраўніцтва на сябе, але не спадзявацца больш на фантомы амбіцыйных палітыкаў і эгацэнтрычных

---

* Тут недакладнасьць. Артыкул надрукавала газэта фронтаўскага накірунку „Пагоня”, рэдактар М. Маркевіч. – *(З. П.)*

** Дзеячы Беларускага Адраджэньня гэта бачылі і разумелі адразу. Што датычыць іншых грамадзкіх актывістаў, то, нажаль, разуменьня ня ўзьнікла (2001 – 2004 гг. – падтрымалі капэесэсаўскіх намэнклятуршчыкаў, У. Ганчарыка, С. Домаша, М. Марыніча на пасаду Прэзыдэнта; 2006 гг. – падтрымалі на выбарах савецкую намэнклятуру – А. Казуліна і А. Мілінкевіча). – *(З. П.)*

індывідуалістаў. Посьпех змаганьня – ў шырокім грамадзкім руху супраціўленьня, які мог бы і павінен арганізаваць Беларускі Народны Фронт.

З новага году з ахвярнай дапамогай газэты „Nowe Państwo" мы прыступаем да выдаваньня „Беларускіх Ведамасьцяў" у дзьвюх мовах: польскай і беларускай. Да гэтага выйшла чатыры нумары па-польску. Бюлетэнь рыхтаваўся ў Нью-Ёрку і Варшаве. Праца вялася на грамадзкіх пачатках.

Цяпер мы стараемся пашырыць яго тэматыку і распаўсюджаньне ва Ўсходняй Эўропе, асабліва на Беларусі; мы імкнемся пакласьці чарговую цаглінку ў дом эўрапейскай свабоды, дэмакратыі і беларускага Адраджэньня.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 1(5).*

# ВЫШЭЙШЫ ЭШАЛОН УЛАДЫ Ў БЕЛАРУСІ

Антыканстытуцыйны, прамаскоўскі рэжым у Беларусі – гэта вынік дзейнасьці расейскіх спэцслужбаў за апошнія пару гадоў. Менавіта гэтыя скрытыя, найчасьцей знаныя толькі праз крыптанімы, ФСК-КГБ службы, адыгралі ў 1994 годзе галоўную ролю ў прасоўваньні да ўлады А. Лукашэнкі – шматгадовага заангажаванага адэпта і выканаўцы камуністычна-маскоўскіх структураў КГБ.

Лукашэнкаву выбарчую кампанію курыраваў генэрал **Кез**, які займаў тады пасаду начальніка контрразьведкі (пасьля выбараў, ужо прэзыдэнт Лукашэнка, прызначыў Кеза на пасаду намесьніка старшыні КГБ Беларусі). Службы КГБ-ФСК і дапамагалі фінансава выбарчай кампаніі Лукашэнкі, і стваралі аналітычна-дапамаговыя цэнтры гэтай кампаніі. Пасьля прыходу да ўлады, А. Лукашэнка паназначаў на высокія пасады ў адміністрацыі Беларусі якраз тых асобаў з спэцыяльных ворганаў. Усьлед за Кезам, у 1995 годзе, на намесьніка старшыні КГБ Беларусі быў прызначаны палкоўнік расейскага ФСК, нехта **Ерын**. Расеяц. Дарэчы, ён *не зьяўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь*, і яго прызначэньне на гэтую пасаду (супраць чаго БНФ пратэставаў) было зроблена насуперак Канстытуцыі Беларусі.

Рада Бясьпекі Рэспублікі Беларусь у вялікай прапорцыі складаецца з рускіх разьведчыкаў, афіцэраў ФСК-КГБ. Якраз праз гэтых людзей Масква кіруе палітыкай Лукашэнкі. Гэта ў першую чаргу Дзяржсакратар **Віктар Шэйман**, яго намесьнік **Анатоль Тозік** (былы выкладчык вышэйшай школы КГБ), **Канцараў** (грамадзянін Расеі), памочнікі прэзыдэнта **Малумаў**, **Урал Латыпаў** (выкладаў у вышэйшай школе КГБ), дарадца прэзыдэнта **Посахаў**, намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі палкоўнік **Уладзімер Замяталін** ды дзясятак іншых.

Практычна, амаль цалкам у руках расейскіх спэцслужбаў знаходзіцца і Міністэрства Замежных Справаў Беларусі. У амбасадах і консулятах Рэспублікі Беларусь пануе расейская мова, праводзіцца патрэбная Расеі палітыка. У гэтых, зь беларускімі шыльдамі, расейскіх прыбудоўках адкрыта ненавідзяць Беларусь, адбываюцца кпіны-насьмешкі зь беларускае мовы, культуры, ганьбіцца краіна. Часта, як гэта было нядаўна ў Нью-Ёрку, асобы зь беларускім дыпляматычным пашпартам, выпіваючы гарэлку разам з расейцамі, трапляюць у скандальныя антызаконныя хуліганскія здарэньні, ды абарону ім дае Расейскае Пасольства. Церпіць на гэтым і траціць павагу Беларусь.

Бясспрэчна, што і сам А. Лукашэнка знаходзіцца ў руках расейскіх структураў. Варта прыпомніць колькі штрышкоў зь ягонай біяграфіі: ці ня раз ён заяўляў, што ня ведае, якой ён нацыянальнасьці, па веравызнаньні Лукашэнка называе сябе „праваслаўным атэістам", служыў Лукашэнка ў памежных войсках КГБ СССР на пасадзе палітрука, займаў пасаду намесьніка начальніка Аршанскай турмы па матар'яльнай частцы, быў ублытаны ў несамавітыя, цьмяныя камбінацыі на розных пасадах савецкай камуністычнай адміністрацыі на Магілеўшчыне.

Бадай, найлепш аб сваіх сувязях і сімпатыях да КГБ заявіў А. Лукашэнка, выступаючы 20 сьнежаня 1996 году на ўрачыстам паседжаньні ў часе адзначэньня 79-й гадавіны КГБ (цытую для нашага чытача ў беларускім перакладзе): „Мой лёс, як палітыка, цесна зьвязаны з КГБ". Далей Лукашэнка сказаў, што супрацоўнікі КГБ зьяўляюцца „ядром беларускага грамадзтва", «КГБ – аснова моцнай прэзыдэнцкай ўлады». Напрыканцы Лукашэнка падзякаваў кэгэбістам за дапамогу ў часе лістападаўскага „рэфэрэндуму". *(Цытаты паводле газэты „Известия" 15.01.1997, „Беларуская деловая газета" 23.12.1996).*


(Фота Ю. Дзядзінкіна)

***19. «Сьмецьцe». Так называюць у Менску «плямісты АМАП».***

Бясспрэчна, што пры гэткім эшалоне вышэйшае ўлады, для нацыянальнай Беларусі месца няма. ***Унутраная акупацыя Беларусі Расеяй ідзе далей – гэта зьява падступная, небясьпечная для дэмакратыі і свабоды. І з гэтым трэба змагацца***.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Беларус". – 1997, люты, № 442).*

# РУБОН

*(Ліст да беларускай моладзі)*

Дарагія хлопцы! Адзін вядомы амэрыканскі пісьменьнік напісаў: „Мужчына павінен змагацца за Бацькаўшчыну і за жанчыну". І гэта сьвятая праўда. Хто зьберажэ Бацькаўшчыну, той зьберажэ ўсё. Хопіць скардзіцца. Бо ворагам ня скардзяцца. З ворагамі змагаюцца ўсімі даступнымі сродкамі.

Рускі імпэрыялізм і ягоная лукашысцкая хунта на Беларусі ўсталявалі акупацыйны рэжым. Яны вядуць вайну зь Беларускім народам, зьнішчаюць беларускую дзяржаву, разбураюць нашу культуру, зачыняюць беларускія школы, топчуць беларускую мову і беларускія сымвалы, рабуюць эканамічныя багацьці краіны і зьдзекуюцца зь беларусаў.

Ужо сотні гадоў Беларусь змагаецца з Расеяй. Уся наша гісторыя – гэта суцэльная вайна з Масквой. Цяпер Масква зноў лезе на нас. Расея зьяўляецца прычынай напружанасьці, тэрарызму і войнаў паўсюдна, дзе залазіць са сваёю палітыкай: на Каўказе і ва Ўсходняй Эўропе, у Сярэдняй Азіі і на Ўкраіне, у Крыме, у Малдове і Грузіі, Чачэніі і Беларусі, у Аўганістане і Таджыкістане. Мэтады аднолькавыя: падрыхтоўка стаўленікаў, захоп улады, дзейнасьць спэцслужбаў, стварэньне пятай калёны, захоп друку, радыё, тэлебачаньня, зьнішчэньне нацыянальных сілаў, інспірацыя ўнутраных канфліктаў, разбурэньне эканомікі, захоп маёмасьці і аслабленьне дзяржавы, захоп тэрыторыі праз навязваньне розных „саюзаў" і дагавораў з Масквой.

Моцныя скансалідаваныя народы даюць адпор акупантам. Мы былі сьведкамі, як гераічны народ Чачэніі змагаўся за свабоду і разграміў тэрарыстычную рускую армію. Джахар Дудаеў перамог імпэрскую Расею. Слава Джахару Дудаеву!

Расейцы заявілі, што на Беларусі возьмуць рэванш за паражэньне ў Чачэніі і зьліквідуюць ("інтэгруюць") нашу дзяржаву. Што ж, бандыцкія звычкі Крамля мы ведаем. Мы ня раз іх папярэджвалі: ня рушце беларусаў, бо будзеце бітыя. Ня лезьце ў Беларусь. Не паслухаліся. Тым горш для іх. Мы пераможам расейскіх акупантаў і іхнюю лукашысцкую хунту на Беларусі. І наша перамога стане асновай міру і спакою ва Ўсходняй Эўропе, пачаткам канца і распаду пачварнай імпэрыі на ўсходзе. З намі будуць усе антыімпэрскія сілы – усе народы: чачэнцы і дагестанцы, мардва і татары, калмыкі і башкірцы, якуты і тувінцы, таджыкі і грузіны, – усе тыя, каго абрабавалі, зьняважылі новыя крамлёўскія цары-таўстасумы і цяпер разьзявіліся на нас. Паход на Беларусь стане для Масквы апошнім.

Пасьля лістападаўскага перавароту ў мінулым годзе, калі была зьліквідаваная Канстытуцыя, спынена дзейнасьць парляманту і Канстытуцыйнага Суду, тады скончылася і агульная антылукашэнкаўская апазыцыя, якая дамагалася імпічманту прэзыдэнта. Цяпер патрабаваць імпічманту бессэнсоўна, бо легітымныя органы ўлады ня дзейнічаюць, апэляваць няма да каго.

Ва ўмовах акупацыйнага рэжыму Беларускі Народны Фронт зьмяніў свой падыход і са сьнежня мінулага года прыняў новую тактыку і новую палітыку, накіраваную на разгортваньне Нацыянальна-Вызвольнага руху на Беларусі. Мы добра ўсьведамляем, хто наш вораг і дзе нашы ідэалы, супраць каго мы выступаем і за што змагаемся.

Мы змагаемся з расейскай акупацыяй. Мы змагаемся з паліцэйскім рэжымам. Мы ***супраць*** імпэрскай Расеі і яе лукашысцкай хунты на Беларусі. Мы ***супраць*** дыктатуры.

Мы змагаемся ***за*** вольную, незалежную, дэмакратычную беларускую дзяржаву. ***За*** людзкае жыцьцё людзей.

Мы баронім незалежнасьць. Мы баронім чалавека. Мы баронім наш эўрапейскі лад жыцьця, нашу беларускую мову, нашу нацыянальную маёмасьць, наш беларускі ***Бел-Чырвона-Белы Сьцяг*** і гэрб ***Пагоню***.

Што б ні падпісаў, які б дагавор, які б „саюз" з Расеяй ні заключыў лукашысцкі рэжым, мы (і, мяркую, увесь сьвет) не прызнаем гэтых здрадніцкіх акупацыйных дамоваў, бо яны парушаюць Канстытуцыю Беларусі, а рэжым Лукашэнкі, яго структуры і дзеяньні – нелегітымныя.

Гэтак жа сама, як змагары ў Карэі, мы пасадзім лукашысцкіх здраднікаў у тыя ж камэры, у якія яны цяпер заганяюць нашу моладзь. Мы пасадзім іх навечна за здраду Беларусі і зьдзек над беларусамі.

Яны карыстаюцца безабароннасьцю нашых людзей на вуліцах і, узброеныя да зубоў, нападаюць, каб зьбіць і зацягнуць у турму. Пара ствараць самаабарону і вызвольную сілу. Ня будзе пачвара пляваць нам у твар!

За здраду Беларусі, народу і Канстытуцыі, за спробы і дзеяньні запрадаць Беларусь Расеі мы павінны патрабаваць адстаўкі прэзыдэнта і адмаўленьня яго ад пасады. Беларускае грамадзтва павінна падрыхтоўваць арышт гэтага ўзурпатара дзяржаўнае ўлады і не чакаць, што нешта зробіцца само сабой. Узурпатар будзе арыштаваны.

Адразу будзе адноўлены прававы мэханізм і праведзены новыя выбары ў парлямант. Не сумняваюся, што новы парлямант адновіць разбуранае заканадаўства і скасуе прэзыдэнцкую пасаду (каб не зьяўляліся іншыя лукашэнкі).

Будзе ўсталяваная парляманцкая рэспубліка на прынцыпах эўрапейскага парлямантарызму. Будуць скасаваныя ўсе ўказы, дэкрэты і распараджэньні ненавіснага рэжыму, усе ягоныя антыдзяржаўныя, антыканстытуцыйныя дагаворы і пагадненьні па ўсіх накірунках. Будуць адменены вынікі ганебных, незаконных і сфальшаваных рэфэрэндумаў, вернуты беларускі сьцяг і гэрб *Пагоня*, беларускія вышэйшыя вучэльні, беларускія школы і беларускія падручнікі, беларускае радыё і тэлебачаньне, беларуская мова ў дзяржаўным ужытку. Выключаныя вучні і студэнты – усе тыя, што пацярпелі ў барацьбе за свабоду Беларусі, – будуць зноў вернутыя ў вучэльні з гонарам і матэрыяльным адшкадаваньнем за кошт дзяржавы. Ніхто ня будзе больш беспакарана зьневажаць чалавека і біць людзей па галовах. Прадоўжацца рэформы, пачне дзейнічаць і разьвівацца прадпрымальніцтва, упарадкуюцца нармальныя падаткі, усталюецца сацыяльная абарона і дэмакратыя, адновяцца нармальныя міжнародныя сувязі, адчынецца шлях да эўрапейскага разьвіцьця.

Але за гэта трэба змагацца. Мы ніколі ня пойдзем разам з Масквой і ніколі ня будзем з імпэрскай Расеяй. Мы не застанемся ў СНД, ня будзем гуляць у крамлёўскія „саюзы". Нашы інтарэсы – у нашай вольнай, незалежнай Беларусі, а не ў крымінальнай Расеі. Наш шлях – вяртаньне ў Эўропу.

* * *

Дарагія хлопцы і дзяўчаты! Вы пераканаліся на ўласным вопыце, што ў Беларусі ўстаноўлены прарасейскі і менавіта акупацыйны рэжым. Арышты і паляваньне лукашысцкіх бандытаў *АМАПу* і *спэцназу* на тых, хто гаворыць на вуліцах па-беларуску, „зачысткі" тэрыторыяў ад людзей, аблавы і напады на ўсіх падазроных, зьверскае зьбіцьцё дзяцей, жанчын, старых, поўнае

бяспраўе і беспакаранасьць спэцслужбаў калгаснага дыктатара. І ўсё ў масавых маштабах – татальнае сачэньне за актыўнымі беларусамі, татальнае запалохваньне студэнтаў і выкладчыкаў, масавыя хапуны і асаблівая жорсткасьць, у якой выяўляецца зьвярыная нянавісьць да ўсяго беларускага – вось што вы бачыце штодня, адчуваючы гэта на сваіх душах, галовах і сьпінах, вось што вы маеце, жывучы на сваёй роднай, зьнявечанай зямлі. Такія дачыненьні да людзей практыкуюць толькі акупанты.

Ці доўга гэта мусім цярпець?

Вядомы беларускі філёсаф і змагар, былы партызанскі камандзір Мікола Крукоўскі расказваў мне, як ён стаў ваяваць з фашыстамі. Яму было 18 гадоў. У вёску прыехалі немцы і пачалі зьбіраць людзей на сход. На вачох юнака і яго сяброў салдаты Вэрмахта кàванымі ботамі высьпяткам ударылі беларускіх жанчын, зганяючы іх да грамады. „Мы пераглянуліся між сабой, – кажа Крукоўскі, – усё стала зразумела.”

Гэтага ж дня хлопцы пайшлі ў лес і да канца акупацыі размаўлялі з Вэрмахтам на мове аўтаматаў.

Зрэшты, якая б ні была мяжа цярпеньня, чалавек павінен бараніць Бацькаўшчыну, змагацца за яе. Нармальны чалавек не дарue, каб акупанты зьдзекаваліся з жанчын.

Вядома, што нашы лютыя ворагі, ненавісьнікі беларускай нацыі, незалежнасьці і свабоды, ня спыняцца ні перад чым, як не спыніліся яны ў Чачэніі. Тым больш страшнай будзе іхняя параза і іхні канец. Мы мусім рыхтавацца да вялікай усеагульнай барацьбы з імпэрскай Расеяй. Мы павінны паглыбляць і пашыраць нашае грамадзянскае змаганьне з рэжымам на ўсе сфэры жыцьця. Трэба перастаць выконваць антызаконныя загады і распараджэньні хунты. Дыктатуры вар'ята і расейскіх кадэбістаў супрацьпаставіць масавае грамадзянскае непадпарадкаваньне. Акупанты заганяюць арганізаваных людзей і свабодны народ у падпольле. Тым горш для хунты. Падземны, нябачны Фронт павінен дзейнічаць яшчэ больш эфэктыўна і пагрозьліва для рэжыму, чым адкрыты Народны Фронт. Зямля павінна гарэць пад нагамі хунты. Куды б ні ўпіралі яны свае шалёныя вочы, усюды б здавалася ім: акупантам – сьмерць і – Жыве Беларусь!

Нават у шэлесьце ветру, у шоргаце нарабаваных грошай ім чулася б: здраднікам – суд! Нават на дне кілішка чыталася б ім: да пары – пі, здраднік, пі!

Гандль нацыяй і здрада Бацькаўшчыны не даруецца.



20. *Малады Фронт.*

(Фота Ю. Дзядзінкіна)

Я хацеў бы таксама перасьцерагчы. Ня слухайце тхароў. Тых, хто гатовы ўсім дараваць чужы боль, нават гвалтаўнікам. Тых ня слухайце, хто згаджаецца з гвалтам, нявольніцтвам і зьдзекам, абы не было „вайны”. Тых ня слухайце, хто атрымаўшы палкай па гарбе, паўтарае, як заведзены, што ён „не против объединения, но с Россией демократической”.

Ня слухайце гэтых рабоў. Здаровыя людзі змагаюцца за свабоду, а не аб'ядноўваюцца з ворагамі. Яны шануюць гонар і бароняць Айчыну, калі трэба – са зброяй у руках.

У Расеі няма праціўнікаў захопу Беларусі, няма сяброў нашай незалежнасьці. Яны спрачаюцца між сабой толькі аб мэтадах захопу (“інтэграцыі”) і аб уладзе над намі.

Гартуйма сілы. Ёсьць шмат магчымасьцяў у вольных людзей наладзіць акупантам і Воршу, і Улу, й Магільна, і партызанскае пекла. Чачэнія ім здасца раем. Гартуйма наш Вызвольны Рух. І ня майма ілюзіяў, як тыя лібэральныя ідыёты, што абплёўвалі Народны Фронт і лезьлі сьлепа ў Маскву. Цяпер Масква таўчэ іх тварам аб асфальт, не зважаючы на лаяльнасьць. Калі б Расея, ня дай Бог, канчаткова зьнішчыла наш суверэнітэт і ўмацавалася б на Беларусі, тут бы яны зьліквідавалі ўсё: і беларускую маёмасьць, і школы, і культуру, і беларусаў. Быў бы гулаг, было б і звыш гулага. Тады ўжо позна „расплюшчваць” вочы.

Расплюшчвайце цяпер і рыхтуймася да бітвы за Беларусь.

Канец акупантам! Канец імпэрыі зла! Канец ворагам Беларусі!

Жыве Беларусь! Жыве вечна! Жыве беларускі Вызвольны Рух! Слава Беларускім героям!

*5 красавіка 1997 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 2(6).*

# ЧАРНОБЫЛЬ

***(Прамова ў гадавіну Чарнобыля)***

Сёньня жалобны дзень Чарнобыля злучае нас – усю Беларускую Нацыю – гэтак жа, як аб'ядноўвае няшчасьце асобных людзей на барацьбу за агульную долю. Выяўленьне праўды пра Чарнобыль аблегчыла нам магчымасьць выдаліць савецкую ядзерную зброю з тэрыторыі Беларусі і аб'явіць Беларусь бязьядзернай зонай. Але камуністы тады зрабілі ўсё, каб пазьбегнуць адказнасьці і вызваліць ад суду камуністычных вінавайцаў. І гэта дрэнна. Бо зло павінна быць пакаранае. Інакш яно становіцца нормай і нішчыць жыцьцё.

І вось жа не пакаралі яго, і цяпер яно кіруе ў Беларусі. Цёмныя элемэнты, паднятыя з дна, зрабіліся кіраўнікамі нацыі. Яны кашчунна кажуць нашым непрыяцелям, каб вярнуліся зь ядзернай зброяй на нашу зямлю, каб вярнулася, сьмерць. Гэтак казаць і рабіць могуць альбо ненармальныя, альбо шалёныя ненавісьнікі Беларусі. Не пакаралі тых. І вось гэтыя хочуць пакараць увесь народ.

Чарнобыль – гэта таксама, калі бэсьцяць нацыянальны мартыралог: ссыпаюць сьмецьце ў Курапацкі дол, разбураюць магілы ахвяраў генацыду і раськідаюць косьці, – і ўсе маўчаць. І ўжо няма сьвятога. Азьвярэлы амапавец –„інтэр", што ўцёк ад суду з Латвіі ці Летувы, б'е старую кабету ў твар, б'е галавой аб жалеза беларускую дзяўчыну.

Чарнобыль – гэта акупацыя. Гэта вечная сьлепата. Гэта зьнішчэньне.

Змагаймася супраць Чарнобылю!

Хай гэты дзень яднае нас і нагадвае аб барацьбе!

*1997 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***




(Фота Ю. Дзядзінкіна)

***21. Чарнобыльскі шлях у Менску.***

# ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І СВАБОДУ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

Масква сьпяшае. Расейцы ведаюць, што калі не захопяць Беларусь цяпер (пакуль сонны беларус сьпіць і нічога не разумее), калі ня зробяць хоць бы і незаконныя пагадненьні, хоць бы і зь незаконным, непрызнаным рэжымам, то потым будзе позна, то потым – бывай імпэрыя, бывай мільярдныя барышы і дармаўшчына-дураўшчына, бывай транзыт, бывай Азот, бывай Нафтан, бывай шмат што. 2-га красавіка ў гадавіну здрадніцкага пакту Лукашэнкі-Ельцына, маскоўцы падпісалі чарговы этап аншлюсу Беларусі. На што тут трэба зьвярнуць увагу?

Усё падпісанае ня мае юрыдычнай сілы, бо незаконнае і нелегітымнае. Працэс афармленьня захопу Беларусі крыху запаволіўся толькі таму, што ў асяроддзі расейскай імпэрскай алігархіі ня скончана групавая барацьба за ўладу. Кожная з групаў хоча захапіць Беларусь з найлепшай палітычнай выгадай для сябе. Плян на 2-га красавіка гэтага году быў складзены так, што даваў перавагу камуністам і магчымасьць для іх выкарыстаць зьдзелку ў сваіх інтарэсах. Лукашысцкі рэжым на Беларусі павінен быў тут адыграць ролю траянскага каня, які даў бы магчымасьць камуністам у Расеі захапіць цалкам уладу і адхіліць групу Ельцына. Пануючая мафія адчула небясьпеку і прытармазіла.

Аднак гэта нічога не зьмяняе ў нашым становішчы. Мы атрымалі невялікую перадышку, у час якой вельмі важна выкарыстаць усе магчымасьці, каб дапамагчы зразумець атручанай прапагандай частцы беларускага грамадзтва, што адбываецца ў краіне. Гэта актуальная задача. Грамадзтва, аднак, настолькі заражанае саўковасьцю, што, здаецца, ніякія нацыянальныя катаклізмы ня ў стане спыніць сон розуму. Інтэлектуальная эліта, тая, што па-за межамі БНФ (і, практычна, уся журналістыка), у гэты час, на жаль, ня б’е трывогу, не апэлюе да сьвету, да народу, не заклікае на змаганьне з акупацыяй, а мяркуе аб шкодзе „інтэграцыі”, аналізуе варыянты і г.д. Якраз у стылі маскоўскіх імпэрскіх „квазідэмакратаў”. Але ім (маскоўцам) можна. Яны нашы непрыяцелі і спрачаюцца, як лепш забраць Беларусь. Адукаваным людзям у Беларусі гэтак сама паводзіць сябе недапушчальна. Тым часам яны таксама абмяркоўваюць варыянты „інтэграцыі”. Як быццам мае значэньне, куды быць застрэленым: у патыліцу ці ў лоб. Дастаткова паслухаць у гэтыя дні беларускае радыё „Свабода” з Прагі, каб мець поўнае ўяўленьне аб нацыянальнай адсталасьці і правінцыялізме нашых інтэлектуальных гаваруноў. На жаль, трэба прызнаць, што гэтая зьява больш небясьпечная для грамадзтва, чым натоўп, які крычыць: „Прэзыдэнт харошый, но яму мяшаюць”. Натоўп жа неадукаваны.

Нацыянальная сьвядомасьць найхутчэй прыходзіць у барацьбе. Лукашысцкі рэжым на Беларусі і палітыка, якую праводзіць Крэмль праз гэты рэжым, не пакідае беларусам аніякай альтэрнатывы, акрамя альтэрнатывы змаганьня. (Рабства ня лічым за альтэрнатыву.) Прытым, змаганьня не ў пераносным, а ў самым канкрэтным, рэальным і жорсткім сэнсе слова.

Паглядзім жа, што адбываецца. Пачынаючы з 12-га красавіка 1995 года, калі хунта ўвяла войскі ў беларускі парлямант і ўжыла сілу супраць дэпутатаў Апазыцыі БНФ, пастаянна зьбіваюць беларусаў. Увесь 1996 год і вось ужо хутка палову 1997 году спэцсілы рэжыму б’юць людзей палкамі па галовах, зьневажаюць, хапаюць, катуюць у пастарунках, прытым дзяцей, жанчын і старых і найбольш маладых, тых, што ішлі зь беларускім сьцягам, тых, што размаўлялі па-беларуску, тых, што за Беларусь. Жорсткасьць, зьдзек і нянавісьць да беларусаў прамаскоўская хунта дэманструе кожны дзень. Зьбітыя і зьняважаныя сотні людзей незаконнымі судамі і арыштамі, пагрозамі і паклёпамі. І ўсё гэта пад тэлевізійны акампанемэнт сіпла-скандальнай істэрыкі, нянавісьці да Беларусі, беларускай свабоды і беларускай мовы, з грэблівым бязродна-савецкім перакручваньнем беларускіх слоў.




***22. Чарнобыльскі шлях у Менску. Эпізод пасьля нападу «гарылаў.» У цэнтры горадзенскі франтавец Р. Фарманян.***

Нармальны чалавек ня можа заставацца абыякавым да такога вар’яцкага зьневажэньня. Нават жывёла бароніць сваю годнасьць, калі яе б’юць. Нават сабака, кот будуць змагацца з крыўдзіцелем, нават курыца ня дасьць у крыўду сваіх дзяцей. А гэта ж Бацькаўшчына.

***За незалежнасьць, Айчыну і Свабоду ня тое, што неабходна, – кожны абавязаны змагацца ўсімі сродкамі. Гэта законна, маральна і па-чалавечаму правільна.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*1997 г. красавік*

# СТРАШНЕЙ ЗА ГУЛАГ

Зьдзек над людзьмі ў лукашысцкіх турмах на Беларусі ня стаў яшчэ прадметам абмеркаваньня ў міжнародных структурах толькі таму, што на Беларусі не існуе грамадзкіх праваахоўных арганізацыяў, якія б спэцыяльна назіралі за ўтрыманьнем людзей у турмах, сачылі за дзейнасьцю пракуратуры, судоў і міліцыі. Часткова гэтую функцыю імкнецца выконваць Беларускі Гэльсінскі Камітэт. Патрэбна, аднак, арганізацыя тыпу „Беларуская амністыя" (па прыкладу „Міжнароднай амністыі").

Нядаўна грамадзкасьць Захаду была ўражана дакладам дзеячкі расейскага аддзелу „Міжнароднай амністыі" Марыі Кацаравай, дзе раскрыта і паказана сістэма жахлівых катаваньняў і зьдзекаў над вязьнямі ў расейскіх турмах. Рускія паўсюдна ўжываюць катаваньні як мэтад сьледства, атрыманьня паказаньняў (якія фігуруюць потым у судах) і проста як мэтад зьдзеку і адносін да чалавека ў турме. Рускія катуюць сваіх вязьняў электрычнасьцю, падвешваюць за зьвязаныя і закручаныя назад рукі да столі і б'юць, зьвязваюць чалавека, надзяваюць яму на галаву маску супрацьгазу і перакрываюць паветра, каб чалавек задыхаўся, пускаюць пры гэтым пад маску сьлёзацечны газ.

У катаваньні вязьняў турэмшчыкам і сьледчым дапамагаюць рускія турэмныя лекары, якія даюць ім парады і „прафэсійныя" рэкамендацыі. „Ня веру, што пекла можа быць больш жорсткім, чым тое, што прыдумалі мне людзі,"– кажа вязень з маскоўскай турмы Бутыркі. Турэмшчыкі ўтварылі крымінальныя структуры зьдзеку вязьняў над вязьнямі, сваю агентуру, сярод іх – сваіх катаў і спраўцаў. Турэмныя камэры перапоўненыя. Сьмерць ад недахопу паветра, ад задухі, ад перагрэву цела ў рускіх турмах – звычайная зьява.

У 1995 годзе ў Новакузьнецкай турме памерла адзінаццаць вязьняў ад кровазьліцьця ў мазгі з прычыны таго, што камэры былі перапоўненыя, не хапала паветра, а тэмпература ў камэрах дасягала 51 градуса па Цэльсію.

Тое, што робіцца ў расейскіх турмах, ёсьць працяг *гулагу*, і нават страшней. Гэта ўсё, нягледзячы на тое, што Расея падпісала Міжнародную Канвэнцыю аб недапушчэньні катаваньняў. Да пагаршэньня становішча ў расейскіх турмах (сьведчыць Марыя Кацарава) прычыніўся асабіста прэзыдэнт Расеі Ельцын, які выдаў дэкрэты, згодна якіх чалавека, якога падазраюць у парушэньні закону, могуць затрымаць на 30 дзён, а не на 48 гадзінаў, як патрабуе закон. Ельцын сваімі дэкрэтамі парушыў Канстытуцыю і даў волю катаваньням над неасуджанымі людзьмі.

Такія ж самыя зьдзекі, як і ў турмах, практыкуюцца над салдатамі ў рускай арміі. У рапарце *Міжнароднай амністыі*, надрукаваным у Лёндане ў красавіку гэтага года, паведамляецца, што толькі ў 1994 годзе **423** салдаты ў рускай арміі скончылі жыцьцё самагубствам, ня вытрымаўшы зьдзекаў і катаваньняў, і дзьве з паловай тысячы загінулі ў выніку „крымінальных інцыдэнтаў" у войску. „Расея павінна неадкладна скласьці плян выкараненьня катаваньняў,"– пішацца ў Рапарце *Міжнароднай амністыі*.

Аднак, наўрад ці што пераменіцца. Антычалавечая турэмная і армейская сістэма існуюць у Расеі даўно. ***У рускім грамадзтве ўтварылася шырокая крымінальная субкультура, якая мае сваіх аўтарытэтаў, паэтаў і сьпевакоў, палітыкаў, ідэолягаў і функцыянераў, якая выяўляецца як спосаб і стыль жыцьця, манера думаньня і сацыяльнага ўспрыняцьця, мае вялікі ўплыў на мэнтальнасьць усяго грамадзтва.***

Няма патрэбы гаварыць, якая пагроза беларускай нацыі існуе на ўсходзе. Мы бачым, як праз адчыненую мяжу, як, дзякуючы здрадніцкай палітыцы лукашысцкага рэжыму, крымінальныя дачыненьні ўсё больш і больш пранікаюць у беларускую сфэру ўлады, у беларускае грамадзтва.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 2(6). Пад псэўданімам М. В-ч).*

# АНТЫБЕЛАРУСКІЯ ПАКТЫ НЕПРЫЗНАЮЦЦА

***(заява)***

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту, грунтуючыся на Праграме, рашэньнях Сойму і палітыцы БНФ, заяўляе, што Беларускі Народны Фронт не прызнае і ніколі не прызнае ніякіх „саюзаў" і дамоваў Беларусі з Расеяй, заключаных Ельцыным і Лукашэнкам. Гэтыя дамовы супярэчаць Канстытуцыі Беларусі, а рэжым Лукашэнкі, яго структуры, распараджэньні і акты – незаконныя і нелегітымныя.



***23. Антыбеларускі рэжым. Вулічная сцэна ў час нацыянальнага сьвята. Менск.***

Беларускі Народны Фронт, змагаючыся з дыктатарскім рэжымам і імпэрскай палітыкай Масквы, узяў на сябе адказнасьць за будучыню беларускай нацыі. Беларускі Народны Фронт супраць усялякай інтэграцыі з Расеяй, не прызнае дыктатарскі рэжым у Беларусі, асуджае любыя формы супрацоўніцтва з рэжымам Лукашэнкі, любыя спосабы надаць яму легітымнасьць. Лукашэнка і яго асяроддзе растапталі Канстытуцыю і здрадзілі беларускай дзяржаве, імкнуцца ліквідаваць незалежнасьць і дзяржаўнасьць Беларусі. Яны паставілі сябе па-за законам і заслужылі адносінаў да сябе як да злачынцаў, зь якімі грамадзтва мусіць змагацца.

Мы абараняем праўнае грамадзтва, Волю і Незалежнасьць Беларусі і заклікаем актыўных беларускіх грамадзянаў і беларусаў ва ўсім сьвеце стаць цьвёрда на барацьбу з дыктатарскім рэжымам у Беларусі і расейскім імпэрыялізмам Масквы, за жыццё і свабоду нашай беларускай Бацькаўшчыны.

**Зянон ПАЗЬНЯК**
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту***
***„Адраджэньне"***

*23 траўня 1997 г. Менск–Нью-Ёрк*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 3(7).*

# „ЗАЎСЁДЫ ГАТОВЫ!"

Дэпутаты сумна вядомага Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, тыя, што не ўвайшлі ў структуры рэжыму, называюць сябе, як і ў 1996 годзе, „апазыцыяй". Гэта сымптаматычна, бо называньне сябе апазыцыяй у сыстэме ўлады падразумявае прызнаваньне законнасьці супрацьлеглага боку. Пазыцыя і апазыцыя ў сістэме ўлады ёсьць адзіны працэс. Невыпадкова Беларускі Народны Фронт пасьля лістападаўскага прамаскоўскага перавароту засьведчыў сябе як Вызвольны рух, адкінуўшы пустое на сёньняшні дзень слоўца „апазыцыя".

Можа гэта каму здаецца тонкасьцю, але тым ня менш менавіта гэты „апазыцыйны" парлямант зноў пачаў масьціць шлях рэжыму Лукашэнкі да легітымізацыі і прызнаньня, згадзіўшыся на выгадныя толькі Лукашэнку і абсалютна беспэрспэктыўныя для Вярхоўнага Савета перамовы з дыктатарскім рэжымам. Тут выяўляецца прырода канфармісцкай зьявы.

У канцы траўня „апазыцыя" надрукавала ў газэце „*Свабода*" праект закона на рускай мове (беларускай жа „апазыцыянеры" ня ведаюць), які гучыць моцна: „О неприменении сроков давности за совершение должностными лицами преступлений, нарушающих права и свободы граждан". Яшчэ больш моцна гучыць загаловак у газэце: "Слуги режима: будьте готовы!"

„Парлямантарысты лічаць,– напісана ў газэтнай прэамбуле,– што менавіта гэты закон неабходна прыняць у ліку першых, як толькі ў краіне будзе адноўлена канстытуцыйная законнасьць... Важна, каб і грамадзкасьць, і асобы на пасадах ведалі, чаго спадзявацца ад апазыцыі зь яе прыходам да ўлады". (Ух, крута!) І далей: „Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,.. кіруючыся прынцыпам неадменнасьці пакараньня за зробленае злачынства і ўлічваючы міжнародную практыку непрымяненьня тэрмінаў даўнасьці ў дачыненьні да асобаў, якія зрабілі злачынствы супроць чалавецтва, прымае гэты Закон."



*24. «Квітней Беларусь!» – Стары лёзунг і новая рэчаіснасьць. Менск.*

Што і казаць, дрыжыце, нягоднікі і міліцэйскія генэралы, спадары ярмошыны ды агальцы, будзе вам па заслугах! Але дзесьці ўжо на сёмым артыкуле пачуўся сьвіст спускаемага паветра. Караць па гэтым законе прапануюць „строга": „пазбаўленьнем права займаць пасады ў дзяржаўным апараце на тэрмін ад аднаго да пяці гадоў" (пры ўмове, калі не апраўдаюць).

У восьмым артыкуле праекта (усіх 10) узьнікла юрыдычная кульмінацыя палітычнай думкі „апазыцыйных парлямантарыяў" – поўны пшык. Гэта варта працытаваць: „Кіруючы ворган рэспубліканскага грамадзкага аб`яднаньня альбо палітычнай партыі, група дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у колькасьці ня менш адной траціны ад агульнага ліку выбраных дэпутатаў Вярхоўнага Савета, а таксама агульны сход працоўнага калектыву дзяржаўнага прадпрыемства, арганізацыі, установы, маюць права хадайнічаць аб вызваленьні асобы на пасадзе, што зрабіла злачынства, ад крымінальнай адказнасьці."

Мяркую, што няма патрэбы распавядаць, як чыноўнікі і намэнклятура, кіруючыся такім законам, заўсёды свайго могуць выручыць. Але далей лепей: „Калі будзе прызнана, што да часу разгляданьня справы ў судзе ў выніку зьмяненьня становішча, дзеяньне, зробленае асобай на пасадзе, страціла характар грамадзка-небясьпечнага альбо гэтая асоба перастала быць грамадзка небясьпечнай, суд выносіць рашэньне аб вызваленьні дадзенай асобы на пасадзе ад крымінальнай адказнасьці і спыняе справатворчасьць па справе."

Што азначаюць такія „рашучыя" фармулёвачкі? А тое, што калі, напрыклад, генэрал Агалец, які, як вядома, натварыў „справаў", пойдзе, скажам, у адстаўку ці пяройдзе на грамадзянскую працу (напрыклад, загадчыкам аддзела кадраў у Інстытут цьвёрдага цела), то яго „асоба перастане быць грамадзка-небясьпечнай". Сапраўды, ён жа ня зможа паслаць спэцназ зьбіваць людзей, седзячы ў „цьвёрдым целе". І тады Агальца ня руш! А як жа „непрымяненьне тэрміна даўнасьці" і „неадменнасьць пакараньня"? А ніяк. Так сабе, дзеля чытаньня; дзеля прапаганды „апазыцыйнасьці" і цытаваньня. Для дурняў.

Але як гэта „дзеяньне, зробленае асобай на пасадзе", можа „страціць характар грамадзка-небясьпечнага"? – могуць пацікавіцца няўрымсьлівыя. Усяляк. Поўны набор бюракратычнай казуістыкі. Напрыклад, вяртаюцца аўтары гэтага „радыкальнага" закона да ўлады і разам з Ціцянковым,* які да гэтага часу таксама ўступіць у „апазыцыю", прымаюць закон, што кожны амапавец абавязаны лупіць палкай па галовах усіх тых, хто супраць „апазыцыі". Дзеяньне, зробленае раней (калі лупілі без закона і тых, хто за апазыцыю) адразу набывае законны зьмест і траціць „характар грамадзка-небясьпечнага". (Пра тэрмін даўнасьці і т.п. – глядзі вышэй.)

Можа нехта падумае сабе, што праект закона слабаваты ці што пісалі дурні і г.д.? Ня трэба сьпяшацца з высновамі. Пісалі разумныя. Гэты закон, выконваючы ролю папяровага тыгра (грамаадвода для грамадзкасьці), даваў бы магчымасьць намэнклятуры зноў аб`яднацца пры дасягненьні ўлады. Таму такія фармулёўкі і супярэчнасьці.

У 1996 годзе парляманцкая намэнклятура раскалолася па адносінах да ўлады (Лукашэнкі) і часткова страціла яе. Мы (Народны Фронт) спрыяем гэтаму працэсу пераходу намэнклятуры на нацыянальна-дзяржаўніцкія пазыцыі, але добра разумеем яе сацыяльнае (відавое) адзінства, прыроду яе здрадніцтва,

---

* Кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта. Кіраваў крымінальнымі мэтадамі. Публічна парваў Беларускі сьцяг і зьдзекваўся зь яго. – *(З. П.).*

канфармізму і непасьлядоўнасьці. Гэты іхны праект закону адлюстроўвае тыя ж тэндэнцыі, што выяўляюцца ў імкненьні да перамоваў з рэжымам. Гэта інстынкты вяртаньня ва ўладу, у статус-кво. І калі б рэжым пайшоў ім на ўступкі, на кампраміс, яны б вярнуліся, выстаўляючы сваё згодніцтва і здраду як перамогу (здаровага сэнсу, рэальнай палітыкі і т.п.), з новай энергіяй прыступілі б да інтэграцыі, „но с Россией демократической”.

У гэтым сэнсе вельмі красамоўна гучыць канцовае палажэньне 8-га артыкула прапанаванага праекта закона: „Пры прыняцьці рашэньня суд прымае пад увагу выпадкі, калі асоба на пасадзе дзейнічала пад прымусам, выконваючы загад альбо рашэньне вышэйшага органа дзяржаўнага кіраўніцтва”.

Як кажуць – вось табе, бабулька, і Юраў дзень. Спадары „апазыцыянеры”, якія пісалі „сіе”, мяркую, выдатна азнаёмлены з палажэньнямі Закона аб міліцыі аб падпарадкаваньні закону, а не антызаконным загадам начальства. Яны ж, напэўна, ведаюць, што прынцып „я толькі салдат, я выконваў загады” – не прымаецца пад увагу. А вось жа пішуць. Чаму? Таму што тут покліч прыроды, інстынкт роду, які лямантуе: ”Слуги режима: будьте готовы!” „ Усегда гатовы.”

Вядома, нам бы сказаць ім: „Кідайце пустое, ідзеце разам з намі змагацца з Расеяй за Беларусь, за волю і незалежнасьць.” Мы і кажам. Можа, нехта й памкнецца. Але гэтае „ўсегда” будзе „ўсегда”, пакуль існуе гэтая парода людзей. Рэчаіснасьць посткамуністычных грамадзтваў – найлепшы доказ і найлепшая ілюстрацыя.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, –1997, № 3(7); (Свабода, – 1997, 18 ліпеня (пад загалоўкам „ Папяровы тыгр намэнклятурнай пароды”).*

# ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ

*Год палітычнай працы на Захадзе,назіраньні за жыцьцём, сустрэчы з палітычнымі элітамі розных краінаў, іншы вопыт, іншыя адносіны прымусілі мяне шмат дзе па-новаму глядзець на, здавалася, б даўно зразумелыя зьявы і дачыненьні на Беларусі, удакладніць свае пазыцыі. Усталяваньне прарасейскай дыктатуры, унутраная акупацыя краіны, камуна-фашызм, кагэбізм, паступовая страта незалежнасьці і пагроза ліквідацыі дяржавы – усё гэта абавязвае нас больш уважліва прыглядзецца да сапраўдных прычынаў беларускай трагедыі, ацаніць падзеі і паводзіны, зыходзячы з рэальнасьці.*

## ГЕАПАЛІТЫКА

Ва ўсіх дзеяньнях, плянах, пазыцыях і нават інстынктах Расеі галоўным, вызначальным і рашаючым фактарам яе паводзінаў зьяўляецца імпэрская геапалітыка. Беларускае кіраўніцтва ня мела ніякай геапалітычнай канцэпцыі і не праводзіла ніякай геапалітыкі. Яно з цяжкасьцю ўспрыняло ідэю Народнага Фронту аб нэўтралітэце, увяло яе пад націскам БНФ ў Канстытуцыю і на гэтым спынілася, нітрохі не турбуючыся, каб зразумець, што гэта абазначае і навошта яно патрэбнае.

Прынцыпы беларускай геапалітыкі, сфармуляваныя Народным Фронтам летам 1990 года, былі часткова зачытаныя і прадыскутаваныя ў парляманце перад падрыхтоўкай да працы над Дэкларацыяй аб незалежнасьці. Вызначаючы сваё месца ў сьвеце, Беларусь павінна была, на нашу думку, зыходзіць з нацыянальных інтарэсаў і наяўнасьці Расейскай імпэрыі на ўсходзе як пастаяннай пагрозы беларускай незалежнасьці. Нацыянальныя інтарэсы (гэта значыць тыя грунты, якія забясьпечваюць нармальнае паўнавартаснае жыцьцё, усебаковае разьвіцьцё і будучыню нацыі) абавязвалі нас аднавіць незалежнасьць Беларусі і адбудаваць незалежную дзяржаву з усімі абавязковымі складнікамі дзяржаўнасьці (нацыянальная валюта, войска, мяжа, мытня, сьцяг, гэрб, амбасады, беларуская дзяржаўная мова і школа). Нацыянальныя інтарэсы абавязвалі б нас адбудаваць незалежную беларускую дзяржаву хуткімі тэмпамі, каб вынікамі незалежнасьці скарысталіся сучасьнікі, існуючае пакаленьне. Інакш маглі ўзьнікнуць стагнацыя, тармажэньне і нават ілюзіі вяртаньня назад. Таму эканамічная праграма рэформаў, прапанаваная Фронтам у 1990 г., павінна б была ажыцьцяўляцца сістэмна, пасьлядоўна і неабарачальна. Таму ідэалёгія беларускага Адраджэньня, тая ідэалёгія, якая падрыхтавала ў 1918 г. утварэньнем БНР, павінна б была стаць нацыянальнай ідэалёгіяй адноўленай дэмакратычнай дзяржавы. Неабходна было даць магчымасьць разьвівацца беларускай культуры, адрадзіць духоўныя каштоўнасьці і гістарычную памяць нацыі, закласьці грунт беларускай асьветы і адукацыі. Нацыя павінна мець нацыянальную асобу, а асоба – нацыянальнае ўсьведамленьне. Адсутнасьць гэтых асноватворных якасьцяў ставіць чалавека па-за палітыкай. Дзесяцігодзьдзі расейскай акупацыі, бальшавіцкі генацыд і таталітарная практыка затармазілі і дэфармавалі разьвіцьцё беларускай супольнасьці. Пераадоленьне нэгатыўных наступстваў таталітарызму ў сьвядомасьці магла эфектыўна ажыцьцявіць беларуская дзяржава. Без вырашэньня гэтай духоўнай задачы няма мовы аб добрым дзяржаўным будаўніцтве, аб разуменьні эканамічных рэформаў, аб гарантыях незалежнасьці.

Зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, мы павінны былі б падтрымліваць прыязныя стасункі з суседнімі краінамі, убясьпечыць сябе і стварыць гарантыі бясьпекі для іх, стварыць умовы ўзаемаабмену, які стымуляваў бы нашае разьвіцьцё. Мы б павінны былі дакладна вызначыць нашае месца ў сьвеце і наш пэрспэктыўны шлях. Гэты шлях мы акрэсьлілі як „вяртаньне ў Эўропу”. Пэрспэктыва – інтэграцыя ў эўрапейскія структуры, у сістэму эўрапейскіх эканамічных, палітычных, грамадзкіх і культурных дачыненьняў. ***Наяўнасьць Расейскай імпэрыі на ўсходзе – галоўны фактар, які прымушае нас фармуляваць актыўную геапалітыку, каб гарантаваць незалежнасьць.*** Жыць побач з логавам зьвера і не засьцерагчыся было б неразумна.

У 1990 г., як я ужо казаў, БНФ выставіў тэзіс нэўтралітэту Беларусі, маючы на ўвазе пад гэтым найперш няўдзел у ваенных блёках і палітычных саюзах дзяржаваў. Мы разумелі, што нэўтралітэт для Беларусі вельмі небясьпечная справа. Штучна паставіць сябе паміж усходам і захадам і спадзявацца на нэўтралітэт – гэта рызыка. Бо ўзьнікае пагроза ператварэньня ў

„шэрую зону”, у абароне якой ніхто не зацікаўлены. Тады яе, пры маўчаньні сусьветнай супольнасьці, спакойна праглынае той, хто гэтага хоча і хто гэта можа, абгрунтаваўшы ўзаемнымі патрэбамі.

Нэўтралітэт ня мог быць доўгатэрміновай палітыкай. Ён патрэбны быў, каб прытрымаць Расею, каб стаць на нацыянальныя ногі, умацавацца і, пакуль мы слабыя, не злаваць усходняга зьвера.

Пасьля таго, як Расея займела на беларускім вярхоўным пасадзе свайго чалавека і пачала практычна і адкрыта рыхтаваць інкарпарацыю нашай краіны, тэзіс нэўтралітэту страціў усялякі сэнс. Гэта, як ні дзіўна, цяжка даходзіла да розуму некаторых нашых палітычных актывістаў. Зьвер ужо выбраў сабе наш лёс і пачаў свой выбар выконваць. Не зрабіць выбрару нам, калі нас ўжо „выбралі„, – значыць пагадзіцца з інкарпарацыяй.

Год таму, пасьля першага падпісаньня пакту Лукашэнкі-Ельцына мной было заяўлена аб перамене сытуацыі, ***аб неабходнасьці адназначнай арыентацыі адраджэнцкай Беларусі на эўрапейскія міжнародныя структуры (у тым ліку і на НАТО), аб гарантыях свабоды і незалежнасьці Беларусі ў супрацоўніцтве з Эўропай.*** Выразна і ёміста такое разуменьне становішча выявіла беларуская моладзь у сваім знакамітым (праўда, скабрэзным) лёзунгу : „Беларусь – у Эўропу...” (працягня цытую).

Другі аспэкт беларускай геапалітыкі, прапанаванай БНФ – ***стварэньне балянсу сілаў.*** Ва Ўсходняй Эўропе пасьля распаду СССР і ліквідацыі Варшаўскага дагавору склалася становішча неўраўнаважаных сілаў, якое хавае ў сабе ўмовы нестабільнасьці. Вялікая Расея з імпэрскімі амбіцыямі і агрэсіўным вопытам з аднога боку – і шэраг разрозьненных краінаў Усходняй Эуропы, занятых кожная сваім дзяржаўна-нацыянальным будаўніцтвам, з другога. Тут нястворана такой раўнавагі, як у Заходняй Эўропе, дзе балянс сілаў паміж Францыяй, Нямеччынай, Англіяй і Італіяй стварае грунт для раўнапраўнага існаваньня ўсіх краінаў у гэтай частцы кантыненту.

Раўнавага сілаў на Ўсходзе магла б стварыцца паміж Расеяй і скаардынаванымі краінамі Ўсходняе Эўропы. Беларускі Народны Фронт скарыстаў ідэю Балта-Чарнаморскай асацыяцыі краінаў, выказаную яшчэ ў 1916 годзе беларускімі палітыкамі братамі Луцкевічамі на зьезьдзе народаў у Лёзане.

Працягам гэтай (сустрэтай у штыкі Расеяй і яе агентурай у Беларусі), ідэі была праектная прапанова аб Балта-Чарнаморскім нафтавым калектары (аўтар С.Гусак, намесьнік старшыні БНФ і сябра Ценявага Кабінэту БНФ). Нафтавы калектар даваў бы магчымасьць краінам Міжмор’я поўнасьцю пазьбегнуць залежнасьці ад расейскай нафты, аслабіць імпэрскі націск, умацаваць сувэрэнітэт. Адбылося некалькі міжнародных канфэрэнцыяў спэцыялістаў у Менску. На Ўкраіне прыступілі да стварэньня тэхніка-эканамічнага абгрунтаваньня праекту і да пабудовы велізарнага нафтавага тэрміналу ў Адэсе. У беларускіх колах пачынаюць асьцярожны зандаж у Турцыі на прадмет транспарту нафты ў Беларусь. Украінцы шукаюць сувязі з нафтавым Іранам.

Аб’яднаньне сістэмы нафтапровадаў па балтыйска-чарнаморскай праектнай прапанове дало б магчымасьць лягчэй уздыхнуць усёй Усходняй Эўропе. Да сістэмы падключалася б Польшча і польскія порты на Балтыцы, а таксама краіны Каўказу і Касьпійскага басэйну.

Праз нейкі час пасьля адной з практычных канфэрэнцыяў па калектары ў 1994 г. бясьследна зьнікае з усімі праектнымі і палітычнымі дакумантамі намесьнік галавы Народнага Руху Украіны Міхайла Байчышын, які вёў справу калектара па даручэньні В. Чарнавіла. У Беларусі пачынаюць ні з таго ні з сяго лавіць турэцкіх „шпіёнаў„, што ледзь ні прывяло да разрыву дыпляматычных дачыненьняў з Турцыяй. На Украіне зноў пэрыядычна пачалі абвастрацца пытаньні то з чарнаморскім флётам, то з Севастопалем, то з Крымам. У Іране расейцы спрабуюць скупіць акцыі мясцовых нафтавых кампаніяў. У 1994 г. Расея пачала акупацыю Чачэніі.

Сярод бяздоньня палітычнага бруду, карупцыі, жорсткасьці і мярзоты ў гэтай подлай вайне з малалікім народам у аснове яе ляжаць расейскія імпэрскія інтарэсы і расейскія нафтавыя грошы.

Што тварыла Расея на Каўказе – у Грузіі, Абхазіі, Баку, Карабаху, Асеціі, Тбілісі і г. д. – вядома. Удар па Чачэніі і ліквідацыя чачэнскай незалежнасьці і чачэнцаў павінен быў бы разарваць нафтавы ланцуг свабоды.

Наступны ўдар іншага кшталту расейцы плянавалі на Захадзе – па Беларусі. Інкарпарацыю Беларусі ў Расею пачалі рыхтаваць з сярэдзіны 1992 г. (пры садзеяньні ўрада Кебіча) і ажыцьцяўляць зь сярэдзіны 1994-га (пасьля зьяўленьня Лукашэнкі).

Беларусь ёсьць „ударная кропка” нумар „1” ва ўсёй імпэрскай палітыцы Расеі. Захапіўшы Беларусь, яна прысвойвала б сабе беларускія геаэканамічныя магчымасьці, ліквідавала б верагоднасьць Балта-Чарнаморскай асацыяцыі краінаў, павялічыла б свой ціск на Ўкраіну, уплывала б на Польшчу, маніпулявала б усходнепрускім анклавам (Калінінградзскай вобласьцю). Пра ўсё гэта адкрыта заявіў Ельцын 6-га сакавіка гэтага года ў сваім „пасланьні” расейскаму парляманту, распавядаючы, якія вялікія выгады Расеі прынясе захоп («інтэграцыя») Беларусі.

Ня менш цынічна заяўляе аб расейскай патрэбе захопу Беларусі Міністэрства Замежных Справаў Расеі ў ананімным дакладзе, надрукаваным „Независимой газетой” (1997, 25 сакавіка). „У эканамічным пляне Беларусь уяўляе для Расеі велізарны інтэрас як у варыянце інтэнсіўнага, вытворчага разьвіцьця расейскай эканомікі, так і дзеля захаваньня сыравіннага эканамічнага курсу, – напісана ў дакладзе, – Саюз Расеі зь Беларусяй ставіць крыж на ідэі балта-чарнаморскага санітарнага кардону”.

Цяперашні лёзунг рускіх палітыкаў („рэванш у Беларусі за паражэньне ў Чачэніі„), як бачым, вынікае з агрэсіўных плянаў геапалітычнай канцэпцыі Расеі. Гераічныя чачэнцы, абараняючы сваю бацькаўшчыну, змагаліся таксама і за свабоду іншых, і за нашу беларускую свабоду, бо ***барацьба з Расеяй – агульная справа.*** Гэта разумелі ўсюды тыя, хто любіў сваю радзіму, волю і шанаваў свой народ.

## РУСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ

Гады тры-чатыры таму мне ўжо даводзілася пісаць пра небясьпеку рускага імпэрыялізму. Таму я ня буду спыняцца на гэтым падрабязна. Тым больш, што ў істоце справы жыцьцё, нажаль, ужо красамоўна праілюстравала палажэньні таго, што было калісьці напісана. Нагадаю, аднак, што па сваёй дзяржаўнай структуры, традыцыях і ўласьцівасьцях палітыкі, мэнтальнасьці грамадзтва Расея ёсьць тыповая імпэрыя, якая пераняла вопыт і тэрыторыю Залатой Арды, правілы і прыёмы візантыйскай палітыкі. Хто б ні сядзеў у Крамлі, ён вымушаны будзе прадаўжаць імпэрскую справу сваіх папярэднікаў. Каб такое спынілася, Расея павінна разваліцца. Сама праз сябе яна не пераступіць ніколі, пакуль будзе існаваць у імпэрскім выглядзе.

Гісторыя засьведчыла на працягу стагодзьдзяў стан пэрманентнай вайны паміж Расеяй і Беларусяй (Вялікім Княствам

Літоўскім), якая прыпынілася (фармальна) перамогай Расеі і яе нямецкіх саюзьнікаў у Эўропе. ***Беларусь для Расеі ёсьць натуральны непрыяцель на Захадзе. Гэтак жа сама як Расейская імпэрыя ёсьць пастаянны вораг і пагроза для дзяржаўнасьці і незалежнасьці Беларусі.*** Гэта рэальнасьць, зь якой трэба зыходзіць, як бы яна каму была не да спадобы.

Прынцыпы імпэрскай палітыкі Расеі, яе мэтады і прыёмы не зьмяніліся за стагодзьдзі. Зьмянялася толькі ўлада і распараджэньне дзяржаўнай уласнасьцю. Пасьляпутчавыя перамены 1991 года былі якраз такога кшталту. Расея ўяўляе цяпер мафіёзна-бюракратычную краіну, дзе былая камуністычная намэнклятура, схаваўшыся пад лёзунгамі дэмакратыі, трымае ў сваіх руках ўсё: уладу, дзяржаўную маёмасьць, прыватную уласнасьць (створаную на аснове дзяржаўнай уласнасьці), манаполію на цэлыя галіны вытворчасьці і энэргетыкі, прыродныя рэсурсы. Нажытыя велізарныя барышы. Новыя рускія капіталісты-бюракраты паабзаводзіліся цэлымі арміямі нікім некантралюемых целаахоўнікаў. Ідзе вайна ненародная, страляніна па ўсёй Расеі, прыцэльны агонь. Толькі ў Маскве кожны дзень забіваюць у сярэднім двох бізнэсоўцаў.

Тым часам эканоміка ў тупіку, скарбніца пустая, зарплату няма чым плаціць нават у арміі. Нядаўна Давоскі форум падрыхтаваў даклад на 1997 г. „Аб канкурэнтаздольнасьці сусьветных эканомік” для 53 краінаў, дзе для кожнае краіны вызначаецца адпаведны эканамічны рэйтынг. Бяруцца пад увагу найбольш важныя паказьнікі эканамічнага разьвіцьця. Мэтодыка гэтага сусьветнага эканамічнага форуму, распрацаваная 20 гадоў таму, даказала сваю надзейнасьць. Расея заняла апошняе (53-е) месца, пасьля В’етнама, Зымбабвэ і інш.

Як жа выправіць становішча? А вельмі проста – захапіць Беларусь. „Ці здольная Расея да прарыву на Беларускім фронце?” – задае сабе пытаньне ведамства Прымакова *(„ Независимая газета”, – 1997, 25 сакавіка).*

Навошта расейцам разьвіваць сваю трактарную вытворчасьць (пытаецца ельцынскі міністар А. Тулееў у час прыезду ў Беларусь), калі ёсьць вялікі трактарны завод у Менску, альбо навошта наладжаваць вытворчасьць аўтамабільных шынаў тады, калі ёсьць гатовы шынны завод у Беларусі ў Бабруйску. У Расеі вунь зарплату няма чым плаціць людзям (кажа Тулееў), пэнсіі пэнсіянерам. Неадкладна трэба інтэгравацца зь Беларусяй (усклікае міністар)!

Другі адыёзны інтэгратар М. Ганчар (дэпутат расейскай Думы) кажа: „Эканамічнае становішча Беларусі лепшае. У Беларусі спажываньне асноўных прадуктаў харчаваньня сёньня вышэй, чым у Расеі. (Гэта ў абрабаванай Беларусі – і то вышэй, – *З. П.*). Ніякіх інвэстыцыяў у нас у бюджэце 1996 года, практычна, ня было. Дзе ўзяць інвэстыцыі, каб «запусьціць» вытворчасьць?” – пытае „ інтэгратар”. І адказвае: „ Я не за тое, каб Беларусь, прыняўшы рашэньні, кінулася ў мора прыватызацыі. Пытаньне ў тым, каб дапусьціць расейскі капітал на рынак, а для гэтага патрэбны ўсяго толькі ўказ прэзыдэнта. Давайце дазволім гэта зрабіць” *(„ Рабочая трибуна”, –- 1997, 14 лютага).*

Клясычная крымінальная псыхалёгія. Такое прачытаўшы, ня верыш вачам сваім і перачытваеш яшчэ. Ня думаю, што трэба камэнтаваць гэтую прымітыўшчыну.

Расея, калі верыць фальклёру, славіцца сваімі дурнямі. Аднак, паслухаўшы і пачытаўшы гэтакіх палітычных „ іванаў”, і, паглядзеўшы, як успрымаюць іх некаторыя дзелавыя асобы ў Менску, прыходзіш да высновы, што дурняў яшчэ больш у Беларусі. Гэтыя дурні ўжо нават інтэгруюцца.

## АНШЛЮС

Эканамічнае аслабленьне Беларусі, Украіны і іншых дзяржаваў СНД, выкарыстаньне беларускага нацыянальнага багацьця на карысьць Расеі было сістэмна распачата яшчэ ўрадам Гайдара. Галоўнымі прапагандысцкімі і матэрыяльнымі рычагамі абрабаваньня былі савецкія грошы (агульны эмісійны цэнтар у Расеі) і нафта.

Пры Чарнамырдзіну ўзьнікла ідэя аб’яднаньня грашовых сістэмаў Беларусі і Расеі. Беларусь хацелі забраць кавалерыйскім наскокам. Нічога з гэтага, як вядома, у Масквы не атрымалася, акрамя, хіба, гістарычнага п'яна-партыйнага пацалунку Кебіча з Чарнамырдзіным. (Чмок быў такі гучны, што, як сьцьвярджаюць, дайшоў да самых глыбіняў народнай сьвядомасьці).



У 20-х днях ліпеня 1994 года, адразу ж пасля заступленьня на пасаду прэзыдэнта Беларусі А.Лукашэнкі, Масква прыслала ў Менск свой праект „дагавору аб дружбе” Расеі зь Беларусяй. У тэксьце гэтага дагавору ўжо відаць былі асноўныя палажэньні пляну будучага аншлюса і ліквідацыі дзяржаўнасьці Беларусі. Праз Лукашэнку расейцы адразу пачалі ажыцьцяўляць гэты плян. Усё ішло па адпрацаванай схеме: заняцьцё ключавых пасадаў улады і дзяржаўнага кіраваньня „сваімі” рускімі (ці прарускімі) людзьмі і агентамі спэцслужбаў, захоп, кантроль і манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі, ліквідацыя нацыянальных дзяржаўных сымвалаў і прыярытэту дзяржаўнасьці беларускай мовы, ліквідацыя беларускай школы, згортваньне беларускай асьветы і друку, разбурэньне беларускага бізнэсу, увядзеньне расейскага кантролю над беларускімі межамі і мытнымі службамі, ліквідацыя мяжы з Расеяй, стварэньне паралічу нацыянальнай эканомікі і банкавай сістэмы, ліквідацыя легітымных структураў прадстаўнічай (заканадаўчай) і судовай уладаў, спыненьне дзейнасьці Канстытуцыі і законнасьці, умацаваньне аднаасобнай улады стаўленьніка і г.д. Разбураецца нацыянальная структура грамадзянскай супольнасьці, яе матэрыяльныя, арганізацыйныя і прававыя асновы, ствараецца і падтрымліваецца прарасейская „пятая калёна” і г.д.

Такія дзеяньні называюцца ўнутранай акупацыяй. (Гэта калі краіна, яе рычагі ўлады і эканомікі, ключавыя пазыцыі ў грамадстве захопліваюцца акупантамі знутры, без адкрытых ваенных апэрацыяў.) Рускія бальшавікі раней добра адпрацавалі і




(Фота В. Федасеенкі)

*25. Дэманстрацыя Народнага Фронту. Ліпень, 1997 г., Менск.*

выпрабавалі такую мэтоду халоднай вайны, дзе галоўную ролю выконваюць спэцслужбы і масіраваная разьведка. Пра гэта ніжэй.

Краіна, якая падверглася ўнутранай акупацыі, доўга ня існуе. Калі яна не знаходзіць сілы да супраціўленьня, то траціць сваю дзяржаўнасьць. Прыблізна па такой схеме адбываліся яшчэ разборы Рэчы Паспалітай.

## „ПЕРАДАВЫ АТРАД"

КГБ у Савецкім Саюзе называлі „передавым атрадам партыі". І гэта сапраўды было так. Палітычныя ідэі, мэтады ўнутранай і зьнешняй палітыкі і яе ажыцьцяўленьне прыдумваліся і ствараліся там. Адтуль абмежаваныя партыйныя функцыянеры атрымлівалі прафэсыйныя парады і рэкамендацыі. Існавала велізарная агентура ў Саюзе і за мяжой, праводзіліся сацыялягічныя дасьледваньні і экспэрыменты над псіхікай чалавека, дзейнічала школа агентурных прастытутак пад Масквой і сэкцыі біяэнэргетыкі (ужо ў 60-х гадах), дзе марочылі галовы над тэлепатыяй, астралёгіяй, экстрасэнсарным успрняцьцем, чорнай магіяй, масонствам і т.п. Існаваў аддзел уліку псіхічна хворых (іх выкарыстоўваў КГБ) і аддзел распаўсюджваньня чутак, спэцыялісты па правакацыях і дэзарганізацыі, спэцвойскі і спэцагенты. Гэта была цэлая імпэрыя ў імпэрыі – айзбэрг, масу і ледзяное дыханьне якога адчуваў амаль кожны жыхар СССР.

Калі разваліўся Саюз і перастала існаваць КПСС, айзбэрг уздрыгануўся. Генэралы КГБ палезьлі ў дэпутаты, а стукачы здавацца (у газэты). Пасыпалася агентура, пачалі разьбягацца магі, астролагі і „ГэБэёгі". Праўда, гэта трывала нядоўга. Тады па тэлебачаньні вяшчалі Кашпіроўскія, Чумакі і іншыя шаманы ў пагонах пад кашуляй, дурачылі савецкага чалавека. Падпалкоўнік КГБ, „гіпнацізёр і маг," нейкі Крываногаў і яго экзальтаваная жонка Марыя Цьвігун утварылі „Белае брацтва" і пачалі экспэрыменты над маладымі душамі. Бацыла вырвалася з лябараторыі. Сотні няшчасных бацькоў, замбаваных дзяцей. У Беларусі ў якасьці астролага практыкаваўся нейкі Глоба, займаўся прароцтвамі ў рэчышчы расейскай палітыкі. Як толькі Масква з Лукашэнкам пачынае рыхтаваць у Беларусі сваю чарговую авантуру – тут жа ў друку зьяўляецца Глоба і робіць „прароцтвы".

Апошні раз „прарок” быў у Беларусі ў 1996 годзе напярэдадні лістападаўскага перавароту. Вельмі хацеў спаткацца з Лукашэнкам, каб папярэдзіць яго, што ўвосень чакаюцца важныя паваротныя падзеі, і калі Лукашэнка будзе захоўваць сябе няправільна, ня так, як кажуць «плянэты і зоркі,» то можа пацярпець крах.

Ня ведаю, ці быў Лукашэнка ў трансе ад пачутага, ці ня быў, але выканаў усё „так”, як „казалі зоркі”. (І мы нават здагадваемся, на чыіх пагонах).

Дыктатура фармавалася на Беларусі спэцслужбамі Расеі ў атмасфэры распушчаншчыны, прававога нігілізму, карупцыі і маральнай дэградацыі ўлады. Кароткі пэрыяд разгубленнасьці КГБ мінуў. Гэта была саюзная (фактычна, расейская) структура. Ня дзіўна, што верх у ёй забралі прарасейскія сілы.

У беларускую палітыку рускія спэцслужбы актыўна ўмяшаліся ў 1992 годзе. Спрыяў гэтаму Кебіч, які баяўся новых парляманцкіх выбараў па выбарчым законе, распрацаваным БНФ. (БНФ дамогаўся тады правядзеньня рэфэрэндуму аб выбарах).

Пры Саўміне Кебічам былі ўтвораныя неканстытуцыйныя структуры, якія запоўнілі якраз функцыянеры спэцслужбаў. Стварылі пасаду дзяржсакратара, якую заняў былы куратар КГБ ад Менскага абкама партыі Г. Данілаў. Арганізацыйна аформілі прарасейскую „пятую калёну”, якая атрымала назоў „народное движение Белоруссии”. Для НДБ было аформлена дзяржаўнае фінансаваньне (праз „комитет солдатских матерей”, якія ўвайшлі ў НДБ). Узначаліў арганізацыю функцыянер новых структураў Саўміна палкоўнік С. Гайдукевіч. Спэцслужбы разьмеркавалі функцыі. Па справах войска, напрыклад, працаваў палкоўнік В. Паўлаў, па парляманце Г. Казлоў (стварылі фракцыю „Беларусь”) па сродках масавай інфармацыі палкоўнік Замяталін, Драгавец і г.д.

Менавіта гэтыя структуры і сілы падштурхоўвалі аб'яднаньне грашовых сістэмаў Расеі і Беларусі. (Казлоў, Лукашэнка, Скарынін, Грынёў езьдзілі ў Маскву, выступалі ў расейскай Думе з прапановамі „аб'яднаць” Беларусь з Расеяй і г. д.). Менавіта гэтыя сілы дамагліся (парушыўшы працэдуру закона) прыняцьця прэзыдэнцкай сістэмы ў Беларусі і выбараў прэзыдэнта.

Спэцслужбы паставілі на свайго агента. Плян рыхтаваўся яшчэ тады, калі поўным ходам ішла падрыхтоўка прэзыдэнцтва пад Кебіча. Цяпер ужо збольшага вядома, што за сілы і людзі ў Расеі выштурхнулі Лукашэнку, якія грошы, як працавалі структуры КГБ у выбарчай кампаніі, агенты і г. д. Але ня гэта істотна.

Аналітыкі КГБ зрабілі дакладны аналіз магчымай сытуацыі і якасьці электарату, палову якога (калі ня больш) складалі людзі савецкага кшталту і савецкага сьветапогляду. Ім быў умела паказаны такі чалавек, якога яны разумелі і ўспрымалі, падобны на іх. Ён казаў так, як яны думалі: пра пакараньне ворагаў, пра злодзеяў-начальнікаў, пра навядзеньне парадку і г.д., пра вяртаньне забытай кілбасы ў Савецкім Саюзе і простае бестурботнае жыцьцё ў СССР, роўнае для ўсіх. Так ім здавалася. Яны бачылі тады начальства, але ня бачылі багатых.

Дзевяноста чацьвёрты год характэрны тым, што ўпершыню пасьля доўгага прыбітага і дрымучага рабскага сну да сьвядомай палітычнай актыўнасьці абудзілася здэнацыялізаваная калгасная вёска, прачнуўся вясковы запалоханы калгасны чалавек, прачнуўся ад злосьці ў сяле і ў горадзе, дзе ён жыў, прачнуўся, каб самому паспрыяць сабе, каб самому выбраць сабе начальніка, які пакарае яго крыўдзіцеляў і кожнаму адважыць па заслугах, і кожнага простага ўзнагародзіць, дасьць, што патрэбна, ізноў жа, згодна адвечных уяўленьняў пра справядлівасьць – пароўну для ўсіх.

Ішлі на выбары, як на сьвята, апраналі лепшае адзеньне і выбралі.

Купалаўская драма. ”Сон на кургане”, які паддаецца сацыяльна-псіхалягічнаму аналізу і кіраваньню. І скарысталі гэта расейцы – аналітыкі Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі.

На постсавецкім абшары расейскія спэцслужбы бяруцца за многія справы. Ня буду казаць як пасьпяхова, бо перакананы, што ўсе іхныя ”посьпехі” ўрэшце рэшт вядуць да разбурэньня таго, што яны ствараюць. Маштабныя наступствы ў палітыцы мелі дзьве акцыі КГБ. Гэта выкарыстаньне У. Жырыноўскага для легалізацыі імпэрскай ідэалёгіі у афіцыйных сфэрах Расеі. (Роля Жырыноўскага тут чыста правакацыйная, і была сыграна, калі не казаць пра поўную адсутнасьць маралі, не без акторскага таленту.) І другая – выкарыстаньне калгаснага Лукашэнкі ў якасьці прэзыдэнта Беларусі і інтэгратара расейскай імпэрыі. Тут уражвае авантурызм і нахабнасьць камбінацыі, у якую доўга не маглі паверыць нават расейскія палітыканы.

Вынік усёй гэтай „хітравумнай”, але цалкам адналінейнай стратэгіі прывядзе Расею да разьбітага карыта, да адваротнага эфэкту – да ўмацаваньня незалежнасьці краінаў так званага СНД. Для Беларусі гэта самая цяжкая, самая хваравітая прышчэпка ад савецкага ідыятызму і, калі пацыент выжыве і выцерпіць, то будзе значна здаравейшым, чым да Лукашэнкі.

Мне і С. Навумчыку ўжо прыходзілася ня раз пісаць аб агентурным разьмеркаваньні пасадаў у прэзыдэнцкай Беларусі, аб дыктатуры расейскіх кагэбістаў. Таму ня буду на гэтым яшчэ раз спыняцца і паўтараць прозьвішчы. Зьвярну, аднак, увагу на псыхатропны аспэкт прапаганды, робленай праз тэлевізар. Тэлівізійнае шаманства (з удзелам Лукашэнкі як галоўнага медыума) падаецца даволі сістэмна і мае замбуючыя вынікі. Гэта відаць няўзброеным вокам.

Дасьледуючы справу стварэньня відэастужкі „Нянавісьць. Дзеці хлусьні” і двайнога паказу яе напярэдадні рэфэрэндуму ў травені 1995 года, я высьветліў, што за ўсім гэтым брудам стаяла ня толькі адміністрацыя прэзыдэнта і палкоўнік Замяталін (дакуманты пра гэта былі зачытаныя на судзе*), але спэцыяльная маскоўская група сацыёлагаў, псіхолагаў і іншых „спэцаў”, якая распрацоўвала прыёмы, давала рэкамендацыі. Уласьцівасьці тэлебачаньня рэжым выкарыстоўвае як узмацняючы сродак у псіхатропнай вайне з грамадзтвам.

## „АНТЫЛУКАШЭНКАЎСКАЯ АПАЗЫЦЫЯ”

Увядзеньне войска ў парлямант у ноч 12 красавіка 1995 г. і зьбіцьцё дэпутатаў Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту паказала з усёй нагляднасьцю, што ідзе скрытая, жорсткая вайна супраць Беларусі, што дзеля дасягненьня сваіх мэтаў Масква і Лукашэнка ня спыняцца ні перад чым. Гэта быў вялікі нахабны крымінал, цалкам авантурны і безразважны. Ён цягнуў за сабой ня толькі стопрацэнтны імпічмант, але і крымінальны суд. Але змаладушнічаў, збаяўся старшыня парляманту М. Грыб, змаладушнічаў і збаяўся Генеральны пракурор В. Шаладонаў (хоць і ўзбудзіў справу), змаладушнічаў Прэзыдыюм парляманту (я ўжо не кажу пра ветэранска-камуністычную большасьць Вярхоўнага Савету, якія проста па ідыёцку радаваліся, што войска ў парляманце зьбіла дэпутатаў Апазыцыі БНФ).

* Суд прызнаў стваральнікаў паклёпніцкага фільма вінаватымі і абавязаў зрабіць абвяржэньне хлусьні. – *(З. П.).*

Шлях да рэпрэсіяў, да ўжываньня грубай сілы і беззаконьня быў адчынены. Дазволіў гэта Вярхоўны Савет (яго большасьць) 12-га скліканьня. Сіла тут жа была ўжыта летам таго ж года супраць забастоўшчыкаў Менскага мэтро.

У жніўні-верасьні 1995 г. Сойм БНФ прааналізаваў антыпраўную палітыку рэжыму і рэкамендаваў прыступіць да стварэньня антылукашэнкаўскай апазыцыі. Ставілася задача згуртаваць палітычныя сілы не па нейкіх агульных ідэалягічных ці палітычных прынцыпах (гэта цяжка, ды й немагчыма), а па адносінах да Лукашэнкі і яго антыпраўных дзеяньняў. Крытэрыем агульнай справы павінны былі стаць адносіны да імпічманту прэзыдэнта. Нас у дадзеным выпадку не цікавіла, якога роду палітык перад намі: нацыяналіст, камуніст, ці выгнаны няўдачнік з адміністрацыі прэзыдэнта – былы аматар Лукашэнкі. Важна, каб ён падтрымліваў імпічмант. Такая апазыцыя, безумоўна, магла існаваць толькі часова, нейкі пэрыяд часу (да перамогі ці да паражэньня).

Асноўныя контуры антылукашэнкаўскай апазыцыі намеціліся ўжо да пачатку вясны 1996г. Канчатковае афармленьне яе стымулявалі вулічныя змаганьні Народнага Фронту і беларускай моладзі з рэжымам дыктатуры.

Арганізацыя антылукашэнкаўскай апазыцыі мела свае выдаткі для БНФ і хавала пэўную рызыку, бо Народны Фронт ня меў ужо сваіх людзей у структурах улады і ня мог бы непасрэдна паўплываць на падзеі на апошнім этапе. Так яно і атрымалася. Справа імпічманту, ужо лічы падрыхтаваная, была бязвольна, баязьліва і ганебна здраджана, сапсавана і правалена (галоўныя вінавайцы здрады старшыня Вярхоўнага Савету С. Шарэцкі і старшыня Канстытуцыйнага суду В. Ціхіня).

На гэтым і скончылася „антылукашэнкаўская апазыцыя". „Чаму скончылася ?" – можа спытаць хто-небудзь. Таму што скончыўся „прадмет" апазыцыі, яе мэта – імпічмант. Скончылася тое, што гуртавала, нягледзячы на разыходжаньні паміж палітычнымі перакананьнямі і задачамі. Пасьля лістападаўскага перавароту ня дзейнічаюць ужо законная Канстытуцыя, парлямант, Канстытуцыйны Суд. Няма да каго апэляваць з імпічмантам. Гэты тэрмін зьняты з палітычнай тэрміналёгіі ў краіне.

Рэжым амаль поўнасьцю пазбавіў беларускае грмадзтва права на легальную (законную) зьмену ўлады. Ён прызначае і зьмяняе сябе сам. Грамадзтва заганяюць у кут. Яму застаецца альбо сядзець у куце і падпарадкоўвацца рэжыму, альбо бунтавацца. Іншага выбару, практычна, не пакінута. Вось чаму ўсялякі антыдэмакратычны дыктатарскі рэжым заўсёды патэнцыяльна стварае нестабільнае становішча, правакуе барацьбу, масавыя выступы, адчайныя ўчынкі, вайну. Лукашэнка гэтую вайну ўжо даўно пачаў; і, калі Маскве спатрэбіцца, – выканае (як гэта ўжо было) любы загад.

## ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ

Адразу пасьля лістападаўскага перавароту БНФ сказаў пра новыя задачы, аб'явіў аб пашырэньні нацыянальна-вызвольнага руху, аб пэрманентным змаганьні з інтэграцыяй і акупацыйным рэжымам. Змаганьне вялося няспынна ўсю зіму і вясну гэтага году мэтадам грамадзкага пратэсту. Нацыянальна-вызвольны рух, як мы яго разумеем, – гэта ў цяперашніх абставінах ёсьць змаганьне супраць імпэрскай палітыкі Расеі за волю і незалежнасьць Беларусі. Вызначальны прадмет руху і прынцып згуртаваньня гучыць так: вольная, незалежная Беларусь, ніякай інтэграцыі, ніякіх саюзаў з Расеяй.

Істотна разумець, што ў сытуацыі, ***калі грамадзтва пазбаўлена легальнага права на выбар і зьмену ўлады, калі растаптана прававая законнасьць, Канстытуцыя, законы, то грамадзтва у такім становішчы мае права на непадпарадкаваньне і барацьбу з незаконным рэжымам.*** (Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь зьяўляецца народ). Больш таго, калі гэты рэжым стварае пагрозу незалежнасьці дзяржавы, калі ўнутраныя і зьнешнія антынацыянальныя сілы выконваюць дзеяньні па ліквідацыі беларускай дзяржавы, то (згодна Канстытуцыі і натуральнага чалавечага права) грамадзяне Рэспублікі Беларусь ***абавязаны бараніць сваю дзяржаву і Бацькаўшчыну.*** Гэта іх сьвяты доўг і абавязак. Такая пазыцыя вызвольнага руху (непрыняцьцё інтэграцыі) зьяўляецца абавязковай.

Тым часам шмат якія маргінальныя палітыкі, паражэнцы і спадарожнікі былой „антылукашэнкаўскай апазыцыі", апынуўшыся на вяршыні хвалі, прадаўжаюць па інэрцыі існаваць у 96-м годзе, імітуючы мітусьню і палітычную актыўнасьць. Яны, як і раней, супраць Лукашэнкі, але (як і раней) ня супраць інтэграцыі з Расеяй. (Дакладней, яны "за" інтэграцыю без Лукашэнкі. „Мы не против интеграции, но с Россией демократической", – удакладняюць іншыя).

Паколькі ў новых варунках адносіны да Расеі сталі вызначальнымі для апазыцыйнага нацыянальна-вызвольнага руху, то з старымі хаўрусьнікамі трэба дакладна вызначыцца і дакладна разьмежавацца. Ня могуць змагацца разам людзі, якія ставяць супрацьлеглыя мэты (супраць інтэграцыі і за інтэграцыю). Калі не размежавацца – гэта азначае зачыніць сабе пэрспэктыву палітычнай перамогі, прынесьці на сваёй сьпіне, на сваім карку зноў да ўлады ў краіне банкрутаў і здраднікаў Беларусі.

Уявім наступнае. У выпадку перамогі грамадзка-масавага змаганьня БНФ над рэжымам маргіналы (лібэралы і г.д.) паставяць зьнешне лягічнае пытаньне аб аднаўленьні дзейнасьці легітымнага парляманту (таго, які тройчы прадаў Беларусь). Эўрапейскія міжнародныя арганізацыі, якія (у выніку інфармацыйнага перакосу і адсутнасьці на гэта рэакцыі БНФ) шчыра вераць, што Фронт разам з Вярхоўным Саветам, што „апазыцыяй" кіруе „апазыцыйны парлямант" – падтрымаюць іх. Далей „апазыцыянеры" (а пры такой балотнай сытуацыі і Ціцянкоў запішацца ў апазыцыянеры, калі пакіне Лукашэнку) запатрабуюць „давыбараў" у парлямант. Прапанова будзе прывітаная ў Расеі. („Дэмакраты" Чарнамырдзін, Строеў і Селязьнёў выкажуць падтрымку). Фронтаўская прафэсура (Ю. Хадыка і інш.) тут жа зноў у 25-ы раз захоча ўдзельнічаць у выбарах. Зноў дурная дыскусія: удзельнічаць – ня удзельнічаць. Зноў пагроза расколу руху. Нарэшце давыбраны парлямант зьбярэцца і першае пытаньне, якое яны паставяць на сэсіі – аб інтэграцыі з Расеяй. На гэтым – finita. Гэтыя інтэгруюцца хутка, на каленях палезуць, „чэво ізволіце".

Верагоднасьць трапіць у сытуацыю поўнага палітычнага маразму, якую я апісаў вышэй, азначала б для Фронту палітычную сьмерць. Занадта вялікая цана, каб ігнараваць стандартныя патрабаваньні.

У „апазыцыі" 1996 года палітычная ацэнка дзейнасьці Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня была сьвядома адсунута Фронтам на другі плян. Бо была адна задача – імпічмант. Ацэнка, аднак была жорсткая і негатыўная. Здрада і правал імпічманту толькі ўмацавалі гэтую негатыўную ацэнку. Тым часам я асабіста настойваў і пісаў С. Шарэцкаму, каб апазыцыйная рэшта дэпутатаў, Прэзыдыюм і сьпікер ня спынілі (як гэта неразумна зрабіў В. Ціхіня) сваёй фармальнай дзейнасьці. Нам нельга зьмяншаць ці ліквідаваць апазыцыйныя рэжыму сілы і структуры. Іншае пытаньне аб месцы, ролі і функцыі гэтых сілаў і асобных людзей.




*26. Моладзь на дэманстрацыі. Менск.*

Гэты Вярхоўны Савет асуджаў нават "бесчинства экстремистов БНФ" 24 сакавіка 1996 года (калі АМАП зьбіваў людзей). Намесьнік сьпікера Г. Карпенка выйшаў на трыбуну ў парляманце, прылюдна адхрысьціўся і асудзіў жалобную хвіліну маўчаньня па вялікім чачэнскім герoі Джахары Дудаеве.

Адрачэньне ад імпічманту было апошняй здрадай гэтага Савета, хоць кіраўнікі яго цудоўна ведалі (я, дарэчы, напісаў пра гэта С. Шарэцкаму), што пасьля адмовы ад імпічманту парлямант перастане існаваць. Аднак жа адмовіліся. Чаму? А таму, што такая прырода і парода. Такі стыль жыцьця ў палітыцы. Адна здрада цягне другую здраду. І так увесь час, пакуль будуць ставіць на гэтых коней.

96-ы год. Самы разгар барацьбы за імпічмант, вулічныя змаганьні, сутычкі з АМАПам. У гэты час „апазыцыянер" намесьнік сьпікера Г. Карпенка наведвае Маскву, шукае падтрымкі. Вярнуўшыся, заяўляе – без Расеі „нам" ня жыць.

Ня буду нічога камэнтаваць. Але хачу заявіць выразна і зразумела. Ніколі беларускі нацыянальны рух, ніколі сумленны беларус ня стане мець справу зь людзьмі, што прадавалі ці схільныя прадаць Беларусь.

Вярхоўны Савет 13-га склікаfor ньня ў большасьці сваёй адразу выказаў жаданьне і волю супрацоўнічаць з рэжымам Лукашэнкі. Фактычна, ніхто з дэпутатаў, акрамя аднагодвух чалавек, не адстойваў нацыянальныя інтарэсы Беларусі перад інтэграцыйна-акупацыйнай палітыкай Расеі. Гэты Вярхоўны Савет зацьвердзіў вынікі антызаконнага і сфальшаванага лукашэнкаўскага рэфэрэндуму 95-га году, пацьвердзіў скасаваньне нацыянальна-дзяржаўнай сымволікі Беларусі і зьняважлівы стан беларускай мовы ў дзяржаве. Гэты Вярхоўны Савет ратыфікаваў (пры асабістай дапамозе старшыні „міжнароднай" камісіі П. К. Краўчанкі) ганебны, здрадніцкі і антыбеларускі пакт Лукашэнкі-Ельцына ад 2-га красавіка 1996 г. Супраць галасавалі толькі тры дэпутаты. І гэта не „пустая паперка", як кажа дэпутат С.Шушкевіч, які галасаваў за пакт, нічога не зразумеў і нічаму не навучыўся. І ў палітыцы, і ў палітычнай гульні, у якой важацца лёсы ўлады і народаў, няма пустых паперак, тым больш у гульні з расейскай імпэрыяй. (Я ўжо не кажу, што разважлівы ня будзе галасаваць за пустую паперку). Гэта гульня на сьмерць. Гэтая паперка і пэрспектыва яе прымяненьня, і ўсё, што за ёй стаіць, ужо другі год трасе наша грамадзтва. Сотні пабітых, зьняважаных, арыштаваных, зачыненыя грамадзкія фонды, забароненыя беларускія кнігі і газэты, зачыненыя беларускія школы, спаралізаваная беларуская эканоміка, разбураны беларускі бізнэс, пакалечаныя лёсы і абалванепае грамадзтва ідыёцкай прапагандай зьместу пустой паперкі, якая праз год спарадзіла новую пустую паперку. І так – пакуль не даканаюць, альбо пакуль ня зьявяцца людзі з хрыбетнікам, якія навучацца казаць „не".

Ня трэба таксама мець перабольшаных спадзяваньняў на дапамогу Эўропы. Ня трэба гадаваць ілюзіяў. Эўропу мала цікавяць нашыя праблемы. Яна хоча надзейнасьці і спакою і не жадае мець сабе пад бокам скулу на ўсходзе ў выглядзе дыктатарскай Беларусі. Пасьля таго, як „апазыцыя " пацярпела паражэньне, а дыктатура ўмацавалася, наступны этап эўрапейскай палітыкі – ізаляваць дыктатуру і зградзіць яе вострыя вуглы. (І ня важна, што коштам чужых нацыянальных інтарэсаў. Эўропе гэта не абходзіць). Потым – стварэньне прыймальнага рэжыму супрацоўніцтва з прычэсанай дыктатурай. Эўрапейская палітыка заўсёды была філісьцерскай і ніякі „гістарычны вопыт" на гэтыя яе якасьці не ўплывае.

Тут, праўда, ёсьць пэўная лягічнасьць у тым, што ізаляваўшы рэжым, цяжка на яго ўзьдзейнічаць. БНФ, аднак, просіць Злучаныя Штаты спыніць фінансавую дапамогу Расеі за тое, што яна рыхтуе анэксію Беларусі і ўскосна трымае рэжым Лукашэнкі. Злучаныя Штаты за супрацоўніцтва Расеі з НАТО маглі б паставіць умову спыніць пагрозу беларускай незалежнасьці з боку Расеі. Рычаг уздзеяньня на рэжым у Беларусі ёсьць.

Тым часам Эўропа ўжо прыступіла да „згладжваньня вуглоў", да мірэньня Лукашэнкі з разагнанымі дэпутатамі і да „легітымізацыі" рэжыму. 20-га траўня антылукашэнкаўская частка парляманту згадзілася супрацоўнічаць з Лукашэнкам па ўнясеньні зьмяненьняў у лукашэнкаўскую канстытуцыю. Стварылі камісію па перамовах. Дзіцяці зразумела, што гэта шлях да прызнаньня правамоцнасьці гэтай канстытуцыі і легітымнасьці антызаконнага рэжыму. Вось і прыехалі, спадары.




*27. Дэманстрацыя БНФ. Ліпень 1997. Менск.*

Магчымасьць рэабілітацыі, на мой погляд, фармальна можа ўзьнікнуць толькі ў С. Шарэцкага, паколькі ён, згодна Канстытуцыі, павінен спаўняць абавязкі прэзыдэнта краіны (пасьля адстаўкі Лукашэнкі). Ці выкарыстае ён свой апошні шанец, калі лёс яму зноў яго падорыць, – ніхто ня ведае. Малаверагодна. Зрэшты, гэта ўжо ня будзе мець істотнага значэньня – узьнікнуць іншыя варыянты.

## КАЛІЗІІ І ПЭРСПЭКТЫВЫ

Мы, безумоўна, перажываем трагедыю як расплату за страшнае мінулае. Але адначасна мы перажываем яе як пакутлівы шлях да свабоды. І мы ўжо ўзышлі на яго разам з новым пакаленьнем людзей. Заўтра, як кажуць валійцы ў Брытаніі, мы будзем ужо за вуглом.

Без пакутаў не атрымліваецца. Свабода тады дарагая, калі аплочана пакутамі, ахвярамі і крывёй. Такая яе цана. І калі яна яе прад'явіць – альбо плаці, альбо не, і заставайся рабом. Выбірай.

Ні адно дзеяньне па задушэньні свабоды, нават самае жорсткае, ня ёсьць абсалютна разбуральнае, калі існуе яму хоць малое супраціўленьне. У гэтым ёсьць крыніца аптымізму любой барацьбы.

Вялікія агульнаграмадзкія ідэі, якія кажуць пра неабходнасьць вялікіх грамадзкіх пераменаў, заўсёды патрабуюць адкрытага змаганьня, адкрытых дэкларацыяў і канкрэтных сымвалаў. Прынцып такі: запальваем сьвечку і ставім на стол, каб бачылі ўсе. Тады прыдуць. Таму, хто, запаліўшы сьвечку, паставіў яе под ложак (каб ня ўбачылі і не патушылі), ні на перамогу, ні на падтрымку спадзявацца ня трэба. Вялікія ідэі патрабуюць змагароў і сьмелых людзей. Гэта унівэрсальны прынцып, які прывёў да ўсталяваньня хрысьціянства і сусьветных рэлігій, да перамогі нацыянальных ідэяў і стварэньня незалежных дзяржаваў, да грамадзкіх пераменаў. Нашая ідэя – гэта беларуская ідэя.

Побач з адкрытасьцю і барацьбой заўсёды існуе сьвядомасьць філістэрская, якая робіць выбар, але ня здольная да змаганьня. Яна падпісваецца псэўданімам. Гэтыя людзі схільныя ставіць запаленую сьвечку пад ложак. Яны выступаюць з пазыцыяў „разумнікаў." Яны таксама за ідэю, але разумнейшыя за яе. Яны раяць „не высоўвацца", "не выпячивать белорусский язык" („хотя мы за"), „не выступать открыто против КПСС" („хотя мы понимаем..."), „не выступать против России" („пакуль тое ды гэтае"), "не писать о русском империализме и его опасности" („хотя всё правильно") і г.д. І, дадам, хоць артыкул аб імпэрыялізме быў для іх першым „лікбезам" у разуменьні рэальнай палітыкі, лікбезам, які яны так і не засвоілі. Палемізаваць з „разумнікамі" немагчыма (і ня трэба марнаваць час). Яны ўсё роўна разумнейшыя.

За мяжой стала відавочна, што, каб міжнародная супольнасьць падтрымала незалежнасьць і дэмакратыю ў Беларусі, трэба ехаць у Амэрыку. Цэнтар сусьветнай палітыкі ў Вашынгтоне. Я ўяўляў, якая гара працы і невядомасьці чакала ў Амэрыцы. Цяпер нават цяжка паверыць, што гэтая гара пяройдзена, што адбыліся дзясяткі спатканьняў зь вядучымі палітыкамі і дзеячамі ЗША, кіраўнікамі камісіяў Кангрэсу, Сэнату, Дзяржаўнага Дэпартаманту, што адбыліся канфэрэнцыі і абмеркаваньні беларускіх праблемаў, слуханьні (брыфінг) беларускага пытаньня ў Кангрэсе ЗША пры нябывалай

зацікаўленасьці палітыкаў (заля была перапоўненая), выступы па амэрыканскім тэлебачаньні (CNN), куды трапіць вельмі няпроста, супрацоўніцтва з праваабарончымі арганізацыямі і г.д.

Калісьці ў 1995г. кіраўніцтва БНФ плянавала зрабіць прарыў у міжнародным інфармацыйным вакууме вакол Беларусі. Хацелі выехаць у Варшаву і зрабіць прэсавую канфэрэнцыю для замежных журналістаў пра стан на Беларусі. Цяпер можна толькі ўсьміхнуцца з нашай наіўнасьці, што плянавалі кроплю ў моры. За год знаходжаньня за мяжой мы з Сяргеям Навумчыкам зрабілі, напэўна, больш сотні такіх канфэрэнцыяў, выступаў і інтэрв'ю ў розных краінах. У польскіх гарадах мне прыходзілася выступаць па тэлебачаньні і радыё ў адкрытым эфіры бывала па 5-6 разоў на суткі (нават пасьля поўначы). Ды і ня гэта мела рашаючае значэньне. Вось і тут выходзіць таксама: не было шчасьця, дык няшчасьце дапамагло.

Вымушанае растаньне з Радзімай – няшчасьце. Аднак фактам зьяўляецца тое, што вымушаная дзейнасьць старшыні БНФ за мяжой аказалася больш эфектыўнай, чым дзейнасьць усёй дыпляматычнай службы рэжыму Лукашэнкі, якая амаль поўнасьцю складаецца з функцыянераў і агентаў расейскіх спэцслужбаў і КДБ. Дыпляматычная машына Шэймана-Лукашэнкі, якая заўсёды дзейнічала ва ўнісон з рускімі амбасадамі і місіямі, пацярпела паражэньне. Узровень, на якім прымалі мяне ў афіцыйных колах Вашынгтона, быў вышэйшы, чым узровень на якім прымалі лукашэнкаўскага пасла ў Амэрыцы. І замена аднаго пасла-агента-рэзыдэнта Мартынава на іншага пасла-агента Цапкалу – нічога ня дасьць. У некаторых краінах кіруючыя асобы, зь якімі я без праблемаў меў гонар спатыкацца, на парог не пускалі перад гэтым да сябе лукашэнкаўскага міністра замежных справаў Антановіча. А гэта сьведчыць аб тым, што нягледзячы на шалёную ўнутраную і міжнародную прапаганду па кампраметацыі БНФ з боку розных антановічаў, сапраўдны рэйтынг Фронту ў вачох прафэсійных палітыкаў ня зьнізіўся і не зьмяніўся.

Палітычнае дзеяньне мераецца вынікам. А вынік такі, што міжнародная супольнасьць не прызнала лукашысцкі рэжым, яго дзеяньні і структуры. Вынік такі, што яго палітыка ў ізаляцыі. Вынік той, што міжнародная супольнасьць цяпер значна лепш інфармаваная пра Беларусь, чым калі б гэта ні было.

Усе захады па інкарпарацыі Беларусі, якія Крэмль і Лукашэнка робяць цяпер пад відам „інтэграцыі," усе папяровыя саюзы Беларусі з Расеяй, падпісаныя Лукашэнкам і Ельцыным, зьяўляюцца крыміналам, яны не адпавядаюць Канстытуцыі Беларусі і ня могуць быць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю, якая не прызнала рэжым Лукашэнкі, яго „канстытуцыю", „парлямант" і „рэфэрэндум". Беларускі Народны Фронт не прызнае іх.

Незаконнасьць пактаў, неправамоцнасьць дзеяньняў Крамля і Лукашэнкі не здымае небясьпекі над беларускай незалежнасьцю. Расейская імпэрыя заўсёды ігнаравала законы і правы. Ставячы на хлусьню, вераломства і сілу, яна імкнулася стварыць такім чынам новую палітычную рэальнасьць і зморам прымусіць потым усіх гэтую новую рэальнасьць прызнаць. Тут тыповая палітыка вайны. Такім чынам сьвет некалі вымушаны быў прызнаць бальшавікоў і СССР, сталінскі пасьляваенны падзел Нямеччыны, гітлераўскія аншлюсы і г.д. Ён гатовы быў цяпер прызнаць і зьнішчэньне Чачэніі, калі б чачэнцы не абаранілі сябе самыя са зброяй ў руках.

Расейская анэксія Беларусі – гэта працэс паэтапны. Існуе імпэрскі плян інкарпарацыі Беларусі, дзе кожны этап прывязаны да адпаведнага часу. Той, хто разумее расейскую палітыку і расейцаў, павінен умець чытаць іхнія легальныя дакументы, складзеныя на аснове схаваных плянаў. Пра гэта я казаў вясной мінулага году ў Кіеве, чакаючы асеньніх падзеяў на Беларусі. Яны адбыліся (праўда, не зусім так, як плянавала Расея, і тут ужо слава Фронту).

У пляне імпэрскай палітыкі неабавязковыя па сваёй прыродзе расейцы ёсьць заўсёды пасьлядоўныя імпэрыялісты і пэдантычныя, як немцы. 15-га сьнежня мінулага году, аналізуючы „міжрадкоў'і" расейскіх дакумантаў, я паведаміў у польскім часопісе „Впрост", што ў пачатку 1997 года чакаюцца ініцыятывы па аб`яднаньні Расеі і Беларусі, па стварэньні нейкай новай канфэдэрацыі. Ельцын даўно хварэў і была цішыня. Тым ня менш, 14 студзеня ён раптам „аджыў" і выступіў зь лістом да Лукашэнкі аб „аб`яднаньні". І зноў закруцілася. Закруцілася, між іншым, па пляну, які, праўда, увесь час трашчыць.

На 1997 год, дарэчы, расейцы заплянавалі „аб`яднаўчы рэфэрэндум у Расеі і Беларусі (гл. тэкст пакту ад 02.04.96). Цяпер (паколькі пляны крыху скасабочыліся) ідзе спрэчка: праводзіць – не праводзіць. „Бэтон" будзе настойваць на рэфэрэндуме. Спыніць нэаакупантаў могуць толькі падзеі ў Беларусі.

Выразна сталі відаць сілы ў Расеі, што ставяць на Лукашэнку (каб вырашыць свае інтарэсы) і тыя, хто хацеў бы ад яго пазбавіцца. Аднак ***уся руская палітычная эліта зыходзіцца на адным яўным і тайным жаданьні: пры дапамозе Лукашэнкі захапіць Беларусь і тут жа ад яго пазбавіцца.*** Спэцыфічнай расейскай дыпляматычнай мовай пра гэта сказана і ў згаданым мною ананімным дакладзе МЗС Расеі. „У сувязі з распачатым прасоўваньнем НАТО на ўсход у Расеі ёсьць ***год-паўтара*** дзеля наданьня працэсу аб`яднаньня зь Беларусьсю незваротнага характару..,"– пішуць прымакоўскія экспэрты,–"да сканчэньня гэтага пэрыяду наўрад ***ці варта*** чакаць падзеньня прэзыдэнта Лукашэнкі."

Сытуацыя амаль шэкспіраўская. Зладзей робіцца магільшчыкам самаму сабе.Чым хутчэй ён здасьць Беларусь, тым хучэй „рускі брат" арганізуе яго „падзеньне".

Задача беларусаў – не дапусьціць „здачы" краіны і адначасова выставіць ***патрабаваньне аб адстаўцы Лукашэнкі і ліквідацыі пасады прэзыдэнта***. Гэта, дарэчы, для яго лепшы варыянт, чым той, які яму падрыхтавалі рускія. (Дабраахвотная адстаўка будзе ўлічана на судзе).

Шчырыя беларусы (прытым толькі беларусы, больш ніхто на сьвеце) тут жа скажуць: „Дык ён жа ня пойдзе! Памрэ – ня пойдзе! Тым больш, дабраахвотна".

Ну, вядома ж, сам ён ня пойдзе. Трэба дапамагаць. Дыктатары па сваёй волі ў адстаўку ня ходзяць. (Хоць, калі Мабуту сказалі – дык і пайшоў. А калі Кастра ня кажуць, то і ня йдзе). Патрабаваньне трэба ставіць, дамагацца, казаць пра гэта кожны дзень. І чым больш людзей гэта зразумее, тым хутчэй Беларусь збавіцца ад калгаснага дыктатара.

У Народным Фронце трэба зараз падумаць аб стварэньні там на працягу лета Беларускага Нацыянальнага Камітэту, які павінен прапанаваць мадэль пераходу ўлады ад узурпатарскай дыктатуры да парляманцкай рэспублікі. Функцыі Камітэту могуць быць потым вельмі шырокія. Пасьля падзеньня рэжыму выконваючы абавязкі прэзыдэнта павінен быў бы адразу аб`явіць аб аднаўленьні дзейнасьці Канстытуцыі, законаў і аб правядзеньні выбараў у новы парлямант 14-га скліканьня. Адразу павінны быць скасаваныя ўсе ўказы, дэкрэты і распараджэньні, дагаворы і т.п. лукашэнкаўскага рэжыму, а таксама антыканстытуцыйныя акты (вызначаныя Канстытутацыйным судом), выпушчаныя з турмы палітычныя вязьні, тыя, каго Лукашэнка пасадзіў без суда па падазрэньні і інш. Адразу павінны быць вернутыя сьцяг і гэрб

*„Пагоня”*, адноўлена дзейнасьць беларускіх школаў, беларускіх газэтаў, выдавецтваў, беларускага радыё і тэлепраграмаў, да пачатку дзейнасьці новага парляманту трэба прыняць тэрміновыя захады па спыненьні раскраданьня дзяржаўных сродкаў і фінансаў, па упарадкаваньні падаткаў, аднаўленьні прадпрыймальніцтва. Першай задачай новага парляманту, пажадана, каб стала скасаваньне пасады прэзыдэнта і ўсталяваньне парляманцкай сыстэмы з шырокімі функцыямі прэм`ер-міністра. (Што і было ў парляманцкім праекце Канстытуцыі 94-га году. „Прэзыдэнцкі” разьдзел туды „ўпіхнула” штучна і насільна з грубым парушэньнем працэдуры галасаваньня кебічаўская фракцыя парляманцкай большасьці „Беларусь”).

Гэта прынцыповае пытаньне сістэмы ўлады ў Беларусі. Захаваньне інстытуту прэзыдэнцтва ў саветызаваным і люмпэнізаваным грамадзтве зь нізкім узроўнем нацыянальнай сьвядомасьці прывядзе да выбраньня новага „лукашэнкі” і стварэньня чарговага рэжыму з чарговай мафіяй і чарговай здрадай.

У працэсах грунтоўных (ці раптоўных) палітычных пераменаў трэба адразу вырашаць найбольш важныя для дзяржавы і нацыі пытаньні. Той, хто гэтага ня робіць адразу, той рызыкуе іх ня вырашыць ніколі, альбо вырашыць дрэнна, ці трапляе ў сытуацыю, у якой, напрыклад, апынуліся цяпер палякі з Канстытуцыяй. ***У інтарэсах будучыні Беларусі трэба будзе не адкладваючы прыняць парляманцкую заяву аб анэксіянісцкай палітыцы Расеі і пастанову аб выхадзе з СНД*** (якая, праўда, і так ужо, фактычна, разваліласяз-за раскольніцкай імпэрскай палітыкі Масквы. Тым больш самы час прыняць пастанову. Бо гэты фантом яшчэ скарыстаюць, калі, напрыклад, умацуецца рэжым у Расеі).

У бліжэйшы час Фронт выставіць новыя лёзунгі, удакладніць мэтады грамадзкага змаганьня. Яно ня спыніцца і будзе пашырацца. Наўрад ці варта казаць мне тут пра канкрэтыку вызвольнай барацьбы, якая доўжыцца і якая наперадзе. Магу толькі адзначыць: мы лічым, што незалежнасьць Беларусі пад пагрозай і Бацькаўшчына ў небясьпецы. Таму мы палітычна падтрымліваем цяпер любое змаганьне ў абарону Айчыны. Сам Беларускі Народны Фронт і як рух, і як партыя, і як маладзёвы змагарны Фронт будзе узмацняць грамадзка-палітычную дзейнасьць, пастараецца прыцягнуць як найшырэйшыя пласты свабодных людзей у беларускі вызвольны рух.

Паўтаруся яшчэ раз. Для нашага грамадзтва (ці, рэальна, для актыўнай часткі грамадзтва) неабходна цяпер мець адзіную пазыцыю (якую б я акрэсьліў сцьвярджэньнем: ***„ніякай інтэграцыі з Расеяй”***) і адзінае патрабаваньне – адстаўка Лукашэнкі. Некалі Лукашэнка дэмагагічна заяўляў, што калі нічога не палепшыцца, то праз два гады пойдзе ў адстаўку. Прайшло тры гады.

У 1996 годзе быў механізм імпічманту. Цяпер няма механізму адстаўкі. Але, калі будзе воля, то будзе й вынік. Калі мы хочам пазбавіцца дыктатуры і захаваць незалежнасьць Беларусі, ***мы павінны найперш абараняць, ахоўваць, падтрымліваць і любіць усё беларускае: і краіну, і мову, і школу, і культуру, і прыроду, і маёмасьць, і людзей.*** Усім беларусам трэба падтрымліваць беларускі вызвольны рух і палітыку нацыянальна-культурнага адраджэньня. У становішчы агульнай нацыянальнай небясьпекі дзейнічаюць іншыя законы і іншыя крытэрыі, чым тады, калі сьмяртэльнай небясьпекі няма. У такія часы добра, калі людзі ўмеюць ахвяравацца дзеля агульнае беларускае справы, як і дзеля кожнага беларуса, і сваім клопатам, і часам, і працай, і грашыма, і маёмасьцю, і, калі хто зможа, і калі патрэбна – уласным лёсам.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Свабода”. – 1997, 17,18,20,24,25 чэрвеня)*




***28. Фронтаўскі пікет. Менск.***

# ЗМАГАНЬНЕ ЗА БЕЛАРУСЬ

***(Палітычны справаздачны даклад на V зьезьдзе БНФ, чэрвень 1997 г.)***

## 1. АГУЛЬНЫЯ АЦЭНКІ

а) Пэрыяд з сярэдзіны 1995 і па чэрвень 1997 гг. быў адзін з самых цяжкіх пэрыядаў дзейнасьці і змаганьня БНФ. Фронт узяў на сябе асноўны цяжар барацьбы з акупацыйным рэжымам і анэксіяністцкімі плянамі Расеі. Фронт прапанаваў ідэі і стварыў стратэгію барацьбы.

б) *Тры галоўныя дасягненьні БНФ* за гэты перыяд:

1. Закладзены грунт беларускага вызвольнага руху, які робіцца сутнасьцю БНФ.
2. Упершыню зроблены пастаянны прарыў у міжнародную палітыку, які прынёс адчувальныя палітычныя вынікі.
3. Ініцыявана ўтварэньне маладзёвага руху вызвольнага фронту.

в) *Асноўныя недапрацоўкі*:

1. Не праявілі прадбачлівай і сьмелай ініцыятывы дзеля прадухіленьня парляманцкай здрады ў час лістападаўскага перавароту.
2. Своечасова не разьмежаваліся з маргінальнымі рэшткамі „антылукашэнкаўскай апазыцыі” і бяспрынцыпнымі паражэнцамі. Не паставілі перад імі жорсткага выбару, які вызначаецца па адносінах да так званай „інтэграцыі” з Расеяй, г.зн. да яе імпэрскай анэксіяністцкай палітыкі. Ня могуць змагацца разам людзі, якія ставяць супроцьлеглыя задачы (супраць інтэграцыі і за інтэграцыю).

## 2. ПАЛІТЫЧНАЯ СЫТУАЦЫЯ І СУТНАСЬЦЬ ПРАЦЭСАЎ

а) *Інтэграцыя*. Аналіз беларускай і расейскай палітыкі ад 1992 г. і па 2 красавіка 1996 г. паказаў, што ў расейцаў існуе распрацаваны плян інкарпарацыі Беларусі. Ён актыўна пачаў ажыцьцяўляцца яшчэ пры Кебічы. Асноўную ролю ў гэтым адыгрывалі расейскія спэцслужбы і іх агентура ў КГБ Беларусі. Стварэньне ўмоваў для выбраньня Лукашэнкі за прэзыдэнта Беларусі было часткай гэтага пляну. Намячалася інкарпараваць Беларусь праз сістэму саюзных пагадненьняў. Палітыка атрымала прапагандысцкую назву „інтэграцыя”.

б) *Акупацыя. Падрыхтоўка дыктатуры*.

На працягу 1994 –1995 гг. спэцслужбы Масквы праз рэжым Лукашэнкі праводзілі ўнутраную акупацыю Беларусі (г.зн. захоп Расейскімі спэцслужбамі і расейскімі стаўленікамі ключавых пазыцыяў ва ўладзе і ў дзяржаве знутры без правядзеньня вайсковых апэрацыяў). Рыхтаваліся ўмовы для дыктатуры. Адразу былі манапалізаваныя прэзыдэнцкай уладай сродкі масавай інфармацыі, потым забаронены нацыянальныя дзяржаўныя сымвалы Беларусі, ліквідаваныя і без таго прымітыўныя формы мясцовага самакіраваньня, узятыя пад кантроль сілавыя структуры і створаны новыя (неканстытуцыйныя), распачата зьнішчэньне беларускай школы, асьветы, культуры. Прымаюцца пастаянныя захады Мін`юста, каб забараніць БНФ. Распачата масаваная агентурная праца па расколе і разбурэньні беларускіх палітычных нацыянальна-адраджэнскіх арганізацыяў, найперш БНФ, БЗВ і Грамады, выкарыстаньне амбіцыйных групаў і асобаў, ініцыяваньне штучных дыскусіяў і г.д. Было разбурана БЗВ, расколата Грамада, фактычна ліквідаваная яе беларуская нацыянальна-адраджэнская сутнасьць. У склад парляманту не дапушчана ніводнага сябра БНФ (у выніку татальнага ўплыву ўлады на выбары і выбарчыя камісіі, а таксама – фальсыфікацыі). Падрыхтоўваецца ліквідацыя парляманту, Канстытуцыйнага Суда і іншых законных ворганаў улады.

в) *Аншлюс*. З пачатку 1996 г. пачалася палітычная падрыхтоўка інкарпарацыі Беларусі ў Расею. Рыхтуецца заключэньне міждзяржаўнага дагавору аб стварэньні садружнасьці Беларусі і Расеі і афіцыйнае прыняццё пляну інкарпарацыі. Наступны этап – заключэньне Беларуска-Расейскага саюза па прынцыпу СССР і правядзеньне рэфэрэндуму аб аб`яднаньні дзяржаваў у адну са сталіцай у Маскве і г.д. Другога красавіка 1996 г. у Маскве, у парушэньне Канстытуцыі і законаў Беларусі быў падпісаны беларуска-расейскі дагавор аб садружнасьці (пакт Лукашэнкі-Ельцына). Аднак рэальная сытуацыя ўнесла свае карэктывы і ўскладніла працэс анэксіі Беларусі.

г) *Дыктатура*. У 1996 г. Беларусь ужо, фактычн, існавала ў рэжыме дыктатуры. Груба, з ужываньнем сілы падаўляюцца ўсялякія пратэсты і дзеяньні ў абарону незалежнасьці, законнасьці і дэмакратыі. Груба і адкрыта рыхтуецца ліквідацыя парляманту, Канстытуцыйнага Суду, Канстытуцыі, наданьне прэзыдэнту абсалютнай улады і неабмежаваных паўнамоцтваў. Разглядаюцца і рыхтуюцца сілавыя варыянты. Для правядзеньня аншлюсу Масква хацела мець поўны і непасрэдны ўплыў на ўладу і працэсы ў Беларусі. Рэжым Лукашэнкі падтрымліваўся Масквой, яго палітыка праграмавалася Крамлём і спэцслужбамі Расеі.

У рашаючы момант, калі рэжым Лукашэнкі вісеў на валаску, Масква непасрэдна ўмяшалася ў падзеі на Беларусі і падтрымала лістападаўскі пераварот. З 24 лістапада 1996 г. на Беларусі афіцыйна (фармальна) існуе дыктатура, адменена Канстытуцыя, ліквідавана дзейнасьць парляманту, Канстытуцыйнага Суду. Уся ўлада забрана ў рукі аднаго чалавека – усенародна выбранага прэзыдэнта Беларусі Лукашэнкі, агента КГБ, стаўленіка спэцслужбаў Расеі, асноўнага спраўцы і выканаўцы перавароту. Зьдзейсьнены палітычны акт узурпацыі ўлады ў дзяржаве і крымінальнае злачынства супроць Канстытуцыі. Міжнародная супольнасьць у выніку ахвярнага змаганьня БНФ і іншых антылукашысцкіх сілаў у Беларусі не прызнала рэжыму, яго „рэфэрэндуму”, канстытуцыі і структураў дзяржаўнай улады. Не прызнаём яго і мы.

д) *Змаганьне з Расеяй*. Пасьля лістападаўскага перавароту ў Беларусі Масква актыўна працягвала падрыхтоўку чарговага палітычнага этапу інкарпарацыі. Яна адкрыта ўзяла на сябе ўсе галоўныя ініцыятывы, падключыла ўсе Расейскія палітычныя групы і сілы. Паміж імі пачалося змаганьне за прыярытэт у анэксіі Беларусі. Кожная група хоча выкарыстаць захоп Беларусі ў інтарэсах сваёй унутранай Расейскай палітычнай пэрспектывы. Сытуацыя з падпісаньнем чарговага этапу аншлюса Беларусі 02.04.97г. выявіла, што Лукашэнка ўцягнуты ў барацьбу рускіх палітычных групаў і прадстаўляе найперш пазыцыі камуністаў і шавіністаў Расеі (спэцслужбаў, якія за гэтым стаяць) і шырокага мафіёзнага расейскага капіталу. Сытуацыя выявіла, што асабістыя амбіцыі Лукашэнкі, яго прэтэнзіі на вышэйшую дзяржаўную пасаду ў Расеі (як плату за прадажу Беларусі) сталі праблемай палітычнага гандлю і абмеркаваньня ў колах расейскай палітыкі.

Сытуацыя пацьвердзіла даўно відавочны факт – адсутнасьць эўрапейскага разуменьня дэмакратыі ў Расеі. Імпэрская палітыка „інтэграцыі” і пляны захопу Беларусі з усёй відавочнасьцю паказалі, што ***дэмакратыя ў Расеі – гэта асаблівая форма***

***імпэрскай ідэалёгіі.*** Перад пэрспектывай інкарпарацыі Беларусі ў межы Расейскай імпэрыі руская інтэлігенцыя і рускія палітычныя сілы, якія залічваюць сябе да дэмакратаў, паказалі сваю поўную палітычную і маральную нікчэмнасьць. Ніхто ня выступіў супраць імпэрскай палітыкі інтэграцыі, хоць кожны разумеў, што за гэтым стаіць. Дыскусія ішла аб мэтадах і прыярытэтах групаў у захопе Беларусі „чыстымі" ці нячыстымі рукамі, як сказаў былы савецкі паэт Вазьнясенскі, карыфей і імпэрыяліст „рускай дэмакратыі". Але ў патрэбе анэксіі (інтэграцыі) ніхто ў Расеі не засумняваўся. Сытуацыя, як у 1864 г., калі павешаньне беларускіх паўстанцаў адобрыла і падтрымала ўся ўзрушаная і радасная Расея, а „народны" паэт Някрасаў пісаў оды ў гонар Мураўёва-вешальніка.

Аднак галоўным фактарам у няўдачы расейскай палітычнай агрэсіі зьяўляецца пазыцыя беларускіх палітычных элітаў і настрой ў беларускім грамадзтве. Першае паўгоддзе 1997 г. паказала, што, нягледзячы на дэзынфармацыю афіцыйных беларускіх і расейскіх СМІ, усё больш актыўных людзей ў Беларусі пачынаюць разумець сапраўдныя мэты і ролю Расеі ў палітыцы „інтэграцыі", усё больш людзей гатовых ўступіць на шлях актыўнай барацьбы з акупантамі.

Выразную антыімпэрскую, антырасейскую пазыцыю займае БНФ. Палітыкі і аналітыкі на Захадзе (у прыватнасьці, у ЗША) усё часьцей схіляюцца да думкі аб неабходнасьці жорсткага эканамічнага і фінансавага ўзьдзеяньня на Расею, калі яна ня спыніць палітыку аншлюса Беларусі і падтрымку камуна-фашысцкага рэжыму Лукашэнкі. Расею называюць вінаватай у зьнішчэньні дэмакратыі ў Беларусі.

## 3. НАРОДНЫ ФРОНТ У БАРАЦЬБЕ З РЭЖЫМАМ І ЎНУТРАНАЙ АКУПАЦЫЯЙ БЕЛАРУСІ

а) *Структуры*. У жніўні 1995 г., адразу пасьля IV зьезду, Фронт стварае новыя камісіі Сойму і рэарганізуе свае выканаўчыя структуры. Туды прыходзяць новыя людзі, што праявілі сябе ў Радах. Поўнасьцю абноўлены быў сакратарыят Управы. Дзейнасьць Управы і сакратарыяту Управы трэба прызнаць станоўчай. Яны добра праявілі сябе ў складанай абстаноўцы 1996 – 1997гг., а ў асобных сытуацыях паводзілі сябе геройчна.

Вялікую працу, як заўсёды, рабіла Камісія па культуры Сойму БНФ і Камісія па адукацыі і асьвеце. Да канца 1995г. статутна аформілася Камісія садзеяньня Беларускай Арміі (СБА) і пачала працу. Адноўлены былі некаторыя структуры ў вобласьцях і раёнах. Прызначаныя абласныя куратары.

Чарговым выпрабаваньнем для БНФ былі давыбары ў парлямант у лістападзе-сьнежні 1995г. Сытуацыя паказала ў цэлым бясьсільле нашых структураў і кантралёраў перад грубай сілай і беззаконьнем рэжыму ў час выбараў, немагчымасьць прымусіць улады выконваць закон. Становішча пацьвердзіла праблематычнасьць удзелу БНФ у выбарчай кампаніі ў абставінах поўнага бясправаўя, беспакаранасьці ўладаў і антызаконных дзеяньняў рэжыму.

б) *Ідэя*. Галоўнай ідэяй, кансалідуючай БНФ і актыўнае беларускае грамадзтва, была прынята Фронтам – Беларуская нацыянальная ідэя. Галоўныя задачы – абарона дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і ліквідацыя антыбеларускага рэжыму. Бліжэйшай мэтай, вызначанай у 1995 годзе, – імпічмант Лукашэнкі.

в) *„Антылукашэнкаўская апазыцыя"*. У жніўні – верасьні 1995г. Фронтам прыняты курс на стварэньне „антылукашэнкаўскай апазыцыі", якая павінна была грунтавацца на адзіным асноўным прынцыпе – імпічманце і аб`яднаць усіх незадаволеных Лукашэнкам і яго паводзінамі ў палітыцы. Ценеваму Кабінету БНФ рэкамендавалі зрабіць некаторыя распрацоўкі для розных фракцыяў у парляманце (па бюджэту, адукацыйнай палітыцы і г.д.). Мной былі праведзены спатканьні са сьпікерам парляманту, адным з кіраўнікоў камуністаў С.Калякіным і інш.

Контуры „антылукашэнкаўскай апазыцыі" ўжо намеціліся да пачатку вясны 1996г. Прадугледжваўся таксама масавы грамадзкі ціск на парлямант з патрабаваньнем прызнаць імпічмант і выконваць Канстытуцыю. Кардынальны аспэкт дзеяньняў Фронта – арганізацыя грамадзтва на змаганьне за незалежнасьць і свабоду Беларусі, шырокага супраціўленьня акупацыйнай палітыцы Масквы, здрадніцкім дзеяньням прэзыдэнта і парляманту.

Першая вялікая масавая акцыя, зь якой пачалося сістэматычнае змаганьне з рэжымам і акупацыяй, была падрыхтавана БНФ 24 сакавіка 1996 г. на 78-ю гадавіну БНР.

Масква не чакала такога масавага супраціўленьня аншлюсу на Беларусі. Рэжым ужыў жорсткія меры. Праз дзень я быў папярэджаны аб пляне расправы нада мной. Апэрацыя пачалася 26 сакавіка.

Нечаканасьцю для рэжыму была мая раптоўная эміграцыя. Ужо калі я быў за мяжой, намі былі разам давершаны контуры тактыкі Фронта і „антылукашэнкаўскай апазыцыі". З майго боку была пастаянная інфармацыя, прапановы для калег па кіраўніцтву БНФ і для сьпікера парляманту. Аб зьмесьце гэтых прапановаў мае намесьнікі і сакратары Управы былі паведамлены.

„Антылукашэнкаўская апазыцыя" канчаткова аформілася ў пачатку восені 1996г. Аднак задума хавала вялікую небясьпеку для БНФ, паколькі Фронт ня меў ужо сваіх прадстаўнікоў у ворганах улады (у парляманце) і ня мог уплываць на ход справы на апошнім этапе.

Апасеньні пацьвердзіліся. Справа імпічманту была якраз на апошнім этапе здраджана і правалена кіраўніцтвам парляманту, асобнымі дэпутатамі і старшынём Канстытуцыйнага Суда. Нашы недапрацоўкі былі ў тым, што мы часта выпускалі ініцыятыву там, дзе яна павінна была быць за Фронтам. Мы аслабілі ціск на здрадніцкі парлямант, часам нават стваралася ўражаньне, што Фронт палюбоўна супрацоўнічае зь ім. Практычна заставалася нявызначанасьць стасункаў з парлямантам, адчувалася недавядзеньне нашай пазыцыі да яго ведама. Трэба адзначыць таксама непрадбачаньне намі бязвольных паводзінаў С.Шарэцкага, В.Ціхіні, Г.Карпенкі, П.Краўчанкі, усяго Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета – і непрыняцьцё з боку Фронта неардынарных захадаў па прадухіленьні здрады. Гэта, як я ўжо адзначыў у пачатку, наша агульная недапрацоўка (хоць у тэорыі ўсё было на месцы).

г) *Вызвольны рух*. Здрадай кіраўніцтва парляманту і антыканстытуцыйным пераваротам лукашэнкаўскай хунты ў змове з кіраўніцтвам Расеі скончылася „антылукашэнкаўская апазыцыя".

Чаму скончылася, а не працягваецца? (Могуць спытаць.) Таму што скончыўся прадмет апазыцыі – імпічмант. Зьнік прынцып, на якім гуртаваліся розныя сілы і людзі. Скончылася магчымасьць ажыцьцяўленьня імпічманту. Гэты тэрмін зьняты з палітычнага лексікону ў пасьлялістападаўскай Беларусі. Масква перайшла ў наступ на беларускую незалежнасьць. Зьмяніліся ўмовы. Сытуацыя ўсё больш губляе прававы характар і набліжаецца да стану вайны. (На фоне ціхманасьці і дэмаралізацыі грамадзтва).

У гэтых умовах галоўнай задачай, якая ўключае ў сябе і барацьбу з рэжымам, ёсьць абарона дзяржаўнай незалежнасьці

Беларусі і змаганьне з анэксіяністкімі акупацыйнымі плянамі і дзеяньнямі Расеі. Таму вызначальны прынцып (прадмет яднаньня) ёсьць адносіны да Расеі і яе „інтэграцыйнай" палітыкі. Ён фармулюецца як лёзунг: *"Ніякай інтэграцыі і ніякіх саюзаў з Расеяй".*

Перад пагрозай страціць дзяржаву і незалежнасьць Народны Фронт пачаў адкрытую барацьбу з расейскай імпэрыяй і, фактычна, узяў на сябе абавязкі адказнасьці за лёс і будучыню беларускай нацыі. Фронт акамулюе ў сабе беларускі нацыянальна-вызвольны рух, які патэнцыяльна трымае пад сабой людзкую, ідэйную і матэрыяльную базу ўсяго беларускага грамадзтва.

Лічу патрэбным удакладніць, што ***пад вызвольным рухам нам трэба падразумяваць зьяву ў арганізаваным сэнсе шырэйшую, чым Народны Фронт. Гэта ёсьць сумеснае дзеяньне нацыянальна-вызвольных і нацыянальна-дэмакратычных сілаў, якое грунтуецца на нацыянальнай ідэі і на канкрэтным імпэратыве – адмаўленьні любой інтэграцыі, любых саюзаў з Расеяй.*** Такія сілы, арганізацыі і людзі, якія прытрымліваюцца антыімпэрскай пазыцыі, ёсьць ня толькі ў Народным Фронце. Наша задача цяпер зьяднаць агульны інтэрас, сумясьціць сілы, скаардынаваць і згуртаваць дзеяньні ў адзіны вызвольны рух. Нам трэба, каб гэтыя людзі і арганізацыі дзейсна падтрымлівалі нас у адной нацыянальна-вызвольнай справе. Беларускі вызвольны рух – гэта павінна быць шырокая нацыянальная апазыцыя акупацыйнаму дыктатарскаму рэжыму ў Беларусі і палітычная сіла супраць імпэрскай Расеі. Прытым, паўтаруся, вызначальным крытэрыям якраз зьяўляецца барацьба з Расеяй. Гэтая пазыцыя аўтаматычна цягне і непрыняцьце Лукашэнкі як стаўленіка і праваднікa антыбеларускай палітыкі Расеі.

Маргінальныя дзеячы і паражэнцы Вярхоўнага Савета, як і раней, засталіся на ўзроўні 1996 года. *Яны за інтэграцыю з Расеяй, але без Лукашэнкі.* Дакладней, яны супраць Лукашэнкі, але ня супраць інтэграцыі, „но с Россией демократической". (Дарэчы, „Россия демократическая" – гэта прапагандысцкі фантом, прыдуманы рускай намэнклятурнай бюракратыяй).

Нагадаю, што гэты Вярхоўны Савет 13-га скліканьня (з Шарэцкім на чале) зацьвердзіў вынікі ганебнага, незаконнага і сфальшаванага рэфэрэндуму 1995 г., праштампаваў забарону нацыянальна-дзяржаўнай беларускай сымволікі і зьняважлівы стан беларускай мовы; потым, у 1996 г., ратыфікаваў антыканстытуцыйны здрадніцкі пакт Лукашэнкі-Ельцына ад 2-га красавіка 1996 года. Гэта зноў пазыцыя здрады. Зьнікненьне рэальнай магчымасьці імпічманту выявіла гэтую здрадніцкую пазыцыю ў самым непрыстойным выглядзе. Тым часам маргіналы і Вярхоўны Савет 13-га скліканьня прадаўжаюць карыстацца іміджам „антылукашэнкаўскай апазыцыі" і аўтаматычна (усё перакруціўшы) залічваюць ахвярнае змаганьне БНФ супраць інтэграцыі ў свой інтэграцыйны арсэнал. Сытуацыя небясьпечная тым, што вынікам такога правінцыйнага канфармізму можа стаць паўторны прыход да ўлады на плячах БНФ здраднікаў, палітычных згоднікаў і паражэнцаў зь Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня.

Дзякуючы беларускім і расейскім сродкам масавай інфармацыі, большаму доступу да іх дэпутатаў Вярхоўнага Савета і, галоўнае, маўчаньню і нявызначанасьці БНФ, шмат хто ў Беларусі і, тым больш на Захадзе, да сёньняшняга дня ўспрымаюць маргіналаў з парляманту і Народны Фронт як учарашнюю „антылукашэнкаўскую апазыцыю", не разумеючы, што сытуацыя ўжо прынцыпова іншая. Тым часам эўрапейскія міжнародныя структуры нават чыста фармальна будуць старацца мець дачыненьні менавіта з парлямантам 13-га скліканьня. Такім чынам, ***у выніку прарасейскай арыентацыі большасьці так званых „апазыцыйных" дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13 – га скліканьня эўрапейскае непрызнаньне рэжыму можа скончыцца прызнаньнем права Масквы на акупацыю Беларусі.*** На Захадзе тады могуць сказаць, што гэтага ж (інтэграцыі з Расеяй) хоча і дэмакратычная „апазыцыя", маючы на ўвазе маргінальных дэпутатаў 13-га Вярхоўнага Савета.

Можна змадэляваць і такі варыянт, што пасьля ўсіх сваіх здрадаў і правалаў дэпутаты пачнуць дамагацца давыбараў у Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Яны знойдуць у гэтым падтрымку ў Расеі, у „дэмакратычных імпэрыялістаў" тыпу Яўлінскага, Гайдара і іншых. Уявім, што выбары адбудуцца. Першая ініцыятыва, зь якой лібэральна-маргінальныя дэпутаты выступяць у парляманце, будзе – інтэграцыя з Расеяй. Сытуацыя палітычнага маразму. Для БНФ, калі ён заранёў своечасова не адмяжуецца, і для ўсяго вызвольнага руху гэта азначала б палітычную сьмерць.

На жаль, нягледзячы на мае пастаянныя нагадваньні, рэальных захадаў па разьмежаваньні ці хоць бы растлумачэньні пазыцыяў, да гэтага часу, практычна, амаль ня зроблена. Прычыны, на мой погляд, у аслабленьні Фронта з-за рэпрэсіяў і інэрцыя палітычнай волі. Але мы ў стане гэта выправіць.

Нам даўно трэба выразна і зразумела акрэсьліць і сваю пазыцыю, накіраваную на стварэньне і пашырэньне вызвольнага руху, і свае адносіны да ўсіх тых, хто падтрымлівае і так ці інакш спрыяе акупацыі Беларусі.

Не сумняваюся, што шмат хто з маргінальных палітыкаў пачнуць казаць, што яны ж супраць дыктатуры, што яны супраць той інтэграцыі, якую праводзіць Лукашэнка зь Ельцыным. Яны нават скажуць, што згодны з БНФ у ацэнцы палітыкі Расеі. Але гэта словы. Павінна быць пасьлядоўная палітыка ва ўсіх дачыненьнях. Усялякае контравэрсыйнае адступленьне ад гэтай палітыкі і практыкі будзе казаць пра фальшывасьць пазыцыі.

Я не выключаю, аднак, што некаторыя асобы з дэпутатаў Вярхоўнага Савета могуць далучыцца да Вызвольнага руху.

Яшчэ хачу спэцыяльна адзначыць, што мая крытыка Вярхоўнага Савета не датычыцца дэпутата П.Знаўца, які пасьлядоўна абараняў Беларусь, незалежнасьць і суверэнітэт.

З Народным Фронтам і ўсімі беларускім вызвольным рухам можа ўзаемадзейнічаць, яднацца фармальна і нефармальна любая грамадзкая сіла, арганізацыя, любая асоба, якая практычна і пастаянна засьведчыць прыняцьцё прадметнага тэзісу вызвольнага руху *(„ніякай інтэграцыі, ніякіх саюзаў з Расеяй"),–* якая галоўным імпэратывам і сэнсам сваёй дзейнасьці ў гэты пагрозьлівы час лічыць змаганьне з імпэрскай Расеяй і стварэньне гарантыяў незалежнасьці Беларусі.

д) *Міжнародная палітыка.*

Два найбольш слабыя месцы БНФ, якія існавалі ад самага пачатку – гэта адлучанасьць ад сродкаў масавай інфармацыі і адсутнасьць уплыву на міжнародную палітыку. Вынік – інфармацыйная ізаляцыя. БНФ стаў ахвярай разьвязанай яшчэ капээсэсаўскімі камуністамі і КГБ мэтанакіраванай палітыкі дыфармацыі, стварэньня адмоўнага, перакручанага вобразу Фронта і беларускага адраджэнскага руху.

У 1996 годзе зроблены прарыў у міжнароднай палітыцы Фронта. Плянаваньне расправы нада мной прывяло да нечаканых для хунты контрзахадаў (эміграцыя, палітычны азыль, прафэсійная палітычная дзейнасьць), абярнулася для рэжыму яго паражэньнем у міжнароднай палітыцы. Фактам зьяўляецца тое, што вы-

мушаная дзейнасьць старшыні БНФ за мяжой аказалася больш эфектыўнай, чым дзейнасьць усёй дыпляматычнай службы рэжыму Лукашэнкі, якая амаль поўнасьцю складаецца з функцыянераў і агентаў расейскіх спэцслужбаў і КГБ. Дыпляматычная машына Шэймана-Лукашэнкі, якая заўсёды дзейнічала ва ўнісон з рускімі амбасадамі і місіямі, пацярпела паражэньне. Узровень, на якім прымалі мяне ў афіцыйных колах Вашынгтону, быў вышэйшым, чым узровень, на якім прымалі лукашэнкаўскага пасла ў Амэрыцы. І замена аднаго пасла-агента-рэзыдэнта Мартынава на іншага пасла-агента Цапкалу – нічога ня дасьць. У некаторых краінах кіруючыя асобы, зь якімі я без праблемаў меў гонар спатыкацца, на парог не пускалі перад гэтым да сябе лукашэнкаўскага міністра замежных справаў Антановіча. А гэта сьведчыць аб тым, што, нягледзячы на шалёную ўнутраную і міжнародную прапаганду па кампраметацыі БНФ з боку розных антановічаў, сапраўдны рэйтынг Фронта ў вачах прафесійных палітыкаў ня зьнізіўся і не зьмяніўся.

Палітычнае дзеяньне мераецца вынікам. А вынік такі, што міжнародная супольнасьць не прызнала лукашысцкі рэжым, яго дзеяньні і структуры. Вынік такі, што міжнародная супольнасьць цяпер значна лепш інфармаваная пра Беларусь, чым калі б гэта ні было.

За год знаходжаньня за мяжой мной і С.Навумчыкам было зроблена больш сотні прэс-канфэрэнцыяў, паведамленьняў, мноства выступаў па радыё і тэлебачаньні ( у тым ліку па CNN ) у розных краінах. На працягу 1996-га года ў ЗША былі праведзены спатканьні і размовы з мноствам палітычных дзеячоў і кіраўнікамі ўрадавых структураў, прыняты ўдзел у працы палітычных канфэрэнцыяў, у супрацоўніцтве з праваабарончымі і палітычнымі арганізацыямі, зроблены даклад у Карнэгі-Фондзе (палітычная эліта Амэрыкі) і праведзены слуханьні (брыфінг) па беларускіх праблемах у Кангрэсе ЗША, што выклікала, дарэчы, велізарную зацікаўленасьць амэрыканскіх палітыкаў (зала была перапоўненая).

Прынцыповая пазыцыя сусьветнай супольнасьці ў непрызнаньні рэжыму Лукашэнкі пазбавіла Расею ўсялякіх магчымасьцяў прававых спэкуляцыяў у яе палітыцы аншлюса Беларусі. Усё, што яны цяпер робяць разам з Лукашэнкам, усе гэтыя папяровыя „саюзы” і дамовы ёсьць міжнародны крымінал, за які рана ці позна вінаватым прыдзецца адказваць.

Павінен падкрэсьліць, што наша ўнутраная і міжнародная палітыка – гэта ёсьць адзіная справа і адзіны працэс. Без барацьбы Народнага Фронта ў Беларусі, без ахвярнасьці і пасьлядоўнасьці нашых змаганьняў, без падтрымкі людзей – нічога істотнага за мяжой дасягнуць не ўдалося б. Расейска-лукашысцкая прапаганда ўсюды гаворыць, што беларускі народ любіць прэзыдэнта і ў Беларусі – дэмакратыя. Нядаўна на міністра замежных справаў прызначылі бадай ці ня самага адыёзнага антыбеларуса з усіх былых функцыянераў КПБ-КПСС Антановіча. Гэты Антановіч, між іншым, пачаў па старой звычцы пісаць службовыя „арыентыроўкі” для ўнутранага карыстаньня. Вось, напрыклад, што ён рэкамендуе казаць дыпляматам: ”О положении в области прав человека в Республике Беларусь. 1.Отметить, что эффективное соблюдение прав человека является одним из центральных ориентиров в деятельности руководства страны... Новый белорусский парламент уже приступил к активной законотворческой деятельности, в частности, к созданию правовой базы необходимых рыночных преобразований в экономике, которые послужат надёжной основой развития белорусской демократии и соблюдения прав человека.”

Што датычыць гэтай творчасьці, то, мяркую, што пасьля першай жа фразы – „об эффективном соблюдении прав человека в Беларуси” – правільна арыентаванаму дыплямату трэба паварочвацца і ісьці дахаты. На Захадзе церпяць ідыётаў, але ня любяць, калі за ідыётаў прымаюць іх саміх. Справа, аднак, ня ў гэтым. Справа ў тым, што абвергнуць гэтую маразматычную хлусьню можна, тым ня менш, толькі фактамі палітычнай дзейнасьці. Адных словаў тут мала.

Беларускі Народны Фронт павінен пастаянна дзейнічаць і пастаянна змагацца за правы чалавека, за інтарэсы беларускіх людзей супраць інтэграцыі і акупацыйнага рэжыму.

Акрамя ЗША, міжнародная дзейнасьць БНФ абымае таксама Вялікабрытанію, Чэхію, Украіну, Летуву (плянуецца ў Францыі), але найбольш вядзецца у Польшчы. У Варшаве пры дапамозе польскай права-элітарнай газэты „Новэ Паньство” рэгулярна выдаецца беларускі бюлетэнь на польскай і беларускай мовах „Беларускія Ведамасьці”. Беларускі нумар адаптаваны для беларускага чытача, польскі – на палітычныя эліты Эўропы. Неўзабаве яшчэ адзін беларускі інфармацыйны асяродак будзе мной падрыхтаваны ў іншым горадзе Польшчы. У ЗША мной фармальна створана Беларускае выдавецкае таварыства для выдавецкай дзейнасьці пры наяўнасьці сродкаў (якія, на жаль, пакуль ня знойдзены).

## 4. ЗАДАЧЫ І ПЭРСПЭКТЫВЫ

а) *Палітычная бязвыходнасьць рэжыму*. Аналіз расейскіх дакумантаў па інкарпарацыі Беларусі паказвае, што расейцы плянуюць зрабіць працэс захопу („інтэграцыі”) неабарачальным на працягу бліжэйшых году-паўтара. Пасьля гэтага імі будзе арганізаванае „падзеньне” Лукашэнкі. Пра гэта, між іншым, ускосна паведамляецца ў ананімным дакладзе Міністэрства замежных справаў Расеі, надрукаваным у „Независимой газете” 25 сакавіка гэтага года. Працытую гэтае месца: ”У сувязі з распачатым прасоўваньнем НАТО на Усход у Расеі ёсьць год-паўтара дзеля наданьня працэсу аб`яднаньня зь Беларусьсю незваротнага характару, – пішуць прымакоўскія экспэрты,–... да сканчэньня гэтага пэрыяду наўрад ці варта чакаць падзеньня прэзыдэнта Лукашэнкі.”

Выходзіць, што прадаўжаючы інтэграцыю, Лукашэнка сам капае сабе яму. Мы, разьвіваючы свае ініцыятывы на адмаўленьне рэжыму, павінны мець на ўвазе азіяцкі стыль расейскай палітыкі.

б) *Вяртаньне ў Эўропу*. Пасьля таго, як Расея пачала адкрыта праводзіць анэксіяністкую палітыку адносна Беларусі, лёзунг Беларускага нэўтралітэту страціў сэнс. Асабліва пасьля заступленьня на пасаду прэзыдэнтам Беларусі Лукашэнкі. Расея выбрала свой традыцыйны імпэрскі шлях. Цяпер выбар за намі. Наш выбар зроблены даўно – гэта вяртаньне Беларусі ў Эўропу, інтэграцыя ў эўрапейскія міжнародныя структуры (у тым ліку ў НАТО). Вяртаньне ў Эўрапейскую цывілізацыю – гэта ёсьць будучыня Беларусі і гарантыя ад захопу імпэрскай Расеяй. Гэтыя палажэньні варта адзначыць у дакумантах зьезду.

Палітыка нэўтралітэту, якую мы прапанавалі, неабходна была найперш, каб прытрымаць Расею і ўмацаваць нашу незалежнасьць, пакласьці грунт пад беларускую дзяржаву, пакуль мы слабыя. Наша грамадзтва сем гадоў таму было яшчэ няздольнае распазнаць сапраўдную небясьпеку, якая яму пагражала з Усходу. Павінен быў існаваць пераходны пэрыяд, каб моцна стаць на нацыянальныя ногі. Нэўтралітэт тут якраз падыходзіў. Аднак Фронт не валодаў уладай у краіне і нэўтралітэт ня стаў палітыкай


(Фота У. Кармілкіна)

***29. Дэлегаты V Зьезду БНФ. Менск 21.06.1997 г.***

Беларусі. ***Пасьля ж таго, як Масква займела на пасадзе прэзыдэнта Беларусі свайго агента і пачала адкрыта дамагацца інкарпарацыі Беларусі, тэзіс нэўтралітэту страціў для нас усялякі зьмест і сэнс. Нас ужо, што называецца, „выбралі" і пачалі захопліваць. Гаварыць у такіх умовах пра нэўтралітэт – значыць сьведчыць хіба што пра палітычны ідыятызм.*** Таму яшчэ год таму, пасля падпісаньня пакту Лукашэнкі-Ельцына (2.04.96), мной было заяўлена пра неабходнасьць адназначнай арыентацыі незалежнай (бязлукашэнкаўскай) Беларусі на Эўропу, на НАТО і на інтэграцыю ў эўрапейскія міжнародныя структуры. Уся наша барацьба ў 1996-1997гг. (і асабліва нашай моладзі) пацьвердзіла антыімпэрскую, антырасейскую і заходнюю арыентацыю беларускага вызвольнага руху. Гэтае палажэньне таксама варта адзначыць у дакумантах зьезду.

в) *Пазыцыя і лёзунгі*. Задача БНФ – не дапусьціць здачы рэжымам дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. У цяперашніх абставінах Фронт павінен мець адзіную галоўную пазыцыю адносна расейскай палітыкі і адзіны галоўны лёзунг адносна лукашэнкаўскага рэжыму. Яднаючы прынцып вызвольнага руху – *„ніякай інтэграцыі і ніякіх саюзаў з Расеяй"* – павінен стаць прынцыповай пазыцыяй БНФ. Палажэньне прапаную зацьвердзіць на зьезьдзе. Адыход ад гэтай пазыцыі ёсьць адыход ад вызвольнага руху.

Цяпер не павінна быць ідэйнай усеяднасьці і тэматычнай цераспалосіцы. Павінна быць канцэнтрацыя сілы. Здрабненьне і множаньне палітычных задачаў прывядзе да аслабленьня напору і дэканцэнтрацыі барацьбы.

Галоўным лёзунгам Фронта павінна стаць патрабаваньне адстаўкі Лукашэнкі і ліквідацыі пасады прэзыдэнта. Вастрыё змаганьня і ўсёй працы БНФ павінна быць накіраванае на дэкляраваньне, множаньне, распаўсюджаньне і ажыцьцяўленьне гэтага патрабаваньня.

Улічваючы псіхалягічную асаблівасьць нашага грамадзтва, мы павінны быць гатовымі растлумачыць людзям элемэнтарныя і цалкам відавочныя рэчы. Шчырыя беларусы прастадушна будуць зьдзіўляцца: "Дык жа Лукашэнка ня пойдзе дабраахвотна ў адстаўку,– скажуць яны,– пампэ – ня пойдзе." Вось таму, што „ня пойдзе", нам і трэба яму дапамагаць пайсьці. Дыктатары самі ў адстаўку ня ходзяць. Але, калі ім дапамагалі, то ішлі і такія, як Чаушэску, і такія, як Мабуту.

г) *Палітычнае плянаваньне*. Сойму і кіраўніцтву пажадана будзе, на мой погляд, на працягу 2-х месяцаў стварыць у асяроддзі БНФ на Беларусі і за мяжой ***Беларускі Нацыянальны Камітэт***, задача якога – распрацоўка варыянту пераходу ўлады ад дыктатуры да парляманцкай рэспублікі. Функцыі БНК могуць быць потым пашыраныя (пры неабходнасьці аж да часовага вызвольнага ўраду).

Зараз за мяжой у ЗША і ў Эўропе апынуліся дзясяткі сяброў і прыхільнікаў БНФ, гатовых дапамагаць вызваленьню Беларусі. Гэтая праца павінна стаць адзінай вызвольнай палітыкай БНФ.

Пры падзеньні рэжыму Фронт, на маю думку, павінен выразна і цьвёрда прытрымлівацца 3-х прынцыповых бескампрамісных патрабаваньняў:

– Адразу павінны быць праведзеныя выбары ў новы парлямант Беларусі. Ніякіх „давыбараў" у Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, ніякай „рэанімацыі" здраднікаў і паражэнцаў;

– Новы парлямант павінен адразу скасаваць пасаду прэзыдэнта ў Беларусі;

– Аб`явіць аб няўдзеле Беларусі ў СНД.

З кола прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня магчымасьць рэабілітацыі можа ўзьнікнуць у С.Шарэцкага. На маю думку, БНФ, прытрымліваючыся законнасьці, мог бы пасьля падзеньня рэжыму даць шанс С.Шарэцкаму (*які можа, згодна Канстытуцыі, часова, на пэрыяд выбараў, спаўняць абавязкі прэзыдэнта*) ачысьціцца ад здрады, рэабілітаваць сябе маральна і палітычна (пры ўмове выразнай антыінтэграцыйнай пазыцыі ў дачыненьні да Расеі зь яго боку). Фронт тады павінен прад`явіць яму прававую канцэпцыю дзеяньняў, памятаючы, што пакараньне за здраду неабарачальнае.

д) *Тактыка, мэтады*. Мэтады ўсіх формаў грамадзянскага пратэсту, як і раней, застаюцца актуальнымі. Але яны павінны быць сканкрэтызаванымі па месцы і скаардынаванымі з задачамі-лёзунгамі (пра што ўжо казалася).

Трэба выкарыстоўваць новыя формы змаганьня, пашыраць практыку „нябачны Фронт" (пра што я ня раз казаў пры сустрэчах і пісаў).

Наглядная агітацыя, друк і інфармацыя застаюцца актуальнымі.

е) *Структуры*. Умацаваньне структураў трэба весьці традыцыйна. Неабходна таксама ствараць каля БНФ маладзёвыя арганізацыі вызвольнага руху.

Трэба падтрымліваць і ўхваляць у гэтых умовах імкненьне да жорсткай дысцыпліны і арганізаванасьці.

У цяперашніх абставінах непрыймальныя канфармізм у Фронце, амбіцыйная самадзейнасьць насуперак палітыцы БНФ і прынятым узгадняльным паводзінам у арганізацыі.

Два гады, якія мінулі пасьля IV-га зьезду БНФ, жорстка пацьвердзілі, наколькі правільная была пазыцыя IV-га зьезду і усяго Фронту, які выказаўся за адзінства БНФ, за адзінства руху і партыі ў адной структуры. Можна ўявіць, як бы скарысталі тады раскол Фронту нашы непрыяцелі цяпер у час цяперашняга змаганьня, калі б давялі да падзелу. Адзінства Фронту цяпер, ва ўмовах унутранай акупацыі краіны, не дае магчымасьці агентуры маніпуляваць беларускім вызвольным рухам, паразітаваць на амбіцыях і недахопах у характарах людзей.




***30. V Зьезд БНФ «Адраджэньне». Заля Зьезду. 21.06.1997 г., Менск.***

(Фота У. Кармілкіна)

Правільным было таксама патрабаваньне яшчэ два гады таму аб стварэньні дублюючых структураў кіраваньня БНФ на выпадак надзвычайных падзеяў. Альбо таксама рашэньне, якое мы прынялі на Сойме ў верасьні 1995 года аб наданьні паўнамоцтваў старшыні БНФ прызначыць выконваючага абавязкі Старшыні Фронта ў надзвычайных умовах. Жыццё пацьвердзіла неабходнасьць прадбачлівасьці.

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Год палітычнай дзейнасьці на Захадзе, сустрэчы з палітычнымі элітамі шмат якіх краінаў не мінулі для мяне бясследна. Прыйшлося перадумаць, перааацаніць, удакладніць шмат якія паняцьці, мэтады, дачыненьні, адносіны да людзей. З далечыні, напрыклад, добра відаць і ўражвае безабароннасьць беларускай дзяржавы перад расейскімі спэцслужбамі (былым КГБ). Яны робяць у нашай дзяржаве ўсё, што хочуць, не спатыкаючы ніякага афіцыйнага супраціўленьня. Улада ў іхных руках. Тут, ведаючы мэтады расейскага КГБ (ФСБ), можна да дэталяў спрагназаваць, як будуць разбураць і зьнішчаць Беларусь. ***І пакуль існуе гэты рэжым і яго расейскія заказчыкі – датуль ня спыніцца палітыка зьнішчэньня беларускай дзяржавы і беларускай нацыі.***

Уражвае таксама поўная інфармацыйная сьлепата ў сьвядомасьці вялікай часткі беларусаў (у выніку замбуючай прапаганды) – неадэкватнасьць рэакцыі на патрэбы самазахаваньня, антыномія ацэнак і адваротнасьць паводзінаў, чаго абсалютна ня ў стане зразумець шмат хто на Захадзе (калі, вядома, хто спэцыяльна не займаецца Беларусяй і ўсходам Эўропы). Гэта немагчыма растлумачыць, бо ў заходніх людзей не было савецкага вопыту. Некаторыя павярхоўна ўспрымаюць беларусаў як нейкую неразумную нацыю, хоць гэта якраз ня так. Беларусы значна больш разьвітыя, адукаваныя і кемлівыя, чым сярэдні заходні (асабліва амэрыканскі) жыхар, які проста жыве ў іншай традыцыі, ў іншай адстоянай сыстэме дачыненьняў. Жывучы ў ёй і квітнеючы (з яго пункту гледжаньня), ён можа тым часам ня ведаць табліцу множаньня, ня ўмець лічыць да ста і ня мець паняцьця, што такое Аўстралія і дзе яна знаходзіцца. З геаграфіяй на Захадзе ўвогуле туга.

У мяне аднак умацавалася і жыве пастаянная ўпэўненнасьць, што нічога няма немагчымага ў дасягненьні, калі чалавек канкрэтна ведае, чаго ён хоча, што для гэтага хаценьня трэба, як тое рабіць і, галоўнае,– калі пачынае за гэта змагацца з дня на дзень, зь месяца на месяц, з хвіліны на хвіліну. А калі гэта рабіць разам, калі змагацца ўсім народам – тады магчымасьці велізарныя.

Няхай жа жыве наша агульная справа Волі, Незалежнасьці і Свабоды Беларусі!

Няхай жа працуем усе разам, усім рухам, усёй нацыяй над яе Будучыняй!

Жыве Беларусь! Слава героям! Вечна жыве!

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***

*21 чэрвеня 1997г. Нью-Ёрк – Варшава*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці,–1997, № 3(7).*

# ЭКСПРАПРЫЯЦЫЯ

Калі акупанты займаюць горад, ствараецца камэндатура, рэквізуюцца будынкі і жыльлёвы фонд для патрэбаў рэжыму (школы пад казармы, грамадзкія будынкі пад акупацыйную адміністрацыю і г.д.). Так рабілі бальшавікі ў 1917 і 1940 гадах, фашысты ў 1941-м. Гэтак робяць цяпер расейскія кагэбісты ў акупаваным Менску. Але ў новых акупантаў галоўны стымул экспрапрыяцыі – хціваснць, прагнасьць да грошай, да ўзбагачэньня.

1-га ліпеня гэтага года Лукашэнка выдаў чарговае распараджэньне аб экспрапрыяцыі нерухомай уласнасьці. Забраны вядомы Дом Літаратара (агульная ўласнасьць Саюзу пісьменьнікаў Беларусі), Дом Настаўніка, Дом тэхнічнай творчасьці Моладзі, Рэспубліканская станцыя юных тэхнікаў, Спартова-культурны Цэнтр МВАВТ, Беларускі гуманітарны ліцэй (адзіная ў Менску беларускамоўная сярэдняя навучальная ўстанова). Будынак сярэдняй школы №41 зьбіраюцца перадаць пад міліцэйскія казармы (школа ліквідуецца, вучняў разганяюць).

13 ліпеня 1997 года Сойм Беларускага Народнага Фронта разглядаў гэтыя факты на сваім паседжаньні. Сойм адзначыў, што „... адбываецца беспрэцэдэнтная нават для лукашэнкаўскага рэжыму акцыя зьнішчэньня адукацыйных, выхаваўчых, культурных установаў. Наносіцца сплянаваны ўдар па такіх важных для беларускай культуры, для духоўнага дабрабыту і пэрспэктывы беларускай нацыі асяродках, як Беларускі гуманітарны ліцэй – кузьня нацыянальна сьведамых кадраў – і Дом літаратара з Саюзам пісьменьнікаў, дзе, нягледзячы на ўціск, працягваецца беларускае культурнае жыцьцё.

Удар нездарма наносіцца ў сярэдзіне лета: у гэты час цяжэй сабрацца бацькам ліцэістаў і школьнікаў, пэдагогам, грамадзкасьці, каб абараніць сваіх дзяцей, сваю культуру ад замаху нялюдзкай улады. БНФ заклікае беларускае настаўніцтва, бацькоўскі актыў, прафсаюзы пэдагогаў, творчую інтэлігенцыю краіны сказаць нарэшце цьвёрдае слова пратэсту. Заклікаем міжнародную супольнасьць падтрымаць барацьбу беларускай грамадзкасьці за правы дзяцей і роднай культуры.

*1997 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 3(7). Пад крыптанімам П.З.)*

# ДОСЫЦЬ ПРЭЗЫДЭНЦТВА!

***(Ліст да грамадзянаў Беларусі аб адстаўцы Лукашэнкі)***

Яшчэ год таму я не зьвярнуўся б з такім лістом да беларускіх людзей. Бо яшчэ жыло ў іх перакананьне, што яны зрабілі разумна й правільна, выбраўшы Лукашэнку, што „прэзыдэнту перашкаджаюць”, што вінаваты ва ўсім ня ён, а таемныя „ворагі”. Відавочна, яшчэ ня ўсе каменьні былі кінутыя і ў мой бок як „ворага прэзыдэнта”. Воляй лёсу мне прыходзілася папярэджваць яшчэ ў 80-х гадах аб злачыннасьці КПСС і аб немінучасьці распаду Савецкага Саюзу. Потым – аб здрадніцтве й прамаскоўскай палітыцы Кебіча, аб небясьпецы расейскага імпэрыялізму, аб плянах усталяваньня прамаскоўскай паліцэйскай дыктатуры Лукашэнкі на Беларусі, аб пагрозе незалежнасьці і дзяржаўнаму існаваньню нашай краіны, аб задуме аднаўленьня таталітарызму на абшарах былога СССР. Гэта, паўтараю, сказана не цяпер, а два, тры, пяць, дзесяць гадоў таму. Але нашаму грамадзтву, відаць, наканавана спачатку нічога не ўспрымаць, а потым усё няўспрынятае – перажыць. І так – бясконца.

Ці не настаў усё ж час прыняць правільнае калектыўнае рашэньне?

У 1994 годзе прымітыўна ашукалі ўвесь беларускі народ. А тыя, хто гэтае ашуканства бачыў і разумеў, нічым не маглі дапамагчы. Колькі ж яшчэ трэба часу, якіх ахвяраў, якіх страт, якіх зьняваг нашай беларускай годнасьці, якога яшчэ трэба пагаршэньня, каб гэтае ашуканства ўсьвядоміць і зразумець? Ці не пара?

Пытаньне аб адстаўцы Лукашэнкі зноў пастаўлена Народным Фронтам. Цяпер ужо ня дзейнічае прававы мэханізм „імпічманту”, бо ўсталяваная дыктатура. Але з дыктатурай можна пасьпяхова змагацца сілавым масавым грамадзкім націскам на дыктатара ва ўсіх сфэрах жыцьця – у палітыцы і грамадзкай дзейнасьці, у навуцы і мастацтве, у прафсаюзным руху і на працы, на вуліцах і ў друку, нават у быце і штодзённых дачыненьнях. Усё павінна быць падпарадкаванае адной мэце: „Лукашэнка, ідзі ў адстаўку!”

Падтрымлівайце ў гэтых дзеяньнях і палітыцы Беларускі Народны Фронт – Вызвольны Рух, які трымае ў руках нацыянальны сьцяг беларускага Адраджэньня. Падтрымлівайце актыўна. Перад нашай масавай сілай і агульным няпрыняцьцем дыктатуры шмат што пачне зьмяняцца. Нават хаўрусьнікі Лукашэнкі стануць ад яго аддаляцца і яго пакідаць. Яго загады перастануць выконваць нават тыя, на каго ён спадзяецца. Зямля паплыве з-пад ног гэтага авантурнага чалавека. Адстаўка стане рэальнай.

Аднак, змагаючыся за адстаўку Лукашэнкі, мы павінны памятаць, што галоўная наша палітычная задача, якую ўвесь час сьцьвярджае Народны Фронт і да чаго мы імкнемся, гаворачы пра адстаўку, – гэта ліквідацыя ўвогуле прэзыдэнцкай сістэмы ў Беларусі і скасаваньне пасады прэзыдэнта. Беларусь мусіць быць не прэзыдэнцкай, а парляманцкай краінай. Інакш узьнікне новы дыктатар (ці паўдыктатар) і новая маскоўская марыянэтка.

–Чаму? – спытаеце вы. Таму што, па-першае, Маскве й яе спэцслужбам лёгка ўмяшацца й уплываць на ход падзеяў, калі абіраюць на найвышэйшую пасаду аднаго чалавека, а не 260. Правёўшы свайго чалавека на беларускі пасад (як гэта лоўка зрабілі яны з Лукашэнкам), маскоўцы будуць аб’ектыўна зацікаўленыя ў павялічэньні яго ўлады, каб лепш трымаць Беларусь.

Парлямант у 260 асобаў (ды з розных партыяў) ня можа стаць дыктатарам. Парлямантцкая сыстэма ўжо па самой сваёй фармальнай сутнасьці прадугледжвае элемэнты дэмакратыі. Гэта шлях да дэмакратыі і школа дэмакратыі для грамадзтва.

І трэба ўлічыць, што нашае грамадзтва – постсавецкае. Наш чалавек за часы **расейскай і бальшавіцкай** акупацыі прывучаны слухаць начальства, а не закон. Бо ён жыў пры азіяцкім рэ-

жыме, дзе галоўнаю была ўлада, а не законы, дзе было так, як начальства скажа. Людзі, выхаваныя ў такіх умовах, чакалі і спадзяваліся на добрага начальніка, а не змагаліся за гарантыі ажыцьцяўленьня права, роўнага для для ўсіх (для начальнікаў і неначальнікаў). Гэткія грамадзкія акалічнасьці якраз і спрыяюць ажыцьцяўленьню дыктатуры. Шляхам жа да яе ў такіх варунках служыць прэзыдэнцкая сыстэма ўлады. Пра гэта дэпутаты Апазыцыі БНФ папярэджвалі ў 1991 годзе, калі ў атачэньні Кебіча ўпершыню ўзьнікла ідэя прэзыдэнцтва, і ў 1994 годзе, калі Вярхоўны Савет галасаваў за Канстытуцыю.


(Фота У. Кармілкіна)

**31. Аплот антыбеларускага рэжыму.**

Пасьля адстаўкі (ці адхіленьня) Лукашэнкі ад пасады адразу павінны быць праведзены парляманцкія выбары. Выбары новага парляманту па старым, недасканалым выбарчым законе будуць, безумоўна, няпростыя, але ў цэлым прадказальныя, каб гарантаваць зьмену сістэмы ўлады. Парлямант фармаваў бы ўрад і прызначаў бы прэм'ер-міністра, які валодаў бы функцыямі кіраўніка дзяржавы. У выпадку парляманцкага крызысу і немагчымасьці стварыць урад, рашэньне аб роспуску парляманту і новых выбарах прымае Канстытуцыйны Суд. Гэткая традыцыйная парляманцкая сістэма стала б для беларусаў крокам да лепшай будучыні.

Беларускі Народны Фронт прапануе беларусам абапірацца, перш за ўсё, на самых сябе і плянуе праводзіць такую палітыку, якая забясьпечвала б становішча людзей і ўзровень жыцьця, як у эўрапейскіх краінах, а не як у Расеі. Дзеля гэтага й супрацоўнічаць трэба найперш з Эўропай, і рабіць шмат што гэтак, як яны, бо мы, беларусы, – народ эўрапейскі.

Змагаючыся з дыктатурай, мы павінны сваё змаганьне засьведчваць. Гэта пазбаўляе людзей страху і надае ўпэўненасьці, кансалідуе аднадумцаў. Лукашэнка й яго памагатыя павінны ведаць, што людзі іх не баяцца й адкрыта патрабуюць, каб прэзыдэнт ішоў у адстаўку. Прапаную сьмела далучацца да ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту аб адстаўцы Лукашэнкі і ліквідацыі дыктатуры ў Беларусі.*

*8 лістапада 1997 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту***
***„Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 5(9); Свабода, – 1997, 21 лістапада).*

* У артыкуле не сказана, як канкрэтна будзе ажыцьцёўлена адстаўка, бо нельга было ўсё казаць у тых умовах. Важна было падняць людзей на змаганьне, вывесці на адкрыты і масавы пратэст. Пры дасягненьні гэтага этапу пачаў бы дзейнічаць (і быў бы агучаны) другі этап. Змаганьне ва ўмовах акупацыйнай дыктатуры мае свае асаблівасьці і правілы паводзінаў. – *(З. П.)*

# ЧОРНЫЯ ЎГОДКІ

24 лістапада гадавіна антыканстытуцыйнага перавароту і трываньня антыбеларускага рэжыму. Аднак рэжым ніяк не адзначыў гэты ўрачысты для яго дзень. Няма чым хваліцца. І сапраўды, калі звычайнаму чалавеку азірнуцца назад і пракруціць эмацыйна-інфармацыйныя карціны ў галаве, то калейдаскоп ствараецца змрочны: беднае цяжкае жыццё, вытарачаныя вочы на тэлеэкране, квакаючы голас у эфіры, амапаўскі камуфляж, шчыты і дубінкі, панурыя твары, азлобленыя людзі.

На Захадзе часта прыходзіцца чуць пра беларусаў, што яны самы захацелі такога свайго жыцьця. Як захацелі, так і жывуць. У гэтым ёсьць доля праўды. Лістапад – цяжкі, чорны месяц на Беларусі. Менавіта ў лістападзе 80 гадоў таму адчынілася скрынка Пандоры, распаўзьліся-разьбегліся гады, і цёмная чэрнь захапіла паўсьвету. Людзьмі і дзяржавамі пачалі кіраваць крымінальнікі і забойцы. Іхная ідэалёгія стала афіцыйнай, іхная мараль зрабілася пануючай. На ёй выраслі, выхоўвалі, стваралі прыклады. Але ўсё развалілася, бо нічога не ствараецца на нянавісьці, акрамя нянавісьці.

У сьвеце так і не знайшлося палітычнае маральнай сілы, каб асудзіць крымінальную ідэалёгію камуністычнага таталітарызму як злачынную супраць чалавецтва, і забараніць навечна яе легалізацыю ў грамадзтве. Не знайшлося волі асудзіць злачынцаў камунізму. Камуністычны Нюрнбэрг не адбыўся. Усе засталіся. Таму чэрнь вяртаецца. Вяртаецца разам са сваёй гісторыяй. Вяртаюцца цені Ібсэна, бо ня здолелі жывыя сказаць сваё „*не*" і чалавечым судом асудзіць. „Нешта жа будзе." Думалі, што зробіцца ўсё само па сабе. Зрабілася.

Лукашэнка, усяроўна як мэдыятар, як рэзануючы мэдыюм, выцягнуў на паверхню самыя цёмныя, самыя азлобленыя пачуцьці з глыбінь людзкіх, дзесяцігоддзямі зьняважаных істот. Яны садзяцца перад тэлевізарам, глядзяць у клёкат на экране і пазнаюць сваё адлюстраваньне. Псыхолягі ведаюць, што з найбольшым задавальненьнем глядзіць чалавек на сябе. Кожны народ варты свайго кіраўніцтва. Толькі ніколі народ не бывае ад-

нолькавы, бо не стаіць на месцы. Паміраюць адны, вырастаюць іншыя. І гэтыя іншыя не ўспрымаюць клёкат, не пазнаюць сябе ў адлюстраваньні. І хоць дыктатура існуе – яна ўжо скончана ў нябачнай сфэры. Дзень за днём гадзіньнік адлічвае яе апошні час. Яна яшчэ моцная, палачная і бранявая. Яна яшчэ ўмацоўваецца, але ўжо нічога не дапаможа, бо ня толькі дух – сама прырода не ўспрымае яе.

Вельмі важныя ацэнкі і глыбінныя перамены сьпеюць зараз ціха пад покрывам цемнаты ў галаве і душы беларусаў. Нацыя і дзяржава, Бог і чалавек, чалавек і зямля, Беларусь і Расея – цепліцца гэты тарфяны пажар, курыць, запалены ахвярамі *непадобных*. І ніводная ахвяра не была й ня ёсьць надарэмна. Заходзьце, спадарыні і спадары, куды-небудзь, сядайце ля тэлевізара, яшчэ ёсьць крыху часу. Колькі ён патрывае – залежыць ад нас, але скончыцца абавязкова і будучыня будзе лепшай.

*1997 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 5(9). Пад псэўд. Мар'ян Ванькевіч)*

# ЗАЦЕМКІ ПА ПРАКТЫЧНАЙ ПАЛІТАЛЁГІІ

Беларуская нацыя ў небясьпецы, але ніхто не адмяняў законаў прыроды. Палітычны працэс мае свае заканамернасьці і свае правілы. Можаш іх не выконваць, але сонца ўсёроўна будзе ўзыходзіць і заходзіць. Таму ня трэба старацца быць разумнейшым за Бога. Некаторыя, праўда, з палітычнае дураты робяць прафэсію і самасцьвярджаюцца ўсё жыццё, коштам іншых. Аднак у нас цяпер пры акупацыйным рэжыме гэткія гульні аплочваюцца коштам Бацькаўшчыны. Таму *першае правіла ў палітыцы:* ***перш, чым яднацца, трэба разьяднацца.*** Інакш замест арганізацыі будзе клюб вар'ятаў.

Аб'ядноўвацца трэба *па ідэі і па ідэалёгіі*, якая выпрацоўваецца з ідэі. Наша *ідэя* ёсьць ***Беларуская ідэя***. Наша *ідэалёгія* – ***Адраджэньне.***

Калі ідэі няма, то няма і прынцыпаў, няма й палітычнае маралі, няма й арганізацыі. Можа існаваць хіба што фантом і „лідэры" фантому.

*Другое правіла* – ***маніфэстацыя***. Гэта правіла фундамэнтальнае. Пра свае ідэі, мэты, пра іхнае абгрунтаваньне і дасягненьне трэба гаварыць адкрыта, для ўсіх, галасна і прылюдна. Толькі так можна здабыць прыхільнікаў і дасягнуць высокароднай мэты. У Эвангельлі такія дачыненьні адлюстраваныя ў ***выслоўі Хрыстуса*** пра запаленую сьвечку.

*Трэцяе правіла* – ***структуралізацыя***. Арганізацыя павінна мець структуры. Наяўнасьць структураў стварае ўзаемазалежнасьць і сацыяльную аснову для стабільнасьці і пасьлядоўнасьці палітычных прынцыпаў, паколькі ў кіраўніцтва ўводзіцца фактар адказнасьці. Структуры даюць сілу арганізацыі.

*Чацьвёртае* – ***трыманьне ініцыятывы***. Прынцып абавязковы. У палітыцы не адпачываюць. Хто трымае ініцыятыву, той і вядзе палітыку, той можа й завалодаць сытуацыяй. Бальшавікі і энкавэдзісты прыдавалі гэтаму правілу першачарговае значэньне ў змаганьні з апанэнтамі (ці „ворагамі", па-бальшавіцку). У іх нават было выслоўе: „Не можешь помешать – возглавь". Памятаю, дзесьці 26-27 жніўня 1991 г., адразу пасьля прыпыненьня дзейнасьці КПСС у Беларусі, мы з Сяргеем Навумчыкам прыехалі ў апусьцелы будынак ЦК КПБ-КПСС. У спэцыяльным падвале адмысловая печ для спальваньня папер. Пад нагамі растрэсеная макулатура. Першая паперына з адбіткам абзацу, якую падняў з цэмэнтавай падлогі Сяргей, была рэзалюцыйная частка пратаколу паседжаньня бюро ЦК ад 8-га жніўня 1988-га года, на якім было сказана, што, улічваючы дзейнасьць народных франтоў у Прыбалтыцы і абставіны ў Беларусі, вызначыць належныя захады па недапушчэньні арганізацыі нацыяналістаў БССР. Было прынятае рашэньне стварыць беларускі „народны фронт" сіламі „парціі". Прапрацоўка гэтага пытаньня і арганізацыя псэўда фронту была даручана сакратару Менскага гаркама КПБ-КПСС па ідэалёгіі П.К.Краўчанку.

*Пятае правіла* – ***суб'ект падзеяў***. (Яно вынікае з 4-га.) Палітычная арганізацыя павінна быць суб'ектам дзеяньняў. Лічыцца павінны зь ёй, а не наадварот. І будаваць паводзіны трэба гэтак, а не інакш. Палітычная праца ня церпіць ніякай пасыўнасьці.

*Шостае правіла*: ***палітыка – гэта час (бывае нават момант).*** Для датрыманьня гэтага правіла, акрамя ўсяго, на жаль, патрэбны яшчэ *талент і інтуіцыя*. Ніякія вучоныя рэгаліі, адукацыя, розум, аўтарытэт (выдатнае навучаньне ў школе і г.д.) тут не дапамогуць, калі працягнеш (страціш) час, ня выкарыстаеш яго ў сваім моманце і „цягнік паедзе".

З гэтым зьвязанае *сёмае правіла* – ***адэкватнасьць.*** Павінна быць правільная і рэальная ацэнка сытуацыі, прадбачаньне пэрспэктывы. Адсутнасьць такой ацэнкі, ці памылковае ўспрыняцьце рэчаіснасьці прыводзіць да неадэкватных дзеяньняў, вынікі якіх могуць быць самыя найгоршыя. Датрыманьне гэтага правіла знаходзіцца ў непасрэднай залежнасьці ад першаснага аб'яднаўчага прынцыпу – ідэі і ідэалёгіі. Яскравым прыкладам неадэкватнасьці зьяўляюцца паводзіны С.Шарэцкага, В.Ціхіні, Г.Карпенкі, П.Краўчанкі і інш. пад час лістападаўскага перавароту ў 1996 г. Поўнае неразуменьне маскоўскай палітыкі, адпаведна – нябачаньне сытуацыі, прывяло да таго, што іх адкрыта і нахабна купілі, а яны і па сёньня думаюць, што не прадаліся, хоць пайшлі з Лукашэнкам, Чарнамырдзіным, Селязьнёвым, Строевым на юдаў фуршэт запіваць разам гарэлкай „победу" „здравого смысла". (Яшчэ й пішуць пра гэта, ужо б маўчалі.)

З правіла адэкватнасьці вынікае *восьмае правіла* – ***бачыць апанэнта***. Яго трэба ўмець бачыць заўсёды, нават патэнцыяльнага (як у каратэ), нават віртуальнага. Інакш будзеш хадзіць на фуршэты са сваімі магільшчыкамі.

*Дзявятае правіла (ізноў фундамэнтальнае, шматразова адлюстраванае ў Біблії)*: ***не сядаць за стол з бандытамі***. Для людзей з канфармісцкай сьвядомасьцю і асабістымі амбіцыямі, якіх заўсёды хапае ў палітычных партыях, гэта камень спатыканьня, на якім яны перыядычна ламаюць сабе ногі, скручваюць шыі і цягнуць у яму цэлыя арганізацыі. Ім хочацца быць у цэнтры ўвагі, удзельнічаць у гульні, якая ім здаецца палітыкай. Ім хочацца бра-

таца, уступаць у перамовы зь вялікімі нягоднікамі прылюдна і на віду, не аналізуючы, чаму ініцыятыва такіх перагавораў і братаньня заўсёды ідзе выключна ад вялікіх нягоднікаў і кіруючай сфэры. Ім (вялікім нягоднікам) трэба маральна легітымізаваць сябе праз прызнаньне апанэнтаў (якія б селі зь імі за стол), потым прадставіць гэта як супрацоўніцтва; потым зваліць віну за сваю палітыку на „супрацоўнікаў", якія, маўляў, ня выканалі дамоўленасьцяў. А калі гэтакія палітычныя дурні пачнуць яшчэ дыскусію, ды апраўданьні, ды ўзаемныя абвінавачваньні, то ўсё зразумела: будзе сказана, што замест таго, каб разам працаваць, яны перашкаджаюць („мешают") і што каб не яны, то ўсё было б інакш. І будзьце спакойныя – грамадзтва ўспрыме гэта належным чынам (сядзелі ж за адным сталом, чаго яны там не падзялілі, абое рабое і г.д.) Усё гэта азбука, якая даўно пройдзена, яшчэ ў змаганьні са „школай камунізму".

Перамаўляць з бандытамі за сталом можна толькі з пазыцыі сілы і калі гэтая сіла ня меншая, чым у бандытаў.

*Дзясятае важнейшае палітычнае правіла* – ***не абагульняцца з чужымі***. Гэта контрпазыцыя. Спэцслужбы ўлады, урадавыя кіруючыя сілы (асабліва ў паўдэмакратычных і дыктатарскіх, таталітарных краінах) выкарыстоўваюць клясычны прыём супраць небясьпечных апазыцыйных утварэньняў, якія прэтэндуюць перарасьці ў сілу. Супраць іх утвараюць арганізацыю, падобную, але з больш шырокімі, дакладней, з больш агульнымі, мэтамі і задачамі і стараюцца ўцягнуць у яе гэтую небясьпечную апазыцыйную партыю ці рух (пад выглядам аб'яднаньня дэмакратычных сіл і т.п.) Што адбывалася б потым – зразумела. Так узьніклі ў палітычным паветры розныя фантомы тыпу „Новая Беларусь", „Новая Украіна", розныя „вёсны", беларускія ды ўкраінскія „пэрспэктывы" і г.д. (Для Беларусі і Украіны выкарыстоўваюць адну матрыцу.)

Другі мэтад той жа працы, які распаўсюджаны ў краінах былога сацлягеру (сфэры абсягу КГБ) – гэта стварэньне спэцслужбамі шэрагу дробных партыяў, якія пачынаюць лямантаваць аб неабходнасьці арганізацыйнага адзінства дэмакратычных сіл, жаліцца, што іх крыўдзяць, і абвінавачваць небясьпечную для ўлады апазыцыйную арганізацыю ў развале гэтага „адзінства", у манапоііі на дэмакратыю і г.д. На Украіне і Беларусі такая мэтодыка барацьбы з *„Рухам"* і з *БНФ* была галоўнай. Большасьць дробных партыяў і там і тут створаныя пры ўдзеле органаў савецкага КГБ і яго агентуры. У 1991 годзе, пасьля правалу камуністычнага путчу, частка партыйнай агентуры „пасыпалася". Некаторыя кіраўнікі „партыяў" у Беларусі далі са страху інтэрв'ю ў друк аб сваім супрацоўніцтве з КГБ і адыйшлі ў цень. Іншыя „целяпаюцца", але ўплыў іх мізэрны.

Гэтыя мэтодыкі спэцслужбы выкарыстоўваюць ужо сто гадоў. Яны ўсім вядомыя. Але справа не спыняецца. Чаму? Таму што на ўсялякага мудраца хапае прастаты. Каб лавіць рыбу, трэба замуціць ваду. Дурні нідзе і ніколі не пераводзяцца.

*Адзінаццаты прынцып*: ***не разлучацца***. Не разлучацца са сваімі. Людзі-аднадумцы, палітыкі з адной ідэалёгіяй не павінны разьядноўвацца і ствараць паралельныя арганізацыі з аднолькавымі задачамі, мэтамі і праграмамі. Гэта прыводзіць да нерацыянальнага выкарыстаньня патэнцыялу і зьмяншэньня ўдзельнай вагі агульнай працы (плюс суб'ектыўныя выдаткі і г.д.).

*Дванаццатае правіла* мусіць быць нормай катэгарычнай мадэлі паводзінаў у палітычнай арганізацыі і асабліва ў вызвольным руху – ***сваіх бараніць***. У палітыцы гэтая норма павінна стаць абсалютнай і безагляднай. Тут ня толькі маральнае дачыненьне. Гэта зарука дапамогі і салідарнасьці ў барацьбе. Публічнае асуджэньне і непадтрымка свайго ў той час, калі яго асуджаюць і топяць палітычныя апанэнты, павінна разглядацца як здрада.

Разумеючы гэтае катэгарычнае правіла, трэба ўсьведамляць, што змаганьне за вызваленьне з турмы нашых геройскіх сяброў – ***Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага***, ***Вадзіма Кабанчука*** – ёсьць маральны і палітычны абавязак усіх сяброў арганізацыі, які неабходна спаўняць.

Правілаў палітычнага захаваньня, паводзінаў арганізацыі ў палітычным полі, гэтак жа, як і ў штодзённым жыцьці, ёсьць вельмі шмат. Я спыніўся пакуль што на гэтых дванаццаці, бо мне здалося, што на іх трэба засяродзіцца.

Аднак для нас, беларусаў, якіх справядліва высьмейваюць за нікчэмную „талерантнасьць", варта, на мой погляд, навучыцца ў палітыцы аднаму ўнівэрсальнаму правілу: засвоіць здольнасьць казаць ***„НЕ".*** Гэтая здольнасьць ёсьць увогуле ўмовай фармаваньня асобы і характару чалавека, псыхалягічнай адпорнасьцю на зло. Калі такой адпорнасьці няма, чалавек нікчэмна пагаджаецца і церпіць любую мярзоту (я называю такую паталёгію – *„любоў да падонкаў")*. Толькі ў грамадзтве, дзе ссунутыя крытэрыі, людзі, якія здрадзілі Бацькаўшчыне і нацыі, прывялі да ўлады Лукашэнку, адмянілі нацыянальны сьцяг і *Пагоню* (зацьвердзілі адмену), душылі сілай страйк у менскім мэтро, аддавалі загады зрываць бел-чырвона-белыя сьцягі і ўсяляк падтрымлівалі Лукашэнку, яго рэжым, антыбеларускую палітыку хунты, прадалі Беларусь ў лістападзе, толькі ў такім бесхарактарным, бесхрыбетным, атручаным, дапалітычным асяроддзі гэтакія людзі могуць плаваць на паверхні, ды яшчэ ў камуфляжы апазыцыі, герояў і „сумленьня нацыі". Там жа, дзе грамадзтва жыве якраз па сумленьні, па праўдзе, па здаровым розуме, па-Боску і па-людзку, гэтакія істоты ў палітыку не вяртаюцца. Да іх адносяцца інакш. Бо здрада адбываецца адзін раз. Калі грамадзтва зноў прапусьціць людзей з гумовымі прынцыпамі да ўлады, гэта будзе горш за лукашызм, бо прывядзе да поўнай дэмаралізацыі беларускага грамадзтва (я ўжо не кажу пра іхную гатоўнасьць прадацца Маскве). А Беларусь... Беларусь ніколі такім дзеячам не абходзіла. Яны жывуць не ў Беларусі, а ў асяроддзі, якое не ўмее казаць ***„НЕ".***

*23 сьнежня 1997 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці,–1997/98, № 6(10).*




(Фота У. Кармілкіна)

***32. Падрыхтоўка да дэманстрацыі. Менск, ліпень, 1997 г.***

# ПАЛІГОН

***(Зьнішчэньне свабоды і правоў чалавека ў Беларусі)***

***Лекцыя, прачытаная 11 сьнежня 1997г. ў Палітычным камітэце радыё „Свабода” у Вашынгтоне для амэрыканскіх палітыкаў, прадстаўнікоў Дзяржэпартаманту і журналістаў.***

Беларусь ператворана ў палігон постсавецкай дыктатуры, на якім выпрабоўваюцца авантурныя задумы рэстаўрацыі дзяржаўнага таталітарызму ва Усходняй Эўропе. Гэта такі палігон, дзе свабода і правы чалавека, як асноўныя каштоўнасьці заходняй эўрапейскай культуры, падвергнутыя выпрабаваньню і зьнішчэньню.

Дыктатура на Беларусі ўсталяваная ў лістападзе мінулага году шляхам спыненьня дзейнасьці парляманту, Канстытуцыі і законна выбраных суддзяў Канстытуцыйнага Суда. Пра дыктатуру сьведчаць таксама наступныя факты. Уся заканадаўчая, выканаўчая і судовая ўлада сканцэнтраваная ў руках аднаго чалавека – прэзыдэнта Лукашэнкі. Ён прызначае на пасады ўсіх кіруючых чыноўнікаў выканаўчай улады і ўсіх іх намесьнікаў, прызначае суддзяў усіх узроўняў, прысвоіў сабе права здымаць з пасады любога кіраўніка ў дзяржаўнай і недзяржаўнай сфэры і незалежна ад формы ўласнасьці. Пры гэтым ён абвясьціў свае дыкрэты вышэйшымі за законы. Дзяржаўны бюджэт краіны знаходзіцца ў поўным распараджэньні Лукашэнкі. Прытым створаны тры бюджэты: афіцыйны дзяржаўны бюджэт, так званыя „пазабюджэтныя фонды” і бюджэт прэзыдэнта (так званы „прэзыдэнцкі фонд”), які нікім ніякім чынам не кантралюецца, пра які не даецца нікому ніякіх зьвестак, але ў яго ідуць асноўныя і велізарныя сродкі, разьмеркаваньнем і выкарыстаньнем якіх займаецца асабіста і толькі Лукашэнка.

Рэжым цалкам манапалізаваў электронныя і асноўныя друкаваныя сродкі масавай інфармацыі. Цалкам ігнаруюцца міжнародныя канвенцыі і ўнутранае заканадаўства.

Устаноўлены поўны кантроль улады над прадпрыймальнікамі і прадпрыймальніцтвам, сфэра якога катастрафічна звужаецца. Банкі ўзяты пад кантроль дзяржавы. Ліквідаваная вольная адвакатура. Устаноўлена залежнасьць суддзяў ад прэзыдэнта. Сілавыя структуры таксама залежныя ад Лукашэнкі. Ім нададзены надзвычайныя паўнамоцтвы. Поўнасьцю ігнаруюцца правы чалавека.

Дыктатарскі рэжым на Беларусі мае свае асаблівасьці. Гэты ***рэжым кагэбісцкі, акупацыйны і прарасейскі, усталяваўся ў выніку ўнутранай акупацыі Беларусі ў працэсе захопу ўлады расейскімі спэцслужбамі і функцыянерамі КГБ.*** Гэта пацьвярджаецца разьмеркаваньнем ключавых пасадаў ва ўладзе, якія занялі супрацоўнікі спэцслужбаў. Гэта пацьвярджаецца ўнутранай палітыкай, накіраванай на забарону і зьнішчэньне беларускай мовы ў дзяржаўным і грамадзкім ужытку, на разбурэньне дэмакратычнай беларускай культуры; масавым закрыцьцём беларускіх школаў і зьнішчэньнем беларускіх падручнікаў для школаў, фальсыфікацыяй беларускай нацыянальнай гісторыі, нэгатыўнымі дачыненьнямі да беларускіх нацыянальных аўтарытэтаў, разбурэньнем нацыянальных асяродкаў асьветы і культуры, кадравай антыбеларускай палітыкай, рэанімаванай са старых савецкіх камуністычных парадкаў. Гэта пацьвярджаецца грубымі парушэньнямі правоў чалавека і перасьледам беларусаў па нацыянальнай прыкмеце (перасьледам за размову па-беларуску, за вывешваньне нацыянальнага сьцяга, за нашэньне значкоў з выявай нацыянальнага сьцяга, звальненьнем з працы за прыналежнасьць да беларускіх апазыцыйных арганізацыяў і г.д.). Гэта пацьвярджаецца зьнешняй палітыкай рэжыму, накіраванай на ліквідацыю суверэнітэту Беларусі і на інтэграцыю з Расеяй.

Палітычны сэнс пераменаў, якія адбыліся і адбываюцца ў Беларусі і вакол Беларусі, ёсьць больш значны, чым магло б здавацца на першы погляд аналітыкам, далёкім ад гэтай часткі Эўропы. Зробім кароткую рэтраспэкцыю падзеяў. У пачатку 90-х гг. распаўся Савецкі Саюз і завяршылася так званая „перабудова”, гэта значыць – пераразьмеркаваньне дзяржаўнай уласнасьці паміж савецкай намэнклятурай. Намэнклятура захавала ўладу і захапіла дзяржаўную маёмасьць. Была ліквідаваная непатрэбная ўжо для перабудоўшчыкаў КПСС, але засталіся людзі, якія кіравалі КПСС, і застаўся Камітэт Дзяржбясьпекі (КГБ), які зьяўляўся ўсесаюзнай асаблівай дзяржаўнай структурай і адначасова асновай таталітарнага айзбэргу пад назовам „КПСС”. Утварэньне незалежных дзяржаваў на месцы былога СССР паслабіла КГБ, але не зьліквідавала. Гэтая структура ўключылася ў палітыку як самастойная сіла, маючы на мэце, як вынікае з аналізу, аднаўленьне былой адзінай таталітарнай дзяржавы з дамінуючай роляй Расеі і непасрэдным удзелам КГБ ва ўладзе і перадзеле маёмасьці. Экспэрыментальным полем для гэтых плянаў, да ажыцьцяўленьня якіх прыступілі яшчэ за часы прэм'ер-міністра Кебіча, стала Беларусь. Прывядзеньне да прэзыдэнцкай улады ў Беларусі заангажаванай асобы і агента КДБ Аляксандра Лукашэнкі было прароблена маштабна, мэтанакіравана, прафэсійна і фармальна дэмакратычным шляхам. Далейшы захоп улады адбываўся неадступна і пасьлядоўна. (Замена і расстаноўка кадраў, стварэньне „сваіх” сілавых структураў, цэнзура і манапалізацыя друку, поўная манапалізацыя радыё і тэлебачаньня, вайна з парлямантам і Канстытуцыйным Судом, з прафсаюзамі і Беларускім Народным Фронтам; правядзеньне незаконнага рэфэрэндуму ў 1995 годзе, адмена нацыянальнай сымволікі ў дзяржаўным значэньні і г.д.).

Адначасна пачынае ажыцьцяўляцца галоўны стратэгічны плян спэцслужбаў і залатая мара Лукашэнкі – захоп улады ў Расеі праз стварэньне адзінай фармальна „саюзнай” Беларуска-Расейскай дзяржавы і правядзеньне прэзыдэнцкіх выбараў у новай дзяржаве, на якіх спэцслужбы паўтарылі б беларускі сцэнар выбараў 1994 г. і правялі б Лукашэнку на прэзыдэнцтва Расеі-Беларусі (структуры КГБ на прэзыдэнцкіх выбарах 1994г. паказалі значна большую эфектыўнасьць узьдзеяньня на электарат, чым усё дзяржаўнае тэлебачаньне).

Гэтая агентурная задума небясьпечная і рэальная, бо першая яе частка ўжо ажыцьцёўлена ў Беларусі. Ёсьць вопыт і прэцэдэнт. Правядзеньне ў жыцьцё такога пляну зьмяніла б сытуацыю ня толькі ва Усходняй Эўропе, але і ва ўсім сьвеце. Калі рука калгаснага дыктатара і прыхільніка Гітлера дацягнецца да ядзернай кнопкі хворай, слабой і прэтэнцыёзнай Расеі, мяркую, што Саддам Гусэйн здасца амэрыканцам добрым хлопчыкам.

Прадстаўнікі *Народнага Фронту* з 1995г. папярэджвалі беларускую, сусьветную і расейскую грамадзкасьць аб прэтэнзіях Лукашэнкі на расейскі пасад і аб плянах спэцслужбаў. Толькі праз два гады да рускіх так званых „маладых рэфарматараў”, а ад іх і да Ельцына, нарэшце, дайшло, што гэта зусім ня жарты. Аднак сапраўднай небясьпекі яны не ўсьведамляюць і марна імкнуцца абыграць Лукашэнку. Расейцы праводзяць старую

імпэрскую палітыку супраць Беларусі і імкнуцца, выкарыстаўшы Лукашэнку, захапіць Беларусь, далучыць яе да Расеі. Тут яны ўсе стаяць на адной імпэрскай плятформе, нягледзячы на розную фразеалёгію. Не здарма ў лістападзе 1996 года кіраўніцтва Расеі падтрымала антыканстытуцыйны пераварот Лукашэнкі ў Беларусі і нават прыняло ў ім удзел (што зьяўляецца актам грубым і надзвычайным). Ідзе авантурны і бессаромны гандаль. Лукашэнка гатовы прадаць Беларусь за прэзыдэнцкую ўладу ў Расеі. Расейцы ж з задавальненьнем узялі б падарунак лёсу, але расплочвацца ўладай не зьбіраюцца (хаця чырвона-карычневыя схільныя і на гэта). Вакол гэтай змрочнай калізіі і гуляюцца ўсе ельцынска-лукашэнкаўскія гульні. Ня цяжка вылічыць, у каго пазыцыі лепшыя.

У сістэме палітычных, юрыдычных, сілавых і рэпрэсіўных захадаў, якія стасуе рэжым дзеля ажыцьцяўленьня сваіх стратэгічных плянаў і ўмацаваньня дыктатуры, галоўнай пазыцыяй і галоўнай задачай зьяўляецца прыдушэньне беларускага народу, яго правоў і свабоднай волі. У той жа час для Беларускага Народнага Фронту і ўсёй апазыцыйна настроенай часткі беларускага грамадзтва правы чалавека побач з дзяржаўнай незалежнасьцю і свабодай сталі важнейшым пытаньнем барацьбы супраць дыктатуры. Тут адбываецца найбольш востры канфлікт паміж сіламі свабоды і сіламі несвабоды. Дыктатура ўсьведамляе, што толькі задушыўшы вольнага чалавека і адабраўшы ад яго ўсе правы, яна можа ліквідаваць яго супраціўленьне рэжыму і беспярашкодна ажыцьцяўляць свае пляны.

Грубасьць, жорсткасьць, цынізм і зьнявага, зь якімі рэжым Лукашэнкі ўжывае сілу супраць беларусаў, нязгодных зь яго палітыкай, уразіў увесь сьвет. Унутраная палітыка рэжыму будуецца на *псыхалёгіі нянавісьці і падазрэньня, на пазыцыі задушэньня і сілы, на ідэі змаганьня з ворагамі прэзыдэнта*. Галоўны рэпрэсіўны ўдар скіраваны цяпер супраць *моладзі, школьнікаў і студэнтаў*, якія найбольш бяспраўныя і найбольш раздражняюць Лукашэнку.

Каб убачыць асаблівасьць гэтых рэпрэсіяў і бяспраўя людзей, прывяду некалькі фактаў. Пасьля лістападаўскага перавароту стала за звычай паляваньне адмысловых аддзелаў міліцыі на людзей, і асабліва на моладзь, на вуліцах Менска і іншых гарадоў Беларусі. Гаворыць *непаўналетняя* менская школьніца (*17 гадоў*) ***Жэня Мітраева***: *„Я ішла па вуліцы. Рэзка спынілася машына. Зь яе выскачылі двох мужчын, здаровых, з азлобленымі тварамі. Яны былі ў цывільным. Я вельмі перапалохалася. У іх сапраўды былі зьвярыныя твары. Ні слова ня кажучы, яны сталі запіхваць мяне ў машыну. Я нават спачатку не зразумела, што гэта была міліцыя. Калі я стала супраціўляцца, яны стукнулі мяне галавой аб кузаў машыны. У машыне зьневажалі."* У міліцыі яе зьбілі, не прад'явіўшы абвінавачваньня, пасьля чаго Жэня трапіла ў шпіталь з чэрапна-мазгавой траўмаю. Гэта адбылося 2-га красавіка гэтага года. Бацька Жэні так і не дамогся суда над міліцыянтамі.

***Юрась Мароз*** у Віцебску падыйшоў на вуліцы да міліцыянераў АМАПу і нешта запытаўся па-беларуску. У адказ за размову па-беларуску афіцэры АМАПу па-зьверску зьбілі маладога чалавека, які пасьля гэтага трапіў у рэанімацыйны шпіталь, перанёс хірургічную апэрацыю галавы і ледзь выжыў. Суд не пажадаў разглядаць справу.

*30 верасьня* гэтага году група міліцыянераў смяртэльна зьбілі маладога менскага рабочага ***Аляксандра Контуся*** за размову па-беларуску і за прыналежнасьць да *Беларускага Народнага Фронту*. Аляксандр страціў прытомнасьць. Міліцыянеры абшукалі яго і забралі грошы, 300 тысячаў беларускіх рублёў (эквівалентныя 11 далярам). Малады чалавек трапіў у шпіталь з дыягназам „пераломам рэбраў з пранікненьнем рэбраў у поласьць лёгкіх". Суд ня хоча разглядаць справу.

***Дзімітрыя Бушмакова***, *няпаўналетняга* вучня менскай школы, 14-га сакавіка гэтага году міліцыя схапіла на вуліцы без прычыны. Хлопчыка білі галавой аб дзверы машыны і 7 гадзінаў трымалі ў пастарунку. Прымусілі падпісаць чысты аркуш паперы.

*12 кастрычніка* гэтага году няпаўналетняга школьніка ***Дудзіна*** за ўдзел у дэманстрацыі схапіла група міліцыянераў, зацягнула ў адміністрацыйны будынак і па-зьверску зьбіла.

*У лютым* гэтага году па падазрэньні ва ўдзеле ў дэманстрацыі быў схоплены на вуліцы ў Менску ***Сяргей Салаш.*** Пры ім знайшлі кніжку на беларускай мове – *„Беларусістыка".* За гэта яго па-зьверску зьбілі і судзілі. Аргумант быў наступны: раз носіць з сабой беларускую кніжку, значыць, удзельнічаў у мітынгу.

Да беларускага грамадзяніна ***В.Умрэйкі*** міліцыянеры ўламаліся ў кватэру, пачалі зрываць бел-чырвона-белыя значкі з вопраткі асобаў сям'і і хапаць беларускі нацыянальны сьцяг, які вісеў у кватэры. Усю сям'ю зьневажалі за нацыянальную прыналежнасьць.

*25 жніўня* схапілі і кінулі без суда ў турму актывіста *Маладога Фронту 18-гадовага* ***Аляксея Шыдлоўскага*** (г.Стоўбцы), *27 жніўня – 16-гадовага* ***Вадзіма Лабковіча*** *(Менск), а пазьней – 22-гадовага* ***Вадзіма Кабанчука*** (г.Бабруйск). У турме ўсіх жорстка зьбілі. А.Шыдлоўскі пасьля зьбіцьця трапіў ў турэмны шпіталь. Ім прад'явілі абвінавачваньне ў роспісе сьцен антыпрэзыдэнцкімі лёзунгамі і заклікамі за свабоду Беларусі. Па закону гэтае абвінавачваньне (як і ва ўсіх іншых выпадках) не вымагае садзіць непаўналетніх у папярэднюю сьледчую турму. Ужо чацьвёрты месяц так званыя „сьледчыя" гэтае абвінавачваньне ня могуць даказаць. (Ды, відаць, і не зьбіраюцца.) *Маладым*



***33. Антыбеларускі рэжым. Зьбіваюць чалавека на вуліцы. Менск.***



(Фота У. Кармілкіна)

*34. Юры Мароз пратэстуе.*


(Фота з друку)

*35. Схапілі жанчыну з кветкамі. Горадня.*

*палітычным вязьням* адмовілі ў спатканьнях з бацькамі, бацькам забаранілі перадаваць арыштаваным усялякія перадачы, нават лякарствы, есьці даюць праз дзень. Да іх не дапускаюць адвакатаў. Калі вучню Лабковічу нейкім чынам удалося перадаць падручнк па беларускай мове, турэмная адміністрацыя ў яго гэты падручнік адабрала і парвала. Хлопчыка, ні ў чым не вінаватага, пазбавілі права вучыцца ў школе. Цяпер яму зноў удалося перадаць школьныя падручнікі. Але турэмнае начальства забараніла настаўнікам наведаць і праэкзаменаваць вучня.

Уся 95-я школа, дзе вучыўся Вадзім і ўсе настаўнікі стаяць за яго і абураныя варварствам рэжыму. У Беларусі і ў беларускай эміграцыі множацца патрабаваньні вызваліць маладых вязьняў рэжыму Лукашэнкі.

***Я зьвяртаюся да сусьветнай грамадзкасьці ўзьняць свой голас ў абарону і за вызваленьне з турмы гэтых беларускіх юнакоў. Нельга маўчаць, калі побач топчуць годнасьць маладога чалавецтва. У лукашэнкаўскай дыктатуры ўжо былі выпадкі, калі маўчаньне грамадзтва, няведаньне пра турэмны тэрор і пра несправядлівасьць прыводзілі да сьмерці нявінных людзей.***

У 1996 годзе арыштавалі выкладчыка Бабруйскага Лесатэхнічнага тэхнікума ***Юрыя Бабуджыева*** па абвінавачваньні быццам бы ў хабарніцтве, якога не маглі даказаць. Сем з пальвай месяцаў 32-гадовага чалавека ўтрымлівалі ў сьледчай турме, білі, зьдзекаваліся, катавалі. Ня вытрымаўшы катаваньняў, *Бабуджыеў памёр, не дачакаўшыся суда*. Калі яго „даставілі" з турэмнай камеры ў рэанімацыю гарадзкога шпіталю, практычна, у безнадзейным стане, то яго цяжка было пазнаць. Некалі здаровы мужчына цяпер як падлетак – 48 кілаграмаў – і ледзь-ледзь мог гаварыць. Лекары канстатавалі інсульт, пнэўманію, параліч правага боку, пашкоджаньне ўнутраных ворганаў (лёгкіх і печані). Перад сьмерцю ён казаў маці, што яго моцна зьбівалі. Уратаваць жыцьцё Бабуджыеву лекары ўжо не змаглі. Чалавека закатавалі сьледчыя і турэмшчыкі ў турме без суда. І ніхто за гэта ня быў пакараны. Такая сёняшняя рэчаіснасьць рэжыму „усенароднa абранага" дыктатара. Аналягічных парушэньняў правоў чалавека зафіксавана тысячы.

Гэта толькі адзін аспэкт справы. Зламаньне правоў чалавека ў Беларусі шматграннае і шырокае – ва ўсіх сфэрах жыцьця і чалавечых дачыненьняў. Сымтаматычна аднак тое, я паўтаруся, што адбываецца яно не стыхійна, а рацыянальна прадумана рэжымам як спосаб дзяржаўнай палітыкі ўлады. Пры гэтым рэжым Лукашэнкі стварае сваё крымінальнае заканадаўства і ўзаконьвае крымінальныя дачыненьні як нормы афіцыйных актаў, як нормы дзяржаўнай дыктатарскай маралі.

*У лістападзе* гэтага года, напрыклад, лукашэнкаўская „палата прадстаўнікоў" прыняла свой „закон" „Аб ворганах Камітэту Дзяржаўнай бясьпекі ў Рэспубліцы Беларусь", якія кантралююцца прэзыдэнтам. У „законе" сказана, што *ворганы КГБ „маюць права" ўваходзіць бесперашкодна, пры неабходнасьці з псаваньнем замковых прыстасаваньняў, у любы час сутак у жылыя дамы і іншыя памяшканьні грамадзянаў, на належныя ім зямельныя дзялянкі, маюць права на адміністрацыйнае затрыманьне асобаў, права ўжываць зброю, фізычную сілу, дапытваць асобу". Дарэчы, такое „права" ва ўсеагульным бяспраўі чалавека маюць на Беларусі, практычна, ўсе ўлады і ворганы і нават памагатыя ворганаў.*

Лукашэнкаўскі рэжым афіцыйна зацьвердзіў нават падслухоўваньне тэлефонных размоваў грамадзянаў, што недапушчальна ў нармальным грамадстве. *У пачатку 1997г.* Міністэрства сувязі Беларусі падрыхтавала новы тэкст дамовы з карыстальнікамі тэлефонаў, дзе сказана: *„Абанэнт павінен не дапускаць выкарыстаньня тэлефоннай размовы ў мэтах, што супярэчаць дзяржаўным інтарэсам і грамадзянскаму парадку"*. Інакш тэлефон будзе адключаны, а дамова скасаваная. Гэта абазначае, што тэлефонныя размовы падслухоўваюцца і пры крытыцы рэжыму Лукашэнкі ў такіх размовах тэлефон адключаць.

Деля аблягчэньня судовых рэпрэсіяў *3-га траўня* гэтага года Лукашэнка выдаў дэкрэт №12, якім *забараніў свабодную адвакацкую дзейнасьць у Беларусі*. Складзены сьпісы недабранадзейных адвакатаў. Рыхтуюцца расправы, ад адвакатаў адбіраюць ліцэнзіі. Супраць вядомага адваката ***Надзеі Дударавай***, якая пастаянна ўдзельнічае ў палітычных працэсах і бясплатна абараняе сваіх падапечных, узбуджаны крымінальная і адміністрацыйная справы за тое, што яна, выконваючы закон, абвінавацiла лукашэнкаўскі суд у неаб'ектыўным вядзеньні судовага працэсу.

Адвакатуру ператварылі ў частку дзяржаўнай чыноўніцкай машыны. Бо займацца практыкай адвакату дазволена толькі тады, калі ён уступіць у афіцыйную калегію адвакатаў, якая заховалася яшчэ з савецкага часу. 30 верасьня гэтага года, напрыклад, Менская гарадзкая калегія адвакатаў (афіцыйная) выключыла са сваайго складу адваката ***Гары Паганяйлу,*** які абараняў ненавісных Лукашэнку асобаў. Выключэньне з афіцыйнай Калегіі, згодна дэкрэту, пазбаўляе права займацца адвакацкай дзейнасьцю. Адвакатура ўвогуле непатрэбная рэжыму гэтак жа, як і парлямант.

Адбываецца нечуваны ціск на суддзяў і суд. Лукашэнка выдаў *распараджэньне лічыць жыльлё, у якім жывуць суддзі, – ведамасным жыльлём*. Гэта значыць, што пры звальненьні суддзі (а прэзыдэнт усё можа, калі захоча) гэтакі суддзя і яго сям'я могуць быць пазбаўленыя кватэры і выкінутыя на вуліцу.

Наступны ход рэжыму – падрыхтоўка новага („свайго") заканадаўства аб прызначэньні суддзяў. *Прапануецца, каб суддзяў выбіралі на пяць гадоў на зьезьдзе суддзяў.* (Гэта значыць, на зьездах тых, што жывуць у ведамасных дамах і могуць апынуцца на вуліцы за нелаяльнасьць.) Мяркую, камэнтар тут не патрэбны. Я ўжо не кажу пра тое, што ў нармальным сьвеце суддзі прызначаюцца пажыцьцёва.




***36. Адвакат Надзея Дударава.***

Сэнс усіх гэтых дзеяньняў, на мой погляд, ня толькі ў разбурэньні, спрашчэньні і падпарадкаваньні судовай сістэмы рэжыму. Сэнс у *стварэньні магчымасьцяў для* ***шырокамаштабных палітычных рэпрэсіяў у рашаючы час***, да якога рыхтуецца дыктатура. Інакш навошта ўсё гэта! У дыктатуры на Беларусі і ў самага Лукашэнкі энкавэдзісцкая прырода і энкавэдзісцкая псыхалёгія. Гэты рэжым ня можа абыйсьціся без рэпрэсіяў. Усё пытаньне толькі ў іх маштабе, які выглядае вельмі адносным у той вялікай палітычнай гульні, у якую імкнецца гуляць Лукашэнка.

Нарэшце, галоўнае пытаньне – ***дзе выйсьце?*** Я бачу гэтае выйсьце ў адным: у ***адстаўцы Лукашэнкі***. За гэта павінны зараз выступіць і змагацца ня толькі *Народны Фронт*, але ўсе ў Беларусі, хто не прымае рэжым дыктатуры. А такіх людзей большасьць.

Выстаўляючы патрабаваньне адстаўкі Лукашэнкі, я прапаную ісьці далей: ***ліквідаваць увогуле прэзыдэнцкую сістэму ў Беларусі і вярнуцца да парляманцкай рэспублікі***, каб усталяваць нармальную дэмакратыю і нармальныя дэмакратычныя дачыненьні ў грамадзтве.

Беларускае грамадзтва выразна постсавецкае з даволі старым насельніцтвам і саветызаванай псыхалёгіяй значнай часткі людзей. Ні грамадзтва, ні мяркуемыя кандыдаты на прэзыдэнта не гатовыя да прэзыдэнцкай улады. У выпадку адстаўкі Лукашэнкі і новых выбараў прэзыдэнта (калі не перамяніць сыстэму ўлады) нічога іншага, акрамя новага дыктатара ці паўдыктатара і новай марыянеткі Масквы, у прэзыдэнцкай Беларусі не зьявіцца. Таму пытаньне ўлады трэба вырашаць і палітычна, і сістэмна, і адпаведна становішчу грамадзтва.

Практычна, не засталося юрыдычнага механізму адстаўкі (хаця магчымасьці не зачыненыя). Але нават каб такі механізм і захаваўся, рашаючым фактарам перамены ў гэтай сытуацыі будзе фактар палітычны, фактар масавай грамадзкай сілы, масавага націску на дыктатара, усеагульнае грамадзкае змаганьне. Ці магчыма гэта? Я лічу, што магчыма, бо неабходна. Тым больш, што ўсё ўжо было яшчэ зусім нядаўна, калі ўпала КПСС і разваліўся Савецкі Саюз. Праўда, тады была салідарнасьць усіх, што змагаліся з камунізмам і ўсяго свабоднага сьвету, які падтрымліваў гэтае змаганьне. Пытаньне, ***хто будзе салідарны з намі***, ***беларусамі***, застаецца адкрытым. Але нішто ня спыніць нашай барацьбы за свабоду.

*11 сьнежня 1997г., Вашынгтон.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997/98, № 6(10); Пагоня, – 1998, 17 лютага).*

# ROSYJSKI PLAN OKUPACJI BIAŁORUSI

*(Wywiad z Zianonem Paźniakiem, „Tygodnik Solidarność”. Rozmawia Antoni Zambrowski)*

***Tyg. Solidarność:*** **– Prezydent Rosji Borys Jelcyn zaproponował jak najbardziej serio Anschluss Białorusi. Co pan o tym sądzi jako przywódca opozycji patriotycznej i niepodległościowej?**

***Z.Pazniak:*** – Jelcynowska propozycja wchłonięcia Białorusi przez Rosję nie jest dla Białoruskiego Frontu Narodowego żadną niespodzianką. Oczekiwaliśmy tego kroku właśnie na Nowy Rok. Pisałem o tym wielokrotnie w czasie mego pobytu w USA i wcześniej jeszcze mówiłem o tym podczas mego pobytu w Polsce wiosną i latem ubiegłego roku. Chodzi o to, że w Rosji opracowano plan rosyjskiej okupacji Białorusi. Istnieje on już od trzech lat. Gdy rosyjskie siły specjalne wylansowały Aleksandra Łukaszenkę na prezydenta Białorusi, Rosja uznała, że nastąpił czas urzeczywistnienia tego planu. Na początek 1996 roku miał się rozpocząć pierwszy etap okupacji pod pretekstem zjednoczenia naszych krajów. Wszystko było już do tego przygotowane, ale opór Białoruskiego Frontu Narodowego sparaliżował po części urzeczywistnienie tych planów. Po poprzednim referendum w sprawie symboli państwowych i języka urzędowego świat „postawił już krzyżyk» na Białorusi jako samodzielnym podmiocie państwowym, ale na wiosnę ubiegłego roku młodzież białoruska i w ogóle duża część społeczeństwa wyszły na ulice Mińska i innych dużych miast, doszło do starć z milicją. Reżim musiał się cofnąć i nie zrealizował swych zamierzeń.




(Фота Ю. Дзядзінкіна)

***37. «Абаронім Беларусь...»***

**– Niemniej Łukaszenka podpisał z Jelcynem unię obydwu państw.**

– Jelcyn i Łukaszenka podpisali porozumienie na Kremlu w obecności metropolity Wszechrosji i na oczach całego kierownictwa Rosji. Uroczyście opili tę umowę gorzałą. Ta umowa stała się dyrektywą dla działania. Tekstu nie opublikowano, ale go uzyskałem i przeczytałem. Tam cały plan został wyłożony nader przejrzyście. Jest m.in. mowa o referendum przewidzianym na koniec 1996 roku, które właśnie się odbyło. Przewiduje się również – pod pozorem unifikacji z Rosją podporządkowanie jej wszystkich kluczowych sfer życia gospodarczego – infrastruktury i transportu, zwłaszcza kolejowego. Mówi się też o stworzeniu warunków dla utworzenia jednolitego systemu pieniężnego, czyli podporządkowania Narodowego Banku Białorusi Bankowi Rosji. Ich plan przewidywał też podjecie już na początku 1997 roku wspólnego referendum w Rosji i na Białorusi odnośnie ostatecznej likwidacji państwowości białoruskiej. Jak widzimy, zabór Białorusi został rozpracowany ze wszystkimi szczegółami w postaci harmonogramu. Znając te plany alarmowałem opinię publiczną zarówno na Białorusi, jak i poza nią, m.in. podczas pobytu w Polsce oraz w Ameryce. I proszę, propozycja Jelcyna właśnie teraz, w dwa tygodnie po Nowym Roku, potwierdza moje alarmy.

**– I cóż, parafrazując słowa Kościuszki pod Maciejowicami możemy powiedzieć: Finis Belaruthenia?**

– Nikt już teraz nie wątpi, że Białoruś jest w stanie wojny obronnej z Rosją. Jest to zimna wojna, gdyż Rosja dokonuje okupacji Białorusi poprzez swoje marionetki, rzec można poprzez swoją V kolumnę. Opanowali oni kluczowe stanowiska w polityce i gospodarce i podporządkowują Rosji całą jej infrastrukturę i kluczowe dziedziny gospodarki. Jak mówiłem, okupacja poprzez siły wewnętrzne odbywa się według harmonogramu.

Czego oni jednak nie przewidzieli, to oporu narodu białoruskiego. Wystąpienia opozycji niepodległościowej na Białorusi odsłoniły maskę nie tylko reżimu Łukaszenki. Międzynarodowa opinia publiczna nie uznała zamachu stanu, jakiego dokonał prezydent Łukaszenka. Świat nareszcie dojrzał manipulacje, jakie stosował go. Świat nie uznaje ani dyktatury Łukaszenki, ani tworzonych przez niego wbrew obowiązującej konstytucji organów władzy. Świat nie uznaje ich za prawowite, ale Rosja uznaje. I Jelcyn proponując unię tej bandyckiej dyktaturze stawia siebie w odpowiednim dla swych czynów świetle. Udający demokratę prezydent Rosji, Jelcyn proponuje wspólne interesy dyktatorowi i uzurpatorowi, który depcze prawa konstytucyjne Białorusi, zwłaszcza prawa człowieka. W ten sposób Jelcyn demonstruje narodowi białoruskiemu, że Rosja imperialna jest naszym wrogiem. Imperializm rosyjski stanowi zagrożenie dla bytu narodowego i państwowego Białorusi.

Mam nadzieję, że Rosja imperialna napotka w Białorusi odpowiedniego przeciwnika. My nie jesteśmy małą Czeczenią. Tam z Rosjanami walczył kraj liczący mniej niż milion mieszkańców. Nas jest 10 milionów. W obliczu takiego zagrożenia musimy podjąć walkę, świadomi, że nasze interesy narodowe związane są z demokracją i cywilizacją europejską. Walczymy o prawdę i sprawiedliwość. Popierają nas ci, którym są bliskie te ideały. Dlatego zdecydowani jesteśmy na stawianie Rosji oporu i mamy nadzieję na zwycięstwo.

**– Rosyjskie plany imperialne są sprzeczne ze zdrową logiką i potrzebami życiowymi zwykłych Rosjan. Mimo to władze Rosji już po czeczeńskiej klęsce inicjują nowy konflikt.**

– To co czyni Jelcyn jako prezydent Rosji – to agonia zdrowego rozsądku. Po pierwsze, po takich krokach Rosja zacznie tracić swój autorytet w świecie. W Ameryce i w wielu innych krajach Zachodu wciąż idealizuje się Rosję jako kraj budujący demokrację.

Tymczasem jest to kraj, gdzie u steru rządów są kręgi mafijne o mentalności kryminalistów. Imperium nie może kroczyć ku demokracji, dlatego Rosja przeżywa permanentny kryzys gospodarczy. Społeczeństwo dotknięte jest demoralizacją, gdyż skorumpowane elity nie budzą żadnej nadziei na poprawę losu zwykłych ludzi. Zamach na niepodległość Białorusi, to zarazem zagrożenie dla całej Europy Środkowo-Wschodniej.

Upadek Białorusi oznacza zagrożenie dla niepodległości Ukrainy, następnie Litwy, a po niej Polski. Mam jednak nadzieję, że podobnie jak w wojnie z Czeczenią, również i na Białorusi rosyjskie plany imperialne poniosą klęskę.

Imperium musi ostatecznie skręcić sobie kark.

*Надрукавана: („Tygodnik Solidarność”, – 1997, №4(436).*

# 1998

## ГОД ДЫКТАТУРЫ

Мінуў 1997 год. Год дыктатуры. Чым ён адзначыўся ў гісторыі, чым застаўся ў штодзённым беларускім жыцьці? Першая палова году – гэта цяжкая палітычная бітва за Беларусь. Рознае стаўленьне да ўмоваў анэксіі Беларусі раскалола расейскі палітычны Алімп на два лягеры. Гэта дало магчымасьць беларускім вызвольным сілам адстаяць статус-кво Беларусі ў тым стане, які трываў дагэтуль. Народнаму Фронту гэтая барацьба каштавала вялікіх ахвяраў. Але ніводная зь іх не была надарэмнай.

Летам пасьля цяжкай змагарнай вясны адбыўся *V зьезд Беларускага Народнага Фронту*, які падсумаваў вынікі змаганьня і акрэсьліў пэрспэктывы вызвольнага руху. Пасьля зьезду адбыўся спад напружаньня і ініцыятывы вызвольных сілаў. Гэта адразу выкарысталі рэжым і Масква, правёўшы шэраг прапагандысцкіх ініцыятываў. Масква і кіраўніцтва рэжыму на Беларусі ведалі, што Беларускі Народны Фронт рыхтуе кампанію па адстаўцы Лукашэнкі і пэрманэнтную акцыю збору подпісаў за адхіленьне яго ад пасады прэзыдэнта. Таму яны рабілі захады, каб перашкодзіць гэтаму, выкарыстоўваючы супраць *БНФ* усе сродкі, нават так званы „незалежны" і „таблоідны" варожы беларускай ідэі друк.

15 сьнежня *Народны Фронт* пачаў збор подпісаў за адстаўку прэзыдэнта. Кампанія паволі набірае сілу, вядзецца грунтоўная арганізацыя неадкладнай справы.

Рэакцыя рэжыму не прымусіла сябе доўга чакаць. Ужо ў першай палове студзеня афіцыёзнае тэлебачаньне абвяціла, што рыхтуецца змова *Народнага Фронту* супраць Лукашэнкі, якую быццам бы фінансуе Захад. Назвалі нават суму – 32 мільёны даляраў.

Канец 97-га і пачатак новага 98-га году праходзіць пад знакам вызваленьня з турмы маладых беларускіх палітвязьняў ***Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука***. Лёсам трох кінутых у турму юнакоў занепакоены беларусы ня толькі ў Беларусі, але і па-за межамі, асабліва ў Амэрыцы. Распаўсюджваюцца ініцыятывы за іхняе вызваленьне.

Палітычны вынік году, не зважаючы на барацьбу палітычных сілаў і супрацьстаяньне, апынуўся нулявым. І грамадзтва, і палітычная сытуацыя засталіся, фактычн, на тых жа пазыцыях, што і ў канцы 96-га года. Тады, а менавіта 15 сьнежня 1996г., у польскім часопісе *„Wprost"* (№50) я адзначаў, што *„у бліжэйшы час, напэўна, будуць арганізаваныя дзеяньні, каб напачатку надыходзячага году пачаць злучэньне альбо, можа, стварэньне нейкай канфэдэрацыі з Расеяй. Гэта выяўленьне маскоўскай палітыкі захопу Беларусі. Лукашэнка рэалізуе яе ад пачатку як чалавек КГБ і стаўленьнік Масквы."*

Ужо 14 студзеня 1997 года Ельцын выступіў зь лістом да Лукашэнкі аб „інтэграцыі" Беларусі з Расеяй. Так пачаўся 2-гі акт подлага палітычнага спэктаклю, які доўжыўся ўсю вясну 97-га года і абярнуўся для Беларусі акупацыйнай драмай. Мы бачылі, якім цяжкім было змаганьне. Але й на гэты раз Народнаму Фронту сваёй ахвярнай барацьбой ўдалося ўратаваць Беларусь.

Як складзецца трэці акт акупацыйнага фарсу, што павінен пачацца ў гэтым годзе, сказаць цяжка, але два моманты трэба адзначыць. *Першы:* ***Беларусь і Народны Фронт выстаяць і пераможуць.*** *I другі:* Масква разам з Лукашэнкам будуць ісьці напралом, не зважаючы ні на якія законы, ні на якое права, ні на якія міжнародныя нормы і ні на якую мараль.

У 1997г. на Беларусі была праведзена грунтоўная падрыхтоўка да рэпрэсіяў. У сфэры дыктатарскага „заканадаўства" прыняты шэраг антыдэмакратычных, антыпраўных актаў, „перастрэсены" апарат. Праведзены таксама пэўныя перамены ў Маскве. Трэба чакаць тактыкі неінфармацыі аб дзеяньнях, стаўленьня грамадзтва перад фактам, закулісных пактаў і пагадненьняў, і пры гэтым шумных ініцыятываў для адцягненьня ўвагі (магчыма, коштам маргіналаў ці гэтак званых „дэмакратаў", якія бесперастанку езьдзяць у Маскву). Безумоўна, што беларускі Вызвольны рух напаткаюць выпрабаваньні. Галоўнае будзе залежыць ад яго дзеяньняў і ад таго, наколькі зможа беларускае грамадзтва ў гэтых умовах аб'яднацца вакол беларускай нацыянальнай ідэі і Вызвольнага руху. Чарговых актаў рэжыму на беларускую дзяржаўнасьць і суверэнітэт можна чакаць ужо ў сакавіку. Беларусам трэба мацаваць ня толькі аргуманты, але салідарнасьць і сілу. Ня выключана, што акупанты паспрабуюць уводзіць агульнае грамадзянства з Расеяй, зноў захочуць ліквідаваць суверэнітэт і незалежнасьць Беларусі, ажыцьцявіць анэксію. Усе беларусы, усё здаровае грамадзтва павінны рыхтавацца абараніць Беларусь.

1997 год зноў засьведчыў, што рэжым Лукашэнкі, ня маючы ідэйнага абгрунтаваньня, карыстаецца расейскай акупацыйнай ідэалёгіяй, практычная сутнасьць якой мае выразны камунафашысцкі характар: прыдушэньне нацыянальнага духу народа, пазбаўленьне яго роднай мовы, культуры, ведаў пра сваё мінулае, пра сваю веліч, запалохваньне, выхоўваньне безініцыятыўнасьці, страху і комплексу непаўнавартаснасьці, замбаваньня і рабленьне пасыўных нявольнікаў, стварэньне невыносных ўмоваў праз крыміналізацыю грамадзтва, праз выміраньне і разбурэньне здароўя, праз недаяданьне дзяцей і недахоп вітамінаў, праз руйнаваньне сям'і, зьдзек над жанчынай, праз закрыцьцё сацыяльнай, духоўнай і нацыянальнай пэрспэктывы. У будучыні – вынішчэньне здаровай часткі беларускай нацыі.

Гэты год павінен быў бы паглыбіць крызіс рэжымаў у Беларусі і Расеі. Беларусы, аднак, мусяць памятаць, што ніякія пабочныя факты ня будуць вырашальнымі. Галоўнае залежыць ад самых беларусаў.

Уступаючы ў новы 1998 год, мы павінны выразна ўсьведамляць ня толькі задачы, што стаяць перад беларускім грамадзтвам, але і шляхі іх дасягненьня. Шлях мусіць быць такі, які гарантуе суверэнітэт Беларусі, дэмакратычны лад, захаваньне беларускай мовы і спыніць экспансію расейскай імпэрскай палітыкі. Вызвольны шлях павінен складацца з такіх чыньнікаў, як актывізацыя вызвольнага руху ва ўсіх сфэрах і ўсімі спосабамі, збор подпісаў за адстаўку прэзыдэнта, усеагульныя масавыя выступленьні за ліквідацыю сістэмы прэзыдэнцтва на Беларусі і за правядзеньне новых парляманцкіх выбараў на аснове Канстытуцыі 1994 г. Выбары могуць быць аб'яўлены *Радай Беларускай Народнай Рэспублікі (адзіным паўнамоцным рэальна існуючым легітымным органам беларускай улады)* і пасьля сканчэньня прэзыдэнцкага тэрміну трэба будзе імкнуцца

правесьці парляманцкія выбары перш за ўсё. Для арганізацыі працы ў *Раду БНР* па выбарным прынцыпе трэба будзе дэлегаваць прадстаўнікоў Народнага Фронту і іншых вызвольных дэмакратычных арганізацыяў Беларусі. *Ценявы Кабінет Міністраў Народнага Фронту* ўжо цяпер павінен быў бы прадугледжваць пэрспэктыву працы ў сыстэме ўлады *Беларускай Народнай Рэспублікі*.

Цяжкі 1998 год павінен паставіць шмат якія пытаньні на парадак дня, рэалізацыя якіх мусіць адбыцца пазьней. 1998 году, мяркуючы па беларускім палітычным раскладзе, наканавана стаць уплывовым у працэсах нацыянальнай палітыкі. Што зьвяжыцца ў 98-м, тое разьвяжыцца ў 99-м. Разумеючы гэта, мы, беларусы, павінны адпаведна рупіцца пра нашу будучыню.

*Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997/98, № 6(10).*




(Фота В. Федасеенкі)

***38. Дэманстрацыя супраць рэжыму. Менск.***



***39. Менск. Указаньні па рацыі.***

# ПРЫВІТАНЬНЕ МІРОНУ

*(Навагодні ліст да беларускай моладзі)*

*Мінуў чорны 1997 год і разам зь ім тры гады акупацыйнага рэжыму на Беларусі. Для адных гэты час – пякучая горыч і сорам за суайчыньнікаў, за людзей, за нашу краіну. Іншыя... іншыя, прывыкшыя ў рабстве, і не заўважылі, якое надвор'е. Рух нашай найноўшай гісторыі, што пачалася 25 жнівеня 1991 года, ёсьць працэс адраджэньня вольнай беларускай асобы і працэс выміраньня нявольнікаў. Выміраньня біялагічнага яе савецкага віду і пераўтварэньня псыхалягічнага – пераменаў душы. Канфлікт нашага грамадзтва, што абвастрыла акупацыя і дыктатура, ёсьць канфлікт сьветапоглядны і духоўны. Ён адлюстроўвае кансалідацыю і адраджэньне беларускай нацыі. Змагаюцца тыя, што за незалежнасьць і Беларусь, і тыя, што супраць. Вось стрыжань змагарнага працэсу, які разьвіваецца цяжка, але аптымістычна, бо ініцыятыва не ў нявольнікаў, а ў свабодных. Бо дыктуе ідэя, сэрца, а не жывот.*

*Пытаньне: за тры гады ўнутранай акупацыі якое дзеяньне рэжыму найбольш яго адлюстравала і якое найбольш зьняважыла і спаганіла годнасьць людзей? Я лічу, што публічны зьдзек над Беларускім Сьцягам. Гэтага нельга забыць, гэтых гарыл на экране (дзеяньне, зьнятае на відэастужку), іхныя самазадаволеныя фізіяноміі, іхныя ашчэраныя раты і найграную вясёласьць гэтых садомскіх гвалтаўнікоў, што зрывалі з дзяржаўнага флагштоку наш нацыянальны сьцяг і рвалі, шкамуталі на часткі яго сьвятасьць, пісалі на ёй свае паганыя словы. Ня ведалі, аднак, што падпісалі сабе прыгавор. Такое ніколі не даруецца і ніякага суду ня будзе дастаткова, і ніякі суд ня будзе прымацца пад увагу перад судом справядлівым.*

*Наш сьцяг – гэта сымвал нас, сымвал нашага зямнога і ўсяленскага існаваньня, сымвал нашай краіны і нашай свабоды. Таму падняцьце і ўшанаваньне гэтага сымвалу ў змаганьні ёсьць найважнейшым. Шануйма ж наш сьвяты беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг.*

*Чалавекам 1997 году ў гэтым сэнсе я б назваў, безумоўна,* ***МІРОНА.*** *Чалавек – легенда, чалавек – таямніца, чалавек геройскі. Уздымаючы беларускі сьцяг на недасягальную вышыню, ён выдатна прадэманстраваў рэжыму і ўсяму грамадзтву, што* ***Беларусь жыве і пераможа.*** *Вось прыклад эфэктыўнай барацьбы аднаго змагара. Гэта не жарты. Па ўзроўню ўзьдзеяньня на сьвядомасьць беларусаў Мірон зрабіў больш, чым уся так званая „агульная" беларуская партыйная дэмакратыя разам узятая.*

**Слава Мірону!**
**Слава беларускім змагарам!**

Дарагія хлопцы і дзяўчаты! Пачаўся 1998 год. Прадаўжаецца наша змаганьне і крок за крокам набліжаецца наша свабода. Не губляйма часу і стараймася, каб прыйшла яна хутчэй. А таму – ня слухайма чужых „мудрацоў", не зважайма на пэсымістаў, бо, закон жыцьця такі: як мы настроеныя, так і будзе. Хто хоча перамагчы, той настройваецца на перамогу. Змагаючыся за сьветлую ідэю – за адраджэньне Беларусі, мы павінны стварыць моцную грамадзкую атмасфэру і ўздымаць *„наш беларускі вольны дух"*. Мы не павінны дыхаць атрутнымі міязмамі таго подлага, вальяжнага, упадніцкага паветра, якое задымілі розныя „друкары", прадстаўнікі і прадстаўніцы самых старажытных журналісцкіх прафэсіяў, усялякія палітычныя і літаратурныя „саўкі" бяз роду і племені, што пішуць па-руску, абзываюць наш народ „даяркамі" і „п'яненькімі мужычкамі" і так любяць „демократию" і „Белоруссию", што, пражыўшы тут жыцьцё, нават слова ня вывучылі па-беларуску (не кажу ўжо пра мову). Адварочвайцеся ад іх і не марнуйце ўвагі.

У пантэоне нашай мінуласьці і сучаснасьці ёсьць мноства сьветлых творцаў, асоб, дзяржаўных дзеячоў, духоўных настаўнікаў і сьвятых. Яны ўсе без выключэньня былі людзьмі сэрца, якое балела за родную зямлю, за мову, за песьню беларускую, за кожнага беларуса. У іх варта вучыцца вопыту жыцьця і мудрасьці змаганьня. Паўтару тое, што ўжо казаў ня раз. ***У палітычнай барацьбе за Бацькаўшчыну, калі сілы мала, перамагае дух. Мацуйма ж наш дух,*** *бо рэжым спадзяецца на сілу.*



***40. Сьцяг Мірона.***

Цяпер *дзьве найвышэйшыя задачы* стаяць перад намі (якія мы пачалі ўжо ажыцьцяўляць): ***разгортваньне кампаніі за адстаўку Лукашэнкі*** (збор подпісаў і г.д.) і ***вызваленьне з турмы нашых гераічных палітвязьняў – Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука*.***

Я думаю, што 1998 год адчыніць перад беларусамі новыя магчымасьці, зьявяцца шансы. Іх скарыстае той, хто не марудзіць, хто працуе, хто будзе гатовы.

*1 студзеня 1998 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997/98, № 6(10); Пагоня, – 1998, 13 студзеня).*

* Потым ніхто зь іх не затрымаўся ў палітыцы. – *(З.П.).*

# ЗОНА

*Акупацыя страшная найперш двума чыньнікамі: зьнішчэньнем свабоды і разбурэньнем культуры.*

*У XIX ст. расейцы* склалі глябальны плян зьнішчэньня беларускіх гарадоў і нацыянальнага дойлідзтва. Дзеля гэтых мэтаў былі адпушчаны вялікія сродкі і створаны цэлы дэпартамант, які ўзначаліў вядомы расейскі чыноўнік-абскурант і вучоны Пампей Бацюшкаў. Дзясяткі беларускіх гарадоў, сплянаваных па горадабудаўнічых прынцыпах готыкі і барока, былі разбураны і пераплянаваны па прынцыпах рускага дзяржаўнага клясыцызму. Тысячы беларускіх уніяцкіх і праваслаўных храмаў паўразбурылі і перабудавалі пад афіцыёзны расейскі ранжыр. Усё гэта рабілася з адной мэтай: *пазбавіць акупаваныя беларускія землі самабытнага эўрапейскага аблічча, зьнішчыць нацыянальныя асаблівасьці беларускай архітэктуры*. Царскія ўлады не хавалі гэтага. Да канца XIX ст. расейцы пасьпелі разбурыць і перабудаваць пад „рускі стыль" звыш дзвюх тысячаў беларускіх храмаў. Гэтым яны нанесьлі велізарную шкоду беларускаму дойлідзтву.

*Бальшавікі* прадоўжылі справу рускіх цароў больш радыкальным спосабам – дынамітам. Зраўнялі з зямлёй нават тое, што іхнія папярэднікі перараблялі.

І ў першых, і ў другіх у аснове паводзінаў ляжала імпэрская палітыка, грубая акупацыйная ідэалёгія.

Цяпер мы назіраем трэцяе пакаленьне разбуральнікаў беларускай культурнай спадчыны – мафіёзнае, хіжае і сквапнае. **Гэтыя** ня будуць прымітыўна руйнаваць, траціць сродкі на ідэалёгію і дынаміт. **Гэтыя** прыўлашчаць і прададуць. Прададуць оптам і ў розьніцу, выціснуць да апошняга цэнта, як сутэнёр сваю ахвяру, а што не прадаецца – спаганяць.

Мы ўжо бачым, як яны падбіраюцца да Нясьвіжскага замку, як папсавалі вялікі помнік беларускай гісторыі і беларускага дойлідзтва Нясьвіжскі фарны касьцёл (XVI ст.).

Нядаўна стала вядома пра плян захопу ў прыватную ўласнасьць усіх гісторыка-культурных і прыродных каштоўнасьцяў нацыі (помнікаў гісторыі і культуры, ахоўных архітэктурных, археалягічных і прыродных зонаў, ляндшафтных, прыродных, гідралягічных заказьнікаў і запаведнікаў, азёраў, лясоў, рэк, замкаў, палацаў і паркаў і г.д.). На ўсіх тэрыторыях, дзе разьмешчаныя азначаныя аб'екты, плянуюць стварэньне свабоднай эканамічнай зоны як суцэльнага комплексу з асаблівым рэжымам гаспадараньня ў агульнанацыянальным маштабе.

Пра гэта паведаміў ***Сяргей Харэўскі*** ў радыёперадачы „*Свабоды*" „Доўгатэрміновае злачынства" (8.02.1998). С.Харэўскаму трапілі ў рукі дакументы з плянамі сёньняшніх „гаспадароў краіны". „Усе міністэрствы Беларусі разам з кіраўніцтвам справамі Лукашэнкі паглыблялі і разьвівалі гэты праект, – адзначыў С.Харэўскі. – У выніку гэтага сьпіс тэрыторыяў і аб'ектаў, асуджаных на адчужэньне, істотна павялічыўся. Сёньня, апроч узятых наўздагад помнікаў па ўсёй Беларусі, у ім ужо фігуруюць усе помнікі ахоўнай тэрыторыі Менска, Бярэзінскі запаведнік, цэлыя групы азёраў, заказьнікаў, паркаў. Звыш таго, уключаюцца агулам вайсковыя базы, разьмешчаныя ў Пастаўскім, Гродзенскім, Глыбоцкім і другіх раёнах. Пазначаецца сем гідраэлектрастанцыяў, вузкакалейныя дарогі, уся фірма „Беларуськурорт", аб'яднаньне Белтурыст, Міжкалгасздраўніца і сьціпла – „іншыя аб'екты гаспадаркі".

Усе гэтыя тэрыторыі і каштоўнасьці названы праектантамі – "Сфера благоприятной экономической деятельности" (СБЭД). Праектанты пішуць: „**Администрация** спэцыяльнай зоны СБЭД **зьяўляецца распараджальнікам і ўласьнікам ад імя дзяржавы** адпаведных аб'ектаў культуры, помнікаў гісторыі, прыроды." Вось яна, тыповая мафіёзная крымінальшчына, заплянаваная і запісаная чорным па беламу, але яшчэ не ажыцьцёўленая. Пры тым у гэтае плянуемае марадзёрства агульнанацыянальнай спадчыны праекцёры уцягнулі ўжо нават грошы ААН і наіўнага (а мо і не наіўнага?) прадстаўніка ААН у Беларусі.

Цытуем далей дакументы: „Адміністрацыя зоны зьяўляецца паўнамоцным прадстаўніком дзяржавы, зь якой маюць дачыненьні ўсе інвэстары па ўсіх пытаньнях дзейнасьці." Мафіёзная схема простая: „Дзяржава" адчужае неадчужальныя нацыянальныя каштоўнасьці у прыватную ўласнасьць групы асобаў („Адміністрацыі СБЭД), „Дзяржава" забясьпечвае інвэстараў, а група асобаў – прыбыткі і даход. Як будуць разьмяркоўвацца прыбыткі – справа тэхнікі.

Цытата з дакументу задачаў „СБЭД": „Легалізацыя нацыянальнага капіталу, укладываемага ў адпаведныя галіны вытворчасьці. Першапачатковыя расходы для адкрыцьця і станаўленьня сфэры спрыяльнай эканамічнай дзейнасьці **бярэ на сябе** Адміністрацыя Зоны."

„Ня цяжка здагадацца,– кажа аўтар перадачы,– хто будзе адзіным у краіне гаспадаром (і прыватным уласьнікам) усёй спадчыны Беларусі. Калі у іх усё атрымаецца, то ў наступным годзе сотні цэркваў і касьцёлаў, замкі і палацы, музэі і паркі, лясы і азёры будуць ужо ня нашыя, а „іхныя". Яны самі будуць вырашаць лёс музэяў у Строчыцах і Ракуцёўшчыне, касьцёлаў у Нясьвіжы і Наваполацку, замкаў у Крэве і Горадні, і нават лёс бярэзінскіх баброў. „Зона," разам са сваім тайным бэджэтам, чыгункамі, аэрадромамі, сувязьзю і энэргетычным комплексам, ператвараецца ў суцэльную крэпасьць, за мурамі якой будуць дзейнічаць свае законы. Сытуацыя можа стаць катастрафічнай, калі на ўсё гэта і сапраўды пакваліцца інвэстары, ведаць якіх будуць толькі ў кабінэтах адміністрацыі. Як і ўсе часовыя людзі, якія адчуваюць злачыннасьць сваіх учынкаў, яны будуць імкнуцца выціснуць з нашае зямлі па максімуму. Гэта азначае, што прэс на прыроду, гістарычнае асяроддзе ўзрасьце шматкроць. З-за закрытасьці „зоны" пра рэальны стан рэчаў будуць ведаць у краіне адзінкі. Пра незалежны кантроль на гэтых тэрыторыях нават няма гаворкі. Калі вернецца ў Беларусь канстытуцыйны парадак, тыя сотні, тысячы навасьпечаных суб'ектаў гаспадараньня ў Зоне застануцца. Канфлікт непазьбежны, выбірацца зь якога давядзецца не адзін год."

*Інфармацыя, паведамленая С.Харэўскім, трывожная. Пляны і спробы мафіі прыватызаваць нацыянальныя каштоўнасьці гісторыі, культуры і прыроды не павінны выпадаць з поля зроку грамадзкасьці. Павінны б зьявіцца грамадзкія контрініцыятывы і кантроль. Хаця, зразумела, што поўнасьцю адвесьці пагрозу беларускай нацыянальнай спадчыне і культуры можна толькі палітычным вырашэньнем пытаньня аб законнасьці і ўладзе.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 1(11). Пад псэўд. Мар'ян Ванькевіч)*

# ШАНУЙМА БЕЛАРУСЬ!

***(Ліст да школьнай моладзі)***

Дарагія хлопцы і дзяўчаты! Вы жывяце ў вельмі прыгожай краіне, якая называецца Беларусь. У нас найпрыгажэйшая ў сьвеце зямля, палі, ўзгоркі, лясы і рэкі. У нас самае блакітнае неба і найбялейшыя воблакі. Таму і людзі нашы, беларусы, самыя прыгожыя ў сьвеце. Нідзе няма нічога лепшага і прыгажэйшага за Беларусь. (А я ўжо трохі паезьдзіў па сьвеце і паназіраў.) Нездарма вялікія людзі нашай Бацькаўшчыны гэтак моцна любілі яе.

***– Каго любіш?***

***– Люблю Беларусь.***

***– Дык узаемна,*** – такі быў пароль Кастуся Каліноўскага. А вы ведаеце, што Кастусь кіраваў паўстаньнем і змагаўся са зброяй у руках за волю і свабоду Беларусі.

Сярод каліноўцаў было шмат юнакоў, вучняў менскай гімназіі і іншых маладых абаронцаў Беларусі. Старэйшыя хлопцы змагаліся з шаблямі на конях. Малодшыя ў гімназіях – выкідвалі з клясаў партрэты рускага цара, пісалі на сьценах патрыятычныя лёзунгі, сьпявалі песьні і гімны, палілі расейскія сьцягі. Быў час, што акупанты нават зачынілі Менскую гімназію, бо нічога не маглі зрабіць з супраціўленьнем гімназістаў.

Расейскі імпэрыялізм і за царамі, і за бальшавікамі, і за „дэмакратамі”, дзе б ён ня быў, імкнуўся паўсюдна падпарадкаваць сабе дзяцей і моладзь. Імпэрыялісты ўводзілі рускія школы і расейскую мову ў школах, уносілі туды свае крывавыя сьцягі і партрэты сваіх начальнікаў і, галоўнае, пачыналі хлусіць дзецям, ашукваць моладзь, паклёпнічаць на вялікіх беларусаў і навязваць свае кніжкі, сваіх багоў і герояў, якія на самай справе былі бандытамі – такія, як Сувораў, Пугачоў, Сьценька Разін, Ленін, Сталін, Дзяржынскі.

Але ня ўсюды ім ўдавалася. Калі ў Польшчы, напрыклад, пасьля 2-й Сусьветнай вайны прыслалі ў школы рускіх настаўнікаў выкладаць па-руску, то польскія дзеці закідалі іх чарнілкамі (спэцыяльныя бутэлечкі, у якія налівалі чарніла). Расейцы з чым прыехалі, з тым і паехалі. Потым з тых польскіх дзяцей вырасьлі людзі, што стварылі арганізацыю „Салідарнасьць”, скінулі камуністаў і выгналі з Польшчы савецкія войскі. Цяпер Польшча вольная незалежная краіна.

У 1991 годзе мы таксама вярнулі нашу беларускую дзяржаўную незалежнасьць. Але потым зьявіўся прэзыдэнт Лукашэнка, які пачаў гандляваць незалежнасьцю Беларусі і сумесна з расейцамі зьнішчаць наш сувэрэнітэт; ліквідаваў незаконна Канстытуцыю, Канстытуцыйны Суд і парлямант. Раней Лукашэнка быў намесьнікам начальніка турмы па гаспадарчай частцы, потым кіраваў калгасам і супрацоўнічаў з КГБ. Стаўшы прэзыдэнтам, ён загадаў свайму АМАПу і „Спэцназу” зьбіваць беларускую школьную моладзь палкамі па галовах, хапаць і кідаць у турму, бо беларуская моладзь не прызнае лукашэнкаўскага савецкага сьцяга, яго гэрба „капусты” і ня любіць самаго Лукашэнку, лічыць яго за дурня.

Такога няма нідзе на сьвеце, нават у самых жорсткіх рэжымах, каб паліцыя (міліцыя) зьбівала дзяцей за тое, што яны любяць Бацькаўшчыну і родную мову. Такога няма нідзе на сьвеце, каб прэзыдэнт краіны зачыняў бы нацыянальныя школы і ўводзіў чужыя, каб аддаваў бы загады спальваць нацыянальныя падручнікі і кніжкі, а вучняў школ, якія пішуць на сьцяне „Люблю Беларусь і не люблю прэзыдэнта”, кідаў бы ў турму і зьдзекваўся над імі. А гэта ўсё таму, што прэзыдэнтам у нас чужы злы чалавек.

Той, хто быў на судзе ў Менску над ***Вадзімам Лабковічам*** і ***Аляксеем Шыдлоўскім***, бачылі і чулі, як суддзя-расеец (Лаўроў) зьдзекваўся зь беларускай мовы і паводзіў сябе, як палітычны правакатар, зьневажаў беларусаў у зале, дэманстрваў, што „судзіць” юнакоў за тое, што яны беларусы і любяць Беларусь. А ўзброены лукашэнкаўскі АМАП у гэты час акружыў суд і бясспрычынна зьбіваў людзей, што стаялі перад будынкам суда. І асабліва школьную моладзь.

*Чаму такое адбываецца ў Беларусі? А таму, што* гэта ***акупацыйны антыбеларускі суд і акупацыйны прарасейскі рэжым***. ***Яны судзяць не па закону, а па беззаконьню, па загаду Лукашэнкі.***

Па сапраўдных беларускіх законах не павінна быць такога суду. Але Лукашэнка не выконвае законаў. А калі законаў не выконвае прэзыдэнт, то ці павінны тады іх выконваць астатнія людзі? Закон жа для ўсіх адзін. Калі разьвязаныя рукі ў суда і ў Лукашэнкі, то чаму яны павінны быць зьвязаныя ў грамадзянаў Беларусі? Ці павінны беларусы цярпець, каб маскаль пляваў ім у твар, як той суддзя Лаўроў?

І яшчэ пытаньне. Калі Лукашэнка аб’явіў вайну беларускай школе, беларускім дзецям і беларускай школьнай моладзі, то што яны мусяць рабіць? Упакарыцца, каб лупілі, як раба, па галаве, глядзець на яго „капусту” і фізіяномію, ці змагацца за сваё беларускае права і беларускую маладую чалавечую годнасьць?

Школьная моладзь цяпер мае права на барацьбу і яна змагаецца. *16-гадовы Вадзім Лабковіч, вучань 11 кляса 95-й школы г.Менска сапраўдны герой.* Ён самы малодшы з трох палітычных вязьняў, якіх Лукашэнка незаконна і без суда кінуў ў турму. Але калі несправядлівы суд над двумя зь іх, Лабковічам і Шыдлоўскім, пачаўся, то Вадзім трымаўся як сапраўдны беларус. Калі суддзя-расеец спытаўся, чаму ён зьняў лукашэнкаўскі сьцяг і на яго месца павесіў беларускі Бел-Чырвона-Белы, Вадзім адказаў: „Таму што там павінен вісець беларускі дзяржаўны сьцяг.” І суддзю не было чаго казаць.

***Сапраўдным дзяржаўным сьцягам Беларусі зьяўляецца беларускі нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, якому ўжо больш за паўтысячы гадоў,*** а ня нейкая лукашэнкаўская савецкая ануча, якую прыдумалі бальшавікі ў 1952 годзе. Лукашэнкаўскі сьцяг ня наш, не беларускі і не законны.

Гэты яго ненармальны сьцяг і гэрб не павінны быць у беларускай школе. Выкідвайце іх вон. Трэба шанаваць наш беларускі Бел-Чырвона-Белы сьцяг і дзяржаўны гэрб „Пагоня”.

А калі настаўнікі пачнуць казаць што-небудзь супраць Беларусі ці супраць беларускай мовы, ці супраць *Беларускага Народнага Фронту*, то гэта не настаўнікі, а лукашэнкаўскія халуі і акупанты. Ня трэба слухаць такіх настаўнікаў, бо яны нічаму добраму не навучаць. Беларус не павінен зьневажаць сам сябе, сваю беларускую мову, сваю Бацькаўшчыну, гісторыю і культуру. Гэта могуць рабіць хіба што зусім цёмныя, дурныя і адсталыя людзі, альбо ворагі беларушчыны. Калі будзе наша беларуская ўлада, то ад такіх гора-настаўнікаў у школе і духу не застанецца.

Я жыў на Віленшчыне і, памятаю, пайшоў у школу яшчэ пры Сталіне. Настаўнікі ўсхвалялі бандыта Сталіна, казалі, што Бога няма і абзывалі беларусаў „мужыкамі” (гэтак называць патрабавалі бальшавікі). Але мы, дзеці, не зважалі на такіх настаўнікаў, а слухалі, што казалі між сабой паважаныя старэйшыя і разумныя людзі. Цяпер усім зразумела, што тады мы, дзеці, жылі па праўдзе.

*Па праўдзе жыць добра і лёгка. Бо сумленьне чыстае. Хараша жыць сярод добрых людзей у вольнай, сьветлай краіне, на прыгожай, прачыстай беларускай зямлі, пад цёплым, Боскім беларускім небам.* ***Гэты рай ёсьць Бацькаўшчына. Яна ў сэрцы і вакол нас. Шануйма ж яе, як Бога, як бацьку і маці, як здароўе, як сьвятое, як скарб, як Божы дар, як паветра. Мы – грамадзяне сьветлай Беларусі.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне”***

*26 лютага 1998 г.*

# ВЯЛІКАЯ СПРАВА БНР

Сёлета мы, грамадзяне Беларусі, адзначаем і сьвяткуем вялікую дату нашай гісторыі і слаўную дату нашай сучаснасьці – ***80 гадоў Беларускай Народнай Рэспублікі***.

Паводле клясычных вызначэньняў, гісторыя пачынаецца тады, калі ўжо не жывуць людзі, што былі творцамі і сучасьнікамі падзеяў, а значыць, яны ня могуць уплываць на ацэнкі. Ацэнкі павінны даваць новыя пакаленьні, якія вольныя ад асабістых узаемаадносінаў з гістарычным часам.

Можа, і ***БНР*** засталася б такой гісторыяй, калі б страціла сваю *прадстаўнічую Раду*. Але яна ня страчаная, нягледзячы на ўсе спробы бальшавікоў зьнішчыць *Раду БНР*. *Рада БНР* жыве і будзе жыць, бо ў гэтым ёсьць патрэба дзеля будучыні і жыцьця беларускай нацыі.

*Рада БНР* ня можа спыніць сваё існаваньне, бо выехала зь Беларусі не па сваёй волі, а вымушана, у выніку акупацыі краіны бальшавікамі. Яе легітымныя паўнамоцтвы прадоўжацца да таго часу, пакуль не адбудуцца на Беларусі свабодныя парляманцкія выбары, у выніку якіх будзе абраны дэмакратычны, незалежны беларускі парлямант, якому *Рада* зможа перадаць паўнамоцтвы.

Зважаючы на падзеі апошніх гадоў на Беларусі, можа ўзьнікнуць ўражаньне, што час гэты і магчымасьць аддаляюцца. Але на самай справе яны парадаксальна і няўхільна набліжаюцца. Набліжаюцца, адштурхоўваючыся ад дыктатуры. Набліжаюцца, як альтэрнатыва шалёнаму антыбеларускаму рэжыму, як альтэрнатыва паглынаньню нашай краіны крымінальнай, імпэрскай Масквой.

*У Народным Фронце* адчулі гэтую альтэрнатыўную ідэю *БНР* і прыступілі да рэалізацыі першых ініцыятываў, распачалі акцыю далучэньня да сымвалічнага *грамадзянства БНР*. Пакуль што прыём заяваў на далучэньне да *грамадзянства БНР* вядзецца толькі адной Галоўнай рэгістрацыйнай групай і ў адным месцы. За пяць першых дзён падало заявы *500 чалавек*. Сярод іх *Народны пісьменьнік Беларусі* ***Васіль Быкаў****, прафэсар* ***Анатоль Грыцкевіч****, Народны паэт Беларусі* ***Рыгор Барадулін*** *і іншыя вядомыя людзі.*

*Ідэалы БНР* – гэта ёсьць той нармальны стан, у якім павінна жыць беларускае грамадзтва. *Ідэалы БНР* – гэта ёсьць праўдзівая альтэрнатыва маскоўскаму імпэрыялізму, лукашэнкаўска-кагэбісцкай дыктатуры і лібэральна-прамаскоўскай абывацельшчыне – вечнай пятай калёне любога антыбеларускага рэжыму.

Вяртаньне *БНР* і ўсталяваньне *Беларускай Народнай Рэспублікі* цяпер становіцца рэальнай альтэрнатывай рэжыму і рэальнай пэрспэктывай Беларусі. Прытым, менавіта цяпер. Яшчэ два-тры гады таму такой магчымасьці не існавала. Гэта была б фантазія. Цяперашні момант (які таксама абмежаваны сытуацыяй і часам) павінен быць скарыстаны, бо гэта ёсьць гістарычны шанец. Шанец выратаваньня незалежнасьці Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12). Пад псэўд. Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ).*

# БНР – НАПЕРАДЗЕ

Сёлета ўсе сьвядомыя беларусы на сьвеце сьвяткуюць *80-гадовы юбілей Беларускай Народнай Рэспублікі*. Азіраючыся на пройдзены шлях *Радай БНР*, можна сказаць, што шлях быў сапраўды цярністы. Увесь час, пакуль існаваў СССР, камуністычныя спэцслужбы і прапаганда не пакідалі *Раду БНР* у спакоі. Але зьнішчыць яе не змаглі. Апошнія захады рабіліся ўжо ў 1992г., калі асьцярожна вяліся размовы аб перадачы паўнамоцтваў *Рады БНР* камуністычнаму Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь і намэнклятурнаму ўраду Кебіча. Але гэта была прымітыўная камбінацыя. *Рада БНР* існуе і будзе існаваць, пакуль канчаткова ня выканае сваёй палітычнай і гістарычнай місіі.

Цяпер, пасьля ліквідацыі Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня дыктатарскім рэжымам Лукашэнкі, у Беларусі склалася такая сытуацыя, што адзіным легітымным органам беларускай прадстаўнічай улады засталася ***РАДА БНР***. Калі б, скажам, пляны Масквы ажыцьцявіліся і Расея захапіла б („інтэгравала б”) Беларусь, то прадстаўляць на ўзроўні ўлады беларусаў у сьвеце не было б каму, акрамя *Рады БНР*. Людзі, якія захавалі *Раду БНР,* заслугоўваюць вялікай пашаны.

У 1999 годзе павінны б былі адбыцца прэзыдэнцкія выбары па Канстытуцыі 1994-га года. Выбары аб'яўляе Вярхоўны Савет, якога ўжо няма. Такім чынам выбары няма каму аб'явіць і прызначыць. Тое ж самае адносіцца і да выбараў у парлямант.

Прапанаваная ідэя, якая зараз абмяркоўваецца ў *Фронце*, – гэта ідэя вяртаньня Беларускай Народнай Рэспублікі на зьмену Рэспубліцы Беларусь пасьля ліквідацыі лукашэнкаўскай дыктатуры.

Сутнасьць яе ў тым, што ў адпаведны момант (падкрэсьліваю, што ў адпаведны момант) адбываюцца выбары ў *РАДУ БНР*

ад адраджэнскіх палітычных арганізацыяў (*БНФ і інш.*), якія падтрымліваюць ідэалы *БНР*. Дзейнасьць і ўлада *Рады БНР* такім чынам вяртаецца ў Беларусь і ў беларускі палітычны кантэкст з усімі паўнамоцтвамі.

*Рада БНР* можа спэцыяльным актам прызнаць Канстытуцыю 94-га года і выбарчы закон, унёсшы туды пэўныя зьмены, альбо стварыць сваю Канстытуцыю і выбарчы закон, па якім правесьці выбары (пра мэханізмы тут я не кажу).

*Рада БНР* як палітычная, юрыдычная, законная форма ўлады магла б саслужыць тут сваю станоўчую кансалідуючую дзяржаватворчую ролю. Вядома, гэта магчыма будзе толькі пры ўмове вялікай і актыўнай падтрымкі парлямантарызму самымі беларусамі. Пры тым менавіта актыўнай, а не пасыўнай.

*Першай акцыяй*, якая будзе праводзіцца (дэталі яе цяпер удакладняюцца) – гэта *запіс у грамадзянства БНР*. Пакуль што гэта будзе выглядаць актам больш маральна-палітычнага пляну, як факт адмаўленьня ад акупацыйнага рэжыму Лукашэнкі і далучэньня да *ідэалаў БНР*. Але паступова ўсё гэта можа набыць рэальны зьмест.

Растлумачана, што далучэньне да *грамадзянства БНР* ня ёсьць набыцьцё падвойнага грамадзянства, бо тут адна і тая ж краіна, адна і тая ж тэрыторыя і адны і тыя ж людзі.

Калі б акцыя была шырока падтрымана ў грамадзтве – гэта быў бы магутны ўдар па дыктатуры, па прамаскоўскай палітыцы „інтэграцыі". Але нават пры абмежаванай актыўнасьці гэтая справа важная і пэрспэктыўная, якая можа ў пэўным часе набыць паскарэньне, мець паваротны сэнс ў нацыянальна-вызвольнай барацьбе.*

1998 і 1999 гг. будуць мець важнае значэньне ў далейшым лёсе Беларусі. Таму мы, беларусы, на Бацькаўшчыне і ва ўсім сьвеце, павінны дзейнічаць рашуча, энэргічна і разам. Ініцыятыва ў палітычным працэсе павінна быць у нас, а не ў дыктатуры.

Не сумняваюся, што калі б ініцыятыўнасьць і салідарнасьць сталі б на гэты раз галоўнымі рысамі ў змаганьні беларусаў, то 21-е стагоддзе мы спаткалі б ужо ў іншай, свабоднай краіне.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 1(11).*

* Гэтая ідэя, перанесьці змаганьне на новы кансалідуючы нацыянальны ўзровень, сустрэла гарачую падтрымку ў шырокай масе адраджэнцаў і ў беларускім грамадзтве. Але потым яна была ўсё ж затаптаная ў Беларусі (перш за ўсё, апартуністычнай часткай кіраўніцтва БНФ, якая потым падрыхтавала раскол Фронта). Вядома, ў штыкі сустрэлі ідэю русіфікатары, агентура і так званыя „дэмакратычныя" прамаскоўскія колы. Адзін з аргумантаў супраць гэтай ідэі быў довад поўнай няздольнасьці існуючай Рады БНР ўдзельнічаць у рэальнай палітыцы, музэефікацыя зьявы. Контраргументы палягалі на магчымасьці кардынальнай перамены сытуацыі, мадэрнізацыі і абнаўленьня Рады БНР ў працэсе ўздыму і пасьпяховага разгортваньня ініцыятывы за кошт новых грамадзянаў БНР. Затармажэньне ініцыятывы сталася рашаючым чыньнікам. Час быў страчаны, магчымасьць змарнаваная. Адрадзіць яе потым, ў 2000 годзе, не ўдалося, ўздым ужо скончыўся. Акрамя таго ўзьніклі праблемы з Радай БНР, кшталту на які паказвалі апанэнты. Спроба ўключыць Раду БНР у рэальную палітычную барацьбу з прамаскоўскім рэжымам напалохала многіх (кожнага па-рознаму) за мяжой і на Беларусі. Ініцыятыва так і засталася выдатным нявыкарыстаным (і затаптаным) шансам ў беларускім змаганьні. – *(З. П.)*

# ВЯРТАНЬНЕ БНР

Мне здаецца, што беларускае грамадзтва знаходзіцца нібыта на раздарожжы. Не праглядаецца выразнай альтэрнатывы дыктатуры, незразумелыя механізмы пераменаў і вяртаньня ў нармальны стан. Ня бачыцца сілы, якая б змагла рэальна зьмяніць сытуацыю. Ад усяго гэтага плодзіцца нявера ў перамены і ў пазытыўны зыход.

Аднак я мяркую, што сытуацыя, якая ўтварылася на Беларусі, ёсьць, перш за ўсё, сытуацыяй нявыкарыстаных магчымасьцяў. Патэнцыял нашых палітычных сілаў яшчэ поўнасьцю ня вычарпаны. Не рэалізаваны патэнцыял беларускай ідэі, не прыведзена ў рух грамадзтва.

Прамаскоўскі рэжым і дыктатура, што ўсталяваная на Беларусі, небясьпечныя ня толькі грубым парушэньнем правоў чалавека, свабоды слова, грамадзянскіх свабодаў, але перш за ўсё тым, што пазбаўляе беларусаў гістарычнай пэрспэктывы нацыянальнага існаваньня.

Цяпер гэтак жа, як у час вайны, усе беларусы ва ўсім сьвеце павінны ўдзельнічаць у змаганьні за Беларусь. Тое, што адбываецца ў Беларусі ў канцы XX стагоддзя, ёсьць беларуская трагедыя і беларуская праблема, якая ўсё больш і больш робіцца фактарам сусьветнай геапалітыкі.

## ЦЯЖКІ ГОД

Чакаецца цяжкі год. Над Беларусьсю зноў навісае небясьпека анэксіі. У Расеі намецілася аб'яднаньне сілаў руска-беларускай „інтэграцыі". Расейскія спэцслужбы і ВПК умацавалі свой уплыў на ўладу ў Расеі. На дарозе Лукашэнкі ў Крэмль паменела перашкодаў. У канцы 1997 г. ён адкрыта даў зразумець пра свае намеры стаць прэзыдэнтам у Маскве. Паколькі на такія выказваньні дадзена згода, то варта чакаць новых інтэграцыйных ініцыятываў.

Расейцы зьмянілі тактыку. Цяпер нічога заранёў не гаворыцца. Рыхтуюцца пагадненьні з Лукашэнкам і грамадзтва ставяць перад фактам. Гэтак 23-га студзеня стала вядома аб заключэньні ў Маскве беларуска-расейскага ваенна-палітычнага саюзу – акцыі незаконнай з пазыцыі беларускага права.

Інтэграцыйныя ініцыятывы патрэбныя і Лукашэнку, і Маскве. Тое, што яны пачнуць зноў разыгрывацца, можна не сумнявацца. Гэтак жа, як і ў тым, што Масква пастараецца рэалізаваць іх хутка і нечакана, каб запабегчы хвалі беларускага грамадзкага супраціўленьня напярэдадні чарговых пактаў. Супраціўленьне апасьля – папераджальных вынікаў ужо мець ня будзе. Безумоўна, што Вызвольны рух павінен рэзка ўзмацніць кампанію па адстаўцы Лукашэнкі. Яна павінна стаць галоўнай тэмай і грамадзкім фонам чарговай „інтэграцыі".

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ІМПІЧМАНТ

Крыху больш як праз год (у ліпені 1999) заканчваецца прэзыдэнцкая кадэнцыя Лукашэнкі. Паўстае пытаньне аб канкрэтнай палітычнай і арганізацыйнай альтэрнатыве дыктатуры, аб механізме замены ўлады, аб канцэпцыі барацьбы з рэжымам.

Раней, у 1995 г., так званая „антылукашэнкаўская апазыцыя" ствараласяь *Народным Фронтам* на прынцыпах непрадвырашальнасьці. У той час мне давялося распачаць спатканьні і кансультацыі з ідэалягічнымі апанентамі *БНФ* – С.Шарэцкім, С.Багданкевічам, С.Калякіным. Прадметам і мэтай апазыцыі быў імпічмант. Што станецца пасьля імпічманту, мы не абгаворвалі, бо ўдзельнікі апазыцыі – людзі розных палітычных перакананьняў і інтарэсаў. Галоўнае было – дасягнуць імпічманту.

Імпічмант быў правалены ў выніку здрады старшыні Канстытуцыйнага Суду В.Ціхіні і кіраўніцтва Вярхоўнага Савета – С.Шарэцкага, Г.Карпенкі, П.Краўчанкі і інш. Замест імпічманту адбыўся антыканстытуцыйны пераварот Лукашэнкі, у якім усе названыя асобы, фактычна, прынялі ўдзел. І нават пасьля падпісаньня „здрады" пайшлі на агульны фуршэт з Лукашэнкам, Чарнамырдзіным, Селязьнёвым, Строевым запіваць сумесна зробленую „справу". (В.Ціхіню, як ён паведаміў у „Народнай Волі", запомніліся нават тосты.) Цяпер гэтыя спадары прадаўжаюць хадзіць у „апазыцыі" і нават папрызначалі сябе ў лідары нацыі.

Кіраўніцтва Вярхоўнага Савета нясе перш за ўсё палітычную адказнасьць за здачу і правал агульнай справы. Старшыня ж Канстытуцыйнага Суда парушыў Канстытуцыю, Закон аб Канстытуцыйным Судзе і іншыя законы, уступіўшы ў перамовы (а фактычна – у змову) з Лукашэнкам пасьля атрыманьня заявы 73 дэпутатаў аб узбуджэньні справы пра імпічмант прэзыдэнта, і таму падлягае юрыдычнай адказнасьці па закону.

Пасьля перавароту і правалу імпічманту страчаны грунт для існаваньня агульнай „антылукашэнкаўскай апазыцыі" розных сіл, бо зьнік прадмет апазыцыі – юрыдычны, прававы, безадносна да палітыкі, але абавязковы для ўсіх прынцып, якім было законнае палажэньне аб імпічманце, заснаванае на Канстытуцыі і волі парляманту. Перад удзельнікамі былой „антылукашэнкаўскай апазыцыі" засталіся, практычна, толькі палітычныя мэтады барацьбы з дыктатурай, якая сумесна з Расеяй прыступіла да рэальнай анэксіі Беларусі і зьнішчэньня суверэнітэту краіны.

Менавіта дачыненьні да Расеі, да расейскай палітыкі адносна Беларусі (а не да Лукашэнкі) сталі крытэрыем здрады кіраўніцтва Вярхоўнага Савету і старшыні Канстытуцыйнага Суда. Менавіта па гэтай лініі распалася (дакладней, вярнулася на зыходныя пазыцыі) часовая, штучна створаная агульная „антылукашэнкаўская апазыцыя".

## АДНОСІНЫ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

Пасьля перавароту ў лістападзе 1996 г. мне, маім калегам і ўсяму *Народнаму Фронту* прышлося прымаць вельмі нялёгкае і рызыкоўнае рашэньне. Нэгатыўныя вынікі гэтай рызыкі ўсё больш і больш нагадваюць пра сябе. Гэтае рашэньне – адносіны да Вярхоўнага Савета 13 –га скліканьня, які здрадзіў і праваліў усю справу антылукашэнкаўскай апазыцыі. Пасьля правалу мы вырашылі ўсё ж, зыходзячы з тактычных меркаваньняў, падтрымаць правальшчыка С.Шарэцкага на пасадзе і спыніць крытыку, хоць і разумелі нядобрасьць такога рашэньня, але іншыя былі б яшчэ горшыя

Аднак зраблю невялікі экскурс у нядаўняе мінулае. У лістападаўскія дні 96-га года мне прышлося (падкрэсьліваю, прышлося, бо дзеяньні кіраўніцтва Вярхоўнага Савета былі такія, што іншага выйсьця не было) адправіць факсам некалькі тэрміновых лістоў С.Шарэцкаму з прапновамі, што канкрэтна трэба зрабіць. На жаль, з гэтых прапановаў амаль нічога не было скарыстана. Цяпер спадарам з кіраўніцтва Вярхоўнага Савета ня трэба казаць, што яны, маўляў, паверылі Маскве. Наконт Масквы яны былі папярэджаныя – і не аднойчы. Але гэтыя спадары ня толькі не прыслухаліся да прапановаў, але нават выйшлі на плошчу і пачалі ўгаворваць людзей (сабраных, дарэчы, *Народным Фронтам* па майму настойліваму патрабаваньню) – разысьціся. Маўляў, разыходзьцеся, усё будзе добра. Гэтае „добра" скончылася іх агульным фуршэтам з Лукашэнкам і маскоўскімі напрошанымі „гасьцямі."

У тры гадзіны ночы нью-ёркскага часу з 21 на 22 лістапада я атрымаў падрабязную інфармацыю зь Менску і адразу выехаў у Вашынгтон, дзе павінен быў чытаць даклад у Карнэгі-Фондзе пра становішча на Беларусі. Прысутнічалі прадстаўнікі Кангрэсу, Дзярждэпартаманту, амбасадаў, супрацоўнікі дыпляматычных місіяў, журналісты. Перада мной ўжо знаходзілася яшчэ не надрукаваная заява пэўнай амэрыканскай дзяржаўнай структуры* аб падзеях у Менску, дзе ўхвалялася „міратворчая місія" Расеі, асабіста Чарнамырдзіна, казалася аб станоўчым вырашэньні крызісу ў Беларусі пры канструктыўнай дапамозе Масквы, пісалася аб пэрспэктывах беларуска-расейскіх дачыненьняў і г.д. Усё стала зразумела. У тым ліку – і задаволены твар расейскага пасла. Праз пару гадзінаў гэтая заява пойдзе ў друк, і потым зьмяніць ацэнкі будзе вельмі цяжка (перш за ўсё, для самой дзяржаўнай структуры). Я адклаў у бок тэкст свайго дакладу і сказаў, што буду гаварыць пра падзеі, якія адбыліся ноччу ў Менску. Пасьля выступу – жорсткая пікіроўка з расейцамі, пытаньні, дыскусія і вызначэньні. Пасьпешная інфармацыя ў друк не пайшла. Замест яе было іншае паведамленьне і іншыя ацэнкі.

У гэты ж дзень я меў выступ на тэлебачаньні CNN, а назаўтра паслаў ліст С.Шарэцкаму пра пэрспэктывы Вярхоўнага Савету і другі ліст у сядзібу *БНФ*.

Сытуацыя склалася няпростая. Для выратаваньня палітычнай пэрспэктывы *Фронта* як *Вызвольнага руху*, здраднікаў трэба было адкінуць і паставіць на іх крыж. З другога боку, стала зразумела, што Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны Суд павінны былі выглядаць перад Захадам ахвярамі, а не здраднікамі і саўдзельнікамі ў перавароце. Гэта павялічвала магчымасьці падтрымкі Захадам беларускіх змагароў з дыктатурай. Прагматычная пазыцыя падмацоўвалася спадзяваньнем, што ашуканыя, адрынутыя дэпутаты Вярхоўнага Савета набылі дастаткова вопыту, каб асэнсаваць і зразумець, што такое Расея і ўся яе імпэрская палітыка, што такое *Вызвольны рух*, зь кім і якім чынам трэба супрацоўнічаць, а з кім – змагацца. На жаль, вельмі мала хто гэта зразумеў (практычна, ніхто). Спадзяваньні тут былі памылковыя.

Апазыцыйная група Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня ўсё ж, як і трэба было чакаць, стала своеасаблівым каталізатарам міжнародных дачыненьняў адносна Беларусі і рэжыму Лукашэнкі. Захаду было проста і зразумела ісьці па ім жа пратаптаных дарожках. Каталізуючая роля была завершана крыху больш як праз паўгода. Фактычна, на гэтым скончылася станоўчая палітычная функцыя апазыцыйнай групы 13-га Вярхоўнага Савета і патрэба ў яе існаваньні, бо да далейшага рэальнага працягу нацыянальнай палітыкі яна няздатная.

---

* Меўся на ўвазе Дзярждэпартамант ЗША. – *(З. П.)*

Папярэдні Вярхоўны Савет 12-га скліканьня (пры ўсіх адмоўных дзеяньнях ягонай дэпутацкай большасьці – блакіроўцы падрыхтаваных *Апазыцыяй БНФ* рынкавых законапраектаў, уцягваньні Беларусі ў арбіту расейскіх інтарэсаў, увядзеньні прэзыдэнцтва) усё ж пад ціскам *дэпутацкай Апазыцыі БНФ абвясьціў Незалежнасьць*, прыняў у якасьці дзяржаўных *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб „Пагоня”*.

Тым часам Вярхоўны Савет 13-га скліканьня ад пачатку сваёй дзейнасьці, практычна, не зрабіў абсалютна нічога станоўчага для беларускай нацыі ні ў палітычным, ні ў заканадаўчым сэнсе. Ён зацьвердзіў сфальсіфікаваныя вынікі жахлівага антызаконнага рэфэрэндуму 1995 г., „легітымізаваўшы” лукашэнкаўскую сымволіку, і амаль аднагалосна ратыфікаваў незаконную ельцынска-лукашэнкаўскую дамову аб „саюзе” Беларусі з Расеяй ад 2 красавіка 1996 г., якой быў распачаты працэс анэксіі Беларусі.

Тым, хто апынуліся потым за бартом у ролі „апазыцыі”, у фокусе міжнароднай увагі, нават у галаву не прыйшло дэнансаваць зацьверджаньне рэфэрэндума і ратыфікацыю, хоць бы дзеля маральна-палітычнага ўчынку. Яны не засаромеліся, не адмовіліся ад сваіх грубых асуджэньняў масавага супраціўленьня *Народнага Фронту* вясной 1996 г. („Чарнобыльскі шлях” і інш.) Тады ім нагадалі пра гэта. Тры месяцы таму ў *„Народнай Волі”* быў надрукаваны *адкрыты ліст* ***Сяргея Навумчыка*** да Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, дзе гаварылася пра магчымасьць маральна выправіць памылкі – вярнуць *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, „Пагоню”, дзяржаўныя гарантыі беларускай мовы*. Выніку не было і няма ніякага, таму што тут не выпадковасьць, тут – пазыцыя.

Абапершыся на падстаўленыя плечы *БНФ*, атрымаўшы незаслужаную падтрымку з Захаду, увайшоўшы там у адчыненыя дзверы, ніхто зь іх не задумаўся, чаму яны адчыніліся і як трэба паводзіць сябе з тымі, хто іх падтрымлівае. Замест адстойваньня нацыянальных інтарэсаў – яны зноў, па старой „усесаюзнай” звычцы, адзін за адным накіраваліся ў Маскву шукаць крамлёўскага гаспадара, які б іх пашкадаваў і пакараў іхняга крыўдзіцеля Лукашэнку.

Прайшла бурная вясна-97, вясна масавага змаганьня супраць інтэграцыі з Расеяй. Нехта нават абстраляў рускую амбасаду. „А што датычыцца саюзу з Расеяй, – кажа пасьля гэтага ў Маскве намесьнік Старшыні Вярхоўнага Савета Г.Карпенка,– то тут адбылася дзіўная падмена паняцьцяў. Ствараецца ўражаньне, у першую чаргу, з падачы самога Лукашэнкі, быццам толькі ён адзін стаіць ва ўсёй Беларусі за саюз. А апазыцыя быццам бы супроць. Гэта хлусьня. Няма ніводнага самавіта думаючага палітыка ў нашай краіне, які б сёньня пярэчыў бы супраць самай цеснай інтэграцыі з Расеяй.” (Известия”,– 1997, 22 кастрычніка) Далей яшчэ цікавей: „Я думаю, – працягвае Г.Карпенка, – цяпер шмат хто ў Крамлі разумее, што ва ўзаемаадносінах з Менскам нельга ўсе яйкі класьці ў адзін палітычны кошык. У кожным разе, калі маеш справу з такім непрадказальным і небясьпечным чалавекам, як Лукашэнка, які можа ў любы момант парушыць любое дадзенае ім абяцаньне.”

Тэму выкананьня любых абяцаньняў яшчэ больш прасталінейна выказвае ў Маскве старшыня АГП С.Багданкевіч. Ён хоча засьведчыць, што менавіта яны, лібэралы зь Вярхоўнага Савета, будуць каштаваць для Масквы таньней за ўсіх, у тым ліку і за Лукашэнку.

„Ці будуць іншыя („апазыцыйныя” – *З.П.*) палітычныя сілы лічыцца з інтарэсамі Расеі? – пытаецца сам ў сябе С.Багданкевіч, і адказвае: – У гэтым няма ніякіх сумненьняў. І справа ня толькі ў сымпатыях, якія яны адчуваюць да рускага народа, да рускай культуры, – проста выконваньне натуральных інтарэсаў Расеі адпавядае нацыянальным інтарэсам самой Беларусі.” („Открытая политика”, – 1997, №1-2, с.14-16)

„Отэтада-а”! Што ж гэта за інтарэсы? „У Расеі, як у вялікай дзяржавы, ёсьць у Беларусі свае даволі сур’ёзныя інтарэсы,”– кажа С.Багданкевіч. І праз абзац: „Цяпер разгледзім, як выконваюцца гэтыя законныя інтарэсы Расеі пры Лукашэнцы.” Тут „апазыцыянеры”, безумоўна, пераплюнулі і Лукашэнку. Расея, па іх разуменьню, мае ў Беларусі ўжо нават „законныя” інтарэсы, якія, на думку С.Багданкевіча, дрэнна выконвае Лукашэнка. „Што да бясьпечнага транзіту, – тлумачыць С.Багданкевіч, – то прэзыдэнт Лукашэнка даўно прызнаўся, што ў крытычныя моманты загадваў адпампоўваць на беларускія патрэбы энэргарэсурсы з расейскай трубы, што ідзе на Захад (па нашай тэрыторыі і задарма – З.П.). Ці можна гаварыць пра бясьпеку, калі партнёр паводзіць сябе на манер героя чэхаўскага „Злоумышленника?”.

Дрэнна, вядома, калі палітык блытае нацыянальныя інтарэсы з дагаварнымі адносінамі, але, тым ня менш, рэдка даводзіцца чытаць падобнае. Гэтыя спадары ўжо гандлююць Беларусьсю і самімі сабой амаль задарма. А іх не купляюць. І няўцям ім, чаму іх не купляюць.

***Па галоўных палітычных крытэрыях барацьбы – дзяржаўнасьць і незалежнасьць – ніякай розьніцы ў падыходах паміж Лукашэнкам і лібэрал-апазыцыяй няма. Толькі Лукашэнка прадае Беларусь дорага – за ўладу над Расеяй, а лібэрал-апазыцыянеры прадаюць яе так сабе – за панюшку табакі, абы на іх у Маскве зьвярнулі увагу.*** І гэтую сваю дармаўшчыну яны нясуць як крытэрый сваёй вартасьці ў Крэмль.

Тым часам людзі, якія прывялі да ўлады калгаснага дыктатара ў 1994 годзе, якія нішчылі рух супраць надыходзячай дыктатуры ў 1995-м і якія правалілі імпічмант у 1996-м, так паверылі ў сваю „апазыцыйнасьць”, што ходзяць ужо ў героях, называюць адзін аднаго гонарам Беларусі, надзеяй народа і нават „сумленьнем беларускай нацыі”. Гэта пра Л.Сініцына, замаскаванага спэцслужбіста, які прынцыпова „не разумее” па-беларуску, які кіраваў выбарчай кампаніяй Лукашэнкі і рэсурсамі, які разам з Лукашэнкам і Ціцянковым ажыцьцяўляў акцыю ўводу войска ў парлямант 12 красавіка 1995 г. і зьбіцьця *дэпутатаў БНФ*, які займаўся падрыхтоўкай рэфэрэндуму 1995 г. і анэксіі Беларусі. Гэта – пра абаронцу камсамола А.Лябедзьку, якога Лукашэнка ў 1994 годзе прызначыў сваім дарадцам і асабістым прадстаўніком ў парляманце 12 –га скліканьня. Пра таго самага Лябедзьку, які „валіў” законапраекты аб выбарах па партыйных сьпісах, які штурхаў у парляманце закон, што заклаў падмурак прэзыдэнцкай „вертыкалі” і ўскокваў да парляманцкага мікрафона па адным позірку Лукашэнкі. Гэта пра Краўчанку, які... Дарэчы, а дзе Краўчанка? Пасол Лукашэнкі ў Японіі? Вельмі паказальна.

„Шмат хто быў рады, калі б Чыгір узначаліў апазыцыю,”– услужліва кажа падрыхтаванае пытаньне журналіст. „Я ведаю,”– сьціпла адказвае Чыгір. Гэта той самы М.Чыгір, які ўзначальваў той самы банк у час прэзыдэнцкай кампаніі таго самага Лукашэнкі, якому патрэбны былі сродкі. За заслугі ён быў прызначаны прэм’ерам ураду. Гэта той самы Чыгір, у бытнасьць якога прэм’ерам была сілай задушаная забастоўка супрацоўнікаў менскага мэтро, забароненыя Свабодныя прафсаюзы, зачыненыя беларускія школы і г.д. Пра гэтага ціхага „апазыцыянера” нават пачынаюць асьцярожна нашэптваць у сувязі з дзейнасьцю *місіі АБСЭ* ў Менску (пра магчымасьць яго ўдзелу і г.д.). Чым чорт не

жартуе ў нашай краіне! (Такія жарты, аднак, значна ўскладнілі б адносіны паміж *місіяй АБСЭ і БНФ*, і ўсім *Вызвольным рухам*.)

Уся гэтая былая лукашэнкаўская каманда моцна ўчапілася за шыльдачку „апазыцыя", як за выратавальны круг, як за магічнае слоўца, якое зноў прывядзе іх да ўлады найкарацейшым шляхам праз Маскву, ды яшчэ на коніку двужыльным пад назовам *БНФ*. Некаторыя журналісты раптам кінуліся пісаць, што, маўляў, добры БНФ, цягавіты, змагарны, ды вось без галавы, без інтэлекту. Ну, але нічога, ёсьць, маўляў, у нас інтэлект у „апазыцыі" (гэта значыць у спадароў Чыгіра, Багданкевіча, Нісьцюка, Ціхіні, Карпенкі, генэрала Казлоўскага, „японскага пасла" і г.д.).

Відаць, сапраўды *Фронту* галавы трэба ня мець, каб даць на сабе катацца. Але, перш чым зрабіць высновы, адзначым яшчэ адну цікавую зьяву.

## ЧАРТАРНЫ РЭЙС

Усе гэтыя асобы паставілі свае подпісы пад „Хартыяй-97". Тэкст Хартыі – правільныя агульныя ісьціны, разумныя словы (сказаныя, аднак, *Народным Фронтам* яшчэ восем гадоў таму, калі некаторыя „хартысты" іх абсьмейвалі). Любы і кожны можа памыліцца. Так яно і атрымалася. Там і Народны пісьменьнік Васіль Быкаў, і лукашэнкаўскі прэм'ер Міхаіл Чыгір, Народны паэт Рыгор Барадулін і міністр-генэрал Павел Казлоўскі, адзін зь лідараў *БНФ* Лявон Баршчэўскі і лідар АГП Станіслаў Багданкевіч. Сябры і частка кіраўніцтва *БНФ* падпісалі Хартыю пры ўмове, што ня будуць ствараца структуры, арганізацыі і кіруючыя ворганы „Хартыі-97" (хаця гэтыя ўмовы ўжо парушаюцца). Сам жа *Фронт*, яго суполкі і сябры ў зборы подпісаў за Хартыю ўдзельнічаць не павінны.

У Хартыі ня ставяцца (быццам бы) канкрэтныя палітычныя мэты. Не прадугледжваюцца (нібыта) канкрэтныя вынікі.

Але гэта тэма асобнага артыкула, і я ня буду на ёй спыняцца. Заўважу аднак, што вынікі Хартыі (калі ўявіць, што яны будуць) могуць атрымацца зусім не такія, на якія шмат хто па-добраму спадзяецца.

Неканкрэтнасьць Хартыі ўсё ж ня значыць, што яна ня можа мець выніковага палітычнага значэньня. Інакш бы там не стаялі подпісы пакрыўджанай намэнклятуры і не было б такой прапаганды. Трэба, маўляў, шумець і карысную справу трымаць пры сабе. А там глядзіш, які-небудзь выбарчы блёк узьнікне (скажам, „Хартыя-97"), і плятформа гатовая (пра ўсё і ні пра што), толькі едзь.

І тады тыя, што падпісвалі Хартыю, могуць раптам са здзіўленьнем убачыць, што ачольвае гэты блёк, скажам, спадар Чыгір*.

Між тым, спадар Чыгір, як мала хто іншы, павінен несьці поўную адказнасьць за тое, што рабілася ў першыя два гады лукашэнкаўскага праўленьня – бо менавіта ён узначальваў урад. Менавіта яму падпарадкоўвалася Міністэрства ўнутраных справаў, супрацоўнікі якога бязьлітасна зьбівалі і дэпутатаў апазыцыі, і мэтрапалітэнаўцаў, і ўдзельнікаў масавых акцыяў Вясны-96. Чыгір маўчаў. Менавіта Чыгіру падпарадкоўвалася МЗС, якое праводзіла палітыку анэксіі Беларусі. Чыгір маўчаў. Менавіта Чыгіру падпарадкоўвалася Міністэрства асьветы, якое якраз ў гады прэм'ерства Чыгіра распачало адукацыйны этнацыд, ліквідуючы беларускія школы і зьнішчаючы беларускія падручнікі. Чыгір маўчаў. А калі не маўчаў – то ў шматлікіх сваіх выступах і інтэрв'ю апраўдваў палітыку Лукашэнкі.

* Праз год дакладна так яно і сталася. – *(З. П.)*

Але тады, калі замільгае выбарчы сьветлафор, мы можам стаць сьведкамі іншых інтэрв'ю, у якіх спадар Чыгір і кампанія былых дзеячоў хораша раскажуць чытачам, што зь імі Быкаў і Барадулін, Гілевіч і Хашчавацкі, што зь імі цьвет нацыі... і г.д.

Так рыхтуецца другое (ці ўжо трэцяе) прышэсьце прамаскоўскай намэнклятуры. Але нічога з гэтага не атрымаецца. Чаму? Таму, што даўно пара заканчваць з гэткай „апазыцыяй".

## ГІСТАРЫЧНЫ ШАНЕЦ

Пастараюся растлумачыць, чаму трэба разьвітацца з камандай пад назовам „апазыцыя".

Нашае супярэчлівае гістарычнае змаганьне за свой самастойны жыцьцёвы лад, за сваю незалежную нацыянальную дзяржаву, гэтак жа, як і страта яе 77 і 200 гадоў таму, ёсьць вынік, перш за ўсё, нашай унутранай палітычнай і культурнадуховай нестабільнасьці. Гэта пачыналася даўно, яшчэ з тых часоў, калі нашыя продкі стрымлівалі з усходу орды манголаў і потым Масквы, а з захаду – немцаў. Праз наш народ прайшла штучна створаная мяжа, якая то выяўлялася, то зьнікала. Гэта палітычная мяжа змаганьня паміж усходам і захадам. Зьнішчыць яе магла толькі супольная духоўная ідэя (гэта значыць – нацыянальная ідэя) і супольная справа (гэта значыць – дзяржава).

За ўсю гісторыю свайго змагарнага існаваньня ў беларусаў былі дзьве магчымасьці духоўнага аб'яднаньня і пераадоленьня палітычнай двухмернасьці. Гэта Берасьцейская касьцёльная Унія (пры ўсіх яе недахопах і назавершанасьці яна ажыцьцявілася) і ўтварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі ў выніку 1-й Сусьветнай вайны і аслабленьня Расеі (магчымасьць, якая не ажыцьцявілася). Трэцяя магчымасьць, што фармальна дазволіла аднавіць незалежнасьць, зьявілася нядаўна – у выніку распаду СССР.

Усе ранейшыя гуртоўныя супольныя працэсы нашаму народу даводзілася ажыцьцяўляць, змагаючыся на два франты: з Усходам і з Захадам. У гэтай барацьбе, пераведзенай у плоскасьць рэальных палітычных дзеяньняў, мы нязьменна цярпелі паразы. Папярэдняя страшная параза, якая фігуральна агаліла сытуацыю, адбылася ў 1921 годзе на рыжскай змове. Чарговую абсурдную паразу мы можам пацярпець цяпер. Я кажу – абсурдную, бо такой сытуацыі, як зараз, у канцы XX стагоддзя, Беларусь ня мела ніколі.

Цяпер іншы Захад і іншая Эўропа і, канкрэтна, у гэтай Эўропе – іншая Нямеччына і іншая Польшча. ***З Захаду ня йдзе больш рэальнай небясьпекі нашай незалежнасьці і нашаму дзяржаўнаму існаваньню.*** Мы маем магчымасьць абаперціся на заходні інтэграваны сьвет, на блізкія нам ідэі, не рызыкуючы расплочвацца за гэта сваёй свабодай, культурай, сваім незалежным нацыянальным існаваньнем, як было раней. ***Пагроза засталася толькі з усходу.*** Яна цяпер і рэалізуецца ў самых брутальных і цынічных формах па клясычных расейскіх клішэ.

Супольная аднамерная палітыка, якую павінна цяпер праводзіць Беларусь, гэта якраз палітыка незалежнасьці, пагрунтаваная на беларускай нацыянальнай ідэі, гэта палітыка дыстансаваньня ад Расеі і апора на Захад, на Эўропу, на цывілізаваныя формы жыцьця, на вольных людзей, якія не пагражаюць ні нашай дзяржаве, ні нашай мове, ні свабодзе, ні незалежнасьці. Калі гэты адзіны ў гісторыі шанец не скарыстаць, то іншага ўжо можа й ня быць.

Разуменьне гэтых ісьцін цяжка даходзіць да нашага грамадзтва. Яму трэба мець уласны вопыт. Гісторыя, як бы ў насьмешку, дала яму такі вопыт у лукашэнкаўскай дыктатуры. Як жа скарысталі гэты вопыт былая лукашэнкаўская каманда „квазі-інтэлектуалаў" у „апазыцыі" і спадары лібэралы, мы ўжо бачылі.

Жыцьцёвы духоўны вопыт сьведчыць, што адна хлусьня спараджае другую хлусьню, адна здрада спараджае іншую здраду. Ніколі ніхто не спадзяецца на тых, хто заблытаны на гэтых грахах. Ня трэба спадзявацца і беларусам на спадароў лукашэнкаўскіх апазыцыянераў. Яны здрадзілі будучыні Беларусі ў 1992 годзе, калі разам з С.Шушкевічам і пры дапамозе Д.Булахава ўгробілі правядзеньне цалкам законнага рэфэрэндуму аб новых выбарах парляманту (было сабрана каля паўмільёна подпісаў); потым яны здрадзілі Беларусі, спрыяючы прыходу да ўлады стаўленьніка КДБ; потым здрадзілі Лукашэнку, потым правалілі імпічмант Лукашэнкі і здрадзілі антылукашэнкаўскай апазыцыі, і цяпер, стаўшы ў позы „герояў нацыі" і, азіраючыся на Маскву, рыхтуюцца да чарговага „подзьвігу".

Невыпадкова *Народны Фронт* адразу пасьля перавароту адкінуў ад сябе назву „апазыцыя", прапанаваў новы аб'яднаўчы прынцып – „*Вызвольны рух*" і назваўся ім. Бо гэтыя спадары скампраметавалі нават сам тэрмін „апазыцыя", гэтак жа, як некалі ў Расеі Гаўрыіл Папоў і ўся тая маскоўская кампанія „дэмакратаў" скампраметавала тэрмін „дэмакратыя", які стаў кляймом людзей хіжых, прагных і двулікіх.

Цяпер уявім, што гэтая „апазыцыя" пры паўсюднай палітычнай бесхрыбетнасьці, якая ўсталёўваецца ў грамадзтве, зноў з дапамогай Масквы прарываецца да ўлады. Лукашэнка – не прэзыдэнт. Лідар нацыі Чыгір па ўказаньнях Масквы фармуе ўрад, які будзе сьцерагчы „законныя інтарэсы" Масквы, рускай мовы, паглыбленай інтэграцыі, „Газпрама", „трубы" і г.д. Больш сытуацыю можна не апісваць. Бо вельмі хутка ўсе заўважаць, што стала яшчэ горай, чым было, а ад незалежнасьці і эканомікі нічога не засталося. Вось тады і настане поўны палітычны крах беларускай дэмакратыі і беларускай апазыцыі, і, дарэчы, *Беларускага Народнага Фронту*, калі ў час не саскочыць з гэтага чужога заяўленага рэйсу, не адмежавацца, не расставіць кропкі над „і".

Могуць задаць пытаньне: а калі б апазыцыя арыентавалася не на Маскву, а на сябе, на Беларусь, на ўмацаваньне беларускай незалежнасьці і дзяржавы, абапіраючыся на ўвесь сьвет, якія былі б адносіны і ацэнкі?

Такія былі б ацэнкі. Калі мы кажам пра лёс свабоды і незалежнасьці Беларусі, то справа не ў прыналежнасьці да намэнклятуры, а ў пазыцыі. Але, калі мы гаворым пра пазыцыю, то справа якраз у прамаскоўскай намэнклятуры.

Год назад у звароце да дзяржаўных служачых і вертыкальнага начальства я выказаў думку, што тым, хто будзе ўсё рабіць, каб захаваць незалежнасьць Беларусі, каб не дапусьціць анэксіі і „інтэграцыі" з Расеяй, – тым будуць „амніставаныя" іхнія грахі супрацоўніцтва з рэжымам і ліквідаваныя дасье. Гэтыя людзі ня страцяць пэрспэктывы.

Так, гэта пазыцыя адкрыта прагматычная, і я не ухваляю прагматыкаў. Але нічога няма даражэй за незалежнасьць Бацькаўшчыны і свабоду, і дзеля іх часам трэба ісьці на такія кампрамісы.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета былі добра азнаёмленыя з пазыцыяй *Вызвольнага руху*. Ім авансам ішлі насустрач, аказвалі ўвагу і павагу. Яны прысутнічалі на V зьезьдзе *БНФ*, мелі больш чым год часу на роздум і выбар паводзінаў. Але яны выбралі тую ж дарогу, што і Лукашэнка.

## БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА. ВЫХАД З ДЫКТАТУРЫ.

Мы павінны ўсьведамляць ня толькі задачы, што стаяць перад беларускім грамадзтвам, але і шляхі іх дасягненьня. Шлях мусіць быць такі, які гарантуе незалежнасьць Беларусі, дэмакратычны лад, захаваньне беларускай мовы і спыніць экспансію расейскай імпэрскай палітыкі.

Наша змаганьне за свабоду і свае правы стане грунтоўным і зразумелым у сьвеце, калі будзе пацьверджана ня толькі правам, але і законнасьцю нашых дамаганьняў і апорай на легітымную ўладу. Адзінай формай легітымнай беларускай улады сёньня зьяўляецца ***Рада Беларускай Народнай Рэспублікі***. Трэба ўлічваць, што калі б пляны Масквы зноў у які ўжо раз ажыцьцявіліся б і Расея захапіла б Беларусь, – тады прадстаўляць правы беларусаў у сьвеце на ўзроўні ўлады ня будзе каму, акрамя *Рады БНР*. (Не Вярхоўнаму ж Савету нумар 13.) *Рада БНР* і людзі, што яе захавалі, заслугоўваюць пашаны.

Калі рэжым пратрывае да сярэдзіны 1999 года, то можна не сумнявацца, што Лукашэнка захоча прэзыдэнстваваць і далей. Але тады ён ужо будзе нелегітымнай асобай, якая двойчы ўзурпавала ўладу, самазванцам. Ніхто ў сьвеце ня будзе яго лічыць за прэзыдэнта.

Ня выключана аднак, што Лукашэнка пажадае правесьці ў 1999 годзе прэзыдэнцкія выбары па сваёй канстытуцыі і сваіх дэкрэтах. Тады Масква і спэцслужбы будуць гуляць самы з сабой. У „апазыцыі" яны ўжо падрыхтаваліся, нават дэмакратычныя „лэйблы" разьвесілі.

Да 20 лютага 1999 года (за пяць месяцаў да сканчэньня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі) павінны быць прызначаныя новыя выбары. Прызначае выбары Вярхоўны Савет, якога няма. Выбары па Канстытуцыі 1994 года прызначаць няма каму. Тое ж самае адносіцца і да выбараў у парлямант.

Аднак механізм, які можа забясьпечыць беларускую законнасьць, ня зьнішчаны. Выбары ў парлямант можа абвясьціць *Рада БНР*, прызнаўшы спэцыяльным актам Канстытуцыю 1994 года і выбарчае заканадаўства на яе аснове. Пра прэзыдэнцтва я не кажу. Бо пазыцыя *БНФ* ужо выказаная: інстытут прэзыдэнцтва ў Беларусі павінен быць ліквідаваны.* Прэзыдэнцтва тут – гэта шлях да дыктатуры.

Для рэальнага ажыцьцяўленьня выбараў у беларускі парлямант на Бацькаўшчыне і для арганізацыі гэтай працы ў *Раду БНР* могуць быць у ***адпаведны момант*** (падкрэсьліваю, што ў адпаведны момант) выбраныя (дэлегаваныя) дэпутаты ад *Беларускага Народнага Фронту і іншых беларускіх палітычных арганізацыяў*. Гэтым самым экзыльная і законная *Рада БНР* пачне рэальна дзейнічаць ня толькі ў Амэрыцы ды Эўропе, але і ў Беларусі (з усімі паўнамоцтвамі). Падрабязнасьці гэтага варыянту я не апісваю, але яны дастаткова прадуманыя.

Другі варыянт больш эфектыўны, грунтоўны, але і больш працаёмкі, патрабуе надзвычайнай актыўнасьці ўсёй нацыі. *Рада БНР* мае права прыняць *Канстытуцыю БНР* аб выбарах і правесьці гэтыя выбары ў Беларусі па сваіх законах. Але дзеля стварэньня безумоўнай прававой гарантыі пад такія выбары неабходна, каб грамадзяне Рэспублікі Беларусь набылі *грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі*, якімі валодалі іхнія прадзеды.

---

* Цяпер сытуацыя перамянілася і прэзыдэнцкую пасаду магчыма прыдзецца пакінуць з пэўнымі абмежаванымі паўнамоцтвамі на падставе аднаўленай і дапрацаванай Канстатуцыі 1994 года. – *(З. П.)*

Прапановы аб прыняцьці жыхарамі Беларусі *грамадзянства БНР* гучалі ў мінулым годзе на зьезьдзе Эўрапейскай сэкцыі *Рады БНР* у Вільні і станоўча былі ўспрыняты на *22-й Сэсіі Рады БНР* у Ньюo-Брансвіку, разглядаліся ў Празе і ў Нью-Ёрку. Мэханізм прыняцьця грамадзянства БНР якраз абмяркоўваецца.

Зрэшты, акт далучэньня да *грамадзянства БНР* будзе не настолькі фактам юрыдычнага значэньня, колькі маральна-палітычнага, але з канкрэтным і практычным выяўленьнем адносінаў да лукашэнкаўскай дыктатуры і да *ідэалаў БНР*. Далучэньне да *грамадзянства БНР* абавязкова павінна замацоўвацца *прысягай на вернасьць ідэалам БНР*, тэкст якой, скажам, можа быць зьмешчаны ў заяве на далучэньне да грамадзянства.

Далучэньне да грамадзянства *БНР* ня можа лічыцца зьявай падвойнага грамадзянства. Бо гэта адна і тая ж краіна, адна і тая ж тэрыторыя, адзін і той жа народ. Цераз набыцьцё грамадзянства *БНР* адбываецца далучэньне людзей да легітымнай улады *Беларускай Народнай Рэспублікі*, уключэньне яе ў рэальнасьць беларускай палітыкі ў Беларусі.

Вяртаньне БНР, аднаўленьне парлямантарызму і далучэньне да грамадзянства БНР абмяркоўваюцца ў Народным Фронце. Частковы выклад гэтых пытаньняў надрукаваны ў лістападаўскім нумары выдаваемых намі ў Варшаве „Беларускіх Ведамасьцяў". Я лічу гэтую справу агульнанацыянальнай задачай. Абмяркоўваць яе варта ўсім, прылюдна і адкрыта, бо вызначацца давядзецца ўсяму беларускаму грамадзтву. Інакш справа ня зрушыцца.

Пасьля выбараў у парлямант па любым з варыянтаў *БНР* былі б адноўлены парлямантарызм і законнасьць, улада і інстытуцыі *Беларускай Народнай Рэспублікі*.

Прэзыдэнцкая сыстэма была б ліквідаваная, а разьдзел аб прэзыдэнцтве выключаны з Канстытуцыі (як устаўлены, да таго ж, з грубымі працэдурнымі парушэньнямі), а сама Канстытуцыя-94 з дапаўненьнямі ўдакладненьнямі магла б быць адноўленая і прынятая як *Канстытуцыя Беларускай Народнай Рэспублікі*.

Вынікі антызаконных рэфэрэндумаў 1995 і 1996 гг. ня будуць прызнаныя, справа аб іх будзе перададзеная ў Канстытуцыйны Суд. Адразу будуць вернутыя гэрб *„Пагоня"* і дзяржаўны *Бел-Чырвона-Белы* Сьцяг. Будуць вернутыя беларускія школы і дзяржаўнасьць беларускай мовы, адмененыя ўсе незаконныя акты, міжнародныя дамовы, пакты і пагадненьні пэрыяду дыктатуры.

Распачнуцца тэрміновыя захады па аднаўленьні эканомікі, сельскай гаспадаркі (на падставе прыватнай уласнасьці на зямлю), гандлю і прадпрыймальніцтва, стварэньня ўмоваў для заходніх інвестыцыяў. Будуць упарадкаваныя падаткі.

Спыніцца наплыў бандытызму і крымінальшчыны з Расеі. Адновяцца беларускія кантакты і дачыненьні з міжнароднымі арганізацыямі, у тым ліку і прысутнасьць у структурах Эўрапейскага Саюзу і ўзаемадзеяньне з НАТО. Беларусь будзе арыентавацца сама на сябе і абапірацца на Захад. Адновяцца перапыненыя сувязі беларускага бізнэсу з заходнім сьветам, гандль зь якім, нягледзячы на перашкоды, складаў у 1994 годзе 50 адсоткаў усяго замежнага гандлёвага абароту краіны. Гэты накірунак будзе прыярытэтным. Пры ўмове атрыманьня ільготных заходніх крэдытаў і інвэстыцыяў (на што ёсьць пэўныя гарантыі) Беларусь зможа скарыстацца хуткім шляхам уздыму і разьвіцьця эканомікі. Будуць уключаны ўсе сістэмы ўзаемаабмену і супрацоўніцтва з Захадам на ўсіх узроўнях і накірунках.

Заходні вектар узаемадзеяньня для Беларусі надзейны і пэрспэктыўны, бо мае пад сабой грунт разьвітай эканомікі, тэхналёгіяў і стабільных дачыненьняў, высокага ўзроўню культуры і вольнага капіталу. Тут, як я ўжо адзначыў, адсутнічае палітычная небясьпека для суверэнітэту Беларусі і крымінальная небясьпека для грамадзтва.

Нічога падобнага Беларусь ня бачыць на Усходзе. Рынак, як вядома, там, дзе плоцяць. Расея не плацежаздольная, а пагроза незалежнасьці Беларусі ад крамлёўскай палітыкі і грамадзтву ад рускай крымінальшчыны дасягае ўзроўню нацыянальнага спусташэньня.

Істотную норму газу Беларусь будзе мець за кошт яго транзіту праз яе тэрыторыю, згодна міжнародных узроўняў аплаты. (Ёсьць таксама іншыя дапаможныя і самастойныя варыянты.) Пастаўка нафты не зьяўляецца (і не зьяўлялася) праблемай. Купіць нафту можна па ўсім сьвеце. Беларусь ня будзе згортваць эканамічныя дачыненьні з Расеяй, але яны будуць пастаўленыя на міжнародную прававую і дагаворную аснову і грунтавацца на выгадзе, а не на палітыцы. Будуць пастаўлены пытаньні аб выплаце Беларусі Расеяй за Чарнобыль (каля 30 мільярдаў даляраў, згодна прынятага рашэньня ў СССР; сапраўдная цана ў дзесяць разоў большая), за ўтрыманьне расейскага войска (якое будзе поўнасьцю выведзена зь Беларусі), аб кампэнсацыі за маёмасьць за мяжой і г.д.

Пасьля спыненьня інфляцыі і ў пачатку стабілізацыі эканомікі будуць уведзеныя стабільныя беларускія талеры (замест часовых рублёў, якія ўжываюцца цяпер).

Беларусь будзе імкнуцца ўступіць у НАТО і паставіць гэтае пытаньне на парадак дня.

## ДОМ

Нашае нацыянальнае жыцьцё – гэта беларуская дзяржава. Мы адбудоўваем наш разбураны дом. Мы будзем у ім жыць і збудуем яго навечна, каб жылі ў ім нашыя дзеці і ўнукі, будучыя беларусы. Наша дзяржава павінна быць незалежнай, моцнай і заможнай. Дзеля гэтага найперш мы павінны шанаваць у ёй нашу беларускую мову, берагчы рэлігію, традыцыі, гісторыю і культуру. Мы павінны стварыць у ёй дэмакратычны лад, гэта значыць такі спосаб дзяржаўнага ладу, які мае выбарную ўладу, падзел заканадаўчай і выканаўчай уладаў, незалежны суд, свабодны друк, мясцовае самакіраваньне і гарантыі правоў асобы.

Няма нічога немагчымага перад сьвядомай народнай воляй. Гэта даказалі нават малалікія эстонцы і чачэнцы, калі кожны пасвойму перамаглі Расею. Гэта даказалі і мы, беларусы, у пачатку 90-х гг., калі за кароткі час вельмі малымі сіламі тыя, хто горача верылі ў Бацькаўшчыну і перамогу, вярнулі *наш Сьцяг, нашу Пагоню, нашу мову і школы, нашу Незалежнасьць*. Мы вернем усё гэта йзноў – супольна, разам і назаўсёды.

## ПАСЬЛЯСЛОЎЕ: ЯК ДАЛУЧЫЦЦА ДА ГРАМАДЗЯНСТВА БНР

Акцыя далучэньня да грамадзянства *Беларускае Народнае Рэспублікі* належыць усёй Беларускай Нацыі. Усе, хто стаіць на пазыцыях беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня і падтрымлівае ідэалы *БНР* – незалежнасьці, свабоды і дзяржаўнасьці Беларусі, дзяржаўнасьці беларускай мовы, прававога дэмакратычнага ладу, шануе дзяржаўныя сымвалы Беларусі: *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня*, – усе гэтыя людзі могуць стаць грамадзянамі *БНР*. Кожны вырашае сам.

Ініцыятыву па арганізацыі руху за грамадзянства *БНР* узяў на сябе *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"*. У сакавіку

гэтага года рашэньнем *Управы Сойму БНФ* створана *Галоўная Рэгістрацыйная група па прыёму заяваў у грамадзянства БНР*. Неўзабаве ва ўсіх абласьцях і раёнах павінны быць створаныя рэгістрацыйныя групы, завязаныя на адну сістэму, улік, дыпазытарыум і кампутар *Галоўнай Рэгістрацыйнай групы*.

Асоба, якая падае заяву ў грамадзянства *БНР*, заяўляе пра сваю вернасьць ідэалам *БНР* і прысягае дзяржаўным сымвалам Беларусі: *Бел-Чырвона-Беламу Сьцягуі гэрбу Пагоня*. Тэкст заявы і прысягі зьмешчаны на спэцыяльным блянку, які выдаецца *Рэгістрацыйнай групай*. Заява і прысяга замацоўваецца ўласнаручным подпісам заяўніка. Пасьля гэтага працэдура прысягі лічыцца зьдзейсьненай.

Заяўніку выдаецца *рэгістрацыйная квітанцыя*, завераная пячаткай арганізацыі, адказнай за прыём заявы, дзе запісаны рэгістрацыйны нумар, сэрыя заявы, імя і прозьвішча заяўніка. Заяўнік можа дабраахвотна заплаціць пошліну за квітанцыю ў памеры кошту двух стандартных паштовых марак. (Калі плоціцца больш, то гэта адзначаецца ў квітанцыі і на заяве). Гэтакія кошты патрэбныя, каб пакрыць выдаткі на паперу, канвэрты і іншыя расходы. Акрамя таго заяўнік можа прыслаць запоўненую форму заявы і грошы поштай у *Галоўную Рэгістрацыйную групу* і атрымаць гэтакім жа шляхам рэгістрацыйную квітанцыю. У асобных, спэцыяльна абумоўленых з *Рэгістрацыйнай групай* выпадках, можна карыстацца нават факсам і электроннай поштай.

Рэгістрацыйныя дадзеныя кожнай заявы ў грамадзянства *БНР* заносяцца ў кампутар *Галоўнай Рэгістрацыйнай групы* і перасылаюцца на электронную пошту *Рады БНР*. Заявы (аўтэнтык) захоўваюцца ў Беларусі. Часовым дэпазытарыем заяваў у грамадзянства *БНР* зьяўляецца *Беларускі Народны Фронт*.

## АКЦЫЯ „ГРАМАДЗЯНСТВА БНР"

Паколькі акцыя далучэньня да грамадзянства *БНР* зьяўляецца агульнанацыянальнай справай, то ўдзел у ёй павінна б была ўзяць уся Беларусь, усе людзі і арганізацыі, што падтрымліваюць *ідэалы БНР*, што выступаюць супраць акупацыі, дыктатуры і рускага імпэрыялізму. Такія арганізацыі і асобы-ініцыятары маглі б працаваць на карысьць агульнай справы, арганізоўваць і ўдзельнічаць у групах рэгістрацыі, прапагандаваць нацыянальныя ідэі свабоды і незалежнасьці, жыццядайнасьці беларускай мовы, плённасьці вяртаньня ў сістэму каштоўнасьцяў эўрапэйскай цывілізацыі.

Для таго, каб ліквідаваць акупацыйную дыктатуру і вярнуць на Беларусі нармальную ўладу *Беларускай Народнай Рэспублікі*, патрэбна найперш падрыхтаваць на Беларусі адпаведны прыхільны грунт і ўмовы дзеля стварэньня выканаўчай структуры ўлады БНР; потым стварыць выбарчыя камісіі і, пры падтрымцы міжнародных арганізацыяў, правесьці выбары ў парлямант *БНР* такім чынам, як гэта рабілі эстонцы (успомнім іхныя „Камітэты грамадзянаў Эстонскай Рэспублікі"), летувісы і латышы.

Акцыя *„Грамадзянства БНР"* якраз і зьяўляецца той першай і найважнейшай неабходнай працай, якая можа стварыць прыхільны сацыяльны ідэйна-палітычны грунт і ўмовы ўсталяваньня ўлады *БНР*.

У беларускім грамадстве цяпер існуе пэўная колькасная раўнавага з тэндэнцыяй да беларускага эўрапейскага адраджэньня і беларускай нацыянальнай ідэі. Каля 25 адсоткаў насельніцтва (у асноўным пажылога ўзросту, вясковага і наезнага рускага) пры любых абставінах галасавалі б за Лукашэнку. 20 адсоткаў пры любых варунках галасавалі б за *нацыянальна-вызвольны рух і БНФ*. Астатнія альбо ня вызначыліся, альбо (пры пэўных агаворках) падтрымліваюць адзін з бакоў.

Гэткая раскладка паказвае, што пры выдатна арганізаванай працы можна гарантавана мець больш паўтара мільёна грамадзянаў *БНР*. Гэта вельмі шмат дзеля перамогі справы. Каб ажыцьцявіць рэальныя палітычныя мерапрыемствы, пра якія казалася вышэй, дастаткова нават у тры разы меншай колькасьці грамадзянаў *БНР*. (Пры ўмове падтрымкі ідэі элітнымі інтэлектуальнымі і маёмнымі пластамі беларускага грамадства.)

*Акцыю* ***„Грамадзянства БНР"*** трэба праводзіць і сумесна з *акцыяй* ***„Адстаўка"*** (збор подпісаў за адстаўку Лукашэнкі). Прытым справу *грамадзянства* пажадана ажыцьцяўляць у жыцьцёвым кантэксьце ўсіх мерапрыемстваў *Народнага Фронту*: сацыяльных, палітычных і культурніцкіх (масавых і асабовых). ***Усё падпарадкоўваецца адной задачы – вяртаньню БНР і выратаваньню Беларусі.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12).*



(Фота з газэты «Народная Воля»)

***41. «Жыве Беларусь!»***

# АТРУТНЫ ДУХ

Хацеў бы паразважаць пра характар інфармацыі, якая напаўняе Рэспубліку Беларусь.

Інфармацыйную прастору запаўняюць, найперш, тэлебачаньне і друк, ствараючы ў людзей вобраз перавернутага сьвету, скажоных паняцьцяў і ненармальных ацэнак. Узьнікае штучная замкнутая прастора. У ёй прывычна плаваюць свае аўтарытэты і спэцыялісты па інфармацыі, абядналыя нянявісьцю, ironіяй, крытычным поглядам на беларускае Адраджэньне, на Нацыянальна-Вызвольны Рух.

## ПАЛІТЫКА-АНАЛІТЫКА

З афіцыйнага боку найбольшую актыўнасьць выяўляюць лукашэнкаўскія рэдактары сп. **П. Якубовіч** і сп. **А. Зімоўскі** (з тэлебачаньня). З „незавісімых” – сп. **А. Фядута** і сп. **Ю. Дракахруст**.

Першыя два – гэта журналісты на службе рэжыму. Тут усё проста. Даюць – служым, плоцяць – пішам (вяшчаем).

Другія – не журналісты. Гэта пішучыя палітыкі з шыльдачкай „апазыцыя”. Яны друкуюць палітычныя аналізы, робяць прагнозы, нахаду зьбіваючы пстрычкамі „нехарошых” палітыкаў. І ўсё гэта лёгка, разумна, начытана, з ужываньнем прыгожых навуковых словаў.

Аднак мінае час, і глыбокадумныя „аналізы” складваюцца, як картачны дамок. Пра іх забыліся. А варта падняць і зазірнуць (хто ня ўгледзеў адразу). Тады вельмі добра відаць, што дасьціпныя, інтэлектуальныя палітычныя развагі ёсьць тэндэнцыйныя апісаньні, недакладныя ў палітычным сэнсе, поўныя элемэнтарнага неразуменьня відавочных рэчаў, суб’ектыўных характарыстык і пустых прагнозаў, якія і не маглі спраўдзіцца.

Напрыклад, аб ролі расейскіх спэцслужбаў у беларускай палітыцы БНФ з трывогай кажа з сярэдзіны 1992 года (тады, калі іхняя палітыка стала ўжо відавочнай). „Аналітыкі” пацьвельваліся.

У 1994 годзе мы папярэджвалі, што ўвядзеньне разьдзела аб прэзыдэнце ў Канстытуцыю „аб’ектыўна вядзе да дыктатуры”. (Заява народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь”, – *„Народная газэта”, 2 сакавіка 1994)* „Аналітыкі” рагаталі.

Пасьля выбараў Лукашэнкі мы прагназавалі палітыку здачы беларускага суверэнітэту і папярэджвалі аб нацэленасьці Лукашэнкі на прэзыдэнцкую пасаду ў Расеі. Гамэрычны рогат „аналітыкаў”.

У 1995 годзе ***Сяргей Навумчык*** надрукаваў у *„Свабодзе”* адмысловы артыкул „Мэта” („Цель”), дзе падрабязна распавёў пра пляны Лукашэнкі на ўладу ў Маскве.

„Аналітыкі” рагаталі скамарошым сьмехам. Ю. Дракахруст нават чарговы разумны твор напісаў „Страшнее кошки зверя нет?”, дзе зьедліва абсьмяяў С. Навумчыка.

Я ўжо не прыгадваю свае артыкулы, напрыклад, „Аб рускім імпэрыялізме і яго небясьпецы”, надрукаваны больш чатырох гадоў таму (яшчэ да Лукашэнкі), і тое абурэньне „аналітыкаў” у савецкім маштабе, ад Берасьця да Ўладзівастока, гэтым артыкулам.

Цяпер, вядома ж, Юры Дракахруст сцьвярджае наадварот.* І таксама разумна. Як ні ў чым ні бывала. З тым жа ёрніцтвам і пацьвельваньнем.

* 1998 год – час, калі ўсе загаварылі пра імкненьне Лукашэнкі стаць прэзыдэнтам Расеі. – *(Заўвага выдаўца)*

Ужо шмат дзесяцігоддзяў ў Амэрыцы „обретается” Рада БНР, – піша, як заўсёды зьедліва, Ю. Дракахруст. *(„Имя”, 29 сьнежня 1997 )* Аказваецца, і да Рады БНР ім справа ёсьць. Раней пра Раду пісалі „спэцыялісты” з КГБ, цяпер і Ю. Дракахруст піша.

Сябры гэтае Рады, паводле Дракахруста, толькі і мараць („надеются всего лишь на то”), каб перадаць свае паўнамоцтвы „демократической власти”. Гэта ж хлусьня ці няведаньне сутнасьці справы. Рада магла б перадаць свае легітымныя паўнамоцтвы толькі дэмакратычнай беларускай уладзе. Але можа і сама іх скарыстаць. І, магчыма, скарыстае.

Юры Дракахруст піша заўсёды з выглядам веданьня справы, характарыстыкі раздае гэтак мімаходзь, між іншым, цераз плячо: нехта там „самостийный”, нехта „обретается”, нехта „националистический„ і г.д. Усё гэта не перашкаджае Ю. Дракахрусту упарта штурмаваць беларускую службу радыё „Свабода„. Праўда, там ён не вяшчае про „обретающихся„ „националистов„. Бо ведае, што ў рэдакцыі „Свабоды„ працуюць дэпутаты Рады БНР, якія ганарацца сваім да яе дачыненьнем.

У спосабах прыніжэньня Беларускага Народнага Фронту некаторым беларусажэрцам яшчэ далёка да А. Фядуты. Некалі, у 1989-91 гг. я чытаў артыкул камсамольскага сакратара А. Фядуты супраць БНФ – лабавы, грубы, ненавісны, люты, – супраць усяго беларускага.

Цяпер сп. Фядута перайначыўся, прычасаўся, абшаляваўся. Прынізіць апанента імкнецца „ветліва”, „дасьціпна”, быццам бы „аб’ектыўна„ (хоць на самай справе – зьедліва і несправядліва), апісваючы яго, нібы прадмет, з пазыцыі гэтакага „назіраньня”. Увогуле, калі меркаваць па заходніх мерках, то гэта нізкапробны таблоідны (бульварны) мэтад, за якім хаваецца рафінаванае хамства. Прыкладам можа паслужыць і ягоны артыкул у газэце „Имя„ *(1998, 22 студзеня)*. „Пожилой мальчик Вечёрка„, – паплёўвае Фядута, „закомплексованный мужчина„, „Винцук уже созрел и почти состарился„, „породистое лицо„, „тусклые глаза„, „непривлекательный Борщевский„ („такой же, как Пазьняк„), а „этот Апостол, Вождь„, а „этот Сивчик„ і гэтак далей.

Прыстойнымі людзьмі і нармальным друкам зьнешнія якасьці чалавека не абмяркоўваюцца ў палітычных публікацыях. Гэта – аргуманты таблоідаў і бульваршчыны. Праўда „Имя„, дзе друкуецца Фядута, па сваім характары, фактычна, і ёсьць такога роду выданьнем (прынамсі, было такім да апошняга часу). Гэта бяда грамадзтва, дзе функцыянер КГБ робіцца прэзыдэнтам, а чужамоўная „жаўцізна” лічыцца „дэмакратычным” друкам.

А. Фядута, напэўна, ужо разоў пяць пісаў, што яму трэба каяцца. Аказваецца, ён таксама падтрымліваў Лукашэнку і цяпер думае, што „прывёў” яго да ўлады, але ніхто пра гэта ня ведае. Ну, дык кайцеся.

Толькі, на мой погляд, тут усё вельмі перабольшана. Ён быў 99-й сьпіцай у выбарчай каламажцы А. Лукашэнкі і выгнаны з каманды за прафнепрыгоднасьць.

Памятаю тэлеэфір маладзёжнай рэдакцыі Беларускага тэлебачаньня восеньню 1994 года. Функцыянер прэзыдэнта Лукашэнкі Фядута, блытаючыся, дэбатуе з прадстаўнікамі Народнага Фронта. У студыі Ю. Беленькі, С. Навумчык, Н. Шаўко. Пазыцыя прэзыдэнта ў асобе А, Фядуты церпіць поўнае фіяска. Дарэчы, пасьля гэтага начальнік Упраўленьня інфармацыі адміністрацыі прэзыдэнта А. Фядута дэпутатаў Апазыцыі БНФ да эфіру ўжо не падпускаў. Але было позна. Хіба ж так служаць „усенарод-

наабранаму” прэзыдэнту? Чаго ж ён крыўдзіцца, што любімы прэзыдэнт яго потым выгнаў? І ці ні адтуль такая зьедлівасьць у сп. Фядуты да БНФ? І ня выгаварыўся, і з работы зьнялі. А такія былі пэрспэктывы.

Зрэшты, выгналі А. Фядуту па іншай прычыне. Двайнога агента палкоўніка **У. Замяталіна**, пасьля адпаведнага выкананьня ім заданьня ў час прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі ў „лягеры” **Кебіча**, трэба было пасадзіць на адказнае прапагандысцкае месца. А тут нейкі А. Фядута, які да таго ж ня ўмее дыскутаваць з БНФ. Можа і ня трэба каяцца А. Фядуту – ён жа ахвяра свайго розуму, бядак, нявінны.

Нявінны А. Фядута гэтак жа, як і падвойны Ю. Дракахруст, любіць у голас паразважаць аб маралі. І аказваецца, кепска ў нас у некаторых з маральлю. Памятаю, у час выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі спадар Фядута (удзельнік каманды Лукашэнкі) двойчы пасылаў да мяне адну асобу (дарэчы, журналістку) з юдавай прапановай перадаць мне папку неверагодных кампрамэтуючых дакумантаў. На каго б вы думалі? Правільна падумалі – на Лукашэнку. Толькі са мной у такія гульні гуляць ня трэба.

Можна было б нагадаць пра мараль і маралізатару Ю. Дракахрусту. Аднак тое, што я мог бы сказаць, было б вельмі жорстка. Бо я памятаю іншага Юру Дракахруста, нікому тады не вядомага маладога чалавека, якога я ад пачатку ўвёў у Аргкамітэт Народнага Фронту, у „Мартыралёг”, ды і ў палітыку; якога падтрымліваў, бо бачыў, што ён быў тады не пазбаўлены добрых задаткаў. Ды людзі зьмяняюцца. Ня кожны вытрымлівае ўскладненьняў жыцьця.

## „СВАБОДУ ШАРАМЕТУ”

У беларускім інфармацыйным полі зьяўляюцца сурагаты, разьлічаныя хіба што на разумова адсталых, і завісаюць у паветры, як стратастаты: то „30 мільёнаў”, то „змова”, то „ворагі”. Усе павінны дзівіцца на гэтае дзіва.

Такім сурагатам зьявілася, напрыклад, „справа Шарамета”. Кожны хоча выціснуць карысьць з гэтае „справы”. Лукашэнка – сабе, Масква – сабе, антылукашэнкаўская „апазыцыя” – сабе. Адны хочуць мабілізаваць іншых супраць ворагаў прэзыдэнта, другія – за „свабоду Шарамету”, трэція шыпяць: „отдай деньги”. Нейкі сьвет самнамбулізму. Жывучы ў аднабокай інфармацыйнай прасторы, ня маючы доступу да шырокіх міжнародных зьвестак і падзей, людзі, журналісты, палітыкі, здаецца, асьлеплі, страцілі пачуцьцё палітычнай рэальнасьці, здольнасьці адэкватна ацаніць і зразумець тое, што робіцца ў краіне, ва ўласным доме, перад вачыма.

Праз мяжу зь Летувой ідзе „вялікая гарэлка” (і ня толькі яна). Тавар бяспошлінна перапраўляецца ў Расею, дзе выгадна прадаецца, прыносячы Лукашэнку вялікія барышы і робячы страты рускай гандлёва-мафіёзнай „братве”. Беларуска-рускую мяжу Лукашэнка, як вядома, зьнёс у 1995 годзе, зыходзячы з „дружбы народаў”. (Гэта для прастакоў. На самай справе пляваць яму на дружбу, каб не мільённыя прыбыткі.) Адначасна расейцы паставілі ўмову, каб на заходніх беларускіх межах былі рускія мытнікі для агульнага кантролю тавараў і перамяшчэньняў. Ударылі па руках.

Але Лукашэнка, усяроўна як той цыган, умеў прадаць здохлага каня. Увесь кантроль паўночна-заходняй мяжы Беларусі застаўся ў беларускіх руках. „Братва” ў Расеі пачала „раптаць”. Тут, відаць, закранулі і інтарэсы ня толькі спадароў Кабзона, Эсамбаева і іншых вялікіх дзеячоў рускага „мастацтва”, але і тав. Чарнамырдзіна, гаспадзіна Беразоўскага і шмат чые. Лукашэнка закусіў цуглі. Тады рускія сябры вырашылі „поднять вопрос”. (Не напрасткі, вядома, а так, увогуле, паступова.)

Для здымак сюжэта аб беларуска-летувіскай мяжы ГРТ* (якое ў руках Беразоўскага) накіравала здымачную групу на чале з П. Шараметам.

Лукашэнка, не раздумваючы, групу схапіў і пасадзіў. Тут жа залемантавала на ўвесь сьвет ГРТ, а за ім і наша генэральска-камсамольская „апазыцыя” (гэтыя – за кампанію). Астатняе вядома. Цікава толькі, што ў гэтую справу ўблыталі ня толькі Ельцына, але і спэцслужбы з расейскага лягеру Лукашэнкі. Пасылалі спэцгрупу ГРТ на тую ж мяжу на чале з журналістам Адамчуком, які, як вядома, быў завербаваны ФСБ яшчэ ў Чачні і зьяўляецца штатным правакатарам (пра гэта пісалася ў друку). Што было ў Беларусі з Адамчуком – таксама вядома. Казалі, што потым шукалі яшчэ дурняў на трэцюю ходку. Але ці то не знайшлі, ці то не згаварыліся.



*42. «Абы вайны не было».*

(Фота з газэты «Ніва»)

Будзем спадзявацца, нічога дрэннага з Шараметам ня здарыцца. Бо Беразоўскі з Лукашэнкам ужо дамовіліся. Але дрэнна, калі гэтакія заангажаваныя** журналісты робяцца інструмэнтамі ў чужой гульні.

Шчыра кажучы, ужо аскоміна ад гэтых гульбішчаў, а некаторыя ўсё яшчэ тую грушу гайдаюць: „Свабоду Шарамету”.

І разам з тым – ГРТ ні слова, ні паўслова не сказала (а менскія незалежныя СМІ доўгі час абмяжоўваліся кароткай інфармацыяй) пра справу Шыдлоўскага, Лабковіча і Кабанчука – маладых народафронтаўцаў, якія ўжо паўгода сядзяць за кратамі з той прычыны, што выступілі за нацыянальную годнасьць беларусаў. Маўчаньне ж лідараў ”демократической оппозиции”, відаць, тлумачыцца тым, што з гэтай справы нельга зрабіць сабе „всесоюзный” імідж, ну а што да ГРТ, то ягоныя аглядальнікі адназначна выказваюцца за палітычнае аб'яднаньне Беларусі і Расеі. І БНФ у іх вуснах – ні што іншае, як „национал-радикалы”.

Толькі апошняе слова ўсяроўна будзе за Вызвольным рухам.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („ Народная Воля”. – 1998, 6 лютага)*

---

* Грамадзкае расейскае тэлебачаньне

** П. Шарамет асабліва адзначыўся сваёй фразэалёгіяй на экране ГРТ падчас „пуцінскага” нападу на Чачэнію – у пачатку Другой Расейска-Чачэнскай вайны. Побач з такім журналісцка-гэбоўскім дном як Дарэнка, Леонцьеў, ён заклікаў на „адпор чачэнскаму агрэсару”, на „вайну народную”, „спасать Россію” і т.п.

# АКУПАЦЫЙНЫ СУД

Паўгода зьдзекваліся над ***Вадзімам Лабковічам, Аляксеем Шыдлоўскім, Вадзімам Кабанчуком***, кінутымі за краты без суда. Нарэшце 18-га лютага гэтага году над Лабковічам і Шыдлоўскім у Менскім абласным судзе быў арганізаваны суд, які доўжыўся некалькі дзён. Юнакоў прывялі ў суд у наручніках у акружэньні байцоў АМАПу ў масках і пасадзілі ў жалезную клетку, якую сьцярог службовы сабака і ўзброеныя амапаўцы. Пры гэтым суддзя-расеец па прозьвішчу **Лаўроў** усяляк зьдзекваўся зь беларускай мовы, зь вязьняў і прысутных у зале.

У гэты час звонку будынак суду быў акружаны АМАПам. У залю суду прапускалі толькі 40 чалавек і толькі па пашпартах. Чалавек з трыста засталося стаяць перад будынкам. АМАП аб'явіў усіх „незаконным пікетам". Людзей сталі хапаць без прычыны. Напрыклад, адстаўнога афіцэра загадчыка канцэлярыі *Управы Сойму БНФ **Уладзімера Юхо***, які спакойна стаяў на ганку, схапілі, пацягнулі да машыны і зашчымілі рукі ў дзьверы. Зашчымілі так, што чалавека адвезла хуткая медыцынская дапамога ў шпіталь, дзе яму тут жа зрабілі тэрміновую апэрацыю рукі і наклалі швы. Нягледзячы на гэта АМАП са шпіталя забраў яго ў міліцыю. У машыне міліцыянты схапілі спадара Юхо за горла і пачалі душыць. На заўвагу адваката Н.Дударавай міліцыянт сказаў, што будзе страляць.

У міліцыі на Ул. Юхо склалі пратакол за „ўдзел" у „пікеце". Ул. Юхо, ведаючы, што бяссэнсоўна (лепш ужо сапраўды „страляць") зьвярнуўся ўсё ж са скаргай у пракуратуру на дзеяньні міліцыі.

Схапілі таксама трох падлеткаў (*на 15 гадоў*) за тое, што *ішлі па вуліцы, заклаўшы рукі за галаву – **Зьміцера Касьяровіча, Максіма Кашынскага і Данілу Мілаванава***. Зьбіраюцца судзіць. „Наліцо все прызнакі несанкцыяніраванава шэствія,"– растлумачыў міліцэйскі начальнік.

Міліцыі, АМАПу, „спэцназу", ахове прэзыдэнта, унутраным войскам гэбістам і іншым сілавым структурам рэжыму, як і адпавядае ў акупацыйнай зоне, дадзена поўная свабода (практычна і на забойства) і зьнята ўсялякая адказнасьць за іх вынікі. (За забойства сьледчымі людзей ніхто не нясе пакараньня.) Прафэсыяналы з чалавечымі задаткамі міліцыю пакідаюць. Застаюцца людзі маральна непераборлівыя, грубыя і проста падонкі. Тое ж і ў судзе.

***Вадзіму Лабковічу і Аляксею Шыдлоўскаму за*** подпісы *„Жыве Беларусь!", „Радзіма. Свабода. Далоў Луку-урода!"* і г.д. суддзя, выконваючы загад зьверху, прысудзіў паўтара гады строгага рэжыму ў турме. В.Лабковічу (паколькі ён непаўналетні) з адтэрміноўкай на 2 гады.

На вуліцы, адпушчанага з-пад стражы В. Лабковіча, акружылі журналісты. Бралі інтэрв'ю. Тут жа падбеглі міліцыянеры з амапаўцамі і закрычалі, каб разыходзіліся і не арганізоўвалі „несанкцыяніраванава міцінга". *Журналіст **В. Шчукін** (дэпутат парляманту)* адмовіўся „разыходзіцца". Яго тут жа пачалі біць. Схапілі на вачох сотняў людзей, што былі на вуліцы, кінулі ў закратаваную машыну і павезьлі. Шчукін сядзіць. *За што?* Растлумачыць „суд".

Пра тое, што прысуд, дакладней, расправа над Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім ніяк не адпавядае зробленаму імі фармальнаму нязначнаму парушэньню, гаварыць няма сэнсу. Тым больш, што зь іхных бацькоў лукашэнкаўскія марадзёры не засаромеліся і ўзялі штраф па 5 мільёнаў рублёў (паўгадавая сярэдняя зарплата).

Унутраная акупацыя – гэта як унутраная хвароба. І чалавек прыгожы, і апрануты прыстойна, а ледзь ходзіць і ня ведае, што зь ім адбываецца. Акупацыя ў жыцьцёвых дачыненьнях выяўляецца ў грубым уціску асобы праз яе нацыянальнае непрыняцьце. Пры зьнешняй акупацыі ўсё проста і зразумела: „мы" і „яны". Пры ўнутраным захопе дачыненьні больш складаныя і драматычныя. Людзі не разумеюць адносінаў, адкуль што бярэцца, не ўсьведамляюць акупацыйнага перараджэньня ўлады. Усё выглядае нейкай паранойяй, вар'яцтвам, ідыятызмам. Людзі шукаюць тлумачэньні гэтай ненармальнасьці, часта не ўяўляючы яе прыроды.

Вось некалькі прыкладаў. Газэта на рускай мове „Витебский курьер" паведамляе, што 15-га студзеня гэтага года ў Віцебску адбыўся суд над ***Барысам Хамайдам***. Б. Хамайда стаяў на вуліцы і трымаў у руках плякат: „Беларусь – наш Дом, наш Храм, наша Бацькаўшчына-Маці." За гэта яго схапіла міліцыя і пацягнула ў суд. Суддзя, па прозьвішчу **Сьвятлана Туфан**, прысудзіла Б.Хамайду трое сутак арышту ў турэмным ізалятары.

Выйшаўшы з адсідкі, Б.Хамайда напісаў скаргу пракурору. Пракурор пастанову суда апратэставаў як незаконную, а Б.Хамайда зноў узяў гэты ж плякат і стаў на вуліцы. Міліцыя тут жа накінулася на яго і схапіла. У гэты час побач з Б.Хамайдам стаяў грамадзянін ***Юры Мароз***, які трымаў у руцэ купленую ў мясным магазіне курыцу і чытаў газэту. Міліцыя згрэбла і Ю.Мароза з курыцай. 23 студзеня (суддзя тая ж С.Туфан) прысудзіла Б.Хамайду за яго плякат ужо 10 сутак арышту ў турэмным ізалятары. А за адно і Ю.Марозу 10 сутак.

На судзе суддзя С.Туфан сказала: „Вы, як член *БНФ*, павінны несьці адказнасьць за ўсю арганізацыю." Потым яна заявіла: „А вашы людзі (франтаўцы) у Менску раздаюць бабулькам па аднаму даляру, каб яны прыходзілі на мітынгі." На пытаньне, адкуль у яе такія казачныя зьвесткі, суддзя адказала: „Мне расказаў знаёмы."

Тым ня менш, Сьвятлана Туфан лукашэнкаўскі суддзя, а Б.Хамайда кажа, што Беларусь – наша Бацькаўшчына. У выніку суддзя судзіць, а Хамайда сядзіць.

„І як растлумачыць гэта, скажам, ангельцу, французу, немцу ці паляку?"– усклікае зьбянтэжаны аўтар інфармацыі ў газэце. (Тлумачыць, аднак, бяссэнсоўна – яны нічога не разумеюць.)

У *Магілёве, Гомлі* стала за звычай хапаць людзей на вуліцы *за прыналежнасьць да БНФ* і судзіць (матывы прыдумваюць розныя). У *Менску* любяць хапаць *за размову па-беларуску* і проста *за тое, што малады*. Быў факт, што пасадзілі за краты нават маладога хлопца ***(А Лясуна)** – інваліда, глуханямога* ад прыроды за тое, што, як сьведчыла міліцыя, *„крычаў, лаяўся і выкрыкваў антыпрэзыдэнцкія лёзунгі"*.

Акупацыйны рэжым жыве па беззаконьню і па нянавісьці да беларушчыны. У яго адно правіла, адзін прынцып і падыход – права неабмежаванай улады. Тым больш, патрэбнае арганізаванае беларускае змаганьне з рэжымам. Мяркую, што *трэба стварыць* таксама ***Міжнародны беларускі Камітэт па абароне палітвязьняў у Беларусі***. Першай задачай Камітэту павінна стаць вызваленьне з турмы беларускіх вязьняў сумленьня, маладых змагароў за Беларусь.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*3 сакавіка 1998 г., Нью-Ёрк*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 1(11).*

# АБ ПАДЗЕЯХ У БЕЛАРУСІ

## *22 сакавіка, 2 красавіка 1998 г.*

Падзеі ў Беларусі маюць тыповыя адзнакі, характэрныя для ўнутранага акупацыйнага рэжыму.

22 сакавіка гэтага года, пасьля заканчэньня дазволенага ўладамі мітынга ў гонар *80-годдзя Незалежнасьці* і стварэньня *Беларускай Народнай Рэспублікі*, спэцыяльна арганізаваныя групы міліцыі, пераапранутыя ў цывільнае адзеньне, жорстка зьбівалі людзей на вуліцах Менска, тых, якіх ненавідзела ўлада. Было схоплена, пабіта і арыштавана звыш 50 чалавек. Вечарам 2-га красавіка, пасьля заканчэньня мітынга пратэсту супраць імпэрскай палітыкі Расеі, пераапранутыя ў цывільнае спэцаддзелы міліцыі ізноў наладзілі жорсткае зьбіцьцё людзей на вуліцах Менска.

Няпаўналетніх дзяцей пераапрануты АМАП зьбіваў да страты сьвядомасьці. Вось тыповая карціна. Да групы моладзі, што стаяла на тратуары (7-8 чалавек) у цэнтры горада на плошчы Перамогі пад'ехала 8 аўтамабіляў, зь якіх выскачылі дзябёлыя людзі ў цывільным і пачалі кулакамі, дубінкамі, нагамі зьбіваць моладзь. ***Яўген Афнагель*** страціў сьвядомасьць. Усіх схапілі, запхнулі ў машыны і павезьлі ў сьледчы ізалятар. Прозьвішчы зьбітых і схопленых у гэтым месцы ўстаноўленыя. Гэта ***Алена Яфіменка*** *(15 гадоў),* ***Зьміцер Васьковіч*** *(15 гадоў),* ***Сьцяпан Кульчанка*** *(17 гадоў),* ***Цімох Дранчук*** *(17 гадоў),* ***Зьміцер Касьпяровіч*** *(17 гадоў),* ***Павел Севярынец*** *(21 год),* ***Лявон Васючэнка*** *(27 гадоў).*

2-га красавіка на вуліцах Менска ў дварах і ля пад'ездаў дамоў было схоплена, зьбіта і кінута за краты ***каля 50 чалавек***. Сярод іх ***Алесь Чахольскі***, ***Андрэй Сяргееў***, ***Алесь Каршэня***, ***Ясь Абадоўскі***, ***Віталь Станішэўскі***, ***Вячаслаў Сіўчык***, ***Валянцін Мацкевіч***, ***Віктар Кожар***, ***Алесь Мешчанкоў***, ***Віталь Навумовіч***, ***Юры Хадыка***, ***Алена Баршчэўская***, ***Лявон Баршчэўскі***, ***Віктар Беласкоў***, ***Кастусь Тамковіч***, ***Церашкоў***, ***Генадзь Бабарыч***, ***Уладзімер Дзюба***, ***Левановіч***, ***няпаўналетнія Ігар Іваноў***, ***Аляксей Шэяр***, ***Косьця Рэзьнічак***, ***Ігар Іцанкоў***, ***Сяржук Мацкойць***, ***Вікторыя Пазьнякова і інш***.

Ёсьць зьвесткі, што зьверствы міліцэйскіх спэцпадразьдзяленьняў 2-га красавіка адбываліся пасьля атрыманьня Лукашэнкам сакрэтнага ліста ад Ельцына і па асабістым патрабаваньні Лукашэнкі, раздражнёнага тым, што народ не прызнаў яго „сьвята" яднаньня з Расеяй, якое ён самаасобна ўстанавіў сваім указам.

Дыктатура ў Беларусі, падтрыманая Расеяй, набывае ўсё больш агрэсіўныя, крымінальныя і псыхапаталягічныя рысы. Рэжым псыхалягічна гатовы пачаць масавыя рэпрэсіі. Мэтады іх ужо апрацоўваюцца. У прыватнасьці, да схопленых непаўналетніх падлеткаў у сьледчых ізалятарах ужываюць мэтады фізічнага ўзьдзеяньня і катаваньні з мэтай прымусіць няпаўналетніх даць паказаньні супраць кіраўнікоў *Маладога Фронту (Паўла Севярынца і інш.),* якім хочуць прышпіліць крымінальныя артыкулы аб хуліганстве (201) альбо супраціўленьні міліцыі (186), пачаць нібыта сьледзтва і надоўга засадзіць ні ў чым не вінаватых хлопцаў у турму за іхныя палітычныя погляды, як гэта нядаўна зрабілі з ***Вадзімам Лабковічам*** *(16 гадоў),* ***Аляксеем Шыдлоўскім*** *(18 гадоў),* ***Вадзімам Кабанчуком***, а раней ***Славамірам Адамовічам***.

У пятніцу і суботу (3 і 4 красавіка) асабліва зьдзекваліся над *15-гадовым* ***Зьміцерам Васьковічам***.

Нікому з затрыманых не далі магчымасьці сустрэцца з бацькамі і з адвакатам. Да бацькоў схопленых падлеткаў органы рэпрэсіяў (г. зн. унутраных справаў) аднесьліся падкрэсьлена непаважліва і груба.

Пра законнасьць тут няма і гаворкі. Пытаньне стаіць аб парушэньні правоў чалавека, характэрным для рэжыма акупацыі. Асабліва – у дачыненьні да непаўналетніх.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12).*

# ЗВЫЧАЙНЫ ІМПЭРЫЯЛІЗМ

Імпэрыялізм – гэта ня толькі палітыка, ня толькі стан розуму і сьвядомасьці. Гэта, падобна, яшчэ і стан псіхікі, паталёгія, кшталту фобіі ці маніі. Да такой высновы прыходзіш, зазірнуўшы ў сучасны расейскі вучэбны дапаможнік па геапалітыцы, аўтараў А.Г.Дугіна і генэрала Н.П.Клокатава, які зьяўляецца начальнікам катэдры стратэгіі Ваеннай акадэміі генштаба Расейскай Фэдэрацыі. (Основы геополитики: Геополитическое будущее России. – Москва, 1997)




***43. Лёзунг Фронту.***

Што ж пішуць там рускі стратэг з рускім генэралам? Цытата:

*„Беларусь трэба разглядаць як частку Расеі, і таму інтэграцыю зь ёй трэба праводзіць па восі Захад – Усход... Сапраўдная заходняя мяжа Расеі павінна пралягаць нашмат больш на Захад, таму ў паўнавартаснай геапалітычнай карціне беларускія землі хутчэй адносяцца да цэнтральнай вобласьці, чым да заходняй ўскраіны."*

З гэтае цытаты відаць, што расейскія „стратэгі" ёсьць яшчэ і „тактыкамі". Зь Беларусяй яны, маючы там Лукашэнку, ужо не цырымоняцца. А вось пра Польшчу яшчэ пішуць толькі паміж радкоў. Хто разумее „стратэгаў", павінен здагадвацца, што абазначае іхняе глыбокадумнае вызначэньне, што *„ў паўнацэннай геапалітычнай карціне беларускія землі хутчэй адносяцца да цэнтральнай вобласьці, чым да заходняй ўскраіны"*, і што *„за-*

*ходняя мяжа Расеі павінна пралягаць нашмат больш на Захад" („намного западнее").*

Гэта напісана ў вучэбным дапаможніку, зацьверджаным рускай дзяржаўнай установай. А значыць, генэральскія пісаньні для студэнтаў аб захопе Беларусі з праекцыяй на Польшчу ёсьць афіцыйным поглядам рускага ўраду.

Гаварыць пра ўзровень і зьмест гэтага погляду няма сэнсу. Ён заўсёды быў і будзе такім прымітыўна-імпэрскім. Польшча даўно вызначыла сабе дакладны шлях, які адмяжуе яе ад рускага імпэрскага ідыятызму. Гэты шлях – уступленьне ў НАТО. Такі шлях павінен стаць і беларускім шляхам. Толькі нам трэба яшчэ збавіцца ад дыктатуры і сцьвердзіцца ў дэмакратыі і незалежнасьці. Гэта значыць, нейкі час змагацца з усходам у адзіночку. Але радуе тое, што мы пераможам.

**Зянон ПАЗЬНЯК**

*(Беларускія Ведамасьці,–1998, № 2(12). Пад крыптанімам ЗП)*

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ

26 красавіка 1986 г. узарваўся адзін з чатырох блёкаў чарнобыльскага атамнага рэактара. Радыяцыйная сьмерць разьвеялася па ўсёй Эўропе. Але 70% яе выпала на Беларусь.

Гэтаму спрыяла, перш за ўс, тое, што расейцы накіравалі сваю авіяцыю ў беларускае неба, якая „расстрэльвала" і асаджала радыёактыўныя хмары на Гомельскую і Магілёўскую вобласьці. Гэтым расейцы запабягалі, каб хмары не паплылі на Маскву. Вынік – атручаная беларуская зямля і тысячы хворых дзяцей.

Інстытут біяфізікі былога СССР і расейскія вучоныя хлусьліва пераконвалі ўсіх, што ніякіх адмоўных наступстваў пасьля Чарнобыльскай катастрофы ня будзе. Адзін „вучоны" нават сцьвярджаў, што радыяцыя карысная, і беларусам ня трэба езьдзіць на каўказкія курорты прымаць радонавыя ванны. Дома курорт.

Такіх „вучоных" беларусы добра ведаюць. Гэтакія якраз стваралі некалі ў Сібіры энкавэдзісцкія „курорты", на якіх зьнішчылі мільёны людзей.

Але цяпер сучасныя прарасейскія энкавэдзісты захапілі ўладу на Беларусі. Таму Чарнобыль стаў для іх зброяй радыяцыйнага генацыду супраць жыцьця і здароўя беларускай нацыі.

У Беларусі назіраецца велізарны рост захворваньняў дзяцей на рак шчытападобнай залозы. Большасьць дзяцей недамагае на розныя захворваньні. Пашыраецца лейкімія і іншыя формы рака. Сапраўдныя (не расейскія) вучоныя лічаць, што Беларусь патрапіла ў закладнікі Чарнобыля надоўга. Ракавыя захворваньні будуць пагражаць здароўю нашых людзей і праз 20, і праз 40, і праз 100 гадоў.

*Беларускі Народны Фронт,* розныя гуманітарныя арганізацыі ў Беларусі і на Захадзе імкнуліся канкрэтна дапамагчы захаваць здароўе беларусам, і перш за ўсё – беларускім дзецям. З прыходам Лукашэнкі да ўлады дзейнасьць гуманітарных арганізацыяў і фондаў была паралізаваная і зьліквідаваная. Гуманітарную дапамогу лукашысцкі рэжым ператварыў у сродак уласнай сквапнасьці і ўзбагачэньня.

25 красавіка гэтага года ў Менску і іншых гарадах *Беларускі Народны Фронт* арганізаваў традыцыйны „Чарнобыльскі шлях". У Менску дэманстравала каля 8 тысячаў чалавек. Гэта было запамінальнае відовішча. Моц бел-чырвона-белых сьцягоў, лёзунгаў і плякатаў. Наперадзе несьлі абраз Маці Божай Ахвяраў Чарнобылю (той самы, на які ў 1996 г. накінуліся лукашысцкія амонаўскія банды). За абразам паўзло вусатае страшыдла ў выглядзе велізарнага вусатага зьмея-вусеня (мутацыя антыбеларускага манкурта).

На мітынгу ўсе гаварылі пра падвойны Чарнобыль: антыбеларускі-лукашысцкі і радыяцыйны.

Лукашысты паводзілі сябе, як звычайна. Вечарам на вуліцах Менска пераапранутыя амонаўцы пачалі хапаць і зьбіваць беларусаў і найбольш – непаўналетніх падлеткаў.

Непаўналетніх схапілі каля 20-ці. Пабілі, настрашылі, пратрымалі некалькі гадзінаў у міліцэйскім пастарунку і выпусьцілі. Гэта мэтад націску і рэпрэсіяў супраць беларускай школьнай моладзі і навучэнцаў.

Гэта акупацыйны Чарнобыль.

**Зянон ПАЗЬНЯК**

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12). Пад псэўданімам „П. Зяновіч")*

# 26 КРАСАВІКА – ДЗЕНЬ ЧАРНОБЫЛЯ

З году ў год Беларусь зьвяртаецца да даты выбуху на атамнай станцыі Чарнобыль. Гэта тады выбухнула ня толькі станцыя. Гэта тады ўзарваўся Савецкі Саюз – самая ілжывая і самая крывавая імпэрыя ў гісторыі чалавецтва. Чарнобыльскі выбух стаў сымвалам савецкага распаду. Абломкі яго радыяцыі і абломкі яго пачварнай сьвядомасьці абрынуліся на Беларусь. З таго часу мы перажываем *двайны Чарнобыль*: ***Чарнобыль радыяцыйны, фізічны і Чарнобыль бальшавіцкіх мутантаў – чарнобыль духоўны***. Дыктатура ў Беларусі якраз і ёсьць дыктатура савецкіх мутантаў.

Што страшней: хвароба цела ці хвароба духа?

Гэта ня ёсьць для нас тэарытычнае пытаньне. Практычны адказ на яго дае нашае жыцьцё, кожны год і кожны дзень.

І таму што нашае, незразумелае для іншых жыцьцё дае нам гэты адказ, беларусы і зьбіраюцца разам, выходзяць на пляцы і вуліцы,

каб засьведчыць пратэст супраць двайнога Чарнобылю, супраць Чарнобылю ў квадраце, *супраць **суперчарнобылю** беларускай нацыі.*

Мутанты хацелі б, каб беларусы спраўлялі ў гэты дзень памінкі па самых сябе. Яны хацелі б бачыць гэты дзень днём абстрактнай і пакорнай жалобы, днём жалю па падзеі, ў якой быццам бы няма вінаватых, няма прычынаў, пачатку і канца. Але ж мы ведаем прычыны, мы назвалі вінаватых і ведаем тое, што найбольш палохае дыктатуру мутантаў.

Мы ведаем, што ўсялякую хваробу трэба пачынаць лячыць з направы духу. ***Не пазбавіўшыся Чарнобылю духоўнага, мы ня вылечымся, не пазьбегнем Чарнобылю радыяцыйнага***. Таму гэты дзень гадавіны чарнобыльскага выбуху ёсьць ня толькі днём жалобы па страчаным, але і ***днём нашай салідарнасьці ў барацьбе з двайным Чарнобылем***. Гэта дзень змаганьня супраць фізычнага і духоўнага вынішчэньня беларусаў.

Мы павінны найперш не дапусьціць, каб Молах дыктатуры мутантаў пажыраў усё новыя і новыя ахвяры. Мы павінны бараніць нашых людзей і змагацца за кожнага чалавека.

Бальшавіцкія мутанты выкарыстоўваюць супэрчарнобыль, хочуць зламаць і зьнішчыць найперш нашае маладое пакаленьне. Таму беларускія дзеці, беларуская моладзь ляжаць у чарнобыльскіх шпіталях і сядзяць у лукашэнкаўскіх турмах. Гэтак мутанты рэжыму кінулі за краты ***18-гадовага Аляксея Шыдлоўскага***, гэтак паўгода трымалі ў турме ***16-гадовага Вадзіма Лабковіча і маладога беларуса Вадзіма Кабанчука***. Гэтак яны схапілі ў заложнікі ***20-гадовага Паўла Севярынца***, не прад'явіўшы яму нават фармальных абвінавачваньняў.

Але нічога ня выйдзе ў савецкіх мутантаў, колькі б іх ні кланіравалі Маскоўскія імпэрскія сэлекцыянеры. ***У нас ёсьць маладыя сілы, у нас упэўненасьць у праўдзе, у нас любоў да Беларусі і вера ў Бацькаўшчыну, у нас ёсьць міжнародная падтрымка ў сьвеце ўсіх нармальных людзей, у нас ёсьць энэргія і рашучасьць змагацца за Беларусь. Мы пераможам, чаго б нам гэта ні каштавала. І на гэты раз пераможам назаўсёды.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12).*

# ПРА ГРАМАДЗЯНСТВА

***(Вытрымкі з дакладу на сэмінары БНФ 30 траўня 1998 года)***

Грамадзянства *БНР* ёсьць асноватворнай часткай стратэгіі, мэта якой – ліквідацыя акупацыйнага рэжыму Лукашэнкі і ўсталяваньне *Беларускай Народнай Рэспублікі*.

*Рада БНР* ёсьць легітымны прадстаўнічы орган улады Беларусі, прызнаны ў сьвеце.

У Рэспубліцы Беларусь цяпер няма ні выканаўчай, ні заканадаўчай улады, якая б грунтавалася на легітымным праве.

Прэзыдэнт Лукашэнка не зьяўляецца легітымным прэзыдэнтам, бо ён зрабіў антыканстытуцыйны пераварот, адмяніў Канстытуцыю 1994г., па якой быў выбраны, і кіруецца сваёй, незаконнай канстытуцыяй, на аснове якой ажыцьцяўляе незаконную ўладу. Ён вымушаны спасылацца, аднак, на адмененую Канстытуцыю, калі гаворыць, што быў абраны ў 1994 годзе беларускім народам. Гэты сумніўны аргумант і прававая двухсэнсоўнасьць павінны зьнікнуць 20 ліпеня 1999 года (сканчэньне кадэнцыі Лукашэнкі). Аднак абсалютна відавочна, што з 24 лістапада 1996 года Лукашэнка стаў узурпатарам улады і пазбавіўся яе законных падставаў.

Нелегітымнымі зьяўляюцца таксама прызначаны Лукашэнкам парлямант і канстытуцыйны суд. Ні лукашэнкаўская канстытуцыя, ні парлямант, ні рэфэрэндум 1996г., ні лукашэнкаўскія структуры ўлады ня ёсьць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю.

На Беларусі не існуе больш ніякага законнага воргана ўлады, які б мог аб'явіць і правесьці законныя выбары прэзыдэнта і выбары ў парлямант.

Пралукашэнкаўскі парлямант 13-га склікаьня, які б павінен быў аб'явіць выбары згодна Канстытуцыі 1994 года, цяпер ужо не існуе і ня можа быць сабраны і ўзноўлены нават тэарытычна. Ілюзіі маргінал-лібэралаў аб тым, што магчыма нібыта зноў сабраць 13-ы Вярхоўны Савет, прадыктаваныя хіба што іхняй прыналежнасьцю да гэтага здрадніцкага Савета, а не рэальным бачаньнем становішча. Дзьве трацiны дэпутатаў гэтага парляманту ўласнаручным напісаньнем заяваў адмовіліся ад Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, згадзіліся супрацоўнічаць з антыканстытуцыйным рэжымам Лукашэнкі і працаваць у яго квазі-парляманце. Астатнія, хто назвалі сябе „апазыцыяй", нясуць палітычную адказнасьць за ратыфікацыю незаконнага рэ-



***44. Акцыя «Грамадзянства БНР.» Менск.***

фэрэндума 1995г. і адмену беларускай нацыянальнай дзяржаўнай сымволікі, за абніжэньне статусу і ліквідацыю пэрспэктывы дзяржаўнасьці беларускай мовы, за ратыфікацыю ў 1996г. незаконнай антыбеларускай дамовы аб саюзе Беларусі з Расеяй і, нарэшце, за здрадніцкі правал справы імпічманту Лукашэнкі. Тут можа паўстаць хіба што пытаньне пра адказнасьць за амаральную палітыку з аднаго боку і за калябарацыю, з другога, а не спадзяваньні на аднаўленьне неіснуючай уладнай структуры.

Патавая сытуацыя, што ўтварылася, будзе разьвязвацца палітычнымі ініцыятывамі Лукашэнкі. Прытым – любымі ініцыятывамі. І любыя яго ініцыятывы будуць пасьпяховымі, калі *Беларускі Вызвольны Рух* першым ня выставіць свае ўласныя рэальныя і сьмелыя ініцыятывы.

Гэтакай рэальнай ініцыятывай зьяўляецца ўсталяваньне *Беларускай Народнай Рэспублікі* і ажыцьцяўленьне першага этапу – акцыі *„Грамадзянства БНР”*.*

Акцыя далучэньня да грамадзянства *Беларускай Народнай Рэспублікі* належыць усёй Беларускай нацыі. Усе, хто стаіць на пазыцыі нацыянальнага культурнага адраджэньня і падтрымлівае *ідэалы БНР,* – незалежнасьці, свабоды і дзяржаўнасьці Беларусі, дзяржаўнасьці беларускай мовы, прававога дэмакратычнага ладу, шануе дзяржаўныя сымвалы Беларусі (Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб *Пагоня)* – усе гэтыя людзі могуць стаць *грамадзянамі БНР*. Кожны вырашае сам.

*Варшава – Менск.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 4(14).*

* Акцыя пачалася вельмі пасьпяхова і на вялікім уздыме ў грамадзтве. Убачыўшы папулярнасьць і посьпех акцыі, яе пачала тармазіць група ў кіраўніцтве БНФ, якая прывяла потым да расколу Фронту. Падключылася агентура. Паступова справу паралізавалі, нягледзячы на растучыя запатрабаваньні людзей. Істотна і тое, што Рада БНР была абсалютна не падрыхтаванай да той рэальнай палітычнай ролі, якая ёй выпадала б у выпадку дынамічнага разьвіцьця падзеяў, і ціха адышла ад ініцыятывы. Хоць, па вялікаму кошту, гэта значэньня ня мела. Пасьпяховасьць акцыі стварыла б новую палітычную рэальнасьць, новыя інстытуцыі і новае дзеяньне. Усё вырашалася б на Беларусі. – *(З. П.)*

# ПАВОЛЬНАЕ ЗАБІВАНЬНЕ ЛЮДЗЕЙ

Беларускага вязьня сумленьня Аляксея Шыдлоўскага (разам з Вадзімам Лабковічам) паўгода трымалі ў турме бяз суда. Там над ім зьдзекаваліся і зьбівалі так, што юнак трапіў у турэмны шпіталь. Пасьля палітычнай судовай расправы, якую зрабілі над ім у лютым гэтага году, ён адбываў прысуд у змрочным Пішчалаўскім астрозе ў Менску. Потым юнака перавялі ў турму ўзмоцненага рэжыму, дзе яму адразу стварылі невыносныя ўмовы існаваньня. 30 ліпеня спэцыяльная камісія разглядала пытаньне аб далейшым утрыманьні Шыдлоўскага ў турме і прыйшла да высновы, што юнак, які піша на сьценах „Жыве Беларусь!”, ёсьць небясьпечны для грамадзтва (чытай для акупацыйнага рэжыму).

Здароўе Аляксея, які ў турме спаткаў свае 19 гадоў, ужо моцна падарвалі (хворыя ныркі, сэрца, страўнік). Цяпер яно яшчэ больш пагоршылася. Зь ім абыходзяцца жорстка, зь лютай нянавісьцю. Яго лісты на волю турэмная адміністрацыя і ахова рвуць толькі за тое, што яны напісаныя па-беларуску. Турэмшчыкі цынічна папярэдзілі Аляксея, што створаць яму ўмовы, як у пекле.

Наперадзе ў Аляксея Шыдлоўскага яшчэ паўгода несправядлівага прысуду, цярпеньня, зьдзекаў і пакутаў – жыцьця „як у пекле”.

* * *

У пачатку жніўня маці лукашэнкаўскага вязьня Андрэя Клімава наведала сына ў турме. Згодна яе словаў, А.Клімаў амаль ня мае магчымасьці спаць. Яго ўтрымліваюць у цэлі, дзе разам зь ім сядзяць яшчэ 4 чалавекі. На пяцёх чалавек толькі два спальныя месцы (адзін двух’ярусны ложак). Сьпяць па чарзе. А.Клімаву выпала спаць днём. Але днём выспацца немагчыма (выклікі на допыты, да адваката, сьняданак і г.д.) Паспаць удаецца толькі 1 – 2 гадзіны. Адміністрацыя турмы і пракурор па нагляду за ўтрыманьнем вязьняў дзейнічаюць заадно. Напрыклад, перад прыходам пракурора „лішніх” сукамернікаў выдалілі і паставілі дадатковы ложак.

– Скаргі ёсьць? – спытаўся пракурор у Клімава.

Той па шчырасьці нармальнага чалавека адказаў:

– Стала лепей, ложак прынесьлі і людзей паменела.

Але як толькі пракурор зышоў, ложак зноў вынесьлі, а „лішніх” вязьняў вярнулі. Гэта клясычны спэктакль турэмных катаў, добра адпрацаваны за дзесяцігоддзі бальшавізму.

Акрамя недахопу сну, дрэннага харчаваньня і задухі А.Клімаў некалькі разоў трымаў галадоўкі. Усё гэта падарвала яго здароўе. 30-га ліпеня ён трапіў у турэмны шпіталь. Лекар прывычна кажа, што стан хворага здавальняючы. Але пры гэтым яму што тры гадзіны мераюць крывяны ціск (што робяць звычайна пры гіпертанічным крызе).

* * *

Сцэнарый здзекаў Лукашэнкі над людзьмі (які вынікае з вопыту яго турэмнай працы) вядомы даўно: пратрымаць вязьня без суда у турме і, пад выглядам сьледства, падарваць здароўе, зламаць псіхічна, разбурыць фізічна і выпусьціць (калі яшчэ выпусьціць) „руіну”, інваліда, нядздольнага да працы, да актыўнай грамадзкай і інтэлектуальнай дзейнасьці.

Такая „апэрацыя” была сьвядома праробленая з ***Тамарай Віньнікавай***, цяпер робіцца зь *юнаком* ***Аляксеем Шыдлоўскім***, *74-гадовым* ***Васілём Старавойтавым***, ***Васілём Лявонавым***, ***Андрэем Клімавым*** і ***мноствам іншых***, якія альбо беларускія патрыёты, альбо бізнэсмэны, што не дзяліліся грашыма з хунтай прэзыдэнта і рэкетам Ціцянкова. Прытым гэтымі ахвярамі апетыт „усенародна абранага” і яго заплечнікаў не ўтаймуецца. Існуе паталягічная патрэба – і яна будзе задавальняцца далей.

Ніякай літасьці тут няма і ня будзе, ніякое права, акрамя права насільля, тут не існуе, ніякія законы ня дзейнічаюць. Трэба ведаць характар НКВД, разьбірацца ў асаблівасьцях параноі і ўсьведамляць цёмную помсьлівую і несказана жорсткую пры-

роду Лукашэнкі, каб ня мець ілюзіяў адносна яго паводзінаў і ўчынкаў.

На жаль, людзі ў асноўным аналізуюць свой уласны вопыт, а не чужы, і ня схільныя давяраць інтэлекту, калі ім нешта здаецца інакш.

Тым ня менш трэба імкнуцца зьменшыць ахвяры лукашызму. Гэта ёсьць патрабаваньне любога змаганьня са злом, хоць ніякая барацьба не абыходзіцца без ахвяраў. Перш за ўсё, трэба ведаць прыроду рэжыму, матывы і характар яго паводзінаў. Увязьненьне людзей ня ёсьць для Лукашэнкі толькі мэтад пакараньня і застрашэньня. Гэта, паўтараю, перш за ўсё ёсьць мэтад зьнішчэньня асобы. Ужываецца прыём павольнай сьмерці. Павольнасьць, дакладней – усьведамленьне працэсу павольнасьці, прыносіць сатысфакцыю і псіхічнае задавальненьне дыктатару. Калі ён уяўляе жаласны голас і дрыжачыя рукі старога В.Старавойтава, некалі самаўпэўненага і ганаровага „героя сацыялізму”, Лукашэнка напаўняецца пачуцьцём асалоды і радасным помсьлівым трымценьнем. Гэта такі тып чалавека і такая паталёгія псіхікі. Неадэкватнае ўспрыняцьце і няправільная ацэнка гэтага роду людзей прыводзяць да расплаты.

Спэцыялісты псыхолягі ведаюць, што нельга прасіць літасьці ў забойцы і гвалтаўніка. Гэта толькі ўзбуджае і раззадорвае забойцаў. Найлепшы мэтад выратаваньня, калі нельга пазьбегнуць нападу, – біць, біць на паражэньне.

Галадоўка ў акупацыйнай турме ва ўмовах антыдэмакратычнага рэжыму і бяспраўя выкарыстоўваецца рэжымам для паступовага забіцця асобы і ніяк не ўплывае на сам рэжым. Гэта трэба разумець і супраціўляцца павольнаму забіцьцю, а не спрыяць яму.

У 1996-м, калі галадоўку ў арышце трымалі Вячаслаў Сіўчык і Юры Хадыка, толькі шчасьлівы зьбег абставінаў (ці мо' лёс) дазволіў прадухіліць сьмерць В.Сіўчыка і вызваліць абодвух з-пад варты. В.Сіўчык, які нікім ня быў папярэджаны пра медыцынскія правілы галадоўкі, знаходзіўся ў крытычным стане, і дарогі назад ужо, фактычна, не было. Ніякія спробы грамадзкасьці ў Беларусі вызваліць арыштаваных і ніякія нашы з Сяргеем Навумчыкам захады перад заходнімі палітыкамі, лаўрыятамі і арганізацыямі за мяжой ня мелі і не маглі мець посьпеху з-за тых жа псыхалягічных асаблівасьцяў Лукашэнкі, пра якія я казаў вышэй. На Лукашэнку тады, у 1996 годзе, мог паўзьдзейнічаць толькі Б.Ельцын. Але Ельцын не хацеў узьдзейнічаць, бо БНФ для Расеі „враг”, а Лукашэнка „друг” (якога расейцам добра б было да таго ж павязаць злачынствамі).

Дапамог выпадак. Стала вядома, што рыхтуецца сустрэча Ельцына і Яўлінскага на прадмет выкарыстаньня галасоў выбаршчыкаў Яўлінскага (як аднаго з кандыдатаў у прэзыдэнты Расеі) у выбарчай кампаніі Ельцына. Павінен быў адбыцца гандаль. Своечасовую ініцыятыву тут праявіў Сяргей Навумчык. Цераз польскую Гэльсінскую фундацыю (дакладней, праз яе кіраўніка спадара Марэка Навіцкага) ўдалося выйсьці на Сяргея Кавалёва, якога папрасілі пагаварыць зь Яўлінскім, каб той адной з умоваў „гандлю” зь Ельцыным паставіў вызваленьне В.Сіўчыка і Ю.Хадыкі. Яўлінскі згадзіўся і ўмову паставіў. У час размовы зь Яўлінскім Ельцын вымушаны быў пазваніць Лукашэнку і патрабаваць вызваліць арыштаваных. Гэта выратавала справу. (Дарэчы, усім, хто спрыяў у справе вызваленьня арыштаваных, засьведчваем нашу ўдзячнасьць).




*45. Локцевы прыём супраць дэманстранта. Менск.*

* * *

Улічваючы паводзіны Лукашэнкі і абставіны на Беларусі, ужо даўно пара зьвярнуць асаблівую ўвагу на абарону здароўя і жыцьця вязьняў рэжыму. „Вясна-96”, якая нямала ўвагі ўдзяляе гэтай справе, пэўна, магла б, як найбольш сур'ёзная праваабарончая арганізацыя ў Беларусі, распрацаваць спэцыяльную праграму „выратаваньня вязьняў у турме”. Трэба спыніць ланцуг лукашэнкаўскіх забойстваў (сьмерць рабочага мэтрабудаўца, сьмерць Бабуджыева, Казлоўскага, Філіпчанкі), трэба спыніць мэтанакіраванае руйнаваньне здароўя людзей у турме. Садысцкія забойствы, расьцягнутыя ў часе, якія практыкуе рэжым Лукашэнкі, каб дагадзіць свайму калгаснаму сатрапу, ёсьць забойствы з абцяжарваючымі абставінамі. Пара ўсім прыглядзецца да павольнага мардаваньня людзей у турмах лукашысцкага рэжыму, бо гэта ёсьць злачынства супраць чалавецтва, якое адбываецца ў нас на вачах.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 4(14); Навіны, – 1 верасьня 1998).*



*46. Палачны рэжым. Менск.*

# НА ЎСХОДЗЕ ЭЎРОПЫ

Некалькі тыдняў у чэрвені доўжыўся дыпляматычны скандал у Менску. У выніку 9 краінаў, у тым ліку ЗША і краіны Эўрапейскай Вуніі, адклікалі на нявызначаны тэрмін сваіх паслоў.

Дыпляматычную вайну з Заходнімі пасольствамі рэжым Лукашэнкі пачаў адразу пасьля лістападаўскага перавароту ў 1996 годзе. У пачатку 1997 года, калі поўным ходам рыхтавалася другая спроба анэксіі Беларусі і складаліся дакуманты аб умовах гэтак званай „інтэграцыі" з Расеяй, тады Лукашэнка справакаваў першы скандал з Заходнімі пасольствамі. Ён груба абвінаваціў паслоў, як было сказана, „краінаў НАТО" у змове супраць яго ўлады і ў падрыўной дзейнасьці. Ён спасылаўся пры гэтым на сустрэчу і сумесную нараду эўрапейскіх паслоў у пасольстве Вялікабрытаніі.

Першая правакацыя не дала вынікаў. Рэжым палітычна і псыхалягічна прайграў. Але Захад не зрабіў з гэтага інцыдэнту ніякіх высноваў. Як, зрэшты, і шмат хто ў Беларусі.

Наяўнасьць замежных пасольстваў гэтак жа, як наяўнасьць нацыянальных грошай, межаў і войска, зьяўляецца адным з чатырох вызначальных чыньнікаў суверэнітэту краіны. Палітыка-эканамічная дзейнасьць Расеі па падпарадкаваньні Беларусі плянавалася найперш у зьнішчэньні гэтых асноўных аспэктаў суверэнітэту.

У 1992 годзе, калі павінен быў адбыцца рэфэрэндум аб новых парляманцкіх выбарах і камуністычная намэнклятура магла страціць уладу, тады прэм'ер-міністар В.Кебіч, пры поўнай згодзе сьпікера С.Шушкевіча, пайшоў на змову з расейскай алігархіяй і шырока адчыніў дарогу КГБ–ФСБ у кіраўніцтва і палітыку Беларусі. Тады галоўным накірункам удару па незалежнасьці Беларусі была найперш ідэя стварэньня так званай „адзінай грашовай сістэмы" з Расеяй. (Гэта значыць, пазбаўленьне Беларусі ўласнай нацыянальнай валюты.)

Другім аспэктам расейскай палітыкі супраць Беларусі стала тады стварэньне так званай „калектыўнай бясьпекі", якая стварала залежнасьць беларускай ваеннай дзейнасьці і вайсковага будаўніцтва ад Расеі. Гэтая мэта была, практычна, дасягнутая і потым пастаянна замацоўвалася.

У тых жа 1992-93гг. пастаянна мусіравалася пытаньне аб увядзеньні ў структуру экономікі Беларусі чыннасьці расейскіх фінансава-прамысловых групаў і аб „канфэдэрацыі" Беларусі з Расеяй, якая зьмяніла б статус беларускіх дзяржаўных межаў. Пытаньне з пасольствамі вырашалі б у апошнюю чаргу, і таму у часы Кебіча-Шушкевіча яно практычна не закранался.

Пасьля ўсталяваньня прэзыдэнцкай улады Лукашэнкі (што зьяўлялася перш за ўсё эфэктыўнай і татальнай перамогай палітыкі КГБ і расейскіх спэцслужбаў у Беларусі) усе пытаньні павінны былі вырашацца адным заходам – „інтэграцыяй" з Расеяй. Тым ня менш падрыхтоўка ішла па ўсіх аспэктах. У 1995-м годзе была ліквідаваная беларуска-расейская мяжа, потым – умацаваны расейскі кантроль над беларускім войскам; пачаліся грубыя атакі на пасольствы Заходніх краінаў.

Грубая і падкрэсьлена зьняважлівая форма выгнаньня заходніх паслоў зь Беларусі мела значэньне найперш у тым сэнсе, што павінна была выклікаць адназначную і пэўную рэакцыю ў адказ (абурэньне і выезд зь Беларусі). Рэжым гэтага дамогся. Па-другое, зьняважлівая форма і фразы наўздагон (тыпу „мы нічога ня будзем рабіць, бо яны ўсяроўна вернуцца", альбо „іх вяртаньне магчымае толькі з нашага дазволу") ці абвінавачваньне ўсіх заходніх пасольстваў у правакацыі і ў невыкананьні Венскай канвэнцыі і г.д. – усё гэта сказана якраз дзеля таго, каб не дапусьціць вяртаньня паслоў і не нармалізаваць стасункі ў будучыні.

Хамства і зьняважлівасьць у дадзеным выпадку зьяўляецца сьвядомым мэтадам паводзінаў дзеля дасягненьня пастаўленых мэтаў (якія, паўтараю, былі дасягнуты). Пры тым рэзыдэнцыя рускага пасольства была заранёў пераведзена ў расейскую ўласнасьць, і праблемаў з Расеяй ня ўзьнікла, нягледзечы на рэзкае захоўваньне Лукашэнкі.

Выгнаньне паслоў – безумоўная перамога рэжыму Лукашэнкі (у тым сэнсе, у якім ён разумее гэтую перамогу) і чарговае паражэньне Захаду, які ізноў жа засьведчыў сваю бездапаможнасьць і дрэннае разуменьне ўвогуле таго, што адбываецца на Беларусі.

Прадстаўнікі *БНФ* дастаткова канкрэтна выказаліся пра сэнс правакацыі з пасольствамі. Са свайго боку, я таксама не палічыў лішнім зьвярнуцца зь некалькімі лістамі да паслоў Заходніх краінаў і выкласьці свае меркаваньні. Аднак, відаць, у абставінах пустапарожніх кпінаў пра катаньне Лукашэнкі на ролікавых каньках і бытавых размоваў пра пашырэньне прэзыдэнцкай рэзыдэнцыі, палітычны зьмест акцыі і своечасовае супроцьдзеяньне ёй засталіся ў баку. Заходнія паслы, прыніжаныя і зьняважаныя, зь вясёлымі ўсьмешкамі выпілі шампанскага перад тэлекамерамі, сказалі тосты і прадэфіліравалі перад рэзыдэнцыяй Лукашэнкі (маўляў, глядзіце, мы ад'язджаем), да вялікай радасьці апошняга. Можна нават уявіць зларадныя словы, якія ён, рагочучы, паслаў усьлед пасольскаму картэжу. Я ўжо не кажу пра тое, што заходнім дыпляматам, відаць, і ў галаву не прыходзіць, што большая частка люмпэнскага, маргінальнага грамадзтва, савецкая інтэлІгенцыя ўспрымаюць паводзіны Лукашэнкі як сьмелы мужны ўчынак моцнага прэзыдэнта, які выгнаў заходніх паслоў.

Недаацэнка рэжыму і неўласьцівае разуменьне сытуацыі выявілася таксама і ў тым, што Лукашэнку ў гэты ж час запрасілі ў Швайцарыю на міжнародны гаспадарчы форум у Кранс Мантана. Запрасілі на кароткі час, але гэтага яму было дастаткова, каб спакойна зрабіць дэмарш, неабходны рэжыму, і выставіць сябе ахвярай перад Захадам.

Тое, што сказаў Лукашэнка ў Швайцарыі, пачуў і ўбачыў увесь сьвет. Рэакцыя ж заходніх палітыкаў і страшаньне Лукашэнкі ізаляцыяй нагадвае заключную сцэну з камэдыі *„Міхалка"* Далецкіх:

– Падам на цябе ў газэты, – кажа Язэп Карыта, – усё жыцьцё будзеш старым мальцам.

– Во настрашыў, – адказвае Міхалка, – я ж газэтаў не чытаю.

Лукашэнку ў Эўропу не запрашаюць. Ізаляцыя яго існуе сама па сабе, таму ён правакуе Эўропу да дзеяньняў, каб мець падставу дзейнічаць у адказ у абставінах „варожага атачэньня", так неабходнага прапагандысцкай машыне рэжыму ў цяперашняй яго тупіковай сытуацыі. У рэжыма свая савецкая лёгіка і псыхалёгія. Імі ён і кіруецца.

* * *

Сымптаматычна, што Захад, як зрэшты і ўвесь сьвет, часам ня хоча рабіць неабходных высноваў з гісторыі. У палітыцы сур'ёзна не ўспрымаюць людзей некультурных, неадукаваных, нахабных і нявыхаваных, ды яшчэ і з брыдкімі манерамі і ненармальнымі паводзінамі. Але адна справа – такі „арыгінал"

у звычайным жыцьці, дзе ён ні на што ня здольны і нічога ня можа, а другая справа – ва ўладзе, дзе магчымасьці вялікія, а для дыктатара, фактычна, неабмежаваныя, бо тады авантурыст атрымлівае інструмэнт для ажыцьцяўленьня сваіх самых неразумных авантураў, за якія потым расплочваецца ўся нацыя (ці нават – усё чалавецтва).

Гэтак не ўспрымалі ўсур'ёз, пасьміхаліся і кпілі з экстравагантных паводзінаў Леніна і Гітлера, грэбвалі крымінальнікам Сталіным і іншымі меншымі фюрэрамі. Што натварылі гэтыя „ненармальныя і прымітыўныя" фюрэры і правадыры, умацаваўшы абсалютную ўладу, вядома.

Пастаянная недаацэнка Лукашэнкі з увагі на яго неабчэсанасьць і псыхапатычнасьць спрыяе перамозе Лукашэнкі над дызарыентаваным Захадам, перамозе ў тым сэнсе, як ён яе разумее, пачынаючы ад расстрэлу амэрыканскага паветранага шара і канчаючы выгнаньнем паслоў мэтадам адключэньня вады, газу і электрычнасьці.

Для Захаду было вельмі цяжка зразумець, што Лукашэнка прышоў да ўлады ня сам па сабе, што за ім, акрамя расейскіх спэцслужбаў, стаіць, фактычна, ўся імпэрыялістычная Расея, якая цераз яго парводзіць сваю акупацыйную палітыку ў Беларусі, і ня толькі ў Беларусі. Калі ў 1996 годзе мне і С.Навумчыку прыходзілася спатыкацца з шэрагам украінскіх, чэскіх, ангельскіх і амэрыканскіх палітыкаў і аналітыкаў, то ўсе яны ў адзін голас нам казалі, што Ельцын гуляе з Лукашэнкам „у інтэграцыю" толькі дзеля таго, каб выйграць прэзыдэнцкія выбары, што, як толькі выбары скончацца, то скончыцца і „інтэграцыя". Калі ж мы казалі ім, што яны глыбока памыляюцца, што ў аснове самога рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі ляжыць расейская геапалітыка, тады яны слухалі з скептычным недаверам.

Далейшыя падзеі 1996 і 97-га гадоў, імкненьне Расеі анэксаваць Беларусь паказалі ўсю павярхоўнасьць заходніх ілюзіяў, але сур'ёзных высноваў з гэтага зроблена не было.

Заходняя палітыка адносна Беларусі малаэфектыўная, таму што Захад баіцца закрануць Расею і робіць выгляд, быццам у тым, што сталася зь Беларусьсю, Расея ні пры чым. Каб не дражніць Расею і не пярэчыць яе акупацыйным намерам, Захад баіцца аказваць канкрэтную і нават мінімальную дапамогу Беларускаму Вызвольнаму руху, галоўнай арганізаванай сіле беларускай дэмакратыі і беларускага супраціўленьня. Заходнія афіцыйныя палітыкі і арганізацыі гатовыя тым часам дапамагаць любым здэнацыяналізаваным маргіналам, якія яўна ці тайна арыентуюцца на Маскву і нікога не пардстаўляюць, акрамя як саміх сябе. Здарыўся нават выпадак, калі ў траўні гэтага году грашовай прэміяй Захаду быў узнагароджаны ў якасьці праваабаронцы ў Беларусі былы палкоўнік КГБ.

* * *

Часам мне здаецца, што перамгчы заходні „ілюзіянізм" справа гэтакая ж безнадзейная, як і справа пераконваньня „саўка" на абшарах былога СССР. Філісьцер не разумее „савета", а „савет" ненавідзець філісьцера.

Агульнавядома, што тайная паліцыя і служба бясьпекі набываюць найбольшы ўплыў тады, калі развальваюцца структуры дзяржавы. Асабліва, калі гэта – звышдзяржава і таталітарная краіна.

Пасьля краху камунізму ў Эўропе найбольш адпаведна і рашуча дзейнічалі немцы, якія, пасьля ўзьяднаньня, адразу забаранілі камуністычную тайную паліцыю „Штазі" і запабеглі яе далейшаму існаваньню. Пэўныя крокі па разбурэньні камуністычнага КГБ зрабілі ў Чэхіі, Вэнгрыі і Польшчы. Аднак, практычна, нічога не было зроблена ў гэтым сэнсе ў Беларусі, на Украіне, у Расеі, Малдове, у азіяцкіх краінах, і ў большасьці Каўказкіх краінаў. Савецкі НКВД–КГБ тут паўсюдна застаўся; потым ён рэарганізаваўся ў новых умовах і ўступілў ў палітыка-эканамічную барацьбу за ўладу.

Аналізаваць дзейнасьць гэтай дзяржаўнапалітычнай сілы можна па ўскосных чынніках і па выніках. Гэта вельмі мала для падрабязнага разгляду. Аднак тое, што мы ўжо назіраем, дае падставу ўбачыць рэальную пагрозу незалежнасьці у першую чаргу – незалежнасьці Беларусі і Украіны, а ў пэрспэктыве – пагрозу для дэмакратыі і міру ў Эўропе.

Перамога ў Беларусі ў 1994-х, 1996-х гадах (прывод Лукашэнкі да ўлады і антыканстытуцыйны пераварот) яскрава паказалі мэты, стратэгію і тактыку дзеяньняў сілаў дзяржаўнай бясьпекі былога СССР. Аднак пасьля няўдачы ў 1997 годзе ў барацьбе за „інтэграцыю" з Расеяй і за Крэмль, пачаліся пошукі запаснога варыянту, які разыгрываецца ўжо ў Расеі з былым савецкім генералам А.Лебедзем. І, дарэчы, пакуль што па той жа схеме, як і з Лукашэнкам.

Злавеснасьць пэрспэктывы гэтых варыянтаў у тым, што абодва яны гальванізуюць і легалізуюць рускі камуна-фашызм-кагэбізм, які ў Расеі поўнасьцю падтрымліваецца спэцслужбамі, у значнай ступені – войскам і дзяржаўнымі структурамі. Умовы для пашырэньня фашызму ў Расеі цяпер таксама спрыяльныя. Крымінальная дзяржава алігархаў функцыянаваць ужо, фактычна, ня можа. Забастоўкі галодных, даведзеных да роспачы масаў людзей, будуць і надалей безвынікова скаланаць яе арганізм, але доўга такое становішча ня можа трываць. Захад, які знаходзіцца ў палоне пра-рускіх ілюзіяў і заганнай палітыкі, зноў пачне кідаць у Расею дзясяткі мільярдаў даляраў. Гэта не дапаможа, а ад мільярдаў не застанецца і сьледу. Мэханізм небывалай карупцыі і небывалага рабаваньня створаны. Ён здольны бясьследна пераварыць любыя сумы.

Пакуль што алігархі трымаюцца за Ельцына (сытуацыйнага адпаведніка Гіндэнбурга). Але ўсё рухаецца па клясычным нямецкім узоры зь мясцовымі асаблівасьцямі. І нішто так не спрыяе ажыцьцяўленьню гэтага карычневага узору, як шчодрая, наіўная і, я б сказаў, хранічна недальнабачная заходняя палітыка на Ўсходзе. Стрэс, які ўсё больш глыбока пачынае забіраць Расею, можа быць спынены не мільярднымі ўліваньнямі заходніх „рэаніматараў", а распадам гэтай шматковай імпэрскай дзяржавы на асобныя краіны і рэгіёны, якія здолеюць самы існаваць і даць магчымасьць выжыць насельніцтву. Але заходнія мільярды аб'ектыўна ўжо падрыхтавалі іншы варыянт. Расейская алігархія, ратуючыся, гатова будзе здаць уладу карычневым з „Кагэбэ". Яшчэ адна злачынная дзяржава можа зноў зьявіцца на мапе сьвету. І гэта ня тое, што Калюмбія, Ірак і нават Іран. Ня выключана, што з гэтага часу можа зноў пачацца новая гісторыя падзеленай Эўропы, якую, магчыма, ужо потым ня будзе каму асэнсаваць.

Нават элемэнтарная лёгіка паказвае, што заходняя дэмакратыя павінна б была пашыраць сваю прастору і падтрымліваць нацыянальна-вызвольныя незалежніцкія сілы Беларусі і Украіны, каб зьменшыць патэнцыял і абсяг будучай злачыннай дзяржавы. Трэба было рашуча спрыяць хутчэйшаму ўмацаваньню незалежнасьці Беларусі і Украіны і далучэньню іх да сфэры стасункаў эўрапэйскага сьвету. Замест гэтага заходнія краіны пачалі кідаць свае мільярды ў чорную дзіру расейскай алігархіі.

Калі вясной 1996 года, ратуючыся ад перасьледу, я вымушаны быў эміграваць за мяжу, то ў Эўропе я ўбачыў, што Беларусь тут ужо маўкліва здадзена Крамлю.

Спатрэбілася вялікая ахвярная барацьба Беларускага Народнага Фронту ў Беларусі і энэргічная палітычная праца на Захадзе за мяжой, каб прыпыніць анэксію, выявіць і ізаляваць акупацыйны рэжым Лукашэнкі. Аднак вялікае змаганьне за вольную Беларусь і барацьба, якая пераменіць яе становішча і лёс, гэтая барацьба яшчэ наперадзе.

*30 чэрвеня 1998 г. г.Варшава*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 3(13).*

# „МЫ СПАТКАЕМ БУДУЧЫНЮ Ў ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ”

*(Інтэрв'ю Галіны Навумчык)*

***– 29 сакавіка 1996 года Вы, усьлед за Сяргеем Навумчыкам, вымушаны былі пакінуць Беларусь. Праз месяц, 26 красавіка, Вы нечакана прыехалі ў Менск на «Чарнобыльскі Шлях» і высьлізнулі з рук групы захопу. Нарэшце, 8 траўня надоўга пакінулі Бацькаўшчыну. З аддаленасьці двухгадовай даўніны і двухгадовага вопыту жыцьця на чужыне, як Вы ацэньваеце гэты крок, яго вынікі і пэрспэктывы?***

– Я ўспрымаю сваё жыццё і сваю дзейнасьць як пасьвячэньне беларускай справе. Гэта я ўсьвядоміў з маладых, яшчэ школьных гадоў, ведаючы лёс дзеда. Таму да палітыкі я адношуся сур'ёзна і бавіцца ў палітыку не зьбіраюся.

Змушаная эміграцыя ёсьць працяг палітыкі на іншым узроўні. У эміграцыі дзейнічаюць і змагаюцца палітычныя кіраўнікі і цэлыя эміграцыйныя ўрады, якія часта перамагаюць і вяртаюцца з трыюмфам. З майго боку была вялікая рызыка і вялікая адказнасьць, бо трэба было абавязкова перамагчы. Інакш усё абярнулася б страшэннай паразай: маёй асабістай, усяго Фронту і ўсяго беларускага адраджэньня.

***– Калі вы атрымалі палітычны прытулак, я знаходзілася у Празе, на радыё «Свабода», я бачыла, што ўсе стужкі сусьветных інфармагэнцтваў пачыналіся з гэтай навіны. Яна камэнтавалася як прызнаньне антыдэмакратычнасьці рэжыму на Беларусі. Ці не самая ўплывовая газэта ў сьвеце – «Нью-Ёрк Таймс», заўсёды асьцярожная ў сваіх ацэнках, зьмясьціла тады рэдакцыйны артыкул пад назвай «Тыран Беларусі». Гэта была параза Лукашэнкі. Але можна ўявіць і тое, які б вэрхал падняўся на Беларусі, калі б урад ЗША адмовіў вам у палітычным прытулку.***

– Так, паўтараю, гэта была вялізная рызыка. Аднак учынак, як зараз відавочна, быў варты рызыкі. Я цяпер прааналізаваў падзеі холадна, прыдзірліва і самакрытычна і прыйшоў да высновы, што, калі б не эміграцыя і ня наша з Сяргеем дзейнасьць на Украіне, у Чэхіі, Вялікабрытаніі і асабліва ў Польшчы і ЗША, то ў 1996 годзе Беларусь рэальна і фармальна страціла б незалежнасьць. Мітынгі і дэманстрацыі супраць анэксіі, якія распачаў у гэты час Народны Фронт, патрабавалі палітычнай падтрымкі на Захадзе. Беларусь ужо была прададзена Маскве (мы гэта ўбачылі). Захад маўкліва згадзіўся. І не было там ніводнага чалавека, які б гучна і зь веданьнем справы заступіўся б за Беларусь. Больш таго, нікога б і ня слухалі. Але да мяне не маглі не прыслухацца. Гэта ўсьведамлялі я, Сяргей і лукашэнкаўская маскоўская заплечная каманда. Больш, на жаль, ніхто.

***– І Народны Фронт?***

– Спачатку – так. І Народны Фронт. Разуменьне прыйшло пазней. Ужо пасьля галоўных падзеяў.

На жаль, гэта ня дробязь. Магчымасьці, якія былі перада мной, я змог скарыстаць з гэтай прычыны толькі часткова. Астатнія страчаны. У 1996 годзе мы з Сяргеем схапіліся за галаву: унікальная магчымасьць, калі старшыня Фронта вымушаны ратавацца за мяжой, а потым важнейшая падзея для сусьветнай прэсы – палітычны прытулак у ЗША (а значыць, і прызнаньне наяўнасьці на Беларусі недэмакратычнага рэжыму) – усё гэта не было скарыстана ў Беларусі нават на нуль працэнтаў, нягледзячы на ўсе мае падказкі. Але, як Вы бачыце, я не шукаў і не шукаю вінаватых, бо разумею, які ў нас агульны палітычны вопыт і ўзровень, ня кажучы ўжо пра палітычны ўзровень грамадзтва. Здольнасьці беларусаў увогуле выяўляюцца не ў палітыцы. На жаль. Тым ня менш, агульнымі высілкамі паўсправы зроблена. Як кажуць, засталося толькі – ліквідаваць рэжым.

***– На Беларусь даходзіць вельмі абмежаваная інфармацыя пра Вашую палітычную дзейнасьць, а ёсьць жа яшчэ і асабістае жыцьцё, сям'я, здароўе, жыцьцёвыя пляны...***

– Стварылася вялікае выпрабаваньне для сям'і: жонкі, дачкі, маці. Трываюць мужна. Жонка і дачка ў Варшаве. Большую палову часу мне даводзіцца быць за акіянам. А ўвогуле – гаварыць пра гэта ня хочацца.

Пляны? Асабістыя пляны, якія былі ў Беларусі, паламаліся. Сытуацыя ў Беларусі, паводзіны Лукашэнкі і падзеі вакол мяне настолькі зразумелыя і відавочныя, што, прыняўшы на працягу 2-х хвілінаў (гэтаму вы былі сьведкай) рашэньне аб выезьдзе, я ня меў потым ні сумненьняў, ні ваганьняў. Хаця была пагроза страціць і сям'ю, і Бацькаўшчыну, і палітычную будучыню, і добрае імя. Але ў тым і справа, што вялікая палітыка – гэта і вялікая рызыка, і вялікая адказнасьць, і адкрытая барацьба.

У жыцьці мне часта даводзілася рабіць выбар, вымушана разлучацца са звыклым і неабходным. Але ахвяра, так бы мовячы, якую я зрабіў у 1996 годзе, для мяне найвялікшая. Цяпер, азіраючыся назад, я адчуваю маральнае і інтэлектуальнае задавальненьне ад таго, што зрабіў правільна, ад таго, што не дапусьціў памылкі, што добра зрэагаваў на сытуацыю (нечакана для лукашыстаў), што ўдалося зрабіць амаль немагчымае: паўплываць на палітычны працэс.

***– Але Вашая адсутнасьць на Беларусі, як лічаць некаторыя, дрэнна адбілася на палітыцы і змаганьні БНФ. Мяркуюць, што калі б Вы былі на Беларусі ў 1996 годзе, калі б знаходзіліся ў тую лістападаўскую ноч каля Шарэцкага і Ціхіні, то падзеі маглі б павярнуцца інакш.***

– Гэта калі б я быў. Але выбар заставаўся такі: альбо сьмерць, альбо ізаляцыя (пра варыянт «сьмерці» я ведаў з 1995 года). Так што ўплываць на падзеі я б ня змог. Гэта горшы варыянт, калі

б я быў выключаны з палітыкі на Беларусі наогул. І на Захадзе таксамі нікога не было б у патрэбны момант. Хуткае рашэньне аб эміграцыі было правільным.

Лічу, што правільна ацаніў сытуацыю і Сяргей. Лукашэнка зь ім раськвітаўся б горш, чым зь Віньнікавай і Лявонавым.

***– Але ўвесь афіцыёзны бок, афіцыёзны друк, частка незалежнай прэсы, некаторыя прыхільнікі дэмакраты і Народнага Фронту сьцьвярджалі і пісалі, што Вам нічога не пагражала, што трэба было вярнуцца, што Вы зрабілі памылку, зьехаўшы за мяжу. Яны і цяпер задаюць пытаньне: «Калі гэта Пазьняк, нарэшце, вернецца?»***

– Адносна афіцыёзу, рускага друку, розных кагэбісцкіх гарлапанаў і лукашысцкіх дзеячоў – ня будзем марнаваць час і паперу. Што датычыцца розных «аналітыкаў» і розных крытыканаў, то ізноў жа, дзеля эканоміі часу скажу коратка і жорстка: палітыка – гэта мастацтва ня слухаць дурняў. Два гады таму ім яшчэ можна было б нешта тлумачыць (хоць ўсё роўна не разумелі б) – цяпер патрэбы няма.

Пасьля нашага выезду зь Беларусі ў сакавіку 96-га на Украіну, а адтуль у Чэхію і Польшчу, Замяталін заявіў, што нам нічога не пагражае. МЗС нават прыняў адмысловую заяву на гэты конт. Канешне, я ня верыў ні Замяталіну, ні лукашэнкаўскім дыпляматам. Але 26 красавіка 1996 г. я прыехаў у Менск на Чарнобыльскі Шлях і выступіў на мітынгу...

***– Я была ў тыя дні побач з Вамі, калі Сяргей па Вашым настойлівым патрабаваньні застаўся ў Варшаве. Прыйдзе час, і я падрабязна распавяду пра тыя падзеі, і як на берасьцейскім вакзале адчапілі вагон, у якім мы з Вамі ехалі, і што таксіста (потым мы даведаліся), які нас вёз зь менскага вакзалу, дапытвалі ў КГБ. І як „група захопу” ўварвалася ў сядзібу БНФ, а мы з Вамі і з Юры Хадыкам за хвіліны да гэтага пасьпелі выйсьці праз другі, мала каму вядомы, выхад. Потым – два тыдні Вашага знаходжаньня на канспіратыўнай кватэры, патаемны выезд праз Украіну...***


(Фота з Сеціва)

***47. Касьцёл у Суботніках.***

–Удалы вынік усяго гэтага можна лічыць незвычайным зьбегам абставінаў, ды і проста цудам. Няздарма Лукашэнка выдаў загад: «Пазьняка і Навумчыка пры ўезьдзе-выездзе затрымаць», а КГБ за тое, што не злавілі Пазьняка, адпясочыў так, што паляцела пер'е.

І што, афіцыёз, лукашысты, лібералы, дэмакраты, Зімоўскі, Якубовіч, Фядута і іншыя ненавісьнікі Беларушчыны ня ведаюць пра ўсё гэта? Ведаюць. Дык спынілі яны сваю прапаганду? Спынілі лямант, што „Пазьняку нічога не пагражае” і „чаму Пазьняк не вяртаецца”? Не спынілі. Гэтая публіка ведае, што кажа, каму і за што.

У час маіх прыездаў на Украіну двойчы пракуратура і двойчы лукашысцкае КГБ (усяго – чатыры разы) патрабавалі ад украінскіх уладаў выдаць мяне. І ўсе разы украінцы ім адмовілі.

Калі я быў ў Вільні з 23 па 28 сакавіка 1997 года, лукашысты таемна прыслалі групу захопу з шасьці чалавек на трох аўтамабілях. Пра гэтую авантуру даведаліся тыя, каму трэба, і прынялі адпаведныя захады. Мне паведамілі, што ад мяжы да Ашмянаў праз кожныя тры кілёметры стаялі групы аўтаматчыкаў па пяць чалавек і правяралі кожную машыну. Чакалі мяне, бо ведалі, што я плянаваў прыехаць на 25 сакавіка ў Менск.

Я занадта шмат ведаю, каб прымаць пад увагу лукашысцкую прапаганду.

***– Некаторыя кажуць і так: «Лепш было б, каб Пазьняк трапіў у турму і там яго забілі». Маўляў, тады б усе Вас аплакалі, Вы б сталі пакутнікам, сьцягам нацыі, пад які б паўсталі ўсе беларусы...***

– Я чытаў гэтае ў адной рускай кагэбісцкай газэтцы (артыкул «Сказка о Зеноне – освободителе и зелёном змие-искусителе»). Пакінем гэтую тэму для яе аўтараў. Я псіхічна здаровы чалавек, каб яе яшчэ і абмяркоўваць.

***– Але, Зянон Станіслававіч, размовы пра Вашае неадкладнае вяртаньне ды Вашую палітычную ролю не спыняюцца і па сённяшні дзень. У тым ліку – і сярод Вашых прыхільнікаў. Гэта – факт.***

– Мая эміграцыя – гэта ня толькі выпрабаваньне для мяне, але і выпрабаваньне на палітычную сьпеласьць маіх паплечнікаў, а ў пэўнай ступені – выпрабаваньне і для беларускага грамадзтва. І трэба яшчэ паглядзець, хто вытрымлівае гэты экзамен лепш, хто аказаўся больш спелым і мацней падрыхтаваным.

Калі ў гэты час я чую выказваньні калег, што той ці іншы мой аднадумец (маўляў, у адрозьненьне ад мяне) „радзіму б не пакінуў”, што яму „з радзімы бегчы няма куды” і гэтак далей, то можна сказаць адно: савецкі чалавек будзе жыць доўга, незалежна ад таго, усьведамляюць яны свае словы, ці не ўсьведамляюць, якую прымітыўную савецка-гэбоўскую лухту яны паўтараюць.

***– Можна сказаць, што Ваш вобраз, які ствараецца ў грамадзтве з самага пачатку Вашай палітычнай дзейнасьці, спачатку камуністычнай, а цяпер вось і луканшэнкаўскай прапагандай, – скажоны і, так бы мовіць, неадпаведны «арыгіналу». Вам ня крыўдна? Бо раптам так станецца, што ніхто ніколі не даведаецца ні пра Вашыя кнігі, напісаныя і ненадрукаваныя, ні пра Вашыя вершы, ні пра палітычныя справы. Што тады застанецца для гісторыі?***

– Па-першае, яшчэ шмат што ў нас усіх наперадзе. Па-другое, праблемы гісторыі лепш за ўсё пакінуць самой гісторыі. Калі гісторыя будзе антыбеларуская, то ня толькі вобраз скрываць, але й магілу затопчуць, як некалі рускія конскімі капытамі затапталі магілу аднаго з кіраўнікоў паўстаньня ў Беларусі і Польшчы ***Траўгута***, пусьціўшы на яе конны атрад п’яных казакоў.

Калі ж гісторыя, а дакладней, гістарычная будучыня, станецца беларускай, за што мы змагаемся і ў імя чаго працуем, не зважаючы ні на зьдзек, ні на паклёп, то яна сваю справу зробіць.

***– Якой Вам бачыцца будучыня Беларусі?***

– Зь Беларусяй, веру, усё выйдзе яшчэ на добрае, хоць і страцім шмат. Шмат што зьнявечыцца, але шмат што і загартуецца. І ўзмацнее. Чым мы станем на калені, хутчэй Масква здохне.

Спадзяюся, што вольную будучыню мы спаткаем з Сяргеем у вольнай Беларусі.

*Варшава-Нью-Ёрк*

***Гутарыла Галіна НАВУМЧЫК***

*Надрукавана: („ Беларуская Маладзёжная”, 1998, 26 чэрвеня).*

# ПЕРАМАГАЕ СІЛА ДУХУ

Калі мы азіраемся ў глыбіню нашай гісторыі XX стагоддзя, ў пакутлівае і сьветлае нашае беларускае Адраджэньне, мы бачым шмат магутных асобаў: змагароў і паэтаў, якія сымвалізуюць сабой цэлыя зьявы і цэлыя эпохі. Але кожнаму часу бліжэй нехта асаблівы, нехта той, хто пераклікаецца з намі.

Тым, якія пакутуюць і змагаюцца з ганебным антыбеларускім рэжымам, найбольш адклікаецца верная і непахісная, незабыўная Ларыса Геніюш. 9-га жніўня Дзень яе нараджэньня.

Тады яна была адна. Бальшыня тых, што лічылі сябе разумнымі, супрацоўнічалі з камунай, пісалі і лісьлівілі. Але ў памяці і творчасьці засталася яна. Яе вершы чытаюць лепшыя людзі, яе вершы маюць значэньне і сэнс, яе вершы ёсьць.

Ад разумнікаў засталася чорная дзіра савецкай літаратуры – небыцьцё, змарнаваная творчасьць.

Ларыса Геніюш адна патрапіла змагацца з савецкім рэжымам. Яна была знакам *Свабоды* і *Веры* ў Беларусі. Яе дом, яе асоба былі пад наглядам КГБ. Хто любіў і верыў, той ступаў у гэты дом. Хто скарыўся бальшавікам, спадзяваўся на іхнюю сілу і



(Калаж З. Пазьняка)

***48. Ларыса Геніюш. Позірк здалёку.***

доўгае існаваньне, той яго абмінаў. Ён і сёньня мінае яго, нібы сьляпы, блукаючы ў цемры.

У савецкім канцлягеры, капаючы вечную мерзлату, яна пісала вершы пра Бога і Беларусь. Духам сваім яна ўзвышалася над лягернай ноччу, уздымала веру і моц у вязьняў – сваіх землякоў. За вершы – кара. Але, тым ня менш, іх чыталі ў лягеры ўсе беларусы. Гэта яны вынесьлі іх на свабоду ў сваёй галаве, у памяці, калі настаў для ўсіх час вызваленьня.

Вызваліўшыся з лягеру, пасьля хрушчоўскай „адлігі”, Ларыса Геніюш пасялілася ў акупаванай праз бальшавікоў Беларусі ў роднай сваёй Зэльве. Яна не прызнала савецкі рэжым да скону, не прыняла савецкага грамадзянства, не ўступіла ў савецкі „саюз пісьменьнікаў”. Яна нікога не баялася, ні перад кім не паніжалася, і вершы яе былі вольнымі.

Гэтай сьветлай жанчыне сілу дала Беларусь, дарагі вобраз Бацькаўшчыны, у якой і дзеля якой яна прыйшла на сьвет. Яна, нібы вежа, што стаіць на гары, узвышаецца над памяцьцю цэлага пакаленьня. Чым далей аддаляеемся мы ад яе ў навакольлі, тым больш вырастае яна ў краявідзе, тым больш узвышаецца моцная постаць.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 5(15). Пад крыптанімам ЗП)*

# ПАТРЭБНА КАНЦЭПТУАЛЬНАЯ ПРАЦА

***(Выступ на жнівеньскім Сойме БНФ. Скарочана)***

На Сойме своечасова пастаўленае на разгляд пытаньне аб палітычным разьвіцьці падзеяў ва Ўсходняй Эўропе. Галоўныя дзеяньні цяпер павінны адбывацца, на мой погляд, у Расеі і Беларусі. Пра дэстабілізуючую ролю Расеі на Ўсходзе і яе імпэрскую палітыку нам прыходзілася казаць і пісаць ужо ня раз, пачынаючы з 1990 года. Нашая фронтаўская палітычная аналітыка і інфармацыя былі накіраваныя, перш за ўсё, на папярэджаньне небясьпекі шляхам уплыву на эліты грамадства. Практыка паказала аднак, што, як звычайна, усьведамленьне прыходзіць ужо пасьля падзеяў ці ў лепшым выпадку – у працэсе іх разьвіцьця. І тым ня менш, рэальнае ўзьдзеяньне нашай аналітычнай палітыкі, падтрыманае практычнай працай, было істотным.

Адзначу як прыклады два аспэкты нашай палітыкі, якія мы правялі з глыбіні, пачынаючы з аналізу і прагнозу, гэта: змаганьне з пагрозай рускага імпэрыялізму і выяўленьне плянаў Лукашэнкі на захоп улады ў Расеі. Цяпер гэтыя зьявы сталі палітычнай будзёнасьцю. Прытым, азначэньні рэжыму (і нават тэрміналёгія) ужываюцца тыя, якія абазначыў Народны Фронт.

Усё гэта я нагадваю дзеля таго, каб яшчэ раз зьвярнуць вашу ўвагу на тое, што правільны палітычны аналіз і адэкватныя, адпаведныя высновы можна зрабіць толькі стоячы на правільным сапраўдным грунце. Такім сапраўдным грунтам у беларускай палітыцы зьяўляюцца беларуская ідэя, ідэалы беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня і беларускія нацыянальныя інтарэсы. Усе палітычныя плятформы, якія ня ўлічваюць гэтых трох прынцыпаў беларускай палітыкі, ёсьць плятформы маргінальныя і ў зьмесьце сваім – антыбеларускія.

Склалася гэтак таму, што зьнешні фактар (пагроза з Усходу) і зьвязаны зь ім фактар палітычнага і нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі ёсьць дамінуючым сэнсам беларускай палітыкі. Ня ўлічваць гэта – значыць праводзіць палітыку бяз сэнсу, альбо сьвядома ці несьвядома дзейнічаць супраць Беларусі.(...)

* * *

Нядаўна мы былі сьведкамі агіднага ўчынку: беларускія савецкія пісьменьнікі, ад якіх рэжым нахабна адабраў дом, якім стакроць пляваў у твар, ганьбуючы беларускую мову і нацыю – гэтыя пісьменьнікі, і раней прывыклыя да начальства, пацягнуліся на „творчую" сустрэчу з Лукашэнкам, каб атрымаць чарговую аплявуху ад калгаснага дыктатара.

Гэтая падзея ёсьць мадэль маргінальных паводзінаў на выбарах. Маргіналы-лібэралы на лукашэнкаўскія выбары хутчэй за ўсё пойдуць з прычыны адсутнасьці адказнасьці перад беларускай нацыяй. Калі такое здарыцца, то нашыя адносіны да іх павінны быць жорсткімі з усімі высновамі і дзеяньнямі, як да фактычных калябарантаў з антыбеларускім рэжымам. Мы памятаем нядаўнія грубыя заявы С.Багданкевіча супраць БНФ і не зьбіраемся іх забываць.

Хачу падкрэсьліць, што пасьля выгнаньня амбасадараў, пазыцыя Захаду будзе больш жорсткай, і гэта на нашу карысьць.

Найбольш цяжкая задача, аднак, давесьці Захаду сутнасьць працэсаў, інтарэсаў і рухаючых сілаў, што змагаюцца за ўладу ў Беларусі і Расеі. Тым ня менш гэта трэба мэтадычна рабіць зь дня ў дзень, бо інакш памылковая палітыка Захаду адносна Расеі і слабая палітыка адносна Беларусі будзе прадаўжацца. Трэба аб'яднаць нашыя дзеяньні. Наша задача – ня толькі правільна інфармаваць Захад, але, перш за ўсё, – адарваць Беларусь ад згубнай расейскай палітыкі і сфэры яе разбуральнага ўплыву.

Захад не разумее, якая небясьпека для яго хаваецца ў палітыцы савецкага КГБ у Беларусі і ў Расеі, не разумее, якія цёмна-карычневыя імпэрскія антызаходнія сілы за ім стаяць, слаба арыентуецца, што ўвогуле адбываецца ў Беларусі і Расеі, і выкармлівае сваімі мільярдамі чарговую чуму для Эўропы. На жаль, гэта так. Таму праца па разьвейваньні заходніх міфаў пра „дэмакратычную Расею" і „народны" „фенамен Лукашэнкі" павінна весьціся на ўсіх узроўнях.

Аднак трэба элемэнтарна разумець, што весьці палітыку на Захадзе (і нават проста размовы) з пазыцыі голых ідэй – марны занятак. Патрэбныя сьведчаньні сілы і аргумэнты. Амаль паўгадавая наша праца па *Грамадзянству і Адстаўцы* затармажана і не разгорнута, як належыць.

Я ўпэўнены, што ў бліжэйшы час нам удасца выправіць нашы зацягнутыя недахопы. Аднак на сёньняшні дзень (на пачатак жніўня) мы зноў вымушаны канстатаваць факт аб страчаным часе.

*Праўда, магчымасьці яшчэ ня страчаны. Не забывайма, што справа* ***Грамадзянства БНР*** *– агульнабеларуская справа.*

***Я зьвяртаюся да ўсіх сяброў Народнага Фронта, да ўсіх адраджэнцаў і актыўных людзей, здольных працаваць у палітыцы на карысьць Беларусі, падтрымаць справу Грамадзянства БНР і прыняць удзел у яе прапагандзе і арганізацыі.***

* * *

Мне прыходзілася ў апошні час і ў Варшаве, і ў Беластоку, і ў Празе, і ў Вільні сустракацца з многімі маладымі беларусамі, сябрамі Маладога Фронта і іншымі маладымі прыхільнікамі беларускага адраджэньня. Высновы, якія я зрабіў з гэтых спатканьняў такія, што патрэбна сістэмная і шырокая праца з адраджэнцкай беларускай моладзьдзю. Наша структурная арганізацыя Малады Фронт засьведчыла сябе, перш за ўсё, актыўнай арганізацыяй маладзёвага дзеяньня. Моладзь іншых схільнасьцяў і запатрабаваньняў, якая аднак шчыра любіць Беларусь, не павінна заставацца ўбаку.

Я прапаную аднавіць сістэмную працу Фронта з шырокай адраджэнцкай беларускай моладзьдзю. Дзеля гэтага (пра што я ўжо неаднаразова казаў) прапаную стварыць на гэтым Сойме Соймавую камісію ***Па асьвеце і арганізацыі беларускай моладзі***. Новая Соймавая камісія павінна таксама каардынаваць усе маладзёвыя арганізацыі БНФ.

*Жнівень 1998 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 5(15).*

# КАЛІ БЯДА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ – БЯДА ПАЎСЮЛЬ!

Сёньня нам трэба спакойна размаўляць пра пытаньні, якія непасрэдна тычацца нас і нашай культурнай і палітычнай дзейнасьці, якія тычацца лёсу нашай нацыі. Размаўляць спакойна, нягледзячы на тое, што беларусы сёньня сярод адукаваных людзей у Летуве або ў Латвіі не карыстаюцца прэстыжам. Калі б мы былі нармальнай эўрапейскай краінай і давалі б сьвету прыклады дэмакратыі і ўзорнай палітыкі, калі б дзейнічалі нашыя нацыянальныя інстытуты, дык тыя людзі, якія жывуць у замежжы, знаходзілі б зацікаўленьне сабою і лічылі б за прэстыж звацца беларусам, скончыць беларускую школу, вучыцца ў Менску, атрымаць там добрую адукацыю. Зараз нічога гэтага няма. Для прагматычных, простых людзей невыгодна сёньня лічыцца беларусам, невыгодна аддаваць сваіх дзетак у беларускія школы, бо за імі няма сацыяльнай пэрспэктывы. Вось вам прыклад: калі бяда на Бацькаўшчыне, тады бяда паўсюль!

Другі прыклад, які вынікае з тае самае сытуацыі. Рэжым у Беларусі пнецца захаваць і апраўдаць уласны статус і антынародную палітыку. Тыя службы, якія раней працавалі на СССР зь ягонай эфэмернай ідэяй «адзінага савецкага народу» і развальвалі беларускую дыяспару і яе арганізацыі ва ўсім сьвеце, сёньня дзейнічаюць і працуюць на рэжым Лукашэнкі: праз амбасады, розныя арганізацыі, праз уласную агентуру, якая няхай сабе праз пень-калоду, але ж рэанімавалася і дзейнічае. Практычна, гэта адчуваюць усе беларускія арганізацыі ў замежжы, ня кажучы ўжо пра Летуву і Польшчу, якія мяжуюць з мэтраполіяй.

Пытаньне мовы, школы, культуры ня будзе вырашанае, калі ня будзе вырашанае палітычнае пытаньне, пытаньне існаваньня дыктатуры. Гэта не азначае, што непалітычная сфэра дзейнасьці нешта другараднае, што ня варта гэтым займацца. Займацца гэтым трэба і неабходна, беларускасьць трэба ратаваць, умацоўваць, бо пытаньне пастаўленае рубам: ці мы захаваем нашую беларускасьць, ці пануючы ў Беларусі рэжым разбурыць яе. А што гэты рэжым за чатыры гады свайго існаваньня вельмі эфэктоўна праводзіць сваю антынародную палітыку на Бацькаўшчыне – гэта факт. Напрыклад (пра гэта ўжо гаварылася), у Менску зьнішчаныя, практычна, ўсе беларускамоўныя школы.

Я хачу закрануць пытаньні, якія, на погляд чалавека, які займаецца палітыкай, важна ведаць. Спатыкаючыся з палітыкамі Захаду на працягу двух апошніх гадоў маёй змушанай эміграцыі, на некаторых зь іх я, практычна, махнуў рукой. Там не разумеюць, што адбываецца ў Беларусі і Расеі. Гэта добра бачна на справе выдаленьня зь Беларусі амбасадараў, на прыкладзе шматмільярднага фінансаваньня Расеі. Для нас вельмі важна ўсьвядоміць, што мы можам, жывучы за межамі (ды і ў самой Беларусі), на што перадусім павінныя зьвярнуць увагу, у чым дапамагчы беларускаму вызваленьню. Кагэбоўская дыктатура ёсьць ня проста нейкая выдумка, ня проста нейкая ўмоўная назва палітычных зьяваў, якія мы не прымаем і дзеля эмоцыяў праз трапную назву узмацняем. Гэта сутнасная тэрміналёгія, якая выяўляе сутнасьць зьявы. Пакуль краіны Захаду не зразумеюць таго, што адбываецца ва Ўсходняй Эўропе, датуль палітыка застанецца такой самай, як і сёньняшняя: палітыкай інтэлектуальнага дыстанцаваньня. Будзе толькі дапамога на ўзроўні ідэяў, разуменьня, падтрымка маральная і палітычная, – і гэта ўсё. Мы зараз патрабуем большага.

Калі разваліўся СССР, увесь сацлягер, зьніклі асновы таталітарнае ўлады: КПСС, Саветы, КГБ. КГБ – інтэлектуальная сіла партыі. У яе кабінэтах выпрацоўваліся канцэпцыі, палітыка, як замежная, гэтак і ўнутраная. Тут узьнікалі ідэі і ствараліся адпаведныя структуры, якія зьдзяйсьнялі іх. Працавалі над усім гэтым кагэбоўскія профі. Зь гісторыі вядома, што калі рушыцца краіна і яе структуры, дык на першы плян выходзяць спэцслужбы. Гэтак было, калі часткова развалілася расейская імпэрыя СССР, што добра ведаюць на Захадзе. А таму ва Ўсходняй Эўропе былі прынятыя ўсе меры, каб нэўтралізаваць гэтыя службы. У Нямеччыне, напрыклад, гэтак званы „Штазі" нэўтралізавалі на 100 адсоткаў. Спрабавалі тое зрабіць у Вугоршчыне, у Польшчы, у Чэхіі, аднак спробы тыя былі палавіністыя і адпаведна вынік – палавіністы. Савецкі КГБ, як быў, гэтак і застаўся арганізаванаю сілаю ў абшарах Усходняй Эўропы, спэцслужбы савецкага ўзору не былі разбураныя, яны і сёньня маюць сваю тэрытарыяльную структуру, сваіх прафэсіяналаў, агентуру, яны маюць велізарны вопыт палітычнай барацьбы ў спэцыфічных умовах і, што важна, невычэрпны бюджэт. КГБ ня трэба, як нейкім палітычным партыям, „даставаць" грошы ў часе падрыхтоўкі да выбараў. А таму тыя палітычныя сілы, тыя людзі, якія, ня маючы ўласнай ідэалёгіі, прышлі да ўлады, выкарыстаўшы магутны апарат КГБ, фактычна, і прывялі КГБ да ўлады як сілу палітычную.

Памятаю пазыцыю БНФ яшчэ ў 1993 годзе, калі мы абмяркоўвалі пытаньне пра будучыя выбары. Неяк у такой размове, здаецца Л. Баршчэўскі, заўважыў, што галоўным нашым праціўнікам на выбарах будзе КГБ. Сапраўды, усё тое, што адбывалася ў Беларусі, пачынаючы яшчэ з 1992 году, было ініцыяванае і фінансаванае КГБ: зьнішчэньне рэфэрэндуму, стварэньне кагэбоўскіх структураў у Радзе міністраў, заняцьце пасады дзяржсакратара Г. Данілавым, куратарам КГБ Менскай вобласьці, высокія паўнамоцтвы генэрала КГБ В. Паўлава. Была створана аплочваемая „пятая калёна" – „Народное движение Белоруссии". За вельмі кароткі час КГБ, які стаў палітычнай сілай, паспрыяў увядзеньню прэзыдэнцтва і правёў сваю таемную прэзыдэнцкую кампанію. Непасрэдны ўдзел у гэтай кампаніі прымалі структуры ФСБ Расеі і КГБ Беларусі, якія, фактычна, зьяўляюцца прататыпамі савецкага КГБ і вядуць працу на карысьць Масквы.

Адначасна „разыгрывалі" два гэбоўскія варыянты кандыдатур: Кебіч і Лукашэнка. Замяталін вёў двайную работу: агітуючы за Кебіча, працаваў на Лукашэнку.

Пасьля ўступленьня на пасаду Лукашэнкі вялася пасьлядоўная, прадуманая палітыка КГБ. Лукашэнка прыўлашчыў электронныя СМІ, газэты, друк, потым разагнаў парлямант, скасаваў Канстытуцыйны Суд. Дайшло нават на першы погляд да сьмешнага. У 1994 годзе Лукашэнка пачаў на тэлебачаньні даваць тэмы школьных сачыненьняў. Але гэта быў не кур'ёз: пачалася татальная палітыка вынішчэньня ўсяго беларускага на этнічным і культурным узроўні, у выніку якога мы маем сёньня ў Беларусі тыповы ***акупацыйны рэжым***.

Калі б мы мелі звычайную дыктатуру – уладу групы асобаў – дык яны нацыянальныя і дзяржаўныя інтарэсы выкарыстоўвалі б на карысьць сваіх уласных. Аднак, калі праводзіцца акупацыйная палітыка, яна робіцца менавіта так, як я сказаў раней. У Беларусі, фактычна, адбылася ўнутраная акупацыя, чаму яе і цяжка распазнаць, бо калі б гэтая акупацыя адбылася пры дапамозе танкаў і ўваходу праз мяжу, дык усё б было відавочна. Тады б дзейнічалі іншыя акупацыйныя законы.

Вядома, што па акупацыйным рэжыме існуюць міжнародныя пагадненьні. Аднак Захад пакуль што не разглядае Беларусь праз прызму гэтых пагадненьняў, бо, я паўтараю, захоп улады ў Беларусі адбыўся рэваншысцкімі сіламі савецкага КГБ, нібыта дэмакратычным шляхам, праз знешне „дэмакратычныя" выбары. З пункту гледжаньня прафесійнай палітыкі, захоп улады кагэбоўцамі быў праведзены сапраўды прафэсійна, з выкарыстаньнем унутраных агентаў. Вынік – ключавыя пазыцыі ў Беларусі сёньня занятыя людзьмі, якія працавалі і працуюць у КГБ, ФСБ і нават зьяўляюцца грамадзянамі Расеі. Так на пасаду намесьніка міністра КГБ Лукашэнка прызначыў грамадзяніна Расеі, палкоўніка ФСБ. І гэта, зноў жа, не кур'ёз, а прадуманыя дзеяньні кожнага акупацыйнага адміністратара, які ставіць задачу зьнішчыць усялякія нацыянальныя, нават патэнцыяльныя магчымасьці ў справе стварэньня апазыцыі рэжыму.

У чым усё ж такі сіла гэтага рэжыму? На якую глебу ён абапіраецца? Гэта якраз і ёсьць той момант, які цяжка разумеецца ў краінах Захаду. Паколькі гэты рэжым рэваншысцкі, ён абапіраецца на рэваншысцкую ідэю адраджэньня СССР, але ў іншай мадыфікацыі. Вось гэтая ідэя, якая выявілася праз імкненьне да анэксіі Беларусі і ўзнаўленьня СССР, і знайшла падтрымку ў душах і пачуцьцях выхававага па-імпэрску савецкага насельніцтва. Без выключэньня ўсе палітыкі Расеі падтрымалі ідэю гэтак званай „інтэграцыі", хаця адны зь іх „величают" сябе дэмакратамі, другія – супэрдэмакратамі, трэція – ніяк сябе не называюць. Адным словам, сытуацыя, што склалася ў Беларусі, вельмі спэцыфічная. Мы павінны добра разумець, зь якіх крыніцаў чэрпае падтрымку акупацыйны рэжым, які паступова робіцца фактарам міжнароднай палітыкі і нават геапалітыкі.

У сытуацыі, калі нацыю зьняважылі і прынізілі забаронай нацыянальнай сымволікі, гэта быў жахлівы псіхалягічны ўдар для людзей, многія плакалі і вельмі цяжка ўсё гэта перажывалі. У такой сытуацыі найбольшую шкоду прыносіць пэсымізм, нявера ва ўласныя сілы.

У нас няма падставаў да пэсымізму. У 1995 годзе была ўтвораная антылукашэнкаўская апазыцыя, якая пастанавіла шляхам імпічманту замяніць Лукашэнку. Гэтая пастанова была, аднак, правалена кіраўнікамі Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня і Канстытуцыйнага Суда. Пачынальнікі гэтай акцыі (БНФ), фактычна, ня мелі магчымасьці ўплываць на прыняцьце рашэньняў. Прыняцьцё рашэньняў было ў руках маргінальных людзей. Пасьля гэтага, напрыканцы 1996-га, ішла вялікая барацьба, якую можна назваць грамадзкім супраціўленьнем, недапушчэньнем анэксіі. Усе ахвяры, якія былі прынесеныя, сотні зьбітых людзей, моладзь, кінутая ў вязьніцы, арышты, эміграцыя, штрафы, – усё гэта, аднак, не мінула дарэмна. Мы не павінныя лічыць, што гэта была марная барацьба. Мы дасягнулі таго, што спынілі актыўную анэксію Беларусі: праз міжнародныя структуры і ўнутраны супраціў, праз стварэньне канфліктных сытуацыяў паміж маскоўскімі палітычнымі групоўкамі мы гэтую анэксію прыпынілі. Варыянт маланкавага захопу не спрацаваў.

Сёньняшні этап, этап грамадзкага супраціўленьня, характарызуецца тым, што ўсе сілы, якія ў нас былі, кінутыя, як на пажары, на недапушчэньне зьнішчэньня незалежнасьці, і гэты пэрыяд мае свае спэцыфічныя мэтады барацьбы. Што рабіць цяпер? Старыя „пажарныя" мэтады ўжо не даюць належнага эфэкту. Мы сёньня павінны праводзіць канцэптуальную палітыку, а гэта значыць – палітыку, якая прапаноўвае пазытыўную канцэпцыю ліквідацыі дыктатуры. Сёньня зноў паўстае пытаньне пра ўладу. Калі наша палітыка ня будзе мець дакладнай палітычнай прапановы (або будзе мець, але ня зможа яе ажыцьцявіць) – дык гэта стане, фактычна, нашай паразай.

Хацеў бы спыніцца на пытаньні Вільні і Беластоку, тых людзей, якія маюць дачыненьні з палітыкамі, сродкамі масмэдыяў і грамадзкімі міжнароднымі арганізацыямі. Вельмі істотна цяпер, каб праз інфармацыю, якую цяжка даваць зь Беларусі, Захад ведаў пра становішча на нашай Бацькаўшчыне. Чым больш такой інфармацыі будзе давацца на розных узроўнях, тым больш міжнародная супольнасьць будзе разумець нас. Праблема ў тым, што краіны Захаду вельмі спэцыфічна падыходзяць да беларускага пытаньня ня толькі ў палітычным, але і ў ідэалягічным пляне. Там рэагуюць перадусім на парушэньне правоў чалавека – менавіта тут трэба найперш шукаць кантактаў з палітыкамі Захаду: цераз парушэньне элементарных правоў асобы яны могуць зразумець небяспечнае для дэмакратыі палітычнае і сацыяльнае становішча, якое склалася ў Беларусі. Калі ж на Захадзе вядзеш гаворку пра этнацыд, пра тое, што людзей зьбіваюць палкамі толькі за тое, што яны размаўляюць на роднай мове, пра закрыцьцё беларускіх школаў і г. д.,

рэакцыя такая: крыху паслухаюць – і пачынаюць гаварыць пра штосьці іншае.

Мяркую, што мы маглі б ставіць абсалютна дакладныя пытаньні, найперш у Польшчы і Летуве, і асабліва ў сфэры інфармацыі. У Беларусі зараз вялікая патрэба ў праўдзівай інфармацыі, якая б ішла туды зь Беластоку і Вільні па-беларуску. Зь міжнароднымі законамі і нормамі тут усё ў парадку, трэба толькі праявіць адпаведную палітычную волю і зрабіць адпаведныя захады. Такая воля зараз канкрэтызавалася з боку Злучаных Штатаў Амэрыкі, асабліва пасьля выдаленьня зь Беларусі амбасадара гэтае краіны. Сёньня ЗША быццам бы гатовыя фінансаваць беларускія радыёстанцыі. Нам вельмі трэба запоўніць інфармацыйны вакум.

У Беларусі сёй-той кажа, што дыктатура моцная таму, што дэмакраты ня могуць аб'яднацца. Аднак сутнасьць праблемы ня ў тым, што дэмакратычны рух на Бацькаўшчыне разьяднаны, а ў тым, што гэтыя рухі і сілы слабыя. Пакуль мы ня здолеем зразумець, што можна перамагчы малымі, але якаснымі сіламі, на якую падтрымку заходніх краінаў можна разьлічваць, якія нашыя аргументы будуць у Эўропе ўспрынятыя, – да таго часу можна разьлічваць выключна на частковыя і абмежаваныя посьпехі і трымаць сытуацыю на стадыі рэанімацыі. Ня трэба спадзявацца на тое, што будзе эканамічны крызыс і людзі выйдуць на вуліцы. Ня выйдуць! Ня выйшлі раней і зараз ня выйдуць.

Сёньня, у адрозьненьні ад нядаўняга мінулага, мы маем прыкладна 2 мільёны нацыянальна сьведамых беларусаў. Гэта ёсьць вялікая сіла, і зь ёю трэба працаваць. Канцэпцыі, якія прапаноўваюцца, павінны быць разьлічаныя на гэтую сілу. Безумоўна, пануючы ў Беларусі рэжым будзе імкнуцца разьяднаць яе, стварыць альтэрнатыўную сілу. Як да гэтага ставіцца? Як ставіцца да асобаў, якія супрацоўнічаюць з рэжымам? Ці трэба зь імі аб'ядноўвацца? Да гэтага пытаньня мы павінны падыходзіць дыялектычна, бо калі зьнівэлюем усё, ня будзе ў нас тады аніякае беларускае палітыкі.

Аднак, паўтараю, самае галоўнае, каб мы самы былі дакладна вызначанай сілай зь яснай канцэпцыяй, адпаведнай пазытыўнай праграмай і дзейснымі мэтадамі яе ажыцьцяўленьня.

У Народнага Фронта ўсё гэта ёсьць. Але калі мы, беларусы, ня будзем мець гэтага ў цэлым, ва ўсім грамадстве, – ня будзе і посьпехаў. Напрыклад, што было б, каб ужо сёньня ўлада Лукашэнкі правалілася? Ці можа ўзяць уладу БНФ, аб'яднаныя

дэмакраты, усе апазыцыйныя сілы разам? Тут вялікае пытаньне. Трэба нарошчваць беларускую сілу. Калі б Лукуашэнка сваю ўладу страціў цяпер, дык верагодней ад усяго, што яе перахапіла б гэтак званая „вертыкаль", бо яна дзейнічае арганізавана, мабільна, нашпігаваная агентурай. „Вертыкаль" сёньня (у выпадку правалу Лукашэнкі), безумоўна, мае іншую кандыдатуру на кіраўніка краіны. Таму вельмі важна нацыянальна-сьведамым палітычным сілам мець дакладную пазыцыю, ажыцьцяўляць яе – толькі тады мы можам спадзявацца на канструктыўную выніковую палітыку, на прызнаньне ў беларускім грамадзтве і ў шырокім сьвеце.

Рэжым Лукашэнкі моцны нашай беларускай слабасьцю, бо ня склалася яшчэ яму насуперак дзейсная грамадзкая сіла. Калі ж такая сіла зьявіцца, нават „вертыкаль" за Лукашэнку галаву класьці ня стане. Яна пачне хістацца і распадзецца, як тое неаднойчы здаралася ў гісторыі фашыстоўскіх і аўтарытарных рэжымаў нашай плянэты.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня БНФ***

*Надрукавана: („ Рунь". – 14 жніўня 1998 г.)*



***49. Угодкі Грунвальдзкай бітвы. Менск, 1997 г.*** (Фота У. Кармілкіна)

# ШЛЯХ СТАГОДДЗЯ

***(Выступ на Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 6 верасьня 1998 г.)***

23-е спатканьне беларусаў Паўночнай Амэрыкі – гэта наш апошні збор у XX стагоддзі. Варта азірнуцца і паразважаць. Паразважаць аб тым, што будзе зь беларусамі. Лічу, што пра гэта трэба гаварыць заўсёды, калі мы зьбіраемся разам.

Чым было для нас, беларусаў, XX-е стагоддзе? Гэта быў час няспраўджаных надзеяў і барацьбы за народнае выжываньне. Гэта быў час трагічны. Нагадаю клясычнае вызначэньне трагедыі – гэта тады, калі герой гіне, а ідэі яго жывуць і перамагаюць. Беларуская трагедыя XX стагоддзя ёсьць трагедыя клясычная.

Пачатак стагоддзя асьвяцілі вялікія ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня і вялікая літаратура. Трагічны вяшчун, прарок беларускага адраджэньня ***Янка Купала*** характарызаваў яго так: *„Гэта бітва ідзе сусьветна між сьвятлом і апраметнай." Ён клікаў да змаганьня* ***„ на Вялікі Сход па Бацькаўшчыну".***

Дваццатае стагоддзе для беларусаў сапраўды стала бітвай паміж сьвятлом і сіламі цемры, бітвай, якая забрала мільёны жыцьцяў лепшых людзей Беларусі. Яно стала для нас вечным шляхам „па Бацькаўшчыну".

Што мы, беларусы, набылі і што страцілі ў гэтай дарозе і ў вечнай вайне?

*Самы вялікія нашыя нацыянальныя набыткі ў XX стагоддзі – гэта аб'яўленьне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі* ў 1918 г. і *вяртанье незалежнасьці Беларусі ў 1991, што дало магчымасьць упершыню праз 200 гадоў стварыць беларускую незалежную дзяржаву.* Але тут мы гаворым пра першы этап, пра1918 год, калі была прадэкляраваная незалежнасьць. ***Ідэалы 25 сакавіка сталі для нас ідэаламі стагоддзя***. Усё, чаго ўдалося дасягнуць у афармленьні беларускіх ідэяў і ў прынцыпах нацыянальнага ўпарадкаваньня, – усё гэта было пункцірна пазначана ўжо ў першыя 20 гадоў яшчэ да бальшавіцкай акупацыі Беларусі.

Панаваньне бальшавікоў – гэта час зьнішчэньня і разбурэньня таго беларускага, што было дасягнута і мелася разьвівацца: беларускіх людзей, памяці, школы, навукі, культуры, рэлігіі, літаратуры, нацыянальнага сумленьня, сьвядомасьці і свабоды чалавека. За камунізмам, калі выключыць адзінкавыя прыклады, нічога не было створана нацыянальна-станоўчага і нацыянальна значнага, акрамя фальшывых каштоўнасьцяў тыпу беларускай савецкай літаратуры ці савецкага мастацтва.

Кароткі ўздым нацыянальнай беларускай дзейнасьці назіраўся за немцамі ў пэрыяд 2-й Сусьветнай вайны, але ён ня быў вынікова рэалізаваны, бо не набраў сілы.

Што страчана ў XX стагоддзі? Страчана амаль палова нацыянальнай тэрыторыі БНР. Страчана каля 14 мільёнаў патэнцыяльных беларусаў, зь іх больш 3-х мільёнаў забіта ў сапраўднасьці ў час войнаў і бальшавіцкага генацыду.

Усе краіны вакол нас за 100 гадоў павялічылі сваё насельніцтва больш чым у два разы. Не павялічыла толькі Беларусь. На пачатак 1921 года перад падзелам БНР паміж заходнімі і ўсходнімі акупантамі тэрыторыя нашай Дзяржавы складала агулам 400 тыс. кв. кілёмэтраў, а насельніцтва – 14 мільёнаў чалавек. (Нагадаю, цяпер маем 208 тыс. кв. кілёмэтраў і насельніцтва у гэтых межах – 10 мільёнаў чалавек.) Але ў цэлым яно і цяпер не перавышае 14 мільёнаў. За гады савецкай акупацыі найбольш вымер беларускі ўсход. (Насельніцтва некаторых раёнаў Смаленшчыны, напрыклад, скарацілася ў 10 разоў.)

У 1993 г. рост насельніцтва ў Беларусі спыніўся. З 1994 года (што супадае з пачаткам прэзыдэнцтва Лукашэнкі і ўнутранай акупацыі Беларусі) пачалося выміраньне беларусаў. Кожны год памірае на 80 тысячаў больш, чым нараджаецца. Гэта ў сярэднім колькасьць жыхароў аднаго раёна Беларусі. Кожны год памірае адзін раён. Усіх 119 раёнаў. Арыфметыка такая, што калі працэс не спыніць, то 21-е стагоддзе можа стаць стагоддзем поўнага выміраньня беларусаў і канцом беларускай нацыі.

Пасьля ліквідацыі дыктатуры і акупацыйнага рэжыму на Беларусі пытаньне натуральнага прыросту насельніцтва павінна стаць адной з галоўных задачаў нармальнага кіраўніцтва краінай і ўсяго беларускага грамадзтва.

73 гады бальшавіцкай акупацыі нанесьлі беларускаму народу велізарныя страты матэрыяльнага і духоўнага кшталту. Але найвялікшай стратай XX стагоддзя ёсьць для беларусаў страта гістарычнай, культурнай і духоўнай сталіцы Вільні. Ніякая страта ня можа параўнацца са стратай цэнтра, галавы і сэрца нацыі.

Пасталелае вольнае беларускае грамадзтва будучыні абавязкова сутыкнецца з праблемай існаваньня духоўнай сталіцы народа і адраджэньня гістарычных цэнтраў беларускага дзяржаўнага існаваньня. Архітэктурнае, полікультурнае і сацыяльнае аднаўленьне старажытных сталічных гарадоў Наваградка, Полацка і нават Нясьвіжа паўстане ня толькі задачай культуралёгіі, але практычнай неабходнасьцю кампэнсацыі за Вільню, за найвялікшую, як было ўжо адзначана, духоўную і культурную страту беларускага грамадзтва.

Гэтая патрэба стане нацыянальнай праблемай у XXI стагоддзі, як толькі грамадзтва сасьпее для яе ўсьведамленьня.

Цяпер жа, напрыканцы „крывавага веку", усе здаровыя нацыянальна сьведамыя сілы Беларусі заклапочаныя, як збавіцца ад акупацыйнага рэжыму і прарасейскай дыктатуры. Тым больш, што падзеі, якія разгортваюцца на ўсходзе – банкруцтва расейскай улады і крах расейскай эканомікі – паказваюць, што Расея стаіць на парозе новага імпэрскага таталітарызму.

У гэтых умовах я паўтару яшчэ раз тое, аб чым пастаянна кажу вось ужо дзесяць гадоў і што добра разумею як гісторык і палітык. ***Жыцьцёвая задача нашага беларускага існаваньня і нацыянальнага разьвіцьця – адмежаваць, вывесьці нашу краіну з-пад разбуральнага ўплыву расейскай палітыкі, спыніць экспансію расейскага імпэрыялізму, штучныя навязаныя нам сувязі і непатрэбныя дачыненьні***. Гэта даўно зразумелі, напрыклад, грамадзтвы Эстоніі, Латвіі і Летувы, якія не вагаліся ні хвіліны ў выбары сваёй незалежнай празаходняй будучыні. Каштоўнасьці нацыянальнай свабоды паступова ўсьведамляюць і цяперашнія беларусы.

Крытычнае становішча перажыла Беларусь у 1996-1997 гг., калі расейцы і ворагі беларушчыны на Беларусі поўным ходам напралом імкнуліся ажыцьцявіць анэксію нашай краіны Расеяй і праводзілі палітыку імпэрскай „інтэграцыі". Цаной неверагодных высілкаў усіх антыдыктатарскіх незалежніцкіх сілаў, і ў першую чаргу Беларускага Народнага Фронту, анэксія была часова прыпыненая. Нашыя ахвяры: турма, эміграцыя з краіны, арышты, пабоішчы, штрафы, аблавы і катаваньні дзяцей, рэпрэсіі і перасьледы – ўсё гэта было недарэмна. Недарэмным было нашае змаганьне з рэжымам: дзеяньні ў Беларусі і палітыка на Захадзе. Інтэграцыю пакуль што ўдалося затармазіць.

Але антыбеларускі рэжым існуе і праводзіць пасьлядоўную антынацыянальную палітыку. Цяпер патрэбна прымяніць іншы мэтад у змаганьні супраць дыктатуры: трэба выступіць з сваёй

антыакупацыйнай ініцыятывай. *Трэба праводзіць становучую канцэптуальную палітыку, якая пакажа шлях і спосаб ліквідацыі дыктатарскага рэжыму. Трэба ствараць альтэрнатыўную рэжыму сілу, памятаючы, што дыктатура на Беларусі моцная не сваёй моцай, а нашай слабасьцю. Трэба паставіць улады і грамадзтва перад рэальным выбарам шляхоў, а не паміж шляхам і пратэстам.*

***Альтэрнатывай палітыцы анэксіі і дыктатуры беларускія вызвольныя сілы прапанавалі стварэньне супольнасьці грамадзянаў Беларускай Народнай Рэспублікі.*** Першым этапам і першай акцыяй гэтай ініцыятывы стала паступовае разгортваньне кампаніі прыняцьця *сымвалічнага грамадзянства БНР.*

Яна ня ўмешваецца ў канкрэтную дзейнасьць на Беларусі і стаіць над канкрэтнымі палітычнымі дачыненьнямі. Але сваімі заявамі, зваротамі падтрымлівае агульны якасны ўзровень беларускай нацыянальнай ідэі.

Ёсьць пэўная сымвалічнасьць, пэўны добры знак у тым, што напрыканцы XX-га стагоддзя, апынуўшыся ў надзвычай цяжкім становішчы, беларускія адраджэнцы зноў зьвярнуліся да несьмяротнай справы *Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларуская нацыянальная ідэя, беларускае змаганьне з прарасейскім рэжымам і дыктатурай за Беларусь павінны мець выразнае і канкрэтнае ўвасабленьне. Гэтае ўвасабленьне, гэтая мэта ёсьць аднаўленьне БНР.**



***50. На мітынгу БНФ. Менск.***

Гэтая палітыка мае добрыя пэрспэктывы ў Беларусі, але патрабуе вялікай, арганізаванай і штодзённай працы ўсяго сьведамага беларускага грамадзтва. Пры арганізаваным падыходзе мы можам мець сотні тысячаў грамадзянаў-прыхільнікаў *БНР*, а ў недалёкай пэрспэктыве – мільёны. Гэта ў карані палепшыць становішча, бо дасьць грунт для рэальнага ўвасабленьня беларускай нацыянальнай ідэі і плятформу для шырокага аб'яднаньня ўсіх антыдыктатарскіх сілаў Беларусі, не зважаючы на партыйную прыналежнасьць.

Сымвалічным грамадзянствам БНР будуць валодаць рэальныя людзі. Таму з разгортваньнем гэтае справы ўзьнікне магчымасьць рэалізаваць сацыяльныя ініцыятывы грамадзянаў: ствараць, напрыклад, ***Камітэты грамадзянаў БНР***, як некалі ў Эстоніі ці Летуве, утварыць функцыянальныя структуры мясцовага самакіраваньня, выбарчыя камісіі, а пры шырокім руху стварыць нават грамадзкі парлямант і яго выканаўчыя органы. Аднак, каб узьніклі такія магчымасьці, патрэбна найперш мець гэтых людзей, што зрабілі выбар на карысьць *ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Рада БНР* застаецца хавальнікам цягласьці справы *БНР*, гістарычных традыцыяў і ідэалаў.

***Аднаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі будзе азначаць сапраўдную незалежнасьць, сапраўдную свабоду і сапраўдную дэмакратыю***. Яно паставіць крыж на савецкай пераемнасьці дзяржаўнай улады і на ўсім савецкім, на ўсіх тых кнорыных, ляндэрах, мясьнікянах ды машэравых. *Новая вольная Беларусь можа ўзяць пераемнасьць ад Беларускай Народнай Рэспублікі*, а *пэрыяд БССР* павінен быць патрактаваны *як пэрыяд акупацыі і марыянэткавага дзяржаўнага ўтварэньня*. Толькі тады рэальна можна будзе скончыць з усімі прывідамі камунізму і хутка пакрочыць па сваёй беларускай дарозе эўрапейскага разьвіцьця.

Мы, беларускія адраджэнцы, даўно пераканана ступілі на гэты шлях.

*6 верасьня 1998г. Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 6(16).*

* У 1998 годзе гэтая ідэя мела, перш за ўсё, тактычнае значэньне. Цяпер актуальнасьць гэтакай тактыкі адышла на трэці плян. – *(З. П.)*

# ІМПЭРЫЯ НА МЯЖЫ РАЗВАЛУ

Банкруцтва Расеі паставіла перад Захадам, і перш за ўсё перад ЗША, пытаньне аб выбары ва Ўсходняй Эўропе. Аб выбары паміж імпэрыялізмам, крыміналам і дыктатурай, з аднаго боку, і паміж незалежнасьцю і дэмакратыяй, з другога. Пачынаючы ад развалу СССР, Захад рэальна падтрымліваў менавіта рускі імпэрыялізм і рускія імпэрскія інтарэсы. Так атрымалася на справе. Гэтая палітыка была сфармуляваная прэзыдэнтам ЗША Бушам, прадоўжаная прэзыдэнтам Клінтанам і выяўленая як безаглядная падтрымка Ельцына.

Прычыны такой пазыцыі вядомыя. Амэрыка ў сваёй сусьветнай палітыцы кіруецца не ідэалёгіяй, не правамі чалавека і нават не дэмакратыяй, а амэрыканскімі інтарэсамі. У інтарэсах ЗША (і ўсяго сьвету) было захаваньне кантролю і бясьпекі над савецкай ядзернай зброяй. Менавіта таму прэзыдэнт Буш у 1990 г. выступіў у Кіеве за захаваньне СССР і дыстансаваўся ад Ельцына, а калі СССР разваліўся – паставіў на Расею і на расейскага прэзыдэнта з дыктатарскімі паўнамоцтвамі. Расея атрымала безагаворачную падтрымку ад Захаду ва ўсёй сваёй усходнеэўрапейскай палітыцы і ўлік сваіх інтарэсаў у палітыцы сусьветнай.

Вынік гэтай палітыкі разьвязаных рук такі: на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, ва Усходняй Эўропе – аўтарытарныя дыктатарскія рэжымы прарасейскага кшталту, грамадзянскае напружаньне, нестабільнасьць, войны і паўстаньні.

Галоўная прычына ўсяму – Расея, яе спробы ажыцьцяўляць сваю імпэрскую дактрыну, падсумаваную ў 1995 годзе ў вядомым ельцынскім "сакрэтным" дакуманце аб стратэгічных задачах Расеі і дачыненьнях у СНД. Менавіта, згодна палажэньняў гэтага агрэсіўнага дакуманта, рыхтавалася дыктатура ў Беларусі і анэксія яе пад выглядам „інтэграцыі", адбываўся ціск на Ўкраіну, войны і перавароты на Каўказе.

У эканамічнай сфэры Расея, нягледзячы на абсалютна варварскую, рабаўнічую прыватызацыю, на стварэньне крымінальнай эканомікі і алігархіі, атрымала пад звон пустапарожніх размоваў пра рынак, рэформы і дэмакратыю мільярдныя крэдыты з Захаду.

Вынік: дэвальвацыя рубля, фінансавы крызіс, банкруцтва Расеі (дэфолт, адмова плаціць па даўгавых абавязацельствах), амэрыканскія інвэстары страцілі 33,3 мільярда даляраў, крэдыты трапілі ў крымінальную сфэру, пераведзеныя ў швайцарскія банкі, у нерухомасьць за мяжой і афшорныя зоны замежжа.

Цяпер, нарэшце, шмат хто расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ўдзельная вага эканомікі Расеі меншая, чым у маленькай Швайцарыі (зь яе 5-цю мільёнамі насельніцтва і тэрыторыяй, роўнай па плошчы Менскай вобласьці), што Расея ўжо амаль нічога не вытварае, што Расея зь яе ядзернымі ракетамі, бомбамі і імпэрскімі прэтэнзіямі ёсць тыповая краіна трэцяга сьвету – карумпаваная, крымінальная, бедная, культурна адсталая і палітычна непрадказальная, якая гандлюе сыравінай і таннай рабочай сілай (пік апошняга яшчэ наперадзе). Ілюзію „вялікай" ёй дае атамная зброя, разлеглая (і фактычна ўжо некіруемая) тэрыторыя і імпэрскія перакананьні, што гэтую тэрыторыю трэба ўтрымліваць і пашыраць.

Беларусь (як і Ічкерыя) стала ахвярай палітыкі „ўзгодненых інтарэсаў". Мы ня мелі б шмат цяперашніх клопатаў – ні кашмару „інтэграцыі", ні дыктатуры, калі б існавалі стрымліваючыя ўмовы для рускага імпэрыялізму.

У Амэрыцы мне пастаянна прыходзілася паўтараць адно і тое ж: мільярдныя крэдыты ў Расею – гэта страчаныя грошы. Яны толькі стымулююць імпэрскую палітыку і затармозяць дэмакратыю ў Беларусі і на Ўкраіне.

Аднак вельмі цяжка зьмяніць прывычныя ўяўленьні. Нават цяпер, калі сытуацыя з фінансавым крахам праясьніла становішча на Ўсходзе, Захад усяроўна шукае спосабы і шляхі, як уратаваць Расею.

Але аналіз, гістарычны вопыт і сам ход падзеяў падказваюць, што ня трэба ратаваць імпэрыю. Імпэрыялізм мусіць быць разбураны. Тым больш, што нічыімі крэдытамі Расею ўжо не ўратуеш. Для гэтага трэба ліквідаваць алігархію і крымінальную эканоміку, вярнуць нарабаванае і паставіць на нармальную рэпрыватызацыю. Рабіць гэта ў Расеі няма каму. Застаецца дыктатура. „Рускі Піначэт" немагчымы. Ён пацерпіць фіяска, бо ў Расеі няма нармальнага капіталізму, яго сістэмных інстытутаў і структурных дачыненьняў. Вяртаньне да камунізму і плянавай гаспадаркі – поўная катастрофа (і потым распад імпэрыі). Кагэбісцка-фашысцкая дыктатура, якую даўно рыхтуюць па беларускім варыянце (ды стаўкай на Лукашэнку) прывядзе да тых жа вынікаў, толькі з вялікімі ахвярамі і стратамі для ўсяго сьвету. Тады ядзерная зброя стане ня толькі сродкам шантажу, але і аргумантам у палітыцы.

Для расейскага насельніцтва і для міжнароднай супольнасьці найбольш спрыяльны якраз той варыянт, які пачаўся цяпер: дэцэнтралізацыя ўлады, самаарганізацыя, разьдзел на асобныя самастойныя тэрыторыі і суверэнныя краіны. (Гэтага шляху, як выратавальнага для насельніцтва Расеі, не выключае, між іншым, і ***Рычард Пайпс***, вядомы ў Амэрыцы спэцыяліст па Ўсходняй Эўропе.) Толькі пры ўмове падзелу, самаарганізацыі і самавызначэньня тэрыторыяў разьлеглай і ўжо, фактычна, некіруемай Расеі ўзьнікне шанец для выжываньня яе насельніцтва і народаў, зьявіцца магчымасьць вырашыць пытаньне з савецкай ядзернай спадчынай. Кантроль, дэмантаж і зьнішчэньне савецкай ядзернай зброі можа і абавязана ў гэтых варунках узяць на сябе міжнародная супольнасць цераз магчымасьці і інстытут Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

Дэзынтэграцыя імпэрскай Расеі і ўтварэньне на яе месцы незалежных суверэнных дзяржаваў ёсць працэс гістарычна абумоўлены і станоўчы. Яго трэба падтрымліваць, а суверэнізацыі спрыяць ня толькі прапановамі гуманітарнай дапамогі і пастаўкай прадуктаў (як цяпер), але і дапамогай інфармацыйнай, асьветніцкай, ідэйнай, юрыдычнай, прафэсійнай і салідарнай. Усё павінна садзейнічаць самавызначэньню ў былой Расейскай імпэрыі. Гэта справа добрая і чалавечная.

Хто хутчэй самавызначыцца, той выйграе і не загіне пад абломкамі. Калінінградзкая вобласць (дзе, дарэчы, 30 адсоткаў насельніцтва – выхадцы зь Беларусі), махнуўшы рукой на Маскву і канстытуцыю Расеі, аб'явіла надзвычайнае становішча ў эканоміцы. Гэта крок, але, вядома, ня выхад. Прышлае насельніцтва Калінінградскай вобласці (былая Усходняя Прусія) можа выратаваць толькі суверэнітэт і стварэньне незалежнай Балтыйскай рэспублікі (магчыма, разам з афшорнай зонай) з сваім урадам, парлямантам і самастойнай палітыкай.

Авантурным імпэрскім плянам „інтэграцыі" Расеі і Беларусі, аднаўленьня СССР, „славянскаму адзінству" і іншым напаўфашысцкім, напаўвар'яцкім замашкам (асабліва цяпер, у час банкруцтва і абвалу ў Расеі) рэальнае жыцьцё супрацьпастаўляе дэзінтэграцыю ўсёй расейскай імпэрыі і распад аджыўшай сістэмы рускага імпэрыялізму.

Палітыцы „развязаных рук" і „агульных інтарэсаў", якая паспрыяла прарасейскаму рэжыму на Беларусі і ўсталяваньню

дыктатуры, можна было супрацьпаставіць іншы падыход, на які спадзяваліся беларускія незалежніцкія сілы – рэальнае пашырэньне дэмакратыі на Ўсход, умацаваньне незалежнасьці і дэмакратыі ў Беларусі і на Ўкраіне; апора на гэтыя краіны і на збалансаваную сытуацыю ў рэгіёне, а не на ілюзіі аб дэмакратыі ў Расеі.

Любая дыктатура ў Расеі ня будзе дастаткова моцнай без уключэньня ў яе сфэру Беларусі і Ўкраіны. ***У інтарэсах Захаду было б дапамагчы вызваліцца гэтым краінам з-пад разбуральнага ўплыву расейскай імпэрскай палітыкі. І абаперціся трэба было тут на незалежніцкія нацыянальна-вызвольныя сілы, бо ва Ўсходняй Эўропе (акрамя Расеі) менавіта за гэтымі сіламі стаіць сапраўдная, паслядоўная дэмакратыя і празаходні эўрапейскі вэктар палітыкі. Але нацыянальна-незалежніцкія сілы тут паўсюдна антыімпэрскія, і Захад ня стаў іх адназначна падтрымліваць, каб не „дражніць Расею". Беларусь жа была ўвогуле ціха здадзеная ў палітычнае балота „інтэграцыі" ўзамен за пашырэнне NATO. Дзякуй Богу, што хоць падтрымалі з абаронай правоў чалавека і ў непрызнаньні дыктатуры.***

Захад стаіць перад выбарам і пераменамі ва Ўсходняй Эўропе. Ці будуць разумна асэнсаваныя падзеі і ці пачнуцца зьмены пазыцыяў – сказаць цяжка. Пакуль што нічога на гэта непасрэдна не паказвае. Што датычыць беларускіх адраджэнцаў і беларускіх вызвольных сілаў, то мы свой выбар зрабілі даўно і будзем змагацца, як і раней, за вольную незалежную эўрапейскую Беларусь, не спадзеючыся ні на каго і не зважаючы ні на што.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Навіны" („Свабода"), – 1998, 23 верасьня. Пад загалоўкам „ІМПЭРЫЯ НА МЯЖЫ РАЗВАЛУ").*

# КАНЕЦ ІМПЭРЫІ АЛЬБО КРЫЗІС АЛІГАРХІІ*

Заканчваецца XX-е стагоддзе. Яно было вельмі крывавым. Самае пачварнае яго спараджэньне – сацыялізм (у сваёй камуністычнай і фашысцкай мадыфікацыі) адабраў у чалавецтва больш 100 мільёнаў жыцьцяў. Дададзім сюды яшчэ ахвяры двух сусьветных войнаў, якія складаюць амаль столькі ж, колькі забіў сацыялізм-камунізм, і атрымаем крывавы вынік стагоддзя.

У аснове сусьветных войнаў ляжалі дзьве прычыны: нямецкі мілітарызм і рускі імпэрыялізм. Пасьля 2-й Сусьветнай вайны зь нямецкім мілітарызмам было скончана. Аднак ніхто ўсур'ёз ня вёў барацьбы з рускім імпэрыялізмам.

Але вось камунізм ў Эўропе разбураны, і Расея ўсім цяжарам, разам са сваёй імпэрскай закамплексаванасьцю і ядзернымі боегалоўкамі, каменем павісла на шыі зьбянтэжанага Захаду. „Зьбянтэжанага" не таму, што ён нешта зразумеў ці ўсьвядоміў крах сваіх вечных ілюзіяў і ружовых сантыментаў адносна Расеі. Не. Аднак, пасьля банкрутства Расеі ў жніўні гэтага года і ў выніку краху расейскай фінансавай сістэмы, на Захадзе ўбачылі, што ўтрыманьне Расеі ім абыдзецца вельмі дорага. І ўсё на гэтым. На Уол-Стрыце спакойна, хоць біржа вагаецца. Але ваганьне Уол-Стрыта ідзе ў асноўным не ад Расеі, а ад Паўднёва-Ўсходняй Азіі. Як паведаміў аналітык „Сі–Эн–Эн", „эканоміка Расеі занадта малая (яе ўдзельная вага ў сьвеце цяпер ня большая, чым у Швайцарыі), каб выклікаць сур'ёзныя ваганьні ў Амэрыцы."

Афіцыйная Амэрыка, аднак, ня хоча прызнаць паражэньня сваіх ілюзіяў пра нібы-та „дэмакратычную" „рынкавую" Расею і імкнецца апраўдаць свае шматмільярдныя ўліваньні ў расейскі эканамічны крымінал знаёмымі страшылкамі пра „хаатычную", „некіруемую Расею" з „тысячамі ядзерных ракетаў", пра магчымы „прыход новага дыктатара", пра „новую рэвалюцыю" і г.д.

Жнівень у чарговы раз паказаў поўную беспэрспэктыўнасьць і шкоду ілюзорнай амэрыканскай палітыкі (якую пачаў яшчэ прэзыдэнт Буш)** у дачыненьні да Расеі і ўвогуле да Ўсходняй Эўропы. Амэрыка загнала сябе ў кепскае становішча, вымушаная ўзбагачаць мільярдамі даляраў (прытым абсалютна безвынікова) некалькі дзясяткаў чалавек, якія падабралі пад сябе расейскія фінансы, уплыў на ўладу і ключавыя пазыцыі расейскай эканомікі.

Але, як кажуць, ня шкодзіць. Тым больш, што з таго, што здарылася, зноў ня робіцца ніякіх разумных высноваў.

## „ПРЫХВАТЫЗАЦЫЯ"

У Расеі не адбылося „дэмакратычнай рэвалюцыі". Гэта была намэнклятурная „рэвалюцыя". У выніку эканамічнага і палітычнага крызісу і расколу КПСС на дзьве часткі – „кансэрватыўную" (на чале з Гарбачовым) і „лібэральную" (на чале зь Ельцыным) – перамагла ельцынская група лібэралізаванай камуністычнай намэнклятуры, якая дэмакратычным мэтадам (праз выбары) загарнула ўсю паўнату ўлады ў Расеі і адмовілася ад сваёй камуністычнай прыналежнасьці.

Намэнклятура асядлала дэмакратыю і перамагла там, дзе аказаліся слабымі нацыянальна-незалежніцкія сілы. (Гэта значыць, усюды, акрамя краінаў Балтыі.) Намэнкллятура амаль паўсюдна скарыстала палітычна нявопытны нацыянальны дэмакратычны рух у сваіх інтарэсах. (Акрамя Беларусі, дзе намэнклятура была антынацыянальнай і Беларускі Народны Фронт стаў у рэзкую апазыцыю да яе.)

А далей якраз і пачалася рэальная „перабудова" пад лёзунгамі нібыта рынкавай эканомікі, свабоды і дэмакратыі з выкарыстаньнем самых дэмакратаў, якія ў Расеі аказаліся пагалоўна бясспрынцыпнымі, сквапнымі, хцівымі і прадажнымі. Пачаўся луп сярод белага дня.

Замест таго, каб распрацаваць сістэму заканадаўства, структураў улады і прадаваць дзяржаўныя прадпрыемствы на адкрытым аукцыёне, як гэтага патрабуе рынкавая прыватызацыя і элемэнтарная справядлівасьць, ельцынская каманда аддала

* У гэтым жа 1998 годзе артыкул быў надрукаваны, таксама, у „Беларускай Маладзёжнай" пад назвай „Канец імпэрыі".

** Маецца на ўвазе Буш-старэйшы. Ілюзіі „старэйшага" адносна Расеі потым прадоўжыў Буш-малодшы. – *(З. П.)*

прадпрыемствы і цэлыя галіны вытворчасьці (прытым галоўныя галіны эканомікі), практычна, задарма сваім паплечнікам, „блатным” асобам з намэнклятуры і проста прайдзісьветам, рабаўнікам бяз гонару і сумленьня. Самім жа ўрадам былі створаныя манаполіі гэтых рабаўнікоў, якія пачалі лупіць сваю дзяржаву, як сідараву казу.

Усе прыбыткі ад захопленых прадпрыемстваў рускія нуворышы забіралі сабе, ніякіх падаткаў у дзяржаўны скарб не плацілі, зарплату работнікам таксама не выплочвалі, а зробленыя сродкі не рэінвеставалі ў прадпрыемствы. Грошы перапраўлялі за мяжу ў заходнія банкі. І гэтак працягваецца па сёньняшні дзень.

Эканамічны крымінал не праходзіць бясьследна. Я ўжо казаў, што, па ацэнках амэрыканцаў, удзельная вага ў сьвеце эканомікі цяперашняй Расеі меншая, як у Швайцарыі, і ня большая, чым у Нідэрляндаў. Па ацэнках самых рускіх („Независимая газета”), узровень сельскагаспадарчай прадукцыі Расеі можна параўнаць толькі са станам, які быў у час 2-й Сусьветнай вайны, а ўзровень прамысловай прадукцыі – як перад 1-й Сусьветнай вайной (г.зн. у 1913 г.). Асноўны замежны гандль ельцынскай Расеі – гэта гандль сыравіннымі рэсурсамі. У Расеі амаль нічога не вытвараецца на экспарт. Большасьць тавараў увозіцца з-за мяжы (80 адсоткаў, напрыклад, Масква атрымлівае зь імпарту). Пра ўзровень жыцьця рускіх (акрамя Масквы) гаварыць ня буду. Яны самыя ўжо пра сябе сказалі. Тавары ёсьць (былі), ды няма за што купляць.

Рабаўнічую прыватызацыю ажыцьцяўляў тады стаўленьнік Ельцына, прахадная фігура ў расейскай палітыцы Ягор Гайдар, які выконваў функцыю прэм'ер-міністра. Ён жа быў аўтарам імпэрскіх эканамічных прыёмаў: так званага „дамінаваньня” расейскага рубля і нафтавага цэнавага шантажу, накіраваных, перш за ўсё, супраць эканомікі Беларусі і Украіны, што дало магчымасьць расейцам ня толькі добра абрабаваць Украіну і Беларусь, але і падарваць іхнюю фінансава-эканамічную стабільнасьць.

Гайдараўская „прыватызацыя” праводзілася адначасна з так званай „лібэралізацыяй” цэнаў, што дало магчымасьць ураду новых рабаўнікоў раскруціць інфляцыю. Інфляцыя паспрыяла хуткаму і лёгкаму абагачэньню намэнклятуры шляхам забіраньня ў дзяржавы амаль дармовых крэдытаў, на аплату якіх пайшлі ў асноўным банкаўскія ўклады і ашчадныя зьберажэньні людзей. Гэта была завуаляваная экспрапрыяцыя народных грошай. Прадпрыемствы, якія былі яшчэ не раздадзеныя намэнклятурным нуворышам, прадавалі ім жа не па астатковым балянсавым кошце, як дэкляравалі, а па намінальным, без уліку інфляцыі, якая дасягала 2200 адсоткаў у год. Намінальны кошт актыву складаў тады адну капейку за рубель, а то й менш.

У выніку такой „прыватызацыі” невялікая група, у асноўным былых партыйных бюракратаў, разам з саўдзельнікамі загрэблі ў 1992 годзе ў свае рукі багацьці дзяржавы на суму 150 мільярдаў даляраў.

Грошы новых рускіх фінансавых магнатаў асядаюць за мяжой ня толькі ў банках, але і ў ювэлірных магазінах, у нерухомасьці, на дарагіх францускіх курортах і г.д. Прыток іх павялічваецца адпаведна павелічэньню беднасьці ў Расеі.

## АЛІГАРХІЯ

У 1992 годзе ў Маскве пачаліся чырвоныя выступленьні супраць гайдараўскай палітыкі. Неўзабаве Ельцын адхіляе Гайдара. На Захадзе цяпер у адзін голас называюць „прыватызацыю” Гайдара „памылкай”, „непрадуманай”, „разбуральнай”, „бяздарнай” і г.д. У Расеі – яшчэ горш. Але маўр сваё зрабіў і зьнік. На пасаду прэм'ера Ельцын прызначае В.Чарнамырдзіна, чалавека з старой партыйнай намэнклятуры і з новых магнатаў. Як кажуць, пусьцілі казла ў агарод. Цяпер усё пайшло, як па маслу. 70 адсоткаў дзяржаўнай маёмасьці Расеі апынулася ў руках 9-ці адсоткаў насельніцтва. Але гэта ў агульным, бо ў далейшым пры спрыяньні чарнамырдзінскага ўраду адбылася жорсткая манапалізацыя і канцэнтрацыя ўсіх багацьцяў Расеі ў руках пары дзясяткаў нуворышаў. Утварылася фінансава-эканамічная алігархія, якая захапіла ў свае рукі ня толькі фінансы і эканоміку Расеі, але і сродкі масавай інфармацыі: тэлебачаньне, радыё, друк, – кантралюе цэлыя галіны ўлады, крымінальны сьвет, шматлікія арганізацыі, уплывае на ўрад, на ўнутраную і міжнародную палітыку.

Расейскіх „алігархаў” і кіраўнікоў фінансава-прамысловых групаў ведаюць лепш за расейскі ўрад (які пастаянна зьмяняецца).

Трэба адзначыць, што вялікіх алігархаў хоць і ня шмат, але яны яшчэ й падзеленыя на два варагуючыя лягеры. Так што па шчупачыных законах цеснай сажалкі, канцэнтрацыя капіталу ў постсавецкай Расеі працягваецца.

Вось ужо шэсьць гадоў зялёным вадаспадам плывуць у Расею крэдыты. За гэты час Расейская Фэдэрацыя атрымала ад ЗША, Нямеччыны, МВФ і іншых крыніцаў 50 мільярдаў даляраў. За шэсьць гадоў зьнешні доўг Расеі вырас да 150 мільярдаў даляраў ЗША. (Зь іх 100 мільярдаў – гэта доўг былога СССР.)

У гэтым годзе Захад выдзеліў Расеі 22,6 мільярдаў даляраў. Амаль палова зь іх ужо атрымана. І ніякіх сьлядоў. Стартавалі грошы, як у космас. Шукаць іх, вядома, трэба ня ў космасе і ўжо ж не ў Расеі, а ў швайцарскіх банках на рахунках расейскіх алігархаў і іхняе чэлядзі. Механізм дзейнічае бездакорна.

Рускі алігархізм стварыў такую ўсёпаглынальную зрошчаную з уладай эўра-азіяцкую сістэму карупцыі, такую разгалінаваную ў шырыню і глыбіню мафіёзную ўсёпавязанасьць, жорсткую, прагную і безаглядную, што ніякія крэдыты і ніякія колькасьці (хоць цьма мільярдаў) не дапамогуць Расеі. Яны ў ёй не затрымліваюцца. Дзіра бяздонная, а сквапнасьць вялікіх новых рускіх неабмежаваная.

## БАНКРУЦТВА

І вось асечка. Дэвальвацыя рубля. Дэфолт. Фінансавы крах імпэрыі. Расея адмовілася „часова” (на тры месяцы) плаціць па сваіх пазыках і абавязацельствах. Гэта банкруцтва. Ва ўсялякім разе „званочак”, злавесны яго прывід.

Падзеі разьвіваліся наступным чынам. Вясной узмацніўся крызіс у Паўднёва-Усходняй Азіі. Абвастрылася сытуацыя ў Інданэзіі, эканоміка і фінансавая сістэма якой збанкрутавала. У студзені абвалілася інданэзійская валюта. Інвэстары пакінулі інданэзійскі рынак. Спынена паступленьне тавараў. У красавіку пачаліся бунты. Прэзыдэнт Сухата падаў у адстаўку.

Азіяцкія падзеі адбіліся ў Эўропе і на Уол-Стрыце. А тут яшчэ нафта панізілася ў цане, гандль якой даваў магчымасьць Расеі з грахом папалам латаць дзіры ў бюджэце. Інвэстары ўсё з большай трывогай пазіралі ў Расею, а крэдыторы пачалі патрабаваць кантролю над выкарыстаньнем крэдытаў. Тут жа Дума ў чарговы раз стала выказвацца за адстаўку ўраду Чарнамырдзіна і пагражаць (сымвалічна) імпічмэнтам Ельцыну.

Няма сумненьня, што алігархі і атачэньне Ельцына прааналізавалі сытуацыю, магчымае яе разьвіцьцё і вынікі. Асабліва Ельцына напалохала Інданэзія. Падзеі маглі б

разьвіваецца так, што да пачатку лета пачаўся б крызіс у Расеі. Тады адстаўка ўраду Чарнамырдзіна стала б непазьбежнай, і ўся віна была б звалена на гэты ўрад. Захісталася б крэсла пад Ельцыным, паплыў бы грунт пад багацьцямі алігархаў. Думская чырвона-імпэрская апазыцыя прапанавала б свайго прэм'ера і свой урад. Яе мог бы падтрымаць натоўп, і пайшло-паехала. Інвэстары разьбегліся б, рубель зваліўся б, а гандль (імпарт) спыніўся. Вось табе і Інданэзія, толькі горай.

Ніхто, вядома, не зьбіраўся „спасаць Расію", думалі, як ўратаваць уладу, алігархаў і іхныя мільярды. Я не магу надзівіцца гэтай азіяцкай хітрасьці, гэтай мангольска-візантыйскай палітыцы. Ельцын робіць падстаўку. Чарнамырдзін пакідае крэсла кіраўніка ўраду. Прэм'ерам-камікадзэ ставяць маладога, нікому не вядомага Сяргея Кірыенку. Кірыенка закасаў рукавы, супакоіў заходніх інвэстараў і ўзяўся за рэформы. Тады алігархі ўзяліся за „народны пратэст". „Галодны народ" раптам пачаў блякаваць чыгункі, а шахцёры грукаць плястмасавымі каскамі па асфальце. „Народны пратэст" пагоршыў стан ураду Кірыенкі і, як і трэба было чакаць, справакаваў сэрыю хуткіх мільярдных крэдытаў з Захаду (якія алігархі тут жа пракаўтнулі, нават ня булькнула). І тады пачаўся крызіс. Разгарэлася барацьба за банкі. Кірыенка рыхтуе працэдуру банкруцтва стратных банкаў. Алігархі замітусіліся і банкі аб'ядналіся. Але 17-га жніўня ўрад аб'явіў аб дэвальвацыі рубля і дэфолт (адмову плаціць па даўгах). Фініта! Чарговы маўр зрабіў сваю справу.

Адразу сабралася чырвоная Дума і выказала недавер Кірыенку. Выклікалі Чарнамырдзіна. Ён прыехаў 20-га жніўня ў Маскву і па тэлефоне запатрабаваў для сябе ад Ельцына паўнамоцтваў прэм'ера. У нядзелю, 23 жніўня, заручыўшыся падтрымкай думскіх лідэраў, ён іх атрымлівае. Кірыенку адправілі ў адстаўку без папярэджаньня.

Такім чынам рускія алігархі прыступілі да перападзелу фінансавага сьвету Расеі. Узбуйнілі банкі. Самая буйная банкаўская група цяпер належыць „Газпраму". І увогуле Чарнамырдзін выкарыстаў перадышку (пакуль яго падмяняў Кірыенка) для стварэньня сабе моцнага фінансавага тылу. Чарнамырдзіна ўжо пахвалілі амэрыканцы. У жніўні ён спаткаўся з кіраўніком МВФ М.Камдэсю і заручыўся, што чарговыя траншы крэдыту „для Расеі" (тут хочацца ўсьміхнуцца) у **4,3** і ў **3,4** мільярда даляраў будуць дадзеныя ў верасьні і сьнежні.

Алігархі нічога ня страцілі. Толькі ўмацаваліся і набылі. Некалі ў расейскага гісторыка Карамзіна за мяжой адзін „скучалец" па Расеі спытаў: „Как дела в России-та?" „Воруют-с," – адказаў Карамзін. Рускі тысячагадовы крызіс прадаўжаецца.

## „КАША З КАШАЛОТА"

З пункту гледжаньня сусьветнай гісторыі, эканомікі і палітыкі, становішча Расеі выглядае крытычным. Дзяржаўнае банкруцтва прыводзіла часта да вялікіх грамадзкіх катаклізмаў. У 1788 годзе ў Францыі ўзьнік вялікі бюджэтны дэфіцыт, што выклікала дэвальвацыю грошай. Дзяржава адмовілася выплочваць даўгі і аб'явіла пра сваё банкруцтва. Вынік: бунт, каралю адсеклі галаву, а краіна ўтапілася ў крыві. Адбылася так званая, любімая бальшавікамі, „вялікая французкая рэвлюцыя". У 1968 годзе гэтакая ж сытуацыя ледзь не паўтарылася зноў, але Францыю ўратаваў прэзыдэнт дэ Голь (цаной свайго прэстыжу і адстаўкі).

Падобная крытычная сытуацыя ўзьнікла ў Польшчы ў 1989 годзе. (Праўда, там не было алігархаў.) Краіну выратавалі рэформы па пляну Е.Бальцэровіча. Інданэзію, як бачым, нічога ня выратавала.

Расея не жыве па прынцыпах цывілізаванага сьвету (хоць людзі і там ходзяць пры гальштуках і ў касьцюмах.) Тое, што мы бачым і чуем у Расеі, ня ёсьць такім на самой справе. Гэта грамадзтва распаўсюджанай крымінальнай сьвядомасьці і зрушаных, скасабочаных каштоўнасьцяў. „Умом Россию не понять", яна жыве міфамі і падсьвядомасьцю.

Выратаваць „імпэрыю зла" хутчэй за ўсё паспрабуе само зло – дыктатура*. Я ня схільны думаць, што амэрыканцы пачалі гэта разумець і шукаюць у Расеі „харошага" дыктатара. І тым ня менш, прэзыдэнт Клінтан у верасьні прыехаў у Расею і пазнаёміўся з рускімі кандыдатамі ў „дыктатары", а папулярны ў апошні час у Амэрыцы спэцыяліст у эканоміцы і фінансах прафэсар У.Квінт (які за месяц да падзеяў прадказаў адстаўку Кірыенкі і дэвальвацыю расейскага рубля) кажа літаральна наступнае: „Сёньня патрэбна жорсткая фігура, якая прыйдзе да ўлады дэмакратычным шляхам. Лебедзь, а хутчэй за ўсё трыумвірат ці дуэт, напрыклад, Лебедзь і Чарнамырдзін, і нават у прыдачу да іх Жырыноўскі... Альбо які-небудзь камуністычны лідар."

Напярэдадні верасьнёўскага візіту Клінтана ў Расею віцэ-прэзыдэнт Алан Гор нечакана заявіў: „Расейскія камуністы ўжо ня тыя, што былі 50 гадоў таму. Уяўленьне, што іх удзел у якой-небудзь кааліцыі будзе абазначаць вяртаньне да ленінізму ці сталінізму, безумоўна, няправільнае."

„Для нас важна ня тая ці іншая асоба на чале расейскага ўраду, альбо ў яго складзе, – кажа кангрэсмэн Лі Гамільтан, – а працяг палітычнага курсу." Размова ў Злучаных Штатах ідзе нават пра Зюганава ў якасьці прэзыдэнта. Уся гэтая „каша кашалота" мае пад сабой той грунт, што Амэрыка ў сваёй сусьветнай палітыцы кіруецца „ізмамі", не правамі чалавека і нават не дэмакратыяй, а амэрыканскімі інтарэсамі.

Тут ёсьць пра што гаварыць, бо сытуацыя можа перамяніцца. Вялікі прэзыдэнт Рональд Рэйган бачыў інтарэсы Амэрыкі ў ліквідацыі „імпэрыі зла" і часткова дамогся гэтага. Але ўжо яго пераемнік Буш заявіў у Кіеве, што ня хоча развалу СССР. Потым Буш вызначыў амэрыканскую палітыку ў дачыненьні да Расеі як безаглядную падтрымку Ельцына. (Нагадаю: яшчэ ў 1989 годзе ў час візіту Ельцына ў Амэрыку бушаўская высокая адміністрацыя не хацела зь ім нават размаўляць.) Пазыцыю Буша адносна Расеі безагаворачна пераняў прэзыдэнт Клінтан і давёў яе да абсурду (каб не сказаць маразму).

Амэрыканскіх кіраўнікоў непакоіць, каб ядзерная зброя ў Расеі ня выйшла з-пад кантролю і была ў надзейных руках. Дзеля гэтага яны заплюшчваюць вочы на ўсё і даюць крэдыты, нягледзячы ні на што. Палітыка тупіка. Але ў гэтым ня хочуць прызнацца. Гатовыя нават шкадаваць КПСС. „У дачыненьні кантролю над ядзернай зброяй Расеі савецкі рэжым быў больш надзейны і бясьпечны для нас," – кажа Стывен Коэн, прафэсар Прынстанскага ўнівэрсітэту. Чуюцца заклікі „ратаваць Расею ўсім сьветам".

Аднак самым разумным для „ўсяго сьвету" было б вярнуцца да пазыцыі Рональда Рэйгана. ***Ня трэба ратаваць імпэрыю. Рускі імпэрыялізм павінен быць разбураны. У гэтым будзе палёгка для ўсяго сьвету, бо вырашыцца пытаньне зь ядзернай зброяй, а для народаў Усходняй Эўропы – зь незалежнасьцю, рынкавымі рэформамі і дэмакратыяй.***

---

* Так яно і атрымалася. Праз 2-3 гады ўладу ў Расеі цалкам пераняў КГБ. Ранейшых алігархаў зьмялі. Утварылася карпаратыўная дыктатура КГБ і новая дзяржаўная алігархія, аднавіўся рускі ваенна-агрэсіўны імпэрыялізм. – *(З. П.)*

Ні Злучаныя Штаты, ні ўвесь сьвет ня змогуць ужо „уратаваць” Расею. Прыватныя інтарэсы цяпер туды ня пойдуць. Крэдыты ў любой колькасьці будуць прыўлашчаныя алігархамі і вывезеныя за мяжу. Міжнароднае банкаўскае кіраўніцтва расейскімі даўгамі і крэдытамі (як гэта зрабілі ў Інданэзіі, Аргенціне і іншых краінах) таксама немагчымае, бо справа не ў фінансах, а ў эканоміцы. У Расеі няма нармальнага капіталізму і рынкавай эканомікі, механізмы адсутнічаюць, дачыненьні не працуюць. 50 адсоткаў капіталу Расеі, што адмываюцца ў банках, паходзяць з крымінальнай эканомікі ў „шэрай” сфэры. Міжнароднае банкаўскае кіраваньне прадугледжвае кантроль, аўдытарскія праверкі банкаў, прадпрыемстваў, цэлых галінаў дзейнасьці. На гэта крымінальны капіталізм ня пойдзе. Я ўжо не кажу пра імпэрскі „гонар” і замашкі „патрыётаў”.

Правядзеньне рынкавых рэформаў у Расеі, стварэньне дэмакратычнай сістэмы капіталізму немагчымае без ліквідацыі алігархічнай групы, нацыяналізацыі ўкрадзенага і паўторнай прыватызацыі.

На бліжэйшы час гэты варыянт адпадае, бо ў Расеі няма каму яго ажыцьцяўляць. Дэмакратаў у Расеі, практычна, не існуе, а тыя, што імі сябе называюць, падтрымкай не карыстаюцца ( прытым, цалкам справядліва). Парлямант у Расеі цяпер можа быць толькі чырвона-патрыятычным. Тое ж самае можна сказаць пра будучага прэзыдэнта і ўрад.

Варыянт рускага Піначэта беспэрспэктыўны з прычыны адсутнасьці нармальнага капіталізму ў Расеі. У Чылі капіталізм быў, існавалі яго структуры і сістэмныя дачыненьні. Трэба было толькі ачысьціцца ад камуністычнай заразы. У Расеі становішча тупіковае.

## ДЫКТАТУРА

Відаць некалькі варыянтаў дыктатуры ў Расеі. Але я хачу адзначыць толькі адзін – самы верагодны, самы небясьпечны.

Менавіта – беларускі варыянт я маю на ўвазе: прыход да ўлады стаўленьніка савецкага КГБ, самай магутнай сістэмнаарганізацыйнай (не электаральнай, як камуністы) сілы ў палітыцы цяперашняй Расеі. Варыянт з Лукашэнкам, які распрацоўвалі ад пачатку і які ўдалося распазнаць і прытармазіць, канчаткова не адкінуты. Але зараз, па ўсім відаць, разглядаецца сур’ёзна варыянт зь Лебедзем.

Прыход да ўлады ў Расеі стаўленьніка савецкіх спэцслужбаў пацягне за сабой „славянскую ідэю”, рускіх фашыстаў, ДПА і іншых імпэрскіх патрыётаў. Перадзел маёмасьці стане непазьбежным, з усімі выходзячымі адсюль канфліктамі, а амэрыканскія крэдыты (ранейшыя і цяперашнія) добра паспрыяюць устанаўленьню „русского порядка”.

Варыянт са стаўленьнікам КГБ найбольш пагрозьлівы для Эўропы і сьвету. Ядзерныя аргумэнты будуць зноў уведзеныя ў палітыку, а спадзяваньні Амэрыкі мець Расею за саюзьніка супраць агрэсіўнага ісламскага тэрарызму і злачынных рэжымаў на Ўсходзе марныя ўжо нават цяпер. Карычневая імпэрская Расея і дыктатарскія дзяржавы на Ўсходзе знойдуць агульныя антыамэрыканскія інтарэсы.



***51. Расейскі змагар за СССР.***



***52. Расеяц п’е піва.***

Чым яшчэ небясьпечны гэты варыянт дыктатуры і чаму ён больш рэальны ў адрозьненьне, скажам, ад мадэлі „рускага Піначэта”? Справа ня толькі ў тым, што ў Чылі быў капіталізм, а ў Расеі пародыя на яго. Расея дэмаралізаваная і сьпітая. Масы людзей абрабавалі, пазбавілі ўпэўненасьці, гарантаванага хлеба, спакою і надзеі. Агульныя настроі – абыякавасьць і нянавісьць, якія ўзрастаюць. Няма ніякіх агульналюдзкіх ідэяў, ніякіх агульных нацыянальных ідэалаў, акрамя вялікаімпэрскіх уяўленьняў. Рэлігійнасьць у Расеі заўсёды была слабой і мела фармальны характар, была атрыбутам імпэрыі.

У такіх абставінах азлоблены чалавек шукае вінаватых. Задача разбуральных палітыкаў знайсьці **пастаянных** вінаватых, стварыць пастаянных ворагаў і павесьці масы за сабой на барацьбу зь імі. Гэта від сацыяльнай паранойі, якая існуе ў формах ідэалёгіі. Яе нельга недаацэньваць.

## ПАШЫРЭНЬНЕ НА ЎСХОД

Ня ў рускую алігархію і ня ў будучую карычневую Расею павінен быў бы Захад укладаць сродкі, а падумаць пра рэальнае і канкрэтнае пашырэньне на ўсход дэмакратычнай прасторы Эўропы. Беларусь, Украіна, Малдова, Балтыя павінны б былі атрымаць падтрымку для незалежніцкіх нацыянальных сілаў, каб дэмакратыя там хутчэй стала на ногі. Гэта і быў бы рэальны пачатак канца „Ялты” і грунт стабілізацыі на ўсходзе.

Самае дрэннае, што Захад, прымітыўна паставіўшы на ілюзіі, на ўяўную дэмакратыю і рэформы ў Расеі, пагадзіўся з рускімі імпэрскімі інтарэсамі і, фактычна, здаў Усходнюю Эўропу і Каўказ у сфэру ўплыву рускага імпэрыялізму. А Беларусь, пасьля захопу там улады савецкім КГБ, была ціха прададзена за пашырэньне НАТО.

Беларусь здалі, каб выйграць у Расеі. Цяпер з трэскам прайгралі Расею. Хто на чарзе? Сумняваюся, што на Захадзе, нарэшце, зразумеюць эўрапейскі ўсход. Яны не разумелі яго ўсё XX-е стагоддзе.

Баючыся абстрактнага нацыяналізму і не разумеючы, што адбываецца ў Беларусі, Захад тут схільны падтрымліваць розных маргіналаў, „сінекурныя" арганізацыі і проста выпадковых асобаў, але толькі не незалежніцкі нацыянальны рух і незалежніцкія сілы. Тым самым Захад, ідучы поўнасцю ў рэчышчы бушаўска-клінтанаўскай палітыкі, стараецца не дражніць Расею. Палітыка Захаду ў гэтым сэнсе ёсьць паводзіны сьцертай памяці, сьцертага пазытыву. Гісторыя эўрапейскай свабоды выпарылася зь яго інтэлекту. Там не разумеюць, што нацыянальныя незалежніцкія антыімпэрскія сілы на Усходзе – гэта і ёсьць гарантыя сапраўднай дэмакратыі, рынкавай эканомікі і інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць.

Зважаючы на верагоднасьць фашыстоўска-кагэбісцкай дыктатуры ў Расеі, Захад павінен быў бы быць зацікаўлены ў моцнай незалежнасьці Беларусі і Украіны і ў знаходжаньні іх у сфэры эўрапейскіх дачыненьняў. Карычнева-гэбоўская Расея без Беларусі і Украіны ўяўляла б значна меншую пагрозу ў Эўропе.

## ІМПЭРЫЯЛІЗМ МУСІЦЬ СКАНАЦЬ

Трэба ўлічваць, што ў цяперашняй Расеі варыянт імпэрскай дыктатуры ня толькі скансалідуе расейскае грамадзтва, але й паставіць Расею перад мяжой краху. Аднак, перш чым да дыктатуры дойдзе, пройдзе пэўны час. Амэрыканскія аналітыкі чакаюць чарговага абвалу ўжо ў кастрычніку, а ў сярэдзіне зімы – новай дэвальвацыі рубля на 200–300 адсоткаў.* Тады могуць адбыцца палітычныя падзеі (калі Амэрыка зноў не ўратуе Расею – сьмех ды гора).

У становішчы калапсу і поўнага фінансава-эканамічнага краху Расеі яе насельніцтва ня выжыве ў вялікай някіруемай (ці слаба кіруемай) імпэрыі. Выжывуць там, дзе рэгіёны самаарганізуюцца і павядуць сваю самастойную палітыку і гаспадарку. Хто першы гэта зразумее, той выйграе.

Гэтаму працэсу вельмі важна будзе спрыяць, каб ўратаваць насельніцтва; падтрымліваць самастойныя рэгіёны, тэрыторыі і краіны былой імпэрыі. Распад рускага імпэрыялізму адчыніць перад каляніяльнымі народамі Расеі і перад рускімі (як некалі крах гітлераўскага райха перад немцамі) новую цывілізаваную пэрспэктыву. Толькі тады, нарэшце, зьнікне напружанасьць і нестабільнасьць у гэтым месцы Зямлі і вырашыцца праблема зь ядзернай спадчынай імпэрыі зла. Над гэтай зброяй можна будзе ўвесьці структурны міжнародны кантроль і перадаць яе ў веданьне супольных сілаў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, якая і ажыцьцёвіць яе паднаглядны дэмантаж і ўзгодненае зьнішчэньне.

Як ужо гаварылася, паправіць фінансавае становішча ў Расеі немагчыма, бо няма нармальнай эканомікі.** У палітыцы – дэмагогія і бездапаможнасьць, бяссільле, канкурэнцыя асабістых інтарэсаў, адсутнасьць разумных ідэй і станоўчых сілаў, адсутнасьць рэальнага погляду на самых сябе.

Акадэмік У.Квінт, якога я цытаваў вышэй, дае суровую і дакладную ацэнку таго, што адбылося: „Расея ня проста банкрут, Расея – эканамічны і фінансавы труп."

Ажыўляць труп, рабіць мёртваму прыпаркі марны занятак (і неразумны). Клопат павінен быць аб тым, каб спакойна пакласьці імпэрыю ў труну. Без міжнароднай супольнасьці і пры неразуменьні сытуацыі зрабіць гэта будзе цяжка. Труп пачне раскладацца. Як гэта паўплывае на навакольле, казаць ня трэба.

## ПРА БЕЛАРУСЬ

У заключэньне – некалькі слоў пра Беларусь. Тут няма алігархіі тыпу расейскай. Існуе толькі адзін „алігарх" і яго каманда. Створана мафіёзная мадэль так званага „рынкавага сацыялізму", дзе „сацыялізм" – для народа і дзяржавы, а „рынак" – для прэзыдэнта і кампаніі.

Адпаведна існуюць два бюджэты: „сацыялістычны" (гэта значыць – дзяржаўны) і „прэзыдэнцкі" (гэта значыць – „свой"). Структура адкрыта крымінальная.

Але два бюджэты дзяржавы гэта ёсьць адзіны дзяржаўны бюджэт, падзелены на дзьве часткі. Другая частка – гэта тое, што ўкрадзена.

Такая крымінальная схема часовая, бо эканоміка ў такой схеме асуджана на дэфіцыт і заканчваецца, па лёгіцы, поўным калапсам, які можа пачацца гэтак жа нечакана, як і банкруцтва Расеі.

Ніякіх асобных дзяржаўных крокаў па абароне беларускай эканомікі і дзяржавы ад мэтастазаў расейскага абвалу рэжым Лукашэнкі рабіць ня будзе***. Хутчэй за ўсё пастараюцца скарыстаць банкруцтва Расеі, каб аб'яднацца „навек" з канаючай імпэрыяй (і не шукайце лёгікі ў сытуацыі абсурду для тых, хто хоча „паруліць").****

---

* Амэрыканскія аналітыкі адносна Расеі, як правіла, заўсёды памыляюцца. – *(З. П.)*

** Гэта цалкам адносіцца да цяперашняй Расеі „пуцінска-мядзьведзеўскай", рэальнае становішча якой схаванае за шырмай высокай кан'юнктуры сусьветных цэнаў на нафту і газ, для штучнай падтрымкі якіх расейскі гэбізм стварыў палітычныя рычагі. Ня дзіўна, аднак, што Расея зноў пачала валіцца з пачаткам (2008 г.) сусветнага крызісу і зьніжэньнем цаны на нафту. – *(З. П.)*

*** Цяпер, праз дзесяць гадоў, гэта вельмі добра відаць. Прамаскоўскі рэжым у Беларусі стратэгічна, па-дзяржаўнаму не рэагуе на нафтагазавы шантаж і ультыматумы Расеі. Рэакцыя носіць „рэцэптарны", прымітыўны характар (жаданьне любымі спосабамі купіць рэсурсы ў Расеі па нізкай цане). Дыверсіфікацыя не адбываецца. Рэальна і стратэгічна пра яе ня думаюць, хоць і імітуюць пэўныя рухі. – *(З. П.)*

**** Так яно потым і адбывалася. Ужо 25-га сьнежня 1998 года прэзыдэнт Беларусі Лукашэнка і прэзыдэнт Расеі Ельцын падпісалі ў Маскве дэклярацыю аб аб'яднаньні Беларусі з Расеяй і шэраг дамоваў. Згодна гэтых дакумантаў, Беларусь плянавалі далучыць да Расеі і ўтварыць адзіную дзяржаву з адзіным бюджэтам, адной мытнай службай, агульным правам на набыцьцё і распараджэньне маёмасьцю, з агульнымі грашыма і грамадзянствам.

За тыдзень да Сьвята Божага Нараджэньня Лукашэнка злавесна паабяцаў тады беларусам, што зробіць ім „сюрпрыз". І зрабіў. Ён плянаваў тады правесьці чарговы незаконны рэфэрэндум аб ўтварэньні „адзінай дзяржавы" з Расеяй. Праз год, 8-га кастрычніка 1999 г., у газэце „Советская Белоруссия" апублікавалі праект „дамовы" пра стварэньне „саюзнай" дзяржавы Беларусі і Расеі. 8-га сьнежня гэтая антыпраўная, антызаконная, акупацыйная „ліпа" была падпісаная Ельцыным і Лукашэнкам і ў канцы 1999 года нават прапушчана праз зацьвярджэньне ў „парляманце". Расейцы тут жа пачалі ствараць „саюзныя" органы кантролю над Беларусяй.

З соцень парушэньняў законнасьці, Канстытуцыі і права асабіста А. Лукашэнкам гэты ягоны ўчынак з катэгорыі асабліва цяжкіх злачынстваў перад беларускім народам і зьяўляецца дзяржаўнай здрадай. Нягледзячы на грубую нелегальнасьць і несапраўднасьць „дамовы" аб так званай „саюзнай дзяржаве," расейцы ўвесь час выкарыстоўваюць

Фінансавы крах можа прывесьці да хуткіх выбараў у Расеі. Каб патрапіць на гэтыя выбары, інтэгратары-камбінатары зь Менску зноў пачнуць „аб'яднаньне славянаў". Такія авантурныя панічныя крокі ўжо робяцца. Хворая імпэрыя імкнецца анэксаваць і пацягнуць за сабой у небыцьцё Беларусь, а Лукашэнка марыць нарэшце пакіраваць Расеяй.

Баль у часе чумы. Беларусы павінны быць як найдалей ад гэтага нэкрафільскага балю. Беларускія вызвольныя сілы, усе беларусы, каму дарагая наша Бацькаўшчына Беларусь і свабода, павінны цяпер, як ніколі, цьвёрда стаць на абарону нашай незалежнасьці, нашай дзяржавы і нашай нацыі, быць гатовымі ня страціць ні момант, ні час для ліквідацыі імпэрскага зла.

*4-га верасьня 1998г., Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 6(16); Пагоня, – 1998, 24 верасьня).*

---

яе дзеля ціску, умяшаньня ў палітыку і ўнутранныя справы Беларусі, будуюць на ёй сваю акупацыйную стратэгію. – *(З. П.)*

# ЯК РАБІЛІ ПРЭЗЫДЭНЦТВА

## *(З протагісторыі рэжыму)*

Мэтанакіраванае зьнішчэньне беларускай нацыі бальшавікамі садзейнічала наплыву на Беларусь і канцэнтрацыі ў ёй найбольш рэакцыйных сілаў камунізму. У пэрыяд гарбачоўскіх рэформаў гэтакую катэгорыю людзей называлі „вандэяй перабудовы". Пад крылатай назвай, аднак, была рэальная аснова.

У траўні 1991 г., пасьля масавых маніфэстацыяў беларускіх рабочых, 1-ы сакратар ЦК КПБ А.Малафееў (цяпер прызначаны старшынёй лукашэнкаўскага парляманту) выступіў у Маскве з прапановай увесьці ў СССР надзвычайнае становішча. У гэты ж час у Вярхоўным Савеце БССР камуністы прапанавалі ўвесьці ў Беларусі пасаду прэзыдэнта і прэзыдэнцкую сыстэму ўлады. Праекты законаў аб прэзыдэнце былі прадстаўлены камуністамі на сэсію разам з праектам закона „Аб надзвычайным становішчы". Амаль паўмесяца ў Вярхоўным Савеце ішла дыскусія і разгляд гэтых праектаў. Усё вісела на на валаску. Аднак неверагоднымі высілкамі дэпутатаў ***Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту***, якіх падтрымалі іншыя дэмакратычныя і незалежныя дэпутаты, удалося правалiць праекты камуністаў (якія, дарэчы, мелі абсалютную большасьць у Вярхоўным Савеце).

У жніўні таго ж 91-га года адбыўся камуністычны путч, у якім павінны былі прыняць удзел і беларускія камуністычныя сілы. Аднак яны не пасьпелі разгарнуцца і нават падняць галаву, як путч у Маскве праваліўся. Тут жа Беларускі Народны Фронт (фракцыя якога ў парляманце складала менш 10% дэпутатаў) нанёс сакрушальны ўдар поўнасьцю дэмаралізаваным камуністам. Дзейнасьць кампартыі была прыпынена.

Літаральна праз год забаронай рэфэрэндума аб новых выбарах у Вярхоўны Савет (пры актыўнай падтрымцы старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевіча) камуністы, фактычна, ўзялі рэванш за паражэньне ў 1991 г. Пачалася раскрутка ўлады стаўленіка ЦК КПБ прэм'ер-міністра В. Кебіча і непасрэднае пранікненьне расейскага КГБ ва ўладную сыстэму Беларусі. Адначасна зноў паўстала пытаньне аб увядзеньні пасады прэзыдэнта. Дыскусія доўжылася амаль паўтары гады і, фактычна, зайшла ў тупік. Камуністы (дакладней, кебічаўская большасьць у Вярхоўным Савеце) мэханічна ўключылі ў падрыхтаваны з актыўным удзелам дэпутатаў БНФ праект Канстытуцыі Беларусі разьдзел аб прэзыдэнце. Праект Канстытуцыі, аднак, быў створаны для парляманцкай рэспублікі. Канстытуцыя з устаўленым штучным разьдзелам пра прэзыдэнта не давала магчымасьць пабудаваць збалянсаваную прававую сыстэму ўлады. Былыя камуністы адкрыта імкнуліся да дыктатуры праз фармальнае ўвядзеньне прэзыдэнцкай сыстэмы. Тады плянавалі адзіную кандыдатуру на прэзыдэнта – прэм'ера Кебіча.

Аднак справа цягнулася ўжо другі год і амаль не кранулася зь месца. Кебічаўска-камуністычная большасьць увесь час вагалася і разоў сем зьмяняла сваю пазыцыю: то яны былі „за", то „супраць" пасады прэзыдэнта. Іхныя паводзіны тлумачыліся двума прычынамі. Па-першае, яны (асабліва пэнсійная частка, група „Саюз") не хацелі замацоўваць незалежнасьці беларускай дзяржавы Канстытуцыяй. Іх задавальняла Канстытуцыя БССР (А там, маўляў, „глядишь, и Союз вернется"). Па-другое, яны былі ня ўпэўненыя, што выйграе Кебіч („а вдруг БНФ?"). Таму яны слухалі выступы кіраўніка *Апазыцыі БНФ* аб нестасоўнасьці прэзыдэнцкай сістэмы для Беларусі і ня ведалі, што рабіць. („Хітрыт, відна,"– думалі пэнсіянеры, якія складалі амаль чвэрць парляманту.)

З пачатку 1994 г. пачалася інтэнсіўная апрацоўка і агітацыя парляманцкай большасьці за прэзыдэнцтва. Відаць было, як на далоні, тых, хто пачаў гуляць у прэзыдэнцкую гульню.

У студзені 1994 г. дэпутацкая *Апазыцыя БНФ* распаўсюдзіла ***Мэмарандум „Аб сістэме ўлады на Беларусі"***, дзе было сказана пра неабходнасьць для Беларусі парляманцкай сістэмы ўлады.

2-га сакавіка, за два тыдні да прыняцьця прэпараванай пад прэзыдэнцтва канстытуцыі, *Апазыцыя БНФ* выступіла з заявай, якую мы перадрукоўваем поўнасьцю:

*„Мы, народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, якія падпісаліся ніжэй, у сувязі з арганізацыяй у Вярхоўным Савеце галасаваньня па асобных разьдзелах новай Канстытуцыі з дапамогай патаемных бюлетэняў, заяўляем, што:*

*– працэс названага галасаваньня арганізаваны з парушэньнем рэгляманту: не захавана бесперапыннасьць працэсу волевыяўленьня. Практыка такога галасаваньня невядомая ў дэмакратычных краінах;*

*– мы бачым іншыя мадэлі арганізацыі дзяржаўнай улады, чым тая, што прапанавана большасьцю Канстытуцыйнай камісіі:* ***рэалізацыя яе аб'ектыўна вядзе да дыктатуры****. Адна з магчымых мадэляў выкладзена народнымі дэпутатамі ў „Мэмарандуме" („Народная газета", 15.01.94 г.). Альтэрнатыўныя варыянты, аднак, не вынесены на разгляд Вярхоўнага Савета, што ёсьць таксама парушэннем рэгляманту.*

*Спроба ўвесьці нелегальным шляхам прэзыдэнцкую ўладу ў Беларусі ня можа быць прымальнаю для нас.*

*У сувязі з вышэйсказаным, мы адмаўляемся ад удзелу ў азначаным галасаваньні.*

*Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:*

***З.Пазьняк, А.Трусаў, В.Голубеў, С.Антончык, Л.Зданевіч, Г.Грушавы, Л.Дзейка, М.Крыжаноўскі, Ю.Беленькі, П.Холад, Л.Баршчэўскі, С.Навумчык, Я.Цумараў, В.Малашка, У.Заблоцкі, В.Алампіеў, В.Какоўка, Б.Гюнтар, І.Герасюк, І.Сямашка, А.Паруль, С.Бярдаўцаў, А.Шут, Г.Сямдзянава, А.Барысенка, Н.Салдатава, Л.Звераў, С.Бабачонак, М.Аксаміт, А.Даўлюд, І.Германчук, Я.Глушкевіч, І.Пырх, М.Сукач, Я.Новікаў, Э.Багаўцоў, У.Станкевіч, С.Папкоў, М.Маркевіч, Л.Сечка."*** *(„Народная газэта", – 1994, 2 сакавіка)*

Аднак праект паламанай канстытуцыі не набраў 2/3 галасоў. Тады, па прапанове каардынатара ўрадавай фракцыі большасьці „Беларусь" *супрацоўніка КГБ* **Г.Казлова,** галасаваньне за канстытуцыю з прэзыдэнтам было праведзена *на працягу тыдня спэцыяльнымі пісьмовымі бюлетэнямі, пакуль не сабралі неабходны сьпіс галасоў.* (Аналягічнае варварства было паўторана Лукашэнкам на так званым рэфэрэндуме 1996 г.) Як бачым, традыцыі НКВД засталіся і не зьнікаюць.

***Дэпутацкая Апазыцыя БНФ адмовілася прымаць удзел у галасаваньні такім незаконным чынам.*** (Парляманцкая большасьць парушыла працэдуру.)

15 сакавіка 1994 г. канстытуцыю прынялі парляманцкай большасьцю. Фармальна дарога да дыктатуры была адчынена.

Безумоўна, што пасьля ліквідацыі рэжыму Лукашэнкі перад вольнай Беларусьсю і новым парлямантам паўстануць ня толькі вялікія палітычныя клопаты, але і новая канстытуцыйная праца. Мэханічнае аднаўленьне дзейнасьці Канстытуцыі 1994 г. не зачыніць новых спробаў дыктатуры, пакуль ня будзе прыведзеная ў парадак сама Канстытуцыя, не ліквідаваны канстуцыйны разьдзел пра прэзыдэнта, прэзыдэнцкая пасада і прэзыдэнцкая сістэма.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997/98, № 6(10).*

# ГРАМАДЗЯНСТВА БНР: ШЛЯХ І МЭТА

У Беларусі цяпер няма правамоцнага кіраўніцтва дзяржавы, няма ніякага ўладнага органа, які б меў законнае права абʼявіць выбары. Тым часам 20-га ліпеня 1999 года канчаецца тэрмін нелегітымнага ўжо на сёньняшні дзень прэзыдэнта Лукашэнкі, і ён канчаткова страціць права на ўладу.

Беларускі Вызвольны Рух у гэтай сытуацыі павінен заранёў падрыхтаваць грунт і канцэпцыю ўпарадкаваньня такой улады ў дзяржаве, якая б гарантавала свабоду, незалежнасьць, культурнае і духоўнае жыцьцё нацыі.

Нельга дапусьціць да такога становішча, калі, пасьля абвалу рэжыму, Народны Фронт ня будзе гатовым хутка прапанаваць грамадзтву, што рабіць, ня зможа рэальна ўплываць на падзеі, бо акажацца непадрыхтаваным. Уладу тады ў краіне падбярэ прадажная, набрынялая кагэбісцкай агентурай лукашэнкаўская „вертыкаль".

Беларускі Народны Фронт прапануе канцэпцыю „Грамадзянства БНР". На сёньняшні дзень толькі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі валодае легітымнасьцю беларускай улады, зыходзячы з нормаў беларускага і міжнароднага права. У той жа час цяперашняя Рада БНР – гэта ўжо ня столькі дзеючая арганізацыя, колькі сымвал вялікай ідэі і гістарычнай справы. Гэта ёсьць сымвал, абгрунтаваны і фармалізаваны правам. Сымвал можа зноў стаць рэчаіснасьцю, калі ўзнавіць грунт для яе існаваньня ў Беларусі.

Грунт – гэта сотні тысячаў „сымвалічных" грамадзянаў БНР, якімі зьяўляюцца аднак рэальныя людзі. Цяпер іх мала, але іх можа стаць вельмі шмат. Усё залежыць ад мэтанакіраванай і грунтоўнай працы беларусаў і вызвольных арганізацыяў.

Маючы шмат грамадзянаў БНР, можна будзе ствараць „камітэты грамадзянаў" як мясцовыя прадстаўнічыя ворганы самакіраваньня БНР. Характар дзеяньняў будзе залежыць ад колькасьці грамадзянаў БНР, якія цалкам законна і правільна, з пазыцыяў права, могуць ствараць выбарчыя камісіі, праводзіць выбары, утвараць нацыянальную асамблею ці Раду камітэтаў грамадзянаў БНР, прызначаць часовы ўрад, ствараць іншыя органы і структуры. Усё гэта вынікае з грамадзянскае ініцыятывы грамадзянаў БНР і абумоўлена існаваньнем Рады БНР.

Рада БНР не „кіруе" на Беларусі, але стварае і ўхваляе магчымасьць існаваньня там грамадзянаў БНР, якія могуць свабодна і цалкам законна разьвіваць усе неабходныя ім грамадзянскія і палітычныя ініцыятывы, альтэрнатыўныя ці паралельныя існуючай сыстэме дыктатуры.

Рух за „Грамадзянства БНР" можа абʼяднаць на аснове ідэалаў БНР значна шырэйшыя пласты беларускага грамадзтва, чым якія б там ні былі партыі ці палітычныя прагармы. Гэта якасна іншы ўзровень дачыненьняў па абʼяднаньню нацыі за незалежнасьць, свабоду і дэмакратыю супраць дыктатуры і імпэрскай палітыкі з усходу.

Такім ходам (стварэньнем камітэтаў грамадзянаў і г.д.) у 1989 – 91-м гадах ішлі эстонцы, латышы і летувісы. Шлях быў пэрспэктыўны. Правал камуністычнага путчу ў Маскве і развал СССР дазволіў аднак тады хутка вырашыць пытаньне ўлады і незалежнасьці іншым чынам.

Пажадана каб рух за „Грамадзянства БНР" разьвіваўся сумесна з фронтаўскай акцыяй „Адстаўка", якая прадугледжвае збор подпісаў за адстаўку Лукашэнкі. Гэта не пустая праца, як думаюць часам некаторыя людзі. Антыдыктатарскае рушэньне ў Беларусі трэба забясьпечыць разуменьнем і падтрымкай на Захадзе. Тут не ўспрымаюць голых ідэй і заяваў, не падмацаваных справай і фактамі. Але калі прапанаваная канцэпцыя вяртаньня нармальнай улады і дэмакратыі у бліжэйшы час будзе падтрыманая хаця б 100 – 200 тысячамі заяваў у грамадзянства БНР і ста тысячамі подпісаў за адстаўку Лукашэнкі, то не лічыцца з гэтым ужо будзе немагчыма.

Што датычыць Фронта, то хацелася б падкрэсьліць яшчэ раз, што канцэптуальная палітычная задача вымагае пасьлядоўнай,

штодзённай мэтанакіраванай і прадуманай працы ўсёй арганізацыі, усіх структураў БНФ, яго прыхільнікаў і саюзьнікаў. Гэта якасна новы этап працы, якую Фронт здольны і ўмее рабіць. Трэба толькі пераадолець цяжкасьці і супольна ўзяцца за арганізацыю ініцыятывы.

Калі цяпер не ўмацаваць канцэптуальную палітычную дзейнасьць Вызвольнага Руху, калі рэзка не актывізаваць палітычную ініцыятыву (улічваючы, што час, прынамсі паўгода – ужо страчаны), то вынік будзе толькі антыбеларускі: альбо надоўга ўмацуецца дыктатура, альбо ўладу пяроймуць іншыя прамаскоўскія сілы.

Вяртаньне ў дзяржаўны кантэкст ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі, стварэньне нармальнай улады ёсьць гарантыя незалежнасьці і эўрапейскага лёсу Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 6(16).*

# БЕЛАРУСКАМУ НАРОДНАМУ ФРОНТУ ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ

Як і дзесяць гадоў таму, мы ў дарозе. Нам няма калі спачываць. Але сёньня, праз 10 гадоў ад пачатку шляху, нам трэба азірнуцца, каб усьвядоміць сваю справу і сваю адказнасьць перад будучыняй.

Стварэньне *БНФ* ёсьць падзея гістарычнай важнасьці для беларускай нацыі. Яна засьведчыла, што беларуская нацыянальная ідэя жыве, і беларускі народ мае будучыню.

Стварэньне *Беларускага Народнага Фронту* – гэта ёсьць сьцьверджаньне ідэяў, прынцыпаў і ідэалаў *Беларускай Народнай Рэспублікі*. Гэта ёсьць працяг сьветлага беларускага адраджэньня, перапыненага ў 1918 годзе бальшавіцкай акупацыяй. Гэта ёсьць вызначальная падзея ў беларускай гісторыі ХХ-га стагоддзя.

Усьведамленьне жыцьцёвасьці беларускай ідэі павінна напаўняць нашы сэрцы радасьцю і аптымізмам. Ніякія ўдары, ніякія страты ўжо ня спыняць наш беларускі вызвольны рух.

*Беларускі Народны Фронт* паставіў задачу ліквідаваць уладу КПСС-КПБ і дамагчыся незалежнасьці Беларусі.

Гэтыя задачы былі выкананыя. У змаганьні *Фронт* адкрыў праўду пра Чарнобыль. Тысячы людзей у Фронце і па ўсёй Беларусі нястомна і ахвярна змагаліся і працавалі дзеля свабоды людзей і незалежнасьці Беларусі. І ніякія агульныя працэсы распаду СССР нічога б нам не дапамаглі, калі б ня наша сіла і ня наша праца. Мы самы былі часткай агульнага змаганьня народаў з бальшавіцкай імпэрыяй і сваім прыкладам і барацьбой (*Курапаты, Чарнобыль*) уздымалі іхны дух.

Гэта *Народны Фронт*, яго *гераічная парляманцкая Апазыцыя* 24 жніўня 1991 года, пры падтрымцы актыўных людзей Беларусі, законна спынілі дзейнасьць КПБ-КПСС на Беларусі, даказалі камуністычнай большасьці ў парляманце неабходнасьць зачыненьня КПБ-КПСС і гэтым самым прымусілі іх пад цяжарам суровай праўды галасаваць за канец сваёй партыі, за канец камунізму.

Гэта разумная, слаўная, баявая дэпутацкая *Апазыцыя БНФ* пры падтрымцы ўсяго Фронту 25 жніўня 1991 года законным чынам дамаглася вяртаньня незалежнасьці Беларусі, пераканала разгубленыя камуністычны Вярхоўны Савет галасаваць за незалежнасьць Беларусі.

Гэта была наша *бітва пад Воршай*, пераможны вынік якой павінна ўтрымліваць уся нацыя.

Дзейнасьць нешматлікай (менш за 10 адсоткаў) дэпутацкай *Апазыцыі Фронта* ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, якая пераможна разгортвалася насуперак усялякай колькаснай лёгіцы і арыфметыцы, увойдзе ў гісторыю парлямантарызму. Гэта ўнікальная зьява сама па сабе.

Неўзабаве, пры актыўнай падтрымцы Фронта, былі вернутыя на дзяржаўны пасад беларускія нацыянальныя сымвалы, ствараецца беларуская армія і амбасады, мытная служба і памежныя войскі, адчыняюцца беларускія школы і клясы, выпускаюцца беларускія падручнікі і кнігі.

– Мы ўсё гэта страцілі, – кажуць нам пэсымісты.

– Мы ўсё гэта вернем ізноў, – наш адказ.

Мы вернем з патройнымі сіламі і лепш, як было! Зарукай таму – наша воля і наша моладзь, якая ўжо ўпісала сваю прыкметную старонку ў справу свабоды і незалежнасьці Беларусі.


(Фота У. Кармілкіна)

***53. Падтрымка Фронту. Мітынг у Менску.***

Будучыня за намі, бо колькі б ні ўладарылі, ні віравалі на нашай зямлі ўчарашнія сілы ўчарашняга дня, у іх нічога няма наперадзе, і час іхны палічаны.

Гэта ня значыць, што станецца ўсё само па сабе. Будзе так, як мы зробім. Мы не павінны дапусьціць, каб здані мінулага хапалі жывых. Гэтак канаючая імпэрская Расея перад канцом хоча захапіць Беларусь.

*Беларускі Народны Фронт* быў і застаецца ініцыятарам змаганьня за свабоду, незалежнасьць, волю і дэмакратыю ў Беларусі. Ён ёсьць генератарам стваральных ідэяў, пагрунтаваных на правах чалавека і інтарэсах Беларускай нацыі.

Мацуйма ж наш вызвольны рух, памятаючы пра вялікую мэту, якая стаіць перад намі – абараніць і адбудаваць Беларусь, вольную і незалежную.

Трымайма моцна наш чысты, сьветлы
Бел-Чырвона-Белы сьцяг!
Трымайма шчыльна нашыя плечы!
Змагаймася – і пераможам.

Слава героям!
Слава Беларускаму Народнаму Фронту!
Жыве Беларусь!

*16 кастрычніка 1998 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 7(17).*

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ – ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ЗМАГАНЬНЯ

*19 кастрычніка 1998 года спаўняецца 10 гадоў дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”. Гэта добры кавалак часу, каб задумацца і азірнуцца. Але гэта яшчэ не гісторыя, а актыўная палітыка, якая і сёньня (як і большасьць яе ўдзельнікаў) уваходзіць у кантэкст сучасных падзеяў. Гэты нарыс не пра гісторыю, а пра сутнасьць і рух ідэяў беларускага нацыянальнага існаваньня.*

## ВЯСНА НАРОДАЎ

Эўропа пачала набываць новае аблічча ў XX стагоддзі. Яно зьвязанае з распадам эўрапейскіх і эўраазіяцкіх імпэрыяў, з утварэньнем нацыяў і нацыянальных дзяржаваў. Гэта было змаганьне за свабоду народаў. Нацыянальнае самавызначэньне запатрабавала сто гадоў гістарычнага часу, велізарнага напружаньня чалавечага духу, выклікала крывавыя канфлікты і паўстаньні, сусьветную вайну.

У 1918 г. скончылася 1-я Сусьветная вайна. Перад сьветам паўстала абноўленая Эўропа і абноўленая камуністычная імпэрыя на Усходзе. Да гэтага часу працэс утварэньня нацыяў ужо завершыўся. Народы, якія не пасьпелі закончыць сістэмнае нацыянальнае будаўніцтва і апынуліся ў зоне савецкай імпэрыі (перайначанай Расеі), трапілі ў надзвычай цяжкае становішча. Іхняе нацыянальнае разьвіцьцё было прымусова спыненае і мэтадычна, крок за крокам, зьнішчаліся асновы нацыянальна-культурнага і фізічнага існаваньня.

Уратаваць іх ад поўнага зьнішчэньня магло толькі разбурэньне расейскай імпэрыі, яе безумоўны распад. Ніякая зьмена ідэалёгіі пры захаваньні імпэрскага арганізму не вырашала б лёсу народаў.

*Для ўтварэньня нацыі, яе нармальнага існаваньня і пэрспэктыўнага разьвіцьця патрэбна наяўнасьць неабходных крытэрыяў. Перш за ўсё трэба*, каб была ***нацыянальная ідэя*** – гэта значыць адчуваньне нацыянальна-культурнага і тэрытарыяльнага адзінства, агульнасьці лёсаў нацыянальнага існаваньня, салідарнасьці і імкненьня да стварэньня дзяржавы. *Па-другое*, патрэбнна ***нацыянальная мова***, усьвядомленая як найвялікшая агульнанародная каштоўнасьць культуры і жыцьця духа. *Трэцяе*, трэба, каб была ***нацыянальная літаратура ў нацыянальнай мове***, якая б стварыла нацыянальныя вобразы і асэнсавала б лёс народа праз лёсы людзей. *Чацьвёртае*, трэба, каб быў ***нацыянальны тэатр у нацыянальнай мове***. Нацыянальны тэатр – гэта ёсьць вобраз, адбітак нацыі, люстэрка, у якім нацыя бачыць сябе. *Пятае*, павінны быць ***людзі (эліта), вядомыя ўсім***, якія ўсьведамляюць нацыянальныя інтарэсы, дзейнічаюць, зыходзячы з гэтых інтарэсаў, і здольныя ўзяць на сябе адказнасьць за лёс нацыі. *Шостае* – выніковае і найважнейшае – гэта ***незалежная нацыянальная дзяржава*** як структурная рэалізацыя нацыянальнай ідэі.

Да канца 1-й Сусьветнай вайны беларускі народ, як і іншыя ўсходнеэўрапейскія народы, прайшоў шлях нацыянальнага самавызначэньня і стварыў усе пералічаныя вышэй умовы для нармальнай пэрспэктывы нацыі. *У **1918** годзе* была ўтворана *незалежная* ***Беларуская Народная Рэспубліка***. У гэтым жа годзе ўтварылася *незалежная* ***Украіна***, *незалежныя дзяржавы* ***Балтыі*** і ***Каўказу***, ***Чэхаславаччына***, ***Польшча*** і інш.

Працэс нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і рэалізацыі нацыянальнай ідэі ў краінах Усходняй Эўропы быў гвалтоўна перапынены на самым важным і адказным этапе – дзяржаўным будаўніцтве. *Пачалася бальшавіцка-расейская акупацыя.*

Каб убачыць, які разбуральны адбітак наклалі акупацыя і генацыд на захопленыя краіны, дастаткова параўнаць ідэйны стан грамадзтва і ўзровень нацыянальнага ўсьведамленьня яго людзей у 1988 г. (часу стварэньня народных франтоў) у Эстоніі, Латвіі, Летуве – з аднаго боку, і Беларусі, Украіне – з другога. У 1918 г. стан быў аднолькавы, а ў Беларусі і Украіны да таго ж – значна больш патэнцыяльны і пэрспэктыўны. Што потым сталася – вядома. (1988 год у Латвіі: „Латвія без суверэнітэту – Латвія бяз будучыні.” 1988 год у Беларусі: „Зачэм этат беларускі язык?”)

Балтыйскія краіны за 22 гады свабоднага існаваньня рэалізавалі шанс дзяржаўнасьці і вырасьцілі новае свабоднае нацыянальнае пакаленьне людзей, якіх не зламала потым паўвекавая савецкая акупацыйная палітыка. Беларусь жа, яшчэ ня стаўшы на ногі і апынуўшыся ў расейскім заборы, такой магчымасьці ня мела і панесла велізарныя страты. Страты асноў – ня толькі таго, што было, але і таго, што павінна б было зьявіцца. Удар быў д’ябальскі, вынік катастрафічны.

Да сярэдзіны 80-х гадоў (пачатку агульнага крызісу камунізму) беларусы ў масе сваёй уяўлялі ўжо здэнацыяналізаванае савецкае насельніцтва, пазбаўленае нацыянальнай будучыні, нацыянальнай гісторыі і духоўнай пэрспэктывы. Нацыянальная беларуская эліта была зьнішчаная фізічна яшчэ ў 30-х (яе месца заступіла „савецкая інтэлігенцыя"), беларускія школы зачыненыя, беларуская мова выгнана з афіцыйнага ўжытку і зьняважаная – норма ператвораная ў сурагат, на якім ня можа існаваць нацыянальная літаратура, акрамя савецкай, гістарычная памяць абпляваная, гісторыя сфальсыфікаваная. Няма ніякага паняцьця аб нацыянальнай ідэі і нацыянальнай чалавечай годнасьці. Нацыяналістам называюць студэнта, які гаворыць па-беларуску. Пад нацыяналізмам разумеюць фашызм. Нацыянальная будучыня не існуе. Гавораць пра савецкі народ і адміраньне беларускай мовы. Поўны параліч галавы, народнай волі, памяці, гонару, здаровага сэнсу. Здавалася, што яшчэ адно пакаленьне дэградацыі ў саветах, і беларусам навечна – канец. У такіх умовах цяплілася і зноў вырастала беларускае адраджэньне. *Адраджэньне на краю бездані.*

Роля, якую ўзяў на сябе ***Беларускі Народны Фронт*** – гэта роля выратаваньня Беларускай Нацыі, аднаўленьня яе дзяржавы, свабоды і гістарычнай справядлівасьці. ***19-га кастрычніка 1988 года*** *(дзень утварэньня Беларускага Народнага Фронту)* ўвойдзе навечна ў вялікія даты Беларускай гісторыі. І кожнае новае здаровае пакаленьне беларусаў усё больш і больш будзе ўсьведамляць вялікасьць падзеі.




***54. Паштоўка да 10-годдзя БНФ.***

Жыцьцё мае ўнівэрсальную асаблівасьць: калі нешта прымусова спынілі ў разьвіцьці і яно не памерла, то потым, калі зьмяняецца сытуацыя для росту, зьява пачынае разьвівацца ад таго месца, на якім спынілася, і праходзіць усе этапы росту, толькі хутка (калі ў грамадзтве, то выкарыстоўваючы аналягічны вопыт іншых). *Беларускі Народны Фронт* пераняў ідэі, ідэалы і задачы *Беларускай Народнай Рэспублікі*. Тое, што спынілі ў 1918 годзе, цяпер атрымала працяг. Ідэі і ідэалы сталі апорнымі кропкамі, але ўсё астатняе прышлося пачынаць спачатку. У грамадзтве, дзе на прывітаньне *„добры дзень"* адказвалі: *„Пачэму разгаварываеце па-беларускі?"*, – у такім грамадзтве (у канцы ХХ-га стагоддзя) цярпліва, як з душэўна хворым, прыходзілася тлумачыць, чаму трэба шанаваць беларускую мову, чаму яна павінна стаць дзяржаўнай, навошта патрэбная свабода, дзяржава і незалежнасьць, што такое і як выглядае беларускі нацыянальны сьцяг і гэрб *Пагоня*, навошта патрэбны свае грошы і дзяржаўныя межы, дэмакратыя і ўласнасьць. Прытым гэтыя ісьціны прыходзілася тлумачыць людзям ня цёмным, а па-савецку адукаваным, з навуковымі ступенямі і становішчам у грамадзтве. Але іншага грамадзтва не існавала. Было тое, што было на 1988 год, і трэба было працаваць.

## ЧАС КАНСАЛІДАЦЫІ

*Беларускі незалежніцкі рух* пачаў рэальна арганізоўвацца ў сярэдзіне 80-х гадоў. Спачатку – праз актыўнасьць некаторых афіцыйных арганізацыяў тыпу *Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры*, *Беларускага Фонду культуры* і іншых, а потым – праз стварэньне актыўных беларускіх культурніцкіх арганізацыяў моладзі (*„Беларуская майстроўня"*, *„Талака"*, *„Тутэйшыя"* ў Менску, *„Узгор'е"* у Віцебску і інш.) Маладзёвыя культурніцкія арганізацыі рэзка выступілі супраць савецкай русыфікацыі Беларусі, за вяртаньне беларускай школы, за захаваньне культурна-гістарычнай спадчыны, за справядлівасьць, супраць фальсыфікацыі беларускай гісторыі і замоўчваньня сталінскіх рэпрэсіяў. У 1987 г. маладзёвыя беларускія арганізацыі ладзяць першыя мітынгі ў Менску. У канцы сьнежня гэтага года ў Палачанцы пад Менскам адбыўся першы вальны (зборны) сойм маладзёвых беларускіх суполак. Менавіта ў маладзёвым асяроддзі было пастаўлена пытаньне аб легалізацыі беларускіх нацыянальных сымвалаў: ***Пагоні*** і ***Бел-Чырвона-Белага Сьцяга***.

Але гэта была лякальная дзейнасьць. Беларускае грамадзтва прывычна спала савецкім сном. Патрэбны быў нейкі магутны зрух, выбух, які б ускалануў балота і абудзіў пачуцьці і сумленьне ў людзях.

Такім выбухам сталася адкрыцьцё ***„Курапатаў"***. Ён адгукнуўся ва ўсёй Беларусі. Зьява была рэальная, з канкрэтнымі каардынатамі і спраўцамі. Імкненьне камуністаў схаваць яе, зваліць на немцаў, на „жыдоў", на тое, што „парція прызнала ашыбкі" і г.д. толькі павялічылі сілу выбуху. *Курапаты* ўзьнялі пытаньне гісторыі і будучыні беларускай нацыі. Пад Менскам быў адкрыты факт генацыду беларусаў, сьведчаньне нацыянальнай трагедыі.

Пасьля выяўленьня *Курапатаў* пытаньне аб стварэньні *Народнага Фронту ў Беларусі* на ўзор балтыйскіх павісла, як кажуць, у паветры. Стала зразумела, што Фронт узьнікне. Але сытуацыя была даволі трывожная. У тых ненармальных умовах, калі грамадзтва страціла свае нацыянальныя арыенціры, павярнуцца магло б усяляк, нават вельмі дрэнна. Пазьней стала вядома, што нават ЦК Кампартыі Беларусі рыхтаваўся заарганізаваць Народны Фронт (з мэтай падстаўкі і дэзыарыентацыі грамадзтва). Любая, нават бязглуздая ініцыятыва, у тых варунках (калі стварэньне франтоў чакалі ў грамадзтве) мела б свой вынік. Залежы-

ла толькі, хто першы гэтую ініцыятыву праявіць. Калі б першымі выступілі цэкісты ці выпадковыя балбатуны – *ідэя Фронту* была б скампраметаваная, а грамадства дызарыентаванае. Паправіць шкодную работу было б вельмі цяжка.

Я ўжо ў агульных рысах пісаў аб тым, як быў створаны *Беларускі Народны Фронт* і лічу факт і мэтад яго стварэньня выдатнай палітычнай перамогай беларускіх незалежніцкіх сілаў*.

Другім „выбухам", які ўскалануў беларусаў і стварыў падтрымку БНФ, была няўдалая правакацыя, арганізаваная на *„Дзяды"* ЦК КПБ 30-га кастрычніка 1988г. ля Ўсходніх могілак у Менску. Штабам правакацыі кіраваў асабіста сакратар ЦК КПБ па ідэалёгіі В.Пячэньнікаў. Задума была па-бальшавіцку простая: у час шэсьця на *„Дзяды"* справакаваць бойку. Потым шматтысячныя сілы міліцыі і ўнутраных войскаў павінны былі напасьці на людзей, загнаць у вызначанае месца і зьмясіць (як у Алма-Аты ў 1986 г., дзе войскі міліцыі і КГБ напалі на мірных студэнтаў і забілі больш сотні чалавек). Пасьля ва ўсім зьбіраліся абвінаваціць *БНФ*, „нацыянал-фашыстаў", „продавшихся ЦРУ", і, абапіраючыся на „волю беларускага народа", разграміць толькі што створаны *Фронт* і ўсю беларускую адраджэнскую эліту. Пры гэтым, вядома, спадзяваліся на ўзнагароды з Масквы.



***55. З. Пазьняк. 1998 г.***

Аднак фронтаўцы разгадалі задуму камуністаў. Ніхто з амаль 10 тысячаў прысутных не паддаўся на правакацыі, хоць былі зьбітыя і зьняважаныя сотні людзей. Пасьля гэтага моладзь, творчая і навуковая інтэлігенцыя канчаткова адвярнулася ад кампартыі, а арганізацыя і рост *БНФ* пайшлі шпаркімі крокамі.

## ІДЭІ ЗМАГАНЬНЯ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Ідэі і задачы *Фронта* разьвіваліся і ажыцьцяўляліся паступова. На першым этапе найважнейшымі былі дзьве мэты: адхіліць камуністаў ад улады; сьцьвердзіць беларускія прыярытэты перад савецкімі і абараніць беларускія нацыянальныя інтарэсы. У той пэрыяд з тактычных меркаваньняў *Фронт* называўся *„БНФ за перабудову „Адраджэньне"* і выкарыстоўваў афіцыёзную прапагандысцкую кампанію „перабудовы" ў сваіх інтарэсах. Гэта быў пэрыяд антыкамуністычнага ўздыму ў грамадстве. Ішло змаганьне за галоснасьць, за элементарныя дэмакратычныя свабоды. *Фронт* выступаў за ліквідацыю 6-га артыкула ў савецкай канстытуцыі (аб кіруючай ролі КПСС і прыраўнаньні кампартыі да дзяржаўнай структуры), за вывад партыйных камітэтаў з прадпрыемстваў і за ліквідацыю партыйных арганізацыяў па месцы працы, за ліквідацыю прывілеяў партыйнай намэнклятуры, за дэпартызацыю дзяржаўных органаў улады, судоў, пракуратуры, міліцыі, войска, за тое, каб беларусы адбывалі вайсковую павіннасьць у Беларусі і г.д.

Аднак галоўнай палітычнай працай *Фронта*, якую ён падняў у гэты пэрыяд і якая мела агульнанацыянальнае значэньне – было раскрыцьцё праўды пра Чарнобыль. Асноўная барацьба *Фронта* і грамадзкасьці Беларусі за выяўленьне праўды пра чарнобыльскую катастрофу адбывалася з 1989 па 1991 гады. Камуністы прайгралі амаль усе пазыцыі, акрамя прыняцьця рашэньня пра пакараньне за радыяцыйнае злачынства перад нацыяй. Пытаньне аб адказнасьці было вынесена *Фронтам* у Вярхоўны Савет. Удалося стварыць камісію Вярхоўнага Савета па расьследаваньні дзейнасьці службовых асобаў, вінаватых ва ўтойваньні інфармацыі пра Чарнобыльскую АЭС. Вынікі яе працы былі забойныя для камуністаў і канкрэтных асобаў. Але галасаваньнем камуністы, якіх было 86 адсоткаў у Вярхоўным Савеце, правалілі рашэньне аб адказнасьці. Тым ня менш пытаньні, пастаўленыя *БНФ*, увайшлі ў кантэкст дзяржаўнай палітыкі пра Чарнобыль, а пытаньне аб пакараньні спраўцаў чарнобыльскага генацыду не зьнятае і па сёньняшні дзень.

У чарнобыльскую праблему ўцягнуліся шматлікія колы беларускага грамадзтва. Было пастаўленае пытаньне перад Савецкім Саюзам і прынятае рашэньне аб выплаце кампэнсацыі Беларусі за чарнобыльскія страты. Пасьля распаду СССР абавязкі па выплаце чарнобыльскай кампэнсацыі Беларусі перайшлі да Расеі, якая па сёньняшні дзень ня выплаціла яе (а гэта каля 30 мільярдаў даляраў ЗША)**. Але *Беларускі Народны Фронт* не здымае гэтага пытаньня. Расейскі доўг за Чарнобыль павінен быць выплачаны Беларусі.

* * *

Ідэі *БНФ* разгортваліся па меры высьпяваньня сытуацыі ў грамадстве і ў самым *Фронце*. Ідэалёгія *Фронта* (які аб'яднаў дэмакратычную і нацыянальна-сьведамую частку людзей) ішла далёка наперадзе грамадства. Працаваў тыповы паскораны мэханізм разьвіцьця, і гэта было выдатна. *Фронт* быў ня толькі таранам савецкіх бар'ераў, але і лякаматывам, прыкладам для пераймання, узорам для нармальнага несавецкага думаньня. Вялікая частка грамадства такім чынам паступова засвойвала нацыянальна-дэмакратычныя ідэі, кансэрватыўныя і адраджэнскія каштоўнасьці (нават праз першапачатковае адмаўленьне, але калі іх потым дэманстравала беларуская і сусьветная рэчаіснасьць). Гэтая схема (ідэйнага і палітычнага лякаматыва) спрацавала б гэтак жа добра, як і ў краінах Балтыі, пры двух умовах: шырокай і пастаяннай інфармацыі пра *Фронт* і хаця б умераным спрыяньні дзяржаўнай палітыкі (нечыненьні перашкодаў справе беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня). Дарэчы, 1991-1992 гады – пэрыяд паслабленьня расейскага імпэрыялізму і памяркоўных адносінаў да беларускіх патрэбаў – гэта пацьвярджаюць. Але неабходных умоваў не існавала і ў цэлым здабыць іх не ўдалося.

Сытуацыя ў Беларусі прынцыпова розьнілася ад становішча ў Прыбалтыцы. У адрозьненьне ад балтыйскіх савецкіх рэспублік, кіруючая кампартыя Беларусі была антынацыянальная (г.зн. антыбеларуская). Гэта была яе першасная якасьць і першасная нязьменная характарыстыка. Такая палітычная сіла ў прынцыпе не магла быць чыньнікам незалежнасьці і нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва (як, напрыклад, у Эстоніі, Латвіі, Летуве, Польшчы і іншых краінах). Яна ўвогуле не ўпісвалася ў нацыянальны кантэкст, бо сталася чужародным целам. Нацыянальныя камуністычныя кадры былі поўнасьцю вынішчаныя ў БССР яшчэ ў 30-х гадах у часы вялікага тэрору. КПЗБ дабілі ўжо пасьля 1939 года, а беларускія (па паходжаньні) мясцовыя кіруючыя ка-

* Гл. Курапаты. Дзесяць гадоў пасьля. *(„Беларускія Ведамасьці," – 1998, №№ 3-7; 1999, № 1)*

** Гэта аўтаматычны пералік сумы прызнанай тады для выплаты Беларусі Савецкім Саюзам. Сапраўдны падлік паказвае суму ў дзесяць разоў большую. – *(З. П.)*

дры ў арганізаванай НКВД савецкай партызанцы ў час нямецкай акупацыі былі па загаду Сталіна (на ўсялякі выпадак) зьнішчаныя амаль падчыстую ў 1943-1944 гадах. Хто прыйшоў на іх месца і хто ацалеў – вядома. Яны потым кіравалі БССР.

Лягічны і бадай што адзіны варыянт спыніць антынацыянальную палітыку – адхіліць верхавіну партыйнай намэнклятуры ад улады. На гэтай задачы канцэнтраваліся асноўныя дзеяньні *Фронта ў* барацьбе за дэмакратычны лад у Беларусі. *Народны Фронт* выступіў зь ідэяй люстрацыі. Прытым мелася на ўвазе люстрацыя менавіта ўладнай намэнклятурнай верхавіны, ад якой усё залежыла. Астатняя службова-выканаўчая частка пасьля пераменаў (з прычыны сваёй сэрвільнасьці) улягала б той палітыцы, якую б праводзіла дзяржава.

Практыка ў іншых посткамуністычных краінах, якія правялі люстрацыю, пацьвердзіла правільнасьць пазыцыі *БНФ*. У Славеніі, напрыклад, старое кіраўніцтва „папрасілі" зыйсьці ў адстаўку і гарантавалі поўнае матэрыяльнае забесьпячэньне. Цяпер маленькая Славенія ператварылася ўжо ў нармальную эўрапейскую краіну. Гэтая мадэль добра падходзіла, на нашу думку, і для Беларусі.

Зразумела, што пры адхіленьні прарасейскай намэнклятуры ад улады, Расея страціла б усялякі ўплыў на Беларусь. Тады спэцслужбы савецкага КГБ, абапіраючыся на сваю „пятую калёну" і бальшавіцка-ветэранскі „бэтон", распачалі шалёную штодзённую і мэтадычную атаку на *Фронт* з мэтай стварэньня вобраза страшнага бязьлітаснага ворага, які „рвецца" да ўлады, каб помсьціць, расстрэльваць, забіваць камуністаў і ўсіх нязгодных. Мэта гэтай прапаганды была, перш за ўсё, у тым, каб запалохаць намэнклятуру, прымусіць яе згуртавацца і ня ў чым не саступаць *Фронту*. Дасягнуць выніку ў тых умовах было няцяжка і гэта, безумоўна, скансалідавала намэнклятуру. І тым ня менш шанс для мірнага адыходу намэнклятуры ад улады з прадстаўленьнем ёй пэўных зацьверджаных гарантыяў застаецца па сёньняшні дзень, і *Фронт* не выключае яго з сваіх плянаў.

* * *

У жніўні 1989 г. у *Фронце* было пастаўлена пытаньне аб суверэнітэце Беларусі і аб дамаганьні незалежнасьці краіны. Савецкае грамадзтва Беларусі яшчэ з цяжкасьцю арыентавалася ў працэсах і было слаба падрыхтаванае да абмеркаваньня праблемы беларускай незалежнасьці. Але сама пастаноўка пытаньня была гэтакай падрыхтоўкай. Пытаньне ўзьнялі – і пачалося змаганьне за суверэнітэт. Гэта было неабходна і своечасова. Працэсы ў СССР разьвіваліся вельмі сымптаматычна. Усё ішло да краху КПСС і распаду СССР. У *БНФ* разумелі сытуацыю. Таму пра злачыннасьць КПСС, пра яе немінучы крах і распад Савецкага Саюза, які павінен адбыцца праз два гады, было заяўлена ў лістападзе 1989 г. у адкрытым эфіры беларускага тэлебачаньня. Прагноз аказаўся дакладны, але сутнасьць не ў прагнозе. Шалёны камуністычны лямант нікога ў *Фронце* не палохаў. Трэба было бамбардаваць сьпячыя беларускія савецкія мазгі, каб яны хоць функцыянальна пачалі б працаваць, бо часу на „усьведамленьне пакаленьняў" ужо не было, а падзеі не чакалі; яны ішлі сваёй дарогай, часта незалежна ад нас. Беларусь у чакаемым развале не павінна была апынуцца бездапаможнай і несамастойнай, каб, як у 1918-1921 гг., нехта гандляваў нашай зямлёй і народам.

* * *

Зь ідэямі незалежнасьці, антыкамунізму і праўды пра Чарнобыль *Фронт* уступіў у 1990 год. З гэтай пары пачынаецца новы, парляманцкі этап у дзейнасьці *БНФ*. Камуністы не змаглі поўнасьцю заблякаваць удзел *Фронту* ў выбарах, нягледзячы на вельмі дрэнны для антыкамуністычных сілаў выбарчы закон, на неабмежаваную ўладу і татальны ўплыў на выбары з боку КПСС–КПБ. Невялікая колькасьць фронтаўцаў прайшла ў Вярхоўны Савет. Там была ўтвораная фронтаўская фракцыя ***(„Апазыцыя БНФ „Адраджэньне"),*** якая складалася зь няпоўных трох дзясяткаў чалавек (8 адсоткаў ад агульнай колькасьці дэпутатаў). Фракцыя арганізавала вакол сябе яшчэ „Дэпутацкі Дэмакратычны Клюб" (каля 40-50 асобаў; колькасьць вагалася), узаемадзейнічала таксама з „незалежнымі" дэпутатамі.

Дзейнасьць *Апазыцыі БНФ* у камуністычным Вярхоўным Савеце (травень 1990 – 9 студзеня 1996) можна ахарактарызаваць як унікальную зьяву ў гісторыі парлямантарызму. Унікальнасьць яе заключалася ў тым, што, знаходзячыся ў камуністычным парляманце, у непрымірымым варожым асяроддзі, маючы 8 адсоткаў галасоў, фракцыя (асабліва ў першыя тры гады дзейнасьці) здолела ня толькі праводзіць у жыцьцё свае законы і палажэньні ў законы, але і ўплываць на рашэньні парляманту па некаторых лёсавызначальных пытаньнях народа і дзяржавы і шмат калі дамагалася перамогі сваіх прапаноў. З пункту гледжаньня элемэнтарнай парляманцкай лёгікі і арыфметыкі – гэта фантастыка. І тым ня менш гэта рэчаіснасьць. Так было.

Адзначу некаторыя этапы і важнейшыя падзеі ў палітычным змаганьні *Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікаyньня*.

У 1990 годзе ў парляманце *Фронтам* пастаўлены тры важнейшыя пытаньні: *аб Чарнобылі, аб рынкавых рэформах і эканамічнай канцэпцыі разьвіцьця* і *аб суверэнітэце Беларусі*.

Выдатнай перамогай *Апазыцыі БНФ* было прыняцьце ***Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце***. Дырэктыва аб такім дакуманце была спушчана з Масквы і ня мела сур'ёзнай мэты. Гарбачоў бавіўся ў свае гульні. Было відаць, што ў Вярхоўным Савеце БССР камуністы рашылі адбыць павіннасьць пустой паперкай. *Апазыцыя БНФ* прадставіла свой тэкст дэклярацыі, падрыхтаваны *Фронтам* на падставе прынцыпаў, ідэалаў і дакумантаў *БНР*. Праект *Фронта* камуністы дружна завалілі. Тады амаль уся фракцыя *Фронта* пайшла ў парляманцкую камісію працаваць над праектам парляманцкай большасьці (такое магчыма было ў Вярхоўным Савеце БССР) і, стварыўшы там пераваγу, колькасную і інтэлектуальную, давяла праект да патрэбнага ўзроўню. Сваё мастацтва было і ў тым, каб ён трапіў на разгляд Сэсіі Вярхоўнага Савета як праект парляманцкай камісіі.

У час прыняцьця *Дэклярацыі* поўная ініцыятыва была ў руках *Апазыцыі*. 26-га ліпеня да канца дня было прадыскутавана і прагаласавана 10 артыкулаў з 12-ці. Усе яны, практычна, на 90 адсоткаў былі прынятыя ў фронтаўскіх фармулёўках зь невялікімі зьмяненьнямі. У камуністычным бэтоне пачалася лёгкая рэвалюцыйная паніка. Фронтаўцам стала зразумела, што назаўтра ня ўдасца адстаяць сваю фармулёўку 11-га артыкула і, што самае страшнае, можа ўзьнікнуць праблема пры галасаваньні за *Дэклярацыю* ў цэлым. Яе могуць заваліць. Было прынятае „псыхалягічнае" рашэньне (якім потым *Апазыцыя* ня раз карысталася і выйгравала) – назаўтра, 27 ліпеня, стаяць бескампрамісна на сваёй фармулёўцы 11-га артыкула. Калі яна ня будзе прынятая, а пройдзе камуністычная (аб распрацоўцы дагавора аб „саюзе"), тады зрабіць дэмарш: выявіць нязгоду і ў знак пратэсту пакінуць залю перад галасаваньнем.

Мы ўжо ведалі, што калі камуністы ўпадаюць у „рэвалюцыйную сьвядомасьць" і перастаюць думаць галавой, яны зьвярэюць і чыняць усё наадварот таму, што прапануюць дэпутаты

*Фронта*. Тут была, вядома, рызыка, бо калі б яны не зрэагавалі і прагаласавалі б супраць (як шмат хто зь іх быў настроены), то і праца б загінула, і віну за правал звалілі б на нас. Але яны якраз зрэагавалі, і вельмі добра. „Галасуем! – крычалі энтузіясты, – Вот ано, істіннае ліцо БНФ! Ані протів саюза. Ім ліш бы бузіть! Галасуем!”

Гэта была перамога. Перамога невялікай групы дэпутатаў-фронтаўцаў над камуністычным Вярхоўным Саветам. Аналягічная сытуацыя ўтварылася пры абмеркаваньні анты-дэмакратычнага закона аб водзыве дэпутатаў (такога закона ў праваым грамадзтве не павінна быць). *Апазыцыя БНФ* пастаянна палохала намэнклятуру, што трэба прыняць закон аб водзыве. (Вядома, не зьбіраючыся яго прадстаўляць. У тых умовах камуністы, маючы ўладу, „адазвалі б” *Фронт*.) Некаторыя зь іх гэта зразумелі і прадставілі праект закона ў парлямант.

З цяжкай сытуацыі выручыла зноў жа веданьне камуністычнай псыхалёгіі. У дыскусіі фронтаўцы пачалі хваліць „даўгачаканы” праект, прапануючы яго паляпшэньне. А ў канцы старшыня фракцыі прапанаваў прыняць праект без абмеркаваньня адразу ў другім чытаньні. Прапанова была прынятая, але тут якраз і пачаліся „заварот” і „бражэньне” галоў. Камуністы зьбянтэжыліся. Выратаваў клясавы інстынкт – галасаваць наадварот, насуперак пазыцыі „праціўніка”. Так і прагаласавалі супраць уласнага праекта.

* * *

Пасьля прыняцьця *Дэклярацыі* і перамогі над бальшынёй *Апазыцыя БНФ* ўзялася за заканатворчую працу. На 2-ю (восеньскую) сэсію Вярхоўнага Савета за два месяцы ўпартай працы быў падрыхтаваны і прадстаўлены пакет з ***25-ці*** заканадаўчых праектаў. Сярод іх праекты законаў „Аб грамадзянстве”, „Аб уласнасьці”, „Аб банках і банкаўскай дзейнасьці”, „Аб мясцовым самакіраваньні”, „Зямельны кодэкс”, „Дэкрэт аб уладзе”, пастановы „Аб ваенных пытаньнях”, „Аб першапачатковых заходах па рэалізацыі Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце”, „Аб стварэньні камісіі па пытаньнях абароны і дзяржаўнай бясьпекі”, „Аб асноўных задачах і парадку дзейнасьці камісіі Вярхоўнага Савета па пытаньнях абароны”, „”Аб паясным часе”, „Аб ахвярах палітычных рэпрэсіяў”, „Аб назве рэспублікі”, „Аб дэнансацыі саюзнага дагавору”, „Эканамічная канцэпцыя разьвіцьця Беларусі”.

Камуністы, настроеныя на бязьдзейнасьць, былі ашаломленыя такой працай і напачатку (парушыўшы закон) адмовіліся разглядаць. Тады *42 дэпутаты Апазыцыі БНФ* і *Дэмакратычнага Клюбу* выступілі з заявай, дзе папярэдзілі, што калі пакет законапраектаў *БНФ* ня будзе прыняты да разгляду, то яны ня бачаць сэнсу ўвогуле прымаць удзел у працы такога „непрафесійнага” парляманту. Камуністы сагнуліся і вымушаныя былі самы пачаць працаваць. Яны прадставілі свае контрпраекты, паралельныя фронтаўскім; абодва праекты (фронтаўскі і намэнклятурны) абмяркоўваліся. Камуністы сваёй большасьцю галасоў завальвалі праекты фронтаўскай Апазыцыі і пакідалі свае. Але ў працэсе абмеркаваньня і дыскусіі (дзе камуністы былі слабыя) шмат якія палажэньні дакумантаў БНФ былі ўключаныя ў законы. Скажам, „Закон аб грамадзянстве” быў увогуле прыняты на аснове праекта БНФ (у часткова папсаваным выглядзе, вядома).

Істотна аднак тое, што Вярхоўны Савет напачатку вымушаны быў працаваць па сцэнару Апазыцыі БНФ. Фронтаўскую „эканамічную канцэпцыю разьвіцьця Беларусі” яны, напрыклад, адкінулі, але змушаныя былі падрыхтаваць свой праект на гэтую тэму, абмяркоўваць рынкавыя падыходы, прыватызацыю, рэформы і г.д. Урэшце праект быў прыняты. (Праўда, гэты дакумант быў потым праігнараваны ўрадам Кебіча.)

* * *

У траўні 1991 г., пасьля масавых дэманстрацыяў беларускіх рабочых, 1-ы сакратар ЦК КПБ Беларусі А. Малафееў прапанаваў увесьці надзвычайнае становішча ў СССР, а ў Беларусі пачалі рыхтаваць легітымную дыктатуру партыі. З гэтай мэтай камуністы прынялі рашэньне аб увядзеньні пасады прэзыдэнта ў Беларусі, а ў Вярхоўны Савет прадставілі пакетам тры заканапраекты: „Аб прэзыдэнцэ”, „Аб выбарах прэзыдэнта” і „Аб надзвычайным становішчы”. Дыскусія доўжылася паўмесяца кожны дзень. Гэта быў цяжкі няроўны бой і паказальнае інтэлектуальнае змаганьне, калі „8-адсоткавая” фронтаўская меншасьць бліскуча перамагла ня толькі ў дыскусіі, але і ў галасаваньні, пераканаўшы, угаварыўшы, пакалоўшы, заблытаўшы, зьбянтэжыўшы і настроіўшы агрэсіўную камуністычную большасьць галасаваць супраць сырых, недасканалых, непатрэбных, шкодных заканапраектаў (а на самай справе супраць пэрспэктывы абноўленай камуністычнай дыктатуры).

Кульмінацыя змаганьня з камуністамі за дэмакратыю і незалежнасьць Беларусі настала ў жніўні 1991 г. пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве. Гэта была, бадай, самая яркая, самая незвычайная і самая гераічная старонка ў гісторыі парляманцкай Апазыцыі БНФ.

Фронтаўскія дэпутаты дамагліся хуткага скліканьня сэсіі Вярхоўнага Савета і на працягу сутак падрыхтавалі чатырнаццаць заканадаўчых дакумантаў на сэсію, дзе былі адлюстраваныя пытаньні аб спыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС, аб выбарах новага старшыні Вярхоўнага Савета, аб незалежнасьці Беларусі, аб праекце новага (падрыхтаванага Фронтам) закона аб выбарах і аб прызначэньні новых выбараў у парлямант. Камуністы і ўся парляманцкая большасьць зьявіліся на сесію са страхам і з пустымі рукамі.

Фронтаўскія дэпутаты ўвайшлі ў залю, нясучы Бел-Чырвона-Белы сьцяг. Камуністычная пераважная большасьць была перапалоханая, разгубленая і прыгнечаная. Адразу па патрабаваньні Апазыцыі быў зьняты з пасады намэнклятурны старшыня Вярхоўнага Савета М. Дземянцей (які, дарэчы, гістарычна абараняўся). Пад энэргічным напорам і забойнай аргумэнтацыяй дэпутатаў Фронта і дэпутацкага Дэмакратычнага Клюбу была прынятая пастанова аб спыненьні дзейнасьці КПСС-КПБ і камсамола. Адразу па ініцыятыве Фронту былі зачыненыя і заплямбаваныя камуністычныя райкамы, абкам, гаркам і ЦК. Дзіўна было назіраць, як дэмаралізаваныя дэпутаты-камуністы, якія яшчэ два дні таму былі самаўпэўненыя, нахабныя і агрэсіўныя, цяпер галасавалі за забарону дзейнасьці сваёй партыі па прапанове дэпутатаў БНФ. Назаўтра, 25 жніўня, у надзвычай напружанай і хвалюючай атмасфэры быў прыняты закон і іншыя дакуманты аб незалежнасьці Беларусі. Гэта быў незвычайны момант, які не забудзецца ніколі.

Не ўдалося, аднак, прыняць найважнейшае рашэньне – пастанову аб нечарговых выбарах новага парляманту. Справа нават ня ў тым, што патрэбна была папраўка ў Канстытуцыю, якая павінна прымацца 2/3 галасоў. Дэпутаты-намэнклятура кінулі сваю партыю, бо яна для іх ужо нічога ня значыла. Путч быў прайграны – ратавалі скуру. А вось дэпутацкія мандаты і дэпутацкая бальшыня ў Вярхоўным Савеце – гэта рэальная ўлада, якая была ў іхных руках. Таму яны ўчапіліся ў яе, сабраўшы апошнія сілы.

Прымусіць іх пагадзіцца на выбары магла толькі народная сіла. На плошчы перад парлямантам на працягу дзьвух дзён стаяла і падтрымлівала Фронт некалькі дзясяткаў тысячаў чалавек. Для таго, каб намэнклятурныя камуністы адчулі неабходнасьць прыняць пастанову аб нечарговых выбарах, трэба было ня 30 тысячаў, а 300 тысячаў на плошчы. Пытаньне аб нечарговых выбарах ня вырашылі. У новай незалежнай краіне засталася старая камуністычная ўлада і стары Вярхоўны Савет. Парадокс, які, дарэчы, дрэнна разумелі ў грамадзтве.

Так скончыўся першы змагарны пэрыяд (я б назваў яго рамантычным) у дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту. Самыя галоўныя палітычныя задачы гэтага пэрыяду – ліквідацыя КПСС-КПБ, дзяржаўная незалежнасьць, выяўленьне праўды пра Чарнобыль – былі ў асноўным выкананыя.

Трэба яшчэ дадаць, што перад гэтым у 1990 годзе Фронт не пакінуў камуністам ніякага палітычнага выхаду. Было вырашана ўтварыць сацыял-дэмакратычную партыю, каб пры распадзе ня даць камуністам заняць гэтую нішу і мімікрыраваць, захаваўшы ўладу. Стварэньнем сацыял-дэмакратыі заняліся вядомыя ў Фронце людзі (намесьнік старшыні БНФ М.Ткачоў, сябры Сойму БНФ М.Чарняўскі, А.Трусаў і інш.) Неўзабаве сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) была створаная. Прытым напачатку Фронт прадставіў ёй нават свае структуры і рэкамэндаваў сябрам суполак Фронту ўступаць у БСДГ. Партыя была адраджэнскага кшталту, ішла пад беларускім Бел-Чырвона-Белым Сьцягам. Далейшы яе лёс быў, аднак, даволі складаным.

## БАРАЦЬБА ЗА ДЗЯРЖАВУ

Са жніўня 1991г. Фронт ставіць новыя палітычныя задачы. Першая – умацаваньне суверэнітэту і структурнае будаўніцтва незалежнай дзяржавы. Другая – нацыянальна-культурнае адраджэньне беларускай нацыі. Трэцяя, ад якой залежыла эфектыўнасьць ажыцьцяўленьня дзьвюх першых задачаў, – адабраньне ўлады ў намэнклятуры шляхам дэмакратычных выбараў па зьмешанай мажарытарна-прапарцыйнай сістэме.

Найбольшым дасягненьнем Фронту ў гэты час і найбольшай падзеяй, якая духоўна паўплывала на ўсё беларускае грамадзтва, было прыняцьце беларускай гістарычнай нацыянальнай сымволікі (*Бел-Чырвона-Белага Сьцяга і гэрба „Пагоня")* у якасьці дзяржаўнай сымволікі Беларусі. Адначасна вырашаліся пытаньні з нацыянальным войскам, зь межамі, мытнай службай, стварэньнем амбасадаў за мяжой, адчыняліся беларускія клясы і школы, рыхтаваліся беларускія падручнікі і кнігі. Мэханізм стварэньня беларускай дзяржавы пачаў працаваць, буксуючы, аднак, на кожным кроку.

Пытаньне аб новай уладзе ў новай дзяржаве станавілася ўсё больш надзённым. Стары Вярхоўны Савет адмовіўся яго вырашаць. Тады Фронт выбраў акружны шлях, вельмі цяжкі, працаёмкі і даволі рызыкоўны, бо прававая аснова ў дзяржаве была хісткай. Але вынікова змагацца можна было толькі прававымі спосабамі.

Апазыцыя БНФ стварае праект закона „Аб рэфэрэндуме". Утварылася стандартная сытуацыя: парляманцкая намэнклятурная бальшыня напісала і супрацьпаставіла паралельны праект. Апазыцыйны праект галасаваньнем адкінулі, а намэнклятурны (з папраўкамі і з палажэньнямі Апазыцыі) прынялі.

Адразу ж (у канцы 1991 г.) Фронт абвясціў аб зборы подпісаў за рэфэрэндум аб новых выбарах. Праз два месяцы было сабрана 420 тысяч подпісаў (па закону неабходна было 300 тысячаў).


(Фота У. Кармілкіна)

***56. Васіль Быкаў. 1998 г.***

Подпісы прыняла і зацьвердзіла Камісія па рэфэрэндуме, што абазначала рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндума. Вярхоўны Савет, згодна закону, павінен быў прызначыць дату ўсенароднага галасаваньня.

Шэсьць месяцаў Вярхоўны Савет (па волі свайго кіраўніцтва) не зьбіраў сэсію, адмаўляўся прызначаць дату і разглядаць гэтае пытаньне. Актыўную пазыцыю супраць рэфэрэндума заняў сьпікер С. Шушкевіч у паразуменьні з прэм'ерам В.Кебічам, усім урадам і Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савета.

У кастрычніку 1992 года адбылася беспрэцэдэнтная расправа бальшыні Вярхоўнага Савета над законнасьцю і воляй людзей. Рэфэрэндум быў забаронены. Спрацавалі ня толькі палітычныя, але і псыхалягічныя чыньнікі. Выявілася, што ніхто, акрамя дэпутатаў Народнага Фронту, не хацеў разьвітацца з дэпутацтвам у старым Вярхоўным Савеце (бо меркавалі, што паўторна іх ня выбяруць). Камуністы, ветэраны, маргіналы, незалежныя дэпутаты і ўсе дэмакраты з Дэмакратычнага Клюбу галасавалі за растаптаньне законнасьці і за незаконную забарону рэфэрэндума. Дэпутаты ад БНФ засталіся адны са сваімі паўмільёна подпісамі і сваім народам. Народ маўчаў.

* * *

З гледзішча палітычных, фармальных ацэнак, забарона рэфэрэндума – гэта быў подлы ўдар па Фронту, незаконная ўзурпацыя ўлады намэнклятурай. Апоры на ўладу ў Фронта не было, а апора на нізы не спрацавала.

З гэтага часу, напачатку непрыкметна, а потым усё больш відавочна, Беларусь стала падаць у яму. Пачаўся наступ унутранай рэакцыі і, што самае кепскае, рэакцыі зьнешняй – рускага імпэрыялізму.

Напалоханая падрыхтоўкай да рэфэрэндума аб уладзе беларуская намэнклятура прывычна кінулася да Масквы. Кебіч уводзіць функцыянераў савецкага КГБ у структуры беларускага ўраду, спрыяе стварэньню і фінансаваньню арганізацыяў антыбеларускай 5-й калёны, будуе эканамічныя дачыненьні краіны з арыентацыяй на фінансава-прамысловыя групы і нафтавую мафію Расеі, падтрымлівае і прапагандуе маскоўскую палітыку аб стварэньні адзінай беларуска-расейскай грашовай сістэмы, так званай „калектыўнай бясьпекі" і расейска-беларускай дзяржаўнай „інтэграцыі". Над беларускай незалежнасьцю навісла рэальная пагроза, а рабаваньне народа, дзяржавы, карупцыя набылі адкрытыя і цынічныя формы.

Намэнклятурная бальшыня Вярхоўнага Савета падтрымала гэтую палітыку Кебіча і пачала рыхтаваць увядзеньне прэзыдэн-

цтва з мэтай, якая была відавочнай: канцэнтрацыя і ўмацаваньне сваёй улады.

У гэтай сытуацыі Беларускі Народны Фронт выступіў супраць увядзеньня прэзыдэнцтва і паставіў перад сабой выразную палітычную задачу – адстаўка ўрада Кебіча.

У Вярхоўным Савеце, пасьля структурнага аб'яднаньня „намэнклятурных" дэпутатаў вакол ураду Кебіча, Апазыцыі БНФ стала працаваць вельмі цяжка. Пачалася блакіроўка ўсяго, што зыходзіла ад Фронту. Тады галоўны цяжар палітычнае працы быў перанесены ў выбарчыя акругі. Дэпутаты БНФ разам зь іншымі сябрамі Фронту аб'ехалі ўсю Беларусь, сотні гарадоў і мястэчак, мінаючы шалёныя перашкоды з боку ўладаў, сустрэліся з тысячамі людзей, пазнаёмілі іх з сваімі поглядамі, працай і крытыкай ураду. Да пачатку 1994 г. лёс прэм'ера Кебіча (як палітыка) у грамадзкай сьвядомасьці, практычна, ўжо быў вырашаны.

Такая палітыка была правільнай у тых умовах. Намэнклятурная бальшыня Вярхоўнага Савета імкнулася напралом увесьці прэзыдэнцкую сістэму пад Кебіча. Гэта ёй (груба, зь цяжкасьцю, з парушэньнем закона) удалося зрабіць. Аднак на выбарах Кебіч трапляў бы ў кепскі стан. Вялікая колькасьць людзей савецкай сьвядомасьці (на якіх ён спадзяваўся) за яго б ужо не галасавала, а аддала б галасы за альтэрнатыву (абы не за Кебіча). Альтэрнатывай быў страшнаваты для савецкага чалавека Народны Фронт. І тым ня менш, выбар шмат каму з „савецкіх" прышлося б рабіць не ў карысьць Кебіча.

Але сытуацыя зьмянілася, калі, дзякуючы шчыльнай рабоце Масквы і спэцслужбаў, зьявіўся новы, невядомы раней кандыдат на прэзыдэнта, які крытыкаваў Кебіча з пазыцыяў савецкага чалавека і адлюстроўваў савецкія каштоўнасьці. Гэта тое, што патрэбна было савецкаму электарату, які ўяўляў большасьць у Беларусі. Савецкі выбар вырашыў справу. Крамлёўскі разьлік спрацаваў.

## СУПРАЦІЎЛЕНЬНЕ

Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у 1994 годзе ўся ўлада ў Беларусі поўнасьцю трапіла ў рукі антыбеларускіх сілаў, а палітычная ініцыятыва – да прэзыдэнта. Імкненьне да дыктатуры пачало выяўляцца асабліва агрэсіўна з пачатку 1995 г., калі на абмеркаваньне ў Вярхоўны Савет былі прадстаўлены пытаньні сумна вядомага лукашэнкаўскага рэфэрэндуму. Антыбеларуская змова была відавочная. Адкрыта ігнараваўся закон. Довады аб незаконнасьці пастаноўкі на галасаваньне прапанаваных пытаньняў рэфэрэндуму не прымаліся пад увагу. Намэнклятура 12-га Вярхоўнага Савета, ўсьлед за прэзыдэнтам, ішла напралом да зьнішчэньня беларускай дзяржавы. Усе законныя, маральныя, проста людзкія магчымасьці спыніць нацыянальную ганьбу *Апазыцыяй БНФ* былі вычарпаныя. І тады *дэпутаты Фронта* зрабілі адчайны і нечаканы для дэпутацкай большасьці, але добра прадуманы маральны ўчынак: у знак пратэсту супраць парляманцкага беззаконьня і безадказнасьці перад нацыяй, яны аб'явілі парляманцкую галадоўку проста ў зале перад трыбунай для выступленьняў, гледзячы ў вочы астатнім дэпутатам. Дарэчы, менавіта ў гэтым быў маральна-псыхалягічны сэнс учынку: арганізаваць галадоўку менавіта ў парляманцкай залі ў час сэсіі, перад вачыма калег-дэпутатаў, каб узбудзіць у іх рахунак сумленьня. (Некаторыя някемлівыя людзі потым не разумелі гэтага, пыталіся, а чаму не на вуліцы.)

Учынак фронтаўскіх дэпутатаў моцна паўплываў на частку тых, што сядзелі ў залі. Пасьля нядоўгай дыскусіі пачалося галасаваньне. Усе не адпаведныя закону пытаньні рэфэрэндуму не набралі патрэбнай колькасьці галасоў. Гэта была ўжо перамога, якую, аднак, трэба было замацаваць прыцягненьнем усеагульнай увагі да парляманцкага беззаконьня. Галадоўка працягвалася. Ноччу па загаду Лукашэнкі ў парлямант былі ўведзеныя войскі (600 салдат і афіцэраў) і спэцгрупа КГБ „Альфа". *Дэпутаты Фронта* былі жорстка зьбітыя і вывезеныя з парляманту.

На раніцы па заяве дэпутатаў *Апазыцыі БНФ* Генэральны пракурор узбудзіў крымінальную справу па факту вайсковага нападзеньня на дэпутатаў у парляманце. Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета прыняў рашэньне тэрмінова разгледзець на сэсіі пытаньне аб адказнасьці за напад на дэпутатаў у парляманце. Але праз дзьве гадзіны, убачыўшы, што парлямант па загаду Лукашэнкі акружаны міліцыяй і ўнутранымі войскамі, якія прапускалі ў будынак парляманту толькі ляяльных дэпутатаў, сьпікер парляманту М. Грыб і члены Прэзыдыюма спалохаліся і адмовіліся ад ажыцьцяўленьня свайго намеру. Гэта вырашыла ўсё. Шанс спыніць дыктатуру ў самым пачатку быў страчаны. Дарога да перавароту была адчыненая.

* * *

У 1995 годзе перад сьцяной грубай антыбеларускай палітыкі *Народны Фронт* зноў зьвярнуўся да нацыянальнай ідэі як асноўнага кансалідуючага фактару грамадства ў змаганьні за людзкія правы і народныя інтарэсы. ***Калі зьневажаюць і зьнішчаюць усё, што беларускае, то беларусы павінны трымацца і аб'ядноўвацца на ўсім, што беларускае: на беларускай мове, на беларускім сьцягу, на беларускай дзяржаве, на беларускай культуры, на беларускай уласнасьці*** і г.д.

Мэтанакіраванае ўсьведамленьне нацыянальнай ідэі дапамагло скансалідавацца актыўнай частцы грамадства і моладзі ў цяжкія 1996-1997 гады, калі ўзьнікла рэальная пагроза расейскай анэксіі Беларусі. Менавіта дзякуючы нацыянальнай салідарнасьці, удалося тады стрымаць разбуральныя пляны „інтэгратараў".

У жніўні 1995 года Фронт ставіць пытаньне аб неабходнасьці адстаўкі Лукашэнкі праз імпічмант і аб стварэньні антылукашэнкаўскай апазыцыі па адзіным крытэрыі – адносны да Лукашэнкі (да імпічманту Лукашэнкі).

Праца над арганізацыяй такога салідарнага змаганьня вялася на працягу ўсёй першай паловы 1996 года. Аднак асноўны цяжар барацьбы з рэжымам і ахвяры *Народнаму Фронту* прышлося ўзяць на сябе. Антылукашэнкаўская апазыцыя канчаткова сфармавалася толькі восеньню 1996 г. Справа імпічманту разьвівалася даволі пасьлядоўна і юрыдычна не выклікала сумненьняў. Але ў лістападзе была ганебна правалены ў выніку здрады і беспрынцыпнасьці старшыні Канстытуцыйнага Суда В.Ціхіні і старшыні Вярхоўнага Савета С. Шарэцкага. *Народны Фронт* у гэты час ужо ня меў сваіх прадстаўнікоў у парляманце і ня мог прадухіліць пераварот і няправільныя паводзіны дэпутатаў ў Вярхоўным Савеце.

Аднак пасьля лістападаўскага перавароту *Народны Фронт*, і асабліва беларуская моладзь, не разгубіліся і аказалі энэргічнае, яраснае, ахвярнае супраціўленьне чарговым спробам інтэграцыйнай анэксіі Беларусі. Вынікі гэтай барацьбы не былі дарэмнымі. Змаганьне з акупацыйным рэжымам і з „інтэграцыяй", а таксама здрада ў Вярхоўным Савеце і распад „антылукашэнкаўскай апазыцыі", падказала новую салідарную форму беларускай барацьбы, заснаванай на нацыянальнай ідэі – ***Вызвольны рух***.

Аб'ядноўчы крытэрый вызвольнага руху ўжо іншы, чым у „антылукашэнкаўскай апазыцыі". Ён мае агульнанацыяналь-

ны сэнс і вызначаецца адносінамі да імпэрскай Расеі, да яе „інтэгратарскай” палітыкі. У становішчы ўнутранай акупацыі Беларусі прамаскоўскім рэжымам і непасрэднай пагрозы яе незалежнасьці з боку Расеі, крытэрый вызначаецца, перш за ўсё, па дачыненьнях да аб’екта небясьпекі, а не да суб’екта незалежнасьці. Гэтак жа, як у этнічнай сьвядомасьці па лініі „свой – чужы”. Мала прызнаваць „сваіх”, трэба аддзяляць сябе ад „чужых”. Калі ўсе „свае”, то і этнаса не існуе. Мала выступаць за незалежнасьць і за дзяржаву Беларусь (і Ціцянкоў* за Беларусь). Калі Расейская палітыка пагражае Беларусі, то трэба фармаваць пазыцыю па дачыненьнях да пагрозы. Інакш можа стацца савецкі ідыятызм у галаве: „Мы за незалежную Беларусь і за інтэграцыю з дэмакратычнай Расеяй.”


(Фота Ю. Дзядзінкіна)

***57. 10-годдзе БНФ. Менск. Заля ўрачыстага сходу.***

Ніякіх саюзаў, ніякіх сумесных дачыненьняў з Расеяй – вось пазыцыя вызвольнага руху. Расея ёсьць натуральны, спрадвечны вораг Беларусі ўжо амаль тысячу гадоў. Не зразумеўшы і не ўсьвядоміўшы гэта, ніякай незалежнасьці, ніякай незалежнай дзяржавы беларусы мець ня будуць.

У асноўным дакуманце *V-га зьезду БНФ* (1997 г.) пра вызвольны рух сказана наступным чынам:

*„Беларускі Народны Фронт – зьява шырэйшая за звычайную палітычную партыю. Мы – нацыянальна-вызвольны рух, галоўны сёньня гарант незалежнасьці Беларусі, і мы мусім выкарыстаць шанец ператварыць барацьбу з дыктатарам у барацьбу за незалежнасьць і адраджэньне Бацькаўшчыны... Фронт, ягоныя сябры і ягоныя структуры павінны стаць жыцьцядзейнай у любых умовах нацыянальна-вызвольнай сілай, вакол якой здольныя згуртавацца ўсе, хто стаіць на пазыцыі „ніякіх інтэграцыйных гульняў з Расеяй” і ня йдзе на ўзгоду з дыктатарскім рэжымам... Неабходна змагацца з дыктатурай так, каб гэтую барацьбу ня выкарыстала ў сваіх інтарэсах імпэрская Расея. Для гэтага беларускае грамадзтва з аб’екту чужых маніпуляцыяў мусіць ператварыцца ў згуртаваны нацыянальнай ідэяй і надзелены палітычнай воляй суб’ект, зь якім змушаны будзе лічыцца нават імпэрыялістычны драпежнік.”*

На гэтым стаім. З гэтым і пераможам.

## ВЫСНОВЫ

***1.*** Падсумоўваючы сказанае, мусім адзначыць, што зьяўленьне нацыянальна-адраджэнскага руху – *Беларускі Народны Фронт* – падчас распаду таталітарнай імпэрыі, якая праводзіла асімілятарскую палітыку, сьведчыць аб жыцьцёвасьці Беларускай Нацыі, аб тым, што 70 гадоў уціску і генацыду (а, фактычна, 200 гадоў) ня зьнішчылі яе нацыянальнай сілы і народнага руху.

***2.*** Арганізацыя *Беларускага Народнага Фронту* абазначае падзею вялікага гістарычнага значэньня. Гэта ёсьць маніфэстацыя беларускай нацыянальнай ідэі, працяг ідэалаў і вялікай справы *Беларускай Народнай Рэспублікі*.

***3.*** Няшчасьцем беларускага нацыянальна-вызвольнага руху і беларускага адраджэньня пачатку і першай паловы ХХ стагоддзя было яго спалучэньне з сацыялізмам, з сацыялістычнымі ідэямі і левымі палітычнымі сіламі. Левыя сілы ўзначалілі нацыянальна-вызвольны рух. Гэта прывяло да трагедыі нацыі ў ХХ стагоддзі. Зьяўленьне *Беларускага Народнага Фронту* абазначае гістарычны пералом у нацыянальнай пэрспэктыве. Новае паўторнае беларускае адраджэньне канца ХХ стагоддзя, актыўны пачатак якога сымвалізуе і прадстаўляе *БНФ*, выяўляе правы цэнтрызм, змагаецца з сацыялізмам і грунтуецца на традыцыях нацыянальнага вопыту, на кансэрватыўных каштоўнасьцях і на прынцыпах хрысьціянскай дэмакратыі.

***4.*** Дзесяць гадоў барацьбы *Беларускага Народнага Фронту*, палітычная дзейнасьць дэпутацкай *Апазыцыі БНФ* у Вярхоўным Савеце 12–га скліканьня пераканаўча засьведчылі ўнікальную заслугу Фронта ў здабыцьці незалежнасьці і суверэнітэту Беларусі.

***5.*** Змаганьне *Фронта* за адкрыцьцё праўды пра Чарнобыль, за эканамічныя рэформы, заканадаўчая дзейнасьць дэпутацкай *Апазыцыі БНФ* у Вярхоўным Савеце 12–га скліканьня, арганізацыя барацьбы з антыбеларускім рэжымам, з дыктатурай і рускім імпэрыялізмам, за разьвіцьцё беларускай культуры, асьветы, навукі і школьніцтва – усё гэта было выклікана і падрыхтавана ўсьведамленьнем нацыянальных інтарэсаў Беларускага Народа і дабра беларускай дзяржавы.

***6.*** *Беларускі Народны Фронт* быў і застаецца ініцыятарам змаганьня за свабоду, незалежнасьць, волю і дэмакратыю ў Беларусі. Ён ёсьць генэратарам стваральных ідэяў, пагрунтаваных на агульным дабры, жыцьцёвых інтарэсах людзей і інтарэсах Беларускай нацыі.

***7.*** Дзейнасьць і вынікі дзейнасьці *БНФ* адлюстравалі стан і ўзровень сьвядомасьці актыўнай нацыянальна занепакоенай часткі беларускага народа.

*16 кастрычніка 1998 г. Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 7(17); Пагоня, – 1998, 10 лістапада).*

---

* Іван Ціцянкоў, кампаньён Лукашэнкі, на той час кіраўнік адміністрацы прэзыдэнта. Адміністраваў крымінальнымі мэтадамі. Здзейсьніў недаравальнае злачынства – публічна парваў нацыянальны дзяржаўны Сьцяг Беларусі. Зьдзекваўся над ім, пісаў на тканіне паскудныя надпісы. Хаваецца ў Расеі. – *(З. П.)*

# АБ ДЫФАМАЦЫІ

*(Заява)*

У пачатку лістапада гэтага года кіраўнік камісіі па міжнародных справах нелегітымнага парляманту цяперашняй Беларусі генэрал Чаргінец выступіў з чарговай спробай дыфамацыі ў мой адрас, заявіўшы аб тым, што ўлады Лукашэнкі „прадставілі" намесьніку старшыні Парляманцкай Асамблеі Рады Эўропы спадару Р. Антрэтару „тэксты шматлікіх выступаў З. Пазьняка, дзе, на іх думку, „выстаўляліся тэрытарыяльныя прэтэнзіі да суседніх дзяржаваў і сеялася міжнацыянальная розьнь" („Белорусская газета").

Ужо дзесяць гадоў, пачынаючы ад адкрыцьця Курапатаў у 1988 годзе (месца камуністычных расстрэлаў нявінных людзей) і ад пачатку стварэньня Беларускага Народнага Фронту, які паставіў крыж на камунізме ў Беларусі, я падвяргаюся шалёным нападкам з боку тагачаснай, былой і цяперашняй намэнклятуры. „Міжнацыянальная розьнь" і „тэрытарыяльныя прэтэнзіі" – гэта яшчэ самае мяккае, што прыдумалі пра мяне прадстаўнікі былой ідэалёгіі і арганізацыі КПСС, якая праводзіла тэрор, генацыд, зьнішчыла мільёны людзей і распачала разам з гітлераўцамі 2-ю Сусьветную вайну за падзел сьвету.

Я змагаўся, змагаюся і буду змагацца супраць гэтай антылюдзкай ідэалёгіі, злачыннай партыі і яе цяперашніх дзеючых і мімікрыруючых кіраўнікоў. Бо сучасны дыктатарскі рэжым на Беларусі – гэта ёсьць рэжым камуністычнага савецкага рэваншызму, арганізуючай сілай якога зьяўляецца КГБ.

Палітыка арганізацыі і пазыцыя асобы вызначаецца не па фразах, а па самым кантэксьце, па зьмесьце і выніках дзейнасьці.

У Беларусі дыктатура, правы чалавека паламаныя, беларускія школы зачыненыя, а сярэдняя зарплата зьнізілася да 20-15 даляраў у месяц, і людзі, што выбралі і прадаўжаюць любіць „прэзыдэнта", здаюць сваю кроў, каб паесьці. Вось аблічча цяперашняй дыктатарскай Беларусі.

Усё гэта не замінае міністрам і генэралам рэжыму цынічна аб'яўляць цяперашнюю Беларусь „узорам дэмакратыі", а эканамічны спад – эканамічным уздымам.

Прырода гэтакай зьявы, як і прычыны дыфамацыі супраць мяне – вядомыя. І я, і Народны Фронт заўсёды стаялі і стаім на абароне правоў чалавека, свабоды і дэмакратыі, незалежнасьці Беларусі, парлямантарызму і законнасьці. Мы стаім за эўрапейскі шлях разьвіцьця і не прымаем рэваншысцкую палітыку рускага імпэрыялізму. Мы прытрымліваемся Гэльсінскіх пагадненьняў у дачыненьні паміж людзьмі, краінамі і народамі. Але галоўнае тое, што мы засьведчылі і сьведчым гэта ў сваёй палітычнай дзейнасьці і палітычным змаганьні.

Мэтады маіх палітычных антаганістаў непрыймальныя ў цывілізаванай палітыцы. Усяму ёсьць мяжа. Вядома, людзям, што зрабілі пераварот, рот не зачыніш. Але пасьля ліквідацыі дыктатарскага рэжыму за дыфамацыю (і ня толькі за дыфамацыю) ім прыдзецца адказваць перад адноўленым у правах беларускім судом.

Ніколі дыктатура не была вечнай, тым больш у Эўропе. І мы разьлічваем на салідарнасьць эўрапейскіх структураў у нашым змаганьні за правы чалавека, незалежнасьць, культуру і свабоду Беларусі.

*12 лістапада 1998г. Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 7(17); Пагоня, – 1998, 17 лістапада; Народная Воля,– 1998, 18 лістапада).*

# ЭКАНАМІЧНАЯ СТАТЫСТЫКА І РЭАЛЬНАСЬЦЬ

Статыстычная служба Беларусі ў канцы 1997 г. абнародавала дадзеныя пра вынікі эканамічнага разьвіцьця за 11 месяцаў 1997-га году. Згодна афіцыйных дадзеных, прамысловая прадукцыя павялічылася на 16,8 адсоткаў, а сукупны нацыянальны прадукт узрос на 10 адсоткаў. Такім паказчыкам магла б пазайздросьціць любая дэмакратычная разьвітая краіна. Тым часам пагаршэньне жыцьця людзей у Беларусі відавочнае. Дык ці сапраўдная афіцыйная статыстыка?

Беларускія эканамісты прааналізавалі становішча і раскрылі мэтодыку ўтварэньня такой статыстыкі. Сутнасьць яе вельмі простая. Дадзеныя вылічваюць па выпрабаваных правілах і фармальна яны статыстычна адпаведныя, але неадпаведныя эканамічна, бо ня ўлічваецца ўзровень інфляцыі. Доктар эканамічных навук ***Уладзімер Кулажанка*** паказвае сутнасць мэтаду: „Механізм такога росту нескладны: адміністрацыя „гоніць вал", ня гледзячы ні на якія выдаткі. Атрымалася, што 90% прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасьці маюць норму прыбытку ніжэйшую за ўзровень інфляцыі. Значыць, фактычна, яны стратныя. Балянсавы прыбытак статыстыка залічвае ў валавы ўнутраны прадукт, а ў сапраўднасьці ніякага прыбытку няма. Гэта такое становішча, калі адбываюцца вылікі з даходаў насельніцтва (з-за няўлічэньня інфляцыі), бо можна разьмяркаваць толькі абаранак, але не яе дзірку."

Рэжымная статыстыка (відаць, зважаючы на прапаганду „рынкавага сацыялізму") ня ўлічвае той факт, што *на рэнтабельнасьць уплывае інфляцыя. Калі на прадпрыемстве, напрыклад, рэнтабельнасьць складае 16%,* а *абарот капіталу складае 4 месяцы, то пры інфляцыі 20% за гэтыя чатыры месяцы фактычная рэнтабельнасьць будзе* **мінус 4%,** *а не плюс 16%.*

Урадавая падтрымка стратных прадпрыемстваў прывяла да таго, што за кошт інфляцыі падтрымлівалі ілюзію высокіх тэмпаў прыросту валавага прадукту, у той час, калі інфляцыя адабрала заробкі ў насельніцтва.

У жыцьці, калі чалавек бачыць, што яго зарплата падвоілася, а цэны патроіліся, ён, незалежна ад узроўню адукацыі, нешта ня радуецца падваеньню сваёй зарплаты, а кажа, што зьбяднеў, што стала горай. Лукашэнкаўскі рэжым якраз у аналягічнай сытуацыі, але робіць выгляд, што радуецца, хоць на самой спра-

ве, як адзначыў акадэмік ***І. Нікітчанка***, адбыўся ня рост вытворчай прадукцыі на 16,8%, а яе спад на 6% (гл.„*Беларускія Ведамасьці", №5(9)* ). Пры тым адбываецца гэтае спаўзаньне ўніз і зьбядненьне людзей па тыпова сацыялістычным мэтадзе: фінансуюць стратныя прадпрыемствы, вырабляюць прадукцыю, якую нельга рэалізаваць, затаварываюць склады і... не выплочваюць зарплату рабочым. Вось вам і крайні ў гэтым ланцужку – працаўнік, які аддаў сваю працу задарма, хоць і павялічыў выпуск непатрэбнай прадукцыі. Такім чынам Лукашэнка „запускае" заводы, прапаганда стварае статыстыку росквіту, рабочы кладзе зубы на паліцу і хваліць Лукашэнку.

„Росту рэальных даходаў насельніцтва ў мінулым годзе няма і не было, – кажа доктар У.Кулажанка. – Пра гэта гавораць і цэны у крамах. Разьлікі паказваюць: калі ўзяць намінальныя рэальныя даходы на чалавека ў кастрычніку 1996 г., падлічыць індэкс спажывецкіх цэнаў за кожны месяц да лістапада 1997 г., то акажацца, што рэальныя грашовыя даходы на душу насельніцтва не павысіліся, а зьменшыліся на 24% (на адну чвэрць). Калі на пачатку аналізуемага пэрыяду гэтыя даходы былі роўныя 1 мільёну 378 тыс. рублёў, то праз год – 1 мільёну 60 тыс. рублёў (на 338 тыс. меней). Гэтыя разьлікі зробленыя на аснове афіцыйных дадзеных."

Другі вельмі небясьпечны аспэкт у сацыялістычнай лукашэнкаўскай эканоміцы – гэта праяданьне абаротных сродкаў. Па дадзеных Міністэрства статыстыкі, толькі за 7 месяцаў мінулага году абаротныя сродкі прадпрыемстваў паменшыліся на 10,3%. Рост валавага ўнутранага прадукту быў меншы, чым памер „праяданьня" абаротных сродкаў; паменшыліся запасы сыравіны камплектуючых, запасы матэрыялаў на складах прадпрыемстваў. Прадпрыемствы ў 1998 годзе ня змогуць ужо падтрымліваць вытворчасьць на тым жа ўзроўні, калі ня будуць папоўнены абаротныя сродкі.

Трэцяя надзвычай небясьпечная (самазабойчая) зьява ў калгасным сацыялізме рэжыму на Беларусі – гэта „праяданьне" назапашанага раней патэнцыялу, г.зн. – фондаў. Тое, на што асабліва зьвярнуў увагу акадэмік *І.Нікітчанка*. Фонды ў сельскай гаспадарцы Беларусі за сем гадоў (з 1991-га г.) зьменьшыліся ў ***восем*** разоў.

Узнікае пытаньне, калі гэтак будзе ўсё працягвацца далей, то колькі яно можа яшчэ трываць? Эканоміка ж ня гума. Эканаміст ***Л.Злотнікаў*** кажа што „луканоміка" будзе цягнуцца датуль, пакуль будзе што праядаць (абаротныя сродкі прадпрыемстваў, фонды, зьберажэньні насельніцтва, запасы зброі і г.д.). „Нейкі час гэта можа прадаўжацца, – кажа эканаміст, – але ня больш як год – паўтара. Бо мы „праядаем" усё, што можна праесьці".

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997/98, № 6(10). Пад псэўд. „ Адам Мікша").*



(Фота Ю. Дарашкевіч, Менск)

***58. Апошнія з бальшавікоў у Менску.***

# АБ ЗАДАЧАХ БНФ

*(Даклад на Сойме БНФ 12 сьнежня 1998 г., Варшава-Менск)*

…Заканчваецца 1998 год. Падсумуем вынікі нашае працы.

У 1998 годзе мы чакалі ад рэжыму працягу „інтэграцыйных" працэсаў, падрыхтоўкі выхаду Лукашэнкі на расейскае палітычнае поле, новых авантураў і новых рашучых анэксіяністцкіх ініцыятываў з боку Масквы і прэзыдэнта Беларусі. Мы прадбачвалі няўхільнае пагаршэньне сацыяльна-эканамічнага стану насельніцтва, спад эканомікі і нарастаньне крытычнай сытуацыі для дыктатуры.

Мы не памыліліся ў аналізе працэсаў і чаканьня падзеяў, акрамя раптоўнага банкруцтва і дэфолту Расеі ў жніўні, чаго мы не спадзяваліся таксама.

Крах эканомікі і фінансаў Расеі зблытаў карты „інтэгратараў". Інтэграцыйныя ініцыятывы, якія (па ўсім відаць) меркаваліся на восень гэтага года, адкладзеныя на потым.

Нагадаю, якія стратэгічныя палітычныя задачы ставіў у пачатку года Народны Фронт, зыходзячы з ацэнкі становішча.

**Першае і найважнейшае:** стварэньне сытуацыі двоеўладдзя ў краіне шляхам фармаваньня грамадзянскай супольнасьці грамадзянаў БНР і арганізацыі праз яе структураў самакіраваньня, выбарных ворганаў, камісіяў, камітэтаў.

**Другое:** шырокае правядзеньне акцыі „Адстаўка Лукашэнкі" і зьбіраньне да канца 1998 году мінімум ста тысячаў подпісаў за адстаўку.

**Трэцяя задача.** Ценявому кабінету БНФ, на аснове Эканамічнай праграмы БНФ 1994 года, трэба было падрыхтаваць праграму першачарговых і неадкладных эканамічных захадаў, якія неабходна ажыцьцявіць адразу пасьля ліквідацыі рэжыму.

**Чацьвёртае.** Праводзіць грамадзка-палітычныя акцыі пратэсту супраць акупацыйнай дыктатуры і этнацыду, мерапрыемствы ў абарону правоў чалавека, весьці культурна-асьветніцкую працу (праграма „Наш дом – Беларусь" і г.д.).

Практычна, выконвалася толькі чацьвёртая задача. Першыя тры спыніліся на першапачатковых этапах і – ня выкананыя.

Да чаго можа прывесьці такая абмежаваная пратэстацыйна-пазытывісцкая праца Фронта, калі яна будзе працягвацца далей? Бяздумны пазытывізм і пратэстацыйная актыўнасьць у палітычных паводзінах могуць спрыяць расхістваньню рэжыму і нават выклікаць яго разбурэньне, але вынікі змаганьня скарыстае тая сіла, якая прапануе палітычную канцэпцыю, гаспадарчую ініцыятыву, сілу і мадэль улады. У беларускіх варунках само выключэньне Фронта са стратэгічнай палітыкі, якое цяпер адбываецца, прывядзе да ўлады контравэрсійную намэнклятурную „вертыкаль" і спэцслужбы (КГБ-ФСБ), што дзейнічаюць у апазыцыі.

Мне бачацца дзьве прычыны безвыніковасьці палітычнай працы БНФ у стратэгічных пытаньнях. **Першая** (агульная і галоўная) – адсутнасьць палітычнай волі, веры ў палітычную неабходнасьць стратэгічнай работы і разуменьня яе значэньня. **Другая** прычына – пасыўнае супрацьдзеяньне гэтай працы з боку часткі намесьнікаў старшыні БНФ, неактыўнасьць кіраўніцтва.

На працягу 1998 года я шмат разоў спатыкаўся са сваімі намесьнікамі, зь дзясяткамі фронтаўцаў і кіраўнікамі зь Менска, Гарадзенскай, Берасьцейскай, Магілёўскай, Гомельскай, Менскай, Віцебскай вобласьцяў, з кіраўнікамі Ценявага кабінету і камісіяй Сойму, назіраў і аналізаваў сытуацыю. Прычыны неактыўнасьці нашай палітыкі, на жаль, тыя, пра якія я кажу.

Далейшая прымітывізацыя палітычнай дзейнасьці, зьвядзеньне яе да функцыі „мясіць гліну" прывядзе ня толькі да „ежджаньня" на фронтаўскім карку розных маргіналаў, ня толькі да „расчысткі дарогі" іншым, але і да дэградацыі фронтаўскіх структураў, да тармажэньня ўсяго Вызвольнага Руху.

Цяпер ня йдзе справа пра вінаватых. Але вынікі палітычнай працы ў 1998 годзе па выкананьні стратэгічных задачаў Фронта трэба прызнаць нездавальняючымі.

У 1999 г. на Беларусі могуць адбывацца важныя падзеі. Галоўнае, што мы павінны мець на ўвазе, – гэта магчымасьць узрастаньня незадаволенасьці рабочых кіруючым рэжымам у вясну 1999 года і верагоднасьць арганізацыі выбараў дыктатурай (у сумяшчэньні з чарговым рэфэрэндумам).

Сытуацыя ў Беларусі залежыць ад падзеяў у Расеі. У выніку магчымага раптоўнага адыходу Ельцына ад улады* можна спадзявацца антыпраўных дзеяньняў з боку Расеі і рэжыму Лукашэнкі, напрыклад, антызаконнага ўвядзеньня руска-беларускага грамадзянства, каб уключыць Лукашэнку ў расейскую барацьбу за Крэмль.

Трэба мець на ўвазе і магчымасьць такога варыянту, калі кадэнцыя Лукашэнкі ціха скончыцца і сытуацыя набудзе вельмі акрэслены характар.

У гэтых умовах палітычная стратэгія Фронта на 1999 год павінна рэальна ажыцьцяўляцца. Перашкоды на яе шляху трэба выключыць (калі спатрэбіцца, то самым радыкальным чынам).

**1.** Штодзённую працу Фронта трэба падпарадкаваць галоўнай палітычнай задачы – рэалізацыі ***канцэпцыі „Грамадзянства БНР"***, што прадугледжвае стварэньне двоеўладдзя і легальнае выцясьненьне дыктатуры праз стварэньне Грамадзянскай супольнасьці і ворганаў самакіраваньня БНР.

Гэта добрая канцэпцыя цалкам легітымнага змаганьня, якая патрабуе штодзённай разумнай працы, і, з цягам нарошчваньня сілаў, сустрэне рэальную падтрымку ў Беларусі і сьвеце.

**2.** Ценеваму Кабінету трэба неадкладна прыступіць да стварэньня ***Праграмы першапачатковых захадаў у эканоміцы***, якія неабходна пачаць адразу пасьля ліквідацыі дыктатуры. Праграма павінна быць поўнасьцю падрыхтавана да **1 сакавіка 1999 года**.

**3.** Нягледзячы на пасьлядоўнае правальваньне акцыі **„Адстаўка"** у 1998 годзе, у наступным, 1999-м, яе трэба інтэнсіўна запачаткаваць і праводзіць, выкарыстоўваючы, перш за ўсё, сьвядомы ўзровень людзей і ўзрастаньне незадаволенасьці рабочых, іхны рух і мерапрыемствы. Гэтая акцыя можа набыць вялікае значэньне вясной і летам, у час магчымага росту незадаволенасьці рэжымам. Інтэнсіфікаваць яе трэба ўжо з канца 1998 года.

**4.** Народны Фронт павінен актыўна падтрымаць нарастаньне беларускага рабочага руху, спрыяць стварэньню яго арганізацыйных структураў („Рабочага саюзу", страйкамаў і г.д.). Фронтаўцы павінны займаць кіруючыя пазыцыі ў рабочых арганізацыях і страйкамах. Пры гэтым, у рабочыя структуры павінны пайсьці вядомыя правераныя фронтаўцы (каб запабегчы пранікненьню агентуры КГБ-ФСБ у рабочы рух). Трэба падтрымліваць арыентацыю на ўсеагульны страйк супраць дыктатуры і дапамагаць гэтаму працэсу. (Практычная парада: стварыць камісію Сойму БНФ па сувязях з рабочым рухам. Увесьці туды спадароў Мухіна і Антончыка. Галоўная задача Камісіі – узаемадзеяньне з рабочымі і стварэньне структураў БНФ у рабочым руху.)

---

* Так яно і сталася. Праз год (у канцы 1999-га) Ельцына „дабраахвотна пад прымусам" выправадзілі з Крамля пуцінскія кагэбісты (зрабілі ціхі пераварот). – *(З. П.)*.

**5.** У міжнароднай палітыцы дамагацца рэальнай арыентацыі заходніх палітычных колаў на падтрымку Беларускага Народнага Фронту.

**6.** Патрэбна працягваць акцыі пратэсту, культурна-асьветніцкую дзейнасьць, абарону правоў чалавека, масавыя мерапрыемствы і г.д. Гэты кантэкст практычнай працы застаецца.

Вымушаны яшчэ раз паўтарыць сказанае раней і агульнавядомае. Наша праца і нашае палітычнае існаваньне толькі тады будзе мець вагу, сэнс і пэрспэктыву, калі мы **на практыцы** будзем здольныя заўсёды, у любой сытуацыі адказаць на пытаньне, **што і як трэба рабіць**. Калі ж палітыкам задаюць пытаньне „Што рабіць?", а яны пачынаюць доўга лепятаць, – гэта сьмешна і несур'ёзна. Толькі Фронт мае абгрунтаваную, рэальную і добрую канцэпцыю выхаду з дыктатуры. Але сам жа Фронт затармазіў яе практычную рэалізацыю. Гэта ненармальна.



*59. Народны Фронт. Пікет на Цэнтарльнай полшчы.*

**Эканамічны аспэкт.** Калі б працэсы раптам пайшлі хутка (што таксама магчыма) і дыктатура абрынулася б заўтра, то гэтае „заўтра" магло б стаць палітычным канцом Народнага Фронту (пра дэмакратаў увогуле не кажу). Бо для нас зьвярнуліся б з канкрэтным пытаньнем: што рабіць з цэнамі, з падаткамі, з беспрацоўем, з прадуктамі, з газам і бензынам, з малаком і г.д. І што б мы сказалі? Разважаньні на макраэканамічным узроўні усе ўжо чулі, а праграму, якую трэба будзе ў гэтых умовах мець і якую я пастаянна патрабую, – не зрабілі.

Мне цяжка схаваць расчараваньне пазыцыяй і працай некаторых маіх калегаў, улічваючы нават усе цяжкасьці сацыяльнага існаваньня, тым больш, што аб палітычнай неабходнасьці ажыцьцяўленьня нашай стратэгіі і аб канкрэтных справах тлумачэньні і патрабаваньні зыходзяць ня толькі ад мяне, але прынятыя таксама Соймам Народнага Фронту.

Дзеяньні некаторых маіх партыйных сяброў часам зьдзіўляюць мяне сваёй апалітычнасьцю. Дваццаць пятага лістапада ў Варшаве ў складзе дэлегацыі апазыцыйных асобаў ад Беларусі, якую прымала кіраўніцтва Польшчы, прысутнічалі два намесьнікі старшыні БНФ – спадары В. Вячорка і Ю. Хадыка. Сустрэча з польскім кіраўніцтвам прайшла, фактычна, упустую для БНФ. Да таго ж у польскіх СМІ не было ні радка, ні гуку пра гэты факт. Пры гэтым мае намесьнікі ўмудрыліся нават не праінфармаваць старшыню БНФ аб сваёй прысутнасьці ў Варшаве (ня кажучы ўжо пра абавязковасьць спатканьня і ўзгадненьня пазыцыяў).

Дапамогі з боку старшыні Замежнай камісіі спадара Вячоркі я ня маю і не адчуваю, быццам і няма такой камісіі. Нічога ня робіцца. Я быў вымушаны прасіць Першага намесьніка спадара Папкова ўзяць на сябе адказныя арганізацыйныя моманты ў Эўропе, якія мне не выпадае рабіць самому (ды й немагчыма фізічна ўсюды пасьпець). Дзякуй Богу, спадар Папкоў зрабіў усё добра і ўсё, што трэба, хоць на ім ляжыць вялікая праца ў Беларусі, якую ўсе мы павінны рабіць.

Пасьля фінансава-эканамічнага краху Расеі заходняя палітыка на Ўсходзе Эўропы будзе істотна карэктавацца. Уся мая дзейнасьць тут цяпер ідзе ў гэтым накірунку. Мы павінны ўплываць на карэкцыю Заходняй палітыкі, бо справа ідзе аб існаваньні Беларусі. Гэта па-свойму зразумеў нават Лукашэнка і пачаў рабіць адчайныя крокі. Тым больш гэта павінны разумець франтаўцы.

Застойнасьць працы ў кіраўніцтве арганізацыі часта выклікае ў гэтага кіраўніцтва аднолькавыя засьцерагальныя рэакцыі – імкненьні да рэфармаваньня структураў. Я хацеў бы перасьцерагчы ад такіх шкодных забавак і звальваньня з хворай галавы на здаровую. Справа не ў структурах, а ў людзях, паўтаруся, – у паралічы палітычнай волі. Структуры ў нас сфармаваныя нармальна. Мы зрабілі і Пашыраную Ўправу, і Галоўную рэгістрацыйную групу, маем добрых кіраўнікоў. Трэба толькі воля да палітычнай працы, сама праца і – вынікі.

Пра аб'яднаньне дэмакратаў і пра Кангрэс так званых „дэмакратычных сілаў" я ўжо коратка пісаў у папярэднім лісьце на лістападаўскі Сойм. Сутнасьць палітыкі хранічнага „объединения демократов" нам добра вядомая. Яна пачалася з 1988 года, як толькі ўзьнік БНФ. Партыям, якія (яшчэ нават толкам не стварыўшыся) хварэюць на „объединение", можна параіць больш працаваць у рэчышчы сваіх статутаў і фармаваць арганізацыі, якія яны дэкляруюць, ажыцьцяўляць праграмы, якія яны пішуць. Адзінай пазыцыяй для ўсіх павінна быць непрыняцьце дыктатуры і імпэрскай інтэграцыі з Расеяй.

Фармальнае блёкавае аб'яднаньне з дэмакратычнымі партыямі мае сэнс і месца ў палітыцы толькі падчас выбараў. Зразумела, чаму. Цяпер жа сытуацыя адваротная. Нельга ўдзельнічаць у выбарах. Таму зьмест дэмакратычнага Кангрэсу павінен заключацца толькі ў адным рэальным пытаньні: прыняцьці рашэньня Кангрэсам (і потым кожнай партыяй паасобку) аб няўдзеле ў лукашэнкаўскіх выбарах. Фронт, які ўжо вызначыў сваю пазыцыю аб няўдзеле ў выбарах, павінен прапанаваць дэмакратам прыняць такое ж салідарнае рашэньне.

Жаданьне дэмакратаў стварыць пастаянны Кангрэс як нейкую субструктуру – да БНФ ня мае і не павінна мець дачыненьня.

Дарагія сябры! Віншую Вас з Нараджэньнем Хрыстовым і Новым Годам!

Зычу Вам моцы і посьпехаў у нашай агульнай справе і ў вашай ахвярнай працы.

Жыве Беларусь!

Слава героям!

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

*12 сьнежня 1998 г., Варшава.*

# АБАРОНІМ БЕЛАРУСЬ

*(Ліст да грамадзянаў Беларусі)*

25-га сьнежня гэтага года прэзыдэнт Беларусі Лукашэнка і прэзыдэнт Расеі Ельцын падпісалі ў Маскве дэклярацыю аб аб'яднаньні Беларусі з Расеяй і шэраг дамоваў. Згодна гэтых дакумантаў, Беларусь плянуюць далучыць да Расеі і ўтварыць адзіную дзяржаву з адзіным бюджэтам, адной мытнай службай, агульным правам на набыцьцё і распараджэньне маёмасьцю, з агульнымі грашыма і грамадзянствам.

За тыдзень да Сьвята Божага Нараджэньня Лукашэнка злавесна паабяцаў беларусам, што зробіць ім „сюрпрыз". І вось „сюрпрыз" аб'яўлены. Лукашэнка мяркуе правесьці чарговы незаконны рэфэрэндум аб ліквідацыі незалежнасьці і суверэнітэту беларускай дзяржавы.

З пункту гледжаньня права, ***авантурны учынак Лукашэнкі ёсьць злачынства перад законам, якое кваліфікуецца як здрада дзяржаве і народу Беларусі.***

Згодна Канстытуцыйнага закона аб рэфэрэндуме (1991 год), беларускае права не дазваляе выносіць на рэфэрэндум пытаньні, якія закранаюць асновы існаваньня беларускай дзяржавы, суверэнітэту і тэрыторыі. Да таго, ж ніякі рэфэрэндум ня можа праводзіцца ва ўмовах дыктатуры, без дэмакратычных свабодаў, пры адсутнасьці допуску апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі, у абставінах парушэньня чалавечых правоў, наяўнасьці палітычных вязьняў у турмах і бязьдзейнасьці заканадаўства, якое падменена воляй дыктатара.

З пункту гледжаньня палітычнае матывацыі – гэта ёсьць змова двух збанкрутаваных палітыкаў, дзе Ельцын хоча засьведчыць, што ён яшчэ ўплывае на палітыку Расеі, а Лукашэнка – удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у Расеі і трапіць у Крэмль цаной прадажы Беларусі.

Бессаромная дэклярацыя 25-га сьнежня зьяўляецца трэцяй спробай анэксаваць Беларусь (першыя дзьве былі ў 1996, 1997 гг.). Гэтая дзіўная, на першы погляд, палітыка абумоўленая ўнутранай акупацыяй Беларусі сіламі савецкага КГБ, якая пачалася ў 1994-м годзе пасьля выбраньня на прэзыдэнта Беларусі агента КГБ Аляксандра Лукашэнкі. Улада ў Беларусі была захоплена расейскімі спэцслужбамі і агентурай – знутры: спачатку (1994 г.) легальным шляхам, выкарыстаўшы выбары, а потым (1996 г.) – шляхам антыканстытуцыйнага перавароту. Акупаваная Беларусь стала прыстанішчам імпэрскага рэваншу па ўтварэньні новага „славянскага" СССР (Беларусь, Украіна, Расея) і прадметам гандлю Лукашэнкі з Масквой за ўладу ў Крамлі.

Менавіта акупацыйным характарам рэжыму тлумачыцца антыбеларуская палітыка Лукашэнкі на Беларусі: закрыцьцё беларускіх школаў, разбурэньне беларускай навукі, асьветы, культуры, разбурэньне дзяржаўных інстытутаў улады, судоў, выгнаньне прафэсійных нацыянальных кадраў са сфэры іхных інтарэсаў, ліквідацыя сярэдняга і малога бізнэсу, этнацыд, штучнае прывязваньне беларускай экономікі і гандлю да хворай крымінальнай і канаючай экономікі Расеі, якая цягне Беларусь на сьмяротнае дно. Але галоўнае – фантастычнае ашуканства і абрабаваньне беларускага грамадзтва.

Што б мне хацелася сказаць грамадзянам Беларусі у сувязі са становішчам.

Мы павінны змагацца за свае правы, уласнасьць і культуру, за свабоду і незалежнасьць Беларусі. Мы павінны ліквідаваць дыктатуру, усталяваць законнасьць і права ў сваёй краіне.

Патрабуйце адстаўкі Лукашэнкі. Далучайцеся да акцыі *Народнага Фронта* аб адстаўцы прэзыдэнта, аддавайце свае галасы і стаўце подпісы за адстаўку, за прыцягненьне Лукашэнкі да адказнасьці за здраду. Патрабуйце суду над здраднікам.

Пратэстуйце. Удзельнічайце ва ўсіх пратэстацыйных акцыях *Народнага Фронту* супраць анэксіі, інтэграцыі і ўсялякіх псэўдарэфэрэндумаў. Ідзеце на мітынгі, дэманстрацыі, шэсьці, станавецеся ў пікеты, зьбірайце сродкі на барацьбу. Будзьма салідарныя з усімі, хто змагаецца за свабоду і незалежнасьць Беларусі.

Рыхтуйце ўсеагульны нацыянальны страйк. Стварайце паўсюдна забастовачныя камітэты. Вясной масавы ўсебеларускі страйк павінен адбыцца і ператварыцца ў бесперапынную акцыю, якая, сумесна з палітычнымі дзеяньнямі, зьмяце прамаскоўскі акупацыйны рэжым.

Ніводная беларуская партыя не павінна ўдзельнічаць у лукашэнкаўскіх выбарах па яго нелегальных законах. Удзел у акупацыйных выбарах па нелегальных законах дыктатуры будзе азначаць прызнаньне і легалізацыю гэтых законаў і гэтага рэжыму. Ва ўмовах дыктатуры выбары і рэфэрэндумы выйграе толькі дыктатар. Удзел у акупацыйных выбарах будзе фактычным супрацоўніцтвам з рэжымам і здрадай Беларусі.

Асобы, якія заклікаюць да ўдзелу ў лукашэнкаўскіх выбарах (ды яшчэ праз пакліканьне парляманцкай асамблеі дэпутатаў былога Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня), дзейнічаюць як людзі, што не задумваюцца пра вынікі сваіх прапановаў. Бо калі б сабралася такая „асамблея", дзе большасьць складаюць здраднікі і калябаранты, то яна б прыняла зусім ня тыя рашэньні, пра якія кажуць пражэкцёры, а тыя, што выгадныя рэжыму, якому служыць бальшыня былых дэпутатаў.

Ніякага даверу у цэлым неіснуючаму Вярхоўнаму Савету 13-га скліканьня і яго дэмагогам ня можа быць. Хто здрадзіў Беларусі тройчы, той здрадзіць і далей. Абсурд – зьвязваць нейкія палітычныя надзеі зь бясслаўным фантомам.

Уступайце ў грамадзянства ***Беларускай Народнай Рэспублікі***. Гэта ёсьць легальная альтэрнатыва бяспраўю *і* акупацыйнаму рэжыму. Мы створым камітэты і органы самакіраваньня *грамадзянаў БНР*. Сумесна са страйкамамі, прафсаюзамі, партыямі і грамадзкімі арганізацыямі мы склічам прадстаўнічую усебеларускую асамблею грамадзянаў БНР, прымем на ёй дэмакратычны закон аб выбарах (праект якога ўжо даўно напісаны), утворым Цэнтральную выбарчую камісію і правядзем выбары ў парлямант на прапарцыйнай аснове. Мы створым двоеўладдзе – і дыктатура ссохне, як восеньскі ліст. Лукашэнка застанецца адзін са сваімі незаконнымі паўнамоцтвамі, і ніхто ня будзе за яго змагацца, нават яго ўрад і яго „вертыкаль". Ён надакучыў усім. У нас зьявіцца салідарная сіла, і мы патрапім разумна яе скарыстаць.

У будучыні мы ліквідуем прэзыдэнцкую сістэму на Беларусі, зьнішчым тым самым мэханізм дыктатуры і магчымасьць замежнага уплыву на беларускую ўладу. У цяперашніх абставінах прэзыдэнцтва нам не падыходзіць. Мы даводзілі грамадзтву гэтую, цяпер ужо відавочную, праўду, пачынаючы з 1991 году. Сытуацыя такая, што любыя прэзыдэнцкія выбары дадуць „савецкі вынік" і адпаведныя дачыненьні з Масквой. Гэта значыць – залежнасьць ад палітыкі імпэрскай і хворай краіны.

Улічым таксама, што савецкі КГБ, як любяць казаць яго адэпты, „ніколі не кладзе яйкі ў адзін кошык". Захапіўшы ўладу, функцыянэры імкнуцца „захапіць" і апазыцыю, узначаліць яе, альбо

стварыць свае „апазыцыйныя” цэнтры. Невыпадкова, што група асобаў, якая разам з Лукашэнкам і КГБ рыхтавала захоп прэзыдэнцкай улады (В. Ганчар, Д. Булахаў, А. Лябедзька, Сініцын), праз нейкі час раптам рассварылася, падзялілася, пакінула Лукашэнку і стала ў крыклівую апазыцыю да прэзыдэнта.

Цяпер гэтая публіка першая кінулася ў кампанію за прэзыдэнцкія выбары. Хочуць стварыць бяспройгрышную сытуацыю, каб уся нацыя з розных бакоў галасавала за адну масьць, якая зноў завалодала б ўладай калі не праз Лукашэнку, дык праз „апазыцыю”. (Бо і тут, і там – „свае людзі”).

Стары трук. Разьлічаны хтба на тое, што беларускае грамадзтва згодзіцца, каб яго дурылі.

Некалі я пісаў (у „Навінах” за сакавік 1998 г.) пра паплечніка Лукашэнкі і вялікага „апазыцыянера” М.Чыгіра і пра магчымую ролю пэўных сілаў у сувязі з гэтым прозьвішчам. Цяпер, як і трэба было чакаць, спадар Чыгір усплыў проста з Масквы і заявіў, што хоча быць прэзыдэнтам... Зрэшты, глядзіце газэту „Навіны” (”Свабода”) за сакавік 98-га.

Авантурніцкая дэкларацыя Ельцына-Лукашэнкі сваім зьместам імкнецца выкрасьліць праблему выбараў у Беларусі і паставіць на парадак дня ліквідацыю беларускай дзяржавы і самазьнішчэньне нацыі. Але, тым ня менш, як бачым, Масква адначасна гуляе і з Чыгіром. Нам добра вядомая такая візантыйска-кагэбісцкая палітыка варыянтаў.

Засталася яшчэ адна праблема, якую мы ня можам прамінуць у нашай барацьбе за Беларусь і ў змаганьні з авантурыстамі. Гэта пытаньне дачыненьняў Захаду і Расеі. Ня буду доўга тлумачыць тут заходнюю палітыку і заходнія ілюзіі адносна Расеі, скажу адразу сутнасьць пазыцыі.

Мы, усе беларусы, усе беларускія арганізацыі, павінны патрабаваць ад Захаду салідарнай палітыкі з нашай справядлівай барацьбой за свабоду, незалежнасьць і правы чалавека. Зьмест яе ў тым, каб крэдыты, пазыкі і дапамогі, якія Захад выдзяляе і будзе выдзяляць Расеі, даваліся толькі пры ўмове адмаўленьня яе ад любых спробаў зьнішчыць суверэнітэт Беларусі і далучыць яе да Расеі.

Мы, беларусы, не павінны недаацэньваць авантурніцкіх захадаў Лукашэнкі-Ельцына, бо мы ўжо даўно спажываем практычныя наступствы вар’яцкіх антыбеларускіх плянаў.

Расея стаіць на дарозе камуна-фашыстоўскай дыктатуры. Выхад Лукашэнкі на рускае палітычнае поле ў выбарчую барацьбу за Крэмль можа зрабіць магчымасьць чырвона-карычневай кагэбісцкай дыктатуры рэальнасьцю. І дарэмна хіхікаюць сабе ў рукаво прасмаленыя маскоўскія так званыя „дэмакратычныя” палітыкі. Яны прайграюць з трэскам, і не дапамогуць ім ніякія мільёны. Яны не разумеюць, што за сілы стаяць за сьпіной гэтай камічнай, псыхічна зацыкленай і апантанай фігуры Лукашэнкі. Яны не разумеюць іх магчымасьцяў, не вывучаюць беларускі вопыт, не ўяўляюць вынікаў.

Для беларусаў гэта будзе абазначаць страту дзяржаўнай незалежнасьці і нацыянальную катастрофу, пасьля якой мы доўга ня зможам падняцца.

Цяпер Беларусь перажывае надзвычайныя цяжкасьці. Лукашэнка сілком прывязаў разбураную ім беларускую эканоміку і гандль да хворай расейскай сістэмы. Таму Расейскі крызіс ударыў і па беларусах, стаў штуршком да абвалу ўсяго так званага „рынкавага сацыялізму”. Беларусь і так зацягнулі ў рускае балота, а цяпер рашылі ў ім утапіць.

З сумнай рэчаіснасьці некалькіх гадоў дыктатуры вынікае толькі адзін парадаксальны ўмоўна-станоўчы мамэнт. На




***60. Мітынг БНФ у Менску 24.03.1996. Зь лева на права: М. Чарняўскі, Г. Карпенка, З. Пазьняк, Н. Гілевіч, А. Трыпуцін.***

ўласным вопыце шмат якія беларусы пачынаюць збаўляцца ад „саўковай” хваробы, ад ілюзіяў, ад узьдзеяньня масавага ашуканства.

У Новым 1999 годзе, які, пэўна, будзе для беларусаў вельмі значным, зычу ўсім сваім суайчыньнікам добрай волі, здароўя і моцы дзеля перамогі над сіламі імпэрыі зла. Час зрушыўся. Ініцыятыва павінна быць у нашых руках. Мы абаронім нашу Беларусь – наш Дом, нашу незалежнасьць і нашу будучыню, чаго б гэта нам ні каштавала. Бо не бывае каштоўнасьці большай, чым Боская Воля – Свабода і Незалежнасьць Айчыны.

*28 сьнежня 1998 года*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998/99, № 1(18).*

# 1999

## КУРАПАТЫ – СЛОВА СЫМВАЛ

***Курапаты*** – гэта слова-сымвал. Сымвал страшнага злачынства расейскіх бальшавікоў супраць Беларускай нацыі. Да 1988 года такога слова, практычна, не было ў беларускай мове. Ім карысталася некалькі дзясяткаў чалавек вёсачкі *Дроздава* з дванаццаці хатаў, што ў Бараўлянскім сельсавеце пад Менскам. Калі я назваў свой артыкул пра сталінскі тэрор *„Курапаты – дарога сьмерці”*, я ня думаў, што ўводжу новае слова ў беларускую мову і новы тэрмін у беларускую гісторыю, бо, па справядлівасьці, павінна б было прагучаць іншае слова – *Брод*. Так паўсюдна называлася тое ўрочышча, дзе забівалі людзей. Але ў Дроздаве я напаткаў яшчэ адзін назоў – *Курапаты*, магчыма, пазьнейшы і паваенны.

Слова, пачутае з вуснаў маладых хлопцаў, уразіла мяне метафарычнасьцю свайго сэнсу і гучаньня. Мне тлумачылі, што *Курапаты (ці Курапаткі*) – гэта белыя вясеньнія кветкі, якія там, на магілах, растуць у траўні. Гэтыя кветкі ў Беларусі называюцца *белыя пралескі*, а на Віленшчыне яшчэ – *курасьлепкі* (бо вечарам і ў цёмнае халоднае надвор’е яны заплюшчваюцца і, як сарвеш, – таксама). У іншым сэнсе курапаткі – гэта птушкі, на якіх палююць. Адсюль і выслоўе: *”Пастралялі, як курапатак”*.

Метафарычныя асацыяцыі слова паўзьдзейнічалі на выбар назвы артыкула і месца расстрэлаў. Слова стала вядомае ва ўсім сьвеце.

Камуністы некалькі разоў пачыналі перагляд справы пра *Курапаты*, зьбіралі мяшкі хлусьні. Але хлусьня не дапамагала. Памятаю, адзін ілгун напісаў нават успаміны, як ён вайной быццам бы праяжджаў каля Менска і добра памятае, што бачыў дарожны ўказальнік з надпісам *„Курапаты”*. (Ва ўрочышча быў указальнік, значыцца.)

Назва ўрочышча – ні адзіная пастка ў гэтай гісторыі, пакінутая мной, у якую трапляюць ілгуны і нягоднікі.

Цяперака, калі Ельцын з Лукашэнкам заключылі чарговы антыбеларускі пакт і 25-га сьнежня мінулага году аб’явілі пра плян акупацыі Беларусі, мне найбольш успамінаецца той даўні чырвоны тэрор. Увогуле пры слове „Расея” асацыюецца слова *„Курапаты”*. Можа, таму, што ёсьць склад *„ра”*. Але хутчэй таму, што расейцы забілі там чвэрць мільёна нашых людзей і, напэўна, замардавалі б усю беларускую нацыю, калі б толькі змаглі.

Некаторыя расейцы, што пацярпелі ад камунізму, звальваюць віну толькі на бальшавікоў. Так яно і ёсьць. Толькі акупанты-бальшавікі прышлі да нас з Расеі. Толькі сьмерць, бруд, кроў, тэрор, хлусьня, голад, п’янства і азіятчына заўсёды йшлі ў Беларусь з усходу: ці быў там цар, ці была там Дума, ці белыя, ці чырвоныя, ці бальшавікі, ці алігархі, ці дэмакраты, ці банкруты. Усе ківаюць адзін на аднаго – і ўсе лезуць на Беларусь.

*Курапаты* – слова-сьмерць, слова-жах, „ваше слово, товарищ маузер”, магільны помнік расейскага камунізму.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*8 студзеня 1999г. Варшава*
*(Радыё „Свабода”)*



***61. Курапаты 29 кастрычніка 1989 г. Ля Крыжа Пакуты пасьля асьвячэньня.***

# ПАДРЫХТОЎКА ДА ЛЕТА

Выдадзены чарговы прэзыдэнцкі дэкрэт №2, які называецца „Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці палітычных партыяў, прафэсійных саюзаў, іншых грамадзкіх аб'яднаньняў".

Мэты гэтага дакументу лапідарна празрыстыя: пад выглядам рэгістрацыі і перарэгістрацыі дэзарганізаваць і без таго слабую грамадзянскую супольнасьць, узяць пад поўны і скрупулёзны кантроль дзейнасьць партыяў, прафсаюзаў і грамадзкіх арганізацыяў і, на аснове створаных фармальных умоваў, ліквідаваць палітычна небясьпечныя для рэжыму арганізацыі. Падставай для гэтага зьяўляецца ня толькі невыканальная фантастычна-бюракратычная фармалістыка, зробленая на замаўленьне спэцслужбаў (трэба падаць усе сьпіскі ўдзельнікаў, структураў, адрасы, анкетныя дадзеныя кіраўнікоў, графічныя выявы структураў і г.д.), але перш за ўсё – незаконны парадак рэгістрацыі.

Рэгістрацыя і перарэгістрацыя будзе, фактычна, ажыцьцяўляцца не Міністэрствам юстыцыі на аснове закона, а нейкай Рэспубліканскай камісіяй, створанай Лукашэнкам, якая будзе даваць заключэньні для Мін'юста: рэгістраваць ці не рэгістраваць. Роля Міністэрства юстыцыі тут ужо не законная, а службова-фармальная. Пры гэтым старшыня гэтай па-за канстытуцыйнай камісіі мусіць, згодна дэкрэта, не радзей, чым адзін раз у квартал, даваць Лукашэнку справаздачу аб праробленай працы.

Пры такой схеме няма сэнсу нават разглядаць бюракратычную фантасмагорыю дэкрэта і дадаткаў да яго (Палажэньня аб рэгістрацыі). Зьвяртае ўвагу тое, што разбуральны антызаконны дакумант падрыхтаваны да пэўных датаў. Рэгістрацыю і перарэгістрацыю загадана скончыць да 1-га ліпеня гэтага года. А да 15 ліпеня Міністэрства юстыцыі абавязана надрукаваць ва ўрадавай газэце „Рэспубліка" сьпісы аб'яднаньняў, якія не прайшлі рэгістрацыю. А далей ідзе наступнае: „Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь: у двухмесячны тэрмін унесьці прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб устанаўленьні адказнасьці за ажыцьцяўленьне дзейнасьці ад імя незарэгістраваных аб'яднаньняў і за непрадстаўленьне зьвестак аб перамене юрыдычнага адрасу (месца знаходжаньня кіруючага воргана)".

* * *

У рэчышчы гэтага дэкрэту складзены іншы дакумант таемнага кшталту, які, аднак, стаў вядомы грамадзкасьці. Называецца ён „Плян супроцьдзеяньня групе лідэраў радыкальнай апазыцыі па падрыхтоўцы антыпрэзыдэнцкіх выбараў прэзыдэнта РБ" і напісаны*, мяркуючы па ўсім, у Радзе Бясьпекі пад кіраўніцтвам В. Шэймана.

Працытуем некаторыя палажэньні гэтага „сакрэтнага" пляну.

„Стварыць рэспубліканскі штаб (закрытага характару) пры Міністэрстве юстыцыі для юрыдычнай ацэнкі дзеяньняў групы лідэраў радыкальнай апазыцыі па падрыхтоўцы правядзеньня альтэрнатыўных выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і выпрацоўкі рэкамэндацыяў для прыняцьця палітычных і заканадаўчых рашэньняў кіраўніцтвам краіны."

„Камітэту дзяржбясьпекі Рэспублікі, узаемадзейнічаючы з Пракуратурай, ажыцьцявіць меры папераджальна-прафіляктычнага характару ў дачыненьні да шэрагу радыкальна настроеных лідэраў і актывістаў кампаніі па адхіленьні ад улады Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь."

„Выяўляць крыніцы і каналы фінансаваньня і іншай матэрыяльнай падтрымкі ўказаных нелегітымных структураў і спыняць іх праз магчымасьці мытных, фінансавых і падаткавых органаў."

„Рэкамэндаваць Мінпраму і ворганам улады на месцах прыняць дадатковыя меры па ўзмацненьні прапускнога рэжыму і ўпарадкаваньні ўнутранага распарадку на важных народнагаспадарчых аб'ектах, недапушчэньні арэнды і прадстаўленьня службовых памяшканьняў для правядзеньня мерапрыемстваў, зьвязаных зь дзейнасьцю радыкальнай апазыцыі."

„Рэкамэндаваць Міністэрству Сувязі ўзмацніць кантроль за выдзяленьнем дадатковых тэлефонаў і выкарыстаньнем існуючых абаненцкіх нумароў у штаб-кватэрах радыкальных палітызаваных структураў."

„У працэсе рэалізацыі Дэкрэта №2 Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.01.99 г. ворганам юстыцыі не дапусьціць перарэгістрацыі радыкальна і па-экстрэмісцку арыентаваных грамадзкіх фармаваньняў. Камітэту дзяржбясьпекі выкарыстаць дадзеную сытуацыю з мэтай раскладаньня і кампрамэтацыі адзначаных структураў."

У беларускай палітыцы (акрамя тых, хто захапіў уладу) няма ніякага „радыкалізму". Аднак можна не гадаць, што гэта за „радыкалы і экстрэмісты" згадваюцца ў сакрэтным дакуманце. Стыль спэцслужбаў нам добра вядомы. Летам беларусам (і асабліва Беларускаму Народнаму Фронту) трэба быць гатовым да ўсяго: і да забароны, і да „раскладаньня" беларускіх арганізацыяў, і нават да ўвядзеньня асаблівага становішча, і спробаў самых неверагодных інтэграцыйных авантураў.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 2(19). Пад псэўд. Мар'ян Ванькевіч)*


(Фота Алекса К.)

**62. *Пішчалаўскі замак (менская турма).***

* Усе дакументы рэжыму напісаны па-расейску

# „АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ ВЫБАРЫ" ПРЭЗЫДЭНТА

## (ЛІСТЫ, АРТЫКУЛЫ, МАТЭР'ЯЛЫ)

### БЕЛАРУСЬ – НАШ БЕЛАРУСКІ ДОМ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, спаўняючы Канстытуцыю, аб'явіў выбары прэзыдэнта. Гэтая пастанова канстытуцыйная, з пункту гледжаньня права, і не супярэчыць закону. Яна правамоцная ў існуючых абставінах.

Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" дзейнічае па Канстытуцыі і кіруецца канстытуцыйнымі законамі. Зыходзячы з гэтага, Народны Фронт прымае ўдзел у выбарах і прапанаваў мне выставіць сваю кандыдатуру на пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Гэтым паведамленьнем сьведчу аб сваім рашэньні прыняць удзел у выбарах у якасьці кандыдата на пасаду прэзыдэнта Беларусі і лічу патрэбным сказаць наступнае.

Стварыць нармальную беларускую ўладу, якая б выяўляла і абараняла інтарэсы беларускай нацыі, у цяперашніх абставінах, практычна, вельмі цяжка, пакуль Беларусь застаецца прэзыдэнцкай дзяржавай з прыярытэтам прэзыдэнцкіх правоў. Досыць прэзыдэнцтва! Улада павінна быць збалянсаваная на прынцыпах парляманцкай рэспублікі., дзе функцыі прэзыдэнта абмежаваныя, ураўнаважаныя парлямантам, альбо адсутнічаюць зусім.

Стварыць нармальны беларускі парлямант, які б быў дэмакратычны і зыходзіў зь беларускіх нацыянальных інтарэсаў у існуючых абставінах не рэальна, пакуль ён будзе выбірацца па мажарытарнай сістэме. Павінна быць прапарцыйная, альбо зьмешаная сістэма выбараў.

Гэтыя два пытаньні можна вырашаць уладнымі мэтадамі знутры. Ініцыятарам жа зьмяненьня прэзыдэнцкай улады павінен стаць прэзыдэнт.

Я лічу, што трэба ствараць канстытуцыйныя ўмовы для ліквідацыі антыбеларускага рэжыму і выкарыстаць іх дзеля вызваленьня ад дыктатуры.

Прыняўшы рашэньне аб удзеле ў выбарах прэзыдэнта, аб'яўленых Вярхоўным Саветам, я зыходжу з палітычнай неабходнасьці такога кроку і з рэальнасьці перамогі на выбарах.

Цяперашняя ўлада ў Беларусі ўтварылася на нянавісьці, матэрыялізме, савецкім рэваншызме і ашуканстве. Апора была зроблена на прымітыўную сьвядомасьць. Зь яе глыбіняў на паверхню выцягнулі і легалізавалі самыя цёмныя інстынкты, заганы, азлабленьне, зайздрасьць, эгалітарызм, агрэсыўную непавагу да нацыянальных каштоўнасьцяў і духоўных ідэяў.

Але нянавісьць не стварае. Прымітыўнае не спараджае дасканалага, нізкае – вялікага, а здрада – веры. Магчыма, шмат каму спатрэбілася пяць пакутных гадоў паніжэньня, каб зразумець гэтыя простыя ісьціны.

Мы павінны вярнуцца да нашых традыцыйных беларускіх духоўных здабыткаў, да ўпэўненасьці ў сабе, да праўды, выпрабаванай гісторыяй.

Нашым найвялікшым нацыянальным дасягненьнем зьяўляецца наша дзяржава. Страта дзяржавы, яе незалежнасьці ёсьць страта самых сябе. Ніякія пляны аб нармальным жыцьці, нават толькі матэрыяльныя, нават самыя простыя, нельга ажыцьцявіць, ня маючы сваёй дзяржавы, свабоды і незалежнасьці.

Нашым найвялікшым нацыянальным сьведчаньнем, найвялікшым дасягненьнем і сродкам культуры ёсьць наша беларуская мова. Калі мы хочам застацца жывым народам, мы павінны дзяржаўна яе шанаваць.

Тыя, хто да 1995 года бясконца ёрнічалі і шыпелі на Беларускі сьцяг, тыя, хто ўдавана высьмейвалі за абарону сьцяга (як за нязначную справу) Беларускі Народны Фронт („ім ба толька флажкі"), тыя, захапіўшы ўладу, першае, што зрабілі – адмянілі, парвалі, зганьбілі нацыянальны сьцяг. Яны плюнулі ў нашае сэрца. У сэрца – бо правялі фальшывы, незаконны, скамарошы рэфэрэндум, каб прынізіць народ. І прынізілі.

За сьцяг нармальныя людзі ахвяравалі жыцьцём, бо гонар важнейшы за сьмерць. Пасьля ліквідацыі дыктатуры, у той жа дзень, будуць вернутыя нашы сьвятыя беларускія сымвалы: ***Бел-Чырвона-Белы сьцяг*** і ***гэрб Пагоня***. Мы вернем іх на пасад урачыста, пад перазвон званоў, малітвы і песьні. Мы вернем іх навечна.

Пасьля ліквідацыі дыктатуры мы адразу адновім беларускія школы, садкі, ліцэі, усю асьвету і адукацыю. Мы спынім акупацыйную дыскрымінацыю па беларускай мове і міліцэйскі разбой. Мы падтрымаем таксама нацыянальныя меншасьці і іхныя моўна-культурныя інтарэсы.

Будзе адроджана беларуская вышэйшая адукацыя і беларуская навука, падняты прыярытэт настаўніка і вучонага, бо адукацыя і інтэлект ёсьць цяпер найвышэйшая вытворчая сіла. Будучыня належыць разумным.

Збудаваўшы храм беларускі ў душы, мы зможам збудаваць нацыянальны дабрабыт і нацыянальную эканоміку. Без народнай

салідарнасьці, без нацыянальнай сьведамасьці, без духоўных традыцыяў эканамічныя пляны – міраж, марныя спадзяваньні.

Каб мець хлеб – ня хлеба мусім шукаць, а Беларусі, не кілбасы, а Бога.

Што такое эканоміка без маралі – паглядзеце на ўсход, на Расею. Гэта тое, на што нельга стаць падобнымі.

Багатая краіна тая, дзе багатыя людзі. Нашая эканамічная палітыка будзе накіраваная на тое, каб беларус багацеў. Усім будзе гарантавана працаваць, вытвараць, прадаваць і купляць. Будзе ўведзены стымуляцыйны прынцып вызваленьня ад падаткаў, сыстэма льготных падаткаў і рацыянальная сыстэма падаткаабкладаньня, накіраваная на разьвіцьцё і хуткі ўздым індывідуальнай працы і прадпымальніцтва.

Пэнсіянер, памятай! Калі побач з табой у выніку разумнай энэргічнай працы ў вытворчасьці, на прадажы ці гандлі разбагацеў сусед, ён ня вораг табе, не „крывасмок”, не „жульё”, а прыяцель. З свайго даходу ён плаціць падаткі ў бюджэт, а з бюджэту – табе пэнсія.

Беларусам трэба ўмець ня толькі працаваць, але і арганізоўваць працу, ствараць вытворчасьць, кіраваць прадпрымальніцтвам, гандляваць і лічыць грошы. Інакш – багацьце ня створыцца. І калі зьявяцца такія ўмелыя людзі ў грамадзтве – радуймася.

Беларускі Народны Фронт мае ўстойлівую эканамічную праграму разьвіцьця Беларусі і шэраг надрукаваных заканапраектаў. Яны шмат каму вядомыя. Таму я ня буду на іх спыняцца. Тым больш, што няма сэнсу гаварыць пра эканоміку, калі не казаць пра Беларусь.

У эканоміцы мяне клапоцяць, перш за ўсё, людзі, бо без людзей ці абы зь кім – ніякія эканамічныя праграмы не рэалізуеш. Мы павінны будзем вельмі ашчадна адносіцца да кіраўнікоў і спэцыялістаў вытворчасьці – было б жаданьне працаваць.

Галоўная сфэра – сельская гаспадарка. Гэта наш грунт і важная крыніца багацьця. Калгасы могуць быць пераўтвораныя ў рынкавыя гаспадаркі зь вялікай свабодай дзеяньня і спрыяньнем з боку дзяржавы. Абаперціся тут можна толькі на тых сельскіх людзей, што ёсьць. (На працаўнікоў, кіраўнікоў, спэцыялістаў.) Іншых – няма. Таму рэформы павінны быць для людзей, а не для рэформаў.

У пачатку 1997 года, напярэдадні авантуры з руска-беларускай „інтэграцыяй”, кожнаму „вертыкальнаму” начальніку ў кабінэт быў разасланы мой ліст, дзе ўсе заклікаліся супрацьдзейнічаць анэксіі Беларусі. Было падкрэслена, што захаваньне патрыятычнай беларускай дзяржаўніцкай пазыцыі ўлічыцца пасьля ліквідацыі рэжыму; гарантуецца праца і пасада. У тым ліку будуць ліквідаваныя дасье. Цяпер я магу толькі пацьвердзіць сур’ёзнасьць намераў, выкладзеных у тым лісьце. І шкада, што некаторыя аднесьліся да яго няўважліва. Зрэшты, яшчэ ня позна.

Тры гады палітычнае дзейнасьці на Захадзе шмат высьветлілі для мяне: што такое Захад, што варта пераймаць, а чаго нельга. Мы, беларусы, народ эўрапейскай гісторыі і культуры. Нам трэба аднавіць моцную, культурную і заможную Беларусь, пабудаваць наш крэпкі Беларускі Дом. Калі мы будзем гэта рабіць нават мінімальна разумна, то Захад нас падтрымае. І ніхто ня стане пры гэтым пагражаць нашаму сувэрэнітэту і нашай незалежнасьці. Калі ж мы паставім сябе несамавіта, зглумім сваю культуру і эканоміку і дазволім, як у Расеі, усё раскрадаць, мы, у лепшым выпадку, станем спажыўцамі заходніх адкідаў вытворчасьці ды мас-культуры і будзем глядзець, як нашымі дочкамі камплектуюць заходнія бардакі.

Мы не пацягнемся ў Эўропу галоднымі і ня пойдзем пакрыўджанымі. Беларусь будзе такой, як мы зробім. Мы станем гаспадарамі, а не зьбяднелымі родзічамі. Наша беларуская дзяржава ёсьць наш Дом, наш Храм і наша Крэпасьць. Калі мы ўмацуем яе нашым розумам і працай, мы пачнем сябе паважаць.

Беларуская замежная палітыка мусіць зыходзіць зь беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Мы спынім усе спробы з боку Расеі анэксаваць Беларусь і навязваць нам свае „садружнасьці” ды „саюзы”. Але мы не зачынім расейцам дарогу на Захад і ўлічым іхныя інтарэсы пры ўмове павагі да нашай краіны і нормаў міжнароднага права.

Шмат страціла Беларусь за пяць гадоў прамаскоўскага рэжыму. Спатрэбіцца час, каб істотна палепшыць гаспадарку і эканамічны стан у дзяржаве. На месцы стаяць – немагчыма, бо йдзе разбурэньне. Калісьці ў пачатку 90-х гадоў антыбеларуская прапаганда мне закідала: „Ён хоча зрабіць, як у Польшчы”. Што сталася потым у Польшчы – вядома. Толькі Польшча для нас слабы прыклад. Мы самыя можам стаць прыкладам для іншых. Дзеля гэтага трэба, здавалася б, няшмат – паверыць у сябе, у сваю нацыю, у свае магчымасьці, у сваю дзяржаву, у Беларусь.

*26 лютага 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# ПРАМАСКОЎСКІ ПРАЕКТ*

Існуе дастаткова фактаў, каб высьветліць відавочныя рэчы, пра якія я пісаў яшчэ год таму.

Выбарчая ініцыятыва Чыгіра – гэта ёсьць маскоўскі палітычны праект. Нам вядомыя яго каардынатар, натхняльнікі, крыніца фінансаваньня.

**Задача і сутнасьць праекту – стварэньне „сваёй”, прамаскоўскай апазыцыі Лукашэнку ў Беларусі і палітычнае зьнішчэньне *Беларускага Народнага Фронту* і яго кіраўніка.**

Зьяўленьне былога саўдзельніка Лукашэнкі ў якасьці прэтэндэнта на пасаду прэзыдэнта адразу сканкрэтызавала палярызацыю палітычных апазыцыйных сілаў у Беларусі. Апазыцыйная і пакрыўджаная намэнклятура, маргіналы і дэмакраты „ваабшчэ” (і нават – нездаволеная „вертыкаль”) убачылі асобу для арыентацыі. І яны тут жа на яе з’арыентаваліся. Ідэі тыя ж самыя, што і ў Лукашэнкі (карупцыя, кілбаса, зарплата), але Чыгір – супраць Лукашэнкі.

Засталося выцягнуць на рынг *Беларускі Народны Фронт* і, скарыстаўшы яго структуры для чорнай работы па выбарах, – накаутаваць.

Разьлік прагматычны, бо вядома, што калі на Беларусі заспрачаецца кілбаса з Богам, кілбаса з мовай, кілбаса зь незалежнасьцю і

* Артыкул фігураваў у друку пад загалоўкам „Праект Чыгір”. – *(З. П.).*

свабодай, то пераможа вялікая памяркоўная і талерантная кілбаса. А дакладней – мара пра кілбасу. Гэтак прышоў і Лукашэнка.

Таму Чыгір ужо заранёў – за кілбасу: „Народ забыл запах хорошей вареной колбасы, а на сыро-вяленую – смотрит, как когда-то смотрели на черную икру: аппетитно, но не по карману....При Чигире, – кажа Чыгір,– учителя и врачи получали ровно в три раза больше, чем сейчас. И пенсионерам тоже платили не только в срок, но и столько, что хватало на колбасу, а не как сейчас – на обглоданные кости.” („Свободные новости, – 1999, 26. 02 – 5.03). Вось як добра было „пры Чигире” (які быў пры Лукашэнку).

Аўтары праекту „Чыгір” цудоўна ведаюць, што рэальных выбараў ні яны, ні Лукашэнка не дапусьцяць. Але трэба правесьці законныя выбары любым чынам. Нават калі на іх прыйдзе пяць адсоткаў выбаршчыкаў. Важна толькі, каб перамог Чыгір. Тады праект скончаны. Прапаганда прадставіць Чыгіра як лідэра апазыцыі, бо за яго прагаласаваў „народ”, а яго каманду (якая ператворыцца ў партыю) – як галоўную апазыцыйную сілу супраць Лукашэнкі.

З Чыгіром, а не з Пазьняком, пачне размаўляць і насіцца даверлівы Захад. Лукашэнка, магчыма, нават засядзе з Чыгіром за „круглы стол”, дзе паплечнікі-антаганісты паспрачаюцца аб жыцьці, будучыні і г. д.

*Беларускі Народны Фронт* і ўвесь беларускі нацыянальна-вызвольны рух зь яго праблемамі будзе адсунуты на пэрафэрыю палітыкі. Захад перастане зь ім мець справу, а Масква – баяцца. У яе будзе ў Беларусі ўжо свая ручная надзейная апазыцыя, свая альтэрнатыва. Справа інкарпарацыі Беларусі ў Расею пойдзе хутка, бо Масква набывае рычаг узьдзеяньня на Лукашэнку, які просіць задорага (прэзыдэнцтва над Расеяй за Беларусь). Цяпер яму скажуць: прадавай за „віцэ”, а то купім у Чыгіра за капейку.

Ня дзіўна, што Лукашэнка ўжо нэрвуецца. Гэты праект расейскіх спэцслужбаў значна больш сур’ёзны, чым ранейшая агентурная самадзейнасьць з выбіраньнем „нацыянальнага лідэра”, стварэньнем „Хартыі-97” ці сшываньне апазыцыі з маргінальных дэмакратаў (якіх Лукашэнка гатоў быў аплочваць). *Народны Фронт* такімі сцэнарамі ня купіш, хоць мы мелі шмат клопатаў з „даверлівымі” (па заказу) людзьмі ў сваіх шэрагах.

Цяпер жа абставіны такія, што мы вымушаныя ўдзельнічаць у чужым праекце, накіраваным супраць нас. Аднак мы бачым наскрозь маскоўскіх мудрацоў і хутка адмераем, колькі спатрэбіцца ім прастаты.

Праект маскоўскі, але сцэнар будзе наш. Заклікаю ўступаць у грамадзянства *БНР*. Адразу, пасьля перамогі ў прэзыдэнцкай кампаніі, мы пачнем падрыхтоўку да выбараў *Грамадзянскага (Нацыянальнага) парламанту Беларусі*, які прыме Закон аб выбарах па зьмешанай сістэме і абʼявіць парляманцкія выбары. Мы вернем Беларусь у прававае канстытуцыйнае поле і выбярэм сапраўды беларускі дэмакратычны парлямант. Зьнішчыць яго ня ўдасца нікому. Мы сьцвердзім парлямантарызм на эўрапейскім узроўні і адновім усё, што было страчана за гады антыбеларускага рэжыму.

*4 сакавіка 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# АБ МАСКОЎСКІМ ПРАЕКЦЕ

***(Ліст да сяброў Ініцыятыўнай групы БНФ)***

…У працэсе зьбіраньня подпісаў і кантактаў зь людзьмі ўзьнікае пытаньне пра нашу ацэнку кандыдатуры Чыгіра. Для нас гэта поўнасьцю зразумелая і ўжо нават стандартная зьява, пра якую я пісаў яшчэ год таму. Але людзям трэба будзе растлумачыць, што выбарчая ініцыятыва Чыгіра – гэта ёсьць маскоўскі праект, накіраваны супраць нацыянальна-вызвольных сілаў Беларусі. Задача і сутнасьць праекту – стварэньне сваёй прамаскоўскай апазыцыі Лукашэнку ў Беларусі і палітычнае зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту. Чыгір і Лукашэнка – два бакі адной зьявы, адной брычкі, лейцы якой трымае Масква.

Па праекту важная толькі перамога Чыгіра. Ня мае значэньня, колькі прыдзе на выбары: 7 тысячаў выбаршчыкаў ці 7 мільёнаў. Галоўнае – абʼявіць пераможцу, на якога плянуюць Чыгіра і які ўжо пачаў дзеля гэтага „кілбасную прапаганду”.

Калі праект ім удасца і Чыгіра зробяць пераможцам, то прапаганда абʼявіць, што галоўная апазыцыйная сіла, якая супроцьстаіць Лукашэнку, – не Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” і яго старшыня, а Чыгір і яго каманда (якую сфармуюць у прарасейскую партыю). З Чыгіром і камандай будзе размаўляць і насіцца даверлівы Захад, а *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* і *беларускія нацыянальна-вызвольныя сілы* з усімі іхнымі праблемамі выціснуць на пэрыфэрыю палітыкі і паспрабуюць поўнасьцю разбурыць. Тады саўдзельнікі Чыгір і Лукашэнка будуць гуляць між сабой у апазыцыю і палітыку, а Масква – тузаць за вяровачкі.

Памятайма: перад беларускім грамадзтвам пастаўлены жорсткі выбар паміж лібэральнай мадэрнізацыяй прамаскоўскага рэжыму і нацыянальнай будучыняй вольнай Беларусі.

*4 сакавіка 1999 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Заўвага. Пры гэтым далучаю невялікі матэрыял „ Праект Чыгір” на гэтую ж тэму. – (З. П.).*

# АБ ІНСІНУАЦЫЯХ У ДРУКУ

*(Ліст да сяброў БНФ)*

Паважаныя калегі. Мы добра інфармаваныя пра зьмест і характар друку ў цяперашняй Беларусі. Тым ня менш цяпер, у час выбарчай кампаніі, лічу неабходным яшчэ раз зрабіць некаторыя заўвагі на гэтую тэму.

У пачатку красавіка ў шэрагу гэзэтаў („Свободные новости" і інш.) зьявіўся артыкул супраць мяне пад назовам „Лидер" нации обвиняет". Там цытуецца вытрымка з майго закрытага ліста ад 13-га сакавіка калегам па БНФ, дзе я даў інфармацыю пра спробы подкупу друку групай Чыгіра. У публікацыі „Свободных новостей" рэдактары газэтаў выказалі ў сувязі з гэтым абурэньне.

Адразу відаць, што праароблена вялікая праца, бо мой ліст прызначаўся не для друку, а для акрэсьленага кола людзей. І рэдактары, якія выказваюцца, у асноўным тут ні пры чым. Але справа ня ў гэтым. Сапраўдная прычына – у артыкуле замоўчана.

19 сакавіка гэтага года ў віленскай газэце „Рунь" зьявілася маё інтэрв'ю, дзе было напісана наступнае: „Апошнім часам група Чыгіра атрымала вялікія грошы з Масквы на тое, каб купіць усю гэтак званую беларускую незалежную прэсу. Канкрэтна. Ёсьць такі журналіст Тамковіч, які працуе ў газэце „Свободные новости", напалавіну заснаванай КГБ, гэтак сама, як і газэты „7 дней", „Знамя юности" (цяпер поўнасьцю кагэбоўскія газэты), ды іншыя. Дык вось, гэты Тамковіч паспрабаваў нядаўна падкупіць за даляры рэдактара гарадзенскай газэты „Пагоня", а калі рэдактар адмовіўся ад даволі вялікай сумы, Тамковіч сказаў, што ўсе журналісты „ўжо ўзялі", і ўся гэтак званая незалежная прэса „ўжо купленая намі".

Журналіст Тамковіч узначальвае прэс-службу групы Чыгіра. Спроба подкупу была. Факт быў. Яго публічнае выяўленьне ўсхвалявала пэўных асобаў і выклікала публікацыю ў „Свободных новостях", куды ўвязалі ўсіх, каго ня трэба, толькі не таго, хто прапаноўваў хабар і засьведчыў, што „ўзялі ўсе".

Цяпер крыху паліталёгіі. Роля КГБ і расейскіх спэцслужбаў у акупацыйным рэжыме і сістэме дзяржаўнай улады цяперашняй Беларусі ўсім добра і канкрэтна вядомая. Гэта не абстрактныя разважаньні. Сытуацыю і асобаў ведае кожны, хто цікавіцца палітыкай. Ды й рэжым не хавае сваёй савецкай кэгэбісцкай прыроды і сувязяў з расейскай палітыкай. Нават дэманструе. Рэжым на Беларусі ствараўся, як кажуць, па вядомых стандартах: захоп улады, манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі, стварэньне вертыкальнай сістэмы кіраваньня, стварэньне асаблівых сілавых структураў, стварэньне „сваёй" (зручнай) апазыцыі і свайго апазыцыйнага друку.

Найбольш не хацела б Масква мець у Беларусі нацыянальна-вызвольную апазыцыю, тыпу БНФ, якая выступае пад сцягам беларускай нацыянальнай ідэі супраць імпэрскай палітыкі Расеі. З такой сілай Маскве цяжка змагацца, бо адразу агаляецца ўся яе захопніцкая палітыка і пачынае разгортвацца пэрспэктыва беларускай нацыянальнай барацьбы за незалежнасьць, узрастаюць нацыянальныя сілы, якія на пэўным этапе абавязкова пераможуць Расею.

Таму стаўка была зроблена на маргіналаў, малыя партыі і на асобаў, пакрыўджаных Лукашэнкам. У гэтым асяроддзі пачалі ствараць фантомныя ідэі і рушэньні (тыпу „Хартыя-97"), прызначаць „нацыянальнага лідэра" і інтэрпрэтаваць барацьбу Фронта ў сваіх інтарэсах. Мусіраваліся ідэі агульнай дэмакратыі, абароны правоў абстрактнага чалавека (у стылі заходняга лібэралізму), і пад гэтым вуглом крытыкаваўся рэжым Лукашэнкі. Ідэі нацыянальнай дэмакратыі, задачы беларускага нацыянальнага адраджэньня і змаганьне Беларускага Народнага Фронту з рускім імпэрыялізмам аб'яўляліся „нацыянальным радыкалізмам", „крайнім" накірункам і г.д., нягледзячы на тое, што рэжым праводзіў і праводзіць тыповую палітыку этнацыду і зьнішчэньня беларускай культуры, рыхтуе анэксію нашай дзяржавы і злучэньне з Расеяй.

Арганізаваць істотную прамаскоўскую апазыцыю, і тым больш скарыстаць у гэтым Народны Фронт, не ўдалося. Але як толькі зьявіўся новы маскоўскі праект з былым лукашэнкаўскім прэм'ерам Чыгіром, уся „дэмакратычная апазыцыя" тут жа рассыпалася і пабегла (кожны сабе) да „дэмакрата" Чыгіра (ні трохі не цікавячыся прыродай гэтай зьявы), кінуўшы і імгненна забыўшыся на свайго прызначанага лідэра Генадзя Карпенку. Карпенка, які застаўся адзін (і якога перад гэтым сур'ёзна ўцягнулі ў гульню), захварэў і знаходзіўся ў рэанімацыі. Ягонае жыцьцё апынулася ў небясьпецы. Але ні асоба, ні здароўе Карпенкі ўжо не цікавілі „мастеров политического пера", „мистификаторов слова" – тых, якія перад гэтым стваралі яму лідэрскую ролю.

Усё гэта было банальна і не маральна, не магло не абураць нармальных людзей. 6-га красавіка Генадзь Карпенка памёр. Гэта страта для Беларусі, для ўсяго грамадзтва. Страта ў барацьбе. Перад сьмерцю ў новай палітычнай сытуацыі Генадзь Карпенка падтрымаў Народны Фронт.

Палітычны фон, ілюзіі і шум вакол арганізацыі „агульнадэмакратычнай" апазыцыі ствараўся ня столькі маргінальнымі палітыкамі, колькі палітычна заангажаванымі журналістамі.

Паўтаруся зноў. Ні спэцслужбам, ні Маскве не ўдалося стварыць зручную для сябе апазыцыю ў Беларусі, не ўдалося выцесьніць на палітычную пэрыфэрыю Народны Фронт. Але яны здолелі распаўсюдзіць свой уплыў на значную частку так званага незалежнага друку, які амаль поўнасьцю выдаецца па-руску і добрая палова якога, у той ці іншай ступені (фінансава, арганізацыйна, ідэалягічна ці агентурна) зьвязаная са спэцслужбамі ці прамаскоўскімі коламі.

Як і што гэтыя пэўныя „асобы" і пэўныя ворганы „незалежнага" друку пісалі і пішуць пра Беларусь, пра БНФ, пра беларускую мову, нацыянальную ідэю, пра кіраўнікоў беларускага адраджэньня і палітыкаў, як яны фармуюць перакручаныя ацэнкі ў асобных групах грамадзтва, нагадваць ня буду, бо гэта добра вядома сябрам Фронту.

Калі гэтую катэгорыю пішучых асобаў франтаўцы недзе злавяць на непрыстойных справах ці скрытыкуюць, яны (гэтыя асобы) адразу пачынаюць крычаць за ўвесь незалежны друк, за свабоду слова супраць ціску і ўціску – такія яны незалежныя.

Гэтакая мэтодыка абароны нагадвае мне тыповы абразок з амэрыканскага быту. Паліцыя хапае групу чорных маладзёнаў, што сярод белага дня рабуюць прамтаварную краму ў Брукліне. Пры гэтым банда пратэстуе, што іх б'юць і вяжуць за тое, што яны чорныя, парушаюць, маўляў, іхныя чалавечыя правы па расавай прыкмеце.

Франтаўцы лічаць, што палітыкам не выпадае рэагаваць на нападкі журналістаў. Гэта элемэнтарна. Толькі ў цяперашняй акупаванай Беларусі друк стаў полем вельмі падступнай палітыкі, аб'ектам дзейнасьці антыбеларускіх сілаў, якія скарыстоўваюць статус свабоднага слова ў сваіх інтарэсах і

прыкрываюцца гэтым статусам. Змагацца з такой зьявай ня проста, бо ўвесь незалежны друк крытыкуе рэжым і дыктатарскія парадкі. Але змагацца з інсінуацыямі усёж-такі трэба. Гэта ня значыць, што неабходна адказваць на ўсе правакацыі і камарыныя ўкусы, але калі зарываюцца, то маўчаць нельга.

Трэба разумець, што за зьява перад намі. (Свабода слова і журналістыка тут ні пры чым.) Колькі б мы ні адмоўчваліся, колькі б мы ні стараліся не заўважаць, як і якую заведамую няпраўду пішуць пра нас тамковічы, фядуты ды іншыя „сідаравы", яны ўсяроўна будуць гэтак пісаць, паскудзіць ды ілгаць. Ці мы ступім левай нагой, ці правай, ці буду я за мяжой, ці ў Беларусі, ці ў турме, ці на небе, ці жывы, ці мёртвы – усяроўна дрэнна. Усяроўна абылгуць і абгавораць. Такая іхная парода, такая палітычная прырода.

Такіх трэба спыняць. Гэтая публіка павінна ведаць, што іх бачаць навылёт, што ім нікога ня ўдасца ашукаць, якой бы дэмагогіяй яны ні карысталіся. Спыняць нахабства і зьнявагі „сідаравых" трэба і неабходна, інакш сядуць на галаву.

Але і сілы на іх шмат траціць ня варта. Гэта справа малая. Уплыў „сідаравых" на грамадзтва – невялікі. Адна „Советская Белоруссия" (ці адзін Зімоўскі) дадуць ім тысячу ачкоў наперад і зробяць шкоды значна болей.

Вопыт даўно паказаў, што змагаючыся ў абставінах акупацыйнага рэжыму ў дэфармаванай інфармацыйнай прасторы, фронтаўцы павінны знаходзіць свае сродкі ўплыву на грамадзтва. Мы іх маем і паступова знаходзім.

У такіх умовах адбываецца гэтая дзіўная выбарчая кампанія. Але што б хто ні рабіў і не плянаваў, ніхто нас не дэзінфармуе і не ашукае. Мы шмат што ведаем і ўсё бачым і „знаем, што трэба рабіць". І зробім. Жыве Беларусь!

*6 красавіка 1999г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ Ў ДРУК

Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" з поўнай адказнасьцю і сур'ёзнасьцю паставіўся да аб'яўленай Вярхоўным Саветам* Рэспублікі Беларусь кампаніі па выбарах прэзыдэнта краіны. ***Асаблівую ўвагу ў БНФ „Адраджэньне" надаюць дакладнаму выкананьню Канстытуцыі і заканадаўства па выбарах***, бо толькі такі падыход можа гарантаваць юрыдычную абарону ўсіх, хто бярэ ўдзел у арганізацыі названых выбараў. Толькі ***незалежная арганізацыя ўсіх без выключэньня этапаў выбарчае кампаніі мае шанец засьведчыць іх законнасьць і легітымнасьць*** у вачах беларускага грамадзтва і сусьветнае супольнасьці.

Зыходзячы з вышэйсказанага, грунтуючыся на матэрыялах, што паступілі ў БНФ „Адраджэньне" і ў адпаведнасьці з арт. 4 Закона „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь", 7 красавіка гг. ад імя в.а. Старшыні БНФ „Адраджэньне" ***Л. Баршчэўскага***, нам. старшыні, кіраўніка ініцыятыўнай групы ў падтрымку З. Пазьняка сп. ***С. Папкова***, адказнага сакратара Ўправы БНФ „Адраджэньне" сп. ***А. Крыварота*** была накіраваная ***афіцыйная скарга на імя старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзыдэнта Беларусі сп. В. Ганчара***. У скарзе прыведзены канкрэтныя факты, сьведчаньні, копіі дакумантаў, якія, у выніку іх магчымага пацьверджэньня, могуць істотным чынам унесьці карэктывы ў выніkі рэгістрацыі кандыдатаў у Прэзыдэнты. Натуральна, што скаргі такога зьместу павінны былі б разглядацца Цэнтральнай камісіяй па выбарах у першую чаргу й неадкладна. Тым ня менш, аўтары афіцыйнай скаргі атрымалі ад старшыні ЦВК 12 красавіка гг. адказ за №173, у якім паведамляецца, што *„разгляд дадзенай скаргі ўключаны ў парадак чарговага пасяджэньня Цэнтральнай выбарчай камісіі, якое адбудзецца ў адпаведнасьці з графікам яе працы ў апошняй дэкадзе красавіка 1999 года"*. У кіраўніцтве БНФ „Адраджэньне" разглядаюць гэты дакумант хутчэй як фармальную адпіску, вытрыманую ў духу бюракратаў савецкіх часоў. Дарэчы, аналягічныя адказы былі атрыманыя на папярэднія скаргі ***на факты парушэньня выбарчага заканадаўства***. Гэткага кшталту пазыцыя кіраўніцтва ЦВК можа пасеяць недавер да пэўных аспэктаў яе дзейнасьці сярод тых патрыётаў Беларусі, шчырых дэмакратаў, якія зьвязваюць свае надзеі з вырашэньнем канстытуцыйнага крызісу ў Беларусі.

*14 красавіка 1999 г. Менск*

***Прэс-служба БНФ „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

* „Падпольны" Вярхоўны Савет 13-га скліканьня (Заўвага рэд.)

# ЛІСТ У ЦВК

***Старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі***
***па выбарах прэзыдэнта рэспублікі Беларусь***
***спадару В. Ганчару***

***Сябрам Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

*20 красавіка 1999 г.*

У мяне ўзьніклі сумненьні ў здольнасьці праўнага гарантаваньня выбарчай кампаніі з боку кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Да гэтага часу

не разгледжаныя скаргі аб парушэньнях пры зборы і рэгістрацыі подпісаў, не праводзіцца кантрольная праверка, не выконваюцца законам прадугледжаныя дзеяньні, робяцца адгаворкі і адпіскі. У выніку – застаецца фактычна незразумелым статус аднаго з кандыдатаў, не акрэсьленая пазыцыя кіраўніцтва ЦВК, дакладна ня вызначаная праўная канцэпцыя і механізмы выбараў. Цыркулююць розныя думкі і супярэчлівыя меркаваньні кіраўніцтва ЦВК.

У сувязі з гэтым як грамадзянін Рэспублікі Беларусь і кандыдат на пасаду прэзыдэнта Беларусі мушу заявіць наступнае:

– Выбары, выбарчая кампанія і механізм выбараў павінны ажыцьцяўляцца толькі па закону, на аснове права і згодна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай Вярхоўным Саветам у 1994-м годзе.

– Механізм выбараў павінен вызначацца патрабаваньнямі закону, а не абставінамі ці верагоднымі магчымасьцямі неспрыяльных абставінаў. Гэта значыць, што галасаваньне мусіць адбывацца па закону ў адзін вызначаны дзень, у вызначаных месцах, у акрэсьлены законам час. Галасаваньне ня можа доўжыцца некалькі дзён. (Такі незаконны мэтад шматдзённага галасаваньня скарыстоўваў Лукашэнка ў час лістападаўскага перавароту ў 1996-м годзе.)

– Павінна паважацца воля выбаршчыкаў. Выбаршчык мусіць мець выбар паводзінаў і законную магчымасьць прыйсьці галасаваць на выбарчы ўчастак (а не наадварот – каб выбарчы ўчастак „прыходзіў” да выбаршчыка). Не павінна быць непасрэднага ці ўскоснага націску на волю і паводзіны выбаршчыкаў. Антыпраўны мэтад хаджэньня з выбарчымі скрынямі па кватэрах ды хатах, як гэта практыкуе рэжым Лукашэнкі, недапушчальны ў законных выбарах. Такія выбары ня могуць быць прызнаныя. Нельга дапусьціць, каб галасаваньне ператварылася ў балаган, які скампрамэтуе ўсіх.

– Цэнтральная Выбарчая Камісія нясе адказнасьць за законнасьць правядзеньня выбараў, а не за перашкоды і антыпраўныя дзеяньні ўладаў. (Антыпраўнымі забаронамі выбары не спыняюцца.) Таму кіраўніцтва ЦВК не павінна даваць рэжыму праўныя аргументы для забароны.

– Кіраўніцтва ЦВК (перш за ўсё) і ўсе актыўныя ўдзельнікі выбарчай кампаніі мусяць усьвядоміць юрыдычную адказнасьць і палітычныя наступствы гэтай сур’ёзнай справы. Нельга дапусьціць дыскрэдытацыі працы і гуляньня ў выбары. Ніякія гульні, ніякія адступленьні ад законнасьці ня будуць прызнаныя ні намі самымі, ні міжнароднай супольнасьцю.

Беларускі Народны Фронт сур’ёзна падыходзіць да выбараў прэзыдэнта, уклаў у іх добры кавалак сваёй працы, цьвёрда стаіць на пазыцыі неабходнасьці выбараў і бачыць далейшы працяг выбарчай кампаніі толькі ў рэчышчы строгага выкананьня закону і Канстытуцыйнага права Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Кандыдат на пасаду прэзыдэнта Беларусі***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# УХВАЛА СОЙМУ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ”

Сойм БНФ „Адраджэньне” заяўляе аб сваёй нязьменнай прыхільнасьці да *законнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Менавіта ў рэчышчы законнасьці павінны адбывацца любыя выбары, у тым ліку выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь,* прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 траўня 1999 года. БНФ „Адраджэньне” разгортвае агітацыйную кампанію за свайго кандыдата Зянона Пазьняка таксама *ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.*

Мы заклікаем палітычныя партыі, грамадзкія арганізацыі, прафсаюзы, усіх адказных грамадзянаў Беларусі падтрымаць нашага кандыдата, які засьведчыў сваю адданасьць справе незалежнасьці, дэмакратыі, павагі да правоў чалавека.

*24.04.1999 г.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# АБ НЕЗАКОННЫХ ДЗЕЯНЬНЯХ КІРАЎНІЦТВА ЦВК

### *(АФІЦЫЙНАЯ ЗАЯВА)*

***Старшыні Вярхоўнага***
***Савета Рэспублікі Беларусь***
***спадару Сямёну Шарэцкаму***

*3 траўня 1999 г.*

28 красавіка Цэнтральная Выбарчая Камісія па выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь прыняла пастанову №192 „Аб парадку галасаваньня па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня 1999 года”.

Закон „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь” зьяўляецца законам непасрэднага дзеяньня, і Цэнтральная Выбарчая Камісія абавязаная арганізаваць выбарчую кампанію паводле патрабаваньняў гэтага Закону. Але Цэнтральная Выбарчая Камісія прыняла незаконны парадак галасаваньня.

Камісія кіравалася не законам, а нейкімі нявызначанымі, як напісана ў пастанове, „прынцыпамі правядзеньня выбараў”. Зроблена падтасоўка Закона. Спаслаўшыся на „немагчымасьць арганізацыі галасаваньня ў спэцыяльна адведзеных памяшканьнях” і не шукаючы магчымасьці забясьпечыць

месцы галасаваньня, ЦВК прыняла пастанову аб галасаваньні „па месцы знаходжаньня выбаршчыкаў”. Гэта (хаджэньне са скрыняй па кватэрах) у корані зьмяняе сутнасьць і сэнс выбараў, абмяжоўвае волевыяўленьне выбаршчыкаў, стварае магчымасьці злоўжываньняў.

Такі падыход не адпавядае зьместу закона. Гэта безадказны падыход, які ў дзеяньнях кіраўніцтва ЦВК праяўляўся неаднаразова (нашы скаргі аб парушэньнях у час збору подпісаў і ў працы ЦВК не былі разгледжаныя, парушэньні ня выпраўленыя).

Акрамя таго цьмяна складзены пункт 2 пастановы ЦВК можа быць трактаваны як магчымасьць галасаваньня ўсіх выбаршчыкаў на працягу 10-ці дзён, што недапушчальна. (Такія парушэньні якраз рабіў Лукашэнка ў 1996-м годзе.) Але менавіта так зьбіраецца рабіць і старшыня ЦВК (гэта відаць зь яго інтэрв'ю журналістам).

Усе гэтыя неадпаведнасьці з заканадаўствам выклікаюць сумненьні ў здольнасьці кіраўніка ЦВК забясьпечыць законнае правядзеньне выбараў і ставяць пытаньне аб яго адпаведнасьці ўскладзеным абавязкам.

Кіруючыся правам, нададзеным артыкулам 4-м „Галоснасьць пры падрыхтоўцы і правядзеньні выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь” закона „Аб выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”, кіраўніцтва БНФ „Адраджэньне” прапануе тэрмінова разгледзець на паседжаньні Вярхоўнага Савета пытаньне аб незаконных дзеяньнях кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і прыняць неабходныя рашэньні па забесьпячэньні гарантыяў законнасьці правядзеньня выбараў.

Копія пастановы №192 далучаецца.

***З. ПАЗЬНЯК***
***старшыня БНФ „Адраджэньне”***
***Л. БАРШЧЭЎСКІ***
***в.а. старшыні БНФ „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# ПРА „МЕХАНІЗМ” ВЫБАРАЎ І МЭТАДЫ АВАНТУРЫЗМУ

***(Ліст да сяброў БНФ)***

Паважаныя сябры Фронту. У пачатку выбарчай ініцыятывы ў лісьце „Праект –„Чыгір” („Прамаскоўскі праект”) я папярэджваў аб сутнасьці гэтага маскоўскага праекту. Ужо тады было вядома аб мэтах гэтай задумы і аб фінансаваньні абодвух яго выканаўцаў (Чыгіра і Ганчара) з палітычна-фінансавых колаў Расеі. Цяпер стала вядома значна больш і аб ролях выканаўцаў, і аб ланцугу фінансава-палітычнага ўплыву на іх, і нават – хто ў Маскве пэрсанальна стаіць у канцы ланцуга. Гэта, у прынцыпе, не зьяўляецца для ўсіх нас нечаканасьцю, не зьмяняе нашых ведаў і нашых адносінаў да вядомай нам справы.

Мы бачым, што людзі, якія прывялі да ўлады Лукашэнку і служылі рэжыму, хочуць любымі шляхамі зноў вярнуцца ва ўладу і адпомсьціць свайму былому паплечніку і цяперашняму крыўдзіцелю.

Тым ня менш, разумеючы небясьпеку маскоўскага праекту для ўсяго вызвольнага руху, мы згадзіліся прыняць удзел у выбарах, а я – выставіць сваю кандыдатуру. Але пры адной умове: строгага, абавязковага і скрупулёзнага выкананьня выбарчага заканадаўства і Канстытуцыі 1994 года з боку старшыні ЦВК В. Ганчара. На гэта В. Ганчар пагадзіўся, і гэта нас задавальняла.

Але парушэньні Закону з боку старшыні ЦВК пачаліся ўжо ў час падсумоўкі і прыняцьця рашэньня па выніках збору подпісаў. Ні вусныя, ні пісьмовыя скаргі на імя старшыні ЦВК аб парушэньнях не былі разгледжаныя, а пастанова ЦВК №192 „Аб парадку галасаваньня па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня 1999 года”, прынятая 28 красавіка, поўнасьцю перакрэсьліла закон „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”. Пастанова грунтуецца не на Законе, а на нейкіх неакрэсьленых „прынцыпах правядзеньня выбараў”. Пры гэтым мяркуецца, што сябры ўчастковых выбарчых камісіяў (якіх ЦВК яшчэ не стварыла) будуць на працягу 10-ці дзён хадзіць са скрынямі для галасаваньня па дамах і прапаноўваць выбаршчыкам галасаваць. Грубыя парушэньні Закону і авантурызм тут відавочныя.

Мы прапанавалі спадару С.Шарэцкаму і групе дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня забясьпечыць гарантыі законнасьці правядзеньня выбараў. Але, як і трэба было чакаць, яны аказаліся няздольнымі вырашыць гэтую справу.

Нашая пазыцыя праўная і моцная: выбары – па Закону, мэханізм выбараў – згодна Закону. Гэта ставіць заслон маніпуляцыям і шулерству. Наш цьвёрды падыход тут не залежыць ні ад чыіх рашэньняў і пастановаў, бо ні Канстытуцыя, ні Закон ня могуць быць зьмененыя. (Нават калі б такая магчымасьць і была, то выбарчы Закон не мяняецца ў часе выбараў.)

* * *

Цяпер я прапаную сябрам Фронту прааналізаваць канкрэтна зьмест той авантуры, у якую хоча ўсіх нас ублытаць старшыня ЦВК пастановай „Аб парадку галасаваньня...”

Дапусьцім, галасаваньне пачалося па пастанове ЦВК №192. Участковая выбарчая камісія ў складзе 3-х чалавек (гэта значыць – часткі камісіі) пачынае абход кватэраў са скрыняй для галасаваньня. Спачатку арыфметыка. Колькі кватэраў за 15 гадзінаў галасаваньня (з 7.оо да 22.оо) зможа абыйсьці такая „паўкамісія”? Колькі выбаршчыкаў пры гэтым прагаласуе? У гарадах, улічваючы тэхнічныя затраты часу, гэта будзе (у сярэднім па Беларусі) некалькі дзясяткаў прагаласаваных, а ў вёсках, мястэчках і малых гарадах, дзе няма шматкватэрных дамоў, – значна менш. (Вопыт збору подпісаў за кандыдатаў на працягу месяца паказаў, на што можна разьлічваць.) Пры ідэальнай ( і нерэальнай) сытуацыі, за адзін дзень магло б прагаласаваць каля ста тысячаў выбаршчыкаў. За 10 дзён (што ізноў жа – нерэальна) – каля мільёна. Усіх жа выбаршчыкаў у нас – больш за 7 мільёнаў.

Гэтую ідэальна-нерэальную колькасьць прагаласаваных можна прадугледзець толькі пры ўмове, што сябры „паўкамісіяў” (якіх нельга замяніць) будуць на працягу 10-ці дзён працаваць 15 гадзінаў у суткі (хадзіць з кватэры ў кватэру, па лесьвіцы, зьнізу ўверх ды зьверху ўніз, званіць у дзьверы, тлумачыць, размаўляць, адказваць на пытаньні, правяраць пашпарты, рабіць сьпісы, вы-

слухваць зьнявагі і г.д.). Фізычна (я ўжо не кажу – псыхалягічна) такі рэжым працы мала хто вытрымае. А значыць, колькасьць прагаласаваных будзе зусім мізэрнай. Пакватэрны мэханізм „усеагульных выбараў” нават чыста тэхнічна – невыканальны. (Я ўжо не кажу пра пэўнае абмежаваньне волі выбаршчыкаў.)

Вось чаму не гара ідзе да Магамэта, а Магамэт да гары. Вось чаму ўсеагульныя выбары нідзе ня робяцца так, як гэта рабіў Лукашэнка і як прапануе цяпер зрабіць яго былы калега В. Ганчар. Пакватэрнага мэханізму ўсеагульных выбараў нідзе ў заканадаўстве не існуе.

На што ж тады разьлічваюць ініцыятары такой справы? На адно з двух: альбо на палітычнае самазабойства, альбо (як і Лукашэнка) – на фальсіфікацыю (коштам Народнага Фронту) і на маніпуляцыю палітычнымі вынікамі афёры, якія яны „зробяць”, як захочуць.

* * *

Цяпер змадэлюем рэальную сытуацыю „галасаваньня”. Сябры ўчастковай камісіі на незаконнай падставе пастановы №192 ідуць са скрыняй ў дом і абходзяць кватэры. Апусьцім верагодныя і законныя пытаньні выбаршчыкаў у сваёй хаце (сьпісы якіх, дарэчы, ня складзеныя). Уявім лепш, што пасьля абходу 7-12 кватэраў сябры камісіі выходзяць з пад’езду, а ля выхаду іх ужо чакае нарад міліцыі, які задасьць пытаньні: „Хто такія? Дакуманты? Па якому закону?”

На апошняе пытаньне адказу няма. У якім становішчы апынуцца гэтыя людзі, дзеяньні якіх будуць пазбаўленыя юрыдычнага і маральнага абгрунтаваньня. А гэта, між іншым, будуць у асноўным – сябры Фронту і людзі вызвольнай арыентацыі. Выглядае блюзьнерствам прыняцьце пастановы ЦВК №192 і штурханьне людзей на авантуру.

20-га красавіка ў афіцыйным лісьце я нагадаў спадару В. Ганчару пра неабходнасьць строга выконваць выбарчае заканадаўства. Аднак ён зрабіў усё наадварот. А існуючая група дэпутатаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня (хоць заканадаўчага значэньня гэта й ня мае) падтрымала механізм бязглуздага і незаконнага галасаваньня, прапанаванага ў пастанове ЦВК №192, і нават прыняла ня менш бязглузды зварот.

* * *

Я мяркую, што ў кіраўніцтва ЦВК яшчэ засталося крыху часу, каб падумаць і вярнуцца да Канстытуцыі і Закону. Калі ж у бліжэйшы час яно ня вернецца на шлях законнасьці, то парушэньне заканадаўства незалежна ад таго, хто яго парушае (ці Лукашэнка, ці Ганчар, ці Шарэцкі, ці хто іншы), ніколі не павінна зыходзіць з рук яго парушальнікам.

Мы прапаноўвалі дзейнічаць толькі па Закону, стварыць выбарчыя ўчасткі для галасаваньня (механізм быў прапанаваны) і галасаваць нармальна, у адзін дзень.

Нават калі б такое галасаваньне пратрывала б некалькі гадзінаў, то за гэты час магло б прагаласаваць болей выбаршчыкаў, чым пры ненармальным хаджэньні са скрыняй за 10 дзён.

Але нават калі б галасаваньне доўжылася ўсяго 5 хвілінаў і было б спыненае сілай рэжыму, то юрыдычная, палітычная і маральная перавага і праўда – засталіся б за намі. А выбары, перапыненыя сілай, на гэтым не спыніліся б і маглі быць у зручны момант аднаўленыя зноў (скажам, адразу пасьля 20-га ліпеня).

Праектанты выбараў, відаць, спадзяваліся на раскол Фронту. Але нічога не атрымалася. Цяпер жа складваецца ўраджаньне, што спадар В. Ганчар хацеў бы „спаліць” усіх (акрамя сябе). Толькі з гэтага таксама нічога не атрымаецца.

* * *

Кіраўніцтва ЦВК да гэтага часу не стварыла ўчастковых выбарчых камісіяў, не падрыхтавала сьпісаў выбаршчыкаў, але спадар В. Ганчар ужо з 6-га траўня аб’явіў (незаконна) пачатак пакватэрнага ўсеагульнага галасаваньня. Хто будзе яго ажыцьцяўляць, калі няма ўчастковых камісіяў? А як быць з агітацыяй за кандыдатаў? Па Закону на гэта даецца 20 дзён. Але па Закону ў час галасаваньня не дазволеная ніякая агітацыя, а тэарэтычнае „галасаваньне па Ганчару” павінна пачацца з 6-га траўня.

Юрыдычна безадказнае становішча, якое стварыў з выбарамі В. Ганчар, паказвае, што кіраўніка ЦВК за правальваньне выбарчай кампаніі цяпер трэба тэрмінова здымаць і прызначаць іншага. Але апазыцыйны фантом пад назвай „Вярхоўны Савет” ня ў стане нават сабрацца, і замест гэтага яго Прэзыдыюм піша блюзьнерчы зварот, лепятаньне да беларускага народу, дзе аб’яўляе, што „ЦВК знайшла адзіны правільны выхад: даць магчымасьць выбаршчыкам прагаласаваць па месцы жыхарства” напрацягу 10-ці дзён. Памятайце, што толькі сам народ можа вызначыць свой лёс (глыбакадумна пішуць пры гэтым гэтыя дзіўныя асобы).

*4 траўня 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# ЗВАРОТ ДА ВЫБАРШЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

16 траўня 1999 года па Закону павінны адбыцца выбары Прэзыдэнта Беларусі. Кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі (старшыня В. Ганчар) насуперак Закону аб’явіла выбары з 6-га траўня і заплянавала праводзіць іх 10 дзён шляхам пакватэрнага абходу выбаршчыкаў са скрыняй для галасаваньня.

Механізму ўсеагульнага 10-дзённага галасаваньня з пакватэрным абходам няма ў беларускім заканадаўстве. (Кіраўніцтва ЦВК падтасавала палажэньні Закону, якія датычаць толькі асобных катэгорыяў выбаршчыкаў, што могуць прагаласаваць раней.) Гэта грубае парушэньне закону „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”.

Гэтакім жа антызаконным мэтадам у 1996 годзе Лукашэнка праводзіў антыпраўны рэфэрэндум, які не прызнала міжнародная супольнасьць.

Беларускіх выбаршчыкаў (і мяне як кандыдата) уцягваюць у безадказную, дрэнную справу.

Выбары антызаконным мэтадам (і тым больш – з ашуканствам) ня будуць прызнаныя Народным Фронтам, міжнароднай супольнасьцю і беларускім грамадзтвам.

Мае звароты да кіраўніцтва ЦВК з патрабаваньнем выконваць заканадаўства не былі ўлічаны.

Нават калі б галасаваньне па Закону (на выбарчых участках і ў адзін дзень) доўжылася б ўсяго 5 хвілінаў і было б спыненае сілай рэжыму, то юрыдычная, палітычная і маральная перавага і праўда засталіся б за арганізатарамі і удзельнікамі выбараў. Выбары, перапыненыя сілай, на гэтым не спыніліся б і маглі быць у любы час законна адноўленыя зноў (скажам, адразу пасьля 20-га ліпеня, калі канчаецца прэзыдэнцкі тэрмін Лукашэнкі). Цяпер жа выбарчы працэс ператвараецца ў несур'ёзныя паводзіны.

Я зьвяртаюся да выбаршчыкаў Беларусі з прапановай задумацца над сваім удзелам у 10-дзённай антызаконнай прафанацыі галасаваньня. Яна можа скампрамэтаваць усіх. Добрыя мэты дасягаюцца добрымі сродкамі. Галасаваньне павінна адбывацца толькі па Закону: у адзін дзень 16 траўня з 7.оо да 22.оо гадзінаў на выбарчых участках.

Калі кіраўніцтва ЦВК ня спыніць сумніўныя гульні з Законам, з народам і з кандыдатамі, не адкліча свайго памылковага, незаконнага рашэньня і не забясьпечыць нават спробы законнага галасаваньня, то яно павінна прызнаць сваю няздольнасьць арганізаваць і правесьці выбары.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***кандыдат у Прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь***

*7 траўня 1999 г.*

# УХВАЛА СОЙМУ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ"

*Сойм БНФ „Адраджэньне"* разглядае кампанію па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь як надзвычай важны крок у пазбаўленьні краіны ад дыктатуры, у вяртаньні законнасьці.

Менавіта таму ***сябры БНФ „Адраджэньне" павінны строга прытрымлівацца заканадаўства Рэспублікі Беларусь у ходзе выбараў, якое мае прыярытэт пры любых варунках***. Ніякія тлумачэньні і інтэрпрытацыі закона з боку структураў, не ўпаўнаважаных на гэта, ня маюць праўнай сілы.

Дыктатура Лукашэнкі ўспрыняла кампанію выбараў Прэзыдэнта як рэальную беспасярэднюю пагрозу сваёй палітычнай будучыні і плянам зьнішчэньня незалежнасьці Беларусі. Таму лукашэнкаўскія ўлады чыняць перашкоды выбарчай кампаніі ды ўсчыняюць рэпрэсіі супраць яе ўдзельнікаў.

*Сойм БНФ* зьвяртаецца да Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзыдэнта з просьбаю прысьпешыць вызначэньне канкрэтных месцаў галасаваньня ў дзень выбараў 16 траўня і своечасова паінфармаваць аб гэтым грамадзянаў. Просім таксама прысьпешыць выраб улётак зь інфармацыяй аб выбарах.

***Народны Фронт са свайго боку робіць усё, каб выбарчая кампанія адбылася ў адпаведнасьці з заканадаўствам*** і засьведчыла дэмакратычны незалежніцкі патэнцыял беларускага грамадзтва. Заклікаем усіх грамадзянаў Беларусі, якім дарагі лёс Бацькаўшчыны, узяць удзел у выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

*8 траўня 1999 г., Менск.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# СТАРШЫНІ ЦВК СП. В. ГАНЧАРУ

У сувязі з грубымі парушэньнямі Закону „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь", незабесьпячэньнем законнай арганізацыі галасаваньня і фальсыфікацыяй галасаваньня з боку кіраўніцтва ЦВК, адмаўляюся ад удзелу ў выбарах і здымаю сваю кандыдатуру.

***З. Пазьняк***

*13 траўня 1999 г.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

# АБ ВЫБАРАХ Ў БЕЛАРУСІ

***(Заява)***

16-га траўня 1999 года па Закону павінны адбыцца выбары Прэзыдэнта Беларусі. Кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі (старшыня В. Ганчар) насуперак Закону аб'явіла выбары 6-га траўня і заплянавала праводзіць іх 10 дзён шляхам пакватэрнага абходу выбаршчыкаў са скрыняй для галасаваньня.

Механізму ўсеагульнага 10-дзённага галасаваньня з пакватэрным абходам няма ў беларускім заканадаўстве. (Кіраўніцтва ЦВК падтасавала палажэньні Закону, якія датычаць толькі асобных катэгорыяў выбарчшыкаў, што могуць прагаласаваць раней.) Гэта грубае парушэньне закону „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь".

Гэтакім жа антызаконным мэтадам у 1996 годзе Лукашэнка праводзіў антыпраўны рэфэрэндум, які не прызнла міжнародная супольнасьць.

Беларускіх выбаршчыкаў (і мяне як кандыдата) уцягваюць у безадказную, дрэнную справу.

Напрацягу 9-га і 10-га траўня я меў шэраг тэлефонных размоваў з кіраўнікамі раённых выбарчых камісіяў. (Апытаныя дзясяткі раёнаў па ўсіх вобласьцях.) Высьветлілася, што амаль нідзе на гэты час пакватэрнае галасаваньне не праводзілася (акрамя Дзятлаўскага і Лунінецкага раёнаў). Амаль нідзе няма сьпісаў выбаршчыкаў. Нідзе ня створаныя ўчастковыя выбарчыя камісіі. Толькі ў палове гэтых раёнаў ёсьць скрыні для галасаваньня і менш чым у палове раёнаў ёсьць выбарчыя бюлетэні. (На 20-ць апытаных мной раёнаў – 18 тысячаў бюлетэняў.) Такая сітуацыя, фактычна, па ўсёй Беларусі. Па краіне рэальна прагаласавала на гэты час – самае вялікае – некалькі дзясяткаў тысячаў выбаршчыкаў. Тым часам 10-га траўня кіраўніцтва ЦВК афіцыйна паведаміла, што за чатыры дні па Беларусі прагаласавала 1 мільён 379 тысячаў выбаршчыкаў (16 адсоткаў ад усіх выбаршчыкаў). Тое, што такая колькасьць прагаласаваных у прынцыпе немагчымая (гэта рэальна немагчыма зрабіць), даказваецца нават простым арыфметычным дзеяньнем, калі падзяліць гэтыя 1 мільён 379 тысячаў на рэальную колькасьць выбарчых групаў, што ходзяць па кватэрах. Участковых камісіяў, практычна, не існуе, а на аснове тэрытарыяльных камісіяў (1621 чалавек у 172-х камісіях) можна стварыць ня болей, чым 810 групаў (па два чалавекі), а фактычна – значна менш. У рэальнасьці працуе невялікая колькасьць людзей.

11-га траўня лічбу прагаласаваных павялічылі да 1 мільёна 752 тысячаў (22,8 адсоткаў). 12-га траўня – да 2-х мільёнаў 494 тысячаў прагаласаваных (32 адсоткі).

Ідзе нахабная фальсіфікацыя галасаваньня з боку кіраўніцтва ЦВК. Даюцца фантастычна павялічаныя, неіснуючыя лічбы прагаласаваных. Адбываецца цынічны, адкрыты падман грамадзкасьці і крымінальнае парушэньне Закону.

Тыя сябры Народнага Фронту, якія ўвайшлі ў выбарчыя камісіі, выказваюць абурэньне дзеяньнямі кіраўніцтва ЦВК і адмаўляюцца працаваць у камісіях.

Я неаднаразова пісьмова зьвяртаўся да кіраўніцтва ЦВК з патрабаваньнем выконваць Канстытуцыйнае заканадаўства аб выбарах. Аднак мае звароты не былі прынятыя пад ўвагу. Цяпер выбары ператварылі ў крымінальную авантуру, у ашуканства, зь якім можна параўнаць толькі лукашэнкаўскія „рэфэрэндумы”.

Усё гэта непрыймальна для мяне як кандыдата ў Прэзыдэнты і палітыка. Гэтым сьведчу, што адмаўляюся ад удзелу ў сумніўных выбарах і здымаю сваю кандыдатуру.

Зьвяртаюся са шчырай падзякай да выбаршчыкаў, што хацелі галасаваць за мяне, да ўсіх сяброў Народнага Фронту, што зьбіралі подпісы за маю кандыдатуру.

Я б ня раіў беларускім выбаршчыкам удзельнічаць у гэтым ненармальным галасаваньні, каб ня стаць ахвярамі і саўдзельнікамі ашуканства.

Сябрам Беларускага Народнага Фронту прапаную спыніць усялякі ўдзел у выбарчай кампаніі, дзе творыцца крымінал.

*13 траўня 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20); „Пагоня”, – 1999, 13 траўня).*

# ФАКС-ТЭЛЕГРАМА

*(Атрымаць В. Буйвалу, А. Крывароту)*

***Л. Баршчэўскаму, Ю. Беленькаму, В. Вячорку, С. Гусаку, С. Папкову, Ю. Хадыку****

Калегі.

Маё катэгарычнае патрабаваньне да вас.

Адкладзіце ўсё і тэрмінова выводзьце сяброў Фронту з удзелу ў выбарчай авантуры. Ганчар „паліць” Фронт. Не садзейнічайце яму. Ужо пачаўся масавы хапун у Магілёве (схапілі 82 чалавекі). Нашыя людзі не павінны класьці галовы за чужое шулерства. Я зрабіў ахвяру дзеля выратаваньня Фронту. Выходзьце з балота, інакш вы не апраўдаецеся нічым.

*14 траўня 1999 г., 16.30*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне”***

* Намесьнікі Старшыні БНФ

# ЯК ГЭТА ПАВЕДАМЛЯЛІ

*11 траўня.* **Радыё „Свабода”**, **Ю. Карманаў**: „Колькасьць выбаршчыкаў, што прынялі ўдзел у датэрміновым галасаваньні за 5 дзён выбараў, уражвае: адзін мільён 772 тысячы 42 чалавекі ўжо прагаласавалі ва ўсёй Беларусі на 10-е травеня (22, 82% ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў). Старшыня ЦВК В. Ганчар лічыць, што датэрміновае галасаваньне адбываецца па нарастаючай. Кожны дзень галасуе больш, чым у папярэдні. Прэсавы Цэнтр ЦВК падае сёньня наступныя лічбы прыняўшых удзел у галасаваньні за 5 дзён. У Віцебскай вобл. – 31,5 адсоткі (гэтая вобласьць застаецца лідэрам)*; у Менскай вобласьці – 24,2

* Потым высьветлілася, што ў Віцебскай вобласьці да гэтага часу ўвогуле не было ніякага галасаваньня. Выбарчыя бюлетэні ў невялікай колькасьці завезьлі ў вобласьць толькі 13-га траўня. – *(Рэд.).* 13-га траўня радыё „Свабода” (іншая рэдакцыя) агучыла, напрыклад, наступную інфармацыю: „У Наваполацку „датэрміновыя выбары» ішлі, практычна, адзін дзень, *8-га* траўня, а потым выбарчы працэс, практычна, спыніўся. На сходзе сябраў мясцовай суполкі БНФ, на

адсоткі; у Гомельскай – 22,9%; у Менску – 21,5%, у Горадзенскай вобл. – 20,9%, у Магілеўскай вобл. – 19,9 адсоткі".

*12 траўня.* **Радыё „Свабода"**. Паводле зьвестак ЦВК, у выбарах на 11 траўня ўзялі ўдзел амаль 32 адсоткі выбаршчыкаў. Кіраўніцтва *БНФ* на сёняшняй прэс-канфэрэнцыі ўзяла пад сумніў гэтыя дадзеныя. Было заяўлена, што яны значна завышаныя.

**Ю. Карманаў**: „2 мільёны 400 тысячаў 949 чалавек прыняло ўдзел у галасаваньні на 11 траўня, паводле ЦВК (гэта 31,87 %). Дынаміка галасаваньня па абласцях застаецца ранейшай. Лідар – Віцебская вобласьць (41,9 адсоткі); аўтсайдарам – Магілеўшчына, дзе прагаласавала 26,7 адсоткі".

*14 траўня.* **Радыё „Свабода", Ю. Карманаў**: „Скандал апошніх дзён ніяк не паўплываў на дынаміку датэрміновага галасаваньня. Гэта вынікае з лічбаў, якія сёньня падае ЦВК (за 8 дзён галасаваньня). Па ўсёй Беларусі, як лічыць ЦВК, прагаласавала 3 мільёны 320 тысяч 716 чалавек (44% ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў).

Каб выбары адбыліся, трэба, каб у іх прынялі ўдзел крыху больш за тры з паловай мільёны выбаршчыкаў. Гэта азначае, што ўжо, паводле зьвесткаў ЦВК, выбарчая кампанія выйшла на фінішную прамую. Лідарам зьяўляецца Віцебская вобласьць, дзе ўзяло ўдзел у галасаваньні 47,5% выбаршчыкаў. На апошнім месцы Магілёўская вобласьць (39,4%)".

*15 траўня.* **Радыё „Свабода", Ю. Карманаў**: „Прэсавы цэнтар ЦВК сцьвярджае, што на 14 траўня ў выбарах узялі ўдзел 3 мільёны 676 тысячы 344 чалавекі. Гэта складае 48,7 адсоткі ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў. Па абласцях дынаміка застаецца нязьменнай: на першым месцы – Віцебская".**

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

---

якім прысутнічалі сябры выбарчай камісіі ад БНФ, ***Уладзімер Гацкі***, в.а. старшыні гарадзкой выбарчай камісіі, аб'явіў аб складаньні паўнамоцтваў і патлумачыў сваё рашэньне красамоўнай фразай: «Дэмакрат розьніцца ад палітычнага прайдзісьвета тым, што ня хлусіць народу, сусьветнай супольнасьці і сабе самому».

Тое, што адбываецца сёньня на выбарчым фронце, Уладзімер Гацкі назваў „прафанацыяй", а галавакружныя лічбы нібыта прагаласаваўшых па Віцебскай вобласьці – „палітычнай правакацыяй". „Гарадзкая выбарчая камісія ня мае права быць калектыўнай ярмошынай і калектыўна парушаць законы",– сказаў спадар Гацкі і абвінаваціў Цэнтральную і Абласную выбарчыя камісіі ў тым, што яны не падрыхтавалі выбарчую кампанію. У вобласьць абяцалі даць сьпісы наваполацкіх выбаршчыкаў, але не далі. Замест гэтага прапанавалі везьці ў Віцебск выбарчыя пратаколы, *ня ўпісваючы колькасьці прагаласаваных*. Пасьля такіх прапановаў, па сьведчаньні спадара Гацкага, ён і вырашыў адмовіцца ад удзелу ў выбарчым фарсе." *(Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці". – 1999 г., №3(20).*

** У сапраўднасьці прагаласавала ня больш за 0,01 адсотка выбаршчыкаў; у пераважнай большасьці раёнаў выбарчыя камісіі не былі гатовыя да працы і галасаваньне не вялося, бо не было выбарчых бюлетэняў для галасаваньня, якіх аддрукавалі мізэрную колькасьць невялікім накладам. Такой нахабнай і бессаромнай хлусьні, якую агучваў вышэй адзначаны „журналіст" з падачы В. Ганчара, ня знойдзеш нават ў Лукашэнкі. Тут добра відаць тэхналёгія афёры. Ілгалі адкрыта, дэманстратыўна, перабольшана, каб усе, нават самыя адсталая людзі, ўбачылі і зразумелі, што адбываецца фальсіфікацыя і Народны Фронт, маўляў, разам з Пазьняком купаюцца ў гэтай гразі. Фіналам афёры павінна было стаць аб'яўленьне выбраньня Пазьняка Прэзыдэнтам. Мяне, аднак, уразіла не бессаромнасьць правакацыі (я быў да яе падрыхтаваны), а паводзіны тых маіх палітычных намесьнікаў (Хадыкі, Вячоркі, Баршчэўскага), што нягледзячы ні на што, заклікалі ісьці да канца, не вылазячы з твані. Саматапленьне ўдалося спыніць. Але потым гэтыя ж людзі Фронт раскалолі.

Удакладненьне: са сканчэньнем выбарчай афёры В. Ганчара Ю. Карманаў, як чалавек зьвязаны зь іншымі прынцыпамі, быў звольнены з радыё „Свабода"*– (З. П.)*

# ВЯЛІКАЯ АФЁРА

***(Ліст да сяброў БНФ)***

Паважаныя сябры Фронту. Я павінен засяродзіць вашу ўвагу на некаторых аспэктах бягучага моманту дзеля арыентацыі і прыняцьця хуткіх рашэньняў.

Спачатку нагадаю агульнавядомае. Я ўжо пісаў, што задачай маскоўскага выбарчага праекту, які выконваюць М. Чыгір і В. Ганчар, ёсьць ***стварэньне „сваёй" (прамаскоўскай, не нацыянальна-вызвольнай) апазыцыі Лукашэнку ў Беларусі і палітычнае зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту.*** Небясьпека і моц гэтага праекту ў прафэсыяналах і ў грашах, што былі пакладзеныя на яго выкананьне.

Калі б мы не ўступілі ў псэўдавыбарчы працэс, тады мы адразу пацярпелі б паражэньне. Мы б ня мелі і не знайшлі б даступных і ўсім зразумелых аргумантаў для абгрунтаваньня няўдзелу ў патрэбных выбарах. Фронт быў бы дэзарыентаваны, расколаты, асуджаны грамадзтвам і прыхільнікамі і праста разбураны. Таму і я, і ўвесь Фронт павінны былі ўступіць у выбарчы працэс і змагацца з плянам, складзеным супраць нас. Істотна тое, што мой ўдзел у гэтых выбарах даваў мне магчымасьць кантраляваць паводзіны афэрыстаў і магчымасьць разбурыць іхныя дзеяньні.

Я згадзіўся выставіць кандыдатуру ***пры ўмове, што будзе строга выконвацца закон „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь".*** В. Ганчар законнасьць гарантаваў. Але потым заканадаўства было ім паламанае, а праект ажыцьцяўляўся сваёй чаргой.

Выбары праводзяцца кіраўніцтвам ЦВК з грубым парушэньнем Закону, шляхам незаконнага пакватэрнага абходу і галасаваньнем па месцы пражываньня. Галасаваньне арганізацыйна незабясьпечанае і фармальна адбываецца толькі ў асобных месцах. Але кіраўнік ЦВК, спасылаючыся на асобныя факты, паведамляе кожны дзень выдуманыя зьвесткі пра сотні тысячаў і мільёны прагаласаваных выбаршчыкаў.

9, 10 і 11 траўня я апытаў дзясяткі раённых кіраўнікоў Фронта і кіраўнікоў выбарчых камісіяў па ўсёй Беларусі. У пераважнай большасьці раёнаў камісіі не былі гатовыя да працы і галасаваньне не вялося (не было нават бюлетэняў для галасаваньня).

У рэальнасьці па Беларусі прагаласавала самае большае – дзясяць тысяч выбаршчыкаў. Але ў сапраўднасьці ў дзесяць разоў менш. (Пакватэрным абходам увогуле немагчыма забясьпечыць масавае галасаваньне.) У Віцебскую вобласьць, напрыклад, толькі 13-га траўня завезьлі выбарчыя бюлетэні, па 500 штук на раён. (У кожным раёне ў сярэднім – 50-60 тысячаў выбаршчыкаў.) Галасаваньня ў вобласьці, фактычна, не было (пры невялікім

выключэньні). Тым часам кіраўніцтва ЦВК паведаміла, што Віцебская вобласьць „лідыруе" і што там „прагаласавала" да гэтага часу больш за 44 адсоткі выбаршчыкаў. Па ўсёй Беларусі на 15-га траўня пададзена выдуманая фантастычная лічба прагаласаваных – 3 мільёны 676 тысячаў (48 адсоткаў).

Гэта вялікая афёра і нахабнае ашуканства. На Беларусі ў барацьбе з Беларускім Народным Фронтам усходнімі „архітэктарамі" упершыню ўжыты ***мэтад адкрытай дэманстратыўнай фальсіфікацыі галасаваньня***. Пры гэтым спадар Ганчар падкрэсьлівае, што галоўную працоўную сілу на выбарах складае Народны Фронт. Кіраўнік ЦВК кожны дзень паведамляе неіснуючыя лічбы, і кожны дзень лукашэнкаўскі рэжым арыштоўвае фронтаўцаў, цягне пад суд, дае штрафы, садзіць за краты. 14-га траўня ў Магілёўскай вобласьці міліцыя схапіла 82-х чалавек.

На фоне дэманстратыўнай фальсіфікацыі галасаваньня адбываецца „спаленьне" Фронту і яго людзей (арышты, турмы, штрафы, крымінальныя справы, звальненьне з працы, пэрспэктыва забароны арганізацыі). На нашых вачах пад звон цынічнага ашуканства Фронт зацягваюць у багну, у хлусьню, у бруд, зь якога няма ратунку. Людзі з сьветлымі намерамі, ня ведаючы праўды, ахвяруюцца за шулерства чужых, за крымінал і не разумеюць, што робяць і што робіцца. Тыя, хто працуюць, не разумеюць, што іхныя рэальныя і мізэрныя сотні прагаласаваных нічога ня значаць перад фальшывымі мільёнамі старшыні ЦВК В. Ганчара. Яны ня ведаюць, што сталі прыладай ў руках афэрыстаў, што іхная ахвярнасьць і праца ня пойдуць на карысьць Беларусі.

11 траўня, грунтуючыся на Законе і на законапаслухмянай пазыцыі Фронта (Ухвала Сойму БНФ ад 8 траўня), я рэкамендаваў сябрам БНФ тэрмінова выходзіць з выбарчай прафанацыі, пакуль увесь Фронт не павязалі хлусьнёй. 13-га траўня я зьняў сваю кандыдатуру.

Тым ня менш кіраўнік ЦВК працягвае сваю справу – кожны дзень аб'яўляе пра новыя сотні тысячаў „прагаласаваных" выбаршчыкаў. Ёсьць нават „творчае разьвіцьцё" праекту. Кіраўнік ЦВК раптам пачаў казаць, што прадаўжае лічыць мяне кандыдатам у прэзыдэнты і не прызнае маёй заявы ў СМІ і заявы, накіраванай на яго імя факсам, бо трэба, маўляў, арыгінал. (Відаць, „вялікія архітэктары" з Усходу загадалі. Але гэта ўжо ад бясьсільля. Пралічыліся.)

Вынікі гэтых падзеяў даволі сур'ёзныя.

Беларусь траціць шанс правядзеньня законных выбараў Прэзыдэнта. Выбары скампраметаваныя. Ніякага прызнаньня вынікаў галасаваньня (якімі б яны ні былі) ня можа быць. Няма каму гэтыя вынікі ануляваць, каб правесьці новыя выбары.

Як і ў 1994-м годзе, у апэрацыі правядзеньня афёрных прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі былі задзейнічаныя тыя ж самыя заплечныя сілы і нават тыя ж канкрэтныя выканаўцы (В. Ганчар, М. Чагір, А. Лябедзька і ўся „камарыльля").

Калі б удалося прымусіць кіраўніка ЦВК строга выконваць Закон, то нават у гэтай сытуацыі можна б было пачаць канцэптуальны працэс прэзыдэнцкіх выбараў, якія з-за перашкодаў з боку ўлады можна б было законна прыпыніць і потым законна давесьці да лягічнага канца. Цяпер гэтая магчымасьць зьнішчаная.

Змаганьне з маскоўскай палітыкай нялёгкае і няпростае. Практычна ўсе рэальныя палітычныя падзеі, канфлікты і зьявы, што мы назіраем цяпер у Беларусі, ёсьць адлюстраваньнем аднаго зьместу: барацьбы за Беларусь паміж імпэрскай Расеяй і нацыянальнымі сіламі беларускай незалежнасьці.

У сытуацыі, калі практычна немагчыма было перамагчы, Беларускі Народны Фронт выстаяў, захаваў сваю палітыку і зьберогся ад кампраметацыі і разбурэньня, хоць 4 месяцы былі, фактычна, страчаныя на вельмі цяжкую працу і змаганьне.

Трэба разумець, што ўдзел у „дзіўных выбарах" і разьвязка змаганьня, адбіліся моцным эмацыйным стрэсам на Фронце. Але ўжо спадзяюся, што Фронт цьвёрда перажыве гэты стрэс і, дай Бог, зь мінімальнымі стратамі.

*15 траўня 1999г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20); „Пагоня", – 1999, 20 траўня).*

# МАРАЛЬНЫ ВЫБАР

Чалавечы вопыт і народная мудрасьць сьведчаць: нічога нельга пабудаваць на хлусьні, акрамя хлусьні, і нічога не пабудуеш на нянавісьці, акрамя нянавісьці. Гэтыя ісьціны ўнівэрсальныя. Яны выяўляюцца ў палітыцы, у асабістым жыцьці, у гісторыі.

Па адносінах да хлусьні вызначаецца ўзровень асобы, характар улады і мараль грамадзтва. Ня стану нагадваць гістарычныя прыклады і паралелі. Зьвернемся да рэчаіснасьці.

Грубае парушэньне Закону і адкрытая, дэманстратыўная фальсыфікацыя галасаваньня кіраўніцтвам Цэнтральнай Выбарчай Камісіі сталі відавочныя для кожнага, хто жыве ў Беларусі і хто назіраў за прэзыдэнцкімі выбарамі. Тым ня менш – адносіны розныя. Прычынаў некалькі, але выбар адзін – маральны.

Палітычныя прычыны паводзінаў (якія менш істотныя ў гэтай сытуацыі) абумоўленыя псіхалогіяй часткі грамадзтва, якое нязгоднае больш цярпець рэжым і гатовае пайсьці на ўсё, „абы зваліць" Лукашэнку.

У 1994-м годзе спрацавала гэтая ж самая псіхалогія: „абы ня Кебіч". У другім туры галасаваньня нават некаторыя палітычна сьведамыя людзі галасавалі тады за Лукашэнку, бо – „абы ня Кебіч".

Не павінна быць бяздумных паводзінаў у палітыцы тыпу „пустая паперка" ці „абы зваліць". Бо „звальваюць" заўсёды ў нечых інтарэсах. Калі свой інтэрас не забясьпечыць і дзейнічаць толькі па нянавісьці, гэта азначае стаць сьляпой зброяй чужых інтарэсаў. Вынік такіх паводзінаў для бяздумных заўсёды адзін і той жа: з агню – ды ў полымя.

Калі інтэрас забясьпечаны (ці хаця б часткова ўсьведамляецца) і калі ён жорстка рэглямантаваны (напрыклад, законам у выбарчай кампаніі), тады вызначальным робіцца прынцып, мэтад, пры дапамозе якога інтэрас рэалізуецца.

Беларускі вызвольны рух, беларускія апазыцыйныя сілы (што змагаюцца з рэжымам Лукашэнкі) ня могуць ілгаць, ня могуць

ашукваць грамадзтва, не павінны дзейнічаць тымі ж мэтадамі, якімі карыстаецца Лукашэнка.

***Калі ілгаць і ашукваць будуць і адны, і другія, то для грамадзтва траціцца сэнс выбару. Людзі зробяць выснову, што і рэжым, і апазыцыя да яго – аднолькавыя і б'юцца толькі за ўладу (каб зноў ашукваць).***

Парушэньне заканадаўства і фальсіфікацыя галасаваньня ёсьць самая страшная правакацыя, якая была зьдзейсьненая ў гэтай гісторыі. Едучы на сьпіне Народнага Фронту, група дзеячоў уцягвала ў балота, у бруд і хлусьню галоўную арганізацыю Вызвольнага руху, якой давяралі і на якую абапіраліся незалежніцкія сілы і сьведамыя людзі Беларусі. Большай дыскрэдытацыі Народнага Фронту цяжка было ўявіць.

У апошні час маскоўскі праект прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі моцна заламаўся. У выніку кадравых пераменаў у расейскай уладзе, зьнікла абяцаная падтрымка пад гэты праект і велізарнае фінансаваньне з Расеі. Цяпер стала вядома, што пасьля ўзьнікненьня складанасьцяў (ужо ў траўні) зьявіўся варыянт яшчэ горшы. Сутнасьць яго ў тым, што кіраўніцтва ЦВК дэманстратыўна фальсіфікуе галасаваньне на карысьць кандыдата ад БНФ і аб'яўляе яго „пераможцам" у выбарах. (Пазьней сталі вядомыя і фальшывыя лічбы: 2,3 мільёна фіктыўных, неіснуючых галасоў для мяне і 1,5 мільёна „фікцыі"– для Чыгіра). Вось гэта быў бы канец і для Фронту, і для мяне, і для ўсяго Вызвольнага руху.

Калі я пра гэта даведаўся, – заставалася некалькі дзён да афіцыйнай даты галасаваньня. Я ведаў, што на мяне пальюцца абвінавачваньні (у тым ліку, магчыма, і з боку актывістаў БНФ у раёнах, якія пазбаўленыя інфармацыі), але ***я абавязаны быў прыняць энэргічнае рашэньне. Я пасьпеў вывесьці з-пад ўдару пераважную большасьць Фронту і зьняў сваю кандыдатуру. Фронтаўцы выйшлі з выбарчых камісіяў і адмовіліся ад удзелу ў выбарчай авантуры.*** Маскоўскі праект абваліўся з грукатам і пылам. Але разбуральныя вынікі правакацыі Ганчара доўга яшчэ будзе адчуваць беларускае грамадзтва.

* * *

Цяпер запрашаю прааналізаваць гэтыя два варыянты. Але, перш чым перайсьці да разгляду варыянтаў, хацеў бы патлумачыць свае адносіны да спадара Чыгіра, якія у некаторых людзей выклікаюць неразуменьне. Канешне, апошнім часам М. Чыгір казаў прыгожыя словы і пра дэмакратыю, і пра нацыянальнае адраджэньне, але ***палітыка ацэньваюць паводле ягоных справаў. Знаходзячыся на пасадзе прэм'ер-міністра і маючы зусім немалыя паўнамоцтвы, спадар Чыгір напрацягу двух гадоў ніколі не выказваў нязгоды з Лукашэнкам.***

А за гэтыя два гады былі і „белыя плямы" ў газэтных палосах на месцы тэксту справаздачы С. Антончыка, і зьбіцьцё дэпутатаў БНФ у Авальнай залі парляманту, і падаўленьне страйку мэтрапалітэнаўцаў, і дубінкі амапаўцаў па сьпінах удзельнікаў Вясны-96, і – адразу пасьля прыходу Лукашэнкі – дыскрымінацыя ўсяго беларускамоўнага. Нарэшце, быў ганебны „рэфэрэндум-95", які зьнявечыў нашу мову, сьвятыя нацыянальныя сымвалы – *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *Пагоню*. Усё гэта ня выклікала ў спадара Чыгіра пярэчаньняў – ва ўсялякім разе, публічных.

Акрамя таго, я перакананы, спадар Чыгір ня здолее супрацьстаяць націску Крамля.

Як палітык я маю права на такую ацэнку. Але пры ўсім маім крытычным стаўленьні да Чыгіра-палітыка, я, аднак, лічу амаральнымі і злачыннымі дзеяньні рэжыму, які без усялякіх падставаў пазбавіў Міхаіла Чыгіра свабоды, і патрабую ад уладаў ягонага неадкладнага вызваленьня.

Уявім, што першапачаткова праект не зламаўся б, у Маскве – ніякіх пераменаў, Фронт ня выйшаў бы з фальшывых выбараў, і „пераможцам" аб'яўляецца Чыгір.

Масква гэтым не зламала б Лукашэнку, але магла б схіліць да кампрамісу, бо Чыгіра выстаўлялі б як замену і альтэрнатыву. Лукашэнку прымушалі б аддаць расейцам і нафтавую прамысловасьць, і газавыя комплексы, упусьціць на Беларусь расейскія банкі, і ўвогуле – інтаграваецца з Расеяй на крамлёўскіх умовах: аддаць стратэгічную эканоміку, кіраваньне і правы Маскве, пакінуўшы сабе толькі абавязкі, адказнасьць і фікцыю сувэрэнітэту.

Калі б Лукашэнка на гэта не пайшоў і не знайшоў бы выхаду, Масква паставіла б Чыгіра. Перамога „дэмакратыі" ў Беларусі, нарэшце, адбылася б. Чыгір здаў бы Маскве ўсё, чым не згандляваўся Лукашэнка. М. Чыгір тут аднак – службовая фігура і сюжэт зь ім мог бы разьвівацца па-рознаму. (Цяпер выглядае, што Чыгіра саўдзельнікі ўвогуле кінулі.)

Уявім, што ажыцьцявілі апошні плян. Пасьля дэманстратыўнай фальсіфікацыі галасаваньня, „пераможцам" аб'яўляюць мяне. Як бы я казаў пра фальсіфікацыю рэфэрэндуму і ўзурпацыю ўлады Лукашэнкам? Як бы мяне ўспрыняло беларускае грамадзтва (што, павінна было паверыць пра 53 адсоткі прагаласаваных)? Як бы рэагавала міжнародная супольнасьць (што не прызнала фальсіфікацыяў Лукашэнкі)? Як бы я фармаваў урад, на якой прававай і маральнай падставе? Ліпавага прэзыдэнта несумленнай апазыцыі ператварылі б у пасьмешышча, прэса ўлюлюкала б, а народ адвярнуўся б. Выявіць фальсіфікат самому і адмовіцца ад выбраньня было б ужо позна, бо гэта азначала б, што разам з кіраўніцтвам ЦВК трэба было вінаваціць у крымінале і хлусьні Беларускі Народны Фронт і самога сябе.

Калі ж хто-небудзь шчыра думае, што такім мэтадам (стварэньнем фальшывага прэзыдэнта, бяз грунту пад нагамі) апазыцыя можа ажыцьцяўляць нейкую сур'ёзную палітыку, то гэта вельмі наіўна. (Гэта, выбачайце, бытавы ўзровень, гаворыць пра адсутнасьць ведаў і вопыту.)

***Як і ў 1994-м годзе, прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі асядлалі тыя ж самыя сілы. Для Фронту няўдзел у выбарах, практычна, быў немагчымы. Бо нельга было б растлумачыць грамадзтву (ды і многім фронтаўцам), чаму адмаўляемся ад выбараў. Адмаўленьне ад небясьпечных выбараў магло б прывесьці да зьнеслаўленьня і разбурэньня Фронту. Мы вырашылі змагацца. Але пры ўмове, што кіраўніцтвам ЦВК будзе строга выконвацца закон „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь". Акрамя таго, удзел у праблемных выбарах дазваляў мне кантраляваць працэсы і не дапусьціць кампраметацыі Фронту.***

* * *

Становішча, якое стварылася ў беларускім грамадзтве цяпер (пасьля выбараў), вызначаецца не палітыкай. ***Наш народ (прынамсі, сьведамая актыўная яго частка) і Беларускі Народны Фронт пастаўленыя перад маральным выбарам: як дасягнуць высакароднае мэты – змаганьнем ці хлусьнёй, сумленным шляхам, ці спосабам ашуканства? Ад адказу на гэтае пытаньне, паверце, залежыць будучыня нацыі.***

Дарэчы, нядаўні вопыт ужо даў нам адказ. Людзі, якія вялі да ўлады Лукашэнку, менавіта так тлумачылі свае дзеяньні („воз-

мем уладу, а там..."). Але замест гэтага „а там..." мы бачым даведзены да галечы народ, зруйнаваную эканоміку, панішчаную культуру.

Дык навошта паўтараць памылкі іншых?

Паўстаў момант ісьціны. Людзі, якія ўвесь час гаварылі мне (і якіх нямала), што ня так я раблю, ня так дзейнічаю, што трэба, як Лукашэнка – паабяцаць, прыкінуцца, ашукаць, а потым, атрымаўшы ўладу, зрабіць, як належыць, – гэтыя людзі цяпер могуць выбраць.

Народны Фронт, арганізацыі якога ствараюцца (згодна Статуту БНФ) людзьмі, *„зьяднанымі грамадзянскай сьвядомасьцю ды абавязкам, агульнасьцю маральна-этычных паставаў"*, свой выбар зрабіў, калі вышаў з выбарчай кампаніі.

Але момант ісьціны трывае, маральны выбар адбываецца. Не сумняваюся ні на кроплю, што гэта будзе добры выбар. Фронтаўцы апынуліся ў найцяжэйшых умовах перасьледу і ціску ўладаў, дэзынфармацыі і адсутнасьці інфармацыі, супярэчлівых пазыцыяў кіраўніцтва ЦВК і кіраўніцтва Фронту. Ня кожны мог усё ведаць, хутка разабрацца і хутка зрэагаваць. Ніхто не зьбіраецца нікога за гэта караць. Але маральны выбар трэба зрабіць усім, бо праўда і ашуканства – несумяшчальныя, і Фронт не жыве па хлусьні.

На сёньняшні дзень свой фактычны выбар у карысьць сумніцельнага прагматызму засьведчыла трох сяброў Фронту: намесьнікі старшыні БНФ спадары В. Вячорка, Ю. Хадыка і адзін з сакратароў Управы В. Сіўчык. Прытым спадар Хадыка пасьля майго зьняцьця сваёй кандыдатуры і выхаду фронтаўцаў з выбарчых камісіяў, адкрыта заклікаў па радыё „Свабода" прадаўжаць незаконнае галасаваньне тых фронтаўцаў, якія яшчэ заставаліся ў камісіях, бо Фронт, маўляў, не адказвае за дзеяньні кіраўніцтва ЦВК.

Але ж за свае дзеяньні БНФ павінен адказваць.

Чаму такія дзіўныя паводзіны назіраем у адукаванага чалавека, які пастаянна гаварыў аб хрысьціянскай маралі, аб мэтадах „вялікага Гандзі" і г.д.? Таму што тады, калі гэта прамаўлялася, не было неабходнасьці маральнага выбару, і гаварыць, аказваецца, можна было, што хочаш. Цяпер жа выбар зроблены па сутнасьці, а не па словах.

Недапушчальнымі былі такія паводзіны і з гледзішча палітычных партыйных інтарэсаў. (І ня трэба спэкуляваць на тым, што Пазьняк нібы-та „парушыў рашэньне калегіяльнага воргану – Сойму".) 8-га траўня Сойм БНФ прыняў спэцыяльную ўхвалу пра выбары, дзе было адзначана, што Народны Фронт „робіць усё, каб выбарчая кампанія адбылася *ў адпаведнасьці з заканадаўствам"*, што „сябры БНФ „Адраджэньне" павінны *строга прытрымлівацца заканадаўства Рэспублікі Беларусь у ходзе выбараў, якое мае прыярытэт пры любых варунках"*.

Маю рэкамендацыю сябрам БНФ, пагрунтаваную на гэтай ухвале, аб тэрміновым выхадзе з выбарчай авантуры, дзе груба парушаецца Закон (пра што я даручыў давесьці да ведама фронтаўцаў Адказнаму сакратару Ўправы А. Крывароту і намесьніку старшыні БНФ С. Папкову), некаторыя мае намесьнікі, тым ня менш, успрынялі нэрвова і пачалі патрабаваць пакараньня спадароў Крываротa і Папкова за распаўсюджаньне маёй прапановы аб выхадзе.

Гэта поўная ненармальнасьць. Шэсьць маіх намесьнікаў замест таго, каб вынікова працаваць, утварылі распалавінены дыскусійны клюб, няздольны ні да нармальнай працы, ні да канструктыўных ацэнак. Яшчэ ў студзені (ў спэцыяльным закрытым лісьце да маіх намесьнікаў) я папярэдзіў іх пра сутнасьць і зьмест праекту „Чыгір" і прапанаваў неабходныя захады. Кіраўніцтва БНФ валодала асноўнай інфармацыяй.

Але пытаньне не ў палітычных разыходжаньнях, а хутчэй – у сьветапоглядных, у маральных ацэнках палітыкі.

* * *

Некалькі высноваў хацеў бы адзначыць з гэтай гісторыі. Дзіўныя выбары зноў праілюстравалі, што **ва ўзаемадачыненьнях Фронту з антылукашэнкаўскай апазыцыяй трэба разам дзейнічаць па інтарэсах і жорстка размяжоўвацца па прынцыпах**. Размытасьць прынцыпаў у сумеснай дзейнасьці з новай намэнклятурай, з маргінальнымі палітыкамі – справа небясьпечная і разбуральная. Гэтыя людзі існуюць у іншых маральных каардынатах, для іх палітыка – гэта голы прагматызм, дзе ўсё дазволена і ўсё апраўдана мэтай. Яны не клапоцяцца пра падтрымку народа, а толькі аб тым, каб яго ашукаць. Іхныя паводзіны і меркаваньні пры зьнешняй рэспэктабельнасьці – заразныя, як кароста. Фронт адчуў на сабе гэтыя замашкі, гэты цынічны чужы стыль, сьпісаны з узораў маскоўскага палітыканства. Думаю аднак, што і адмоўны вопыт пойдзе нам на карысьць.

Асобы, якія не захацелі ці не захочуць трымацца маральнай пазыцыі Фронту, адыйдуць і пакінуць яго шэрагі. І гэта якраз той выпадак, калі ня трэба шкадаваць аб тых, хто пайшоў і зрабіў супрасьлеглы нам выбар.

Вызвольная арганізацыя павінна быць адзінай. У самых неспрыяльных умовах мы павінны бачыць шляхі, умець прымяніць мэтады, каб забясьпечыць яе існаваньне і ўплыў.

* * *

Самае дрэннае, што можа ўзьнікнуць цяпер, – гэта сьпешнае насіленьне расейскай палітыкі „інтэграцыі" зь Беларусяй. Разбуральная праца на Беларусі ў апошні час праведзена дастаткова вялікая: фактычна, зьнішчаная і дыскрэдытаваная магчымасьць прэзыдэнцкіх выбараў, ліквідаваныя дзьве небясьпечныя для рэжыму асобы ў апазыцыі – Ю. Захаранка (які зьнік пры падазроных абставінах) і Г. Карпенка (з Генадзем Карпенкам напярэдадні яго сьмерці мы дамовіліся аб сумесных дзеяньнях на выбарах і ў пэрспэктыве), дэзыарыентаваная грамадзкая думка. Не ўдалося аднак развaліць і дэмаралізаваць Народны Фронт. Цяпер зноў вядзецца праца па яго расколе. Страта часу ў цяперашняй сытуацыі можа аказацца цяжкай стратай.

Фронт прадоўжыць рэалізацыю сваіх палітычных праграмаў. Але найперш трэба высьветліць пэрспэктыву з прэзыдэнцкімі выбарамі. Арганізацыю выбараў трэба вырваць з рук авантурыстаў і адсекчы маскоўскі праект. Дзеля гэтага неабходна зьвярнуцца ў Вярхоўны Савет з прапановай даць ацэнку ўсім этапам выбарчай кампаніі і прыняць рашэньне па кіраўніцтву ЦВК. Калі ж Вярхоўны Савет і на гэты раз ня здолее сабрацца і зрабіць неабходныя захады, тады трэба прапанаваць В. Ганчару самому падаць у адстаўку. Калі адстаўка старшыні ЦВК не адбудзецца, калі на гэтае месца не заступіць чалавек, не заплямлены і не дыскрэдытаваны, тады можна сказаць пэўна, што Народны Фронт не падтрымае працяг прэзыдэнцкіх выбараў і ня стане ў іх удзельнічаць. Сумняваемся, ці варта тады ўвогуле сур'ёзна ставіцца да палітычных містыфікацыяў афіцыйных асобаў у Вярхоўным Савеце.

Здаровы Фронт усю ініцыятыву па ліквідацыі рэжыму возьме сам на сябе. Мы прадоўжым праграму Грамадзянства БНР і рэалізуем праграму стварэньня Грамадзянскага Парляманту, правядзем парляманцкія выбары па новым (зьмешаным) заканадаўстве. Мы створым легітымны ўрад і рэальнае двоеўладдзе, прымусім Лукашэнку сесьці за стол перамоваў, а калі ня сядзе – то знойдзем рашучыя сродкі ўзьдзеяньня на яго як на узурпатара ўлады.

Фронту, як заўсёды, прыдзецца змагацца, працаваць і гараць нашу беларускую баразну ў поце і стамленьні, бо ніхто не ўзгарэ яе нам, акрамя нас самых.

*26 траўня 1999г.* ***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20); „Пагоня", – 1999, 27 траўня; Народная Воля, – 1999, 27 ліпеня).*

# „BIERZCIE MOJE ŻYCIE"

***(Rozmowa z Zenonem PAŹNIAKIEM, przewodniczącym Białoruskiego Frontu Narodowego)***

***– Był Pan jednym z dwóch kandydatów w wyborach prezydenckich. Dlaczego wycofał sie Pan na dzień przed ich zakończeniem?***

– Te wybory były nielegalne, frekwencja sfałszowana. Zgodnie z prawem, powinny się odbyć 16 maja. Tymczasem już 6 maja rozpoczęto zbieranie głosów. To była wielka awantura zorganizowana przez tych samych ludzi, którzy w roku 1994 wynieśli do władzy Łukaszenkę.

***– O kim Pan mówi?***

– Myśle o politycznych i ekonomicznych siłach w Moskwie i związanych z nimi ludziach na Białorusi: bylym premierze rządu Łukaszenki Michaile Czyhirze i wicepremierze Wiktorze Gonczarze. W czasie głosowania dochodziło do falszerstw. Nie zorganizowano wystarczającej liczby podstawowych komisji wyborczych, wybory odbywały sie tylko w kilku miastach, a tymczasem przewodniczący centralnej komisji wyborczej Gonczar ogłaszał, że miliony ludzi wzięły udział w głosowaniu. Takie fałszerstwo mogło splamić nie tylko mnie, ale caly Front Narodowy.

***– Czy ludzie, którzy narażając się na różne szykany, zatrzymania, pobicia, organizowali te wybory, byli – Pana zdaniem – świadomi tego, o czy Pan mówi?***

– Byli nieświadomi tego, że łamią prawo, bo podporządkowali się rozkazom przewodniczącego CKW Gonczara. W prawie białoruskim nie ma takiej możliwości, żeby podczas wyborów chodzić od mieszkania do mieszkania. Tak robił Łukaszenka w roku 1996, kiedy referendum trwało pół miesiąca i wreszcie je sfałszowano. Społeczność miedzynarodowa i opozycja nie uznały go. Tym bardziej opozycja musi teraz szczególnie przestrzegać prawa. W ten sposób nie można walczyć z Łukaszenką.

***– Czy nie sądzi Pan, że walcząc z reżimem, który ze swojej natury jest zaprzeczeniem praworządności, można łamać prawo?***

– Kiedy łamana jest konstytucja i pogwałcone wszelkie prawo narodowe, to naród ma prawo nawet na walkę zbrojną. Ale tutaj chodzi o coś innego. O poszanowanie złamanej przez Łukaszenkę konstytucji. Nie mogę uczestniczyć w łamaniu konstytucji przez ludzi, którzy – co gorsza – działali z polecenia Moskwy. Mam dowody na to, że ta cała awantura przygotowana przez Ganczara byla finansowana i sterowana przez Rosję.

***– Ale w te wybory zaangażowała się cała opozycja, na czele z Białoruskim Frontem Narodowym.***

– Te wybory nie mogły być przeprowadzone bez Frontu, ponieważ żadna partia nie ma odpowiednich struktur. Czyhir i Gonczar, wiedząc o tym, przyjechali do mnie i prosili, żebym wystartował w wyborach.

***– Kiedy doszło do takiego spotkania?***

– W styczniu tego roku. Chodziło o to, żeby dzięki Frontowi doprowadzić do zwycięstwa Czyhira i w miejsce osłabionego Frontu stworzyć opozycję uległą wobec Moskwy. Musiałem jednak brać pod uwagę to, co sie stanie, jeżeli Front do wyborów nie przystąpi. Gdybyśmy nie wzięli w tym udziału, nie byłoby żadnych argumentów, żeby wytłumaczyć to społeczeństwu. Wtedy Gonczar i Czyhir mogliby mówić, że Front dezerteruje, że nie popiera demokracji.* Zgodziliśmy się więc, ale była umowa, że będzie przestrzegane prawo i ordynacja wyborcza. Krótko mówiąc, poszliśmy, żeby walczyć.

***– Z kim była ta umowa? Z Gonczarem?***

– Tak. I on to obiecał. Kampania wyborcza przebiegała początkowo normalnie. Ale kiedy zbierano podpisy na kandydatów, zaczęły się fałszerstwa. To było pierwsze naruszenie prawa. Drugie – o czym już mówiłem – polegało na tym, że zgodnie z konstytucją wybory powinny być przeprowadzone w jeden dzień, a nie przez dziesięć dni. Według naszych danych, w tych wyborach wzięło udział kilkadziesiąt tysięcy ludzi, a tymczasem komisja Gonczara podała, że uczestniczyły w nich ponad cztery miliony. To jest wielka afera. Przewidywałem, że tak będzie, i dlatego wycofałem się z tych wyborów.

***– Jak więc tłumaczy Pan słowa wiceprzewodniczącego Frontu Narodowego Wincuka Wiaczorka, który poczuł się zaskoczony Pańską decyzją i przewiduje, że może być Pan odwołany ze stanowiska przewodniczącego Frontu?***

– Te wybory postawiły Front przed moralnym wyborem. Chodzi o moralną, to znaczy skuteczną dla opozycji politykę. Niektórzy ludzie myśleli, że nie ma znaczenia, jak będą przeprowadzone wybory, bo nie Front, ale centralna komisja wyborcza jest odpowiedzialna za ich przeprowadzenie. Jednak nie wolno kupować skradzionego. Wiedziałem, że jest plan, w kierownictwie CKW, by sfałszować wybory i mnie ogłosić prezydentem. A potem niech się Paźniak martwi, co dalej zrobić. Łukaszenka mógłby zawsze wtedy powiedzieć, że zostałem wybrany w sfałszowanych wyborach. I miałby rację. Czy mógłbym przeciwstawić się wtedy Łukaszence? Co powiedziałaby społeczność miedzynarodowa? Na jakich zasadach mógłbym tworzyć rząd? To byla jeszcze gorsza sytuacja, niż gdyby zrealizowano pierwotny plan i ogłoszono prezydentem Czyhira.

***– Dlaczego ten pierwotny plan upadł?***

– Z powodu zawirowań w Rosji w ostatnich miesiącach. Niektórzy politycy i biznesowcy stracili tam swe stanowisko. Z Moskwy nie napłynęły pieniądze, które miały dać zwycięstwo Czyhirowi.

---

* Галоўнае было ў тым (яно выпала з тэксту інтэрв'ю), што калі б я не згадзіўся на ўдзел у афёрных выбарах, я б ня змог тады кантраляваць сытуацыю ў Фронце і працэсы гэтай афёры па разбурэньні арганізацыі, ня змог бы ў адпаведны момант спыніць і раскідаць увесь гэты праект зьнішчэньня Народнага Фронту. – *(З. П.)*

– ***Bez względu na przebieg wyborów, spowodowały one ożywienie na Białorusi. Panuje pełna zgoda co do tego, że marazm panujący w społeczeństwie jest największym sojusznikiem Łukaszenki.***

– Wybory pokazały, że jest coraz więcej ludzi, którzy nie popierają reżimu Łukaszenki, ale ciągle nie ma pospolitego ruszenia. Głównie dlatego, że próbowano sfałszować ostatnie wybory. Mam wrażenie, że Białorusini stoją już na progu nowych czasów. Po 20 lipca, kiedy upływa kadencja Łukaszenki, te nowe czasy będą zbliżać się szybciej.



***63. Пагоня.***

– ***Kiedy odbędą się na Białorusi wolne i demokratyczne wybory, w których będzie Pan walczył o urząd prezydenta?***

– Jest szansa, że będą. Ale tu nie chodzi o mnie. Gdyby ode mnie zależało szczęście i niepodległość Białorusi, gdyby zależało to od mojego życia – to bierzcie moje życie.

– ***Dziękuję za rozmowę.***

***Rozmawiał Radosław RYBIŃSKI***

*Надрукавана: („Nowe Panstwo”. – Nr 22-23 (183-184), 28 V – 4 VI 1999).*

# АБ СТВАРЭНЬНІ ГРАМАДЗЯНСКАГА ПАРЛЯМАНТУ БЕЛАРУСІ

***(Зварот)***

20 ліпеня 1999 года, згодна Канстытуцыі, заканчваецца прэзыдэнцкі тэрмін паўнамоцтваў А. Лукашэнкі. Гэта значыць, што ён перастае быць прэзыдэнтам, яго ўлада траціць легітымнасьць і юрыдычнае права. Калі пасьля 20-га ліпеня А. Лукашэнка будзе прадаўжаць лічыць сябе прэзыдэнтам і кіраваць, то яго паводзіны будуць сьведчыць пра ўзурпацыю дзяржаўнай улады і крымінальныя дзеяньні. Беларускі Вызвольны рух і ўсе здаровыя сілы Беларусі не прызнаюць нелегальнай улады рэжыму.

У якасьці мэханізму перайманьня ўлады ад правячага рэжыму прапануецца стварыць ***Грамадзянскі парлямант***. Дзеля дасягненьня гэтай мэты Народны Фронт яшчэ ў мінулым годзе распачаў акцыю ўступленьня ў грамадзянства БНР і ***акцыю „Адстаўка Лукашэнкі”***. Цяпер ***акцыя „Грамадзянства БНР”*** павінна працягвацца. Грамадзянскі парлямант Беларусі ***(ГПБ)*** ёсьць прадстаўнічы ворган самакіраваньня ўсіх грамадзянаў Беларусі. Дэпутаты ГПБ выбіраюцца (дэлегуюцца арганізацыямі ці шляхам збору квоты подпісаў) ад 260-ці выбарчых акругаў, зацьверджаных для Вярхоўнага Савета. Парадак і мэханізм фармаваньня Грамадзянскага парляманту вызначаецца адмысловым палажэньнем, якое прымае арганізацыйная рабочая група па стварэньні ГПБ. Грамадзянскі парлямант Беларусі дзейнічае з 21 ліпеня 1999 года да пачатку працы новага Вярхоўнага Савета, які выбіраецца па новым выбарчым дэмакратычным законе эўрапейскага ўзору.

Грамадзянскі парлямант (у адрозьненьне ад прэзыдэнта і яго структураў улады) будзе валодаць значнай доляй легітымнасьці, што дасьці магчымасьць паставіць наступныя задачы:

– прыняць палажэньне аб ***Часовым урадзе Беларусі***;

– прызначыць кіраўніка ўраду і зацьвердзіць Часовы ўрад Беларусі;

– прыняць грамадзянскія заканадаўчыя акты ў абарону дзяржаўнай незалежнасьці і суверэнітэту Беларусі;

– прыняць Закон аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету, заснаваны на дэмакратычных прынцыпах эўрапейскага ўзору;

– стварыць умовы і арганізаваць выбары ў Вярхоўны Савет.

Уся праца Грамадзянскага парляманту павінна быць накіравана на абарону незалежнасьці Беларусі, на ліквідацыю акупацыйнага рэжыму, на ўсталяваньне беларускай дэмакратычнай сістэмы ўлады.

Часовы ўрад Беларусі мусіць стаць цэнтрам альтэрнатыўнай улады. Ён можа выдаваць загады, прымаць рашэньні, праводзіць перамовы і арганізоўваць дзеяньні.

Практыка паказала няздольнасьць існуючай апазыцыйнай групы дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня да дзеяньняў і асэнсаванай палітычнай працы. Іхняя бяспрынцыпная падтрымка прамаскоўскага выбарчага праекту, а таксама парушэньняў заканадаўства і фальсыфікацыяў, якія былі зробленыя кіраўніцтвам Цэнтральнай Выбарчай Камісіі, ёсьць працяг іхных папярэдніх антыбеларускіх рашэньняў (ратыфікацыя вынікаў незаконнага рэфэрэндуму 1995 года – забарона дзяржаўнага сьцяга, гэрбу, мовы, – ратыфікацыя незаконнага расейска-беларускага „саюзу” ад 2 красавіка 1996 году і інш.), уключаючы здраду і правал імпічманту ў 1996-м годзе.

У Беларусі не засталося часу. Мы павінны хутка стварыць Грамадзянскі парлямант, які зможа пачаць працу ўжо пры выбраньні адной траціны дэпутатаў. Абставіны вымагаюць прапанаваць для яго свабодны кворум (без абмежаваньняў, як у верхняй палаце Брытанскага парляманту), калі рашэньні прымаюцца простай большасьцю галасоў ад любой колькасьці прысутных. Грамадзянскі парлямант павінен быць дзеяздольным, мабільным і беларускім.

*12 чэрвеня 1999 года*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# АБ ДЭСТАБІЛІЗУЮЧЫХ ПЛЯНАХ РАСЕЙСКІХ ПАЛІТЫКАЎ

**„Будет договор о союзе с Белоруссией – будем вести дело потихоньку дальше, дальше. Потом посмотрим, к чему придём.” ***

**(Б. Ельцын, 5 ліпеня 1999 г., Расейскае тэлебачаньне „ОРТ”, 20.00)**

***(Заява)***

20 ліпеня гэтага года заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў прэзыдэнта Беларусі А. Лукашэнкі. Пасьля гэтай даты Лукашэнка як прэзыдэнт траціць юрыдычныя прыкметы легітымнасьці і ператвараецца ў самазванца і ўзурпатара ўлады. Усе здаровыя сілы Беларусі, а таксама краіны міжнароднай супольнасьці, засьведчылі, што пасьля 20 ліпеня ня будуць прызнаваць А. Лукашэнку за прэзыдэнта.

У гэтай сытуацыі сьпешнае плянаваньне Расейскай Думай і атачэньнем прэзыдэнта Ельцына падпісаньня да 20 ліпеня незаконнай дамовы з Лукашэнкам аб стварэньні канфэдэрацыі Расеі зь Беларусьсю ёсьць грубая дэманстрацыя варожых адносінаў да беларускага народу, да дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі і да беларускага дэмакратычнага вызвольнага руху.

Расейскія палітычныя дзеячы і прадстаўнікі ўлады навязваюць нам палітыку пактаў, анэксіяў і аншлюсаў, толькі называюць гэта іншымі словамі. Яны імкнуцца паступова ліквідаваць наш суверэнітэт, падтрымліваюць не дэмакратыю і правы чалавека, не здаровыя сілы Беларусі, а дыктатуру, беззаконьне і нелегальны рэжым Лукашэнкі. Расейскія палітыкі (бяз розьніцы палітычнай арыентацыі) стаяць на пазыцыях вялікадзяржаўнасьці і думаюць, што ім удасца захапіць Беларусь. Але такія ўяўленьні не адпавядаюць сучаснаму ўзроўню міжнародных дачыненьняў у Эўропе.

Можна выказаць шкадаваньне з прычыны такіх паводзінаў нашых усходніх суседзяў, іхняга нежаданьня глядзець наперад і мірна суіснаваць з будучай дэмакратычнай Беларусьсю. Шкада, што расейскія палітыкі ўсё больш дэманстратыўна імкнуцца дэстабілізаваць сытуацыю ў Эўропе і на заходніх межах Расеі.

Беларусь і яе сталіца Менск – гэта ня месца для скліканьня „парляманцкіх сходаў” і іншых штучных „інтэграцыйных” структураў. Мы заклікаем маскоўскіх палітыкаў спыніць свае пляны. Беларусь застанецца ў Эўропе, у яе ёсьць сілы абараніць сваю незалежнасьць і яна яе абароніць.

*25 чэрвеня 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 4(21); Народная Воля, – 1999, 2 ліпеня)*

* „Будзе дамова пра саюз з Беларусяй – будзем весьці справу паціху далей, далей. Потым паглядзім, да чаго прыйдзем” – *(з рус.)*

# ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І СВАБОДУ

***(Вытрымкі з дакладу на VI Зьезьдзе БНФ)***

...Мы любім Беларусь. Мы любім нашу беларускую мову, нашу зямлю і народ, нашу краіну. Мы хочам ім дабра. Паўсюдна – гэта ёсьць неад’емнае права людзей. Але ў нас, на Беларусі, – гэта палітыка. Мы жывём сярод рэальнасьці, дзе думаюць ненармальна, дзе чалавек, які размаўляе па-расейску – рускі, чалавек, які размаўляе па-нямецку – немец, чалавек, які размаўляе па-беларуску – нацыяналіст.

Нацыяналізм – гэта палітыка. Быць сьведамым беларусам і ня думаць пра палітыку – немагчыма. Той, хто ня думаў і не разумеў – той на краі магільнай ямы ў Курапатах задаваў пытаньне – „за што?”.

Выжыць можна было толькі тады, калі правільна адказаць на гэтае пытаньне. Адказаў – *Беларускі Народны Фронт*. Таму мы жывём і змагаемся за Беларусь. Таму новае маладое пакаленьне беларусаў сказала: „Беларусь – гэта сьвятое!”

Быў сьведамы шлях да беларускай ідэі і сьведамая праца. Вы памятаеце гэты шлях ад *БНФ* „за перабудову” да *Вызвольнага Руху*. Гэта рух ня толькі арганізаванай волі, але й дарога праз душы мільёнаў беларускіх людзей. Дарога зь нявольніцтва – да свабоды.


(Фота з друку)

***64. Ідуць на мітынг БНФ. Менск, 1997 г.***

Я нагадаў гэта, каб яшчэ і яшчэ раз засяродзіць вашу ўвагу на жыватворнасьці нацыянальнай ідэі, на неабходнасьці правільнай тэорыі палітычнага змаганьня і народнага разьвіцьця. Для рэалізацыі сваіх інтарэсаў людзі стварылі нацыю і нацыянальную дзяржаву. Нічога лепшага за нацыю і дзяржаву ў людзкім грамадзтве няма. І калі гэтыя каштоўнасьці пад пагрозай – усе іншыя пытаньні адыходзяць на другі плян. Тады думаюць, абараняюць, змагаюцца за галоўнае. І гэтае галоўнае ніколі не прыносіцца ў ахвяру, не саступаецца, не дыскутуецца. Яно было, ёсьць, будзе і павінна быць, пакуль будзем мы, што вырасьлі з гэтай зямлі.

* * *

Рэжым, які існуе на Беларусі, ёсьць унутраная прарасейская акупацыя; улада – аўтарытарная дыктатура; палітыка – антыбеларуская.

Гэтыя вызначэньні прыжыліся ў грамадзкай сьвядомасьці, далі магчымасьць правільна вызначаць паводзіны і адэкватна адклікацца на падзеі.

Два гады таму, калі на *V-м зьезьдзе БНФ* мы прынялі тэзіс пра шырокі *Вызвольны Рух*, тады мы акрэсьлілі галоўны крытэрый беларускай вызвольнай апазыцыі. Гэты крытэрый вызначаўся не па дачыненьнях да рэжыму Лукашэнкі (хаця гэта істотна), а па адносінах да Расеі, да яе антыбеларускай імпэрскай палітыкі, да інкарпарацыі і „інтэграцыі". Бо „Лукашэнка" як палітычная зьява і як палітычная асоба „вытворны" ад расейскай палітыкі.

Пры няправільным разуменьні ўзаемасувязяў пасталінейная барацьба з дыктатарам магла б прывесьці да выніку зусім нечаканага: да замены яго іншым прарасейскім стаўленнікам з іміджам дэмакрата. І тое, чаго (з прычыны ўнутраных супярэчнасьцяў) Расеі не ўдалося ажыцьцявіць з амбіцыйным і неўраўнаважаным Лукашэнкам, тое магло б адбыцца ў іншым варыянце, зь мяккім і ляяльным да Масквы намэнклятурным „дэмакратам".

Расейскія спэцслужбы ў іншых краінах (і ўвогуле расейская палітыка) ніколі не абмяжоўваліся захопам кіраваньня і ўплывам толькі на ўладу. Яны абавязкова імкнуліся падпарадкаваць апазыцыю, альбо нават стварыць сваю альтэрнатыву свайму марыянэткаваму рэжыму. Тады можна было праводзіць „гнуткую" палітыку, нават зьмяняць рэжымы і асобы, пакідаючы кантроль над уладай і краінай...

Я адсочваў тэндэнцыі, мэтады ўплыву на беларускую апазыцыю, прыёмы змаганьня з *Фронтам* і за апошнія два гады пастаянна паведамляў на *Сойм БНФ* пра вынікі свайго аналізу. Надрукаваў на гэтую тэму некалькі артыкулаў, напрыклад, *„Вызвольны Рух"* (у 1997 г.) і *„Вяртаньне БНР"* (у пачатку 1998 г.), дзе пісаў аб будучым зьяўленьні ў апазыцыйнай палітыцы былых паплечнікаў Лукашэнкі, аб будучым вяртаньні М. Чыгіра, аб задуме і ролі „Хартыі-97" і іншых ініцыятывах.

* * *

Незадавальненьне Лукашэнкам у асяроддзі яго паплечнікаў выявілася ўжо ў канцы 1996 г., калі стала зразумела, што рыхтуецца аўтарытарная дыктатура. Шэраг нездаволеных, якія наладзілі кантакты з Масквой, павінны былі выйсьці з Ураду перад лістападаўскім рэфэрэндумам. Аднак выйшлі толькі двое: А. Сасноў і М. Чыгір. Астатнія не рашыліся. В. Лявонаў, які мог бы стаць лідарам урадавай групы „нязгодных", прамарудзіў настолькі, што трапіў за краты, і цяпер з горыччу кажа пра сваю „грубую памылку".

Тым часам у Расеі няма палітычных групаў і асобаў, якія б не падтрымлівалі і не паўтаралі б імпэрскую рыторыку і імкненьне „інтэграваць" Беларусь у Расею. Але адносіны да тактыкі і механізму інкарпарацыі Беларусі ў іх розныя. Інтэграцыйная прапанова Лукашэнкі стала адной з прыладаў унутрырасейскай барацьбы за ўладу.

Беларускія намэнклятурныя апазыцыянеры і былыя паплечнікі Лукашэнкі навязалі якраз кантакты з рэфарматарскай прагматычна-алігархічнай часткай маскоўскіх палітычных колаў.

Гэтыя людзі, таксама як і група Лукашэнкі, глядзяць на Беларусь як на тэрытарыяльна-вытворчае прадпрыемства – прыладу для атрыманьня прыбыткаў. Лукашэнка прыстасаваў Беларусь для нажывы, прыватызаваўшы ўладу; стварыў асобны прэзыдэнцкі бюджэт, узяў пад мафіёзна-дзяржаўны кантроль мытню, мяжу, фінансы, банкі, нерухомасьць, прадпрымальніцкую дзейнасьць, прыродныя рэсурсы і нават кірмашы і гуманітарную дапамогу. Апора на ахлакратыю, папулістычная дэмагогія і манапалізацыя СМІ забясьпечыла пэўную трываласьць рэжыму, нягледзячы на рэзкае пагаршэньне духоўных і матэрыяльных умоваў жыцьця.

Лукашэнка дзеліцца з рускімі аднадзельцамі мытняй, мяжой, некаторымі прадпрыемствамі і галінамі вытворчасьці, але ў цэлым – захоўвае кантроль над беларускай дзяржаўнай маёмасьцю, спыніўшы прыватызацыю. Рускія алігархі і падалігархі ня маюць шырокага доступу ў зону Лукашэнкі да дзяржаўнай маёмасьці Беларусі. Паміж імі йдзе барацьба за „зону", і кожная руская палітыка-эканамічная група мае ў гэтым змаганьні свае інтарэсы.

У 1994-м годзе рускія спэцслужбы, камуністы, ваенна-прамысловы комплекс, мафія паставілі на Лукашэнку (і выйгралі). Рускія „маладыя рэфарматары", прагматыкі (якія здалі Расею алігархам) і „падалігархі" ставяць на беларускіх намэнклятурных апазыцыянераў. У выпадку выйгрышу расейскіх прагматыкаў на беларускім полі, барацьба за „інтэграцыю" завершыцца. На Беларусі пачнецца „дэмакратыя" і „прыватызацыя" на расейскі ўзор. Рускія алігархі і палітычныя кашалькі атрымаюць свабодны эканамічны і фінансавы доступ „у зону", доступ да беларускай маёмасьці, які закончыцца скупкай Беларусі.

На Беларусі адбываецца ня проста палітычная барацьба за ўладу, але барацьба ***за ўладу над Беларусьсю*** паміж Расеяй і незалежніцкімі сіламі нашай краіны. Адсюль і палітычная раскладка сілаў, якая вызначаецца (тут я ізноў мушу паўтарыць) не адносінамі да Лукашэнкі, а да Расеі, да расейскай імпэрскай палітыкі.

У гэтай сытуацыі ***Беларускі Вызвольны Рух змагаецца з дыктатурай і выступае супраць усялякіх саюзаў і супольных справаў з Расеяй...***

* * *

Цяпер, калі ў Беларусі поўнасьцю перастала існаваць легітымная ўлада, першачарговае значэньне набываюць наступныя чыньнікі: наяўнасьць альтэрнатыўных рэжыму структураў улады, наяўнасьць арганізаванай грамадзкай сілы і наяўнасьць канцэптуальнай палітыкі (пляну) ліквідацыі дыктатуры. Калі гэтага няма, то няма й выбару. Застаецца толькі рэжым і яго ўлада.

У такіх варунках пратэстацыйныя акцыі бяз пляну, без апоры на структуры, на аўтарытэты, бяз стаўкі на вынік, на канкрэтную канечную мэту і прадуманую палітыку ёсьць малаэфэктыўныя і стамляюць актыўных людзей. Тым больш, што вялікая частка беларусаў застаецца назіральнікамі.

Тое, што да сканчэньня прэзыдэнцкага тэрміну Лукашэнкі вызвольныя сілы прыйшлі непадрыхтаванымі, я канстатую цяпер зь вялікай горычу, бо, пачынаючы з сярэдзіны 1997 года, я пастаянна (амаль на кожным Сойме) настойваў на правядзеньні канцэптуальнай палітыкі і падрыхтоўцы да 20 ліпеня 1999 г. Былі прапанаваныя і запачаткаваныя канцэптуальныя акцыі *„Грамадзянства БНР"* і *„Адстаўка"* (маецца на ўвазе збор подпісаў за адстаўку Лукашэнкі), а таксама стварэньне страйкамаў і падрыхтоўка ўсеагульных страйкаў. Усё гэта, (асабліва *„Грамадзянства БНР"*) павінна было паслужыць грунтам для стварэньня *Грамадзянскага Парляманту Беларусі*, *Часовага Ураду* і іншых структураў.

Мінула два гады – праца ня зроблена. На сёньняшні дзень мы ня маем нічога, што павінны былі мець. Ня маем нават такога магчымага для нас аргументу, як подпісаў за адстаўку дыктатара Лукашэнкі, і на перамовы зь ім (калі яны адбудуцца) вымушаны будзем ісьці з пустымі рукамі. Тое, пра што перасьцерагалася, тое і атрымалася. Вось цана канфармізму, неканструктыўных спрэчак і тармажэньня працы.

Якой мусіць быць наша палітыка на бліжэйшыя два гады і ў бліжэйшы час? Ва ўмовах пастаяннай пагрозы інкарпарацыі і страты дзяржаўнай незалежнасьці мы павінны прыкласьці

намаганьні, каб апазыцыйныя арганізацыі і асобы (у тым ліку намэнклятурныя) сталі на грунт беларускай дзяржаўнасьці і нацыянальнай ідэі і вызначылі сваю пазыцыю адносна імпэрскай палітыкі Расеі і дачыненьняў з Масквой. Гэта аснова салідарнасьці і сумесных дзеяньняў.

Мы мусім падтрымліваць усе ініцыятывы, думкі і справы, накіраваныя супраць дыктатарскага рэжыму і інтэграцыйнай палітыкі і дбаць пра шырыню *Вызвольнага Руху*.

З сытуацыі вынікае, што *ў выпадку прапановы*, нягледзячы на складанае становішча, *Народны Фронт* будзе змушаны ўдзельнічаць у перамовах з рэжымам Лукашэнкі і пачаць працэс перамоваў. Але адначасна мы павінны будзем хутка мабілізаваць нашыя магчымасьці на інтэнсіўную працу і на накапленьне сілы. Перш за ўсё – на стварэньне *Грамадзянскага Парляманту Беларусі*, на зьбіраньне подпісаў за адхіленьне Лукашэнкі ад улады і за неадкладнае правядзеньне парляманцкіх выбараў па новым мажарытарна-прапарцыйным выбарчым законе. (Праект Закона даўно падрыхтаваны *Фронтам*.) Калі мы гэтага і цяпер ня зробім, то бяз сілы і заплечча перамаўляць з Лукашэнкам ня будзе пра што.

Трэба ўлічыць, што дыктатар неахвотна пойдзе на перамовы з сваімі былымі саўдзельнікамі, якіх некалі выгнаў. Фронт мусіць быць галоўнай сілай на перамовах.

Трэба ўлічыць калізіі: па якому закону праводзіць парляманцкія выбары, які орган павінен прыняць новы Закон аб выбарах і г.д.

У гэтай сытуацыі (паўтараю) вельмі неабходна будзе існаваньне *Грамадзянскага Парляманту*. *Грамадзянскі Праляман т Беларусі* (які выбіраецца вылучэньнем і шляхам збору квоты подпісаў) павінен мець прыкметы легітымнасьці. Яго задачы: прыняць новы Закон аб выбарах у парлямант, стварыць *Грамадзянскі Часовы Ўрад* і правесьці выбары. Нам неабходна такая прадстаўнічая структура, каб грамадзтва ня трапіла ў патавую сітуацыю, у безгалоўе, ня стала закладнікам хранічнай нямогласьці групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Існаваньне *Грамадзянскага Парляманту* можа дапамагчы стварыць грамадзкае рэчышча дзейнасьці на шляху пераменаў, адкрывае магчымасьці грамадзкага манэўру, можа паўплываць на Вярхоўны Савет, замяніць ці падтрымаць яго, у залежнасьці ад абставінаў і пазыцыяў...

* * *

Неабходна таксама прыняць зварот да краінаў НАТО, і найперш – да Злучаных Штатаў Амэрыкі і Вялікабрытаніі, якія сем гадоў таму абавязаліся выступіць гарантам нашай незалежнасьці ў замен за адмову ад ядзернай зброі. Расея сваёй „інтэграцыйнай" палітыкай (а на самай справе – вялікаімпэрскай палітыкай) пагражае нашай незалежнасьці і адкрыта пра гэта гаворыць. Самы час і нам адкрыта нагадаць заходнім краінам пра нашае спадзяваньне на абяцаную гарантыю. Захад, які фактычна ўтрымлівае Расею, мае шмат рычагоў, каб уплываць на яе палітыку ў дачыненьні да Беларусі...

* * *

Галоўны ляйтматыў нашай палітыкі за мяжой у 1996-97 гг. – дамагчыся непрызнаньня Захадам рэжыму Лукашэнкі.

Галоўны матыў у 1998-99 гг. – дамагчыся гарантыяў Захаду для суверэнітэту і незалежнасьці Беларусі.

Мы мусім памятаць, што на верасень гэтага года (а можа – й раней) расейцы і Лукашэнка плянуюць заключыць чарговы антызаконны пакт аб інкарпарацыі Беларусі ў Расею. Мы павінны не дапусьціць гэтай змовы і прыкласьці ўсе намаганьні, каб прадухіліць наступ расейскага імпэрыялізму.

*31 ліпеня 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці", – 1999, №5(22); Наша слова, – 1999, 11 жніўня.*

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ – БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫКА

**Трэба выразна разумець, што калі ў Беларусі ня будзе моцнай палітычнай арганізацыі, заснаванай на нацыянальнай ідэі, – палітычнай будучыні ў нацыі няма.**

**Такой арганізацыяй быў і ёсьць яшчэ на сёньня *Беларускі Народны Фронт.***

## БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА

Сілай, якая супрацьстаяла беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху і адраджэньню Беларусі напрацягу 200 гадоў расейскай акупацыі, была расейская імпэрская адміністрацыя і прарасейскае чынавенства (куды ўваходзіла яшчэ руская праваслаўная царква і рускі друк).

За саветамі – гэта савецкая прамаскоўская адміністрацыя і партыйная намэнклятура. Цяпер – былая савецкая адміністрацыя і былая прамаскоўская намэнклятура.

***Уладзімер Старчанка*** прапанаваў (у артыкуле *„Што адбылося на Беларусі"*) называць гэтую антыбеларускую сілу адзіным тэрмінам – **„каляніяльная адміністрацыя"**, бо гэтая зьява тыпалягічная для ўсіх імпэрыяў у пэрыяд развалу, калі яны імкнуцца захаваць свой уплыў на вольных тэрыторыях.

У Беларусі з рэжымам *„каляніяльнай адміністрацыі"* змагаюцца беларускія нацыянальна сьведамыя людзі, якія хочуць незалежнай, вольнай беларускай нацыянальнай дзяржавы, дзе будзе беларуская ўлада, беларуская адміністрацыя і беларуская культура. Палітычна актыўная частка гэтых людзей аб'яднаная ў *Беларускі Народны Фронт* і ў іншыя арганізацыі, якія стаяць на грунце беларускай нацыянальнай ідэі.

З цяперашнім дыктатарскім рэжымам каляніяльнай адміністрацыі ў Беларусі змагаецца таксама намэнклятурная апазыцыя (ці *„каляніяльная апазыцыя"*, па клясыфікацыі Ул. Старчанкі). Гэта выхадцы, у асноўным, зь дзяржаўнай адміністрацыі, якія апынуліся за бартом улады. Яны хочуць вярнуцца ва ўладу, прыстасаваўшы яе пад сябе, і пры гэтым імкнуцца абаперціся на Маскву і на *Беларускі Вызвольны Рух*.

Паміж нацыянальна-вызвольнай і каляніяльнай (намэнклятурнай) апазыцыямі ідзе змаганьне за ўплывы. Нацыянальна-вызвольная апазыцыя імкнецца прышчапіць намэнклятурным апазыцыянерам нацыянальна-вызвольныя каштоўнасьці, уплываць на фармаваньне іхняе нацыянальнае сьведамасьці і схіліць на грунт беларускай нацыянальнай ідэі.

Намэнклятурная апазыцыя імкнецца скарыстаць нацыянальна-вызвольны рух у сваіх інтарэсах, падкрэсьлівае, што галоўнае ёсьць адзінства „дэмакратычных сілаў" супраць дыктатуры і ліквідацыя рэжыму, пазьбягае гаварыць пра прынцыпы, пра зьмест „дэмакратычных сілаў" і пра тое, што будзе потым.

Змаганьне за ўплывы спрыяла збліжэньню да нацыянальных каштоўнасьцяў і да беларускай нацыянальнай ідэі некаторых намэнклятурных апазыцыянераў, і наадварот – да пераходу на канфармісцкія пазыцыі часткі кіраўніцтва *Беларускага Народнага Фронту. Было падважана цьвёрдае правіла ў палітыцы*: ***супрацоўнічаць па інтарэсах і разьмяжоўвацца па прынцыпах***. *Канфармізм прывёў да крызісу ў БНФ.*

## ДАЧЫНЕНЬНІ РАСЕІ

Усе расейскія палітычныя сілы і палітыкі адзіныя ў імкненьні далучыць („інтэграваць") Беларусь у Расею. „Палітычная Расея" стаіць на імпэрскіх пазыцыях. У 1994 годзе рускія спэцслужбы, пракамуністычныя і праімпэрскія колы зрабілі стаўку на А. Лукашэнку ў Беларусі, дапамаглі яму ўзяць і ўмацаваць уладу, а ў 1996 годзе – зрабіць антыканстытуцыйны дзяржаўны пераварот. Пачалася палітыка інкарпарацыі Беларусі ў Расею.

У 1996-97 гг. інкарпарацыю ўдалося стрымаць, дзякуючы адчайнаму супраціўленьню беларускай нацыянальна-вызвольнай апазыцыі і супярэчнасьцям унутрырасейскай палітычнай барацьбы.

Пасьля 1997 года ў расейскіх палітычных структурах, зьвязаных зь бізнэсам і эканамічнымі рэформамі, узьнікла думка замяніць Лукашэнку на іншага, больш прадказальнага і лібэральнага стаўленьніка з іміджам дэмакрата. Мэтад – выбары. Таму неабходна было выключыць фактары рызыкі: разбурыць беларускія нацыянальна-вызвольныя арганізацыі (найперш – *БНФ*), выцесьніць, скампрамэтаваць ці „нэўтралізаваць" лідэраў і магчымых супернікаў на выбарах.

Першы сур'ёзны праект у гэтым накірунку – апазыцыйныя (альтэрнатыўныя) выбары прэзыдэнта Беларусі. Галоўная задача – разбурыць нацыянальна-вызвольны рух, зганьбаваць кіраўнікоў, увесьці ў інфармацыйную сьвядомасьць імёны новых „лідэраў" і з'арыентаваць яе (сьвядомасьць) на намэнклятурную апазыцыю.

Механізмам дзеяньняў стаў галоўны лёзунг каляніяльнай апазыцыі – „адзінства ўсіх дэмакратычных сілаў" (без вызначэньня нацыянальных прынцыпаў і нацыянальнай пэрспэктывы).

Праект праваліўся ў выніку жорсткай барацьбы і шэрагу выпадковасьцяў, але разбуральныя вынікі яго – велізарныя. Яны выклікалі раскол у *Беларускім Народным Фронце*.

## ДАЧЫНЕНЬНІ ЗАХАДУ

Захаду было б дастаткова бачыць Беларусь як больш-менш стабільную краіну з прадказальнай уладай і палітыкай, дзе ёсьць элемэнтарная павага да законнасьці і асноўных прынцыпаў дэмакратыі. Астатняе – пытаньне разьвіцьця і ўзаемных стасункаў. „Астатняе" – цяпер Захад мала цікавіць.

Захад абыякавы да нашых беларускіх нацыянальных праблемаў. (Невялікія разыходжаньні паміж больш радыкальнай („прабеларускай") пазыцыяй ЗША і памяркоўнай („канфармісцкай") пазыцыяй Эўропы – ролі не адыгрываюць.) Акрамя таго, Захад ня хоча турбаваць Расею. Таму заходняя салідарнасьць з'арыентаваная на кантакты і на падтрымку ня больш моцнага, пэрспэктыўнага і пагрунтаванага ў масах беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, а на слабую, але канфармісцкую (не антырасейскую) каляніяльную апазыцыю.

Уплыў на разьвіцьцё дэмакратыі ў Беларусі Захад ажыцьцяўляе найперш праз розныя дапамогавыя фонды і арганізацыі, якія выдаткоўваюць грашовыя гранты недзяржаўным арганізацыям пад пэўныя праграмы. Утварылася цэлая сетка недзяржаўных дэмакратычных арганізацыяў (НДА), створаных пад заходнюю дапамогу і пад патрабаваньні грантадаўцаў.

Дзейнасьць па ўтварэньні і падтрымцы НДА мае і станоўчыя, і адмоўныя вынікі: пашырае дэмакратычныя ідэі, асьвету, інфармацыю, друк, дапамагае вучыцца і працаваць і адначасна – плодзіць ілюзіі, імітатараў, развальвае беларускія палітычныя арганізацыі, разбэшчвае людзей.

## НЕДЗЯРЖАЎНЫ („НЕЗАЛЕЖНЫ") ДРУК

Амаль увесь недзяржаўны пэрыядычны грамадзка-палітычны друк у Беларусі ў той ці іншай ступені настроены апазыцыйна да рэжыму Лукашэнкі. Амаль увесь ён адлюстроўвае погляды каляніяльнай апазыцыі і ў асобных выданьнях пасьлядоўна варожыя беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху (найперш – *БНФ*). Амаль увесь ён, поўнасьцю ці часткова, друкуецца на рускай мове.

Толькі некалькі нешматтыражных газэтаў, што выдаюцца ня ў Менску, адлюстроўваюць пазыцыі нацыянальна-вызвольнага руху, прыхільныя да *БНФ* і друкуюцца па-беларуску.

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ

*Беларускі Народны Фронт* сваім зьместам, ідэалёгіяй і структурай адлюстроўвае рэальнае грамадзкае становішча беларускай нацыі. Беларускае грамадзтва цяпер, у канцы ХХ-га стагоддзя, павінна вырашаць ня толькі праблемы постсавецкія, посткамуністычныя (пытаньні ўлады), але і посткаляніяльныя, якія не былі вырашаныя ў 1918 годзе (*праблема беларускай мовы, беларускай нацыянальнай сьведамасьці, беларускіх школаў, гісторыі і г.д.*). Таму *Фронт*, па сутнасьці, ёсьць і грамадзкая, і палітычная арганізацыя адначасова, займаецца і культурніцтвам, і палітыкай, ёсьць адначасна і партыяй, і рухам, мае два Статуты і здвоеныя сілы. У гэтым моц *БНФ*.

З існаваньнем і дзейнасьцю *Народнага Фронта* зьвязана адраджэньне незалежнасьці і нацыянальная будучыня Беларусі. Пачынаючы з 1988 года, антыбеларускія сілы ўсімі сродкамі змагаюцца супраць *Фронта*. Стратэгічна вызначаны два накірункі палітычнага зьнішчэньня *БНФ*:

– стварэньне адмоўнага адваротнага іміджу арганізацыі і кіраўніку Фронта;
– раскол арганізацыі.

Але раскол арганізацыі можна было ажыцьцявіць толькі знутры. Усе спробы разбурыць *Фронт* нічога не далі, пакуль (пасьля маёй эміграцыі) не пачалося бяспрынцыпнае ўзаемадзеяньне з каляніяльнай апазыцыяй. Травеньская выбарчая авантура намэнклятурнай апазыцыі (альтэрнатыўныя выбары прэзыдэнта і

фальсыфікацыя галасаваньня) і рашучы выхад зь яе сяброў *БНФ* сталі пачаткам рэальнага падзелу *Фронту*, паказалі, наколькі глыбока адбылося пранікненьне ў *Фронт* іншых прынцыпаў і іншага сьветапогляду, а зь імі – іншай этыкі і іншых паводзінаў.

*VI Зьезд БНФ (31 ліпеня – 1 жніўня гэтага году)* засьведчыў падзел *Фронту* на дзьве палавіны і дзьве пазыцыі, якія ўмоўна можна назваць так: *грамадзкая прагматычна-пазытывісцкая* (Л. Баршчэўскі, В. Вячорка, В. Івашкевіч, А. Бяляцкі, Ю. Хадыка, М. Баўсюк і інш.) і *палітычная нацыянальна-кансэрватыўная* (Ю. Беленькі, З. Пазьняк, У. Старчанка, А. Крыварот, М. Анцыповіч, С. Папкоў, А. Чахольскі, У. Раманцоў, В. Каролік, В. Буйвал і інш.). Агульнымі зьяўляюцца ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня.




***65. Пікет БНФ супраць рсейскай пагрозы. Менск, 1997 г.***

Словы аб адзінстве *Фронту* ў гэтай сытуацыі выяўляюць трывогу перад яго разбурэньнем і гавораць пра разуменьне неабходнасьці адзінства, але ранейшай еднасьці ўжо не прадугледжваюць. Яе няма. Існуе іншая рэальнасьць, іншыя дачыненьні. Праблематычна, ці можа ўзьнікнуць у гэтай сытуацыі якое небудзь іншае адзінства.

## НОВАЕ АДЗІНСТВА

Іншага адзінства пажадана дасягнуць як найхутчэй. Пакіну ў баку, хто рыхтаваў раскол, дзеля чаго, як, зь якімі мэтамі і ўвогуле – маральна-палітычныя ацэнкі таго, што сталася. Выходжу з рэальнасьці.

*Беларускі Народны Фронт* ёсьць ужо падзелены. Адзінай арганізацыяй (з адзінай структурай і адзіным кіраўніцтвам) ён ужо не застанецца, а калі застанецца, то нармальна дзейнічаць ня зможа і расколецца з больш разбуральнымі вынікамі і большай стратай часу.

У гэтай сытуацыі старшыня *Фронту (Зянон Пазьняк)*, згодна *Статуту БНФ*, быў выбраны на *VI-м Зьезьдзе* з перавагай толькі ў чатыры галасы (прытым канфліктуючы бок заявіў, што не прызнае яго выбраньня). Вось адлюстраваньне становішча.

Істотныя ня толькі розныя пазыцыі і аб'ектыўныя чыньнікі, але і ўзаемадачыненьні. Бальшыня франтаўскіх крытыкаў ня ўмелі паводзіць сябе ў палітычным канфлікце: былі публічна сказаныя словы нянавісьці і зьнявагі, скарыстаныя мэтады з арсеналу „разборак" намэнклятуры і прыёмаў бясслаўнай травеньскай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі.

Наступствы такіх дачыненьняў адразу не зьнікаюць нават на адлегласьці, тым больш, што яны зыходзяць з розных групаў і з розных поглядаў на дзейнасьць і задачы *БНФ*. Калі ў 1995 годзе пастаноўка пытаньня аб расколе *Фронта* на партыю і рух выглядала штучна, зыходзіла толькі з амбіцыяў вельмі вузкага кола асобаў, то цяпер, праз чатыры гады развальнай працы (ня толькі гэтых асобаў, але і агентуры), становішча кардынальна згоршала.

Вопыт і жыцьцёвыя прыклады паказваюць, што, ў сытуацыі пазыцыйнага і арганізаванага падзелу, былое адзінства арганізацыі ўтрымаць ужо немагчыма. Штучнае стрымліваньне прывядзе да горшай катастрофы. Трэба зыходзіць з таго адзінства, якое засталося – з адзінства беларускай нацыянальнай ідэі, адраджэнскіх прынцыпаў і мэты. Трэба замацаваць гэтае адзінства ў новай сістэмна-структурнай арганізацыі *БНФ*.

Неабходна прызнаць *пазытывісцка-прагматычную* плятформу, з'арыентаваную на НДА, (на зьнешнія рэсурсы) і на грамадзкую дзейнасьць, і даць ёй магчымасьць арганізацыйна аформіцца. За гэтай пазыцыяй стаіць меншая колькасьць франтаўцаў. (Падзел на Зьездзе – амаль напалову.) Трэба прызнаць яе як частку *Народнага Фронту*, прызнаць за ёй *Статут БНФ* і права дзейнічаць згодна *Статуту* (выбары кіраўніцтва, стварэньне структураў і г.д.).

*Нацыянальна-кансэрватыўная* пазыцыя ў *БНФ* (з'арыентаваная на традыцыйныя каштоўнасьці і на канцэптуальную палітычную дзейнасьць) арганізацыйна афармляецца як партыйная частка *Народнага Фронту*. За ёй прызнаецца *Статут Партыі БНФ* і права дзейнічаць згодна *Статуту* (выбары кіраўніцтва, стварэньне структураў і г.д.).

Абедзьве часткі *БНФ* існуюць як самастойныя арганізацыі і ўтвараюць кааліцыю *Беларускага Народнага Фронту*. Кааліцыя *БНФ* ня ёсьць асобнай арганізацыяй, ня мае агульнага Статуту і супрацоўнічае на падставе дамоўленасьці. Каардынацыя працы адбываецца праз *Кансультатыўную Нараду*, куды ўваходзяць старшыні і прадстаўнікі абодвух арганізацыяў. Пастаянны старшыня Кансультатыўнай Нарады не выбіраецца. Нарада можа зьбірацца ў любы час па меры неабходнасьці. Для рэгулярнага абмену інфармацыяй Нарада зьбіраецца не радзей, чым адзін раз у месяц.

Прапанаваная новая структурная сістэма *БНФ* як *Кааліцыя адраджэнскіх вызвольных арганізацыяў* адлюстроўвае сытуацыю, дае магчымасьць хутка, без юрыдычных і арганізацыйных цяжкасьцяў, апанаваць становішча, спыніць паглыбленьне расколу і наладзіць скаардынаваную працу.

Пры такім падыходзе, калі асобныя арганізацыі дзейнічаюць як кааліцыя, *тады застаюцца агульная, ужо зацьверджаная сымболіка, агульныя офісы і штаб-кватэры, і нават некаторыя агульныя камісіі* (напрыклад, па экалёгіі, па культуры і інш.).

Ня ўзьнікне тэхнічных праблемаў з удзелам у выбарах, бо кааліцыя *БНФ* ужо будзе існаваць (гэта гатовы выбарчы блёк). Да таго ж, да яе могуць далучыцца іншыя самастойныя нацыянальна-вызвольныя і культурніцкія арганізацыі. Зьяўляецца магчымасьць стварыць скаардынаваны адраджэнскі нацыянальна-вызвольны блёк, разьвітацца з канфармізмам і спыніць каляніяльную

дэмагогію пра „объединение всех демократических сил." Кааліцыя нацыянальна-вызвольных арганізацыяў можа каардынавацца тады з усёй намэнклятурна-дэмакратычнай апазыцыяй па схеме ***„1–1"***, а не „1–35", як увесь час хацелася каляніяльным камбінатарам, спэцслужбам і творцам фантомаў.

Адным словам, у нас ёсьць магчымасьць накіраваць сілу ўдара па *Фронту* супраць тых, хто наносіць удар, ператварыць раскол з фактару распаду і самазьнішчэньня ў чыньнік згуртаваньня на іншым сістэмным узроўні.

Неабходную падрыхтоўчую працу трэба зрабіць да 1-га верасьня, і на другім паседжаньні *Зьезду* адразу вырашыць усе фармальныя пытаньні па абдуманым разьмежаваньні і згуртаваньні (стварэньні *Кааліцыі БНФ*).

Калі прыйсьці на *Зьезд*, не дамовіўшыся аб стваральным выніку, то вынік можа быць разбуральным, які выключыць *Фронт* з нармальнай грамадзка-палітычнай працы на доўгі час і прывядзе да вялікіх стратаў.*

## МАЛАДЫ ФРОНТ

Неабходна запабегчы арганізацыйнаму расколу ў *Маладым Фронце*. Увогуле – трэба вельмі строга і асьцярожна падыходзіць да ўдзелу маладых у сур'ёзнай палітыцы. Палітычная дзейнасьць мае тую асаблівасьць, што зьяўляецца заняткам сталых людзей. Гэта вынікае з сутнасьці палітыкі (дасягненьне і ажыцьцяўленьне ўлады), якая патрабуе вопыту, сацыяльнага становішча і гісторыі асобы. Тым часам моладзь нацэленая на дзеяньне. Яна можа быць актыўнай сілай ў дзеяньні, калі сфармуляваныя задачы. Грамадзтва павінна аберагаць моладзь.

Галоўнае, каб малады хлапец, маладая дзяўчына былі адукаванымі асобамі, сьведамымі беларускай культуры і беларускай нацыі. Беларускія маладыя людзі мусяць у гэтым сабе дапамагаць і падтрымліваць адзін аднаго. З цягам часу (з узростам) будуць зьмяняцца ацэнкі і дачыненьні ў палітыцы і ў жыцьці, але галоўнае павінна злучаць усіх: ***Бог у душы і Беларусь у сэрцы. Трэба, каб ведалі, што наша вялікая Беларуская мова ёсьць наш Боскі дар, што наша беларуская дзяржава ёсьць наш беларускі дом, даражым ёй, як бацькам і маткай, што наш Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня ёсьць сымвалы нашага існаваньня***.

*Малады Фронт* павінен застацца арганізацыйна адзіным, структурна асобным ад БНФ, мець сваю моладзевую канцэпцыю беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў, беларускага асьветніцтва і змаганьня за ідэалы. Арганізацыйнае адзінства *Маладога Фронту* ў гэтай сытуацыі – задача цалкам вырашальная і залежыць, перш за ўсё, ад самых маладафронтаўцаў.

* * *

Падрыхтоўка „каляніяльнай" замены Лукашэнкі, нягледзячы на правал праекту „Чыгір", працягваецца. Ёсьць відавочныя вынікі гэтай дзейнасьці. Выключаныя з палітыкі Г. Карпенка, Ю. Захаранка, адсунуты ў бок і выдалены зь Беларусі С. Шарэцкі, рэзка і татальна ўзмоцнена „вечная барацьба" з Пазьняком (гэта значыць – са мной), *Народны Фронт* расколаты і прадаўжаецца яго разбурэньне. У бліжэйшы час будзем назіраць спробы перакупіць (у літаральным сэнсе слова) частку сяброў *БНФ*.**

Пакуль ня будзе зноў створана моцная беларуская нацыянальная альтэрнатыва прамаскоўскаму рэжыму на Беларусі – усе намаганьні ў барацьбе ні да чаго не прывядуць. Альтэрнатыву таксама імкнецца стварыць каляніяльная апазыцыя і Масква. Паўтаруся, трэба стварыць нашу альтэрнатыву. Яна павінна быць вызвольнай і беларускай.

*8 жніўня 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 5(22); „Пагоня", – 1999, 19 жніўня).*

* Ініцыятары прагматычнай пазыцыі адмовіліся ад прапановы па Кааліцыі БНФ і зрабілі стаўку на фальсіфікацыю другой сэсіі Зьезду. Калі гэта не ўдалося, яны пакінулі Зьезд. Раскол стаўся арганізацыйным фактам. – *(З. П.)*

** У пятніцу 6-га жніўня рэжымны камэнтатар Беларускага тэлебачаньня распавёў пра VI Зьезд БНФ. Гаворачы пра нечаканы вынік галасаваньня (калі старшыня БНФ З. Пазьняк быў выбраны зь перавагай толькі ў чатыры галасы), камэнтатар сказаў: „Гэта добра папрацавалі нашыя людзі ў цывільным". („Беларускія Ведамасьці", – 1999, № 5 (22)

# ПАРТЫЯ АДРАДЖЭНЬНЯ

***(Вытрымкі з дакладу на VI Зьезьдзе Партыі БНФ)***

***Тая палітычная барацьба, што адбываецца ў Беларусі на працягу апошніх 10-ці гадоў, гэта ёсьць змаганьне за адраджэньне Беларускай ідэі, за існаваньне беларускай нацыі, за сцьвярджэньне незалежнай беларускай дзяржавы. У гэтым сутнасьць.*** *Усё астатняе альбо выяўляе гэтую сутнасьць, альбо супроцьпастаўляецца ёй. Прытым у розных формах: ад акупацыйнага рэжыму да „каляніяльнай дэмакратыі."*

Беларускі нацыянальна-вызвольны рух ёсьць дэмакратычны рух і па сваіх ідэях, і па рухаючых сілах. Але істотна ўбачыць, што ворагі беларушчыны ствараюць дэмакратычныя фантомы і імкнуцца ізаляваць нацыяналоьна-вызвольны рух у асобную сфэру палітыкі, а потым сьпіхнуць на пэрэферыю і – ліквідаваць.

Гэта не ўдавалася і немагчыма было зрабіць да апошняга часу, пакуль не ўсталявалася дыктатура і не падзялілася ўладная намэнклятура, не стварылася намэнклятурная апазыцыя. Пачаўся працэс узаемадзеяньня і дыфэрэнцыяцыі, як у асяроддзі намэнклятурных апазыцыянераў, так і ў асяроддзі БНФ.

Пераход намэнклятурных апазыцыянераў на беларускую нацыянальна-вызвольную плятформу меў дэклярацыйны характар. Толькі некалькі чалавек наблізіліся да адраджэнскага разуменьня і адстойваньня беларускіх нацыянальных задачаў. Астатнія – засталіся ў палоне старой каляніяльнай ідэалёгіі і чужародных поглядаў на галоўныя каштоўнасьці нацыі.

Тым часам у асяроддзі БНФ працэсы канвэргенцыі набылі разбуральныя рысы, узмацніўся канфармізм, скрыты і адкрыты пераход на плятформу „намэнклятурна-дэмакратычнай" апазыцыі, пад лёзунг „объединения демократических сил", сэнс якога – у

падпарадкаваньні Народнага Фронту палітыцы каляніяльнай апазыцыі, у выкарыстаньні структурнай сілы БНФ для зьмены дзяржаўнага кіраўніцтва і вяртаньня да ўлады намэнклятурных апазыцыянераў коштам (ці прынясеньнем у ахвяру) прынцыпаў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

У 1997 годзе на V-м Зьезьдзе БНФ, пасьля нашага адноснага посьпеху ў стрыманьні расейскай палітыкі „інтэграцыі", я падрабязна аналізаваў гэтую сытуацыю і прапанаваў разьвіваць канцэпцыю Беларускага вызвольнага руху. Што адбывалася потым, як змагаліся супраць гэтай ідэі, як зьяўляліся розныя хартыі ды шараметы (цяпер гэты „журналіст" выступае разам з Няўзоравым за перамогу рускага „оружия" на Каўказе), як расслойвалася і канфліктавала кіраўніцтва Фронту, – усяму гэтаму вы былі сьведкамі. Але трэба адзначыць галоўнае. *Ідэя і арганізацыя Беларускага вызвольнага руху была затармажаная не настолькі звонку, колькі ўнутры, у кіраўніцтве БНФ. І гэта было непасрэдным вынікам канвэргенцыі, бяспрынцыпнага супрацоўніцтва з каляніяльнай апазыцыяй, ростам канфармізму і пераарыентацыяй каштоўнасьцяў.*



*66. Шэсьце Народнага Фронту ў Горадні. 1998 г.*

Нарыў лопнуў у траўні гэтага году, пасьля правалу правакацыі з фальсіфікацыяй галасаваньня на выбарах Прэзыдэнта. Тут і адчынілася бездань, перад якой стаяў Фронт, выявілася цана супрацоўніцтва з каляніяльнай намэнклятурай. Менавіта тут адбыўся маральны выбар і рэальны падзел у арыентацыі палітычных каштоўнасьцяў. Не падважваецца воля, свабода, дэмакратыя, незалежнасьць Беларусі, але нівеліруецца Адраджэньне, разыходзяцца шляхі дасягненьня мэты і мэтады змаганьня за сьветлыя ідэалы.

Травеньскія выбары Прэзыдэнта яскрава паказалі рознасьць шляхоў *у Фронце* і залежнасьць выніку ад выбару шляху. Добрая мэта дасягаецца добрымі сродкамі. Гэтая мэтадалягічная аксіёма вядомая ўжо тысячы гадоў і адлюстраваная ў калектыўнай памяці чалавецтва. Але, пэўна, пакуль існуе чалавечая гісторыя, людзям наканавана на ёй вучыцца.

Падзел адбыўся. Падзел існуе. Наша задача – захаваць, сабраць і злучыць усе здаровыя беларускія адраджэнскія сілы Фронту. Крокам да гэтакага злучэньня павінна стаць арганізацыйнае і ідэйнае ўмацаваньне палітычнай партыі *Беларускага Народнага Фронту*.

Умацаваная *Партыя БНФ* павінна стаць палітычнай асновай *Фронту*, якая злучыць вакол сябе і прыцягне ў свае шэрагі беларускія адраджэнскія сілы. Наша апірышча – гэта тыя паўтара-два мільёны сьведамых беларусаў, якія вераць *Фронту* і *Беларускай ідэі*. І мы ня можам не апраўдаць іх давер. Беларуская нацыянальная ідэя вымагае ня толькі шырокага вызвольнага руху, але і моцнай палітычнай арганізацыі.

Я прапанаваў нашым фронтаўскім „прагматыкам" некалькі варыянтаў захаваньня адзінства *Фронту*. На жаль, усё было адкінута, а ў адказ – не прапанавана нічога, ня выяўлена ўвогуле ніякіх ідэяў па арганізацыі *БНФ* пасьля травеньскага падзелу. Адзінай задачай, якую яны паставілі перад сабой і перад *Фронтам* (дакладней гэтую задачу паставіў перад імі Ганс Вік), – любам спосабам зьняць старшыню *БНФ*, выключыць мяне з прафэсійнай палітыкі. Гансвікі сказалі ім адкрытым тэкстам (і мы пра гэта ведаем), што, маўляў, калі Пазьняк застанецца старшынёй Фронту, то ніякіх грантаў, ніякіх сродкаў і грошай больш ім не дадуць. І прагматыкі, аказалася, гатовыя былі пасьля гэтага ілбы паразьбіваць супраць Старшыні за „адзінства Фронта" і „будучыню Беларусі". Адказны сакратар Управы з гэтай нагоды нават крылатую фразу выдумаў: усё, маўляў, добра, але Пазьняк „ня дасьць зарабляць „бабкі" (гэта значыць, грошы ў перакладзе на людзкую мову). Дэградацыя некаторых асобаў у Фронце, якая адбылася за некалькі гадоў маёй адсутнасьці, здзімляе. Для мяне канцова зразумела – гэтакія людзі ніколі і ні пры якіх абставіеах не павінны быць ва ўладзе. Гэта патэнцыйная карупцыянеры, якая за „бабкі" ня тое што сябра здадуць – з гонарам сваім разьвітаюцца. І як добра, што яны адышлі.

Шэраг дзеяньняў, артыкулаў і інтэрв'ю ў антыфронтаўскім друку, выпуск сумніцельных лістовак на рускай мове аб „новой волне", дзе нашыя прагматыкі паказаныя ў атачэньні В. Ганчара, і іншыя папулісцкія заявы пераканалі мяне, што мы маем справу з даволі безадказнай пазыцыяй. Магчыма, тут зьбег абставінаў і ўсё выглядае ня так кепска, але ўсё гэта, тым ня менш, абавязвае нас цяпер выразна, моцна і зразумела засьведчыць беларускую адраджэнскую фронтаўскую пазыцыю, структурна арганізаваць яе ў моцнай палітычнай партыі і паставіць у аснову сістэмнай арганізацыі *Фронту*.

*26 верасьня 1999 г.*

***Зянон Пазьняк***

# НАД МАГІЛАМІ ПРОДКАЎ

***(Выступ)***

Паважаныя спадарыні і спадары! Паважаныя землякі! Дарагія беларусы!

Мы знаходзімся ў месцы, якое зьяўляецца ***знакавым сымвалам Беларусі***. Тут самая страшная частка нашага мартыралогу і жудасная частка нашай гісторыі. Тут, у гэтым лесе, ляжаць ахвяры генацыду, сотні тысячаў нявінна забітых людзей. А ўсяго бальшавіцка-расейскія ворагі Беларусі забілі, закатавалі, замардавалі, вывезьлі і расстралялі больш за два мільёны беларусаў.

Гэта зрабілі тыя, што некалі забівалі беларусаў-вуніятаў, разбуралі беларускія манастыры, палілі беларускія кнігі і творы мастацтва. Гэта зрабіла тая чарнасоценная арда, якая ў 1918 годзе напала на Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта зрабілі тыя варвары, якія замарылі голадам шэсьць мільёнаў украінцаў на Ўкраіне і мільёны людзей у Казахстане, вывезьлі тысячы латышоў, летувісаў і эстонцаў у Сібір. Гэта зрабілі тыя, хто сем гадоў таму забівалі малдаван у Малдове, хто пасек сапёрнымі рыдлёўкамі грузінскіх жанчын у Тбілісі. Гэта зрабілі тыя, хто цяпер забівае чачэнскі народ.

Я яшчэ раз нагадваю пра повязь людзей. Як толькі рускія дзяржаўныя тэрарысты пачынаюць забіваць у Ічкерыі на Каўказе, тут жа ўзмацняецца маскоўская агрэсія на Беларусь. Вось жа і цяпер мы бачым гэты наступ.

А ці задумваліся мы, што можа стацца зь беларускім народам, калі расейцы захопяць Беларусь?

Ці гатовыя мы да вайны, ці гатовыя мы змагацца? Бо выбару ня будзе: альбо нацыянальная сьмерць пад маскалём, альбо барацьба за свабоду і незалежнасьць.

Шмат гадоў таму, дасьледуючы гэты Курапацкі дол, над прастрэленымі касьцямі забітых продкаў я даў сабе клятву: покі буду жыць, дзе б я ні быў, буду змагацца з расейскім варварствам і з расейскай агрэсіяй, з расейскай імпэрыяй зла. У ёй – прычыны ўсіх нашых няшчасьцяў. Хопіць беларусам быць нявінна забітымі. Хопіць паміраць ахвярным народам. Хопіць Курапатаў.

Для ўсіх нас, беларусаў, настае вызначальны час. Сёньня – ***Дзяды***. Тысячы душ нашых продкаў прыляцелі зь нябёсаў сюды, на разбураныя магілы.

Разбураныя магілы ў Курапатах сьведчаць пра стан нацыі. Але ўсё можна паправіць, бо народ жыве, і жыцьцё не спыняецца.




***67. Рэквіем у Курапатах.***

Ці гатовыя мы прысягнуць над магіламі Дзядоў, каб усе нашы справы, каб усе нашы сілы, усе нашы думкі накіраваць на барацьбу за Волю, Свабоду і Незалежнасьць Беларусі?

Калі гатовыя разам, – то прысягнем разам. Калі не – то хай кожны сабе прысягне тут, пад Крыжам, на сьвятой і пакутнай зямлі. Бо памятаем: прысяга за Бацькаўшчыну над магіламі продкаў у Дзень Дзядоў дае сілу духа, моц цела і Боскую апеку.

Слава героям Беларусі!

Вечная памяць тым, хто загінуў за Радзіму!

Жыве Беларусь!

*31кастрычніка 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# БЕЛАРУСКАЯ СІЛА – У ПАЛІТЫЧНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

***(Ліст да сяброў Партыі БНФ і БНФ „Адраджэньне". 12.09. 1999г.)***

*Ужо дзесяць гадоў антыбеларускія палітычныя асяродкі рознымі спосабамі змагаюцца супроць Беларускага Народнага Фронту. Асабліва злавесная стала гэтая барацьба ў пэрыяд дыктатуры і адкрытай палітыкі Расеі, накіраванай на інкарпарацыю і зьнішчэньне дзяржаўнасьці Беларусі.*

*Тры гады прамаскоўскага рэжыму, тры гады мэтанакіраванай, пасьлядоўнай разбуральнай працы ў Фронце ўжо далі свой атрутны плён.*

*Самым страшным вынікам атакі на нацыянальны рух зьяўляецца ні подкуп, ні здрада, ні перараджэньне, а нянавісьць.*

*Тое ж самае клішэ ўжывалі для разбурэньня Ўкраінскага Руху. І калі яго раскалолі, калі забілі кіраўніка – вялікага сына Ўкраіны і майго сябра Вячаслава Чарнавола, – то яго бліжэйшыя паплечнікі і раскольнікі не прыйшлі на яго пахаваньне. Нават сьмерць ня спыніла нянавісьці аднадумцаў.*

*Цяпер некаторыя мае аднадумцы, якім я аддаў частку сваёй душы, а некаторых прывёў у палітыку і ў беларускае адраджэньне, змагаюцца „з бандай Пазьняка".*

*У аматарскай газэце, якая называецца імем БНФ, сябры зьмяшчаюць маю фатаграфію з 1988 года ў Курапатах (у Курапатах...) побач з партрэтам Сталіна, на якім зарэтушавалі калючы дрот і надпіс:* ***„Кат"*** *(каб былі іншыя асацыяцыі).*

*11 гадоў таму маладыя беларусы намалявалі калючы дрот і зрабілі гэты надпіс на партрэце Сталіна. Цяпер яны зарэтушавалі сваю маладосьць.*

*Тут я кажу не пра пачуцьці, не пра мараль. Так выяўляецца закон нянавісьці, пра які ворагі беларушчыны ведаюць лепш, чым беларусы.*

## АБ ПАРТЫІ

Шкада, што мае прапановы аб кааліцыйным адзінстве Фронту былі адкінутыя маімі сябрамі-раскольнікамі. Сто разоў шкада, што я не магу быць цяпер у Беларусі. Я вымушаны шукаць і прапаноўваць іншае рашэньне. Беларускае Адраджэньне мусіць быць згуртаваным, а Фронт – адзіным у сваіх дзеяньнях, палітыцы і структурнай сістэме.

Мяркую, што арганізацыйнай асновай адзінства Фронту павінна стаць у гэтых умовах Партыя БНФ. Трэба падвысіць яе функцыі, прыняць новыя ўдакладненыя Праграму і Статут, выбраць кіруючыя органы, старшыню, намесьнікаў старшыні, вызначыць палітычныя задачы на бліжэйшы пэрыяд і арганізацыйна згуртаваць вакол яе ўвесь Фронт, усе здаровыя беларускія адраджэнскія сіы ў БНФ.

Пасьля Зьезду Партыі БНФ павінна адбыцца 2-е паседжаньне VI Зьезду БНФ „Адраджэньне", дзе засталося выбраць Сойм і намесьнікаў старшыні БНФ. Сойм БНФ „Адраджэньне" прапаную выбіраць па аб'яднаўчай мадэлі. Палову Сойму БНФ (за якую галасуюць цэлым сьпісам) складае Сойм Партыі БНФ**.** Другая палова абіраецца з сяброў БНФ „Адраджэньне". Пры тым палову гэтай паловы (50%) выбіраюць на Зьезьдзе, а другая палова (50%) дэлегуецца ад рэгіянальных арганізацыяў БНФ „Адраджэньне".

Такім чынам ствараецца аб'яднаны Сойм БНФ „Адраджэньне" і Партыі БНФ, фармуецца адзіная Ўправа з падзелам функцыяў.

Сойм БНФ „Адраджэньне" дзейнічае як адзіная кіруючая структура Фронта, а па вызначаных палітычных пытаньнях – выступае Сойм Партыі.

Гэта пэрспэктыўны крок наперад па ўзмацненьні палітычнай арганізацыі Фронта. Менавіта партыя робіцца асновай і грунтам руху. Гэта добра, бо беларускае адраджэньне павінна мець моцную палітычную партыю ў аснове вызвольнага руху. Усё гэта стасуецца з заканадаўствам.

## АБ ПЭРСАНАЛЬНЫМ КІРАЎНІЦТВЕ

Пажадана, каб быў адзіны старшыня Фронту і Партыі Фронту, але – функцыянальна розныя намесьнікі: двух выбіраецца ад Партыі БНФ і двух ад Фронту „Адраджэньне".

Калі ж будзе вырашана, што павінны быць два асобныя старшыні (Фронту і Партыі Фронту), то можна пагадзіцца і на гэтае рашэньне (падобнае я ўжо прапаноўваў). Яно прадугледжвае кааліцыйнае супрацоўніцтва (каардынацыю) кіраўніцтва.

Рэвізійная камісія павінна быць адзінай, гэтак жа, як і камісіі Сойму. Але Партыя БНФ можа ствараць (толькі не дубляваць) свае неабходныя ёй камісіі.

Павінен быць дарадчы орган – адзіны Грамадзка-Палітычны камітэт Фронту, які фармуецца Соймам Фронту і старшынём. Калі ж старшыняў будзе два, то ствараецца Грамадзка-палітычная нарада для каардынацыі дзеяньняў.

Я яшчэ раз прапаную захаваць (на іншым узроўні) адраджэнскае і арганізацыйнае адзінства Фронту, які ўжо ня ёсьць адзіным. І ня трэба апанэнтам на гэта заплюшчваць вочы ды рабіць выгляд, што падзелу няма, пераводзіць увагу на асобу старшыні. Нават калі б я ўвогуле пакінуў Фронт, ён бы, тым больш, не застаўся б адзіным. Я добра ведаю і свае магчымасьці, і сэнс перасьледу маёй асобы рэжымам, і зьмест таго, што робяць у Фронце, і прыроду пэрманэнтных атакаў.

Я не магу сядзець, склаўшы рукі, і глядзець, як марнуецца час і нішчыцца арганізацыя. „Новыя дэмакраты" у Фронце не пажадалі ні размаўляць са мной аб маіх прапановах, ні супрацоўнічаць. Таму я прымаю захады, якія не супярэчаць Статуту Партыі і адпавядаюць рашэньням яе органаў.

Зьезд Партыі БНФ павінен адбыцца згодна рашэньня чэрвеньскага Сойму Партыі БНФ, якое ня выканаў спадар Л. Баршчэўскі і не адчыніў Зьезд 31 ліпеня-1 жніўня гэтага году.

У Статуце Партыі ня сказана, што Сойм прызначае дату Зьезда. Гэта ўмоўнае пытаньне. Таму, калі ёсьць рашэньне аб Зьезьдзе, дату (пасьля кансультацыяў) можа прызначыць старшыня. Гэта не супярэчыць Статуту. Дзеля вызначэньня даты няма патрэбы спэцыяльна зьбіраць Сойм.

Зьезд Партыі БНФ адбудзецца 26-га верасьня. Гэта павінен быць мацуючы, яднаючы Зьезд з пэрспэктывай згуртаванага адзінства Фронту.

## АБ ЗЬМЕСЬЦЕ СТРУКТУРАЎ

Кіруючы орган палітычнай арганізацыі – гэта не парлямант. Кіруючыя структуры партыі фармуюцца не па прынцыпе парляманцкай дэмакратыі, а па прынцыпе палітычнага адзінства. Калі палітычнага адзінства няма (як гэта здарылася з Соймам БНФ у

1998-1999 гг.), тады ўзьнікае крызіс у кіраўніцтве і кіраваньні, параліч альбо раскол у арганізацыі.

Трэба імкнуцца, каб кіраўніцтва было палітычна адзіным. Бо нават калі ідэйна маналітная арганізацыя будзе мець распалавіненае кіраўніцтва – яна рана ці позна расколецца. Гэтак здарылася з БНФ. Нельга падтрымліваць прынцып існаваньня распалавіненага, дыскусійна-антаганістычнага Сойму і такога ж інстытуту намесьнікаў старшыні. Гэта адмоўна адбіваецца на арганізацыі. Патрэбна было істотнае абнаўленьне і ўгрунтаваньне кіраўніцтва на агульнай плятформе.

Я пастараўся ажыцьцявіць гэтае неабходнае рашэньне на VI-м Зьезьдзе БНФ, прапанаваў неантаганістычны сьпіс Сойму і новых намесьнікаў. Але было позна.

І справа нават ня ў тым, што шмат хто блытае палітычны, партыйны прынцып фармаваньня кіраўніцтва з парляманцкім. Справа ў тым, што адзінага Фронту ўжо не было. І кожны на Зьезьдзе хацеў бачыць у Сойме „сваіх".

Гэта факт, гэта відавочнасьць. Прызнаймася ў гэтым і ўбачым, што мае структурныя пошукі і прапановы аб новым адзінстве Фронта ёсьць правільныя.

## АБ КАНЦЭПТУАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ

Як і якую палітыку праводзіць у дачыненьні да Беларусі Масква, да чаго яна імкнецца, як і чаму хоча зьнішчыць беларускі нацыянальна-вызвольны рух і што можна чакаць ад яе цяпер – прапаную прааналізаваць кожнаму фронтаўцу. Думаю, што ніхто ў аналізе й ацэнках не памыліцца, бо ўсё відавочна.

Адзначу аднак, што ў барацьбе з аўтарытарным нелегітымным рэжымам і ўзурпатарам трэба, акрамя дэманстрацыі партыйнай палітыкі, ствараць легальныя структуры ўлады (мясцовай, грамадзкай, прадстаўнічай і інш.). Трэба ствараць структурныя апоры для палітыкі і альтэрнатыву ў грамадстве любымі легальнымі спосабамі (нават фантомы могуць аказацца карыснымі ў гэтай сітуацыі).

За тры гады дыктатуры ўдалося ўмоўна „стварыць" толькі адну такую структуру – аб'ядналь групу дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня ў апазыцыйны парлямант. Адразу пасьля лістападаўскага перавароту ў 1996 годзе на другі ж дзень я напісаў пра гэта С. Шарэцкаму і прапанаваў стварыць альтэрнатыўны „парлямант" як найхутчэй (хоць 25 чалавек, хоць 5). Дзякуй Богу, С. Шарэцкі тут зрабіў тое, што ад яго залежыла. Гэта дало магчымасьць наладзіць кантакты з заходнімі парляманцкімі структурамі і ўрэшце рэшт – дапамагло беларускім патрыётам працаваць тут, на Захадзе, а Захаду – не прызнаць рэжым Лукашэнкі. Захад, яго парляманты і ўрадавыя структуры не маглі кантактваць зь беларускімі палітычнымі партыямі і праз іх уплываць на рэжым. Гэта ня тая дарожка. Патрэбны быў легальны міжнародна прызнаны шлях. Такім шляхам стаў легальны апазыцыйны „парлямант".

Я прапаноўваў і падтрымліваў ідэю стварэньня апазыцыйнага Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, цудоўна разумеючы яго дрэннасьць у лёсе Беларусі і здрадлівасьць у беларускай палітыцы (аб чым пастаянна нагадваў). Тым ня менш, так трэба было зрабіць, каб выйграць у іншым. І справа сябе апраўдала.

Ідэі ўсталяваньня грамадзянства БНР, стварэньне Камітэтаў грамадзянаў БНР і ворганаў самакіраваньня, збор подпісаў за адхіленьне Лукашэнкі ад улады, стварэньне Грамадзянскага Парляманту і Часовага Ўраду – усё гэта ланцужок адзінай палітычнай нацыянальна-вызвольнай працы, якую я прапаноўваў і якая павінна была прывесьці да стварэньня дапаможных структураў улады, і асабліва – да ўтварэньня Грамадзянскага Парляманту як падпоры для Вярхоўнага Савету, для выконваючага абавязкі Прэзыдэнта, як аргуманта пры перамовах і г.д. Грамадзянскі Парлямант Беларусі мог прыняць новы нармальны Закон аб выбарах, стварыць Часовы Ўрад, уплываць і стымуляваць дзейнасьць Вярхоўнага Савету і выконваючага абавязкі Прэзыдэнта, узьдзейнічаць на стварэньне законнага ўраду і г.д. Існаваньне Грамадзянскага Парляманту было б аргумантам у палітыцы, давала б магчымасьць манэўру і нават – альтэрнатывы.

Усё змарнавалі канфармісты. Настаў 20-ы ліпеня 1999 г. (канец прэзыдэнцкага тэрміну Лукашэнкі) – і нічога не стварылі. Нічога не было. Нават загад аб арышце Лукашэнкі выдаць няма каму. Колькі можна быць няздольнай апазыцыяй!

Калі стварыць альтэрнатыўныя структуры, калі мець легітымных асобаў улады і ўвогуле – грамадзкую альтэрнатыву, то пры ўзрастаньні масавых пратэстаў (масавыя забастоўкі, мітынгі, дэманстрацыі) ліквідаваць антыдэмакратычны рэжым можна рэальна, мірна, і нават безбалесна (для грамадзтва). Калі гэтага не падрыхтаваць, то шансы мізэрныя, а мірных – няма ўвогуле.

Не падрыхтаваўшы ўмоваў і апоры, без палітычнага пляну, зразумелага ўсім, без канцэпцыі пераймальня ўлады, без наяўнасьці рэальнай альтэрнатывы (а не словаблудзтва) марна клікаць азлоблены народ на вялікі масавы выступ. Перамогі ня будзе. Пасьля выпусканьня пары „ў сьвісток" – апатыя і расчараваньне. Усялякая справа патрабуе падрыхтоўкі, сэнсу, мэты і ажыцьцяўленьня.

Мне вельмі шкада, што мае стараньні наладзіць з-за мяжы канцэптуальную палітыку Фронта ў 1998-99 гг. былі спушчаныя ў пясок. Трэба, як найхутчэй, прывесьці Партыю БНФ і увесь Фронт у дзейсны, рабочы, палітычна актыўны стан. Мы павінны арганізаваць неабходныя грамадзкія структуры і адначасна рыхтаваць масавыя выступы супраць рэжыму. Акрамя таго, я лічу, што Фронт, які прызнае Канстытуцыю 1994 года і падтрымаў дрэнны, але легітымны і апазыцыйны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, павінен цяпер засьведчыць падтрымку (такая лёгіка) дрэннаму старшыні Вярхоўнага Савета і выконваючаму абавязкі Прэзыдэнта Сымону Шарэцкаму, які стаіць цяпер на беларускіх, нацыянальна-дэмакратычных пазыцыях вызваленьня ад дыктатуры і зьяўляецца адзінай законнай і поўнасьцю легітымнай кіруючай фігурай у вышэйшай беларускай уладзе (іншых няма).

Падтрымайма Зьезд Партыі БНФ і аб'яднаны Фронт. Пойдзем крок за крокам. Мы ня можам марнаваць час, бо над Бацькаўшчынай – небясьпека. Мы павінны йсьці мэтанакіравана, каб узьняць беларускі арганізаваны адраджэнскі рух і беларускую палітыку.

Трэба ўмацоўваць нацыянальна-вызвольны Фронт, чаго б гэта ні каштавала і як бы цяжка яно ні вялося. Трэба мець палітычную арганізацыю беларускага адраджэньня, зь якой будуць лічыцца ўсе. Трэба ствараць сілу, каб сьцьвердзіць ідэю, адрадзіць, збудаваць Беларусь.

*12 верасьня 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Партыі БНФ***
***і БНФ „Адраджэньне"***

*Надрукавана: („Пагоня", – 1999, 23 верасьня).*

# АБ РАСЕЙСКАЙ АГРЭСІІ

Расейская агрэсіўнасьць асабліва павялічваецца тады, калі ў Расеі горшыцца палітычнае становішча і абвастраецца барацьба за ўладу. Тады разьвязваюцца малыя „пераможныя" войны і канфлікты, пачынаюцца „аб'яднаньні" з Расеяй, „славянская" інтэрнацыянальная салідарнасьць і г. д.

Цяпер расейскай уладзе зноў, як і ў 1996 годзе, пагражаюць выбары. І ўлада зноў разьвязала вайну з Ічкерыяй, зрабіўшы чарговы „падпал Рэйхстагу" – грандыёзную правакацыю з узрывам жылых дамоў у Маскве і з сотнямі ахвяраў сваіх грамадзянаў.

Зноў узмацнілася агрэсіўная палітыка „інтэграцыі" зь Беларусьсю. Ельцын выступіў з чарговай і сьпешнай ініцыятывай утварэньня „саюзнай дзяржавы". Запрацавалі ўсе механізмы расейскай імпэрскай машыны.

Мы, беларусы, павінны не дапусьціць дзеяньня маскоўскага агрэсіўнага пляну інкарпарацыі Беларусі. Цяпер трэба арганізаваць адпор гэтым намерам і звонку, і знутры. Мы не павінны заспакойваць сябе тым, што Лукашэнка ня мае ніякіх праўных падставаў сваёй улады, што ўсе яго распараджэньні і дамовы ня важныя. Для Расеі мараль, закон і права нічога ня значаць. Вераломства, хлусьня, стаўка на сілу і агрэсію ёсьць для яе норма паводзінаў. Чарговы ваенны напад Расеі на Ічкерыю і расава-этнічныя чысткі ў Маскве якраз ілюструюць гэтую звычайную для яе палітыку.

Нельга дапусьціць ніякіх фармальных дамоваў рэжыму пра злучэньне з Расеяй, як бы неверагодна, бяспраўна, незаконна і авантурна яны ні выглядалі. У бяспраўнай краіне небясьпечныя любыя дамовы. Заключэньне акупацыйных дамоваў і саюзаў пад назвай „інтэграцыі" дасьць магчымасьць змоўшчыкам перавесьці працэс інкарпарацыі ў сфэру бюракратычных дачыненьняў, якія будуць адбывацца пад кантролем Масквы, нават без інфармаваньня насельніцтва.

Страта незалежнасьці ў любой форме стала б нацыянальнай трагедыяй для Беларусі, бо дала б магчымасьць расейцам, пры дапамозе сваёй дзяржаўнай машыны, вынішчыць беларускую нацыю.

Вярнуць незалежнасьць можна б было толькі сілай. Аднак мы не гатовыя да ўзброенай барацьбы. Беларуская армія, унутранае войска, КГБ і ўсе сілавыя структуры паралізаваныя рэжымам і рускай разьведкай. Яны няздольныя абараняць Беларусь.

Калі ж беларусам удалося б згуртаваць паўстанцаў і пачаць партызанскія дзеяньні супраць акупацыйнага рэжыму, тады расейцы ўвесь беларускі нацыянальна-вызвольны рух аб'явілі б бандыцкім, а беларусаў бандытамі ды тэрарыстамі і пачалі б вайну супраць тэрарыстаў, сталі б бамбардаваць нашыя гарады і вёскі, масты, прадпрыемствы, школы, шпіталі, кірмашы і рынкі, пры здрадніцкім маўчаньні міжнароднай супольнасьці. (Акурат, як маўчаць цяпер пра генацыд і ваенную агрэсію супраць Ічкерыі.) Заходні двайны стандарт нам добра вядомы.

Калі крымінальная дамова паміж двума рэжымамі аб анэксіі („аб'яднаньні" Беларусі з Расеяй) будзе падпісана і пачне дзейнічаць, мы зможам выйсьці зь яе толькі зь вельмі вялікімі стратамі. Трэба не дапусьціць падпісаньня дамовы і дзеяньня „інтэграцыйнага" пляну.

Пакт Лукашэнкі-Ельцына – гэта вайна. Вайна з Расеяй. Трэба глядзець на рэчаіснасьць цьвярозымі вачыма і рыхтавацца ўспрыняць яе сур'ёзна. Беларусы ніколі ня згодзяцца на рускае ярмо. Каб яго накінуць, расейцам прыдзецца зьнішчыць, кінуць у турмы, выгнаць зь Беларусі і запалохаць тысячы, сотні тысячаў беларусаў. Мы ведаем, што яны гатовыя на вынішчэньне беларусаў. Але ім ужо ня ўдасца гэта зрабіць (як удалося ў 20-х і 30-х гадах). Скончыўся камунізм – скончылася маўчаньне авечак. Беларусы будуць змагацца.

* * *

У барацьбе з акупацыйным рэжымам за свабоду і незалежнасьць патрэбны ня толькі змагары і факты змаганьня (напрыклад, мітынгі ды дэманстрацыі), але, перш за ўсё, – грамадзкая альтэрнатыва, увасобленая ў канкрэтнай мэце, канкрэтнай задачы, канкрэтным воргане ўлады (арганізацыі) і ў канкрэтных людзях. Гэта трэба, каб было. Калі няма – стварыць. Інакш змаганьне стане застойным і невыніковым, а ахвяры масавых выступаў – дарэмнымі. Змагарны працэс можа ператварыцца ў апазыцыйную руціну, выгадную хіба толькі папулістам ды палітычным бізнэсмэнам дзеля апраўданьня сваіх справаў.

Палітыка вызвольнага руху павінна быць канцэптуальнай і канкрэтнай. Трэба ствараць апірышчы для механізму пераменаў. Мы мусім мець альтэрнатыўны ўрад. Пры недзеяздольнасьці і ўмоўнасьці Вярхоўнага Савета, мы павінны стварыць на легітымнай аснове ворган яго падтрымкі (страхоўкі) – тыпу Грамадзянскага Парляманту. Трэба ініцыяваць таксама ворганы самакіраваньня па пэўных галінах жыцьцядзейнасьці. Неабходна заручыцца падтрымкай адпаведных людзей і арганізацыяў, правесьці мабілізацыю ўсіх нацыянальна-вызвольных сілаў (акцыя „Грамадзянства БНР").

Нельга спыняцца на першым этапе, на ўзроўні палітычных пратэстаў і партыйнай апазыцыі. Трэба канкрэтызаваць грамадзкую альтэрнатыву і браць ініцыятыву ў свае рукі. Беларускі Народны Фронт ня змог на працягу двух гадоў ажыцьцявіць канкрэтныя захады па канцэптуальнай палітыцы з прычыны раздвоенасьці ў кіраўніцтве. Тое, што намагалася рабіць адна палавіна – сабатавала другая.

Цяпер сітуацыя мяняецца. Адбылося разьмежаваньне. Фронт набывае другое, партыйнае палітычнае дыханьне. Тое, чаго не зрабілі, трэба зрабіць. Там, дзе страчана, – трэба пачаць спачатку.

* * *

Беларускім змагарам з рэжымам неабходна ўлічыць дачыненьні і інтарэсы палітычных сілаў.

Усе расейскія палітычныя сілы і ўсе расейскія дзеячы ў Расеі падтрымліваюць імпэрскую палітыку „інтэграцыі" па далучэньні Беларусі да Расеі. (Нюансы фразэалёгіі значэньня ня маюць.) Але ня ўсе расейскія палітыкі задаволеныя Лукашэнкам, бо расейскаму капіталу не ўдалося грунтоўна пранікнуць у беларускую эканоміку і завалодаць беларускай маёмасьцю.

„Рэфарматарскія" групы расейцаў, зьвязаныя зь вялікім бізнэсам, фінансамі, і (як яны лічаць) з дэмакратыяй, хацелі б „інтэгравацца„ зь іншай асобай, менш фашызаванай, менш камуністычнай, больш пакладзістай і менш прэтэнцыёзнай, чым Лукашэнка; гэткай жа прамаскоўскай, але з дэмакратычнымі схільнасьцямі (асабліва ў эканоміцы). Ім патрэбны залежны ад іх стаўленік, які б ажыцьцявіў рынкавыя рэформы па расейскаму ўзору і дапусьціў бы рускі крымінальны капітал да ўдзелу ў прыватызацыі на Беларусі. У выніку беларуская маёмасьць была б скуплена расейцамі, а беларусы апынуліся б без нічога, батракамі ў сваёй краіне. Суверэнітэт у такім становішчы абараніць было б вельмі цяжка, і пагроза анэксіі стала б рэаль-

насьцю. Усё гэта трактавалася б расейцамі як „дэмакратычныя пераўтварэньні” і перамога дэмакратыі на Беларусі.

„Рэфарматарскія” імпэрскія колы ў Маскве (а таксама спэцслужбы), каб забясьпечыць свае інтарэсы, робяць стаўку на беларускую каляніяльную апазыцыю і шукаюць асобу, якая магла б яе ўзначаліць. У выніку – ***на Беларусі стварыўся змагарны трохкутнік паміж нацыянальным вызвольным рухам (які, у асноўным, прадстаўляе БНФ), каляніяльнай апазыцыяй і рэжымам, дзе толькі БНФ і рэжым зьяўляюцца абсалютнымі антаганістамі.*** Трэба ўлічыць таксама, што Расея робіць велізарныя намаганьні, каб аслабіць і ліквідаваць Беларускі Народны Фронт.


(Фота «PAP»)

***68. Чачэнскі зыход на фоне рускага браневіка.***

У гэтых абставінах відавочна, што ***толькі перамога беларускага нацыянальна-вызвольнага руху здольная рэальна забясьпечыць незалежнасьць Беларусі і праўдзівыя перамены ва ўнутранай палітыцы.*** Перамога каляніяльнай апазыцыі (да гэтага адносім і намэнклятурны пераварот) зьмяніла б толькі суб’ект улады і магла б нават яшчэ больш пагоршыць становішча нацыі і дзяржавы.

* * *

Расейскія спэцслужбы не засталіся ў баку ад дзеяньняў супраць беларускага вызвольнага руху. БНФ стаў галоўным аб’ектам разбурэньня. На тэрыторыі Беларусі і іншых незалежных краінаў створаны дзясяткі рэзыдэнтур ФСБ, якія ажыцьцяўляюць апэрацыі супраць беларусаў, таксама ў Грузіі (замахі на Э. Шэварнадзэ), і ў іншых краінах былога СССР.

У барацьбе з дыктатарскім рэжымам і акупацыйнай палітыкай Расеі патрэбна ўзаемадзеяньне ўсяго беларускага грамадзтва. Толькі гэта ня простае ўзаемадзеяньне. Яно павінна грунтавацца на адзіным прынцыпе: *незалежнасьць і адмежаваньне ад Расеі*. (Ніякіх „саюзаў”, ніякай „інтэграцыі”, ніякіх „калектыўных бясьпек” з Расеяй.) Калі аб гэтым прынцыпе не дамовіцца, то сумесных дзеяньняў ня будзе.

Вынікова змагацца з расейскай агрэсіяй зможа толькі скансалідаванае беларускае нацыянальнае супраціўленьне. Патрэбна шырокае разуменьне небясьпекі з Усходу, каб сьведама бараніць Беларусь.

*2 лістапада 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне” і Партыі БНФ***

*Надрукавана: („Пагоня”, – 1999, 18 лістапада).*

# РАСЕЯ НАПАЛА НА ЧАЧЭНІЮ

У верасьні Расея распачала вайну з Чачэнскай Рэспублікай Ічкерыя. Амаль 200-тысячная расейская тэрарыстычная армія, узброеная да зубоў найноўшымі відамі зброі, бронетэхнікай, супэрновымі самалётамі, верталётамі, ракетамі, рэактыўнай артылерыяй, перайшла мяжу Ічкерыі, пачала бамбардаваць чачэнскія вёскі і гарады.

Гэта цынічная вераломная агрэсія супраць малалікага вольнага народу, несуразьмернае ўжываньне сілы, мэта якой – зьнішчыць увесь чачэнскі народ.

Падрыхтоўка да вайны вялася Расеяй два гады. За гэты час расейскім спэцслужбам удалося ў значнай ступені дэмаралізаваць чачэнскае грамадзтва і скампраметаваць Чачэнію у сродках масавай інфармацыі ў міжнародным маштабе, асабліва арганізуючы выкраданьне людзей і прадстаўляючы вольналюбны чачэнскі народ як бандытаў і тэрарыстаў.

*За часы 1-й чачэна-расейскай вайны* (1994-1996гг.) ***рускія забілі ў Чачэніі 100 тысячаў чалавек мірнага насельніцтва*** *(13,3 адсоткаў жыхароў), разбурылі гаспадарку і гарады і не кампэнсавалі чачэнцам за нанесеныя страты ніводнай капейкі.* Менавіта расейцы, расейскі ўрад і спэцслужбы стварылі сытуацыю, што ў Чачэніі было 80% беспрацоўных. Гэта дзіва, што гэты народ яшчэ вытрываў і неяк трымалася ўлада і краіна.

Рыхтуючыся да вайны і зьнішчэньня чачэнскага народу, расейцы зьвязвалі падрыхтоўку вайны са змаганьнем за ўладу ў Маскве. КГБ (ФСБ), які фактычна ўжо трымае палітычную (ды й эканамічную) ўладу ў Расеі і поўнасьцю кіруе Ельцыным, зрабіў перастаноўкі ва ўладзе. Быў адпраўлены ў адстаўку прэм'ер – кагэбіст **Сьцяпашын**, і на яго месца прызначаны нікому не вядомы старшыня КГБ-ФСБ **Пуцін**, які за часы СССР быў звычайным савецкім шпіёнам і кагэбісцкім функцыянерам у Нямеччыне. На Пуціна ўскладалася задача пачаць вайну і любымі спосабамі зьнішчыць чачэнскі народ. Пуцін узяўся за справу з адданасьцю службіста.

Расейскія спэцслужбы арганізавалі жудасную правакацыю, падобнай да якой мы не спатыкаем у крывавай гісторыі ўсяго ХХ-га стагоддзя. Яны ўзарвалі некалькі жылых дамоў у Маскве і іншых гарадах (у Валгадонску) і паспрабавалі зваліць гэтыя бясэнсоўныя забойствы сваіх жа людзей (загінула больш за 300 чалавек) на быццам бы „чачэнскіх тэрарыстаў". Тут жа былі разьвязаныя шалёны псіхоз нянавісьці да чачэнцаў і кампанія апраўданьня расейскай агрэсіі. Кампанія была раптам спыненая пасьля правалу ў Разані, дзе эфэсбісты рыхтавалі чарговы падрыў жылога дома разам з жыхарамі, але былі злоўленыя людзьмі і адміністрацыйнымі ўладамі падчас завозу ў дом камуфляжу выбухоўкі.

Аднак справа была ўжо зроблена, вайна ішла поўным ходам пры азьвярэлай (інакш ня скажаш) падтрымцы дзьвюх трацінаў расейскіх абывацеляў (уласна кажучы, амаль усіх расейцаў, за выключэньнем адной траціны мусульманаў, што жывуць у Расеі).

Такім чынам ***расейцы нясуць на сабе калектыўную адказнасьць за агрэсію, вынішчэньне і генацыд чачэнскага народа,*** гэтак жа як нясуць яны адказнасьць за генацыд у Афганістане, за анэксію і падрыхтоўку вайны ў Беларусі. (Ужо ёсьць плян забіцьця найбольш вядомых беларусаў, створаны спэцыяльны ваенізаваны аддзел зьнішчэньня – адна рота; адбываецца ліквідацыя палітыкаў і бізнэсоўцаў.)

Сьвет зьяўляецца сьведкам, як шэрыя людзі ФСБ літаральна па трупах ідуць да ўлады ў Расеі пры масавай падтрымцы рускага насельніцтва. Практычна, адкрыта засьведчыла пра сябе агентура ФСБ на рускім тэлебачаньні, раскрыліся ня толькі старыя, усім вядомыя тэлеагенты тыпу Кісялёва, Лявонцява ды Няўзорава. З рускага экрана паплыў такі нізкі цынічны бруд, такая нянавісьць, такая ашалелая падтрымка забойстваў, агрэсіі і вайны і такая хлусьня, якой сьвет даўно ўжо ня чуў і ня бачыў. 12-га верасьня, у пачатку агрэсіі, па рускім тэлеканале „ОРТ" загаварыў голасам „маёра НКВД" вядомы там „дыктар-дэмакрат" Дарэнка. Ён паведаміў, што на Каўказе на Расею напалі „врагі", заклікаў зьнішчаць Чачэнію і яе гарады „дывановымі бамбардыроўкамі", істэрычна, з фантамасаўскім мэталам у голасе заклінаў, што калі „мы", рускія „ня зьнішчам чачэнцаў, то яны зьнішчаць Расею".

Адкрыта выявіўся і ціхі дагэтуль дыктар „ОРТ" Павел Шарамет. Мы памятаем яго няўдалую заказную працу ў 1998 годзе ў Беларусі („Хартыя-97", інцыдэнт на Летувіскай мяжы, паказальная „адсідка" і г.д.). Цяпер Шарамет стаў рускім і загаварыў з экрана на ўвесь голас, заклікаючы забіваць чачэнцаў і „применить всю мощь руского оружия".

Падобна на тое, што ФСБ у Расеі пайшла „ва-банк", у адкрытую, на легальны захоп улады. Засталося практычна толькі забраць прэзыдэнцкую пасаду, астатняе ўжо – ў іхных руках (у тым ліку, і будучая Дума, бо ўсе выбарчыя блёкі ўзначальваюць „свае людзі"). Адбылося тое, пра што мы пастаянна кажам і пішам яшчэ з 1992-га года. КГБ стаў адзінай рэальнай палітычнай сілай у расейскім грамадзтве і адзіным рэальным трымальнікам улады. Што будзе далей – прадбачыць ня цяжка (пра гэта ўжо сто разоў напісана). Можна назваць тое „далей" рускім фашызмам, можна „кагэбізмам" (па галоўнай палітычна-апэратыўнай сіле), можна яшчэ як-небудзь, але сутнасьць ня зьменіцца: сьвет, як і раней, патураючы агрэсіі злачыннай краіны, зноў падыходзіць да пачатку вялікага ваеннага канфлікту. Пакуль што адбываецца агрэсія ў Чачэніі. Выпрабоўваецца рэакцыя сьвету на зьнішчэньне малой краіны. Заходні сьвет бязьдзейнічае, як і раней, нікчэмна трусіць перад агрэсарам, гатовы дапамагаць разбойніку. Ён толькі што здаў Чачэнію і рыхтуецца здаць Беларусь, а потым – зоймецца сваім любімым заняткам: гаварэньнем пра правы чалавека.

Але аказваецца, што правы чалавека – не для ўсіх. Чачэнцаў ня шмат – ім можна і адмовіць. Захад слухае, як расейская прапаганда крычыць пра „внутреннее дело России", якая кажа, што быццам бы яна робіць тое, што НАТО ў Сэрбіі, хоць усе добра разумеюць, што ў Чачэніі Расея робіць тое, што Сэрбія ў Косаве, толькі ў сто разоў страшней.

Пляны расейскага кагэбізму і ацэнка злачынстваў, якія ён робіць і рыхтуе, дастаткова добра вядомыя разумным людзям на Захадзе. Але яны (гэтыя людзі) ня маюць улады, і розум застаецца незапатрабаваным. Тым больш, што Захад кіруецца ня розумам, а інтарэсамі.

Зьбігнеў Бжэзінскі піша, што „крыніцы разьведкі з Сярэдняй Эўропы ў апошні час даведаліся шмат злавесных падрабязнасьцяў, якія датычаць расейскага пляну поўнага зьнішчэньня Чачэніі". *(„Rzeczpospolita", – 1999, 13-14 лістапада)*

Гэты плян, які Крэмль зь людабойным намерам уводзіць у дзеяньне, складаецца, як паведамляе З. Бжэзінскі, з трох этапаў. „Першы этап – гэта масавае бамбаваньне чачэнскіх вёсак і гарадоў, каб прымусіць уцякаць з краю ўсё цывільнае насельніцтва. Гэтая мэта ўжо ў значнай ступені дасягнута (на канец лістапада 250 тысячаў чачэнскіх уцекачоў пакінулі Чачэнію, што складае 38,4% усяго насельніцтва, – *З. П.*)

Другі этап заключаецца ў пасьлядоўным акружэньні чачэнскіх ваяроў расейскім войскам у гарадах, там, дзе чачэнцы маглі б паўтарыць сваю ранейшую пасьпяховую тактыку – уцягненьне расейцаў у непасрэдны бой і нанясеньне ім цяжкіх стратаў.

Трэці этап прадугледжвае, што на гэты раз расейцы ня будуць уступаць у вулічныя баі з акружанымі і адчайнымі чачэнцамі. Расейцы намерваюцца ўжыць супраць чачэнцаў новыя віды зброі, на падставе сумяшчэньня выбуховых і хімічных рэчываў, разам з атрутнымі газамі. Гэткім чынам яны маглі б зь бясьпечнай адлегласьці зьмесьці з твару зямлі дзясяткі тысячаў чачэнскіх ваяроў (хоць уся чачэнская армія мае ня больш 10-ці тысячаў салдат, – *З.П.*). Паводле дадзеных разьведкі, у расейскім войску ўжо ўсім раздалі супроцьгазавыя маскі.

Ёсьць пагроза страшнага людабойства з боку расейцаў. Новая зброя мае ў сабе выбуховыя матэрыялы з так званым згараючым паветрам, якія пасьля магутнага выбуху ствараюць над атакаваным абшарам запальны газавы туман, што імгненна згарае, ствараючы сьмерцяносны вакуум. У выніку такой атакі нават глыбока схаваныя чачэнцы не застануцца жывымі.

Вынікам расейскай стратэгіі будзе, коратка кажучы, людабойства, зробленае на вачах абыякава назіраючага сьвету. Гэтак жа, як і раней, міжнародная рэакцыя адпаведна прыцішаная, хоць відавочна, што перамога расейцаў у гэтай вайне будзе мець шырэйшыя і вельмі нэгатыўныя вынікі. Перш за ўсё з-за таго, што яна павялічыць нэа-імпэрыяльныя прэтэнзіі Масквы, асабліва ў асяроддзі крайніх элемэнтаў расейскай палітычнай эліты. Для расейскай палітыкі гэта будзе абазначаць вялікі крок назад. Акрамя таго, калі ня дойдзе да хуткага сканчэньня вайны ў Чачэніі, то хутчэй за ўсё пачнецца далейшая дэстабілізацыя сытуацыі на Каўказе, дзе ўжо назіраецца хаос, а плынь уцекачоў і зьвязаная з гэтым напружанасьць, верагодна, захопяць і Грузію. Ваенны посьпех у Чачэніі можа заахвоціць цьвёрдагаловых у Маскве нават да ліквідацыі Эдуарда Шэварнадзэ і падпарадкаваньня Грузіі. Падпарадкаваньне Грузіі Маскве будзе азначаць здабыцьцё Масквой непасрэднага доступу да Арменіі, якая і так ужо ад Масковіі залежыць. Улічваючы гэта, будзе адрэзаны ад Захаду Азэрбайджан і рэшта Сярэдняй Азіі. Масква здабыла б такім чынам палітычны кантроль над нафтатрубой Баку-Супса. Такія ўскладненьні для суверэнітэту Азэрбайджана і Сярэдняй Азіі ёсьць больш чым відавочныя.”*

Мы пераконваемся, што ўсё адбываецца якраз так, як мяркуецца. Бачыць гэта й Захад і, бачачы, назірае. Мы, беларусы, павінны зрабіць з усяго глыбокія высновы для сябе.

Масква даўно рыхтуе аншлюс для Беларусі. Не майма ілюзіяў: той, хто здае чачэнцаў, разважаючы сабе пра абстрактныя „правы чалавека”, той здасьць і нас, беларусаў. Чачэнцы ваююць і паміраюць і за нашу беларускую свабоду. Рускія бандыты, страляючы ў чачэнскіх сялян, жанчын і дзяцей, гэтым самым страляюць і ў нас, беларусаў. Тут адна палітыка, адзіны морд, адны злачынцы. Калі будзем сядзець і чакаць, то гэтак жа, як і чачэнцаў, руская арда пачне забіваць нас.

Тое, што робяць расейцы ў Чачэніі – гэта сапраўды людабойства, генацыд народа, злачынства супраць чалавецтва.** Такое злачынства ня можа застацца непакараным. Адказнасьць за яго нясуць усе рускія, усё расейскае грамадзтва. Гэта калектыўная адказнасьць. Злачынная імпэрыя, дзяржава-агрэсар, „скопішча зла” не павінна быць. Але спыніць, разбурыць гэтае скопішча зла могуць толькі самы народы, што трапілі ў палон каляніяльнага імпэрскага спрута.

Такія асобы, як Б. Ельцын (які двойчы падрыхтаваў крывавыя бойні ў Чачэніі), як У. Пуцін, які аддаваў загады на людабойства, як Міністар Унутраных Справаў Расеі Рушайла, які арганізаваў раней забойства Джахара Дудаева, як генэрал У. Шаманаў, п’яныя галаварэзы якога забілі больш за сорак мірных жыхароў у вёсцы Алкан’юрт, як міністар Сяргееў, генэралы Манілаў, Казанцаў, што непасрэдна выконвалі злачынныя загады і ажыцьцяўлялі забойствы мірнага насельніцтва, зьнішчалі гаспадарку, прамысловасьць і жылы фонд Чачэніі, гэтыя асобы павінны стаць перад Міжнародным судом за злачынствы супраць чалавецтва.

Прыклад Югаславіі і ў цэлым падзеі ў сьвеце паказваюць, што гэта будзе ня простай справай і, пэўна, што малаверагоднай для Міжнароднага трыбуналу. Але ў самой Расеі, абцяжаранай калёніямі і бяспраўем, высокапастаўленым забойцам, цяжка будзе пазьбегнуць кары. Крывавая гісторыя і цяпершчына Расеі сьведчаць самы пра сябе.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20). Пад псэўд. Мар’ян Ванькевіч).*

---

* „Rzeczpospolita”, – 1999, 13-14 лістапада

** Першы раз сплянаванае масавае зьнішчэньне чачэнцаў расейцы зрабілі яшчэ ў XIX-м стагоддзі ў час вайны за Паўночны Каўказ. Тады (у 1817-1864гг.) рускія выразалі, выбілі, спалілі жывымі палову чачэнскага народа, забралі і расчлянілі іхную тэрыторыю.

Другую хвалю генацыду рускія распачалі за Сталіным, калі па яго загаду ад 20-га лютага 1944 года тысячы чачэнцаў былі ня толькі забітыя за тое, што яны чачэнцы, але й увесь народ (гэтак жа, як крымскія татары) быў вывезены са сваёй зямлі ў казахскія ды сібірскія стэпы. У выніку сталінскага тэрору і рэпрэсіяў чачэнцы зноў фізічна страцілі палову народа. Але калі зьнік Сталін, чачэнцы вярнуліся (у 1957г.) на родную зямлю і адрадзілі яе.

У час трэцяй хвалі генацыду (вайна 1994-1996 гг.) рускія забілі сто тысячаў мірных чачэнцаў (13,3% насельніцтва).

Цяпер рускія кагэбісты і ўся Расея распачалі чацьвёрты этап забойства чачэнскага народа, дзе плянуюць зьнішчыць (як хваляцца генэралы) тры чацьвертых (а практычна – усіх чачэнцаў), забраць і расчлячніць рэшткі чачэнскай зямлі. – *(З. П.)*

# МЫ МУСІМ БАРАНІЦЬ БЕЛАРУСЬ

***(Выступ на 79-х угодках Слуцкага Збройнага Чыну)***

*Заканчваецца лістапад, і мы зноў адзначаем гераічную дату нашай змагарнай гісторы –* ***Слуцкі Збройны Чын****. 79 гадоў таму беларускія патрыёты Случчыны паўсталі бараніць Беларускую Народную Рэспубліку ад чырвонай расейска-бальшавіцкай навалы, якая ішла на Беларусь з Усходу.*

***Гэты Чын быў гераічным, бо быў народным і справядлівым***. Случакі не баяліся і не лічыліся, што перад імі мільённая расейская арда. Яны ведалі, што трэба бараніць Беларусь ад ворагаў, якія напалі на нашу зямлю. У спаўненьні гэтага абавязку было іхняе геройства.

Тое, што тады расейскія бальшавікі захапілі і падзялілі *Беларускую Народную Рэспубліку*, не азначала, што вайна скончылася. Мірны дагавор паміж Расеяй і *Беларускай Народнай Рэспублікай* ня быў падпісаны. *Да сёньняшняга дня Расея ў дачыненьні да Беларусі знаходзіцца ў стане вайны*. І гэта асабліва добра відаць цяпер, калі Расея, абапіраючыся на сваю марыянэтку Лукашэнку, вядзе супраць Беларусі адкрыта імпэрскую агрэсіўную палітыку, накіраваную на зьнішчэньне дзяржавы і анэксію нашай краіны.

*Расейская агрэсія, каляніяльная вайна і генацыд супраць чачэнцаў на Каўказе і інтэгратарская палітычная агрэсія ў Беларусі шляхам нахабнага падпісаньня пакту з Лукашэнкам аб ліквідацыі нашай дзяржавы – гэта ёсьць зьявы адной імпэрскай прыроды і аднаго разбойнага зьместу, толькі робяцца яны рознымі мэтадамі.*

Аднак Беларусь ужо ня тая, якая была 8 ці 5 гадоў таму. Мы добра ведаем, што такое расейская палітыка і расейскі імпэрыялізм, і ў нас ёсьць сілы, каб змагацца і бараніць нашу зямлю.

***Расея – гэта вайна, крымінал, галеча і бандытызм***. Паглядзіце, хто ў іх кіруе. Паглядзіце, якога гатунку людзі выходзяць там з аналаў КГБ ды з крымінальнага сьвету і як яны дарываюцца да ўлады. Паглядзіце, як яны літаральна ідуць па трупах. Падпал Рэйхстагу фашыстамі ў Бэрліне выглядае дзіцячай забаўкай у параўнаньні з апэрацыяй ФСБ па ўзрыве дамоў у Маскве. Больш за трыста нявінных людзей, сваіх жа грамадзянаў, узарвалі (разам з будынкамі) расейскія спэцслужбы, каб апраўдаць агрэсію і пачаць вайну ў Чачні. Паглядзіце, як яны на крыві чачэнскага народа рухаюць у расейскую палітыку сваіх крывавых стаўленьнікаў.

*Расея зноў нясе нам акупацыю і вайну. Толькі на гэты раз, я перакананы, на Беларусі яна скруціць сабе галаву.* Мы, беларусы, мусім зрабіць усё, выкарыстаць усе мірныя, законныя, прававі і палітычныя магчымасьці, каб не дапусьціць анэксіі Беларусі, падпісаньня і ажыцьцяўленьня пакту Лукашэнкі-Ельцына.

Але калі расейцы, як раней, нягледзячы ні на што, заключаць гэты пакт і пойдуць напралом, – тады мы павінны бараніць нашу незалежнасьць і нашу Бацькаўшчыну ўсімі сродкамі, у тым ліку і са зброяй у руках.

Мы павінны быць падрыхтаванымі да барацьбы з расейскім акупантам. Цяпер, у гадавіну *Слуцкага Збройнага Чыну*, на гераічнай зямлі Беларусі трэба ўсьвядоміць гэта моцна і цьвёрда, з усёй адказнасьцю за лёс і незалежнасьць нашай беларускай дзяржавы і беларускага народу. Вялікі, працавіты, здольны беларускі народ ніколі ня будзе нявольнікам энкавэдзісцкіх забойцаў і маскоўскіх крымінальных палітыканаў. ***Мы можам, зможам і мусім абараніць Беларусь.***



***69. Лістапад на Случчыне. Семежава, 1999 г.***

*28 лістапада 1999г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 6(23).*

# ЗА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ, З БОГАМ ЗА БЕЛАРУСЬ

*У канцы лістапада я адказаў на сем пытаньняў агенцтва „Белапан". Як і трэба было чакаць, ніводнае афіцыёзнае і ніводнае так званае „незалежнае" ад Лукашэнкі выданьне яго не надрукавала. Тут зьмешчана некалькі вытрымак з размовы. (З. Пазьняк).*

* * *

**Белапан:** – Якія ідэалягічныя супярэчнасьці існуюць паміж Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыяй БНФ і „рэфармаваным" БНФ, на чале з Вінцуком Вячоркам? У чым пазыцыі гэтых арганізацыяў супадаюць?

**З.П.:** – Спачатку пра „рэфармаваны" БНФ, як Вы называеце. На сёньняшні дзень юрыдычна і фактычна існуюць грамадзкая арганізацыя, рух Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і Партыя БНФ. Гэтыя арганізацыі перарэгістраваныя Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь, дакуманты аб перарэгістрацыі знаходзяцца ў мяне (дакладней у Партыі БНФ і ў руху БНФ),* кіраўніком гэтых арганізацыяў зьяўляюся я, Зянон Пазьняк. Выконваючым абавязкі старшыні на Беларусі – Юры Беленькі. Сядзіба разьмешчана па адрасу: Менск, Варвашэні, 8. Прынятая паралельная пашыраная назва Партыі БНФ: „Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – Беларускі Народны Фронт".

Рэальнае і палітычнае становішча выглядае так. 30 кастрычніка гэтага году на 2-м паседжаньні VI-га Зьезду БНФ адбылося разьмежаваньне ў Фронце. Частка дэлегатаў, разам з групай маіх былых намесьнікаў (Л. Баршчэўскі, Ю. Хадыка, В. Вячорка) пакінулі залю VI-га Зьезда і правялі свой зьезд з новым складам дэлегатаў, выбралі свайго старшыню (В. Вячорку), кіруючыя органы і аб'явілі гэта „сапраўдным зьездам БНФ і Партыі БНФ", а Фронт і Партыю, якая засталася і якой „кіруе Пазьняк" – несапраўднымі. (Спадар Л. Баршчэўскі нават напісаў на нас скаргу ў Міністэрства юстыцыі.)

Наступнымі крокамі гэтай актыўнай групы Фронту быў захоп сядзібы БНФ па вул. Варвашэні, 8 і інфармацыйная вайна, якую падхапіў поўнасьцю ўвесь так званы „незалежны" ад Лукашэнкі рускамоўны друк, газэта „Наша Ніва", часткова – радыё „Свабода" і іншыя СМІ.

Сытуацыя тыповая і стандартная. Спачатку робіцца разьяднаньне, потым – сутыкненьне. Вынік – крах усяго. На Украіне такая апэрацыя супраць Руху (з выкарыстаньнем украінскага тэмпэрамэнту) была праведзена ўзорна. За 10 месяцаў пасьля расколу і змаганьня між сабой падтрымка Руху зьнізілася з 20-25 да 2-3 адсоткаў. На прэзыдэнцкіх выбарах у лістападзе Рух ужо ня быў палітычнай сілай.

Трэба ўлічыць, што і на Беларусі, і на Украіне супраць нацыянальна-вызвольнага руху ўжываецца аднолькавае клішэ. Цяпер галоўная задача ў Фронце – не дапусьціць сутыкненьня. Таму я не камэнтую ніякіх „несупадзеньняў пазыцыяў" і ніякіх „ідэалягічных супярэчнасьцяў". Мы пра гэта прынцыпова не гаворым, не крытыкуем, не рэагуем, не адказваем на закіды і г.д. Мы робім гэта аднабакова і чакаем, калі спадзе эйфарыя ў нашых „рэвалюцыянераў".

Мы ведаем дастаткова шмат і пра ўнутраныя прычыны расколу, і пра разбуральную дзейнасьць заходніх рэсурсных фондаў, і пра шпіёнскую дзейнасьць Ганса Віка, і пра працу расейскіх спэцслужбаў, але не зьбіраемся ні ў якой форме цяпер гэта абмяркоўваць.

Цяпер за кансэрватыўнай часткай Фронту засталося 70 адсоткаў структураў, сяброў Партыі і руху, і больш 80 адсоткаў – па Менску. І тым ня менш, шмат што трэба пачынаць спачатку. Аналягічная сытуацыя і ў „рэвалюцыйнай" (прагматычнай) часткі фронтаўцаў.

Усе мае прапановы па адзінству і кансалідацыі, па кааліцыйных, сумесных дзеяньнях і каардынацыйнай арганізацыі БНФ пакуль што былі адкінутыя „рэвалюцыйнымі" кіраўнікамі. Зразумела, што цяпер гэтым людзям нешта хочацца зрабіць і даказаць у рэчышчы свайго разуменьня. Гэта непазьбежна. Але калі не дапусьціць канфліктнага самазьнішчэньня, то, магчыма, – у пэрспэктыве шмат што вырашыцца само сабой.

У самых агульных рысах магу сказаць, што істотных ідэалягічных разыходжаньняў пакуль што, фактычна, амаль няма. Ёсьць розныя падыходы і погляды на шляхі дасягненьня мэты.

Мы, з свайго боку, як і раней, выступаем за шырокі кааліцыйны салідарны і адкрыты Фронт як вызвольны рух за незалежнасьць Беларусі, супраць акупацыйнай дыктатуры і расейскай палітычнай агрэсіі з Усходу.

Мы, адраджэнцы, лічым, што гэтакі Фронт павінен ня менш, як на дзьве трацiны, быць аб'яднаным у рэальную адраджэнскую палітычную партыю. З гэтай мэтай на IV-м Зьезьдзе мы пераўтварылі парляманцкую Партыю БНФ у рэальную палітычную арганізацыю і абазначылі яе палітычную нішу (паралельная назва).

Мы рыхтуемся праводзіць канцэптуальную плянавую палітыку, бо бачым, што адны пратэсты не даюць рашаючага выніку.

Неабходна стварыць рэальную альтэрнатыву дыктатуры ў канкрэтных ідэях, формах, структурах улады і асобах. Пры гэтым – правесьці мабілізацыю нацыянальна-вызвольных сілаў (акцыя „Грамадзянства БНР" і інш.)

Масавы пратэст павінен мець рэальнае палітычнае разьвіцьцё і дзеля гэтага ён і падрыхтоўваецца. Трэба пазьбегнуць сытуацыяў пэрманентнай паразы.

**Белапан:** – Як бы Вы пракамэнтавалі той факт, што большасьць сяброў „Маладога Фронту" засталіся ў „рэфармаваным БНФ"?

**З. П.:** – Маладыя маюць тую асаблівасьць, што яны ўвесь час растуць. Таму тут у мяне не ўзьнікае ніякіх засьцярог. У 20 гадоў ня мае значэньня, у якой беларускай арганізацыі яны будуць знаходзіцца – галоўнае, каб, як казаў Каліноўскі, – любілі б беларускую мову, Бога і Беларусь. А ўвогуле, маладыя павінны мець свае арганізацыі асобныя ад партыяў. І гэта ёсьць абавязковае правіла.

**Белапан:** – За час, праведзены ў эміграцыі ў ЗША Вы мелі магчымасьць пазнаёміцца з палітычнай сістэмай гэтае краіны. Якія мэханізмы амэрыканскай сістэмы і заходняй лібэральнай дэмакратыі ўвогуле, на Вашую думку, могуць прыжыцца ў Беларусі? Якія каштоўнасьці заходняй лібэральнай дэмакратыі было б карысна і якія шкодна прыўнесьці ў сучаснае беларускае грамадзтва?

* Пазьней Мін'юст пераіграў ўсё навыварат, зарэгістраваўшы адначасна дзьве арганізацыі БНФ; потым скасаваў першую рэгістрацыю і заблытаў юрыдычныя аспэкты справы. Аднак з боку КХП – БНФ гэтую мін'юстаўскую тактыку нацяжак і сутыкненьняў адразу разгадалі і пакінулі іхны праект „двух Франтоў" бяз дзеяньня і працягу. – *(З. П.)*




(Фота Я. Шатохіна)

*70. З шчасьцем у будучыню. Пінск, 1997 г.*

**З.П.:** – Гэта асобная размова. Тут розныя жыцьцёвыя ўстаноўкі людзей. Беларус арыентуецца на працу. Амэрыканец – на бізнэс. У беларуса – галоўнае сям'я і ўсё, што да яе. У амэрыканца – свабода асобы і ўсё, што да асобы. Беларус шукае ў жыцьці шчасьця. Лібэральны амэрыканец – грошай і задавальненьняў. Амэрыканец будзе рабіць, як разумее і як трэба. Беларус разумее, як трэба, але робіць, як хочацца. І г.д.

Мяркую, што ў Беларусі прыжывецца тое, што зьвязана з усталяваньнем парадку. Менавіта: сістэма паліцыі, спэцслужбаў, падаткавай інспэкцыі, арганізацыя дзяржаўнай службы і інш. Калі казаць пра арганізацыю амэрыканскага бізнэсу і гандлю, то пераўноўваць яго з узроўнем Усходняй Эўропы ўвогуле нельга. Ён на парадак вышэй.

Што датычыць лібэралізму ў сацыяльнай культуры, то гэта такая бактэрыя, якая ўсюды знойдзе месца, дзе толькі ёсьць чалавечыя заганы. Калі Ўсход заражаны камунізмам, то Захад – лібэралізмам. (І яшчэ невядома, што горай.) Мы, магчыма, сутыкнёмся зь лібэральнай эпідэміяй, калі будзем не крытычна і бяздумна ўсё заходняе пераймаць.

У нас, у беларусаў (тут, на Захадзе, я гэта яскрава заўважыў), засталося ў натуры шмат таго, што называецца „Дар Божы", чаго на Захадзе ўжо не відаць і чаму яны ўжо не навучацца. Гэты Дар Божы нацыя перакрэсьлівае адной заганай – п'янствам. На Захадзе такога няма.

Любыя эканамічныя праграмы, любыя дзяржаўныя пляны, любыя дзяржаўныя дзеяньні, якія мы калі-небудзь зьбіраемся плянаваць, павінны прадугледжваць захады, накіраваныя на зьмяншэньне п'янства. Інакш – мы будзем плянаваць, як лепш, а мець – як заўсёды. І Амэрыка тут не дапаможа.

*Лістапад 1999 г.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 6(23).*

# 2000

## ПАЧАЎСЯ НОВЫ ГОД, РЭЖЫМ ЯШЧЭ ЛІПІЦЬ

Настаў 2000-ны год. Заканчваецца страшнае, цяжкое і крывавае XX-е стагоддзе. Але ўсё працягваецца. Яшчэ рана падводзіць вынікі, бо апошні 2000-ны год можа прынесьці вызначальныя падзеі і вялікія перамены. Для нас, беларусаў, ён можа нават стацца канцом незалежнасьці. Хаця, па сутнасьці, захаваць незалежнасьць і прагнаць Лукашэнку так лёгка і гэтак проста. Трэба толькі воля беларусаў.

Але воля, як талент: альбо ёсьць, альбо няма. Гісторыю Беларусі, як заўсёды, рухае і ратуе актыўная меншыня.

1999 год быў годам стратаў. Страцілі людзей, страцілі магчымасьці, страцілі час. Зганьбаваныя асобы і працаўнікі.

У інфармацыйнай сфэры – поўнае дамінаваньне афіцыёзных СМІ і агентурных недзяржаўных газэтаў, якія, гуляючы ў апазыцыю, з абодвух бакоў змагаюцца з *БНФ* і зь беларускім вызвольным рухам.

У палітычным сэнсе істотнае значэньне мела тое, што шляхам арганізацыйнага разьмежаваньня кансэрватыўнай і лібэральнаапартуністычнай частак у БНФ, удалося ўратаваць беларускі вызвольны рух ад поўнага разбурэньня, самазьнішчэньня і перараджэньня. Для будучыні Беларусі гэта была цэнтральная падзея і галоўная палітычная драма года.

*20-га ліпеня скончыўся прэзыдэнцкі тэрмін Лукашэнкі. Далейшыя дзеяньні гэтага чалавека кваліфікуюцца як узурпацыя і незаконны захоп улады. У гэтай сувязі важнай падзеяй года зьяўляецца ўзбуджэньне Генеральным Пракурорам Беларусі **Р. Пракаповічам*** крымінальнай справы па факту незаконнага захопу ўлады. Усчата сьледства па справе.*

Небясьпечнай і неадназначнай падзеяй года зьяўляецца арганізацыя перамоўнага працэсу паміж прадстаўнікамі антылукашэнкаўскай апазыцыі і выканаўчай уладай рэжыму. Насьцярожвае тое, што заходнія лібэральныя палітыкі з АБСЭ, якія ўзялі ў свае рукі арганізацыю перамоваў, фактычна, кіруюць імі і за галоўную задачу паставілі дамагчыся „дэмакратычных" выбараў пры дыктатарскім рэжыме, не высьвятляючы, куды, у які ворган будуць гэтыя выбары, па якім законе, згодна зь якой Канстытуцыяй.

*Аднак у кішэнны „парлямант" дыктатара бяссэнсоўныя выбары (тым больш – па яго нелегальных „законах", адміністрацыйным ціску і антыпраўнай канстытуцыі.*

Практычна, заходнія „дабрадзеі" з АБСЭ мяркуюць, едучы на плячах недальнабачнай апазыцыі, легалізаваць рэжым Лукашэнкі, маючы на ўвазе свае (нямецкія, французкія і г.д.) дачыненьні з Масквой, якіх яны ня хочуць псаваць ні з-за Беларусі, ні з-за Чачэніі, і ні за якія чужыя для іх ахвяры.

*1999 год добра засьведчыў, што ня трэба шмат спадзявацца на Захад. У нас існуе вялікая гісторыя дачыненьняў з Захадам. Ёсьць над чым задумацца.*

Цяпер Захад чырвона-ружовы, сацыялістычны і лібэральны, яму чужыя ідэі нацыянальнай свабоды, вызвольныя рухі і маральныя, народныя правы чалавека. Ён трымаецца за свае, ужо ў значнай ступені збанкрутаваныя, лібэральныя каштоўнасьці і сьлепа лічыць іх вяршыняй культуры.

Беларусь ужо доўгі час знаходзіцца пад прыцэлам расейскай імпэрскай палітыкі і расейскай агрэсіі. Таму падзеі, што адбываюцца за межамі Беларусі, часта маюць для нас вызначальна істотнае значэньне і сьведчаць аб палітычнай слабасьці нашай краіны.

Такой ***істотнай падзеяй ня толькі для нас, але і для ўсёй Эўропы, ёсьць усталяваньне ўлады кагэбізму ў Расеі.*** КГБ быў палітычнай асновай КПСС. Таму вельмі хутка павінна адбыцца палітычнае аб'яднаньне цяперашніх рускіх кагэбістаў з камуністычнай намэнклятурай. Аднак дамінаваць будзе КГБ, які прыйшоў да ўлады на правакацыях (узрывы жылых дамоў), на вайне ў Чачэніі і на падступным супрацоўніцтве зь Ельцыным (якога, скарыстаўшы, адправілі ў адстаўку).



***71. Сьнегавік.***

Расейская палітыка правакацыяў, агрэсіі і вайны будзе працягвацца, і першай ахвярай кагэбісцкага таталітарызму ў Расеі можа стаць пасьля Чачэніі Беларусь. Пляны захопу Беларусі дэталёва распрацаваныя і крок за крокам ужо даўно ажыцьцяўляюцца. Пры пэўных абставінах (якія створаць) будзе зьменена падпарадкаваньне беларускіх узброеных сілаў і ўведзена на Беларусь расейскае войска. Вядома, пры ўмове, што беларусы ня здымуць ружовыя акуляры і так і не прачнуцца ад паранойнага сну. Бо Бацькаўшчыну трэба абараняць, а акупантаў – зьнішчаць. Дзеля гэтага створана і існуе Беларуская Армія, каб бараніць народ, тэрыторыю, дзяржаву і сувэрэнітэт Беларусі.

Наперадзе ў нас цяжкая праца па аднаўленьні беларускага Адраджэньня і па абароне незалежнасьці Беларусі. Але першачарговай умовай выратаваньня незалежнасьці Беларусі ёсьць ліквідацыя бяспраўнага антыбеларускага рэжыму. Мы павінны супрацьпаставіць акупацыі нашу *Беларускую Салідарнасьць* і як найхутчэй разьвітацца з рэжымам Лукашэнкі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999/2000, № 1(24).*

* Прызначаны Вярхоўным Саветам (апазыцыйным) 13-га скліканьня. – *(З. П.).*

# БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ

*(Зварот да беларускага народу)*

31 сьнежня 1999 года адбыўся легальны канстытуцыйны пераварот у Расеі. Адпраўлены ў адстаўку прэзыдэнт Б.Ельцын. Улада цалкам перайшла ў рукі КГБ-ФСБ пры поўнай капітуляцыі расейскіх палітычных элітаў і расейскага грамадзтва.

„Кагэбізм", які крок за крокам фармаваўся і йшоў да ўлады ў Расеі на працягу апошніх сямі гадоў (пачынаючы ад няўдалага путчу ў 1991-м годзе), ёсьць ***надзвычай жорсткі тып рускага фашызму з акрэсьленай вялікадзяржаўнай імпэрскай ідэалёгіяй і крымінальнай палітыкай***. Характэрнасьць яго дзеяньняў – поўнае ігнараваньне каштоўнасьці чалавечага жыцьця, тэрарыстычнае (крымінальнае, пазазаконнае) вынішчэньне элітаў, палітычная і ваенная агрэсія, стаўка на сілу і вайну.

Два гады рускія спэцслужбы КГБ-ФСБ рыхтавалі напад на Чачэнію і канчатковы захоп улады ў Расеі ў 1999-2000 гг. Былі арганізаваныя правакацыі і праведзеная масавая прапагандысцкая кампанія па кампрамэтацыі Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя. У верасьні 1999 года, каб аргумантаваць напад на Чачэнію, КГБ-ФСБ узарваў жылыя дамы (разам з жыхарамі) у Маскве і іншых гарадах Расеі і паспрабаваў зваліць гэта на чачэнцаў. Тут жа была ўведзена цэнзура ў сродках масавай інфармацыі, распачата агрэсія і вайна ў Чачэніі.

З увядзеньнем цэнзуры і ліквідацыяй свабоды слова ў дачыненьні да падзеяў расейска-чачэнскай вайны былі спыненыя і без таго слабыя дэмакратычныя працэсы ў Расеі. „Інфармацыю" аб вайне ў Ічкерыі (дакладней – дэзынфармацыю) даюць толькі агенты спэцслужбаў (пад выглядам журналістаў) ды генэралы, што вынішчаюць чачэнскі народ.

Пад уплывам дэзынфармацыі і прапаганды 70 адсоткаў насельніцтва Расеі* падтрымалі агрэсію, вайну і зьнішчэньне Чачэніі. Рускае насельніцтва стала саўдзельнікам у злачынстве і закладнікам кагэбісцкай каманды, што захапіла ўладу ў Расеі.

Тое, што расейскія спэцслужбы арганізавалі ў Беларусі ў 1994-1996 гг., тое сталася і ў Расеі. Расея атрымала свайго Лукашэнку, такога ж самага, толькі без псіхапатыі і доўгага гаварэньня. Усё астатняе (у тым ліку і прэзыдэнцтва) – справа спэцыяльнай тэхналёгіі і кароткага часу.

Гісторыя таталітарызму рухаецца па сваіх законах і сьведчыць, што ***калі з разбурэньнем таталітарнай улады не ліквідаваць сістэму яе спэцслужбаў, то яны ператвараюцца ў самастойную палітычную сілу, якая захоплівае ўладу,*** і ўсё пачынаецца спачатку, толькі ў іншым варыянце.

Пра расейскі варыянт гэбізму я ўжо сказаў: ***імпэрыялізм, палітычная агрэсія і вайна.*** Гэтыя людзі прыйшлі да ўлады па трупах чачэнцаў і сваіх жа рускіх грамадзянаў, ішлі на ашуканстве, агрэсіі і вайне. На гэтым яны будуць і трымацца.

Ельцына, які заграз у злачынствах, ваенных забойствах, грашовых апэрацыях і гарэлцы, прымусілі сыграць ролю Гіндэнбурга ўзамен за нікчэмны ўказ аб ягонай недатыкальнасьці, а Захад робіць выгляд, што задаволены, пляскае ў далоні Ельцыну і новай уладзе. ***Узьнікае пагроза ня толькі для незалежнасьці Беларусі, але ў пэрспэктыве – і для Украіны, Грузіі, Малдовы, Балтыйскіх краінаў.***

Напрыканцы XX-га стагоддзя Захад зноў пацьвярджае сваё палітычнае згодніцтва, трусасьць і поўнае неразуменьне Расеі. Ніякіх высноваў з крывавай гісторыі стагоддзя ня зроблена. Быццам не было ні Мюнхэну, ні Ялты, ні аншлюсу Аўстрыі, ні здачы Чэхаславаччыны, ні пакту Молатава-Рэбентропа, ні гонкі ўзбраеньняў, ні халоднай вайны. Усё забыта. Пад звон пустых заяваў прададзена шматпакутная і гераічная Чачэнія (хоць усе бачаць, што рускія вытвараюць у Чачэніі тое, што сербы ў Косаве), рыхтуецца здача Беларусі.

Праз тры месяцы (пасьля правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў і канстытуцыйнага замацаваньня ўлады кагэбізму ў Расеі) акупацыя і аншлюс Беларусі можа набыць яшчэ больш грубыя і цынічныя формы пры трусьлівым маўчаньні заходняга сьвету.

***Для нас, беларусаў, цяпер няма больш важнай задачы, чым неабходнасьць абараніць нашу дзяржаву і незалежнасьць. У гэтым – пытаньне жыцьця і сьмерці, пытаньне існаваньня беларускай нацыі.***

Каб абараніць незалежнасьць, мы мусім ліквідаваць незаконны рэжым і рэальна вярнуць законнасьць улады. Адзінымі законнымі ворганамі і прадстаўнікамі канстутуцыйнай улады ў Беларусі зьяўляюцца недзеяздольны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня (каля 40-ка дэпутатаў) і старшыня Вярхоўнага Савету *Сымон Шарэцкі*, які ўмоўна выконвае функцыі Прэзыдэнта Беларусі (і гэтакі ж недзеяздольны).

Каб прывесьці ў рух мэханізм нядзейнай, але законнай улады, беларусы мусяць быць салідарнымі ў абароне незалежнасьці і ў змаганьні з незаконным рэжымам. *Беларускі Народны Фронт і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* зьвяртаюцца да народа з заклікам падтрымаць *бесперапынную акцыю* ***„Беларуская Салідарнасьць"*** і выступіць у абарону незалежнасьці, свабоды і суверэнітэту Беларусі перад пагрозай з Расеі.

***Пагроза нацыянальнаму існаваньню павінна аб'яднаць усіх беларусаў.*** Мы, беларусы, мусім салідарызавацца на аснове нашых духоўных народных і дзяржаўных каштоўнасьцяў і рыхтавацца да змаганьня за незалежнасьць і свабоду ўсімі даступнымі сродкамі, усюды, дзе мы ёсьць: у войску і ў вучэльні, у міліцыі і на транспарце, у адміністрацыі і ля станка. ***Мы мусім змагацца, калі хочам быць.***

*Беларуская Салідарнасьць* дапаможа нам арганізавацца. *Беларуская Салідарнасьць* дапаможа нам стаць моцнымі і абараніць сябе. Падтрымлівайце, стварайце, мацуйце *Беларускую Салідарнасьць*! Арганізоўвайце акцыі, мерапрыемствы, маніфэстацыі і працу *Беларускай Салідарнасьці. Гэта будзе тое асяроддзе, зь якога вырастуць структуры ўлады і структуры змаганьня.*

Пачынаецца 2000-ны год – апошні год крывавага XX-га стагоддзя. Няхай жа гэты апошні год будзе для беларусаў і для чачэнцаў літасьцівым і Боскім, няхай абароніць наш Род і наш Дом, і прынясе Свабоду!

*1 студзеня 2000 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне" і Партыі – БНФ***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999/2000, № 1(24); „Пагоня". – 2000 г., 10 лютага. Пад загалоўкам: „ ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА"*

* Астатнія 30% – гэта у асноўным мусульмане, будысты і іншыя нярускія. – *(Рэд.)*

# ДА ПАЛІТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ І ЛЮДЗЕЙ ДОБРАЙ ВОЛІ

Увесь сумленны сьвет мусіць быць салідарны з чачэнскім народам. Свабодалюбны, шматпакутны і гераічны чачэнскі народ, што стаў ахвярай расейскай агрэсіі, абараняе асноўныя каштоўнасьці чалавека: жыцьцё, свабоду, Бацькаўшчыну. Чачэнскі народ на сваёй спрадвечнай зямлі бароніць яе ад расейскіх калянізатараў і акупантаў. ***Уся праўда і ўсё права – Боскае і чалавечае – на баку чачэнцаў.***

Тыя, хто здалі, прадалі Чачэнію, тыя, што дапамагаюць рускім карнікам і прадаўжаюць яшчэ гаварыць пра правы чалавека, тыя – ня маюць больш права гаварыць пра правы чалавека. Адносіны між людзьмі будуюцца па законах справядлівасьці і маралі, а не на дэмагогіі і падвойных стандартах.

Я зьвяртаюся да сумленных людзей і да палітычных арганізацыяў сумленных людзей і заклікаю выступіць з ініцыятывай падтрымкі шматпакутнай Чачэніі і яе змагароў за свабоду. Чачэнскім салдатам патрэбна зброя і боепрыпасы; чачэнскай арміі – дабраахвотнікі ўсяго сьвету; чачэнскім уцекачам – цёплыя рэчы, харчаваньне, лекі, медыкаменты, жыльлё; усёй Чачэніі – мір і незалежнасьць.

*Неабходна арганізаваць ціск на парляманты і ўрады краінаў і прымусіць іх пачаць рэальныя дзеяньні па абароне чачэнскага насельніцтва ад вынішчэньня, па спыненьні рускай агрэсіі і вайны.*

Сьвет ня можа бязьдзейнічаць. Рускія калянізатары на вачах усяго чалавецтва праводзяць вынішчэньне малалікага свабадалюбнага народа, які легальным шляхам усенародна выказаўся за незалежнасьць і даказаў гэта, сваёй крывёй баронячы свабоду. ***Тое, што робяць расейскія генералы і руская тэрарыстычная армія ў Чачэніі, – гэта варварства, злачынства супраць чалавецтва, несуразьмернае ўжываньне сілы***. Яны зруйнавалі гаспадарку, прамысловасьць, жылы фонд краіны, зьнішчылі сродкі існаваньня чачэнцаў, выгналі за межы бацькаўшчыны трэць насельніцтва (250 тысячаў), разбураюць вёскі і гарады, пастанавілі зраўняць з зямлёй сталіцу Чачэніі. У 1994-1996 гг. яны забілі 100 тысячаў мірных чачэнцаў (13% насельніцтва), дзясяткі тысячаў ужо забілі цяпер.

Калі цывілізаваны сьвет ня здолее цяпер абараніць справядлівасьць і чачэнскі народ ад варварства і вынішчэньня, калі і надалей будзе бяспрынцыпна лічыць Расею за дэмакратычную краіну (дзе, дарэчы, уведзена ваенная цэнзура і вядзецца масавая дэзынфармацыя насельніцтва) – тады пра якую справядлівасьць, пра якую маральную палітыку і ўвогуле – пра якія нармальныя дачыненьні можна будзе гаварыць.

*Неабходна запатрабаваць ад урадаў і міжнародных арганізацыяў тэрмінова перастаць выдаваць крэдыты, спыніць інвестыцыі і ўсялякую фінансавую дапамогу Расеі.* ***Расея ёсьць краіна-агрэсар***, *якая ўжывае хімічную зброю супраць чачэнскага насельніцтва і пагражае ўжываць атамную зброю ў лякальнай вайне. Такая краіна ня можа быць сябрам Рады Эўропы і сябрам Рады Бясьпекі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Захад павінен арганізаваць эканамічныя санкцыі супраць Расеі, спыніць фінансаваньне і ўтрыманьне агрэсіўнай дзяржавы*.

Да ўлады ў Расеі прыйшоў савецкі КГБ. Гэта „партыя вайны", выраблены гатунак рускага фашызму, ідэалёгія якога – вялікадзяржаўнасьць і рускі імпэрыялізм. Функцыянэры яго ідуць па трупах, і пасьля захопу Чачэніі плянуюць акупацыю Беларусі і Летувы.

З болем, трывогай і надзеяй гляджу на Беларусь – чарговую ахвяру крывавага рускага кагебізму. Агрэсія ў Чачэніі, дыктатура і падрыхтоўка аншлюсу Беларусі – гэта ёсьць адна імпэрская каляніяльная кагебісцкая палітыка, якая праводзіцца (пакуль што) рознымі мэтадамі.

Недальнабачнасьць урадаў Захаду, іхняе хранічнае неразуменьне Расеі ўражвае, ня можа не зьдзіўляць.

Сумленныя людзі дэмакратычнай Эўропы, аднак, маюць магчымасьць уплываць на паводзіны сваіх урадаў. Неабходна спыніць у пачатку разьвіцьцё агрэсіі і вырошчваньне новага злачыннага рэжыму на Усходзе. Мы ўсе – людзі добрай волі – павінны зрабіць правільныя высновы з крывавай гісторыі XX-га стагоддзя.

*19 студзеня 2000г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999/2000, № 1(24).*

# АКУПАЦЫЙНАЯ АДМІНІСТРАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ

Працягваецца выцясьненьне беларусаў з кіраўніцтва на ўсіх узроўнях улады і гаспадаркі. На беларускіх начальнікаў рэжым Лукашэнкі і руская разьведка ў Беларусі заводзяць уяўнае (ці праўдападобнае) дасье і нават крымінальныя справы, пра якія „вертыкальшчыкі"-беларусы ня ведаюць. (Ды каб і ведалі, то, з прычыны адсутнасьці нацыянальнага паняцьця ў галаве, не зразумелі б, што ў выпадку захопу ўсім ім будзе канец.)

Верхавіна расейскай акупацыйнай адміністрацыі ў Беларусі выглядае так:

– Кіраўнік адміністрацыі **Лукашэнка – савецкі русафіл і беларусафоб,** маёр памежных войскаў савецкага **КГБ**;

– Прэм'ер міністар **Ярмошын – рускі**, выхадзец **з Расеі**, афіцэр **КГБ**;

– Першы віцэ-прэм'ер **Кабякоў – рускі**, выхадзец **з Расеі**, **КГБ**;

– Віцэ-прэм'ер па культуры і адукацыі **Замэталін – рускі**, выхадзец **з Расеі**, палкоўнік **КГБ, ФСБ**;

– Віцэ-прэм'ер і Міністар Замежных справаў **Латыпаў – рускі**, выхадзец **з Расеі**, палкоўнік **КГБ**;

– Міністар Унутраных справаў **Сівакоў – рускі**, выхадзец **з Расеі**, **маскоўскі** генэрал;

– Міністар Абароны **Чумакоў – рускі**, выхадзец **з Расеі**, **маскоўскі** генэрал;

– Міністар адукацыі **Стражаў – рускі**, выхадзец з **Расеі**;

– Міністар Юстыцыі **Варанцоў – рускі**, выхадзец з **Расеі**;

– Галоўнакамандуючы Ўнутранымі войскамі ў Беларусі **Жадобін – рускі**, **паталягічны беларусафоб,** выхадзец **з Расеі**, **маскоўскі** генэрал;

– Намесьнік старшыні КГБ **Ерын – рускі**, выхадзец **з Расеі**, **маскоўскі** генэрал **ФСБ**.

Службовы пэрсанал гэтага „ўраду" абстаўлены рускімі разьведчыкамі і агентамі КГБ-ФСБ. Такое ж самае „вымываньне" беларусаў адбываецца па ўсёй сістэме ўлады ў Беларусі, ва ўсіх кіруючых галінах гаспадаркі і выяўляе апераджальнасьць працэсу акупацыі перад усімі іншымі палітычнымі контрпрацэсамі на Беларусі. Сытуацыя, як думаюць некаторыя назіральнікі, ўсё больш і больш паказвае на высьпяваньне неабходнасьці рашучай барацьбы супраць акупантаў. Згодна меркаваньняў некаторых беларускіх палітыкаў і грамадзянаў Беларусі, калі рускім гэбістам удасца канчаткова аформіць чарговы пакт „Молатава-Рыбэнтропа" ды абдурыць Захад, то ваяваць прыдзецца, як чачэнцам, – з усёй гнілой Расеяй.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 2(25). Пад псэўд. Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ).*

# НЯ БУДЗЕ РАСЕЯ ПЛЯВАЦЬ НАМ У ТВАР

***(Ліст да суайчыньнікаў на Беларусі і за межамі Бацькаўшчыны)***

25 Сакавіка, ў дзень найвялікшага сьвята беларускага народу – Дня Незалежнасьці – у Менску адбылося грубае ўжываньне сілы рэжымам Лукашэнкі. На вуліцы горада былі выведзеныя ўнутраныя войскі ў колькасьці некалькіх тысячаў салдатаў, тысячы міліцыянтаў, некалькі дзясяткаў адзінак бронетэхнікі, вадзяныя гарматы, спэцгрупы з агрэсіўнымі сабакамі (ротвэлеры, аўчаркі). Усё гэта – супраць мірных беларускіх дэманстрантаў. *Напад войскаў і міліцыі на людзей адбыўся да пачатку дэманстрацыі і суправаджаўся жорсткім і безаглядным зьбіцьцём усіх без разбору – старых, непаўналетніх, жанчынаў, удзельнікаў і няўдзельнікаў дэманстрацыі, дыпляматаў і журналістаў.* Салдаты з замаскаванымі тварамі нападалі таксама мэтанакіравана на вядомых палітычных дзеячоў беларускага вызвольнага руху. Гэтак было схоплена амаль усё кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, а выконваючы абавязкі старшыні БНФ ў Беларусі ***Юры Беленькі*** быў жорстка зьбіты замаскаванымі бандытамі ў міліцэйскай форме. Ён атрымаў сур'ёзныя раненьні галавы і знаходзіцца цяпер на лячэньні.



***72. Народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі. Зь лева на права: сядзяць – А. Бурбіс, Я. Серада, Я. Варонка, В. Захарка; стаяць – А. Смоліч, П. Крэчэўскі, К. Езавітаў, А. Аўсянік, Л. Заяц. Менск. 1918 г.***

Брутальна зьбілі таксама намесьніка старшыні Вярхоўнага Савета ***Анатоля Лябедзьку***. Спэцыяльна навучаныя салдаты атрымалі адпаведны загад, і для іх не існавала ніякай адказнасьці і ніякіх перашкод.

Стала вядома таксама, што прэм'ер-міністар Расеі і выконваючы абавязкі прэзыдэнта Расеі У. Пуцін меў раніцай 25 сакавіка тэлефонную сувязь з А. Лукашэнкам і абмяркоўваў зь ім дэталі вайсковай апэрацыі ў Менску. Было схоплена больш за 500 асобаў, якіх інтэрнавалі ў вайсковыя часткі, спартыўныя залі і стадыёны, замкнулі ў арыштах. Прытым ніякага парушэньня грамадзкага парадку з боку насельніцтва не было. Людзей білі і хапалі яшчэ да пачатку дэманстрацыі.

Зьбіцьцё мірных людзей у Менску па загаду *Лукашэнкі* і Міністра ўнутраных справаў *Сівакова* ня можа застацца беспакараным.

З таго, што адбылося 25 сакавіка ў Менску, стала зразумела, што агрэсіўная сілавая апэрацыя супраць шэсьця ў гонар Дня Незалежнасьці ўзгаднялася з Масквой.

Прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі адкрыта прадэманстраваў свой акупацыйны характар, поўнае ігнараваньне беларускай грамадзкай думкі, пазыцыі Захаду і міжнароднай супольнасьці. Масква, абапіраючыся на Лукашэнку, яшчэ раз дэманстратыўна засьведчыла і дала зразумець, што ў палітыцы інкарпарацыі Беларусі ў Расею гэтак жа, як і ў вайне з Чачэніяй, яна ня спыніцца ні перад чым.

Ніякіх „дыялёгаў", ніякіх „перамоваў" з вызвольнай беларускай апазыцыяй рэжым Лукашэнкі не зьбіраўся і не зьбіраецца праводзіць. Стваралася імітацыя, гаварыльня, выгадная дыктатуры, каб паралізаваць апазыцыю, выйграць час і правесьці свае выбары ў свой кішэнны „парлямант" любым спосабам і любым мэтадам. І потым – зацьвердзіць аншлюс у новым квазіпарляманце.

Пасьля расправы 25 сакавіка ў Менску і неадэкватнага ўжываньня сілы Лукашэнкам – ніякіх гульняў у „дыялёгі" з рэжымам больш ня можа быць.

*Нельга правесьці дэмакратычныя выбары ва ўмовах дыктатуры. Нельга пры дыктатары (які разагнаў законны парлямант, адмяніў законную Канстытуцыю і выконвае імпэрскія мэты Масквы) стварыць дэмакратычны парлямант. Дзеля гэтага трэба ліквідаваць рэжым і выгнаць дыктатара.*

Беларуская апазыцыя мусіць стварыць законную ўладу і надаць выступам супраць нелегальнай улады канкрэтны палітычны і юрыдычны зьмест. Парлямант існуе ня толькі дзеля міжнароднага прадстаўніцтва. Даўно з апорай на Беларускі вызвольны рух трэба было стварыць законны Ўрад, канстытуцыйныя органы ўлады, неабходныя міністэрствы і адміністрацыю Спаўняючага функцыі Прэзыдэнта. Крымінальнае сьледзтва па справе аб незаконным захопе ўлады ў Беларусі, распачатае Генэральным Пракурорам Беларусі Рыгорам Пракаповічам, павінна мець лягічнае завяршэньне. Дзеля гэтага ёсьць усе фармальныя магчымасьці, ёсьць жаданьне людзей да пераменаў, не хапае толькі волі палітыкаў.

Беларускі Народны Фронт і яго Кансэрватыўна-Хрысьціянская Пратыя – БНФ 30 сакавіка выступілі з заявай, дзе прапанавалі ўсім беларускім партыям і арганізацыям скансалідавацца на галоўнай задачы – абароне незалежнасьці Беларусі ад расейскай агрэсіі і выказаць патрабаваньне да Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, яго Старшыні і Спаўняючага функцыі Прэзыдэнта Беларусі Сымона Шарэцкага *„тэрмінова прыняць рашучыя захады па стварэньні законнага Ўраду і іншых уладных органаў” Беларусі.*

Беларусы мусяць хутчэй пазбаўляцца ілюзіяў адносна Лукашэнкі, Расеі, Эўропы, Захаду, „міжнароднай супольнасьці” і г.д. Абапірацца можна толькі на свае сілы, сваю волю, сваю працу і сваіх людзей. У справе незалежнасьці і свабоды ніхто ня здолее нам дапамагчы, калі мы, беларусы, будзем толькі лямантаваць, арганізацыйна бяздзейнічаць, аглядацца і нечага чакаць. Свабоды ня просяць – свабоду здабываюць.

І памятайма: калі страцім незалежнасьць і трапім пад рэальную расейскую акупацыю – забудзьце, беларусы, пра ўсялякія свае „правы чалавека”. (Якія ў чачэнцаў цяпер „правы” і дзе тая „міжнародная супольнасьць”?!)

Незалежнасьць і свабода Бацькаўшчыны – найвышэй. Бо сябе (свае правы) і зьвер бароніць. Чалавекам ёсьць той – хто бароніць Бацькаўшчыну.

*2 красавіка 2000 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

# ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

Характар акупацыйнага рэжыму заўсёды вызначаецца ў адносінах да акупаванага насельніцтва. Які б ні быў унутраны нацыянальны лад, якой бы ні была жорсткай дыктатура і дзяржаўная ўлада, яна ніколі ня будзе зачыняць свае нацыянальныя школы і ўводзіць навучаньне на мове чужой краіны, яна ня будзе перасьледваць людзей сваёй нацыі, каб даць прыярытэт чужой. Абсалютна выключаецца, каб унутраны дыктатар зьмяншаў бы сваю ўладу і імкнуўся б зьнішчыць суверэнітэт краіны, ў якой сам уладарыць, каб стараўся паставіць яе ў залежнасьць ад чужой дзяржавы, ад чужога войска, хацеў бы ўвесьці чужыя грошы і г.д. У гісторыі такіх прыкладаў няма. Ні **Кім Ір Сэн**, ні **Кім Чэн Ір**, ні **Мао**, ні **Кастра**, ні **Мабуту**, ні **туркмэнбашы** – ніхто так сябе не паводзілі і не паводзяць.

Кожная ўнутраная дыктатура не магла ня ўлічваць сацыяльную іерархію людзей у грамадзтве (існуючую ў межах нацыі) і тую, якую сама стварала. Мы не сустракаем у гісторыі прыкладу, каб правячая група (дыктатар) аднолькава нэгатыўна і безразборна трактавалі сьведамасьць усяго дзяржаўнага этнасу (адмаўлялі яго нацыянальную сьведамасьць) і перасьледвалі яе носьбітаў.

На Беларусі мы бачым якраз гэтакую, на першы погляд, дзіўную і ўражлівую карціну. Прадстаўнікі ўлады ў Беларусі, існуючая адміністрацыя зьневажаюць чалавека і адмаўляюць яму ў патрэбе толькі за тое, што ён беларус, ці за тое, што зьвяртаецца па-беларуску. Гэта вельмі дзіўна выглядае ў краіне, дзе каля ***90 адсоткаў нацыі – беларусы*** (па афіцыйным перапісе – каля 82 адсоткаў).

Службоўцы міліцыі, жаўнеры АМАПу, „спэцназу”, унутраных войскаў могуць без прычыны на вуліцы, дома, у транспарце, у любым месцы зьбіць палкамі, нагамі, кулакамі любога беларуса, *дастаткова яму толькі засьведчыць сябе беларусам, ці загаварыць па-беларуску*. Могуць за гэта арыштаваць, а суд – прысудзіць штраф ці 10 сутак за зьнявагу прэзыдэнта, міліцыянера, сабакі міліцыянера, ці проста так.

Гэта стала паўсюднай зьявай. **З боку існуючай улады, міліцыі і жаўнераў рэжыму цынічна дэманструецца крайняя непавага да беларусаў, да беларускай зямлі, мовы, культуры, на-**



(Фота З. Пазьняка)

***73. Дэманстрацыя ў Нью-Ёрку перад ААН. 2000 г.***

**цыянальных сымвалаў і сьвятынь**. Ня мае значэньня, хто апынецца перад службістам у пагонах: старая беларуская кабета ці маладая дзяўчына, студэнт ці акадэмік і паўсюдна вядомы вучоны, валацуга ці вялікі беларускі мастак. Гэта для іх усяроўна. Усе аднолькавыя. Усе беларусы, „нацыяналісты", „дзярмо", „ушывыя блохі". Гэта для іх, як для расістаў, – усе чорныя, альбо ўсе – белыя; як для фашыстаў габрэі: усе – ворагі.

Таму ўсіх іх „сволачаў" – кулаком у твар, дубінкай па галаве, усіх пад арышт, у камэру, на калені ў бруд, тварам да сьцяны, у суд за „беларускі язык", „усіх на адну парашу".

Шмат хто лемантуе, абураецца, піша скаргі, хапаецца за сэрца – ня можа ўцяміць, што сталася, што робіцца.

*Робіцца тое, што рабілася за часы СССР. Толькі без камуністычнай вуалі, больш прымітыўна і прасталінейна.*

***На Беларусі ёсьць тыповы акупацыйны рэжым чужой дзяржавы. Няма, як быццам, вайны. Не страляюць, не бамбуюць, ня бачым ні рускіх танкаў, ні ваенных дзеяньняў, а ўсё перамянілася.***

***Адбылася ўнутраная акупацыя краіны, ажыцьцёўленая расейскімі спэцслужбамі**, якія выкарысталі савецкія мэханізмы беларускай улады, свайго стаўленьніка Лукашэнку і намэнклятурны апарат савецкай каляніяльнай адміністрацыі.*

Унутранай акупацыі Беларусі расейскімі спэцслужбамі паспрыяла вялікая дэфармацыя постсавецкага беларускага грамадзтва. Рускія камуністы праводзілі на Беларусі спэцыяльную палітыку вынарадаваньня беларускай нацыі і русіфікацыю беларусаў. Ім удалося разбурыць асновы беларускай нацыянальнай салідарнасьці, нацыянальнай самасьвядомасьці народа. Беларусам не хапіла часу, каб усё адрадзіць, бо ўжо ў 1992 годзе пачаўся расейскі імпэрскі наступ на Беларусь, які быў замацаваны ў 1994 годзе выбраньнем на прэзыдэнта Беларусі кагэбоўскай крэатуры (Лукашэнкі) і ў 1996 годзе – ажыцьцяўленьнем дзяржаўнага перавароту і потым – узурпацыяй улады.

Цяпер **рускімі** (расейскімі спэцслужбамі і выхадцамі з Расеі) амаль поўнасцю **захоплены ўрад у Беларусі**, усе важнейшыя міністэрствы, ключавыя пазыцыі ў адміністрацыі, эканоміцы, прамысловасьці. Адбываецца мэтанакіраванае зьнішчэньне ўсяго беларускага, у першую чаргу культуры, школы, друку, навукі і кадравай сістэмы. Скарочана (да 80 тысячаў) войска і зьменшана яго роля. (Паколькі функцыя войска – бараніць бясьпеку і суверэнітэт краіны.) Фактычна, войска пастаўлена ў становішча дэградацыі. Тым часам разрасьліся розныя ваенізаваныя аддзелы міліцыі і павялічана ўнутранае войска (да 130 тысячаў). Тут добры рыштунак, амуніцыя, узбраеньне і зарплата. Задача міліцыі і ўнутраных войскаў – ахоўваць дыктатара і ўладу ад унутраных пагрозаў, ад народа. На Беларусі ўжо кіруюць рускія палкоўнікі ды генэралы, стаўленьнікі і службісты ФСБ-КГБ.

Адбываецца мэтанакіраванае выцясьненьне беларусаў з усіх кіруючых пасадаў. Асабліва – у сістэме ўлады.

У пэрспэктыве яны павінны быць выцесьненыя з улады (ці зьнішчаныя) усе да аднаго, і апошнім (пасьля зрабленьня „справы") расейцы ліквідуюць Лукашэнку.

Адсутнасьць беларускай нацыянальнай сьведамасьці ў галовах беларускай рэжымнай (каляніяльнай) адміністрацыі не дазваляе ім убачыць і зразумець, што іх чакае наперадзе. Некаторыя спадзяюцца русіфікавацца і выжыць. Гэта, вядома, ***ілюзія***. *Усё ўжо было ў 30-х.* ***І усё можа паўтарыцца, калі расейцам удасца цалкам забраць Беларусь.*** Пуціны паказалі, на што здольныя, але яшчэ не раскрыліся да канца.

Адносіны да беларусаў з боку рэжыму, яго спэцатрадаў, міліцыі, адміністрацыі і ахоўнікаў цалкам – палітычна і лягічна – абумоўленыя. ***Гэта ёсьць дачыненьні з акупаваным насельніцтвам на акупаванай тэрыторыі***. У рускіх, як і ў фашыстаў, варварскія ўяўленьні пра такія адносіны: акупаванае насельніцтва ня мае ніякіх правоў, з акупаванымі людзьмі можна абыходзіцца, як з жывёлай, бо ўсе яны – „ворагі Расеі". Гэтак яны паводзяць сябе ў Чачэніі. Гэтак яны ставяцца і да вольных беларусаў.

*АМАПы, „спэцназы" ды жаўнеры ўнутранага войска дзейнічаюць, як* **карныя атрады** *на акупаванай зямлі, карыстаюцца ўсёдазволенасьцю, поўнай беспакаранасьцю; у часе карнай апэрацыі не нясуць ніякай адказнасьці за свае злачынныя дзеяньні, зьбіцьцё і катаваньні нявінных людзей.*

Для беларусаў, як і для чачэнцаў, рускімі ўжо даўно падрыхтаваная сістэма пацыфікацыі народу, фільтрацыйных лягераў і рэпрэсіяў. Упершыню яе хацелі маштабна выпрабаваць увосень 1996 г., калі рэжым вісеў на валаску. Гэтыя пляны выкрыла тады газэта *„Свабода"* (яшчэ тая беларуская *„Свабода" І.Гермянчука).* Тады беларусы ўпершыню даведаліся пра падрыхтаваныя для іх фільтрацыйныя лягеры, ангары, стадыёны, браневікі, пра сабак і „зондэрнкаманды" спэцназу ды АМАПу.

Сёлета, на Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка, Лукашэнка і Пуцін правялі ў Менску прэвентыўныя манэўры



***74. Змагар.***

апэратыўных сілаў гэтай сістэмы, адпрацоўвалі прыёмы пацыфікацыі: захопу людзей, прымяненьня да іх фізычнай сілы, узаемадзеяньня карных баявых адзінак і штабоў, разьмяшчэньне і сартыроўка захопленых, фільтрацыя ў ангарах, фіксацыя і дакумэнтацыя беларусаў (усіх здымалі на стужку і дакумэнтавалі пад асобным нумарам).

Гэтыя абразьлівыя гульні акупацыйнага рэжыму, усё гэтае саманадзьмуваньне выглядаюць ***нікчэмнымі перад народнай сілай***. Але вялікая беларуская сіла яшчэ не прачнулася. Яшчэ ня ўсе беларусы адвыклі баяцца.

***З акупацыйным рэжымам трэба змагацца. Змагацца ўсімі сродкамі. Іншага выхаду няма. Альбо нас вынішчаць варвары, альбо мы абаронім свабоду і незалежнасьць Беларусі і – пераможам.*** І памятайма, нашае яднаньне – гэта ***БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ. Беларусы павінны падтрымліваць адзін аднаго ў змаганьні з акупацыйным рэжымам, у абароне свабоды і незалежнасьці нашай Айчыны.***

Азіраючыся на крывавае ХХ-е стагоддзе, бачым, што гэта была эпоха жудасных сусьветных войнаў, таталітарызму і татальнага злачынства злачынных спэцслужбаў, якія вынішчылі больш, чым войны – дзясяткі мільёнаў людзей і цэлыя народы. Беларусь не пасьпела зрабіць высновы з сваёй паднявольнай гісторыі і таму цяпер змушана перажываць яе нанава ізноў, ужо як паранойны фарс, ганебны для ўсёй нацыі, гэтак яшчэ й неўсьвядомлены ёй да канца.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 3(26); Народная Воля, – 2000, 30 жніўня)*

# УСЕ – НА ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ ЗА БЕЛАРУСЬ!

***(Выступ на красавіцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ)***

...Напад унутраных войскаў і міліцыі на людзей 25 сакавіка ў Менску, а таксама іншыя падзеі ў Беларусі і на сьвеце, змушаюць нас уважліва прыгледзецца да таго, што адбываецца, і зрабіць высновы, каб правільна разумець і рабіць.

Напад выразна выявіў і зноў засьведчыў, што на Беларусі створаны чужы і менавіта акупацыйны рэжым. Гэта відаць ня толькі ў неадэкватным ужываньні сілы (вывад на вуліцу бронетэхнікі, спэцслужбаў, сабак), але перш а ўсё – у хамскай нянавісьці і поўнай непавазе да беларусаў, да грамадзянаў, да насельніцтва краіны, якое функцыянэры краіны ня лічаць за людзей і адносяцца да яго, як да чужога, варожага і не свайго. Гэтак адносіліся да беларусаў нямецкія фашысты ў пэрыяд акупацыі Беларусі. Гэтак адносіцца да чачэнцаў руская ваеншчына, што акупавала Чачэнію. Гэтак паводзяць сябе акупацыйныя ўлады на Беларусі і спэцаддзелы войска па барацьбе зь беларусамі.

Напад на людзей у Менску – гэта яскравы вынік паўзучай антыбеларускай акупацыйнай палітыкі прамаскоўскага рэжыму. Цяпер яна актывізуецца ў некалькіх накірунках. Менавіта:

- у метадычных кадравых зьменах. Беларусы ва ўладных і кіруючых структурах (незалежна ад ступені адданасьці рэжыму) замяняюцца рускімі, прытым, як правіла, супрацоўнікамі ці агентамі савецкага КГБ. У гэтым рэчышчы адбываюцца ўсе замены ва ўладзе (Антановіча на Латыпава, Лінга на Ярмошына, Даўгалёва на Кабякова, Заламая – прэч і г.д.) Тое і ў эканоміцы, у дырэктарскім корпусе, у вабласьцях, у адукацыі і культуры. Акупаванай тэрыторыяй кіруюць акупанты. Стаўленікам – няма даверу. Яны – часовыя выканаўцы;
- у інфармацыйна-прапагандысцкай апрацоўцы насельніцтва. Гэта выяўляецца ў манапалізацыі ўсяго шматтыражнага друку, радыё, тэлебачаньня, у кантролі і ўплыве на зрусіфікаваны так званы „незалежны” ад Лукашэнкі друк і, практычна, ў поуным задушэньні беларускага друкаванага слова, у фальсіфкацыі беларускай гісторыі, закрыцьці беларускіх школаў, зьнішчэньні беларускай навукі, медыцыны, адукацыі і асьветы, кнігавыданьня, друку для дзяцей, перасьледваньні дзеячоў беларускага мастацтва і культуры, зьнявазе беларускай інтэлігенцыі;

  у стварэньні штучнай залежнасьці і незаконным падпарадкаваньні беларускіх прадпрыемстваў расейскаму крымінальнаму капіталу;
- у штучным, знарочыстым стварэньні неспрыяльных умоваў для беларускага прадпрыймальніцтва, беларускай вытворчасьці і эканамічнай дзейнасьці;
- у штучным стварэньні фармальных умоваў і праўных абмежаваньняў, якія выклікаюць зьбядненьне людзей, выезд зь Беларусі і выміраньне насельніцтва;
- у стварэньні знарочыстых умоваў для дэградацыі Беларускай Арміі, зьмяншэньня яе значэньня, колькасьці, беларускага складу афіцэрскага корпусу, баяздольнасьці, павагі ў грамадзтве.

Калі спэцназаўцы рэжыму без прычыны і беспакарана могуць біць палкамі і выкручваць рукі на вуліцы начальніку гарнізона палкоўніку Беларускага Войска (а так было), то ўсё зразумела: што гэта за краіна і якая гэта краіна.

Унутраную акупацыю ў Беларусі ажыцьцяўляюць унутранымі сродкамі. Таму ўнутраныя войскі і міліцыя павялічаныя да 135-ці тысячаў, ім дадзеныя сродкі і не абмежаваныя законам магчымасьці. *Армія* краіны, Беларускія ўзброеныя сілы тут толькі перашкаджаюць, бо зьяўляюцца абаронным чыньнікам суверэнітэту. Таму колькасць Беларускай Арміі зьменшылі да 80-ці тысячаў, абрэзалі забесьпячэньне, прынізілі павагу да беларускага афіцэра і салдата, **зьмянілі** вышэйшы афіцэрскі кіруючы склад на расейцаў, павязалі залежнасьцю ад расейскага ВПК і прыдуманымі дачыненьнямі з расейскім крымінальным войскам.

Неадэкватная рэакцыя на 25 Сакавіка, вывад на вуліцы дзясяткаў адзінак бранетэхнікі, сьцягваньне ў сталіцу тысячаў салдатаў унутраных войскаў і міліцыі і адначасна ад’езд Лукашэнкі за межы краіны – усё гэта сьведчыць, што ў душы і ў галаве яго месьціцца паранойны страх перавароту і змовы. Навязьлівыя пачуцьці і трывожныя думкі завалодалі істотай палітычнага пацыента.

З другога боку, палітыка Масквы ў апошнія 5 гадоў была ўпарта накіраваная на тое, каб адцягнуць увагу ў Беларусі ад 25 Сакавіка, зьніveліраваць яго значэньне, зрабіць нязначным. Выкарыстоўвалася адна і тая ж правакацыйная схема. Сутнасьць яе – ў перанясеньні ўвагі з 25-га на 15-га сакавіка – на дзень, калі была прынятая скрыўленая Беларуская Канстытуцыя (з механічна ўстаўленым разьдзелам пра прэзыдэнта), якая „прызначыла", наканавала дыктатуру (і сваю ж забарону).

Дарэчы, нагадаю, што парляманцкая Апазыцыя БНФ афіцыйна папярэдзіла грамадзтва, што прыняцьце скрыўленай Канстытуцыі адкрые шлях да дыктатуры, якая зьнішчыць Канстытуцыю. Мы не галасавалі за папсаваную Канстытуцыю, бо разумелі, што яна стане зброяй для аўтарытарнага захопу ўлады ў Беларусі спэцслужбамі і прамаскоўскай намэнклятурай, і таму яе ўсяроўна любымі спосабамі ў камуністычным парляманце прымуць, ня гледзячы на плод нашай працы – дэмакратычны зьмест. Фармальна павінна была бацьць прынятая новая канстытуцыя навай дзяржавы.



*74а. Пакінуты дом пад Чарнобылем.*

Чаму рэжымная намэнклятура і яе палітычныя *халуі* імкнуліся адцягнуць *увагу* з 25-га на 15-га сакавіка – зразумела. Яны стараліся спыніць узрастаньне важнасьці сьвята 25 Сакавіка як моцнага кансалідуючага чыньніка беларускай нацыі. У 1996 годзе, напярэдадні падпісаньня першай незаконнай акупацыйнай дамовы Ельцына і Лукашэнкі аб „саюзе" Беларусі з Расеяй, умяшаньне чужародных сілаў у апазыцыйныя дачыненьні было вельмі адчувальным. Тады таксама ставілі на 15-га сакавіка, стваралі агульныя „аргкамітэт", дзе тоўпіліся ўсе вядомыя сёньня калябаранты, пустазвонілі і друкавалі заклікі пра дэмакратыю ды дэмакратычныя сілы. Але перамагла Беларусь. Адбылося так, як зрабіў Народны Фронт, 24 сакавіка 1996 года ў Менску на шэсьце і мітынг супраць расейскай „інтэграцыі" выйшлі ад 50-ці да 70-ці тысячаў чалавек, была аблога студыі тэлебачаньня, пачаліся першыя сутычкі і бойкі з спэцназам. Гэта ўбачыў увесь сьвет і зь недаверам паставіўся да «інтэграцыйнага» спэктаклю ў Маскве. Удар па авантурыстах быў магутны і нечаканы.

Цяпер, у 2000-м годзе, Масква адчула зрух псіхалагічнага пералому ў Беларусі і кінула на задушэньне беларускай салідарнасьці несувымерныя сілы (вядома, што Пуцін з Лукашэнкам кіравалі апэрацыяй у Менску). Тым больш, што правакацыя 15-га сакавіка не спрацавала. Не лічыліся ні з чым, толькі б задушыць акцыю беларускай кансалідацыі ў Дзень Незалежнасьці і прадэманстраваць „нікчэмнаму" Захаду сваю рашучасьць.

Спыніць маніфэстацыю ўдалося ў выніку правядзеньня цалкам незаконнай і нязгоднай з правам вайсковай апэрацыі супраць насельніцтва. Антынародны рэжым выйграў грубай сілай, цаною палітычных страт.

Але гэта не перамога акупантаў і не паражэньне беларусаў. Сытуацыя можа быць кардынальна зьменена беларусамі ў сваю карысьць у канцы красавіка, у гадавіну радыяцыйнага Чарнобыля, якая супадае з Чарнобылем акупацыйным.

Рэжым больш не пераможа. Бо для яго застаўся толькі адзін выбар, які ён наканаваў сабе сам: альбо біць, альбо ня біць. Абодва варыянты для яго фатальныя, калі беларусы масава і салідарна выйдуць на Чарнобыльскі Шлях.

Памятайма аднак, што Чарнобыль і яго прычыны – гэта ня толькі крывавы камунізм. Чарнобыль – гэта ёсць дзікая, нядбалая, каланіяльная расейшчына, для якой жыцьцё беларусаў нічога ня значыць. Чарнобыль – гэта варварства і цынізм расейскіх уладаў і тэхнакратаў, якія расстрэльвалі і спускалі радыяцыйныя хмары над Магілёўскай і Гомельскай вобласьцямі і потым прыдумвалі нам 35-бэрную канцэпцыю пражываньня і жартавалі пра «радонавыя ванны» для беларусаў.

***Камунізм быў толькі шырмай для шалёнага, грубага рускага імпэрыялізму, чынгізханаўшчыны, грамадзтва без інтэлігенцыі, дзе людзі творчасьці і інтэлектуальнай працы існуюць без сумленьня і падтрымліваюць самыя цемрашальскія дзеяньні злачынных расейскіх уладаў – вынішчэньне аўганцаў, зьнішчэньне Чачэніі і генацыд народа, паранойю Лукашэнкі і аншлюс Беларусі. Камунізм цяпер стаў для рускага імпэрыялізму схованкай ад калектыўнай адказнасьці расейскага грамадзтва за злачынствы супраць чалавецтва.***

Чарнобыль ёсць такім злачынствам, якое прарасейскі акупацыйны рэжым выкарыстоўвае для зьнішчэньня беларускай нацыі.

Паважаныя сябры! Спадзяюся, што 15-га і 25-га сакавіка вы зблізку добра ўбачылі чыннасьць балотнай апазыцыі і пераканаліся (хто сумняваўся), што нельга ісьці разам з падвойнымі ды хітрымі, бо ўвалішся ў дрыгву. Мы ёсьць арганізацыя вызвольнага руху. Мы павінны, як і ўвесь час, зыходзіць зь Беларускай ідэі і дзейнічаць па палітычнай адраджэнцкай праграме, не зважаючы на «балота» і не канфрантуючы зь ім. Гэта мы мусім правесьці акцыю Чарнобыльскі Шлях. Мы павінны заклікаць усіх ***„на Вялікі Сход па Бацькаўшчыну"***.

Наша партыя – Беларускі Народны Фронт – шмат зрабіла дзеля беларускай салідарнасьці 25-га Сакавіка. Мы перамагаем цяжкасьці, што стварылі нам калябаранты. Мы зноў становімся на ногі і трымаем ініцыятыву. Невыпадкова, што 25 Сакавіка прадуманы і мэтанакіраваны ўдар рэжым нанёс па кіраўніцтве Беларускага Народнага Фронту, якое было арыштавана (Юры Беленькі, Анатоль Крыварот, Алесь Чахольскі). Прытым, выконваючы абавязкі Старшыні БНФ у Беларусі Юры Беленькі быў па-зьверску зьбіты і зараз знаходзіцца на дамашнім лячэньні пад назіраньнем лекараў. Мы не павінны дараваць рэжыму і пакінуць без адказу гэты факт бандыцкага зьбіцьця нашых кіраўнікоў. Неабходна падаць матэрыялы ў пракуратуру з патрабаваньнем узбудзіць крымінальную справу супраць Міністра ўнутраных справаў Сівакова і спраўцаў яго загадаў. Неабходна таксама інфармаваць міжнародную супольнасьць пра бандыцкі напад на Юры Беленькага і знайсьці грамадзкую падтрымку нашым патрабаваньням прыцягнуць да судовай адказнасьці Сівакова і яго падначаленых.

Узмацняйма наш поступ па ўсіх нашых праграмах: ***„Беларускай Салідарнасьці", „Грамадзянству БНР", подпісах за незалежнасць і падрыхтоўцы Грамадзянскага Парляманту.*** Калі да канца красавіка Вярхоўны Савет і спадар Шарэцкі ня здолеюць нічога зрабіць у справе стварэньня рэальных і галоўнае – дзейных ( а не фармальных ды пустапарожніх) канстытуцыйных структураў, то мы павінны будзем прыступіць да стварэньня грамадзянскіх структураў улады, пра якія мы ўжо даўно кажам, зважаючы на няздольнасьць няздольнага Вярхоўнага Савета.

Мяркую, што нам варта падтрымаць грамадзкую ідэю Ўсебеларускага Кангрэсу за волю, свабоду і незалежнасць Беларусі. Але гэта мусіць быць не партыйнае, а грамадзкае мерапрыемства. У ім павінны прымаць удзел асобы, а не партыі і арганізацыі. Інакш Кангрэсу не атрымаецца. Разумееце чаму. «Тусоўка» і «балота» дэзарганізуюць ўсё. (Яшчэ й грантаў зажадаюць.) Падтрымаем ініцыятараў – і карты ім у рукі. Ідэя добрая, калі за яе бяруцца добрыя людзі. Мы падтрымліваем, дапаможам і возьмем удзел. Але ў нас, у фронтаўцаў, ёсць свае палітычныя, партыйныя задачы і абавязкі перад Радзімай.

Жыве Беларусь! Слава героям!

*8 красавіка 2000 г.*

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту «Адраджэньне»***
***і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.***

# ПРЭЧ, АКУПАЦЫЙНЫ ЧАРНОБЫЛЬ!

Чатырнаццаць гадоў таму саветы стварылі нам радыяцыйны Чарнобыль – выклікалі катастрофу на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ля мяжы зь Беларусяй. Сьмяртэльна занячысьцілі беларускую зямлю. Потым, па загаду з Масквы, расейскія савецкія самалёты расстрэльвалі і апускалі радыёактыўныя хмары на галовы беларускага насельніцтва Магілёўскай і Гомельскай вобласьцяў. ***70 адсоткаў усёй чарнобыльскай радыяцыі ськінулі на беларусаў расейскія камуністычныя варвары***. Затым, каб дабіць нас, іхныя ***псэўдавучоныя прыдумалі для беларусаў 35-бэрную канцэпцыю пражываньня***, *накіраваную на выміраньне людзей у радыяцыйна забруджаных зонах, а* **прадажная расейская прафэсура** *сцьвярджала, што радыяцыя карысная для здароўя, і беларусам ня трэба будзе, маўляў, спэцыяльна прымаць радонавыя ванны.*

Тады, у канцы 80-х і пачатку 90-х гадоў, нам удалося спыніць іхныя пляны вынішчэньня Беларусі. *Беларусы змаглі нават прымусіць улады СССР прыняць пастанову аб кампэнсацыі для Беларусі каля* ***30 мільярдаў даляраў*** *за прычыненыя страты.*

Аднак **Расея** *(пераемніца СССР)* **ня хоча выплочваць нам гэтыя грошы за свае злачынствы.***

Цяпер **прарасейскі акупацыйны рэжым на Беларусі** выкарыстоўвае радыяцыйную заразу і трагедыю Чарнобыля як зброю, як прыладу **для вынішчэньня беларусаў**. Адмененыя ільготы і аплаты пацярпелым ад радыяцыі, зьменшана сацыяльная дапамога, не дастаўляюць неабходныя прадукты і лякарствы, адсутнічае медыцынская дапамога, ня дзейнічаюць законы і пашыраецца радыяцыя. У радыяцыйна заражаныя зоны пасылаюць беларускую моладзь на працу і засяляюць людзей. Пакінутыя землі, на якіх забаронена быць і пражываць, ператвораныя ў скопішчы расейскіх бомжаў і крымінальных элемэнтаў, дзе над магіламі беларусаў бадзяецца п'яны прыблуда. Вось што такое Чарнобыль радыяцыйны і Чарнобыль акупацыйны.

*Змагаймася ж найперш супраць Чарнобыля акупацыйнага. Бо немагчыма, не ліквідаваўшы антыбеларускі рэжым, спыніць радыяцыйную сьмерць.*

*26 красавіка 2000 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 3(26).*

* Сапраўдная цана кампэнсацыі за Чарнобыль ў дзесяць разоў большая. – *(З. П.)*

# ДЭБАТЫ ПРА ДЭМАКРАТЫЮ НА ФОНЕ ЧАЧЭНСКАЙ КРЫВІ

*25, 26, і 27 чэрвеня ў Варшаве адбывалася Міжнародная канфэрэнцыя міністраў замежных справаў з больш чым ста краінаў сьвету*. Канфэрэнцыя праходзіла пад назвай „Супольнасьць дэмакратыі". Была прынята „варшаўская дэклярацыя", у якой зроблена спроба акрэсьліць будучы „дэмакратычны парадак" у будучым глябалізаваным сьвеце і ўсталяваць ужо пэўную структурызацыю міжнародных інстытутаў дэмакратычных уладаў, сістэматызаваць прынцыпы, намеціць механізмы націску і ўплыву на іншых (на тых, хто будзе адыходзіць ад прынцыпаў дэмакратыі).

Некаторыя глябалізатары выказваліся тэарытычна, некаторыя просталінейна (у залежнасьці ад ступені адказнасьці). Міністар замежных справаў Польшчы **Б.Герэмэк** разважаў пра тое, што міжнародная супольнасьць павінна прымаць рашэньні па пытаньнях, якія парушаюць традыцыйны міжнародны парадак, дзе павага дзяржаўнага суверэнітэту нацыянальных дзяржаваў „была" (?) непарушнай каштоўнасьцю, бо міжнародны парадак і суверэнітэт дзяржаваў стваралі да нядаўняга часу (?) лягічную цэласьць. Цяпер, мяркуе Герэмэк, важнейшымі сталі дэмакратыя і правы чалавека. У абароне гэтых каштоўнасьцяў зьнешнія сілы павінны – як думае Б.Герэмэк – пераняць функцыі нацыянальнай дзяржавы. Што гэта за „зьнешнія сілы" і хто будзе прымаць рашэньні пра тое, як каму жыць, спадар Герэмэк не ўдакладняў.

Увогуле назіраецца, што некаторыя палітыкі з краінаў Цэнтральна-Усходняй Эўропы так добра зразумелі задачы глябальнай „дэмакратыі", што заранёў фармулююць тое, што „мацёрыя" дэмакраты на Захадзе апавяшчаюць пакуль што ў форме эўфемізмаў.

Глябалізацыя гаспадаркі без глябалізацыі дэмакратыі будзе разбуральнай для самога капіталізму, – мяркуе палітолаг з Амэрыкі **Беньямін Барбэр**. **Фрэнсіс Факуяма** (Японія) лічыць, што глябалізацыя падштурхоўвае разьвіцьцё дэмакратыі.

У дэклярацыі падкрэсьлена, што ўсе міністры – ўдзельнікі канфэрэнцыі „Супольнасьць дэмакратыі" – прызнаюць „унівэрсальнасьць дэмакратычных каштоўнасьцяў", што „Супольнасьць дэмакратыі" „пацьвярджае сваю пасьлядоўнасьць у супольных дзеяньнях дзеля падтрымкі і ўзмацненьня дэмакратыі".

„Мы будзем канцэнтраваць нашыя меркаваньні больш на агульных прынцыпах і каштоўнасьцях, чым на не зьвязаных з дэмакратыяй двухбаковых праблемах... Пастанаўляем супрацоўнічаць з мэтай абмежаваньня і ўстрыманьня пагрозаў для дэмакратыі... узмоцнім дэмакратычныя асновы і ўстановы, а таксама падтрымаем распаўсюджваньне дэмакратычных правілаў і каштоўнасьцяў". („*Gazeta Wyborcza",*–2000,28.06)

Шмат у "варшаўскай дэкларацыі" таксама рыторыкі, агульных месцаў і двухсэнсоўнасьцяў, якія можна разумець і тлумачыць па-рознаму. Напыклад: „Кожная асоба мае права на аднолькавую абарону з боку права без ніякай дыскрымінацыі з увагі на расу, колер скуры, пол, мову, рэлігію, палітычныя ці іншыя погляды *(якія „іншыя"? Сатанінскія, збачэнскія, антысямейныя, паганскія? Мы ж бачым, што культывуецца ў лібэральнай дэмакратыі – З.П.),* на нацыянальнае ці сацыяльнае паходжаньне, маёмаснае становішча, нараджэньне, ці якія іншыя акалічнасьці." *(Якія „іншыя" акалічнасьці? Людзі, якія супрацоўнічалі з Гестапа, Штазі, НКВД, КГБ, дзеці дзяржаўных злачынцаў могуць займаць дзяржаўныя пасады, ці – не? Калі „могуць", то навошта тады робяць люстрацыі?)*

Шмат пытаньняў узьнікае з гэтай эўфэмізматычнай дэмакратыяй і палітыкай, дзе адначасна гаворыцца адно, думаецца другое, не дагаворваецца трэцяе, а робіцца чацьвёртае. „Гэта праява „дэмакратычнай рэлігіі", якую хочуць навязаць усяму сьвету,"– казалі на канфэрэнцыі.

Дэмакратычныя краіны заходняга лібэралізму хочуць усталяваць у сьвеце „культурніцкі імпэрыялізм", навязаць свае звычаёвыя прынцыпы, якія ў сьвеце лічацца амаральнымі, – адзначалі некаторыя назіральнікі.

*„Гьюман Райтс Вотч"* абвінавацiла арганізатараў канфэрэнцыі ў тым, што яны ствараюць „фікцыю дэмакратыі", калі запрасілі ў Варшаву недэмакратычныя краіны – аднапартыйныя (такія, як Туніс ці Кувэйт) ці тыя, якія ламаюць правы чалавека (Расея, Калюмбія).

*„Сёньня, у той час, калі на Каўказе бесперапынна трывае вайна супраць чачэнцаў,* – кажа ***Янаш Кіш****, прафэсар і палітоляг з Будапэшту, – запрашэньне ў Варшаву прадстаўнікоў Расеі выклікае ў мяне пачуцьцё занепакоенасьці.* Але „бізнэс ёсьць бізнэс", – мяркуе прафэсар.

***„Глябалізацыя не спраўджвае абяцаньня забясьпечыць карысьць для мільёнаў людзей****,* – сказаў *генэральны сакратар ААН* ***Кофі Анан***. ***– Некаторыя вынікі глябалізацыі шмат якім людзям прынесьлі пакуты. Некаторыя страцілі працу, іншыя сталі сьведкамі распаду традыцыйных грамадзтваў. Некаторыя адчуваюць, што пад пагрозай апынулася іхняя нацыянальная асаблівасьць."*** („*Rzeczpospolita"*, – 2000, 26.06)

Урэшце рэшт ***Францыя*** *ўвогуле не падпісала „варшаўскую дэклярацыю"*. „Францыя ўспрымае дэклярацыю як прапанову дзеля працягу важных дэбатаў, а не як дыпляматычнае ўключэньне ў дзейнасьць групы дэмакратычных краінаў, – заявілі французы. – Варшаўская канфэрэнцыя павінна ўспрымацца выключна як пачатак дыскусіі, а не як праграма дзеяньняў."

Французы адразу папярэджвалі, што калі „варшаўская дэклярацыя" пойдзе ў кірунку „інстытуалізацыі" новага дэмакратычнага парадку, то ім цяжка будзе яе падтрымаць. Так яно і сталася.

Канфуз ізноў пастараўся зґладзіць вялікі прыхільнік лібэральнай дэмакратыі Бранiслаў Герэмэк. „Варшаўская дэклярацыя адкрытая, гэтак жа, як адчынена ёсьць сама дэмакратыя, – сказаў ён крылатыя словы. – Дакумант адкрыты для тых краінаў, якія праз нейкі час будуць адпавядаць дэмакратычным стандартам. Яна таксама адчынена для тых недаверкаў, якія не да канца ўспрымаюць значэньне такіх дзеяньняў, як гэтае, што мела месца ў Варшаве."

Ня думаю, каб нехта з „недаверкаў" палічыў бы Францыю горшай дэмакратыяй, чым Польшчу, але тым ня менш Мадэлен Олбрайт моцна пахваліла Б.Герэмка і назвала яго „героем" дэмакратыі. Аж вочы павільгатнелі ў міністра, калі ён сьціпла слухаў прыемную пахвальбу.

Сутнасьць жа дачыненьняў, якія выявіліся на канфэрэнцыі, ні для каго не зьяўляюцца сакрэтам. Лева-лібэральная Эўропа інтэгруецца. І чым далей яна інтэгруецца, тым болей відаць контуры будучай лібэральнай звышдзяржавы ў Эўропе і правілы новага левага парадку, заснаванага на ідэалёгіі таталітарнай дэмакратыі.*

Інтэграцыя Эўропы – гэта адзін са складнікаў працэсу глябалізацыі, дзе дамінуюць Злучаныя Штаты Амэрыкі. Канфэрэнцыя ў Варшаве павінна была засьведчыць лідэрства Амэрыкі ў гэтай палітыцы, а таксама падрыхтаваць глебу да стварэньня ў рамках ААН „Клюбу дэмакратычных дзяржаваў". Пад гэты „клюб" і была прынята „варшаўская дэклярацыя" аб дэмакратычнай супольнасьці.

Францыя, якая лічыць сябе дэмакратычным лідэрам у Эўропе, не хацела б апынуцца на пэрэфэрыі глябалісцкай палітыкі і дапусьціць, каб Амэрыка камандавала на старым кантыненце.

---

* *Палітычныя прынцыпы* новага лібэральнага парадку былі ўпершыню адкрыта прадэкляраваныя ў 1999 годзе падчас і пасьля бамбаваньня Сэрбіі краінамі НАТО. Сутнасьць іх заключаецца ў тым, што катэгорыя „правы чалавека" (якая, дарэчы, юрыдычна не скадыфікаваная) ёсьць вышэйшай міжнароднай катэгорыяй і перавышае паняцьце суверэнітэту. Калі нейкая краіна груба парушае правы чалавека, то Міжнародная супольнасьць ня толькі можа ўжываць цывілізаваны ціск на гэтую краіну, але і ваенную сілу. Пра гэта шмат пісалася тады ў Амэрыцы і ў Эўропе. З такімі думкамі Захад пачаў па-свойму абараняць правы чалавека ў Сэрбіі, а руская (па-руску) – у Чачэніі.

Зразумела, якая пэрспэктыва адкрываецца з „правамі чалавека", калі яны ператвараюцца ў палітычную дактрыну. Тое, што гэта дзьверы ў новае варварства, мала каго, як быццам, непакоіць. Спадар Герэмэк, як бачым, нават гераічна прапагандуе яе.

*Эканамічныя прынцыпы* лібэральнага парадку найкарацей сфармуляваныя фінансістам Сорасам – „адкрытае грамадзтва". Для фінансавага капіталу не патрэбныя межы і моцныя нацыянальныя дзяржавы. Яму трэба пранікаць свабодна ўсюды, бесперашкодна заходзіць у любую краіну і наводзіць там парадак у сваіх інтарэсах. Без „адкрытага грамадзтва" не атрымаецца глябалізацыя. На гэтую дактрыну пушчаныя калясальныя сродкі.

У Варшаве спадар Сорас выказаўся за „глябальнае адкрытае грамадзтва, у якім, напрыклад, Сусьветны Банк мог бы ператварыцца ў агенцтва сусьветнага разьвіцьця". („*Rzeczpospolita"*, – 2000, 26.06)

Нарэшце, пра *маральна-псіхалягічныя прынцыпы* лібэральнага ўладкаваньня сьвету. Яны пагрунтаваныя на абсалютызацыі індывідуальнай свабоды чалавека (адпаведна, яго правоў, прывычак, заганаў, комплексаў, страсьцяў, меркаваньняў і г.д.).

Усё гэта імкнуцца скадыфікаваць у праве (якім думаюць падмяніць мараль) і ўсё гэта прыводзіць і ўжо прывяло да ўпадку і разбурэньня сям'і, інстытуту шлюбу, абавязку бацькоўства і мацярынства.

Не сям'я, а асоба, адзінка, вольны індывідуўм лічыцца і становіцца асновай лібэральнага грамадзтва. Назіраецца хуткі маральны рэгрэс. Людзі перастаюць імкнуцца да шчасьця. Грошы і задавальненьні робяцца стымулам і сэнсам жыцьця.

Таталізацыя лібэралізму ў наддзяржаўных формах – гэта шлях да агульнага рэгрэсу, да паганскіх формаў узаемаадносін, бо лібэралізм ня мае аб'яднаўчай духоўнай ідэі існаваньня і разьвіцьця. (І ўвогуле – ня мае духоўных ідэй.) – *(З.П.)*

Для ілюстрацыі пераможнага шэсьця дэмакратыі і ідэяў „адчыненага грамадзтва” Сорасам быў прафінансаваны так званы „Сусьветны Форум дэмакратыі”, які сабралі ў гэтыя дні ў Варшаве і паседжаньні якога адбываліся паралельна. На „форум” былі сабраныя, ў асноўным, прадстаўнікі (каля 300 асобаў) так званых „недзяржаўных арганізацыяў” (НДА), якія фінансуе Сорас і іншыя грантадаўцы. Прадстаўнікі (НДА) з 85 краінаў (у тым ліку і зь Беларусі) на працягу 2-х дзён дыскутавалі пра дэмакратыю. Дэмакратаў з форума ў перапынку прымала Мадэлен Олбрайт, Кофі Анан і Ежы Бузэк*, які назваў іх „сольлю сучаснай дэмакратыі”.



(Фота З. Пазьняка)

**75. «За нашу і вашу свабоду». 23 лютага 2000 г. Нью-Ёрк. Дэманстрацыя БНФ.**

*Драматычная падзея адбылася за межамі Канфэрэнцыі. 25 чэрвеня, якраз калі зьяжджаліся ўсе міністры і праходзілі па Замкавай плошчы Варшавы, іх спаткала вялікая група (каля 200 чалавек) чачэнскіх дэманстрантаў (а зь імі – палякаў і беларусаў), якія трымалі ў руках чачэнскія сьцягі, лёзунгі, плякаты, фатаграфіі забітых чачэнскіх дзяцей і скандавалі па-ангельску:* ***„Свабоду Чачэніі!”****,* ***„Прэч рускую вайну!”****,* ***„Рускія бандыты, прэч з Чачэніі!”****,* ***„Рашэн мордэрс!”***

*Па маіх назіраньнях, шмат якія міністры былі ўражаныя ўбачаным і праходзілі з узрушанымі і спагадлівымі абліччамі. Толькі дэлегацыя „рашэн мордэрс” зьдзівіла ўсіх. „Рашэн” хіхікалі, фіглярна махалі ручкамі чачэнцам, рабілі выгляд, што ім весела.*

Дэманстрацыя чачэнскай трагедыі не паўплывала на працу Міністраў замежных справаў дэмакратычных краінаў. Былі больш важныя справы – размаўляць пра дэмакратыю і правы чалавека.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 4(27).*

* Прэм’ер-міністар Польшчы. – *(З.П.)*

# БЕЛАРУСЫ НЯ ЛЮБЯЦЬ, КАЛІ ІМ СЯДАЮЦЬ НА ГАЛАВУ

Яшчэ 9-га сакавіка (у гэтым годзе) на слуханьнях ***у Кангрэсе ЗША была засьведчана поўная бязвыніковасьць і сумніўнасьць дзейнасьці Ганса-Георга Віка па наладжваньні „перамоваў” і „дыялёгу” „дэмапазыцыі” з уладамі Лукашэнкі****.*

*25 Сакавіка, на Дзень Незалежнасьці,* Лукашэнка правёў вайсковую апэрацыю супраць беларусаў у Менску. Было схоплена, зьбіта і зьняважана звыш ***500*** чалавек. Зь Віка – як з гусі вада. Ён гатовы быў прадаўжаць „дыялёг”. Ім так хочацца правесьці любым спосабам выбары ў Беларусі, што страцілі нават пачуцьцё рэальнасьці.

22 траўня гэтага году *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – Беларускі Народны Фронт* прыпыніла свой удзел у „перамоўным” працэсе. Пры гэтым была **зьвернута ўвага на непрыгожую пазыцыю сп. Віка** – поўную абыякавасьць да надзвычайнага здарэньня – *спробы забойства* ***Юры Беленькага*** наймітамі рэжыму 25 Сакавіка. (У канцы траўня спадар Беленькі яшчэ прадаўжаў лячэньне.)

У спэцыяльным лісьце 26 траўня я пісаў спадару Віку: „Мы, спадар Вік, спадзяваліся на разуменьне і салідарнасьць АБСЭ у гэтым пытаньні і 4-га траўня змаглі прыняць нават сумесную заяву. Але, тым ня менш, у сапраўднасьці, нягледзячы на нашыя патрабаваньні, гэты жахлівы факт застаўся поўнасьцю па-за ўвагай Вашых інтарэсаў і Вашай гнуткай палітыкі. Складваецца ўражаньне, што з правамі чалавека тут для Вас усё ў парадку: ня той чалавек трапіў пад боты і дубіны бандытаў.”

Было выстаўлена патрабаваньне, што першай умовай магчымых „перамоваў” павінна было стаць патрабаваньне аб узбуджэньні крымінальнай справы супраць Міністэрства Ўнутраных справаў па факту спробы забойства ***Юры Беленькага*** *ў Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка.„*

Да гэтага часу мы ўжо ведалі, што сп. Вік як чалавек не надаецца да абароны правоў канкрэтнай чалавечай асобы (і нават да звычайнай чалавечай спагады). Выглядае, што ён больш зацікаўлены лабіраваньнем пэўных палітычных інтарэсаў Нямеччыны і Расеі ў Беларусі, чым выкананьнем задачаў АБСЭ.

Так яно і атрымалася. 26-га траўня спадар Вік у інтэрв’ю радыё „Свабода” паведаміў: „Мы абсалютна не адрозьніваем спадара Беленькага ад астатніх, якія пацярпелі падчас той дэманстрацыі.”

Як кажуць, камэнтар не патрэбны. Калі на наступнай спэцапэрацыі рэжыму ў Менску спадар Вік незнарок раптам выйдзе на вуліцу са свайго офісу і яго таксама, ня дай Бог, „незнарок” адлупяць ботамі і дубінкамі па галаве лукашэнкаўскія

амапаўцы, і ён апынецца у рэанімацыі, то мы таксама „абсалютна не адрозьнім" яго „ад астатніх".

Рэч відавочная: Ганс-Георг Вік ужо вычарпаў у Беларусі ня толькі свой палітычны, але і ўвесь свой маральны запас. У такіх выпадках „дзеяча" звычайна адклікаюць дахаты. Калі гэтага ня здарыцца ў бліжэйшы час, то цалкам верагодна, што Ганс Вік пачне ўжо адкрыта штурхаць на Беларусі нямецка-расейскую палітыку і намаўляць беларускія арганізацыі да ўдзелу ў выбарах (сродкі ў нямецкай сацыял-дэмакратыі ёсьць). Пажывём – паглядзім. Толькі доўга вікаўскае палітыканства ўжо прадаўжацца ня будзе. Беларусы ня любяць, калі ім сядаюць на галаву.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 4(27). Пад псэўдонімам Мар'ян Ванькевіч)*

# УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД

*29 ліпеня ў Менску адбыўся Ўсебеларускі Зьезд за абарону незалежнасьці*, які прыняў надзвычай важны для ўсіх беларусаў дакумант – ***АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ***. Незалежнасьць і суверэнітэт пацьверджаныя як найвялікшыя каштоўнасьці нацыі, якія ня могуць быць скасаваныя нікім і ніякім чынам.

Бачачы пагрозу незалежнасьці Беларусі з боку Расеі, ініцыятарам Усебеларускага Зьезду выступіла беларуская творчая і навуковая інтэлігенцыя. На Зьезд прыехала ***1380*** асобаў з усіх зарэгістраваных (амаль што паўтары тысячы) дэлегатаў, якія прадстаўлялі ўсе раёны і мясцовасьці Беларусі, партыі, арганізацыі, калектывы і прадпрыемствы.

Рэжым сваімі сіламі ня здолеў перашкодзіць і фармальна не дапусьціць Зьезду. Стаўка была зроблена ў асноўным на так званую „дэмапазыцыю" і на агентуру ўнутры яе.



***76. У кастрычніку 1997 г. у Менску. Дэманстрацыя БНФ.***

Аб'яднаная „апазыцыя" і антыбеларускія сілы рабілі ўсё, каб сарваць Зьезд. Быў задзейнічаны той жа сцэнар, што і пры спробе зьнішчэньня Народнага Фронту ў 1999 годзе (і нават тыя ж асобы). Прапаноўвалі правесьці зьезд пазьней і ў дзьве сэсіі з перапынкам у 2-3 месяцы (каб за гэты час дэзарганізаваць і разваліць усё). Прапаноўвалі яшчэ розныя правакацыйныя ініцыятывы, каб дыскрэдытаваць ня толькі беларускую інтэлігенцыю, але і *Раду БНР* (назваць Зьезд ІІІ-м Усебеларускім Кангрэсам, стварыць яго выканаўчыя органы, атрымаць ад Сораса 100 тысячаў даляраў на „справу" ды „ўзяць" уладу і г.д. – адкрыта кагэбісцкія мэтады правакацыяў). Гэтых „дзеячоў" – генэралаў бяз войска – шмат наплыло ў Аргкамітэт. Але да гонару аўтарытэтных грамадзкіх кіраўнікоў вялікай ініцыятывы і найперш – спадароў ***Генадзя Бураўкіна***, ***Рыгора Барадуліна***, ***Радзіма Гарэцкага*** і ***Анатоля Грыцкевіча*** – яны хутка разабраліся ў штучна створаным вэрхале і накіравалі працу ў нармальнае рэчышча.

Лукашэнка спахапіўся і выдаў указ аб забароне зьбіраньня ўсялякіх агульнабеларускіх мерапрыемстваў. Але было ўжо позна. *Усебеларускі Зьезд адбыўся і прайшоў трыумфальна.*

Гэта вялікая перамога беларускай інтэлігенцыі, беларускага грамадзтва і Беларускага Вызвольнага Руху, які падтрымаў Усебеларускі Зьезд.

Усебеларускі Зьезд і прыняцьцё Акту Незалежнасьці – гэта, безумоўна, самая вялікая падзея ў беларускім жыцьці канца ХХ-га стагоддзя. Яна мае легальны юрыдычны грунт, бо зьяўляецца чыньнікам волі Беларускай Нацыі на падставе непасрэднай дэмакратыі.

***Акт Незалежнасьці – гэта палітычны дакумант, якім будзе карыстацца кожны беларус у абароне Бацькаўшчыны. Гэта праўная пазыцыя Беларускага Народу, які здольны ўзяць лёс Беларусі ў свае рукі.***

***Генадзь Бураўкін*** так ацаніў Акт Незалежнасьці: *„Гэта дакумант на доўгі час. Я лічу, што, безумоўна, ён паўплывае на нашае палітычнае, духоўнае ды дзяржаўнае жыцьцё."*

Тым часам у дзеячоў так званай „аб'яднанай апазыцыі" зьбянтэжанае маўчаньне. Гэта так сабе, маўляў, шэраговая зьява – робяць яны выгляд. Акт Незалежнасьці мае хіба што „маральнае значэньне" – паспрабавалі выказацца некаторыя асобы з гэтай групы.

Поўнае маўчаньне і ў так званым „незалежным" друку, што абслугоўвае ўсю гэтую сорасаўскаяблычную публіку.

Але Беларусь жыве і будзе жыць, падымаецца беларускае адраджэньне і Вызвольны Рух. Усебеларускі Зьезд і Акт Незалежнасьці прыдаюць ім сілы.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 5(28). Пад псэўд. Тамаш РАКСА).*

# ЕПАРХІЯЛЬНЫ АДДЗЕЛ

У *„Беларускіх Ведамасьцях” (№4(8)/97)* мы ўжо друкавалі інфармацыю і меркаваньні прадстаўнікоў Рускай Праваслаўнай Царквы за Мяжой пра РПЦ і Маскоўскую Патрыярхію (гэты спэцаддзел КГБ у Савецкім Саюзе). Пасьля распаду СССР ні КГБ, ні тым больш РПЦ ні ў чым істотна не зьмяніліся. Цяпер КГБ заняло ўсю ўладу ў Расеі, і генэрал КГБ Рыдзігер (агентурная клічка „Дроздов”), ён жа Патрыярх Маскоўскі і „всея Русі” Алексій 2-гі цынічна „благословляет” рускае бандыцкае „воінства” на вайну і вынішчэньне чачэнцаў. Камэнтары тут, як кажуць, не патрэбныя. Генэралы ад КГБ усюды аднолькавыя: ці яны ў царкве, ці ў культуры, ці ў „барцах” за дэмакратыю.

На Беларусі сталі выдаваць „Минские епархиальные ведомости”, некалі махровае вялікадзяржаўнае рускае выданьне. Трапіўся мне яго 2-гі нумар за 1999 г. Варта пачытаць. (Для тых, хто разумее расейшчыну, цытаты даем у арыгінале. Бо, як кажуць, стыль – гэта чалавек. Беларускі пераклад – у канцы.)

Там напісана: *„Во внимание к усердным трудам по строительству храма в честь святого мученика Иоанна Воина в в/ч 3310 Министр внутренних дел Республики Беларусь генерал-лейтенант* ***Сиваков Юрий Леонидович**** *по представлению нашему Его Святейшеством Святейшим Патриархом Московским и всея Руси Алексием Вторым награждается Патриаршей Грамотой.*

*Митрополит Минский и Слуцкий Филарет,*
*Патриарший Экзарх всея Беларуси.*

*Во внимание к усердным трудам... заместитель командующего внутренними войсками МВД Республики Беларусь полковник* **Билин Николай Васильевич** *по представлению нашему... награждается медалью Русской Православной Церкви святого благославенного князя Даниила Московского.”*** І г.д. – усіх 30 асобаў з МУС, штабу і тылу.

Цікава чытаецца таксама рэдакцыйная публікацыя „Дорога к храму”. Гэта размова са старшынёй Менгарвыканкама („мэрам”, як напісана пад фатаграфіяй) афіцэрам КГБ У. Ярмошыным. *„Председатель Мингорисполкома* **Владимир Васильевич Ермошин** *является Почетным членом попечительского Совета Свято-Покровского прихода в Минске (Крупцы),* – пішацца ў публікацыі, – *возглавляет попечительский Совет Минского прихода в честь иконы Божией Матери „Всех скорбящих Радость”...*

*Через труд и страдания, падения и взлёты, великими стараниями людей Белая Русь возрождает в себе Святую Русь,”**** – падсумоўваецца ў тэксце. Аказваецца У. Ярмошын *„на пути к Храму”*.

(І праўда. Добры нюх у епархіяльных таварышаў. Праз якіх паўгода Ярмошын стане кіраўніком лукашэнкаўскага ўраду.)

Тэма „русі”, „славянства” разьвіваецца ў наступнай публікацыі – дакладзе Уладыкі Філярэта на V-х Міжнародных Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытаньнях. Зь яго мы даведваемся, *„что шаг за шагом народы славянских стран приближаются к своим историческим и духовным корням, принимая в самое сердце призыв святых предков к единству...*

*Мы видим,* – мовіць Філярэт, – *что истинно народному по своей природе духовному стремлению к единству в православном славянском мире сегодня противостоит утилитарное объединение Европы. Ибо различия оснований, на которых зиждутся фундаменты общеевропейского и общеславянского строительства, проявляются в последнее время с особой силой.*

*Политические элиты секулярного мира усиленно пытаются развести православные славянские народы в разные стороны...”* і г.д.

*„Только деятельное подражание вере наших равноапостольных учителей,* – падсумоўвае экзарх, – *способно укрепить сердца и просветить разум исторически православных славян...*

*И тогда, в ответ на наш усердный труд, воскреснет Бог в сердцах православного славянства, и расточатся враги его!*

*Достижению этой высокой цели призваны послужить и наши ежегодные встречи. Сего ради мы и собрались в пятый раз.”*****

Што называецца, ня толькі „собрались”, але і „прыплылі”, „прыехалі”. Куды ўжо далей.

У Менску з даўніх часоў існуе Вышэйшая школа КГБ. Выступ уладыкі Філярэта мог бы стаць хрэстаматыйным, ці вучэбным дапаможнікам па палітычнаму цемрашальству, як трэба інтэлігентна палітыканстваваць у рэлігіі, „асьветніцтве” ды культуры на тэму расейскай палітыкі аншлюсу Беларусі, ні разу ня ўспомніўшы пры гэтым ні Беларусь, ні грубае слоўца „інтэграцыя” ды іншыя эўфемізмы. Прэцэзійная праца.

*„В праздник Всех святых,* – пішуць далей службісты рангам ніжэй (але ў тым жа стылі), – *6 июня, наша Белая Русь, все славянские народы праздновали 200-летие со дня рождения Александра Сер-*

---

* Стаўленік Лукашэнкі, расеец і беларусафоб, заявіў, што выканае любы загад начальства. Гэта па яго распараджэньні зьбіваюць і катуюць беларускіх пікетоўшчыкаў і дэманстрантаў.

** Прымаючы пад увагу старанную працу па будаўніцтву храма ў гонар сьвятога пакутніка Яна Ваяра ў в/ч 3310, Міністар унутраных справаў Рэспублікі Беларусь генэрал-лейтэнант Сівакоў Юры Леанідавіч па прапанове нашай Яго Сьвятасьцю Сьвяцейшым Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем Другім узнагароджваецца Патрыярхавай Граматай.

*Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філярэт,*
*Патрыярхавы Экзарх усяе Беларусі. – (З рус.)*

Прымаючы пад увагу старанную працу,... намесьнік камандуючага ўнутранымі войскамі МУС Рэспублікі Беларусь палкоўнік Білін Мікалай Васільевіч па прапанове нашай... узнагароджваецца мэдалём Рускай Праваслаўнай Царквы сьвятога добравернага князя Данілы Маскоўскага. – *(З рус.)*.

*** Старшыня Менгарвыканкама Уладзімер Васільевіч Ярмошын зьяўляецца ганаровым сябрам апякунскай Рады Сьвята-Пакроўскай парафіі ў Менску (Крупцы), узначальвае апякунскую Раду Менскай парафіі ў гонар абраза Маці Божай „Усіх маркотных Радасьць”...

Праз працу і пакуты, упадкі і ўздым, вялікімі стараньнямі людзей Белая Русь адраджае ў сабе Сьвятую Русь. – *(З рус.)*.

**** „што крок за крокам народы славянскіх краінаў набліжаюцца да сваіх гістарычных і духоўных карэньняў, прымаюць у самае сэрца заклік сьвятых продкаў да адзінства...

Мы бачым, што сапраўды народнаму па сваёй прыродзе духоўнаму імкненьню да адзінства ў праваслаўным славянскім сьвеце сёньня супрацьстаіць утылітарнае аб'яднаньне Эўропы. Бо розьніца асноваў, на якіх стаяць падмуркі агульнаэўрапейскага і агульнаславянскага будаўніцтва, выяўляецца ў апошні час асабліва моцна.

Палітычныя эліты сэкулярнага сьвету ўзмоцнена стараюцца разьвесьці праваслаўныя славянскія народы ў розныя бакі...

Толькі дзейнае насьледваньне веры нашых роўных з апосталамі настаўнікаў здольнае ўмацаваць сэрцы і наставіць розум гістарычна-праваслаўных славянаў...

І тады, адклікнуўшыся на нашу старанную працу, уваскрэсьне Бог у сэрцах праваслаўнага славянства і расцярушацца ворагі яго!

Дасягненьню гэтай высокай мэты заклікаты паслужыць і нашы штогоднія сустрэчы. Дзеля гэтага мы і сабраліся ў пяты раз.” – *(З рус.)*.

*геевича Пушкина – величайшего поэта всех времен и народов.”** (У пачатку чэрвеня, дарэчы, была жалоба. Беларускі народ перажываў нацыянальную трагедыю – сьмерць людзей на Нямізе. – *З. П.*)

Камэнтаваць гэтае словаблудства, зноў жа – няма патрэбы. На Захадзе пра паэта Пушкіна ведаюць у асноўным толькі вузкія спэцыялісты (і ня ўсе лічаць яго вялікім), а ў астатнім сьвеце – ня ведае, практычна, ніхто. Ды й не такі ўжо вялікі гэта паэт, калі хто знаёмы зь іншай літаратурай, а ня толькі з рускай, ды калі вучыўся ня толькі ў савецкай школе. Але для расейскіх шавіністаў сьвет замыкаецца на іх самых, а фразы тыпу „великий, могучий”, „язык Ленина и Пушкина” etc. ёсьць вялікадзяржаўная прапаганда, унутраная зброя рускага імпэрыялізму.

Епархіяльны часопіс зьмяшчае таксама хроніку дзеяньняў Мітрапаліта Філярэта за два з паловай месяцы. Гэты матэрыял, відаць, найбольш аб’ектыўны і, як кажуць, добра чытаецца. Цытуем яго ў скарачэньні.

*„11 апреля. По окончании Пасхального ночного Богослужения Владыка Филарет разговелся в кругу Секретаря Минской Епархии архимандрита Иоанна (Хомы), посла Греции в РБ господина Гумаса Панайотиса, посла ФРГ в РБ господина Х. Винкельмана.*

*15 апреля. После обеда Владыка Филарет поздравил сотрудников магазина „Православная книга”.*

*24 апреля. В день освящения первого полкового храма Беларуси во имя Иоанна Воина в д. Околица состоялась встреча Владыки Экзарха с Министром Внутренних дел РБ* **Ю.Л. Сиваковым**, *заместителем Министра МВД РБ командующим внутренними войсками полковником* **Ю.В. Жадобиным** *и офицерским составом военной части.*

*25 апреля. Владыка Филарет имел встречу с заместителем Председателя Солигорского райисполкома* **А.А. Казакевичем**. *Вечером в своей резиденции Владыка Митрополит имел встречу с представителямі компании „Сюд Франс” г.Тулуза (Франция) – президентом фирмы господином* **Ж. Бакалоном**, *коммерческим директором* **М. Коломбье** *и представителем предприятия в РБ* **И.И. Калацким** *по вопросу сотрудничества.*

*26 апреля. Владыка Митрополит имел встречу с Министром по чрезвычайным ситуациям РБ генерал-майором* **В.П. Астаповым**.

*1 мая. Его Высокопреосвященство имел встречу с Председателем Мозырского горисполкома* **И.Д.Замулко**, *а также с председателем Мозырьского городского Совета депутатов* **О.Г. Артеменко**.

*6 мая. Его Высокопреосвященство присутствовал на заседании Ученого Совета Богословского факультета ЕГУ.*

*7 мая. Владыка Экзарх присутствовал на торжественном праздничном собрании по случаю Дня Победы, организованном Минским городским исполнительным комитетом.*

*21 мая. Высокопреосвященнейший Владыка имел встречу с первым вице-премьером Правительства РБ* **В.Б. Долголёвым**.

*22 мая. Находясь с архипастырским визитом в Борисовском благочинии, Владыка Филарет имел встречу с Председателем Крупского райисполкома* **Н.М. Гаевским**.

*26 мая. Вечером Его Высокопреосвященство имел встречу с Первым вице-премьером Правительства РБ* **В.Б. Долгалёвым**.

*27 мая. Вечером в Минском Епархиальном Управлении Его Высокопреосвященство имел встречу с послом Российской Федерации в РБ* **В.И. Долговым**.

*31 мая. Вечером в своей резиденции Владыка Митрополит встречался с деловыми людьми Республики Беларусь.*

*1 июня. Его Высокопреосвященство участвовал в торжественном вечере, посвященном 200-летию со дня рождения А.С. Пушкина, который состоялся в Доме культуры города Слонима.* (Гэта дзень нацыянальнай жалобы. – З. П.)

*2 июня. Владыка Филарет встретился с Председателем Копыльского райисполкома* **И.С. Уласевичем**.

*Во второй половине дня Владыка Митрополит принял участие в заседании Дворянского собрания* (**?**) *Республики Беларусь.*

*4 июня. Во второй половине дня Владыка Экзарх принял в своей резиденции Председателя Правительства Российской Федерации* **С.В. Степашина**, *находившегося в Беларуси с рабочим визитом.*

*11 июня. Высокопреосвященнейший Владыка Экзарх почтил своим присутствием официальный прием, устроенный Посольством РФ по случаю Дня Федеративной Российской Республики.*

*13 июня. Владыка Митрополит имел встречу с Председателем Московского раисполкома Минска* **А.М. Чикилевым**.

*24 июня. Патриарший Экзарх всея Беларуси отбыл в Беловежскую Пущу, где ему была предложена широкая программа осмотра национального заповедника.*

*Затем Его Высокопреосвященство Владыка Экзарх почтил своим присутствием одну из приграничных воинских частей и преподал воинам свое архипастырское благославение на достойное несение солдатской службы.*

*25 июня. Владыка Экзарх имел беседу с Председателем Малоритского райисполкома* **А.А. Нехаелом**.

*27 июня. Владыка Филарет имел встречу с Заместителем председателя Мядельского райисполкома* **И.И. Шаранговичем**.

*28 июня. В Минском Епархиальном управлении Патриарший Экзарх всея Беларуси Митрополит Филарет встретился с Министром связи РБ* **В.И. Гончаренко**.

*29 июня. Утром Патриарший Экзарх всея Беларуси имел встречу с Президентом РБ* **А.Г. Лукашенко** *в его резиденции, на которой обсуждались вопросы жизни Белорусской Православной Церкви.* (Такой Царквы не існуе. Ёсьць Беларускі Экзархат Рускай Праваслаўнай Царквы. – З.П.)

*Во второй половине дня Его Высокопреосвященство встретился с Министром Внутренних Дел РБ* **Ю.Л. Сиваковым**, *а затем принял в своей резиденции вице-премьера Совета Министров* **В.П. Заметалина**.

*30 июня. Во второй половине дня Владыка Экзарх принял в МЕУ губернатора Новгородской области* (вобласьць на паўночным захадзе Расеі. – З.П.) **М.М. Прусака** *по его просьбе.***

* На сьвята Усіх сьвятых, 6 чэрвеня, наша Белая Русь, усе славянскія народы сьвяткавалі 200-годдзе з дня нараджэньня Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна – найвялікшага паэта ўсіх часоў і народаў. – *(З рус.).*

** 11 красавіка. Пасьля сканчэньня Вялікоднай начной Багаслужбы Уладыка Філярэт разгавеуся ў коле Сакратара Менскай Епархіі архімандрыта Яна (Хамы), амбасадара Грэцыі ў Рэспубліцы Беларусь спадара Гумаса Панайоціса, амбасадара ФРГ у Рэспубліцы Беларусь спадара Х. Вінкельмана.

15 красавіка. Пасьля абеду Уладыка Філярэт павіншаваў супрацоўнікаў кнігарні „Праваслаўная кніга”.

24 красавіка. У дзень асьвячэньня першага палкавога храма Беларусі ў імя Яна Ваяра ў в. Ваколіца адбылася сустрэча Уладыкі Экзарха зь Міністрам Унутраных справаў Рэспублікі Беларусь Ю.Л. Сіваковым, намесьнікам Міністра МУС Рэспублікі Беларусь камандуючым унутранымі войскамі палкоўнікам Ю.В. Жадобіным і афіцэрскім складам ваеннай часткі.

25 красавіка. Уладыка Філярэт меў спатканьне з намесьнікам Старшыні Салігорскага райвыканкама А.А. Казакевічам. Вечарам у сваёй рэзідэнцыі Уладыка Мітрапаліт меў спатканьне з прадстаўнікамі кампаніі „Сюд Франс” г.Тулуза (Францыя) – прэзыдэнтам фірмы

Вось такая дзейнасьць **Патрыярхавага Экзарха**. На прыём ходзіць толькі да **Лукашэнкі** і да генэрала **Сівакова** (які, відаць, вышэй яго па рангу); астатнія – палкоўнікі тыпу **Замэталіна** – кіруюцца да Філярэта (ды й яшчэ па іхняй просьбе).

---

спадаром Ж. Бакалёнам, камэрцыйным дырэктарам М. Каламб'ё і прадстаўніком прадпрыемства ў Рэспубліцы Беларусь І.І. Калацкім па пытаньнях супрацоўніцтва.

26 красавіка. Уладыка Мітрапаліт меў спатканьне зь Міністрам па надзвычайных сытуацыях Рэспублікі Беларусь генерал-маёрам В.А. Астапавым.

1 траўня. Яго Высокая Сьвятасьць меў спатканьне са старшынёй Мазырскага гарвыканкама І.Д. Замулкам, а таксама са старшынёй Мазырскай гарадзкой Рады дэпутатаў А.Г. Арцёменкам.

6 траўня Яго Высокая Сьвятасьць прысутнічаў на паседжаньні Вучонай Рады Багаслоўскага факультэта ЭГУ.

7 траўня. Уладыка Экзарх прысутнічаў на ўрачыстым сьвяточным сходзе з нагоды Дня Перамогі, які арганізаваў Менскі гарадзкі выканаўчы камітэт.

21 траўня. Высакасьвяцейшы Уладыка меў спатканьне з першым Віцэ-прэм'ерам Ураду Рэспублікі Беларусь В.Б. Даўгалёвым.

22 траўня. Знаходзячыся з архіпастырскім візітам у Барысаўскім дабрачыньні, Уладыка Філярэт меў спатканьне са старшынёй Крупскага райвыканкама Н.М. Гаеўскім.

26 траўня. Вечарам Яго Высокая Сьвятасьць меў спатканьне з Першым віцэ-прэм'ерам Ураду Рэспублікі Беларусь В.Б. Даўгалёвым.

27 траўня. Вечарам у Менскім Епархіяльным Упраўленьні Яго Высокая Сьвятасьць меў спатканьне з амбасадарам Расейскай Фэдэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь В.І. Даўговым.

31 траўня. Вечарам у сваёй рэзідэнцыі Уладыка Мітрапаліт сустракаўся з дзелавымі людзьмі Рэспублікі Беларусь.

1 чэрвеня. Яго Высокая Сьвятасьць удзельнічаў ва ўрачыстым вечары, прысьвечаным 200-годдзю з дня нараджэньня А.С. Пушкіна, які адбыўся ў Доме культуры горада Слоніма. *(Гэта дзень нацыянальнай жалобы. – З. П.)*

2 чэрвеня. Уладыка Філярэт спаткаўся са старшынёй Капыльскага райвыканкама І.С. Уласевічам.

У другой палове дня Уладыка Мітрапаліт прыняў удзел у паседжаньні Дваранскага сходу (?) Рэспублікі Беларусь.

4 чэрвеня. У другой палове дня Уладыка Экзарх прыняў у сваёй рэзідэнцыі Старшыню Ураду Расейскай Фэдэрацыі С.В. Сцяпашына, які знаходзіўся ў Беларусі з рабочым візітам.

А тым часам, 30 траўня 1999 г. насупраць Сабора адбылася трагедыя на станцыі мэтро „Няміга". Страшнай, недарэчнай і пакутлівай сьмерцю загінула больш за паўсотні чалавек. У хроніцы важнейшых дзеяньняў Філярэта гэта ніяк не адбілася. Былі, відаць, больш важныя справы, апісаныя і не апісаныя. Але прыйдзе час, і шмат што стане зразумелым.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 3(26). Пад псэўд. Адам Мікша).*

---

11 чэрвеня. Высокасьвяцейшы Уладыка Экзарх уганараваў сваёй прысутнасьцю афіцыйны прыём, што зрабіла амбасада РФ з нагоды Дня Фэдэратыўнай Расейскай Рэспублікі.

13 чэрвеня. Уладыка Мітрапаліт меў спатканьне са старшынёй Маскоўскага райвыканкаму Менска А.М. Чыкілёвым.

24 чэрвеня. Патрыярхавы Экзарх усёй Беларусі адбыў у Белавежскую Пушчу, дзе яму была прапанаваная шырокая праграма агляду нацыянальнага запаведніка.

Потым Яго Высокая Сьвятасьць Уладыка Экзарх уганараваў сваёй прысутнасьцю адну з памежных вайсковых частак і выклаў ваярам сваё архіпастырскае багаслаўленьне на годнае трыманьне салдацкай службы.

25 чэрвеня. Уладыка Экзарх меў размову са старшынёй Маларыцкага райвыканкама А.А. Нехаелам.

27 чэрвеня. Уладыка Філярэт меў спатканьне з Намесьнікам старшыні Мядзелскага райвыканкаму І.І. Шаранговічам.

28 чэрвеня. У Менскім Епархіяльным Упраўленьні Патрыярхавы Экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Філярэт спаткаўся з Міністрам сувязі У.І. Ганчарэнкам.

29 чэрвеня. Нараніцы Патрыярхавы Экзарх усяе Беларусі меў спатканьне з прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкам у яго рэзідэнцыі, на якім абмяркоўваліся пытаньні жыцьця Беларускай Праваслаўнай Царквы. *(Такой Царквы не існуе. Ёсьць Беларускі Экзархат Рускай Праваслаўнай Царквы. – З.П.)*

У другой палове дня Яго Высокая Сьвятасьць сустрэўся зь Міністрам Унутраных Справаў Рэспублікі Беларусь Ю.Л. Сіваковым, а потым прыняў у сваёй рэзідэнцыі віцэ-прэм'ера Савета Міністраў У.П. Замэталіна.

30 чэрвеня. У другой палове дня Уладыка Экзарх прыняў у МЕУ губэрнатара Ноўгарадзкай вобласьці *(вобласьць на паўночным захадзе Расеі. – З. П.)* М.М. Прусака па ягонай просьбе. – *(З рус.)*



(Фота з Сецiва)

***77. Бар. Расейская «клюква развесістая» (супэр-кіч) на Беларусі.***

# БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ ЖЫВЕ І ЗМАГАЕЦЦА

***(Кліўленд, 2 верасьня 2000 г. 24-я Сустрэча беларусаў Канады і Паўночнай Амэрыкі. Вытрымкі з дакладу)***

... Мы, беларусы, змагаліся за незалежнасьць Беларускай дзяржавы і за адраджэньне беларускай культуры 200 гадоў. Наш рух набыў грамадзкую сілу, і мы яе засьведчылі па-сапраўднаму толькі тады, калі мы аб'ядналі нашу вызвольную барацьбу вакол беларускай нацыянальнай ідэі і канцэптуальна сфармавалі яе як ідэю *Адраджэньня*. У гэтай ідэі, у ідэйнасьці Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху ёсьць ягоная сіла і сакрэт незьнішчальнасьці. Усё астатняе, што ўзьнікла па-за ідэяй *Нацыянальнага Адраджэньня*, стаяла наўзбоч.

Першы вынік вялікай ідэі даў ***Сакавік 1918 года***, калі была адроджана беларуская дзяржаўнасьць. Ворагі Беларушчыны, і найперш рускі імпэрыялізм, выдатна разумелі сілу Беларускай ідэі. За пэрыяд бальшавізму было зьнішчана шмат беларусаў і разбурана шмат чыньнікаў беларускай культуры.

... Але вось у канцы 80-х, грунтуючыся на Беларускай ідэі, ствараецца *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"*. І ўсё аднавілася.

***Тое, што ў 1991 годзе, дастасаваўшы правільныя і сьмелыя дзеяньні, удалося вельмі малымі сіламі аднавіць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня – гэта ёсьць наша найвялікшая, найцудоўнейшая перамога ў ХХ-м стагоддзі, – найслаўнейшая „бітва пад Воршай".***

Для імпэрскай Масквы хуткае аднаўленьне дзяржаўнасьці Беларусі было поўнай нечаканасьцю. КГБ не магло гэта ўсьвядоміць. На нейкі момант яны разгубіліся. Але ўжо з 1992 года пачаўся асэнсаваны наступ на беларускую незалежнасьць.

Галоўны ўдар быў скіраваны супраць Беларускай Нацыянальнай ідэі і галоўнай адраджэнскай арганізацыі – *Беларускага Народнага Фронту*.

... Некаторыя лібэральна-дэмакратычныя колы на Захадзе прычыніліся да сьведамага аслабленьня беларускага адраджэнскага руху, робячы стаўку на добрыя дачыненьні з Расеяй. Дыктатура на Беларусі – гэта рэжым унутранай прамаскоўскай акупацыі, ажыцьцёўленай рускімі спэцслужбамі. Мэта рэжыму – інкарпарацыя Беларусі ў Расею і задушэньне беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Лібэральны Захад (і найперш Эўропа) ня хочуць бачыць канфлікту адраджэнскай Беларусі з вялікадзяржаўнай Расеяй, бо ня хочуць рабіць выбар. Яны вядуць двайную гульню, як у руска-чачэнскай вайне. А тым часам працягваецца генацыд і гіне чачэнскі народ.

Палітыка лібэральнай Эўропы на Беларусі заключаецца ў тым, каб шляхам перамоваў і выбараў стварыць фармальныя ўмовы для прызнаньня рэжыму Лукашэнкі, альбо пры дапамозе Масквы і коштам незалежнасьці Беларусі ажыцьцявіць тут фармальныя перамены ва ўладзе, назваць гэта перамогай дэмакратыі і „зачыніць пытаньне".

Тое, што за гэтым настане анэксія Беларусі Расеяй пад выглядам „аб'яднаньня" дзяржаваў – для іх не бяда. Анэксія будзе пададзена імі як унутраная справа абедзьвюх краінаў і як „дэмакратычны выбар" ейных народаў.

Нас не зьдзівіла, што два дні таму, 31 жніўня, сэсія АБСЭ ў Вене, нягледзячы на нібыта антылукашэнкаўскую пазыцыю, прыняла сьлізкае, невыразнае рашэньне, якое дае магчымасьць пасылаць назіральнікаў на антыдэмакратычныя выбары ў Беларусь (і тым самым закласьці падставы для прызнаньня выбараў).

Праводзячы ўзгодненую з Масквой палітыку, лібэральныя колы Эўропы зрабілі стаўку на агульнадэмакратычную фразэалёгію і маргінальныя арганізацыі ў Беларусі, не зьвязаныя (ці мала зьвязаныя) зь беларускім нацыянальным адраджэньнем. Створаны шэраг так званых „недзяржаўных арганізацыяў", якія спажываюць заходнія гранты і *гавораць пра правы чалавека у той час, калі ўсіх правоў пазбаўлена беларуская нацыя і беларускі народ*.

Гэтую падвойную палітыку на Беларусі выяўляе, перш за ўсё, кіраўнік Місіі АБСЭ ў Менску спадар **Ганс-Георг Вік**. Ён шмат прычыніўся да стварэньня канглямэрату так званай „аб'яднанай апазыцыі", зацягненьня грамадзтва ў перамоўны працэс і цяпер – у антыдэмакратычныя выбары кішэннага парляманту.

Менавіта сп. Вік, Адрыян Севярын і іншыя эўрапейскія дзеячы АБСЭ засьведчылі выразную прарасейскую антыбеларускую палітыку і выцягнулі на паверхню палітычнага жыцьця збанкрутаваных актывістаў з каманды Лукашэнкі, якія некалі спрыялі яго прыходу да ўлады і змагаліся супраць Беларускага Народнага Фронту. (Маюцца на ўвазе такія асобы, як Булахаў, Лябедзька, Чыгір, Фядута, Ганчар, Сініцын і іншыя).

Цяпер некаторыя зь іх называюць сябе „дэмапазыцыяй", атрымліваюць сродкі з Масквы, езьдзяць у Маскву і дамаўляюцца там аб сумесных справах па „дэмакратыі" і па інтэграцыі Беларусі ў Расею.

*Беларускі Народны Фронт і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ як арганізацыі Беларускага Вызвольнага Руху зрабілі шэраг захадаў, каб прадухіліць вынікі антыбеларускай палітыкі. Прынятыя дакуманты, дзе выяўленыя і прааналізаваныя антыбеларускія дзеяньні. Абгрунтаваны наш няўдзел у антыдэмакратычных парляманцкіх выбарах 2000 года, засьведчанае поўнае адмежаваньне ад „аб'яднанай дэмапазыцыі"*.

Аналіз паказвае, што калі Маскве ўдасца шляхам прэзыдэнцкіх выбараў замяніць Лукашэнку на іншага свайго нібыта „дэмакратычнага" стаўленьніка, то гэта будзе для незалежнасьці Беларусі варыянт яшчэ горшы, чым прымітыўная і грубая дыктатура Лукашэнкі. Бо пад выглядам нібыта перамогі дэмакратыі адчыняць дарогу да „дэмакратычнага аншлюсу" нашай краіны.

* * *

Зараз Беларускім Народным Фронтам афіцыйна пастаўлена пытаньне аб антыбеларускай дзейнасьці кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка і аб выдаленьні яго зь Беларусі. Выказана патрабаваньне да АБСЭ спыніць прапаганду псэўдавыбараў у Беларусі і не прысылаць назіральнікаў на фальшывыя выбары...

*... Але нават у гэтых цяжкіх варунках Беларусь выглядае лепш, чым варварскі гнілы рэжым у Расеі.*

***У нас няма іншае будучыні, як сьветлая будучыня. Адчуйма ж гэта і набліжайма яе прыход*.**

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 6(29)*

# ЗАХАВАНЬНЕ СУВЕРЭНІТЭТУ І ЎМАЦАВАНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ – САМАЯ ВАЖНАЯ ЎМОВА ДЗЕЛЯ АДНАЎЛЕНЬНЯ ПРАЎНЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ Ў БЕЛАРУСІ

***(Падсумоўка сказанага і напісанага)***

...Дыктатура і рэжым, устаноўленыя на Беларусі, не зьяўляюцца вынікам унутранага канфлікту грамадзкіх сілаў. Гэта ёсьць канфлікт, прынесены звонку і абумоўлены ён палітыкай расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму, які паставіў на мэце аднавіць расейскую дзяржаву ў межах былога СССР.

Гэтую палітыку расейскае кіраўніцтва, і перш за ўсё КГБ, пачалі яшчэ ў 1992 годзе. Сістэмна яна была сфармуляваная ў сакрэтнай дактрыне, падпісанай Ельцыным, аб дзеяньнях Расеі ў дачыненьні да краінаў СНД. Распрацоўка была падрыхтаваная ў жніўні 1995 г. У гэтым жа годзе тэкст гэтага таемнага дакуманту стаў вядомы на Беларусі і быў надрукаваны на Ўкраіне ўкраінскім РУХАМ. Усе наступныя гады і цяпер мы назіраем, як выкладзеныя там рэваншысцкія імпэрскія пляны расейская ўлада імкнецца ажыцьцявіць.

Найбольш драматычна сітуацыя склалася ў Чачэніі і на Беларусі. На Беларусі ў 1994 г. выкарысталі прэзыдэнцкія выбары, савецкую сістэму беларускай улады і савецкую каляніяльную адміністрацыю і правялі на прэзыдэнцкую пасаду сваю кагэбоўскую крэатуру – Аляксандра Лукашэнку,– чалавека без палітычнай біяграфіі.

Пасьля перавароту 1996 года расейскімі спэцслужбамі (перш за ўсё КГБ-ФСБ) пры дапамозе Лукашэнкі была ажыцьцёўлена ***ўнутраная акупацыя Беларусі***, якая заключалася ў наступным:

– у заняцьці ўсіх кіруючых пасадаў ва ўладзе і ў эканоміцы Беларусі расейцамі, выхадцамі з Расеі і функцыянерамі КГБ-ФСБ (у беларускім урадзе ўжо, практычна, не засталося ніводнага беларуса);

– у правядзеньні антыбеларускай русіфікатарскай унутранай палітыкі (г.зн. закрыцьці беларускіх школаў, манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, разбурэньні асноваў дэмакратыі і грубым парушэньні правоў чалавека);

– у правядзеньні зьнешняй палітыкі, накіраванай на злучэньне з Расеяй і на ліквідацыю суверэнітэту Беларусі (стварэньне акупацыйнай дактрыны „інтэграцыі”).

Такім чынам расейская ўнутраная акупацыя нашай краіны – гэта ёсьць часовы этап, падрыхтоўчы працэс, які вядзе да ліквідацыі суверэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі, да аншлюсу яе Расеяй.

Дыктатура Лукашэнкі – гэта ёсьць толькі функцыя ўнутранай акупацыі. Акупацыйны рэжым ня можа быць дэмакратычным. Гэта заўсёды дыктатура. А ў нашай сітуацыі яшчэ і праграма да ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Калі не разумець гэтых відавочных зьяваў, ігнараваць імпэрскую палітыку Расеі ды змагацца толькі з дыктатурай Лукашэнкі, то такое сьляпое змаганьне, калі б яно было пасьпяховым, можа прывесьці толькі да аднаго выніку: *да зьмены адной расейскай крэатуры (Лукашэнкі) іншай крэатурай*. І ўсё паўторыцца.

(Падобная сытуацыя была разыграна ў 1994 годзе, калі дрэннага прарасейскага Кебіча зьмянілі на „лепшага” прарасейскага Лукашэнку.)

...Адсюль жа вынікае іншае відавочнае палажэньне: за акупацыйнай дыктатурай Лукашэнкі ня можа быць дэмакратычных выбараў парляманту. Выбары будуць абавязкова недэмакратычныя. Бо яны накіраваныя ня толькі на захаваньне ўлады дыктатара, але, перш за ўсё, на працяг акупацыйнай палітыкі Расеі. Лукашэнку і яго расейскім заплечнікам абходзіць правесьці любыя выбары ў парлямант Беларусі, любым спосабам (хоць напралом), але каб стварыць поўнасьцю свой парлямант і мець магчымасьць паставіць пытаньне пра легалізацыю сваёй улады. Расейцам патрэбны „свой” кішэнны парлямант у Беларусі, каб легальна праводзіць праз яго інтэграцыйныя акты паэтапнага аншлюсу нашай краіны і дамагацца потым іхняга прызнаньня міжнароднай супольнасьцю.

У некаторых беларусаў складваецца ўражаньне, што Захад не разумее сутнасьці беларуска-расейскага канфлікту і зьместу драматычных падзеяў на Беларусі і таму падтрымлівае якраз тое „сьляпое” змаганьне толькі з дыктатурай Лукашэнкі за дэмакратыю і правы чалавека.

Аднак аналіз паказвае, што Захад у цэлым ужо арыентуецца ў сытуацыі, але ён ня здольны зрабіць выбару паміж Беларусьсю і Расеяй. Ён трымаецца найгоршай тактыкі: падтрымлівае беларускі дэмакратычны рух і – заплюшчвае вочы на расейскі імпэрыялізм.

У рэальнасьці гэта ёсьць спрыяньне самым цёмным сілам у расейскай імпэрскай палітыцы (КГБ-НКВД-ФСБ), якія цяпер поўнасьцю захапілі абсалютную ўладу ў Расеі. Гэтак жа, як у Беларусі, да ўлады ў Расеі прышлі не ліквідаваныя пасьля распаду КПСС і СССР савецкія спэцслужбы, якія былі асновай камуністычнай сістэмы, стварылі ГУЛАГ і зьнішчылі дзясяткі мільёнаў людзей. Гэта трывожная гістарычная і буйная палітычная падзея. Нават у СССР усемагутны НКВД ня меў абсалютнай улады. Цяпер у яго руках усё. Палітыка, якую пачалі праводзіць рускія кагэбісты, можа скончыцца толькі калючым дротам і вайной, пагрозай для ўсёй Эўропы.

Для нас, беларусаў, гэтая палітыка і раней, і цяпер нясе вялікія няшчасьці, страту незалежнасьці, этнацыд і вынішчэньне. Мы шукаем разуменьня, агульных інтарэсаў і салідарнасьці на Захадзе.

Дэмакратыя, справядлівасьць, законнасьць, парляментарызм, забесьпячэньне правоў чалавека – усё гэта магчымае толькі тады, калі мы абаронім наш дзяржаўны суверэнітэт і гарантуем нацыянальную незалежнасьць. ***Незалежнасьць ёсьць свабода***. Менавіта ў гэтым кантэксьце абарона незалежнасьці Беларусі ёсьць цяпер найважнейшым пытаньнем беларускага грамадзтва.

Мы, беларусы, ніколі не прызнаем акупацыйных выбараў, праведзеных акупацыйным рэжымам. Мы стаім на законных, праўных пазыцыях і спадзяёмся на салідарную падтрымку міжнароднай супольнасьці.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*(Вытрымкі з дакладу, прачытаным 29.09.2000 г.*
*на Міжнароднай канфэрэнцыі ў Вільні:*
*„ Разьвіцьцё парляментарызму ў Рэспубліцы Беларусь”)*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 6(29).*

# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСАЎ

Дарагія землякі! Выбары 15-га кастрычніка нічога добрага не дадуць. Нічога не пераменіцца. Стане горай.

Сутнасьць выбараў у тым, каб узаконіць уладу Лукашэнкі. У гэтым зацікаўленыя Масква і немцы. Масква хоча, каб яе прэтэнзіі на Беларусь і дамовы, якія яна заключыла з Лукашэнкам, зацьвердзіла паслушная ёй новая легальная „палата".

Немцы, у асобе кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка, дапамагаюць Маскве загнаць Беларусь у Расею ўзамен на гарантыі і павелічэньне паставак таннага газу і нафты з Расеі праз Беларусь. Пра гэта 25 верасьня на канфэрэнцыі ў Беластоку цынічна паведаміў спадар Ганс Вік.

Паўтара гады таму, ў час візыту канцлера Шродэра ў Маскву, пра расейска-нямецкую змову супраць Беларусі прагаварыўся Ельцын.

Беларусь зьяўляецца аб'ектам рэалізацыі нямецка-маскоўскай палітыкі перадзелу Ўсходняй Эўропы. Нашую краіну лічаць разьменнай манетай паміж Масквой і Бэрлінам.

Менавіта праз іх ідзе фінансаваньне так званай „балотнай дэмапазыцыі" ў Беларусі і ўцягваньне яе ў выбары. „Дэмакратам" прапануюць па пяць тысячаў даляраў толькі за тое, каб яны ўдзельнічалі ў выбарах. І многія прадаліся.

Можна па-рознаму адносіцца да дэмакратычных „герояў", але беларусы павінны памятаць, што людзі, схільныя прадавацца за грошы ў палітыцы, маніпуляваць грамадзтвам, імітаваць „маршы" і весьці іх у балота дзеля інтарэсу сваіх спонсараў, – гэтыя людзі ніколі не павінны быць ва ўладзе. Адзін раз яны ўжо пакарысталіся народам і прывялі на пасад Лукашэнку. Цяпер гэтыя разумнікі хочуць увайсьці зноў у тую ж ваду і на сьпіне беларусаў вярнуцца наверх, ськінуўшы Лукашэнку.

Іх зноў падтрымае Масква-Бэрлін, каб, імітаваўшы перамены, паставіць такога ж самага – свайго. Менавіта гэтак сталася ў Югаславіі. Усяго 34 мільёны даляраў патрацціў лібэральны Захад, каб прывесьці да ўлады Каштуніцу. У Масквы ж на падобныя справы – мільярды. Ня хопіць – папросяць у немцаў.

Мы павінны ведаць, што лібэральная Эўропа падтрымае любога маскоўскага стаўленьніка на Беларусі, калі толькі Масква рашыцца замяніць Лукашэнку. Гульня з такімі людзьмі, як Чыгір, Лябедзька, Статкевіч ды іншыя – несур'ёзная (дзеля займаньня публікі ў антракце), як несур'ёзная ўся гэтая створаная Г.Вікам гнілая і прадажная „аб'ядноная апазыцыя". Рыхтуецца чалавек з асяроддзя рэжыму, якому асьцярожна ствараюць імідж незалежнага, самастойнага, апазыцыйнага.

Беларусам нельга зноў трапіць у тую ж пастку, што і ў 1994-м годзе. Мы ня Сэрбія, дзе дыктатура ёсьць адлюстраваньнем ўнутраннага канфлікту. Мы – краіна акупаванай улады з антыбеларускім прамаскоўскім рэжымам. Пытаньне зьмены ўлады для нас – гэта пытаньне дзяржаўнай незалежнасьці і нацыянальнага існаваньня. Калі мы не забясьпечым незалежнасьці Беларускай дзяржавы і свабоднага існаваньня Беларускай нацыі, то ўсё астатняе – дэмакратыя, правы чалавека і г.д. – ня маюць ужо ніякага значэньня. Яны перастануць існаваць, бо нас вынішчаць усходнія варвары і заходнія „дэмакраты", тыпу спадара Віка.

Я зьвяртаюся да ўсіх беларусаў, і асабліва да адміністрацыі, дзяржаўных палітыкаў, кіраўнікоў, сяброў выбарчых камісіяў: не спрыяйце Лукашэнку фальсіфікаваць галасаваньне і праводзіць незаконныя выбары. Не падтрымлівайце яго ўладу. Гэта скончаны суб'ект. Яго зьмена ва ўладзе – пытаньне часу.

Мы, беларусы, мусім паразумецца. Мусім зьяднацца. Мы павінны супрацьставіцца новай палітыцы „Рыбентропа-Молатава", захаваць нашу незалежнасьць і зьберагчы дзяржаву, бо інакш – пацерпяць усе.

У Беларусі захаваўся механізм законнага аднаўленьня ўлады. Законныя выбары павінен аб'явіць і правесьці законны Вярхоўны Савет, законны Выканаўца функцыяў прэзыдэнта і законная Цэнтральная выбарчая камісія. (І толькі ў гэтым будзе заключацца іхняя задача.)

Лукашэнка мусіць адыйсьці ад улады пад моцным ціскам грамадзтва і асяроддзя. Ён утрымлівае ўладу незаконна. Ён будзе трымацца за ўладу зубамі, але пад націскам сілы можа адыйсьці, калі атрымае выбар і гарантыі бясьпекі.

Тады беларусы – за адзін стол. Дзяржаўная ўлада павінна быць у беларусаў. Мы – беларусы – ёсьць і павінны быць гаспадарамі на сваёй зямлі. І не прыблуды ды акупанты стануць намі кіраваць.

Вось магчымасьці, якія даюць праўнае абгрунтаваньне і ініцыятыву беларусам, а не антыбеларускаму рэжыму ды нямецкім дыпляматам з АБСЭ, што наладжвалі „перамовы" ды „дыялёгі" з рэжымам, каб паралізаваць Беларускі Вызвольны Рух і „дэмакратызаваць" Лукашэнку, здаўшы ўсіх у Расею.

Беларус, які ў цяперашніх абставінах будзе прэтэндаваць на пасаду беларускага прэзыдэнта, павінен мець адну несумненную і гарантаваную якасьць. Ён абавязаны быць беларускім патрыётам. Гэта значыць, што грамадзтва мусіць мець упэўненасьць, што ён ня здрадзіць і не папусьціць Беларусь ні Расеі, ні нямецкім падкопам з Эўропы.

Прытым гэтая якасьць павінна быць палітычным капіталам, а не кан'юнктурнай дэклярацыяй. Кандыдат беларусаў мусіць валодаць гэтакім капіталам, а не выскокваць з заявамі, як з Масквы Чыгір.

Мы разумеем, што абараніцца беларусам ад нямецка-расейскай змовы – рэч няпростая. Але тады, калі мы былі моцнымі і скансалідаванымі, – мы абараняліся пасьпяхова і перамагалі. (Успомнім Грунвальд і Воршу.)

Каб стаць моцнымі, мы мусім аднавіць перш за ўсё нашу Беларускую Салідарнасьць. Гісторыя не зачыняе нам такі шанец. Мы ня можам яго змарнаваць.

*11 кастрычніка 2000 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 6(29).*

# РАСЕЙСКА-НЯМЕЦКІ ХАЎРУС – ПАГРОЗА БЕЛАРУСІ

***(Ліст да сяброў Беларускага Народнага Фронту „АДРАДЖЭНЬНЕ" на Сойм БНФ 14 кастрычніка 2000г.)***

Трэба прызнаць, што інфармацыйная блякада беларускага Адраджэньня дае свае паганыя вынікі. Ужо хутка год, як мы (Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне") змагаемся зь нямецка-расейскай палітыкай на Беларусі, а яна прадаўжаецца, нахабна і адкрыта, пры поўным паралічы так званых „элітаў" грамадзтва. Мы ня маем сваіх беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. Трэба інтэнсіўна выкарыстоўваць іншыя інфармацыйныя магчымасьці.

Аб антыбеларускай дзейнасьці **Ганса Георга Віка** на Беларусі. Выдаленьне Г. Віка зь Беларусі зьяўляецца абавязкавым. Трэба спыніць яго падрыўную дзейнасьць і ўсіх яго хаўрусьнікаў зь нямецкага, расейскага і беларускага бакоў.

У канцы верасьня ў Беластоку адбывалася невялікая міжнародная канфэрэнцыя. На яе чамусьці прыехаў Ганс Вік і зрабіў даклад, дзе сказаў, што Эўропа хоча, каб Беларусь адышла пад Расею, бо Расея, як яны, немцы, лічаць, больш дэмакратычная. Сказаў, што яны ў АБСЭ працуюць над гэтай задачай ужо некалькі гадоў. Цаной за паглынаньне Беларусі пры дапамозе Эўропы павінна стаць гарантыя таннай дастаўкі расейскіх энэрганосьбітаў (нафты і газу) у Нямеччыну.

У нармальнай краіне гэтага „дыплямата" неабходна было б адразу выдаліць зь Беларусі за падрыўную антыдзяржаўную працу. Аднак існуе пэўны ўзровень супрацоўніцтва нямецкай дыпляматыі з рэжымам Лукашэнкі.*

Прасіў бы зьвярнуць увагу таксама, што акурат у гэты час, калі ў Беластоку зьявіўся Г. Вік, пачаліся хваляваньні ў Югаславіі і ў Маскву тэрмінова вылецеў канцлер Нямеччыны Шродэр**, дзе меў шматгадзінную размову з Пуціным. Цынічнае прызнаньне Віка ў Беластоку аб плянах здачы Беларусі расейскім імпэрыялістам пацьвярджае зьвесткі пра тое, што ў Маскве Шродэр гандляваўся з Пуціным, вымагаючы ад яго неўмяшаньня ў белградзкія падзеі і здачы ўлады Мілошавіча ўзамен за здачу Захадам Беларусі пад Расею. Падобна на тое, што Пуцін са Шродэрам дамовіліся, і трэба было засьведчыць Маскве, як нямецкая дыпляматыя ў Беларусі добра дбае пра расейскія інтарэсы. З гэтай мэтай у Беласток тэрмінова паехаў Ганс Вік і сказаў, што трэба. (Сказанае ім не было ляпсусам разьведчыка, але выкананьнем заданьня.)

Дапамагаць Г. Віку ў Менск прыязджаў з Варшавы нават кіраўнік Варшаўскай місіі АБСЭ немец спадар Штудман (ён вёў перамовы з адміністрацыяй Лукашэнкі пра падрыхтоўку дэманстрацыі „балотнай апазыцыі"). А ў пятніцу (13 кастрычніка) нечакана для апазыцыйных статыстаў у Менск прыляцела вялікая група назіральнікаў за выбарамі ад Эўрапарляманту пад кіраўніцтвам немкі Элізабэт Шротэр (хоць з прычыны байкоту выбараў увесь час гаварылася, што назіральнікаў не прышлюць і г.д.). Варта прыпомніць яшчэ і нядаўнюю адкрыта фальшывую заяву кіраўніцы АБСЭ аўстрыйскай немкі Бэніты Фэрэра Вальднэр аб „дэмакратызацыі" рэжыму Лукашэнкі.

Нагадаем таксама, што вясной 1999 г. канцлер Шродэр меў візіт у Маскву і перамаўляўся зь Ельцыным. Адразу пасьля перамоваў Ельцын прагаварыўся па тэлебачаньні, што яны дамовіліся са Шродэрам разам „прапіхваць" Беларусь (г.зн. рэжым Лукашэнкі) у міжнародныя структуры.

У рэчышчы такой палітыкі зразумелай становіцца дзейнасьць АБСЭ і нямецкай дыпляматыі, якая апанавала гэтую міжнародную арганізацыю і выкарыстоўвае яе ў сваіх інтарэсах. Яны хочуць паказаць Захаду становішча такім чынам, што быццам бы рэжым Лукашэнкі „дэмакратызуецца". Яны рыхтуюць яго легалізацыю.

З гэтай мэтай спадар Вік і яго хаўрусьнікі шмат паспрыялі таму, каб зьнішчыць беларускі адраджэнцкі рух, разваліць Беларускі Народны Фронт і стварыць у Беларусі так званую „аб'яднаную апазыцыю" *без беларускага нацыянальна-вызвольнага аблічча*.

Маргінальная канцэпцыя так званых „перамоваў" і „дыялёгаў" была распрацаваная для кішэннай „дэмапазыцыі" тым жа спадаром Вікам і павінна была спрыяць уцягненьню дэмпартыяў ў лукашэнкаўскія выбары, каб рукамі кішэннай апазыцыі легалізаваць рэжым (дзеля гэтага ўвялі туды камуністаў і белжырыноўцаў).

Пры гэтым спадар Вік, з аднаго боку, казаў пра недэмакратычнасьць рэжыму, пра невыкананьне ім патрабаваньняў АБСЭ, пра немагчымасьць выбараў. Адначасна Ганс Вік і паплечнікі ўсё рабілі, каб прымусіць прыняць удзел у недэмакратычных выбарах. На гэта выдаткавалі вялікія грошы, асабліва на сацыял-дэмакратычную партыю „Народная Грамада" (М.Статкевіча), ужываецца адкрыты подкуп беларускіх дэмпалітыкаў. 29-га верасьня гэтага года ў Вільні дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня сацыял-дэмакрат Павел Знавец прылюдна паведаміў, што яму тройчы прапаноўвалі пяць тысячаў даляраў, каб ён пагадзіўся выставіць сваю кандыдатуру на незаконныя выбары. Немцам абходзіла, каб сарваць байкот.

З гэтых жа нямецка-расейскіх крыніцаў фінансуюцца іншыя кандыдаты і кантралёры. Адначасна нямецкія палітыкі з АБСЭ стараюцца стварыць уражаньне „дэмакратычных" абставінаў у Беларусі напярэдадні выбараў, фінансуюць розныя пустапарожнія „маршы" ў балота, каб была бачнасьць ляяльнасьці рэжыму і г.д. (што датычыць ляяльнасьці балотнай апазыцыі, то мы далі ўжо ёй правільную ацэнку і адмежаваліся).

* * *

Тое, што робіць расейска-нямецкая „дыпляматыя" і іхныя функцыянеры на Беларусі сьведчыць аб падрыхтоўцы новага пакту „Рыбентропа-Молатава". І справа ня толькі ў нафце, у трубах, у Газпраме ды Ругразе. У нямецка-расейскай палітыцы Беларусь (як і Польшчу) лічаць за разьменную манэту сваіх інтарэсаў (якія сутыкаюцца акрамя Беларусі яшчэ ў Прусіі і на Бальканах). Менавіта немцы (Ёшка Фішар) выступаюць за пераўтварэньне аб'яднанай Эўропы ў фэдэратыўную супэрдзяржаву з наддзяржаўнымі ворганамі, дзе немцы (і Дойчэ Банк) будуць мець дамінуючую ролю.

Я ўжо пісаў, чаго можна спадзявацца ад Эўрапейскай звышдзяржавы таталітарнай дэмакратыі, дзе дэмагогія пра „правы чалавека" становіцца вышэй за дзяржаўны суверэнітэт нацыі *(гл.*

---

* Пазьней пацьвердзілася супрацоўніцтва Ганса Віка з лукашысцкім КГБ па развалу БНФ і беларускага змаганьня на Беларусі. – *(З. П.)*.

** Пазьней, пасьля сканчэньня тэрміну улады, высьветлілася, што Шродэр (канцлер Нямеччыны!) быў таксама заангажаваны КГБ (ФСБ) і дзейнічаў у інтарэсах Расеі. – *(З. П.)*

*„Беларускія Ведамасьці” №4(27)2000).* Гэта дзьверы ў вайну і ў новае варварства.

Савецкія інтэгратары-кагэбісты ў Расеі і нямецкія інтэгратары-сацыял-дэмакраты, як бачым, знаходзяць узаемапаразуменьне. Яны зноў дзеляць Эўропу на сфэры свайго ўплыву.

Нядаўна ў Польшчу прыязджаў брытанскі прэм’ер Тоні Блэр, каб засьведчыць сваю нязгоду зь нямецкай пазыцыяй адносна дзяржаўна-фэдэральнай будучыні аб’яднанай Эўропы. Гэта павінна быць моцная Эўропа суверэнных дзяржаваў, а не звышдзяржава – заявіў Блэр.

Я спасылаўся на гэтыя факты не для таго, каб паказаць, як эўрапейская палітыка ходзіць старымі дарожкамі, а дзеля таго, каб мы разумелі, што нямецка-руская палітыка супраць Беларусі – гэта яшчэ ня руска-эўрапейская палітыка. І тым больш ня руска-амэрыканская.

Дададзім, што маскоўска-бэрлінскія дзеяньні (у выпадку захопу Расеяй Беларусі) маюць вельмі дрэнную пэрспэктыву. Пасьля здачы Беларусі ўзьнікне пытаньне Прыбалтыкі, Украіны і былой Усходняй Прусіі, якое асабліва можа абвастрыцца пасьля ўступленьня Польшчы ў Эўрапейскі Зьвяз. (Немцы атрымаюць рэальны доступ да былых прускіх земляў – магчымасьць набываць іх ва ўласнасьць. Свабодны продаж зямлі – гэта ўмова ўступленьня ў Эўразьвяз.)

***Лібэральна-дэмакратычны таталітарызм у Заходняй Эўропе, памножаны на глябалізацыю, такі ж небясьпечны для свабоды народаў, як і ўсялякі таталітарызм, як былы камунізм і цяперашні кагэбізм у Расеі.***

Мы, беларусы, павінны разумець, што і праблемы правоў чалавека, і выбары, і русіфікацыя, і этнацыд, і подкуп часткі апазыцыйна настроенага грамадства, і ўсё, што адбываецца цяпер у палітыцы на Беларусі, – гэта ёсьць вынік заборчай палітыкі рускага вялікадзяржаўнага шавінізму і нямецкага супрацоўніцтва зь ім за падзел Усходняй Эўропы і сфэраў уплыву.

Гэты геапалітычны сцэнар так часта паўтараецца ў гісторыі, што выглядае брыдкім фарсам, які можа мець аднак зноў трагічны і крымінальны фінал.

Калі б Захад прызнаў бы незаконныя і недэмакратычныя выбары 15 кастрычніка ў Беларусі легальнымі, то гэта азначала б, што новы пакт „Рыбентропа-Молатава” адбыўся і нас, беларусаў, ашукалі і прадалі.

Цяпер трэба ставіць патрабаваньне аб зыходзе Лукашэнкі. **„ЛУКАШЭНКА, ЗЫХОДЗЬ!”** – вось галоўны лёзунг, пад якім павінен адбывацца грамадзкі націск на рэжым.

Другі лёзунг: **„ЗАКОННЫЯ ВЫБАРЫ – ЗАКОННАМУ ПАРЛЯМАНТУ!”**

Вярхоўны Савет, Выканаўца функцыяў Прэзыдэнта Сымон Шарэцкі і законная Цэнтральная Выбарчая Камісія павінны толькі аб’явіць і правесьці выбары. Гэта іхняя адзіная задача.

Такім чынам, ёсьць мэханізм. Яго неабходна ўрухоміць. Ён дае магчымасьць узяць ініцыятыву. Мы павінны выставіць такую канцэпцыю зьмены вярхоўнай акупацыйнай улады, якая б аб’яднала ўсіх беларусаў (у тым ліку і ў сістэме ўлады).

У гэтым сэнсе вельмі важнае значэньне набывае стварэньне самакіраваньня (дзе магчыма), і перш за ўсё – ***Грамадзянскага Парляманту***. Павінен быць *грамадзянскі ворган і мэханізм беларускай кансалідацыі і салідарнасьці*. Палітычныя ідэі мусяць мець арганізаваную падтрымку ў грамадзтве.

Складанасьць і небясьпека сытуацыі ў тым, што Масква і яе хаўрусьнікі ў Эўропе разглядаюць варыянт прамаскоўскай альтэрнатывы Лукашэнку з разьлікам усіх ашукаць і выехаць на беларусах гэтак жа, як Эўропа выехала на сэрбах, зрабіўшы ракіроўку ў Югаславіі (замена Мілошавіча на Каштуніцу).

Падобна на тое, што Масква рыхтуе на магчымую альтэрнатыву надзейнага чалавека з асяроддзя рэжымнай намэнклятуры і неўзаметку ствараюць яму імідж самастойнага палітыка. Тое, што „надзейны чалавек” (без хваравітых амбіцыяў) здасьць Беларусь Маскве хутчэй, чым Лукашэнка, можна не сумнявацца, тым больш, што ў яго будзе характарыстыка нязгоднага з Лукашэнкам.

Паводзіны Эўрасаюзу, АБСЭ, Эўрапарляманту, Віка, немцаў у цяперашніх падзеях нас не павінны зьдзіўляць. Мы ўвесь час казалі пра тое, што яны робяць сваю палітыку ў Беларусі. Яны могуць нас падтрымаць, калі ім будзе выгадна, альбо аддаць на зьнішчэньне, як чачэнцаў, калі ім абараняць беларусаў стане нязручна. Яны такія. Гэта ў іх называецца „рэальпалітык” – прагматычная палітыка. Яны вышукваюць і плодзяць такіх, як самы. Яны нясуць у Беларусь разбэшчанасьць і здраду, а не дэмакратыю.

Сваё нацыянальнае беларускае жыцьцё і сваю будучыню мы мусім уладкоўваць самы. Усё залежыць ад нас. Трэба дзейнічаць. Нельга доўга стаяць на беразе.

Цяпер выразна выявіліся вынікі разбуральнай працы заходніх прагматыкаў тыпу спадара Віка. Стала добра відаць, што так званая „аб’яднаная апазыцыя” і ўсё балота, якое яны тут стварылі, патраціўшыся на капейкі, – гэта, як бачым, ніякая не „палітычная сіла”, а грамадзкае сьмецьце, выпарэньне, якое тут жа разьвеецца, як толькі спыніцца ў іх патрэба і зьнікнуць гэтыя разьмененыя на іх грошы.

Сумная карціна. Але, на жаль, гэта рэальнасьць. Такое ня раз здаралася ў беларускай гісторыі. Мы павінны зыходзіць з рэальнасьці.

На мой погляд, варта на Сойме прыняць заяву аб зыходзе Лукашэнкі і аб неабходнасьці законных выбараў.

Трэба засьведчыць неабходнасьць аб’яўленьня **Ганса Георга Віка пэрсонай нон-грата** і асобай, якая траціць праўную абарону ў Беларусі. Неабходна патрабаваць ад АБСЭ, Бундэстага і МЗС Нямеччыны адклікаць яго зь Беларусі.

...Прыярытэтам нашай палітыкі для гэтага моманту прапаную прызнаць:

– *патрабаваньне зыходу Лукашэнкі; законныя выбары праз законныя ворганы ўлады; арганізацыя грамадзкага ціску;*
– *стварэньне ГРАМАДЗЯНСКАГА ПАРЛЯМАНТУ;*
– *выбары прэзыдэнта (адзіны кандыдат ад Беларускага Вызвольнага Руху і адзіная альтэрнатыва).*

„Балотная апазыцыя” скампрамэтавала і фактычна разбурыла франтаўскую форму вулічнай барацьбы. Трэба зьвярнуць увагу на масавасьць і новую форму правядзеньня *Дзядоў*.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне” і***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 6(29); Берасьце, – 2000, № 10, лістапад)*

# ПАБІЦЬЦЁ Ў МЕНСКУ

17-га кастрычніка ў Менску адбыўся мітынг і шэсьце пад назвай „Марш свабоды”. Сабралася каля 20-ці тысячаў чалавек. Пасьля выступаў і традыцыйнага праклінаньня рэжыму Лукашэнкі, палова людзей і задэкляраваныя арганізатары мітынгу разышліся. Тым часам другая палова (каля 10-ці тысячаў чалавек) пайшла па вуліцах усьлед за Мікалаем Статкевічам, які сказаў: „Мы ня быдла і можам хадзіць, дзе захочам”. У выніку – калёна зайшла ў тупік у раёне вуліц Пуліхава і Першамайскай, на задворкі цэнтра. Тут на людзей напалі арганізаваныя зграі амапаўцаў і „спэцназу” і пачалі жорстка зьбіваць. Дэманстранты аднак аказалі зацятае супраціўленьне. У ход пайшлі камяні, кавалкі тратуару і брук. Грамадзкі пратэст супраць рыхтуемай анэксіі і расейскай акупацыі перайшоў у фізічную бойку з ахоўнікамі акупацыйнага рэжыму. З абодвух бакоў былі дзясяткі параненых, больш 50-ці чалавек арыштавалі.

Назаўтра груба і гучна з выламываньнем дзьвярэй арыштавалі Мікалая Статкевіча. Сцэнар паўтарыўся, як на зайгранай правакацыйнай кружэлцы: дзесяць сутак арышту, Статкевіч аб’яўляе галадоўку, рэжым пагражае яму турмой, а незалежны ад Лукашэнкі друк і нямецкія сацыял-дэмакраты за мяжой лямантуюць: „Свабоду Статкевічу”. Праз дзесяць сутак галоднага і схуднелага Статкевіча выпускаюць – і ўсё супакойваецца.

Трэба адзначыць незвычайна жорсткія зьдзекі над арыштаванымі, катаваньні, акалечаньні і зьбіцьцё людзей у міліцэйскіх машынах і пастарунках. Беларусаў гэтак жорстка катавалі і прыніжалі іхную нацыянальную чалавечую годнасьць, што кожны з пацярпелых можа зьвярнуцца ў Міжнародны трыбунал у Гаазе з заявай аб прыцягненьні да адказнасьці афіцыйнае кіраўніцтва рэжыму на Беларусі. Груба парушаныя асноўныя правы чалавека і Канвэнцыі аб забароне катаваньняў, прыніжэньня і зьдзеку над чалавечай асобай пад арыштам. Жорсткія катаваньні і прыніжэньне годнасьці арыштаваных беларусаў тлумачацца тым, што Лукашэнка спэцыяльна набірае ў АМАП і „спэцназ” расейцаў, як правіла – бандытаў і падонкаў, што паўцякалі з Балтыйскіх краінаў, Малдовы і Каўказу. У іх – зьвярыная нянавісьць да беларусаў і паталягічная патрэбнасьць зьбіваць і забіваць.

Жорсткае зьбіваньне беларускіх дэманстрантаў 17-га кастрычніка ў Менску найбольш прыцягнула да сябе цікаўнасьць друку і міжнароднай супольнасьці. І, як ні парадаксальна, у гэтым найбольш і заключаецца станоўчае прапагандысцкае значэньне няўдалай дэманстрацыі. Сьвет яшчэ раз зьвярнуў увагу на тое, што беларусы рэзка пратэстуюць супраць „інтэграцыі” з Расеяй і выступаюць супраць рэжыму Лукашэнкі.

І ўсё на гэтым. Гэта ўжо бачылі. Дарога да аншлюсу адчынена. Дэманстрацыя была разагнаная, удзельнікі зьбітыя, арыштаваныя, абвінавачаныя і прыніжаныя; падзеі пакінулі пачуцьцё горачы і паражэньня. Прытым заяўнікаў дэманстрацыі, акрамя правакацыйнага Статкевіча, на месцы не аказалася.

Калі адыйсьці ад прапагандысцкага эфэкту падзеі, створанага СМІ і пагрунтаванага на ахвярах ды прымяненьні нематываваных жорсткасьцяў супраць дэманстрантаў, то ў палітычным сэнсе акцыя „Марш свабоды” ёсьць палітычны правал, які самым непасрэдным і адмоўным чынам паўплываў на выніку саміту АБСЭ у Стамбуле. (Амаль поўнае ігнараваньне тэмы Беларусі ў выніковых дакумантах, нягледзячы на рэальную пагрозу расейскай анэксіі.) Дрэнна гэта адаб’ецца і на ўсходняй палітыцы. Расейцы ўзмоцняць агрэсію.

Чаму прыходзіцца так азначана гаварыць пра такую простую падзею, як дэманстрацыя пратэсту ў Беларусі, дзе дэманструюць ужо 10 гадоў? Ды ўсё таму, што абяцала сініца мора спаліць. Пра падрыхтоўку „Маршу” было шырока аб’яўлена і разрэклямавана тымі людзьмі, якія падтрымлівалі каманду Чыгіра на афёрных выбарах прэзыдэнта ў траўні, якія расколвалі *Народны Фронт*, прывялі да ўлады Лукашэнку і цяпер сталі ў апазыцыю. Невыпадкова, што рускія СМІ зьвярнулі незвычайна павышаную ўвагу на гэтую падзею. Газэта „Комсомольская правда” вуснамі свайго менскага паведамляльніка пісала: „Организаторами выступили семь политиков так называемой „новой волны”. Это сороколетние белорусские реформаторы, которые полтора месяца назад заявили, что берут на себя ответственность за судьбы родины и демократии, поскольку методы борьбы лидеров аппозиции старшего поколения, по их мнению, безнадежно устарели. Организаторы обещали собрать около 100 тыс. демонстрантов.”*

Гэтак пустыя людзі рэклямавалі пусты „пшык”. *Ніякіх канцэптуальных задачаў, ніякага пэрспэктыўнага палітычнага пляну разьвіцьця і ніякай адказнасьці за „судьбы Родіны” не існавала.* Задача ставілася чыста папулістычная (у стылі „маладых ваўкоў”): сабраць 100 тысячаў і паказаць, на што мы здольныя. Калі б такую суму людзей удалося сабраць, то рэклямная задача была б і вырашаная. Так званыя „незалежныя СМІ”, падтрыманыя расейскім тэлебачаньнем, усім бы паказалі, за кім, маўляў, пайшоў „народ”. На гэтай хвалі нейкі час можна б было і паплаваць, замацаваць раскол *БНФ* і ўтахціць у балота „лидеров старшего поколения” (якія, дарэчы, ужо альбо мёртвыя, альбо вымушаныя змагацца за мяжой). Пустата гэтакіх паводзінаў адчынілася б крыху пазьней, калі ўсе апынуліся б у пашчы Расеі.

З двух кепскіх папулісцкіх варыянтаў той, што атрымаўся ў рэальнасьці, ёсьць якраз менш дрэнны, бо не напладзіў новых ілюзіяў, а толькі канстатаваў тое, што ёсьць: *слабасьць, бяскрыласьць, безадказнасьць і бездапаможнасьць ня новых палітыкаў „новой волны”, адсутнасьць ідэй.*

Усё гэта ўбачылі палітыкі ў Стамбуле і староннія назіральнікі з Захаду і з Усходу і, адпаведна, кожны па-свойму, зрэагавалі на блеф.** Скончылася „новая хваля”, як скончылася некалі „новая Беларусь” ды „Вясна-94”, ды „Хартыя-97”, ды кангрэсы

---

* „Арганізатарамі выступілі сем палітыкаў так званай „новай хвалі”. Гэта 40-гадовыя беларускія рэфарматары, якія паўтары месяцы таму заявілі, што бяруць на сябе адказнасьць за лёс Радзімы і дэмакратыі, паколькі мэтады барацьбы лідараў апазыцыі старэйшага пакаленьня, на іхнюю думку, безнадзейна састарэлі. Арганізатары абяцалі сабраць каля 100 тыс. дэманстрантаў.” – *(З рус.)*

** Агентурная прапаганда ў так званым „незалежным” ад Лукашэнкі друку гэтак жа, як і арганізатары няўдалай акцыі, на ўсе лады ўсхваляюць і ўзносяць яе як „вялікую” ды „пераломную” падзею ў „найноўшай гісторыі” Беларусі. Дзіўная і неадэкватная рэакцыя на традыцыйную зьяву дала магчымасьць некаторым асобам зрабіць ня менш неадэкватнае заключэньне. Экспэрт нямецкага Міжнароднага цэнтру палітычнага аналізу Аляксандар Бэкер паведаміў газэце „Рэспубліка” ў Летуве сваё, вытрыманае дарэчы, у клясычным стылі правакацыйнай „экспэртызы”, арыгінальнае заключэньне, паводле якога, усё, што адбылося 17-га кастрычніка ў Менску, ад пачатку і да канца, было сплянаванае спэцслужбамі і лукашэнкаўскай адміністрацыяй.

Лухта, якую пішуць „экспэрты”, агентура і журналісты, ня мае дачыненьня да палітычнай рэальнасьці, хаця (трэба аддаць належнае) паводзіны гэтых службаў, правакатараў ды „асобаў” шмат што высьвятляюць у падзеях на Беларусі. – *(З. П.)*

„дэмсіл,” ды братаньні з расейскай „дэмакратыяй”. Засталася разьбітая беларуская апазыцыя ды пашча каляніяльнага расейскага імпэрыялізму, што разьзяўляецца на усходзе.

Але жыве беларускае адраджэньне, жыве Беларусь. І прыдзецца „старэйшым лідарам беларускай апазыцыі”, што „старамодна” ахвяруюцца за ідэю, зноў, цагелка да цагелкі, аднаўляць страчанае, зноў нанова, баразна да баразны, ўзгорваць поле беларускай незалежнасьці і беларускай свабоды. Такую вось гісторыя дае навуку.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 6(23).*




***78. «Гумар-сатыра» на мітынгу БНФ.***

# BIAŁORUŚ PRZEHANDLOWANA?

W niedzielę odbyły się na Białorusi wybory parlamentarne, ogłoszone przez prezydenta-uzurpatora Aleksandra Łukaszenkę. Wiekszość opozycji, czyli Białoruski Ruch Narodowo-Wyzwoleńczy oraz tzw. Zjednoczona Opozycja wezwały do ich bojkotu. Przesłanki do takiej postawy były jasne: wybory nie mają mocy prawnej, gdyż Aleksander Łukaszenka nie jest już prawowicie wybranym prezydentem, zaś parlament pochodzi nie z wyborów, lecz z jego nominacji. Nawet komisja wyborcza nadzorująca z ramienia Łukaszenki wybory jest nielegalna. Po drugie, te wybory nie są demokratyczne, gdyż odbywają się w warunkach łamania wszystkich uznanych w świecie reguł. Po trzecie, parlament Łukaszenki nie posiada żadnych uprawnień ustawodawczych. Gdyby wbrew niedemokratycznym praktykom wyborczym udało się do niego wprowadzić samych zwolenników Białoruskiego Frontu Narodowego, nie miałoby to żadnego wpływu na sytuację Białorusi, gdyż zgodnie z narzuconymi przez Łukaszenkę przepisami oraz konstytucją, organ ten nie ma żadnych istotnych uprawnień. Nie posiada nawet prawa do inicjatywy ustawodawczej. Całą władzę skupił w swoim ręku Łukaszenka.

O przeprowadzenie wyborów zabiegały trzy czynniki polityczne: Łukaszenka, władze moskiewskie oraz dyplomacja niemiecka, która od pewnego czasu prowadzi uzgodnioną z Moskwą politykę legalizacji reżimu Łukaszenki. Dla Rosji jest to niezbędne, aby można było stworzyć prawne gwarancje dla umowy integracyjnej, na mocy której powstał Zwiazek Białorusi i Rosji. Chodzi zatem o legalizację podpisanego przez Łukaszenkę Anschlussu Białorusi. Dla dyplomacji niemieckiej, współdziałającej z Rosją, jest to z kolei gwarancja bezpłatnego transferu ropy i gazu przez terytorium Białorusi na Zachód i podwojenia tych dostaw. Jest to szczególnie istotne w warunkach narastającego w chwili obecnej kryzysu energetycznego w Europie i na świecie. Ujawnił to Hans Georg Wick – dyplomata niemiecki stojący na czele misji OBWE w Mińsku. Oświadczył 25 września br. podczas konferencji w Białymstoku, iż dyplomacja niemiecka oraz OBWE dążą do włączenia Białorusi w skład Federacji Rosyjskiej, poniewaz Rosja jest krajem demokratycznym. Niemcy otrzymałyby za to dostawy gazu i ropy na warunkach gwarantujących ich ciągłość.

Od kilku lat Wick, jako przedstawiciel OBWE, działa w kierunku rozbicia Białoruskiego Ruchu Wyzwoleńczego i stworzenia uległej polityce niemieckiej opozycji białoruskiej. Chociaż państwa europejskie oraz OBWE określały wielokrotnie wybory parlamentarne na Białorusi jako niedemokratyczne i nielegalne, Wick włożył wiele wysiłku w nakłanianie różnych ugrupowań opozycyjnych na Białorusi do zerwania bojkotu wyborów i wysunięcia swych kandydatów na posłów. 29 września w Wilnie brałem udział w konferencji międzynarodowej, podczas której dawny deputowany Rady Najwyższej Białorusi XIII kadencji, rozpędzonej przez Łukaszenkę, ale kontynuującej swą działalność publiczną, Paweł Znawiec oświadczył, że proponowano mu 5 tys. dolarów na kampanię wyborczą, ale on odmówił ich przyjęcia. Oświadczył to w obecności marszałka Rady Najwyższej XIII kadencji Siamiona Szareckiego, byłego marszałka Rady Najwyższej Stanisława Szuszkiewicza oraz wielu innych polityków. W związku z tym Białoruski Front Narodowy zwrócił się do OBWE z zadaniem odwołania Wicka z Mińska. Od kilku dni trwa w tej sprawie w Mińsku pikietowanie siedziby misji OBWE przez działaczy opozycji białoruskiej (KCHP–BFN).

Podczas ostatnich wydarzeń w Jugosławii uzyskaliśmy wiadomość, że kanclerz RFN Gerhard Schroeder przyleciał na 4 godziny do Moskwy i odbył rozmowę z prezydentem Władimirem Putinem. Mamy informację, że poparcie Rosji dla przemian demokratycznych w Jugosławii uzyskano za cenę wydania Białorusi Rosji. Opozycyjni politycy białoruscy odbierają te transakcje niemieckiej dyplomacji z rosyjską polityką imperialną jako swoistą uwerturę do wycofania uznania niezależności i niepodległości Białorusi i oddania jej we władanie Rosji. Nie muszę wyjaśniać, że patrioci białoruscy nigdy się z tym nie pogodzą.

Wbrew ustaleniom miedzynarodowym o niewysyłaniu obserwatorów na wybory do Mińska, w ostatniej chwili do stolicy Białorusi przybyła delegacja Parlamentu Europejskiego z Elisabeth Schrotter, która miała w programie spotkanie z prezydentem Łukaszenką oraz jego ministrem spraw zagranicznych pułkownikiem rosyjskiej KGB Uralem Latypowem. Jest to więc polityka kapitulacji wobec Łukaszenki i jego moskiewskich protektorów. Jeśli będzie kontynuowana i w Europie zabraknie sił politycznych występujących w obronie niepodległości Białorusi i solidaryzujących się z Białoruskim Ruchem Wyzwoleńczym, to wyniki polityki kapitulacji wobec Moskwy będą miały wpływ na losy zarówno Litwy jak i Ukrainy. Już dziś – jeśli chodzi o Ukrainę – mamy tego symptomy. Unia Europejska prowadzi rozmowy o dostawach gazu rosyjskiego oraz o wytyczeniu nowych, omijających Ukrainę, tras rurociągu. Rozmowy te odbywają się poza plecami Polski, która od lat podkreśla, że przyjęcie takiego, dyskryminującego Ukrainę rozwiązania, będzie osłabiało naszego wspólnego sąsiada i wpychało w orbitę polityki rosyjskiej – co nie jest zgodne również z polską racją stanu.


(Фота С. П'яных)

***79. Беларусы ў турэмнай камэры. У цэнтры (у сьветлай швэдзе) в. а. Старшыні БНФ і КХП-БНФ Юры Беленькі.***

***Zianon PAŹNIAK***

*Надрукавана: („Tygodnik Solidarnosc”. – 2000, 20 pazdziernika, №42 (631)*

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ ЁСЬЦЬ СВАБОДА!

Мы павінны выразна разумець сутнасьць становішча і палітычных працэсаў у нашай краіне. Першае і галоўнае пытаньне аб прыродзе грамадзкага канфлікту і аб зьмесьце палітычных пераменаў у Беларусі. Дыктатура і рэжым, усталяваныя ў Беларусі, не зьяўляюцца вынікам унутранага канфлікту грамадзкіх сілаў. Гэта ёсьць канфлікт, прынесены звонку і абумоўлены палітыкай расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму, які паставіў на мэце аднавіць расейскую дзяржаву ў межах былога СССР. Гэтую палітыку расейскае кіраўніцтва, і найперш КГБ-ФСБ. У беларускім урадзе цяпер ужо практычна не засталося ніводнага беларуса;

– правядзеньне антыбеларускай русіфікатарскай унутранай палітыкі;

– правядзеньне зьнешняй палітыкі, накіраванай на злучэньне з Расеяй і ліквідацыю суверэнітэта Беларусі.

*Такім чынам, расейская ўнутраная акупацыя нашай краіны ёсьць часовы этап, пераходны працэс, які вядзе да ліквідацыі сувэрэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі, да аншлюсу яе Расеяй. А дыктатура Лукашэнкі ёсьць толькі функцыя ўнутранай акупацыі.*

***Акупацыйны рэжым ня можа быць дэмакратычны. Гэта заўсёды дыктатура.*** У нашай сытуацыі – яшчэ і прылада для ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Калі не разумець гэтых відавочных зьяваў, ігнараваць імпэрскую палітыку Расеі ды змагацца толькі з дыктатурай, дык такое сьляпое змаганьне, калі б яно было пасьпяховае, можа прывесьці толькі да замены адной расейскай крэатуры іншай. І ўсё паўторыцца.



***80. Турма ў Менску.***

КГБ, пачалі яшчэ ў 1992 г. Сістэмна яна была сфармуляваная ў сакрэтнай дактрыне, падпісанай Ельцынам *„Аб дзеяньнях Расеі ў дачыненьні да краінаў СНД”*. Распрацоўка была падрыхтаваная ў жніўні 1995-га, і тады ж тэкст гэтага сакрэтнага дакументу зрабіўся вядомы ў Беларусі і быў надрукаваны ўкраінскім Рухам.

Усе наступныя гады і цяпер мы назіраем, як гэтыя рэваншысцкія імпэрскія пляны расейская ўлада імкнецца ажыцьцявіць. Найбольш драматычна сытуацыя склалася ў Чачэніі і ў Беларусі. У Беларусі ў 1994г. яны, выкарыстаўшы прэзыдэнцкія выбары, савецкую сістэму беларускай улады і савецкую каляніяльную адміністрацыю, правялі на прэзыдэнцкую пасаду сваю кагэбоўскую крэатуру Аляксандра Лукашэнку, чалавека без палітычнай біяграфіі. Пасьля антыканстытуцыйнага перавароту 1996-га году расейскімі спэцслужбамі, перадусім КГБ-ФСБ, пры дапамозе Лукашэнкі была праведзеная ўнутраная акупацыя Беларусі, якая заключалася ў наступным:

– заняцьце ўсіх кіруючых пасадаў ва ўладзе і эканоміцы Беларусі расейцамі, выхадцамі з Расеі і функцыянерамі

Падобная сытуацыя была разыграная ў 1994 г., калі дрэннага прарасейскага Кебіча зьмянілі на „лепшага” прарасейскага Лукашэнку. Адсюль жа вынікае іншае відавочнае палажэньне: за акупацыйнай дыктатурай Лукашэнкі ня можа быць дэмакратычных выбараў у парлямант. Выбары будуць абавязкова недэмакратычныя, бо яны скіраваныя ня толькі на захаваньне ўлады дыктатара, але найперш – на працяг акупацыйнай палітыкі Расеі. Лукашэнку і ягоным расейскім заплечнікам абходзіць правесьці любыя выбары ў парлямант Беларусі, любым спосабам, хоць напралом, абы толькі стварыць цалкам свой парлямант і мець магчымасьць паставіць пытаньне пра легалізацыю сваёй улады. Расейцам жа патрэбны свой „кішэнны” парлямант, каб легальна праводзіць праз яго інтэграцыйныя акты паэтапнага аншлюсу нашай краіны і дамагацца потым іхнага прызнаньня на міжнароднай арэне.

Я лічу вышэй сказанае за галоўнае. І ў гэтым заключаецца сутнасьць нашай драмы. Захад трымаецца найгоршай тактыкі: падтрымлівае беларускі дэмакратычны рух і заплюшчвае вочы на расейскі імпэрыялізм. У рэальнасьці гэта ёсьць спрыяньне самым цёмным сілам у расейскай імпэрскай палітыцы КГБ-ФСБ, якія цяпер захапілі абсалютную ўладу ў Расеі. Гэтак сама, як у Беларусі, да ўлады ў Расеі прыйшлі савецкія спэцслужбы, якія былі асновай камуністычнай сістэмы, стварылі ГУЛАГ і зьнішчылі дзясяткі мільёнаў людзей. Гэта трывожная гістарычная і буйная палітычная падзея. Нават у СССР ўсемагутны НКУС ня меў абсалютнай дзяржаўнай улады. Цяпер у ягоных руках усё!

Палітыка, якую пачалі праводзіць рускія кагэбоўцы, можа скончыцца, на мой погляд, толькі калючым дротам і вайной – пагрозай для ўсёй Эўропы. Для нас, беларусаў, гэтая палітыка і раней, і цяпер нясе вялікія няшчасьці, страту незалежнасьці, этнацыд і вынішчэньне. Мы шукаем разуменьня, агульных інтарэсаў і салідарнасьці на Захадзе. Дэмакратыя, законнасьць, справядлівасьць парлямантарызм, забясьпечаньне правоў чалавека – усё гэта магчымае толькі тады, калі мы абаронім наш дзяржаўны сувэрэнітэт і загарантуем нацыянальную незалежнасьць.

*Незалежнасьць ёсьць свабода.* Менавіта ў гэтым кантэксьце абарона незалежнасьці Беларусі і ёсьць цяпер найважнейшым пытаньнем беларускага грамадзтва. Цяпер жа нам патрэбна канкрэтная і рашучая міжнародная падтрымка. Менавіта, мы чакаем заявы ад міжнароднай супольнасьці аб непрызнаньні незаконных недэмакратычных і нелегальных выбараў у бясправўны парлямант, які рыхтуе акупацыйны рэжым Лукашэнкі.

Лукашэнка ёсьць узурпатар прэзыдэнцкай улады, ягоная ўлада незаконная і нелегальная. І мы патрабуем, каб Лукашэнка пакінуў уладу дабраахвотна ў абмен на гарантыі ўласнай бясьпекі. У Беларусі ёсьць законная Канстытуцыя, законны сьцяг і гэрб, законны парлямант, законны старшыня парляманту, выконваючы ў дадзены момант, згодна Канстытуцыі, функцыі прэзыдэнта, ёсьць законная ўлада, – і ёй павінныя быць вернутыя паўнамоцтвы. І толькі яна можа прызначыць і правесьці дэмакратычныя выбары ў парлямант краіны.

Аналіз сытуацыі паказвае, што рэжым Лукашэнкі рыхтуецца да правядзеньня жорсткай рэпрэсіўнай палітыкі пасьля „выбараў” у „палату” перад наступнымі прэзыдэнцкімі выбарамі. Мы спадзяемся ў сувязі з гэтым на палітычную падтрымку людзей добрай волі і нашых суседзяў па змаганьні, якая нам вельмі патрэбная. Мы, беларусы, ніколі не прызнаем акупацыйных выбараў. Мы стаім на законных праўных пазыцыях і разьлічваем на разуменьне дэмакратычнай міжнароднай супольнасьці.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Рунь”, – 2000 г., 3 лістапада)*

* Інтэрв'ю аўтара і вольны пераказ даклада журналістам, прачытанага аўтарам *(З.П.)* 29.09.2000 г. на Міжнароднай канфэрэнцыі ў Вільні: „Разьвіцьцё парлямантарызму ў Рэспубліцы Беларусь”.

# СПРАВЫ Ў БЕЛАРУСІ МОЖНА ПАПРАВІЦЬ. УСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД САМЫХ БЕЛАРУСАЎ

***(Ліст да сяброў Беларускага Вызвольнага Руху. 12 лістапада 2000 г.)***

## ПЕРАКАЗ СТАНОВІШЧА

Настае час, калі адкрыта трэба сказаць пра справы, якія могуць уплываць на нашу народную будучыню.

Рэжым пахіснуўся. Пра гэта сьведчыць правал выбараў у „палату”. Людзі не пайшлі галасаваць. Тое, што потым Лукашэнка сфальсіфікаваў гэтыя выбары, сьведчыць толькі, што рэжым яшчэ існуе, але ня кажа пра ягоную моц, бо грамадзтва ўжо адварочваецца ад яго.

Цяпер Масква, баючыся страціць сваю ўладу ў Беларусі, задумваецца, што рабіць: альбо ізноў падтрымаць Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах, альбо замяніць яго на іншага свайго стаўленьніка пад маскай апазыцыянера і дэмакрата і пад бачнасьцю змаганьня з дыктатурай.

*У гэтай палітыцы Маскву найбольш падтрымліваюць немцы, якія апанавалі міжнародныя арганізацыі, і асабліва – АБСЭ.* Нямецкая палітыка на Беларусі – гэта, перш за ўсё, інтэрас газавай трубы з Расеі. Для абодвух інтэрасантаў лепш, каб Беларусі не было і ня мець клопатаў. Нямецкая дыпляматыя стараецца пераканаць міжнародную супольнасьць, што рэжым Лукашэнкі быццам бы „дэмакратызуецца”, што зь ім трэба супрацоўнічаць. *З гэтай мэтай, пры дапамозе нямецкага дыплямата Ганса-Георга Віка, быў створаны ў Менску палітычны кангляхмерат пад назвай „аб'яднаная апазыцыя” і прыдуманы так званы „перамоўны працэс”, задача якога – уцягнуць апазыцыйныя палітычныя партыі ў незаконныя выбары і адцясьніць Беларускі Вызвольны Рух на пэрэферыю палітыкі.* Часткова гэта ўдалося, і ўсё было падрыхтавана, каб незаконныя выбары прызнаць. Але тут сказалі сваё слова беларускія выбаршчыкі, якія не прыйшлі галасаваць, і ўся нямецка-маскоўская задумка пасыпалася.

У канцы верасьня гэтага году, падчас Югаслаўскага крызісу, канцлер Нямеччыны **Герхард Шродар** тэрмінова паляцеў у Маскву і чатыры гадзіны размаўляў з прэзыдэнтам **Пуціным**. Размова, як выявілася, ішла пра новую газавую трубу і пазыцыю Расеі ў югаслаўскіх падзеях. Узамен за згоду Расеі на замену Мілошавіча і за гарантыі павелічэньня паставак газу з Расеі ў Нямеччыну было паабяцана дапамагчы забраць Беларусь.

У гэты ж час зь Менска ў Беласток на малазначную міжнародную канфэрэнцыю прыязджае **Ганс Вік** і нечакана заяўляе, што нямецкая дыпляматыя ўжо шмат гадоў спрыяе ўваходжаньню Беларусі ў Расею і спадзяецца пры гэтым, што стабільнасьць у пастаўках расейскага газу ня будзе парушана.

Нагадаю, што Ганс-Георг Вік фармальна зьяўляецца кіраўніком Місіі АБСЭ ў Менску – арганізацыі, якая дэкляруе на словах іншую палітыку. Заява спадара Віка ў Беластоку не была ляпсу-




*81. Дэманстрацыя БНФ у Менску ў 1998 г.*

сам вопытнага прафэсійнага дыплямата і разьведчыка. Адразу пасьля размовы канцлера Шродара ў Маскве трэба было засьведчыць Пуціну, як немцы добра дбаюць пра рускія інтарэсы ў Беларусі. І спадар Вік тут жа выканаў гэтую задачу. (Ёсьць яшчэ і пруская тэма ў гэтых нямецка-расейскіх дзеяньнях, але тут мы пра яе не гаворым.)

Спадара Віка і іншых спэцыялістаў паразмаўляць пра правы чалавека не цікавіць, што ў акупаванай Беларусі адбываецца этнацыд беларусаў, што пазачынялі беларускія школы, што ў Беларусі людзей звальняюць з працы па палітычнай прыкмеце, а міліцыя зьбівае за размову па-беларуску.

– Калі вы хочаце размаўляць па-беларуску, то вадзіце з сабой перакладчыка, – высакамерна кажа беларускім палітыкам гэты кіраўнік Місіі АБСЭ.

*Мы, беларусы, ведаем сваю гісторыю, і расейска-нямецкая палітыка супраць Беларусі нас не зьдзіўляе. Мы мусім заявіць, аднак, што антыбеларуская дзейнасьць спадара Віка больш не павінна працягвацца. Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” лічыць спадара Віка пэрсонай нон-грата і запатрабаваў ад АБСЭ адклікаготвання яго з нашай краіны.*

## СЫТУАЦЫЯ, ЗРУХІ, ПЭРСПЭКТЫВЫ

Афіцыйная Масква нічым не выяўляе свайго імкненьня зьмяніць Лукашэнку. Рускія шавіністы неаднаразова падкрэсьлівалі, што лепшай марыянэткі, чым Лукашэнка, Расея ня мае і мець ня будзе. Але афіцыйнай Расеі нельга верыць. Думку аб зьмене Лукашэнкі падтрымліваюць шавіністы апа-




зыцыйнага кшталту, такія як Нямцоў ды Яўлінскі, Гайдар ды іншыя. Праз іх адпрацоўваецца запасны варыянт з „антылукашэнкам", і галоўнае – уцягваюцца беларускія палітычныя партыі ў прэзыдэнцкія выбары па сцэнару, указах і правілах рэжыму Лукашэнкі. *Гэта стварае гарантаваную перамогу Лукашэнку на выбарах і захаваньне рэжыму.*

Маскоўская палітыка тут выглядае бяспройгрышнай пры любым павароце сытуацыі. У ролі выканаўцаў і падстаўных фігураў расейцы выкарыстоўваюць (гэтак жа, як і немец Вік) так званую „аб'яднаную апазыцыю", якая і падабраная дзеля такога роду справаў.

Лукашэнка разумее, што прэзыдэнцкія выбары для яго – гэта ўжо не пытаньне ўлады, а пытаньне лёсу. У такіх выпадках дыктатары ідуць на ўсё. Ніякіх законаў рэжым прытрымлівацца ня будзе. Яму патрэбная ўлада, а не прызнаньне Захаду. Лукашэнку трэба арганізаваць свае выбары па сваіх законах.

Гэтую справу якраз адразу падхапіла „аб'яднаная апазыцыя" ды пачала заяўляць, што шукае свайго Каштуніцу. Маскве, пасьля такой заявы, застаецца толькі дзейнічаць і маўчаць.

Не хаваючыся, цяперашнія апазыцыянэры (у мінулым шмат хто зь іх былыя сябры Лукашэнкі), як заўсёды, едуць у Маскву па ўказаньні да сваіх спонсараў ды ворагаў Беларушчыны. Некалькі асобаў ствараюць мітусьлівую імітацыю падзеяў, і цудоўна разумеюць, што ўключыліся ў сцэнар Лукашэнкі і маскоўскія пляны захаваньня акупацыйнага рэжыму на Беларусі.

Людзі, якія выступаюць пад шапкай „аб'яднанай апазыцыі," стаяць у баку ад расейска-беларускага канфлікту і дэкляруюць толькі змаганьне за ўладу з рэжымам Лукашэнкі. У 1994-м годзе, будучы ў яго камандзе, яны ўжо паспрыялі яму, як маглі.

Мы памятаем гэтую публіку. Такое ў палітыцы не забываецца. Гэта Д.Булахаў, А.Лябедзька, М.Чыгір, Л.Сініцын, В.Ганчар, А.Фядута ды іншыя, прымкнулыя.

Мы памятаем, як асабліва набліжаны да Лукашэнкі Лябедзька аж падскокваў у Вярхоўным Савеце, каб зьняць забарону з ЛКСМБ (дзейнасьць камсамола была прыпыненая разам зь дзейнасьцю КПСС у 1991г.). Пры дапамозе камуністаў гэта ўдалося зрабіць, каб забраць грошы ЛКСМБ, куды трэба. На гэтым інтэрас да камсамола зьнік.

Мы памятаем, як было паднятае пытаньне аб карупцыі ў адміністрацыі і ва ўрадзе Лукашэнкі, як выплыла афёра зь мілёнамі Чыгіра і Ціцянкова (даклад у Вярхоўным Савеце ад Апазыцыі БНФ рабіў С.Антончык), як праз банк, якім кіраваў Чыгір, накручваліся брудныя грошы на фінансаваньне прэзыдэнцкай кампаніі Лукашэнкі, і шмат што іншае. Цяпер, апынуўшыся па-за ўладаю і назваўшыся „аб'яднанымі апазыцыянэрамі", гэтыя людзі хочуць зноў на карку беларусаў увайсьці ў тую самую ваду (дакладней – у тую самую лодку).

А між іншым тады, у 1994 годзе, быў выбар. Але ніхто са згаданых асобаў ня стаў падтрымліваць на прэзыдэнцкіх выбарах *Народны Фронт* і кандыдата ад *БНФ*. З імпэтам „маладых ваўкоў" (гэтак іх потым назвалі) яны ўключыліся ў здраду Беларусі, у маскоўскі сцэнар. (Яны цудоўна ведалі пра адмоўныя адносіны Лукашэнкі да суверэнітэту Беларусі і пра змову яго з Масквой.) Вынік вядомы. Высновы з „выніку" – прымітыўныя. Бо ў гэтых асобаў Беларусь ніколі не стаяла на першым месцы.

У 1997 годзе ўдалося часткова прыпыніць агрэсіўную „інтэграцыю" з Расеяй. Летам, *на V-м Зьезьдзе, Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* аб'явіў аб неабходнасьці аб'яднаньня у *Вызвольны Рух* усіх апазыцыйных рэжыму адраджэнскіх сілаў на барацьбу за абарону незалежнасьці і супраць заборчай імпэрскай палітыкі Расеі. Руская зразумелі небясьпеку. На барацьбу з гэтай ідэяй і *з Беларускім Народным Фронтам* былі кінутыя ўсе скрытыя і адкрытыя сілы. У тым самым годзе, як прафанацыя аб'яднаўчай ідэі, ствараецца агентурны фантом – Хартыя-97, праз які пайшлі сродкі на развал *Беларускага Народнага Фронту*, на подкуп і разбэшчваньне беларускіх палітычных структураў, на стварэньне новай, паралельнай з *БНФ*, агульнадэмакратычнай апазыцыі без беларускай ідэі і без адраджэнцкай палітыкі. Рускім дапамагаюць у гэтым заходнія лібэралы. У 1998 годзе ў Менск прыязджае **Ганс-Георг Вік**, спрыяе стварэньню „аб'яднанай дэмапазыцыі" і заганяе яе ў „перамоўны працэс".

У 1999 годзе зьяўляецца злавесны „праект – Чыгір" (альтэрнатыўныя выбары прэзыдэнта), які поўнасьцю прафінансавала Масква. Зь велізарнымі цяжкасьцямі і стратамі

ўдалося гэты праект абваліць. (Іначай ад *Беларускага адраджэньня* мала што засталося б.) Тым ня менш, з *Народнага Фронту* выйшла група людзей, якая пакінула за сабой абрэвіятуру *БНФ* і далучылася да „аб’яднанай апазыцыі” (Ю.Хадыка, А.Бяляцкі, В.Вячорка, Л.Баршчэўскі і інш.)

Летам 2000-га году дзеячы „аб’яднанай апазыцыі” з усяе сілы імкнуліся сарваць і перашкодзіць правядзеньню *Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць*. Але нічога ў іх не атрымалася. ***Усебеларускі Зьезд за Незалежнасьць – вялікая падзея беларускай сучаснасьці – адбыўся***.

Спатрэбіўся цэлы год, каб усе ўбачылі, што так званая „аб’яднаная апазыцыя”, падтрыманая чужымі грашыма, гэта, як і „хартыя”, – ніякая не палітычная сіла, а пустата, бурбалка ў лужыне, за якой няма ні структураў, ні арганізаваных людзей, ні здаровых ідэяў, ні хоць бы на нешта здольных палітыкаў, акрамя спажывальнікаў грашовых грантаў ды балбатуноў, якія любым коштам хочуць трапіць ва ўладу (у тую, дарэчы, лукашэнкаўскую, пра якую кажуць, што яе ня любяць).

Вазьміце, вазьміце мяне ў прэм’еры, – ужо даўно просіцца ў Лукашэнкі „апазыцыянэр” С.Багданкевіч. Пачаліся выбары, і „аб’яднаныя апазыцыянеры”, што выступалі супраць выбараў ды напрымалі розных „заяваў”, нарабілі „кангрэсаў”, пайшлі на выбары касяком. Тут і камуністы, і Статкевіч, і Фядута, і Сініцын, і Чыгір і іншыя – знаёмыя ўсе твары. І трэба ж такі (акрамя Булахава, які „правільна” сябе паводзіў) – нікога ва ўладу не ўзялі. Яны ў каторы раз прадаюцца (і ня дорага просяць), а іх не купляюць. Непатрэбныя яны больш Лукашэнку. Гэтыя людзі неабходныя заказчыкам не ва ўладзе, а якраз – у „аб’яднанай апазыцыі”, якую ім прыдумалі. Там іхняе поле разбуральнай дзейнасьці, а не ў кіраўніцтве дзяржавай.

## ПРЫВАТНАЯ АЦЭНКА

Я ведаю гэтых асобаў. І тых, хто былі ў Вярхоўным Савеце, і тых нямногіх, што былі ў *Народным Фронце* і выязджалі на чужых плячах, дбаючы пра свае інтарэсы. Яны здаўна тоўпяцца ў палітыцы. Але я глыбока перакананы ў адным: гэтых людзей нельга дапускаць да беларускай улады. Яны не пасьпелі, не дарасьлі да гэтакага ўзроўню ні з маральнага, ні з палітычнага боку. *Ня могуць і не павінны кіраваць людзі, схільныя да здрады нацыі, да карупцыі, здольныя прадавацца за сто даляраў ды служыць спонсару (нямецкаму, расейскаму, ці іншаму – усяроўна). Беларусы не павінны за такіх галасаваць. Нельга такім давяраць.*

Мне няпроста пра гэта пісаць землякам, бо я адчуваю, што зноў ня ўспрымуць тое, што я кажу цяпер, але толькі потым, праз два-тры гады, ужо па часе. Чаму ў нас, беларусаў, запозьненая рэакцыя, чаму мы часта ня хочам заранёў бачыць відавочных зьяваў, пакуль нас нашымі ж рукамі не ўпіхнулі ў мяшок?! Мы мусім старацца гэта зьмяніць і паправіць нашае беларускае жыцьцё, каб намі не кіравалі ненадзейныя людзі і чужакі.

## ЗАДАЧЫ

Сытуацыя, якая ўзьнікла пасьля правалу Лукашэнкі на выбарах 15-га кастрычніка і потым, пасьля фальсіфікацыі галасаваньня, вымагае выразнага і канкрэтнага дзеяньня.

Лукашэнка павінен адыйсьці. Ён мусіць пакінуць уладу і адмовіцца ад пасады, якую захапіў і трымае незаконна. **ЛУКАШЭНКА, ЗЫХОДЗЬ!** – вось патрабаваньне, якое трэба выставіць узурпатару, што траціць падтрымку ў грамадзтве. Такое патрабаваньне лягічнае, маральнае, палітычна абгрунтаванае і правільнае. Гэтае патрабаваньне ёсьць дзеяньне і палітычны працэс. *Яно павінна паўтарацца з дня на дзень, на вуліцы, у друку, ва ўстановах, заводах і гаспадарках, у эфіры і ў паветры*. Ня трэба слухаць таго, хто будзе казаць: „Дык ён жа ня зыйдзе.” ***Трэба дэманстраваць волю, салідарнасьць і народную сілу***.

Наступнае патрабаваньне, якое адчыняе мэханізм зыходу: **ЗАКОННЫЯ ВЫБАРЫ – ЗАКОННАЯ ЎЛАДА**. Гэта значыць, што *законныя выбары Прэзыдэнта і Вярхоўнага Савета павінны аб’явіць і правесьці законныя ворганы ўлады:* ***Вярхоўны Савет***, ***Выканаўца функцыяў Прэзыдэнта Беларусі Сымон Шарэцкі*** і ***Цэнтральная Выбарчая Камісія*** (а не група асобаў, на чале з спадарыняй Ярмошынай).

Небясьпечна дапусьціць, каб Лукашэнка правёў свае прэзыдэнцкія выбары па свайму сцэнару і па сваіх распараджальных (і нелегальных) актах. І тым самым захаваў бы сваю ўладу.

Па-другое, *нельга дапусьціць, каб нямецка-расейскі дыпляматычны альянс зьдзейсьніў на Беларусі югаслаўскую мадэль зьмены Лукашэнкі на іншую асобу, падпарадкаваную Маскве, і паставіў на прэзыдэнта Беларусі новую маскоўскую крэатуру (з іміджам апазыцыянэра).*

Гэты варыянт горшы, чым варыянт з Лукашэнкам, бо здольны яшчэ хутчэй прывесьці да страты Беларускай незалежнасьці і ліквідацыі Беларускай дзяржавы. (Акрамя таго ён дэзыарыентуе грамадзтва.) Калі да гэтага давядуць, то мірны пэрыяд разьвіцьця падзеяў на Беларусі можа скончыцца.

У сытуацыі, якая складваецца, і асабліва ўлічваючы здрадніцкую прамаскоўскую дзейнасьць асобаў так званай „аб’яднанай апазыцыі”, *Беларускі Вызвольны Рух* павінен будзе прыняць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах і выставіць кандыдата.

Мы добра сабе ўсьведамляем, што рэальнай апазыцыйнай сілай, якая змагаецца супраць акупацыйнай палітыкі і дыктатарскага рэжыму (што гэтую палітыку праводзіць) зьяўляецца не „аб’яднаная апазыцыя”, а *Беларускі Вызвольны Рух*, дзе галоўнымі арганізацыямі ёсьць *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ*. *Беларускі Вызвольны Рух* выяўляе прычыны дыктатуры і змагаецца зь ёй як з прарасейскім акупацыйным рэжымам, у якім вызначальную ролю іграе не Лукашэнка (ён марыянэтка), а Масква.

Дыктатура і акупацыйная ўлада на Беларусі зьдзяйсьняюць этнацыд беларусаў, закрываюць беларускія школы, вынішчаюць беларускую мову, праводзяць мэтанакіраваную палітыку зьбядненьня народу.

Прэзыдэнт Беларускага народу, прапанаваны *Беларускім Вызвольным Рухам*, ліквідуе гэтую антыбеларускую палітыку і антынародную дзейнасьць, забясьпечыць волю, працу і будучыню беларускім людзям і ўсёй Беларускай нацыі на сваёй зямлі.

***ЗЯНОН ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 7(30).*

# НАШЫЯ АЦЭНКІ І ЗАДАЧЫ

***(Выступ на лістападаўскім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне")***

Паважаныя сябры Сойму БНФ і Партыі БНФ. Вітаю Вас у Бацькаўшчыне. Віншую з надыходзячай ***80-й гадавінай Слуцкага Збройнага Чыну*** і з выдатным сьвяткаваньнем сёлетніх Дзядоў у Курапатах і Лошыцы. Справу Дзядоў трэба якраз цяпер інтэнсіўна прадоўжыць, каб урухоміць традыцыю і працэс стварэньня помніка.

Да Нараджэньня Хрыстова трэба, каб у Курапатах (і асабліва ўздоўж аб'язной дарогі і ўздоўж Дарогі сьмерці) вырастаў Крыжовы лес. Трэба паставіць Крыжы за Слуцкіх герояў, за Каліноўцаў, і кожны беларус – за сваіх забітых і закатаваных. Хай гэта будзе неперапыннае крыжовае рушэньне, як на гару Кальварыя. Паверце, што яно стане шляхам да нацыянальнага Адраджэньня. Бо адсюль пачыналася гэтая Адраджэнская Дарога і Боская Ласка спрыяла нам. Гэта вы, пэўна, адчулі сёлета ў Курапатах на Дзяды.

Наш нацыянальны шлях – гэта ёсьць таксама Крыжовая Дарога. І нездарма наш беларускі нацыянальны *Бел-Чырвона-Белы сьцяг* (адзіны ў сьвеце) ёсьць сьцягам Хрыста, такі просты і найпрыгажэйшы. У ім – гармонія спалучэньня колераў і гармонія Божай Радасьці.

Чалавек, ставячы Крыж, можа напісаць, ад каго ён ахвяраваны і ў памяць каго пастаўлены. Курапаты могуць стаць нацыянальным Мартыралёгам, статыстычным сьпісам беларускіх ахвяраў, з попелу якіх паўстаньне наш Беларускі Вольны Дух.

Цяпер аб галоўных палітычных задачах.

У лісьце да сяброў Беларускага Вызвольнага Руху ад 10 лістапада я ўжо пісаў пра некаторыя пытаньні нашай палітыкі. Але гэта агульныя развагі. У канкрэтным сэнсе мы як прадстаўнікі партыі Беларускага Адраджэньня павінны дзейнічаць па абавязковых правілах, якія пацьверджаныя палітычным вопытам і гісторыяй. Тут не павінна быць ні аматарскай самадзейнасьці, ні расхлябанасьці, бо мы падышлі да вызначальнай сытуацыі ў палітыцы – да выбараў.

***Арганізацыя палітычнай партыі гэта ёсьць аддзяленьне ад чужароднага і аб'яднаньне аднадумцаў.*** Немагчыма аб'яднаць „сваіх", не аддзяліўшыся ад „чужых". Аддзяленьне ёсьць першасным элемэнтам аб'яднаньня. Успомніце, калі стваралі Народны Фронт, у яго шчыміліся краўчанкі, жураўлёвы, усялякая агентура, і галоўны лёзунг гэтых людзей ад „саветаў" і КПСС быў – „Давайце все аб'едзінімся", а далей: „Мы, канечна, „за", но не нада выпячываць беларускій язык, у нас жа ў всех общае дзела" і г.д. А потым былі розныя „вёсны" ды „новыя Беларусі".

Тэзіс „Давайце все аб'едзінімся" перасьледваў нас на працягу дзесяці гадоў, як сабачы брэх. Гэта быў разбуральны тэзіс, бо зыходзіў ад чужынцаў. Гэта ёсьць традыцыйны мэтад агентуры, дарога для чужых, спосаб разбурэньня адраджэнцкай арганізацыі (шляхам перайманьня ў яе функцыяў кіраваньня) і спосаб зьнішчэньня адраджэнскай ідэалёгіі (шляхам перараджэньня).



***82. Дэманстрацыя БНФ у Горадні.***

На жаль, шмат хто зразумеў гэта запозьнена, толькі ў 1999 годзе, пасьля правалу праекту „Чыгір", калі да горла Фронту прыставілі нож аплочаныя прыхільнікі аб'яднаньня з чужародным.

Тым ня менш мы зьберагли і Фронт, і Адраджэньне. Мінуў год, і стала добра відаць, на што здольны твор пад назвай „аб'яднаная апазыцыя". Цяпер, калі наперадзе прэзыдэнцкія выбары і дэмапазыцыя ўключылася ў лукашэнкаўскі сцэнар, мы мусім (падкрэсьліваю: мусім, абавязаныя) выразна і катэгарычна давесьці, паведаміць і заявіць, што Вызвольны Рух ня мае да гэтага „прагматычнага" асяроддзя і да гэтай „аб'яднанай апазыцыі" ніякага дачыненьня. Трэба адсячы іх адным махам, каб нас сьведама і нясьведама ня блыталі зь імі, каб яны не карысталіся нашымі справамі, нашай палітычнай інтэлектуальнай уласнасьцю.

На выбарах (калі да іх дойдзе) яны разам з афіцыйным лукашызмам выступяць супраць нас як адзіная распалавіненая каманда (у гэтым можна не сумнявацца).* Іх жа падтрымаюць нямецкія дыпляматы і заходнія лібэралы.

Цяпер добра відаць, як асобаў „аб'яднанай апазыцыі" хочуць выкарыстаць Масква і лібэралы з Эўрапейскага Зьвязу ў сваіх супольных інтарэсах: ужываюць іх як прыладу сваёй палітыкі. Аднак Масква з сваімі нямецкімі хаўрусьнікамі тут пралічылася. Нам гэта зразумела. Яны думаюць, што „аб'яднаная апазыцыя" ёсьць нейкая арганізаваная палітычная сіла, і мяркуюць, што грошы зробяць усё.

Чаго вартыя гэтыя грошы паказаў ужо „праект Чыгір": украдуць і праваляцца (тое, што замежныя інтарэсы гуляюць з пустышкай – так ім і трэба!).

Высновы мы павінны былі рабіць учора. Цяпер трэба дзейнічаць.

Беларускі Вызвольны Рух заклікае да абструкцыі Лукашэнку. Лукашэнка мусіць зыйсьці. Законныя выбары павінны правесьці законныя органы ўлады. Беларускі Вызвольны Рух у асобе Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ выстаўляе кандыдата на Прэзыдэнта Вольнай Беларусі, за Свабоду, Незалежнасьць, дабрабыт Бацькаўшчыны.

Зьмяніць сытуацыю ў Беларусі можам мы і наш народ, які нас падтрымае. Трэба сур'ёзна і зь верай працаваць у гэтым кірунку.

Ёсьць яшчэ адна канкрэтная задача. Мы павінны дамагчыся выдаленьня зь Беларусі нямецкага дыплямата Ганса-Георга Віка. Зразумела, што Лукашэнка ня будзе выганяць Віка за антыбеларускую дзейнасьць,** але АБСЭ і Нямецкае Міністэрства замежных справаў, якія імкнуцца дэманстраваць добрыя манеры, павінны гэтага свайго прадстаўніка зь Беларусі адклікаць. Мы мусім засьведчыць, што лічым яго за ***пэрсону нон грата*** і прыняць шэраг захадаў націску на Місію АБСЭ і яе кіраўніцтва.(…)

*18 лістапада 2000 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

---

* Так яно потым і атрымалася. „Прагматыкі" падтрымлівалі камуністычна-намэнклятурных стаўленьнікаў: У. Ганчарыка, С. Домаша, М. Марыніча. – *(З.П.)*.

** Неўзабаве, калі маўр (Вік) зрабіў сваю антыбеларускую справу, Лукашэнка вытурыў яго па сваіх меркаваньнях. – *(З.П.)*.

# ЗМАГАЙМАСЯ!

*(Зварот да суайчыньнікаў)*

Прысьпешваецца кадравае афармленьне расейскай акупацыі Беларусі і ствараюцца палітычныя ўмовы для здачы беларускай дзяржавы пад Расею. Пра гэта сьведчаць чарговыя чысткі ва ўладзе ў Менску, якія адбыліся 27-га лістапада гэтага года. Цяпер ва ўрадзе Лукашэнкі, практычна, не засталося ніводнага беларуса. (Звольнены нават услужлівы міністар культуры Сасноўскі.) На месцы беларусаў пастаўленыя рускія функцыянэры расейскага ФСБ.

Мне прыходзілася і раней папярэджваць, што пасьля захопу ўлады ў Беларусі рускімі спэцслужбамі зь беларускіх органаў кіраваньня паступова будуць выдаленыя (а пазьней – зьнішчаныя) усе беларусы, у тым ліку і Шэйман, і Мацкевіч, і Антановіч, і Пашкевіч, і Мясьніковіч і інш. Апошнім (пасьля чыстак і зрабленьня „справы") Масква ліквідуе Лукашэнку. Ня выключана, што ўжо цяпер будуць рыхтаваць свайго Каштуніцу.*

***Беларусам трэба, нарэшце, убачыць, што з 27-га лістапада на Беларусі кіруе, фактычна, поўнасьцю расейскі акупацыйны ўрад, які складаецца цалкам з расейцаў, расейскіх генэралаў і функцыянэраў ФСБ. Працягваецца і завяршаецца захоп расейцамі беларускага войска, міліцыі і КГБ, давяршаецца разгром беларускага нацыянальнага школьніцтва, асьветы і адукацыі.***

Кадравая чыстка, якую праводзяць рускія акупанты, выкарыстоўваючы Лукашэнку і выганяючы з кіраваньня беларусаў, мае *адкрыты этнічны характар* і стала магчымай у выніку нацыянальнай неразьвітасьці беларускіх кіруючых элітаў. Менавіта дзякуючы нацыянальнай адсталасьці і прадажнасьці беларускіх кіраўнікоў і савецкай каляніяльнай адміністрацыі, якая захавалася тут у нязьменным выглядзе, Масква праводзіць унікальную і пасьпяховую вайну супраць Беларусі, акупуючы краіну знутры без адзінага стрэлу.

* Так яно потым і сталася. Гулялі з камуністам У. Ганчарыкам (вастаўлялі на прэзыдэнта), які заяўляў: „У Беларусі ня будзе Каштуніцы – будзе Ганчарык". – *(З. П.)*.

Трэба ўлічыць, што афіцыйныя ды „незалежныя" СМІ, лібэральныя балбатуны з так званай „аб'яднанай апазыцыі" ды розныя нанятыя „экспэрты" спэцыяльна пішуць і гавораць рознае глупства пра кадравыя зьмены ва ўладзе, каб заблытаць, засаніць беларусаў, схаваць сутнасьць акупацыйнай антыбеларускай палітыкі. Не забывайма, што супраць беларусаў расейцамі вядзецца татальная інфармацыйная вайна, вынікі якой надзвычай разбуральныя.

На сёньняшні дзень Беларусь ужо, нібы мяшку. Засталося толькі завязаць. Тое, што беларусы ў гэтым мяшку спакойна сядзяць, тлумачыцца тым, што яны ня ведаюць, што іх чакае. Але калі мяшок завяжуць, то разумець будзе ўжо позна.

*Ніякіх рэальных прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі ў такіх умовах ня будзе. Можа адбыцца толькі фальшывая выбарчая прафанацыя дзеля абгрунтаваньня і замацаваньня акупацыйнай палітыкі рукамі і нагамі беларусаў. Улада ў Беларусі Масквой ужо захоплена. Засталося яе толькі легітымізаваць. Калі ж гэта не атрымаецца, то Расея ўсёроўна паспрабуе арганізаваць хуткі захоп нацыянальнай маёмасьці і потым ужо – ліквідацыю Беларускай дзяржавы.*

Што цяпер рабіць?

***За свабоду трэба змагацца***. Змагацца ўсімі сродкамі. Неабходна насупраць акупацыйнай улады ***стварыць законны беларускі Ўрад Нацыянальнага Даверу***. Яшчэ ёсьць рэальная магчымасьць.

Фармальна Беларускі Ўрад можа стварыць апазыцыйны Вярхоўны Савет. *Беларускі Вызвольны Рух* даўно засьведчыў падтрымку гэтай задачы. Грамадзтва павінна прымусіць дэпутатаў Вярхоўнага Савета выканаць свае абавязкі па зацьвярджэньні законнага Ўраду.

Беларускім элітам добра было б зразумець, што не прэзыдэнцкія выбары (па правілах акупацыйнага рэжыму), а стварэньне законнага Беларускага Ўраду ёсьць першым крокам, каб запабегчы зьнішчэньню дзяржавы і незалежнасьці.

*29 лістапада 2000 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 7(30).*

# ЦЭНТРАЛЬНА-УСХОДНЯЯ ЭЎРОПА МАЕ СВАЕ ІНТАРЭСЫ

Адносна нямецка-расейскай антыбеларускай палітыкі мы павінны памятаць, што гэтая палітыка ўзьнікла ня сёньня і ня ўчора, а даўно. Яна прывяла да ліквідацыі Рэчы Паспалітай і нашай свабоды, да паняволеньня народаў Усходняй Эўропы, выклікала І-ю і ІІ-ю Сусьветныя войны і працягваецца вось ужо трэцяе стагодздзе. Ня цяжка пралічыць, да чаго яна можа прывесьці.

Свабода Беларусі залежыць не ад добрых стасункаў з Расеяй і Нямеччынай (іх ня будзе, пакуль існуе Расея), а ад самых беларусаў і ад існаваньня незалежнай Украіны, Польшчы і Летувы, ды добрых дачыненьняў з гэтымі суседзямі. Гэтак сама незалежнасьць Украіны залежыць ад існаваньня вольнай Польшчы, Беларусі і Летувы, а незалежнасьць Польшчы – ад вольнай Украіны, Летувы і Беларусі. Тут ўзаемасувязь.

Для нас – народаў-суседзяў – гэта правіла, пацьверджанае гісторыяй, якое мы мусім ведаць напамяць. Гэта рэальнасьць, якую мы сузіраем. Калі мы хочам вольна, незалежна і добра існаваць у сьвеце, то ўсе мы ва Ўсходняй Эўропе павінны трымацца салідарна, разам, падтрымліваць адзін аднаго. Гісторыя і рэчаіснасьць пацьвярджаюць, што Захад ёсьць Захад, Усход ёсьць Усход, а мы – ёсьць мы.

Нямецка-расейская палітыка вядзе да таго, каб у пэрспэктыве немцы маглі расправіцца з Польшчай у „аб'яднанай Эўропе", а расейцы – зь беларусамі, украінцамі і летувісамі ў аднаўленай Расеі.

Над усёй гэтай тайнай і яўнай палітыкай чадзіць дым дэмагогіі пра дэмакратыю і правы чалавека. У той час, калі добра відаць, што ўсю гэтую дэмакратыю яны, не задумваючыся, здаюць за нейкую лядашчую трубу (ня кажучы ўжо пра „чалавекаў").

*Сьнежань 2000 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***(З выступу на сьнежаньскім Сойме БНФ)***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000/2001, № 1(31).*

# 2001

## ГОЛАС ГІНУЧЫХ У ЭЎРАПЕЙСКАЙ ПУСТЫНІ

*23 студзеня ў Варшаве*, за месяц да пачатку міжнароднай акцыі *„За нашу і вашу свабоду”* адбылася дэманстрацыя чачэнскіх уцекачоў, прымеркаваная да адкрыцьця сэсіі Эўрапарляманту. Чачэнцы перадалі пэтыцыю, скіраваную да міжнародных арганізацыяў, на рукі Камісару ААН па справах уцекачоў Хрысьціяну Ф. Мару.

У звароце напісана: „Гэты зварот павінен усьвядоміць ААН, Раду Бясьпекі ААН, Эўрапейскі Зьвяз, АБСЭ і міжнародную думку, што вызначаныя правы, канвэнцыі, асновы гуманізму і ідэалы дэмакратыі – гэта пустыя вартасьці ў рэальнай сітуацыі зьнішчэньня нашага народу, якое зьдзяйсьняе Расея, як сказана – „у імя яе інтарэсаў”...

Расейцы бесперастанна забіваюць цывільнае насельніцтва, зьнішчаюць інфраструктуру, гаспадарку і прыроду. Тэрыторыя Чачэніі ператвараецца ў мёртвую зону... На тэрыторыі самой Расеі трывае няспыннае паляваньне на чачэнцаў. Расісцкая практыка дыскрымінацыі ў дачыненьні да чачэнцаў стала афіцыйнай палітыкай расейскай дзяржавы...

Становішча сотняў тысячаў чачэнскіх уцекачоў, што ўцяклі ў суседнюю Інгушэцію, абазначаецца як гуманітарная катастрофа... Расейскія ўлады падрыхтавалі ім у Інгушэціі ўмовы галоднай сьмерці, альбо вынішчэньня ў выніку холаду і хваробаў...

Міжнародныя арганізацыі, такія як ААН, Рада Бясьпекі ААН, Эўразьвяз, АБСЭ, што прэтэндуюць на ролю суддзі, замест выкананьня сваіх функцыяў, зьнешне паказваюць, што ўсюды выступаюць за абарону правоў чалавека, абы толькі не на тэрыторыі Расеі.

Маладушнасьць і маральная бяздзейнасьць гэтых арганізацыяў успрымаюцца Расеяй як падтрымка для яе злачыннай палітыкі вайны ў Чачэніі...

Рада Эўропы дэ-факто палітычна і юрыдычна падтрымлівае расейскую каляніяльную інвазію ў Чачэнію. Яна не запатрабавала ад Расеі прызнаньня адказнасьці за вынікі першай вайны супраць Чачэніі, бескрытычна прымае расейскую прапагандысцкую хлусьню пра цяперашнюю вайну.

Чачэнскі народ, што стаіць перад пагрозай поўнага зьнішчэньня, абвінавачвае: Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў, Раду Эўропы, Эўрапейскі Зьвяз і АБСЭ ў бязьдзейнасьці ў справе Чачэніі, што спрычыняецца да ўзаемнай адказнасьці за злачынствы супраць чалавецтва, якія прадаўжаюцца і конваюцца расейскімі людабойцамі; Міжнародны Валютны Фонд – у адкрытым і скрытым фінансаваньні расейскага рэжыму.

…Мы зьвяртаемся да грамадзянаў Эўропы і ўсяго сьвету з просьбай падняць голас у абарону гінучага чачэнскага народу, які не паддаецца агрэсару. Мы спадзяемся на Вашу дапамогу, салідарнасьць і супрацоўніцтва.

…Ад імя чачэнскага народу патрабуем ад Рады Эўропы прыняцьця наступных захадаў:



**83. *Ваеннае дзяцінства ў Джахар-Гала (былы Грозны, разбураны расейскай авіяцыяй). 2000 г.***

*– неадкладнага выключэньня Расеі з Рады Эўропы за злачынствы, зробленыя над народам Чачэніі;*

*– запатрабаваць ад Расеі неадкладнага спыненьня вайсковых апэрацыяў і выводу ўзброеных сілаў з тэрыторыі Чачэніі;*

*– запатрабаваць ад Расеі неадкладнага вызваленьня вязьняў фільтрацыйных лягераў на тэрыторыі Чачэніі і ўсіх чачэнцаў, нелегальна замкнутых у турмы на тэрыторыі Расеі;*

*– запатрабаваць ад расейскіх уладаў прызнаньня адказнасьці за лёс* ***Руслана Аліхаджыева*** *– Старшыні парляманту Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя, замардаванага ў маскоўскай турме Ляфортава;*

*– запатрабаваць ад Расеі неадкладнага распачынаньня мірных перамоваў з легітымнай уладай Чачэніі, зь яе Прэзыдэнтам* ***Асланам Масхадавым****. Перамовы павінны адбывацца пры ўдзеле міжнародных назіральнікаў.”*

У дэманстрацыі чачэнскіх уцекачоў бралі ўдзел прадстаўнікі польскіх арганізацыяў і беларускай палітычнай эміграцыі.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 2(32). Пад псэўданімам М. ВАНЬКЕВІЧ)*

# ЗВЫЧАЙНАЯ ЗДРАДА

*Чарцей не схаваеш – альбо асьлiныя вушы, альбо рогi тырчаць.*

Гiсторыя посткамунiзму ўжо паказала, што апазыцыя, якая змагаецца з рэжымам за грошы, калi прыходзiць да ўлады – пачынае красьцi больш за папярэднiкаў. Такiя лёсам народу не цiкавяцца.

У беларускай так званай „аб'яднанай апазыцыi" на паверхнi былыя сябры i хаўрусьнiкi Лукашэнкi. Iм усiм хочацца стаць прэзыдэнтамi, i таму яны адзiн за другiм езьдзяць у Маскву шукаць падтрымкi. Яны iмкнуцца пераканаць маскоўцаў, што будуць лепшымi за Лукашэнку (для Масквы, вядома).

„Мы понимаем, что в наших руках судьба Беларуси",* – кажа (i, вiдаць, сур'ёзна так думае) адзiн такi „апазыцыянер" **Мiхаiл Чыгiр**.

Тады яму задаюць пытаньне:

*– Как сообщила недавно российская газета „Сегодня", в Беларуси в прошлом году работали несколько аналитических групп, которые изучали у нас политическую ситуацию. Знаете ли вы об этом?*

– Конечно, знаю. Более того, я встречался с одним из представителей этих групп. Хочу добавить, что в отличие от времен Бориса Николаевича Ельцина, когда основным источником информации в Росии о Беларуси были только официальные каналы – президент, правительство, МИД, – то нынешняя путинская администрация создала у нас в стране, насколько я знаю, три независимые и автономные группы: одна представляет Совет безопасности, другая – Администрацию президента, третья – ФСБ. Они отслеживают ситуацию в Республике Беларусь и дают сейчас свои предложения, свои замечания президенту России.

*– Известны ли Вам какие-нибудь результаты наблюдений российских групп?*

– Насколько мне известно, россияне будут наблюдать за происходящим в Беларуси еще достаточно длительное время и по своей позиции касательно поддержки того или иного кандидата на президентских выборах определятся гораздо позже. И то, что российская сторона собирает информацию не только по официальным каналам, но и неофициальным, – своеобразное ноу-хау нового российского руководства. Как мне сообщили, эти люди „узнали много нового и интересного о Беларуси".**

Калi я гэта прачытаў,*** то не паверыў вачам сваiм. Але факт ёсьць факт. Чыгiр адкрыта расказвае пра свае сувязi i кантакты з расейскiмi спэцслужбамi. (У мяне закралася падазрэньне, цi разумее ён увогуле сам, што гаворыць.) Я паказаў гэты матэрыял Генэральнаму Пракурору Беларусi спадару Рыгору Пракаповiчу. Выглядае так, што калi пачнецца працэс па факту ўзурпацыi ўлады ў Беларусi,


(Фота з газэты «Народная Воля»)

**84. *Напад пераапранутай мiлiцыi i КГБ на пiкет КХП-БНФ. У цэнтры экзэкуцыя Улiдзiмера Iвашкевiча (74 гады). Справа мiнiстар МУС Навумаў кiруе нападам. Менск.***

то так званая „апазыцыя" будзе праходзiць ня толькi ў якасьцi сьведкаў па справе ды абвiнаваўцаў. Урэшце рэшт людзi разьбяруцца, як i з Лукашэнкам. Толькi лепш разабрацца перад, чым пасьля. Меншыя страты для грамадзтва.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускiя Ведамасьцi, – 2000-2001, № 1(31).*

* Мы разумеем, што ў нашых руках лёс Беларусi *(з руск.)*

** *– Як паведамiла нядаўна расейская газэта „Сегодня", у Беларусi ў мiнулым годзе працавалi некалькi аналiтычных групаў, якiя вывучалi ў нас палiтычную сiтуацыю. Цi ведаеце вы пра гэта?*

– Вядома, ведаю. Больш таго, я сустракаўся з адным з прадстаўнiкоў гэтых групаў. Хачу дадаць, што ў адрозьненьне ад пэрыяду Барыса Мiкалаевiча Ельцына, калi асноўнымi крынiцамi iнфармацыi ў Расеi пра Беларусь былi толькi афiцыйныя каналы – прэзыдэнт, урад, МЗС, – то цяперашняя пуцiнская адмiнiстрацыя стварыла ў нас у краiне, наколькi я ведаю, тры незалежныя i аўтаномныя групы: адна прадстаўляе Савет бясьпекi, другая – адмiнiстрацыю прэзыдэнта, трэцяя – ФСБ. Яны адсочваюць сытуацыю ў Рэспублiцы Беларусь i даюць цяпер свае прапановы, свае заўвагi прэзыдэнту Расеi.

*– Цi вядомыя Вам якiя-небудзь вынiкi назiраньняў расейскiх групаў?*

– Наколькi мне вядома, расейцы будуць назiраць за тым, што адбываецца ў Беларусi, яшчэ дастаткова доўгi час i па сваёй пазыцыi, што датычыць падтрымкi таго цi iншага кандыдата на прэзыдэнцкiх выбарах, вызначацца значна пазьней. I тое, што расейскi бок зьбiрае iнфармацыю ня толькi па афiцыйных каналах, але i па неафiцыйных, – гэта своеасаблiвае ноу-хаў новага расейскага кiраўнiцтва. Як мне паведамiлi, гэтыя людзi „даведалiся шмат новага i цiкавага пра Беларусь." *(з руск.)*

*** *„Народная Воля", – 2001, 18 студзеня.*

# ЗА БЕЛАРУСЬ

**(Ліст на Соймавую канфэрэнцыю Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)**

...Надыходзіць крытычны час для рэжыму. Ёсьць шанец для Беларусі. Нельга дапусьціць, каб антыбеларускія сілы – Масква, Лукашэнка і ягоная „апазыцыя" – зноў пакарысталіся народам для дасягненьня сваіх эгаістычных інтарэсаў.

Мы і ўвесь *Беларускі Вызвольны Рух* мусім удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах ***з мэтай палітычнай барацьбы ад імя ўсёй Беларусі і ўсяго Беларускага Народа***. Ня трэба блытаць гэтыя выбары з парляманцкімі, якія можна байкатаваць. Ва ўсіх прэзыдэнцкіх выбарах, як правіла, трэба ўдзельнічаць. Гэта наш абавязак, бо мы ўзялі на сябе адказнасьць выяўляць інтарэсы беларускага чалавека, інтарэсы ўсёй Беларускай Нацыі. І мы выяўляем гэтыя інтарэсы. Мы маем маральна-палітычнае права прадстаўляць Беларускі Народ, бо мы ёсьць ягоная частка, якая ахвяравалася для яго. Мы незалежныя ад Усходу і ад Захаду, бо не бярэм іхных сродкаў. Мы не бярэм падачак ад чужых. Мы палітычна дзейнічаем за кошт нашых унутраных рэсурсаў і абапіраемся на падтрымку свайго народу.

Мы разумеем, што ***нармальных выбараў ня будзе***. ***Выбары будуць старацца заведама сфальсіфікаваць пры любым раскладзе.*** Асобы, што зьбіраюцца ўдзельнічаць у выбарах побач з дыктатарам і наіўна спадзяюцца ў гэтай сытуацыі лічыць свае галасы, ня маюць ніякіх шансаў. Яны патрэбныя Маскве і Лукашэнку дзеля бачнасьці, каб сказаць, што „выбары" быццам бы былі „дэмакратычнымі". Фактычна, гэтыя асобы ўдзельнічаюць у сцэнары Лукашэнкі і спрыяюць яму.

***Наш удзел у выбарах гэта ёсьць пазыцыя палітычнай альтэрнатывы***. Сіла на сілу. Супроцьстаяньне ў межах усёй нацыі.

У палітычнай барацьбе мы павінны ўлічваць усіх і выкарыстоўваць тых, хто выступае супраць нашых палітычных праціўнікаў. На гэтым грунтаваліся нашы неаднастайныя адносіны і да асобаў чужой нам так званай „аб'яднанай апазыцыі".

Але калі пачынаюцца выбары, то мы павінны рабіць жорсткі і адназначны выбар. Рознастайнасьці тут ужо не існуе і ня можа быць.

Мы павінны выразна ўсьвядоміць, што ў гэтай сытуацыі, калі разыгрываецца адзіны маскоўска-лукашэнкаўскі сцэнар, ***усе кандыдаты з так званай „аб'яднанай апазыцыі" ёсьць (гэтак жа, як і Лукашэнка) нашымі палітычнымі праціўнікамі. Лукашэнка і яны – гэта ёсьць для нас ў створанай сытуацыі адна варожая нам каманда. Мы мусім змагацца зь ёй.***

Заўважце, што там зьбіраюцца ўсе былыя (што супрацоўнічалі з Лукашэнкам). *Беларускі Народны Фронт*, які дамогся незалежнасьці Беларусі, спыніў тут дзейнасьць КПСС і ЛКСМБ, ніколі ня быў разам і не супрацоўнічаў з такімі намэнклятурнымі асобамі, як **Чыгір**, **Ганчарык**, **Домаш**, **Лукашэнка**, **Лябедзька**, **Булахаў**, **Сініцын**, **Фядута**, **Багданкевіч**, **Казлоўскі** і г.д. Гэтая былая намэнклятура называецца цяпер „аб'яднанай апазыцыяй". Раней яны абаранялі камуністычную сістэму. Яны заўсёды выступалі супраць беларускай нацыянальнай ідэі і супраць *БНФ* (і выступаюць непрыхільна па сёньняшні дзень). Яны падтрымлівалі Кебіча, Сакалова, Малафеева і Лукашэнку і заўсёды схіляліся перад Масквой. Вось і цяпер яны езьдзяць туды прасіць грошай і падтрымкі. Яны не зьбіраюцца выступаць супраць расейскай акупацыйнай „інтэграцыі" і супраць расейскай імпэрскай палітыкі на Беларусі. То навошта яны ідуць на выбары?!

Адказ просты: каб захаваць існуючую ўладу (у тым ліку, і прамаскоўскі рэжым), але зьмяніць Лукашэнку. Дзеля гэтага яны і шукаюць падтрымкі ў Крамля.

***Мы выходзім на выбары з задачай змаганьня за вольную незалежную Беларусь, за годнасьць, свабоду і дабрабыт беларуса.*** Прэч расейскі імпэрыялізм! Беларусь для беларусаў, а не для маскоўскай імпэрыі і маскоўскай мафіі. Гаспадарамі на Беларусі будзем мы, беларусы, а не маскоўскі ФСБ. ***Мы*** будзем валодаць нашай нацыянальнай уласнасьцю, маёмасьцю, зямлёй і гаспадаркай, а не маскоўскія крымінальныя алігархі. ***Мы*** будзем мець дабрабыт з нашай беларускай зямлі і з нашай працы, а не маскоўскія акцыянэры!

Ніхто ня будзе больш зачыняць нашыя беларускія школы і спальваць беларускія падручнікі, ніхто ня будзе больш пляваць на нашу беларускую мову і прымушаць нас гаварыць па-руску. Мы спынім зьдзек над беларусамі.

Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо няма „правоў чалавека" пад акупацыяй.

І з палітычнага, і зь юрыдычнага боку няма ніякіх перашкодаў для кандыдата ад *Вызвольнага Руху* ды ад Беларускага Народу. Мы не павінны будзем у гэтым сэнсе зьвяртаць увагу на дэмагогію розных тлумачэньняў. ***Права нам дае само жыцьцё, беларуская гісторыя, беларускі народ і беларуская Канстытуцыя.*** Мы мусім зыходзіць з гэтага права. І што б ні рабіў рэжым, ламаючы наша права, мы павінны ісьці сваёй упэўненай дарогай праўды.

***Беларускі Вызвольны Рух ёсьць альтэрнатыва акупацыйнаму рэжыму і ўсёй прамаскоўскай каляніяльнай палітыцы на Беларусі.*** Мы павінны даць народу выбар ў любой сытуацыі, нават у самай неспрыяльнай. Нават калі рэжым створыць найгоршыя ўмовы і ў бюлетэні для галасаваньня ня будзе стаяць прозьвішча альтэрнатыўнага кандыдата, то мы павінны працаваць у такім накірунку, каб і ў гэтым выпадку людзі маглі выбіраць паміж усімі тымі, хто ў бюлетэні (якіх трэба выкрэсьліць), і рэальным кандыдатам Беларускага Народа. (Хоць бы яго Лукашэнка і не дапусьціў бы да выбараў.) Усяроўна выбар павінен адбывацца паміж беларускім кандыдатам ад *Вызвольнага Руху* і Лукашэнкам. Бо рэальная альтэрнатыва каляніяльнаму рэжыму ёсьць, канкрэтная кандыдатура – існуе.

Шмат дзеяньняў чакае нас наперадзе: і палітычнага, і тэхнічнага кшталту. Сёньня мы павінны ўсьвядоміць для сябе важнае. Гэта тое, што мы абавязаны ўключыцца ў выбары ***з мэтай палітычнага змаганьня за вольную незалежную Беларусь***. І другое – гэта тое, што наша палітычная пазыцыя моцная. Задача – правільна і пасьпяхова яе рэалізаваць.

У бліжэйшы час мы мусім зьвярнуць дастатковую ўвагу на тэхнічную падрыхтоўку і прапаганду.

Сябрам *Беларускага Вызвольнага Руху* неабходна заўсёды памятаць ужо вядомыя высновы:

**1.** Эўропа пры пэўных умовах гатовая прызнаць несправядлівыя выбары, і нават заплюшчыць вочы на фальсіфікацыі. Нельга гэтага дапусьціць.

**2.** Лукашэнка мае магчымасьць сябе пакінуць на вяршыні ўлады. Аднак, пры ўмове існаваньня беларускай альтэрнатывы і непрызнаньня выбараў міжнароднай супольнасьцю, ён доўга не




*85. У Менску без пераменаў.*

пратрывае. Яго папулісцкі рэсурс скончыўся. Пры такім варыянце – гэта таксама наша перамога.

**3.** Найгоршая сітуацыя – калі Масква выпхне на прэзыдэнта замест Лукашэнкі іншага свайго стаўленіка.

Тут можа ўзьнікнуць ня толькі „чорт з табакеркі”, але і подкуп любога намэнклятурнага „прэтэндэнта” з „дэмапазыцыі” (іхняя здольнасьць прадавацца добра вядомая).

Паважаныя сябры, мы павінны дакладна назіраць. Нельга дапусьціць афёры зь беларускім Каштуніцам. Гэта якраз трэці варыянт, самы небясьпечны для Беларусі...

*18 лютага 2001 г. Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 2(32).*



(Кадр з дакумэнтальнага кіно)

*85а. Менск. „Зачыстка” ў дварах.*

# СЛОВА Ў 15-Ю ГАДАВІНУ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ

…Наша нацыянальная гісторыя апошніх трохсот гадоў гэта ёсьць гісторыя народных катастрофаў і барацьбы за выжываньне. А пачалося ўсё з трагедыі XVII-га стагоддзя, калі велізарная маскоўская арда напала на Беларусь. З таго часу доўжыцца фізічнае вынішчэньне нашага народа маскоўцамі.

Цяпер мы перажываем найцяжэйшую сацыяльна-экалягічную Чарнобыльскую катастрофу, падрыхтаваную нам (асабліва на Магілёўшчыне) тымі ж маскоўцамі.

На працягу стагоддзяў вынішчэньня мы пераканаліся, як подла і ўмела выкарыстоўвалі нашыя ворагі ўсемагчымыя абставіны дзеля зьнішчэньня беларускіх людзей. Выкарыстоўвалі вайну, калектывізацыю, барацьбу са шпіёнамі ды „будоўлі сацыялізму”. ***Цяпер выкарыстоўваюць Чарнобыль.***

Створаныя і ствараюцца ўмовы для радыяцыйнага выміраньня беларускага насельніцтва, для страты здароўя беларускай нацыяй, для захворваньня беларускіх дзяцей. Усюды, дзе беларусы змагаюцца з вынікамі Чарнобылю, яны сутыкаюцца з адкрытым ці скрытым супроцьдзеяньнем уратаваньню нацыі.

Чарнобыльская катастрофа і яе вынікі выкорыстоўваюцца дзеля вынішчэньня беларусаў. ***Чарнобыльскі генацыд беларускага народу ёсьць скрытая палітыка Масквы і адкрытая палітыка рэжыму Лукашэнкі.***

Мы мусім змагацца супраць гэтакай палітыкі. Усім трэба ведаць і разумець, што тактыка чарнобыльскага генацыду ёсьць, што яна існуе і падтрымліваецца ворагамі нашага народнага існаваньня.

З чарнобыльскім генацыдам павінны змагацца ўсе беларусы, усё нашае грамадзтва, незалежна ад палітычных перакананьняў.

Ратаваньне нацыі ад чарнобыльскага генацыду гэта ёсьць ратаваньне жыцьця. Гэта ёсьць сьвятое права і сьвяты абавязак чалавека.

Нас, беларусаў, нішто не павінна спыняць у нашым змаганьні з чарнобыльскім вынішчэньнем. І сёньня, у 15-ю гадавіну Чарнобыльскай трагедыі, хай моцна гучыць наш беларускі голас…

*26 красавіка 2001 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 4(34).*

# У СУВЯЗІ З АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ДЗЕЙНАСЬЦЮ ГАНСА-ГЕОРГА ВІКА

***(Заява)***

У верасьні мінулага года на Міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку кіраўнік Менскай місіі АБСЭ Ганс-Георг Вік прагаварыўся і заявіў, што ён і Місія АБСЭ ў Менску ўжо на працягу шэрагу гадоў праводзіць палітыку, накіраваную на ўключэньне Беларусі ў склад Расеі.

Пакідаю ў баку прычыны такой недыпляматычнай заявы. Яны нам вядомыя. Сутнасьць жа ў тым, што спадар Вік увесь час займаўся ў Беларусі дзейнасьцю, якая супярэчыць нацыянальным інтарэсам нашай краіны і злучаецца з палітыкай расейскага нэакаляніялізму ў дачыненьні да Беларусі.

Спадар Г. Вік мае адносіны да спробаў разбурэньня Беларускага Народнага Фронту і да імкненьняў зьнішчыць Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух, які змагаецца супраць імпэрскай палітыкі Расеі і прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі. Спадар Г.Вік непасрэдна займаўся арганізацыяй так званай „аб’яднанай апазыцыі” (гэта значыць апазыцыі без беларускіх адраджэнскіх ідэй), каб супрацьпаставіць яе Беларускаму Нацыянальна-Вызвольнаму Руху па прынцыпу: за дэмакратыю без суверэнітэту.

Дзейнасьць спадара Ганса Віка ў Беларусі мела падвойны характар. З аднаго боку – выбарачная абарона правоў чалавека (гэта значыць тых, хто падабаўся спадару Віку, бо ён ніколі не выступаў у абарону пацярпелых ад дзеяньняў рэжыму кіраўнікоў і сябраў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ), з другога боку – спрыяньне легалізацыі і прызнаньню рэжыма Лукашэнкі міжнароднай супольнасьцю. Гэта асабліва было добра відаць восеньню мінулага году, у часы падрыхтоўкі выбарчай кампаніі і выбараў у парлямант („палату” Лукашэнкі). Аднак тады спадару Г.Віку нічога не ўдалося.

Заява спадара Г. Віка ў Беластоку перапоўніла чашу цярпеньня. Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ прынялі пастанову, дзе аб’явілі спадара Г.Віка пэрсонай нон-грата ў сфэры Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху і запатрабавалі ад міжнародных арганізацыяў адкліканьня яго зь Беларусі. Аб гэтым намі былі дасланыя афіцыйныя лісты ў Парляманцкую Асамблею АБСЭ, кіраўніку АБСЭ Беніце Фэрэра Вальднэр і Міністру замежных справаў Нямеччыны Ёшку Фішару. Я асабіста пісьмова інфармаваў пра рашэньне Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху спадара Г. Віка і амбасадара Нямеччыны ў Менску спадара Х. Вінкельмана.

Рэакцыя была сімптаматычнай. Адразу, пасьля нашага рашэньня, з пагрозамі ў бок АБСЭ выступіў спадар Лукашэнка і яго кіраўніцтва, а „дэмакраты” тут жа пачалі абараняць спадара Г. Віка.

29 студзеня гэтага году мне афіцыйна паведамілі зь Місіі АБСЭ ў Аўстрыі аб разглядзе нашых патрабаваньняў і аб перасылцы іх новаму кіраўніку АБСЭ ў Румынію. Неафіцыйна стала вядома, што спадара Г.Віка зьбіраюцца адклікаць зь Беларусі ў чэрвені гэтага году.

І тут жа зноў мы чуем чарговыя афіцыйныя „пагрозы” спадару Г. Віку з боку беларускага МЗС і чарговыя заявы „дэмакратаў” у яго абарону.

Сінхронная праца спадара Г. Віка і маскоўскіх функцыянераў у рэжыме Лукашэнкі нас не зьдзіўляе. Гэтак жа, як і іхняе жаданьне зрабіць зь яго цярпельца за дэмакратыю і пакінуць у Менску.

Мы настойваем і яшчэ раз голасна паўтараем: ***Ганс-Георг Вік павінен пакінуць межы Беларусі***.

Яго дзейнасьць не адпавядае нацыянальным інтарэсам Беларусі і супярэчыць антыкаляніяльным прынцыпам змаганьня з рэжымам Лукашэнкі. Яна прынесла шмат шкоды і мала карысьці.

Мы не прымаем маскоўскае палітыканства спадароў зь Міністэрства замежных справаў Беларусі і хітрасьці нямецкай дыпляматыі.

Мы ня лічым добрай практыку прызначэньня на пасаду кіраўніка Міжнароднай праваабарончай арганізацыі былога кіраўніка зьнешняй разьведкі замежнай краіны (хай сабе й пэнсіянера). Карпаратыўнасьць сусьветных разьведак добра вядомая. Прыдзе час – Беларусь стане вольнай, і мы пазбавімся ад іх усіх.

*22 траўня 2001 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 5(35).*

# ГЕРАІЧНЫ ЎЧЫНАК АНДРЭЯ КАПОРЫКАВА

Напачатку інфармацыя. 20 ліпеня ў дзень адкрыцьця лукашэнкаўскага прапагандова-эстраднага фэстывалю „Славянскі базар” у Віцебску ў канцы канцэрту (калі артысты выйшлі на сцэну на паклон) да сцэны з букетам ружаў падышоў малады хлапец. Ён кінуў ружы гледачам, узьняў *Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і голасна выкрыкнуў: „Жыве Беларусь!, Хай Бог нам дапаможа!” Пры гэтым юнак раскідаў бел-чырвона-белыя ўлёткі.

На канцэрце ў амфітэатры прысутнічаў Лукашэнка са сваёй камарыльляй і некалькі тысячаў падабраных гледачоў зь вертыкалі, афіцыйных установаў, „лукамола” і г.д.

На юнака адразу накінуліся два тыпы з прэзыдэнцкай аховы і пачалі біць. Потым падскочылі яшчэ пяцёх, і ўсемярох яны



(Фота Я. Шатохіна, Пінск)

***86. Хлопчык са сьцяжком.***

пачалі мясіць юнака кулакамі, нагамі ды палкамі. Увесь час, пакуль яго зьбівалі, юнак крычаў: „Жыве Беларусь!" і „Дапаможа нам Бог!". Аж пакуль ня страціў прытомнасьць.

Тады лукашэнкаўскія грамілы вывалаклі непрытомнага хлопца з амфітэатру, цягнучы за ногі па зямлі. Ачнуўся ён на асфальце за амфітэатрам у акружэньні ахоўнікаў і міліцыянтаў. Тыя, заўважыўшы, што ён ачнуўся, зноў пачалі яго зьбіваць. Потым падняслі, паклалі тварам на міліцэйскую машыну і яшчэ нейкі час мэтадычна зьбівалі, пакуль хлопец не перастаў варушыцца.

Затым юнака адвезьлі ў Кастрычніцкі РАУС, дзе зноў зьбівалі. Потым, калі хлопец ачнуўся, яму ўчынілі тры допыты ў прысутнасьці высокага міліцэйскага начальства, склалі два пратаколы „аб хуліганстве" і аб выкарыстаньні „недазволенай сымволікі". У чатыры гадзіны раніцы хлопца адпусьцілі да суду.

* * *

Завуць гераічнага юнака, які ахвяраваўся сабой дзеля Беларускага Сьцяга, ***Андрэй Капорыкаў***. Ён сябра *Маладога Фронту,* мае 21 год, выпускнік Віцебскай Мастацкай вучэльні.

Учынак Андрэя ўражвае. Гэта геройскі ўчынак. Побач зь Міронам і дзясяткамі іншых маладых беларусаў, Андрэй сапраўдны герой *Беларускага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга.* Яго подзьвіг паказаў веліч лепшай беларускай моладзі і адначасна рэзка высьветліў нізасьць рэжыму нікчэмнасьцяў, здраднікаў і халуёў.

Карціна атачэньня, на фоне якой адбыўся гераічны ўчынак Андрэя, – шакуе. Перад сцэнай сем лукашэнкаўскіх гарылаў зьбіваюць юнака на вачах Лукашэнкі, шматлікай рэспэктабэльнай публікі і „мастацкай інтэлігенцыі" – артыстаў базарнага шоў. І ўсе глядзяць, і ўсе маўчаць. Некаторыя нават паўставалі зь месцаў, каб лепей бачыць.

Зразумела, што Лукашэнка не такога ўзроўню чалавек, якому б магло прыйсьці ў галаву (ужо не кажу пра сэрца) загадаць спыніць пабіцьцё. Тут усё зразумела. Але артысты, гледачы...

Вось вам і пэўны зрэз пэўнага грамадзтва. Вось вам і мадэль паводзінаў.

Зрэшты, у амфітэатры сабралася адна масьць і адна якасьць людзей. Таму мы не абагульняем. Высновы нашы маюць сьцісла канкрэтны адрас. Тыя, хто там былі, і не маглі па-іншаму ўспрыняць подзьвіг Андрэя Капорыкава.

* * *

10 жніўня судовы працэс над Андрэем Капорыкавым доўжыўся ўсяго адну гадзіну. Гэбісты і ўлада зразумелі, што лепш спусьціць гэты суд хуценька і непрыкметна, каб не прыцягваць увагі да гераізму маладога беларуса і каб ніхто не даведаўся, як паводзіў сябе рэжым. У гэтай справе якраз яны (гарылы і міліцыянты) павінны сядзець на лаве падсудных.

Таму суддзя **Эдуард Казлоў**, блытаючыся, пасьпешна прысудзіў Андрэю штраф у памеры аднаго мінімальнага заробку (7,5 тысячаў рублёў альбо 5 даляраў ЗША) і пастараўся скончыць судовую камэдыю. Ён не захацеў ні паклікаць сьведкаў, ні глядзець відэазапіс, бо разумеў, што падсудны і яго абаронца могуць зажадаць, каб прыцягнулі да адказнасьці „гарылаў" і ўсіх тых, хто беспадстаўна і па-зьверску зьбіваў юнака, прычыніў яму цяжкія цялесныя пашкоджаньні ды расстройства здароўя.

Андрэй ня стаў разьменьвацца на парахункі з „гарыламі". Якія тут законы, якое там права.

„Маёй мэтай, – сказаў ён на судзе, – было зрабіць гэты ўчынак дзеля таго, каб усе людзі ўбачылі, што жыве наш *Беларускі Сьцяг*, што ён ёсьць, быў і будзе на нашай Бацькаўшчыне."

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***Валеры БУЙВАЛ***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2001, №7(37). Пад псэўд. Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ.)*



***86а. Сьцяжок на вадзе.***

# ЛІСТЫ ПРА ВЫБАРЫ

## 1.БОГ, БЕЛАРУСЬ, НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

***(Вытрымкі)***

...Цяпер найбольш блытаюць людзей так званая „незалежная" прэса і тыя асобы, якія выступаюць супраць Лукашэнкі, але згаджаюцца і калябаруюць з Масквой. Яны лётаюць у Маскву і просяць маскоўцаў: дапамажыце зьмяніць Лукашэнку, падтрымайце нас, мы будзем лепей вам служыць. Яны просяць у Масквы дапамогі. Але чым яны будуць зь ёй потым разьлічвацца? Такія „палітыкі-гандляры" прададуць Беларусь гэтак жа, як і Лукашэнка (яшчэ й хутчэй).

...Пазыцыі палітыкаў у беларускіх выбарах (падкрэсьліваю, *у выбарах*) вызначаюцца не па дачыненьнях да Лукашэнкі, а па дачыненьнях да „інтэграцыі" („саюзу") з Расеяй. Трэба разумець, што ў дачыненьнях да Лукашэнкі вырашаецца лёс прэзыдэнцкай улады. У дачыненьнях да „інтэграцыі" з Расеяй ***вырашаецца лёс беларускай нацыі***. Таму чалавек, які на прэзыдэнцкіх выбарах будзе змагацца з Лукашэнкам і адначасна выступаць за „інтэграцыю" з Расеяй, ня ёсьць альтэрнатывай Лукашэнкі, а толькі апанэнт-дублёр маскоўскай нэакаляніяльнай палітыкі.

Людзі, што супраць Лукашэнкі і за „інтэграцыю" з Расеяй, былі нашымі саюзьнікамі ў палітычнай барацьбе з рэжымам (бо ў барацьбе не існавала выбару). На прэзыдэнцкіх выбарах гэтыя людзі ў якасьці кандыдатаў на прэзыдэнта Беларусі ўжо *ня ёсьць і ня могуць быць* нашымі саюзьнікамі. Гэта нашыя палітычныя праціўнікі, супраць якіх мы змагаемся за лёс Беларусі. Гэта ёсьць закон палітыкі. ***Выбар адбываецца па вышэйшай неабходнасьці***.

...Я ўжо пісаў пра цяперашняе радыё „Свабода". Ня майма наконт яго ілюзіяў. Хоць там ёсьць яшчэ прыстойныя людзі і сьведамыя беларусы, але яны ўжо мала што вызначаюць і ў большай частцы, – гэта ўжо, як быццам, не адраджэнскае радыё. Людзі ў Беларусі, нацыянальна-вызвольная моладзь ужо даўно перарасьлі ягоны ўзровень. Не ўспрымайма ягоныя цяперашнія палавіністыя камэнтары палавіністых камэнтатараў як праўду ў апошняй інстанцыі. Некаторыя зь іх сьведама памыляюцца, а некаторыя – не арыентуюцца.

Успомніце 1999 год, як радыё „Свабода" адлюстроўвала палітычную афёру па зьнішчэньні Беларускага Народнага Фронту – так званы „праект Чыгір". Успомніце, як экзальтавана, узахлёб, да самазабыцьця хлусілі ў эфір некаторыя „прафэсійныя журналісты" (Карманаў і т. п.) пра быццам бы мільёны прагаласаваўшых на „альтэрнатыўных" выбарах прэзыдэнта, як узьвялічвалі „рэвалюцыю" ў Фронце, як уздымалі ўгару вялікую „новую хвалю", новых стодаляравых „палітыкаў" і г.д. Дзе цяпер гэтая „хваля" і гэтыя вялікія „новыя палітыкі", і гэтыя журналісты са „Свабоды"?!

Сядзяць у галёшы, у бэце – такая дарожка.

...Нас нічога не павінна бянтэжыць, ніякая супраць нас пісаніна, ніякае друкаваньне, ніякая прапаганда, ніякі радыё-эфір. (Пра афіцыйнае радыё, тэлебачаньне і газэты я ўжо й не кажу.) Мы мусім разумець, што гэтак робіцца, незалежна ад нас. Мы мусім ацэньваць усё з пазыцыяў вышэйшасьці нашага разуменьня і спакойна рабіць сваю справу далей.

У беларусаў зьявілася рэальная магчымасьць дапамагчы самым сабе выйсьці з заганнага каляніяльнага кола падзей. Мы ня маем права такую магчымасьць змарнаваць. На плечы кожнага з нас кладзецца вялікая нагрузка і вялікая адказнасьць, бо важыцца лёс Беларусі.

*24 чэрвеня 2001 г.*

## 2. ВЫБАРУ НЯМА

Прайшоў пэўны час ад заканчэньня збору подпісаў у выбарчай кампаніі, і сітуацыя, ня гледзячы на тое, што афіцыйна вынікі яшчэ не падведзеныя, ужо, практычна, вызначаная.

Беларусь пазбавілі выбару. Альбо зноў прамаскоўскі Лукашэнка, альбо ягоныя прамаскоўскія намэнклятурныя супернікі (што можа стаць яшчэ горай).

Створана такое ж становішча, як у 1994 годзе. Толькі цяпер у беларускага грамадзтва ёсьць вопыт сямігадовага ашуканства і прыніжэньня. Ці будзе зробленая з гэтага нармальная і пасьлядоўная выснова, – казаць яшчэ рана, улічваючы, што ўся так званая гэбоўска-вікаўская „дэмакратычная" прапаганда штурхае беларусаў зноў паўтарыць памылку і зноў галасаваць за іншага маскоўскага калябаранта. Сітуацыя клясычна каляніяльная: выбары бяз выбару. Выбар марыянэткі.

Як і ў 1994 годзе, Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" павінен заклікаць беларускіх выбаршчыкаў ***ісьці на галасаваньне, каб выкрэсьліць усіх***. Гэта правільнае і неабходнае дзеяньне.

Выбарчая сітуацыя абмяркоўвалася 4-га жніўня на Паліткамітэце *Фронту* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ* у Варшаве. Паліткамітэт лічыць неабходным і прапануе прыняць менавіта такое, адзінае ў гэтай сытуацыі, пэрспэктыўнае для Беларусі рашэньне: перакрэсьліць пры галасаваньні ўвесь намэнклятурна-каляніяльны бюлетэнь.

Аналізуючы дачыненьні, намі асабліва была зьвернута ўвага на разбуральніцкую ролю **Ганса-Георга Віка**, які зьяўляецца куратарам нямецка-маскоўскага „другога варыянту" (замена Лукашэнкі на прамаскоўскую намэнклятурную фігуру) і асабліва – на падстаўную ролю М. Домаша. Ролю найбольш нікчэмную ў гэтай кампаніі, прадугледжаную і адпаведным чынам падтрыманую Г. Вікам дзеля нэўтралізацыі беларускіх нацыянальна-вызвольных сілаў.

Сытуацыя наглядна ілюструе, у якое балота трапілі асобы, якія з 1999 года адышлі ад нацыянальна-вызвольнай барацьбы ў вікаўскую „аб'яднаную дэмапазыцыю". Зараз увесь запас выдумкі яны накіроўваюць на прыдумваньне „канцэпцыяў" і апраўданьне свайго становішча на службе ў намэнклятурнай „пяцёркі" ды працы на намэнклятурнага камуніста У. Ганчарыка (што з Масквы не вылазіць). І гэта яшчэ не фінал і, відаць, не мяжа такіх паводзінаў.

Цяпер кожнаму становіцца відавочным, што нямецкая пазыцыя ў дачыненьні да Беларусі на Захадзе ўзмацнілася, і Беларусь, фактычна, запрададзена. У Эўропе поўна заяваў, нібы напісаных пад нямецкую капірку, што, маўляў, „ня важна, каго выбяруць", а важна, „як" будуць выбіраць. А на пытаньне „як", будзе адказваць Ганс Вік. Лукашэнка ведае, што калі ён акуратна правядзе фальсіфікацыю, то Вік яе „не заўважыць", і Эўропа Лукашэнку прызнае.

Улічваючы нямецка-маскоўскі гешэфт, прапанаваная намі пазыцыя выкрэсьліваць абодвух іхных кандыдатаў ёсьць для беларусаў адзіна пэрспэктыўнай.

Верагоднасьць, што за вельмі кароткі тэрмін можна давесьці да грамадзтва нашу задачу і тое, што грамадзтва гатовае яе ўспрыняць, – невялікая, але яна ёсьць.

Мы павінны памятаць, што палітычны працэс змаганьня за свабоду і незалежнасьць Беларусі ня скончыцца ў верасьні. Ён

будзе працягвацца. І нават калі б нам не ўдалося цяпер пераканаць грамадзтва ня лезьці ў чарговы маскоўскі загон, то ў будучыні (і вельмі хутка) наша пазыцыя шматкроць павялічыць нашыя сілы.

Хвала тым, хто стаіць за свой народ!

*6 жніўня 2001 г.*

## 3. ТРЭБА РЫХТАВАЦЬ ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЭНТА

...Сытуацыя з кандыдатамі ў прэзыдэнты Беларусі выразна акрэсьлілася. Для беларусаў яна вельмі некарысная. ***Як і ў 1994-м годзе, для беларусаў выбару няма.*** Выбіраць няма каго, бо ўсе кандыдаты прамаскоўскай арыентацыі. Усе гатовыя падтрымліваць на Беларусі расейскую каляніяльную палітыку. Гэта былая камуністычна-гэбоўская намэнклятура, якая падзялілася на пары і супернічае паміж сабой. З аднаго боку Лукашэнка-Гайдукевіч, з другога – Ганчарык-Домаш. У выпадку выбраньня любога зь іх застаецца існаваць антынародны рэжым, яго ськіраванасьць на Расею і залежнасьць ад антыбеларускай палітыкі Масквы.

Такую самую камбінацыю прыдумалі беларусам у 1994-м годзе, калі ў другім туры выбараў прапанавалі выбіраць паміж Кебічам і Лукашэнкам (паміж чартом паленым і чартом смаленым). Беларусы і „выбралі”!

А трэ’ было перакрэсьліць абодвух.

Тады, 7 гадоў таму, я выступіў ад імя *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”* са спэцыяльнай заявай, якая была зьмешчаная ў друку.

*„ У другі тур прайшлі А. Лукашэнка і В. Кебіч,* – пісаў я тады. – *Гэтыя кандыдаты належаць да аднаго палітычнага асяроддзя. Іх яднае нянавісьць да беларускага нацыянальнага адраджэньня, да незалежнага дзяржаўнага станаўленьня нашай нацыі, да рынкавага рэфарматарства, да беларускай культуры, да эўрапейскага шляху разьвіцьця Беларусі.*

*Іх разьядноўвае – барацьба за ўладу. Гэта барацьба падобных. Змагаючыся, яны апэлююць да народу.*

***Мае аднадумцы і я заклікаем не галасаваць на выбарах за гэтых кандыдатаў. Выбар аднаго зь іх стане працягам ганебных памылак і грамадзкага няшчасьця, прадаўжэньнем народнага самагубства.*** *Галасаваньне за гэтых людзей увогуле траціць сэнс, бо выбару няма.” (Беларус, – 1994, №414)*

Што адбылося потым, гісторыя сьведчыць жорстка і вельмі выразна (так, як і было папярэджана). Я цытую тут гэтыя свае словы з поўным усьведамленьнем годнасьці, але не для таго, каб нейкага дакараць, а каб яшчэ раз нагадаць, што ў палітыцы заўсёды трэба тое рабіць, што трэба рабіць, а ня тое, што хочацца. Бо расплата можа быць вельмі суровай.

Цяпер, у 2001 годзе, беларусам нельга наступіць на тыя ж граблі, нельга зноў лезьці ў маскоўскую пастку.

Цяперака трэба выкрэсьліць усіх прамаскоўскіх кандыдатаў: і Лукашэнку, і Ганчарыка, і Домаша, і Гайдукевіча. Памятайма, што ***і ў першым, і асабліва ў другім туры галасаваньня, трэба будзе перакрэсьліць усіх***.

Што мы дасягаем такім дзеяньнем? Гэтым мы дасягаем таго, што ў верасьні ніхто ня будзе абраны на прэзыдэнта і праз тры месяцы мусяць адбыцца паўторныя выбары з новымі, беларускімі кандыдатамі.

Што гэта дасьць? Гэта дасьць рэальныя пэрспэктывы абраць сапраўды беларускага прэзыдэнта і скончыць з рэжымам.

Па-першае, Лукашэнка на паўторныя выбары вымушаны тады йсьці „аслабленым”, асобай, якая ня выйграла, маючы неабмежаваную ўладу.

Па-другое, Лукашэнка, які з 21 ліпеня 1999 года зьяўляецца нелегальным кіраўніком і ўзурпатарам улады перад народам, становіцца неўзабаве нелегітымным і перад самым сабой, і перад рэжымам, які ён стварыў, бо ў канцы лістапада канчаецца тэрмін ягоных паўнамоцтваў па ягонай канстытуцыі, якую ён прыдумаў са спадаром Абрамовічам. Месца кіраўніка краіны, згодна з гэтай канстытуцыяй, павінен часова заступіць старшыня Саўміна спадар Ярмошын.

Такім чынам ствараюцца новыя ўмовы для выбараў.

Па-трэцяе, за гэты час будуць выстаўленыя новыя, беларускія кандыдаты, і грамадзтва набудзе пэўны вопыт, каб не ўспрымаць усур’ёз розную нафталінавую намэнклятуру, усялякія „пяцёркі”, „сямёркі”, „двойкі” ды „адзінкі” з членаў боро ЦК КПБ.

Я зьвяртаюся, перш за ўсё, да беларускай грамадзкай эліты і моладзі, бо ад эліты найперш залежыць, як будзе галасаваць электарат. Нельга жыць у стане пэрманэнтнага самаашуканства. Калі эліта зноў паўторыць памылку 1994 года, то псіхалягічна можа заламацца ўся нацыя. Бо паўторнае „выбраньне” Лукашэнкі, якое прызнае Эўропа (а яна рыхтуецца прызнаць), стане фатальным для Беларусі.

Выбар жа намэнклятурнага „нелукашэнкі” ў дадзеным раскладзе можа стаць у пэрспэктыве яшчэ горшым, чым электаральная катастрофа і выбар 1994-га года.

Эліта не павінна забываць, што за раскладам выбару прэзыдэнта, які створаны цяпер у Беларусі, стаяць агульныя нямецка-маскоўскія інтарэсы і рэальна адсутнічаюць інтарэсы беларускія.

Калі беларусы зноў выберуць каляніяльную крэатуру маскоўскай палітыкі (а іншых сярод кандыдатаў няма), то ў пэрспэктыве мы страцім нацыянальную маёмасьць, валюту і, як вынік, – дзяржаўную незалежнасьць. (Схема ўжо закладзеная рэжымам Лукашэнкі.) Тады ўсе палітычныя і сьветапоглядныя разыходжаньні ў беларускім грамадзтве ня будуць мець аніякага значэньня. Страцяць усе. І страта будзе катастрафічнай і для тых, хто за Беларускую мову і Беларускі сьцяг, і для тых, хто супраць. Бо ў сэнсе нацыянальнага існаваньня народа ёсьць толькі адзін выбар: адна мова, адна краіна, адна незалежнасьць. Двух нацыянальных выбараў не бывае і не існуе, як не існуе двух жыцьцяў.

Выглядае, што гэтага, на жаль, ня ведае бальшыня цяперашняй эліты беларускага грамадзтва. І ў гэтым – крыніца ўсёй беларускай бяды.

Што датычыць моладзі, якая па прыродзе сваёй заўсёды жыве больш сэрцам, чым выгадай, то сэрца трэба адчыняць для Беларусі. Галасаваць трэба так, каб не было потым пакутліва сорамна, каб ня мучыла сумленьне, як тых, каму ў 1994-м годзе не хапіла элемэнтарнага ўяўленьня і, каб не прапусьціць Кебіча, яны галасавалі за Лукашэнку.

Магчымыя чатыры варыянты разьвязкі на выбарах.

Першы варыянт: Лукашэнка фальсіфікуе, выйграе, і яго прызнае міжнародная супольнасьць.

Другі варыянт: выйграе намэнклятурны „нелукашэнка”, і яго прызнае міжнародная супольнасьць.

Трэці варыянт: Лукашэнка фальсіфікуе, выйграе, але Захад не прызнае выбары за справядлівыя.

Чыцьвёрты варыянт: не выйграе ніхто, і прызначаюцца паўторныя выбары.

Варыянты названыя па парадку небясьпечнасьці для Беларусі. Першы варыянт мы разглядаем як фатальны для ўсёй нацыі, які будзе суправаджацца шокавым стрэсам.

Другі варыянт – самазабойчы для Беларусі, які будзе суправаджацца грамадзкім расслабленьнем, пустымі надзеямі і ілюзіямі пераменаў, хоць, у прынцыпе, не адбудзецца ніякіх пераменаў у галоўных аспэктах эканамічнай, фінансавай, ваеннай, культурнай і ўвогуле – нацыянальнай палітыкі, ужо спраектаванай існуючым рэжымам. Ня будзе адменена нават лукашэнкаўская канстытуцыя – аснова рэжымнай сістэмы. Нэакаляніяльная акупацыя Беларусі, з прычыны ілюзіяў, псіхалягічнай і палітычнай раззброенасьці грамадзтва, пойдзе хуткімі тэмпамі.

Трэці варыянт можна разглядаць як вельмі небясьпечны, але часовы і палітычна недаўгавечны. Бо застанецца нелегальнасьць вышэйшай улады, захаваецца канфліктная раскладка сілаў, павялічыцца апаніруючая частка, узмоцніцца палітычны падзел у грамадзтве, у сістэме ўлады і ў міжнародных дачыненьнях. Узмоцніцца ўнутраная ізаляцыя Лукашэнкі. Няўстойлівасьць такога рэжыму можа штурхнуць яго на экстрэмісцкія дзеяньні супраць беларусаў, але можа таксама павялічыць шансы беларусаў на перамогу і перамены ў беларускіх інтарэсах.

Толькі чацьвёрты варыянт дае надзею і можа адчыніць пэрспэктыву для Беларусі. Яму не хапае, на жаль, належнага інфармацыйнага забесьпячэньня.

Інфармацыйнае поле ў асноўным занятае цяпер агітацыяй за Лукашэнку. Аднак найбольш падступная прапаганда вядзецца якраз вакол вікаўскага „другога варыянту" ў асяроддзі рускамоўнага так званага „незалежнага" друку і „дэмакратаў".

Агітацыя за старую камуністычную намэнклятуру абгрунтоўваецца тут нібыта „неабходнасьцю" (?) пераходнай фігуры, нібыта прыймальнай для „ўсіх" (?). Намэнклятурны „нелукашэнка" правядзе, маўляў, дэмакратычныя парляманцкія выбары, і яны, „дэмакраты", трапяць у парлямант (палату) і стануць на ўзроўні ўлады далей, крок за крокам змагацца за дэмакратыю.

Гэтакімі вось „ідэямі" тлумяць мазгі беларускай моладзі.

Усе абяцаньні намэнклятуры – пусты гук. Пакуль старая савецкая намэнклятура будзе трымаць уладу ў Беларусі, яна ніколі не адмовіцца (нават часткова) ад мажарытарнай сістэмы, якая забясьпечвае ёй татальную перавагу на выбарах. І усё зробяць „дэмакратычна" (пад „віват" Захаду).

Цяперашнія „дэмакраты" – гэта камуніст С. Калякін (які адобрыў будаўніцтва дарогі праз Курапаты), генэрал П. Казлоўскі (які выганяў зь беларускага войска беларускіх афіцэраў), былы член бюро ЦК КПБ У. Ганчарык, былы старшыня Аблвыканкаму С. Домаш, былы лукашэнкаўскі прэм'ер М. Чыгір (абвінавачаны ў карупцыі С. Антончыкам), былы лукашэнкаўскі міністар М. Марыніч, генэрал КГБ В. Кез і г.д. (уся былая камуністычна-гэбоўская намэнклятура) – сьвяткуюць „сьвята" „демократического единения". *„Мы павінны пабудаваць на Беларусі дэмакратычную дзяржаву"*, – кажуць яны (С. Домаш).

Зусім нядаўна гэтыя ж самыя асобы будавалі *„на Беларусі"* камунізм, потым – „разьвіты сацыялізм", потым – „перестройку", затым – „інтэграцыю" разам з Лукашэнкам, цяпер зьбіраюцца будаваць „дэмакратыю" (абы ўлада!). І ўсё – *„на Беларусі"*. Але ніхто зь іх ніколі не будаваў, ня хоча і ня здольны будаваць саму Беларусь. Гэта супярэчыць іхняй псіхалёгіі.

Сэрвільная журналістыка „незалежных" мэдыяў пляскае ў ладкі гэтай „дэмакратыі" і робіць выгляд, што ня бачыць, што адбываецца. Праўда, адзін з усёй гэтай пішучай „роты" сарамліва заўважыў: *„Напрыканцы хацелася б пажадаць нашым паважаным дэмакратам адну „дробязь" – перакласьці, нарэшце, на беларускую мову папярэдні слёган адзінага кандыдата „В единстве – сила"*. (Але навошта? Можа, ня трэба? Так жа лепей. Памятаеце: „Партия и народ – едины".)

Намэнклятура прыстасоўваецца, але не зьмяняецца. „Пагадненьне" між сабой, якое яны нядаўна падпісалі, складзена па ўсіх штампах савецкай каляніяльнай вывучкі. Яны ўжо дзеляць уладу, якой яшчэ не загарнулі (куча расьце). І толькі ў самым канцы паперкі (усё, як некалі) напісана адчэпнага пра культуру ды мову. Маўляў, *„стварыць спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця нацыянальнай культуры, мовы, традыцыяў і ўжываньня нацынальнай, гістарычнай сымволікі беларускага народа"*. (Маўляў, вяртаемся да Кебіча. Каза з дому – жыць лягчэй.) Дарэчы, так фармулююць, калі гавораць пра нацыянальныя мяншыні.

*„Узяць курс на забесьпячэньне дынамічнага разьвіцьця эканомікі*, – пішуць гэтыя „дэмакраты", *– на ўздым жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва."* Як бачым, „курс" амаль ленінскі. Як гэта ўсё знаёма, гэтыя фразы і гэтая пустапарожнасьць. „Верной дорогой идете, товарищи!"

Пустыя абяцанкі намэнклятуры ня вартыя выедзенага яйка. Яны ніколі не выконваліся і ня будуць выконвацца. Бо ёсьць інтарэсы намэнклятуры. (Успомніце абяцанкі Кебіча, Лукашэнкі і г.д.) У Беларусі цяпер мы назіраем пад выглядам і пад шырмай дэмакратыі спробу вяртаньня „бурбонаў". Бурбонаў старой камуністычнай (кебічаўскай) намэнклятуры.

Няўжо беларусы і цяпер ня ўбачаць, не зразумеюць, хто шчэміцца, хто хоча на іхных плячах вярнуцца ва ўладу, каб зноў павесьці народ „правільным курсам" у маскоўскую яму?!

У беларускага грамадзтва ёсьць дастатковы вопыт, каб разумець, што такое ўлада савецкай прамаскоўскай намэнклятуры, як яна дасягаецца, функцыянуе і ўтрымліваецца, якія могуць быць вынікі гэтай улады і наступствы для Беларусі. Гэта ўсім зразумела. Але трэба дзейнічаць. Дзейнічаць рашуча і разам. Адкінуць усю лукашэнкаўскую і ўсю „дэмакратычную" дэмагогію намэнклятуры. Бо, як кажа наша беларуская моладзь, ***Беларусь– гэта сьвятое***.

Якім чынам можна засьцерагчыся цяпер (практычна, за тры тыдні да выбараў) ад дэмакратычнай дэмагогіі і ад ганебнага становішча, у якое зноў заганяюць беларусаў?

Мы можам супрацьпаставіць гэтаму нашу Беларускую Салідарнасьць у абароне асноўных беларускіх каштоўнасьцяў: *мовы, незалежнасьці, нацыянальнай маёмасьці*. Усе беларусы, незалежна ад поглядаў і якіх бы там ні было прыхільнасьцяў, могуць салідарызавацца ў абароне асноўных здабыткаў нацыі. Гэта натуральна і ў гэтым наша нявыкарыстаная сіла.

Я зьвяртаюся да ўсіх грамадзянаў Беларусі, і перш за ўсё, да таго мільёна выбаршчыкаў-беларусаў, якія падтрымалі мяне на першых прэзыдэнцкіх выбарах у 1994 годзе, да ўсіх, хто падтрымлівае *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"*, ягоную *Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю – БНФ* і ўвесь *Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух*. Зьвяртаюся з заклікам: ***не галасуйце за Лукашэнку і за яго заплечніка С. Гайдукевіча. Не галасуйце за У. Ганчарыка і С. Домаша. Не галасуйце за прамаскоўскіх кандыдатаў намэнклятуры.***

***І ў першым, і асабліва ў другім туры, выкрэсьлівайце ўсіх прамаскоўскіх кандыдатаў намэнклятуры, разам з Лукашэнкам! Выкрэсьлівайце ўсіх! Арыентуйцеся на паўторныя выбары з новымі, беларускімі кандыдатамі.***

Усе пазыцыі, якія выяўленыя ў гэтай маёй заяве, абмеркаваныя на *Паліткамітэце Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ*, разам з кіраўніцтвам *Беларускага Народнага Фронту*

*„Адраджэньне”* і прапанаваныя на Сойм *Народнага Фронту* і *Партыі БНФ*. Я не сумняваюся, што яны ўвойдуць як асноўныя палажэньні ў Праграму дзеяньняў усяго *Нацыянальна-Вызвольнага Руху* на пэрыяд палітычнай кампаніі па выбарах прэзыдэнта.

Мяркую, што, улічыўшы вопыт 1994 года, *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* менавіта цяпер, з пачаткам агітацыйнай кампаніі, павінны аб’явіць аб сваёй палітычнай апазыцыі да любога кандыдата намэнклятуры, у выпадку выбраньня яго на прэзыдэнта краіны.

Альтэрнатывай акупацыі, анэксіі, інтэграцыі, усім формам нэакаляніялізму і расейскага імпэрыялізму быў і зьяўляецца *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”*, ягоная *Партыя* і ўвесь адраджэнскі беларускі рух. Змаганьне за Беларусь – гэта працэс, які не заканчваецца выбарамі прэзыдэнта. Беларуская альтэрнатыва ёсьць. І пакуль яна існуе, усіх беларусаў не ашукаюць.

Памятайма пра Беларусь! Тады не дапаможа Маскве ніякая здрада, ніякае намэнклятурнае прыстасаванства, ніякая дэмакратычная дэмагогія і ніякія хітрасьці нямецкай дыпляматыі. Жыла, жыве Беларусь, і будзе жыць!
*15 жніўня 2001 г.*

## 4. ВЫХАД – ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ

Беларусь, якая практычна пазбаўленая нацыянальна арыентаванай палітычнай эліты, нагадвае мне сьляпога, якога зламысьнікі вядуць у бездань. Рай для нягоднікаў, замежных разьведак і сацыяльных паліттэхнолягаў.

Перш чым загарнуць уладу ў Расеі, КГБ адпрацаваў варыянт рэжыму ў Беларусі. Цяпер выпрабоўваюцца варыянты выбараў.

Пачынаючы з канца 1997 года, пасьля спалучэньня інтарэсаў рускага КГБ і нямецкай разьведкі ды дыпляматыі ў Беларусі, гэты спэцтандэм стаў ці ні наймацнейшай сілай, здольнай рабіць кардынальны ўплыў на працэсы ў краіне.

„Праект Чыгір” і падпольныя выбары прэзыдэнта ў 1999 годзе, „Хартыя-97”, „перамоўны працэс” і „дыялёг”, „аб’яднаная дэмапазыцыя” (без беларускіх ідэяў адраджэньня), моладзевая арганізацыя „Зубр” і, нарэшце, „пяцёрка” намэнклятуры ды „адзіны” намэнклятурны кандыдат – усё гэта не абышлося без інсьпірацыяў тандэму нямецка-расейскіх спэцслужбаў і агентуры.

Стратэгічная задача „тандэма” – разбурыць беларускі незалежніцкі рух супраць каляніяльнай палітыкі Расеі, зьнішчыць беларускае нацыянальнае Адраджэньне (перш за ўсё – *Беларускі Народны Фронт*) і ўключыць Беларусь у сфэру дзяржаўнага кіраваньня Масквы ўзамен за саступкі немцам (у пэрспэктыве) у былой Усходняй Прусіі (Калінінградзкая вобласьць). Ні для немцаў, ні для расейцаў, ні для іхнага сумеснага капіталу, аб’яднанага ў канцэрн „Газпрам-Ругаз, не патрэбная „транзытная тэрыторыя” Беларусь і выплаты за транзыт.

Менавіта дзякуючы спэцыяльным стараньням з Усходу і з Захаду, быў аслаблены *Беларускі Народны Фронт*, рэанімаваная групоўка былой кебічаўскай намэнклятуры і, пад шырмай „дэмакратаў”, уведзеная ў палітычны расклад прэзыдэнцкіх выбараў (так званыя „пяцёркі”, „сямёркі”, „адзіны кандыдат” і г.д.). Ажыцьцёўлены прынцып „кіруемага канфлікту”, распрацаваны рускімі спэцслужбамі.

Я ўжо пісаў у папярэднім лісьце *(ад 15.08.2001г.)* пра магчымыя чатыры варыянты вынікаў выбараў. Найбольш небясьпечныя для Беларусі першы і другі варыянты (калі прэзыдэнтам стаў бы Лукашэнка-Гайдукевіч ці Ганчарык-Домаш і калі б іх прызнала міжнародная супольнасьць).

Нямецка-маскоўскі „тандэм” вядзе сваю палітыку, і, на першы погляд, здаецца, што Масква быццам бы не пярэчыць замене Лукашэнкі. Але гэта толькі здаецца, бо кожны трымае ў запасе сваю выгаду.

Відавочна таксама, што група Лукашэнкі адчула небясьпеку і верагоднасьць здачы Лукашэнкі з боку Масквы, і таму праводзіць сваю „гульню” – жорсткую, цьвёрдую, пасьлядоўную, не зважаючы на законы і права, тыпова дыктатарскую.

Пасьля нечакана лёгкага пазбаўленьня ад маёй кандыдатуры, быў перагледжаны ўвесь сцэнар выбараў. Акрамя С. Гайдукевіча, адкінулі ўсіх „запасьнікоў”, дублёраў і паралельных стаўленікаў Масквы (нават Л. Сініцына і М. Марыніча), а С. Домаша, спэцыяльна падрыхтаванага для разьбіцьця нацыянальна-вызвольнага электарату, тут жа адвялі ўбок. (Потым яго, як службовую фігуру, хутчэй за ўсё ўвогуле выдаляць з „гульні”.)

Зьнешне складваецца ўражаньне, што група Лукашэнкі, не зважаючы ні на якія правы і законы, дэманстратыўна, напралом хоча выйграць у першым туры. Лукашэнка паказвае, што яму непатрэбнае прызнаньне Захаду, што ён будзе дружыць з Пуціным, Хусэйнам ды Кадафі. У яго – свая кампанія. У выніку – пачынае здавацца, што ўсё набліжаецца да трэцяга варыянту (Лукашэнка „выйграе”, але Захад выбары не прызнае).

Па маіх назіраньнях, аднак, і па раскладцы кандыдатаў усё падрыхтавана якраз да першага варыянту (Лукашэнка „выйграе” і яго прызнае Эўропа). Для гэтага патрэбны другі тур.

Калі на гэта пойдуць, то можа здарыцца наступнае. Груба і нахабна скарыстаўшы адміністрацыйны рэсурс і фальсіфікацыі, у другі тур выходзіць пара Лукашэнка-Гайдукевіч.

Што ў гэтай сітуацыі будуць рабіць Ганс Вік, кебічаўскія „адзіныя” кандыдаты і ўся „дэмакратычная” камарыльля, застаўшыся за бартом? Лямантаваць? Чаго? Выбары ж прадаўжаюцца „дэмакратычна” і на „альтэрнатыўнай” аснове. Ці можа Ганс Вік захоча даказаць, што Ганчарык набраў больш галасоў за Гайдукевіча і што галасаваньне сфальсіфікавалі? („Ай-я-яй, нядобра крыўдзіць кандыдата Гайдукевіча,” – скажуць спадару Віку.) Зрэшты, Ганс Вік гэтага рабіць ня стане. І вядома, чаму.

Калі здарыцца другі тур, то як будуць паводзіць сябе вікаўскія назіральнікі за выбарамі? Што ім тады там назіраць і што рабіць? Стаць сьведкамі „справядлівага” выбраньня Лукашэнкі? Ці, можа, яны захочуць засьведчыць фальсіфікацыі і даказаць, што пакрыўдзілі дублёра Гайдукевіча? „Ды кінцэ вы, – скажа дублёр Гайдукевіч, – я прэтэнзіяў ня маю, барацьба была чэснай.”

Захаду нічога не застанецца, як прытрымлівацца ўсіх сваіх папярэдніх упартых заяваў аб прызнаньні Лукашэнкі ў выпадку „добрых” выбараў і – прызнаць Лукашэнку.

Тэхнічна гэта будзе азначаць, што КГБ Расеі (які на справе – за Лукашэнку), дзейнічаючы ў маскоўска-нямецкім тандэме, абкруціў вакол пальца хаўрусьніка Віка (што лічыў сябе найхітрэйшым).

Для Беларусі – гэта будзе чарговая народная катастрофа, пасьля чаго беларусам застанецца толькі праклясьці і здрадлівую Эўропу, і хітрую Маскву.

Можна не сумнявацца, што ў гэтай сытуацыі лібэральна-сацыялістычная Эўропа нас прадасьць, як прадала Чачэнію, як некалі ня раз прадавала Польшчу, Чэхаславаччыну ды Аўстрыю.

Але ёсьць выхад са становішча. Ён залежыць ад беларусаў і прапанаваны ўжо *Беларускім Народным Фронтам „Адраджэнь-*

*не”* і арганізацыямі *Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху*. ***Трэба галасаваць супраць усіх кандыдатаў.***

Вынікам дружнага галасаваньня супраць усіх (гэта значыць супраць абодвух у другім туры) павінны стаць ***паўторныя выбары прэзыдэнта з новымі, беларускімі кандыдатамі***. (Адзначым, што 27 лістапада заканчваецца тэрмін Лукашэнкі па ягонай канстытуцыі. Узьнікаюць новыя ўмовы выбараў.)

Гэта адзіны выратавальны варыянт для Беларусі і магчымасьць пазьбегнуць маскоўскай пасткі. Дарэчы, тады (пры галасаваньні супраць усіх кандыдатаў) зьявіцца і сэнс у працы назіральнікаў за выбарамі. Неабходна збавіцца ад ачмурэньня кебічаўскімі зданямі і дэмакратычнай дэмагогіяй намэнклятурных рэваншыстаў.

Беларусь можна адвесьці ад палітычнае катастрофы. Беларусам трэба скарыстаць такую магчымасьць.

*25 жніўня 2001 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 7(37).*



***87. 25 Сакавіка ў Горадні. Блякаваны міліцыяй цэнтар горада. 2001 г.***

# КРЫМІНАЛЬНЫЯ ВЫБАРЫ

Такога падзікунства на выбарах у Беларусі яшчэ не было, здаецца, ніколі. Лекцыя для ўсёй нашай гісторыі, што такое „уласьць”. Чэрнь і дрэнь выпаўзла на паверхню жыцьця. Якія законы, якая мараль...

Спадар ***Васіль Васільчанка*** быў незалежным грамадзкім назіральнікам за галасаваньнем на выбарах у Клімавіцкім раёне Магілёўскай вобласьці. Ён заўважыў парушэньні і хацеў іх зафіксаваць, зьвярнуў увагу на гэта ўчастковай камісіі. Узьнікла спрэчка. Кіраўнік Клімавіцкай раённай вертыкалі **Уладзімер Канавалаў** (старшыня райвыканкама, які па закону не павінен прысутнічаць у выбарчай камісіі) накінуўся на спадара *Васільчанку* з кулакамі і з нагамі і ў прысутнасьці шматлікіх сьведкаў так зьбіў назіральніка, што прабіў вуха (лопнула перапонка) і пашкодзіў яму іншыя часткі цела.

Па загаду начальніка *Васільчанку* забрала міліцыя, адвезьлі ў пастарунак і ўкінулі ў камэру з крымінальнікамі. У цэлі плошчай 5м$^2$ сядзела шэсьць чалавек. Спалі па чарзе. Было вельмі холадна. Усе крымінальнікі курылі. У спадара *Валільчанкі* пачало гніць вуха, неверагодны боль, абвастрыліся ўсе яго захворваньні. Але яго ня выпускалі. Потым, калі чалавек пачаў крычаць ад болю, міліцыя, пабаяўшыся адказнасьці, яго выпусьціла.

Ва ўсіх медычных установах Клімавічаў і ў міліцыі (па званку начальства) яму адмовілі ў правядзеньні мэдычнай экспэртызы і зафіксаваньні пабояў. Тады спадар *Васільчанка* трапіў у Магілёўскі шпіталь, дзе яму зафіксавалі пашкоджаньні цела і пабоі. Але калі ён зноў зьявіўся ў Клімавічах, то кіраўнік раённай улады падабраў „сьведкаў”, якія сказалі, што *сп. Васільчанка* лаяўся і чапляўся на вуліцы да прахожых.

Актывіста незалежнага назіраньня пацягнулі ў суд, дзе прысудзілі яму 10 сутак арышту. На судзе спадару Васільчанку стала зусім дрэнна, і яго з дыягназам „гіпертанічны крыз” адвезьлі ў шпіталь.

* * *

Перад выбарамі пасадзілі пад арышт на 15 сутак Бялыніцкага (Магілёўская вобласьць) раённага каардынатара незалежнага назіраньня *спадара* ***Алега Мяцеліцу***. Яго абвінавацілі ў правядзеньні „несанкцыянаванага мітынгу” за тое, што ў ягонай кватэры адбывалася нарада назіральнікаў за выбарамі, дзейнасьць якіх каардынуе *спадар Мяцеліца*. Міліцыя ўламалася ў кватэру спадара Мяцеліцы і аб’явіла ягоных гасьцей „мітынгам”. (Тут зазначым, што гэта ня проста самадурнае бяспраўе, а менавіта бяспраўе акупацыйнае. Людзей не трактуюць як праўных грамадзянаў краіны, у якой ёсьць агульныя для ўсіх законы.)

На дзясяты дзень знаходжаньня спадара А. Мяцеліцы ў арыштанцкай камэры міліцыя правяла ў ягонай кватэры і гаражы вобыск. Знайшлі передвыбарчыя лістоўкі і налепкі супраць Лукашэнкі. Тут жа завялі на спадара А. Мяцеліцу крымінальную справу за абразу гонару і годнасьці Лукашэнкі.

Гэтак жывецца цяпер беларусам на Беларусі.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 9(39). Пад псэўд. А. Мікша).*

# ПЕРАМЕНЫ БЕЗ ПЕРАМЕНЫ

Выбары прэзыдэнта на Беларусі сфальшавалі адкрыта, груба і дэманстратыўна. Гэта была тыповая прафанацыя выбараў, якія звычайна робяць на акупаваных тэрыторыях.

Прамаскоўскі рэжым на Беларусі прадаўжаецца. Краіны заходняй дэмакратыі заявілі, што прызнаць гэтыя выбары нельга. Фальсіфікацыя мела маштабы адкрытага злачынства супраць беларусаў.

Выбары без палітычнай альтэрнатывы яшчэ не гарантуюць перамогу дыктатару, але аблягчаюць фальсіфікацыю. Маючы невыразных апанэнтаў, Лукашэнка мог не баяцца „народнага ўздыму”, нават калі б выкрыўся ўвесь падлог (а ён выкрыўся). Масы ня пойдуць за мастадонтамі старой савецка-камуністычнай намэнклятуры, зь якімі змагаліся, ад якіх цярпелі.

Ніхто не забыўся, што нядаўна яны вадзілі народ да камунізму. У іх няма ніякіх ідэяў, і самае галоўнае: у іх ніколі не было і няма цяпер – беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта людзі з савецкай каляніяльнай псіхалёгіяй.

Нямецка-расейскія „дыпляматы-тэхнолягі”, што ціха працавалі супраць *Народнага Фронту* і дапамагалі вяртаньню кебічаўскай намэнклятуры ў актыўную палітыку, не маглі гэтага ня ведаць і не разумець.

У выніку Лукашэнка без напружаньня, скарыстаўшы выбары, ажыцьцявіў чарговы захоп улады на наступныя пяць гадоў.

* * *

Як жа магло такое атрымацца, што, пад выглядам апазыцыі, на Беларусі адбылося вяртаньне ў палітыку кебічаўскіх намэнклятурных бурбонаў?

Спачатку палітычны канфлікт выглядаў проста: з аднаго боку, прамаскоўскі рэжым, з другога – *Беларускі Народны Фронт* і часткова – розныя агульна дэмакратычныя паўкаляніяльныя партыі. Але неўзабаве ў кіруючым асяроддзі рэжыму стварылася ўнутраная апазыцыя са старой і новай прамаскоўскай намэнклятуры. Прычына апазыцыйнай незадаволенасьці прадстаўнікоў выканаўчай улады – аўтарытарны стыль кіраўніцтва, самаупэўненая некампетэнтнасьць і паталягічныя рысы характару Лукашэнкі. Для іх галоўнае – павінен быў быць іншы „начальнік”, больш ляяльны, больш разумны, лепш выхаваны, спакойны і „дэмакратычны” (гэта значыць, каб паважаў і раіўся з намэнклятурай). Астатняе мала істотна.

Арбітрам у гэтым супроцьстаяньні ўнутраная апазыцыя, па старой савецкай звычцы, выбрала Маскву, усяляк стараючыся схіліць Крэмль на свой бок.

Будучы слабой, апазыцыйная намэнклятура пачала шукаць апоры ў агульных дэмакратаў і ў так званым „незалежным друку”. Тыя прынялі яе з раскрытымі абдымкамі. У выніку стварылася вельмі зручная для Масквы „апазыцыя”. (Асабліва ўлічваючы інфільтрацыю „дэмакратаў” спэцслужбамі і значны кантроль спэцслужбаў над „незалежным друкам”.) Масква, згодна сваёй

канцэпцыі, атрымала грунт для „кіруемага канфлікту”, калі абодва бакі – кіраўніцтва рэжыму і „апазыцыя” да яго – аднолькава кантралюющца Масквой. У гэтакім стане прышлі да „выбараў” прэзыдэнта.

* * *

Такое стала магчымым толькі пасьля таго, як быў аслаблены *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”*.

Барацьба расейскай улады зь беларускім нацыянальна-вызвольным рухам мае стогадовую гісторыю. У 30-х – 40-х гадах мінулага стагоддзя ён быў поўнасьцю разгромлены НКВД і польскай „дэфэнзывай”. Рэшткі яго змагароў выжылі толькі ў эміграцыі. У 80-х гадах беларускі вызвольны рух адрадзіўся. У 1990 годзе частка ягоных дзеячоў трапіла ў Вярхоўны Савет і стварыла невялікую, але вельмі баявую і эфэктыўную дэпутацкую *Апазыцыю Народнага Фронту.* Дзейнічаючы рашуча і зладжана з усім *Фронтам*, у 1991 г. яна дамаглася канстытуцыйным шляхам незалежнасьці Беларусі, спыненьня дзейнасьці КПСС і ЛКСМ на тэрыторыі краіны.

Гэта сталася поўнай нечаканасьцю для савецкага КГБ і гэбоўскіх палітыкаў Расеі. Яны пачалі сур’ёзную і асэнсаваную вайну супраць беларускага адраджэньня.

Пералом пачаўся ў 1994 годзе, калі на прэзыдэнцкі пасад прывялі А.Лукашэнку. Аднак антыбеларуская палітыка стаўленьніка не аслабіла *Народны Фронт*. У 1996 г. ён ператвараецца ў даволі шырокі беларускі рух, які, нягледзячы на рэпрэсіі, затармазіў анэксійную „інтэграцыю” і ў сярэдзіне 1997 г. *(на V-м Зьезьдзе БНФ)* аб’явіў пра неабходнасьць гуртаваньня ўсіх змагарных сілаў у *Беларускі Вызвольны Рух*.

На зьнішчэньне гэтай нацыянальнай салідарнасьці і пэрспэктывы Масква кінула вялікія сілы і сродкі. Але разбуральны вынік быў дасягнуты толькі з прыездам на Беларусь **Ганса Георга Віка** ў якасьці кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менску.

Злучэньне расейскіх інтарэсаў зь нямецкімі, плюс дэмакратычная дэмагогія і матэрыяльныя сродкі ў барацьбе зь беларускім нацыянальным адраджэньнем зрабілі сваю чорную справу ўжо ў 1999 годзе, калі, пасьля шэрагу антыфронтаўскіх авантураў („праект „Чыгір” і інш.), Фронт падзяліўся і частка яго далучылася да інсьпіраванай Вікам так званай „аб’яднанай дэмакратычнай апазыцыі”. „Нацыянальная ідэя вычарпала сябе”, – было заяўлена адным з раскольных фронтаўцаў.* Пачаўся дрэйф адлучэнцаў у „дэмапазыцыю” без нацыянальнай ідэі, які закончыўся прыплыцьцём да кебічаўскай намэнклатуры. Да тых, супроць якіх (не на жыцьцё, а на сьмерць) змагаўся *Фронт*, каб вырваць незалежнасьць і дзяржаву зь іхных прамаскоўскіх камуністычных лапаў.

Традыцыйны *Фронт* і *Партыя Фронту*, што засталіся на адраджэнскіх пазыцыях, ня здолелі (чаго раней ніколі не было) сабраць неабходны запас подпісаў, каб прымусіць рэжым зарэгістраваць беларускага кандыдата на прэзыдэнта Беларусі. 104600 подпісаў, якія сабралі, дастаткова для рэгістрацыі па закону, але замала для змаганьня з рэжымам. І антызаконны рэжым гэта спакойна прадэманстраваў.

* * *

Выбары 9-га верасьня засьведчылі фальсіфікацыю галасаваньня і захоп улады Лукашэнкам. Разам з тым, яны засьведчылі аслабленьне беларускіх нацыянальна-вызвольных сілаў, якія не змаглі актыўна ўдзельнічаць у выбарах і рэальна паўплываць на іхны ход.

Вядома, што дзьве трэці беларусаў супраць дыктатуры існуючай асобы, але ў выбарчай кампаніі вырашыла сіла ўлады і ашуканства, памножаная на пасіўнасьць грамадства.

Трэцяя дыктатура (гэта, фактычна, ужо трэці тэрмін Лукашэнкі) ня можа быць моцнай. У новых нестабільных умовах беларускі нацыянальна-вызвольны рух павінен вельмі дакладна прадумаць сваю рэальную палітыку і адэкватнасьць дзеяньняў, каб пераламаць заганную дэградацыю адносінаў і ўпадак грамадства.

***Сфальшаваныя выбары нельга прызнаваць. Лукашэнка ня ёсьць легальна выбраны кіраўнік. Ня можна прызнаваць легітымнасьць яго ўлады.***

Непрызнаньне сфальшаваных выбараў ставіць перад беларускім грамадствам задачу дамагацца ануляваньня іхных вынікаў і правядзеньня новых выбараў пад кантролем і пратэктаратам міжнародных арганізацыяў.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 8(38). Пад псэўданімам Мар’ян ВАНЬКЕВІЧ)*

* *Маецца на ўвазе Ю. Хадыка*



***88. З сабакамі на людзей. 25 сакавіка, Менск, 2000 г.***

# ДЗЕНЬ СЬЦЯГА І ПАГОНІ

***(урывак з тэксту)***

*19 верасня споўнілася дзесяць гадоў ад урачыстай хвалюючай даты ў гісторыі Беларусі – зацьвярджэньня Вярхоўным Саветам нацыянальнага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга і гэрба Пагоня ў якасьці дзяржаўных сымвалаў Рэспублікі Беларусь.*

*Тыя, хто рыхтавалі законапраект і адстойвалі яго ў Вярхоўным Савеце (а гэта найперш дэпутаты Апазыцыі БНФ) сутыкнуліся зь лютым супрацівам з боку значнай часткі камуністычных дэпутатаў, і асабліва так званых „ветэранаў". Франтаўцам трэба было іх пераканаць і перацягнуць на свой бок.*

***Зянон Пазьняк:*** „У маім жыцьці гэта быў найвялікшы дзень. Бадай, пасьля вяртаньня незалежнасьці, гэта была найважнейшая і самая хвалюючая падзея і найцяжэйшая задача: зацьвердзіць *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *гэрб Пагоня* ў якасьці дзяржаўных сымвалаў. Мы разумелі тады ў парляманце, што калі мы гэтыя сьцяг і гэрб зацьвердзім, калі ў нас будуць дзяржаўныя сымвалы, гэта значыць, што нашая незалежнасьць стане на моцны грунт, што яна будзе. Мы разумелі, што такое для дзяржавы сымвалы, і мы вельмі рыхтаваліся.


(Фота У. Кармілкіна)

***89. Беларускія сьцягі.***

Франтаўскія мастакі зрабілі выставу ў фае Вярхоўнага Савета пра гісторыю беларускага гэрба і сьцяга, бо большасьць дэпутатаў дрэнна арыентавалася ў гісторыі. Мы падрыхтавалі ад *Апазыцыі Фронта* шмат дакладаў. Выступаць павінны былі амаль усе. Папярэдне мы гаварылі зь іншымі паважанымі дэпутатамі, з рознымі людзьмі і былі ўпэўненыя, што ўсё адбудзецца пасьпяхова.

Але адразу здарылася нечаканасьць. У самым пачатку паседжаньня Вярхоўнага Савета выступіў адзін вядомы і паважаны („незалежны") пісьменьнік-дэпутат (ніхто з нас зь ім асаблівай гутаркі не праводзіў, бо былі ўпэўненыя ў ім). Ён нечакана накінуўся з крытыкай на камуністаў, на тых, якія казалі, што „ім ба толькі флажкі". А іх жа большасьць была ў зале. Тым часам пісьменьнік-індывідуал „аблічае" сабе, красуецца (сам, дарэчы, нацыянал-камуніст).

Мы аслупянелі ад нечаканасьці. Я бачу, што ўся гэтая камуністычная публіка проста разьярылася: вочы гараць, злосныя, крычаць. Пачалі яго зганяць з трыбуны. Стала зразумела, што ўсё, канец, – катастрофа. Мы іх тыдзень супакойвалі, рыхтавалі, а гэты непрадбачаны „трыбун" перакрэсьліў нам усё адным махам. Гэта было жахліва. У мяне, памятаю, аж далоні сталі вільготнымі.

Першае, што я зрабіў, – напісаў запіску *Станіславу Шушкевічу* ў Прэзыдыюм, што здымаю сваё выступленьне. Бо зразумеў, што ў гэтай сытуацыі мне ня варта выступаць. (Артадоксам трэба было адразу сарваць злосьць, а тут – іхны галоўны апанэнт...) Патрэбны былі выступы ў нашу карысьць, але больш нэўтральных людзей, і пажадана – зь іхнага асяроддзя, каб яны супакоіліся.

Потым я абышоў (тут жа, у зале, бо трэба было дзейнічаць імгненна) усіх сяброў, дэпутатаў *Апазыцыі БНФ*, і сказаў, каб тэрмінова карэктавалі выступы і тэматыку, бо неабходна псіхалагічна выправіць і згладзіць канфліктную сытуацыю ў залі. (Мы ведалі характар і матывы паводзінаў большыні нашых „заканадаўцаў".)

Першым я папрасіў выступіць *Алега Трусава*. Ён добра выступіў. Заля крыху супакоілася. І так дзесьці да паловы абмеркаваньня ішла вось гэтакая пазыцыйная барацьба розуму і нэрваў, выступленьні з чыста псіхалягічнымі задачамі.

Вельмі дапамог тады *Георгі Таразевіч*. (Папярэдне мы гаварылі зь ім і ведалі ягоную думку.) Ён выступіў добра і заклікаў зацьвердзіць нацыянальную сымволіку ў якасьці дзяржаўнай. Камуністы не маглі не ўлічыць ягоную пазыцыю і аўтарытэт. Але я бачыў і адчуваў, што галасоў мы не набяром (бо трэ' было дзьве трэці). Тады я ізноў напісаў запіску С. Шушкевічу (які, дарэчы, вельмі добра праводзіў якраз гэтае паседжаньне) і папрасіў, каб ён прадоўжыў дыскусію, а сам пабег у фае і патэлефанаваў *Прэзыдэнту Акадэміі Навук Платонаву* і папрасіў, каб ён тэрмінова прыехаў выступіць на сэсіі: патрэбна было аўтарытэтнае акадэмічнае выступленьне. (З Шушкевічам было дамоўлена, ён сам гэта прапанаваў.) Платонаў прыехаў своечасова і выступіў, таксама вельмі добра і пераканаўча.

Пачалі галасаваць. Не набіралі, здаецца, 1-2 галасы. Некалькі разоў рабілі перапынкі, падыходзілі з розных бакоў, прапаноўвалі розныя варыянты і папраўкі. (Зноў не хапала 1-2 галасы.) І, нарэшце, вычарпалі ўсё. І вось апошняе галасаваньне. Хваляваліся незвычайна. Я ніколі ў жыцьці не адчуваў сябе ў такім стане, як пад электрычным напружаньнем. І тады мы вылучылі найбольш аўтарытэтных дэпутатаў з *Апазыцыі Фронта* і сказалі сабе, што трэба йсьці і проста прасіць тых, якія будуць (зразумела рэч) галасаваць „супраць", прасіць прагаласаваць „за". Мы прасілі.

Я памятаю, падыйшоў да ветэрана-камуніста *Міхаіла Дзімітравіча Жукоўскага* і проста яго папрасіў. Кажу: „Міхаіл Дзімітравіч, нацыянальная дзяржава вышэй усялякай ідэалёгіі. Калі мы ня будзем яе мець, ня будзем мець яе нацыянальных сымвалаў, то мы ня будзем мець нічога. Мы станем нічым. Вы ж беларус. Я вельмі Вас прашу... Адзін раз у жыцьці". І ведаеце што, ён паабяцаў і прагаласаваў „за". Вось гэтакая ішла барацьба на чалавечым узроўні.

Нарэшце – галасуем. У зале поўная цішыня. Калі табло паказала вынік, я ўпершыню ў жыцьці на секунду страціў прытомнасьць. Самлеў: такое было нэрвовае напружаньне. Бо трэба было набраць 231 голас. І табло паказала 231.

Потым цяжка было апамятацца. Мяне тут жа пацягнулі выступаць на плошчу. А я ня мог гаварыць, таму што цяклі сьлёзы.

Так што гэты Сьцяг стаў часткай майго жыцьця, майго лёсу, маёй натуры, і ня толькі маёй, – усіх нас, дэпутатаў *Народнага Фронту*, якія тады былі ў парляманце. Гэты дзень, я думаю, кожнаму з нас запомніцца на ўсё жыцьцё.

Ужо вечарам над Домам ураду лунаў *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг*."

***Зянон Пазьняк***

***(Паводле эфіру радыё „ Свабода")***

*2001 г. Верасень.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 9(39).*



*90. Устанаўленьне крыжа ў час змаганьня за Курапаты ў 2001 г. Зь лева на права: В. Буйвал, А. Чахольскі, А. Крыварот, С. Папкоў.*

# ДЗЯДЫ

***(Выступ на Крыжовае шэсьце – 2001)***

Надыходзяць *Дзяды*. Першыя Дзяды ў трэцім тысячагоддзі. Гэтае сьвята – шанаваньня продкаў – ёсьць найвялікшы духоўны чын грамадзтва, бо засьведчвае гістарызм ягонага існаваньня.

Дзяды ў нашым беларускім жыцьці маюць асабліва вызначальную ролю. Бо нас, беларусаў, пачынаючы з XVII стагоддзя, фізічна вынішчалі рознымі спосабамі нашыя ўсходнія і заходнія непрыяцелі.

Лёгіка духоўнага існаваньня засьцерагае нас, што калі беларусы забудуць свае ахвяры, нас вынішчаць усіх. У Дзядах месьціцца крыніца духоўнай сілы. І гора тым, хто затопча яе.

Нашае найноўшае нацыянальнае адраджэньне таксама зьвязанае зь Дзядамі, з памяцьцю пра генацыд і з Курапатамі. Трынаццаць з паловай гадоў таму беларусаў абудзіла ад летаргічнага сну і натхніла на змаганьне праўда пра Курапаты. 30-га кастрычніка 1988 года на Дзяды адбылося змагарнае хрышчэньне Беларускага Народнага Фронту.

І ўсе гэтыя трынаццаць гадоў антыбеларускія сілы цемры і зла імкнуліся паклёпнічаць на расстрэльныя магілы, хацелі сфальсіфікаваць, перакуліць праўду пра Курапаты. Але нічога не атрымалася і не магло атрымацца. Бог не дазваляе паклёп на нявінную кроў.

Тады цемрашалы пайшлі на агрэсію і пад выглядам будаўніцтва аўтастрады распачалі фізічнае зьнішчэньне беларускага мартыралёга ў Курапатах.

Будаўніцтва аўтастрады (дарэчы, цалкам незаконнае) – гэта толькі пачатак комплекснага разбурэньня Курапатаў, прыніжэньне пакутнага месца, зьневажэньне сьвятасьці.

„Сьвятога – тут няма", – павінна засьведчыць іншым гэтая аўтастрада. І ўсе мусяць слухаць блюзьнерства хама, што „сьвятога няма".

Гушчыня пахаваньняў у Курапатах разьмеркаваная на пяці дзялянках.

Справа, уніз ад савецкага каменя, разьмешчаныя магілы пэрыяду 1937–1938 гадоў. Зьлева, уніз ад каменя, – пахаваньні 1939-1940 гг. Трэцяя, вельмі густая дзялянка, знаходзіцца зьлева ад каменя ўздоўж неіснуючай цяпер дарогі, па якой заязджалі сюды энкавэдзісцкія машыны-крумкачы. Калі ў 1988 годзе ў гэтым месцы пракладвалі газапровад, то магілы часткова разбурылі, але найбольш завалілі іх выкапаным з траншэі грунтам. Чацьвёрты ўчастак знаходзіцца зьлева ад каменя і зьлева ад шырокай просекі. Тут магілы 1940-41 гадоў. Пятая дзялянка знаходзілася там, дзе цяпер палатно кальцавой дарогі. Магілы зьнішчаныя пры яе пабудове ў пачатку 60-х гадоў.



***91. Змаганьне за захаваньне Курапатаў ад разбурэньня. 2001 г. Карцінка зь міліцыяй.***

Калі б цяперашнім людзям у гэтым месцы раптам адчыніўся астральны сьвет памяці, то яны ўбачылі б, як над асфальтам дарогі на ўзроўні сэрца пешахода і галавы сядзельцаў машын месьціцца зваленыя ўперамешку горы трупаў, і машыны прадзіраюцца праз іх, як праз туман...

Цяперашняе рыдлёўкакапальніцтва ў гэтым месцы наўзбоч дарогі ёсьць выкананьне сьведамай прафанацыі, выглядае ёрніцтвам і сьвятакрадзтвам.

А калі б цяперака на Дзяды паўстаў той сьвет над усімі Курапатамі і ўсе ўбачылі б моц расстралянага народу – сотні тысячаў загіблых людзей, чвэрць мільёна..,– можа б тады мы зразумелі больш, чым разумеем цяпер, што такое ёсьць Курапаты ў Сусьвеце...

Услухаемся ў цішыню.

У Курапатах мы вяртаемся зноў у пачатак шляху. У 1988 год. Гэты шлях не павінен стаць сізіфавым і ня будзе такім, калі мы адновім памяць, ушануем мартыралёг і пабудуем помнік закатаваным продкам.

Нашае змаганьне за Курапаты павінна мець пазытыўнае дзеяньне і стваральную працу. Гэта будзе найвялікшы аргумант супраць цемрашалаў і найвялікшы сэнс, што паўплывае на нашу нацыянальную будучыню.

Я зноў хачу тут паўтарыць, што ня раз казаў: будуйма ў Курапатах усім народам Народны Мэмарыял. Хай кожная несьмяротная душа расстралянага ў Курапатах увасобіцца ў Крыж. Хай адбудзецца Зьмёртвыхустаньне – сымвалічнае ўваскрасеньне душ у крыжах.

З усёй Беларусі нясём жа сюды і стаўляем крыжы за сваіх і за ўсіх. Мы павінны добрым чынам, сэрцам, верай, працай і рушэньнем перамагчы пекла на нашай Зямлі.

Няхай жа расьце над магіламі ў Курапатах лес рукатворных крыжоў – тысячы, сотні тысячаў хай паўстануць.

Так падымецца потым і наш народ.

Шануйма ж Курапаты, каб была Беларусь!

*28 кастрычніка 2001 г.,*
*Нью-Ёрк*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня***
***Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

# ДАРОГА ЗА ДВА ГАДЫ

## ДАКЛАД
## НА V ЗЬЕЗЬДЗЕ КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ І НА VII ЗЬЕЗЬДЗЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ”

*(16 сьнежня 2001 г., Менск).*
*(Скарочана)*

...Фактам зьяўляецца тое, што мы, ў даволі кароткі час, праз некалькі месяцаў пасьля VI-га Зьезду БНФ, зьнітавалі, перафармавалі і з'адзіночылі Партыю БНФ. Нашыя структуры адразу змаглі ўключыцца ў палітычныя працэсы.

Гэта вельмі важны момант сам па сабе. Мы ўратавалі галоўную арганізацыю Беларускага Адраджэньня і працяг Нацыянальнай Ідэі. У цяперашнім становішчы гэта ёсьць грунт, на аснове якога можна змагацца з заборчай палітыкай і кансалідаваць нацыянальна-дэмакратычныя сілы.

Другі сур'ёзны агульны даробак нашай працы ў тым, што мы пасьлядоўна і дэталёва раскрылі і растлумачылі антыбеларускую сутнасьць, мэтады і зьмест дзейнасьці Ганса-Георга Віка – кіраўніка Місіі АБСЭ ў Беларусі, – паставілі ёй заслон і, фактычна, дамагліся яго выдаленьня з нашай краіны.

Гэтая справа вельмі істотная для разуменьня будучыні беларускай палітыкі, бо адчыніла мэханізм нямецка-расейскага супрацоўніцтва супраць беларускай незалежнасьці, эканомікі і дзяржаўнага будаўніцтва. Ускосна выяўлена таксама супрацоўніцтва Ганса Віка з рэжымам Лукашэнкі.

Мушу спыніцца на гэтым больш падрабязна. Да 1998 года маскоўская палітыка супраць Беларукскага Народнага Фронту была неэфэктыўнай, пакуль не прыслалі ў Беларусь Віка і не пачалося нямецка-маскоўскае супрацоўніцтва. У 1997 годзе стварылі „Хартыю-97”, пачалі рабіць палітыкаў з сумніўных людзей і ўвогуле масава заглыбілі кагэбоўскую агентуру ў Народны Фронт.

З 1998 года Вік пачынае ствараць падстаўную (у істоце сваёй – антыфронтаўскую) апазыцыю „дэмакратычных сілаў” (з рэштак ранейшай антылукашэнкаўскай апазыцыі), пачынае гаварыць пра будучыя выбары і нібыта аб'яднаньне ўсіх „дэмакратаў”. (Тактыка ўсіх спэцслужбаў: аб'яднаньне дзеля зьнішчэньня.)

Ужо ў 1998 годзе была выклікана стагнацыя ў Фронце і бляканьне нацыянальна-адраджэнскай палітыкі праз імкненьні ўтварыць рознага роду арганізацыйныя фантомы, палітычныя і інфармацыйныя пустышкі.

За гэты час была падрыхтаваная шалёная атака на Беларускі Народны Фронт, хоць дзейнасьць Віка тут добра закамуфляваная. Ён займаўся ў асноўным арганізацыяй падстаўной дэмапазыцыі, якая павінна была замяніць разбураны БНФ.

Пасьля расколу Фронта Вік бярэ ініцыятыву на сябе. Ствараецца так званая „аб'яднаная апазыцыя” і пачынаецца так званы „перамоўны працэс” з рэжымам.

Роля Віка і іншых нямецкіх дзеячоў АБСЭ і сэнс іхнай палітыкі (скаардынаванай з Масквой) нам быў адразу зразумелы, але мы таксама ўступілі ў гэты „працэс”, каб паўплываць на яго і выкрыць ягоныя мэты. Стыль прафэсійнай працы Ганса Віка – шматхадовыя камбінацыі, якія вядуць да адной мэты. (Пра „адну мэту” я скажу пазьней.)

Задача „перамоўнага працэсу” – уцягнуць палітычныя партыі ў парляманцкія выбары, прызначаныя на сярэдзіну кастрычніка 2000-га года, і гэтым самым паспрыяць легалізацыі рэжыму. (Бо ад пачатку беларусам было зразумела, што ніхто з апазыцыйных партыяў у парлямант не патрапіць, дэмакратычных выбараў ня будзе.) Нельга было галасаваць у такіх выбарах.

Да канца зімы 2000 года нам удалося пераканаць у гэтым дэмакратаў-перамоўшчыкаў. З нашай ініцыятывы 22 лютага 2000 года 12 палітычных партыяў, якія ўваходзілі ў так званую Кансультацыйную раду, прынялі рашэньне (заяву) адмовіцца ад удзелу ў парляманцкіх выбарах, паводле Выбарчага кодэксу, прынятым лукашэнкаўскім „парлямантам” і падпісаным Лукашэнкам.

Тым ня менш, Вік, чыноўнікі АБСЭ і, што характэрна, таксама чыноўнікі Лукашэнкі зноў працягвалі „перамоўны працэс”, вяла, тупікова і бессэнсоўна, амаль аж да восені. Выявіўся яшчэ адзін аспэкт гэтай справы – зацягнуць беларускія палітычныя сілы ў пустую тупіковую працу, ня даць выявіць іншыя падыходы, адцягнуць ад нацыянальнага змаганьня з рэжымам і даць яму магчымасьць па-свойму падрыхтавацца да выбараў. У той жа час Вік і заходнія лібэралы ціснулі на Лукашэнку, каб той зрабіў хоць мінімальныя, хоць фармальныя саступкі перад выбарамі ў бок „дэмакратыі”. Але Лукашэнка не пайшоў на гэта.

Сутнасьць такіх дыпляматычных рухаў зыходзіла зь нямецкай пазыцыі ў міжнародных арганізацыях, дзе Вік і іншыя дыпляматы імкнуліся пераканаць астатніх, што рэжым Лукашэнкі нельга ізаляваць, яго, маўляў, трэба і можна „дэмакратызаваць”, ён, маўляў, можа „палепшыцца”. Немцам вельмі абходзіла, каб Лукашэнка зрабіў хоць паўкрока насустрач „дэмакратыі”. Тым больш, што з Масквой было ўзгоднена, і Лукашэнка, нягледзячы на свае ўяўныя пагрозы, ня рушыў Віка.

Нямецкія дыпляматы і чыноўнікі АБСЭ на Беларусі вялі падвойную гульню. З аднаго боку – улічвалі нашае рашэньне і заяву партыяў ня ўдзельнічаць у выбарах, з другога – імкнуліся зацягнуць гэтыя партыі ў выбары, а таксама забясьпечыць міжнародны кантроль за галасаваньнем, на які яны маглі б уплываць у прызнаньні выбараў.

Мы рэзка выступілі супраць пляну такога міжнароднага кантролю і абгрунтавалі ягоную непатрэбнасьць тады, калі выбары будуць байкатавацца.

У гэты час аўстрыйская немка Бэніта Фэрэра-Вальднэр, якая тады выконвала функцыі старшыні АБСЭ, заяўляе, напрыклад, наступнае: „Як дзейны старшыня я з задавальненьнем адзначаю шматразовыя абавязацельствы беларускіх уладаў забясьпечыць вольныя, справядлівыя і міжнародна прызнаныя парляманцкія выбары ўвосень 2000 года... Я з задавальненьнем адзначаю запрашэньне ўраду Беларусі для правядзеньня міжнароднага назіраньня за выбарамі. *На дадзены момант у Беларусі праходзіць складаны працэс трансфармацыі краіны ў дэмакратычную структуру.* Інстытуцыі АБСЭ прыкладваюць намаганьні дзеля таго, каб дапамагчы краіне усталяваць дэмакратычныя інстытуты, якія адпавядаюць эўрапейскім стандартам.” *(„Беларускія Ведамасьці”, – 2000, №3(26), красавік-травень)*

Як кажуць, брава, панове, вось дык АБСЭ!

Другога траўня мы вярнуліся зноў да пытаньня будучых выбараў і падкрэсьлілі нашу пазыцыю ў звароце Партыі і Фронта да грамадзянаў Беларусі. Мы сцьвярджалі наступнае: „Грамадзяне Беларусі не павінны прымаць удзел у недэмакратычных выбарах, якія будуць арганізаваныя рэжымам Лукашэнкі. Удзел у такіх выбарах замацуе злачынцаў ва ўладзе, дазволіць ім канчаткова

зьнішчыць Беларускую дзяржаўнасьць, ператварыць нашу моладзь у расейскае гарматнае мяса.

Расейскія палітыкі і ваеншчына разглядаюць Беларусь як тэрыторыю для далейшай экспансіі на Захад, а беларусаў – як пабраску пакорных выканаўцаў іхняе волі і імпэрскіх задумак.

Беларусы не павінны трапляць пад узьдзеяньне шулерскіх падманаў, накшталт „перамоваў" і „дыялёгаў", якія арганізоўвае цяпер рэжым (ці робіць выгляд, што арганізоўвае) і на якія купляецца „балотная" і каляніяльная апазыцыя. *Гэта ёсьць тэхналёгія падману, прымеркаваная дзеля прыкрыцьця акупацыйных працэсаў зьнішчэньня дзяржаўнасьці Беларусі.*

На жаль, і Менская група АБСЭ, якую ўзначальвае Ганс-Георг Вік, падштурхоўвае апазыцыю да дыялёгу з незаконным лукашысцкім рэжымам і да ўдзелу ў нелегальных выбарах. Група АБСЭ актыўна ўдзельнічае ў афармленьні „балотнай" і каляніяльнай апазыцыі. Па працы Групы АБСЭ ў Беларусі ўзьнікае шмат пытаньняў. Чаму Група АБСЭ ўпарта ня хоча бачыць рэальныя дачыненьні Расеі і Беларусі? Чаму яна ня хоча бачыць, што корань зла знаходзіцца ў Маскве? Чыю палітыку праводзіць Група АБСЭ ў Беларусі? Якія ёсьць дамоўленасьці паміж Нямеччынай і Расеяй? Ці ня ёсьць Беларусь разьменнай манетай у гандлі Расеі і Нямеччыны за Калінінградзкую вобласьць (Усходнюю Прусію) і нафта-газавыя трубаправоды праз Беларусь?!

Беларусы павінны быць пільнымі, не паддавацца на розныя падманныя тэхналёгіі." *(Беларускія Ведамасьці", – 2000, №3(26), красавік-травень, с.4)*

Праз месяц кіраўнік рабочай Групы па Беларусі Парляманцкай Асамблеі АБСЭ Адрыян Севярын едзе ў Маскву, сустракаецца там са старшынёй Дзяржаўнай Думы Расеі камуністам Генадзем Селязьнёвым. „Вельмі дрэнна, калі апазыцыйныя палітычныя партыі адмовяцца ад удзелу ў выбарах, – заявіў там Адрыян Севярын, – мы павінны заявіць нешта пазытыўнае, што садзейнічала б выбарам, іхняму правядзеньню, назіраньню за імі і садзейнічала б фармаваньню пазытыўнага погляду Захаду на працэсы, што адбываюцца ў Беларусі. *Для гэтага трэба сфармаваць пэўны палітычны клімат, і ў гэтым мы разьлічваем на падтрымку дэлегацыі Дзяржаўнай Думы Расеі." („Беларускія Ведамасьці", – 2000, № 4(27), чэрвень, с.15)*

У гэты ж час прадстаўнікі вікаўскай „аб'яднанай апазыцыі" (А.Лябедзька і інш.) таксама едуць у Маскву і гавораць пра „необходимость разработки правого взгляда на белоруско-российские отношения" разам з расейцамі. У ліпені тэкст „правого взгляда", напісаны ў дэмапазыцыі (АГП), быў завезены ў Расею і неўзабаве зьявіўся ў друку.

Там напісана: „Мы придаем большое значение развитию отношений между нашими государствами *и усилению интеграционных процессов*. В этой связи *следует нам с двух сторон убирать все то, что мешает этой исторической перспективе*". *(„Беларускія Ведамасьці", – 2000, №5(28), ліпень-жнівень, с.4)* А гэта значыць, што прапаноўвалі выдаляць (убирать) нас – Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух, Беларускае Адраджэньне, Беларускі Народны Фронт, Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю – БНФ, ТБМ і г.д. Дакумант падпісалі вядомыя непрыяцелі Беларусі, Беларускай дзяржаўнасьці і незалежнасьці Я. Прымакоў, Н. Харытонаў, Г. Райкоў, Б. Грызлоў, І. Лебедзеў (сын Жырыноўскага) і інш.

Мы далі ацэнку дзеяньням гэтых „альянсаў" „аб'яднанай апазыцыі" з імпэрска-дэмакратычнымі коламі Расеі і адзначылі, што яны „нясуць ня меншую небясьпеку для Беларусі, чым рэжым Лукашэнкі".

Наша Партыя Фронту падрыхтавала шэраг аналітычных дакумантаў і палітычных заяваў, у якіх прааналізавала дзейнасьць і ўзаемадачыненьні ўсіх гэтых антыбеларускіх праяваў у дэмакратычнай палітыцы.

У заяве ад 10 чэрвеня мы адзначалі, што „незаконны рэжым выйграваў час, каб бесперашкодна дзейнічаць і рыхтаваць выбары на сваіх недэмакратычных умовах. Ён праводзіў палітыку, накіраваную на ўцягваньне палітычных партыяў у выбары дзеля легітымізацыі незаконнага захопу (1996) і ўтрыманьне ўлады. Прадстаўнікі АБСЭ Ганс-Георг Вік і Адрыян Севярын спрыялі такой палітыцы. Хоць вядома, што недэмакратычныя выбары, якія рыхтуе Лукашэнка, ёсьць выбары ў фальшывы парлямант... Кампанія правядзеньня перамоваў пра выбары паміж беларускімі палітычнымі партыямі і выканаўчай уладай грунтавалася на падвойных стандартах... Мы заклікаем усе палітычныя партыі не спрыяць гэтай палітыцы." *(„Беларускія Ведамасьці", – 2000, №5(28), ліпень-жнівень, с.17)*

31-га ліпеня ў дакуманце „Пра дзейнасьць кіраўніцтва КНГ АБСЭ ў Менску" мы адзначылі, што „з 25 па 28 ліпеня кіраўнікі Менскай Місіі АБСЭ спадары Г. Вік і М. Рывальё ў суправаджэньні кіраўніка арганізацыйнай групы па падрыхтоўцы назіральнікаў на выбары сп. М.Грыба ў гг. Берасьці і Горадні праводзілі інструктыўныя сэмінары з удзелам прадстаўнікоў тэрытарыяльных арганізацыяў апазыцыйных партыяў і недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў (арганізацыяў трэцяга сэктара). Кіраўнікі Місіі выкладалі рэкамэндацыі па ўдзеле ў арганізаваных і прызначаных А.Лукашэнкам на 15 кастрычніка 2000 г. выбарах у бясправўную так званую „палату"... Робіцца спроба дэзарыентаваць грамадзтва, – тлумачылі мы. – Праекты, якія рэалізуюцца праз Менскую Місію АБСЭ, супярэчаць інтарэсам беларускага грамадзтва... Мы сумняваемся ў мэтазгоднасьці знаходжаньня сп. Г.Віка ў Беларусі." *(„Беларускія Ведамасьці", – 2000, №5(28), ліпень-жнівень, с.5-6)*

25-га жніўня ў сумеснай заяве Партыі і Фронту пасьля чарговых антыбеларускіх інсінуацыяў Г. Віка мы афіцыйна запатрабавалі ягонай адстаўкі і распачалі сэрыю пікетаў перад сядзібай АБСЭ.

Аднак найбольш жорсткую пазыцыю мы занялі пасьля выхадкі Г.Віка на канфэрэнцыі ў Беластоку (у канцы верасьня), дзе ён нечакана заявіў, што Місія АБСЭ ў Менску праводзіць палітыку спрыяньня ўваходжаньню Беларусі ў склад Расеі, бо, маўляў, Расея нібыта дэмакратычная краіна. Пасьля гэтага Сойм нашай Партыі і Фронту аб'явіў Г. Віка пэрсонай нон-грата ў арганізацыях Беларускага Вызвольнага Руху і запатрабаваў ад АБСЭ і ад Міністэрства замежных справаў Нямеччыны адклікаць яго зь Беларусі як асобу адыёзную, дзейнасьць якой супярэчыць нацыянальным інтарэсам нашай краіны.

Наша барацьба зь Вікам, зь нямецкай дыпляматыяй у АБСЭ, з расейскімі інтэгратарамі і з вікаўскай псэўдаапазыцыяй за няўдзел у выбарах, за байкот галасаваньня, за непрысыланьне міжнародных назіральнікаў у цэлым прывяла да таго, што ідэя байкоту, хоць і з цяжкасьцямі, але была прынята партыямі, і АБСЭ паабяцала не прысылаць міжнародных назіральнікаў. Аднак нямецкія і расейскія дыпляматы ды калябаранты адначасна рабілі адваротнае.

Напрыклад, яны дамагліся, што частка партыяў (камуністы, сацыял-дэмакраты ), а таксама асобныя прадстаўнікі іншых партыяў сталі ўдзельнічаць у выбарах. Пры гэтым спадар Вік з аднаго боку казаў пра недэмакратычнасьць рэжыму, пра невыкананьне ім патрабаваньняў АБСЭ, пра немагчымасьць выбараў, з другога – ён і яго паплечнікі ўсё рабілі, каб прымусіць партыі прыняць

удзел у недэмакратычных выбарах. На гэта выдаткавалі вялікія грошы, асабліва на Сацыял-дэмакратычную партыю „Народная Грамада" (М.Статкевіча), адбываўся адкрыты подкуп беларускіх дэмпалітыкаў. 29-га верасьня 2000 года, у час канфэрэнцыі ў Вільні, дэпутат Вярхоўнага савета 13-га скліканьня сацыял-дэмакрат Павел Знавец прылюдна паведаміў, што яму тройчы прапаноўвалі пяць тысячаў даляраў, каб ён толькі пагадзіўся выставіць сваю кандыдатуру на незаконныя выбары.

Сітуацыя перад выбарамі была напружаная. Дапамагаць Г.Віку ў Менск прыязджаў з Варшавы нават кіраўнік Варшаўскай Місіі АБСЭ немец спадар Штудман (ён вёў перамовы з адміністрацыяй Лукашэнкі пра падрыхтоўку дэманстрацы „балотнай" апазыцыі), а ў пятніцу, за дзень да выбараў, нечакана для апазыцыйных статыстаў у Менск прыляцела вялікая група назіральнікаў за выбарамі ад Эўрапарляманту пад кіраўніцтвам немкі Элізабэт Шротэр (хоць увесь час гаварылася, што назіральнікаў не прышлюць і г.д.).

І вось выбары. Беларусы не прыйшлі галасаваць на выбарчыя ўчасткі. Да гэтакай сітуацыі, аказваецца, не былі падрыхтаваныя ні Лукашэнка, ні Вік. Таму правал выбараў быў адразу зафіксаваны ўсімі. Прапаганда байкоту (плюс інэртнасьць выбаршчыкаў) усёж-такі спрацавала.

Наша Партыя і Фронт праводзілі вельмі вялікую працу па байкоту галасаваньня, дарэчы, пад шум і траскатню паказной актыўнасьці „аб'яднанай апазыцыі" (налепачкі, маечкі ды наклеечкі).

Наша Партыя Фронту, практычна ня маючы сродкаў, распаўсюдзіла па Беларусі адзін мільён трыста тысячаў улётак пра байкот выбараў. Я цікавіўся ў дэмакратаў, колькі распаўсюдзілі яны, атрымаўшы велізарныя сродкі. Ніхто ня ведаў. Станіслаў Шушкевіч сказаў мне, што максімум – 50 тысячаў. (Тут, відаць, як з маечкамі: зрабілі дваццаць адзінак, а напісалі – дваццаць тысячаў. Самы пра гэта пішуць. Дзе падзеліся грошы – Фядута ведае.)

* * *

Я не выпадкова так падрабязна спыніўся на нашай палітыцы па выбарах, па „перамоўным" працэсе, на дзейнасьці Віка і яго-най дэмапазыцыі. Бо і факты, і вынікі, і аналіз паказваюць, што тут перамагла наша палітыка. Інфармацыйны вэрхал быў чужым, гаварылі пра іншае, але перамаглі мы, фронтаўцы. Мы правільна ацанілі дзейнасьць палітычных праціўнікаў, выставілі лепшыя і адэкватныя ідэі, добрыя аргументы, правільна дзейнічалі і атрымалі тыя вынікі, якія хацелі. Мы ідэйна, палемічна і палітычна пасеклі і разьвянчалі „перамоўны працэс", перацягнулі бальшыню на свой бок па пытаньні няўдзелу ў выбарах і байкоту галасаваньня. Мы своечасова выйшлі з гэтага „перамоўнага працэсу", своечасова, добра і правільна, ударылі па канфармізму і прадажнасьці „аб'яднанай апазыцыі" і галоўнае – раскрылі і нанесьлі ўдар па зьяве, самай небясьпечнай зараз для Беларусі, – па хаўрусе нямецка-расейскай палітыкі, па казуістычнай, падвойнай, антыбеларускай дзейнасьці Ганса Віка. (У студзені гэтага году я даведаўся па палітычных каналах, што Г. Віка павінны былі адклікаць у чэрвені. Аднак, пратрымалі, як бачым, да сьнежня (па прычынах зразумелых).

Дарэчы, пасьля нашай крытыкі дзейнасьці Віка, успомніце, як нэрвова зрэагавала агентура ў „Белорусской газете". Памятаеце артыкул „Почему христиане съели Вика?". Крык гэбоўскай душы, псіхатронная роспач.

Самае ж галоўнае тое, што была дасягнута наша палітычная мэта: фальшывыя выбары ў фальшывы „парлямант" праваліліся, іх не прызнала міжнародная супольнасьць за сапраўдныя, законныя і дэмакратычныя.

Дык хто рэальна перамог у 2000-м годзе ў палітычным змаганьні на Беларусі? Для некаторых людзей гэта, магчыма, й не відаць, бо пустапарожні шум робяць розныя „лібэрці". Але наш прыклад якраз паказвае на нікчэмную цану такога шуму. Палітыка ацэньваецца па рэальных выніках таго, чаго хацелі дасягнуць палітыкі.

Прывяду яшчэ прыклады. 29-га ліпеня 2000 года ў Менску адбыўся Ўсебеларускі Зьезд за абарону незалежнасьці Беларусі, які прыняў надзвычай важны для ўсіх беларусаў дакумант – Акт Незалежнасьці Беларусі. Гэта найважнейшая падзея і найважнейшы дакумант, які быў прыняты за апошнія гады. Незалежнасьць і суверэнітэт былі пацьверджаныя як найвялікшыя каштоўнасьці нацыі, якія ня могуць быць скасаваныя нікім і ніякім чынам.

Успомнім, колькі энэргіі, працы і сілы прыклаў Фронт і наша Партыя, дапамагаючы ініцыятарам Зьезду, каб Зьезд адбыўся, каб прайшоў на высокім узроўні, каб стаўся вялікай падзеяй. Успомнім, з кім прыходзілася змагацца.

Вікаўская „аб'яднаная апазыцыя" і антыбеларускія сілы рабілі ўсё, каб сарваць Зьезд. Быў задзейнічаны той жа сцэнар, што й пры спробе зьнішчэньня Народнага Фронту ў 1999 годзе (і нават тыя ж асобы). Прапаноўвалі правесьці Зьезд пазьней і ў дзьве сэсіі з перапынкам у два-тры месяцы (каб за гэты час дэзарганізаваць і разваліць усё). Прапаноўвалі яшчэ розныя правакацыйныя ініцыятывы, каб дыскрэдытаваць ня толькі беларускую інтэлігенцыю, але і Раду БНР (назваць Зьезд Трэцім Усебеларускім Кангрэсам, стварыць яго выканаўчыя ворганы, атрымаць ад Сораса сто тысячаў даляраў на „справу" ды „ўзяць" уладу і г.д. – адкрыта кагэбоўскія мэтады правакацыяў). Гэтых „дзеячоў" – генэралаў бяз войска – шмат наплыло ў Аргкамітэт. Але да гонару аўтарытэтных грамадзкіх кіраўнікоў вялікай ініцыятывы і найперш – спадароў Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна, Радзіма Гарэцкага і Анатоля Грыцкевіча – яны хутка разабраліся ў штучна створаных праблемах.

Зьезд адбыўся трыумфальна. У гэтым ёсьць і нашая фронтаўская палітычная перамога. Нашы ідэі, наша праца і наша фронтаўская палітыка былі лепшымі, чым супрацьдзеяньні палітычных паразітаў і непрыяцеляў Зьезду.

Альбо такі прыклад. У сярэдзіне лета, у разгар вікаўскага двурушніцтва і падрыхтоўкі да выбараў, штатныя прадстаўнікі „аб'яднанай апазыцыі" выступілі з прапановай правядзеньня чарговага ўсенароднага рэфэрэндуму па падтрымцы 4-х умоваў дэмакратычных выбараў у Беларусі, сфармуляваных АБСЭ. Нізасьць і фальшывасьць гэтакага думаньня абурылі тады нас усіх.

Справа ня ў зьмесьце пытаньняў (яны не для рэфэрэндуму). Ва ўмовах акупацыйнай дыктатуры выступаць з прапановай праводзіць любы рэфэрэндум могуць толькі палітычна неадукаваныя людзі, альбо сьведамыя правакатары. Рэфэрэндум – зброя дыктатара, і дыктатура рэфэрэндумы выйграе заўсёды. Лукашэнку заставалася толькі скарыстаць гэтую ініцыятыву і правесьці рэфэрэндум разам з выбарамі ў „палату", уключыўшы туды свае пытаньні (напрыклад, пра „інтэграцыю" з Расеяй).

Несамавітае рашэньне прадстаўнікоў „аб'яднанай апазыцыі" пра рэфэрэндум паклала канец нашаму цярпеньню. 12-га жніўня на Сойме Партыі і Фронту мы прынялі свой вядомы Мэмарандум, дзе далі зьнішчальную характарыстыку палітыканству, якім займаліся актывісты вікаўскай „аб'яднанай апазыцыі". ***Мы***

***нагадалі пара неабходнасьць спыніць у Беларусі імітацыю палітычнай працы пад чужыя праграмы і паставіць заслон амаральнай палітыцы.***

Мы зноў заклікалі людзей ня ўдзельнічаць у антыдэмакратычных выбарах, не падтрымліваць фальшывыя гульні ў рэфэрэндумы.

Мы падкрэсьлілі ідэйную пазыцыю беларускага Адраджэньня і адзначылі, што „у адрозьненьне ад вікаўскай „аб'яднанай апазыцыі", мы арыентуемся на Эўропу хрысьціянскую, Эўропу маральную, а не на Эўропу лібэральнай дэмагогіі і падвойных стандартаў.

Мы ня мелі і ня маем ніякіх ілюзіяў адносна імпэрскай Расеі. Незалежна ад таго, якая ўлада там будзе існаваць, Расея заўсёды, як і дагэтуль, будзе праводзіць антыбеларускую палітыку, каб ліквідаваць нашу дзяржаву.



*92. Мітынг у Кракаве камітэту «Польшча-Беларусь» імя С. Булак-Балаховіча. 2000 г. Прамаўляе В. Буйвал, побач З. Пазьняк.*

Але што б ні было, – пісалі мы ў Мэмарандуме, – мы баранілі і будзем бараніць наш Беларускі Народ, нашу Беларускую Дзяржаву, нашу Беларускую Мову і нашу Беларускую Культуру, гаворачы народу праўду, і толькі праўду." *(„Беларускія Ведамасьці", – 2000, №5(28), ліпень-жнівень, с.8)*

Вядома, рэальнасьць чарговага рэфэрэндуму была праблематычнай. Але нельга дазваляць разьвівацца правакацыям і глумленьню над грамадзкай сьвядомасьцю.

* * *

У 2000 годзе Партыя і Фронт наладжвалі сістэматычныя пікеты, зборы подпісаў за незалежнасьць, вулічныя акцыі, сьвяткавалі вялікія нацыянальныя сьвяты. З гэтага ўсяго адзначу самаахвярнасьць нашых партыйных сяброў у змаганьні за чалавечую годнасьць, за гонар нашага народа, за веліч нашай гісторыі. Мы не хадзілі шэсьцямі на задворкі, на балота Бангалёр, бо разумелі, што 25 Сакавіка, гадавіна Чарнобыля адзначаюцца ганарова, у грамадзкіх цэнтрах гарадоў.

25 Сакавіка 2000 года (у той час, калі вікаўская апазыцыя павяла людзей на балота Бангалёр) на нас у цэнтры Менска рэжым кінуў унутраныя збройныя сілы, браневікі, спэцаддзелы з сабакамі, АМАП і спэцназ, схапілі, зьбілі, скалечылі, арыштавалі сотні нашых сяброў-фронтаўцаў, і амаль усё кіраўніцтва Партыі. Нашы сябры ведалі, што гэтакае можа здарыцца, але сьведама пайшлі на змаганьне. Тады ж быў замах на жыцьцё Юры Беленькага, спроба ягонага, нібыта „непрадбачанага", „выпадковага", але мэтанакіраванага забойства. Два месяцы вымушаны быў лячыцца наш сябра і кіраўнік, і ўвесь гэты час і потым рэжым нахабна стараўся выкруціцца ад суду.

Адзначу таксама ўгодкі Чарнобыля, якія мы ўшанавалі ў цэнтры Менска, потым Слуцкі Збройны Чын, і асабліва засяроджу вашу ўвагу на добра арганізаваным велічным і масавым Крыжовым Шэсьці ў Курапаты, якое прайшло праз увесь горад на *Дзяды* і паклала пачатак стварэньню Народнага мэмарыялу ў Курапатах, шляхам масавага стаўленьня крыжоў у памяць пра генацыд.

Успомніце той дзень, як моцна ён духоўна аб'яднаў людзей.

Нашыя акцыі 2000-га году – вынік добрай працы Ўправы БНФ, кіраўніцтва і мясцовых структураў, раённых радаў Партыі і Фронту.

* * *

Цяперака пачуліся гукі з асяроддзя тых, хто два гады таму ўсхвалялі новую „прагматычную" палітыку, „новую хвалю" і „прагматыкаў" у Фронце. (Дарэчы, калі б яны разумелі, што кажуць, то, пэўна, маўчалі б. Прагматызм – гэта кляймо, эўфэмізм амаральнай палітыкі. Прагматызмам ня хваляцца.) Дык вось, з гэтага асяроддзя зноў загучэў непрыхільны голас у бок Партыі Фронта. Асабліва неверагодны паклёп быў чамусьці на нашых жанчынаў, маўляў, „сьпітыя" асобы. Але ў нас увогуле няма „сьпітых" асобаў. Нашыя інтэлігентныя, адукаваныя жанчыны, кандыдаты навук, медыкі, лекары, настаўніцы, навуковыя супрацоўніцы, шмат хто зь іх піша выдатныя вершы (напрыклад, Яўгенія Казлова), вядуць самастойную арганізацыйную і партыйную працу, усе карыстаюцца павагай і аўтарытэтам.

Дзе ж лёгіка, – можа спытаць прыстойны чалавек, – чаму гучыць зьнявага? А ў тым і лёгіка, спадары, што лёгіка наадварот. Гэта і ёсьць „прагматызм" у лёгіцы. Ня варта на яго зьвяртаць увагі, бо пустое. Але трэба даваць ацэнкі.

* * *

Ёсьць праграмы, якія мы пачалі рабіць, але нам не хапіла сілы іх падняць. Вельмі вялікія і працаёмкія задачы. Напрыклад, Грамадзянскі Парлямант. Лічу, аднак, што гэта вельмі добрая ідэя, якая намі ўжо нядрэнна распрацаваная і ад якой нельга адмаўляцца. Яна можа паслужыць нам у адпаведным моманце.

З нашага боку былі таксама ініцыятывы, ажыцьцяўленьне якіх ад нас не залежала. Напрыклад, стварэньне законнага Беларускага Ўраду (на што трэба было рашыцца Вярхоўнаму Савету. Аднак, народжаны поўзаць – лятаць ня будзе.) Ініцыятывы засталіся ў сфэры ідэяў.

У цэлым, і нашу палітычную, і акцыйна практычную дзейнасьць у 2000 годзе трэба, на мой погляд, ацаніць добра. Гэта быў год палітычнага і арганізацыйнага адраджэньня Фронту, станаўленьне новай актывізуючай ролі нашай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. У 2000 годзе мы ў цэлым ажыцьцявілі нашыя палітычныя мэты, якія стаялі перад намі на той час.

* * *


(Фота С. Пяных)

*93. Менск, 25 Сакавіка 2001 г. Мітынг КХП-БНФ у цэнтры сталіцы.*

Летам і ўвосень 2000 года мы двойчы зьбіраліся Паліткамітэтам у Варшаве. Абмяркоўвалі нашую пазыцыю і паводзіны на будучых выбарах Прэзыдэнта ў 2001 годзе. Прааналізаваўшы ўсе „за" і „супраць", мы прышлі да высновы, што трэба ўдзельнічаць.

Далейшыя падзеі, менавіта: зьяўленьне кандыдатаў ад былой камуна-савецкай намэнклятуры і хаўрус зь імі вікаўскай „апазыцыі" ды „прагматыкаў" паказалі, што наш удзел у выбарах – абавязковы.

18-га лютага 2001 г. адбылася зборная Соймавая Канфэрэнцыя Партыі і Фронту (больш двухсот асобаў), дзе ў вялікім дакладзе кіраўніцтва Партыі быў зроблены палітычны аналіз становішча і абгрунтаваная неабходнасьць нашага ўдзелу ў выбарах. Канфэрэнцыя прыняла адпаведныя рашэньні і прапановы.

Павінен сказаць, што і арганізацыйна, і палітычна ўсё разгортвалася дастаткова роўна, згодна прадбачаных намі варыянтаў, аж пакуль ні пачаўся збор подпісаў, які, дарэчы, ня выклікаў у мяне сумненьняў, нават з усімі папраўкамі на перашкоды, на горшую грамадзкую атмасфэру і меншую ініцыятыўную групу. У 1994 г. у нас была група 2,5 тысячы асобаў, якая сабрала тады, здаецца, 232 тысячы подпісаў. Цяпер амаль на 1,5 тысячы чалавек плянавалася сабраць каля 150 тысячаў подпісаў. Гэта была б тая цалкам рэальная вышыня, якая забясьпечыла б моц пазыцыі.

Потым стала зразумела, што 150 тысячаў сабрана ня будзе. Калі гэта стала зразумела камандзе Лукашэнкі і кампаніі Віка, тут жа зрабілі перастаноўкі: выдалілі больш верагоднага спадара Домаша ( які быў падрыхтаваны спэцыяльна супраць мяне і на мой электарат) і спыніліся на заслужаным намэнклятуршчыку Ганчарыку, перад якім Лукашэнка выглядаў ледзь ні героем.

Акрамя таго, як толькі скончыўся збор подпісаў, ЦВК, не клапоцячыся пра аргумэнтацыю, вычысьціла ўсіх: і мяне, і ўсе маскоўска-вікаўскія ды лукашэнкаўскія „варыянты". У тым ліку і прамаскоўскага стаўленьніка Сініцына (якому, не сумняваюся, „сабралі" ягоныя 110 тысячаў подпісаў).

Мушу сказаць, што ў нашых умовах гэта быў самы небясьпечны варыянт няўдачы ў выбарчай кампаніі. Ён мог прывесьці да зьнеслаўленьня Фронту, да псіхічнай траўмы, да паралічу і нават – да распаду арганізацыі. Тым больш, што ЦВК падала іншую (меншую) лічбу подпісаў, чым наша Ініцыятыўная група. Сітуацыя, як кажуць, „склалася".

Для мяне з маім ужо набытым досьведам было абсалютна зразумела, што як толькі мы ў тым становішчы, са сваімі слабымі лічбамі, улезем у гэтую воўчую яму шукаць праўды, то мы яе, па-першае, ня знойдзем (бо яе там не існуе), па-другое, прыцягнем увагу непрыяцеляў да слабіны ў колькасьці сабраных подпісаў і станем аб'ектам абгавораў, па-трэцяе (і самае дрэннае), выклічам імкненьні знайсьці вінаватых у самым Фронце, разабрацца публічна, паказаць, асудзіць, пакараць і г.д. Мы ўжо гэта праходзілі.

Таму я неаднаразова зьвяртаўся і да кіраўніцтва Фронту, і да Сойму з парадай і з просьбай не дапускаць неканструктыўных сітуацыяў і высьвятленьняў. Ацэнка павінна быць *агульнай і рацыянальнай*. У аснове *мусіць быць рацыё і агульнае дабро*, а не эмоцыі, крыўды, бо ў кожнага „свая праўда".

У агульнай справе мусім рабіць так, як для ўсіх трэба, а не як кожнаму хочацца. Гэта ня проста, бо кожны чалавек ёсьць асоба. Але ёсьць і агульныя абавязкі.

Я вельмі задаволены, што кіраўніцтва і бальшыня фронтаўцаў зразумелі сытуацыю і падтрымалі мяне. Цяпер мы ўжо мінулі небясьпеку некантралюемых паводзінаў, пазьбеглі нападак зграі нанятых пісак ды спэцыялістаў па „сьпітых" фізіяноміях, і ў цэлым, захавалі здароўе ў Фронце.

* * *

Галоўны наш недахоп быў у тым, што палова сяброў Ініцыятыўнай групы, практычна, не зьбірала подпісаў. Гэта дрэнна. Я павінен быў гэта прадбачыць, але не ўлічыў такой магчымасьці. І тут мая віна. Бо ў арганізацыі заўсёды ёсьць людзі больш актыўныя, менш актыўныя і пасіўныя. Я павінен быў высьветліць рэальны баланс, суадносіны паміж такімі людзьмі на той час. На жаль, я гэтага не зрабіў.

Цяпер (і заўсёды) наша задача стварыць такія ўмовы, каб павялічваць актыўнасьць і ўздым людзей. Вядома, індывідуальныя ацэнкі, прэтэнзіі, незадаволенасьць, пачуцьцё віны і г.д. застануцца; час ад часу яны будуць узьнікаць у размовах і дачыненьнях паміж нашымі сябрамі. Гэта звычайна і нават, з маральна-этычнага боку, непазьбежна. Але гэта ў нашай цяперашняй канкрэтнай сытуацыі ня можа стаць зьместам унутрыпартыйнай палітыкі.

Зараз мы павінны хутчэй мабілізавацца, пераадолець агульны пэрыяд апатыі і прывесьці ў рабочы стан нашы партыйныя фронтаўскія сілы.

* * *

Давайце прааналізуем становішча па выніках таго, што страчана і што засталося. Нагадаю, што прыступаючы да выбарчай кампаніі, мы падзялілі магчымыя вынікі выбараў на чатыры варыянты, пачынаючы ад самага небясьпечнага і канчаючы станоўчым.

1. Лукашэнка фальсіфікуе выбары, „выйграе" і яго прызнае міжнародная супольнасьць. 2. Намэнклятурны кандыдат выйграе і яго прызнае міжнародная супольнасьць.

3. Лукашэнка фальсіфікуе, „выйграе" і яго не прызнае міжнародная супольнасьць.

4. Выйграе альтэрнатыўны кандыдат беларускага народу.

Тая сітуацыя, якую стварылі Вік і кампанія, пакінуўшы Ганчарыка, магла паспрыяць 1-му варыянту, калі б Лукашэнка аказаўся больш стрыманым і больш гнуткім. Але атрымаўся якраз трэці ва-




*94. КХП-БНФ праводзіць мітынг «Чарнобыльскага шляху» на Цэнтральнай плошчы ў Менску. 2001 г.*

рыянт. Ён быў бы значна горшым для рэжыму, калі б праз дзень пасьля выбараў не адбыўся напад арабскіх камікадзэ на Амэрыку і не пачаўся б ваенны канфлікт, які прадаўжаецца і ўжо ўскладніў дачыненьні ў сьвеце. На фоне гэтага канфлікту актуальныя яшчэ 10-га верасьня беларускія праблемы выпалі зь міжнароднай палітыкі.

Скажу, што аналізуючы магчымае разьвіцьцё выбарчай кампаніі з маім удзелам, мы засяроджваліся якраз на 4-м і 3-м варыянтах. 3-ці варыянт, як вельмі верагодны, бачыўся намі ў іншай сітуацыі, вельмі хісткай і часовай для рэжыму, што выклікала б разьвіцьцё падзеяў, патрабуючых рэальных кампрамісаў і рэальных пераменаў.

Тое, што атрымалася пасьля выбараў, – гэта, фактычна, захаваньне нелегітымнага статус-кво рэжымам, ня больш. Гэта захаваньне няпэўнай улады.

У нацыянальна-дэмакратычных сілаў засталіся вельмі істотныя падставы для змаганьня з рэжымам за законнасьць, волю і свабоду Беларусі.

Сітуацыя, якая засталася, не павінна выклікаць шоку, глыбокай дэпрэсіі і нявер'я. У тым, што сталася, ёсьць больш банальнага, чым катастрафічнага. Апатыя ў грамадзтве, на мой погляд, – вынік краху ілюзіяў у часткі людзей, іхных спадзяваньняў на тое, што рэжым неяк сам заблытаецца і ўпадзе, бяз іхняй зь ім барацьбы.

І другое – гэта нябачаньне людзьмі канкрэтнай палітычнай альтэрнатывы. Тых, хто быў і мог быць альтэрнатывай, загналі альбо за мяжу, альбо на той сьвет, а грамадзтву падсунулі камунасавецкую намэнклятуру, учарашні дзень.

* * *

У гэтай падтасоўцы, самаашуканстве і аблапошваньні грамадзтва самым непасрэдным і актыўным чынам удзельнічалі нашыя „прагматыкі" – былыя фронтаўцы.

Яны зрабілі тое, чаго ня робяць у палітыцы прыстойныя людзі – прыхіліліся і паставілі над сабой тых (канкрэтна тых), супраць якіх 10-12 гадоў таму мы, Фронт, змагаліся за свабоду і справядлівасьць, за вольную Беларусь. Яны прыйшлі да тых, з чыіх лапаў мы ў 1991 годзе вырвалі незалежнасьць нашай дзяржавы. Яны злучыліся з тымі, хто быў з Кебічам і з Лукашэнкам, якія зноў гатовы былі аддаць нашу краіну на глум і зьдзек усходняму суседу.

І пры гэтым яны ня лічаць, што здрадзілі беларускім ідэалам. Проста ім здаецца, што яны „прагматыкі" і займаліся, маўляў, рэальнай палітыкай. Ну, а цяпер – памылачка выйшла. Яны нават не заўважаюць, што ў палітыцы зь імі ніхто ня лічыцца.

А пачалося ўсё з маральнага выбару, з адмаўленьня ад Беларускай нацыянальнай ідэі і ад маральнасьці ў палітыцы, з адмаўленьня ад назвы „Беларускі Народны Фронт", з памылковых уяўленьняў пра матэрыяльныя рэсурсы і дачыненьні. У выніку – яны сталі выканаўцамі чужых праграмаў ды чужой палітыкі, рупарамі чужародных ідэй. На фінішы – поўны нуль, якраз у рэальнай палітыцы.

Цяпер мы ўжо чуем водгукі іхных спрэчак і прапановы зноў аб'яднацца з намі. Мусіць, праўда, што яны нечага, вельмі істотнага, не зразумелі ў жыцьці.

У лісьце да сяброў Сойму і дэлегатаў Зьезду (ад 4 сьнежня гэтага года) я ўжо пісаў, якой шкоды нарабілі „прагматыкі" „новай хвалі" ў беларускім руху, як развалілі і скампрамэтавалі ягоныя традыцыі і дасягненьні (вулічныя акцыі, вялікія нацыянальныя сьвяты, ідэёвасьць пазыцыі, уплыў на моладзь, прыярытэт мовы і незалежнасьці і г.д.). Таму тут падвяду толькі канстатуючую рысу.

З палітыкамі (і арганізацыямі), якія паказалі сябе несамавіта, бяспрынцыпна, выявілі прагматызм у маральных дачыненьнях, схільнасьць да здрады ідэалам, непераборлівасьць у сродках і людзях, і пры гэтым нічога не дасягнулі, апынуліся на руінах уласных амбіцыяў, – з такімі палітыкамі ніхто ня хоча мець справы, асабліва калі за імі яшчэ цягнецца шлейф фінансавых абвінавачваньняў і канфліктаў. З такімі – не аб'ядноўваюцца. Гэта, як гаворыцца, – „нонсэнс". За свае грахі трэба адказваць самым, а не імкнуцца ўратавацца за чужы кошт.

Такім людзям ужо не даяраюць ніколі. Мы разумеем, аднак, што прагматызм і псіхалёгія палітбізнэсу найбольш апанавала верхавіну былых адраджэнцаў. На індывідуальным узроўні могуць быць іншыя погляды і іншы рахунак сумленьня і, адпаведна, – іншыя адносіны да гэтых людзей.

* * *

У сваім дакладзе я сьведама не закранаю тэмаў, якія для ўсіх нас вызначаныя і ня ёсьць дыскусійнымі. Напрыклад, пра адносіны да акупацыйнай акцыі выбараў у так званы „беларуска-расейскі парлямант". Задача – не дапусьціць ні гэтых незаконных выбараў, ні




***95. Група кіраўніцтва КХП-БНФ: В. Буйвал, С. Папкоў, Ю. Беленькі, У. Юхо. 2001 г.***

гэтага незаконнага псэўдапарляманту. Гэтая „задума” супярэчыць Канстытуцыі.

Альбо выбары ў мясцовыя саветы, што мяркуюцца ў 2003 годзе. Прапаную не абмяркоўваць пакуль гэтага пытаньня. Рашэньне трэба будзе прыняць пазьней і, магчыма, – у залежнасьці ад сытуацыі. Тым часам пасьля Зьезду варта прааналізаваць становішча на ўсіх узроўнях Партыі і Фронту, каб ужо ў першай палове 2002 году выпрацаваць пазыцыю па выбарах і падыходы.

* * *

Якія палітычныя мэты мы павінны бачыць перад сабой на бліжэйшыя гады і якія задачы неабходна вырашыць.

Першая задача для нашых выканаўчых структураў. Мы павінны шырэй разбудаваць Партыю і Фронт, каб магчы выконваць больш шырокія задачы.

Другое. Мы павінны разьвіваць Партыю ідэйна, тэарытычна і паліталягічна, мацаваць і выхоўваць палітычную эліту Партыі. Дзеля гэтага трэба будзе распрацаваць і ажыцьцяўляць спэцыяльныя мерапрыемствы. (Заўважу, што, па маіх назіраньнях, сябры нашай Партыі лепш, хутчэй і дакладней арыентуюцца і ацэньваюць палітычныя падзеі, чым дэмакраты. Але гэта агульная сытуацыя паўсюдна. Розны ўзровень ідэалёгіі.)

Раней мы выразна вызначылі свае адносіны да рэжыму, мэты і канкрэтныя справы. Паўтаруся. Мы не прызнаём выбары „палаты” і выбары „прэзыдэнта” за законныя, справядлівыя і дэмакратычныя. Закон быў груба парушаны, галасаваньне сфальсіфікаванае. Гэта зафіксавана мясцовымі і міжнароднымі назіральнікамі. Выбары не прызнаныя міжнароднай супольнасьцю. Ні „прэзыдэнт”, ні „палата” не валодаюць легітымнасьцю ўлады.

Мы дамагаемся, дзейнічаем, апэлюем да беларускага грамадзтва, да ўсіх палітычных сілаў аб правядзеньні новых, нечарговых выбараў Прэзыдэнта краіны пад пратэктаратам міжнародных арганізацыяў.

Гэтая наша пазыцыя і палітычная задача лягічна вынікае з сэнсу непрызнаньня выбараў за справядлівыя, законныя і дэмакратычныя. Мы шукаем падтрымкі міжнароднай супольнасьці.

Пытаньне аб новых нечарговых выбарах Прэзыдэнта мы павінны ставіць усюды, увесь час, паўсюдна і пастаянна; шукаем у гэтым разуменьня, спрыяньня і прыхільнікаў. Дзеля пашырэньня і падтрымкі гэтай задачы мы павінны праводзіць унутраную і зьнешнюю палітычную дзейнасьць, распрацаваць канкрэтныя захады і мерапрыемствы.

Было б карысна зыходзіць з таго, што спад актыўнасьці і апатыя, якія зараз ёсьць у грамадзтве, маюць часовы і неглыбокі характар. Апатыя мусіць скончыцца, калі зьявяцца добрыя ідэі і актыўныя людзІ, што стануць дзейнічаць.

Дзеля падрыхтоўкі ўздыму і зьяўленьня актыўных людзей цяперака, у пэрыяд апатыі, неабходна рыхтаваць глыбокі ідэйны і кансалідацыйны грунт новага змаганьня. Глыбокі грунт можна стварыць толькі на аснове духоўных і гуманных нацыянальных каштоўнасьцяў народа, ягонай гісторыі, культуры, навукі, грамадазнаўства і краязнаўства, мастацтва, філясофіі і гісторыі ідэй. І галоўнае – на падставе прыярытэту беларускай мовы і незалежнасьці Беларусі.

Такая рэчаіснасьць. Мы мусім гэта рабіць, бо рэжым робіць адваротнае. Мы мусім пачынаць з простага, з нацыянальнай асьветы і падняцьця агульнай палітычнай культуры і нацыянальнай сьведамасьці людзей, з асьветы беларускіх нацыянальных элітаў. Мы мусім на нейкі час зноў вярнуцца да клясычнага лёзунгу нацыянальнага Адраджэньня: праз асьвету – да свабоды.

Калі мы гэтага ня станем рабіць, то зноў і зноў будзем пераконвацца, што немагчыма ажыцьцявіць ніякай палітычнай канцэпцыі беларускага вызваленьня і дзяржаўнага будаўніцтва, бо няма з кім яе ажыцьцяўляць. І тады на паверхню заўсёды (як гэта й было) усплывуць актыўныя дурні і паўглоўкі, ідыёты, якія будуць казаць, што каб узяць уладу, трэба перайсьці на „рускі язык”, не выступаць супраць Расеі, абяцаць усё даць, а потым усё зрабіць пасвойму.

Акупацыйная сытуацыя, адсутнасьць штодзённай беларускай інфармацыі вымушае нас карэктаваць сваю дзейнасьць. Мы павінны распрацаваць механізм палітычнага нацыянальнага асьветніцтва, удасканаліць ужо існуючую сістэму, выкарыстаць структурную падвойнасьць нашага Руху (Партыя і Фронт).

Яшчэ ў 2000-м годзе мы распрацавалі ў агульных рысах праграму палітычнай дзейнасьці *Беларуская Салідарнасьць*, заснаваную на ідэі кансалідацыі людзей і кансалідацыі супраціўленьня акупацыйнай палітыцы на аснове беларускіх каштоўнасьцяў. Трэба грунтавацца і кансалідавацца на тым, што зьнішчаюць нашыя непрыяцелі. А гэта – усё беларускае: незалежнасьць, мова, гісторыя, школьніцтва, літаратура, ідэі змаганьня, вялікія людзі, нацыянальная маёмасьць, зямля, прырода, тэрыторыя, песьні, нацыянальная валюта, нацыянальная эканоміка і г.д.

Галоўнае, каб нашыя людзі разумелі, што ўсё гэта – адно, што яно існуе разам, непадзельна ад нас. Трэба спрыяць вызваленьню сьвядомасьці ад савецкага ідыятызму, меркаваньняў, тыпу „главнае – экономіка, а язык – не важна”. Нічога нельга страчваць, нічога нельга занядбаць, што нашае, народнае і сваё.

Зь *Беларускай Салідарнасьцю* добра каардынуецца *Беларуская нацыянальная ідэя*, што вядзе да незалежнасьці і свабоды.

Мяркую, што нам трэба прыняць ідэю *Беларускай Салідарнасьці* як працяг канцэпцыі *Вызвольнага Руху*, у рэчышчы якога мы дзейнічаем, як палітычна асьветніцкую праграму дзейнасьці ў цяперашніх умовах. Па ходу працы мы ўдасканалім, пашырым і дапрацуем яе, зьвяжам з масавымі мерапрыемствамі і грамадзкімі акцыямі, з нагляднай агітацыяй і асэнсаваньнем падзеяў, з нашай інфармацыяй і публіцыстыкай, прыцягнем у Фронт і загітуем беларускія грамадзкія сілы. Гэта дапаможа нам у палітычным змаганьні за нечарговыя выбары, за вольную і незалежную Беларусь, што застаецца галоўным зьместам нашае партыйнае дзейнасьці.

Заўважу, што эліта тых нацыяў, якія перажылі пэрыяд Адраджэньня і вызваленьня з-пад прыгнёту імпэрыі, якраз добра разумее нашу бяду. Нядаўна я размаўляў з удумлівым рэдактарам адной добрай польскай газэты. Ён выказаў думку: „Уся ваша бяда ў сла-

бой нацыянальнай сьведамасьці беларусаў. Вы нічога не дасягнеце палітычна, калі ваш народ застанецца на такім узроўні. Вы павінны пачаць з простага – з напісаньня кніжкі „Я ёсьць беларус”.

І хоць парада спазьнілася гадоў на 150, але, тым ня менш, дарагія сябры, спадарыні і спадары, мы, сапраўды, нічога не дасягнем, калі нашае грамадзтва, у тым ліку і нашая (ці нібыта нашая) эліта застанецца на такім, як цяпер, узроўні нацыянальнай сьведамасьці.

* * *




***96. Дэманстрацыя ў абарону беларускай мовы ад вынішчэньня рэжымам. Пінск. КХП-БНФ.***

У нашай палітычнай працы мы павінны ўважліва цікавіцца нямецка-расейскай дыпляматыяй і ўсімі ініцыятывамі, што ідуць ад АБСЭ. Адбываецца прыватызацыя гэтай міжнароднай арганізацыі ў адных (нямецкіх) руках і выкарыстаньне ў адных адпаведных інтарэсах.

Кіраўніком Місіі АБСЭ ў Менску зноў прызначаюць нямецкага дыплямата. Кіраўніком Парляманцкай Асамблеі АБСЭ нядаўна прызначана немка Цадт. Аналягічная сітуацыя ў Эўрапарляманце.

Каардынацыя дзейнасьці Віка з рэжымам Лукашэнкі супраць нацыянальна-вызвольных сілаў Беларусі ў мяне не выклікала сумненьня. Заўважана, што як толькі мы падымалі пытаньне пра антыбеларускую дзейнасьць Ганса Віка, адразу ж усьлед выступала Міністэрства замежных справаў (альбо Лукашэнка) з пагрозамі Віку. Яны тут жа адцягвалі ўвагу на сябе і нічога не рабілі. Вік, адпаведна, паўставаў пакутнікам за дэмакратыю, на якога яшчэ і Фронт нападае. Маўляў, ну, ведаеце, так вось яно, крайнасьці, несур’ёзна і г.д. Гэты мэханізм працаваў, як гадзіньнік, на працягу апошніх двух гадоў.

Прытым сам спадар Вік не цырымоніўся ў цынічных выказваньнях. Напрыклад, у канцы мінулага года БДГ зьмясьціла інтэрв’ю зь ім. Журналіст пытаецца:

– Вы супрацоўнічаеце ня толькі з МЗС, але і з усімі дзяржаўнымі ўстановамі... Як вы будзеце працаваць з прэзыдэнцкай адміністрацыяй, КГБ?

– Ня маю нічога дадаць, – адказвае Вік. – Адна справа – прамовы на публіку, іншае – рэальнае супрацоўніцтва. Сур’ёзна можна казаць толькі пра прагматычны эфэкт.

Камэнтар, як кажуць, непатрэбны.

* * *

Мяркую, што прыярытэтамі нашай грамадзка-палітычнай дзейнасьці павінны заставацца таксама агульнанацыянальныя сьвяты, падзеі і даты, Чарнобыльская праблема (у палітычна-тэарэтычным асэнсаваньні) і Курапаты.

Курапатам неабходная штодзённая ўвага. Народны Мэмарыял, які мы пачалі ствараць у 2000 годзе, мусіць рабіцца ў гэтых абставінах хутка і кожны дзень. Добра, што сьцеражэ яго цяпер і даробляе беларуская моладзь. Барацьба за захаваньне Курапатаў супраць будаўніцтва аўтастрады не павінна спыняцца.

* * *

У заключэньне я хачу выказаць сваю падтрымку і ўслаўленьне нашым гераічным сябрам і сяброўкам, тым, якія ахвярна і мужна змагаліся з рэжымам, з гарыламі рэжыму, з нягоднікамі ды бандытамі, тым, якія фізічна пацярпелі ад нападаў. Гэта найперш спадарам Беленькаму, Юхо, Аўгустыну, Анцыповічу, Папкову, Раманцову ды Плешчанку, спадарыням Раманенка, Рабянковай, Захарэвіч, Дзягілевай, Місько, сотням тых, хто за гэтыя два гады быў арыштаваны, адсядзеў у ізалятары, быў асуджаны, падвяргаўся допытам і штрафам. Нічога ня будзе забыта: ні праца, ні пакуты, і нічога не змарнуецца, што аддадзена за справядлівасьць і волю, што пакладзена, ахвяравана на алтар нашай дарагой і любімай Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

*16 сьнежня 2001 г. Варшава-Менск*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Нраоднага Фронту „Адраджэньне”***



***97. Аршанскія Адраджэнцы. Група Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. 2001 г.***

# БЕЛАВЕЖСКІЯ ПАГАДНЕНЬНІ – АЛМА-АТА

Дзесяць гадоў таму зруйнавалася ўлада камуністаў і разваліўся СССР. 25-га жніўня 1991 года мы вярнулі незалежнасьць Беларусі. Потым, 19-га верасьня, вярнулі на дзяржаўны пасад Беларускі сьцяг і Беларускі гэрб *Пагоня*.

Але яшчэ фармальна існаваў СССР, прэзыдэнт Гарбачоў, савецкая армія. Зразумела, што гэтакае становішча нельга было доўга цярпець, бо яно магло б стаць прычынай збройнага каляніяльнага канфлікту і крывавай вайны.

У сытуацыі, калі тры асноўныя краіны Савецкага саюзу – Расея, Украіна, Беларусь – аб'явілі пра незалежнасьць, то Савецкі саюз фармальна мусіў быць ліквідаваны. Гэта неабходнасьць. Нельга было пакідаць ніякіх праўных зачэпак для каго б там ні было, хто б мог такое становішча скарыстаць.

Прытым само становішча тады, пасьля правалу маскоўскага путчу і страты аўтарытэту Гарбачовым, спрыяла разьвязцы. Варта толькі было, як кажуць, своечасова працягнуць руку.

Таму нічога дзіўнага, што Ельцын і Краўчук дамовіліся.

Я называю ў першую чаргу гэтыя дзьве асобы, бо ў мяне склалася ўражаньне, што ініцыятарамі былі найбольш якраз яны. Два беларускія кіраўнікі – С.Шушкевіч і В.Кебіч – былі менш інфармаваныя. Але тое, што рашэньне аб ліквідацыі СССР было прынятае ў Беларусі, у спэцыяльнай, аддаленай ад сталіцы рэзыдэнцыі ў Белавежскай пушчы, гаворыць пра тое, што Ельцын і Краўчук не сумняваліся ў пазыцыі беларускіх кіраўнікоў.

Савецкі Саюз тады ўжо практычна паміраў. Гадзюка мусіла ськінуць сваю скуру. Адначасна гэта быў лягічны ход і дзеля замацаваньня ўлады посткамуністычнай намэнклятуры, і дзеля таго, каб пазьбегнуць грамадзкіх ускладненьняў. Ліквідацыя СССР, што для нас больш важна, адчыніла магчымасьці для ўмацаваньня незалежнасьці Беларусі.

Дэклярацыя пра стварэньне СНД хавала, аднак, вялікую небясьпеку для будучыні. Бо расейская палітыка, рана ці позна, мусіла б вярнуцца на свае імпэрскія пазыцыі, і тады СНД маглі б скарыстоўваць як новую форму націску на незалежнасьць свабодных краінаў.

Тэкст Белавежскага пагадненьня заключаў у сабе шмат небясьпечных двухсэнсоўнасьцяў і старых савецкіх уяўленьняў. Тут і пра агульную эканамічную прастору, і пра армію і агульную бясьпеку, і пра аб'яднаньне на новым узроўні і г.д. (Нездарма потым на гэта спасылаўся Лукашэнка.)

Усё аднак можна было патлумачыць патрабаваньнямі пэўнай дыпляматычнасьці, мяккасьці пры ажыцьцяўленьні асноўнай задачы – пазбаўленьня ўлады Гарбачова, лагоднага дэмантажу СССР і канцэнтрацыі ўлады ў руках посткамуністычнай намэнклятуры.

У гэты пэрыяд (каб дасягнуць галоўных мэтаў) Ельцын мог гаварыць усё, што заўгодна, аж да знакамітай фразы, тыпу: „Бярыце столькі суверэнітэту, колькі здолееце панесьці" і г.д.

Але потым, калі ўлада ў Маскве стабільна вызначылася б, то ўзьнікла б іншая сытуацыя і іншая палітыка, якая пачала б скарыстоўваць СНД у сваіх інтарэсах. (Так яно потым і сталася.)

У сьнежні 1991 года можна было б дамагчыся таго, чаго дасягнулі Балтыйскія краіны – поўнай незалежнасьці, не зьвязанай ніякімі абавязкамі з СНД.

Зразумела, што беларуская савецкая ўлада была непадрыхтаваная да поўнай і раптоўнай незалежнасьці. Намэнклятура паводзіла сябе так, быццам спадзявалася, што вернецца яшчэ Савецкі саюз. Але гісторыя зноў давала нам выключны шанс, і трэба было хоць бы засяродзіць увагу людзей на магчымасьцях.

На наступны ж дзень пасьля Белавежы я напісаў артыкул у *Зьвязду* (надрукаваны 11-га сьнежня), дзе зьвярнуў увагу на двухсэнсоўнасьць гэтых тэкстаў і формы СНД у будучыні, на скрытнае блефаваньне Масквы і засьведчыў, што наш шлях мусіць быць – поўная незалежнасьць Беларусі не ў СНД, а ў асяроддзі незалежных эўрапейскіх дзяржаваў.

На мой погляд, адразу пасьля так званага „нулявога варыянту" і разьлічэньня з СССР, Беларусі трэба было выйсьці з СНД і пераарыентавацца на Захад. Гэтыя працэсы (пераарыентацыя на Захад) тады пачалі ўжо добра складвацца. Але разьвіць іх не ўдалося, бо дзеля гэтага трэба было перамяніць старую ўладу. Старая ўлада, аднак, аказалася мацнейшай за грамадзтва.

* * *

Адразу пасьля пагадненьня ў Віскулях пра ліквідацыю СССР Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў гэтыя дакуманты. Намэнклятура тут мела свае інтарэсы: хацела замацаваць сваю ўладу, а мы – Народны Фронт – хацелі замацаваць незалежнасьць Беларусі.

У Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце мы прынялі рашэньне поўнасьцю падтрымаць Белавежскія пагадненьні і вялі агітацыю за ратыфікацыю дакумантаў.

Большасьць дзейнай намэнклятуры дэпутатаў Вярхоўнага Савету і членаў ураду была ў разгубленасьці і нэрвовым здуменьні. Чакалі каманды.

Дарэчы, менавіта таму, што Кебіч апынуўся ў Віскулях і падпісаў дакуманты, беларуская намэнклятура дружна хіснулася за ліквідацыю СССР. (Ды й выхаду ёй не было.) Гэта зразумела, бо намэнклятурай тады фармальна кіраваў Кебіч. Але падрыхтаваў сустрэчу ў Белавежскай пушчы – Шушкевіч. (Як мне падалося, ня ведаючы, што з гэтага атрымаецца.)

Супраць ратыфікацыі выступіў і прагаласаваў у Парляманце толькі адзін чалавек – гэта кіраўнік дэпутацкай камуністычнай большасьці Валеры Ціхіня. Ягоны выступ выглядаў кур'ёзам.

* * *

Праз два тыдні перамовы па СНД і замацаваньне Белавежскіх пагадненьняў працягваліся ў Алма-Аце.

Я быў там у складзе беларускай дэлегацыі ад Апазыцыі БНФ, разам зь іншымі дэпутатамі. Пытаньне стаяла ў тым, каб працягнуць на наш бок сярэднеазіяцкія краіны і як бы „прыняць" іх у СНД на нашых умовах і канстатаваць тым самым поўнае юрыдычнае зьнішчэньне Савецкага Саюзу.

Азіяцкія дэлегацыі стаялі за тое, каб у гэтым СНД зьберагчы і пакінуць як найболей парадку ад СССР.

Сытуацыя была парадаксальная і выключная. Відаць, адзіны раз у гісторыі мы, беларусы, дыпляматычна змагаліся за незалежнасьць ад СССР разам з расейцамі супраць азіятаў (якіх расейцы некалі заваявалі). Адным словам, знарок і не прыдумаеш.

Пытаньне было вырашана, вядома, на ўзроўні кіраўнікоў краінаў (у Алма-Аце былі тады ўсе: і Ельцын, і Краўчук, і Назарбаеў, і Кебіч з Шушкевічам і іншыя), але дыскусія на перамовах *паміж дэлегацыямі* была вельмі зацятай. Нарэшце, і там

нам удалося пераканаць азіяцкіх прадстаўнікоў у неабходнасьці свабоды і разьвітаньня з Савецкім Саюзам. Хаця фармальна і зрабілі ім некаторыя дробныя саступкі.

Калі я зараз гэта ўспамінаю і назіраю, што там робіцца, то іранізую – паспрабуй загані цяпер азіяцкія рэжымы ў Савецкі Саюз.

Ёсьць, праўда, адзін начальнік, які туды хоча, але ён жыве не ў Сярэдняй Азіі, і бальшыня яго не разумее.

* * *

Далейшыя падзеі, пасьля Белавежскіх пагадненьняў, пацьвердзілі, што для беларускай савецкай намэнклятуры галоўны клопат быў не ў будаўніцтве Беларускай дзяржавы, а ў захаваньні сваёй улады, і потым – у скарыстаньні яе ў сваіх інтарэсах.

Пасьля 1918 года ніколі не было такога шансу для Беларусі, як ў 1991 годзе. Народны Фронт скарыстаў яго, як кажуць, на дзьвесьце працэнтаў: дамогся незалежнасьці Беларусі, спыненьня дзейнасьці КПСС і камсамола, усталяваньня беларускіх дзяржаўных сымвалаў, стварэньня беларускага войска, адчыненьня беларускіх школаў і г.д.

Але ўлада засталася ў руках посткамуністычнай намэнклятуры. Тады, у 1991 годзе, яна была, практычна, поўнасьцю незалежнай ад Масквы. І што ж зрабілі гэтыя людзі са сваёй намэнклятурнай свабодай?

У страху перад актыўнасьцю Беларускага Народнага Фронту, баючыся страціць уладу, яны зноў пасунуліся ў Маскву шукаць падтрымкі. Там іх і чакалі. Парадокс, горш за азіяцкі ў Алма-Аце, пра што я толькі што расказваў.

У асяроддзі беларускай савецкай намэнклятуры, у руках якой засталася ўлада ў краіне пасьля ліквідацыі СССР, не знайшлося ніводнай моцнай энэргічнай асобы, якая хоць бы проста мела індывідуальную волю да ўлады, хацела б быць свабоднай і незалежна камандаваць. Імкненьне да ўлады ў іх заўсёды завяршалася жаданьнем служыць Маскве, быць нібыта незалежнымі і адначасна выконваць маскоўскія загады, каб ні за што не адказваць.

Так праяўляецца савецкі чалавек („савок”) у беларускім намэнклятурным варыянце. Сутнасьць іхнай псіхалёгіі: кіраваць і не адказваць. Гэтай псіхалёгіі яны трымаюцца па сёньняшні дзень.

Тут не знайшлося ні сваіх ельцынаў, ні назарбаевых, ні нават сваіх шэварнадзэ ды аліевых. Шлях да ганебнай крымінальнай аўтарытарнай улады, якую яны цяпер атрымалі і якую падрыхтавалі, быў цалкам імі абумоўлены.

* * *

Гэта ўсё фармулёўкі, бязьлітасныя дэфініцыі, якія вынікаюць з ходу палітычнай рэальнасьці, якія, магчыма, раняць жывых людзей, удзельнікаў трагічнай драмы, ператворанай імі ў фарс.

З усіх людзкіх дачыненьняў няма нічога вышэйшага, важнейшага і цяжэйшага за палітыку, калі трэба ўлічваць неабходнасьць і абавязкі, асабістае і народнае, калі трэба прымаць рашэньні і будаваць паводзіны зь непрыяцелем, гледзячы чалавеку ў вочы і адчуваючы, што ён, як і ты, – чалавек. Але, як я пераканаўся, палітыка, як і гісторыя, ня мае ўмоўнага ладу. Урэшце рэшт, заўсёды выбар: альбо – альбо. Але людзкае – заўсёды людзкае.

Памятаю адлёт з Алма-Аты вечарам. Пасьля разьвітальнай вячэры (выключна для кіраўнікоў) ў самалёт заходзяць Кебіч з Шушкевічам і весела рагочуць.

– Што такое? – пытаемся.

– Мы падтрымалі Расею. Ха-ха-ха.

– Рассію паддзержалі, во как!

– Як?

– А так: падтрымалі Расею. И очень вовремя, – сямяюцца „развальшчыкі СССР”.

Аказваецца, на вячэры Ельцын устаў за сталом ва ўвесь рост, каб сказаць чарговы тост за Расею. Але не разьлічыў сілы, і раптам гэтак роўненька, як посах Будды, пачаў адхіляцца ад вертыкалі і падаць назад, патыліцай на паркет. Кебіч і Шушкевіч, якія стаялі побач, зрэагавалі імгненна і падхапілі Ельцына ў палёце.

Так былі выратаваныя Белавежскія пагадненьні, „падтрымана Расея” і СНД.

У самалёце настрой прэм’ера і сьпікера стаў яшчэ лепшым. Кебіч жартаваў, расказваў анекдоты, сьмяяўся, куляў чарку і раптам хораша засьпяваў беларускую народную песьню, добрым голасам.

Для мяне гэта стала нечаканасьцю і выклікала перажываньні. (Я таксама люблю сьпяваць беларускія песьні.) Аказваецца, і ў Кебічы, пэўна, гэтак жа, як і ў Дземянцеі ці ў Шаладонаве, ці шмат у каго з гэтай духоўна прыгнечанай савецкай намэнклятуры, яшчэ ліпеў, мадзеў далёка ў падпольлі, на дне, страчаны беларус, які так і не ўзышоў на паверхню жыцьця, з падзямельляў душы.

Потым, у „незалежнай” палітыцы беларускай намэнклятуры нарадзіўся (як і трэба было чакаць) круты паварот у Маскву, у „калектыўную бясьпеку”, да аб’яднаньня расейскай і беларускай грашовых сістэмаў і г.д. Лукашэнка толькі прадоўжыў, давёў да абсурду гэтую палітыку кебічаўскіх дзеячоў.

Яшчэ ў 1991 годзе нам, дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Народнага Фронту, было абсалютна, адназначна і відавочна зразумела поўная нацыянальная беспэрспэктыўнасьць, „кончанасьць” беларускай камуна-савецкай намэнклятуры для беларускага нацыянальнага Адраджэньня. Тут не было ў нас ніякіх ілюзіяў. Ніхто з нас не плянаваў зь імі рабіць нешта дрэннае ці выганяць з працы (яны добрыя выканаўцы), але у выпадку перамены ўлады ніхто з нас нават думкі не дапускаў, што камуна-савецкая намэнклятура будзе займаць першыя месцы ў дзяржаве (прэм’ер, сьпікер, ня кажучы ўжо пра прэзыдэнта).

Тым часам пасьпяхова змагацца з рэжымам акупацыйнай дыктатуры можна толькі на ўзроўні нацыянальнага адзінства, заснаванага, перш за ўсё, на беларускай ідэі, на духоўных і культурных народных здабытках ды на агульным дабры.

Нацыя адзіная, калі ўсімі паважаюцца агульныя нацыянальныя каштоўнасьці і ўсьведамляюцца нацыянальныя інтарэсы.

Але на Беларусі захаваўся стары каляніяльны канфлікт паміж уладай і нацыяй. І нават Белавежскія пагадненьні і ліквідацыя СССР не паўплывалі рашуча на гэты звырадненлы каляніяльны рэлікт.

Прычыны дэфармацыі вядомыя. Іх трэба ліквідаваць сёньня і заўтра – увесь час: праз асьвету – да свабоды; праз культуру – да Бацькаўшчыны.

Белавежскія пагадненьні паказалі, як важна быць унутрана падрыхтаванымі да пераменаў.

Перамены чакаюцца зноў. Гэта відавочна. І нам, беларусам, трэба не чакаць, а рыхтавацца да іх праз пазнаньне сябе, праз усьведамленьне нашага супольнага дабра і агульнай беларускай справы. Нават вельмі нядаўняя гісторыя вучыць нас гэтай праўдзе.

* * *

Калі я ўжо напісаў гэтыя пабежныя ўспаміны, трапіўся мне на вочы артыкул у *Народнай Волі (11.XII.2001)* пад назвай „Віскулі". Аўтар (Леанід Лыч) усур'ёз апісвае СНД як рэальную „больш дэмакратычную і гнуткую сістэму" „ўсебаковай садружнасьці", наіўна мяркуючы, што стварэньне СНД і было мэтай Белавежскіх пагадненьняў, і калі б, маўляў, правілаў СНД прытрымліваліся, то было б усё добра.

Усю наступную постсавецкую палітыку аўтар артыкула лічыць „адступленьнем ад вызначанага ў Віскулях курсу" і ад мэтаў СНД і пастаянна пра гэта паўтарае, як некалі верныя ленінцы лічылі недахопы камунізму адступленьнем ад ленінскіх запаветаў. (Школа думаньня – вялікая справа.)

А потым ідзе пасаж, які варта працытаваць поўнасьцю, бо да такога яшчэ ніхто не дадумаўся.

Мне прыйшлося пачуць і прачытаць столькі непраўдзівых і фантастычных выказваньняў ў свой адрас, як, бадай, нікому зь беларусаў за апошнія сто гадоў. Я думаў, што мяне ўжо нічым ня зьдзівіш, аж аказваецца, часам можна яшчэ й зьдзівіцца.

*„З роспускам СССР пагаджаліся,* – піша Леанід Лыч, – *створанае СНД публічна ўхвалялі ўсе. Калі ў тыя „сьнежаньскія гарачыя дні" хтосьці і выступаў супроць, дык гэта быў Народны Фронт і ягоны лідар Зянон Пазьняк. Ён лічыў падзею ў Віскулях палітычнай гульнёй, а сам дагавор аб эканамічнай супольнасьці – блефам, эканамічным абсурдам. „Для Беларусі, – сьцьвярджаў Зянон Станіслававіч, – няма іншай альтэрнатывы, як вяртаньне на Захад, як шлях у аб'яднаную Эўропу, як незалежная дзяржаўная палітыка ў інтарэсах свайго народа." Але кола ўжо круцілася..."* і г.д. *(„Народная Воля", – 2001, 11 сьнежня)*

І мая пазыцыя, і цытата перададзены правільна, і галоўнае – усё яно стопрацэнтова пацьверджана жыцьцём, далейшым ходам падзеяў. Але аўтар навучаны думаць па-іншаму, ня можа гэтай рэальнасьці успрыняць. Зьбіліся, маўляў, з курсу. Ён шчыра думае, што ў Віскулях сабраліся, каб стварыць СНД і напісалі тэкст (у значнай частцы заведама нерэальны), каб яго потым прытрымлівацца як праграмы паводзінаў на будучыню, ў пабудове СНД.

Усе гэтыя туркмэн-башы, аліевы, карымавы ды іншыя калгасьнікі зьявіліся, відаць, ад таго, што не прытрымліваліся СНД, запаветаў, прыдуманых у Віскулях.

Тэкст у Віскулях (мушу зноў паўтарыцца) узьнік дзеля пераразьмеркаваньня ўлады і свабоды. Ён даў магчымасьць кожнаму змагацца за сваё: нам, адраджэнцам і дэмакратам, – за свабоду; ім, намэнклятуры – за ўладу. Перамагла ўлада. (Пакуль што перамагла, бо барацьба працягваецца.) Пры гэтым умоўнасьць СНД імкнулася скарыстаць выключна Расея, каб мець рычагі ўплыву на іншыя краіны (што вызваліліся з СССР). Зразумела, навошта ей гэта патрэбна.

Мноства людзей піша пра палітыку, гледзячы тэлевізар і чытаючы газэты, часта нават ня маючы ўяўленьня пра палітычнае асяроддзе, дачыненьні, дакуманты і рэальнасьць. Пісаць не забароніш, нават калі пішуць, што Пазьняк змагаўся за СССР. (Хто ж на гэта стане сур'ёзна адказваць.)

Але навошта тады я тут усё гэта кажу? А справа ў тым, што дайшло да поўнага абсурду. Мае сябры так закруціліся „ў разуменьні палітыкі", што больш аб'ектыўна ўжо пішуць непрыяцелі. Нават лютыя ворагі будуць больш праўдзівымі і ніколі ня ўблытаюць мяне ў Савецкі Саюз. Бо гэта мяжа іхняе праўды.

Што адбываецца з вамі, братове, на скрыжаваньні, – хочацца задаць рытарычнае пытаньне сябрам (шмат каму), калі б толькі я не разумеў, што адбываецца.

Трымайцеся, не паддавайцеся ўдарам лёсу і ўплывам стыхій, калі ўжо даткнулася вас наша супольная бяда, бо самае цяжкае ў палітыцы – глядзець у вочы.

*20 сьнежня 2001 г*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*(„Навіны", – 2001, сьнежань).*




***98. Дэманстрацыя 27 ліпеня ў Менску (Фота з 1997 г.).***

# 2002




**99. *Найвялікшым змаганьнем беларусаў ёсьць культура. Памнік Ф. Скарыну ў Празе.*** (Фота З. Пазьняка, 1997 г.)

# БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСІ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ЗМАГАНЬНЯ

Прайшло паўгода, пасьля фальсіфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў на Беларусі. За гэты час намі сабраны вялікі факталягічны матэрыял аб парушэньнях выбарчага Закону і элемэнтарных провоў асобы ў час выбараў. Факты, характар парушэньняў і маштаб беззаконьня ўражваюць.

На што зьвяртаеш увагу і што шакуе – гэта зладжаная праца шматтысячнага дзяржаўнага і грамадзкага апарату фальсіфікацыі і гвалту над выбаршчыкамі. Выключэньняў амаль не было. Велізарная зграя чыноўнікаў, міліцыі, грамадзкіх паслугачоў рэжыму і КГБ дружна і адкрыта душылі ўсё, што законнае, вольнае, нармальнае і беларускае. Душылі груба і апантана, зьневажаючы годнасьць, як гэта рабілі б людзі, сьведама павязаныя адзінай ідэяй крымінальнай улады, якой гатовыя служыць да астатку.

Чынавенства, каляніяльная намэнклятура, што засталіся на Беларусі з савецкіх часоў, яшчэ раз выразна паказалі, што яны сабой уяўляюць і чаго ад іх можна чакаць пры любой уладзе.

Лукашэнка і рэжым на Беларусі здабылі галоўную мэту, да якой імкнуліся: пакінулі за сабой уладу і захавалі статус-кво. Тым часам рэжым, практычна, поўнасьцю праваліў другую задачу – легалізацыю ўлады, прызнаньне выбараў за сапраўдныя.

Тым ня менш з усіх палітычных сілаў, што фігуравалі на выбарах, рэжым сваімі мэтадамі дасягнуў рэальных вынікаў.

Пацярпела фіяска нямецка-расейская палітыка (якую ўзначальваў Ганс-Георг Вік), накіраваная на прызнаньне і легалізацыю рэжыму Лукашэнкі. Пачынаючы з 1998 года, рэжым умела гуляў зь Вікам, пакуль яму трэба было (пры дапамозе немцаў і заходніх лібэралаў) разваліць Беларускі Народны Фронт і зьнішчыць Беларускае Адраджэньне. Але пасьля таго, як сумеснымі намаганьнямі Фронт быў аслаблены і не дапушчана стварэньне беларускай альтэрнатывы на выбарах прэзыдэнта, Лукашэнка спыніў гульню зь Вікам і зрабіў выбар у карысьць захаваньня ўлады любымі мэтадамі.

Тым часам абмежаваная назіральная Місія АБСЭ, што прыехала назіраць за выбарамі ў Менск, прывезла (пад уплывам Віка) фармулёвачныя нарыхтоўкі, накіраваныя на прызнаньне выбараў і легалізацыю прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі. Аднак фальсіфікацыя выбараў была праведзеная Лукашэнкам настолькі вульгарна, груба і „дубаломна" (дасталося і міжнародным назіральнікам, і АБСЭ), што прызнаць выбары не рашыліся. Місія заявіла пра недэмакратычнасьць выбараў, а ў астатнім выказала нейкае бэлкатаньне з набору супярэчлівых фразаў (пра ліквідацыю ізаляцыі рэжыму і г.д.).

Тым ня менш Віка зь Беларусі выкінулі і загадалі ў краіну не пускаць. Фіяска гэтага мацёрага разьведчыка на дыпляматычнай ніве ў Беларусі, як сказалі б палякі, было „мяджонцэ і друзгоцонцэ". Нацыянальна-дэмакратычная апазыцыя (Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ) абʼявілі яго пэрсонай нон-грата за антыбеларускую дзейнасьць на Беларусі, а рэжым Лукашэнкі яго скарыстаў і выкінуў. (Увогуле, як мяркуюць некаторыя палітыкі, Ганс Вік падлягае адказнасьці па беларускіх законах.)

Наступнай палітычнай сілай на выбарчай арэне фігуравала так званая „абʼяднаная апазыцыя", створаная Гансам Вікам з камуністаў, сацыял-дэмакратаў, прамаскоўскіх лібэралаў (АГП), некаторых агентурных утварэньняў (Хартыя-97) і выхадцаў з БНФ, што адракліся ад Беларускай нацыянальнай ідэі.

Гэтая апазыцыйная група не была (і не магла быць) самастойнай па той прычыне, што поўнасьцю залежыла ад фінансаваньня заходніх лібэральных фондаў і маскоўскіх таемных „уліваньняў", адпаведна – стала прыладай чужой палітыкі, найперш нямецка-расейскай і вікаўскага пляну пакрокавай легалізацыі рэжыму Лукашэнкі праз ілюзію дэмакратычных выбараў.

Гэткім чынам быў абʼяўлены і прафінансаваны лёзунг „грамадзянскай кааліцыі" і паднятая наверх старая прамаскоўская камуна-савецкая намэнклятура ў якасьці кандыдатаў на прэзыдэнта. Стварылі такую сітуацыю, калі беларускаму народу не было выбару. З аднаго боку – прамаскоўскі антыбеларускі бясплодны Лукашэнка. З другога – таксама прамаскоўскі і бясплодны былы савецкі прафсаюзьнік і член бюро ЦК КПБ-КПСС Ул. Ганчарык, на фоне якога Лукашэнка выглядаў спарцмэнам-героем. У выніку – найдзічэйшая фальсіфікацыя і варварства пры галасаваньні не сустрэла грамадзкага супраціву. За каго было беларусам змагацца? За камуністычнага мастадонта Ганчарыка?

Адразу пасьля выбараў і „элегантнай перамогі" Лукашэнкі кандыдат на прэзыдэнта Ганчарык едзе працаваць у Маскву. Там пра яго не забыліся, прапанавалі цёплае месца намесьніка кіраўніка расейскіх прафсаюзаў. У Маскве ён цяпер працуе і жыве. Справа зробленая.

„Абʼяднаная апазыцыя" (пра якую Лукашэнка сказаў, што калі б яе не існавала, то яе трэба было прыдумаць) выканала ў гэтай сітуацыі сьведамую ролю палітычнага сьмецьця, гною, на якім вырошчвалі нямецка-расейскае палітычнае пустазельле.

Пасьля „выбараў", выкананьня функцыі (і зьніжэньня фінансаваньняў) „абʼяднаная апазыцыя" практычна зьнікла з фразэалягічнага ўжытку.

Цяпер пра стан галоўнай беларускай сілы і галоўнай нацыянальнай надзеі – пра Беларускае дэмакратычнае Адраджэньне і Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух.

Трэба сказаць, што пасьля ўдару, які нанесьлі па Беларускім Народным Фронце ў 1999 годзе і адыходу ў вікаўскую „апазыцыю" шэрагу фронтаўскіх структураў і асобаў, Беларускае дэмакратычнае Адраджэньне аслабела, яно страціла форму масавага руху, якім было раней, але захавала патэнцыяльныя магчымасьці (пры гэтым – вельмі вялікія). Менавіта на гэта разьлічаная была спроба актыўнага ўдзелу Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай апазыцыі ў выбарчай кампаніі 2001 года па выбарах прэзыдэнта.

Гэта выдатна разумелі і Лукашэнка, і Масква, і яе нямецкія саюзьнікі. Пераламаць сытуацыю нам тады не ўдалося.

Цяпер, у сувязі зь непрызнаньнем выбараў і нелегітымнасьцю ўлады Лукашэнкі, Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ прынялі рашэньне дамагацца новых выбараў прэзыдэнта ў Беларусі пад міжнародным пратэктаратам. За аснову кансалідацыі сілаў прынята Праграма *Беларуская Салідарнасьць*.

* * *

Палітычная сітуацыя пасьля фальсіфікацыі выбараў пачынае разьвівацца даволі драматычна. Галоўны націск у захопе Беларусі Масква пачынае рабіць не на фармальна-палітычнае абʼяднаньне і гандаль з Лукашэнкам, а на пакрокавае прыўлашчваньне беларускай эканомікі і нацыянальнай

маёмасьці, на захоп нашай краіны эканамічнымі мэтадамі (*дэфакто*), абмінаючы Лукашэнку.

За гэты час Масква і яе агентура ў Беларусі навязала сьціслыя кантакты з дырэктарамі беларускіх прадпрыемстваў, стварыла ў дырэктараце сваё лёбі, агентуру, прыхільнікаў і стаўленьнікаў. (Гэта нескладана было зрабіць, бо савецкі дырэктарат на Беларусі і так быў прамаскоўскі.) Масква пачала захоп беларускіх прадпрыемстваў за плячыма Лукашэнкі, уступаючы ў кантакты непасрэдна з прадпрыемствамі і дырэктарамі.

Лукашэнка зразумеў: тое, што ён увесь час дорага хоча прадаць оптам (гэта значыць, Беларусь), маскоўцы імкнуцца скупіць па кавалачках за яго плячыма. І калі гэта зробяць, то ён застанецца зь нічым (і нікім). Рэакцыя настала хуткая. Дырэктараў пачалі арыштоўваць і саджаць.

Трэба разумець, што тут грызьня гіенаў, дзьвюх прамаскоўскіх антыбеларускіх групаў. Грызуцца за маёмасьць, лёс і цела Беларусі. Агентурная журналістыка сьведама хоча паказаць дырэктарат як апазыцыю Лукашэнку, а арышты – як расправу з гэтай „апазыцыяй". Але трэба ведаць, хто піша і дзеля чаго пішацца. Дырэктарат – гэта не апазыцыя рэжыму, ніколі ня быў і ня будзе апазыцыяй. Бо для гэтага трэба мець беларускае сэрца, абараняць нацыянальныя інтарэсы і перажываць за Беларусь.

Можна прадбачыць, што грызьня будзе павялічвацца. Выхаду ў Лукашэнкі няма – будзе кусацца. У пэрспэктыве можа выйграць Расея, бо беларуская эканоміка тады ўпадзе зусім (спыніцца), і расейскі крымінальны капітал захоча забраць яе задарма.

На захад Лукашэнка ня пойдзе (можа толькі пагуляць зь ім), гэта відавочна і зразумела. Стаўка на Беларускую незалежнасьць і нацыянальную палітыку ў нацыянальных інтарэсах – выключаецца. Лукашэнка паталягічна ненавідзіць усё беларускае (ды й ня тыя людзі за яго плячыма).

Сытуацыя ў Лукашэнкі, сапраўды, безвыходная (калі немцы не дапамогуць). Што ў такім разе ён стане рабіць? – можна спытацца. Тым, хто ведае яго, адказ зразумелы: грызьці і душыць. Як казалі бальшавікі, „да пасьледняй каплі крові".

У гэтым становішчы важна арганізаваць пасьлядоўнае беларускае супраціўленьне і палітычны выхад, каб унікнуць поўнага зьнішчэньня краіны. І такая работа вядзецца. Найперш – новыя выбары прэзыдэнта. Гэта ідэя агульнанацыянальнага кшталту, канкрэтная і зразумелая для ўсіх. (Калі ўлада нелегітымная, то новыя выбары – першае, што мусіць стацца, каб вырашыць пытаньне.) Разьвіцьцё ідэі і пашырэньне яе ў канкрэтных справах павінна спрыяць накапленьню сілаў, стварэньню сытуацыі палітычнага разьвязаньня, з вызначэньнем умовы бакоў і г.д. Новыя сытуацыі створаць новыя магчымасьці. Абсалютным тут зьяўляецца толькі змаганьне. Змаганьне з антыбеларускім рэжымам за Свабоду, Незалежнасьць і Будучыню Беларусі.

*19 лютага 2002 г. Варшава*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларус, – 2002, № 470, (сакавік)*


(Фота З. Пазьняка)

**100. Моладзевая дэманстрацыя ў Варшаве перад амбасадай рэжыму.**

# ШЛЯХ АДРАДЖЭНЬНЯ

Адраджэньне – гэта ідэалёгія *Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху*, які ставіў задачу вярнуць незалежнасьць Беларусі і стварыць Беларускую нацыянальную дзяржаву. Пачатак гэтай ідэалёгіі сягае ў сярэдзіну XIX стагоддзя. Ён зьвязаны з творчай і грамадзкай дзейнасьцю ***Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча*** і потым – з паўстаньнем пад кіраўніцтвам ***Кастуся Каліноўскага***.

Погляды і рух беларускага Адраджэньня сфармаваліся як сістэмная палітычная зьява ў самым пачатку XX-га стагоддзя, пасьля стварэньня беларускай палітычнай партыі Адраджэньня, якой стала *Беларуская Сацыялістычная Грамада*. Беларускае Адраджэньне, асабліва пасьля расейскай рэвалюцыі 1905 года, разьвівалася ў рэчышчы палітычнага незалежніцкага руху і ў форме нацыянальна-культурнага асьветніцтва.

* * *

Самым галоўным гістарычным вынікам першага беларускага Адраджэньня было абʼяўленьне незалежнасьці Беларусі і спроба арганізацыі Беларускай незалежнай дзяржавы – стварэньня дзяржаўнай улады (ворганаў кіраваньня). Такім чанам першасны цыкл рэалізацыі нацыянальнай ідэі і сцьвярджэньня беларускай нацыі часткова адбыўся ў 1918 годзе. Наступным этапам павінна было стацца сістэмна-праўнае будаўніцтва Беларускай дзяржавы і стабілізацыя беларускага грамадзтва. Гэтага якраз не дазволілі ажыцьцявіць абставіны. Дзяржаўнасьць пад акупацыяй існавала ў даволі ўмоўнай, абмежаванай і дэфармаванай форме і, практычна, не разьвівалася, бо не было рэальнай незалежнасьці.

У першыя дзесяцігоддзі расейска-бальшавіцкай акупацыі беларускае Адраджэньне было, практычна, разгромленае, а ягоныя дзеячы, ў большасьці, – фізычна ліквідаваныя. Адбывалася расправа зь беларускім народам, генацыд і зьнішчэньне, практыкаваліся пачварныя зьявы. Нават мову беларускую (фактычна, забароненую) імкнуліся разбурыць і перарабіць пад расейскую акупацыйнымі дэкрэтамі.

У становішчы генацыду любая перамена, што адхіляла б прычыну генацыду, выглядала б лепшай. Такім парадоксам стала Другая Сусьветная вайна, зьмена акупацыі. Беларускі рух адрадзіўся, перажываў пэрыяд уздыму, моладзь гатовая была змагацца за свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны. Але пэрспэктывы барацьбы былі змрочнымі, бо ўсё вырашалі акупанты, і змагацца прыходзілася на два бакі. Беларусы не пасьпелі сабраць вялікай вайсковай сілы і заняць самастойнае месца ў тэатры ваенных дзеяньняў. Але галоўным палітычным чыньнікам для беларусаў, які вызначаў палітычныя паводзіны (асабліва ў канцы вайны) быў чыньнік існаваньня Рады БНР, факт арганізацыі Беларускай дзяржаўнасьці ў 1918 годзе і падтрымка ідэалёгіі нацыянальнай дзяржаўнасьці.

У другой палове 40-х гадоў была адноўлена дзейнасьць Рады БНР (якая часова прыпынілася пасьля сьмерці Прэзыдэнта ***Васіля Захаркі***). Пытаньне беларускай свабоды, незалежнасьці і вызваленьня з-пад камуна-савецкай акупацыі зноў паўстала на ўсю моц у сфэры антысавецкай эміграцыйнай палітыкі. Прысутнасьць *Рады БНР* у пасьляваеннай палітыцы стала істотным чыньнікам удзелу беларускіх эміграцыйных колаў у халоднай вайне з Савецкім саюзам.

Ідэі Беларускай дзяржаўнасьці, свабоды і незалежнасьці, дзяржаўныя сымвалы – ***Бел-Чырвона-Белы Сьцяг***, *гэрб* ***Пагоня*** *і гімн* ***(„Мы выйдзем шчыльнымі радамі”)*** – рэальна жылі толькі ў эміграцыі. У падсавецкай Беларусі яны былі, практычна, поўнасьцю задушаны і не выходзілі на паверхню з глыбокага падпольля. Складвалася ўражаньне, што беларуская нацыя ўжо не існуе, і ўсё грамадзтва ператворана ў савецкі канглямэрат.

Аднак з крызісам камунізму, які пачаў інтэнсіўна праяўляцца ў 80-х гадах, зноў узьніклі ідэі беларускага Адраджэньня, прычым у форме, у распрацоўках, у ідэалах і сымвалах *Беларускай Народнай Рэспублікі*.

Гэта ёсьць ілюстрацыя таго, што ідэі свабоды і незалежнасьці – незьнішчальныя, бо зыходзяць з абʼектыўнай неабходнасьці разьвіцьця нацыянальнага грамадзтва. Але істотна тое, што гэтыя ідэі былі ўжо сфармуляваныя, абгрунтаваныя і гістарычна рэалізаваныя, сталі чыньнікам змаганьня супраць нацыянальнага ўціску і савецкай акупацыі. Новым беларускім адраджэнцам, новаму пакаленьню ўжо ня трэба было сцьвярджаць тое, што сцьверджана раней, абгрунтоўваць тое, што было абгрунтавана. За вяртаньне дасягнутага трэба было змагацца, Беларускі Сьцяг трэба было ўзьняць, Беларускі гімн – сьпяваць. Але гэта ўсё ўжо існавала, гэта ўсё ўжо было.

Больш таго, дзякуючы стварэньню *Ўрада БНР* і абʼяўленьню незалежнасьці Беларусі, расейскія бальшавікі вымушаныя былі пагадзіцца на стварэньне марыянэткавай дзяржавы БССР з фіктыўным суверэнітэтам і самастойнасьцю, але з рэальнымі ўрадавымі і ўпраўленчымі структурамі, якія былі, па сутнасьці, каляніяльнай адміністрацыяй, але, тым ня менш, грамадзтва мела сістэму арганізацыі па ўзору дзяржаўнага кіраваньня. Гэта аблегчыла вяртаньне незалежнасьці (хоць і ўскладніла далейшыя дачыненьні).

Такім чынам, за ўсімі паваротнымі момантамі нашай цяперашчыны на шляху да дзяржаўнай незалежнасьці стаіць чыньнік – ***25 Сакавіка***, існаваньне ***Рады БНР*** і ідэалаў ***Беларускай Народнай Рэспублікі***.

Ідэалы *БНР* застануцца істотнымі і актуальнымі заўсёды, пакуль будуць існаваць беларусы і дзяржава Беларусь. Бо Беларуская нацыянальная дзяржава ёсьць першасны і найвялікшы ідэал, які фармальна быў рэалізаваны ў 1918 годзе. Толькі валодаючы дзяржаўнай незалежнасьцю і нацыянальнай свабодай можна было казаць пра ўсё астатняе: становішча чалавека, дэмакратыю, законы, культуру, асьвету ды эканоміку. Ня будучы гаспадаром над сабой і ў сваім краі, народ ня можа рэалізаваць сваіх магчымасьцяў; і ўсе размовы пра *наступнае* без дасягненьня *першаснага* – нерэальныя.

***Дзяржаўная незалежнасьць і нацыянальная свабода ёсьць першым пытаньнем і галоўнай задачай ідэалёгіі Беларускага Адраджэньня, сутнасьцю Беларускай Нацыянальнай Ідэі.***

Аднак галоўная задача Адраджэньня не была да канца рэалізаваная ў беларускай палітыцы і, адпаведна, – слаба замацаваная ў грамадзкай сьведамасьці народа ў той час, калі завяршаўся працэс утварэньня нацыяў і нацыянальных дзяржаваў. Савецкая акупацыя і цяперашні ўнутраны прарасейскі акупацыйны рэжым затармазілі разьвіцьцё і рэалізацыю тых працэсаў, якія закончыліся ў Эўропе ў першай чвэрці XX-га стагоддзя.

Але нацыя ня можа абмінуць заканамернасьці і пераскочыць праз нейкі абавязковы этап разьвіцьця. Таму доўга змагаючыся за свабоду і незалежнасьць, кожнае новае пакаленьне беларусаў зноў і зноў зьвяртаецца да нацыянальных праблемаў Адраджэньня, каб вырашыць задачы стогадовай даўніны.

***Ня могучы абмінуць затармажанага і не завершанага раней, нацыя імкнецца дарабіць усё ў іншым часе, разьвіваючыся паскорана, узнаўляючы пасьпешна этапы і структуру праўдзівага разьвіцьця.*** Цяжкасьць абавязковага паскарэньня, якое разьвіваецца ў пазьнейшым часе, заключаецца, перш за ўсё, у тым, што сусьветная супольнасьць, суседзі існуюць ужо ў іншым вымярэньні і вырашаюць іншыя грамадзкія задачы. У такіх умовах зьніжаецца міжнародная салідарнасьць з запозьненым нацыянальна-дэмакратычным рухам і, што найгоршае, – частка грамадзтва перастае разумець актуальнасьць духоўных праблемаў нацыі, імкнецца ўключыцца ў вырашэньне сучасных цывілізацыйных задачаў у чужой форме, не разумеючы, што вырашыць іх немагчыма, не зрабіўшы папярэдняга, не стварыўшы неабходных умоваў для разьвіцьця нацыі.

Калі мы вернемся ў думках на 10 гадоў раней, то ўбачым, што з усіх нашых суседзяў, якія вызваліліся ад савецкай акупацыі (Польшча, Летува, Латвія, Расея, Украіна), Беларусь мела найлепшыя эканамічныя і патэнцыяльныя стартавыя магчымасьці. Прамаскоўская дыктатура, мафійнае і рэліктавае гаспадараньне запаволілі разьвіцьцё Беларусі, выклікалі страшэнныя страты. Цяпер у сістэме палітыкі, эканомікі, па ўзроўню сацыяльных прыярытэтаў і па жыцьцёвым узроўні Беларусь не стасуецца са сваімі суседзямі і нібы апусьцілася на дно глыбокай ямы. Але каб вылезьці з гэтай ямы, беларускае грамадзтва абавязкова павінна будзе вырашыць тыя нацыянальныя праблемы разьвіцьця і арганізацыі нацыі, якія не ўдалося вырашыць у 1905-м, 1918-м, 1920-м, 1991-м гадах. ***Прыдзецца паскорана адрабіць тое, што не далося нам зрабіць сто гадоў таму.*** Такая ёсьць дыялектыка разьвіцьця нацыянальнага грамадзтва і нацыянальнай ідэі.

***Ідэалёгія беларускага Адраджэньня зьяўляецца прыярытэтнай у беларускай палітыцы. Толькі яна можа прывесьці да рэалізацыі ідэі незалежнасьці, свабоды і дэмакратыі. Па-сапраўднаму, цяпер толькі нацыянальнае Адраджэньне і ёсьць беларускай палітыкай***. Усё астатняе – пабочнае, хоць можа і супадаць у нейкіх сфэрах і на нейкіх этапах зь беларускім Адраджэньнем.

* * *

На працягу больш чым стогадовай гісторыі беларускага Адраджэньня праціўнікі Беларускай дзяржавы і незалежнасьці ўсімі спосабамі змагаліся з нацыянальнай ідэяй. Канцэпцыяў супрацьпастаўленьня было некалькі і featрознага ўзроўню. Найбольш сур’ёзнымі і разбуральнымі былі канцэпцыі *„заходнерусізму”*, *„саветызму”* 20-40-х гадоў і, пачынаючы з сярэдзіны 50-х і да канца СССР, – *„савецкага інтэрнацыяналізму”*. На заходніх землях Беларусі, захопленых Польшчай у 1921-1939-х гадах, узьнікла адзіная акупацыйная канцэпцыя палянізацыі беларускага насельніцтва.

Цяперашні прамаскоўскі рэжым ня мае выпрацаванай ідэалёгіі і праводзіць грубую палітыку задушэньня ўсяго беларускага, накіраваную ў канцовым выглядзе на ліквідацыю Беларускай дзяржавы і ўключэньне нашай нацыянальнай тэрыторыі ў склад Расеі.

Больш падступную і казуістычную сістэму змаганьня зь беларускім нацыянальным Адраджэньнем выставіў у Беларусі заходні лібэралізм. Гэта разрэклямаваная ў 90-х гадах лібэральная дактрына прыярытэту правоў чалавека над нацыянальнай свабодай і суверэнітэтам народа. У цэлым, гэтая канцэпцыя мае шмат станоўчага і прыцягальнага ў сваім зьмесьце, але, даведзеная лібэраламі да абсурду, яна не вытрымлівае крытыкі. І сапраўды, пра якія „правы чалавека” можна гаварыць пад акупацыяй? Страціўшы незалежнасьць і свабоду, народ траціць і свае правы. Так што прыярытэт не ў „правах”, а ў незалежнасьці і свабодзе. Нічога няма ў беларускай палітыцы вышэйшага, важнейшага і разумнейшага за народную ідэалёгію нацыянальнага Адраджэньня.

Пасьля бамбаваньня Сэрбіі, Аўганістану і здачы Чачэніі на зьнішчэньне расейскім дзяржаўным тэрарыстам ўсе ўбачылі, што дактрына прыярытэту „правоў чалавека” грэшыць дэмагогіяй і без супраціву ўлягае палітычным інтарэсам вялікіх дзяржаваў.

Міжнародны скрайні лібэралізм у эканоміцы ставіцца варожа да нацыянальнага Адраджэньня, дзейнасьці хрысьціянскіх, народных, кансэрватыўных партыяў, якія стараюцца ўмацаваць нацыянальную дзяржаву, культуру, маральныя традыцыі і грамадзтва. Для міжнароднага фінансвага бізнэсу патрэбныя краіны бязь межаў і нацыянальных інтарэсаў, так званае „адкрытае грамадзтва”, каб лёгка было ў яго пранікнуць і падпарадкаваць эканоміку сваёй фінансавай сістэме. Нацыянальная дзяржава, краіна-айчына, якая грунтуецца на нацыянальнай ідэі, будзе супраціўляцца залежнасьці і захопу нацыянальнай эканомікі сусьветным фінансавым капіталам. Таму заходні лібэралізм змагаецца з нацыянальнымі рухамі і хрысьціянскай палітыкай, абапіраецца пры гэтым на касмапалітычную дактрыну „правоў чалавека” ў сваіх інтарэсах.

Трэба сказаць, што ў лібэральных партыях на Захадзе ніколі не зьбіраліся лепшыя людзі, хутчэй наадварот. Тым часам Эўропа цяпер моцна паружавела, практычна, усюды кіруюць сацыял-дэмакраты, сацыялісты, камуністы і ўвогуле – левыя. Гэта ёсьць спажыўчае асяроддзе для лібэралізму ў культуры, этыцы і маралі, што прыводзіць да маральнай дэградацыі грамадзтва. Бо лібэралізм у культуры і ў маральных дачыненьнях разумее свабоду ў анархічным кшталце: як свабоду граху і скрайняга індывідуалізму, а правы чалавека трактуе як абгрунтаваньне права на грэх. За ўсім гэтым стаіць даволі стракатая публіка (ад дзяржаўных дзеячоў і палітыкаў да асацыяльных элемэнтаў), але ўсіх іх аб’ядноўвае непрыхільнасьць да хрысьціянства і нацыянальных каштоўнасьцяў і, у большасьці, – да ўсялякай традыцыйнай нармальнасьці.

У Беларусі гэтакі лібэралізм мае пакуль што яшчэ непрыкметны, наносны і штучны характар, трымаецца, у асноўным, на фінансавай падтрымцы з Захаду. Але разбуральнае ўзьдзеяньне ягонага амаральнага ўплыву на асобных людзей і шкода для беларускага Адраджэньня – ужо відавочныя.

* * *

Спробы размыць беларускае Адраджэньне, перарадзіць яго ці прыстасаваць да абслугоўваньня небеларускіх палітычных інтарэсаў назіраюцца пастаянна як у Беларусі, гэтак і на эміграцыі. Можна адзначыць некалькі стэрэатыпаў у гэтай справе. Напрыклад: „трэба выступаць за незалежнасьць, але ня трэба змагацца за беларускую мову, бо шмат беларусаў гавораць па-расейску”. (Тэзіс, дарэчы, тыпова агентурны, калі ён гучэў у партыі Адраджэньня. Тэст на агента.) Ці яшчэ: „за незалежнасьць, але ня трэба выступаць супраць Расеі”; ці напрыклад: „трэба казаць тое, што людзі хочуць чуць і, калі патрэбна, то схлусіць, каб узяць уладу, а потым (узяўшы ўладу) праводзіць сваю палітыку”. (Гэта, дарэчы, таксама тэст: на інфантыльнасьць і палітычную няразьвітасьць.) Альбо: „трэба аб’ядноўвацца з намэнклятурай, зь Кебічам”, ці: „супрацоўнічаць з Лукашэнкам” (як прапанаваў адзін мой былы намесьнік па БНФ у 1994 годзе, адразу пасьля выбараў) і г.д.

Увесь гэты „інфантылізм”, „ідыятызм” ды „прагматызм” мы ўжо перажылі. Але гэта ня значыць, што такое не паўтараецца.

Апошнім разам прыходзіцца чуць, што традыцыйнае Адраджэньне, маўляў, базуецца на гісторыі, на мінулым, а трэба глядзець у будучыню, праграмаваць Адраджэньне наперад і г.д. (Амаль, як у будаўнікоў камунізму: каб пабудаваць новае, трэба адмовіцца ад старога.) Ствараецца выгляд супярэчнасьці там, дзе яе не існуе. Дарэчы, нацыянальная гісторыя (гэтак жа, як нацыянальная мова) ёсьць грунтам і базай нацыянальнага Адраджэньня, прыярытэтам адраджэнскай палітыкі. Іншых прыкладаў у гісторыі адраджэнскіх рухаў не назіралася. Не было нават выключэньняў.

Аднак як бы ні ўскладнялася ці як бы ня горшала палітычнае становішча на Беларусі, у беларускага Адраджэньня ёсьць грунт, на які яно заўсёды можа стаць абедзьвюма нагамі. Гэты грунт – ідэалы *Беларускай Народнай Рэспублікі*. У 1988 годзе, калі ўтварыўся Беларускі Народны Фронт, акурат гэтак і адбылося. Фронт узьняў нацыянальныя сымвалы *БНР* і, крок за крокам, ішоў у сваёй ідэалёгіі да незалежнасьці і суверэнітэту, да дзяржаўнасьці беларускай мовы, да дэмакратыі і рынкавай эканомікі, да свабоды сумленьня і аўтакефальнасьці беларускіх канфэсіяў (разарваных раней чужымі і часовымі ўладамі па сваіх закаморках), да беларускага войска і беларускіх грошай, да праэўрапейскага шляху разьвіцьця.

Гэтыя палітычныя каштоўнасьці былі засвоеныя ў Народным Фронце і актыўнай часткай беларускага грамадзтва ўжо ў першыя два гады існаваньня БНФ. Як ні дзіўна, найдаўжэй засвойвалася пытаньне, якое павінна б было ўсьвядоміцца першым. Менавіта: што зьяўляецца прычынай нашай несвабоды і нацыянальных няшчасьцяў? Адказ, зразумелы раней для кожнага беларускага адраджэнца, для кожнага актывіста *БНР*. Але ў постсавецкім грамадзтве ён высьпяваў на Беларусі амаль да сярэдзіны 90-х гадоў. І, дарэчы, у гэтым найбольш выяўлялася саветызаванасьць, глыбокая дэфармаванасьць беларускага грамадзтва. Зьяўленьне на вяршыні беларускай улады чалавека з антыбеларускімі поглядамі (што абсалютна неверагодна было б, скажам, у Польшчы ці Летуве), тут было дастаткова абумоўлена якраз разбуранасьцю нацыянальнай канцэпцыі народнага існаваньня, зьнішчэньнем нацыянальнай годнасьці беларусаў, збочаным зьместам думак пасьлясавецкай супольнасьці.

Бадай што толькі цяпер, калі палітыка рэжыму набыла выразныя прарасейскія і антыбеларускія рысы, для шмат якіх беларусаў (у форме адкрыцьця) стала зразумелай сутнасьць і роля расейскай шавіністычнай палітыкі, накіраванай супраць Беларусі. Да той пары, дакуль будзе існаваць вялікадзяржаўная Расея і яе імпэрская палітыка, датуль будзе ўзьнікаць пагроза для беларускай незалежнасьці і для беларускага нацыянальнага існаваньня.

Эліты беларускага грамадзтва толькі цяпер пачынаюць набліжацца да ўсьведамленьня гэтай простай і галоўнай ісціны, зразумелай больш чым сто гадоў таму яшчэ шляхоцкім змагарам за свабоду. *„Толькі тады, народзе, зажывеш шчасьліва, калі маскаля над табой ня будзе!”* – пісаў ***Кастусь Каліноўскі.***

Прамаўляючы лапідарна, можна сказаць, што толькі тады ёсьць сэнс гаварыць пра свабоду, калі чалавек разумее, што ён несвабодны. Калі ж *„у думах выхаваны зморных, ня знае, дзе пячэ, дзе студзіць” (Янка Купала)*, то змаганьне за незалежнасьць набывае кшталт бегу на месцы. Перш, чым змагацца, трэба навучыцца правільна думаць, каб барацьба мела сэнс і дасягала выніку. Таму нацыянальнае асьветніцтва мае цяпер найвялікшае значэньне. (І, дарэчы, наша фронтаўская праграма *Беларуская Салідарнасьць.*)

***Праз асьвету – да свабоды*** – вось лёзунг усяго эўрапейскага нацыянальнага Адраджэньня ў XIX-м стагоддзі. Нам, беларусам, ня трэба думаць, што цяпер – XXI-е, і ўсе мы ўжо разумныя. Лепш хоць позна, але навучыцца таму, чаму некалі навучылася Эўропа, і чаго не навучыліся ў нас цэлыя пакаленьні, жывучы пад савецкай акупацыяй.

Няма сэнсу беларусам ганарыцца пабочнымі ведамі, скажам, у электроніцы, у эканоміцы ці ў мастацтве, калі няма разуменьня галоўнага: што такое Бацькаўшчына, што такое нацыянальная мова і што ёсьць прычынай няшчасьця Бацькаўшчыны, дзе яе ворагі і дзе яе сябры. Без усьведамленьня гэтых галоўных паняцьцяў пабочныя веды беларуса, разам зь яго талентамі, адукаванасьцю ды „прафэсарствам”, ня пойдуць яму ў карысьць. Ён будзе змушаны прадаць іх за бясцэнак пад чужым рэжымам і памрэ ў галечы ды рабстве, так і не зразумеўшы прычынаў.

***Ня можна быць свабодным ад народа і незалежным ад нацыі, калі яна ў бядзе. Ня можна быць вольным ад краіны, калі яна церпіць.***

* * *

Школай нацыянальнага асьветніцтва, крыніцай вялікіх і простых ведаў зьяўляецца гісторыя Беларускага Адраджэньня, дзе найбольш яркай старонкай ёсьць, ізноў жа, утварэньне *Беларускай Народнай Рэспублікі* і потым – змаганьне за яе ідэалы.

***Беларускі рух быў моцны сваёй ідэёвасьцю, якая вынікала з духовай элітарнасьці беларускага Адраджэньня.*** У гэтым – першасная характарыстыка беларускага адраджэнскага руху. Ён ня быў рухам масаў, хоць і абапіраўся на ўвесь народ; прытым, на найбольш простыя дэмакратычныя пласты людзей, ідэалізаваў сялянства. Такі рух вымагаў ад ягоных актыўных асобаў, і асабліва ад кіраўнікоў, пасьвячэньня і ахвярнасьці. У гэтым – сакрэт сілы беларускага руху. Аднак чыньнік выбранасьці Беларускага Адраджэньня яшчэ не гарантаваў посьпеху. Мы назіралі неверагодныя палітычныя перамогі малымі сіламі у складаных абставінах і потым – немагчымасьць рэалізаваць дасягнутае з-за слабасьці малых сілаў. Так было ў 1918-м, гэтак сталася ў 1991-м і 1994-м. Рыцарская вайна. Пэрманэнтная *Бітва пад Воршай.*

Але гэта правільны, пэрспэктыўны, надзейны, наш Беларускі шлях. Тое, што гэта так, пацьвярджае, найперш, Слуцкі Збройны Чын у 1920 годзе, калі на абарону *Беларускай Народнай Рэспублікі* супраць бальшавікоў паўстаў, практычна, бяз зброі ўвесь Слуцкі павет. Яшчэ б пару гадоў незалежнага існаваньня *БНР* – і такой, як змагарная Случчына, была б уся Беларусь.

Другі прыклад адваротнага кшталту – 1999 год, калі ў асяроддзі *Беларускага Народнага Фронту* група актывістаў публічна адмовілася ад нацыянальнай ідэі і стала на пазыцыі прагматызму, дэкляруючы іншы, прагматычны, не ідэёвы шлях („новую хвалю”). Скончылася ўсё супрацоўніцтвам з камуна-савецкай намэнклятурай і поўным фіяска, палітычным паражэньнем і тупіком.

***Іншага шляху ў нацыянальнага Адраджэньня, чым ідэёвасьць нацыянальнага Адраджэньня, у беларускага руху не існуе.***

Беларускае Адраджэньне церпіць на выдаткі запозьненасьці зьявы і паскоранасьці працэсу. Заўсёды не хапала крыху часу і сілы, каб рэалізаваць дасягнутае. Заўсёды замалы быў пэрыяд нацыянальнага асьветніцтва. Калі, напыклад, гераічнымі высілкамі адраджэнцаў у чарговы раз дасягалася незалежнасьць і трэба было б будаваць дзяржаўнасьць, абывацель гэтай дзяржаўнасьці раптам пытаўся: „А зачэм этат сувэрэніцет?” Тады прыходзіў гэтакі самы, як ён, альбо чарговы акупант – і заграбаў уладу. Усё пачыналася спачатку.

Гэтае заганнае кола (калі за геройскай перамогай ідзе абавязковая страта пазыцыі) трэба разарваць. Цяперака, калі беларускае Адраджэньне і ўсе антырэжымныя групы пацярпелі паражэньне пасьля сілавой фальсіфікацыі выбараў саўгасным рэжымам, мы ўсе павінны зьвярнуць надзвычайную ўвагу на нацыянальнае асьветніцтва нашых людзей, і найперш – моладзі. Трэба рыхтаваць грунт для перамогі.

У асьветніцкай праграме дзейнасьці важна ўсё, што спрыяе ўмацаваньню нацыянальнай сьведамасьці беларуса і ўспрыняцьцю ім духоўных каштоўнасьцяў нацыі. Але тут істотна, каб не рабіць непатрэбшчыны, не прымаць пабочнага і негалоўнага – за галоўнае. Калі не прадугледзець прыярытэтаў, галоўных тэмаў і дзеяньняў, тады ўся асьветніцкая справа можа быць змарнаваная, стацца неэфэктыўнай і невыніковай.

***Асьветніцтва мусіць быць адраджэнцкім. Тры пазыцыі найперш трэба ўсьвядоміць кожнаму беларусу, каб яны сталі ягонай існасьцю: галоўны ідэал нацыі – незалежнасьць і свабода, галоўная прычына нацыянальнай бяды і несвабоды – рускі імпэрыялізм, галоўная нацыянальная каштоўнасьць – беларуская мова. Бяз мовы беларуская нацыя не існуе.***

Цяпер мусіць паўстаць пытаньне аб новых выбарах прэзыдэнта і адначасна – весьціся нацыянальна-асьветніцкая ды палітычная праца.




***101. Марка БНР на тры талеры з выявай П. Крэчэўскага.***

Асьветніцкая дзейнасьць у гэтым моманце і ў лепшым варыянце павінна стацца пакліканьнем для ўсіх адукаваных і сьведамых беларускіх інтэлектуалаў. Трэба дапамагчы сабе.

Такія акцыі, як *Беларуская Салідарнасьць* і *Грамадзянства БНР* (прыняцьце сымвалічнага грамадзянства БНР) маглі б найбольш паспрыяць асьветніцкай задачы і вымогам часу, які не павінен быць змарнаваны.

Стагнацыя рэжыму, што сфальшаваў выбары, ня будзе трываць доўга. Праз нейкі час пачнуцца чарговыя зрухі і дрыжэньне асноў. Рэжым, які ў істоце сваёй аўтарытарны і антыбеларускі, які ня мае ніякіх ідэяў (хоць бы тыпу чучхэ) і трымаецца толькі на старых савецкіх людзях, на спэцслужбах ды страху, – такі рэжым ня мае ні будучыні, ні пэрспэктывы. Колькі б яшчэ не праіснавала гэтая „калгасная дыктатура,” беларусы павінны ўвесь час быць гатовымі да краху гэтай рэжымнай улады, каб потым свабодна парадзіць сабой, як найлепш.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
**(Канфэрэнцыя: Ідэалы БНР і Адраджэньне Беларусі. 84-я гадавіна незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. 17 сакавіка 2002 г., г. Менск).**

*Надрукавана: („ Беларускія Ведамасьці,” – 2002, № 2 (42).*

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ. 84-Я ГАДАВІНА БНР

Дарагія сябры. Паважаныя землякі-беларусы. Вітаю вас у нашай сьветлай дарагой Бацькаўшчыне і віншую з *Днём Незалежнасьці, з 84-й гадавінай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі!*

Асабліва віншую ідэёвых *грамадзянаў БНР*, якія прынялі сымвалічнае грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтым самым мы падкрэсьлілі нелегальнасьць улады цяперашняга рэжыму на Беларусі і засьведчылі нашу адданасьць ідэалам Беларускага Адраджэньня, Свабоды і Незалежнасьці. Трэба працягваць гэтую важную сымвалічную акцыю і ўступаць у шэрагі грамадзянаў БНР.

Беларускае Адраджэньне гэтак жа, як некалі эўрапейскае нацыянальнае Адраджэньне, характарызуецца ідэёвасьцю. Бо ў аснове нацыянальнага Адраджэньня заўсёды ёсьць нацыянальная ідэя, гэта значыць дзеяньне, накіраванае на стварэньне нацыянальнай дзяржавы, шляхам культурна-асьветніцкай працы і палітычнага змаганьня за свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Беларуская нацыянальная ідэя часткова ажыцьцявілася ў сакавіку 1918 года, калі была абвешчана Беларуская дзяржава і дзяржаўнае кіраўніцтва, якое 25 Сакавіка аб’явіла незалежнасьць.

Больш чым 70 гадоў расейска-савецкай акупацыі, гады генацыду і чорнай хлусьні ня зьнішчылі вялікай Беларускай ідэі. Ідэалы БНР жылі, жывуць і будуць жыць, бо яны – праўдзівыя. Бо яны вырастаюць з самой сутнасьці існаваньня нацыі, якая аптымальна рэалізуецца толькі ў вольнай нацыянальнай дзяржаве.




***102. Мапа БНР.***

Беларуская ідэя – гэта як наша беларуская Пагоня, якую *„не разьбіць, не спыніць, не стрымаць”*. І ніхто ад яе не схаваецца, ніхто не ўцячэ.

Цяпер, калі часова запанавала цемра ў нашым краі і шмат хто выракаецца Бацькаўшчыны, Мовы і Справядлівасьці, якраз цяпер мусяць спраўдзіцца словы *„Пагоні”*, і над усім – запанаваць сьвятло нацыянальнага асьветніцтва. *„Бійце ў сэрцы іх, бійце мячамі, не давайце чужынцамі быць!”*.

*„Праз асьвету – да свабоды!”*– вось лёзунг і дэвіз цяпер態шчыны, што падрыхтуе „на бітву будучыя сілы”.

„Будучыя сілы” павінны складацца з сьведамых і адукаваных беларусаў, якія будуць валодаць нацыянальным гонарам прадстаўнікоў вялікай і сьветлай культуры, будуць мець чалавечую годнасьць ад ўсьведамленьня прыналежнасьці да свайго выдатнага Беларускага Народа.

Вось і сёньня мы сабраліся ў Дзень найвялікшага нацыянальнага сьвята, каб засьведчыць нашу годнасьць, нашу веру ў ідэалы Бацькаўшчыны, у перамогу справы *25 Сакавіка*.

Нішто ня спыніць наш рух за праўдзівую незалежнасьць Беларусі, свабоду і справядлівасьць, бо ідэя – несьмяротная. Хто валодае вялікай і сьветлай ідэяй народнай волі і народнай вечнасьці, той валодае праўдай, той заўсёды яе дамажацца.

*24 сакавіка 2002 г.,*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Варшава-Менск Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 2(42).*

# СЬЦЯГ ПАТРАБУЕ ПАШАНЫ

***(Ліст да сяброў)***

*На Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка* людзі выходзяць дзеля таго, каб разгарнуць *Беларускі нацыянальны сьцяг*, які ўсталявала *БНР*, а не для таго, каб яго згортваць. Згортваньне сьцяга мае адваротны сэнс, супярэчны ідэалам *БНР*, дэманструе адмоўны сымвалізм, ёсьць праявай нікчэмнасьці і слабасьці духа.

Не пераводзяцца, аднак, людзі, гатовыя запаліць сьвечку – і паставіць яе пад ложак.

Размова йдзе пра асобаў, якія назвалі сябе „прагматыкамі” і якія ў нядзелю 24 сакавіка хацелі афіцыйна наладзіць „гуляньне” ў парку ля помніка Янку Купалу ў Менску, а неафіцыйна – прайсьці шэсьцем па вуліцы. Пра „гуляньне” дамовіліся з міліцыяй і аб’явілі гэта „новай канцэпцыяй сьвяткаваньня 25 Сакавіка”. Але калі міліцыя ўбачыла, што яе зьбіраюцца ашукаць, то заблякавала выхады з парку. Прагматыкі пачалі прасіцца прайсьці. Іх паабяцалі выпусьціць, калі яны згорнуць Беларускія нацыянальныя сьцягі. І яны згарнулі сьцягі.

Але шэсьце не дазволілі. „Мы ж згарнулі сьцягі, а нас усяроўна не пусьцілі,” – жаліўся ў мікрафон пакрыўджаны голас і казаў, што трэба разыходзіцца. Калі „змагары” прагматычна разышліся, на іх напала міліцыя, зьбіла палкамі, запхнула ў машыны і адвезла ў арышт.

За прафанацыю галоўнага нацыянальнага сьвята і непавагу да Сьцяга трэба, безумоўна, караць. Шкада толькі, што гэта зрабіла лукашэнкаўская міліцыя. У яе была іншая, карная матывацыя. Але для імітатараў гэты разбой – таксама навучка.

„Ня бойся, не ашуквай, не хлусі!” – ёсьць Боская запаведзь. Але каб яе трымацца ў палітыцы, трэба служыць ідэі і ня быць прагматыкам.

Мітынгі і дэманстрацыі *Народнага Фронту* заўсёды вылучаліся масавасьцю, арганізаванасьцю, сьмеласьцю, высокім узроўнем, культурай і дысцыплінай. Яны заўсёды мелі станоўчы грамадзкі вынік. Але на працягу рэшты 90-х гадоў „прагматыкі” ў Фронце, у спалучэньні з прафэсійнымі правакатарамі, спрафанавалі, дэзарганізавалі, скампрамэтавалі і абнізілі ўзровень вулічных акцыяў *Народнага Фронту*, выклікалі непавагу і недавер да іх у многіх людзей і ўрэшце – завялі іх літаральна ў балота, на былую Балотную станцыю. Шкода, нанесеная Беларускаму Адраджэньню, – велізарная.

Пачынаючы з 2000 года (пасьля аддзяленьня „прагматыкаў”), *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* цаной вялікіх асабістых ахвяраў імкнецца паправіць становішча, вярнуць вулічныя мерапрыемствы на ранейшы прыстойны адраджэнскі шлях. Вось і сёлета, 24 сакавіка, фронтаўцы *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ* сабраліся на плошчы Незалежнасьці ў Менску і прайшлі шэсьцем пад нацыянальнымі *Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі* да Цэнтральнай плошчы, сьпявалі беларускія гімны, гаварылі прамовы.

Сёньня гэта яшчэ не дзясяткі тысячаў людзей, а толькі сотні актыўных і сьмелых асобаў. Але перад імі добрая мэта, сумленная матывацыя і сьветлая дарога.

Направай і адраджэньнем добрых традыцыяў *Народнага Фронту* займаецца найперш ягоная *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ*.

Беларусы, якім ляжыць на сэрцы беларуская незалежнасьць, мова, культура і дабрабыт беларускага грамадзтва, падтрымлівайце палітычныя справы *Народнага Фронту*, спрыяйце аднаўленьню ягонага ўплыву, масавасьці і маральнай палітыкі, бо ў ім змагаюцца тыя людзі, якія аднавілі Незалежнасьць краіны. Гэта тая пазыцыя, тая палітыка, на якую можа разьлічваць і абаперціся вольная Беларусь.

Віншую ўсіх беларускіх адраджэнцаў з Днём Незалежнасьці і найвялікшым нацыянальным сьвятам 25 Сакавіка!

Жыве Беларусь! Слава героям!

*25 сакавіка 2002 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# МАЛАДЫМ, ШТО СЬЦЕРАГУЦЬ КУРАПАТЫ

Дарагія сябры! Сёлета спаўняецца 14 гадоў з таго часу, як былі публічна адкрытыя і дасьледаваныя Курапаты – найвялікшы магільнік пакутаў і мартыралёгіі Беларускай нацыі.

Курапаты ёсьць рэальнае сьведчаньне генацыду Беларускага народу, які зьдзяйсьнялі расейскія бальшавікі. Адначасна гэта ёсьць сымвал пакутаў Беларускай нацыі, што страціла незалежнасьць.

У Курапатах кожны беларус мае магчымасьць задумацца над мінулым народа і глянуць у будучыню. Гэтае месца ёсьць скрыжаваньне Беларускага лёсу. Яно кажа пра выбар шляху.

Вы зрабілі свой выбар, і ён добры. Нягледзячы на цяжкасьці і няпростасьць задачы, вы сталі на бок тых, хто бароніць магілы закатаваных продкаў. Вы зрабілі мужны ўчынак, які паспрыяў захаваньню сьвятога месца.

Аддаючы належнае добрай справе і ахове Курапатаў, якую вы ажыцьцяўлялі, мушу сказаць, што ахова неабходная надалей, і асабліва – ўначы.

Могілкі, якія маюць вялікае грамадзкае і нацыянальнае значэньне, ахоўваюцца ва ўсім сьвеце. Нельга пакідаць Народны Мэмарыял без нагляду. Добра было б, каб днём і ноччу Курапаты былі пад аховай. Пакуль улада на Беларусі ў чужых руках, яна ня будзе спрыяць нічаму добраму, сьвятому і беларускаму. Таму шмат што залежыць ад супольнага рушэньня і магчымасьцяў самых беларусаў. Ахова Курапатаў – адна з канкрэтных грамадзкіх задач.

Самае галоўнае народнае рушэньне, якое жыве, разгортваецца і будзе разьвівацца стагоддзямі, – гэта Народны Мэмарыял Курапаты, трансцэндэнтны помнік расстраляным продкам, які вечна ёсьць і вечна абнаўляецца ў крыжах – сымвалах пакуты і вобразах уваскрасеньня душ.

Беражэм жа ягоную сымволіку і ягонае існаваньне! Гэта відочны вобраз народнага зь мёртвых устаньня.

Прыдзе час, і мы адродзім усё, адновім усю нашу Беларускую зямлю, нашу дарагую, вечную Бацькаўшчыну, зьнікне хамская дарога праз Курапаты, і чужыя балваны ня будуць тырчэць на Беларусі. Мы адбудуем нашу квітнеючую Айчыну. Мы створым нашу прыўкрасную будучыню. Паглядзіце на яе сымвал. Вось яна ўваскрасае, як зерне, прарастае з магіл пакуты. Разумейма і сьцеражэм!

У абавязку ўратаваньня Айчыны няма „малых” справаў. Вялікае – у малым.

Якія б ні былі вашыя шляхі, няхай усе яны вядуць вас да Беларусі.

*31 траўня 2002 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ДА ПЫТАНЬНЯ ПРА ДЗЕЙНАСЬЦЬ АБСЭ Ў БЕЛАРУСІ

***(Заява)***

Паўстала пытаньне аб існаваньні Місіі АБСЭ ў Менску. Мусім адзначыць некаторыя станоўчыя моманты ў ейнай дзейнасьці. Менавіта: назіраньне за парушэньнямі правоў чалавека, назіраньне за правядзеньнем выбараў, заявы пра пацярпелых ад рэжыму і некаторыя іншыя аспэкты.

Але ў цэлым дзейнасьць Місіі АБСЭ ў Менску трэба ацаніць адмоўна, як супярэчную беларускай дэмакратыі і нацыянальным інтарэсам Беларусі.

У 1998-2001 гадах ніхто так не нашкодзіў беларускай дэмакратыі, як арганізацыя АБСЭ ў Менску (калі не казаць пра рэжым Лукашэнкі). Зьвязана гэта найперш з дзейнасьцю былога кіраўніка Місіі Ганса-Георга Віка.

Паводзіны і дзейнасьць Ганса Віка не адпавядалі ролі кіраўніка міжнароднай грамадзкай арганізацыі і характарызаваліся тыповымі рысамі дзейнасьці спэцслужбаў, да якіх спадар Вік належыў.

З боку спадара Віка назіралася непасрэднае ўмяшальніцтва ў палітычныя ўзаемадачыненьні беларускіх партыяў. Рабілася гэта пад выглядам процідзеяньня антыдэмакратычнаму рэжыму і спрыяньня дэмакратыі, і таму было лёгка ўспрынята беларускімі палітычнымі партыямі. На самай жа справе, пачынаючы з 1998 года, спадар Вік ствараў у Беларусі свой варыянт нібыта „дэмакратычнай апазыцыі”, кантралюемай АБСЭ, фінансава залежнай ад Захаду і спэцслужбаў Расеі, паколькі бальшыня так званых „дэмакратычных партыяў” у Беларусі густа інфільтравана расейскай агентурай КГБ-ФСБ, і спадару Віку гэта было добра вядома.

Ствараючы кіруемую „дэмакратычную апазыцыю”, спадар Вік уступіў у канфлікт з рэальнай беларускай апазыцыяй – Беларускім Народным Фронтам „Адраджэньне”, той галоўнай сілай, якая ў 1991 годзе вярнула незалежнасьць Беларусі, спыніла дзейнасьць КПСС і ВЛКСМ у краіне і паклала пачатак дэмакратычным пераўтварэньням.

Ён прычыніўся да апэрацыі расколу Народнага Фронту (падрыхтаванай у 1999 годзе з Масквы, сумесна зь менскімі дзеячамі АБСЭ), пасьля чаго частка БНФ далучылася да „апазыцыі”, створанай спадаром Вікам.

Адразу пасьля расколу Фронту і афармленьня кіруемай партыйнай „апазыцыі”, спадар Вік уцягвае гэтыя партыі ў заведама бясплённы так званы „перамоўны працэс” з рэжымам Лукашэнкі. Мэта „перамоўнага працэсу” – раззброіць нацыянальна змагарную Беларусь напярэдадні парляманцкіх выбараў і забясьпечыць міжнароднае прызнаньне новаму „парляманту”. Гэтая мэта ўзьнікла на падставе таемных кампрамісаў з Лукашэнкам аб легалізацыі існуючага рэжыму і прызнаньні яго ў АБСЭ.

Менавіта на гэтым этапе выявілася таемнае супрацоўніцтва спадара Віка з рэжымам Лукашэнкі і палітычнай агентурай Масквы.

Спадар Вік непасрэдна прычыніўся да выдаленьня апазыцыйнага старшыні Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня спадара Сымона Шарэцкага за межы Рэспублікі Беларусь у эміграцыю, паколькі спадар Шарэцкі перастаў упісвацца ў схемы дзейнасьці

спадара Віка на Беларусі, і галоўнае – у разьлікі Масквы, зь якой спадар Вік пастаянна супрацоўнічаў.

У гэты ж час спадар Вік рабіў бясплённыя захады змусіць да пераезду ў Нямеччыну сваіх палітычных праціўнікаў з Народнага Фронту, праводзіў бязвынiковую працу сярод беларускай моладзі, намаўляючы яе ў інтарэсы Нямеччыны.

У верасьні 2000 года, на канфэрэнцыі ў Беластоку спадар Ганс Вік, спаўняючы (трэба думаць) пэўныя палітычныя рэкамендацыі, публічна заявіў, што мэта ягонай дзейнасьці ў АБСЭ як нямецкага дыпляматa – спрыяць уваходжаньню Беларусі ў склад Расеі. А гэта ёсьць антыбеларуская дзейнасьць, супярэчная карэнным інтарэсам Беларусі.

18-га лістапада 2000 года Сойм Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ аб'явіў спадара Ганса Віка пэрсонай нон-грата і запатрабаваў ягонага выдаленьня зь Беларусі за падрыўную дзейнасьць, супярэчную інтарэсам нашай краіны. Матэрыялы Сойму і патрабаваньне аб выдаленьні спадара Віка былі тады ж перасланыя намі амбасадару Нямеччыны ў Беларусі спадару Хорсту Вінкельману, Міністру замежных справаў Нямеччыны спадару Ёшку Фішару, у Эўразьвяз, у Парляманцкую Асамблею АБСЭ і кіраўніцтву АБСЭ.

Тое, што гэтыя факты пра дзейнасьць Ганса Віка (і фактычна, ягоны правал) былі праігнараваныя, яскрава паказвае на характар думаньня бюракратыі ў эўрапейскіх арганізацыях.

У кастрычніку на выбарах 2000 года плян спадара Г. Віка пацярпеў фіяска. Тым ня менш яго пакідаюць у Менску для арганізацыі і правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў у 2001 годзе. Гэта дазволіла спадару Віку ўдзельнічаць у чарговай выбарчай афёры на Беларусі, плянаваць прызнаньне гэтых выбараў за дэмакратычныя і рыхтаваць легалізацыю рэжыма Лукашэнкі.

Пры дапамозе „кіруемай апазыцыі" (пасьля ўхваленьня з боку спадара Віка і адпаведна – Масквы) была створана „пяцёрка" прамаскоўскіх кандыдатаў на прэзыдэнта Беларусі з былой камуністычнай намэнклятуры, а потым пакінута кандыдатура самага шэрага зь іх – камуна-савецкага функцыянэра Ул. Ганчарыка (які рэальна – ня мог быць супернікам Лукашэнкі). Такім чынам дзеля фальсіфікацыі і выграньня выбараў Лукашэнку стварылі выдатныя ўмовы.

Праўда, Лукашэнка перастараўся. Фальсіфікацыя была праведзеная ім настолькі маштабна, груба, нахабна, татальна і бессаромна, што прызнаць выбары не было як.

Лукашэнка застаўся ў крэсьле, але выбары сьвет не прызнаў. Ганс Вік зноў пацярпеў частковае фіяска, і яму адмовілі ва ўязной візе. Рэжым даў выразна зразумець, што Місія АБСЭ яму больш не патрэбная.

У гэтым – стыль „працы" савецкага КГБ. У гэтым – увесь Лукашэнка. Некалі ён гэтак павыганяў прэч сваіх бліжэйшых паплечнікаў, нягоднікаў, якія дапамагалі яму дарвацца да ўлады, а потым – сталі непатрэбныя. Менавіта з гэтых былых „паплечнікаў" найперш сфармаваў Ганс Вік сваю „кіруемую апазыцыю" і ўвёў яе ў палітычны ўжытак.

Мы не сумняваемся ў патрэбнасьці такой міжнароднай арганізацыі, як АБСЭ, маем да яе павагу і пашану. Але мусяць выконвацца пэўныя правілы. Сама практыка (а беларуская практыка – найбольш) паказвае, што недапушчальна, каб аддзеламі міжнароднай арганізацыі кіравалі функцыянэры зьнешняй разьведкі якой-небудзь краіны. З гэтага гледзішча ўзьнікаюць сумненьні, калі і супрацоўнікі Місіі, і ўпаўнаважаныя па пытаньнях дачыненьняў (скажам, АБСЭ і Беларусі) належаць да палітычных колаў толькі адной краіны (скажам, Нямеччыны), і больш таго, – да аднаго палітычнага накірунку (скажам, лева-лібэральнага ці сацыял-дэмакратычнага). Не павінны ствараццa ўмовы, каб нейкая адна краіна рабіла свае вузканацыянальныя інтарэсы ў другой краіне, выкарыстоўваючы міжнародную арганізацыю.

Інтэрас, які рабіў на Беларусі Ганс Вік, нам добра ведамы. Сюды ўключана незалежнасьць Беларусі (пляны анэксіі нашай краіны Расеяй), пляны Масквы за Бугам, пляны нямецкай прысутнасьці ў Калінінградзкай вобласьці, „калідор" праз Польшчу і нават зацікаўленасьць спадара Віка канцэрнам Рургаз-Газпрам.

Мы не зьбіраемся маўчаць ці рабіць выгляд, што нічога ня бачам і не разумеем зь меркаваньняў паліткарэктнасьці. Справа йдзе аб лёсе нашай нацыі, нашай незалежнасьці і свабоды, якую Эўропа, у абліччы такіх асобаў, як Ганс-Георг Вік, гатовая, як нам здаецца, у чарговы раз – здаць. Але Беларусь была і будзе незалежнай!

Спадар Вік парушыў, перакрочыў Беларускае права (адкінутае рэжымам Лукашэнкі). Ягоная дзейнасьць вымагае рассьледваньня, сьледства і судовага разьбіральніцтва. Незалежная, вольная і дэмакратычная Беларусь яшчэ вернецца да гэтага пытаньня.

*17 чэрвеня 2002 г., Менск*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне",***
***Юры БЕЛЕНЬКІ***
***Намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне", Выконваючы абавязкі старшыні на Беларусі***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 6(46).*



(Фота з канца 90-х гг.)

***103. Палітыка ў афарызмах. Мітынг у Менску.***

# БАРОНЯЧЫ КОЖНАГА – БАРОНІМ ЎСІХ

*24 чэрвеня 2002 году Горадзенскі суд засудзіў рэдактара газэты „Пагоня", дэпутата Вярхоўнага Савета XII-га скліканьня Міколу Маркевіча на два з паловай гады абмежаваньня волі (гэтак званай „хіміі"), а журналіста Паўла Мажэйку – на два гады. Людзі, якія не абазнаныя ў сутнасьці палітычнага канфлікту ў Беларусі, былі вельмі здзіўленыя закрыцьцём газэты „Пагоня" і неадэкватнымі паводзінамі суду ў дачыненьні да М. Маркевіча і П. Мажэйкі.*

* * *

Тое, што зрабілі з газэтай „*Пагоня*", робяць з М. Маркевічам і П. Мажэйкам, гэта ёсьць чарговы „крок" у „пакрокавай палітыцы" Расеі па зьнішчэньні Беларусі, якую яна рэалізуе праз рэжым Лукашэнкі і праз акупаваныя структуры беларускай улады. Судзілішча над М. Маркевічам – гэта характэрнае ў цяперашняй Беларусі палітычнае здарэньне. Тут няма юрыдычнага складу злачынства, а прыдуманая вэрсія – фальшывая. Але палітычным заказчыкам неабходна зьнішчыць, перш за ўсё, беларускі Адраджэнскі нацыянальна-вызвольны друк і тых журналістаў беларусаў, якія прафэсійна і ідэёва могуць такі друк ствараць. Дзеля гэтага непрыяцелі шукаюць фальшывыя зачэпкі і ўяўныя прычыны.

Пра сутнасьць расейскай палітыкі вынішчэньня Беларусі і пра дэталёвасьць гэтага маскоўскага пляну ўжо ня раз гаварылася. Але грамадзтва людзей, дзе бальшыня пазбаўленая неабходнай нацыянальна-культурнай сьведамасьці, нацыянальнага гонару і ўсьведамленьня свайго адзінства зь лёсам нацыі, – такое грамадзтва да пэўнага часу ня ў стане адэкватна ацаніць, што зь ім робяць.

Дарога сьляпых у нашай гісторыі і ў нашай рэчаіснасьці вядзе звычайна да курапацкай ямы, дзе, так нічога не зразумеўшыя, задаюць апошняе недарэчнае пытаньне: „За што?".

Загоншчыкі Беларусі зноў выгналі яе на „дарогу сьляпых" і гоняць. Гэта трэба зразумець цяпер, а не праз тры, пяць ці праз дзесяць гадоў (як прывыклі думаць беларусы), калі будзе ўжо позна.




*104. Бойка дэманстрантаў зь міліцыяй. Менск.*

Пляны аслабленьня і паступовага паглынаньня Беларусі рэалізаваліся з 1994 года на вачах цэлага пакаленьня, пад шырмай псіхічнай падрыхтоўкі і дэмагогіі пра „інтэграцыю". За гэты час вялася метадычная работа па захопе вышэйшых структураў улады ў Беларусі праз расейскія КГБ-ФСБ. Былі зьнішчаныя беларускія нацыянальна-дзяржаўныя сымвалы, практычна, ліквідаваная беларуская школа, беларуская мова выгнана з афіцыйнага ўжытку, абмежавана і пакладзена на лапаткі прадпрыймальніцтва, мэтанакіравана разбурана эканоміка, гандаль, сельская гаспадарка, намерана не абнаўлялася тэхнічнае забесьпячэньне ўсіх гаспадарча-вытворчых галін у дзяржаве і г.д. Падарваныя нацыянальна-культурныя палітычныя і эканамічныя асновы беларускай дзяржавы. Беларусь, практычна, ужо падрыхтавалі да здачы пад Расею, а маёмасьць – пад расейскі крымінальны капітал.

У гэты час адбываецца зьмена расейскай дыпляматычнай тэрміналёгіі. „Ніякіх саюзаў, – заяўляе цяпер У.Пуцін, – толькі адзіная дзяржава." Іншыя рускія палітыкі і палітэксперты тут жа растлумачылі, што „адзіная дзяржава" абазначае: анэксія Беларусі.

Гэта тыповая гітлерская палітыка 30-х гадоў.

Справа газэты „*Пагоня*" і яе выдаўцоў пачалася і вядзецца ў рэчышчы палітыкі вынішчэньня ўсяго беларускага. У апошні час мы бачылі, як дабілі некалі беларускую газэту „*Свабода*" (тут, як з „Белорусской газетой", застасавалі апэрацыю КГБ-ФСБ), як атакавалі і атакуюць „*Народную Волю*" (нягледзячы на яе плюралізм і ўсім ветрам адкрытасьць).

„*Пагоня*" ім мазоліла слых ужо сваёй назвай. Газэта была беларускага дэмакратычнага адраджэнскага накірунку. Пра Міколу Маркевіча, дэпутата парляманцскай Апазыцыі Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце XII-га скліканьня яны таксама не забыліся.

Я хачу тут выразна падкрэсьліць, што калі б (сьцеражы, Божа) анэксія Беларусі расейцам ўдалася б, то беларуская нацыянальная інтэлігенцыя будзе зьнішчана фізічна, сшальмаваная, згноеная ў рускіх турмах, выселеная і выгнаная. І Захад – „дазволіць". (Гавару гэта як чалавек, які ўжо крыху ведае гэты Захад і беларускую гісторыю таксама.)

Расея грунтоўна рухаецца да анэксіі Беларусі. Дзярждумай Расеі прыняты спэцыяльны закон (з прыцэлам на Беларусь) „О порядке принятия в Российскую Федерацию и образование в её составе нового субъекта Российской Федерации".

Рыхтуецца іншы закон „О борьбе с терроризмом". Гэты закон, па задуме, павінен дапамагчы расейцам (скарыстаўшы цяперашні страх Захаду перад тэрарызмам і вайну Амэрыкі з радыкальнымі ісламістамі) аб'явіць *Беларускі Вызвольны Рух* і фронтаўскі Адраджэнскі напрамак у палітыцы – „тэрарыстычным" і прыступіць да ліквідацыі „тэрарыстаў".

Успомніце кагэбоўскую прапаганду супраць БНФ за часы КПСС. Што яны казалі? „БНФ – гэта фашысты, паліцаі, будуць вешаць і расстрэльваць камуністаў, выганяць усіх рускіх, габрэяў ды праваслаўных, увядуць Вунію, навяжуць беларусам „белорусский язык", вернуць „кулакоў" і г.д. Партрэт „беларуса-тэрарыста" ўжо створаны. Гэта „оголтелый националист, фашист и русофоб, ненавидящий всё русское, Россию и руский народ", „выпячивает белорусский язык" і г.д. Застанецца толькі „выжечь калёным железом", „замочить в сортире" і г.д. Поўны набор рускай „палітычнай" лексікі. І мы ведаем, дзе і як яна рэалізуецца.

Тое, што рэжым праз судовую сістэму ўжо зрабіў і робіць далей зь Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам – ***гэта ёсьць палітычная расправа, рэпрэсіі супраць беларускай нацыянальнай журналістыкі і беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэта складовая частка этнацыду беларусаў, якую праводзіць прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі.***

Я ня ўпэўнены, што лібэральны Захад сур'ёзна выявіцца ў гэтым пытаньні.

Нам, беларусам, трэба змагацца адкрыта. Называць рэчы сваімі імёнамі. Толькі тады можна скансалідавацца на абарону сябе і перамагчы.

Што ня можа ня ўражваць – гэта цалкам неадэкватная рэакцыя беларускай грамадзкасьці на рэзкі крок Расеі ў бок анэксіі Беларусі.

Гэта проста шакуе. Тым больш, што У. Пуцін адкрыта кажа: не – саюзу і толькі адзіная дзяржава. А палітэкспэрты Расеі тлумачаць, што гэта – анэксія.

Але на Беларусі стаіць агентурны лямант і зграй, хваляць Пуціна, называюць яго „дэмакратам" і ледзь ні „прыхільнікам" незалежнасьці Беларусі.

Такая ж самая неадэкватная ацэнка ўжо пачынаецца ў справе Маркевіча і *„Пагоні"*.

Тэхналягічная прычына тут вядомая. Паяднаньне нямецка-маскоўскіх інтарэсаў на Беларусі зрабіла „прафэсійны эфэкт": стварэньне (спадаром Вікам) кіруемай лаяльнай да Расеі псэўдаапазыцыі, кантралюемай Захадам (немцамі) і Масквой і стварэньне (практычна, поўнасьцю кантралюемага КГБ-ФСБ) так званага „незалежнага" друку на рускай мове (беларускі зьнішчаецца, і па намерах – мусіць быць ліквідаваны поўнасьцю).

Стварэньне сваёй „апазыцыі" і свайго „апазыцыйнага" друку (ці хоць бы кантроль над ім) ёсьць першасная палітычная задача любых замежных спэцслужбаў у краіне, якая зьяўляецца аб'ектам іхняй інкарпарацыйнай палітыкі. Гэта дае магчымасьць кантраляваць у краіне ня толькі альтэрнатыву, але і марыянэткавы рэжым і марыянэткавую ўладу.

Адсутнасьць рэальнай нацыянальнай сьведамасьці у бальшыні беларускай сацыяльнай і інтэлектуальнай эліты паспрыяла таму, што на Беларусі гэтую апэрацыю ўдалося правесьці амаль па поўнай праграме.

Адзінае, чаго яны ня здолелі зрабіць – зьнішчыць Народны Фронт. Нам удалося ўратаваць большую ягоную частку. Але пасьля расколу і аслабленьня Фронту яму стварылі інфармацыйны цень (дабіваючы, дарэчы, рэшткі беларускага друку.)

У сутыкненьні з імпэрскай палітыкай Расеі ёсьць толькі адзін выхад, адна мадэль і адна альтэрнатыва паводзінаў – змагацца. Змагацца ўсімі спосабамі, ня даць нас стаптаць, забіць, ашукаць, зганьбаваць, прадаць ды купіць. Змагацца, паўтаруся, трэба адкрыта за беларускія нацыянальныя ідэалы, за нацыянальную незалежнасьць і свабоду, за беларускую мову і культуру, за нацыянальную маёмасьць, за ўвесь народ. Калі небясьпека для ўсіх – толькі беларуская ідэя можа скансалідаваць нацыю.

Трэба спыніць абсурд. Нас хочуць захапіць, ліквідаваць дзяржаву, забраць уласнасьць, зьнішчыць як нацыю, а лібэральныя дабрадзеі з Захаду сунуць зялёную паперку беларусу ў ручку і кажуць: давайце змагацца за дэмакратыю. Беларусу зьбіраюцца адрубаць галаву, а інтэрэсанты зь Бэрліну кажуць: вам трэба сур'ёзна падумаць пра прычоску, спадар беларус. Кудлатасьць, маўляў, цяпер у Парыжы ня ў модзе. (Зьнішчэньне нацыі, па лёгіцы гэтых тупіц, відаць, ня ёсьць парушэньнем правоў чалавека.)

Дэмакратыя не экспартуецца, спадары. Гэта ўнутраная справа грамадзтва, якую можна вырашыць толькі пры адной умове: калі будзем існаваць як незалежная дзяржава і дзеяздольная нацыя. Страціўшы галаву, па валасах ня плачуць.

Але ўдакладню. Ёсьць і на Захадзе прыхільныя да Беларусі людзі, і я б сказаў, – бальшыня. Праблема не ў неразуменьні Беларусі з боку Захаду, а ў супрацоўніцтве заходніх прарасейскіх палітычных колаў з Расеяй. Справа ў супадзеньні расейскіх і нямецкіх эканамічных інтарэсаў і геапалітычных плянаў у Паўночна-Ўсходняй Эўропе і ў дачыненьні да Беларусі.

Цяпер мусіць быць барацьба за Маркевіча і Мажэйку. За свабоду гэтых асобаў. Тут пытаньне прынцыпу і прэцэдэнту. У такіх абставінах усё беларускае грамадзтва павінна абараняць і змагацца за кожнага асобнага чалавека, бо ратуючы аднаго, абараняем усіх.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*25 чэрвеня 2002 г.*
*Варшава*

*Надрукавана: (Беларус, – 2002, № 474 ((ліпень)*

# ПРА ЭТНАЦЫД НА БЕЛАРУСІ

Этнацыд на Беларусі ўступіў у новую, адкрытую фазу. Масква адкінула нават прымітыўны камуфляж, які ўжываўся раней. Аб зьнішчэньні беларускай мовы, літаратуры, аб забароне беларускага нацыянальнага жыцьця, аб перасьледзе беларускіх пісьменьнікаў за пісаньне па-беларуску ўлады рэжыму пачалі гаварыць афіцыйна, адкрыта і дзейнічаць адпаведным чынам. Тыповым прыкладам зьяўляецца стварэньне цэнзурнага голдынга над беларускімі літаратурнымі часопісамі, перасьлед рэдактараў і пісьменьнікаў. Пяройдзены яшчэ адзін рубеж у акупацыйнай палітыцы.

Калі гэты наступ беларусы ня спыняць, то палітыка этнацыду будзе разьвівацца далей. Разам з поўнай стратай эканамічнага і палітычнага суверэнітэту, калі прасторы Сібіры стануць даступнымі для чыннасьці акупацыйнай адміністрацыі на Беларусі, пачнецца высылка актыўных і вядомых беларусаў у Сібір і наступнае там фізічнае іхнае зьнішчэньне. Калючы дрот у фінале такой палітыкі, пацыфікацыя, расстрэлы, бежанства і выміраньне – забясьпечаныя. Там, дзе існавала гэтакая палітыка, не было іншых варыянтаў і іншых прыкладаў у гісторыі.

Фаза адкрытага этнацыду ёсьць заўсёды небясьпечная фаза, бо яна пераходная да горшага. Небясьпечная яна яшчэ і тым, што практыкуецца ў асьлепленым грамадзтве, якое можа цярпець і выміраць, але ня ў стане разумець прычыны сваёй бяды і гатовае дзячыць гвалтаўніку. Пакаленьні беларусаў, якіх Масква зьнішчала за тое, што яны беларусы, так і не зразумелі, чаму іх забівалі, і, стоячы на краі Курапацкай ямы, за тры секунды да расстрэлу, задавалі бязглуздае пытаньне: «За што?”

А нядаўна наш вялікі паэт, якому не дазволілі чытаць для моладзі свае вершы, шчыра зьдзіўляўся: ”Ну якая ж палітыка ў маіх вершах пра каханьне?»

Відаць, падразумевалася, што калі па-беларуску пісаць вершы не пра палітыку, а пра каханьне, то Масква дазволіць яму існаваць. І ўсёй беларускай літаратуры таксама.

На жаль, мы вымушаныя канстатаваць, што нават самы страшны, самы тыповы і шмат паўтораны вопыт гісторыі (як, напрыклад, досьвед 30-х гадоў мінулага стагоддзя) беларусамі не засвойваецца і ня робіцца адэкватных высноваў. Прычыны гэтага нам вядомыя. Але вядомыя яны часткова і ворагам беларушчыны, якія лічаць, што псіхіка нацыі зламаная і можна душыць адкрыта, каб выклікаць самазьнішчэньне.

Што трэба ведаць?

Беларусы, якія адукаваныя ў гісторыі ды палітыцы, якія здольныя аналізаваць і асэнсоўваць, павінны ўсьвядоміць галоўную мэту рускай палітыкі на Беларусі. Гэта: ***ліквідацыя беларускай дзяржаўнасьці, уключэньне беларускай тэрыторыі ў зону расейскіх інтарэсаў, расейскай адміністрацыі і пакрокавае вынішчэньне беларускай нацыі.***

Беларусь замінае Расеі. Паводле Масквы, дзяржава Беларусь мусіць быць ліквідаваная.

Калі гэтая відавочная і дэманстратыўная зразумеласьць будзе, нарэшце, усьвядомлена беларускай элітай, то зьнікнуць прынамсі ілюзіі ды ідыёцкія пытаньні: „За што?”. Можа стануць шукаць шляхоў, як змагацца зь вечнай навалай.

Што мы мусім рабіць? Як дзейнічаць?

Неабходна пратэставаць па кожным выпадку этнацыду, па кожным факце;

– дакладна фіксаваць усе факты этнацыду, ягоных спраўцаў і пацярпелых;

– даводзіць гэтыя факты да беларускай і міжнароднай грамадзкасьці з растлумачэньнем мэтаў і зьместу маскоўскай палітыкі этнацыду на Беларусі;

– патрабаваць асуджэньня рускай палітыкі этнацыду на Беларусі ад такіх міжнародных арганізацыяў, як АБСЭ, Гюман Райтс Вотч, Міжнародная Амністыя (да гэтага часу бескарысных ці нават шкодных у справе беларускай дэмакратыі і незалежнасьці);

– паставіць пытаньне аб расейскім этнацыдзе на Беларусі перад Арганізацыяй Аб'еднаных Нацыяў і патрабаваць прыняцьця рэзалюцыі асуджэньня гэтай палітыкі і прыняцьця канкрэтных захадаў супраць рэжыму, які такую палітыку ажыцьцяўляе;



***105. Менск. 1994 г. Перад выбарамі прэзыдэнта.***

– уключыць пытаньне пра этнацыд у падрыхтоўку Ўсебеларускага Сходу па абароне беларускай мовы ад зьнішчэньня і ўдакладніць тэму Сходу як задачу: *Аб супраціўленьні этнацыду беларускага народа і абароне беларускай мовы ад зьнішчэньня*;

– паставіць афіцыйна, пісьмова і канкрэтна (з прывядзеньнем прыкладаў і фактаў) перад кожнай беларускай партыяй, арганізацыяй і афіцыйнай установай пытаньне аб адносінах да этнацыду беларусаў. Прасіць абавязковага адказу на гэтае пытаньне. Дзеля гэтай працы стварыць фронтаўскую (альбо грамадзкую) Камсію ў складзе ня менш трох асобаў;

– сумесна з моладдзю, арганізаваць законнае супраціўленьне этнацыду. Зьдзек над беларусамі і адкрытае вынішчэньне ўсяго беларускага ня мусіць заставацца беспакараным;

– *Народны Фронт* і ягоная *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* мусяць зьвярнуць вялікую ўвагу на палітыка-асьветніцкую праграму ***Беларуская Салідарнасьць***, у рамках якой трэба праводзіць змаганьне з этнацыдам.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту «Адрвджэньне»***

*Надрукавана: (Беларус, – 2002, № 474 (ліпень)*

# АБАРАНІЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І СУВЕРЭНІТЭТ БЕЛАРУСІ – ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА

Ёсьць шмат пытаньняў агульных для беларусаў замежжа, але ўсё найперш вызначаецца на Бацькаўшчыне, у Беларусі. Пакуль ёсьць незалежная дзяржава Беларусь, датуль у замежжы прызнаецца нацыянальны і грамадзянскі статус беларусаў. Ліквідацыя незалежнасьці краіны прывяла б да фатальнага пагаршэньня становішча беларусаў ва ўсім сьвеце. Беларусы ўжо маюць такі адмоўны вопыт.

Аб пагрозе незалежнасьці Беларусі з боку Расеі гаворыцца вось ужо хутка 10 гадоў. Аднак грамадзтва, у якім разбураны гістарычны вопыт, дэфармаваныя нацыянальная сьведамасьць і памяць, – такое грамадзтва робіць высновы не перад, а пасьля падзеяў (калі ўжо можа быць запозна). Тут цяжкасьць. Аднак задача нашага пакаленьня – прадухіліць нацыянальную катастрофу.

Мы мусім улічваць пастаянныя чыньнікі, якія прысутнічаюць у эўрапейскай і расейскай палітыцы, незалежна ад часу і ад палітычнай афарбоўкі ўлады. Пакуль будзе існаваць Расея як канглямэрат народаў у рускай цэнтралізаванай дзяржаве, датуль, незалежна ад таго, хто сядзіць у Крамлі (лібэралы, дэмакраты, манархісты ці камуністы), датуль будзе праводзіцца вялікадзяржаўная шавіністычная палітыка. Ігнараваць гэты чыньнік, дагаджаючы нейкай „дыпляматыі" ці зыходзячы з часовых меркаваньняў, – нельга. Можна, скажам, імкнуцца зьмяніць імпэрскую агрэсіўную прыроду Расеі (як гэта ілюзорна і наіўна спрабуе рабіць Амэрыка), але нельга ігнараваць яе сутнасьць.

Палітыка Расеі на захадзе ў дачыненьні да Беларусі ўвесь час такая ж нязьменная, як на Каўказе, у Азіі, на Далёкім Усходзе, ці ў іншых частках імпэрыі. З той толькі розьніцай, што ў ерархіі яе значэньняў заходні (беларускі) накірунак ацэнены як накірунак №1.

Напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ва Ўсходняй Эўропе абазначылася хвалюючая для аналітыкаў сітуацыя. Пасьля распаду Савецкага Саюза незалежная Беларусь пры нармальным разьвіцьці мела шанец за кароткі час (5-8 гадоў) стаць самай эканамічна разьвітай і магутнай краінай рэгіёна (гэтакім драконам ва Ўсходняй Эўропе).

Эканамічны патэнцыял Беларусі перавышаў патэнцыял Польшчы, тут была самая магутная армія ва Ўсходняй Эўропе (ядзерная зброя і т.п.), разьвітая сельская гаспадарка, вялікая колькасьць ворнай зямлі, навукаёмкая вытворчасьць, усе галіны прамысловасьці і вытворчасьці, разьвітая фундамэнтальная навука, істотныя прыродныя рэсурсы, кваліфікаваныя рабочыя, мноства тэхнічных спэцыялістаў, структураваная сістэма адукацыі і г.д. І пры гэтым – адкрытая сістэма эканомікі (гэта значыць, разьлічаная на вытворчасьць тавараў і таварны рынак).

Мы, *дэпутаты ад Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце*, добра разумелі тады магчымасьці Беларусі. На аснове гэтай пазыцыі (тут я зраблю адступленьне ў бок) у кастрычніку-лістападзе 1990 года была спроба заахвоціць у нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва ўрад В. Кебіча. Гэта было зьвязана з нашай ідэяй Балта-Чарнаморскай садружнасьці усходне-эўрапейскіх краінаў. У 1990 годзе мы арганізавалі ў Менску дзьве Балта-Чарнаморскія міжнародныя канфэрэнцыі. (Прычым адна зь іх, па дамоўленасьці з В. Кебічам, адбывалася ў Доме ўраду ў зале Савета Міністраў БССР і ў Вярхоўным Савеце.)

Крэмль, аднак, рашуча націснуў на Кебіча, пасьля чаго той здаўся і адступіў. Далей рэакцыя Масквы супраць Балта-Чарнаморскай ідэі была вельмі нэрвовай.

Хуткае зьяўленьне беларускага дракона на ўсходзе Эўропы магло б абазначаць канец расейскай імпэрыі, імгненную дэвальвацыю імпэрскіх ідэяў і ўсіх надзьмутых аргумантаў пра „вялікасьць", „шырокасьць" і ўсялякую там „ісьцінnасьць" Расеі.

Атака Расеі на Беларусь была неўнікнёнай. І неўзабаве яна пачалася ўжо ў 1992 годзе (за часы дзейнасьці ў Расеі ўраду Гайдара).

Характэрнасьць беларускай сітуацыі была, аднак, у тым, што спыненьне ўлады КПСС і вяртаньне незалежнасьці краіны было дасягнута малымі сіламі, фактычна, толькі Беларускім нацыянальна-вызвольным авангардам (Народным Фронтам), які, маючы энэргічную фракцыю ў Вярхоўным Савеце, добра выкарыстаў становішча.

Беларускае грамадзтва, аднак, у цэлым было яшчэ не падрыхтаванае да пераменаў, а савецкая намэнклятура, у руках якой засталася ўлада на Беларусі, ня мела ніякіх паняцьцяў пра беларускую геапалітыку і вельмі цьмяныя ўяўленьні пра дзяржаўную дзейнасьць у рэжыме суверэнітэту, да якога беларуская каляніяльная адміністрацыя ніколі не імкнулася.

Расея скарыстала гэтае становішча. Ужо ў другой палове 1992 года, праз КГБ, быў устаноўлены жорсткі кантроль Масквы над урадам В. Кебіча, забаронены рэфэрэндум аб новых выбарах (якога дамогся БНФ), уключаны (з Расеі) мэханізм гіпэрінфляцыі і рабаваньне Беларускай краіны (насельніцтва, эканомікі, дзяржаўнай маёмасьці).

У 1994 годзе Масква, пры дапамозе КГБ, законным спосабам прыводзіць на вяршыню ўлады ў Беларусі сваю крэатуру. Пачынаецца новы этап расейскай палітыкі – этап падрыхтоўкі анэксіі Беларусі.

Тут я адзначу толькі галоўнае. Рэжым, што існуе цяпер на Беларусі, створаны, перш за ўсё, Масквой з мэтай падрыхтаваць Беларусь да здачы пад Расею. Дзеля гэтай мэты была прыдумана і прыстасавана дактрына „інтэграцыі" („саюзу") Беларусі з Расеяй, што давала магчымасьць расейцам весьці працу па ўніфікацыі беларускага заканадаўства (падвядзеньне яго пад расейскае), а таксама дзяржаўных структураў, мытных правілаў, узброеных сілаў і спэцслужбаў, дазволіла ствараць так званыя „саюзныя ворганы", праводзіць сумесныя „калегіі" міністэрстваў, і наладзіць такім чынам поўны кантроль над галоўнымі галінамі беларускай унутранай і зьнешняй палітыкі.

На працягу шэрагу гадоў, бясконца гаворачы пра „саюз" і „інтэграцыю", рэжым на Беларусі развальваў асновы нацыянальнай дзяржаўнасьці краіны, зьнішчаў магчымасьці нацыянальна-культурнай кансалідацыі, верагоднасьць эканамічнага і палітычнага змаганьня беларускай нацыі супраць расейскай агрэсіўнай палітыкі. На сёньняшні дзень мэтанакіравана разбурана беларуская эканоміка, закансэрваваныя непэрспэктыўныя, стратныя яе накірункі, даведзеныя да заняпаду прадпрыемствы. Мэтанакіравана дапушчана вялікая зношанасьць тэхнічных рэсурсаў краіны, абмежаваны і даведзены да дэградацыі ўвесь так званы беларускі „бізнэс", амаль ліквідаваная беларуская школа і нацыянальная адукацыя. Ліквідаваныя нацыянальна-дзяржаўныя сымвалы Беларусі (гэрб і сьцяг), беларуская мова выгнаная з афіцыйнага ўжытку, разбураецца фундамэнтальная навука, спыненае фінансаваньне бібліятэкаў і цэлых галінаў бе-

ларускай культуры, зьнішчаны, практычна поўнасьцю, беларускі нацыянальны друк, беларускія сродкі электроннай інфармацыі, дабіваецца беларускае кнігадрукаваньне.

Каб зрабіць такую каласальную разбуральную працу ў Беларусі за кароткі час і ўпарта рухаць „інтэграцыйную" дэмагогію, мала б было толькі палітычнага рэсурсу расейскай агентуры, і нават усёй старой непавароткай савецкай сістэмы. (Памятаем, што сістэма КПСС ужо не існуе.)

Тым часам „рэсурс" быў знойдзены (і даволі арыгінальны). Пра гэта палітыкі Народнага Фронту казалі і пісалі яшчэ ў 1995 годзе. (Успомнім артыкул *Сяргея Навумчыка „Мэта"* пра пляны Лукашэнкі стаць прэзыдэнтам Расеі.) Я глыбока перакананы, што ідэю аб'яднацца з Расеяй, пэрспэктыву стаць прэзыдэнтам у Маскве і надзею на крамлёўскае царства запалілі ў хворай галаве Лукашэнкі маскоўскія стратэгі імпэрскай палітыкі. Яна стала маторам у душы гэтага чалавека, апантанага ідэяй-фікс, якая прымусіла яго ісьці напралом, нават па касьцях беларускага народа.

Бяз гэтай шалёнай надзеі, бяз гэтакага асабістага пляну на „царства" – усё выглядала б крыху інакш. Лукашэнка наўрад ці ахвяраваўся б гэтак яра толькі дзеля расейскай ідэі, без вялікага ўласнага інтэрасу. Наўрад ці ён быў бы такім хваравіта ўпартым і паслядоўным.

Масква маніпулявала сваёй марыянэткай, і, каб трымаць ініцыятыву ў гульні, пастаянна вінаваціла яго ў тым, што ён, маўляў, хоча ашукаць Расею, уцягнуць яе ў нявыгадны ёй „саюз", пакарыстацца зь яе і г.д. Сцьвярджалася, што гэта, маўляў, ён хоча маніпуляваць Расеяй, падгрэбці яе пад сябе і г.д.

Але настаў час, і ў чэрвені гэтага года маскоўскія лялькаводы, прыдушыўшы Беларусь і загнаўшы Лукашэнку ў кут, заявілі адкрыта: ніякіх саюзаў, толькі адна дзяржава, толькі анэксія Беларусі. Зьмянілася тэрміналёгія, пачалася новая дыпляматыя і гульня адкрыта крымінальнага, гітлерскага кшталту. (***Анэксія ня можа ажыцьцяўляцца законна. Гэта беззаконьне, якое чынецца сілай, гвалтам і ашуканствам.***)

Славаблудзтва, якое зараз штучна выклікана вакол заявы Пуціна, можна не прымаць пад увагу, зьмест заявы зразумелы без камэнтароў.

Небясьпека для беларускай незалежнасьці павялічылася. Расейская Дума нават закон прыняла на выпадак анэксіі: „О порядке принятия в Российскую Федерацию..." Рыхтуецца таксама закон „О борьбе с экстремизмом". Гэта каб пасьля захопу Беларусі можна б было аб'явіць *Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Адраджэнцкі Рух* экстрэмісцкім і распраўіцца зь беларускімі патрыётамі і зь беларускай інтэлігенцыяй пад маркай „барацьбы з тэрарызмам". Чачэнія – выразны прыклад.

Сытуацыя на Беларусі, аднак, значна ўскладнілася невідочным раней чыньнікам заходняй палітыкі (перш за ўсё, нямецкай), геапалітычныя і эканамічныя аспэкты якой напачатку былі проста невядомыя беларускаму грамадзтву.

Аднак ўжо ў пачатку 90-х гадоў было зразумела, што стварэньне і ўмацаваньне асобнага палітыка-эканамічнага і культурнага рэгіёну Ўсходняй Эўропы непатрэбна ні Расеі, ні Захаду. На Захадзе насьцярожана і варожа ўспрынялі ідэю Балта-Чарнаморскай садружнасьці.

Абодва бакі задавальняла ідэя аб падзеле ўплываў ва Ўсходняй Эўропе паміж Расеяй і Захадам. Змаганьне ў той ці іншай форме ішло за кожную краіну. (Успомнім сытуацыю ўваходжаньня Польшчы, Чэхіі і Вугоршчыны ў НАТО.) Цяпер барацьба сканцэнтравалася на Беларусі.

Адкрытым прыхільнікам беларускай свабоды, дэмакратыі і незалежнасьці зьяўляюцца Злучаныя Штаты Амэрыкі. Тым часам прыхільнікам палітыкі Расеі ёсьць Нямеччына, якая дамінуе ў Эўразьвязе і ў АБСЭ і скрыта падтрымлівае пляны анэксіі Беларусі Расеяй.

Выказваньні вядомых нямецкіх палітыкаў (Шродэра, Штойбэра) адназначныя: немцы, маўляў, павінны праводзіць сумесную палітыку з Расеяй. Гэта зьвязана, перш за ўсё, з праблемай і нямецкімі плянамі ў Калінінградзкай вобласьці, з так званым „калідорам" праз Польшчу ці Летуву, з магчымай дэпартацыяй састарэлага рускага насельніцтва з Калінінграда ў Беларусь (як гэта было ў 1990 годзе – з Усходняй Нямеччыны) і ў пэрспэктыве – зь верагодным вырашэньнем пытаньня польскага памор'я (Гданьск, Гдыня, Сопат і г.д.).

Разьменнай манэтай у гэтых выказваньнях і плянах зьяўляецца Беларусь, дзе Расея (а ў выніку „калідора" – таксама і Нямеччына) мае інтарэсы транзітныя, эканамічныя, стратэгічныя і ўвогуле – вялікадзяржаўныя.

Становішча Беларусі ў гэтай раскладцы ўскладняецца тым, што ўлада ў Беларускай дзяржаве акупаваная Масквой (тое, што мы называем тэрмінам „унутраная акупацыя") і краіна ня можа праводзіць самастойнай нацыянальнай палітыкі. Беларусь апынулася ў пастцы, ва ўнутраным катле, дзе беларуская культура і нацыянальныя рэсурсы – вынішчаюцца, і нацыя гіне ў маўклівасьці, бо вораг, фармальна, – нібы і нябачны.

Што ж прынесла ў гэты трагічны час у Беларусь лібэральная Эўропа са сваімі „місіямі", фондамі для „дэмакратыі", „ініцыятывамі" і „правамі чалавека"? Трэба сказаць, што тут было і ёсьць шмат станоўчага, але, на жаль, – пабочнага. Бо галоўную ідэю, якую прынесла сюды лібэральная Эўропа і якую ўкопвае тут з упартасьцю, вартай лепшага ўжываньня, – гэта ідэя *дэмакратыі бяз нацыі*.

Такая пазыцыя, як аказалася, сумяшчаецца з паняцьцем дзяржаўнага сувэрэнітэту А. Лукашэнкі (як сувэрэнітэту таксама – бяз нацыі). І ў Лукашэнкі, і ў эўрапейскіх лібэралаў беларуская культура, беларуская мова і беларуская нацыя аказываюцца аднолькава непатрэбнымі.

Былы кіраўнік Місіі АБСЭ ў Менску Ганс-Георг Вік падтрымліваў антыбеларускую палітыку Лукашэнкі, і нават адкрыта, у нахабнай форме, прылюдна выказваў свае нэгатыўныя адносіны да беларускай мовы.

Ганс-Георг Вік таксама супрацоўнічаў з рэжымам Лукашэнкі па шмат якіх пазыцыях, але найбольш – па пытаньнях легітымізацыі існуючай незаконнай улады (парляманцкай і прэзыдэнцкай) і ў галіне ўключэньня Беларусі ў склад Расеі (пра што сам прылюдна сказаў).

Менавіта Гансу-Геогу Віку і нямецкім дзеячам удалося зрабіць на Беларусі (разам з Масквой) тое, чаго наўрад ці дамаглася б Расея ўадзіночку. У выніку стараньняў Масквы і кіраўніцтва менскай Місіі АБСЭ, у Беларусі быў раздроблены Нацыянальна-Вызвольны Рух, расколаты Беларускі Народны Фронт і галоўнае – створана трэцяя сіла: апазыцыя на эўра-лібэральных прынцыпах дэмакратыі бяз нацыі, што прадугледжвала Беларусь – без беларускай мовы, і ў пэрспэктыве – Беларусь без беларусаў.

У новую, так званую „аб'яднаную апазыцыю" сабралі былых актывістаў з каманды і структураў Лукашэнкі, былых прадстаўнікоў савецкай партыйнай намэнклатуры. Сюды ўвайшлі камуністы, лібэралы, сацыял-дэмакраты, партыі, створаныя спэцслужбамі (лібэральныя дэмакраты) і так званая „прагматычная" частка БНФ, якая, у выніку інсьпіраваных маніпуляцыяў,

адкалолася ад Народнага Фронту. Гэтая „апазыцыя” адкрыта арыентуецца на Маскву. (Мяркуюць, між іншым, пра аўстрыйскі прыклад, калі мова, маўляў, адна – нямецкая, – а дзяржавы розныя.)

Несамастойнасьць і фактычная антынароднасьць гэтай вікаўскай „аб’яднанай апазыцыі” – відавочныя і не патрабуюць нават дэталёвага разгляду. Найбольш шкоднае дзеяньне, зробленае ў апошні час, – удзел у выбарах прэзыдэнта ў 2001 годзе па сцэнары і па пляну Масквы-Бэрліна; потым – у заплянаваным правале гэтых выбараў, і ўскосна – ва ўмацаваньні ўлады Лукашэнкі.

Практычна, спадару Віку і Маскве ўдалося ажыцьцявіць у Беларусі мару спэцслужбаў – стварыць сваю, ручную, кантралюемую апазыцыю і ўсталяваць у краіне кіруемы канфлікт. Марыянэткавы ня толькі кіраўнік выканаўчай улады, але і ягоная „апазыцыя”, а ніткі – у руках адзінага лялькавода.

Як толькі была створана новая „апазыцыя”, уся ўвага Масквы, Захаду і залежнага друку была пераключана толькі на яе, а ўсё, што зьвязанае зь беларускім Адраджэньнем і нацыянальна-дэмакратычным рухам, – ігнаруецца. Гэтак узьнікла выробленая імітацыя палітычных паводзінаў і апазыцыйная фальш, якая перашкаджае ў нацыянальнай кансалідацыі беларускага грамадзтва на барацьбу за незалежнасьць і на змаганьне з антынародным рэжымам.

Істотна адзначыць, што Беларусь ужо, практычна поўнасьцю, пазбаўленая перыядычнага беларускага нацыянальнага друку ў беларускай мове. Астатнія сродкі масавай інфармацыі альбо ў руках рэжыму, альбо ў руках чужых спэцслужбаў (так званы „незалежны” друк на рускай мове).

У гэтакім становішчы дэзыарыентаванага грамадзтва здзяйсьняецца падрыхтоўка анэксіі. Фактычна, адбываецца фізічнае і духоўнае вынішчэньне беларускай нацыі. Тут скарыстоўваецца і Чарнобыльская трагедыя, і адміністрацыйны рэсурс, і эканамічны ціск, і афіцыйная медыцына, і мас-культура, і мас-мэдыі, і суды, і дэзінфармацыя, і школа, і міліцыя, і алькаголь, і шкоднае заканадаўства, і нават крымінальны сьвет.

Паўстае пытаньне: як з гэтым усім вынікова змагацца.? Як ратаваць дзяржаву, нацыю, мову, культуру, маёмасьць, людзей, моладзь ды незалежнасьць, калі ў грамадзтве такая блытаніна, калі нацыянальна-вызвольны рух аслаблены, а Масква і Бэрлін каардынуюць свае дзеяньні супраць Беларусі?

На мой погляд, усім беларусам ***трэба, перш за ўсё, – супраціўляцца палітыцы інтэграцыі і забору.*** Хоць справай, хоць словам, хоць відам ці поглядам, хоць сымвалічна, але – супраціўляцца. Гэта стварае атмасфэру супраціўленьня ў грамадзтве.

Патрэбна вызначыць галоўнае і сканцэнтравацца на ім. Такім галоўным зараз зьяўляецца абарона незалежнасьці. На ахове незалежнасьці цяпер трэба кансалідавацца беларускаму грамадзтву.

Тут будзе розны ўзровень разуменьня, але неабходна ўлічыць, што ў тых, хто адстойвае незалежнасьць Беларусі, узьнікае глыбейшае ўсьведамленьне нацыянальных каштоўнасьцяў, існаваньне якіх забясьпечвае суверэнітэт. Менавіта: нацыянальнай уласнасьці і маёмасьці, тэрыторыі і межаў, функцыі абароны і дзяржаўных структураў, таварнага рынку і працы, фінансаў і нацыянальнай валюты і, нарэшце, – мовы, культуры і адукацыі.

Менавіта на абароне незалежнасьці трэба разьвіваць салідарнасьць грамадзтва. Але неабходна ісьці глыбей, да шырэйшага разуменьня нацыянальных каштоўнасьцяў, бо толькі Беларуская Нацыянальная ідэя, разьвіваючыся ў грамадзтве, можа агулам скансалідаваць усю нацыю.

У беларускім заканадаўстве і праве няма (не закладзена) магчымасьці страты ці абмежаваньня суверэнітэту краіны. Што б хто ні рабіў супраць незалежнасьці Беларусі, гэта будзе антыпраўны, антызаконны акт. Тым часам на абарону суверэнітэту ня толькі мае права, але і абавязаны паўстаць кожны грамадзянін Беларусі і бараніць яго ўсімі сродкамі.

Падрыхтоўка анэксіі і адкрыты ціск на Беларусь з боку Расеі, каардынацыя такіх дзеяньняў з нелегітымным рэжымам Лукашэнкі, гэта ёсьць замах на суверэнітэт Беларусі. Мы можам і мусім у такім становішчы зьвяртацца па дапамогу да міжнароднай супольнасьці.

На маю думку, мы павінны зьвяртацца, перш за ўсё, да краін – гарантаў суверэнітэту Беларусі: Злучаных Штатаў Амэрыкі і Вялікабрытаніі. Тым больш, што трэці гарант суверэнітэту, Расея, парушае гарантыі. (Нагадаю, што ў 1994 годзе Беларусь згадзілася перадаць ядзерную зброю Расеі ўзамен за міжнародныя гарантыі яе суверэнітэту з боку трох краінаў: ЗША, Вялікабрытаніі і Расеі.)

Наступная арганізацыя, дзе можна шукаць разуменьня і падтрымкі, – гэта Арганізацыя Аб’еднаных Нацыяў і яе структуры (тыпу ЮНЭСКА і інш.).

Аднак галоўным суб’ектам суверэнітэту, суб’ектам права, нацыянальнай культуры і палітыкі зьяўляецца сам беларускі народ, беларускае грамадзтва. Да яго трэба найперш зьвяртацца, яго прасіць, яго агітаваць і ў яго патрабаваць.

На мой погляд, адным з важных аспэктаў увагі да беларускага грамадзтва з боку актыўных, арганізаваных і адукаваных беларусаў павінна стаць праца і прапаганда ў сфэры нацыянальнага асьветніцтва.

Ідэя павінна абапірацца на рэальных людзей, што стануць носьбітамі ідэі. Інакш беларускі рух застанецца толькі авангардам нацыі, якой будуць маніпуляваць чужыя сілы.

Гістарычная задача ў тым, каб працэс нацыянальнай кансалідацыі (які ўжо завершыўся) перайшоў бы з пасыўнай у актыўную фазу выяўленьня. Каб вырашаць агульнаграмадзкія задачы, нацыя мусіць быць самасьвядомай і самадастатковай.

*13-14 ліпеня 2002 г.; Вільня*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 4(44).*

# NIECH ŻYJE BIAŁORUŚ!

O obwodzie Kaliningradzkim mówiono od 1996 roku, kiedy komentowałem wypowiedzi A. Łukaszenki o „korytarzu” przez Polskę.

No, właśnie, do czego korytarz Łukaszence? Moskwa za plecami „sojusznika” już wtedy badała ten przyszły problem.

Od dawna istnieje strategia działania Rosji we Wschodniej Europie. Wątpię, że coś podobnego istnieje na Zachodzie. W każdym badź razie stroną aktywną jest Rosja. Zachód ciągle podąża za propozycjami Wschodu.

Oświadczenie Prezydenta Francji Chiraca w sprawie połączenia bezwizowego z obwodem Kaliningradzkim i wypowiedzi na ten temat polityków europejskich wskazują, że już nikt w Europie, dosłownie mówiąc, nie chce walczyć o Białoruś i nawet o Litwę.

W ciągu ostatnich miesięcy politycy, rozmawiając o „korytarzu” czyli „tranzycie” z obwodu Kaliningradzkiego do Rosji, nawet na wyższym szczeblu zachowują się tak, jakby Białoruś nie istniała.

Rosyjski minister spraw zagranicznych I. Iwanow powiedział 10 lipca gazecie „Izwiestija”, że chodzi nie o „korytarz” przez Polskę, lecz o „tranzyt” bezwizowy przez Litwę i że ten „tranzyt” oznacza: „ruch przez terytorium Litwy od jednej rosyjskiej granicy do drugiej.”

Ale Litwa nie ma „drugiej” granicy z Rosja na wschodzie. Tam jest Białoruś.

Wypowiedź rosyjskiego ministra brzmi na tle bezprecedensowego, po II wojnie światowej, oświadczenia prezydenta Putina (24 czerwca) o konieczności, aneksji Białorusi przez Rosję.

Nie chodzi tutaj o burzę, którą wywołały tu w kręgu narodowo-niepodległościowym (BFN) wypowiedzi Rosjan, nie chodzi o notę protestacyjną w imieniu Białoruskiej Republiki Ludowej (rząd na wygnaniu), lecz chodzi o dziwne milczenie w Europie.

Jako historyk jestem wstrząśniety, że po uplywie 64 lat po „Anschluß” Austrii, powtarza się, nawet w szczegółach, taka sama historia na wschodzie Europy i powtarza się taka sama ślepota miedzynarodowego społeczeństwa.

Nie mówię teraz o niebiezpieczeństwie dla Europy ze strony pojelcynowskiej Rosji, lecz nie mogę nie zwrócić uwagi, że w latach 30-tych cała Austria zgodziła się na „Anschluß”. Natomiast na Białorusi jest zupełnie inna sytuacja. Białorusini nie chcą być w Rosji. Olbrzymia wiekszość społeczeństwa białoruskiego (nawet według rosyjskich informacji – więcej niz 90%) nie chce Rosji, nie chce stracic niepodległości.

Oświadczenie Putina o aneksji w stosunku do członka ONZ i suwerennego państwa jest bez wątpienia przejawem agresji, łamaniem prawa międzynarodowego, barbarzyńska polityka.

Może ktoś oczekuje, że białoruskie społeczeństwo, aktywne grupy społeczne, partie, emigracja kapitulują? Może spodziewa się, że Białoruś nie będzie walczyć?

Nawet Rosja tego nie oczekuje. Przygotywuje akty prawne „O włączeniu do Federacji Rosyjskiej...”, „O zmaganiu z ekstremizmem...”, z „teroryzmem” i inne.

Stwarza się grunt prawny, żeby, nazywając opór białoruski „ekstremizmem”, lub „teroryzmem”, wyniszczyć białoruską inteligencję, ruch narodowo-wyzwoleńczy (najpierw BFN), a w końcu i cały naród. Mamy wielkie historyczne doświadczenie w XX stuleciu i trzy miliony ofiar zamordowanych przez rosyjskie NKWD (który teraz jako KGB rządzi w Rosji i na Białorusi). Mamy przykład Czeczenii.

No, rzeczywiście, za Białoruś będą umierać tylko Białorusini. Europa nie będzie. Nikt nie czeka. (Pamiętacie: „czy warto umierać za Gdańsk?”) Mówiac o kolejnym „korytarzu” czyli „tranzycie” z obwodu Kaliningradzkiego, wszyscy „ze zrozumieniem” milczą o Białorusi. Białoruś w głowach milczących już nie istnieje. Chociaż żadnym „korytarzem” („tranzytem”) nie można ominąć Białorusi.

Białoruska tragedia nadal trwa. Ale wiem, że nagle wszystko może się zmienić. Tam, gdzie był pokój, już go może nie być. Taka często jest cena milczenia i przemilczenia, kiedy ma się do wyboru tylko jedno postępowanie: umrzeć za wolną Białoruś.

***Zianon PAŹNIAK***
***Przewodniczący Białoruskiego Frontu Narodowego***
***Frontu Narodowego „ Odrodzenie”***

*25 lipca 2002 r. Warszawa*

# РАЗВАГІ АБ БЯГУЧЫМ МОМАНЦЕ

***(Вытрымкі з выступу на Сойме БНФ 10 жніўня 2002 г.)***

Галоўнае пытаньне – пагроза з Усходу, якая павялічваецца і набывае ўсё больш цынічныя і агрэсіўныя формы.

Расейскія гэбоўцы адкрыта заявілі пра пляны захопу (анэксіі) нашай краіны. У нармальных абставінах і ў нармальным грамадзтве да гэтакіх заяваў трэба адносіцца вельмі сур’ёзна, бо гэта ёсьць папярэджаньне пра вайну.

Перад беларусамі стаяць зараз дзьве задачы: палітычна прадухіліць анэксію і падрыхтавацца да барацьбы па абароне краіны (з прычыны пагрозы анэксіі). У выпадку агрэсіі гэтага вымагае грамадзянскі абавязак і Канстытуцыя.

У выпадку анэксіі, калі ня будзе збройнага супраціўленьня акупантам з боку беларусаў, Беларусь гэтай чарговай расейскай акупацыі ўжо можа не перажыць. (Нацыю вынішчаць пры дапамозе Захаду па новых тэхналёгіях.) Збройнае змаганьне ў такіх абставінах будзе абавязковай умовай захаваньня незалежнасьці і нацыянальнай будучыні.

Улічваючы становішча, мы мусім арганізаваць надзвычайныя высілкі па першай грамадзкай задачы – палітычным прадухіленьні анэксіі і недапушчэньні захопу нашай краіны.

Мы павінны зыходзіць ня толькі з ужо існуючай рэальнасьці (якая дэманструе нашыя абмежаваныя магчымасьці), але мець на ўвазе і нашу агромністую патэнцыяльную сілу, якая можа паўстаць (пры правільным разуменьні, правільных дзеяньнях і правільнай палітыцы).

Трэба ўлічваць маральна-палітычны заняпад у сьвеце з прычыны ягонай аднапалярнасьці і дамінацыі левых сілаў. Неабходна мець на ўвазе будаўніцтва ў Эўропе новай лібэральнай імпэрыі на базе агульных матэрыяльных інтарэсаў (агульнага рынку) і пры поўнай адсутнасьці ідэяў. Трэба зважаць на нямецка-расейскія інтарэсы і агульную нямецка-расейскую палітыку (асабліва, што датычыць Беларусі, Калінінградзкай вобласьці і Польшчы). Мы мусім зыходзіць з верагоднасьці амэрыкана-іракскай вайны, якая можа справакаваць агрэсію Крамля супраць Беларусі. (Амэрыцы будзе не да нас, а цана на нафту ўзрасьце, што павялічыць прыбыткі і магчымасьці Расеі.)

* * *

Прыходзілася ўжо ня раз пісаць, што нягледзячы на адданасьць Маскве, Крэмль адносіцца да сваіх паслугачоў з гэбоўска-намэнклятурнай грэблівасьцю. Падзеі траўня-чэрвеня (заявы У.Пуціна пра Беларусь) зноў ілюструюць, што Маскве патрэбныя беларуская тэрыторыя, зямля, прамысловасьць, рэсурсы, але не Лукашэнка. Калі б толькі яны Беларусь загрэблі, то Лукашэнка быў бы імі зьнішчаны (спачатку палітычна, а потым і фізічна; спосабаў у іх хапае).

Ня выключана, што узурпатар улады на Беларусі гэта у стане зразумець, але (улічваючы ягоную псіхалёгію) наўрад ці паверыць, што такое можа стацца. Сёньня мы бачым, як Масква спрабуе дрэсіраваць свайго васала на дармовую здачу краіны, і як ён няўхлюдна не паддаецца, імкнучыся захаваць асабісты інтэрас.

Увага. Тут узьнікаюць складаныя дачыненьні, якія вымагаюць беспамылковых ацэнак. Зьвярніце ўвагу, што ў канфлікце Масквы з Лукашэнкам ягоная „апазыцыя" і ўся гэтая агентурная так званая „дэмакратычная" шваль (якая камэнтуе спрэчныя дачыненьні) прымае неўпрыкмет пазыцыю Крамля. Ім хочацца (усім гэтым „былым", якіх ён вытурыў), каб Масква дала ў косьці ўзурпатару і пакарала б іхняга крыўдзіцеля. І ня важна, якой цаной. Хоць справа йдзе пра цану Беларусі, а пазыцыя дыктатара (напрыклад, у жаданьні не аддаваць нацыянальную ўласнасьць задарма) часова супадае зь беларускім нацыянальным інтарэсам.

Вось вам яшчэ адна ілюстрацыя выкарыстаньня Масквой „кіруемага канфлікту" у адзінай сазлучанай сістэме: „рэжым – апазыцыя". Выкарыстоўваецца псіхалёгія пакрыўджаных халуёў, з улікам адсутнасьці ў іх сьведамага нацыянальнага думаньня.

Зважайма. Мы – адраджэнцы – ня мусім нічаму перашкаджаць, што спрыяе ўмацаваньню суверэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі (нават калі якія-небудзь дзеяньні вымушана зыходзяць ад нашых праціўнікаў). Але пры гэтым мы павінны праводзіць сваю актыўную нацыянальную палітыку, каб не апынуцца ў залежнасьці ад палітыкі чужой.

Гэта адзін аспэкт нашай паставы ў ацэнцы ўзаемадачыненьняў рэжыму і ягонай „апазыцыі" з Масквой.

Ёсьць другі аспэкт, ня менш важны, які вымагае ад нас пэўнай дыпляматыі і ня мусіць быць на віду. Таму пра яго гаворыцца, але ня пішыцца. З улікам другога аспэкту, мы мусім будзем добра прааналізаваць сытуацыю і праводзіць палітыку, якая спрыяла б абароне незалежнасьці краіны і дапамагала б выхаду з дыктатуры.

* * *

Цяпер вельмі выразна і адкрыта відаць „пакрокавая" тактыка Масквы ў падрыхтоўцы захопу нашай краіны і вынішчэньні ўсяго беларускага. З прыходам Пуціна да ўлады ў Расеі дзеяньні рэжыму на Беларусі набываюць асабліва грубы і цынічны, адкрыта акупацыйны характар.

У захопніцкай палітыцы Расея (як і немцы, і любая імпэрыя) заўсёды старалася стварыць на тэрыторыі краіны, якую зьбіраецца акупаваць, канфлікт пакрыўджаных, прэцэдэнт быццам бы парушэньня правоў нейкай групы (за якую Расея пачынае ўступацца). Пасьля гэтага ўламваліся „спасаць" то „праваславіе", то „рускаязычных", то „па просьбе трудзяшчыхся" ды „брацкіх парцій", то каб „зьнішчыць тэрарыстаў" (узарваўшы папярэдне дамы і людзей у Расеі), то проста „з гуманных меркаваньняў", каб „гразіць шведу" і г.д.

Цяпер Масква, выкарыстоўваючы рэжым Лукашэнкі, пачынае акурат новую авантуру на Беларусі: пляную пасварыць наш народ на рэлігійнай глебе, скарыстаўшы поліканфэсійнасьць беларускай нацыі. Схема канфлікту распланавана груба і лапідарна. Падрыхтаваны праект закона, дзе ўсе правы даюцца кагэбізаванай Рускай Праваслаўнай Царкве на Беларусі. Чужая царква (якая ў меншасьці) атрымлівае ўсе правы. Астатнія беларускія канфэсіі (якіх большыня) пазбаўляюцца элемэнтарных правоў. Плян просты, як кол. Генэральскае думаньне. Спадзяюцца падставіць папоў (у пагонах), і потым – „зашчышчаць абіжаных".

Я не спыняюся больш падрабязна на гэтай палітыцы Масквы. (Яна тут не складаная, варварская і добра вядомая.)

Хачу толькі яшчэ падкрэсьліць, што палітычная партыя не павінна ўмешвацца ў канфэсійныя і рэлігійныя дачыненьні. Сьцеражы нас Бог цягнуць папоў, ксяндзоў, ці якіх-небудзь рэлігійна скасабочаных людзей ў палітыку.Тут – табу. Тым больш, што адзінства нашага народа трымаецца на беларускай нацыянальнай культуры, і ні на чым іншым. (У пляне рэлігіі мы – не ірляндцы, і нават не палякі.) У цяперашніх варунках ***самая вялікая дзейнасьць у Беларусі, якая стаіць над усім, – гэта палітыка***.

*10 жніўня 2002 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 5(45);*

# АБ УЛЬТЫМАТЫЎНЫХ ЗАЯВАХ РАСЕЙСКАГА КІРАЎНІЦТВА

***(Ліст да ўсіх беларусаў. 15 жніўня 2002 г.)***

14 жніўня прэзыдэнт Расеі У. Пуцін публічна аб'явіў пра расейскі плян анэксіі Беларусі, распрацаваны расейцамі па гітлераўскай схеме аншлюсу Аўстрыі ў 1938 годзе.

Расейцы плянуюць, скарыстаўшы А. Лукашэнку, прымусіць беларусаў, насуперак Беларускай Канстытуцыі, правесьці ў траўні 2003 года рэфэрэндум на Беларусі аб ліквідацыі беларускай дзяржавы і ўваходжаньні ў склад Расеі ў якасьці расейскіх губэрніяў. *„Я па-іншаму сабе гэтага не ўяўляю"*, – цынічна заявіў У. Пуцін.

Такія заявы, згодна міжнародных дачыненьняў, ёсьць фактычным папярэджаньнем аб аб'яўленьні вайны, сьведчаньнем палітыкі грубых пагрозаў акупацыі і шантажу.

Нельга ўспрымаць гэтакія зьняважлівыя ўльтыматумы нібы нейкія палітычныя паказныя і несур'ёзныя гульні, як гэта ўжо стараецца і будзе старацца даводзіць усялякая „апазыцыйная" прарасейская агентура.

Захоп Беларусі падрыхтоўваецца Расеяй на працягу апошніх сямі гадоў, пры дапамозе незаконнага рэжыму Лукашэнкі.

Але, нягледзячы на ўнутраную акупацыю беларускай улады расейскімі разьведвальнымі спэцслужбамі (КГБ-ФСБ), працягвае дзейнічаць беларускае права і беларуская Канстытуцыя, прынятая ў 1994 годзе. Працягвае дзейнічаць Рада Беларускай Народ-

най Рэспубліکі і Старшыня Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня. Працягвае існаваць Беларуская дзяржава і беларуская нацыя.

Ніякія пляны і патрабаваньні агрэсіўнага боку (аб правядзеньні рэфэрэндуму пра здачу Беларусі ў Расею, пра ўвядзеньне расейскіх грошай на Беларусі і г.д.) не павінны прымацца пад увагу. Ніхто ня мусіць і ня мае права іх ажыцьцяўляць. Беларуская Канстытуцыя не дазваляе такія дзеяньні.

Беларуская Канстытуцыя сцьвярджае (арт. 57), што ***„абарона Рэспублікі Беларусь – абавязак і сьвяты доўг грамадзяніна Рэспублікі Беларусь".***

Заявы расейскага вышэйшага кіраўніцтва (папярэдняя заява была 24 чэрвеня) аб плянах захопу Беларусі (здавалася б, неверагодных у XXI-м стагоддзі) робяцца ўсё больш агрэсіўнымі, пры заведамым маўчаньні эўрапейскай супольнасьці.

Мы павінны ўсьвядоміць, што ніякая Эўропа, ніякая Эўрапейская супольнасьць дзяржаваў ня будуць бараніць Беларусь, ня стануць ахвяравацца за нашу свабоду. Ня трэба мець ілюзіяў. Мы павінны спадзявацца толькі на сябе. Сіла – у нас самых.

Мы, беларусы, мусім выразна і рэальна зразумець, што маскоўская палітыка накіраваная на анэксію і захоп нашай краіны, ня спыніцца, пакуль мы самы ня створым ёй моцны і рашучы адпор.

Надыходзіць момант ісьціны, і нельга марудзіць. Перад беларусамі дзьве задачы: ***палітычна прадухіліць анэксію і падрыхтавацца да рашучай барацьбы па абароне краіны.*** У выпадку агрэсіі (і ўмяшальніцтва ў любой форме) да змаганьня са зброяй у руках вымагаюць нацыянальная годнасьць, грамадзянскі абавязак і Канстытуцыя. Расейцы не павінны ўвайсьці на Беларусь, як некалі немцы ў Чэхаславаччыну. Усім, хто здольны ўзяць у рукі зброю і змагацца за Беларусь (у тым ліку і вайскоўцам у войску), трэба рыхтавацца і падумаць пра гэта *ўжо цяпер*; усім, хто ня хоча стаць рабамі расейскіх крымінальных нуворышаў ды іхным гарматным мясам на Паўночным Каўказе, усім, хто ня хоча быць абрабаваным і вынішчаным, як шматпакутны чачэнскі народ.

Некаторыя беларусы мяркуюць (відаць, пад уплывам афіцыйнай прапаганды), што трэба ўсё ж мець нейкія „саюзныя" стасункі з Расеяй, але не паступаючыся беларускім суверэнітэтам. Гэта памылковая думка і вельмі небясьпечная ілюзія.

Ужо на другі дзень пасьля заявы У. Пуціна вядучыя рускія палітыкі і чыноўнікі (спадары Вішнякоў і Селязьнёў) цынічна засьведчылі, што варыянт „інтэграцыі" па прынцыпу „саюза" Расеі зь Беларусяй (2-гі варыянт Пуціна) – гэта толькі больш павольны шлях да 1-га варыянту – анэксіі Беларусі.

Хіба можна казаць пра нейкія „саюзы" з Расеяй, калі ўся гісторыя дачыненьняў, уся сучаснасьць, уся расейская палітыка, усё расейскае гаварэньне і рабленьне сьведчаць толькі пра адно іхняе расейскае імкненьне: праглынуць і зьнішчыць Беларусь. Яны ж не скрываюць гэтага!

Складваецца ўражаньне, што Пуцін з Лукашэнкам зноў разыгрываюць традыцыйную схему „кіруемага канфлікту". Прапануюцца на выбар два дрэнныя варыянты: „найгоршы" і „горшы", каб людзі, напалохаўшыся „найгоршага", пагадзіліся б на „горшы". Такім чынам хочуць загнаць беларусаў у расейскую пастку (каб самы беларусы ў яе і ўскочылі).

Памятайма: калі з нашага боку ня будзе моцнага супраціўленьня, яны зробяць анэксію. Настане чарговая расейская акупацыя (бальшавіцкая акупацыя ўжо каштавала нам больш за тры мільёны ахвяраў, страты сталіцы, вынішчэньня нацыянальнай культуры і велізарных народных пакутаў). Яшчэ адной расейскай акупацыі (калі б яна сталася) Беларусь магла б ужо не перажыць. Нацыю вынішчаць пры дапамозе новых тэхналёгіяў (і пры маўчаньні Эўропы).

Мой зварот да ўсіх беларусаў: ***ня баймася а рыхтуймася да барацьбы за Беларусь. Падтрымайце ўсе.***

Успомнім, як у 1991 годзе вельмі малымі сіламі, групай адданых Беларусі людзей у Вярхоўным Савеце краіны была вернута беларуская незалежнасьць. То на якія подзьвігі здольная наша сіла вялікая?!

Рыхтуймася да перамогі, да пераменаў, што залежаць ад нас. Беларусы мусяць зьберагчы сваю дзяржаву. Толькі ў змаганьні адстойваецца незалежнасьць і гонар, і здабываецца нацыянальная воля.

*15 жніўня 2002 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 6(46).*

# АБ КАНКРЭТНЫХ ДЗЕЯНЬНЯХ. ПЕРШЫ ЧЫН

***(Ліст да ўсіх беларусаў. 19 жніўня 2002 г. (Скарочана)***

Небясьпека над беларускай незалежнасьцю навісла з 1994 года. Цяпер, пасьля грубых заяваў Масквы пра планы анэксіі Беларусі, гэтая небясьпека набывае агрэсіўныя формы.

***Галоўнай першачарговай задачай для беларускага грамадзтва ёсьць абарона суверэнітэту і незалежнасьці Беларусі, змаганьне супраць расейскай агрэсіі.***

Беларусы ва ўсім сьвеце мусяць выступіць адзіным фронтам у абароне незалежнасьці нашай дзяржавы. Змагаемся ўсюды, дзе мы ёсьць: ад глухога беларускага мястэчка да Менску, ад Менску да Нью-Ёрка, Отавы, Парыжу, Лёндана і Сіднэя. Жыве нашае беларускае Алраджэньне, жыве Рада БНР, жыве Беларусь!

Асновай змаганьня супраць расейскай агрэсіі і прарасейскага акупацыйнага рэжыму ёсьць Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Палажэньні артыкула 1-га Канстытуцыі абавязваюць нас стаць на абарону нашай краіны перад пагрозай расейскай акупацыі.

***„Артыкул 1. Рэспубліка Беларусь – унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.***

***Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыцьцяўляе ўнутраную і зьнешнюю палітыку. Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, канстытуцыйны лад, забясьпечвае законнасьць і парадак." (арт.1)***

***„Не дапускаецца заключэньне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі"***, – гаворыцца ў артыкуле 8.

***„Тэрыторыя Беларусі адзіная і неадчужальная"***, – вызначае артыкул 9.

***„Абарона Рэспублікі Беларусь – абавязак і сьвяты доўг грамадзяніна Рэспублікі Беларусь“***, – сказана ў артыкуле 57.

Рэспубліка Беларусь зьяўляецца сябрам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў і мае права на міжнародную падтрымку супраць агрэсара.

Цяпер, калі Масква адкрыта аб'явіла пра план і тэрмін захопу Беларусі, у той час, калі рэжым узурпатара Лукашэнкі здрадзіў беларускаму народу і Беларускай дзяржаве, стаў выканаўцам расейскіх захопніцкіх планаў, справу абароны дзяржавы ад зьнешняй агрэсіі, у адпаведнасьці з Канстытуцыяй, павінен узяць у свае рукі беларускі народ на Бацькаўшчыне і ва ўсім сьвеце (куды вымушана закінуў беларусаў лёс і прыняло змаганьне з рускім імпэрыялізмам).

Першыя крокі мусяць быць зробленыя тут, у нас, у Рэспубліцы Беларусь.

З мэтай абароны ад расейскай агрэсіі паўсюдна (у гарадах, раёнах, вёсках, на прадпрыемствах, ва ўстановах) ствараюцца ***грамадзкія Камітэты па абароне ад расейскай агрэсіі (Камітэты па абароне)***.

…Беларусам неабходна згуртавацца. Мы павінны пазнаваць адзін аднаго паўсюдна, дзе б мы ні былі. Трэба гаварыць пабеларуску, насіць і карыстацца нашай сымволікай.

Усім беларусам трэба памятаць пра падступнасьць расейскай агрэсіі і маскоўскага плану захопу нашай тэрыторыі. Яны прагаварыліся (Селязьнёў, Вішнякоў і іншыя), што стварэньне „саюзу“ Беларусі з Расеяй было б першым этапам на шляху да анэксіі. Тады (пасьля заганяньня ў „саюз“) захапіць Беларусь ім было б ужо лягчэй.

Мы павінны быць цьвёрдымі ў абароне сваёй жыцьцёвай прасторы, сваёй культуры, спадчыны, дзяржавы і незалежнасьці.

Мы мусім заўсёды даваць рашучы адпор нахабству, хамству, варварству акупантаў, чужой агентуры, якая быццам бы „развaжае“, што, маўляў, яны ня супраць незалежнасьці, але за „саюз“ з Расеяй. Нельга дазваляць антыбеларускую агітацыю.

Трэба брацца за працу і рыхтавацца да змаганьня.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Вольная Беларусь (Бюлетэнь БКА), – 2002, № 1 (верасень); (Беларус, – 2002, № 476 (верасень)*

# ГЭБІЗМ* БЕЗ ДЫПЛЯМАТЫІ

15 жніўня, адразу пасьля агрэсіўнай заявы Пуціна супраць Беларусі, расейскае тэлебачаньне *НТВ* (перадача на замежжа) паказала інтэрв'ю са старшынёй ЦВК Расеі А. Вішняковым (кадравым гэбістам). Падаём вытрымкі з гэтага інтэрв'ю.

**Вядучы**: – Як вы адносіцеся да прапановы Пуціна? (Да заявы пра анэксію Беларусі, – *рэд.*)

**Вішнякоў**: – Ідэя абсалютна здаровая, ідэя, урэшце рэшт, ад якой выйгралі б народы.

**Вядучы**: – У чым выйгралі?

**Вішнякоў**: – Названыя два варыянты. Розьніца вялікая, бо тут (1-ы варыянт – анэксія, адна дзяржава, – *рэд.*) выразныя, зразумелыя механізмы кіраваньня гэтай дзяржавай, правы і абавязкі грамадзянаў, абарона гэтых правоў грамадзянаў. Гэта механізм функцыянаваньня дзяржавы. А там (2-гі варыянт – саюз дзяржаваў, – *рэд.*) – гэта трохі аморфнае ўтварэньне, якое, як правіла, потым пераходзіць у гэтую саюзную адзіную дзяржаву. Таму калі не гатовыя адразу зрабіць і перайсьці да адзінай дзяржавы, прамежкавы мадэль – гэта „Эўразьвяз“, а ў канцовым выніку, гэта напэўна – адзіная дзяржава.

Ясьней ня скажаш. Гэта той выпадак, калі прыродная прастата і салдафонскае думаньне даюць максімум інфармацыі

* * *

У гэты ж дзень, 15 жніўня, беларуская рэдакцыя радыё „Свабода“ трансьлявала інтэрв'ю з актывістам падстаўной вікаўскай „апазыцыі“** Юры Хадыкам. Пытаньне было зададзена пра сустрэчу Пуціна з Лукашэнкам і агрэсіўную заяву расейскага прэзыдэнта. Ю. Хадыка сказаў наступнае: „Мне спадабалася ўчорашняя сустрэча, таму што яна выклікала ў мяне сімпатыю да абодвух прэзыдэнтаў. З майго пункту погляду, Пуцін, як чалавек рацыянальны, адчайна спрабаваў выйсьці са сфэры ірацыянальнага, той сфэры, дзе да сёньняшняга дня абарочвалася гэта ідэя саюза.

Ён абсалютна разумна, абгрунтавана прапанаваў як найзразумелыя і кантралюемыя мадэлі. І гэта паставіла, безумоўна, спадара Лукашэнку ў вельмі цяжкую сытуацыю. Ягоныя словы, якія ён сказаў у менскім Аэрапорце-2 наконт таго, што на рэфэрэндуме, калі будзе пастаўлена праблема ўваходжаньня ў склад Расейскай Фэдэрацыі не суб'ектам, то кожны беларус прагаласуе супраць. Пагэтаму я лічу, што праблема саюза (як бы паглынаньне Беларусі) не наблізілася, а толькі аддалілася“.

* * *

А перад гэтым, 16 чэрвеня, пасьля першых заяваў Пуціна пра намер Масквы анэксаваць Беларусь (пра „мухі ды катлеты“) выступіў на радыё „Свабода“ яшчэ адзін „тытан думкі“ – былы лукашэнкаўскі міністар і амбасадар Міхаіл Марыніч. Вялікі „апазыцыянэр“ даў ацэнку заявам і сказаў наступнае: „Гэта вельмі добра, калі прэзыдэнт Расеі канчаткова зразумеў, што прэзыдэнта Лукашэнку не турбуе эканоміка нашай радзімы. Ён дамагаецца кіраваць ня толькі Беларусьсю, але і Расеяй, таму што вельмі падштурхоўвае расейскіх сваіх паплечнікаў, каб хутчэй утварыць наддзяржаўныя органы ўлады.

Пуціну гэта ня трэба. Ён усьвядоміў, зразумеў, што беларусы жадаюць мець самастойную, суверэнную краіну.

Гэта перамога дэмакратычных сілаў Беларусі.

Я ўпэўнены, што Пуцін адступаць ня будзе“, – падсумаваў „дэмакрат“ Марыніч.

Як кажуць, пакідаем гэта без камэнтароў. І так зразумела. Бо лепш ня скажаш, чым сказалі гэтыя „геніі“ крамлёўскай „дэмакратыі“.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 5(45); Пад псэўданімам Адам МІКША)*

---

* Маецца на ўвазе „гэбізм“ як накірунак (характар) цяперашняй рускай палітыкі і вобраз думаньня.

** Перад гэтым (пасьля нікчэмных прэзыдэнцкіх выбараў, калі ўся маргінальная „апазыцыя“ выбірала камуніста-цэкіста Ганчарыка) Ю. Хадыка назваў гэтую вікаўскую „дэмакратычную апазыцыю“ „сольлю зямлі“ і засьведчыў, што яе арганізаваныя формы ўтвораныя летам 1999 года „па ініцыятыве КНГ АБСЭ“, якой кіраваў Ганс Вік (гл. Народная Воля, – 2001, 18 сьнежня)

# ПЕРАМОГА БУДЗЕ ЗА НАМІ!

*(Ліст да землякоў-беларусаў)*

…Расейскі імпэрыялізм адкрыта заявіў пра свае пляны і тэрміны захопу (анэксіі) Беларусі. Пачынаецца міжнародны разбой. Дарогу агрэсіі вызначыла вайна ў Чачэніі і Аўганістане. Цяпер расейскія падпальшчыкі вайны перакідваюцца ў Цэнтральную Эўропу, ствараюць праблему Калінінградзкай вобласьці і заяўляюць пра намеры захопу Беларусі – краіны-удзельніцы ААН.

Пра падрыхтоўку падзеяў, якія цяпер адбываюцца, пра мэты і пляны расейскай агрэсіўнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі прыходзілася адкрыта папярэджваць, пісаць і казаць яшчэ ў 1994-96 гадах, з поўным вызначэньнем сутнасьці, тэрміналёгіі і называньнем рэчаў сваімі імёнамі.

Рэакцыя Масквы і прамаскоўскіх прыслужнікаў-камуністаў на Беларусі была істэрычнай. Яны захлыналіся ад злосьці (галасавалі нават у Вярхоўным Савеце аб узбуджэньні супраць мяне крымінальнай справы).

Нянавісьць і абплёўваньне майго імя, інсьпіраваныя „пятай калёнай" і расейскай разьведвальнай агентурай на Беларусі, вялі да лягічнага завяршэньня бруднай палітыкі – да плянаў забойства. Гэта стала вядома і выклікала прычыну маёй эміграцыі.

Цяпер тое, што Масква рабіла супраць Беларусі часткова таемна, сталася ўжо відочным. Можна чакаць чарговага вывяржэньня нянавісьці і паклёпу.

За гады майго палітычнага змаганьня ў эміграцыі якія толькі арсэналы брудных тэхналёгіяў ні выкарыстоўвалі супраць мяне. „Палітычны труп," – хорам паўтаралі маскоўскія паліттэхнолягі. Альбо: „ён уцёк", „ён спалохаўся", „яго забылі", „ён адарваўся", „ён не арыентуецца", „ён зьехаў", „ён ніхто", „непатрэбны чалавек", „кулю яму, кулю", „кто пульнёт?" і г.д.

Усім знаёмыя гэтыя „ідэалягемы", як называюць такія фармулёўкі па абплёўваньні палітычнай асобы гэбісты, што іх прыдумваюць і распаўсюджваюць.

У апошні час выпрацавалі казуістычны выверт, які гучыць так: „Чаму ён не вяртаецца?" ці „Калі гэта ён вернецца?". Мадыфікацыя на ўсе лады. Напрыклад: „Прыязджайце, Зянон Станіслававіч (ці „вяртайцеся"), будзем разам змагацца". Альбо: „Калі вернецеся, Зянон Станіслававіч?" і г.д.

Ёрніцтва прыдумана з улікам агульнавядомага распараджэньня Лукашэнкі схапіць мяне на мяжы пры спробе яе пераезду. (Пад гэта ж адчынілі на мяне яшчэ крымінальную справу, нібыта за палітычныя артыкулы, надрукаваныя ў беларускіх газэтах.)

Паколькі вядома, што прыехаць немагчыма (бо схопяць на мяжы), „ідэалягема" прыносіць вялікую радасьць яе стваральнікам. Агентура пісакаў (і часам проста недалёкія людзі, якія не разьбіраюцца) не стамляюцца яе паўтараць.

Палітыкі звычайна не зьвяртаюць увагі на арганізаваныя абгаворы (і нягоднікі гэтым карыстаюцца). Бо ўступаць у высьвятленьні з нізкасьцю – гэта тое самае, што адказваць на сабачы брэх. Тут адно з двух: альбо ісьці і не зьвяртаць увагі (як робіць бальшыня людзей), альбо ўзяць кій і пагнаць усю зграю.

Ня маю ніякай ахвоты махаць кіем (шкода часу), але мушу заўважыць некаторым „гаспадам", што за гэтай бруднай справай стаяць.

***Беларускае Адраджэньне жыве і будзе жыць! Мы зрабілі высновы з крывавай нашай гісторыі і навучыліся палітычна змагацца з маскоўскім варварствам. З намі не паўторыцца і ня ўдасца так, як з Ластоўскім, Лёсікам, Цьвікевічам, Тарашкевічам ды іншымі беларускімі адраджэнцамі, якіх расейцы завабілі ў БССР і замардавалі ўсіх.***

***У змаганьні трэба перамагаць, і мы пераможам гнілую імпэрскую Расею, як некалі перамаглі глінянага велікана – Савецкі Саюз.***

Цяпер, у асаблівы для Беларусі час, я зьвяртаюся да ўсіх беларусаў: ня слухайце нізкай, варожай, антыбеларускай прапаганды. Падтрымлівайце людзей, што ахвярна працуюць для Беларусі і змагаюцца за яе шчасьце. Ня слухайце моўчкі, калі нягоднікі адмыслова абгаворваюць нашага вялікага Васіля Быкава. Давайце адпор. Не дапускайце, каб бэсьцілі Раду БНР (бо каб не было БНР – ужо не было б і ўсіх нас). Не дазваляйце зьнеimportant важаць нашыя сьвятыя сымвалы – гэрб *Пагоню* і *Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг,* нашу спадчыну, Курапаты, гісторыю, нашу беларускую мову, нашу сьвятую Бацькаўшчыну Беларусь.

*20 жніўня 2002 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Беларус, – 2002, № 476 (верасень)*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ І БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

Наша вайсковая слава ў тым, каб малалікай, але моцнай сілай граміць шматлікага ворага. Так было пад Воршай у 1514 годзе, калі невялікае беларускае войска зьнішчыла шматлікую маскоўскую арду.

Цяпер ізноў нам пагражае Масква, і зноў мы павінны рыхтавацца (у простым і пераносным сэнсе) да бітвы за Беларусь і за нашу Волю.

Мы, беларусы, цяперашнія і будучыя пакаленьні, павінны зноў усьвядоміць тое, што ведалі нашы продкі 150 і 200 гадоў таму: *свабоду заваюем толькі тады, калі маскаля над намі ня будзе!*

У рэальнасьці гэта азначае (і гэта пацьвердзіла наша гісторыя), што ***пакуль існуе расейская імпэрыя, датуль будзе пагроза нашай свабодзе, і волю сваю мы можам мець толькі часова.*** Выснова, якая пасьлядоўна вынікае з нашай гісторыі і сучаснасьці, – адна: ***расейская імпэрыя павінна быць разбурана. Агрэсіі Масквы не павінна існаваць.***

Вось задача, якая стаіць перад беларусамі і ўсімі народамі. Наша гістарычная памылка, што мы толькі абараняліся. Мы хварэлі на комплекс Альгерда, на комплекс літасьці да сьмяртэльнага ворага, пакідаючы паверженых жыць у той час, як яны, застаўшыся ў жывых, рабілі наадварот.

Памятайма: ліквідацыя імпэрскай, шавіністычнай Расеі, якой кіруе цяпер былы НКВД, будзе ў інтарэсах самога рускага народа і ў інтарэсах усіх народаў, што апынуліся пад гэбоўскай расейскай дыктатурай. Гэта будзе ў інтарэсах усяго сьвету, які збавіўся б ад агрэсіўнай Расеі – галоўнага падпальшчыка вайны на плянэце.

Гэта зразумелі гераічныя чачэнцы, якія змагаюцца за сваю свабоду і свабоду ўсіх, і ўсе да аднаго вераць у перамогу. „Яе ўжо не існуе, – кажуць яны пра „скопішча зла”, – толькі няма каму аб’явіць”.

Мы, беларусы, павінны набліжаць той час, калі аб’явім пра канец расейскай імпэрыі і пра вечную нашу свабоду.

Мы мусім разумець, што *нашае змаганьне за волю і незалежнасьць Беларусі – гэта ёсьць змаганьне з Расеяй.*

*8 верасьня 2002 года* ***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Вольная Беларусь (Бюлетэнь БКА), – 2002, № 1 (верасень)*



(Фота У. Хрышчановіча)

***106. 24 Сакавіка 2002 г. Міліцыя блякуе калону КХП-БНФ на праспэкце Скарыны.***

(Фота У. Хрышчановіча)

***107. Супрацьстаяньне. АМАП перагарадзіў рух калоне КХП-БНФ на праспэкце Скарыны. 24 Сакавіка 2002 г. Менск.***

# АБАРОНА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ. МІТЫНГ-2002

*(ВЫСТУП)*

Дарагія беларусы, дарагія землякі! Заява расейскага прэзыдэнта Пуціна аб плянах Расеі захапіць Беларусь – гэта, фактычна, аб'ўленьне вайны Беларусі. Нам трэба адносіцца да гэтага ўльтыматыму сур'ёзна і не дапусьціць яго выкананьня.

Ня слухайце, што кажуць і пішуць нанятыя балбатуны: быццам гэта несур'ёзна і толькі палітычная гульня. Гэта сур'ёзна.

Лукашэнка з Пуціным нібыта пікіруюцца. Але гэтая пікіроўка ёсьць гандаль за Беларусь. Пуцін і Лукашэнка – супольнікі. Яны гандлююцца, але праводзяць супольную палітыку і хочуць ашукаць беларусаў. Лукашэнка ня ёсьць абаронцам незалежнасьці Беларусі. Гэта ён, разам з Крамлём, распачаў палітыку «інтэграцыі» і прадажы нашай краіны.

Лукашэнка і камарыльля ашукалі ўсіх, і найперш – простых людзей, а самы абрабавалі Беларусь і накапілі вялікія багацьці, якія хацелі б рэалізаваць у новых палітычных і праўных умовах (каб пазбавіцца адказнасьці).

Але перш чым маскоўская і лукашэнкаўская групоўкі зжаруць адна другую – яны зьядуць Беларусь.

Трэба абараніць нашую Беларускую дзяржаву і незалежнасьць. Бо як прыдзе масковец, то месца нам на сваёй зямлі ўжо ня будзе. Заграбуць і стопчуць усё, а беларускія мужчыны пойдуць гарматным мясам у расейскае тэрарыстычнае войска на расейскія войны, на Каўказ ды ў Сярэднюю Азію. Ці мы ўжо забыліся пра цынкавыя труны за часы СССР?

Каб гэтага ня сталася, ужо пачалі стварацца на Беларусі ***Камітэты па Абароне Бацькаўшчыны ад расейскай агрэсіі***. А ў пачатку верасьня арганізаваны Агульны ***Беларускі Камітэт па Абароне (БКА)***, які напалову знаходзіцца за мяжой і будзе каардынаваць стварэньне Камітэтаў Абароны па ўсім сьвеце, дзе жывуць беларусы.

Ведайма, што нам не дапаможа ніхто, акрамя нас самых. Дык жа дапаможам сабе!

Пра ўсё гэта можна будзе даведацца і пачуць 29 верасьня на мітынгу ***Беларускага Вызвольнага Руху***, які адбудзецца перад помнікам Янку Купалу па вуліцы Янкі Купалы ў Менску пад лёзунгам абароны Беларусі ад расейскай агрэсіі і пачнецца а 12-й гадзіне.

Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух – гэта злучэньне адраджэнскіх арганізацыяў і асобаў, якія змагаюцца за справядлівасьць для народа, выступаюць супраць расейскай імпэрскай палітыкі на Беларусі, за рэальны суверэнітэт і незалежнасьць краіны.

Беларускі Камітэт па Абароне Бацькаўшчыны падтрымлівае правядзеньне гэтага мітынгу. Запрашаю ўсіх ад імя *БКА* 29 верасьня ў 12 гадзінаў на мітынг да помніка Янку Купалу.

Жыве Беларусь, вольная і незалежная, моцная і працавітая! Мы – гаспадары ў Беларусі. Гэта наша зямля!

*16 верасьня 2002 г., Варшава-Менск*

***Зянон Пазьняк***
***кіраўнік БКА***

# СТВАРЭНЬНЕ БКА

У канцы жніўня, пасьля арганізацыі Менскага гарадзкога Камітэта па Абароне Бацькаўшчыны і пасьля стварэньня першых мясцовых Камітэтаў па Абароне, прадстаўнікі КА і прадстаўнікі беларусаў замежжа прынялі рашэньне аб утварэньні Агульнага Беларускага Камітэту па Абароне Бацькаўшчыны ад расейскай агрэсіі (скарочана – Беларускі Камітэт Абароны, БКА). Беларускі Камітэт Абароны і ягонае кіраўніцтва часткова знаходзяцца за мяжой. У пачатку верасьня пачалася дзейнасьць. БКА кіруецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

У жніўні-верасьні ўтварылася каля дзясятка новых Камітэтаў Абароны. Бальшыня зь іх выпускае бюлетэні. Напрыклад, „За незалежную Беларусь", „Грунвальд", „Наша сталіца", „Абаронім Беларусь", „Жыве Беларусь!" (Менск і Менскі раён); „Час Пагоні" (Пінск) і інш. Запачаткаваны таксама бюлетэнь БКА „Вольная Беларусь".

* * *

Камітэты па Абароне ствараюцца паўсюдна: па месцы працы, жыхарства, вучобы, дзяржаўнай і вайсковай службы. Колькасьць сяброў – ад трох да сямі асобаў. Калі зьяўляецца больш асобаў, ствараецца іншы Камітэт. Камітэты дзейнічаюць аўтаномна. Сьпісы ўдзельнікаў не складаюцца, удзел не фіксуецца. Каардынацыя вызначаецца вуснымі інструкцыямі і на падставе лістоў БКА.

Дзейнасьць Камітэтаў па Абароне разьвіваецца паэтапна, спэцыяльныя задачы вызначаюцца вусна. Пагрозы асобам з боку КА не дапускаюцца.

Задачы першага этапу заключаюцца ў наступным:

– адсочваньне дзеяньняў і кантроль за антыканстытуцыйнай дзейнасьцю чыноўнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, навучальных установаў, камандзіраў вайсковых фармаваньняў, сродкаў масавай інфармацыі;

– папярэджваньне аб крымінальнай адказнасьці асобаў, якія праводзяць яўную або ўскосную антыканстытуцыйную дзейнасьць, накіраваную на ліквідацыю незалежнасьці і суверэнітэту Беларусі, на асіміляцыю маладога беларускага пакаленьня, на зьнявагу нацыянальнага гонару і годнасьці беларусаў, на дыскрымінацыю беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў;

– інфармаваньне грамадзянаў пра сутнасьць і небясьпеку для беларусаў хлусьлівай прапаганды пра „шчасьлівую будучыню" у так званай „саюзнай дзяржаве" пад крамлёўскім кіраўніцтвам;

– інфармаваньне беларускага грамадзтва пра неабходнасьць ігнараваньня любых выбараў і рэфэрэндумаў, арганізаваных рэжымам;

– інфармаваньне грамадзянаў, якіх рэжым уцягвае ў свае нібыта „выбарчыя" арганізацыі і „выбарчыя" мерапрыемствы, пра адказнасьць перад дзяржавай Рэспублікай Беларусь і беларускім народам за супрацоўніцтва з акупацыйным рэжымам на карысьць іншаземнай дзяржавы (Расеі);

– інфармаваньне беларускага грамадзтва пра неабходнасьць правядзеньня новых выбараў прэзыдэнта Беларусі пад

міжнародным пратэктаратам (без удзелу Расеі як агрэсіўнай краіны);

– інфармаваньне грамадзянаў пра неабходнасьць стварэньня па месцы жыхарства і на прадпрыемствах ***Камітэтаў самакіраваньня***, грамадзкіх ворганаў ***аховы парадку*** і ***самаабароны***. Спрыяньне і дапамога ў іхнай арганізацыі.

* * *

Мясцовыя Камітэты Абароны мусяць адразу наладзіць выпуск і распаўсюджваньне інфармацыйных бюлетэняў МКА і электронную перадачу інфармацыі.

* * *

У першым нумары бюлетэня БКА, акрамя інфармацыі пра стварэньне БКА, надрукаваныя матэрыялы „Аб канкрэтных дзеяньнях. Першы чын", „Заўвагі па аспэктах", дзе пададзены ўказаньні БКА, аналіз сытуацыі, зьмест і патрэбы першага этапу дзейнасьці БКА.



***108. Дзяржаўны гэрб Рэспублікі Беларусь.***

Пададзена таксама іншая інфармацыя.

Зьместы першых мясцовых бюлетэняў КА радуюць сваёй зьместоўнасьцю, добрай чытальнасьцю і ўзроўнем. У будучыні ў *„БВ"* будзе зроблены агляд некаторых даступных нам бюлетэняў Камітэту Абароны.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 5(42). Пад крыптанімам „ЗП)"; (Вольная Беларусь (Бюлетэнь БКА), – 2002, № 1 (верасень).*

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ

***(Мітынг у абарону незалежнасьці Беларусі ад пагрозы расейскай агрэсіі 29 верасьня 2002 г.)***

Дарагія землякі, дарагія беларусы! Вітаю вас у нашай дарагой Бацькаўшчыне! Нам трэба гаварыць і думаць пра галоўнае: пра волю народа і пра забесьпячэньне незалежнасьці нашай дзяржавы. Ужо даўно, пачынаючы з 1994 года, над Беларусяй вісіць пагроза расейскай палітычнай агрэсіі.

Расея ўвесь час праводзіць палітыку, накіраваную на захоп нашай краіны, маёмасьці, эканомікі і тэрыторыі. Пра гэта я казаў яшчэ дзевяць гадоў таму, калі гэтая новая акупацыйная палітыка Расеі супраць Беларусі толькі пачыналася. Цяпер яна дайшла да таго, што Масква адкрыта аб'явіла пра свае пляны анэксіі Беларусі. Гэта ёсьць грубы ўльтыматум, агрэсіўная палітыка, нахабны выклік усяму беларускаму грамадзтву.

Дарагія сябры, я хачу зьвярнуць вашу ўвагу на спосабы, якімі карыстаюцца непрыяцелі, каб ашукаць беларусаў.

Вось яны аб'явілі ўльтыматум аб намерах ліквідаваць нашу дзяржаву і, упэўненыя ў беспакаранасьці, кажуць: „Выбірайце: альбо анэксія адразу, альбо паступова". (Гэта значыць спачатку „саюз", а потым анэксія).

Гэта тое самае, калі бандыт зь вялікай дарогі кажа чалавеку: „Выбірай: альбо куля, альбо вяроўка."

Але тут няма выбару. Тут няма чаго выбіраць. У такім выпадку трэба пляжыць бандыта паміж вачэй, і чым мацней – тым лепш. Інакш – бандзюга заб'е цябе.

Выглядае, што беларусаў лічаць за прасьцякоў і хочуць ашукаць, прымусіць, каб людзі выбіралі паміж куляй і вяроўкай (гэта значыць паміж анэксіяй і „саюзам").

Два артысты-кагэбісты быццам бы спрачаюцца ва ўсіх на віду: адзін, маўляў, за „анэксію", другі – за „саюз". Адбываецца публічны бессаромны гандаль нашай краінай. Гандлююцца два хаўрусьнікі. Прытым Лукашэнка стаў „сувэрэнітэтчыкам", узяў на сябе ролю „патрыёта". Ён, бачыце, ужо за незалежнасьць і супраць анэксіі, але – за „саюз".

І гэта ў той час, калі самы расейцы адкрыта кажуць, што „саюз" – гэта таксама шлях да анэксіі Беларусі, толькі павольны.

А тым часам за плячыма беларускага народа, ціха і сьпешна, падрыхтоўваецца ліквідацыя беларускіх грошай і пераход на расейскія рублі, узмацняюць расейскі кантроль над беларускай арміяй, дзяржаўнай мяжой, палітыкай, эканомікай і ўладай. Поўным ходам рыхтуецца захоп Беларусі. І ўсё гэта расейцы робяць разам з Лукашэнкам, які клапоціцца толькі аб тым, каб выгандляваць сабе ад прадажы Беларусі пабольш.

Але лёгіка расейскай палітыкі такая, што калі б яны пры дапамозе Лукашэнкі загрэблі на Беларусі ўсё, што можна загрэбці, то Лукашэнка ім быў бы ўжо непатрэбны. І тады яны падтрымалі б новага стаўленьніка Масквы, якога-небудзь „дэмакрата", тыпу Уладзімера Ганчарыка, які здаў бы Беларусь задарма.

Якія высновы мы мусім зрабіць і што мы павінны ведаць?

**Першае,** гэта тое, што Лукашэнка ня ёсьць абаронцам незалежнасьці Беларусі. Пуцін і Лукашэнка – адна кампанія. Яны робяць супольную палітыку па ліквідацыі незалежнасьці нашай краіны. Беларусы не павінны даць сябе ашукаць.

**Другое.** Беларусы не павінны ўдзельнічаць ні ў якіх выбарах і ні ў якіх рэфэрэндумах, арганізаваных існуючым рэжымам.

Масква і Лукашэнка хочуць загнаць беларусаў на рэфэрэндум аб „інтэграцыі" з Расеяй, каб скарыстаць народ у ліквідацыі незалежнасьці.

Памятайма, што на Беларусі народ адлучаны ад фармаваньня ўлады, бо рэжым стварыў адмысловую і некантралюемую

сістэму несправядлівых выбараў і фальсіфікацыі галасаваньня. Як бы ні галасавалі выбаршчыкі, любыя выбары і любы рэфэрэндум рэжым сфальсіфікуе ў сваіх інтарэсах.

Дастаткова хоць малой колькасьці людзей пайсьці галасаваць, як рэжым скарыстае гэта, перакруціць і аб'явіць такія вынікі „галасаваньня", якія яму трэба.

Таму нельга браць удзел у выбарах і рэфэрэндумах. Нельга галасаваць. Нельга даваць падставу нягоднікам выязджаць на плячах народа, плюючы яму ў твар.

**Трэцяе.** Усім беларусам трэба абараняць свабоду і незалежнасьць Радзімы. Гэта наш канстытуцыйны абавязак. За намі праўда! За намі Права і Канстытуцыя.

Стварайце Камітэты Абароны Беларусі ад расейскай агрэсіі, а там, дзе яны ўжо створаныя, – уступайце ў іх. Гэта ёсьць шанс абараніцца і перамагчы, стварыць глыбокі і шырокі беларускі рух супраціўленьня ад агрэсіі з Расеі.

Сіла ў нас самых. Падтрымлівайце Камітэты Абароны, пашырайце і прапагандуйце ідэі аб іх стварэньні. Падтрымлівайце Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух і ягоныя арганізацыі. Беларусь была, ёсьць і будзе, пакуль мы жывём і змагаемся за нашу волю.

Дык жа няхай вечна жыве наша незалежная, вольная і дарагая Бацькаўшчына!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*29 верасьня 2002 г.*

# ПАХОДНЯ, ЯКАЯ ВЕЧНА ГАРЫЦЬ

У гісторыі Беларусі ёсьць шмат выдатных падзеяў, пра якія неабходна заўсёды памятаць, апавядаць і ўспамінаць. Бо памяць пра іх узвышае і мацуе народны дух. У гэтым ёсьць дабро народнай гісторыі, якая адчыняе веданьне высакародных справаў.

Слуцкі Збройны Чын – гэта было беларускае народнае паўстаньне на Случчыне супраць расейскай агрэсіі. У паўстаньні не было адзінага і безумоўнага правадыра (такога, як, скажам, Пілсудзкі для палякаў). Збройна змагацца супраць расейска-бальшавіцкай навалы вырашыў калектыўна сам народ. Рашэньне прыняла абраная ім Рада Случчыны, якая прызначыла кіраўнікоў, запрасіла вайскоўцаў і аб'явіла мабілізацыю, народнае рушэньне.

І вось тут яскрава выявілася веліч нашых продкаў. Тысячы людзей узьняліся на барацьбу, пайшлі пад сьцягі паўстаньня. Дзяцюкі і мужчыны станавіліся дабраахвотна. Ехалі на конях, ішлі пехатой у беларускае войска. Маці выпраўлялі сваіх сыноў. Жанчыны зьбіралі харчаваньне, лекі і вопратку. Народ сам ішоў на вайну бараніць Беларусь.

У першыя дні рушэньня сабралася больш за 10 тысячаў дабраахвотнікаў-змагароў. Але не хапала зброі. Таму напачатку сфармавалі вайсковыя часткі, якія змаглі элемэнтарна ўзброіць, і 27 лістапада 1920 года пачалі баявыя дзеяньні супраць расейскай бальшавіцкай арміі.

І яшчэ адну навуку засьведчылі слуцкія змагары для тых, хто мусіць бараніць Бацькаўшчыну.

Якая б ні была навала, якая б ні была вялікая сіла ў акупантаў, – зь імі трэба ўсімі спосабамі змагацца. Бо толькі ў змаганьні можна перамагчы. Толькі змаганьне з захопнікамі дае надзею на волю, адчыняе пэрспэктыву для перамогі, дае стымул наперад, паказвае прыклад і шлях пакаленьням.

Сёньня гэта пацьвярджае мужны і гераічны чачэнскі народ. Ён будзе вольным і незалежным, бо свабодны ў душы і здольны асэнсавана змагацца за радзіму, незалежнасьць і волю.

Мы, беларусы, перажываем цяпер цяжкія і ганебныя часы ўнутранай акупацыі і палітычнай агрэсіі расейскага вялікадзяржаўя. Супраць нашай краіны, абапіраючыся на прарасейскі рэжым Лукашэнкі, Масква вядзе вайну бяз зброі. Але ўсё больш і больш беларусаў пачынаюць разумець мэтады і сэнс гэтай разбуральнай антыбеларускай вайны. Гэтак жа, як ведалі тое Слуцкія змагары.

Цяперашнія беларусы мусяць усьвядоміць тое, што разумеў некалі кожны жыхар нашай краіны: уся небясьпека, уся бяда ідзе ў Беларусь з Расеі, з крамлёўскіх палатаў і сутарэньняў.

***Нельга супрацоўнічаць з тымі, хто разбурае нашу краіну, хто аб'явіў пра пляны захопу і анэксіі нашай дзяржавы. Гэта – агрэсары.***

Мы павінны ўсімі сродкамі бараніць нашу дзяржаву, незалежнасьць, тэрыторыю, маёмасьць, зямлю і народ.

Мы, беларусы, мусім быць гатовымі на Бацькаўшчыне і на ўсім сьвеце па прыкладу слуцкіх паўстанцаў у патрэбны час стаць на абарону Беларусі. Нельга недаацэньваць пагрозаў з Масквы, недаравальна не заўважаць небясьпекі, злачынна прояўляць лёгкадумства і спадзявацца, што неяк ўсё праміне.

Стварайце ***Камітэты па абароне Беларусі*** ад расейскай агрэсіі! Падтрымлівайце іхнюю дзейнасьць. Распаўсюджвайце іхнюю інфармацыю. У нас ёсьць велізарная сіла, якую мы мусім прывесьці ў дзеяньне дзеля свабоды, незалежнасьці і шчасьця нашай краіны.

Слава Слуцкім героям – змагарам за Беларусь, за незалежнасьць і волю Бацькаўшчыны!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*10 лістапада 2002 г. Нью-Джэрзі-Менск*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 6(46);*



***109. Слуцк. Дэманстрацыя КХП–БНФ на ўгодкі Слуцкага збройнага чыну.***

# „ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫ СЛУП”

Па вуліцах Менска, як вынікае з друку, часта бадзяецца шмат усялякіх паліттурыстаў з задворкаў Эўропы. Ім хочацца, відаць, сьцьвердзіць тут сваю важнасьць, якой не дабралі ў сябе на бацькаўшчыне. Беларусы ўжо добра ведаюць такіх „мюлеманаў”. Тупізм гэтых паноў цалкам асаблівай якасьці.

Ня так даўно па Менску хадзіў нейкі Альфрэд Гросэр, якога напаткала спадарыня зь „Белорусской деловой газеты” (як удаюць, „незалежнай” і, як вядома, – рускай). Вынікам размовы з іншаземцам было інтэрв'ю ў памянёнай газеце пад рубрыкай „Пэрсона”. І называлася інтэрв'ю „Чалавек-Эўропа Альфрэд Гросэр”.*

„Імя прафэсара Гросэра наўрад ці што-небудзь кажа нашаму чалавеку, – слушна канстатуе газэта. – Між тым у Заходняй Эўропе Альфрэда Гросэра называюць ня больш ня менш як „вялікім натхняльнікам стварэньня адзінай Эўропы”, „духоўным і інтэлектуальным стаўпом” (слупом), „увасабленьнем эўрапейскай культуры” і г.д., „трудно перечісліть”, – піша газэта.

Бывае, чаго толькі не бывае (гэта, відаць, Гросэр спадарыні наплёў). А „як вы ацэньваеце ўзровень узаемадачыненьняў паміж Францыяй і Беларусьсю?” – задае гэтакае дасьціпнае пытаньне „пэрсоне” дзелавая газэта.

„У Каліфорніі мяне часта пыталі: „Што вы думаеце пра адносіны Францыі і Каліфорніі?”. Я адказваў: „Нічога. Я пра іх ня думаю”, – адказвае інтэлектуальная „пэрсона”. І далей працягвае гэтак глыбокадумна. – Бальшыня французаў мае даволі цьмянае ўяўленьне пра Беларусь... Мы дрэнна ўяўляем сабе ў аб'яднанай Эўропе такія сталіцы, як Сафія, Прага, Будапэшт і гэтак далей.”

Ух ты! Вось гэта вучонасьць. Эўропа! Адразу відаць, што галава ў гэтага Альфрэда да рэшты перапоўненая вучонасьцю. Пад цяжарам ведаў на бок хіліцца і Прагу з Будапэштам ужо ніяк ня ўмесьціць. Няма месца.

Неяк яшчэ ў маладосьці прачытаў я ў расейскім часопісе „Вокруг света” нататкі аднаго французкага аматара падарожжаў. У 1960-х трапіў гэты падарожнік аж у Гімалаі, ці то ў Сікім, ці то ў Бутан (ня памятаю). І наладзілі яму прыём у караля княства. Па палацы хадзілі куры, і кароль спытаў экзота, адкуль ён.

– З Францыі, – адказвае француз.

Кароль падумаў і спытаў яшчэ:

– Францыя, гэта дзе: на захад ад Лхасы, ці на ўсход?

– На захад, – правільна адказаў француз.

Больш пытаньняў не было. Для гімалайскага караля Францыя – нішто, пусты гук. Ён пра яе нічога ня ведаў.

Тым часам „інтэлектуальны слуп” і „натхняльнік адзінай Эўропы”, безумоўна, павінен добра ведаць Прагу і Будапэшт, пэўна, ня раз там быў, можа нават зайздросна захапляўся, можа нават чытаў Гашэка і Пёцефі. Але яму хочацца ўдаваць з сябе вышэйшага за ўсё гэта, паказаць, што ён важнейшы (маўляў, „мы из Адесы”), што ён з цэнтра сьвету („мы... ў аб'яднанай Эўропе...”).

Кожны псіхолаг скажа, што такое захаваньне ёсьць праяўленьне комплексу непаўнавартаснасьці, таемнае зайздрасьці і ўражанага правінцыялізму. А вось адкуль гэта ў гросэраў з Францыі ды Парыжу – пытаньне для разваг. Можа таму, што Парыж даўно ўжо ня той Парыж, хоць гросэры і ня могуць з тым зьмірыцца.

Мне казалі, што ў Францыі існуе яшчэ шмат асобаў, якія пераканaныя, што ўвесь сьвет гаворыць на французкай мове.

У канцы інтэрв'ю апавядальнік з Парыжу выказаўся яшчэ пра глабалізацыю.

„Вернемся да глабалізацыі. Дарэчы, менавіта ў Францыі яе называюць „амэрыканізацыяй”. Гэта адно і тое?” – гэтак ліха („а пропо”) задае спадарыня пытаньне стаўпу адзінай Эўропы.

„Калі каму падабаецца „Мак Дональдс” і яго незразумела якое мяса, то хай есьць. Вось і ўсё”, – ня менш ліха расправіўся з глабалізацыяй „чалавек-Эўропа” – „дасьціпны” мсьё Гросэр.

У беларусаў не было і няма, як у расейцаў, „нізкапаклонства перад Захадам”. Беларус добра адрозьнівае розум ад дурноты, незалежна адкуль яна прыехала і якімі тытуламі абвешаная. Але гросэры, якія блытаюць Беларусь з Каліфорніяй, гэтага ўявіць ня могуць. Яны едуць да нас псіхічна самасьцьвярджацца, ім хочацца беларусаў павучаць і адчуць тут сваю вычарпаную і сумніўную веліч.

Беларусы спатыкаюць іх са шчырым сэрцам. Мне нават прыходзілася бачыць і ўдзельнічаць у мерапрыемствах, калі зграя гросэраў „на халяву” так надзіраліся беларускай самагонкі (як ні дзіўна), што цалкам гублялі чалавечы воблік (да „сініх чарцей”).

Пасьля гэтага гросары вярталіся ў аб'яднаную Эўропу і пісалі нешта накшталт, як у нашага „стаўпа”, што маюць пра Беларусь „цьмянае ўяўленьне”.

Трэба разумець, што гросары ёсьць закамплексаваныя людзі. Яны будуць так пісаць пра Беларусь вечна і вечна будуць нічога пра яе ня ведаць. Гэтак жа, як нічога ня будуць ведаць пра Прагу, Будапэшт, Яна Гуса, – пра ўсё, што па за межамі іхняга абмежаванага самалюбаваньня і параненага самалюбства. Ім так хочацца. Гэта асаблівая заходняя мэнтальнасьць, выяўленая Зыгмундам Фройдам. І нядзіўна, што Фройд са сваімі хворымі збачэнскімі ўяўленьнямі зьявіўся менавіта на Захадзе. Ён адлюстраваў псіхічнае асяроддзе, „заходнія думкі” заходняй індывідуальнасьці.

Фройды ня могуць узьнікаць на Беларусі і ўвогуле – ва Ўсходняй Эўропе. Ад гросэраў няма ніякай карысьці для Беларусі, акрамя шкоды.

Але ня думайма, што гэта ўсяго толькі састарэлы Хлестакоў заблукаў на менскія вуліцы. І тым больш ня думайма, што гэты арыгінал прыехаў да нас як сябра Беларусі.

„Мы ў чаканьні **якіх бы там ні было аб'яднаўчых працэсаў** на постсавецкай прасторы, – выпальвае раптам „вялікі натхняльнік”, – вядома, ня лічачы прыбалтыйскіх рэспублік. **Ня важна, на якой аснове будзе адбывацца аб'яднаньне, галоўнае, каб яно адбывалася**”.

„Калі мы думаем пра Расею, – разьвівае далей палёт думкі „пэрсона”, – пытаньне, якое адразу паўстае: ці зьбіраецца Расея пашырацца да польскай мяжы?”

Тут самы раз было б паказаць „стратэгу” на дзьверы, але, відаць, не для гэтага яго запрасілі ў Беларусь. Госьць з Парыжу (які зьяўляецца звычайным лабістам пэўных колаў) адлюстраваў тыя думкі, якія хацелі б чуць імпэрскія палітычныя стратэгі з „восі” Масквы, Парыжу і Бэрліну.

Але на працягу апошніх больш чым 200 гадоў эўрапейскай гісторыі тварэньне розных „восяў” з удзелам гэтых сталіцаў ні да чаго добрага не прыводзіла. У грубых плянах падзелу Эўропы на дзьве супэрімпэрыі (Расея і Эўразьвяз) не пакінута ў будучыні месца ні Беларусі, ні Ўкраіне. Цяпер жа па нашых абшарах пад выглядам дабрадзеяў для „дэмакратыі” бадзяюцца ўсялякія палітычныя маніпулятары, гаваруны з Заходняй Эўропы,

* *БДГ, – 2001, 19 сьнежня*

экстраваганты-эксцэнтрыкі, лабісты, разьведчыкі ў адстаўцы, вікі ды шульцы, цапфы ды рывалье, і кожны робіць сваю чорную справу.

Вельмі істотна беларусам цяпер адрозьніваць зерне ад кукольля – сапраўдных інтэлектуалаў з Захаду, прыхільнікаў і сяброў Беларусі ад шкоднікаў і „гастралёраў". А крытэрый вельмі просты: нармальны чалавек і прыхільнік Беларусі ніколі ня скажа пра „цьмянае ўяўленьне", ня будзе дакучліва выстаўляць напаказ сваё няведаньне і выхваляцца дурнотай. Наадварот, ён засьведчыць павагу да нашага краю, да беларускай мовы і гісторыі, выявіць веданьне нашай культуры, якая ёсьць культурай вялікай і эўрапейскай.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 5(45). Пад псэўданімам Адам МІКША).*

# АБАРОНІМ ДЗЯРЖАВУ І ВОЛЮ

***(Навгодняе віншаваньне беларусам, 2002/2003 г.)***

Наступае Новы год, 2003. Шмат хто зьвязвае з будучым годам асаблівыя надзеі і спадзяваньні. Бо ўсё больш беларусаў хоча пераменаў, толькі ня ведаюць, як іх зрабіць. Але, калі існуе патрэба, то зьявіцца і веданьне.

У 2002 годзе засьведчыліся дзьве зьявы, аптымістычныя для будучыні Беларусі. У адказ на здраду Захада і беспрэцэдэнтную грубую пагрозу цяперашняй улады Расеі зьнішчыць нашу дзяржаву і анэксаваць Беларусь, беларускі народ спакойна, без узрыву эмоцыяў прадэманстраваў, што шануе сваю дзяржаву, незалежнасьць і не зьбіраецца быць пад Расеяй.

Гэта важнае сьведчаньне, бо яно паказала растучае адзінства нашага народа і разуменьне ім відавочнай ісьціны, што ёсьць каштоўнасьці, важнейшыя, чым дэмакратыя (асабліва тая, у якую заганялі яго розныя гансвікі).

Другая падзея (такая ж зьнешне негалосная) адметнае мае значэньне ў духоўным пляне. Гэта перамога актыўных людзей і народна-хрысьціянскіх сілаў (што стварылі Народны Мэмарыял ў Курапатах) над разбуральнымі сіламі прамаскоўскага рэжыму і ягонымі псэўдадэмакратычнымі халуямі.

Беларуская нацыя адраджаецца разам з пабожнай мэмарыялізацыяй Курапатаў. Тут ёсьць сымволіка і духоўная сувязь. Кожны крыж, пастаўлены ў памяць расстраляных продкаў, ёсьць крок да годнасьці, свабоды і Адраджэньня. Хвала і гонар людзям, якія гэта робяць!

Пабыўшы на Захадзе ды за акіянам, паўзіраўшыся на доле і ўгары на розных людэей з усяго сьвету, на лібэралізм і калапсуючую цывілізацыю былых хрысьціянаў, адзіная выснова нарадзілася мне ў душы: О, вялікі беларускі народ! Ты – найвялікшы. Ніхто ня можа параўнацца з табой. Ты здольны шкадаваць усіх, і нават апошніх. А жаль, – як сказала адна простая беларуска, – ёсьць найвялікшая любоў».

Ты здольны дараваць сваім сьмяротным ворагам, і нават злачынцам у неўсьвядомленай Боскай надзеі на лепшае.

Як жа скарысталіся непрыяцелі тваёй дабрынёй, як імкнуцца ўтаптаць цябе ў беднасьць і гразь, як няславяць тваё імя, як абзываюць цябе, пабіраючы юдавы грошы.

Але ня доўга ўжо будзе гэтак цягнуцца. Бо набліжаецца канец антыбеларускаму рэжыму. Расейская агентура распускае чуткі, што захоп Беларусі быццам бы наканаваны, што Масква пойдзе па касьцях і ня спыніцца ні перад чым. Гэтак хочуць эапалохаць народ.

Нічога не атрымаецца. Яны яшчэ ня ведаюць беларусаў. І лепш хай ня ўведаюць ніколі, калі ня хочуць тут знайсьці сваю магілу.

Аднак беларусы мусяць быць гатовымі да абароны сваёй зямлі, дзяржавы і маёмасьці.

Нічога няма даражэйшага за дадзеную нам Богам Бацькаўшчыну, за родную зямлю, дзяржаву і нацыю.

Няхай жа новы 2003 год прынясе нам эбаўленьне ад навалачы і навалы. Хай уселіць цеплыню ў нашыя дамы і ў нашыя душы. Хай выэваліцца зь бяды і расквітнее наша Беларусь, дзяржаўная, гаспадарская. Хай зьменіцца наша доля, уздаравее і ўзмоцніцца наш пакутны і высокародны гістарычна вялікі Беларускі Народ.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту «Адраджэньне»***

*31 сьнежня 2002 г.*

# НОВАЕ СТАГОДДЗЕ

„**Н**овае стагоддзе" – гэта спэцыяльная сэрыя артыкулаў, напісаная ў асноўным (з рэдкім выключэньнем) у 2001 годзе, у першы год новага XXI-га стагоддзя.

Пры напісаньні ставілася акрэсьленая мэта: пазнаёміць чытача з пэўнымі ведамі, фактамі, праблемамі і ідэямі, якія ўзьніклі ў кантэксьце нашага беларускага нацыянальнага жыцьця на працягу апошняга стагоддзя і перакрочылі (разам з намі) у новы храналягічны час. Мяжа стагоддзяў – гэта, вядома, фармальнасьць. Але яна дае нагоду задумацца над існаваньнем.

У XX-м стагоддзі Беларусь вытрымала неверагодны разбуральны ўдар з Усходу і з Захаду. Удар бязбожніцтва і чалавеканянавісьці. Нашыя народныя страты – велізарныя, мераюцца касьмічным маштабам.

І ўсё ж такі мы жывём і змагаемся пад нашым найсьвяцейшым Бел-Чырвона-Белым Сьцягам за будучыню.

У XXI-м стагоддзі нас чакаюць новыя выпрабаваньні, новая навала з Усходу і з Захаду. Навала хцівасьці, бездухоўнасьці, разбэшчаннасьці і цемры.

Мы мусім абараніць беларускую цывілізацыю.

Адпор і сіла – у нас самых, у абароне каштоўнасьцяў, якія мы стварылі і на якіх стаім у нашым яднаньні і ў нашай веры.

Гэтыя артыкулы спэцыяльна разьлічаныя на шырокага чытача, на людзей, якія любяць Бацькаўшчыну, і пададзеныя як разважаньні на падставе існуючых здабыткаў і фактаў, прапушчаных праз досьвед і перажываньні ўласнага вопыту.

Пісалася, галоўным чынам, для тых беларусаў, якія (у выніку агульных абставінаў) ня мелі магчымасьці атрымаць беларускую адукацыю і карысталіся чужой сістэмай ведаў.

То няхай жа гэтая праца прыдасца беларусам дзеля ўгрунтаваньня іхных ведаў пра Беларусь.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# МІНУЛА XX-е СТАГОДДЗЕ

Мінула XX-е стагоддзе, скончылася 2-е тысячагоддзе і пачалося трэцяе. І мінула яно, і пачалося неяк незаўважна, без належнай увагі людзей, без падсумоўкі і раздумленьняў, без пакаяньняў і без надзей. Як быццам усе занятыя сваімі клопатамі, больш важнымі, чым задуменьне над вечнасьцю і сэнсам гісторыі.

У сфэры грамадзкіх дачыненьняў XX-е стагоддзе запомнілася ў гісторыі як час крывавых сусьветных войнаў, масавага зьнішчэньня людзей, таталітарных ідэалёгіяў і асэнсаванай, знарочыстай, фантастычнай хлусьні.

Для нас, беларусаў, гэтыя сто гадоў былі драматычным выпрабаваньнем, поўным сьмерцяў і пакутаў. Тым ня менш, мінулае стагоддзе сталася для нас больш выніковым, чым XIX-е, калі ўсе нашыя паўстаньні і войны з Расеяй не далі выніку.



***110. Курапацкі крыж. Беларускі помнік XX-га стагоддзя.***

У навагодні пераход стагоддзяў, гледзячы эўрапейскі тэлевізійны эфір, назіраючы калейдаскоп больш паўсотні нацыянальных праграмаў, нельга збавіцца ад уражаньня, што бачыш адну вялікую забаўляльную праграму шумнай духоўнай пустэчы, робленай весялосьці і агрэсіўнай бессаромнасьці. Моляцца ў Ватыкане, а вакол – мітусіцца Вальпургіева ноч Эўропы.

Гэта ў эфіры. І гэта адбітак часу, адлюстраваньне ўзроўню тых людзей, тых пластоў, што ўсплылі на паверхню культуры.

Чаму гэтак адбываецца – варта задумацца разам. Чалавек жывы ня можа ня думаць пра сэнс існаваньня. Але цяпер, на пераломе стагоддзяў, трэба азірнуцца ў глыбіню, каб убачыць, што было.

XX-е стагоддзе было стагоддзем тэхнічнага разьвіцьця. Кардынальна зьмянілася хуткасьць і ўзровень камунікацыяў між людзьмі і адпаведна – ўяўленьне пра прастору. Чалавек, сьведама ці нясьведама, стаў адчуваць сябе істотай не ў бясконцым нязьведаным сьвеце, як раней, а жыхаром на круглай Зямлі ў замкнутай прасторы. Разьвіцьцё хуткасьці камунікацыяў пашырыла гарызонты, але абмежавала сьвет. Хуткасьць не дала эканоміі ў часе, але паскорыла рытм. Людзі сталі больш ведаць пра сьвет, але ці сталі яны лепшымі?

У XX-м стагоддзі была сьцверджана Беларуская Нацыянальная Ідэя, адроджана Беларуская Дзяржава і абʼяўлена яе Незалежнасьць.

Сэнс гістарычнага існаваньня кожнага народу – у стварэньні нацыянальнай дзяржавы і разьвіцьці нацыянальнай культуры. Вось чаму для беларусаў найважнейшымі былі падзеі пачатку і канца XX-га стагоддзя. А менавіта: 1918 год, калі была створаная і абʼяўленая незалежнай Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), і 1991 год, калі была зьліквідаваная маскоўская ўлада КПСС і адноўленая незалежнасьць Беларусі.

Гэтыя падзеі ёсьць для нас найважнейшым вынікам XX-га стагоддзя, які ўдалося дасягнуць велізарнымі высілкамі, ахвярнасьцю, працай і ахвярамі прадстаўнікоў Беларускага нацыянальнага Адраджэньня.

Азіраючыся ўсьлед стагоддзю, зададзімся пытаньнем: чаго нам, беларусам, не хапіла, каб давесьці ўсё да канца? Шмат чаго нехапала, але найперш – не хапіла нам ***нацыянальнай салідарнасьці***.

Беларусы, асабліва перад абліччам чужых нашаму народу сілаў, павінны падтрымліваць адзін аднаго. Беларус беларусу мусіць спрыяць і шанаваць усё беларускае. Гэта абавязковая ўмова беларускай свабоды. Інакш нават геніяльныя справы вялікіх беларусаў

будуць змарнаваныя, стануць ня чыньнікам перамогі, а толькі чарговай ахвярай на алтар нацыянальнага вызваленьня.

Вядома, што нельга здабыць свабоду без ахвяраў. Але свабода не дасягаецца толькі ахвярамі.

Дзень у дзень крочыць ужо па нашай зямлі XXI-е стагоддзе. Мы перайшлі ў яго з усімі нашымі турботамі, трывогамі і хваляваньнямі за наш лёс. Нашым людзям існуецца цяпер так цяжка, гэтак бедна і непрытульна, што беларусы ня могуць не задумвацца: а што чакае іх у будучыні. Шмат хто па звычцы спадзяецца, што нешта здарыцца, што нехта дапаможа, што неяк жа ж будзе. Але гэта памылковыя ўяўленьні. Бо ўсё залежыць не ад некага, а толькі ад нас, беларусаў, і толькі мы можам самы сабе дапамагчы, і толькі так будзе, як мы зробім.

Самае вялікае выпрабаваньне, якое ўжо нясе нам XXI-е стагоддзе, – і ня толькі нам, але і ўсёй Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе, – гэта разбурэньне маралі і маральны рэгрэс. Д'ябальская атака брыдоты і паскудства ідзе на Беларусь з двух бакоў: з кагэбоўскай Расеі і зь лібэральнай Эўропы.

Гэта комплексная атака, але калі вылучыць галоўнае, то самай страшнай заганай, што ідзе з Усходу, гэта ёсьць алькагалізм, п'янства, інсьпіраванае ў нацыянальным маштабе.

На Беларусі п'янства рэзка пашырылася за апошнія 5-6 гадоў. У канцы XX-га стагоддзя на Беларусі, амаль у паўтары разы перавышаны дапушчальны парог спажываньня алькаголю на кожнага жыхара краіны, пасьля чаго пачынаецца незваротны працэс выраджэньня этнасу.

Для параўнаньня: у Беларусі спажываецца больш за 11 літраў алькаголю ў год на аднаго жыхара. У Расеі – 14 літраў, на Ўкраіне – 4,5 літра. Навуковая і міжнародна прынятая норма алькагольнага парогу, пасьля якога пачынаецца дэградацыя этнічнай супольнасьці, складае 8 літраў.

Абсалютным чэмпіёнам па алькагольным спойваньні і выраджэньні заўсёды была Расея. Цяпер Беларусь набліжаецца да Расеі. Тое, што здарылася зь Беларусьсю ў канцы XX-га стагоддзя і набірае моцы далей – гэта ёсьць этнічная і народная алькагольная катастрофа. Патрэбныя ввельмі хуткія, радыкальныя і эфэктыўныя захады, разьлічаныя на доўгі час (адно-два пакаленьні), каб гэты працэс затармазіць.

Самай небясьпечнай заганай, што шчэміцца да нас з брусэльскай Эўропы, – гэта ўзаконьваньне чалавечай брыдоты на падставе фальшыва ўспрынятай лібэральнай канцэпцыі правоў чалавека. Ня можа быць свабоды граху. Чалавек ня мае права на разбэшчанасьць, на самазьнішчэньне (хоць і здольны гэта рабіць). Грамадзтва не павінна такое цярпець.

Дзе ж компас, дзе ж той справядлівы шлях, дзе зорка, якая павінна сьвяціць беларусам у XXI-м стагоддзі над дарогай, што вядзе ў Беларускі Храм?

Я мяркую, што ***Беларусь павінна вярнуцца да Хрысьціянства***. Беларусь у XXI-м стагоддзі мусіць адрадзіцца як Хрысьціянская краіна. Беларуская ідэя, абапертая на традыцыі беларускага Хрысьціянства – гэта шлях для нас найбольш унівэрсальны і правільны, бо толькі такая сьветлая і магутная ідэя магла б дапамагчы беларусам вылезьці з глыбокай ямы, у якую ўпіхнулі наш народ ворагі беларушчыны.

У нашай гісторыі ёсьць шмат дзівоснага і містычнага. Дзівосным было нашае ўстаньне з попелу ў канцы 80-х гадоў. Дзівосным было вяртаньне незалежнасьці ў 1991-м годзе вельмі малымі адраджэнцкімі сіламі ў Вярхоўным Савеце. Дзіўнымі здаюцца цяпер рабскія пакуты народа, структура інтэлектуальных магчымасьцяў якога ў чатыры разы перавышае сярэднеэўрапэйскі ўзровень. Дзіўным здаецца паніжэньне нашчадкаў тых, якія ніколі не прыгняталі іншыя народы і нават палонным іншаверцам давалі волю, зямлю і шляхецтва.Дзіўным ёсьць зьневажэньне народа, які трымае ў руках незвычайны сымвал – ***Бел-Чырвона-Белы Сьцяг Ісуса Хрыста***. Гэты сьцяг у рэальнасьці (і ў тым, што ён сымвалізуе) зьяўляецца галоўнай мэтай варожага перасьледу беларусаў і галоўным сэнсам беларускага змаганьня.


(Фота В. Фядосенкі)

***111. Сьцягі над Сьвіслаччу.***

Магчыма, што Беларусь і яе народ чакае незвычайная будучыня і сьветлая доля. Магчыма, беларускім прарокам у XXI-м стагоддзі адкрыецца яе сэнс. Сёньня ж ужо відавочна і ўсім зразумела: ніколі беларускія рыцары Сьцяга ня выпусьцяць з рук наш сьвяты *Бел-Чырвона-Белы*, наш адвечны беларускі сымвал – *Сьцяг Беларускай Нацыі.*

*4 студзеня 2001 г., Варшава.*
*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №1(31); „Пагоня”, – 2001, 11 студзеня; „Народная Воля”, – 2001, 12 студзеня).*

# БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ

Давайце пагаворым пра нацыянальны сьцяг. Гэта значыць, пра рэчы відавочныя і таемныя, рэальныя і містычныя.

Нацыянальны сьцяг – гэта каляровае палатно, як правіла, прастакутнага памеру, якое зьяўляецца сымвалам нацыі. Бываюць людзі, якіх сьцяг нічым ня ўзрушвае: палатно як палатно. Іншыя – дзеля сьцяга ахвяруюцца жыцьцём, адносяцца да яго з піэтэтам і з найвялікшай павагай.

Адносіны да сьцяга паказваюць на ўзровень нацыянальнай кансалідацыі і нацыянальнай сьведамасьці народа. І што важна: тут існуе ўзаемаабарачальная сувязь. Народ падтрымлівае сьцяг, а сузіраньне сьцяга – кансалідуе народ.

Успомнім нядаўняе мінулае, як адносіліся да беларускага нацыянальнага сьцяга на Беларусі функцыянэры КПСС. Калі ўжо перад канцом Савецкага Саюзу камуністы ня мелі моцы, яны стараліся ўсімі сіламі прынізіць, зьменшыць значэньне сьцяга. „Ім бы толькі флажкі”, – крычалі яны ў Вярхоўным Савеце на Народны Фронт. Маўляў, ёсьць больш важныя рэчы, чым сьцяг.

Але як толькі расейскаму КГБ удалося прывесьці на прэзыдэнцкі пасад Лукашэнку, першае, з чаго яны пачалі – гэта зь ліквідацыі беларускага дзяржаўнага сьцяга. Пры гэтым, не лічыліся ні зь якімі выдаткамі.

У барацьбе за беларускі сьцяг цяперашняя рэчаіснасьць нарадзіла сапраўдных герояў. Паглядзім на подзьвігі няўлоўнага МІРОНА, які ўжо некалькі гадоў вывешвае Бел-Чырвона-Белы Сьцяг на самых высокіх і недаступных месцах, і заўсёды пакідае пры гэтым запіскі патрыятычнага зьместу.

Апошні подзьвіг Мірона, які ён ажыцьцявіў на другі Дзень Нараджэньня Хрыстовага 26 сьнежня мінулага году ў Віцебску, уражвае сваёй сьмеласьцю. Мірон сярод белага дня вывешаў беларускі сьцяг над горадам на 110-мэтровай вышыні (на коміне гарадзкой цеплацэнтралі). Убраны ў барвовы плашч, гэты рыцар беларускага сьцяга працаваў на вышыні, на марозным ветры амаль пяць гадзінаў, дзёрзка, навідавоку ўсяго горада. Унізе яго ўжо чакала міліцэйская пастка, але Мірон, дзякуючы беларускай кемлівасьці, спусьціўся з гары і здолеў не патрапіць у рукі ахоўнікаў. Ён зноў няўлоўна зьнік, не адкрыўшы свой твар.

Я мяркую, што неўзабаве, пасьля таго, як будзе скінуты ў Беларусі прамаскоўскі рэжым, – урачыстае ўздыманьне беларускага сьцягу над парлямантам і Домам ураду пад велічныя гукі беларускага духоўнага гімну будзе даручана герою беларускага сьцяга – Мірону, які ў гэты момант адкрые сваё аблічча.

Прыгледзімся да нашага сьцяга.

Ён заўсёды відаць здалёку як самая яркая зьява ў прасторы, якія б фарбы і аб’ёмы вакол ні былі. Гэта настолькі відавочна, што ўражвае.

Калі глядзець на наш сьцяг зблізку і асабліва, калі сьцягоў шмат і разьвіваюцца пад сонцам, – відовішча вельмі велічнае. Зьяўляецца ілюзія, што над сьцягамі і ў гушчы сьцягоў узьнікае канцэнтрацыя сьвятла. Гэтае месца ня проста самае сьветлае ў прасторы; ураженьне, што яно вылучае сьвятло. Прытым ілюзія вельмі моцная. Ніякія іншыя сьцягі зь іншымі прапорцыямі і спалучэньнямі колераў не набліжаюцца ў гэтым да эфэкту беларускага сьцяга.

Вельмі яркае таксама псіхалягічнае адчуваньне ад сузіраньня беларускіх сьцягоў. Гэта адчуваньне прыўзьнятай радасьці і надзвычайнай чыстасьці. Прытым ізноў жа – гэтае адчуваньне вельмі моцнае і аб’ектыўнае. Яго сьведама і падсьведама перажываюць усе людзі (прынамсі, пераважная большасьць).

Адразу скажу, што тут няма ніякай містыкі. Тут спрацоўваюць аб’ектыўныя законы ўспрыняцьця колераў, іхных прапорцыяў і камбінацыяў. У беларускім сьцягу ідэальна збалянсаваныя белы і чырвоны колеры. Знойдзена мера раўнавагі. Беларускі сьцяг візуальна гарманічны, бо чырвонае і белае ўраўнаважаны. Для раўнавагі гэтых колераў патрэбная якраз прапорцыя: адзін да двух.

Як прапорцыя колераў уплывае на гармонію цэласьці можна пераканацца, калі сузіраць сьцягі Інданэзіі і Польшчы, якія аднолькавыя – бела-чырвоныя (толькі іншы колерны парадак верху і нізу палатна). Тут ураженьне несімэтрычнай распалавіненасьці плошчы, ілюзія дысанансу, бо чырвонага шмат, і гэты колер выглядае цяжкім. У прапорцыі ж 1 : 2, як у беларускім сьцягу, чырвоны колер лёгкі, ён плыве, уецца, палымнее на белым, не цягне на дол, а нібы лунае ў белай прасторы. Тыя ж колеры, але ў розных прапорцыях, выклікаюць розны візуальны і псіхалягічны эфэкт.

Немалаважны і сутнасны выбар колеру. Самы яркі колер ёсьць белы, але ў рэальнасьці самым яркім колерам на Зямлі лічыцца жоўты (тут псіхалягічны эфэкт жоўтага сонца). Тым часам ніякі жоўты сьцяг і ніякая камбінацыя жоўтага зь белым, ці жоўтага з чырвоным ня будзе ярчэйшай і сьвятлейшай за беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг (я ўжо не кажу пра псіхалёгію ўспрыняцьця). Ня дасьць лепшага эфекту таксама толькі белы, ці тым больш – толькі чырвоны сьцяг.

Мастацтвазнаўцы і мастакі-калярысты ведаюць, што ёсьць колеры, якія сумяшчаюцца і гарманізуюцца, і колеры, якія не сумяшчаюцца і не гарманізуюцца. Напрыклад, зялёны і чырвоны колеры – несумяшчальныя, згарманізаваць іх разам практычна немагчыма. Тым часам зь белым можна сумясьціць і згарманізаваць любы колер.

На беларускім сьцягу згарманізаваны самы „гарачы” колер чырвонага, ці, як яшчэ кажуць, „цёплага” краю спэктара. Кожны колер, які бачны ў прыродзе, нясе аб’ектыўную псіхалягічную нагрузку і фактычна аднолькава псіхалягічна ўспрымаецца большасьцю людзей. Гэтая ж аб’ектыўная аснова псіхалягічнага ўспрыняцьця выяўляецца і ў камбінацыі колераў, якія мастак сумяшчае па законах эстэтыкі.

Гарманізацыя белага з чырвоным у прапорцыі 1 : 2 аблягчае цяжкую псіхалягічную актыўнасьць чырвані і на балянсе кантрасту актывізуе (высьвятляе) белы фон, ад чаго ўзьнікае ілюзія сьвятла і палымненьня ўсёй бел-чырвона-белай карціны.

Калі прааналізаваць гэтак усё да канца, то прыходзім да высновы, што ***Бел-Чырвона-Белы Сьцяг ёсьць ідэальным візуальным выяўленьнем гармоніі самых актыўных колераў – чырвонага і белага – і найвыразьнейшым выяўленьнем псіхалягічнага вобразу чыстасьці і радаснага ўздыму. Гэта оптымум ідэі радасьці і сьвятла і оптымум візуальнай яркасьці***.

Далей я буду гаварыць пра рэчы, набліжаныя да містыкі, над якімі нельга не задумацца.

Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг вядомы яшчэ з сярэднявечча. У XV і XVI стагоддзях ён ужо лунае на піках беларускіх рыцараў.

Канцэпцыя гармоніі белага з чырвоным вядома на Беларусі з глыбокай старажытнасьці, яшчэ з дапісьмовых часоў, і матэрыялізавалася ў адзеньні. Сутнасьць яе ў тым, што дзейнікамі выступалі толькі чырвоны і белы колеры, і спалучэньне іх не перакрочвала прапорцыі 1 : 2. Чырвоны колер быў акцэнтам, але не




(Фота З. Пазьняка)

***112. Беларускія сьцягі ў Нью-Ёрку каля гмаху ААН.***

дамінаваў удзельна (гэта значыць, па плошчы запаўненьня). Нашыя старажытныя продкі адчувалі законы гармоніі.

У хрысьціянскай старажытнасьці склалася традыцыя сымвалізацыі прыходу Месіі. Гэта чырвоны крыж ці чырвоная паласа на белым фоне. Тут сымвалізацыя дарогі Боскага Духу, духоўнага шляху на чыстасьці стварэньня. Тут чырвоны, гарачы шлях Хрыстовай Веры і Любові праз вечнасьць сьветабудовы да вечнага Бога.

У сярэднявеччы шмат дзе на карцінах мастакоў можна было бачыць выяву Ісуса Хрыста зь Бел-Чырвона-Белай харугвай крыжа ці зь Бел-Чырвона-Белым Сьцягам у руцэ. Бел-Чырвона-Белы Сьцяг з чырвоным крыжам ці чырвонай паласой на карцінах сярэднявечча выступае як атрыбут Езуса, як яго Боскі знак і Боскі Сьцяг (П'ера дэла Франчэска, Тржэбоньскі Майстар, ангельскія мініятуры 12-13 стагоддзяў і інш.)

З першага погляду відаць, што беларускі сьцяг вельмі просты. Шмат якія дзяржаўныя сьцягі на сьвеце у агульным супадаюць, паўтараюцца ў вобразе ці мадыфікуюць адзін аднаго. Нідзе і блізка не паўтараецца толькі беларускі сьцяг. Няма нават мадыфікацыяў. Некаторых беларусаў гэта здумляе. А можа, невыпадкова, што нацыя, якая стагоддзямі ўваскрасае ў пакутах і муках, мае сьцяг Ісуса Хрыста?

Але, пэўна ж, містыка тут ні пры чым: ці мала ёсьць пакутнікаў на сьвеце. І ўсё ж такі, і ўсё ж... Нічога не бывае бяз сэнсу.

Які сэнс вынікае з гісторыі нашага сьцяга?

Я задаваў гэтае пытаньне беларусам. Кожны нешта тлумачыў, і ніхто не адмаўляў эзатэрычнага зьместу. Адзін беларускі сьвятар у Амэрыцы сказаў мне: *„Беларускі народ ёсьць выбраным народам на Другое Прышэсьце. Толькі пра гэта ніхто ня будзе ведаць”.*

Такі вось апокрыф. Але калі так, то пра гэта ня мусіў бы ведаць таксама і сьвятар.

Відаць, нічога не парадзім мы з містыкай сьцяга. Але неабходна радзіць з рэчаіснасьцю. А рэчаіснасьць такая: ***пакуль ёсьць, лунае й жыве наш беларускі сьцяг – жыве і Беларусь. Шануйма ж яго і ўздымайма высока. Ён, найпрыгажэйшы на сьвеце, ёсьць увасабленьне нашай краіны, нашай народнай моцы і нашай веры. Ён сымвал нашай беларускай народнай вечнасьці***.

*8 лютага 2001 г., Варшава.*
*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №3(33); „Новы горад”, – 2001, сакавік, №1; „Народная Воля”,– 2001, 5 красавіка).*

# СТАРЫЯ ДАРОЖКІ

Людзі любяць размаўляць пра палітыку, крытыкаваць дзеяньні ўлады, стараюцца зразумець становішча і прычыны падзей. Тым часам шмат якія падзеі і зьявы маюць пастаянную тэндэнцыю і пастаянны характар пераменаў, паўтараюцца з году ў год і нават – зь веку ў век, існуюць стагоддзямі. Асабліва ў зьнешняй палітыцы, якая моцна ўплывае на ўнутранае наша жыцьцё.

Значыць, існуюць пастаянныя прычыны такіх тэндэнцыяў. Гэтыя прычыны абумоўленыя, перш за ўсё, балянсам сілаў і парадкам у сьвеце.

Тэндэнцыі сьветабудовы ў Эўропе не зьмяняюцца ўжо тысячы гадоў і ўзьніклі яшчэ за часы Рымскай імпэрыі. Яны выяўляліся ў сутыкненьні цывілізацыі і варвараў, пазьней – Захаду і Ўсходу, у супроцьстаяньні ўзаемных экспансіяў.

Тым часам парадак дачыненьняў зьмяняўся некалькі разоў за гісторыю, у залежнасьці ад разьмеркаваньня сілаў у гэтых тэндэнцыях.

У позьнім сярэднявеччы (а менавіта ў XIV-XVII стагоддзях, якія мы, беларусы, называем для сябе „Залатым векам”) балянс тэндэнцыяў на Ўсходзе Эўропы у значнай ступені вызначаўся існаваньнем *Вялікага Княства Літоўскага* і пазьней – *Рэчы Паспалітай*.

Моцная славянская краіна распрасьціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора і трымала пад кантролем ўвесь Усход Эўропы. Вялікае Княства выконвала тут стабілізуючую ролю. Дзяржава ўзьнікла на старажытным міжморскім шляху і амартызавала дзьве ўзаемавыключаючыя экспансіі: цывілізацыйную з Захаду і варварскую – з Усходу.

Пасьля распаду Рымскай імпэрыі цывілізацыйную функцыю зьяднаньня Эўропы і пашырэньня яе на Ўсход узялі на сябе немцы. На Ўсходзе, пасьля распаду Залатой Арды, разбуральную варварскую экспансію на Захад пераняла Масковія.

На працягу стагоддзяў старажытная беларуская цывілізацыя трымала ўдары з Усходу і з Захаду, пільнуючы пэўны парадак у гэтай частцы Эўропы. Стабілізуючая роля нашай краіны, аднак, паступова малела, разам з заняпадам магутнасьці Вялікага Княства. Заключэньне Люблінскай Уніі з Польшчай і ўтварэньне Рэчы Паспалітай не ўратавала становішча, бо прывяло да аб’яднаньня нямецка-расейскіх інтарэсаў. Антаганісты з Захаду і з Усходу не хацелі існаваньня Рэчы Паспалітай, кожны імкнуўся ўступіць на тэрыторыю, што ляжала паміж інтарэсамі.

Менавіта немцы, ажыцьцяўляючы свае пляны, прычыніліся ў XVIII стагоддзі да арганізацыі і росту магутнасьці Расейскай імпэрыі. Лёс Рэчы Паспалітай быў вырашаны. У канцы XVIII стагоддзя яна перастала існаваць.

Адбылася кардынальная перамена становішча і парадку ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Становішча стала нестабільным, бо дзьве экспансійныя лініі адвечнага цывілізацыйнага канфлікту сустрэліся „твар у твар” і выйшлі на агульныя межы.

Глябальнае ваеннае сутыкненьне паміж імі стала непазьбежным, але адбылося яно толькі праз сто гадоў (у 1914-м), таму што спатрэбілася яшчэ сто гадоў, каб палітычна пераварыць Беларусь, Польшчу, Летуву і Ўкраіну, ды задушыць чатыры паўстаньні.

Пасьля сканчэньня 1-й Сусьветнай вайны міру фактычна не наступіла. Гэта была толькі перадышка, бо нестабільнае становішча ў Цэнтры і на Ўсходзе Эўропы, створанае пасьля разбораў Рэчы Паспалітай, яшчэ больш абвастрылася. Беларусь падзялілі, а з існаваньнем незалежнай Польшчы ніхто сур’ёзна не лічыўся. Немцы і рускія (то бо Гітлер і Сталін) праводзілі ўзгодненую палітыку.

У 1939 годзе яны зноў сумесна выйшлі „твар у твар” на лінію Керзона – часовы геапалітычны падзел. Вайна запалала ізноў.

Ялцінскі эўрапейскі парадак, які ўзьнік пасьля 2-й Сусьветнай вайны, гэта ёсьць той самы парадак, што стварылі пасьля разбораў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя, толькі папраўлены цяпер Злучанымі Штатамі Амэрыкі, якія ўзялі на сябе ролю стрымліваючага фактару.

У 1991 годзе, калі часткова распаўся Савецкі Саюз і аднавіліся незалежныя краіны Ўсходняй Эўропы, тады зьмянілася і пасьляялцінская сітуацыя, і ўпершыню за 200 гадоў гісторыі ўзьнікла магчымасьць аднавіць Усходнюю Эўропу паміж Балтыкай і Чорным морам як цывілізацыйны фактар, адрадзіць на новым, незалежным узроўні той, больш надзейны парадак, які існаваў два стагоддзі таму.

Але аказалася, што ня так гэта проста. Аказваецца, шмат каго ўзнэрвавала пэрспэктыва Балта-Чарнаморскага адзінства ў Эўропе. Аказалася, што зноў сталі супрацоўнічаць старыя сябры-ворагі немцы-рускія, зноў гандлююцца за Беларусь з Расеяй. А нядаўна нямецкі дыплямат у Беларусі Ганс-Георг Вік (былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны) так і заявіў у Беластоку, што нямецкая палітыка ў АБСЭ спрыяе ўключэньню Беларусі ў склад Расеі. Выяўляецца, што яны ўжо зноў таемна падзялілі Ўсходнюю Эўропу пад прыкрыцьцём размоваў аб „правах чалавека”.

Яны зноў інтэгруюцца. На Ўсходзе – хочуць вялікадзяржаўнай Расеі; на Захадзе – аб’яднанай Эўропы. Хто хоча дамінаваць на Ўсходзе – зразумела. Хто ў Заходняй Эўропе – таксама зразумела. (Калі ня немцы, то Дойчэ Банк.)

Гэтак фармальныя абставіны і пэўныя расстаноўкі сілаў на старым кантыненце ўплываюць на „старыя дарожкі” старых дачыненьняў.

Мушу сказаць, што гэтая змора, гэты кашмар нямецка-рускай палітыкі ўжо стагоддзямі вісіць над Беларусяй і Польшчай. Сітуацыя, якая зноў адраджаецца цяпер, ужо (як мы бачылі) была ня раз і вядзе яна зноў да старога цывілізацыйнага канфлікту, разьвіцьцё якога можа рэальна пачацца, калі давядуць да інкарпарацыі Беларусі ў Расею.

Ведаючы правілы гісторыі і назіраючы цяперашнія працэсы ў нашай частцы сьвету, мы бяз цяжкасьці зразумеем, што Заходняя Эўропа – вельмі ненадзейны памочнік Беларусі ў яе беларускай нацыянальнай драме. Дамінацыя нямецкай палітыкі тут штораз павялічваецца, узаемадзеяньне Нямеччыны з Расеяй ёсьць гістарычна і сітуацыйна угрунтаванае, палягае на ўзаемных антаганізмах і агульных інтарэсах. Яны ўжо вызначаюць лёс Усходняй Эўропы: Беларусь – пад Расею, Польшчу – у Эўразьвяз.

Дзьве высновы напрошваюцца з таго, што ёсьць. Першая – гэта тое, што наша галоўнае спадзяваньне павінна быць спадзяваньнем на самых сябе. Наша сіла – у нас самых.

Другая выснова ў тым, што пэрспэктыва Беларусі зьлепшала б, калі б у новай расстаноўцы зьявілася трэцяя сіла. Сто гадоў таму не было такой сілы. Цяпер гэта можа быць Амэрыка.

Сёлета распачынаецца чарговая палітычная бітва за Беларусь*. У яе, магчыма, уключыцца і Амэрыка. Але ізноў жа, не забывайма: вырашае ні Амэрыка, ні Масква і ні Брусэль. ***Вырашае Беларусь і Беларускі Народ***.

*Студзень, 2001 г., Варшава.*
*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №2(32); „Народная Воля”, – 2001, 15 лютага).*

* Маюцца на ўвазе выбары прэзыдэнта ў Беларусі (аўт.)

# ЭЛІТА

Задумваючыся над нашым беларускім цяперашнім існаваньнем, мы часта гаворым пра грамадзкія ды людзкія дачыненьні, пра плюсы і мінусы нашага нацыянальнага характару і заўважаем, што ёсьць у ім шмат тыпалягічнага, як у праявах высакароднага, так і адмоўнага кшталту. Тут вельмі істотна дайсьці да прычыны.

Мяне заўсёды ўзрушвала высакароднасьць беларускага характару ў спалучэньні са сьціпласьцю. Потым – велікадушнасьць. Гэтае рыцарства душы ёсьць спагада да чалавека, разуменьне яго патрэбаў, перажываньне несвайго болю. Рыцарствам напоўненая ўся наша гісторыя. Успомнім кап'ё Альгерда пад маскоўскай сьцяной. На пакаяньне – была літасьць, палонных вызвалялі, людзей не прадавалі. У беларусаў няма ксэнафобіі. Беларус унутрана паважае чужое жыцьцё і права чалавека быць іншым, непадобным на яго.

Адначасна мяне не перастаюць бянтэжыць якасьці іншага кшталту, якія, здавалася б, нельга вытлумачыць разумным абгрунтаваньнем. Гэта найперш – нейкае ірацыянальнае, але сьведамае адмаўленьне ад барацьбы. Калі беларус хоча нейкага агульнага дабра, у яго нестае рашучасьці змагацца з перашкодамі. Ён кажа, што трэба, каб было так і гэтак. Але калі яму прапанаваць: „давай зробім", ён адказвае: „Дык жа ж не дадуць", альбо: „Дык жа ж ня выбяруць", „Дык жа ж заб'юць", ці: „Нічога не атрымаецца", „Нічога ня будзе" і г.д.

Гэтае нявер'е ў свае сілы, нявер'е ў грамадзтва, гэтае ўцяканьне ад барацьбы, гэтае антырыцарства (бо рыцар мусіць змагацца са злом) характэрнае цяпер паўсюдна і, як ні дзіўна, найбольш у інтэлігентных, адукаваных вярхах грамадзтва. У ніжэйшых сацыяльных пластах гэтая пазыцыя даведзена да лягічнага завяршэньня і да абсурду і гучыць так: „Абы вайны не было". Альтэрнатыва паўстае сама сабой – цярпець. Цярпець зьдзекі, паскудства, прыгнёт, жаліцца – і зноў цярпець, пакуль не памром. Ужо ходзяць анэкдоты пра беларускае цярпеньне.

У чым жа прычына, што рыцарства суіснуе з пакорай злу, а псіхалёгія свабоды – з ідэалёгіяй нявольніцтва?

Справа ў тым, што, ў выніку акупацыяў і гістарычных прычын, быў зьнішчаны беларускі набілітэт і разбураная нацыянальная эліта грамадзтва. Паўнавартаснае нацыянальнае грамадзтва існуе ў суладдзі і дачыненьні сацыяльных структураў, якія твораць адзінае цэлае. ***У грамадзкай сістэме нацыі найважнейшымі ёсьць дачыненьні паміж масай і элітай, паміж народным стэрэатыпам і культурным аўтарытэтам. Эліта і аўтарытэт ёсьць важнейшымі дзейнікамі нацыянальнай культуры.*** Калі мы кажам, што для нармальнага разьвіцьця нацыі неабходная нацыянальная літаратура, тэатр ды школьніцтва, то не забывайма, што гэтыя найважнейшыя катэгорыі ёсьць вытворныя ад існаваньня і дзейнасьці нацыянальнай эліты. Эліта першасная. Спачатку мусяць быць людзі, якія народзяць ідэю і стануць яе ажыцьцяўляць.

Невыпадкова, што ўсе антыцывілізацыйныя і антычалавечыя агрэсіўныя сілы напрацягу ўсёй чалавечай гісторыі першым чынам стараліся вынішчыць эліту чужога ім народу. Пры гэтым людзей неабавязкова зьнішчалі фізічна, як гэта рабілі манголы ці расейцы-бальшавікі. Нацыянальных кіраўнікоў, асобаў заможных, разумных, таленавітых, здольных ды ўмелых, і нават проста працавітых, стараліся запалохаць, падкупіць, навязаць фальшывыя ўяўленьні, завесьці ў тупік, на збочную дарогу дзейнасьці, ці проста забараніць тварыць і працаваць.



(Фота Г. Радзецкага)

***113. Сьцяг Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне".***

***Народ рэалізуецца ў лепшых сваіх прадстаўніках. Таму страціўшы эліту – грамадзтва сьлепне і нямее.***

Самым разбуральным вынікам рускай акупацыі (побач з паленьнем беларускіх кніг, бурэньнем беларускай архітэктуры, забаронай беларускай мовы і рэлігіі) сталася фізічнае і сацыяльнае зьнішчэньне беларускіх паноў і верхніх пластоў грамадзтва. ***На Беларусі была гвалтоўна перапынена элітарная традыцыя беларускай культуры.*** Спынілася яе сацыяльная рэпрадукцыя. Адбылася культурная катастрофа. Вялікі беларускі народ апусьціўся да ўзроўню этнічнага існаваньня, ператварылі ў мужыцкую нацыю.

Новая беларуская эліта магла адрадзіцца толькі з сялянаў. Гэта разумелі ўсе нешматлікія шляхецкія рыцары духу, ад Дуніна-Марцінкевіча ды Багушэвіча да Янкі Купалы. Яны зьвярталіся да мужыка, узвышалі яго, падбадзёрвалі, маліліся на яго, спадзяваліся і марылі, што паўстане нацыянальны геній з сялянскага народу.

Што з гэтага атрымалася – вядома. Новая беларуская эліта сапраўды адрадзілася з сялянаў і тут жа была выразаная, выстраляная ў 30-х, згноеная ў сталінскіх лягерах разам з сялянамі.

Пасьляваенныя інтэлектуальныя і сацыяльныя беларускія вярхі ўтвараліся ўжо пераважна з калгасьнікаў. І толькі нязначная іх частка (дакладней – доля працэнта) сфармавала новую нацыянальную эліту Беларусі.

Пасьляваенная беларуская эліта ўзьнікала ў вакууме разбураных традыцыяў. Яе цяперашнія прадстаўнікі валодаюць ведамі, навуковымі ступенямі ды пасадамі, яны любяць Беларусь, але нават будучы неардынарнымі спэцыялістамі, нясуць у сабе вясковую мэнтальнасьць шэрага чалавека, яго неактыўнасьць, яго задаволенасьць мінімумам, яго інфантыльныя спадзяваньні на некага. Адсюль – гэтае нярыцарскае: „Дык жа не дазволяць” і „Нічога ня будзе”, – адмаўленьне ад барацьбы.

Гістарычная практыка балгараў, краінаў Балтыі ды іншых народаў, якія фармавалі новыя эліты нават на пустым месцы, даказала, што становішча паляпшаецца пры нармальных варунках ва ўмовах незалежнай нацыянальнай дзяржавы напрацягу аднаго-двух пакаленьняў. Лёс Беларусі горшы. Таму нашае змаганьне доўжыцца ўжо 200 гадоў, і цяпер яно найцяжэйшае, бо ў адзіночку імкнемся пазбавіцца з магільных абдымкаў паміраючай імпэрыі.

Заканчваючы развагі пра беларускае грамадзтва, хачу спаслацца на каштоўны вопыт гісторыі і думкі вялікіх беларусаў.

Максім Багдановіч, абагульняючы ўяўленьні народнікаў, пісаў, што інтэлігенцыя гэта ёсьць тыя людзі, якія валодаюць ведамі і выкарыстоўваюць іх дзеля дабра народу на карысьць грамадзтва. Інтэлектуальная эліта народу павінна спрыяць народнаму дабру і служыць яго памнажэньню.

Раней прадстаўнікі эліты адасаблялі сябе ад народа і называлі народам толькі ніжнія, працоўныя пласты грамадзтва, масы простых людзей. Гэтае архаічнае разуменьне можна напаткаць яшчэ і цяпер, калі новая эліта, што выйшла з калгаснай вёскі, у роспачы шукае вінаватых, абзывае беларускіх людзей дурнымі, дэбільнымі, здраднікамі ды халуямі за тое, што яны быццам бы не разумеюць яе сьветлых апазыцыйных памкненьняў.

Гэта вялікая памылка. ***Народ нельга абзываць.*** Ад гэтага ён


(Фота З. Пазьняка)

*114. Магіла Алеся Гаруна на Ракавецкіх могілках у Кракаве.*

не палепшае. І за абзывальшчыкамі – ня пойдзе. ***Народ – гэта ўсе мы, усе беларусы.***

Стагоддзямі простыя людзі назіралі нацыянальную здраду ў вярхах. Ня ўнізе выракаліся беларускае мовы, а наверсе. І калі зьнізу беларус прабіваўся ў гару, то найчасьцей там, уверсе, ён выракаўся ўсяго свайго, а часам нават краю і родных бацькоў.

Ці ж мог просты народ, сьведама і падсьведама, тым давяраць, што ўгары?

Так пад стагоддзямі няволі і прыгнёту ўтварылася заломнае кола здрады, якое можна разарваць толькі любоўю, дабром, працай на карысьць усіх беларусаў, і толькі ў свабодзе, толькі ў вольнай незалежнай краіне. Бо не разьвіваюцца людзі ў няволі.

*18 студзеня 2001 г., Варшава.*
*(„Народная Воля”,– 2001, 24 студзеня).*

# СВАБОДА

Воля, свабода... Словы амаль магічныя. Яны неяк па-асабліваму ўспрымаюцца. У мяне слова „свабода" выклікае ўяўленьне шырокага сьветлага прастору, дзе вее цёплы лагодны вецер. Несвабода асацыюецца зь нечым замкнутым, прыгнечаным і абмежаваным, без даляглядаў і пераменаў.

Праявы несвабоды я назіраў з самага раньняга дзяцінства, тады, калі пачалася савецкая калектывізацыя. Пад акупацыяй воля не існуе. Беларус быў бяспраўны. Расейцы зьдзекаваліся з нашых сялянаў, як хацелі. Гэтыя карціны зьдзеку бальшавікоў над людзьмі мне і цяпер стаяць у вачах. Сам жа я непасрэдна сутыкнуўся з несвабодай ужо тады, калі асэнсоўваў свабоду як сваё і наша агульнае беларускае права (а не як нейкае маё хаценьне).

Памятаю, калі я яшчэ вучыўся ў 9-м клясе ў школе, прыйшоў да нас у керзавых ботах дырэктар-расеяц і сказаў, што з наступнага дня ён будзе выкладаць у нас гісторыю па-руску, дык каб мы яму і адказвалі па-руску.

Тады мы цэлым клясам пастанавілі, што па-руску яму адказваць ня будзем. Кірзач ставіў нам усім за гэта „калы" і „двойкі". Праз нейкі час я ад імя кляса запатрабаваў, каб ён спыніў свой экспэрымэнт і стаў нам чытаць лекцыі на нармальнай мове. Дырэктар спасылаўся на Леніна, маўляў, Ленін гаварыў па-руску. „Але вы ня Ленін, – сказалі мы дырэктару, – вось калі да нас прыйдзе Ленін, тады мы зь ім і пагаворым."

Праз нейкі час у нас зьявіўся новы настаўнік гісторыі і, як ні ў чым ні бывала, пачаў весьці заняткі па-беларуску.

Гэта была наша школьная перамога, бяз крыку і шпурляньня чарнілак у непрыяцеля. Мяне гэта ўмацавала тады ў думцы, што толькі *той несвабодны, хто не змагаецца за свабоду*. Свабода сама не зьяўляецца. За яе трэба змагацца, а потым – абараняць.

* * *

Дэфініцыя свабоды ўмяшчаецца ў тры словы. Свабода гэта ёсьць ***магчымасьць тварыць дабро***.

Пра свабоду мы гаворым толькі тады, калі ***існуе*** такая магчымасьць. Калі такой магчымасьці няма – мы кажам, што ***няма*** свабоды.

Калі ж свабода выкарыстоўваецца на зло – яна ператвараецца ў несвабоду. Тады чалавек альбо робіцца нявольнікам сваіх страсьцяў, злых думак і паводзінаў, альбо, ў выпадку антысацыяльных дзеяньняў, трапляе ў турму і траціць свабоду ў літаральным, фізічным сэнсе. Прытым нікому не прыходзіць у галаву змагацца за свабоду крымінальнікаў, гвалтаўнікоў ды забойцаў. Наадварот, патрабуюць абмежаваць іхнюю свабоду.

Істотна зазначыць, што свабода ёсьць ***маральная катэгорыя***. Яе адлюстраваньне ў канкрэтных каштоўнасьцях залежыць ад маралі і ўзроўню культуры грамадзтва. Тым часам гэта ёсьць катэгорыя ***аб'ектыўная***. Рэлятывісцкі падыход тут памылковы і прыводзіць да зьнішчэньня свабоды. Дадам яшчэ, што ў філясофскім сэнсе, свабода – гэта ***магчымасьць вечнага разьвіцьця да ідэалу***.

Свабода зьвязана з сьветапоглядам і маральнай арыентацыяй чалавека. Таму дэкляраваньне барацьбы за свабоду і сама барацьба за свабоду яшчэ мала што тлумачаць і вымагаюць канкрэтызацыі – у чым справа. Часта выяўляецца, што некаторыя людзі, якія змагаюцца за свабоду, на справе маюць на ўвазе толькі свае інтарэсы, прытым даволі эгаістычныя, суб'ектыўныя і заганныя. Цяпер, у час усеагульнага крызісу дэмакратыі, мы бачым, як нарастае агрэсіўнасьць сацыяльнай цемры ў грамадзтве. ***Зло змагаецца за свабоду***. Масы цёмных суб'ектаў у розных краінах патрабуюць легалізацыі наркотыкаў, свабоды прастытуцыі, распусных палавых дачыненьняў, ліквідацыі інстытуту сям'і, свабоды абортаў і г.д.

Шматаблічная катэгорыя свабоды патрабуе, перш за ўсё, дакладнай кадэфікацыі ў праве і выразнай вызначальнасьці ў сістэме маральных каштоўнасьцяў грамадзтва. Агульнасьць і



(Фота З. Пазьняка)

расплывістасьць праўных фармулёвак свабоды можа стаць прычынай апраўданьня абсурду і несвабоды чалавека.

Рэкардсмэнам такога абсурду зьяўляецца якраз „свабодная" Амэрыка. Тыповы прыклад. У Нью-Ёрку ўдарыў мароз. Гэта вялікая пагроза для бяздомных, апушчаных людзей і наркаманаў, якія начуюць на вуліцах. Паліцэйскі разбудзіў бяздомную жанчыну-наркаманку, што ляжала пад сьцяной, і, ня гледзячы на яе супраціў, завёў у цёплую станцыю мэтро, каб яна там пераначавала і не замерзла. Праз нейкі час паліцэйскага пацягнулі ў суд і паліцэйскае ўпраўленьне было аштрафаванае на 500 тысячаў даляраў за парушэньне правоў наркаманкі ляжаць на вуліцы і дзе яна хоча. Паліцэйскі, згодна азначэньня суда, парушыў фундамэнтальнае права асобы – яе свабоду.

Некаторыя амэрыканцы нават з гонарам расказвалі мне пра гэта – во якая ў нас свабода. На самай справе тут звычайны (а ў нашым разуменьні – шарлатанскі) амэрыканскі бізнэс. Знайшоўся нікому не вядомы адвакат, які падгаварыў бадзяжку зьвярнуцца ў суд і, карыстаючыся агульнасьцю вызначэньня заканадаўства і фармалізацыяй мысьленьня суддзяў (такое магчыма толькі ў Амэрыцы), выйграў працэс „абароны свабоды".

Адвакат такім чынам зрабіў сабе бясплатную рэкляму (бо абсурдальнасьць падзеі прыцягнула ўвагу друку) і ў дадатак яшчэ зарабіў грошы (звычайна, ад 25 да 50 адсоткаў ад сумы „судовага выйгрышу", гэта значыць, штрафу).

Гэта вельмі тыповы для Амэрыкі прыклад, дзе бог – даляр, а свабода – сродак бізнэсу. Ні адваката, ні суддзяў, ні журналістаў,

ні разьзявакаў, што цікавіліся зьявай, не абходзіла жыцьцё бадзяжкі. Яны не асэнсоўвалі нават фальшывасьці сваёй пазыцыі. Адзіным чалавекам у гэтай гісторыі, які меў жаласьць у сэрцы і цаніў жыцьцё іншага чалавека як найвялікшую каштоўнасьць, быў амэрыканскі паліцэйскі, якога пакаралі.

* * *

Свабода – гэта ўнівэрсальны прынцып Сусьвету як Боскага стварэньня, часткай якога ёсьць свабодная воля чалавека.

У сацыяльным грамадзтве абсалютны, унівэрсальны сусьветны прынцып свабоды ўзаемазьвязаны з маральнымі калізіямі духоўнага разьвіцьця чалавецтва. Гэтым абумоўлена тое, што свабода ў цывілізаваным сацыяльным грамадзтве ёсьць катэгорыяй выбару і не зьяўляецца найвышэйшай і абсалютнай каштоўнасьцю. Найвялікшымі каштоўнасьцямі ёсьць Бог, жыцьцё чалавека і жыцьцё народа. Там, дзе свабода ўступае ў канфлікт з гэтымі каштоўнасьцямі – там робіцца выбар. Ён можа быць розным. Гледзячы якія сілы, якія ўзроўні задзейнічаныя ў супроцьстаяньні.

Глыбінная сутнасьць канфлікту змаганьня за свабоду выяўляецца ў пытаньні: ці можа існаваць ***свабода ўсяго?*** (А гэта значыць – і свабода зла.) У метафізічным сэнсе, які апэруе *вечнаснымі катэгорыямі*, такое становішча прызнаецца. (Бог даў свабоду Сатане. Але на пэўны час. Пакуль колькасьць упалых анёлаў не земеніцца адпаведнай колькасьцю справядлівых людзей. У гэтым – сэнс духоўнай гісторыі чалавецтва і зьмест барацьбы дабра са злом на Зямлі.)

Але сацыяльная практыка *дачаснага сьвету* (і дачаснага жыцьця) паказвае, што ў соцыюме не павінна быць свабоды злу, бо спыняецца духоўнае разьвіцьцё. „Не”, – гавораць злу свабодныя людзі. „Так”,– кажуць тыя, што хочуць іншай свабоды. „Так”, – кажуць лібэральныя заканадаўцы, якія лічаць, што прынцып свабоды павінен быць роўным для ўсіх: і для мільярдэра, які лётае зь Нью-Ёрка на Канкордзе паабедаць у парыжскі рэстаран (тры гадзіны лёту, 18 тысячаў даляраў туды й назад), і для бадзяжкі, што мае права замерзнуць на вуліцы, і для верных хрысьціянаў, што жывуць па запаведзях, і для дэградаванага збачэнца, што ўступае ў палавыя акты з жывёлай ці з сабе падобным (і, дарэчы, знаходзіцца ў Амэрыцы пад асобай аховай закону; гэта тут называецца „сэкс-меншасьць”).

Лібэралы глядзяць на свабоду, як той рускі Іван на агурковае поле, які садзіў агуркі, але ніколі іх не палоў. У выніку – замест агуркоў выраслі чартапалох ды пустазельле. Затое – свабода: расьце, што хоча. Хоць вядома, што культура пачынаецца з абмежаваньня прыроднай свабоды (стыхіі), з абмежаваньня несвабоды (г.зн. разбуральнай сілы).

Праклямацыя ў дэмакратычным грамадзтве свабоды без берагоў, „свабоды ўсяго” заўсёды ёсьць маніфэстацыяй заганнай цемры, патрабаваньнем свабоды злу, імкненьнем да легалізацыі чалавечай нізасьці.

Часта прыходзіцца чытаць, як у Нью-Ёрку злавілі тую ці іншую банду маладзёнаў у час нападу на краму. Калі паліцыя іх хапае, яны, звычайна, абураюцца, што парушаюць іхныя чалавечыя правы і што гэта дыскрымінацыя, таму што яны чорныя. Такая рэакцыя сярод злачынцаў вельмі распаўсюджаная. Яны шчыра думаюць, што іх зацiскаюць, бо ў Гарлеме яны выраслі „абсалютна свабоднымі”.

* * *

У цэлым, аднак, свабода ў Амэрыцы добра рэглямантаваная і ўлічвае інтарэсы чалавека, бадай, як нідзе. Выдаткі, кур’ёзы, наступ зла ды абсурд, які пашыраецца, зьвязаны, перш за ўсё, з актывізацыяй левых ва ўсім сьвеце і лібэралаў на Захадзе, пасьля распаду сістэмы савецкага таталітарызму.

У заходнім грамадзтве зьнік страх перад камуністычным варварствам, і людзі расслабіліся, страцілі пільнасьць, сталі больш спакойна глядзець на сваіх левых сацыяльных і маральных экстрэмістаў, якія тут жа перайшлі ў наступ і ўжо шмат чаго дамагліся, і нават шмат дзе захапілі ўладу.

Выглядае парадаксальным, што маральны крызіс заходняй дэмакратыі і крызіс свабоды супаў па часе з крахам савецкага камунізму і таталітарнай сістэмы сацыялізму ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Захад, магчыма, з цягам часу пераадолее гэты крызіс. Але для нас, для беларусаў, якія змагаюцца яшчэ зь мінулым днём – з рускім каляніялізмам у кагэбоўскай упакоўцы, – для нас важна зразумець, што каштоўнасьці дэмакратыі і свабоды, якія вязуць да нас з Захаду, гэта ў значнай ступені ***– лібэральны сурагат у дэмакратычнай абгортцы***. Ім, дэмакратычным лібэралам, важней узгадаваць тут, у нас, на Беларусі, сваіх гамасэксуалістаў ды фэміністак, ды экспартаваць на Беларусь адкіды сваёй культуры, чым сапраўды дапамагчы нам, беларусам, збавіцца ад расейскай каляніяльнай агрэсіі, абараніць беларускую мову ад зьдзеку і вынішчэньня, вярнуць беларускія школы і беларускую асьвету, умацаваць беларускую незалежнасьць і г.д. Іх не цікавяць праблемы нашага нацыянальнага выжываньня. Ім абходзяць, перш за ўсё, свае лібэральныя інтарэсы.

Пад гэтыя свае абмежаваныя паняцьці яны даюць невялікія грошы ды гранты бедным беларусам і плодзяць апазыцыйны пустацьвет, балбатуноў за дэмакратыю без суверэнітэту.

Менавіта гэтакая заходняя лібэральная „публіка” прычынілася да спробы зьнішчыць *Беларускі Народны Фронт* і расфармаваць яго ў „дэмакратычную апазыцыю” (у „балота”). З гэтага, аднак, нічога не атрымалася, бо мы ўжо ведаем іхныя норавы і іхныя справы.

* * *

Для нас, беларусаў, свабода сёньня абазначае сьцісла канкрэтную і практычную задачу. Мы павінны, перш за ўсё, *збавіцца ад каляніяльнага прамаскоўскага рэжыму ўлады, спыніць агрэсію расейскай каляніяльнай палітыкі і гарантаваць бясьпеку і незьнішчальнасьць дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі*.

Дзеля гэтага мы павінны стварыць нацыянальнае кіраўніцтва краінай. Беларусяй павінны кіраваць: Беларускі нацыянальны ўрад, Беларускі нацыянальны парлямант і Беларускі нацыянальны прэзыдэнт. Беларусяй павінны кіраваць беларусы, а не расейцы, не расейскія генэралы і не расейская каляніяльная адміністрацыя.

Пра свабоду можна казаць толькі тады, калі мы будзем гаспадарамі ў сваім доме. Толькі тады – калі мы, беларусы, самы, як мы таго захочам, – будзем кіраваць і гаспадарыць у нашай Беларускай дзяржаве. І ўжо маючы такую свабоду, мы ніколі не скарыстаем яе на зло. ***Наша свабода стане для нашага народа Боскім стварэньнем шчасьця нашых людзей.*** І тут ужо нам трэба будзе пастарацца, каб не рабіць так, як заходнія лібэралы, і ня ўкінуць Сьвятую Свабоду ў гразь.

*5 траўня 2001 г., Варшава.*
*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №6(36); „Народная Воля”, – 2001, 1 чэрвеня).*

# ТЭЛЕВІЗАР

Наш сьвет кардынальна перамяніўся за апошнія 40 гадоў. Нельга сказаць, каб зьявіліся іншыя грамадзкія і духоўныя каштоўнасьці, але ўзьнікла шмат чаго новага. Зьмяніліся магчымасьці чалавека і вельмі рэзка. Кардынальныя перамены зьвязаныя, перш за ўсё, з інфармацыяй і камунікацыяй. Перамены настолькі радыкальныя, што яны паўплывалі на ўсё грамадзтва, на традыцыі дачыненьняў паміж людзьмі, паставілі пад сумненьне адстояныя паняцьці.

У 50-х гадах шырока зьявілася тэлебачаньне. Праз кароткі час яно пранікла ў кожны дом. Суседзі абмежавалі непасрэдныя кантакты, перасталі хадзіць адзін да аднаго на размовы, бо кожны меў ілюзію субяседніка (тэлевізар) у сваім памяшканьні.

Ніколі яшчэ людзі не валодалі такім масавым і эфэктыўным ***сродкам ўзьдзеяньня*** на сьвядомасьць, розум і пачуцьці чалавека. Інфармацыя ў сістэме ТБ, сьведама ці нясьведама, была падпарадкаваная якраз прынцыпу ***ўзьдзеяньня***, незалежна ад таго, у чыіх руках знаходзілася надайная функцыя.

***Уплыў на падсьведамасьць ёсьць галоўная адметнасьць тэлебачаньня***, чаго ня мае ў такой ступені ні радыё, ні друк, ні нават кіно, пра якое У.Ленін (які, па яго ўласным прызнаньні, нічога не разумеў у мастацтве) казаў, што для іх (для бальшавікоў) „з усіх мастацтваў галоўным зьяўляецца кіно".

У Савецкім Саюзе ўзьдзеяньне тэлебачаньня абмяжоўвалася ў асноўным ідэалягічнай сфэрай і прасеянай інфармацыяй. Гэта было даволі нуднае тэлебачаньне, і савецкі чалавек глядзеў у ім у асноўным „апошнія паведамленьні", кінафільмы, спартыўныя ды забаўляльныя перадачы. Тым часам, дзякуючы якраз пасьлядоўнаму дзяржаўна-партыйнаму кантролю, на экраны не пранікала брыдота, паказ гвалту, збачэнстваў, крывавых жорсткасьцяў, распусты і паскудства творчасьці разбэшчаных людзей. (Зрэшты, у СССР не існавала індустрыі такога „мастацтва"). Савецкае тэлебачаньне мела значна меншы разбуральны ўплыў на маральнасьць асобы, чым цяперашняе тэлебачаньне ў Расеі, і асабліва на Захадзе – у Эўропе і ЗША.

Узрастаньне разбуральнага ўзьдзеяньня тэлебачаньня ў сьвеце спалучана з агульным маральным крызісам дэмакратыі, які пачаўся, на маю думку, з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя і зьвязаны з паўсюдным прыходам да ўлады левых сілаў у заходніх краінах (дэмакратаў, сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў, камуністаў, зялёных і т.п.). Палітычна рэглямантаваны дэмакратычны прынцып свабоды асобы быў пераведзены імі ў „права чалавека" на ўсё, што не пярэчыць закону. А паколькі законам вельмі цяжка (і фактычна, немагчыма) рэглямантаваць мараль (бо маральныя дачыненьні вышэй за закон), то „права на ўсё" стала правам на грэх.

Спробы амэрыканскіх дэмакратаў рэглямантаваць гэтую падмену (свабоды правам на грэх) у галіне заканадаўства прывялі да кур'ёзаў, да пачварных вынікаў, што супярэчаць лёгіцы і здароваму сэнсу, прыніжаюць годнасьць чалавека, разбураюць сям'ю, разьядноўваюць людзей.

На працягу вельмі кароткага часу на паверхню грамадзтва выплыла такая чалавечая гразь, пра існаваньне якой раней не магло нават прысьніцца ў кашмарным сьне. Распаўсюджаньне яе адбываецца агрэсіўна і хутка, запаланяецца адна грамадзкая галіна за другой. Асноўная барацьба йдзе за ўладу, заканадаўства і сродкі масавай інфармацыі. У значнай ступені ў антымаральным балоце патоплена мастацтва і найбольш – так званая „мас-культура".

* * *

Нешта падобнае назіралася ў XV-XVI стагоддзях у Эўропе ў пару так званага „рэнесансу" (гэта значыць, адраджэньня паганскіх традыцыяў, свабоды людзей ад рэлігійных дачыненьняў – своеасаблівых „правоў чалавека" ў дахрысьціянскім разуменьні). Тады вельмі нізка апусьцілася мараль. Дзеці ня ведалі сваіх бацькоў, а манастыры ператварыліся ў прыстанішчы блуду і садомскай распусты. У гэты ж час ішла адкрытая разгерметызацыя ведзізму і таемных ведаў (Дж. Бруна). Прапаведвалася шалёная нянавісьць да Бога і чалавека (Т. Кампанэла). Эўропа літаральна захлыналася нашэсьцем цёмных сілаў, чараўнікоў, „калдуноў", магаў, хірамантаў, астролягаў, прадказальнікаў, гадальнікаў, чарнакніжнікаў і т.п. „экстрасэнсаў" (у цяперашняй тэрміналёгіі). Усё гэта раптам павылазіла з усіх шчылінаў на паверхню жыцьця.

Але тады, вобразна кажучы, другога ўпадку Рыму не адбылося. Хрысьціянская грамадзтва знайшло ў сабе сілы знутры, стварыўшы і сьвятую інквізіцыю (Дамініканцы), і моцную апалягетыку, і узяўшы ў свае рукі выхаваньне эліты (Езуіты). Стабілізацыі дасягнулі праз сто гадоў.

За ўсю 2000-гадовую гісторыю эўрапейскай цывілізацыі гэта было самае небясьпечнае і самае крытычнае яе выпрабаваньне. Тут справа ішла не за ўладу, і нават не за рэлігійную дактрыну, як магло здавацца на першы погляд. ***Вырашаўся лёс чалавечай індывідуальнасьці.*** Як трактаваць чалавека, як да яго адносіцца, якая яго роля на Зямлі і ў Сусьвеце. Гэта была барацьба з антычным (паганскім) рэгрэсам у межах Хрысьціянства.

Новая індывідуальнасьць ***(індывідуальнасьць душы, якую заклаў Хрыстос)*** зь яе крытэрыямі ўнутранага сьвету асобы і вечнага існаваньня ўступіла ў канфлікт з старой індывідуальнасьцю – індывідуальнасьцю цела і прыроднага права на задавальненьне яго вымог.

Менавіта тады вырашалася будучыня эўрапейскай цывілізацыі, бо *сэнс Хрысьціянства мог рэалізавацца толькі ў новым чалавеку*. Без стварэньня гэтага новага чалавека Хрысьціянства засталося б рэлігійнай дактрынай, ня больш.

* * *

Антыхрысьціянскія сілы зноў ідэалягічна і палітычна арганізаваліся ў Эўропе толькі праз 200 гадоў (масоны; пазьней – сацыялістычныя партыі). Але змаганьне за асобу было імі прайграна яшчэ ў XVI стагоддзі. Цяпер барацьба вялася ў сфэры ідэалёгіі і палітыкі за ўладу і сьвецкую дзяржаву, сацыяльную свабоду і права на бязбожжа.

Не праз асобу, а цераз новую дзяржаву і ўладу ў ёй, меркаваўся зварот да „свабоднага", „натуральнага" чалавека, які павінен быў ськінуць з сябе рэлігійныя і духоўныя абмежаваньні ды сацыяльныя путы і будаваць свой „новы сьвет", на асновах прадэкляраванай масонамі „свабоды, роўнасьці і братэрства".

Барацьба, як звычайна ў такіх сітуацыях, выштурхнула на паверхню крайнія сілы, якія зыходзілі з агрэсіўнага бязбожжа і дыктавалі ўмовы паводзінаў ня толькі Эўропе, але ўсяму сьвету на працягу амаль што ўсяго ХХ-га стагоддзя.

Татальны ўціск і зьдзек над людзьмі вядзе да абмежаванасьці і духоўнага зьбядненьня асобы, да дэградацыі магчымасьцяў чалавека, але маральная дэградацыя і разбэшчаньне грамадзтва ў такіх выпадках, як правіла, затарможаныя самым таталітарным рэжымам (які забараняе ўсё). Асоба ў варунках несвабоды і рэпрэсіяў „сьціскаецца", прыстасоўваецца і мізэрнее. Гэта яе

сродак абароны, устаноўка на выжываньне. Такая асоба, аднак, у глыбіні душы захоўвае, як правіла, сваю маральную аснову.

*Развагі па ходу размовы*. Галеча і беднасьць ламаюць людзей. Але звычайны чалавек часта не вытрымлівае выпрабаваньня багацьцем. Яно часам робіцца горам для яго душы. Такой жа бядой можа стаць для яго і сацыяльная свабода, калі ён не гатовы да яе. ***Свабода патрабуе высокай якасьці духу.*** У хрысьціянскім разуменьні свабода – гэта ***магчымасьць тварыць дабро***. Гэта адначасна – маральная катэгорыя, якая характарызуе ўзровень асобы (яе свабоду ад заганаў, ад страсьцяў, ад нізкіх і прымітыўных вымог). Ня кожны нявольнік, атрымаўшы сацыяльную свабоду, робіцца вольнай асобай. Але карыстацца сацыяльнай свабодай можа кожны. У гэтай супярэчнасьці закладзены вірус маральнага крызісу дэмакратыі.

* * *

Ліквідацыя камуністычнага таталітарызму ў Эўропе паспрыяла рэальнаму яе паляўненьню. (Бо зьнікла таталітарная пагроза ад СССР.) Левыя з энтузіязмам узяліся за ажыцьцяўленьне ідэі аб'яднанай Эўропы. У канцы гэтай ідэі ўжо праглядваецца новая карпаратыўная імпэрыя „таталітарнай дэмакратыі", дзе „правы чалавека" (і мы ўжо бачым гэтага „чалавека") будуць першасныя, па параўнаньні з суверэнітэтам краіны. (Гэта нешта накшталт сурагату новай рэлігіі.)

Аднак не палітычныя дактрыны, і нават не эканамічныя праблемы, вызначаюць цяпер сутнасьць напружаньня ў дэмакратычным сьвеце. На паверхню выходзіць той самы суб'ект, што і ў XVI стагоддзі – чалавек разбэшчаны. Гэтак жа, як і 500 гадоў таму, ён усьведамляе сваю разбэшчанасьць як свабоду. Свабоду ўсяго: ад Бога, ад рэлігіі, ад маралі, ад сям'і, ад абавязкаў, ад грамадзтва, і нават ад сваіх справаў (за якія ён ня хоча адказваць). Ён лічыць, што безадказнасьць – гэта ягонае „права чалавека", і змагаецца за гэтае права ў плыні ўсіх левых сілаў.

Разбэшчаны чалавек у XXI стагоддзі, гэтак жа, як і ў XVI стагоддзі, змагаецца не за сваю нішу, а за сваё разуменьне сьвету. Канфлікт, які нарастае (ад якога, аднак, некаторыя людзі адмахваюцца і робяць выгляд, быццам яго няма), мае якраз ***цывілізацыйны характар*** і ў пэрспэктыве (у выпадку, калі б перамог разбэшчаны чалавек), азначае крах, канец эўрапейскай цывілізацыі. (Хаця першай можа ўпасьці якраз Амэрыка. І эканоміка тут не дапаможа.)

Менавіта такую цывілізацыйную калізію ўпадку маралі і страты ўсялякіх маральных крытэрыяў перажылі, між іншым, старажытныя Грэцыя і Рым, што і прывяло да ўсеагульнага крызісу і зьнікненьня антычнага сьвету.

Альтэрнатыва Хрысьціянству як ***свабода ўсяго*** – ужо перажытая людзьмі далёка ў мінулым. Зварот да яе – гэта рэгрэс, шлях уніз, да таго, над чым некалі ўзвысіўся чалавек.

* * *

Цяпер вернемся ў пачатак, адкуль пачаліся нашыя развагі. Хтосьці зь цяперашніх дасьледчыкаў сказаў, што калі б у Гітлера было сучаснае тэлебачаньне, то невядома, як бы ўсё сталася. Тут ёсьць разуменьне асаблівага ўзьдзеяньня тэлебачаньня на чалавека.

Фактам зьяўляецца тое, што да пачатку XXI стагоддзя чалавек разбэшчаны ўжо грунтоўна ўсталяваўся і часткова загаспадарыў тэлебачаньне ў Эўропе і Амэрыцы. Пад выглядам свабоды і розных існуючых і неіснуючых правоў адбываецца агрэсіўны наступ нізасьці і бессаромнасьці, і адначасна здача пазыцыяў прыстойнасьці асобай маральнай і чалавекам разумным. Калі працэсы стануць разьвівацца гэтак і далей, то ў бліжэйшыя 10-15 гадоў хрысьціянскі сьвет будзе мець тэлебачаньне-клааку чалавечай мярзоты, збочанасьці і нізкіх паняцьцяў.

***Дрэнь выстаўляецца напаказ.*** Дрэнь і загана, гвалт і блуд сталі цяпер бізнэсам. Дрэнь прадаецца і купляецца, прыносіць прыбыткі і грошы. Таму змагацца з маральнай дэградацыяй няпроста і малавынікова толькі ў адной краіне. Праблема даўно перакрочыла нацыянальныя межы і патрабуе міжнародных захадаў. Для гэтага ў грамадзтве павінны быць іншыя каштоўнасьці, акрамя грошай.

Што сталася і што можа стацца з тэлебачаньнем у бліжэйшы час, добра ілюструе прыклад Галівуда. Сорак гадоў таму Галівуд быў зусім іншым. Хто памятае старыя галівудзкія фільмы, можа ў гэтым пераканацца. На экране тады існаваў чалавек прыстойны. У 80-х, і асабліва ў 90-х гадах, „фабрыка сноў" ператварылася ў канвэер зла. На экране фактычна няма болей вобразаў жыцьця (ня кажучы ўжо пра адлюстраваньне жыцьця нармальнага). Тут цяпер зусім іншыя людзі. Гэта штучныя вобразы, што прышлі з кіна-коміксаў і з рэклямных кліпаў. Забойствы, кроў, блуд, бойкі, пошласьць і распуста – усё гэта запоўніла экран Галівуда, пранікла на тэлебачаньне, ва ўсе куткі сьвету.

Экспансія паказу распусты, забойстваў і брыдоты зьяўляецца складовай часткай працэсу глябалізацыі, якая йдзе па двух накірунках: фінансава-эканамічным і культурным. Цэнтрам фінансава-эканамічнага інтарэсу зьяўляецца „Ўол-Стрыт" (Фінансавы Цэнтар амэрыканскага бізнэсу). Цэнтрам культурнай (ці, дакладней, антыкультурнай) агрэсіі ад нядаўняга часу стаў Галівуд.

Захад моцны сваёй фінансавай сістэмай. За Ўол-Стрытам стаіць рэальная сіла і рэальныя каштоўнасьці. Тым часам сучасная мастацкая культура Захаду мізэрная па сваім узроўні. Яна перажывае працэс упадку і дэградацыі. Тут даўно ўжо няма ні вялікіх духоўных ідэяў, ні станоўчых эстэтычных ідэалаў. Яе месца заступіла мас-культура, ці дакладней, – бізнэс-культура.

Фінансы і высокі тэхнічны ўзровень, дамінуючае валоданьне глябальнымі сродкамі перадачы інфармацыі (тэлебачаньне, інтэрнэт, касьмічныя спадарожнікі) забясьпечвае экспансію бізнэс-культуры і адпаведна – разбурэньне духоўнай мастацкай культуры чалавецтва.

Існуе сусьветная праблема і пагроза зьнішчэньня духоўных традыцыяў нацыянальнай гісторыі. Ісламскі сьвет рэагуе на гэты мас-культурны імпэрыялізм дзікімі, варварскімі мэтадамі барацьбы. Заходні сьвет трымаецца за свабоду слова і робіць выгляд, што праблемы няма.

Але яна ёсьць і перакрочыла ўжо межы магчымага. Лічбавае тэлебачаньне, якое разьвіваецца ў накірунку злучэньня з інтэрнэтам, адкрые яшчэ большыя магчымасьці для індустрыі брыдоты, запабягаць якой будзе надзвычай цяжка, ды й па ўсім відаць, ніхто не гатовы гэта рабіць.

* * *

Станоўчы ўплыў цяперашняга тэлебачаньня на разьвіцьцё асобы (прынамсі на Захадзе, і асабліва ў ЗША) здаецца мне надзвычай малым. Тым часам разбуральныя вынікі яго ўзьдзеяньня – навідавоку.

Асабліва відаць гэта на дзецях і моладзі. Тое, што адбываецца ў апошнія 3-4 гады ў школах Амэрыкі, – гэта поўны абсурд, які нагадвае пра пэрспэктыву канчатковага краху сацыяльнага грамадзтва ў гэтай краіне.

У кожнай амэрыканскай школе пастаянна знаходзіцца паліцыя. У клясы на лекцыі і зь лекцыяў усіх дзяцей прапускаюць праз кантрольныя дэтэктары (як у аэрапорце), выварочваюць кішэні і ранцы, адбіраюць нажы, пісталеты, балёнчыкі з газам, і нават гранаты. І тым ня менш, у школах Амэрыкі амаль кожны дзень грымяць стрэлы. Шасьцігадовыя дзеці і 16-гадовыя падлеткі страляюць па вучнях і па настаўніках за дрэнныя адзнакі, ці за заўвагі аб непаслушэнстве, ці проста так, з цікавасьці, наглядзеўшыся галівудзкай эрзац-прадукцыі ў тэлевізары.

Ужо дзясяткі забітых дзяцей (не кажам пра раненых). Дзіця не адрозьнівае таго, што бачыць па тэлебачаньні, ад рэальнага жыцьця. Яно яшчэ ня здольнае ацаніць і прадбачыць вынікі сваіх дзеяньняў, а ў рукі яму ўжо ўклалі пісталет. Гэта зрабіў тэлевізар. Дзецям усё гэта здаецца забаўкай, як на экране.

Цяпер амэрыканскія школьнікі страляюць у школах, але праз нейкі час выстралы загучаць у сям'і. І, дарэчы, ужо гучаць.

Прычыны розныя. І тое, што ў Амэрыцы манія асабістай зброі, і што яна ўсім даступная. І тое, што ў ЗША цяпер інтэнсіўна разбураецца сям'я, і тое, што многія амэрыканцы ўжо перасталі разумець дзіцячую псіхалёгію, бо большасьць жыве для сябе, для свайго задавальненьня і сваіх інтарэсаў, а не для сваіх дзяцей (як прынята ў нас). Прычынаў шмат. Але галоўная і агульная прычына – тэлевізар, тое, што дзеці ў ім бачаць. Дзіцячая псіхіка ўжо ня вытрымала.

Калі ж зьяўляюцца энтузіясты, каб абмежаваць паказ забойстваў і паскудства, то ў іх нічога не атрымліваецца. Галоўны аргумант супраць іх – свабода слова. Маўляў, чалавек свабодны і павінен мець права і магчымасьць выбару.

Але дзеці і падлеткі ня ўмеюць рабіць асэнсаваны выбар. Больш таго, клясычная норма права гаворыць аб тым, што ***ніхто не павінен нікога змушаць рабіць выбар***. Бандыт, які кажа чалавеку рабіць выбар кшталту „кашалёк або жыцьцё" ёсьць проста бандыт, а не прыхільнік свабоды выбару.

Для шмат якіх людзей цяжка выбраць цяпер нават паміж тэлепраграмамі (асабліва ў вечаровы час). Тэндэнцыя так званай „свабоды выбару" рухаецца да таго, што нармальнаму чалавеку застанецца толькі адзін „выбар": альбо ўключаць, альбо не ўключаць. Так рэалізуецца права на свабоду выбару інфармацыі па прынцыпу: „альбо кашалёк, альбо жыцьцё".

* * *

У пазнаваўчым сэнсе сітуацыя са свабодай слова ня ёсьць тупіковая. Яна патрабуе пэўнага аналізу і прыняцьця пэўных рашэньняў, зыходзячы з той нормы (амаль аксіёмы), што ***свабода без берагоў ёсьць несвабода***. Бо ня могуць асобныя людзі быць свабоднымі ад грамадзтва і адзін ад аднаго. Крыміналітэт як паразітычная агрэсіўная форма свабоды ад грамадзтва прыводзіць да яшчэ большай несвободы чалавека ў крымінальнай супольнасьці.

Імкненьне да неабмежаванай свабоды ёсьць у аснове сваёй крымінальнае, эгаістычнае і прымітыўнае жаданьне несвабоднага чалавека, які хацеў бы збавіцца ад абавязкаў перад людзьмі, культурай і прыродай.


(Фота З. Пазьняка)

Грамадзтва валодае сістэмай абмежавальных мэханізмаў, каб свабода не ператварылася ў несвабоду, але яно не заўсёды здольнае іх ужываць, бо стрымліваньне зла залежыць ад шматлікіх фактараў, дзе найбольшай супрацьдзеючай сілай зьяўляецца інтэрас бізнэсу і прага нажывы.

Практыка паказвае, што права грошай тут нават ня ставіцца пад сумніў. Ніякая страляніна ў школах, ніякія забойствы і ніякая маральная шкода людзям ня спыняць нажыву, нават калі кананада загучыць па ўсім сьвеце, бо сам ***бізнэс на чалавечых заганах, нізкіх інстынктах і комплексах ёсьць узаконеным дзеяньнем зла***.

Можна ўявіць, як далей будзе разьвівацца легалізацыя разбэшчанага чалавека і якую ролю адыграе ў гэтым тэлебачаньне. Верагодны варыянт: усё будзе ісьці, як і цяпер, – зьяжджаць па нахіленай плоскасьці да цывілізацыйнага распаду эўрапэйскай культуры.

Магчыма, аднак, што ў грамадзтве адбудуцца перамены, да ўлады прыйдуць адказныя людзі ды разумныя сілы, і праблема пачне вырашацца на міжнародным узроўні. Будуць уведзеныя пасьлядоўныя заканадаўчыя абмежаваньні на зло, наладжаны кантроль грамадзтва і *перагледжана лібэральная формула свабоды* (у тым ліку і свабоды слова), якая ня можа быць абсалютнай, ня можа быць адасобленай ад маралі, ад павагі да чалавечай асобы, ад шанаваньня сьвятога і чалавечага. Свабода ня можа быць зброяй рэгрэсу і разбурэньня, хто б ёй ні карыстаўся.

Свабода – гэта вялікая Боская каштоўнасьць. Але ёсьць бязбожнае разуменьне свабоды (якім пераважна імкнецца жыць цяперашні сьвет), калі чалавек хоча быць свабодным ад Бога і ад усяго. Бальшавікі таксама змагаліся за свабоду. У іх было сваё разуменьне свабоды. Што атрымалася з бальшавіцкай „свабоды", мы ведаем.

Мяркую, што ў вольнай справядлівай Беларусі будзе нацыянальнае тэлебачаньне высокага ўзроўню. Яно, напэўна, таксама сутыкнецца з агрэсіяй распусты і з тэлевізійнай бізнэс-культурай. Але мы, беларусы, мусім быць падрыхтаванымі да гэтага, каб не дапусьціць ўкараненьня чужароднага.

Беларуская ўлада, якая будзе гэта разумець, павінна памятаць адно: заканадаўчыя і арганізацыйныя захады супраць распаўсюджаньня тэле-бізнэсу на разбэшчанасьці ***мусяць прымацца адразу***, без прамаруджаньня, цьвёрда і пасьлядоўна.

Калі ў гэтай справе час будзе страчаны і на Беларусі ўмацуецца індустрыя дрэні, тады гэта станецца, як з мафіяй – вечная барацьба, якая змарнуе грамадзкія сілы.

Аднак веданьне праблемы – гэта ўжо палова справы. Ёсьць надзея, што беларусы ня стопчуць свой гонар і захаваюць высокі ўзровень людзей.

*14 красавіка 2001 г., Нью-Ёрк.*
*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №9(39).*

# УРБАНІЗАЦЫЯ

*Узровень культуры грамадзтва залежыць ад пэўных цывілізацыйных фактараў, якія выяўляюцца ў канкрэтных азначэньнях таго, чым займаецца грамадзтва, што і як вытварае, які існуе падзел і якая сувязь (камунікацыя) паміж людзьмі, якія іхныя ўяўленьні пра сьвет і пра сэнс існаваньня.*

*Чыньнікі грамадзкага падзелу і камунікацыі ёсьць галоўнымі дзейнікамі паскарэньня і разьвіцьця культуры. Грамадзтва роўных людзей амаль не разьвіваецца (напрыклад, прымітыўныя супольнасьці на нізкай ступені існаваньня).*

*Тым часам жорсткі сацыяльны падзел бяз зьявы грамадзкай камунікацыі прыводзіць да застою і марнаваньня магчымасьцяў культуры, да дэградацыі.*

*Для нармальнага разьвіцьця камунікацыйны дзейнік культуры павінен выступаць чыньнікам грамадзкай лучнасьці, стаць спосабам гарманізацыі сувязяў і дачыненьняў людзей. Якраз тады праяўляецца паскарэньне як шлях да стабільнасьці грамадзтва. Стабільнасьць жа грамадзтва – гэта ёсьць стабільнае разьвіцьцё культуры.*

***Камунікацыйнымі чыньнікамі разьвіцьця (паскарэньня) культуры трэба лічыць рэлігію, дзяржаву, пісьмовасьць, урбанізацыю, тэхніку і ў апошні час – інфарматыку.***

*Пацікавімся адной з гэтых істотных зьяваў дынамікі і стабільнасьці сацыяльна-культурнага разьвіцьця – урбанізацыяй.*

* * *

Мы, беларусы, гістарычна малады народ. Прыблізна тысячу гадоў таму ў нас адбыўся культурны выбух. Супала некалькі цывілізацыйных падзеяў. Практычна ў адзін і той жа час узьніклі гарады, пісьмовасьць, дзяржава і распаўсюдзілася Хрысьціянства. За вельмі кароткі час нашыя продкі выйшлі з гістарычнага нябыту і стварылі вялікую цывілізаваную магутную дзяржаву, якая сталася ня толькі геапалітычнай, але і культурнай зьявай Эўропы.

Дынамічным чыньнікам, маторам эўрапейскай культуры былі гарады. Беларускія гарады карысталіся Магдэбурскім правам, мелі самакіраваньне і вольнае саслоўе, канцэнтравалі гандаль і рамесьніцкую вытворчасьць, былі цэнтрамі адміністрацыі і рэлігіі, станавіліся часта (што датычыць сталіцаў) духоўнымі і культурнымі цэнтрамі ўсяго народу.

Аднак, каб урухоміць цывілізацыйную ролю гарадоў на ўсё грамадзтва, патрэбна, каб існавала прадуманая ўрбаністычная сістэма сувязі паміж горадам і вёскай, спалучаная з камунікацыйнымі магчымасьцямі людзей.


(Фота: „Бацькаўшчына")

***117. Касьцёл у Будславе. Здымак 1930-х гг.***

У сярэднявяковай Беларусі, гэта значыць у Вялікім Княстве Літоўскім, якраз была створана і добра дзейнічала такая сістэма.

Прынцып яе заключаўся ў тым, што паміж сталіцай, вялікімі гарадамі і вёскай існавала мноства маленькіх гарадкоў – паселішчаў з сацыяльна-культурным статусам гарадзкога цэнтру. Гэта славутыя беларускія мястэчкі.

Мястэчка, як правіла, было цэнтрам мясцовай адміністрацыі і парафіі. Тут былі царква і касьцёл. У мястэчку, акрамя сялянаў, жылі гандляры, мяшчане і рамесьнікі, былі крамы, школа, аптэка, часам шпіталь ці пры боку кляштар і замак, будынкі адміністрацыі. У мястэчках існавала галоўная гандлёвая плошча

і рынак. Шмат якія мястэчкі мелі самакіраваньне, магдэбургскія гэрбы і свабоднае саслоўе.

Беларускія мястэчкі, як правіла, разьмяшчаліся на адлегласьці ад 12 да 16 кілёмэтраў адно ад другога. Мы можам нядрэнна прасачыць гэтую сістэму на тэрыторыі былой Віленшчыны, дзе яна найлепш захавалася.

Пачнем адвольна, скажам, зь Дзявенішак. Праз 14 кілёмэтраў на поўдзень ад Дзявенішак – мястэчка Суботнікі; на захад ад Суботнікаў за 12 кілёмэтраў – мястэчка Геранёны з замкам і касьцёлам; за 16 кілёмэтраў на паўднёвы захад – мястэчка Ліпнішкі; за 12 кілёмэтраў на паўночны ўсход – мястэчка Трабы з царквой і касьцёлам; за 12 *км* на ўсход – мястэчка Юрацішкі; ад Юрацішак за 14 *км* на паўднёвы захад – мястэчка Іўе, а за 12 *км* на поўдзень – Лаздуны; 12 кілёмэтраў за Лаздунамі – Бакшты; за 14 *км* на захад ад Іўя – Ліпнішкі; за 12 *км* на захад ад Ліпнішак – мястэчка Тракелі, потым Воранава, Беняконі і г.д. – ва ўсе канцы праз 12-14-16 кілёмэтраў ёсьць мястэчкі.

Калі пайсьці на паўночны ўсход ад Суботнікаў праз Трабы, то далей, праз 14 *км* ад Трабаў – славутае мястэчка Гальшаны з замкам і касьцёлам. Збоку – Меднікі з замкам, з другога боку – Багданава, потым – Вішнева з касьцёлам і царквой. Ідучы гэтак на паўночны ўсход праз Жупраны, Ашмяны, мы дойдзем, мінаючы шэраг мястэчак, да Астраўца, Гервятаў, Сьвенцянаў, потым да Відзаў, Дрысьвятаў, Опсы, горада Браслава, потым, праз 12 кілёмэтраў – да мястэчка Слабодка, праз 14 – да мястэчка Плюсы, далей – да Друйска, Друі, Прыдруйска і так аж да Невеля – паўночнай мяжы былога Вялікага Княства.

Гэтак жа, ці то ад Дзявенішак праз Яшуны, Салечнікі, ці то ад Гальшанаў мы праз кожныя 12-16 кілёмэтраў, мінаючы мястэчкі, дойдзем да Вільні, Лентварова ды Трокаў і потым – на Майшаголу і Няманчын.

Такая ж сістэма сягае аж да Беластоку і Берасьця. Выразна праглядваецца яна вакол Менска, Магілёва і Віцебска ды Полацка. Рэшткі яе існуюць і ў паўднёвай Беларусі вакол Пінска ды Мазыра.

Рацыянальнасьць урбаністычнай сістэмы Вялікага Княства відавочная. Кожнае мястэчка, як бачым, мела радыюс ахопу тэрыторыі 6-8 кілёмэтраў. Гэта псіхалягічна максімальная адлегласьць для пешахода, калі чалавек мог кіравацца ў дарогу пехатой, не спадзеючыся на каня. Тым часам гэта адна гадзіна язды на запрэжаным кані.

Жыхар любой вёскі ў разе патрэбы мог у любы час на працягу адной-дзьвюх гадзінаў трапіць у мястэчка. У мястэчку якраз і адбываўся культурны абмен паміж горадам і вёскай. ***Мястэчка было рэальным перадатачным зьвяном культуры.***

Паміж мястэчкам і горадам існавала рэгулярная чаўночная міграцыя і сувязь (гандлёвага, адміністрацыйнага, канфэсійнага і іншага парадку). У мястэчку і ў горадзе быў у прынцыпе аднолькавы характар культуры, толькі ў мястэчку ў меншым маштабе. (Дарэчы, і архіўныя, і археалягічныя матэрыялы добра гэта пацьвярджаюць.)

Тым часам селянін часта і рэгулярна наведваў ня горад, а якраз мястэчка, і адтуль чэрпаў свае ўяўленьні пра больш шырокі сьвет і гарадзкія дачыненьні.


(Фота Я. Шатохіна)

***118. Ваколіца пад Пінскам.***

Урбаністычная сістэма Вялікага Княства дала вельмі шмат для беларускай культуры. Яна забясьпечыла ёй агульнаграмадзкі эўрапейскі ўзровень і засьцерагла ад правінцыялізму. Гэта значыць ад культурнага разыходжаньня, ад бездані паміж горадам і вёскай.

Там, дзе не існавала сістэмы культуратворнай (эўрапейскай) урбанізацыі, там заўсёды прысутнічаў грамадзкі правінцыялізм. (Велічная Бухара ды Самарканд – у атачэньні жывёлагадоўчых плямёнаў з прымітыўнымі заняткамі ды ўяўленьнямі; купецкая Масква, чыноўны Пецярбург і побач, як казалі самы расейцы, – „мерзость российской действительности".)

У Расеі не было ні вольных гарадоў, ні самакіраваньня, ні Магдэбургскага права, ні мястэчак, ні прадуманай сістэмы ўрбанізацыі. Такі стан вынікаў увогуле з неэўрапейскага характару рускага грамадзтва. У пачатку XX-га стагоддзя ў Расеі існавала велізарная культурная розьніца паміж горадам і вёскай. Бальшавікі паставілі задачу ліквідаваць гэтую бездань. І ліквідавалі па-свойму: разбурылі вёску і зьнішчылі сялянства. (Набудавалі таксама непатрэбных савецкіх гарадоў, у якіх немагчыма жыць.)

На Беларусі яны першым чынам ліквідавалі саму назву „мястэчка". Перайменавалі мястэчкі то ў „дзярэвні", то ў „гэпэ" („гарадзкія пасёлкі"). Расейцы моцна дэфармавалі функцыі беларускага мястэчка, шмат якія мястэчкі давялі да поўнай дэградацыі, але зьнішчыць дазваньня ўсё ж не пасьпелі.

Урбаністычная палітыка расейскіх камуністаў на Беларусі заключалася ва ўкараненьні такой мадэлі, якая б стымулявала працэсы русіфікацыі беларусаў і міграцыі расейцаў у Беларусь. Зыходзячы з гэтай задачы, у пачатку 60-х гадоў, на закрытым паседжаньні ЦК КПСС у Маскве было прынятае рашэньне аб разбудове Менска ў вялікі мегаполіс з шматмільённым насельніцтвам.

Потым, у 1964 годзе, узьнік плян ліквідацыі на Беларусі вясковых паселішчаў. Дзеля гэтага быў прыдуманы тэрмін „непэрспэктыўная вёска". 73 адсоткі беларускіх вёсак намерваліся ліквідаваць, сьцерці з твару зямлі.

Гэты плян ужо ня меў дачыненьня да ўрбанізацыі. Адкрыта рыхтавалі культурную катастрофу і вынарадаваньне беларускай нацыі.

Мы, беларусы, павінны быць удзячныя Богу, што своечасова распаўся Савецкі Саюз.

Дбаючы пра нашу будучыню і нашу культуру, мы мусім будзем шмат што адбудаваць, адрадзіць, аднавіць; у тым ліку вярнуцца да культуратворчай сістэмы ўрбанізацыі, абумоўленай інтарэсамі нашага грамадзтва, дабром нашых людзей, эканомікай, экалёгіяй і культурнай пэрспэктывай. ***Мы павінны будзем адрадзіць нашыя мястэчкі.***

Беларуская гісторыя нам штодзённа сцьвярджае і сьведчыць, што наша нацыянальная будучыня знаходзіцца ў нас самых. Мы, і толькі мы, беларусы, мусім яе ажывіць і ўсталяваць на нашай зямлі.

*15 лютага 2001 г., Нью-Ёрк.*
*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №9(39); „Народная Воля",– 2001, 16 траўня).*

# ЭГАЛІТАРЫЗМ

У 80-х гадах мінулага стагоддзя немінучы распад СССР адчуваўся ў паветры. У Эстоніі, Латвіі, Летуве толькі і размоваў было пра вяртаньне суверэнітэту ды незалежнасьці.

У Беларусі ўзьнікла крыху іншая карціна. Пачынаючы ад гарбачоўскай перабудовы, як толькі зьбяруцца якія-небудзь палітыкі, то абавязкова будуць гаварыць пра эканоміку ды пра рэформы. Як правіла, нехта скажа (і ўсе пагодзяцца), што эканоміка – гэта галоўнае, што бяз добрай эканомікі нічога ня будзе, што найважнейшае – гэта эканамічныя рэформы і г.д.

Пэўна, што так. Ад эканамічнага ўладкаваньня грамадзтва шмат што залежыць. ***Толькі ў аснове добрай эканомікі павінны быць добрыя людзі.*** Інакш нічога прыстойнага не атрымаецца. Галоўным у эканоміцы ёсьць маральны чыньнік чалавека – пісаў вялікі эканаміст Адам Сміт. І сапраўды, якія эканамічныя рэформы можна рабіць, напрыклад, у грамадзтве, дзе шмат людзей прывыклі ашукваць і красьці, дзе існуе павальнае п’янства, дзе людзі ня любяць працаваць, бо праца абясцэненая, дзе ў грамадзтве няма духоўных ідэалаў і агульнанацыянальных каштоўнасьцяў, а дачыненьні паміж людзьмі ўзьнікаюць на падставе нянавісьці. Калі ў такім грамадзтве пачынаюць эканамічныя рэформы, то багатымі людзьмі ў выніку становяцца найбольш злодзеі і нягоднікі, якія, зрабіўшыся заможнымі, да таго ж, захопліваюць уладу. Прыкладаў шмат, ад Паўднёвай Амэрыкі ды Афрыкі да прастораў Расеі.

У аснове абсалютызаваных разважаньняў пра эканоміку як самадастатковую вартасьць знаходзяцца ўяўленьні, выхаваныя на бязбожніцтве і матэрыялізме, калі асобу чалавека ня толькі не паважаюць, але ўвогуле не прымаюць у разьлік. Ад эканамічнага рэфарматарства ў такім грамадзтве часта простая дарожка да таталітарнай дыктатуры.

Справа часьцей за ўсё зусім ня ў дрэнных эканамічных праграмах. Справа ў людзях. Грамадзтва можа мець інтэлектуальныя рэсурсы (зрэшты, можа іх купіць у іншым грамадзтве), каб скласьці добрыя эканамічныя праграмы рэформаў. Але пойдуць яны кепска, наперакос, прывядуць да пабочных вынікаў, бо не хапіла патрэбных ***маральных людзкіх рэсурсаў***.

Можна глядзець на Захад і на Ўсход – усюды гэтыя прыклады ўбачым, толькі на розным узроўні і ў розным выяўленьні.

Палітыкаў, якія асновай добрага існаваньня грамадзтва і ўсяго чалавечага жыцьця лічаць толькі эканоміку, ня трэба й слухаць. Гэта, як правіла, папулісты і абмежаваныя людзі. Ім лепш прафэсійна займацца эканомікай і не набліжацца да палітычнай улады. ***Бо ўлада і палітыка – гэта перш за ўсё адказнасьць за людзей і за ўсю нацыю.*** Тут трэба ўлічваць ня толькі эканоміку.

У Беларусі, прынамсі на працягу апошніх 200 гадоў існаваньня пад акупацыяй, бальшыня ўнутраных сацыяльна-псіхічных і маральных зьменаў у грамадзтве выкліканыя зьнешнепалітычным чыньнікам. Менавіта бесперашкоднасьцю палітычна-праўнага, інфармацыйнага і сацыяльнага пранікненьня расейскіх стэрэатыпаў у беларускую сацыяльна-культурную супольнасьць.

Далучанасьць Беларусі да адзінага савецкага грамадзтва абазначала і далучанасьць яе да хваробаў гэтага грамадзтва, да інфэкцыі чужародных заганаў.

Часта ў грамадзтве (мы разглядаем тыя чалавечыя грамадзтвы, якія існуюць на ўзроўні дзяржаўных утварэньняў) нейкая загана фармуецца як традыцыйная грамадзкая зьява (напрыклад, кроўная помста ці п’янства ў некаторых краінах). Тады яна ўхваляецца часткай народа і дзейнічае як тормаз любога нацыянальнага прагрэсу.

Зьяву можна разглядаць як агульную хваробу грамадзтва, змагацца зь якой ня так проста, бо яна заўсёды мае ня толькі маральныя, але і сацыяльныя, і эканамічныя, культурныя, палітычныя і іншыя карэньні.

У пляне эканамічнага разьвіцьця найбольш небясьпечнай грамадзкай заганай зьяўляецца, на маю думку, эгалітарызм – грамадзкае выяўленьне зайздрасьці, якое рэалізуецца як раўненьне па ніжнім узроўні. Эгалітарная супольнасьць страчвае імкненьне да лепшага, да перайманьня добрых прыкладаў, да ўдасканальваньня. Яна перастае разьвівацца. Глыбокі застой зьмяняецца рэгрэсам і адсталасьцю.

Эгалітарызм распаўсюджаны ў асноўным сярод бедных пластоў насельніцтва, характэрны таксама для люмпена і люмпенскай псіхалёгіі. Гэтая зьява найчасьцей спатыкаецца на ўсходзе Эўропы, найбольш у Расеі і далей на ўсход.

Беларусы, якім прыходзілася выязджаць зь Беларусі і доўгі час жыць у Расеі, асабліва ў рускай сельскай мясцовасьці, добра ведаюць, што такое нянавісьць да лепшага.

Беларус ня можа бяз працы. Таму, пасяліўшыся з сям’ёй у рускай вёсцы, ён заводзіў гаспадарку, трымаў карову, сьвіней, курэй, індыкоў ды качак, садзіў сад, упраўляў гарод, шаляваў хату, ставіў гаспадарчыя пабудовы, капаў склеп ды студню, абгароджваў усё добрым плотам, працаваў і ўсё неабходнае меў.

Рускія сельскія жыхары, большасьць зь якіх (асабліва вакол вялікіх гарадоў) здавён не трымаюць жывёлы, ня маюць ні садоў, ні платоў і кожны дзень п’яныя, ацэньвалі такое жыцьцё беларуса заўсёды варожа. „Вось куркуль, вось прагны, яму больш за ўсіх трэба, дурны беларус,” – казалі яны пра яго. Кожны стараўся зрабіць яму цішком непрыемнасьць: то штанкет адарваць, то гусь колам пераехаць, то цяля атруціць, то сад спляндраваць. Часам даходзіла да адкрытых пагрозаў: „Ты, – казалі рускія, – тут не старайся, усяроўна спалім”.

Тым часам яны заўсёды нечага прасілі ў беларуса. Ведаю гісторыі, што калі прыходзіла пара калоць парсюка, то ў чаргу да беларуса па мяса ды сала выстройвалася цэлая руская вёска. І ўсім давалася. Але гэта ніяк не зьмяняла адносіны да беларуса: „Вишь, куркуль, всё имеет,” – казалі пасьля сала.

Ведаю выпадкі, калі такога беларуса ў рускай вёсцы спальвалі, ведаю, калі беларус кідаў усё і зьязджаў, але ніводнага ня ведаю прыкладу, каб нехта з такіх рускіх людзей нечаму добраму ў беларуса навучыўся, нешта добрае ў яго пераняў, ці хоць бы паважаў яго за працу і заможнасьць.

Тут не ксэнафобія. Тут якраз выяўляецца псіхалёгія эгалітарызму. Менавіта на эгалітарызм абапіраліся бальшавікі, калі стваралі розныя „камбеды”, вынішчалі заможных сялян („кулакоў”) і разбуралі вёску. Нянавісьць да багацейшых, да вольнай працы, што стварае багацьце, да ўсяго лепшага, чыстага, адукаванага, інтэлегентнага стала афіцыйнай псіхалёгіяй у рускай камуністычнай імпэрыі. Гэтая псіхалёгія падтрымлівалася і ўхвалялася, і называлася „клясавай нянавісьцю”.

У Расеі эгалітарызм быў глыбока ўкаранёны ў сьвядомасьць яшчэ за прыгонным правам. Нідзе прыгоннае права не было такім жорсткім і нідзе не пратрывала так доўга, як у Расеі. (Да 1861 года за царом і з 1930 па 1991 – за камуністамі).

У Беларусі праявы эгалітарызму сталі відаць найбольш у пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі самыя актыўныя людзі ў вёсцы на кароткі час здолелі выбіцца на самастойныя таварныя гаспадаркі (так званыя „фермеры”).

Шмат дзе калгасны люд адносіўся варожа да тых гаспадароў, справы якіх пайшлі ўгару. Зафіксаваныя нават выпадкі атручваньня быдла і рабленьне нематываванай шкоды. Маўляў, не высоўвайся, ня лепшай, не багацей, жыві дрэнна, як мы, гэта, маўляў, нармальна.

Тое, што праявы эгалітарызму ў агрэсіўнай форме ёсьць у Беларусі – гэта найбольш вынік камунізму ды калгаснага ладу. Тут выяўленьне псіхалёгіі несвабоднай асобы, а таксама наступствы усёй сістэмы камуністычнага выхаваньня і адносінаў да працы як да працэсу, адасобленага ад канкрэтнага чалавека.

Вольныя і маральна выхаваныя людзі ў вольным грамадзтве паводзяць сябе інакш. Калі немец ці амэрыканец бачыць, як побач зь ім багацее сусед і нешта разумнае робіць, што дае яму выгаду, то ацэнка суседзкага посьпеху выяўляецца не ў эгалітарнай зайздрасьці, не ў жаданьні нашкодзіць бліжняму, каб той ня лепшаў ды не багацеў, а ў імкненьні павучыцца ў яго і зрабіць гэтак сама, а то й лепш, каб дасягнуць свайго посьпеху.

У свабодных грамадзтвах, дзе цэніцца вольная праца (а не нявольніцкая ды прымусовая), дзе існуюць нацыянальныя традыцыі культуры, дзе ёсьць павага да Бога і да чалавека, там заможных, пасьпяховых людзей паважаюць. Там кіруюцца на вышэйшае, на лепшае.

У супольнасьці, дзе пануе эгалітарызм, багатых людзей ня любяць, ім зайздросьцяць і ненавідзяць. У іх могуць прасіць, але не вучыцца.

У эгалітарнай супольнасьці нішчыцца і зьнікае вольная праца. Тут узаемасувязь і замкнутае кола. І ня так проста зь яго выйсьці пры дапамозе адных толькі эканамічных рэформаў. Бо ўзьнікае цэлы ланцуг нездаровых паводзінаў.

Канкурэнцыя ў свабодным грамадзтве, напрыклад, вырашаецца разумна. Калі нейкі вытворца вытварае такі ж самы тавар, як іншы вытворца, але па танейшай цане, то іншы вытворца пачынае думаць, як скараціць выдаткі на вытворчасьць, увесьці новыя тэхналёгіі, павялічыць гандлёвы абарот і г.д., каб выраўняць цану.

У супольнасьці, дзе пануе эгалітарная псіхалёгія, праблемы канкурэнцыі вырашаюцца, як у Расеі. Вытворца пачынае думаць, дзе б гэта наняць кілера, каб застрэліць канкурэнта. (Ці ў лепшым выпадку спаліць альбо нашкодзіць.) Эгалітарная псіхалёгія спараджае крымінальную сьведамасьць.

Успамінаю выпадкі ў сваёй дэпутацкай практыцы. Падыходзіць да мяне ў Менску адзін пэнсіянер-ветэран і кажа, што ўсе гандлёвыя кіёскі-шапікі ў горадзе трэба спаліць і забараніць, бо крывапіўцы-гандляры жывуць на целе народа.

– А хто вам пэнсію выплочвае? – пытаю.

– Дзяржава.

– А вы ведаеце, што латошнікі і прыватны сэктар у Менску плацяць 56 адсоткаў усіх падаткаў па горадзе. Калі іх ня будзе – адкуль грошы ў дзяржаве, адкуль вам пэнсія? – кажу я.

– Всё равно нада сжэч. Жыруют на нашы пенсіі, – быў адказ.

11-га сакавіка гэтага году на рускім тэлеканале *НТВ* паказалі такі дакумэнтальны сюжэт, зьняты ў Тульскай вобласьці Расеі.

У вёску прыехала прыстойная адукаваная жанчына сярэдніх гадоў і пачала апекавацца бяздомнымі сабакамі. Яна ўладкавала ў сваім доме і двары 52 сабакі, карміла і даглядала іх. Гэта выклікала лютую нянавісьць аднавяскоўцаў. „Людям кушать нечево, а она собак кормит," – такая была ацэнка.

Неўзабаве яе дом падпалілі. Калі дом гарэў, аднавяскоўцы глядзелі, як ён гарыць, а жанчына аднаго за другім выносіла сабак з агню. Калі яна ўскочыла ў палаючы дом, каб вынесьці чарговага сабаку, дах абваліўся і жанчына згарэла разам зь няшчаснымі жывёламі.

Потым аднавяскоўцы прышлі на пажарышча разам зь міліцыянерам і пазабівалі ўсіх 27 сабак, якіх пасьпела вынесьці з агню загінуўшая жанчына. Трупы сабак так і засталіся ляжаць на зямлі, ніхто іх нават не закапаў.

Неўзабаве ў вёску прыехалі з гораду дачка і зяць згарэўшай кабеты і кажуць пажарніку, што хацелі б пахаваць маці пахрысьціянску і шукаюць яе рэшткі.

– Вот, забірайте – всё, что осталось, – паказаў пажарнік на бруднае вядро з абгарэлымі касьцьмі і падкінуў яго нагой.

Камэнтаваць гэтае дзікунства я ня буду. Тым больш, што ў цывілізаваных людзей такое ня ўкладваецца ў галаве. Адзначу толькі, што гэты выпадак тыповы для псіхалёгіі эгалітарнай супольнасьці. Тут нянавісьць да непадобнага, да іншага нязвыклага разуменьня, да ўзвышаных паняцьцяў, да стылю паводзінаў, які ўспрымаецца падсьведама ў эгалітарнай супольнасьці, як дакор нікчэмнаму і прывычнаму існаваньню. Тут спрацоўвае рэакцыя статкавага інстынкту.

Зазначу, аднак, што ў маскоўцаў (гэта адзначае і гістарычная этнаграфія) сабака лічыўся нячыстай жывёлай. Маскоўцы сабак білі і ня мелі да іх ніякай ласкі і сантымэнтаў. Дачыненьні да сабакі адлюстраваныя і ў рускіх прымаўках ды выслоўях (накшталт, „бить, как собаку") і нават у паэзіі. (Напрыклад, рускі паэт Ясенін мастацкім узорам сваёй дабрыні лічыў той факт, што ён сабак ня біў па галаве. Такая вобразная аргумэнтацыя магла нарадзіцца толькі ў сьведамасьці рускага паэта.)

Аднак выпадак у Тульскай вобласьці вынікае не з этнічных, а менавіта з эгалітарных уяўленьняў. Этнічная падсьведамасьць магла, магчыма, толькі падтрымліваць эгалітарную матывацыю.

Памятаю, у канцы 60-х гадоў, пасьля савецкай інвазіі ў Чэхаславаччыну, задаю пытаньне рускаму інтэлігенту (па адукацыі інжэнер, любіць опэрную музыку, зьбірае кружэлкі з запісамі рускіх хораў, носіць гальштук).

– Чаму вы ўвялі войскі ў Чэхаславаччыну?

– Потому что надо этих чехов проучить.

– За што – гэта ж краіна сацыялізму?

– Неважно! Зажрались, трамваи у них бесплатныи, – такі быў адказ.

Падобных ацэнак, як гэтая, мне прыходзілася чуць ад расейцаў сотні разоў. Прытым ні адукацыйны, ні сацыяльны цэнз не адыгрываў тут практычна аніякай ролі.

Ня думаю, аднак, што калі прыйдзе час на свабоду ды на эканамічныя рэформы ў Беларусі, то мы будзем мець праблемы з агрэсіўнай псіхалёгіяй грамадзкай зайздрасьці ў такім маштабе, як у Расеі. Але паколькі такая псіхалёгія ў нас таксама існуе ў розных пластах грамадзтва, то можна не сумнявацца, што яна праявіцца нэгатыўна ў эканамічных дачыненьнях.

***Эканоміка не бывае касмапалітычнай. Эканоміка – гэта заўсёды нацыянальная людзкая справа, якая датычыць усіх і кожнага паасобку.*** Толькі асьвета, культура і адукацыя на аснове нацыянальных і хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, калі яны будуць улічвацца разам з рэформамі ў эканоміцы, змогуць амартызаваць разбураныя праявы эгалітарызму ў грамадзкім жыцьці і паскорыць працэс выхаду з савецкай сістэмы ў цывілізацыйнае грамадзтва нацыянальнай культуры, эканамічнага парадку і забясьпечаных добрых людзей.

*12 сакавіка 2001 г., Нью-Ёрк.*
*(„Беларускія Ведамасьці",*
*– 2001, №4(34).*

# ВЯЛІКІЯ ЛЮДЗІ

*„Вялікі чалавек здабывае справядлівасьць, малы — выгаду."*

*Канфуцый*

Паважаныя людзі – гэта тыя, якія валодаюць аўтарытэтам (у калектыве, у супольнасьці, у грамадзтве, у народзе). Аксіёма, пацьверджаная гісторыяй: *без аўтарытэту не разьвіваецца культура*.

Аўтарытэт асобы не ўтвараецца сам сабой. Павінна адбывацца ўзаемадзеяньне суб'екта і грамадзтва. Пазыцыя і паводзіны чалавека мусяць выклікаць прызнаньне і павагу. Узровень асобы і справы яе могуць пераганяць узровень грамадзтва, якое не ўспрымае, альбо не прызнае тое, што кажа ці стварае такая асоба. Але калі яе ўспрымуць і прызнаюць пазьней іншыя пакаленьні, то для іх яна стане аўтарытэтам.

Вопыт пацьвярджае, што гэтак жа, як шмат якія асобныя людзі, імкнуцца забясьпечыць сабе аўтарытэт у іншых, гэтаксама і грамадзтва для замацаваньня і абароны сваіх дасягненьняў імкнецца мець свае аўтарытэты, падтрымліваць іх, прапагандаваць і нават ствараць.

Дзейнасьць чалавечай супольнасьці, пачынаючы ад самых простых формаў яе існаваньня, ня можа быць абязьлічанай, бо вылучэньне чалавека з прыроды – гэта перш за ўсё, зьяўленьне яго асабовай індывідуальнасьці. Чым вышэйшы ўзровень культуры, тым большая роля і ацэнка асобы.

Хрысьціянства адкрыла чалавецтву каштоўнасьці душы, калі якасьць і ацэнка чалавека перамясьціліся ва ўнутраны сьвет асобы. (Высокія якасьці душы ставіліся вышэй за ўладу і матэрыяльнае багацьце, бо людзі ўспрымалі душу як вечную частку чалавека. Асобу сталі ацэньваць па ўнутраных якасьцях.) У гісторыі духоўнага разьвіцьця чалавека гэта быў найвялікшы прарыў, скачок на верхні ўзровень. Новая індывідуальнасьць, якой ня ведаў антычны сьвет, стварыла новае грамадзтва і новую культуру Эўропы, дзе асобны чалавек стаў нароўні з грамадзтвам, зрабіўся першаснай каштоўнасьцю гэтага грамадзтва і ўсіх ягоных інстытутаў, ад рэлігіі да дзяржавы.

Калі мы прасочым канцовую мэту духоўнага разьвіцьця чалавека так, як яна тлумачыцца ва ўсіх вышэйшых сусьветных рэлігіях, і асабліва ў Хрысьціянстве, то на духоўным этапе (які дасягаецца праз духоўнае ўдасканаленьне і фізічную сьмерць) супольнасьць увогуле перастае адыгрываць вызначальную ролю. Яе як бы і не існуе. Самаіснымі каштоўнасьцямі застаюцца справядлівая індывідуальная душа і яе мэта – злучэньне з Богам.

Але спусьцімся на Зямлю. Відавочны факт, што Хрысьціянства прынесла на Зямлю іншыя дачыненьні да аўтарытарнасьці. Галоўным прынцыпам узаемаадносінаў стаў ўнутраны вольны выбар. Велізарнае значэньне пачалі адыгрываць маральныя аўтарытэты, людзі вялікай адукацыі, ведаў, здольнасьцяў і культуры. Сацыяльная аўтарытарнасьць, якая раней не аспрэчвалася, таксама пачынае ацэньвацца з гледзішча маральных якасьцяў і культурнага ўзроўню. Першасным грамадзкім аўтарытэтам робіцца не герой зь яго разбуральнымі подзьвігамі, як у старым сьвеце, а чалавек-стваральнік, які сваімі думкамі, дзеяньнямі і дасягненьнямі спрыяе грамадзкаму дабру, які ня толькі зьнішчае перашкоды, але, перш за ўсё, стварае і сцьвярджае станоўчую рэальнасьць дзеля лепшага існаваньня і ўдасканальваньня ўсіх.

Менавіта такую асобу найперш стала ўхваляць грамадзтва. Паважаная актыўная асоба стала эфектыўным чыньнікам разьвіцьця культуры. Стваральны ўплыў такой вялікай асобы не абмяжоўваецца пэрыядам яе жыцьця, бо новая нацыянальная супольнасьць, арганізаваная ў нацыянальную дзяржаву, выступае як калектыўная адметная індывідуальнасьць, якая мае свае калектыўныя (нацыянальныя) інтарэсы, галоўныя зь якіх – грамадзка-культурнае разьвіцьцё і падтрыманьне вечнасьці народнага існаваньня.

Вялікая асоба якраз і выяўляла гэтыя інтарэсы. Аўтарытэт асобы ў нацыянальным грамадзтве ёсьць мера і чыньнік грамадзкай культуры, фактар нацыянальнага разьвіцьця. Яго ўплыў, незалежна ад часу, робіцца пастаянным, становіцца гістарычным здабыткам культуры. Ён (гэты ўплыў) можа большаць ці меншаць, але ўжо не мінае, бо пераходзіць у сфэру нацыянальнага духу.

З разьвіцьцём нацыі індывідуальная дзейнасьць у сфэры літаратуры, тэатра і грамадзкіх ідэй мела рашаючае значэньне для сфармаваньня нацыянальнай супольнасьці і стварэньня потым нацыянальных дзяржаваў. Калі не існуе нацыянальнай літаратуры, калі няма вялікіх нацыянальных пісьменьнікаў і паэтаў, то няма і нацыі. Нацыя не ўтвараецца без нацыянальнай літаратуры і тэатру. Нацыянальны тэатр – гэта ўвогуле мастацкая мадэль нацыі ў мініятуры. Але ўся творчасьць нацыянальнага пэрыяду ўжо ня ёсьць безыменнай, калектыўнай, цэхавай, ці вуснай народнай. Гэта ёсьць прафэсійная ўсьвядомленая творчасьць індывідуальнасьцяў, якія імкнуліся ўвасобіць і адлюстраваць агульнае ў канкрэтным, народны лёс у чалавечым вобразе.

Творцы і дзеячы нацыянальнага мастацтва, літаратуры, тэатра, навукі, палітыкі, культуры ёсьць генератарамі ідэй, стваральнікамі нацыянальнай супольнасьці; кожны мае сваё імя і аўтарытэт у пантэоне нацыянальнай культуры. ***Нацыя моцная сваімі вялікімі прадстаўнікамі.*** Уплыў іх абсалютны, каштоўнасьць безумоўная.

Кожнае нацыянальнае грамадзтва адносіцца з асаблівай увагай да сваіх грамадзкіх аўтарытэтаў. Характар дачыненьняў шмат пра што кажа. Тут выяўляецца і ўзровень культуры, і якасьць духу, і ступень салідарнасьці, і пасіянарнасьць, і скрытыя комплексы, і незалежнасьць (ці, наадварот, залежнасьць) думаньня, і нацыянальная сьпеласьць грамадзтва.

* * *

Стабільныя культуры Заходняй Эўропы і Паўночнай Амэрыкі даволі арганічна акамулююць нацыянальныя аўтарытэты ў сфэры свайго грамадзтва. Адносіны да іх разьвіваюцца ў рэчышчы агульнай павагі да чалавека. Павышаны інтэрас можа выклікаць элементы перабольшаньня альбо недаацэнкі, але ў цэлым, носіць аб'ектыўны і здаровы характар. Дачыненьні адэкватныя.

Больш складаныя дачыненьні ў ацэнцы аўтарытэту асобы ў грамадзтвах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Тут аўтарытэту часта надаецца павышаная хваравітая ўвага і вызначэньне; успрыняцьце можа быць заведама тэндэнцыйным і рэфлексійным, эмацыйныя крытэрыі могуць пераважаць.

Супраць аўтарытэтаў адных асобаў і за аўтарытэты іншых тут нярэдка йдзе змаганьне, часта вельмі аднабокае і далёкае ад рэальнасьці, аб'ектыўнасьць не шануецца, плодзяцца ілюзіі і міфы, на іх, як замкі на пяску, будуюцца цэлыя квазінавуковыя канцэпцыі. На грунце рознасьці ўяўленьняў узьнікаюць дыскусіі і непаразуменьні.

Адной з прычынаў такіх ускладненых дачыненьняў ёсьць тое, што народы Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы ў пэрыяд позьня-

га сярэднявечча страцілі сваю незалежнасьць, былі падзеленыя паміж чатырма імпэрыямі і толькі ў пачатку XX стагоддзя дамагліся незалежнасьці, а некаторыя неўзабаве зноў апынуліся ў савецкай імпэрыі.

У той складанай сітуацыі шмат якія вядомыя людзі дзейнічалі і тварылі на сумежжы культураў, альбо адначасна ў некалькіх культурах, часам зьмянялі сваю арыентацыю і супрацоўнічалі з акупацыйным рэжымам. Тое ж самае адносіцца да дзеючых сучасьнікаў, калі палітычныя крытэрыі ў грамадстве пераважваюць над культурнымі і навуковымі.

У цэлым трэба прызнаць, што гэта ёсьць невысокі ўзровень дачыненьняў у ацэнцы вялікіх людзей і выкліканы ён, перш за ўсё, палітычнай няўпэўненасьцю, страхам (часам, неўсьвядомленым) зноў страціць свабоду і незалежнасьць. Адсюль імкненьне самасьцьвердзіцца як найбольш.

У скансалідаваных грамадствах Цэнтральна-Усходняй Эўропы адбываецца (часам амаль нябачнае) змаганьне за нацыянальныя аўтарытэты на ўзроўні палітычнай аднабокасьці. Але, трэба сказаць, практычна ніхто ў гэтых грамадствах не сумняваецца ў вялікім значэньні аўтарытэту асобы для нацыянальнай сучаснасьці, гісторыі і культуры. Нігілізм, адмаўленьне аўтарытарнасьці культуры тут не прыжываюцца.

Адметны падыход да аўтарытэту як да стваральнага чыньніка разьвіцьця выяўляюць габрэі, для якіх на працягу тысячаў гадоў гісторыі ўтрыманьне аўтарытарнасьці габрэйскай культуры было асноўнай задачай, сродкам духоўнага выжываньня і кансалідацыі, сцьвярджэньня сябе ў не сваім сьвеце.

У дачыненьні да аўтарытэтаў габрэі вольныя ад паталёгіяў Цэнтральна-Усходняй Эўропы. Яны ніколі не бяруць чужога і не выдаюць яго за сваё. Яны ніколі не затоптываюць сваё, зыходзячы з рознасьці палітычных дачыненьняў, бо агульнае (габрэйскае) – вышэй. Тут іншы падыход да аўтарытарнасьці і нацыянальнага самазахаваньня. Лепшую, вядомую, паважаную, здольную, пэрспэктыўную асобу часьцей за ўсё ўзмоцнена прапагандуюць, ёй ствараюць аўтарытэт, ставяць нібы на катурны, яе ўзвышаюць, пра яе часта і шмат гавораць, даюць выдатныя ацэнкі, аўтарытэт і значэньне яе распаўсюджваецца, разьдзімаецца і ўсімі падтрымліваецца. Вядомасьць часам ствараецца ямаль што на пустым месцы, але настолькі энэргічна і пасьлядоўна прапагандуецца, што ніхто ўжо не адважваецца сказаць нешта насуперак. А калі і скажа, то яму ж і горай. Бо хто ж можа сумнявацца ў быццам бы звышгеніяльнасьці ўсімі прызнанай асобы – толькі той, хто ні ў чым не разьбіраецца. (Хаця сумніўца якраз можа разьбірацца найлепш.)

Вельмі дрэннымі здаюцца мне дачыненьні да вялікіх людзей у беларускім грамадстве. З першага погляду можна падумаць, што наша супольнасьць пакутуе на нейкі сацыяльна-псіхалягічны мазахізм і самаедства. Топчацца і не паважаецца менавіта сваё.

Беларускі нацыянальны аўтарытэт – гэта фактычна заўсёды трагічная асоба, якую зьневажаюць, абплёўваюць і здраджваюць нібыта свае беларусы.

Практычна, аднак, нэгатыўныя дачыненьні вызначалі і вызначаюць якраз не беларусы, а калянізатары, акупанты, ворагі беларушчыны. Яны заўсёды былі агрэсіўныя і канцэптуальныя, а беларускае грамадства – пасіўнае і, як правіла, канфармісцкае.

Галоўная прычына такога ненармальнага стану ў тым (пра гэта я ўжо пісаў раней), што ў XIX-м стагоддзі была зьнішчана беларуская сацыяльна-культурная эліта, набілітэт, засталіся толькі нізы (у асноўным сяляне і часткова мяшчане). Руская



(Выкадроўка з фота Ул. Карміліна)

***119. Васіль Быкаў. 1996 г.***

каляніяльная імпэрыя ўвяла тут сваю сацыяльна-дзяржаўную эліту замест зьнішчанай беларускай, і беларускія нізы змушаныя былі яе прызнаць як неабходную ўладу, бо іншай альтэрнатывы не існавала.

З гэтага часу пачалася нацыянальная сьлепата, якая ня скончылася па сёньняшні дзень.

Наша грамадства з прычыны даўгіх акупацыяў, падзелаў і страты элітаў, слаба скансалідаванае. У ім не хапае разуменьня асноўнага адзінства паміж прыватным, агульнанацыянальным і асабовым. Чалавек сучаснай эўрапейскай цывілізацыі айчынаў успрымае агульнанацыянальныя задачы і прэстыж вялікіх асобаў нацыі гэтак жа, як свой прыватны інтэрас. У пластах беларускага грамадства такога неабходнага разуменьня адзінства няма. Яно падзеленае. Задачы нацыі, палітыка, ідэі культуры, дзяржава, улада і прыватныя інтарэсы асобных людзей існуюць у сьведамасьці шмат якіх беларусаў незьвязана, нібы самы па

сабе, а дзейнасьць вялікіх аўтарытэтных асобаў народа ацэньваецца як іхняя прыватная справа.

Лёс вялікай нацыянальнай асобы ў гэтакім дэфармаваным нескансалідаваным грамадстве, як правіла, поўны драматызму. Ворагам беларушчыны лёгка расправіцца з такімі людзьмі, а прапаганда можа вытварыць, што хоча, пры агульнай пасіўнасьці і маўчаньні нацыі. Праца і творчасьць беларускіх адраджэнцаў з гэтае прычыны патрабавалі выключнай самаадданасьці.

Жыцьці вялікіх беларусаў ужо больш-менш апісаныя, больш-менш вядомыя. Менш адчыненымі засталіся грамадзкія абставіны трагедыі, якія якраз высьвятляюць яе зьмест. Гэта, перш за ўсё, абыякавасьць у грамадстве да лёсу сваіх прадстаўнікоў.

Калізія паміж ахвярнасьцю змагарнай асобы і здрадай ёй (як непрыняцьцем асобы) адлюстраваная ў найвялікшай паэтычнай драме ***Янкі Купалы „Сон на Кургане"***. Нагадаю схему сюжэта. Змагара Сама, які змагаўся за шчасьце і волю беларускага народа, беларусы (у дадзеным выпадку, сяляне) услужліва аддаюць у рукі царскіх сатрапаў. Схема для Беларусі тыповая і знаёмая, пачынаючы ад здачы інсургентаў ***Кастуся Каліноўскага*** царскім уладам да даносчыкаў НКВД і прыхільнікаў Лукашэнкі.

Гэтай жа трагічнай калізіі прысьвяціў сваю выдатную паэтычную драму ***„Пакрыўджаныя" Леапольд Родзевіч***. Маналёг змагара за свабоду ад прыгону – старога скульптара Піліпа, адрынутага ў канцы драмы роднай дачкой, – ёсьць, бадай, адзін з самых прачулых і трагічных у беларускай паэтычнай драматургіі.

Беларуская рэчаіснасьць адэкватная такой літаратуры і ня менш выразная.

***Міхась Зарэцкі***, як і сотні беларускіх інтэлігентаў, пісьменьнікаў і паэтаў, быў зьнішчаны ў 1930-х гадах рускім НКВД. Сьледчыя-чэкісты шукалі рукапіс яго рамана ***„Крывічы"***, спачатку – каб прад'явіць уліку, а потым, пасьля прысуду, каб зьнішчыць раман. Не знайшлі. А рукапіс быў у вёсцы, і сялянедзядзькі, аматары махоркі, скарысталі гэты рукапіс – на ... самакруткі. Раман скурылі. Рэшта зьнікла ў НКВД.

Тут справа ня толькі ў адсталасьці і неадукаванасьці. Нешанаваньне свайго, выхаванае ў сялянскай сьведамасьці чужынцамі, прыводзіць да заганнай ацэначнай формулы: „Няма прарока ў сваёй айчыне". Які ўжо там аўтарытэт, якая павага!

***Васіля Быкава*** ведае ўвесь сьвет. На Беларусі яго называюць сумленьнем нацыі. Гэта вялікі пісьменьнік, вялікі чалавек. Сіла ягонага маральнага аўтарытэту такая вялікая, што той чалавек, той чыноўнік, той дзяржаўны дзеяч, які пачаў бы яго зьневажаць ды паліваць брудам ягонае імя, павінен выклікаць усеагульнае абурэньне і шырокае асуджэньне брыдкіх паводзінаў, бо Быкаў – гэта ўжо ня проста вялікі пісьменьнік – ён вялікі гонар і каштоўнасьць Беларускай нацыі.

Аж не. У Беларусі, аказваецца, можна зьневажаць і Быкава. І гэта абыходзіцца, сходзіць з рук. І ворагі беларушчыны пра тое ведаюць.

Калі прааналізаваць жыцьцё беларускіх адраджэнцаў – вялікіх людзей ХХ-га стагоддзя, уражвае пастаянства іхных ілюзіяў у дачыненьні да беларускага грамадства і да Расеі. Хоць, здавалася б, хто лепш за іх павінен бы быў усё ведаць.

У канцы 60-х у размове з Паўлінай Мядзёлкай я даведаўся, што калі ў сярэдзіне 20-х на Беларусь вярнуліся з эміграцыі шмат якія беларускія нацыянальныя дзеячы і атрымалі навуковыя ды дзяржаўныя пасады ў БССР, яны неяк сабраліся разам і тады, здаецца, Язэп Лёсік сказаў: „Ну, цяпер ужо беларускай справе ніхто і нішто не перашкодзіць".

Праз нейкі час усе яны былі зьнішчаныя НКВД.

У 1922 годзе Аляксандар Цьвікевіч, выступаючы на пахаваньні Алеся Бурбіса і расказаўшы пра ягонае цяжкае жыцьцё, пакуты, турмы і перасьледы, зазначыў, што ён быў беларусам-адраджэнцам, а жыцьцё адраджэнца – гэта ахвярнасьць і служэньне Беларусі. Яно немагчымае без пакутаў.

* * *

Падагульняючы думкі пра сітуацыю, якая склалася на Беларусі ў дачыненьні да аўтарытэтных людзей нацыі і разумеючы, чаму так ёсьць, можна зрабіць дзьве галоўныя высновы, якімі, па маіх назіраньнях, кіраваліся вялікія адраджэнцы, такога ўзроўню, як ***Ларыса Геніюш*** і *ксёндз* ***Адам Станкевіч***.

Па-першае. Каб запабегчы расчараваньням, трэба ня мець ілюзіяў. Беларускі адраджэнец павінен адносіцца да сваёй дзейнасьці (у якой бы галіне яна ні адбывалася) як да місіі, як да прызначэньня, памятаючы, што народ, людзі ёсьць такія, якія яны ёсьць, што іншых людзей няма і трэба дапамагаць ім вярнуць свой нацыянальны гонар і стаць вольнымі беларусамі, не чакаючы ад іх ні ўдзячнасьці, ні ўзнагароды. Адраджэнец мусіць узвышацца над абставінамі і не кідацца ў пэсымізм.

З іншага боку, кожны беларус, грамадзянін Беларусі, мусіў бы сабе ўсьвядоміць, што ***найпершае багацьце нацыі – гэта яе разумныя, таленавітыя, здольныя, адукаваныя вялікія асобы***. Ім павінна быць найпершая павага, шанаваньне і абарона.

Другая выснова. У абставінах грамадзкага асьляпленьня ***нельга абвінавачваць усю нацыю***, крыўдзіцца на народ і, тым больш, зьневажаць яго (як часам цяпер бывае). Гэта было б цалкам няправільна і абсалютна беспэрспэктыўна.

Калі я азіраюся на ХХ-е стагоддзе, мяне ўражвае маральная веліч беларускіх адраджэнцаў. Гэта людзі высокай пробы. Іхняя дарога, справы, дзейнасьць – ёсьць шлях дасканалых.

Кожны адраджэнец адчувае сябе народам. Кожны мог бы сказаць: ***народ – гэта я***. І гэта праўда. Гэта правільнае, нармальнае адчуваньне. Гэтак павінен бы думаць кожны чалавек у дасканалым грамадстве.

*22 сакавіка 2001г., Нью-Ёрк.*

*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №4 (34); „Народная Воля", – 2002, 26 красавіка).*

# КАМУНІЗМ ЯК ФОРМА РУСКАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

Прамаўляючы слова „камунізм”, я маю на ўвазе тую сістэму ўлады, тую сістэму палітыкі і тую ідэалёгію, якая існавала ў былой расейскай імпэрыі – Савецкі Саюз – з 1917 па 1991 гады.

Гістарычна гэтая імпэрыя (яе палітыка і ідэалёгія) была заснаваная манголамі і выяўлялася ў пастулаце: „ісьці да апошняга мора”. На працягу стагоддзяў зьмяняліся сталіцы і групы, што кіравалі імпэрыяй Чынгіз-хана, зьмяняўся яе назоў, але нязьменным заставаўся яе аб’ём, яе эўра-азіяцкі зьмест, яе палітычная сутнасьць – вайна – і яе ідэялёгія: „ісьці да апошняга мора” („да перамогі рускай зброі”, „да перамогі камунізму”).

Імпэрыя ніколі не распадалася. Яна зьмянялася, пераменьвала форму. У часе пераменаў траціла ненадоўга на ўскраінах свае тэрыторыі, каб потым, набраўшы рускага, візантыйскага ці прускага вопыту, ці кшталту вучэньня сусьветнага камунізму, усё вярнуць і пакаціцца наперад, нічога не ствараючы: душыць, рабаваць, спажываць, разбураць і хлусіць.

Хлусьня ёсьць самым істотным вызначэньнем стылю палітыкі, стылю існаваньня і дачыненьняў расейскай імпэрыі. Хлусьня, узьведзеная на п’едэстал веры, ёсьць сутнасьць дачыненьняў у камунізме.

У гісторыі пераменаў і ўмацаваньня расейскай імпэрыі пэрыяд камунізму ёсьць радыкальна новая форма ўлады і кіраваньня старой каляніяльнай дзяржавай. Была зламаная дынастычная цягласьць рускага царызму і зьмененая форма імпэрскай ідэалёгіі. Замест дынастыі – палітычная група (партыя); замест цара – аўтарытарны дыктатар; замест праваслаўя – марксізм-ленінізм. Нязьменным засталіся імпэрыялізм, русізм, рабскі прыгнёт асобы, прыгоннае права, агрэсія і вайна.

„Расея ёсьць ваенная дзяржава”, – казаў рускі цар Мікалай I. У XVIII стагоддзі яна падрыхтавала разбор Рэчы Паспалітай, захапіла Беларусь і Прыбалтыку, парушыла балянс у Эўропе, стала прычынай бясконцых войнаў за передзел сьвету, выклікала Першую і Другую Сусьветныя войны і – ня выключана – справакуе трэцюю, каб ацаліць сваё існаваньне.

Перамена формы ўлады і ідэалёгіі, усталяваньне новага аўтарытарнага кіраваньня, вяртаньне прыгоннага права ў вёску і эканоміку вымагала татальнага задушэньня ўсіх апазыцыйных і патэнцыяльна нязгодных сілаў. Для абсалютызацыі новай улады, для абнаўленьня імпэрыі і для падрыхтоўкі вайны масавыя рэпрэсіі, расстрэлы і лягерная сістэма ГУЛАГ былі непазьбежнымі. Яны шакавалі Захад, але не бянтэжылі Расею, бо вынікалі з кантэксту яе гісторыі, зь нявольніцкай эўра-азіяцкай (гэта значыць, ні эўрапэйскай, ні азіяцкай) мэнтальнасьці, з эгалітарнай псыхалёгіі насельніцтва.




(Фота Я. Шагохіна)

*120. Помнік вяскоўцам – ахвярам бальшавізму ў вёсцы Чарнагубава (Копыльскі раён).*

Камунізм ня быў субстанцыянальнай зьявай у Расеі, а толькі таталітарнай формай імпэрскай улады. Ніякіх ахвяраў, ніякіх разбурэньняў і ніякіх пабудоваў не было зроблена так званымі „будаўнікамі камунізму” дзеля самога камунізму. Усё працавала на выключнасьць, абарону і ўмацаваньне новай татальнай улады і новай расейскай звышдзяржавы, якая ператварылася пры камунізме ў рэальную пагрозу для ўсяго сьвету.

Руская мова ў СССР стала ідэалягічным атрыбутам камуністычнай „тэорыі” зьліцьця моваў (гэта значыць,

русіфікацыі). Расейшчына была аб’яўлена „агульначалавечай” мовай будучага камуністычнага грамадзтва, мовай так званага „савецкага народу” як новай імпэрскай агульнасьці людзей, стварэньнем якой займаліся рускія камуністы. Русіфікацыя ў СССР пасьлядоўна праводзілася і кантралявалася КПСС.

Нацыянальныя культуры маглі часткова выжываць толькі ў форме калябарацыі з рэжымам улады і ў вузкіх межах дазволенага. У падсавецкай Беларусі ў 70-х гадах нават беларускія казкі (выдадзеныя ў Вільні да 1939 года) і школьныя падручнікі на беларускай мове па трыганамэтрыі ляжалі арыштаваныя ў так званых „спэцфондах” бібліятэк. На беларускай мове выдаваліся творы Леніна ды савецкая літаратура, што хваліла рускіх ды камунізм. Да 70-х гадоў былі зачыненыя ўсе беларускія школы ў беларускіх гарадах і перарobленыя на расейскія. Беларуская гісторыя была груба сфальсіфікаваная, а гісторыя Расеі стала гісторыяй СССР. На гэтай атруце ды на так званай „агульначалавечай мове” вучылі і абалванівалі беларускую моладзь. Будаўнік камунізму ня мог гаварыць па-беларуску. Гэта не ўхвалялася і перасьледвалася камуністамі.

За часы СССР Беларусь, як і раней, была асаблівым аб’ектам рускай палітыкі і зонай русіфікатарскіх экспэрыментаў. У 60-х гадах Мікіта Хрушчоў, наведаўшы Менск, з задавальненьнем адзначыў, што беларусы першыя (вядома, першыя пасьля рускіх) прыйдуць да камунізму, бо дабраахвотна адмовіліся ад беларускай мовы і ўсталявалі рускі „язык”. Гэта была пахвала сьмерці.

Сьмерць і гвалт, русіфікацыя і этнацыд, зьнішчэньне культуры і цэлых народаў, злачынствы супраць чалавецтва – вось галоўныя адзнакі і вынікі рускага імпэрыялістычнага камунізму.

Пасьля 2-й Сусьветнай вайны дзесяцімільённая Беларусь не далічылася каля трох мільёнаў сваіх жыхароў, але каля двух мільёнаў былі забітыя яшчэ да вайны ворганамі камуністычнага НКВД. У Беларусі фізічна зьнішчылі 70 адсоткаў усіх беларускіх пісьменьнікаў, пазабівалі вучоных і мастакоў. (Трупа Трэцяга Беларускага Дзяржаўнага тэатра Ўладзіслава Галубка была арыштаваная ў поўным складзе і расстраляная амаль цалкам.)

Забівалі па нацыянальнай прыкмеце. Дзеля гэтага быў прыдуманы ярлык „нацдэм” (гэта значыць, нацыянальны дэмакрат, хаця партыі такой не існавала). Гэты ярлык прыклейвалі да ўсіх беларусаў, якіх сталіністы плянавалі зьнішчыць. У нетрах НКВД была прыдуманая неіснуючая антыкамуністычная арганізацыя – СВБ („саюз вызваленьня Беларусі”). Пад стварэньны фантом энкавэдзісты праводзілі арышты, вялі ўяўнае сьледзтва, дапытвалі, судзілі, потым ссылалі ў Расею і расстрэльвалі невінаватых людзей.

Пасьля Рыскай змовы ў 1921 годзе, Беларусь падзялілі паміж Польшчай і Расеяй. Мяжу падзелу правялі непадалёк ад Менска. Існаваў таемны загад НКВД вынішчыць усё беларускае насельніцтва ўздоўж мяжы. Расейскія акупанты хацелі зрабіць тут бязьлюдную зону. Вынішчэньне ажыцьцяўлялі памежныя войскі. Давераным выдавалі карабін і рыдлёўку. Калі такі салдат-памежнік сустракаў у бязьлюдным месцы (на дарозе, у полі, у лесе) адзінокага беларуса, ці беларуску, ці дзіця, ён застрэльваў чалавека, тут жа рыдлёўкай выкопваў яму і засыпаў труп. Такая была інструкцыя. Людзі ў вёсках ня так баяліся „чалавека з ружжом”, як маскаля з рыдлёўкай. (Гэтыя факты надрукаваныя ў беларускім друку ў пачатку 90-х гадоў.)


(Фота Г. Ліхтаровіча)

***121. Стаўленьне Курапацкага Крыжа Пакуты 29 кастрычніка 1989 г.***

У 30-х гадах на 95-99 адсоткаў (практычна поўнасьцю) была зьнішчана (сасланая і расстраляная) беларуская камуністычна-партыйная і цывільная адміністрацыя. Вынішчалі нават дырэктарат і гаспадарчых кіраўнікоў.

На месца забітых адміністратараў і камуністычных начальнікаў-беларусаў прысылалі расейцаў з Расеі. Рускія (так званыя „выдвіжэнцы") прыяжджалі ў Беларусь, займалі вызваленыя пасады, атрымлівалі ільготы, маёмасьць, кватэры, і першае, што рабілі – зачынялі беларускія школы, пераводзілі іх на расейскую мову, каб іхныя дзеці маглі вучыцца, не абцяжарваючы сябе вывучэньням, як яны казалі, „нікому непатрэбнай" беларускай мовы. Гэтак акупанты стваралі на Беларусі „руская-зычнае население". Этнацыд, лінгвацыд, мнемацыд і генацыд праводзіліся бальшавікамі адначасова.

Вынішчэньне беларусаў расейскім НКВД працягвалася і ў часы нямецкай акупацыі. У чэрвені 1941 года, у першыя дні вайны камуністы расстралялі ў турмах і на этапах тысячы вязьняў. Толькі ў Берасьцейскай крэпасьці, дзе была страшная турма НКВД, усіх арыштаваных ліквідаваць не пасьпелі, частка разьбеглася. Тым часам вялікая група наглядчыкаў і функцыянэраў НКВД была заблякаваная ў крэпасьці немцамі. Яны сядзелі там каля месяца, пакуль ня вымерлі. Гадоў праз 20 пасьля вайны камуністы прыдумалі легенду пра „гераічную абарону" Берасьцейскай крэпасьці.

Зьвяртае на сябе ўвагу той факт, што шырокі савецкі партызанскі рух быў арганізаваны толькі на Беларусі і часткова – на этнічных беларускіх землях, што былі пад Расеяй (Смаленшчына, Браншчына). У акупаванай Расеі „партызанкі" не было. Чаму? Ды таму, што прадаўжаў дзейнічаць плян зьнішчэньня беларускай нацыі. Масква праз ворганы НКВД уцягнула масы цывільных беларусаў у вайну супраць немцаў, і гэтым падставіла іх пад удар. Неабходная справа вынікала з подлай задумы і рабілася ня менш подлымі мэтадамі. (Сталін хацеў мець двайную выгаду.) Энкавэдзісты спэцыяльна каля беларускіх вёсак забівалі немца ці рабілі іншую правакацыю, каб выклікаць карную апэрацыю гітлераўцаў, якія звычайна спальвалі ўсю вёску (часта разам зь людзьмі). Гэткім чынам, дарэчы, у выніку спэцыяльнай правакацыі савецкіх партызанаў была спаленая і вядомая Хатынь, якую камуністы потым, у 70-х гадах разрэклямавалі на ўвесь сьвет як тыповую ахвяру фашысцкага зьверства.



***122. Курапаты. XXI-е стагоддзе. Сакавік.***

У выніку такой камуна-фашыстоўскай сумеснай „працы" на Беларусі спалілі больш за дзевяць тысячаў вёсак.

Ужо ў 1943-м годзе ў беларускіх лясах дзейнічала агулам ад трохсот да чатырохсот тысячаў партызанаў. Масква не давярала беларусам. Таму пад канец вайны, ў выніку спэцыяльнай апэрацыі НКВД, многія беларускія камандзіры былі пасланыя на сьмерць, адхіленыя ад камандваньня, забітыя і рэпрэсаваныя. Іхняе месца займалі расейцы і верныя энкавэдзісты.

Летам 1944 года, калі „чырвоная армія" заняла Беларусь, расейцы правялі мабілізацыю ў войска на беларускай тэрыторыі. Дзясяткі тысячаў маладых беларускіх хлопцаў, амаль без падрыхтоўкі, кінулі на перадавую лінію фронта. Рускія камандзіры падымалі іх у непатрэбныя атакі пад агонь нямецкіх кулямётаў, ня даўшы нават зброі ў рукі, альбо з карабінамі, ды без патронаў. Яны гінулі тысячамі, як трава пад касой, а тыя, што ўцякалі назад, траплялі пад кулі энкавэдзіскіх „заградатрадаў". Зрэшты, заградатрады стралялі і ў сьпіну.

Так працягвалася вынішчэньне беларусаў на вайне, рукамі немцаў і расейцаў адначасна. Як казалі камуністы, „в барбе за савецкую родзіну”.

У 40-х гадах рускія вывезьлі ў Сібір і там замардавалі ўсіх лясьнікоў і так званых „кулакоў” з Заходняй Беларусі. Вывозілі вагонамі, па разнарадках. У 1949-1950 гг. правялі так званую калектывізацыю. У сялянаў адабралі зямлю, асноўную маёмасьць і сродкі вытворчасьці.

Палітыка нацыянальна-культурнага вынарадаваньня беларусаў працягвалася пры Хрушчове. У пачатку 60-х гадоў на закрытым пленуме ЦК КПСС быў прыняты плян ператварэньня 600-тычяснага тады Менска ў шматмільённы прамысловы мегаполіс. Масква вырашыла пабудаваць у Беларусі гіганты вялікай хіміі, разьлічаныя на імпэрыю. Што азначала для 10-мільённай краіны (дзе праводзілася палітыка русіфікацыі) разбудова шматмільённай прамысловай сталіцы без беларускіх школаў і беларускіх ўніверсітэтаў – зразумела. Плянавалася гэтая разбудова (і часткова была ажыцьцёўлена) не з эканамічных, а з палітычных русіфікатарскіх меркаваньняў.

У гэты ж час, у 1964-м годзе, камуністы зацьвердзілі грандыёзны плян зьнішчэньня беларускіх вёсак. Іх падзялілі на „пэрспэктыўныя” і „непэрспэктыўныя”. З „непэрспэктыўных” вёсак паступова высялялі людзей, адцінала сьвятло, радыё, энэргію, ліквідавалі крамы, здымалі транспартныя маршруты, спынялі фінансаваньне, высялялі калгасныя ўстановы і г.д. Людзі павінны былі самі выяжджаць ва ўказанае месца. Потым вёску зьнішчалі.

З трыццаці чатырох тысячаў беларускіх вёсак заплянавана было пакінуць дзевяць тысячаў, а дваццаць пяць тысячаў – ліквідаваць (як „непэрспэктыўныя”). (Прыпомнім, што ў вайну немцы, разам з рускімі, зьнішчылі дзевяць тысячаў беларускіх вёсак.)

Гэта быў плян нацыянальна-культурнай катастрофы Беларусі. Нагадаю, што культура і культурныя традыцыі зьвязаныя з месцам гістарычнага існаваньня людзей, трымаюцца і разьвіваюцца толькі дзякуючы пастаяннаму насельніцтву. Інтэнсіўная, радыкальная і раптоўная ўнутраная міграцыя разбурае традыцыйную культуру. (Чарнобыльская зона – гэта экалягічная і сацыяльна-культурная катастрофа.)

Плян ліквідацыі 73-х адсоткаў вёсак у Беларусі пачаў ажыцьцяўляцца з канца 60-х гадоў. (Дадам, што адначасна разбуралі гістарычныя цэнтры беларускіх гарадоў.) Плян быў абстаўлены псэўданавуковай дэмагогіяй, быў стратным з эканамічнага боку і дыктаваўся палітычнай задумай этнацыду беларусаў, пра што ўслых не гаварылася.

Спробу зьнішчэньня беларускіх вёсак камуністы пасьпелі ажыцьцявіць толькі часткова. Па-першае, на хуткі „прарыў” не хапіла рэсурсаў і сілаў. Па-другое, – скончыўся камунізм. Але ўдар па беларусах быў зроблены моцны.

Наступны ўдар быў нанесены ў час Чарнобыльскай катастрофы. Як вядома, 70 адсоткаў радыяцыйных выкідаў было сьцінута на Беларусь. Па загаду Масквы рускія „таварышчы” з выкарыстаньнем авіяцыі асадзілі над Магілёўскай вобласьцю радыёактыўныя хмары на галовы беларусаў. Яны „спасалі Расію” над нашай тэрыторыяй, скарыстаўшы той факт, што Беларусь была імі акупаваная і ня мела суверэнітэту.

Я бачыў мёртвыя радыяцыйныя вёскі на Магілёўшчыне, з пустымі дамамі і трохмэтровай крапівой на бязьлюдных вуліцах, бачыў, як іх хавалі, як закопвалі дамы – набытак пакаленьняў. А тысячы памерлых, а тысячы хворых дзяцей, а тысячы людзей бяз роднай зямлі, бяз спадчыны, уцекачы ў сваёй краіне...

Аб Курапатах. Курапаты ёсьць неабвержнае сьведчаньне і рэчавы доказ камуністычнага генацыду на Беларусі. Упершыню эксгумацыйныя раскопкі праводзіліся тут археолягамі і археалягічнымі мэтадамі. Гэта дало магчымасьць дасьледваць пахаваньні на аснове навуковых мэтодык, выявіць і пацьвердзіць факт папярэдніх раскопак магілаў у канцы 40-х – пачатку 50-х гадоў і выемку большай часткі касьцей расстраляных. Аналіз дадзеных паказвае, што ў Курапатах з 1937-га па 23 чэрвеня 1941-га года было расстраляна больш за 200 тысячаў чалавек. Гэта быў энкавэдзісцкі канвеер сьмерці.

Акрамя Курапатаў, мне ўдалося вызначыць яшчэ пяць такіх месцаў вакол Менска і пра адно (Лошыца) сабраць зьвесткі. На Беларусі вядома каля дзясятка мясьцін камуністычных расстрэлаў і пахаваньняў расстраляных людзей. Шмат – вакол Магілёва, дзе быў другі па маштабах (пасьля Менску) рэпрэсіўны цэнтар НКВД.

Разбурэньне Савецкага Саюза і КПСС пачалося з 1988 года, калі былі створаныя народныя франты Эстоніі, Латвіі, Летувы, Беларусі, Украіны і сфармуляваныя ідэі палітычнага змаганьня за незалежнасьць і дэмакратыю.

У 1991 годзе КПСС перастала існаваць, СССР распаўся, руская намэнклятурная дэмакратыя пераняла ўладу ў Расеі. Ёй спатрэбілася толькі тры гады, каб асвоіцца і вярнуцца да сваёй праверанай імпэрскай палітыкі ўмяшальніцтва, захопу, агрэсіі і зьнішчэньня. Напад на Чачэнію і першая каляніяльная вайна з чачэнцамі (1994-1996) падвяла рысу пад посткамуністычнай пераменай улады ў Расейскай імпэрыі. Перамены скончыліся. Пачаліся працэсы вяртаньня страчанага.

Наступным аб’ектам умяшаньня стала Беларусь. У 1996 годзе Расея непасрэдна падтрымала свайго стаўленіка Лукашэнку і на высокім дзяржаўным узроўні прыняла дыпляматычны ўдзел у дзяржаўным перавароце ў Беларусі. Да ўлады ў Беларусі прыйшоў савецкі КГБ. Усталявалася прамаскоўская дыктатура.

Праз чатыры гады КГБ поўнасьцю захапіў уладу ў Расеі. Там цяпер няма камунізму, але ёсьць канцэнтрацыйныя (фільтрацыйныя) лягеры, праводзіцца генацыд і зьнішчэньне Чачэніі з ужываньнем войска і сучаснай разбуральнай зброі, душыцца друк і ўведзена вайсковая цэнзура. Вусная інструкцыя для рускіх вайскоўцаў абавязвае забіваць усіх чачэнцаў ад 10 да 60-ці гадоў. Людзей замыкаюць у фільтрацыйныя лягеры, дзе іх катуюць, прыніжаюць і мардуюць. Пляны расейскага камандаваньня заключаюцца ў тым, каб забіць дзьве трацінy чачэнскай нацыі, разбурыць і абязьлюдзіць горную частку краіны.

Гэта робіцца цяпер перад абліччам усяго сьвету. То які сэнс гаварыць цяпер пра злачынствы камунізму, што ў 40-х гадах зьнішчаў і вывозіў у Сібір тых жа чачэнцаў, інгушоў ды татараў? І калі ёсьць сэнс, то дзе яго болей: тады, калі існаваў расейскі дзяржаўны камунізм і расейскі дзяржаўны бандытызм, ці цяпер, калі расейскага камунізму няма, а расейскі бандытызм ёсьць?

**Камунізм у Савецкім Саюзе быў перш за ўсё формай рускага каляніялізму, ідэалягічнай канцэпцыяй расейскай імпэрыялістычнай палітыкі**.

Пасьля таго, як да сярэдзіны 80-х гадоў гэтая форма скампрамэтавала і вычарпала сябе, камуністычных артадоксаў адхілілі ад улады. Адначасна зьніклі, растварыліся ў нетрах улады так званыя рускія дэмакраты (тыя ж імпэрыялісты). Рэальнай і адзінай палітычнай сілай у Расеі паступова робіцца КГБ.

У 1993-95-х гадах адбываецца хуткае засвойваньне імпэрскага шавінізму як дзяржаўнай ідэалёгіі. (Ролю юродзівага ў гэтым працэсе, згодна з расейскай мэнтальнасьцю і традыцыяй, прафэсійна выканаў блізкі да спэцслужбаў У. Жырыноўскі. Дзяржаўных мужоў, што ў прыстойным тоне паўтаралі тыя ж пазыцыі ўсьлед за Жырыноўскім, ужо ўспрымалі сур’ёзна. Шышкі падалі на „сына юрыста”.)

Гэта ёсьць кагэбісцкая тэхналёгія захопу ўлады, таксама, як ўзрывы дамоў (разам зь людзьмі) у Маскве і Валгадонску. Сутнасьцю ж зьяўляецца тое, што КГБ-ФСБ (былое НКВД) валодае цяпер поўнай і абсалютнай (а неўзабаве – татальнай) уладай у Расеі.

Сутнасьцю ёсьць тое, што гэтая ўлада вядзе несправядлівую, брудную вайну, вынішчае людзей, робіць ваенныя злачынствы, топча правы асобы, а ўсе рускія палітыкі і ўсё рускае грамадзтва ўхваляюць ды падтрымліваюць такія дзеяньні, бяручь, такім чынам, на сябе калектыўную адказнасьць за забойствы і генацыд.

Сутнасьцю зьяўляецца тое, што расейская ўлада рыхтуе аншлюс Беларусі, падтрымлівае антыдэмакратычны нелегальны рэжым Лукашэнкі, а ўсё расейскае грамадзтва ўхваляе гэтую захопніцкую палітыку.

Сутнасьцю зьяўляецца тое, што расейскае грамадзтва падтрымлівае ўладу Пуціна-КГБ-НКВД гэтак жа, як апантана падтрымлівала дзеяньні Мураўёва-вешальніка, цара, Сталіна ды Леніна. Гэта грамадзтва, якое згаджаецца і ўхваляе любое варварства ў інтарэсах рускай імпэрыі. Гэта ёсьць грамадзтва без інтэлігенцыі, без ідэалоў свабоды.

Для рускіх імпэрыялістаў, незалежна ад таго, за каго яны сябе ўважаюць (за дэмакратаў ці недэмакратаў), камунізм стаў выгадная шырмай, за якую можна схавацца. Ён стаў для іх ахвярным казлом, на якога можна ківаць і сьпісаць усе свае мінулыя антылюдзкія расейскія грахі і апраўдаць цяперашнія, выкарыстоўваючы камунізм як страшылку для дызарыентаванага грамадзтва і лёгкавернай міжнароднай супольнасьці.



*123. Прысуд малапісьменнага расейскага энкавэдзіста, вык. абавязкі пракурора па спэцправах юрыста 2-га рангу С. Шусціна: „З прычыны сацыяльнай небясьпекі – расстраляць.” 26.VI. 41 г.*

Камунізм нельга разглядаць толькі як абстрактную катэгорыю, што сама па сабе чыніць зло. Гэта правільна толькі з ацэначных, вызначальных (дэфінітыўных) патрабаваньняў. Але калі мы падыходзім да пытаньня адказнасьці за тое, што ўчыніў рускі камунізм, то знаходзім ня толькі ідэалёгію, але і канкрэтных асобаў, спраўцаў злачынства, і палітычную арганізацыю, і дзяржаўную сістэму, і адпаведным чынам арганізаваны народ, і адпаведным чынам арганізаванае грамадзтва. Кожны мае сваю долю віны. Кожны нясе сваю долю адказнасьці. Але ў Расеі ніхто ня думае пра пакаяньне.

Адказнасьць за масавыя злачынствы супраць чалавецтва датычыць ня толькі канкрэтных асобаў, яна ёсьць ня толькі індывідуальная, але і калектыўная, што прадугледжвае розную ступень пакараньня.

Перад аблічам міжнароднага суду камунізм мусіць разглядацца ў канкрэтным зьмесьце. Я маю на ўвазе рускі камунізм. Іншага ў Эўропе не было.

Нюрнбергскі трыбунал судзіў не абстрактны, а нямецкі фашызм і канкрэтных злачынцаў. Было прынятае рашэньне аб ліквідацыі магчымасьцяў аднаўленьня нямецкага мілітарызму. Нямецкая нацыя (не фашысты, а народ, нацыя, што скарыстала фашызм) заплаціла кантрыбуцыі за зьнішчаныя культурныя каштоўнасьці іншых народаў, плаціла за галакост і газавыя камэры, за выкарыстаньне дармовай рабочай сілы (і плоціць па сёньняшні дзень).

Хто заплоціць беларусам за мільёны землякоў, замардаваных рускім камунізмам?! Хто заплоціць за скарыстаньне беларускай дармовай рабочай сілы на рускіх лесапавалах, за працу ў вечнай мерзлаце? Хто заплоціць за зрабаваныя культурныя каштоўнасьці Беларусі, што аселі ў рускіх музэях і розных „палатах” Масквы? Хто нам заплоціць за Чарнобыль?!

Захад бяз зброі перамог камуністычную сістэму, выйграў халодную вайну. І тут жа пачаў адраджаць расейскага монстра, наіўна мяркуючы, што дапамагае дэмакратыі і што зло не жыве. У такіх умовах змаганьне з рускім камунізмам пачынае выглядаць барацьбой з папяровымі тыграмі. Яно толькі ўмацоўвае імпэрыялізм, які перамяніў аблічча.

Сем гадоў таму мне і маім калегам зь Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце ня раз прыходзілася казаць, пісаць і перасьцерагаць аб магчымасьці дыктатуры ў Беларусі, аб будучай агрэсіі Расеі, аб пагрозе страты незалежнасьці. Цяпер, гледзячы на тое, што робіцца, сумна ўспамінаць тое лёгкадумства, зь якім беларускія эліты адносіліся да відавочнай рэальнасьці.

Цяпер для Масквы і яе памагатых з Захаду засталося толькі легітымізаваць рэжым Лукашэнкі праз любыя выбары (хай сабе і недэмакратычныя), і тады 300-тысячная расейская вайсковая групоўка гатовая ўступіць у Беларусь. Гаворачы пра „інтэграцыю”, рыхтуюць акупацыю. Потым можа ўзьнікнуць чарговы „калідор” да Калінінградзкай вобласьці і акупацыя Летувы. Мы ўжо бачым гэтую генэральскую палітыку „атторжэныя вазвраціх”. Гісторыя, на жаль, мае тую асаблівасьць, што на практыцы яна людзьмі не засвойваецца. Прынамсі, ва Ўсходняй Эўропе.

Калі зло не судзіць, яно робіцца нормай. Таму суд над рускім камунізмам неабходны. Гэта мусіць быць суд над „імпэрыяй зла”.

Працэс павінен пачацца. Ня могуць мільёны ахвяраў нявінных людзей застацца без патолі і справядлівасьці. Ня можа кроў забітых адплысьці вадой.

Рускі камунізм – злачынная імпэрыя агрэсіі і вайны – павінен стаць перад людзкім судом вольных краінаў Эўропы.

*12 чэрвеня 2000 г.*

*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2000, №5(28); Факты абвінавачваюць (зборнік), – Вільня, 2000 г.; „Народная Воля”, – 2000г., 15 верасьня).*

# ВЕРА І ПАЛІТЫКА

Мы, беларусы, – хрысьціянскі народ. Гісторыя нашай веры драматычная. Мы пераняўлі ўсходняе Хрысьціянства ад Грэцыі цераз Балгарыю і Сербію. Аднак Беларусь не была Ўсходам і на працягу ўсёй гісторыі, ад часоў заснаваньня моцнай дзяржавы, – Вялікага Княства Літоўскага – змагалася з усходняй дэспотыяй (спачатку Залатой Ардой, затым Маскоўшчынай, потым – Расеяй). У барацьбе з Усходам і ў змаганьні з Расеяй – увесь зьмест нашай тысячагадовай гісторыі.

Тут канфлікт цывілізацыяў, і Беларусь – на падзельнай мяжы. Гэта не магло не ўплываць на нашу веру. Усходняя імпэрыя, што ваявала супраць нас, таксама пераняла Хрысьціянства з Усходу і, узмацніўшыся, пачала выкарыстоўваць рэлігійную ідэнтычнасьць у сваіх палітычных інтарэсах.

Гэта спрыяла таму, што найбольш актыўныя беларускія вярхі, змагаючыся з Масквой, зьмянялі ўсходні абрад на заходні, адсякаючы маніпуляцыі ўсходняга непрыяцеля. Але гэта не палепшыла становішча.

У XVI стагоддзі, у часы распаўсюджаньня пратэстанцызму ў Эўропе, частка беларускай арыстакратыі прыняла пратэстанцтва і паспрабавала кансалідаваць народ на падставе моднага тады кальвінізму. З гэтага нічога не атрымалася. Беларускае грамадзтва рабілася ўсё больш шматканфэсійным і індэферэнтным.

Аднак у самым канцы XVI стагоддзя ўдалося ажыцьцявіць вялікую кансалідацыйную ідэю: заключыць Царкоўную Вунію паміж Усходнім і Заходнім Хрысьціянствам на Беларусі.

Цяпер, гледзячы здалёку, трэба прызнаць, што гэта была найвялікшая падзея ў беларускай гісторыі. Праз няпоўныя 200 гадоў Вунія, культурна і духоўна, скансалідавала беларускае грамадзтва і заклала падваліны пад будучыню беларускай нацыі, найглыбейшым чынам паўплывала на беларускае сакральнае мастацтва, вобразную творчасьць і сьведамасьць беларусаў. Вунія дала ў рукі беларусам пастаянны і натуральны абаронны шчыт перад разбуральнай і рэлігійнай па форме агрэсіяй усходняй імпэрыі.

У канцы XVIII стагоддзя, перад разборамі *Рэчы Паспалітай*, беларускае хрысьціянскае насельніцтва складалася з 80 адсоткаў вуніятаў, 5-ці адсоткаў праваслаўных і 15-ці адсоткаў каталікоў.

У першай палове XIX стагоддзя расейцы, захапіўшы Беларусь, расправіліся з *Вуніяй*. Было забіта і замардавана тысячы беларусаў, вуніяцкіх сьвятароў і вернікаў, спаленыя тысячы беларускіх кніг, абразоў, твораў мастацтва, пазачыняныя і разбураныя вуніяцкія школы, кляштары і сьвятыні, зачынены Віленскі ўнівэрсітэт. Генацыд беларусаў ажыцьцяўлялі спэцыяльныя расейскія карныя атрады з казакаў. Падзеі зьдзеку над беларускім насельніцтвам, людабойства і вымардаваньне веры апісаныя часткова ў *„Актах пакутніцкай Вуніі”*, выдадзеных яшчэ ў XIX стагоддзі на польскай мове. Аднак самы беларусы гісторыі гэтага страшнага вынішчэньня яшчэ не напісалі.

* * *

У сярэднявеччы, за часы існаваньня феадальных дзяржаваў, веравызнаньне мела вялікае значэньне для кансалідацыі грамадзтва. Новы час прынёс новыя, ужо не рэлігійныя, а нацыянальныя ідэі кансалідацыі і запатрабаваў новую форму дзяржаўнасьці, заснаванай не на феадальным праве і ўласнасьці, а на волі нацыі.

Аб’яднаўчым, сьведамым ідэйным чыньнікам нацыянальнага грамадзтва зьяўляецца ўжо не рэлігія, як раней, а нацыянальная культура і, перш за ўсё, – нацыянальная мова, нацыянальная літаратура і нацыянальны тэатр.

Пытаньне канфэсійнасьці на Беларусі перастала быць прыярытэтным. Да стварэньня сваёй новай нацыянальнай дзяржавы ў пачатку 1918 года беларускае грамадзтва прыйшло шматканфэсійным. Шматканфэсійнасьць паглыбілася ў XIX-XX стагоддзях, перш за ўсё, з прычыны палітычных дзеяньняў непрыяцеляў Беларусі. Аднак гэта ўжо не зьмяніла і не аслабіла культурнага адзінства беларускага народу (як таго спадзяваліся з Усходу і Захаду).

На сёньняшні дзень беларускае грамадзтва складаецца з чатырох, прыкладна роўных групаў людзей, якія так ці інакш згуртаваныя альбо зьвязаныя з каталіцкім ды вуніяцкім касьцёлам, праваслаўнай (артадаксальнай) царквой*, пратэстанцкімі абшчынамі і сьвецкім атэізмам (бязбожніцтвам). Апошняя група не зьяўляецца канфэсіяй. Але яна ў рэальнасьці, бадай, ці не найбольшая, хоць адкрыта сябе не выяўляе і прыстасоўваецца да абставінаў. (Камунізм не мінае бяссьледна.)

* * *

У другой палове 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі на Беларусі аднавіўся рух беларускага Адраджэньня, тады былі адроджаныя і прынцыпы нацыянальнай кансалідацыі грамадзтва, разбураныя рускімі камуністычнымі каляніzатарамі.

Галоўнымі фактарамі адраджэнскай кансалідацыі грамадзтва ў барацьбе за свабоду былі беларуская мова і культура, сацыяльная справядлівасьць, эканамічная ўласнасьць і незалежная Беларуская дзяржава.

Адначасна *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* сфармуляваў палітычныя дачыненьні да рэлігіі і канфэсійных групаў насельніцтва. *Фронт* прызнае свабоду сумленьня і паважае рэлігійныя традыцыі беларускага народу. За агульны кансалідацыйны чыньнік нацыі бярэцца беларуская культура, беларуская мова і беларускія інтарэсы, рэалізаваныя ў Беларускай нацыянальнай дзяржаве. З гэтага гледзішча, беларускія адраджэнцы раўназначна станоўча адносяцца да ўсіх беларускіх хрысьціянскіх канфэсіяў і да нехрысьціянскіх канфэсійных групаў, прызнаюць свабоду сумленьня, у тым ліку, і права на невызнаньне ніякай рэлігіі (але гэта не ўхваляецца). Беларуская дзяржава, якой будуць кіраваць беларусы-адраджэнцы, ня стане перасьледваць атэістаў, але дзяржаўная палітыка мусіць быць скіраваная на стварэньне ўмоваў, для разьвіцьця каштоўнасьцяў Хрысьціянства, высокага ўзроўню грамадзкай маралі і маральнай асобы чалавека.

Акупацыйныя ўлады на Беларусі, якога б ідэалягічнага кшталту яны ні былі, заўсёды аддавалі прыярытэт той канфэсіі, якая зьяўлялася пераважнай у іхняй краіне. Яны стараліся, перш за ўсё, падпарадкаваць беларускія канфэсіі пад іерархію акупацыйнай дзяржавы. Нават рускія бальшавікі-бязбожнікі, зьнішчаючы ўсё рэлігійнае, тым ня менш апасродкавым чынам аддавалі перавагу праваслаўнай царкве. (Асабліва ў апошнія часы існаваньня СССР.)

Немалаважнае значэньне ў растлумачэньні такога дзіўнага, на першы погляд, прыярытэту бальшавікоў, мела „кагэбізацыя” рускай праваслаўнай царквы. У 1929 годзе, пры Патрыярху Сергію, бальшавікі зламалі супраціўленьне праваслаўнага кіраўніцтва,

* На Беларусі з XIX стагоддзя, у выніку расейскай акупацыйнай палітыкі, усталявана кіраўніцтва (юрысдыкцыя) Рускай Праваслаўнай Царквы (РПЦ). Беларуская Праваслаўная Царква дзейнічае ў эміграцыі.

і рускае кіруючае праваслаўе (нясучы адначасна страты ў людзях і ў веры) пайшло на супрацоўніцтва з камуністамі і НКВД. Чэкісты напрасткі засылалі свае кадры ў духоўныя сэмінарыі і акадэміі, у структуры праваслаўя і, пры спрыяньні патрыярхаў, хутка кагэбізавалі іерархію рускай праваслаўнай царквы, ператварыўшы яе ў своеасаблівы аддзел КГБ.

Тут зазначу, што руская праваслаўная царква была падпарадкаваная дзяржаве і страціла самастойнасьць яшчэ ў пачатку XVIII стагоддзя, пры цары Пятры-шалёным (як называлі яго беларусы).

У XIX стагоддзі расейская праваслаўная царква ўжо ў значнай ступені зьвязаная з паліцыяй і ператварылася ў выпрацаваную зброю рускага самадзяржаўя, каляніяльнага ўціску і імпэрскай экспансіі.

* * *

Пасьля заняцьця Беларусі савецкім войскам ў 1944 годзе, ізноў была адноўленая ўлада маскоўскага патрыярхату над праваслаўнымі беларусамі.

Але беларусы бачылі, што такое маскоўская царква. Як і ў ранейшыя часы, адбываўся адплыў да пратэстантызму, хоць пратэстанцкія абшчыны за саветамі надзвычай жорстка перасьледвалі. (Вернікаў не ўладкоўвалі на працу, выдумвалі штучныя абвінавачваньні, судзілі ды ссылалі, зьдзекваліся над дзецьмі, вялі шалёную прапаганду, прыдумвалі дзікія небыліцы, распальвалі нянавісьць да пратэстантаў і г.д.)

Прычыны такіх асабліва жорсткіх адносінаў бальшавікоў да


(Фота: „Ніва")

*124. Ідуць беларусы (Беласточчына).*

Пасьля распаду СССР і савецкай сістэмы сацыялізму, палітычная ўлада вышэйшага праваслаўнага клеру павялічылася. Кагэбізаванае праваслаўе стала імітаваць дзяржаўную ідэалёгію кагэбізаванай Расеі. На праваслаўныя сьвяты кіраўнікі Крамлю (былыя бязбожнікі і энкавэдзісты) выстройваюцца ля алтара са сьвечкамі ў правай руцэ. Патрыярх Маскоўскі **Алексій II** (ён жа генэрал КГБ **Рыдзігер**, агентурная клічка **„Дроздов"**) неаднаразова „благославляет" генацыд у Чачэніі і вынішчэньне чачэнцаў, ухваляе вайну, узнагароджвае бязбожніка Лукашэнку праваслаўным ордэнам, выступае ініцыятарам і праводзіць кананізацыю (прылучэньне да абліччa сьвятых) *аднаго з найбольшых злачынцаў XX-га стагоддзя – рускага цара Мікалая II („крывавага").**

пратэстантаў былі палітычныя. Гэтыя вернікі выпадалі з-пад кантролю КГБ. Каталіцкі касьцёл бальшавікі прыгаварылі на фізічнае выміраньне, перакрыўшы ўзнаўленьне кадраў сьвятароў. (Стары ксёндз паміраў і касьцёл зачыняўся. Парафія зьнікала.) Праваслаўе кагэбісты кантралявалі поўнасьцю праз свае кадры і сэмінарыі, а вось з пратэстанцтвам нічога не атрымлівалася.

Інфільтраваць яго агентурай было значна цяжэй. Пратэстанцкія абшчыны складаліся, у асноўным, з простых беларусаў, на якіх бальшавік, акрамя страху, практычна ня меў ніякага ўплыву.

* Нагадаю, што рускі цар-алькаголік Мікалай II асабіста аддаў загад расстраляць 9-га студзеня 1905 года мірнае шэсьце людзей, якіх з іконамі і царкоўнымі харугвамі прывёў да царскай рэзыдэнцыі ў Пецярбургу праваслаўны поп-правакатар Гапон. Было забіта 1118 чалавек. У гісторыі гэтая трагічная падзея вядомая пад назвай „крывавая нядзеля". Цара Мікалая II, пасьля гэтага расстрэлу, назвалі „крывавым".

Ніколі не было ні скрухі, ні пакаяньня ў гэтага чарговага страшнага і апошняга рускага цара. І тое, што бальшавікі па-бандыцку без суда расстралялі яго разам з сям'ёй, выглядае як Боская кара забойцу сотняў людзей. Тут усё сымвалічна, нават, што суда не было. Бо такіх чакае Боскі Суд. (Я ўжо не ўспамінаю тут пра жонку цара ды Распуціна, ды пра ўвесь гэты вядомы ў гісторыі бруд.)

Праз 80 гадоў нашчадкі камісараў у сутанах аб'яўляюць „сьвятым" забойцу нявінных людзей.

Такая ж сітуацыя засталася і цяпер, у час аднаўленьня на Беларусі расейскага нэакаляніялізму. Рэжым Лукашэнкі зразумеў, што паставіць сабе на службу беларускіх пратэстантаў (ці хоць бы часткова нэўтралізаваць, як каталіцкі касьцёл) яму ня ўдасца. Таму рэакцыя супраць пратэстантаў грубая і тыпова кагэбоўская: дыскрэдытацыя, пагрозы, паклёп і т.п. Імкнуцца запалохаць вернікаў.

Аднак за ўсім гэтым стаіць „стратэгічная" задача расейскага гэбізму: выклікаць у Беларусі нянавісьць па канфэсійнай прыкмеце, справакаваць канфлікты на рэлігійнай глебе і потым „камандаваць парадам" – лавіць рыбу ў мутнай вадзе.

200 гадоў працуюць рускія спэцслужбы над гэтай мэтай у Беларусі. Што толькі ні прыдумвалі: і „чорныя сотні", і каталажкі, але так нічога і не атрымалася. І не атрымаецца. Я гэта кажу ўпэўнена, бо ведаю беларусаў.

* * *

Калі мы гаворым пра беларускае хрысьціянства, беларускае праваслаўе, беларускае каталіцтва ці беларускае вуніяцтва, то мы, вядома ж, разумеем, што Хрысьціянства ёсьць адзіным, і мы ня маем на ўвазе нейкую яго выключнасьць у Беларусі ці выпаданьне з агульнай сусьветнай дарогі Веры. „Беларускае" абазначае тое, што ня мусяць беларускімі вернікамі і грамадзянамі Беларусі кіраваць з замежных цэнтраў патрыярхі-гэбісты чужой дзяржавы і лейтэнанты ў сутанах. Гэта супярэчыць нашым нацыянальным інтарэсам.

Павінна быць так, як у вольных людзей, як у іншых вольных краінах Эўропы і як некалі ў нас было. Беларускай царквой павінны кіраваць беларускія першаерархі, кардыналы і біскупы. Хопіць акупацыі.



(Фота З. Пазьняка)

*125. Беларусы на дэманстрацыі ў Нью-Ёрку.*

Аддзяленьне царквы ад дзяржавы абазначае, што царква не зьяўляецца дзяржаўным інстытутам улады і не выконвае функцыяў дзяржаўнай улады. Юрыдычна яна знаходзіцца на правах грамадзкай арганізацыі і падлягае ўсім дзяржаўным законам.

Царква ня мае такога юрыдычнага статусу, каб займацца кантрабандай, гандляваць цыгарэтамі ды гарэлкай, вывешваць сьцягі чужых дзяржаваў у алтарах і кіравацца антыбеларускай справай. Могуць быць прынятыя спэцыяльныя законы па канфэсіях, але яны павінны адпавядаць Канстытуцыі краіны.

У 1993 годзе дэпутатам Народнага Фронту ўдалося правесьці ў Вярхоўным Савеце (праўда, са стратамі) прыстойны закон аб рэлігійных арганізацыях, які паспрыяў усім. Рэжым Лукашэнкі ўвесь час намерваецца адмяніць гэты закон і заступіць яго іншым, каб забясьпечыць прыярытэт рускай праваслаўнай царкве (РПЦ) на Беларусі і дыскрымінаваць іншыя (беларускія) канфэсіі (у тым ліку, і беларускае праваслаўе). Знаёмыя справы, пазнавальныя пляны.

* * *

Калі зазірнуць далей у будучыню вольнай Беларусі, у той час, калі мы адновім наш Беларускі дом і наш Беларускі Храм, калі будзем мець Беларускі нацыянальны ўрад, Беларускае кіраўніцтва і Беларускі друк, калі мы вернем дзяржаўнасьць Беларускай мовы і станем, нарэшце, сапраўднымі гаспадарамі ў сваёй краіне, то будучыня Беларускага Хрысьціянства ўяўляецца мне вельмі добрай. Зарукай таму зьяўляецца памяркоўнасьць і разумнасьць нашых людзей. Беларус ня любіць варагаваць з суседам і з усімі імкнецца жыць мірна.

Распаўсюджаная зьява на Беларусі, калі ў адным мястэчку, дзе людзі ведаюць адзін аднаго, стаіць касьцёл, царква і частка жыхароў – пратэстанты. Аднак няма канфліктаў. Усё функцыянуе нармальна, людзі супрацоўнічаюць, працуюць, жэняцца і выходзяць замуж у межах насельніцтва, а не канфэсіяў.

Такія дачыненьні выпрацаваныя стагоддзямі і зьяўляюцца асаблівасцю беларусаў. Палітыканы чужых дзяржаваў увесь час хацелі ўшчыміцца ў гэтыя асаблівыя людзкія дачыненьні беларускага грамадзтва і навесьці свае парадкі. Безумоўна, што яны нарабілі шкоды, але, у прынцыпе, нічога не дамагліся. І не дамогуцца. Жыцьцёвая сіла людзкага адзінства беларусаў мацнейшая за наносную нянавісьць палітычных маніпулятараў.

Я лічу, што мы, беларусы, павінны вельмі шанаваць і мацаваць нашую людзкую памяркоўнасьць у канфэсійных дачыненьнях паміж сабой. Бо гэтая добрая рыса ёсьць псіхалягічнай асновай нашага культурна-нацыянальнага адзінства. А ўвогуле, калі падумаць глыбей, гэта ёсьць рыса духоўнай велічы беларусаў, падстава да сапраўднай дэмакратыі, моцы і вышыні будучай вольнай беларускай дзяржавы. Гэтая веліч Беларусі сапраўды будзе, бо яна ўжо сапраўды была і пакінула нам праз вякі найвялікшае багацьце – здольны, працавіты, памяркоўны і мірны народ.

*21 траўня 2001 г.*
*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №8(38).*

# ТРАДЫЦЫЯ

Людзі часта гавораць пра традыцыі, не задумваючыся, што азначае традыцыя і чаму яна існуе. Ім здаецца, што традыцыі, як дождж і вецер, ці як прывычка, існуюць самы па сабе. Бо цяжка ўявіць культурнае грамадзтва без традыцыяў культуры.

Сапраўды, працэс утварэньня традыцыяў ва ўсіх галінах дзейнасьці людзей разьвіваецца самаісна. Традыцыя ёсьць найважнейшы чыньнік захаваньня і жыцьцяздольнасьці культуры. Культура зь неразьвітымі традыцыямі – слабая культура. Яна можа рассыпацца, зьнікнуць пры ўскладненьні жыцьцёвых абставінаў. А гэта суправаджаецца пакутамі людзей і агульным зьбядненьнем чалавечага грамадзтва.

Калі гвалтоўна развальваюцца традыцыі ці дэградуюць ад зьмяшаньня з чужародным, тады людзі ***перастаюць разумець адзін аднаго***, грамадзтва перажывае рэгрэс, культура спараджае хімеры. Развал адстояных уяўленьняў і дэградацыя соцыюма прыводзіць да прымітывізацыі і змаленьня асобы.

Захаваньне традыцыяў заўсёды было клопатам вышэйшых людзей у грамадзтве. Можна дакладна вызначыць: па тым як адносяцца людзі да захаваньня традыцыяў, мераецца іхны ўзровень культуры.

Традыцыя ёсьць вынік калектыўнай дзейнасьці людзей. Гэта плён агульнай творчасьці і супольных уяўленьняў. Традыцыя – асаблівая зьява, якая існуе толькі ў жывым грамадзтве і рэалізуецца тады, калі ствараецца тып, альбо канон, ёсьць варыянтнасьць і пастаяннае насельніцтва.

* * *

Вельмі наглядна традыцыі відаць у мастацкай творчасьці, бо творы мастацтва валодаюць выразнай аўтаноміяй і самастойнасьцю (адасобленасьцю) ад носьбітаў. У калектыўным (гэта значыць народным) мастацтве гэтая самастойнасьць толькі частковая. У індывідуальным (гэта значыць прафэсійным) – практычна цалкавітая.

Гносэалягічна мастацтва зьвязанае з рэлігійнымі ўяўленьнямі і вырастае з аднаго кораня. Мэта рэлігіі – пазнаньне Бога і дасягненьне вечнага існаваньня душы ў ідэальным стане. Мэта мастацтва – узвышэньне душы праз адлюстраваньне (стварэньне) эстэтычнага ідэалу.

У філясофскім пляне мастацтва і рэлігію можна разглядаць як адзіны працэс пазнаньня абсалютнай ісьціны. Рэлігія – шлях непасрэдны, ***шлях дасягненьня*** праз веру. Мастацтва – гэта шлях апасродкаваны, ***шлях набліжэньня*** праз вобраз ідэальнага хараства.

Трэба ведаць, што хараство ёсьць функцыя ісьціны. ***Ісьціна заўсёды вечная, простая і прыгожая.***

Таму апасродкаваныя шляхі набліжэньня да ісьціны (Бога) ішлі праз ***мудрасьць*** (філясофія, навука і т.п. „рацыё") і праз ***мастацтва*** (вобразы хараства). Непасрэдны шлях, як я ўжо адзначаў, ляжыць пасярэдзіне – ***шлях веры***. (Гэта значыць успрыняцьце ісьціны агулам, усёй істотай, адразу такой, якой яна ёсьць.)

Ні адзін з трох шляхоў не гарантуе ад памылак, і толькі адзін шлях сапраўдны (шлях веры). Але сумяшчэньне гэтых накірункаў ёсьць агульнай дарогай духоўнага разьвіцьця чалавецтва. І гэта якраз пацьвярджае гісторыя.

У калектыўны пэрыяд мастацкай творчасьці людзей кожны народ па-свойму адлюстроўваў ідэал хараства, ствараў сваю сістэму вобразаў і мастацкіх традыцыяў. Тут дзівосны сінтэз. Бо, адлюстроўваючы аб'ектыўную эстэтычную ісьціну праз сваю вобразную сістэму і традыцыі творчасьці, народ выяўляў адначасна сябе, сваю душу, паняцьці і ўяўленьні.

У працэсе калектыўнай творчасьці ***вобразнае выяўленьне*** сістэматызавалася ў аптымальную форму, набывала закончаныя і дасканалыя абрысы. Так узьнікла ***традыцыя як найлепшае выяўленьне сутнасьці, якое характарызавалася аптымальнасьцю, закончанасьцю і дасканаласьцю***.

Такім чынам традыцыя станавілася ***ўнівэрсальным перадатачным мэханізмам захаваньня культуры, цягласьці яе з пакаленьня ў пакаленьне***. Гэта сапраўдны ўсенародны скарб, набытак, які стагоддзямі жывіў творчасьць і эстэтычнае разьвіцьцё людзей у адпаведным і найлепшым для іх рэжыме паняцьцяў і адчуваньняў.

* * *

Гвалтоўнае зьнішчэньне традыцыяў – гэта заўсёды культурная катастрофа. Тут трэба адрозьніваць натуральны працэс, выкліканы грунтоўнымі і вельмі хуткімі пераменамі ў грамадзтве, і працэс намераны, накіраваны спэцыяльна на зьнішчэньне традыцыяў культуры.

Беларусы, апынуўшыся ў расейскай імпэрыі, сутыкнуліся з выпрацаванай палітыкай разбурэньня традыцыяў беларускай культуры. У XIX стагоддзі найбольш пацярпела беларуская архітэктура і гарады. Над Беларусяй нібы пранёсься зьнішчальны ўраган. Але вынішчэньні XIX-га стагоддзя нельга параўнаць з тым, што зрабілі потым у XX-м стагоддзі рускія бальшавікі.

У даўняй Беларусі для абазначэньня традыцыйнага, выпрабаванага ўкладу жыцьця і культуры ўжываўся ўнівэрсальны тэрмін ***„старына"***. „І каб старыны ня рухалі..,"– пісалі звычайна магілёўскія, смаленскія ці быхаўскія мяшчане, стаўляючы ўмовы.

Бальшавікі, ставячы задачу зьнішчэньня традыцыйнай культуры, прыдумалі свой „тэрмін", свой назоў разбурэньню, які быў антытэзісам азначэньню „старына". Гэта ярлык „старьё" (што азначае – старызна).

Тэрмін „старьё" быў асабліва небясьпечны на пабытовым, нізкім узроўні сьвядомасьці, у асяроддзі соцыюма, дзе якраз адбывалася ягонае прыжываньне. У савецкіх навуковых сфэрах маглі казаць што іншае, з прыцягненьнем навуковай тэрміналёгіі, але на практыцы татальная камуністычная палітыка вынішчэньня культуры абапіралася на безапэляцыйную формулу: „Зачэм это старьё!". І далей чулася прымітыўная нігілістычная дэмагогія, што трэба будаваць „новае", адмаўляцца ад „старога", аджылага, глядзець „наперад", а не „назад" і г.д.

Формула „зачэм старьё" пратрывала да апошняга дня існаваньня СССР.

Камуністычныя варвары вынішчылі ў Беларусі тысячы помнікаў архітэктуры і сакральнага дойлідзтва. Яшчэ ў 1961 годзе ўзрывалі культурныя здабыткі XII-га стагоддзя (царква Дабравешчаньня ў Віцебску), а ў канцы 1980-х гадоў разбурылі Менскае Замчышча XI-га стагоддзя і археалягічны драўляны Менск, што існаваў у ім. (На месцы Замчышча пабудавалі станцыю мэтро „Няміга".) Былі разбураныя старадаўнія могілкі і гістарычныя цэнтры беларускіх гарадоў ды мястэчак, зьнішчаныя тысячы прыдарожных крыжоў і капліц ды каменных муроў, вадзяных млыноў ды ветракоў, шмат дзе поўнасьцю ліквідавалі беларускія народныя строі адзеньня (забаранялі апранаць) і народныя рэлігійныя абрады, высьмейвалі аўтэнтычны фальклёр, настройвалі моладзь у школах супраць свайго.

Адначасна ўжывалі іншы татальны, больш выраблены мэтад вынішчэньня беларускіх традыцыяў культуры, накіраваны ў

асноўным на зьнішчэньне фальклёру (песьняў, танцаў, звычаяў, абрадаў, сьвятаў і г.д.). У камуністычнай псэўдатэорыі ён называўся „развитие традиций” (разьвіцьцё традыцыяў) і рэалізаваўся на практыцы найбольш праз „мастацкую самадзейнасьць”.

Для камуністаў-ідэолягаў усё жыцьцё – гэта „борьба” (барацьба). Разьвіцьцё – гэта ў іх „барацьба новага са старым”. Таму камуністы заўсёды „змагаліся”, уступалі ў „вечны бой”, вялі „бітву за ўраджай” на „трудовом фронте”, скідвалі „працоўны дэсант”, ішлі „от победы к победе”, „заваёўвалі новыя рубяжы” і г.д. – усё з крыкам ды камандамі.

З традыцыі, згодна камуністычных „тэарэтыкаў”, трэба было браць „лепшае”, адкідаць „горшае”, „несучаснае”, і прылучаць „новае”, „сучаснае”. Крытэрыі вызначаліся „па паняцьцях”, задачы – па цыркулярах.

Была створаная сетка сельскіх клюбаў, раённых „дамоў культуры” і „дамоў народнай творчасьці”, дзе ў большасьці сядзела цэлая армія недавучак, „арганізатараў культуры” і „разьвівальшчыкаў традыцыяў”. Нашэсьце гэтай арміі за дзясяткі гадоў „барацьбы на культурным фронце” прынесла больш шкоды, чым карысьці. Што датычыць традыцыяў, то ня гледзячы на стараньні асобных энтузіястаў, вынішчана было амаль усё жывое.

* * *

Традыцыя ў калектыўным мастацтве – гэта закончаная і дасканалая зьява. Яе далейшае самаўдасканальваньне прыводзіць да канону, які зьяўляецца ***самадастатковым***. Кананізаваная традыцыя існуе стагоддзямі якраз з прычыны гэтых сваіх якасьцяў (дасканаласьці і самадасатковасьці) і таксама ***варыянтнасьці*** – зьявы характэрнай якраз для калектыўнай творчасьці, бо кожны выканаўца ў фальклёрнай традыцыі, прытрымліваючыся канону, зьяўляецца ня толькі выканаўцам, але й творцам, што выяўляецца ***ў імправізацыі***. (Дарэчы, адметнай прыкмеце агульнай фальклёрнай традыцыі).

Адначаснае сумяшчэньне канону, варыянтнасьці і імправізацыі стварае дзівосную зьяву – ***непаўторнасьць*** аўтэнтычнага фальклёру. Гэтая фэнамэнальнасьць рэалізуецца ў працэсе жывога выкананьня (жывога – ня значыць, што на сцэне, а ў натуральных каляндарна-тэрытарыяльных абставінах).

Традыцыю калектыўнай творчасьці, з прычыны яе закончанай формы, нельга структурна зьмяняць, бо гэта прыводзіць да яе разбурэньня і зьнікненьня. Традыцыя, як кананізаваная форма калектыўнага мастацтва, не паляпшаецца нейкім з боку, гвалтоўным умяшаньнем у яе сутнасьць. Яе можна толькі прымаць такой, якой яна ёсьць, і прадаўжаць.

Традыцыю ў адной галіне творчасьці, ці аднаго ўзроўню мастацтва можна скарыстоўваць у іншай галіне, ці ў іншым узроўні мастацтва. Можна скарыстоўваць элемэнты традыцыі, ці яе форму, ці нават яе рэмінісцэнцыі, але ўсё мусіць называцца сваім назовам (бо гэта ўжо не традыцыйная творчасьць). Не павінна быць ***падмены*** аднаго мастацтва іншым, адной галіны творчасьці – іншай.

Менавіта падмена зьяўляецца сутнасьцю і вынікам разбуральнага камуністычнага паняцьця „разьвіцьцё традыцыяў”. Якраз устаноўка на падмену выклікала ўмяшаньне ў традыцыйны парадак і разбурэньне аўтэнтычнай народнай творчасьці.

Паколькі ўстаноўка была ідэалягічнай (зьмяніць, палепшыць ды абсучасьніць) і зыходзіла з дзяржаўна-партыйных установаў – усё астатняе давершвала звычайная чалавечая цемната, бескультур’е і неадукаванасьць „мэтадыстаў” ды функцыянэраў такой палітыкі.

Трэба сказаць, што сярэдні ўзровень адукацыі і эстэтычных паняцьцяў савецкага чалавека адпавядаў узроўню фармулёўкі „разьвіцьцё традыцыяў”. Калі савецкі чалавек чуе, што нельга збоку ўмешвацца і зьмяняць традыцыю, тады ён (скажам, доктар якіх-небудзь тэхнічных навук, што мяркуе на ўсе тэмы) зьдзіўляецца: „А як жа тады разьвіцьцё? Што, жыцьцё павінна спыніцца?”

Зрэшты, можна прывесьці па аналёгіі прыклады і з тэхнікі, і з фізікі, і ўвогуле – з прыроды. Нікому, скажам, не прыходзіць у галаву ўдасканаліць форму кола, зрабіць яго больш выцягнутым, ці сплюшчаным, ці хваліста-увогнутым і т.п. У людзей хапае здаровага сэнсу не задумваючыся разумець, што кола – гэта дасканала завершаная сістэма. Палепшыць яе немагчыма, зьмяніць нельга (бо гэта будзе ўжо ня кола). Можна толькі ім карыстацца, выкарыстоўваць і вар’іраваць (што і робіцца ў тэхніцы). І ніхто не задае пытаньне: хто прыдумаў кола. Прыдумалі людзі (і дарэчы, не адразу).

Традыцыя ў калектыўным мастацтве – гэта таксама „кола” – дасканалая, як мы ўжо адзначылі, завершаная форма (сістэма) выяўленьня адпаведнай сутнасьці. Нельга яе перайначыць.

Тут адлюстраваньне вельмі агульных заканамернасьцяў. Наша фізічная трохмерная прастора ёсьць частка бясконцага сьвету. Наш трохмерны сьвет мае закончаную колькасьць дасканалых, сістэмна завершаных геамэтрычных формаў (геамэтрычных фігур), закончаную колькасьць асноўных колераў, асноўных гукаў; існуюць парогі адчуваньня сьвятла і парамэтры пераменаў стану рэчыва і г.д. Усё зьменлівае багацьце і шматаблічнасьць нашага фізічнага сьвету ёсьць варыянтнасьць і мадыфікацыя пэўных завершаных асноваў. ***Разбурэньне асновы прыводзіць да разбурэньня зьявы.***

Тым часам сістэмная завершанасьць (самадастатковасьць, самадасканаласьць) фізічных асноваў прадвызначае ўнівэрсальную заканамернасьць разьвіцьця і стварэньня ***ўсяго***. Менавіта: адпаведнасьць (адэкватнасьць) паміж формай і зьместам зьявы. Умоўнасьць формы і ўмоўнасьць зьместу маюць цэнтрабежную тэндэнцыю да завершанага адзінства. У ідэале ўмоўнасьць формы і ўмоўнасьць зьместу імкнуцца стаць адной існасьцю і дасягнуць дасканаласьці. Гэтае імкненьне (назавём яго *шляхам гармоніі*) падпарадкоўваецца законам ісьціны: прыгажосьці, прастаты і вечнасьці. (Вечнасьць дасканалай сістэмы ў дадзеным выпадку ёсьць яе завершанасьць у адпаведным сьвеце).

У пачатку 60-х гадоў, калі сьвет быў яшчэ пад уражаньнем адкрыцьця малекулы ДНК, мяне зацікавілі апісаньні трох амэрыканскіх вучоных-адкрывальнікаў (Ф. Крыка, М. Уілкінса, Д. Уотсона) пра тое, як рабілася адкрыцьцё.

Вучоныя перамянілі вялікае мноства структурных мадэляў малекулы пры расшыфроўцы вопытаў. Асноўнымі крытэрыямі адбору мадэлі ў іх былі прастата і ***хараство*** структуры. Малекула павінна была быць прыгожай. Непрывабныя, хоць і дастаткова лягічныя мадэлі, адкідвалі. У выніку – адкрыцьцё падвойнай сьпіралі, простай і дасканалай сістэмы малекулы ДНК.

Вельмі дакладная інтуіцыя. Вучоныя зразумелі, што шукаюць адну з ***асноваў*** існаваньня жывога сьвету і яна павінна валодаць якасьцямі ісьціны.

* * *

Гэтыя пункцірныя развагі я зрабіў дзеля таго, каб падвесьці да тлумачэньня, што ***фэнамэн стваральнага эстэтычнага працэсу ў калектыўнай творчасьці людзей падпарадкаваны ўсеагульнаму сусьветнаму парадку рэчаў і ёсьць ягоным вобразным выяўленьнем***.

Менавіта таму тут няма брыдоты, паскудства, дэкадэнства, пачварнасьці, збачэнства думак, духу сьмерці, упадку і разбурэньня, як гэта часта прысутнічае ў індывідуальным прафэсійным мастацтве. Я не кажу ўжо пра масавую культуру.

Калі меркаваць па якасьці, узроўні і вобразнай сутнасьці эстэтычнага адлюстраваньня народнага духу і народнай адметнасьці, як выяўлена гэта ў аўтэнтычнай калектыўнай творчасьці людзей, то, безумоўна, – гэта вяршыня. ***Нішто і ніхто лепш не выяўляе характво народу, як сам народ у сваёй традыцыйнай мастацкай творчасьці.*** Вядучыя мастацтвы тут – сьпевы і танцы.

Тым часам індывідуальная (прафэсійная) творчасьць гэта ёсьць ***мастацтва нацыі***. Вядучыя мастацтвы тут – літаратура і тэатр. Яны адлюстроўваюць жыцьцё, дух і вобраз народа праз лёсы і вобразы ***асобных людзей***.

Літаратура і тэатр ёсьць сутнасныя атрыбуты нацыянальнай культуры. (Бязь іх нацыя не ўтвараецца і не існуе.) Нацыянальнае мастацтва, як правіла, абапіраецца на народную творчасьць і выпрацоўвае плённую форму выкарыстаньня, галоўным прынцыпам якой ёсьць павага і захаваньне традыцыяў.

* * *

Разгледзім некалькі прыкладаў.

Калі ў пачатку 70-х гадоў голасна заявіў пра сябе ансамбль „Песьняры", нашае пакаленьне маладых беларусаў успрыняло яго зь вялікай прыхільнасьцю і энтузіязмам. Тым часам ***Рыгор Раманавіч Шырма*** – найвялікшы аўтарытэт у беларускай музыкалёгіі і знаўца народнай музыкі – даволі стрымана аднёсься да іхняе творчасьці. Ён перажываў, што ў „Песьняроў" страчана глыбіня, народны беларускі дух і тонкая эстэтыка традыцыйнае песьні. У гэтым Рыгор Раманавіч, безумоўна, меў рацыю. Але ён не крытыкаваў калектыў публічна. Маэстра разумеў, што „Песьняры" і не прэтэндавалі на народнае выкананьне народных песьняў. Яны рабілі свае аранжыроўкі ў межах свайго стылю і выконвалі ўсё на выдатным прафэсійным узроўні. Народную традыцыю гэта не папсавала, бо тут не было яе падмены.

Гэта прафэсійная творчасьць ***на падставе*** народнай творчасьці. Тут ёсьць своеасаблівы „гістарызм" (як нэаготыка ў архітэктуры), тут выяўленьне тэатральнасьці і прадстаўленьне народнага сродкамі мастацкай фантазіі. Пры такім падыходзе ўсё вырашае густ і майстэрства сьпевакоў. Падыход эстэтычна апраўданы, хоць і не глыбокі.

Цяперака паўкультурнае асяроддзе ў Нью-Ёрку якраз цікавіцца Ванэсай Мэй*. Безумоўна, што яе аранжыроўкі клясыкі пад сучасныя рытмы і выкананьне зробленыя таленавіта, на добрым узроўні і слухаюцца лёгка. Але гэта ўжо ня клясыка. Гэта другасная творчасьць. І Ванэса не хавае гэтага. Клясыцы такое ня шкодзіць. (Хоць зразумела, што тут звычайны амэрыканскі бізнэс).

Горшая сітуацыя, калі размежаваньня няма, калі на сцэну цягнуць жывую традыцыйную творчасьць, але падпраўляюць яе, „паляпшаюць" ды прерайначваюць, дадаюць „нестаючыя элемэнты" і ўсё гэта выдаецца за народны беларускі аўтэнтычны падыход. Тут зьяўляецца ашуканства, эстэтычная дэзінфармацыя. Дрэнны варыянт – гэта так званая „самадзейнасьць" зь яе апрацоўкамі народных песьняў савецкімі кампазытарамі. Тут адкрытае разбурэньне традыцыі і падмена яе прымітыўным „вакалам" („медленно, протяжно").


(Фота Ул. Сапагова)

***126. Гуканьне вясны ў Строчыцах. 1998 г.***

* Маладая асоба, 22 гады, магчыма, – будучая індывідуальнасьць у музыцы.

Але поўнае варварства, калі малаадукаваныя культработнікі шырокага профілю вучылі „правільна сьпяваць” народных сьпевакоў, цягаючы іх па розных раённых і абласных аглядах мастацкай самадзейнасьці.

Можна ўявіць, што сталася б з бурацкім ці тувінскім гарлавым сьпевам, ці з азербайджанскім мугамам, ці з грузінскім шматгалосьсем, калі б іхных сьпевакоў павучылі савецкія культработнікі.

У Беларусі захавалася арыгінальнае прасторавае грудное сьпяваньне, заснаванае, як і ўсё старажытнае народнае, на пентатоніцы, бяз ладавай афарбоўкі мэлёдыі. Але ў Беларусі савецкія культмасавікі, што ня ведалі часам элемэнтарных рэчаў, „вучылі” народных майстроў „правільнаму вакалу”.

Разбурэньне сьпеўных і выяўленчых традыцыяў ішло за саветамі праз сцэну, самадзейнасьць, радыё і тэлебачаньне. Асноўны вынік гэтай дзейнасьці – стварэньне прымітыўных уяўленьняў пра беларускую народную культуру і стварэньне сцэнічнага паказнога кіча. Аднак самы традыцыі і народная творчасьць жыла не на сцэне і ніколі не існавала на сцэне. Звужалася і зьнішчалася таксама натуральнае асяроддзе і ўмовы існаваньня традыцыяў беларускага народнага мастацтва.

* * *

Для таго каб у грамадзтве адбывалася цягласьць народнай культуры, каб з пакаленьня ў пакаленьне перадаваліся традыцыі, неабходна, каб існавала ***пастаяннае насельніцтва на пастаяннай тэрыторыі***. Маецца на ўвазе ня толькі агульнанацыянальны маштаб, але і макрасістэмы ў межах геаграфічных мясьцінаў, адміністрацыйных раёнаў і асобных паселішчаў.

Жыхары паселішча, што існуюць у сфэры нацыянальнай і мясцовай традыцыйнай культуры, жывуць адначасна і ў сваім макрасьвеце, дзе абкультураныя ня толькі дачыненьні паміж людзьмі, але і ўся акаляючая прастора. Як правіла, кожная дарога, лагчына, камень у полі, ручайкі і рэкі, дрэвы і ўзгоркі, лясы ды палі, масты ды грэблі, крыжы пры гасьцінцы – усё мае свой назоў, сваё слова і сваю гісторыю, адлюстраваную ў памяці пакаленьняў вёскі, хутару, горада ці мястэчка.

Сацыяльна-культурнае жыцьцё паселішча – гэта таксама свая гісторыя і свой сьвет, дзе адбываюцца адметныя падзеі, існуюць адстояныя зьявы і дачыненьні. Тут пастаянна жывуць і нараджаюцца людзі. У іхняй памяці і на іх трымаецца тое, што рабілі, ведалі, стваралі дзяды і прадзеды і пяроймуць потым дзеці і ўнукі. Уся краіна пад вялікім дахам нацыянальнага адзінства складаецца з такіх макрасьветаў і асяродкаў.

Усё спыняецца, калі зьнікаюць носьбіты макраінфармацыі, калі адбываецца замена насельніцтва. Усялякая гвалтоўная масавая міграцыя нават у межах невялікіх тэрыторыяў небясьпечная для традыцыйнай культуры.

Камуністы праводзілі русіфікацыю і рыхтавалі ператварэньне людзей у савецкі народ, штучна перамешваючы насельніцтва. ***Чарнобыль для Беларусі – гэта ня толькі сацыяльна-экалягічная бяда, але і культурная катастрофа.*** (Маецца на ўвазе страта пастаяннага насельніцтва ў чарнобыльскай зоне.)

Гістарычны вопыт засьведчыў, што людзі на ўзроўні народнай культуры, калі яны адарваныя ад сваёй тэрыторыі і памешчаныя ў іншай, нават блізкай, культурнай супольнасьці, нават трымаючыся кампактна, як правіла, трацяць свае традыцыі і асімілююцца іншым асяроддзем (найдаўжэй – на працягу некалькіх пакаленьняў). Выключэньне складаюць толькі некаторыя народы, мэнтальнасьць якіх абапертая на высокія традыцыі старажытнай культуры, адлюстраванай у помніках пісьмовасьці. Гэта, перш за ўсё, габрэі, кітайцы, у меншай ступені – індусы, карэйцы і арабы.

* * *

Калектыўнае народнае мастацтва, заснаванае на традыцыі, спарадзіла і пакінула шмат фэнамэнальных зьяваў творчасьці. Зьвернем увагу, напрыклад, на архітэктуру готыкі. Шмат якія мастацтвазнаўцы лічаць архітэктуру готыкі цудам чалавецтва, вяршыняй дойлідства. Тым часам гатычная архітэктура ў поўным сэнсе ёсьць народнае рамяство і народнае мастацтва. Яго стварыў народ, рамесьнікі, арганізаваныя ў цэхі, якія зьберагглі традыцыі і таямніцы свайго мастацтва і якое майстры перадавалі з пакаленьня ў пакаленьне. Прафэсійныя (індывідуальныя) архітэктары, што займаліся адным праектаваньнем, зьявіліся пазьней, ў пэрыяд рэнесансу ў Італіі.

Фэнамэнальнай зьявай ёсьць кітайская клясычная паэзія (і зьвязаная зь ёй японская).

Кітайскаму вершаскладанству ўжо тры тысячы гадоў. Гэта індывідуальная творчасьць прафэсійных паэтаў, хоць вершы ў Кітаі вучылі складаць кожнага адукаванага чалавека і кожны дзяржаўны чыноўнік умеў іх пісаць. Тут скарбы трохтысячагадовай кітайскай паэтычнай культуры (зь якой карысталі ўсе пакаленьні), і моцная сіла традыцыяў.

Японцы вытанчылі паэтычную музу, сягнулі ў сутнасьць рэчаў і глыбіню душы, кананізавалі формы вершаў, як музычны акорд: танка – пяць радкоў, злучаныя строфы; хоку – тры радкі. І ні ўлева, ні ўправа: вялікае ў малым.

Тут вольная індывідуальная творчасьць у жорсткай традыцыі. Тым часам такія ўстаноўкі для самавыяўленьня стварала толькі калектыўная народная творчасьць.

Фэнамэн кітайскай і японскай паэзіі вядомы ў сьвеце. Ён ставіцца вельмі высока. І калі я падумаю пра гэта – агортвае мяне нейкая бясьсільная маркота, нібы ад прадчуваньня вялікага марнатраўства.

Бо ёсьць яшчэ адзін незвычайны сінтэтычны (г.зн. злучаны зь некалькіх мастацтваў) фэнамэн творчасьці на ўзроўні вяршыняў чалавецтва – сплаў дзівоснай музыкі і вялікай паэзіі. Гэты фэнамэн – ***беларускі песенны фальклёр***, зьява ўнікальная ў Эўропе.

Але хто ведае пра гэта! Я часта быў сьведкам, калі людзі не маглі яго зразумець, усяроўна, як тыя, што не навучаныя слухаць душой, ня ўмелі ўспрымаць клясычную музыку, ці як тыя (прывыклыя да эўрапейскай шматслоўнай паэзіі), што няўцямна горталі Сайгё, Бусона, Ісу ці Басё.

За апошнія 40 гадоў выдадзена больш за паўсотні акадэмічных тамоў паэтычных тэкстаў беларускага фальклёру. Справа ня ў тым, што ні ў каго такога няма, што гэтае неверагоднае народнае багацьце (хоць сабранае, на жаль, аднабакова) ёсьць толькі рэшткі з таго, што засталося, што гэтая веліч паказвае на велізарную культуру, якую 200 гадоў адмыслова разбуралі і зьнішчалі варвары. Справа ў тым, што ***гэта ёсьць сусьветны ўзровень***, паэтычная энцыкляпэдыя, філасофія духу, гісторыі, побыту, характару і вобразаў хараства беларускага народу, як частка Боскай ісьціны і Боскай красы.

Хто ведае, хто разумее гэта ў эпоху рэгрэсу і дэградацыі эўрапейскай культуры! Адказ „хто” ды „чаму” ляжыць на паверхні. Толькі я ня буду яго паўтараць. Мы жывем у такім становішчы і ў такую пару, калі кожны да Беларусі прыходзіць сам.

*2 красавіка 2001 г., Нью-Ёрк.*
*(„Беларускія Ведамасьці”,– 2001, №7(37).*

# УНУТРАНАЯ АКУПАЦЫЯ

Беларусь ужо некалькі гадоў як знаходзіцца ў становішчы ўнутранай акупацыі. Для шмат якіх людзей за мяжой, якія не знаёмыя з гісторыяй і палітыкай ва Ўсходняй Эўропе, не зусім зразумела, што гэта за вайна такая, пра якую ня чутно, якой, як быццам, не відаць і што гэта за акупацыя краіны, калі адначасна існуе дзяржава, дзейнічае ўрад ды кіраўніцтва выканаўчай улады?

Тым ня менш факт застаецца фактам: не стралялі, не бамбавалі, не наступалі рускія танкі, ня бачылі акупацыйнага войска, а ўся ўлада ў Беларусі пасьля прыходу Лукашэнкі паступова апынулася ў руках расейцаў – функцыянэраў КГБ, выхадцаў з Расеі. Разгортваецца расейская акупацыйная палітыка, зачыненыя беларускія школы і беларускія клясы, спынена разьвіцьцё беларускай вышэйшай адукацыі, пераследуецца беларуская мова, спаленыя беларускія падручнікі і зноў фальсіфікуецца беларуская гісторыя, паралізаваная беларуская гуманітарная навука, кнігавыдавецтва і друк, разбураецца нацыянальная літаратура і тэатр, беларускае прадпрымальніцтва, гаспадарка і эканоміка, годнасьць беларускай літаратуры ***Васіль Быкаў*** вымушаны эміграваць, перасьледуецца і топчацца беларуская культура, крок за крокам падрыхтоўваецца злучэньне Беларусі з Расеяй і ліквідацыя Беларускай дзяржавы.

***Унутраная акупацыя – гэта захоп улады ў краіне, праведзены зьнешнімі сіламі знутры.***

Калі мы паглядзім на беларускі ўрад і на вышэйшыя структуры кіраўніцтва ў цяперашняй Беларусі, то ўбачым, што там практычна ўжо не засталося аніводнага беларуса. Пасьлядоўна, крок за крокам, беларускія функцыянэры, нягледзячы на службовую адданасьць рэжыму, былі выведзеныя з ураду ды іншых вышэйшых структураў улады і замененыя на расейскіх генэралаў, палкоўнікаў, агентаў КГБ-ФСБ.

Тое ж самае адбываецца зь беларускім кіраўніцтвам гаспадарчых і эканамічных структураў.

Паступова, абапіраючыся на ўжо апанаваны ўрад, міністэрствы і незаконнага „прэзыдэнта”, расейскія спэцслужбы займаюць усе вузлавыя пасады ў беларускай сістэме ўлады і кіраваньня. Утвараецца сетка рэзідэнтур расейскай разьведкі, узмацняецца ўнутраная антыбеларуская палітыка, накіраваная на разбурэньне беларускай дзяржавы, дэзарганізацыю грамадзтва і зьнішчэньне нацыянальнай культуры.

У выніку такой дэзарганізацыі, задушэньня нацыянальнага школьніцтва, беларускай мовы і нацыянальнай культуры, грамадзтва траціць кансалідацыю, робіцца безабаронным перад чужынцамі. Увесь народ апускаюць у галечу і беднасьць. Ствараюцца ўмовы для лёгкага і дармовага захопу беларускай маёмасьці ды нацыянальнай уласнасьці іншаземцамі. ***Праца беларуса марнуецца, перастае даваць яму прыбытак, грамадзтва не багацее. Працоўная дзейнасьць чалавека накіраваная толькі на выжываньне. Зьніжаецца рэпрадуктыўнасьць насельніцтва. Нацыя пачынае фізічна выміраць.***

Захапіўшы ўладу знутры, акупанты пачынаюць кіраваць краінай. Яны праводзяць таксама зьнешнюю акупацыйную палітыку, накіраваную з аднаго боку на замацаваньне залежнасьці ад дзяржавы-агрэсара, з другога – на анэксію краіны.

Усё гэта перажывае зараз нашае грамадзтва. Страціўшы нацыянальнае кіраваньне сваёй дзяржавай, беларусы ня ў стане традыцыйна ўплываць на падзеі.

***Рускія спэцслужбы да ўлады на Беларусі прывёў Лукашэнка.*** Раней ён працаваў у сістэме КГБ і яго ворганаў і атрымаў ад іх падтрымку на прэзыдэнцкіх выбарах у 1994 годзе. (Пра гэта засьведчыў сам Лукашэнка.)

Расейская мафія і КГБ паставілі на Лукашэнку і выйгралі на Беларусі.

Шмат якія людзі не разумеюць, што ж адбываецца ў краіне, альбо разумеюць гэта памылкова, шукаюць прычынаў дрэннага стану там, дзе іх няма.

Апошнім часам хутка перамянілася сітуацыя ў сьвеце. Зьявіліся новыя сацыяльна-арганізаваныя і тэхналягічныя чыньнікі ў грамадзтве, якія далі магчымасьць ужываць нетрадыцыйную тактыку вайны. Гэта, напрыклад, электронная, інфармацыйная вайна, вайна канцэнтраванай тэхналягічнай перавагі ці сацыяльна-палітычная вайна мэтадам татальнага дзеяньня спэцслужбаў *(дзеяньнямі спэцслужбаў можна захапіць краіну)*.


Фота С. Грыца

***127. Менск. Шэрыя шыхты.***

Расея якраз і валодае такой па-асабліваму арганізаванай сацыяльна-палітычнай спэцыяльнай сілай, якой зьяўляецца савецкі КГБ.

НКВД-КГБ быў асновай камуністычнай сістэмы таталітарызму. Пасьля распаду СССР гэтая сістэма КГБ не была разбураная і ў цэлым захавала сваю арганізацыю. У выніку КГБ уключыўся ў палітычную барацьбу за дзяржаўную ўладу. На сёньняшні дзень КГБ-ФСБ поўнасьцю распараджаюцца ўладай у Расеі і ў Беларусі. КГБ – гэта ўжо цяпер ня толькі дзяржаўная структура.




*128. Абаронім дзяцей...*

***Гэта палітычная сіла***, якая валодае практычна неабмежаванымі магчымасьцямі: палітычнымі сродкамі ўсёй улады і рэсурсамі ўсёй дзяржавы.

Спрэсаваную дзейнасьць расейскіх структураў КГБ-ФСБ, накіраваную на захоп улады ў Беларусі, нашае грамадзтва адчула не адразу. На пачатку гэта была нябачная вайна, зразумелая толькі нямногім, бо яна пачыналася як працяг каляніяльнай савецкай палітыкі ў звыклых савецкіх формах і ажыцьцяўлялася прывыклай савецкай адміністрацыяй. І толькі потым, калі стала ўсё відавочным і ўзьнікла іншая штодзённасьць, грамадзтва на ўзроўні звычайнага чалавека зрэагавала на адмоўныя перамены.

Азіраючыся на крывавае ХХ-е стагоддзе, мы бачым, што найбольш злавесную ролю ў падрыхтоўцы вайны і ў масавым зьнішчэньні людзей сыгралі якраз спэцслужбы таталітарных краінаў. ***Пры разбурэньні таталітарызму першым чынам неабходна было расфармаваць злачынныя спэцслужбы.*** Што і было зроблена пры ліквідацыі фашыстоўскага (і пазьней савецкага) рэжымаў ў Нямеччыне.

Аднак пасьля распаду Савецкага Саюзу засталіся амаль некранутымі ня толькі крывавы НКВД-КГБ, але і ў грунце сваім – расейская каляніяльная імпэрыя.

Агрэсіўная таемная арганізаваная сіла, якая ня мела нацыянальных межаў, пакінутая сама з сабой, мусіла была знайсьці сваю рэалізацыю ў рускай вялікадзяржаўнай палітыцы.

Яна стала ажыцьцяўляць гэтую палітыку найперш у Беларусі, распачаўшы захоп краіны і вайну – бяз зброі.

*28 студзеня 2001 г., Вільня.*

# ЗМАГАНЬНЕ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Разьвіцьцё цывілізаванага грамадзтва, сістэма і структурызацыя ўлады рухаліся такім чынам, што ў непасрэднае змаганьне за ўладу ўцягваліся ўсё большыя масы людзей. Адбываецца дыферэнцыяцыя палітычных інтарэсаў, утвараюцца групы, што выяўляюць гэтыя інтарэсы, узьнікаюць канфлікты паміж агульнымі і групавымі патрэбамі. Адчыняюцца магчымасьці для маніпуляцыяў народам і масавай сьведамасьцю людзей.

У стабільнай і суверэннай нацыянальнай дзяржаве такое становішча ня ёсьць найлепшым. Але, як правіла, існуе магчымасьць яго выправіць і ўдасканаліць.

Другое, што важна: нават найгоршы стан палітычных дачыненьняў не пагражае існаваньню грамадзтва, не зачыняе пэрспэктывы яго разьвіцьця. Гісторыя паказвае, што нават самы дрэнны ўнутраны палітычны рэжым ня можа зьнішчыць народ, нацыю і дзяржаву. Самазьнішчэньня не адбываецца.

Гісторыя зноў жа сьведчыць, што ні адзін незалежны народ, ні адно незалежнае грамадзтва не загінула ад дрэннай унутранай палітыкі, ад унутранай тыраніі, ад дрэннай эканомікі і нават ад голаду, ***калі яно здолела захаваць сваю дзяржаву і незалежнасьць***.

Паўночныя карэйцы маюць пэрспэктыву (хоць цяпер у іх кашмарны рэжым і дрэнная ўнутраная палітыка), кубінцы таксама маюць пэрспэктыву (хоць цяпер там беднасьць і дыктатура). А вось пэрспэктыва курдаў, чувашоў ці мардвы – пад вялікім пытаньнем. Чаму – я думаю, зразумела.

Народ, які ня мае дзяржавы і незалежнасьці, – ня мае магчымасьці свабодна распараджацца сваёй дзейнасьцю і разьвіваць свае інтарэсы. Яго дзейнасьць, у лепшым выпадку, накіраваная тады на выжываньне і на змаганьне за існаваньне, у горшым – на прыстасаваньне.

Вынік можа быць дваякім: альбо народ вытрывае і, скарыстаўшы магчымасьць, створыць дзяржаву і даможацца незалежнасьці, альбо зьнікне з кнігі жыцьця.

***Незалежная дзяржава ёсьць найвялікшая палітычна-праўная каштоўнасьць нацыі.***

У стварэньні незалежнай дзяржавы ёсьць сэнс народнай гісторыі. У арганізацыі ўлады ў дзяржаве, у змаганьні за ўладу заключаецца сэнс палітыкі.

Найцяжэй незалежнасьць дасягаецца паўторна, у працэсе дэкалянізацыі і ў змаганьні з імпэрыяй. Дасягненьне незалежнасьці і адстойваньне свабоды тут немагчымае без барацьбы ўсяго грамадзтва.

Вельмі істотна, каб пасьля перамогі тыя, хто змагаліся за незалежнасьць, адразу мелі ўладу ў краіне, адхілілі ад кіраваньня каляніяльную адміністрацыю, ліквідавалі б імпэрскі і заклалі б свой нацыянальны парадак. Гэтым адсякалася б умяшаньне старой імпэрыі ва ўнутраныя справы незалежнай дзяржавы. Далейшае, рэглямантаванае законам, змаганьне за ўладу адбывалася б ужо як суверэнная справа вольнай краіны.

Пасьля распаду СССР толькі народы Прыбалтыкі поўнасьцю ажыцьцявілі неабходныя палітычныя пераўтварэньні, якія гарантавалі незалежнасьць і стабільнасьць улады, заснаванай на нацыянальных інтарэсах.

Складаная сітуацыя стваралася ў Беларусі. Тое, што аднавілася незалежная Беларусь, для Масквы стала поўнай нечаканасьцю. 200 гадоў Масква практыкавала асаблівую палітыку супраць Беларусі – свайго галоўнага ворага на захадзе. Было зроблена ўсё, прытым самым варварскім чынам, каб Беларусь ужо ніколі не паднялася і не існавала. І раптам ... – незалежная Беларусь.

Разгубленасьць расейцаў хутка скончылася. Ужо ў 1992 годзе беларускія адраджэнскія сілы адчулі наяўнасьць ў Беларусі маскоўскіх палітычных тэхналёгіяў. Стаўка расейцаў рабілася на КГБ і савецкую намэнклятуру, якая засталася пры ўладзе. Задача – пранікненьне расейскіх спэцслужбаў на вузлавыя пазыцыі ўлады ў Беларусі, увядзеньне ў палітычную рэальнасьць ідэі інтэграцыі з Расеяй (праз аб'яднаньне грашовых сістэмаў), увядзеньне пасады прэзыдэнта і ўсталяваньне на ёй свайго стаўленьніка.

Гэтыя дзеяньні маскоўскіх палітыкаў і КГБ былі настолькі відавочнымі, што ня бачыць і не разумець таго, што адбывалася, маглі толькі сьляпыя.

25 студзеня 1994 года, выступаючы ў Вярхоўным Савеце ад імя Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, я адзначыў: *„Руская мафія і рускія спэцслужбы імкнуцца захапіць ключавыя пасады ў беларускай дзяржаве і паздымаць зь іх беларусаў, гэтак жа, як яны пры дапамозе Кебіча і Данілава* паздымалі беларусаў у беларускім войску і зьмянілі беларускае кіраўніцтва буйнейшых заводаў на рускіх функцыянэраў.*

*Спадар Кебіч і яго акружэньне здрадзілі Беларусі. Яны імкнуцца любымі сродкамі жорстка цэнтралізаваць уладу, рыхтуючь палітычныя ўмовы для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі перад афармленьнем эканамічнай авантуры аб уваходжаньні Беларусі ў грашовую сістэму Расейскай Фэдэрацыі. Такая палітыка ёсьць антыдзяржаўная палітыка і зьяўляецца злачынствам...*

*Грамадзяне Беларусі павінны выразна ўсьведамляць, што галоўная небясьпека цяпер для нашага грамадзтва і галоўны вораг нашай дзяржавы ёсьць рускі палітычны і эканамічны імпэрыялізм і кампрадорская дзейнасьць ураду Кебіча." (Беларус, – 1994, люты, №410)*

Аднак казаць камуністычнаму парляманту пра небясьпеку для Беларусі было дарэмна. Грамадзтва ж у масе сваёй заставалася савецкім. Потым здрадніцкую эстафэту Кебіча пераняў Лукашэнка.

Палітыканскія тэхналёгіі чужакоў і палітычных цынікаў бездапаможныя, калі ёсьць масавы народны грамадзкі ўздым на змаганьне за агульныя інтарэсы. Тады цынічныя тэхналёгіі можна лёгка адкінуць і перакуліць. Але ўжо ў сярэдзіне 1992 года ўздым скончыўся, а ўлада ў Беларусі не зьмянілася, засталася ў руках савецкай намэнклятуры.

Такім чынам ***пэрыяд стабілізацыі незалежнасьці пачаўся са старой каляніяльнай адміністрацыяй ва ўладзе***, для якой чужымі былі ня толькі беларускія нацыянальныя інтарэсы, але і ўвогуле якое-небудзь нават самае простае дзяржаўнае думаньне. ***Тыя, хто дамагліся незалежнасьці Беларусі, не маглі рэальна ўплываць на палітыку дзяржавы.***

Непрыяцелі беларушчыны, валодаючы ўладай і сродкамі масавай інфармацыі, арыентавалі сваю прапаганду на людзей з дэфармаванай нацыянальнай сьведамасьцю і яшчэ больш дэфармавалі яе. Мноства беларусаў слухалі, верылі і падтрымлівалі не сваіх беларусаў-адраджэнцаў, а ворагаў Беларусі. Сытуацыя склалася амаль трагічная.

Але тут не было нічога незвычайнага. Гэта адваротны бок мэдалю нашай вялікай нацыянальнай перамогі ў 1991 годзе, калі на агульным уздыме, дзейнічаючы дакладна і своечасова, беларускім адраджэнцам удалося дамагчыся незалежнасьці, спыніць дзейнасьць КПСС, вярнуць нацыянальныя сымвалы і беларускія школы. Тым часам вялікая частка грамадзтва не была яшчэ гатовая да актыўных дзеяньняў па абароне незалежнасьці, не разумела каштоўнасьці свабоды, ня ведала, як сябе паводзіць, не арыентавалася, хто сябры, а хто ворагі.

Пасьля выбараў прэзыдэнта летам 1994 года я зьвярнуўся да людзей зь лістом, які быў напісаны, праўда, хутчэй да будучых беларусаў, чым выбаршчыкаў, якія толькі што абралі Лукашэнку. Там напісана: *„Народ, які шмат гадоў атручвалі камуністычнай прапагандай, пастаўлены перад выбарам: альбо незалежная эўрапейская дзяржава Беларусь і самастойная палітыка, альбо страта незалежнасьці і нацыянальнай пэрспэктывы ў абмен на прывідныя абяцанкі апекі іншай дзяржавы. Гэты выбар галоўны, бо вызначае наш народны лёс.*

*23 чэрвеня ён адбыўся на карысьць страты, адбыўся хутчэй неўсьвядомлена, пад уплывам прапаганды і дэмагагічнай агітацыі." (Беларус, – 1994, ліпень, №414)*

Праз два гады пасьля зьяўленьня прэзыдэнта-крэатуры КГБ, практычна ўсе дасягненьні беларускага адраджэньня ўнутры краіны былі ліквідаваныя.

Наступнай стратэгічнай задачай расейскай тэхналягічнай палітыкі ў Беларусі стала зьнішчэньне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, канкрэтна – Беларускага Народнага Фронту. Скарыстоўвалі тыповыя прыёмы НКВД, якія заключаліся ў фізічнай ліквідацыі кіраўнікоў руху, у стварэньні нібыта больш шырокай квазіапазыцыйнай арганізацыі, у якую ўваходзіла б рэальная нацыянальна-вызвольная арганізацыя, ствараліся б нібыта сумесныя структуры і на тое падобнае. У выніку дзейнасьць нацыянальна-вызвольнай арганізацыі была б абмежавана, назва яе зьнікла б з палітычнага ўжытку, яе ўцягвалі б у дыскусіі ды канфлікты і, пры дапамозе агентуры, даводзілі б да развалу.

* За часы БССР высокапастаўлены чыноўнік у Менскім Абкаме партыі, курыраваў КГБ. Ва ўрадзе Кебіча кіраваў антыканстытуцыйнай структурай (Дзяржсакратарыятам), створанай пад ціскам Масквы і КГБ. *(аўт.)*

Характэрнай акцыяй такога роду была ініцыятыва стварэньня так званай „хартыі-97”, якую шырока падтрымлівалі (нават у міжнародным пляне) у асноўным праз журналістаў. Аднак разгарнуць афёру з „хартыяй” не ўдалося. Адраджэнцы раскусілі задуму.

Больш сур’ёзнай і выніковай аказалася тэхналёгія стварэньня сваёй, паралельнай Вызвольнаму Руху намэнклятурнай апазыцыі да рэжыму і перацягненьня ўвагі на яе, стварэньне ілюзіі іншай альтэрнатывы для дыктатуры.

У арганізацыі намэнклятурнай ***неадраджэнскай*** апазыцыі найбольш стараўся нямецкі дыплямат Ганс Георг Вік, былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны, а цяпер старшыня Місіі АБСЭ ў Менску. Тут расейская дзейнасьць і нямецкая палітыка супадаюць. Нямецкая дыпляматыя дапамагае расейцам інкарпараваць Беларусь узамен за магчымыя эканамічныя ўступкі немцам у Калінінградзкай вобласьці. Вядома, што прамаскоўскія дзеячы („дэмакраты”) зь некаторых заходніх фондаў, якія падтрымлівалі грантамі сваю матэрыяльна-залежную агентуру ў „апазыцыі”, канкрэтна ўмешваліся ў справу разбурэньня адраджэнцкай палітыкі Фронту і патрабавалі пэўных дзеяньняў супраць кіраўніцтва БНФ. Частка людзей з БНФ перайшла ў кіруемую „аб’яднаную апазыцыю”, але зьнішчыць БНФ і разбурыць Беларускі нацыянальна-вызвольны рух не ўдалося. Фронт ачысьціўся ад „прагматыкаў”. Аднак падзел Фронту дрэнна адбіўся на ўсёй сытуацыі палітычнага змаганьня ў Беларусі.

Намэнклятурная ці так званая „аб’яднаная апазыцыя”, створаная Гансам Вікам, у рэальнасьці зьяўляецца даволі ілюзорнай зьявай і трымаецца на прапагандзе, на „арыентаваных” (так званых „незалежных”) рускамоўных СМІ. Яна, практычна, поўнасьцю залежная ад фінансавай дапамогі з Усходу і Захаду (а гэта абмяжоўвае самастойнасьць). Рэальнай палітычнай сілай яна ня ёсьць, альтэрнатывай рэжыму не зьяўляецца, інтарэсы беларускага народу не выяўляе, вялікіх агульнанародных ідэяў ня мае.



***129. Марка БНР.***

Паглядзім, што за людзі выступаюць пад шапкай так званай „аб’яднанай апазыцыі”.

Гэта былы савецкі прафсаюзны намэнклятуршчык **У. Ганчарык**; гэта генэрал **П. Казлоўскі** – былы міністар абароны, які павыганяў беларускіх афіцэраў зь беларускага войска; гэта былы прэм’ер-міністар **М. Чыгір** – некалі першы памочнік Лукашэнкі, які кантактуе цяпер з рускім ФСБ (карупцыйную дзейнасьць Чыгіра раскрыў з парляманцкай трыбуны Беларускі Народны Фронт. Даклад С. Антончыка); гэта былы намэнклятуршчык з каманды В. Кебіча – **С. Домаш**; гэта былы 1-ы сакратар райкама КПСС і першы хаўруснік Лукашэнкі – **Л. Сініцын**; гэта былы адданы прыхільнік Лукашэнкі і былы сакратар ЦК ЛКСМБ **А. Фядута** – перапоўнены нянавісьцю да Беларускага Народнага Фронту і беларускага Адраджэньня; гэта былы яры камсамолец і няверны слуга Лукашэнкі **А. Лябедзька** і іншыя асобы.

***Гэта ўся былая савецка-камуністычна-камсамольская намэнклятура. Яны ніколі не падтрымлівалі беларускае Адраджэньне, яны не падтрымлівалі беларускую нацыянальную ідэю і незалежнасьць Беларусі.*** Усе яны выступалі супраць Беларускага Народнага Фронту і паўтаралі самыя дзікія кагэбоўскія і камуністычныя выдумкі пра Фронт. Усе яны з каманды Лукашэнкі і шмат хто зь іх заграз у карупцыі, грантах ды падачках. **Усе яны заўсёды па-рабску глядзелі на Маскву** і цяпер езьдзяць туды адзін за другім шукаць грошай і падтрымкі.

Вось такую кампанію сабралі для беларусаў і кажуць, што гэта „апазыцыя”, маўляў, галасуйце за іх, гэта лідары нацыі, цярпельцы, розум ды сумленьне, яны за дэмакратыю.

Мэтад расейскіх спэцслужбаў вядомы: кантроль над уладай і стварэньне сваёй „апазыцыі”. Масква зноў, як і ў 1994 г., хоча падрыхтаваць сабе бяспройгрышны варыянт.

*1 сакавіка 2001 г.*
*Нью-Ёрк.*

# АНТЫБЕЛАРУСКАЯ ПРАПАГАНДА

Мэтанакіраваная антыбеларуская прапаганда пастаянна і мэтадычна цягнецца вось ужо скора сто гадоў. Яна пачалася адразу пасьля стварэньня беларускай палітычнай партыі нацыянальнага адраджэньня ў 1903 годзе (Беларускай Сацыялістычнай Грамады), пасьля зьяўленьня газэтаў „*Наша Доля*” (1906 г.) і потым „*Наша Ніва*” (у гэтым жа годзе), пасьля арганізацыі беларускага тэатру і з пачаткам творчасьці ***Янкі Купалы*** і ***Якуба Коласа***. Усё гэта ў адзін і той жа час.

Царскія ахоўніцкія службы арганізавалі тады свае псэўдабеларускія арганізацыі, пачалі выдаваць свае газэты на расейскай мове, якія якраз і займаліся ганьбаваньнем усяго беларускага.

Такімі арганізацыямі былі, напрыклад, таварыства „Крестьянин” і аднайменная антыбеларуская газэта ў Вільні, узначаленыя агентам Кавалюком. У „таварыства” ўваходзіла каля 30-ці чыноўнікаў ведамства ўнутраных справаў Расеі.

Праз два гады (у 1908 г.) каляніяльныя ўлады стварылі ў Вільні яшчэ адну антыбеларускую арганізацыю „Белорусское общество”; яго ўзначаліў беларусафоб Лукаш Саланевіч. „Общество” выпускала газэту „Белорусская жизнь”, якая ў нянавісьці да беларускага Адраджэньня ня мела сабе роўных.

Пазьней Саланевіч трапіў у рускую эміграцыю і выхваляўся, што ён, хоць па паходжаньні „таксама беларус”, але выхоўваўся на паэзіі Пушкіна і песьнях Вярцінскага, „а ня нейкага там Купалы”.

Быў яшчэ такі беларусафоб Пшчолка ды поп Шофер – кіраўнік чарнасоценнага „Саюзу Міхаіла Архангела" ў Менску і іншыя чарнасоценцы.

Потым эстафету перанялі камуністы-бальшавікі.

Цяпер, пасьля захопу ўлады ў Беларусі і Расеі, шальмаваньне беларусаў падхапілі савецкія кагэбісты. Зрэшты, незалежна ад палітычнай афарбоўкі ўлады, антыбеларуская прапаганда заўсёды была прэрагатывай рускіх спэцслужбаў. У кагэбоўскай Беларусі яна, гэтак жа, як некалі ў СССР, зьяўляецца дзяржаўнай палітыкай і праводзіцца адкрыта, грубымі спосабамі.

18 сакавіка гэтага году афіцыйнае тэлебачаньне ў Менску (праграма „Рэзананс") выпусьціла свой чарговы паклёп на беларускае Адраджэньне, беларускія ідэі і беларускую інтэлігенцыю. Словы дыктара ілюстравалі, як звычайна, кадрамі нямецкай фашысцкай кінахронікі пэрыяду 2-й Сусьветнай вайны, якія, па задуме прапагандыстаў, павінны былі пасеяць ўяўленьні, што беларуская адраджэнская інтэлігенцыя – гэта фашысты, што беларускія змагары за незалежнасьць Беларусі такія ж, як і гітлераўцы, маюць такія ж самыя мэты і здольныя рабіць такія ж самыя справы. (Гэта значыць, усталяваць у Беларусі фашысцкі рэжым, пабудаваць канцлягеры, зьнішчыць усіх неарыйцаў (небеларусаў) і, магчыма, разьвязаць вайну ды напасьці на „мірную" Расею.)


(Фота: „Wprost")

***130. Менск-96. Сутычка на вуліцы.***

Тут не паранойя, а зласьлівы разьлік на зацемненую сьведамасьць у грамадзтве. Прапаганда абсурду і хлусьні якраз і спараджае такую сьведамасьць.

Шмат ёсьць прыёмаў у прапагандыстаў, калі прыдумваецца нейкі абсурдны тэзіс, які спачатку прыпісваюць беларускаму палітыку ці грамадзкаму дзеячу, а потым пачынаюць гэты свой тэзіс удавана гнеўна і злосна высьмейваць.

Затым ідзе апытаньне з тэлекамэрай простых людзей на вуліцах, каб пачуць „голас народа". Гавораць, напрыклад, якоенебудзь глупства, скажам, пра ліквідацыю ўсялякіх пэнсіяў, ці пра расстрэл усіх камуністаў, ці пра высяленьне ўсіх рускіх і пытаюць у цёткі на тратуары: маўляў, такі і гэтакі кажа так і гэтак. „Как вы к этому относитесь?" Цётка, вядома, кажа, што дрэнна адносіцца. Мэта дасягнута. Ёсьць голас народа.

У прынцыпе – ***гэта сталінская прапаганда***. Яе прыёмы ўзьніклі ў чорна-белых уяўленьнях сталінскіх энкавэдэшнікаў ды партыйных апаратчыкаўаў, для якіх сьвет складаўся з пралетарыяў і капіталістаў, зьмест гісторыі быў у клясавай барацьбе, а сэнс палітыкі – у зьнішчэньні ворагаў.

У расейскай каляніяльна-акупацыйнай палітыцы такая сьведамасьць выяўляецца ў вельмі распаўсюджаным для энкавэдзістаў прыёме, калі прыдумваецца вэрсія (напрыклад, неіснуючы „Саюз вызваленьня Беларусі", як было у 30-х гадах мінулага стагоддзя), якая выдаецца за рэальны факт і пад яго ажыццяўляюцца рэпрэсіі (выбіваюцца паказаньні шляхам катаваньняў, судзяць, расстрэльваюць, ссылаюць і г.д.). У прапагандзе „вэрсіі" прыдумваюцца, каб наводзіць паклёп.

На савецкім радыё і тэлебачаньні сталінская прапаганда найбольш буяла ў часы халоднай вайны. (Каго там толькі ні „закляймілі" савецкія „журналісты").

Разваліўся Савецкі Саюз, зьнікла КПСС, але засталіся кагэбоўскія „тэлепрапагандысты". У Расеі гэта цэлая група тэлестукачоў на ГРТ („ОРТ") і іншых расейскіх каналах, розныя дарэнкі, шараметы ды няўзоравы палохаюць расейцаў Чачнёй, якая, калі паслухаць гэтых „дыктараў", напала на Расею, хоча захапіць і зьнішчыць увесь рускі народ.

У Беларусі ў электронных СМІ распараджаецца свая група. Тут прыдуманыя свае вэрсіі і свае аб'екты нянавісьці (ворагі). Але мэтады аднолькавыя – сталінскія і гэбэшныя.

***Характар тэлепрапаганды адлюстроўвае характар улады, якая усталяваная ў Беларусі і ў Расеі.***

Чарговы выказ нянавісьці на менскім тэлеэкране 18 сакавіка зьвязаны з надрукаваньнем майго артыкула „Амэрыка для амэрыканцаў" у газэце „Народная Воля". Там якраз расказана пра мэтодыку кагэбоўскай прапаганды супраць ідэяў беларускай незалежнасьці, дэмакратыі і свабоды. Тое, што стварылі 18 сакавіка на афіцыйным тэлебачаньні ў Менску, дакладна адпавядае той схеме паводзінаў, пра якую якраз і напісана ў публікацыі.

З гэтага гледзішча праграма менскага тэлебачаньня „рэзананс" на 18 сакавіка гэтага года ёсьць пазнаваўчым ілюстрацыйным матэрыялам да артыкула „Амэрыка для амэрыканцаў". Нэгатыўную прапаганду спэцыялістам таксама трэба ведаць, каб разумець, якім чынам яна ўзьнікае.

І сапраўды, па гёбэльсаўскай прапагандзе напісана шмат дасьледчыцкіх працаў, выдадзена шэраг кніг. Па сталінскай – ніводнай. У нас жа, у Менску, цэлыя залежы сталінізму, жывы рэлікт, які практычна ўжо не трансфармуецца. Гэта абсалютна ўнікальная зьява – машына часу,назіраньне за якой дазваляе апусьціцца гадоў на 70-40 у гісторыю СССР. Здалёку ўсё добра відаць. Дарэчы, я зусім не іранізую, бо схільны падыходзіць тут да справы як дасьледчык. Рэлікт пара вывучаць, бо калі зьнікне, будзе позна.

Зыходзячы з дасьледчыцкага інтарэсу, працытую тую частку майго артыкула і палажэньні, якія сваёй передачай праілюстравала праграма тэлебачаньня:

„*Тры зьявы Беларускага Адраджэньня выклікалі асаблівую нянавісьць у рускіх бальшавікоў – гэта дзейнасьць Рады БНР, беларускае адраджэньне ў час 2-й Сусьветнай вайны за немцамі і вызвольны лёзунг „Беларусь – для беларусаў"*.

*У зьнеслаўленьні гэтых каштоўнасьцяў бальшавіцкая прапаганда выкарыстоўвала толькі адзін псіхалягічны аспэкт: падсьведамасьць нянавісьці Другой Сусьветнай вайны.*

*Усё нацыянальнае беларускае, што завязана было з нацыянальнай ідэяй і беларускім адраджэньнем, аб'яўлялася фашысцкім: ці гэта беларускі нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, ці гэрб Пагоня, ці імёны забароненых вялікіх паэтаў, нават проста размова па-беларуску ва ўнівэрсытэце ці ва ўстанове – усё кваліфікавалася стукачамі, савецкімі абывацелямі і прапагандыстамі як „фашызм". Беларускае падавалі ў двух азначэньнях: альбо „мужыцкае", альбо – „фашызм".*

*Руская камуністычная прапаганда ў Беларусі паўтарала гэтыя, скажам проста – ідыёцкія ярлыкі, з дня ў дзень, тупа, ненавісна і пастаянна, пакуль існаваў СССР.*

*Палітычная формула нацыянальна-вызвольнага руху „Беларусь – для беларусаў" перакручвалася пад савецкія ідэалягічныя ўяўленьні. За часы камуністычнага СССР ідэалёгіяй рускага імпэрыялізму і русіфікацыі быў так званы „інтэрнацыяналізм", згодна якога нібыта сьціраліся адрозьненьні паміж акупаванымі народамі ды расейцамі і ствараўся так званы „адзіны савецкі народ" (гэта значыць „адзіныя расейцы"). Палітычны лёзунг нацыянальнай свабоды камуністы апускалі на этнічны ўзровень і тлумачылі, што беларускія „нацыяналісты" (а, значыцца, – „фашысты") хочуць выгнаць зь Беларусі ўсіх расейцаў, усіх габрэяў, усіх, хто не беларусы, і стварыць этнічна чыстую дзяржаву.*

*Тым часам **палітычны зьмест лёзунга вызвольнага руху мае антыкаляніяльны сэнс і вырашае пытаньне, каму павінна належыць краіна і хто ў ёй гаспадар**, а ня тое, хто ў ёй павінен жыць (як спэцыяльна перакручвалі калянізатары).*

*Злавеснае адценьне набывае подласьць гэтай прапаганды, калі ўлічыць, што этнічныя чысткі і генацыд ажыцьцяўлялі якраз камуністы ў Савецкім Саюзе (прымусовае высяленьне татараў, чачэнцаў, інгушоў і інш.), у былой Югаславіі, у камуністычнай Польшчы (прымусовае высяленьне ўкраінцаў), у камуністычнай Балгарыі (дачыненьні да турак) і г.д. Я ўжо не кажу пра Кітай і азіяцкія рэжымы.*

*Тым часам нічога падобнага не рабілі дэмакраты і нацыянальна-вызвольныя рухі. У іх іншая, не таталітарная прырода.*

*Але трэба ведаць камунізм і Расею, каб зразумець характар іхняе прапаганды, пабудаванай на агрэсіўнай хлусьні.*

*Рэцэдывы гэтай прапагандысцкай агрэсіі мы сустракаем і цяпер. Нічога дзіўнага – існуюць пастаянныя крыніцы рэпрадукцыі старой нянавісьці да беларускага адраджэньня – гэта савецкая псіхалёгія часткі насельніцтва і – галоўнае – нязьменнасьць імпэрскай палітыкі Расеі ў дачыненьні да Беларусі."*

Праграма „Рэзананс" пацьвердзіла ўсе мае высновы.

Можна задаць пытаньне, чаму шалёная антыбеларуская прапаганда такая прымітыўная. Прычына ў тым, што гэтакія людзі, як на тэлебачаньні, і сістэма, у якой яны існуюць, ёсьць, як заведзены будзільнік. Гэта машынка, якая сама па сабе ня думае і думаць ня можа. Той, хто займаецца палітычнай арганізацыяй людзей, ведае, якую шкоду робяць для арганізацыі дурні, асабліва ў кіраўніцтве. Але ў беларускай рэчаіснасьці гэта ня самая вялікая бяда. Дурня-кіраўніка, патраціўшы шмат энэргіі, можна ў нечым пераканаць, нешта яму растлумачыць, нарэшце, прымусіць яго падпарадкавацца закону лёгікі ці большыні калектыву.




*131. Марка БНР.*

Калі ж у кіраўніцтве палітычнай арганізацыі агент-стукач, то ўсе дзеяньні і размовы зь ім – марната часу. Машынка заведзеная, і ўсе вашы лягічныя аргументы (і тым больш – эмоцыі) ні да чаго. Будзільнік будзе званіць сваё.

У нестукачоў гэтай машыннай сістэмы таксама свая псіхалёгія (свой унутраны будзільнік). Памятаю, за саветамі ў парткам аднаго акадэмічнага інстытута патэлефанавалі з ЦК, што інстытуту неабходна прыняць польскую дэлегацыю ветэранаў вайны. Дырэктару загадалі зрабіць даклад пра савецка-польскае брацтва і т.п.

За некалькі дзён да прыёму паведамілі, што польскіх ветэранаў ня будзе, прыйдуць савецкія. Дырэктар (таварыш, які трэба) моцна напружваўся, каб зразумець сітуацыю. Але калі, бразгаючы мэдалямі, прыцягнуліся савецкія ветэраны, ён так і ня змог пераарыентавацца. Дырэктар усяроўна прывітаў „польскіх ветэранаў", не адрываючыся ад паперкі, якую раней падрыхтаваў і якую адобрылі ў ЦК, сказаў пра ўклад польскай зброі ў разгром агульнага ворага і прачытаў даклад пра польска-савецкае брацтва.

Ніхто з савецкіх ветэранаў нічога не западозрыў. (Праўда, адзін усё нешта галавой круціў. Але, як высьветлілася, ён проста лічыў прысутных – „все ли в сборе"). Поўная адпаведнасьць попыту і прапановы.

Вось так і зь менскім тэлебачаньнем, і зь яго афіцыйнай праграмай. Жывая гісторыя саветызму. Матэрыялізацыя залюстранай рэчаіснасьці.

Дасьледваньнем і ироніяй, аднак, тут справа не павінна абмежавацца. У нянавісьці да ўсяго беларускага прыслужнікі рэжыму на менскім тэлебачаньні перакрочылі ўсе межы. Тыя зьнявагі ў адрас беларускай нацыі, беларускай гісторыі і беларускіх людзей, той бруд, які выліваецца тэлебачаньнем на ўсё беларускае, немагчыма цярпець, нельга забыць і ніколі нельга дараваць.

Якім трэба быць злым, якім адшчапенцам, да якой нізасьці можа апусьціцца чалавек, каб сусьветна паважанага пісьменьніка, вялікую асобу, гонар беларускай нацыі – ***Васіля Быкава*** – абзываць „літаратурным паліцаем". А менавіта гэтакія словы гучаць у адрас Васіля Быкава на менскім афіцыйным тэлебачаньні, якое, гэтак жа, як і расейскае, ілюструе, што нічога там няма сьвятога, нічога людзкага і нічога беларускага.

Пасьля ліквідацыі акупацыйнага рэжыму ў Беларусі мусяць адбыцца глыбокія перамены ў сацыяльным грамадзтве. ***Людзі подлыя, нізкія, амаральныя, беларусафобы і прадажнікі не павінны будуць займаць пасады дзяржаўнага і высокага грамадзкага ўзроўню.*** Цяперашняе становішча вельмі выразна паказвае, што адбываецца, калі нізкасьць падымаецца ўгару.

Каб запабегчы сацыяльнаму самаатручваньню, супольнасьць мае шэраг грамадзкіх мэханізмаў. Але пасьля ліквідацыі рэжыму (асабліва напачатку) шмат павінна будзе ў гэтым паспрыяць абноўленая, вольная і справядлівая Беларуская Дзяржава.

*23 сакавіка 2001 г., Нью-Ёрк.*

# ЧУЖАЯ СУЧАСНАСЬЦЬ І БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫКА

Напісаць гэтыя кароткія развагі мяне падахвоціў Яўген Мірановіч.

У канцы красавіка мяне і вядомага польскага перакладчыка беларускай паэзіі Чэслава Сэнюха запрасіла шаноўная спадарыня прафэсар Альжбэта Смулкова прыехаць у Беласток ва ўнівэрсытэт на катэдру беларускай культуры, спаткацца з выкладчыкамі ды паразмаўляць пра беларускую гісторыю і маю фота-кніжку „Глёрыя Патрыя". Гэтая кніжка для мяне – мінулы час дваццацігадовай даўнасьці, хоць і вельмі дарагі.

Прыехалі мы са спадаром Чэславам Сэнюхам, хораша нас спаткалі, сардэчна пагаварылі, кава-гарбата, навокал добрыя людзі, шчырыя беларусы: Яўген Мірановіч – гісторык, аўтар выдатных кніжак, Алег Латышонак, Віталь Луба, выкладчыкі, журналісты.

Вярнуўся я ў Варшаву і праз нейкі час чытаю ў беластоцкай *„Ніве"* артыкул *(13 траўня 2001 г.);* піша сімпатычны Яўген Мірановіч:

*„Чытаючы і прагледзеючы кніжку Зянона Пазьняка „Глёрыя Патрыя".., можна зразумець, чаму аўтару не пашанцавала ў палітычнай дзейнасьці... Ня веру, што посьпеху ў палітыцы можа дачакаць чалавек, які піша: „Мілая Радзіма, Ты – уся мая памяць. Усё, што бачыў і перажыў за жыцьцё, усё, што пра Цябе чуў і чытаў, і нават уяўляў – усё са мной. Ты такая вялікая і прыгожая перапоўніла маё сэрца і маю галаву..," – і далей, – „Глёрыя! Хвала! Хвала цьвітучаму дрэву! Хвала зямлі і людзям..."*

Потым робіцца заключэньне: *„Зьмест кніжкі паказвае, што Пазьняк зьяўляецца фанатыкам жыцьця* (якім толькі мяне „фанатыкам" ужо ні называлі) *і бліжэй яму па натуры да лідэра экалягічнага руху, чым правадыра народу, які стаіць на ростанях і ня ведае, у які бок павярнуць – да незалежнасьці ці каляніяльнага статусу."*

Далей сябра Мірановіч тлумачыць свае погляды, чаму ён так піша. Пазьняк, на яго думку, *„гаварыў тое, што думаў, а гэта не найлепшая прыкмета для палітыка. Посьпех у палітыцы,* – лічыць Яўген Мірановіч, – *забраніраваны цынікам, якія гатовыя здрадзіць найлепшаму сябру, ідэі, за якую толькі што выказваліся, зьнішчыць тысячы людзей, каб дамагчыся намечанай мэты... Узорам сучаснага палітыка, які, напэўна, ня піша вершаў, а малапраўдападобна, што іх калі-небудзь чытаў, зьяўляецца прэзыдэнт Польшчы Аляксандар Квасьнеўскі... Пазьняк разважае пра сьвет у катэгорыях маральнае – немаральнае, справядлівае – несправядлівае, хаця ў палітыцы няма месца на маральнасьць. Ведае пра гэта кожны гмінны чыноўнік, кожны павятовы радны і нават парафіяльны вікарны..."* і г.д.

Такія погляды, якія выказаў паважаны сябра Мірановіч, даволі пашыраныя і характэрныя для людзей, якія палітыкай не займаюцца, але, спажываючы інфармацыю пра палітыку, ствараюць пра яе сваё пэўнае ўяўленьне. Яны, як заўзятары на стадыёне, якія глядзяць і думаюць, што лепш разьбіраюцца ў футболе і лепей ведаюць, як трэба гуляць, чым самы футбалісты.

Справа ня ў тым, што працытаваныя погляды максімалісцкія, і таму памылковыя (хоць ёсьць у іх пэўная рацыя і доля праўды), справа ў тым, што гэта спрошчанае асэнсаваньне складаных рэчаў, адлюстраваньне распаўсюджанага цяпер правінцыялізму (гэта значыць, ацэнка шырокага – вузкім, вялікага – малымі меркамі, прымітывізацыя зьявы).

Аляксандар Квасьнеўскі не таму „сучасны палітык" і ёсьць прэзыдэнтам Польшчы, што ня піша вершаў ды іх не чытае (як мяркуе Яўген Мірановіч), і не таму, што ня кажа тое, што думае (тым больш, што ён думае, што кажа), а таму, што яго палітычныя погляды і дзеяньні адпавядаюць уяўленьням і настроям бальшыні палякаў. Гэта галоўнае. Акрамя таго, за ім стаіць вялікая і моцная арганізацыя, зь вялікімі ўплывамі, сродкамі і магчымасьцямі, здольная шырока данесьці пазыцыі Квасьнеўскага да людзей. У такім становішчы, для таго, каб стаць прэзыдэнтам, трэба адпавядаць сітуацыі і патрабаваньням.

Лукашэнка не таму стаў прэзыдэнтам Беларусі, што быццам бы казаў ня тое, што думаў, а таму, што якраз тое, што ён думаў і казаў (а я яго ведаю з 1990 г.), адпавядала пашыраным настроям і падтрымлівалася тады большасьцю савецкага насельніцтва, а КГБ як палітычная сіла, якая яго вяла, здолела гэта шырока данесьці да жыхароў Беларусі.

Выбары прэзыдэнта ў Польшчы, у Амэрыцы ды Эўропе – гэта выбар грамадзтвам унутранай арыентацыі палітыкі і разьмеркаваньня жыцьцёвых магчымасьцяў. Тым часам ***выбары прэзыдэнта ў Беларусі ёсьць выбар існаваньня незалежнай дзяржавы, выбар нацыянальнага лёсу: альбо Беларусь незалежная дзяржава, альбо частка Расеі. Так важыцца цяпер пытаньне пра ўладу ў Беларусі***.

Польскія і эўрапейскія крытэрыі палітыкі да Беларусі не падыходзяць. Ня той зьмест. Беларуская палітыка ня мераецца чужой „сучаснасьцю".

Змаганьне адбываецца паміж Масквой, якая поўнасьцю кантралюе беларускую ўладу, і нацыянальнымі незалежніцкімі сіламі Беларусі. Барацьба за ўладу ў Беларусі ёсьць выяўленьне і працяг антыкаляніяльнага канфлікту змаганьня за незалежнасьць.

Вырашальным чыньнікам у такога роду змаганьні ёсьць не сацыяльны *інтэрас*, а ***нацыянальная сьведамасьць людзей***. Вось той доўгатэрміновы капітал, які можа забясьпечыць перамогу ў антыкаляніяльнай барацьбе. Каб яго набыць, трэба сьведчыць ідэалы. Патрэбныя людзі, якія падымуць нацыянальны сьцяг і будуць казаць беларускую праўду (тое, што думаюць). Бяз гэтага дзеяньня нічога немагчыма дасягнуць, ніякай незалежнасьці і свабоды, ніякай падтрымкі на выбарах і ніякай улады. ***Нацыянальна сьведамая эліта павінна абапірацца на нацыянальна сьведамы электарат.***

Гэта галоўны прыярытэт беларускай палітыкі. Без яго – няма будучыні.

Пасьля Савецкага Саюзу на Беларусі засталося дэфармаванае грамадзтва, выхаванае ў антыбеларускім бяспамяцтве, у рускай савецкай школе і ў рускай савецкай арміі. Калі ў 1991 годзе *Беларускі Народны Фронт* скарыстаў грамадзкі інтэрас (скіраванасьць супраць КПСС і хвілёвы страх камуністаў пасьля правалу путчу ў Маскве) і праз парлямант (маючы там толькі 8% дэпутатаў) дамогся незалежнасьці Беларусі, то потым, калі зьнікла КПСС і іншыя грамадзкія раздражняльнікі, нясьпеласьць нацыянальнай кансалідацыі грамадзтва не дазволіла *Фронту* незваротна замацаваць незалежнасьць, і нават прайсьці ва ўладу.

Небясьпечна будаваць палітыку і балянсаваць толькі на інтарэсах, калі вырашаецца лёс народу. Інтарэсы – часовыя. Імі могуць скарыстацца чужыя антыбеларускія сілы. (Прэзыдэнцкія выбары ў 1994 годзе гэта добра праілюстравалі.) Трэба ствараць ***пастаяннае нацыянальнае апірышча ў народзе***, пашыраць нацыянальна-вызвольны грунт. А гэта працэс, які патрабуе часу і адкрытай палітыкі.

* * *

Шмат хто з тых, што гавораць пра палітыку, не задумваюцца, як гэта ў 1991 годзе малалікая фракцыя франтаўскіх дэпутатаў, на чале з „несучасным” палітыкам перамагла камуністычную бальшыню ў Вярхоўным Савеце, дамаглася незалежнасьці Беларусі, спыніла дзейнасьць КПСС і ЛКСМБ рукамі самых камуністаў. Якой трэба было валодаць палітычнай тактыкай, воляй, сьмеласьцю і рашучасьцю малой групе змагароў, каб перамагчы ў такіх абставінах. Назіральнікам збоку здаецца, што незалежнасьць „звалілася зь неба”. Хоць гэта было найцяжэйшае змаганьне і найвялікшая праца.

Я яшчэ не спаткаў чалавека з асяроддзя гаворачых пра палітыку, які б задумаўся, як гэта ў 1988-89 гадах, калі існаваў Савецкі Саюз, усясільныя КПСС і КГБ, можна было іх перамагчы і выйграць справу з Курапатамі. Ім здаецца, што гэта проста так сталася, само сабой. Тое, што змаганьне было адкрытым і гаварылася, што думалася (і што так трэба было), яны, як быццам, і не заўважылі.

Людзі ня могуць прааналізаваць таго, чаго яны ня ведаюць. Для іх добра, калі ўсё добра. А вось калі дрэнна, тады шмат хто пачынае „аналізаваць” ды ацэньваць гэтак, як яму здаецца.

Мушу нагадаць некалькі аксіёмаў. Нацыянальна-Вызвольная апазыцыя і палітыкі, якія, *апэлюючы да грамадзтва*, змагаюцца з амаральным рэжымам і дыктатурай, ня могуць быць цынічнымі і амаральнымі, ня могуць самы хлусіць. Інакш – паражэньне незваротнае, палітычны нябыт. Цынізм і ашуканства – зброя зусім іншых палітыкаў. Прыклады – адназначныя. Існуе падзел у палітыцы. Не разумець гэтага і ня бачыць – павярхоўнасьць. Гэта першы і галоўны парог, на якім скручвалі сабе шыю шмат якія палітычныя змагары.

Другое. Палітыка ня ёсьць заняткам ні „брудным”, ні „чыстым”. Палітыку робяць людзі. Таму яна такая, якой яе ствараюць палітыкі. Нячыстыя людзі, звычайна, робяць і брудную палітыку.

„Чыстасьць” і „нячыстасьць” у палітыцы ёсьць адлюстраваньне барацьбы маральных установак у грамадзтве. Ня больш. Адны ідуць у палітыку хлусіць і брудзіць, каб здабыць выгаду. Другія – шануюць годнасьць і йдуць, каб дамагчыся паляпшэньня грамадзтва. Гэта на іх сыкідваецца гразь палітычных цынікаў і нягоднікаў. Але гэта ня значыць, што нягоднікі заўсёды перамагаюць. (Калі перамагаюць, а калі – і не. Палітыка – змаганьне.)

Я залічваю сябе да другой групы палітыкаў і ведаю, што дасягнуць высокага нізкімі мэтадамі – немагчыма. А тое, што цябе могуць выпэцкаць ў палітыцы – нічога страшнага, бо „пан ведаў, на што йшоў”. У палітыцы ня толькі „пэцкаюць”, але й зьнішчаюць, і саджаюць у турму (за нішто), і выганяюць у эміграцыю. Цярпі, змагайся і перамагай. Галоўнае, каб сам ня выпэцкаўся.

Безумоўна, што Квасьнеўскі „сучасны палітык”. І Лукашэнка сучасны палітык, і Пуцін „сучасны”, і г.д. Але для мяне прыкладам „сучасных” зьяўляюцца ня гэтыя спадары, а вялікі Ян Павел II, Папа Рымскі, які праводзіць якраз дзейную маральную і сучасную палітыку.

Вядома, гэта – асаблівы прыклад, ілюстрацыя прынцыпу. Але і ў сьвецкай палітыцы, нават у такой руціннай, як эўрапейская, шмат адкрытых, прыстойных асобаў, якіх хоча бачыць у кіраўніцтве ўсялякае сучаснае грамадзтва.

* * *

Сябра Яўген Мірановіч працытаваў маю прадмову *„Мілая Радзіма...”*, прачытаў вершы, напісаныя ў тым жа стылі і, відаць, палічыў усю гэтую маю „любоў” прыкметай палітычнай і чалавечай слабасьці суб’екта, якому, з-за яе, *„цяжка рацыянальна думаць пра Радзіму”*.

Шчыра кажучы, я нават зьбянтэжаны. Гэтак неабдумана мог бы нехта сказаць, але толькі не чалавек такога ўзроўню, як Яўген Мірановіч.

Я, грэшны, думаю інакш. Тое, запаветнае, што нашу і нек выказаў у вершах, гэта тое, што трымае на паверхні ў любых абставінах, што дае сілы, моц і ўпэўненасьць перад любым непрыяцелем, гэта нязломная апора, на якую абапіраешся, калі чуеш тупат насарогаў, ці калі прэ, акружае цябе зграя гіен.

Падабаюцца мне развагі аднаго мудрага беларускага філёсафа жыцьця, якога вельмі шаную і люблю – Антона Шукелойця, – чалавека, які мае вялікі жыцьцёвы досьвед і выраблены палітычны гарт. Ён часта спасылаецца на вопыт беларускага Адраджэньня, які сьведчыць што ў палітыцы, калі справа стане рубам, – перамагае ідэёвасьць, вера ў ідэалы і сіла духу. Гэта ўтрымала нас, беларусаў, палітычна жывымі ў вельмі неспрыяльных, зьнішчальных для нас варунках XX-га стагоддзя.

Гэта стала асновай нашага новага Адраджэньня ў 80-х і 90-х гадах. Толькі сьветлая нацыянальная ідэя можа стаць грунтам велічы і росквіту Беларусі ў XXI-м стагоддзі. Набліжайма ж гэты час зь верай, упэўнена і працадайна, без пэсымізму і расчараваньняў.

*27 траўня 2001 г.*
*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №5(35); „Ніва”, – 2001, 17 чэрвеня).*



**132. Марка БНР.**

# СЛАВА СЛУЦКІМ ГЕРОЯМ!

***(Выступ на 80-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну)***

Беларускі Збройны Чын мае вялікае ідэйнае і духовае значэньне ў Беларускай гісторыі. 80 гадоў таму беларусы Случчыны паўсталі, каб бараніць незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі ад расейска-бальшавіцкай навалы. Гэта было агульнае рушэньне. Падняўся ўвесь народ. Імгненна сабралася войска дабраахвотнікаў, колькасьцю больш за 10 тысячаў чалавек. Не хапала зброі, не было амуніцыі і рыштунку, але беларусы гатовыя былі змагацца з расейскім ворагам за незалежнасьць Беларусі хоць голымі рукамі. Ніхто не жадаў быць пад расейска-бальшавіцкай уладай.

Вось гэты прыклад паводзінаў, гэтая гатовасьць змагацца за волю, за нацыянальны гонар і народную долю ёсьць надзвычай важным узорам для ўсіх нас цяпер, калі на Беларусі пануе прарасейская дыктатура, калі працягваецца ўнутраная акупацыя краіны і незалежнасьць Бацькаўшчыны пад пагрозай.

***Свабоду здабывае той народ, які здольны змагацца за незалежнасьць дзяржавы любымі сродкамі і ня лічыцца з сілай ворага***. З ворагамі, якія ломяцца ў наш дом, трэба ваяваць, хоць бы яны былі веліканамі, хоць бы іх была цьма. Нават птушка малая абараняе сваё гняздо ад вялізнага зьвера, нават мізэрныя пчолы бароняць свайго вульля.




***133. Ушанаваньне памяці Слуцкіх герояў.***

Гэтак змагаецца за сваю радзіму малалікі, але духоўна моцны чачэнскі народ. Ён годны павагі і ён пераможа.

Слуцкія змагары гэтак жа, як ***Тадэвуш Касьцюшка***, ***Кастусь Каліноўскі***, ***Міхал Валовіч***, ***Эмілія Плятар***, ***Францішак Багушэвіч***, далі нам прыклад змаганьня, паказалі ўзор паводзінаў беларуса, калі ў яго Бацькаўшыну лезе акупант.

*Слуцкі Збройны Чын* засьведчыў напад войскаў бальшавіцкай Расеі на *Беларускую Народную Рэспубліку*. Два Слуцкія палкі, аб'яднаныя ў Першую Беларускую Дывізію, баранілі *БНР* ад агрэсіі Расеі. *Гэта была вайна з рускім акупантам*.

Вось што заявіла Беларуская Рада Случчыны 21 лістапада 1920 году: „***У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьна за самастойнасьць і свабоду, Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону нашае Бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму сьвету аб тым, што Беларусь павінна быць вольнай, незалежнай рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і выражаючы волю народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы – нават сілаю аружжа. Ня гледзечы на лічбавую перавагу ворага, думаем, што наша справа – справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе.***”

У гэты ж самы час у сярэдзіне лістапада ў Мазыры генэрал ***Станіслаў Булак-Балаховіч*** пацьвярджае незалежнасьць *БНР* і аб'яўляе сваё пяцітысячнае войска войскам *Беларускай Народнай Рэспублікі*. У Мазыры быў створаны *Часовы Ўрад БНР* на чале з ***В. Адамовічам***. Войска *БНР* пачынае адбіваць напады бальшавікоў.

*Беларускую Народную Рэспубліку* ў яе абарончай вайне тады не падтрымалі ні Антанта, ні Нямеччына, ні Польшча. Эўропа тады прадала Беларусь гэтак жа, як цяпер прадала Чачэнію. У сьнежні войска генэрала *Булак-Балаховіча* і *Слуцкія палкі* вымушаныя былі адыйсьці перад мільённай расейска-бальшавіцкай ардой у акупацыйную зону палякаў і раззброіцца.

Але на гэтым вайна ня скончылася. Асобныя беларускія атрады ваявалі з акупантамі на Случчыне яшчэ некалькі гадоў.

***Мір паміж БНР і савецкай Расеяй ня быў заключаны***. Фармальна-юрыдычна Беларусь па сёньняшні дзень знаходзіцца з Расеяй у стане вайны. І мы бачым, як вось ужо больш за 80 гадоў доўжыцца гэтая вайна. Мы ведаем, як расейцы, разам зь немцамі, вынішчылі і забілі мільёны беларусаў.

Чаго нам не хапае цяпер, каб перамагчы ў вайне з Расеяй, якая цягнецца, фактычна, палову нашай гісторыі? Нам не стае ***нацыянальнай салідарнасьці***.

Памятайма: ***беларус беларуса павінен падтрымліваць***. *Мы мусім абараняць свой свайго, беларус беларуса перад чужакамі, незалежна ад таго, бедны беларус, ці багаты, разумны, ці неразумны, добры, ці дрэнны. Нельга, каб беларус прадаваў беларуса*. Нельга дапускацца, каб нас судзілі акупанты. Мы самы сабе суддзі.

Нельга казаць, што наша хата з краю, у той час, калі топчуць нашага брата, бо не павінен маскаль пляваць нам у твар.

*Слуцкі Збройны Чын* засьведчыў нам жывы прыклад беларускай салідарнасьці ў змаганьні за свабоду Беларусі. Дык мацуйма ж нашае беларускае адзінства!

Надыходзіць адказная пара. Непрыяцелі Беларусі з Усходу і Захаду хочуць умацаваць свае інтарэсы ў Беларусі. Яны зноў хочуць ашукаць беларусаў і будуюць пляны, каб замяніць Лукашэнку на іншага прамаскоўскага стаўленьніка – „дэмакрата”, які за капейку прадасьць Беларусь у Расею. Дамаўляючыся зь немцамі і эўрапейскімі лібэраламі, расейцы выкарыстоўваюць прадажных дэмакратаў у Беларусі, падбіраюць ім „адзінага кандыдата” на прэзыдэнта, на якога прымерваюць свайго чалавека.

Трэба спыніць гэтую здраду.

*26 лістапада 2000 г.*
*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2000, №7(30).*

# ФІЗІЧНАЕ ЗЬНІШЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

Гісторыя разьвіцьця эўрапейскіх народаў паказвае, што на працягу стагоддзя кожны народ пры больш-менш звычайных (сярэдніх) умовах існаваньня (гэта значыць, улічваючы вайны і моры) павялічваў колькасьць свайго насельніцтва ў два разы.

Вучоныя падлічылі, што ў сярэдзіне XVII стагоддзя беларускае насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім складала блізу 3,4 – 3,5 мільёнаў чалавек. На сярэдзіну XVIII-га яно павінна б было павялічыцца да 7 мільёнаў; адпаведна ў сярэдзіне XIX-га – да 14-ці; у сярэдзіне XX-га – да 28-мі , і на пачатак XXI-га стагоддзя мы павінны б налічваць 42 мільёны беларусаў.

Калі дапусьціць магчымасьць нейкіх выключных зьбегаў абставінаў, то беларусаў магло быць цяпер і 50 мільёнаў, і 35 мільёнаў, але ня менш за 30 мільёнаў чалавек. Тым часам нас у Рэспубліцы Беларусь 10 мільёнаў, і гэтая колькасьць не павялічылася на працягу апошніх 50-ці гадоў.

Тэрыторыя цяперашняй Рэспублікі Беларусь амаль у сем разоў большая за плошчу Бэльгіі, але колькасьць насельніцтва аднолькавая, што ў Бэльгіі, што ў Беларусі. Ці, напрыклад, тэрыторыя цяперашняй Беларусі толькі на 19 адсоткаў меншая за плошчу Вялікабрытаніі, але насельніцтва ў 6 разоў меншае. Тэрыторыя Украіны амаль у тры разы большая за плошчу цяперашняй Беларусі, але насельніцтва больш у 5 разоў і г.д.

У сярэднім поясе Эўропы такога анамальнага стану, як у Беларусі, не назіраецца ні ў адной краіне.

Трэба, праўда, улічыць, што ў сярэдзіне XVII стагоддзя у Вялікім Княстве знаходзіліся ўсе беларускія этнічныя землі: і Смаленшчына, і Дзьвіншчына, і Севершчына, і Віленшчына, і Падляшша. Тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г. разам з гэтымі землямі дасягала блізу 400 тысячаў квадратных кілёмэтраў. Гэта значна больш, чым плошча такіх цяперашніх краінаў, як Італія, Польшча, Вялікабрытанія. Розныя дасьледчыкі і палітыкі (прымаючы пад увагу ваенны час, уцекачоў, вымушаную міграцыю) налічвалі на тэрыторыі *БНР* ад 14 да 17 мільёнаў жыхароў. Цяпер, праз 80 гадоў, на гэтай тэрыторыі таксама пражывае каля 14,5 мільёна людзей. Колькасьць аўтахтонных беларусаў за межамі Рэспублікі Беларусь за гэты час зьменшылася. Балянс павелічэньня беларускага насельніцтва практычна ўсюды аднолькавы – мінусовы.

За 70 гадоў знаходжаньня ў складзе савецкай Расеі Смаленскі край быў вынішчаны дазваньня і стаў падобным на астатнюю Расею. Вобласьць абязьлюдзела. Насельніцтва ў некаторых раёнах Смаленшчыны зьменшылася ў 10 разоў, урадлівыя землі пазарасталі хмызьняком і мохам.

Цяпер на Смаленшчыне, як і раней, няма ніводнай беларускай школы, ніводнай беларускай газэты ці часопіса, ні беларускага радыё, ні тэлебачаньня. Задушана ўсё.

Беларуская мова ў асноўным засталася ў смаленскіх вёсках ды ў фальклёры.

У Смаленшчыне заўсёды быў даволі высокі ўзровень беларускай сьведамасьці. Бальшавікі, супрацьпастаўляючыся *БНР*, нават БССР аб'яўлялі ў Смаленску. У 1930-х гадах урадам савецкай Беларусі былі падрыхтаваныя неабходныя дакументы па вяртаньні Смаленшчыны ў склад БССР. Аднак новая хваля сталінскіх рэпрэсіяў утапіла ў крыві ўсе гэтыя намеры.

* * *

Што ж гэта такое адбываецца з нашым народам і нашай супольнасьцю на працягу вось ужо больш чым 300 апошніх гадоў! Чаму такая вялікая гістарычная культура на ўсходзе Эўропы, як беларуская, занепадае, а насельніцтва зьмяншаецца? Чаму беларусы практычна выпалі з гістарычнага парадку дэмаграфічнага разьвіцьця?

18 сакавіка сёлета доктар Вітаўт Кіпель прачытаў у Нью-Ёрку рэфэрат з нагоды 83-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі. Ён выказаў дакладную, на мой погляд, думку аб тым, што галоўнай палітычнай звышзадачай пэрманэнтнай расейскай агрэсіі на Беларусь было не настолькі зьнішчэньне беларускай дзяржаўнасьці на заходняй мяжы Расеі, колькі ўвогуле фізічнае вынішчэньне беларускай нацыі. І пачалося ўсё мэтадычна, як лічыць В. Кіпель, менавіта з сярэдзіны XVII стагоддзя, ад часу, калі стала ўжо складвацца расейская імпэрыя. (Расея аб'явіла сябе імпэрыяй у 1721 г.)

Такой самай думкі прытрымліваліся некалі гісторыкі Міхась Ткачоў і Мікола Ермаловіч. Вывучэньнем гэтага пытаньня на раньнім этапе (XVII-е стагоддзе) займаецца гісторык Генадзь Сагановіч і іншыя дасьледчыкі.

* * *

У сярэдзіне XVII стагоддзя была страшная вайна паміж Расеяй і Вялікім Княствам, якая доўжылася з 1654 па 1667 год і закончылася перамогай беларусаў, але вынікі яе для нашай краіны, нягледзячы на перамогу, былі жахлівымі. Па-першае, расейцы на нашу зямлю напалі і вайна доўгія гады адбывалася на нашай тэрыторыі. Але нават ня ў гэтым сутнасьць. Расейцы, заняўшы беларускую тэрыторыю, ужывалі тактыку генацыду – татальнага вынішчэньня цывільнага насельніцтва. Палітыка выпаленай зямлі на часова акупаваных беларускіх землях была сплянаваная рускім царом Аляксеем Міхайлавічам і яго ваяводамі і праводзілася масава, мэтадычна і пасьлядоўна. Маскоўцы стварылі спэцыяльныя атрады, задача якіх заключалася ў тым, каб спальваць беларускія паселішчы і забіваць усіх людзей, вынішчаць усё жывое. Маскавіты арганізавалі прадуманае і пастаяннае людабойства на захопленых землях Беларусі і займаліся гэтым увесь час, пакуль, нарэшце, іх ня выгналі.

У выніку генацыду і ваенных дзеяньняў Беларусь, па падліках вучоных, страціла ад 51 да 53 адсоткаў насельніцтва. Маскоўцы забілі больш за 1 мільён 800 тысячаў цывільных беларусаў. Усходнія беларускія землі: Смаленшчына, Віцебшчына, Магілёўшчына, Гомельшчына – абязьлюдзелі. Там засталося жывых толькі 30 адсоткаў людзей.

З таго часу і да сёньняшняга дня не было больш страшнай народнай катастрофы, чым чалавечая катастрофа Беларусі ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Ні генацыд армянаў, ні галакост габрэяў немагчыма нават параўноўваць з тым, што адбывалася ў Беларусі тры з паловай стагоддзі таму.

Вобразна кажучы, з таго часу наш народ нібы падрэзалі. Было амаль поўнасьцю пазабіванае насельніцтва беларускіх гарадоў. (Ад 70 да 95 адсоткаў людзей загінула ў кожным горадзе.) Парушылася сацыяльная структура грамадзтва, зьніклі цэлыя пласты насельніцтва. Беларусь страціла бальшыню сваіх мяшчанаў, купцоў, рамесьнікаў, эліту гаспадарства. Апусьцелыя землі пазарасталі кустоўем, травой. Беларуская дзяржава і грамадзтва ўжо не змаглі падняцца, хутка аднавіць насельніцтва, маёмасьць, нерухомасьць, рамесную вытворчасьць, багацьце зямлі і людзей.



*134. Першая Сусьветная вайна. Расейцы, адступаючы, паляць беларускую вёску.*

Як археоляг я займаўся позьнім сярэднявеччам, якраз пэрыядам з XIV да XIX стагоддзя. Нас, дасьледчыкаў, усіх уражвала тая акалічнасьць, як выразна наша зямля адлюстравала катастрофу. Культурныя пласты XVI-XVII стагоддзяў найбольш багатыя і найбольш насычаныя вельмі разнастайным рэчавым матэрыялам высокага ўзроўню. Але вось пайшоў пласт XVIII стагоддзя. Відовішча ўражвае. Ён надзвычай бедны знаходкамі і пусты, намэнклятура і ўзровень знаходак абмежаваныя. І так па ўсёй Беларусі. Зямля зафіксавала катастрофу і рэгрэс матэрыяльнай культуры, заняпад гандлю, рамёстваў, узроўню жыцьця, зьмяншэньне колькасьці насельніцтва і зьбядненьне людзей.

У той жа час Расея, пры дапамозе немцаў, ператварылася ў імпэрыю і ўвесь час нарошчвала агрэсію. Зацяжная Паўночная вайна яшчэ больш пагоршыла становішча. Цяпер генацыд беларускага насельніцтва прадаўжаў шалёны рускі цар Пётра I. Наступная руская царыца немка Кацярына дамаглася ў канцы XVIII стагоддзя ліквідацыі беларускай дзяржавы і анэксіі Беларусі.

З гэтага часу, згодна расейскіх плянаў, гісторыя для беларусаў павінна была скончыцца, а народ – не існаваць. Быў зачынены ўнівэрсітэт у Вільні, ліквідаваныя базылянскія манастыры і школы, зьнішчана беларуская адукацыя і кнігадрук, ліквідаваная грэка-каталіцкая вера, забітыя і замучаныя тысячы вуніятаў, манахаў і сьвятароў, спаленыя беларускія кнігі, іконы і абразы. Потым – забароненая беларуская мова і назва Беларусь.

Адразу, ужо з канца XVIII стагоддзя, пачалі зьнішчаць беларускую архітэктуру ў гарадах і перарабляць гістарычную пляніроўку беларускіх гарадоў. Потым стварылі спэцыяльны „будаўнічы дэпартамант”, які займаўся разбурэньнем і перабудовай беларускіх цэркваў пад кананізаваны „рускі стыль”.

Па маіх падліках, да канца XIX стагоддзя гэты дэпартамант разбурыў і часткова перабудаваў пад рускую моду каля 2000 беларускіх храмаў.

Гэтак жа прадумана вынішчалі здольных людзей, асабліва адукаваную моладзь і шляхту, якую душылі пад відам змаганьня з крамолай. Пэрспэктыўных асобаў з сялянства звычайна забіралі ў рускае войска на 25 гадоў. У рускай вайсковай душагубцы зьніклі тысячы беларускіх талентаў і змагароў. Найбольш вядомая трагічная гісторыя з паэтам Паўлюком Багрымам, якога згнаілі ў расейскім войску, а рукапісы вершаў зьнішчылі. Застаўся адзін толькі выдатны верш, які, дарэчы, забясьпечыў Багрыму месца ў беларускай літаратуры.

* * *

У другой палове XIX стагоддзя рускія палітыкі, вучоныя ды пісьменьнікі істотна ўдакладнілі канцэпцыю вынішчэньня беларусаў. Галоўным яе зьвяном стала татальная русіфікацыя. „Руская школа зробіць больш, чым рускі штык”, – казалі яе прапагандысты (тыпу Карнілава). „Главное в русификации края – это чтобы научить белорусских мальчиков петь русские песни”, – пісаў у 1896 годзе ў „Биржевых ведомостях” нейкі адданы рускі патрыёт.

Усё, што не памяшчалася ў рамкі русіфікацыі і выходзіла за гэтыя рамкі, перасьледвалася, найбольш здольных – зьнішчалі.

Уражваюць катаваньні паэта Адама Гурыновіча за беларускія вершы. Засталіся нават астрожныя фатаграфіі, дзе яго, зьбітага, сфатаграфавалі як злачынцу.

Пачатак XX-га стагоддзя. Карусь Каганец, Алесь Гарун, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Якуб Колас, Алесь Бурбіс, дзясяткі лепшых – турма і катарга. Пасьля рускай турмы выжыў толькі Якуб Колас. Усе астатнія неўзабаве памерлі ад сухотаў.

1-я Сусьветная вайна. Беларусь страціла каля паўтара мільёна людзей. Вайна вялася не на рускай, а на беларускай тэрыторыі. Пры адступленьні рускія войскі ў абавязковым парадку спальвалі ўсё, што магло б дастацца немцам: збожжа на корані, усе харчовыя запасы, масты, забівалі жывёлу і г.д. Пачаўся голад. Для бальшыні беларускага насельніцтва была аб’яўлена абавязковая эвакуацыя. Шмат інтэлігентных беларусаў схапілі ў рускае войска, адкуль яны ўжо ў большасьці не вярнуліся.

А потым пачаўся бальшавізм, калектывізацыя, сталінізм, Курапаты, брэжнеўшчына ды псіхушкі. Вынік – каля 3-х мільёнаў забітых беларусаў, і сярод іх лепшыя, найбольш адукаваныя, актыўныя, таленавітыя і працавітыя людзі нацыі.

* * *

Тое, што зьнішчэньне Беларусі ўвесь час, пачынаючы з XVII стагоддзя, было галоўным рускім геапалітычным інтарэсам на захадзе, расейцы, фактычна, і не хавалі. (Ельцынская вялікадзяржаўная дактрына аднаўленьня расейскай імпэрыі, складзеная ў 1995 г., таксама пра гэта сьведчаць.)

У рускай заходняй палітыцы ўвесь час існуе ўнутраная ўстаноўка на фізічнае вынішчэньне беларускай нацыі. Становішча, якое склалася, патрабуе спэцыяльнага аналізу, каб выразна высьветліць гэтае ***калектыўнае злачынства цэ-***



*135. Радыяцыйная зона на Гомельшчыне. Тут жылі беларусы.*

***лых пакаленьняў рускіх палітыкаў, учыненае над беларусамі***. Ненавісныя адносіны да нас, беларусаў, з боку расейскай дзяржавы, асабліва добра відаць, калі нішчыцелі адыходзяць ад прынцыпу выбранасьці і пачынаюць масавае забойства простых людзей – цывільных беларусаў, гэтак жа, як у сярэдзіне XVII стагоддзя.

Звычайна ў такіх выпадках выкарыстоўваецца вайна, альбо нейкія надзвычайныя абставіны, якія часам штучна ствараюцца (як у 30-х гадах). Чым, напрыклад, можна растлумачыць той факт, што калі ў 1944 годзе (пасьля заняцьця Беларусі савецкімі войскамі) моц беларускіх хлопцаў мабілізавалі ў савецкую армію і амаль без абучэньня адразу накіравалі на перадавую? Іх гналі бяз зброі ў непатрэбныя атакі пад нямецкія кулямёты. Альбо зь вінтоўкамі, ды без патронаў. А калі тыя, што выжывалі пад нямецкімі кулямі, уцякалі назад – іх сустракаў кулямётны агонь энкавэдзісцкіх „заградотрядов”. Я ўжо не кажу, што „заградотряды” стралялі таксама і ў плечы.

Так былі расстраляныя тысячы беларусаў. Рускія выкарыстоўвалі вайну, і нават франтавыя баі, з мэтай генацыду беларускай нацыі. Не па немцах ім абходзіла ў першую чаргу страляць, а разам зь немцамі – па беларусах. І не прыдзярэшся: маўляў, загінулі ў баі зь нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Я ўжо ня буду тут гаварыць пра так званых „савецкіх партызанаў” і іхныя дачыненьні да беларусаў у час вайны. Гэта асобная размова. Вядома, як у асяроддзі самых партызанаў энкавэдзісты вынішчалі беларускіх камандзіраў, як правакавалі нямецкія спаленьні беларускіх вёсак, як рабавалі і мардавалі беларускае насельніцтва.

* * *

Вернемся ў 30-я гады. Я ўжо не аднойчы пісаў раней, што сталінскі генацыд на Беларусі меў асаблівы характар. Беларускае насельніцтва вынішчалі плянава. Усім савецкім адміністрацыйным і партыйным кіраўнікам спускалі разнарадку на квартал выявіць адпаведную колькасьць „ворагаў народу”. Разнарадка спускалася на кожную беларускую вёску і на кожнае прадпрыемства. Кожнае міністэрства мела свой аддзел па ГУЛАГу.

Разнарадкі выконваліся. Кожную ноч каціліся па беларускіх вуліцах і вёсках чорныя энкавэдзісцкія буды-машыны і загружаліся ахвярамі.

У памежжы з польскай акупацыйнай зонай савецкім памежнікам давалі вінтоўку і рыдлёўку. Калі такі памежнік сустракаў у бязьлюдным месцы беларуса ці беларуску, ён павінен быў чалавека застрэліць і сам рыдлёўкай закапаць труп. Сяляне вельмі баяліся, каб не спаткаць ваеннага з рыдлёўкай. (Усё гэта ўжо было надрукавана ў беларускім друку ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, але неяк нібы і не ўскалыхнула цяперашніх людзей.)

Сітуацыя з памежнай зонай і нават кампанія з „ворагамі народа” падаваліся нібы працяг становішча вайны і выкарыстоўваліся як маніпуляцыі для зьнішчэньня людзей.

Але зьмест камуністычнага генацыду ня толькі ў яго заплянаванасьці. Вынішчаліся, перш за ўсё, разумныя, працавітыя, адукаваныя, прыстойныя, паважаныя, актыўныя, здаровыя, таленавітыя людзі, эліта народу, інтэлект нацыі. Так былі амаль поўнасьцю зьнішчаныя беларускія вучоныя і пісьменьнікі, палітыкі і грамадзкія дзеячы, мастакі і настаўнікі, адміністратары і гаспадары, нават камуністычны беларускі партыйны апарат.

Гэтая палітыка тлела пасьля вайны. Пазачынялі беларускія школы. Выхаласьцілі літаратуру і мастацтва. Выгналі беларускую мову з афіцыйнага ўжытку. Над скошаным пакаленьнем легіёны наглядчыкаў сачылі, каб нічога не паднялося, каб нічога ня вырасла беларускага.

У 1986 годзе выбухнула Чарнобыльская катастрофа.

* * *

Мы бачым, як беларуская трагедыя Чарнобыля знарок расцягваецца ў часе – гэта ёсьць выкарыстаньне ўмоваў экалягічнай катастрофы дзеля генацыду беларускага насельніцтва.

Беларусы змагаюцца на ўсіх узроўнях, але зададзенасьць вынішчальнай тэндэнцыі з боку рэжыму Лукашэнкі відавочная.

*„Ідзе вялікая Чарнобыльская вайна,* – піша Уладзімер Старчанка. – ***Для беларусаў чарнобыльская навала па сваіх дэмаграфічных наступствах значна пераўзыходзіць Другую Сусьветную вайну****, калі загінуў кожны трэці беларус. Але яшчэ страшней тое, што мы ня ведаем, на колькі большую за вайну шкоду гэтая катастрофа нам прынясе ў пэрспэктыве.” („Ніва”, – 2001, 29 красавіка)*

Страшны „ёдны ўдар” у першы тыдзень пасьля аварыі, які накрыў мільёны беларусаў, поўнасьцю справакавала Масква і яе камуністычная каляніяльная адміністрацыя ў Беларусі. У выніку засакрэчаньня катастрофы і маштабаў яе радыяцыйнай небясьпекі, беларуская нацыя атрымала велізарную калектыўную дозу радыяцыйнага абпраменьваньня.

У 1986-87 гг. камуністычна-дзяржаўнай медыцынай, па падказцы зьверху, было вынішчана, шляхам забіцьця плоду, цэлае пака-

леньне беларусаў. (Прымушалі жанчын рабіць аборты ў сувязі з чарнобыльскай пагрозай.) Гэта было абсалютна неапраўдана ні зь медыцынскага, ні з маральнага, ні зь якога іншага гледзішча. Потым, прадаўжаючы медыцынскі генацыд, распрацавалі злавесную палітыку па спыненьні нараджальнасьці беларусаў і забіцьцю чалавечага зародка ва ўлоньні жанчыны.

„*Сёньня з кожных трох зачатых беларусаў*, – піша Ўладзімер Старчанка, – *двух забіваюць у жываце маці! Фактычна, некалькі пакаленьняў беларусаў у літаральным сэнсе былі спушчаныя ў бальнічны ўнітаз. Гэта нябачны ў сьвеце і ганебны факт... Гітлеру такое і ня сьнілася.*”

І сапраўды, ня сьнілася. У Беларусі, дзе зьмяншаецца насельніцтва, практыкуюць стэрэлізацыю жанчынаў. Жанчыны горада Барысава засьведчылі, што ім, адразу ж пасьля народзінаў дзяцей, лекары жаночай кансультацыі ***ўльтыматыўна*** прапаноўвалі ў якасьці кантрацэптываў карыстаць так званую „унутрыматачную сьпіраль” або іншыя сродкі прадухіленьня цяжарнасьці. Калі ж парадзіхі адмаўляліся гэта рабіць, ім „мэдыкі” не выдавалі дакуманты дзеля атрыманьня належнай у такіх выпадках грашовай дапамогі на немаўлят.

Барысаўчанка ***Ірына Сільніцкая*** (маці двух дзяцей, меншаму – 9 месяцаў) сьведчыць: „*Сказалі: пакуль не паставіш сьпіраль,*



(Фота Ул. Кармілкіна)

***136. Чарнобыльскі шлях у Менску.***

*ніякай дапамогі табе ня будзе. Дапамогі я так і не атрымала, бо сьпіраль я ставіць не захацела... Грошай катастрафічна не хапае*”. *(„Беларускія Ведамасьці”, – 2000, №4(27), с.13)*

Аналягічныя гісторыі распавялі барысаўчанкі ***Галіна Раскоша***, ***Алеся Ясюк***, ***Ларыса Грэбнева*** ды іншыя.

У жаночай кансультацыі горада Барысава загадчыца гінекалягічнага аддзяленьня Тамара Барысавец патлумачыла, што такі „парадак” вызначае пастанова Саўміна БССР, прынятая летам 1991 г. Загадчыца паведаміла таксама, што іхняя „кансультацыя” праводзіць ***стэрэлізацыю шматдзетных маці***, каб пазьбегнуць, маўляў, нараджэньня хворых дзяцей і росту „асацыяльных” сем’яў. *(„Беларускія Ведамасьці”, – 2000, №4(27), с.13)*

15-га чэрвеня мінулага году супраць гінекалягічнага генацыду адкрыта выступілі барысаўскія жанчыны і мужчыны. Група асобаў арганізавала пікет. Усіх арыштавалі і судзілі.

У выніку масавага забойства зародкаў людзей, а таксама з прычыны хваробаў, выкліканых радыяцыяй, беларуская нацыя раптам пачала хутка выміраць. Вымірае ўжо ў сярэднім сто тысячаў беларусаў у год. ***Калі беларуская супольнасьць ня здолее пазбавіцца ад агрэсіі расейскага каляніялізму і ня выправіць становішча з Чарнобылем, то ў XXI стагоддзі не застанецца ніводнага беларуса. Увесь народ вымардуюць і вымараць у пень, да апошняга чалавека***.

Я ўжо пісаў ня раз пра тое, як вынішчыўшы беларускую нацыянальную эліту і абапіраючыся на прамаскоўскую каляніяльную адміністрацыю ў Беларусі, расейскае КГБ у сярэдзіне 90-х гадоў палітычным мэтадам ажыцьцявіла захоп беларускай улады знутры. Адбылася ўнутраная акупацыя. Зараз падрыхтоўваецца захоп нацыянальнай маёмасьці Беларусі пад выглядам прыватызацыі і адначасна ажыцьцяўляецца акупацыя беларускай тэрыторыі.

Тыя забруджаныя радыёактыўнымі рэчывамі землі на Гомельшчыне і Магілёўшчыне, зь якіх прымусова выселілі беларусаў, цяпер інтэнсіўна засяляюць крымінальнікамі, наркаманамі, „бамжамі”, рускімі адкідамі грамадзтва з Расеі, Сібіры, краінаў Сярэдняй Азіі і Каўказу. Гэтыя адлучаныя ад нашых людзей тэрыторыі ўжо не пустуюць. Там ствараецца руская крымінальная зона з сваім самакіраваньнем, непісанымі законамі і фінансамі (ад перавалу наркотыкаў). Каляніяльныя ўлады Беларусі даюць ім від на жыхарства, і нават грамадзянства. Так адбываецца калянізацыя беларускай чарнобыльскай тэрыторыі Расеяй.

Гэта тыповая і гістарычная расейская палітыка. На замацаваньне здабытых тэрыторыяў кідалі (высялялі, выганялі, заахвочвалі) крымінальнікаў, бандытаў, тацяў, авантурыстаў ды валацуг. Імі, перш за ўсё, засяляліся падбітыя землі каля Каўказу, на Поўдні ды ў Сібіры, зь іх фармаваліся банды Ермака ды Сьценькі Разіна, ды „вольнае казацтва”. Гэтак аднаўлялася новая імпэрыя Чынгіз-Хана.

Тое самае робіцца цяпер у сучасным варыянце. Расея, за кошт чарнобыльскай Беларусі, вырашае свае праблемы перанасычанасьці крымінальнікамі, уцекачамі зь мясьцінаў, дзе яна вядзе брудныя войны, бамжамі, апушчанымі людзьмі, абрабаванымі рускім крымінальным „капіталізмам”. Расея ськідвае іх у чарнобыльскую Беларусь і адначасна займае расчышчаную ад беларусаў тэрыторыю. Пры патрэбе, там апынецца і зброя, і неабходныя людзі, і падымецца прапагандысцкі лямант („рускіх абіжают”).

Акупацыя беларускай зямлі расейскай крымінальшчынай адбываецца на вачах тысячаў беларусаў, сагнаных з радзімы. Гэта ў іхных, ужо зарослых быльлём, родных хатах бадзяжны паселены гун...

Ці разумее хоць беларуская інтэлектуальная маса, ці разумеюць вярхі грамадзтва сэнс гісторыі, што рухаецца перад імі?.. Ці хочуць яны жыць, ці жадаюць яны шчасьця дзецям?

Старчанка разумее. Ён піша: „*Фактычна на працягу 15 постчарнобыльскіх гадоў супраць беларусаў каляніяльнымі ўладамі вядзецца неабвешчаная прыхаваная вайна, мэта якой –* ***зьнішчэньне беларускага народа, вызваленьне жыцьцёвай прасторы і засяленьне яе прышлымі элемэнтамі****. Дзеля гэтага не выкарыстоўваюцца, як у ранейшыя часы, самалёты, танкі, агнястрэльная зброя, газавыя камэры і не будуюцца „асьвенцымы”.*

*Хаця і пачалася яна ўвесну 1986 года якраз з таго, што савецкія ваенныя самалёты асаджалі радыяцыйныя аблокі на Гомельшчыну і Магілёўшчыну.*

*У век інфармацыйных і палітычных тэхналёгіяў у гэтым няма патрэбы. Асабліва, калі гаворка ідзе пра зьнішчэньне зрусіфікаванага за 200 гадоў каляніяльнага існаваньня „братняга" беларускага народу, якому нож пад сэрца можна засунуць, гледзячы проста ў вочы і гаворачы пяшчотныя словы пра вечную любоў і інтэграцыю. Нашыя даверлівыя людзі ўсяроўна пярэчыць ня будуць." („Ніва",– 2001, 29 красавіка)*

Аўтар прыходзіць да высновы, што трэба **„паўстаць на абарону сваіх дзяцей, бо іншага ня дадзена!"**.

* * *

Чарнобыль – гэта бясспрэчны факт злачынства, учынены над беларускай нацыяй. Злачынства ад самага пачатку цынічна разыгрывалася на нашых вачах.

Па сваіх наступствах, якія ўжо ёсьць, і асабліва якія яшчэ наступяць, чарнобыльскі генацыд можна параўнаць толькі з людабойствам сярэдзіны XVII стагоддзя, з калектывізацыяй і бальшавіцкім тэрорам 30-х гадоў. Чарнобыль страшны тым, што наступствы яго разьвіваюцца на працягу пакаленьняў, разбуральна дзейнічаюць і нарастаюць, як лавіна ў гарах. 50 мільёнаў кюры, што адпавядае 500-м атамным хірасімскім бомбам, абрынулі на наш народ у 1986 годзе. Гэты ўсяленскі выбух, запаволены ў часе, – прадаўжаецца.

Адносіны цяперашняга рэжыму да чарнобыльскага пытаньня дакладна ўкладваюцца ў рамкі канцэпцыі вынішчэньня беларусаў з выкарыстаньнем сітуацыі. (У дадзеным выпадку – ядзернай катастрофы.)

У прынцыпе, па маіх назіраньнях, рэжым Лукашэнкі ў цэлым падрыхтаваны да правядзеньня масавых рэпрэсіяў беларускай эліты. Рабіць гэта будуць, вядома, не беларусы, а хутчэй за ўсё, рускія часткі „спэцназу". Сістэма ўжо створаная і доступ расейскіх ваенных у беларускія ўнутраныя войскі адчынены. Практычныя навыкі адпрацоўваюцца на чачэнцах у Ічкерыі.

Пакуль што ў Беларусі зьнішчаюць толькі актыўных людзей, якія, на думку тых, хто гэтым кіруе, могуць нейкім чынам пагражаць уладзе. Пры стварэньні адпаведных умоваў, якімі зьяўляюцца перш за ўсё анэксія Беларусі, уключэньне яе ў склад Расеі і ліквідацыя дзяржаўнасьці, махавік бандыцкай палітычнай машыны сучаснага рускага кагэбізму запрацуе на ўсю моц. У гэтым можна не сумнявацца. Беларуская нацыя тады будзе фізічна вынішчаная. Арсэналу прыёмаў у расейцаў хапае. (Мы бачым, што яны робяць ў Чачэніі.)

* * *

Раздумляючы над сказаным, зноў і зноў вяртаюся ва ўяўленьнях у XVII-е стагоддзе, бо адтуль усё пачалося. Надлом здарыўся менавіта тады, калі раптоўна, за кароткі час, Беларусь страціла больш за палову сваіх жыхароў і апусьцела зямля.

Калі разглядаць народ як адзіны арганізм, то магчыма, што для кожнай супольнасьці ёсьць нейкая парогавая мяжа людзкіх стратаў, перакрочыўшы якую, народ ужо ня можа ўзьняцца і нібы застывае ў разьвіцьці ў вечным цярпеньні і змаганьні самога з сабой. Непрыяцелям застаецца толькі мэтадычна зьнішчаць эліту паралізаванага грамадзтва і валодаць яго душой.

Уражвае, што вялікі народ вялікай краіны, якая распрасьціралася ад мора да мора, стаў аб'ектам генацыду; выйграў вайну, але страціў насельніцтва і ўпаў.




***137. Гомельшчына. Ціхі чарнобыльскі генацыд.***

І не даюць падняцца гэтаму народу. Як толькі ён выкарабкваецца, каб стаць на ногі, яго тут жа зноў сьпіхваюць у яму.

Беларускі сьвет так і не знайшоў спосабу эфэктыўнай барацьбы з варварствам. А гэта мусіў бы быць актыўны спосаб. Бо ***нельга ваяваць толькі на сваёй тэрыторыі***.

* * *

Які выхад, як збавіцца ад вынішчэньня? Вснова відавочная. Цяперашняе пакаленьне беларусаў, і асабліва тое, якое ўступае зараз у актыўнае жыцьцё, ***павінны перагледзець дачыненьні з Расеяй*** і тыя адносіны да яе, якія былі накінутыя нам за часы акупацыі і савецкага каляніялізму. Расею нельга дапускаць у беларускую палітыку. Нельга мець ніякіх агульных справаў з Расеяй, ніякіх саюзаў і карпарацыяў ды сумесных прадпрыемстваў. Трэба захоўваць зь ёй мірныя дачыненьні праз добрую мяжу. Неабходна будзе, магчыма, на даўжэйшы час, абмежаваць да мінімуму (5-10 адсоткаў) гандаль з Расеяй, каб аберагчы беларускую палітыку, эканоміку і фінансавую сістэму ад расейскіх разбуральных уплываў, дэфолтаў, інфляцыі, палітычных і эканамічных авантураў.

Неабходна спыніць штучна створаную і нявыгадную нам энэргетычную прывязанасьць да рэсурсаў Расеі; ліквідаваць наступ рускай маскультуры і сістэму дэзінфармацыі ў электронным інфармацыйным полі Беларусі. Трэба паставіць заслон палітычнай агрэсіі з боку Расеі на Беларусь.

Цяперашнія беларусы мусяць, нарэшце, зразумець: ніколі ў гісторыі Расея не была нашым сябрам і прыхільнікам, ня ёсьць цяпер і ніколі ня будзе ў будучыні, пакуль застанецца імпэрыяй. Спрачацца можна з сябрамі. Зь непрыяцелямі трэба трымацца на

адлегласьці і захоўваць карэктныя дачыненьні. Гэта называецца – мірнае суіснаваньне.

***Усялякае збліжэньне з Расеяй было і будзе небясьпечным і разбуральным для беларусаў. Бо варожасьць з боку Расеі і расейцаў да беларускай дзяржаўнасьці, свабоды і незалежнасьці – пэрманэнтная.*** Цяперашняя руская палітыка зноў, і як заўсёды, гэта наглядна пацьвярджае.

Ня гледзечы ні на якія перамены ўлады ў Крамлі, Расея застанецца ўвесь час агрэсіўнай у дачыненьні да Беларусі і іншых краінаў да таго часу, ***пакуль яна будзе існаваць як імпэрыя*** і захоўваць канглямэрат каляніяльных народаў. Рускія ня могуць стаць свабодным народам, уціскаючы і душачы іншыя народы і кажучы (як у Чачэніі), што ўсюды „іхняя зямля". Брудная вайна і людабойства, якое праводзіць Расея ў Ічкерыі, выклікае агіду да рускай палітыкі.

Маючы суседам агрэсіўную імпэрыю на ўсходзе, цяперашнія і будучыя беларускія палітычныя дзеячы мусяць будуць заўсёды праводзіць актыўную міжнародную дзейнасьць, калі ўсьвядомяць толькі, пры якіх умовах можа бясьпечна існаваць Беларусь. *Карфаген павінен быць разбураны*. Павінны быць спыненыя гэты вечны агрэсіўны паход на Захад і зьнішчэньне Беларусі, што доўжацца стагоддзямі.


(Фота: „Свабода")

***138. Хлопчык.***

* * *

Дзеля таго, каб выжыць і зьберагчы нацыю, беларусам неабходна першачаргова вырашыць дзьве задачы: ***канчаткова збавіцца ад расейскага каляніялізму і ліквідаваць наступствы Чарнобылю***. Адно з другім спалучанае. Без спыненьня каляніяльнай палітыкі Расеі ў Беларусі, без умацаваньня незалежнай Беларускай дзяржавы, беларускага права і свабоды, пазьбегнуць вынішчэньня і ліквідаваць Чарнобыльскую вайну немагчыма.

У 1988 годзе, зыходзячы зь неабходнасьці вырашэньня гэтых дзьвюх галоўных задачаў, паўстаў, аб'яднаны нацыянальнай ідэяй, *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"*.

Тое, што ўдалося падняць *Фронту*, выклікае павагу і зьдзіўленьне у тых, хто разумее маштабы вынішчэньня нацыі. Але спыніць расейскую каляніяльную агрэсію і перамагчы ў Чарнобыльскай вайне, калі змагаецца толькі актыўная частка змагароў, – цяжка. Гэта задача ўсяго беларускага грамадзтва.

*18 сакавіка - 29 красавіка 2001 г. Нью-Ёрк, Варшава.*

*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №6(36); „Народная Воля", – 2001, 18 ліпеня).*

# ВЯЛІКІ КУПАЛА

Як добра мець такога паэта, вуснамі якога прамаўляла вольная Беларусь! Гэта магутны талент і дар Божы для беларусаў, на ўсе часы.

Янка Купала ідэйна і эстэтычна засьведчыў сьпеласьць беларускай нацыянальнай літаратуры, адлюстраваў у творчасьці лёс нацыі на тым этапе яе існаваньня, выявіў беларускую нацыянальную ідэю ў эстэтычнай форме і нацыянальныя каштоўнасьці – у вобразах мастацкай красы.

Чым жа нязьменны і чым дарагі нам зараз, цяпер, наш вялікі нацыянальны паэт? Ён дарагі нам любовяй да Беларусі, да яе волі і незалежнасьці. Ягоная любоў, выяўленая ў мастацкай форме, гэта ня ёсьць хараство суб'ектыўнага замілаваньня, кшталту: „Люблю мой край, старонку гэту". Ягоная любоў ёсьць адлюстраваньне ўнівэрсальнасьці сьветабудовы і парадку рэчаў, які прадвызначае паставу і паводзіны чалавека. Бо нельга быць несвабодным. Нельга быць нявольнікам – і спадзявацца на шчасьце. Нават дабрабыту нявольныя людзі ня мецьмуць, бо колькі б яны ні працавалі, вынікі іхняе працы забяруць калянізатары, тыя, ад каго залежныя нявольнікі, тыя, хто валодае іхняй краінай.

Памятаючы Купалу, глянем цяпер на гэтых, што абяцаюць народу „сто" ці „трыста" даляраў зарплаты, дакляруюць рынкавую гаспадарку, багацьце ды кажуць: галоўнае – эканоміка, а не свабода, ня мова, ня сьцяг і ня Бог.

„Чаго хочаш?" – спыталі б такога. „Хачу – дабрабыт." „Ня будзеш яго мець. Бо, каб стаць заможным, трэба быць незалежным!"

Вось дзе найвялікшая каштоўнасьць і найвялікшая праўда Беларускага Адраджэньня! *„Гэта бітва йдзе сусьветна між сьвятлом і апраметнай!"* – пісаў Янка Купала.

Шчасьце людзей недасягальнае бяз вольнай будучыні ўсіх, без незалежнасьці Бацькаўшчыны. Будаваць нацыянальную будучыню трэба пачынаць зь вялікай ідэі, з Храма, а не з хлява.

„На Вялікі Сход! Па Бацькаўшчыну!" – клікаў Купала. „На прастор!", „На бітву, будучыя сілы!"

Купала, маючы Боскі талент, казаў праўду наўпрост, гучна, голасна і магутна. Гэта рабіла яго вялікім і моцным. І нават сьмяротныя ворагі, гэтае выпарэньне пекла, – рускія бальшавікі – баяліся Купалы і, ненавідзячы, дваццаць гадоў не рашаліся яго забіць. (Пакуль не заманілі паэта ў Маскву.)

*„Паўстань з народа нашага, прарок, і ў буры гром удар, пад звон кайдан!"*

Гэтак пісаў і марыў Янка Купала. Ён якраз і быў тым найвялікшым прарокам і песьняром Беларускага Адраджэньня, які сказаў аб галоўным:

„Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў – на свабоду,
Зваў з цемры – да сьвятла".

Ідэйная пазыцыя і творчасьць Янкі Купалы ёсьць ідэальны прыклад, узор паставы і думаньня для беларусаў, якім неабыякавы лёс Беларусі, якія марацы пра шчасьце Айчыны.

Гэта такая зьява, што пакуль будзе існаваць Беларусь, пакуль будзем мы на Зямлі, дагэтуль будзе вялікім – Купала. Ён – Вялікі Наш. Ён – частка нашай Будучыні.

Няхай жа памяць пра нашага генія станецца вечнай! Няхай творчасьць ягоная лучыцца з нашым змаганьнем. Хай веецца сьцягам і ўспаможа нам – у свабодзе.

*7 ліпеня 2002 г., Варшава-Менск.*

# АМЭРЫКА — ДЛЯ АМЭРЫКАНЦАЎ

Не шукайма сьляды нашых продкаў, а шукайма тое, што шукалі яны. Так казалі некалі мудрыя людзі.

Нашы продкі шукалі шчасьця, велічы і свабоды. Гэта было найвялікшае шуканьне, бо яму ахвяраваліся, за яго змагаліся і рызыкавалі жыцьцём. Такое змаганьне мае асаблівы сэнс, калі пад пагрозай знаходзіцца лёс народа, ці калі незалежнасьць яго страчана. Тады рушэньне рана ці позна набывае грамадзкую шырыню і выяўляецца ў форме нацыянальна-вызвольнага руху. Нацыянальна-вызвольны рух меў усеагульны характар. Ён узьнікаў там, дзе існавалі імпэрыі. ***Вызвольны рух – гэта заўсёды канцэпцыя змаганьня з імпэрыяй за свабоду і незалежнасьць***.

У Эўропе працэс вызваленьня з-пад імпэрскіх путаў найбольш інтэнсіўна адбываўся ў другой палове XIX і пачатку XX стагоддзяў, калі мноства народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы адваявалі сваю незалежнасьць.

Тады ў Эўропе змагаліся супраць чатырох імпэрыяў: Турэцкай Атаманскай імпэрыі, Аўстра-Венгерскай, Прусіі і Расеі. Але найперш, яшчэ ў XVIII стагоддзі пачала трашчэць Брытанская каляніяльная марская імпэрыя.

Першымі супраць брытанскага панаваньня паўсталі амэрыканцы. У той час наш вялікі беларус і герой гэнэрал Андрэй Тадэвуш Касьцюшка змагаўся за свабоду Амэрыкі. У цэнтры Вашынгтону яму стаіць бронзавы помнік на ўвесь рост.

Амэрыканцы першымі выявілі сутнасьць і формулу антыкаляніяльнага змаганьня за неэалежнасьць. Яна вызначаецца ў закліку і сьцьвярджэньні: ***„АМЭРЫКА – ДЛЯ АМЭРЫКАНЦАЎ!"***.

У гэтых словах выяўлены ўнівэрсальны зьмест дэкалянізацыі і нацыянальна-вызвольнай барацьбы, дзе б яна ні адбывалася. Калі грамадзтва не наблізілася да зьместу і разуменьня гэтага сцьвярджэньня, значыць яно яшчэ цалкам не пасьпела да вызвольнага змаганьня.

І сапраўды, чаму краіна, зямля, на якой спрадвеку жыве і працуе пэўны народ, павінна належыць нейкай іншай краіне, чаму нейкія іншыя павінны ў ёй распараджацца і карыстацца зь яе багацьцяў ды з працы яе народу? Гэта ж парушэньне прыроднага і Боскага права. Гаспадар на зямлі той народ, які асвоіў і акультурыў яе сваёй працай, розумам і духам ад самага пачатку і спрадвеку, які стварыў на ёй культурнае грамадзтва цягам перадачы вынікаў працы ад продкаў з пакаленьня ў пакаленьне і прадаўжае на ёй жыць, тварыць і працаваць.

Эўрапейскія пасяленцы ступілі на амэрыканскі мацярык як піянэры і як калянізатары і адначасна самы апынуліся ў каляніяльнай залежнасьці ад мэтраполіяў. Яны сутыкаюцца з індзейцамі, што там жылі на пэўных тэрыторыях і адначасна займалі незаселеныя першародныя землі, якія абкультурылі і пераўтварылі сваёй працай, стварылі на іх цывілізаванае грамадзтва.

Барацьба за незалежнасьць ад мэтраполіяў вынікала з натуральнага права, а знакаміты і клясычны лёзунг вызвольных змагароў – „Амэрыка – для амэрыканцаў!" – адлюстроўваў гэтае права.

Потым, змагаючыся за незалежнасьць супраць імпэрыялізму, кожны народ выкарыстоўваў гэтае права ў сваім закліку і ў сваёй форме: „Мадзьяршчына (Венгрыя) – для мадзьяраў", „Балгарыя – для балгараў", „Італія – для італьянцаў", „Беларусь – для беларусаў" і г.д.

Беларускія адраджэнцы пачатку XX-га стагоддзя выдатна разумелі гэтую ідэю. Лёзунг „Беларусь – для беларусаў" быў сінонімам сцьвярджэньня „Незалежная Беларусь".

На грунце гэтай вялікай ідэі ў 1918 годзе была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка, прадэклараваны дэмакратыя і свабода.

У 1920-х гадах вялікі паэт і прарок беларускага адраджэньня Янка Купала па-мастацку выявіў і адлюстраваў вызвольны лёзунг незалежнасьці і свабоды ў выдатным творы – п'есе „Тутэйшыя". У п'есе ў надзвычай яркай і вобразнай форме паказана, як чужынцы, імпэрыялісты ўсіх колераў, акупанты з усходу і з захаду топчуцца па безабароннай Беларусі, абдзіраюць і зьневажаюць беларускі народ, ды даказваюць яшчэ сваё прыдуманае „права" на акупацыю Беларусі. І тады станоўчы герой твора напрасткі грымотна зьвяртаецца да ўсіх з магутным і справядлівым заклікам беларускага Адраджэньня: „Беларусь – для беларусаў!".

Янка Купала ў словах свайго станоўчага героя таксама выводзіць генэзіс ***нацыянальна-вызвольнай ідэі*** з натуральнага права і кліча ісьці ўсьлед за Амэрыкай па шляху незалежнасьці і свабоды.

Калі мы хочам спыніць акупантаў і гандаль нашай зямлёй, калі мы хочам сапраўды адрадзіць сваю дзяржаву і незалежнасьць, калі мы сапраўды цэнім свой гонар і хочам быць вольнымі людзьмі і гаспадарамі, – мы мусім паставіць заслон усялякай акупацыі, каляніялізму і чужой імпэрскай палітыцы і напісаць на сваім сьцягу выразна і запаветна: „Беларусь – для беларусаў".

Так казаў вуснамі сваіх драматычных герояў Янка Купала.

Для калянізатараў з усходу і з захаду, якія праводзілі інтэграцыю, асіміляцыю ды вынарадаваньне беларусаў, усьведамленьне беларусамі вызвольнай мэты – „Беларусь – для беларусаў" – было цьвіком у труну ўсёй захопніцкай палітыкі. На гэтым шансы акупантаў канчаліся. Няма нічога дзіўнага, што п'еса Янкі Купалы была забароненая.

У 20-х – 30-х гадах мінулага стагоддзя ворагі Беларусі з Усходу і з Захаду галоўны ўдар накіравалі на разгром Беларускага Нацыянальна-вызвольнага Руху. Сумеснымі намаганьнямі ім гэта ўдалося. Тысячы беларускіх адраджэнцаў былі расстраляныя ў Курапатах ды засьценках НКВД, забітыя падасланымі забойцамі, укінутыя ў ГУЛАГ ды Картуз-Бярозу, высланыя ў Сібір ды азіяцкія стэпы; беларускія палітычныя і грамадзкія арганізацыі пазачынялі і забаранілі, беларускі адраджэнскі друк ліквідавалі, беларускія кнігі спалілі ды арыштавалі ў спэцаддзелах бібліятэк. А потым, ужо ў пасьляваенны час, адбывалася мэтадычнае ганьбаваньне і абплёўваньне ўсяго адраджэнскага беларускага – вялікіх людзей, палітыкаў, пісьменьнікаў і паэтаў; фальсіфікавалі беларускую гісторыю, перакручвалі і замоўчвалі падзеі, зьнеслаўлялі вялікія і справядлівыя ідэі.

Тры зьявы Беларускага Адраджэньня выклікалі асаблівую нянавісьць у рускіх бальшавікоў – гэта дзейнасьць Рады БНР, беларускае адраджэньне ў час 2-й Сусьветнай вайны за немцамі і вызвольны лёзунг „Беларусь – для беларусаў".

У зьнеслаўленьні гэтых каштоўнасьцяў бальшавіцкая прапаганда выкарыстоўвала толькі адзін псіхалягічны аспэкт: падсьведамасьць нянавісьці Другой Сусьветнай вайны.

Усё нацыянальнае беларускае, што завязана было з нацыянальнай ідэяй і беларускім адраджэньнем, аб'яўлялася фашысцкім: ці гэта беларускі нацыянальны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг*, ці гэрб *Пагоня*, ці імёны забароненых вялікіх паэтаў, нават проста размова па-беларуску ва ўнівэрсытэце ці ва ўстанове – усё кваліфікавалася стукачамі, савецкімі абывацелямі і прапагандыстамі як „фашызм". Беларускае падавалі ў двух азначэньнях: альбо „мужыцкае", альбо – „фашызм".

Руская камуністычная прапаганда ў Беларусі паўтарала гэтыя, скажам проста – ідыёцкія ярлыкі, з дня ў дзень, тупа, ненавісна і пастаянна, пакуль існаваў СССР.

Палітычная формула нацыянальна-вызвольнага руху „Беларусь – для беларусаў" перакручвалася пад савецкія ідэалягічныя ўяўленьні. За часы камуністычнага СССР ідэалёгіяй рускага імпэрыялізму і русіфікацыі быў так званы „інтэрнацыяналізм", згодна якога нібыта сьціраліся адрозьненьні паміж акупаванымі народамі ды расейцамі і ствараўся так званы „адзіны савецкі народ" (гэта значыць „адзіныя расейцы"). Палітычны лёзунг нацыянальнай свабоды камуністы апускалі на этнічны ўзровень і тлумачылі, што беларускія „нацыяналісты" (а, значыцца, – „фашысты") хочуць выгнаць зь Беларусі ўсіх расейцаў, усіх габрэяў, усіх, хто не беларусы, і стварыць этнічна чыстую дзяржаву.

Тым часам ***палітычны зьмест лёзунга вызвольнага руху мае антыкаляніяльны сэнс і вырашае пытаньне, каму павінна належыць краіна і хто ў ёй гаспадар***, а ня тое, хто ў ёй павінен жыць (як спэцыяльна перакручвалі калянізатары).

Злавеснае адценьне набывае подласьць гэтай прапаганды, калі ўлічыць, што этнічныя чысткі і генацыд ажыцьцяўлялі якраз камуністы ў Савецкім Саюзе (прымусовае высяленьне татараў, чачэнцаў, інгушоў і інш.), у былой Югаславіі, у камуністычнай Польшчы (прымусовае высяленьне ўкраінцаў), у камуністычнай Балгарыі (дачыненьні да турак) і г.д. Я ўжо не кажу пра Кітай і азіяцкія рэжымы.

Тым часам нічога падобнага не рабілі дэмакраты і нацыянальна-вызвольныя рухі. У іх іншая, не таталітарная прырода.

Але трэба ведаць камунізм і Расею, каб зразумець характар іхняе прапаганды, пабудаванай на агрэсіўнай хлусьні.

Рэцыдывы гэтай прапагандысцкай агрэсіі мы сустракаем і цяпер. Нічога дзіўнага – існуюць пастаянныя крыніцы рэпрадукцыі старой нянавісьці да беларускага адраджэньня – гэта савецкая псіхалёгія часткі насельніцтва і – галоўнае – нязьменнасьць імпэрскай палітыкі Расеі ў дачыненьні да Беларусі.

Нягледзячы на маштабныя спробы расейскіх спэцслужбаў у канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя разграміць Беларускі нацыянальна-вызвольны рух, нічога ім не ўдалося. Вызвольны Рух мацнее і пашыраецца. Ён зьяўляецца рэальнай сілай, якая выяўляе нацыянальныя інтарэсы Беларускага Народу і супроцьстаіць расейскай імпэрскай палітыцы інтэграцыі і захопу нашай краіны.

На сьцягах і харугвах беларускага Адраджэньня несьмяротныя словы Янкі Купалы –"Жыве Беларусь!" і лёзунг амэрыканскага змаганьня за незалежнасьць, які зноў жа голасна падняў наш вялікі пясьняр – ***„БЕЛАРУСЬ – ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ!"***. Гэта ***наша*** зямля.

І пакуль зьмест гэтых словаў трымае высока і змагаецца за яго хоць частка людзей, ніякі антыбеларускі рэжым ня будзе існаваць доўга. Ніякі агрэсар ня будзе ўпэўнены, што стане жыць за наш кошт і намі, беларусамі, кіраваць. Мы абавязкова вернемся да нармальнага стану, умацуем дзяржаву і незалежнасьць, усталюем права, справядлівасьць і дэмакратыю.

Гэта ня марныя словы, бо гісторыя і вопыт іншых пацьвярджаюць правільнасьць вызвольнага шляху. Ствараць можа толькі свабодны народ. І толькі свабодны народ здольны шанаваць свабоду іншых народаў.

*22 лютага 2001 г., Нью-Ёрк.*
*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №3(33); „Народная Воля", – 2001, 14 сакавіка).*

# ІДЭАЛЫ БНР НАМ СЬВЕЦЯЦЬ

***(З выступу ў Нью-Ёрку)***

*Акт 25 Сакавіка* зьяўляецца найвялікшай падзеяй беларускай гісторыі XX-га стагоддзя.

Галоўная мэта сацыяльна-палітычнага разьвіцьця кожнага народа – стварэньне сваёй незалежнай дзяржавы.

Беларусы мелі сваю дзяржаву ўжо 1000 гадоў таму. Але ў канцы XVIII стагоддзя мы сталі ахвярамі змовы трох імпэрыяў і страцілі суверэнітэт. Потым, на працягу XIX стагоддзя, беларусы пяць разоў паўставалі разам з палякамі, каб вярнуць незалежнасьць. Незалежнасьць удалося вярнуць толькі ў 1918 годзе, але ненадоўга. Тым ня менш агонь свабоды быў запалены. І гэта быў вялікі подзьвіг беларускіх адраджэнцаў.

Потым, калі ўжо адбылася расейска-бальшавіцкая акупацыя, бальшавікі, каб зрабіць няважнымі *Акт 25 Сакавіка* і існаваньне *РАДЫ БНР*, арганізавалі марыянэткавае адміністрацыйна-дзяржаўнае ўтварэньне пад назвай БССР.

На працягу 25 гадоў бальшавікам разам з палякамі ўдалося разграміць беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух і фізічна зьнішчыць тысячы палітычна актыўных беларусаў.

Але беларускія адраджэнцы стварылі моцную палітычную эміграцыю, захавалі і актывізавалі дзейнасьць *РАДЫ БНР*.

Гэта быў другі подзьвіг беларускіх адраджэнцаў. Усе спробы бальшавіцкай агентуры разбурыць палітычныя структуры беларускай эміграцыі і зьнішчыць *РАДУ БНР* – праваліліся.

Дзеячы *Рады БНР* зьберагді высокія *ідэалы 25 Сакавіка* і перадалі іх пакаленьням на Бацькаўшчыне. Яны захавалі ідэі, дакументы, цягласьць незалежнай беларускай дэмакратычнай улады і нашы сьвятыя нацыянальныя сымвалы – *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *гэрб „Пагоню”*.

У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя *ідэалы Сакавіка* і сымвалы беларускай незалежнасьці падхапіў Беларускі Народны Фронт. 25 жніўня 1991 года, скарыстаўшы гвалтоўны правал кагэбоўскага путчу ў Маскве, дэпутаты Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце вельмі малымі сіламі (8 адсоткаў дэпутатаў), але пры падтрымцы ўсяго Вызвольнага Руху, дамагліся прыняцьця канстытуцыйнага закону аб незалежнасьці Беларусі, спынілі дзейнасьць КПСС і камсамолу на тэрыторыіі Беларусі, прымусіўшы прагаласаваць за гэта спалоханых, разгубленых і дэмаралізаваных дэпутатаў-камуністаў – 86 адсоткаў „дэпутацкага корпусу” (дарэчы, кіруючую намэнклятуру). Гэта быў трэці ўнікальны подзьвіг беларускіх адраджэнцаў у XX стагоддзі.




***139. Гэрб БНР.***

Потым усё нібы пачалося па другім крузе, як у першай палове XX-га стагоддзя. Зноў маскоўская акупацыя Беларусі, толькі ўжо знутры, праз прэзыдэнта-стаўленьніка і старыя каляніяльныя структуры ўлады. Зноў усё робіць арганізаваная расейская партыя палітычнай агрэсіі. Толькі цяпер гэта не расейскія камуністы, а расейскія кагэбісты, не ВКПБ, а КГБ.

Пасьля захопу ўлады ў Беларусі расейцы зноў, як у 20-х і 30-х гадах мінулага стагоддзя, паспрабавалі першым чынам зьнішчыць Беларускі Нацыянальна-Вызвольны адраджэнцкі рух. Галоўны ўдар быў скіраваны супраць Беларускага Народнага Фронту. Але ім не ўдалося нас ліквідаваць, нягледзячы на дапамогу нямецкай дыпляматыі і розных заходніх фондаў.

*Беларускі Народны Фронт* дзейнічае і будзе дзейнічаць; умацавалася ягоная палітычная *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ*.

Цяпер настрой у беларусаў пераменьваецца. Лукашэнка ня мае падтрымкі бальшыні ў беларускім грамадзтве.

Сёлета антыбеларускі рэжым рыхтуецца правесьці прэзыдэнцкія выбары. У гэтым становішчы ён, каб ацалець, можа спадзявацца толькі на ашуканства і сілу. Тым часам Масква можа спадзявацца толькі на ашуканства і замену Лукашэнкі на іншага маскоўскага стаўленьніка. Калі не атрымаецца, то будзе імкнуцца пакінуць Лукашэнку.

Але што б ні здарылася, як бы ні разьвіваліся падзеі і колькі б Захад ні дапамагаў Расеі, ***нішто ўжо ня зьнішчыць і не стрымае беларускай незалежнасьці***.

Мы выступаем супраць расейскай агрэсіўнай палітыкі, дзе б яна ні адбывалася: у Беларусі, у Грузіі ці ў Чачэніі. ***Мы ня хочам мець ніякіх агульных справаў, ніякіх саюзаў і ніякіх агульных інтарэсаў з Расеяй як краінай небясьпечнай, крымінальнай і агрэсіўнай***.

Наша нацыянальная будучыня, да якой мы імкнемся, – гэта вольная, незалежная, дэмакратычная і справядлівая Беларусь у сфэры эўрапейскіх дачыненьняў і эўрапейскай цывілізацыі.

Мы ўдзячныя амэрыканцам за падтрымку беларусаў у справе абароны правоў чалавека ў Беларусі, але мусім заявіць зьмест аднаго з галоўных лёзунгаў Беларускага Вызвольнага Руху: ***„Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае „правоў чалавека” пад акупацыяй”***.

Наша канцэпцыя палітыкі палягае на ідэалах БНР і дае магчымасьць адразу вырашыць шэраг праблемаў людзей.

Гэтая канцэпцыя – незалежнасьць і свабода Беларусі. Гэта Беларуская дзяржава і Беларуская мова, Беларуская школа і Беларуская культура, Беларускія грошы і Беларуская эканоміка, Беларускае войска і Беларуская палітыка, Беларускае права і Беларуская дэмакратыя. Наша канцэпцыя – далей ад Расеі і бліжэй да ўсіх эўрапейскіх суседзяў.

*18 сакавіка 2001 г.*
*Нью-Ёрк.*

# З ЦЫКЛУ ВЫБАРЫ Ў БЕЛАРУСІ:

## ПЕРШАЕ, ШТО ТРЭБА ЗРАБІЦЬ, КАБ ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ СПРАВЯДЛІВЫЯ ВЫБАРЫ – ВЫДАЛІЦЬ ЗЬ БЕЛАРУСІ ВІКА

Першая рэальная, але няўдалая, спроба легітымізаваць рэжым Лукашэнкі адбылася ў кастрычніку 2000 г. на выбарах у „палату". Шлях да гэтай падзеі з боку Масквы і нямецкай дыпляматыі быў доўгі, але мэтанакіраваны. Тут выявілася рэакцыя на дэклярацыю *V-га Зьезду (1997 г.) Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"* аб стварэньні *Беларускага Вызвольнага Руху* супраць нэакаляніяльнай палітыкі Расеі ў Беларусі.

У сувязі з лістападаўскім пераваротам ў 1996 годзе, „антылукашэнкаўская апазыцыя" мусіла разваліцца. Яна была часовым супрацоўніцтвам розных антылукашэнкаўскіх сілаў (ад фронтаўцаў да прамаскоўскіх „дэмакратаў" і камуністаў), пагрунтаваным на канкрэтнай мэце – імпічманце Лукашэнкі. Са зьнікненьнем магчымасьці імпічманту разбурыўся грунт для канкрэтнага злучэньня інтарэсаў і апазыцыйнага аб'яднаньня супрацьлеглых поглядаў. Рэальнымі ж засталіся вялікадзяржаўная палітыка Расеі і асноўны каляніяльны канфлікт паміж сіламі расейскага імпэрыялізму і сіламі беларускай незалежнасьці.

Пра гэтае становішча і пэрспэктывы я пісаў у перадзьездаўскім артыкуле *„Вызвольны Рух" (газэта „Свабода", 1997 г.)* і казаў на Зьездзе. Неабходна было скарыстаць сітуацыю ўздыму і арганізаваць яе ў вызвольнае адраджэнцкае рушэньне. Дзеля гэтага былі распачатыя акцыі ***„Грамадзянства БНР"***, ***„Адстаўка"***, пазьней – збор подпісаў ***„За незалежнасьць"***, ***„Беларуская Салідарнасьць"*** і інш. Справы паварочваліся так, што расейскія каляніяльныя сілы на Беларусі маглі быць проста зьмецеными з палітычнай сцэны.

Контрадзеяньні супраць беларусаў былі на гэты раз прадуманымі і канцэптуальнымі. Увосень узьнікла закамуфляваная агентурная ініцыятыва – „Хартыя-97", якую рухалі праз журналістаў і дыпляматыю. „Хартыю" плянавалі супроцьставіць *Беларускаму Вызвольнаму Руху* і *Фронту*. Гэтая ідэя не была да канца ажыцьцёўленая (па пэўных прычынах) і пазьней „Хартыя" ператварылася ў асяродак „перавалу" рэсурсаў з Захаду і мэтанакіраванай (выробленай) прапагандысцкай інфармацыі (накіраванай, у істоце сваёй, супраць *Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху*).

У гэты ж час у якасьці кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менск прыязджае былы нямецкі амбасадар у Маскве і потым былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны **Ганс-Георг Вік**. Вік выступіў ініцыятарам захаваньня старой антылукашэнкаўскай апазыцыі на новай аснове. Ён прапанаваў так званы „перамоўны працэс" з рэжымам улады, ідэю „круглага стала" і ўдзел апазыцыі ў парляманцкіх выбарах на падставе дамоўленасьці (кампрамісу) з Лукашэнкам.

Менавіта Вік спрычыніўся да стварэньня, на падставе гэтых прапановаў, так званай „аб'яднанай апазыцыі" і завёў справу беларускага змаганьня ў сьляпы завулак.

Ганс Вік і іншыя нямецкія „дыпляматы" пераконвалі палітыкаў на Захадзе, што рэжым Лукашэнкі можна „палепшыць", што яго быццам бы можна „дэмакратызаваць". Прызнаньне таго, што рэжым Лукашэнкі „палепшыўся", давала б магчымасьць пэўным заходнім зацікаўленым колам, зьвязаным зь нямецкімі палітычнымі (эканамічнымі, фінансавымі) інтарэсамі, прызнаць гэты рэжым і заплюшчыць вочы на „інтэграцыйную" палітыку Расеі па анэксіі Беларусі.

Нямецкі геапалітычны інтэрас накіраваны, перш за ўсё, на Польшчу. І ў гэтым пляне пэўныя колы нямецкай палітыкі глядзяць на Беларусь як на разьменную манэту ў геапалітычных гешэфтах з Расеяй. Ні для расейскага, ні для нямецкага капіталу (Рургаз з Газпромам і г.д.) непатрэбная незалежная беларуская транзітная тэрыторыя і расходы, зь ёй зьвязаныя. (Ня кажам ужо пра стратэгічныя фактары.) Нямецка-расейскія інтарэсы тут супадаюць, як супадалі сотні гадоў.

Ганс Вік, валодаючы ўплывам на разьмеркаваньне заходніх сродкаў сярод створанай ім „аб'яднанай апазыцыі", мае дачыненьне да спробы разбурэньня *Беларускага Народнага Фронту* – адзінай сілы ў Беларусі, якая здольная супрацьстаяць усёй гэтай нямецка-рускай нэакаляніяльнай палітыцы.

У цэлым, атака на *Фронт* пацярпела фіяска. Але, тым ня менш, прыхільнікам сорасаўскай дэмакратыі ўдалося адкалоць вялікую групу фронтаўцаў, якая, таксама пад назвай „БНФ" арганізавана ўвайшла ў сістэму „аб'яднанай апазыцыі".

У кастрычніку 2000 г., у час „выбараў" ў „палату", вікаўская палітыка легалізацыі рэжыму набывае рэальныя формы. Меркавалася, вядучы двайную гульню, з аднаго боку, падтрымаць няўдзел апазыцыі у выбарах, з другога – уцягнуць партыі „аб'яднанай апазыцыі" ў выбары, прызнаць іх дэмакратычнымі і легалізаваць „палату".

З гэтага нічога не атрымалася па некалькіх прычынах. Па-першае, Лукашэнка не пайшоў ні на якія, нават мінімальныя, саступкі. Выбары сапраўды былі па-варварску недэмакратычнымі. Па-другое, двурушныя дзеяньні Віка былі дрэнна падрыхтаванымі на беларускім і міжнародным узроўні. Па-трэцяе, „палітыка" Віка на так званых „перамовах" і „выбарах" пастаянна выкрывалася прадстаўнікамі *Народнага Фронту* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ*, якія запатрабавалі няўдзелу партыяў і насельніцтва ў выбарах і ўклалі потым велізарную працу ў рэалізацыю гэтай справы.

Нямецкія паплечнікі Віка, ня гледзячы на непасрэдны подкуп сябраў партыі „Народная Грамада" і іншых апазыцыйных „дэмакратаў", якім далі грошы за ўдзел у „выбарах" (па пяць тысячаў даляраў на згодніка), нічога ня здолелі перамяніць. Большыня беларусаў не галасавала. Выбары праваліліся, але рэжым Лукашэнкі груба сфальсіфікаваў вынікі галасаваньня, і АБСЭ не пайшло на рызыку, каб іх прызнаць. Легалізацыя рэжыму была адкладзеная на выбары прэзыдэнта ў 2001 годзе.

Да гэтага часу Ганс Вік (асабліва пасьля выказваньня ў Беластоку ў верасьні 2000 года пра сваю антыбеларускую палітыку ў рамках АБСЭ) страціў усялякую павагу ў беларусаў. Структуры *Беларускага Вызвольнага Руху* аб'явілі яго **пэрсонай нон-грата** і запатрабавалі ад міжнародных арганізацыяў і МЗС Нямеччыны адкліканьня Віка зь Беларусі.

У абарону Віка парадаксальным чынам заўсёды станавілася ўлада Лукашэнкі, арганізоўваючы паказныя пагрозы і быццам бы атаку на Віка (каб заблытаць грамадзкасьць і заглушыць патрабаваньні *Вызвольнага Руху*). Але рабленьне супольнай прамаскоўскай палітыкі рэжымам Лукашэнкі, Вікам і Масквой – відавочнае.

Эўрапейскія канфармісты ў міжнародных арганізацыях, „усьвядомленыя" за гэты час Вікам, нямецкай і рускай дыпляматыяй, далі выразна зразумець, што прэзыдэнцкія выбары на Беларусі яны схільныя прызнаць пры любых выніках (хіба што парушэньні

заканадаўства будуць вельмі скандальнымі). Ведаючы гэта, упэўнена пачуваецца Вік, дэманструе паказную ўпэўненасьць Лукашэнка, спакойна чуецца Масква, як па нотах, гуляюць сваю брыдкаю партыю пяць намэнклятурных кандыдатаў ад вікавай „аб'яднанай апазыцыі" і іншыя падстаўныя фігуры.

Некаторыя „апазыцыянеры-дэмакраты" зразумелі настрой спонсара і аддана працуюць у „патрэбным накірунку".

„Как „лукашисты", так и оппозиционеры, должны четко уяснить, – піша дэмакратычная спадарыня Т.Працька, – допустить нелегитимного, с точки зрения мирового сообщества, президента, нельзя."* *(Народная Воля, – 2001, 20 лютага)*

Камэнтары, як кажуць, непатрэбныя.

„Апазыцыянер-дэмакрат" Сяргей Калякін выказваецца ў рэчышчы палітыкі Віка зусім адкрыта.

„Они (гэта значыць, заходнія міжнародныя арганізацыі – З.П.) не против сегодня признать Палату представителей. Но они не знают, как это сделать.., идет постепенная смена позиции и, фактически, налаживаются отношения с государственной властью... Западные дипломаты пытаются объяснить власти: мы хотим вас признать, но вы хоть что-то сделайте, чтобы мы могли это сделать."** *(Белорусский рынок, – 2001, №21)*

Мушу зазначыць, што ўсё выглядае ня гэтак проста. Але такую сітуацыю адносінаў да рэжыму Лукашэнкі вось ужо гадамі стварае Ганс Вік і нямецкая дыпляматыя. Ім прыходзіцца часта выдаваць жаданае за рэальнае. Праўдападобнасьць няпэўнасьці надаюць дэмакратычныя балбатуны.

Тым ня менш, справа сур'ёзная. Устаноўка эўранемцаў зразумелая. Праўда, ня гледзячы на фінансавыя рычагі, наўрад ці здолее Вік і эўрапейскія канфармісты істотна ўплываць на паводзіны кантралёраў і назіральнікаў за галасаваньнем на выбарах. Акрамя таго, *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* і *Народны Фронт* ствараюць сваю сістэму назіральнікаў. Небясьпека, аднак, у тым, што, ня гледзячы на ўсе магчымыя факты парушэньняў выбарчага заканадаўства, прадстаўнікі міжнародных эўрапейскіх арганізацыяў, якіх „праінфармавалі" Ганс Вік і кампанія, могуць праігнараваць парушэньні і прызнаць выбары за законныя і дэмакратычныя.

Каб запабегчы пагаршэньню становішча і ня даць разьвівацца філісьцерскай авантуры эўраканфармістаў, **неабходна выдаліць зь Беларусі Віка**. Тое, што за гэтую пэрсону нон-грата трымаюцца як пэўныя палітыкі ў эўраструктурах, так і Масква (дзе Вік часта бывае), цяпер надта добра відаць.

Менавіта *Беларускаму Нацыянальна-Вызвольнаму Руху* зноў прыдзецца ўзяць на сябе важную задачу.

Выдаленьне з краіны асобы, якая пад шапкай міжнароднай праваабарончай арганізацыі займаецца дзейнасьцю, што супярэчыць нацыянальным інтарэсам Беларусі і не сумяшчальная з мэтамі гэтай арганізацыі, зьяўляецца неабходным прававым дзеяньнем. Трэба аздаравіць абставіны на выбарах у Беларусі і, нарэшце, спыніць маніпулятараў з Усходу і Захаду, якія, як бачым, даўно аб'ядналіся.

Калі Беларусь страсе з сябе гэтых „дабрадзеяў", што апанавалі яе, як камары, тады яна пойдзе хутка наперад, да справядлівага парадку, дабрабыту, спакою і сьветлай сваёй нацыянальнай будучыні.

*16 чэрвеня 2001 г.*
*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №6 (36)*

## СФАЛЬШАВАНЫЯ ВЫБАРЫ

Амаль тыдзень доўжыўся бессаромны спэктакль пад назвай „галасаваньне за прэзыдэнта". Скарыстаўшы палажэньне Закона аб магчымасьці папярэдняга галасаваньня для тых, хто ў дзень выбараў ня можа знаходзіцца па месцы жыхарства, улады рэжыму па загаду зьверху на працягу 5-ці дзён арганізоўвалі масавы і прымусовы прывоз („прыгон") выбаршчыкаў на выбарчыя ўчасткі для галасаваньня, з намаўленьнем галасаваць за Лукашэнку. Адначасна аб'язджалі хаты і вёскі са скрынямі для галасаваньня.




***140. Як выбралі, так і жывём.***

Кантраляваць такія „выбары" не далі магчымасьці (ды й вельмі цяжка). Скрыні на ноч заставаліся, як правіла, у кабінэтах мясцовых начальнікаў, альбо ў выбарчых камісіях. Кантралёры за галасаваньнем ня ведалі і не маглі ведаць, што адбываецца са скрынямі па начах.

У выніку ў некаторых раёнах пачалося „сацспаборніцтва" рэжымнай намэнклятуры за высокія паказчыкі папярэдняга галасаваньня. Дзе-ні-дзе паказчыкі дасягнулі 50-55 адсоткаў папя-

---

* „Як „лукашысты", гэтак і апазыцыянеры, павінны выразна ўсьвядоміць: дапусьціць нелегітымнага, з пункту гледжаньня сусьветнай супольнасьці, прэзыдэнта нельга." *(з рус.)*

** „Яны ня супраць сёньня прызнаць Палату прадстаўнікоў. Але яны ня ведаюць, як гэта зрабіць.., адбываецца паступовая зьмена пазыцыі і, фактычна, наладжваюцца адносіны з дзяржаўнай уладай... Заходнія дыпляматы спрабуюць растлумачыць уладзе: мы хочам вас прызнаць, але вы хоць што-небудзь зрабеце, каб мы маглі гэта зрабіць." *(з рус.)*

рэдне прагаласаваных. (Некаторым п'яніцам давалі нават выпіць гарэлкі, каб прагаласаваў, „як трэба”.)

Калі 9-га верасьня пачалося нармальнае галасаваньне, то выбары былі ўжо папярэдне зроблены на карысьць Лукашэнкі. Тым ня менш ў гэты дзень фальсіфікацыі прадаўжаліся ў шырокім маштабе. На шмат якіх участках назіральнікаў увогуле не дапусьцілі да назіраньня. А тым, каго дапусьцілі, дазволілі назіраць толькі з адлегласьці 10 мэтраў, пры гэтым яны не павінны былі рухацца і ўставаць зь месца. Назіраць за падлікам галасоў кантралёраў увогуле не дапусьцілі.

Нават у гэтакіх умовах назіральнікі заўважылі мноства грубых парушэньняў, склалі сотні пратаколаў.

У Наваполацку назіральнікі зрабілі засаду на выбарчую камісію і злавілі іх у той момант, калі яны выносілі скрыню для галасаваньня, каб замяніць на іншую. У Гомельскай вобласьці „сацспаборніцтва” выбарчых камісіяў і „вертыкалі” дало рэкордны адсотак галасоў за Лукашэнку: ад 90 да 95 адсоткаў. Прытым, на некаторых участках, як заўважылі назіральнікі, бюлетэняў увогуле не лічылі і запісалі стопрацэнтовую колькасьць прагаласаваных. Гэтакага не было нават за саветамі. (Там спыняліся на 99,99 адсотку.)

У выбарчыя камісіі не былі ўключаныя назіральнікі ад партыяў і палітычных арганізацыяў. У камісіях сабралі выключна адну пралукашэнкавую прамаскоўскую масьць. Так што лічылі, як хацелі, і рабілі таксама, што хацелі.

У дзень выбараў была зроблена беспрэцэдэнтная дыверсія ўладаў. Поўнасьцю адключылі сувязь (тэлефоны, факсы, мабільныя тэлефоны, інтэрнэт, электронную пошту) у офісах партыяў, беларускіх і „дэмакратычных” арганізацыяў, выбарчых штабах, карпунктах рэдакцыяў газэтаў і радыё. Краіна беларусаў асьлепла і аглохла на цэлы дзень. Дзейнічала толькі сувязь у афіцыйных уладаў і ў выбарчых камісіях.


(Фота: „Свабода”)

***141. „Пятая калёна” Расеі – электарат Лукашэнкі.***

Гэты факт наглядна паказаў на ўзровень акупацыйнага кантролю КГБ над нашай краінай.

Ужо вечарам Лукашэнка з кампаніяй сьвяткавалі „чэсны” „выбар народу”. За Лукашэнку, аказваецца, прагаласавала 75,6 адсотка выбаршчыкаў.

Прадстаўнікі АБСЭ гаварылі блытаныя супярэчлівыя фразы пра „недэмакратычныя выбары” і... пра шкоду ізаляцыі рэжыму ў Беларусі. Але назаўтра, 10-га верасьня, Злучаныя Штаты Амэрыкі і краіны Эўрапейскага Зьвязу выразна выказаліся аб непрызнаньні прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі за справядлівыя.

Апазыцыйная намэнклятура і калябаруючыя зь ёй „дэмакраты” ды некаторыя былыя франтаўцы выглядалі нікчэмна і разгублена. „Несмотря ни на что, это победа демократии, потому что все мы объединились”,* – сказаў „адзіны” намэнклятурны кандыдат **У. Ганчарык**. „Ура-а-а-а”, – пачулася ў адказ сярод дэмакратаў на мітынгу дэмакратыі на Цэнтральнай плошчы ў Менску. (Сабралася каля тысячы чалавек.)

– У іх нешта не ў парадку з галавой, – сказаў мне адзін назіральнік выбарчага спэктаклю ў Беларусі. – Якая тут „победа демократии”?

Вялікі стратэг **Ганс Вік** сплянаваў усё, як у Нямеччыне: 14 тысячаў незалежных назіральнікаў павінны былі зрабіць паралельны падлік галасоў, каб выявіць фальсіфікацыю. Выбралі 500 выбарчых участкаў для паралельнага лічэньня. Згодна „стратэга”, прадстаўнікі назіральнікаў павінны былі пазнаёміцца на месцы з пратаколамі камісіяў і параўнаць з сваімі практыкаваньнямі. Але рэжым у Беларусі – гэта не Нямеччына. Тры тысячы падрыхтаваных назіральнікаў улады ўвогуле не зацьвердзілі і не акрэдытавалі. Астатніх – у сто камісіяў не дапусьцілі да назіраньня, іншым – адмовіліся паказваць пратаколы і якія-небудзь дакуманты. Акрамя таго, як я ўжо пісаў, – адключылі ўсялякую сувязь.

Нямецкая „стратэгія” тут жа развалілася. Аказваецца, намэнклятурная „апазыцыя” была абсалютна непадрыхтаваная да такога павароту справаў.

(Нядаўна ў Беларусі выйшла на расейскай мове арыгінальная кніжка *Яўгена Будзінаса „Дураки”*.)

Пасьля паўночы лідары і дарадцы апазыцыі намэнклятурных „дэмакратаў”забарыкадаваліся ў Палацы культуры савецкіх прафсаюзаў і задумаліся, што рабіць далей. „Цэнтр супраціўленьня рэжыму” ахоўвала некалькі дзясяткаў маладых хлапцоў. Але калі яны зажадалі, як і належыцца, вывесіць над „цэнтрам супраціўленьня” беларускі *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг*, то лідары „апазыцыі” тут жа зашыкалі, замахалі рукамі і – забаранілі. (Маўляў, каб пазьбегнуць правакацыі.)

„Дыскусіі былі малавыніковымі, – піша, пацяшаючыся, *„Gazeta Wyborcza” (11.09.2001г.)*

– А можа, надрукаваць нам крыху лістовак? Гэтакіх невялічкіх.., – прапанаваў ў канцы камуніст **С.Калякін**... Але аказалася, аднак, што няма нават паперы на лістоўкі.”

Пра ўзровень савецкай каляніяльнай намэнклятуры на Беларусі найлепш сьведчаць так званыя „царскія вёскі” вакол беларускіх гарадоў. У пачатку 90-х гадоў, выклікаўшы штучную гіперінфляцыю, камуністычная намэнклятура, маючы ўладу, прыгарнула да рук усе ашчадныя зьберажэньні беларусаў, што ляжалі ў дзяржаўным банку. Абрабавалі ўсю нацыю.

Але як жа распарадзіліся прыўлашчанымі грашыма народа савецкія начальнікі, што баяліся эканамічных рэформаў і стаялі за калгасы? Яны ня ўклалі іх ні ў бізнэс (у якім не разьбіраліся), ні ў вытворчасьць. Пачалі масава будаваць „катэджы” вакол гарадоў. Катэджы аказаліся нерэнтабельнымі і дарагімі ў эксплуатацыі палацамі-даўгабудамі, жыць у якіх было б вельмі дорага. (Дабудаваўшы пад дах, яны раптам зразумелі, колькі будзе каштаваць эксплуатацыя такога хорама і жыцьцё ў хораме, разам з пракладкай кабеляў, праводкай вады, каналізацыі, цеплатрасы, электрычнасьці і г.д.)

Так і засталіся „царскія вёскі” недабудаванымі да канца, як помнік намэнклятурнай абмежаванасьці і нацыянальнага марнатраўства (ці па-просту – ідыятызму). „Законна ўкрадзеныя” народныя грошы ператварылі ў груду цэглы мёртвых дамоў.

* Нягледзячы ні на што, гэта перамога дэмакратыі, таму што ўсе мы аб'ядналіся. *(з рус.)*

Цяпер гэтых „арыгіналаў” адкапаў Вік з Масквой у якасьці „дэмакратычнай апазыцыі”, пасьля таго, як аслабілі і адціснулі ўбок *Беларускі Народны Фронт*.

Савецкая намэнклятура зноў сыграла сваю дрэнную „гістарычную” ролю: дапамагла Лукашэнку (сваёй нікчэмнасьцю) дэманстратыўна сфальшаваць выбары і застацца пры ўладзе, няхай сабе і нелегальнай і не прызнанай. Гэтай яго ўлады Маскве можа стаць дастаткова, каб паступова поўнасьцю захапіць Беларусь.

*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №8(38); Выбралі...)*

# ВАРВАРЫ

Такой раней была псіхалёгія гунаў і манголаў. (Практычна, маралі там яшчэ не існавала.) Варвары (варварскія імпэрыі) спачатку пачыналі забіваць іншых, бо іншыя былі чужыя. А потым, выклікаўшы супраціўленьне гвалту і забойству, забівалі ўжо за супраціўленьне гвалту, за „бандытызм”, „тэрарызм” і г.д. Такая схема вось ужо 200 гадоў выкарыстоўваецца рускімі на Каўказе супраць чачэнцаў, абхазаў, чаркесаў, інгушоў і г.д.

Расейскі штотыднёвік „*Новая газета”* надрукаваў (а польская „*Gazeta Wyborcza”* перадрукавала) інтэрв’ю журналісткі ***Ганны Паліткоўскай*** *з генэралам* **Шаманавым**, па загадах якога забітыя і замардаваныя тысячы людзей у Чачэніі. Генэрал Шаманаў – адзін з найбольшых рускіх злачынцаў – спачатку камандаваў заходняй групай рускіх войскаў у Чачэніі, а цяпер камандуе 58-й арміяй, якая праводзіць экзэкуцыі на чачэнскай зямлі.

Журналістка спытала генэрала пра забітых цывільных людзей, якія ня здолелі выйсьці з Алхан-Юрту праз „калідор”, што быццам бы адчынілі для іх расейцы. Генэрал Шаманаў адказвае: „*Тое, што яны ня выйшлі на працягу тыдня дзеяньня калідору*, – *гэта была іхняя справа... Сярод забітых*, – кажа генэрал, – *былі людзі, так ці інакш зьвязаныя з бандытамі”* (гэта значыць, з Чачэнскай Арміяй, – З.П.)



***142. Абпалены вайной. (Чачэнія, 2000).***




***143. Чачэнскі „ тэрарыст” Аліхан Асманаў (6 гадоў).***

„Кім ёсьць, на вашу думку, жонка „бандыта”? – пытае журналістка. „*Бандыткай”,*– адказвае генэрал. „А дзіця „бандыта”, гэта таксама „бандыт”? „*Таксама”*, – адказвае Шаманаў.

Трэба разумець мэнтальнасьць варвараў: усё, што ім супраціўляецца – ёсьць „зло”; тыя, хто супраць іх змагаюцца, – „бандыты”; усе разбурэньні, гвалты і забойствы варвары робяць дзеля „дабра” (гэта значыць, каб ім, варварам, было добра).

У варвараў адсутнічае паняцьце аб’ектыўнай каштоўнасьці маралі. Маральнае (добрае) – усё тое, што робяць варвары.

*Першага чэрвеня* ў сьвеце адзначалі *Дзень абароны дзяцей*. У Варшаве перад Місіяй АБСЭ і заходнімі амбасадамі адбылася вялікая дэманстрацыя чачэнскіх уцекачоў. (Яно і зразумела, бо Захад здрадзіў, здаў Чачэнію.) Было шмат чачэнскіх жанчынаў з плякатамі і фатаграфіямі скалечаных пад рускімі бомбамі чачэнскіх дзетак, бяз ручак, бяз ножак, бяз пальцаў, абпаленых і пабітых, жывых і мёртвых.

Ахмет, чачэнец з Джахар-Гала, гадоў пад 60, расказаў мне, што рускія скрозь параскідалі шмат спэцыяльных мінаў у выглядзе дзіцячых цацак: лялькі, зайчыкі, мячыкі, аўтаручкі. Знойдзе такую „цацку” „бандыт” ці „бандытка”, пачне бавіцца, пакруціць – міна ўзрываецца. Глядзіш – „бандыцік” бяз пальцаў, а то і бяз ручкі, ды без вачэй. „*Дабро павінна мець межы*, – з націскам кажа генэрал Шаманаў журналістцы. – *Калі бандыты не разумеюць нашай маралі, то яны павінны быць ліквідаваныя. А як жа інакш? Яны ж жывуць у Расеі”*, – цьвердзіць Шаманаў.

Паколькі жонак і дзяцей бандытаў трэба лічыць бандытамі і ўсе, хто не разумее „нашай” (рускай) маралі, павінны быць зьліквідаваныя, то што ж такое „наша мараль”? – пытаец-



*144. Сакавік. 2000 год. Рускія тэрарыстычныя войскі ў акупаванай Чачэніі праводзяць „свабодныя”расейскія выбары рускага прэзыдэнта. Прымусілі галасаваць чачэнцаў, што засталіся жывымі. „Выбары” паказалі ўсенародную „падтрымку” Пуціну.*

ца журналістка ў генэрала. І тады савецкі генэрал, п’яніца і бязбожнік, расеяц, член КПСС з сяржанцкага ўзросту, забойца, які хоча „ліквідаваць” жанчын і дзяцей, вызначае „нашу мараль” як ... *„збор абавязковых правілаў існаваньня ў эўрапейскай хрысьціянскай культуры”*.

Раней такім было прасьцей. Забівалі ў імя ідэалаў камунізму. Цяпер вярнуліся да праваслаўя, да „нашай маралі”. Тым больш, што генэрал КГБ Рыдзігер, ён жа Патрыярх Маскоўскі Алексій II, ужо дзесяць разоў „асьвяціў” ліквідацыю чачэнцаў.

Чачэнцы – мусульмане. У іх іншая культура, іншыя „правілы існаваньня”, іншы сямейны ўклад, традыцыі, дачыненьні. Яны не разумеюць „нашай маралі”. Калі не пачнеце жыць па-нашаму – будзем забіваць, кажуць генэралы ад нагана і кадзіла.

Ахмет пацьвярджае, што кожнаму расейскаму вайскоўцу ў Чачэніі дадзены вусны загад: забіваць усіх чачэнцаў ад 10 да 60 гадоў. Палітпрапаганда простая, як у вандроўнікаў: калі не забіць дзіця, то зь яго вырасьце „бандыт”, калі не забіць жанчыну, то яна народзіць „бандыта”. Гэты загад выдаваўся расейскім галаварэзам яшчэ ў Першую руска-чачэнскую вайну (1994-1996) і дзейнічае цяпер.

Прыкладаў псіхалёгіі сярэднявечча і варварскіх паводзінаў вельмі шмат у крымінальнай Расеі. (Чаго варта, напрыклад, афіцыйная аб’ява пра ўзнагароду ў адзін мільён даляраў за галаву Шаміля Басаева.) Расейскае радыё „Рэха Масквы” (лічыцца дэмакратычным, па расейскіх мерках) зьвярнулася з пытаньнем да сваіх слухачоў: „Ці згаджаецеся вы з поглядам генэрала Шаманава, што жонкі і дзеці бандытаў – гэта бандыты?” 62 адсоткі рускіх „дэмслухачоў” адказалі, што згаджаюцца і падтрымліваюць генэрала. (Што ўжо казаць пра не „дэмслухачоў”...)



**145. Чачэнская сталіца Джахар-Гала (былы Грозны), зьнішчаная расейскай авіяцыяй і артылерыяй. Здымак 2000 г.**

Зрэшты, інакш і быць не магло. Ранейківалі на камунізм. Цяпер гэтай шырмачкі не існуе. Засталася адна Расея. Тая самая крымінальная, ілжывая і крывавая, дзе масава галасавалі за сьмерць іншых, дзе масава даносілі, ухвалялі генацыд і перасьлед, дзе лягеры, турма і расстрэлы былі паўсядзённым бытам, дзе жонак прымушалі адмаўляцца ад мужоў, а мужоў ад жонак. (*„Калі яна не бандытка*, – кажа пра чачэнак генэрал Шаманаў, – *то няхай пакіне свайго бандыта-мужа*.”) Тая самая Расея, дзе бацькі выракаліся дзяцей, а дзеці даносілі на бацькоў, дзе былі спэцыяльныя лягеры для жонак „ворагаў народа” і сваякоў „ворагаў народа”; дзе былі спэцыяльныя дзіцячыя дамы, сірацінцы, куды звозілі дзяцей расстраляных, зьмянялі ім прозьвішчы ды імёны.

Усё ўжо было ў гэтай страшнай, рабскай, жорсткай імпэрыі, дзе доўжыцца вечная хлусьня, вечны гвалт і вечнае забойства.

Вось вытрымкі з службовага ліста ад 15-га сьнежня 1999 года Сакратара Савета Бясьпекі Расейскай Фэдэрацыі Сяргея Іванова да Старшыні Дзяржаўнай Думы Расеі камуніста Генадзя Селязьнёва:

„Члены Савета Бясьпекі РФ абмеркавалі сітуацыю, якая склалася пры выкананьні другога этапу антытэрарыстычнай апэрацыі па ліквідацыі бандфармаваньняў на тэрыторыі Чачэнскай Рэспублікі, і выпрацавалі рабочую канцэпцыю рэалізацыі ейнага завяршальнага этапу...

Удзельнікі абмеркаваньня пагадзіліся, што горныя пасяленьні чачэнцаў, якія складаюць менш 20% усіх населеных пунктаў Чачэнскай Рэспублікі, не ўяўляюць якой кольвечы значнай эканамічнай ці іншай каштоўнасьці ні для дадзенага суб’екта фэдэрацыі, ні для Расеі ў цэлым, і іх трэба цалкам



*146. Цывільныя жыхары Чачэніі ў расейскім фільтрацыйным (канцэнтрацыйным) лягеры.*

зьліквідаваць у сэктары Бамут-Зандак-Ітумкале. Пры гэтым тут трэба стварыць умовы, цалкам непрыдатныя для пражываньня людзей ў будучым, а рэшту мірных жыхароў з гэтай часткі Чачні неабходна перасяліць у ейныя паўночныя раёны за раку Церык, ці асіміляваць у іншых рэгіёнах Расеі...

Усе натуральныя пабудовы (уключаючы культавыя і гістарычныя) горнага рэгіёну, старажытныя родавыя вежы будуць прыраўняныя да аб'ектаў схаваньня бандфармаваньняў і будуць татальна зьнішчаныя. Пасьля сканчэньня вайсковай апэрацыі, з гэтай часткі рэспублікі неабходна вывезьці ўсе будаўнічыя ды іншыя матэрыялы. У інтарэсах Расеі неабходна зрабіць гэты рэгіён безжыцьцёвым."

Ну чым гэты антычалавечы плян генацыду і вынішчэньня чачэнцаў розьніцца ад праектаў Гітлера, Бормана, Сталіна, Берыі ды плянаў НКВД?!

Канцэнтрацыйныя („фільтрацыйныя") лягеры ў Чачэніі, дзе катуюць ды мардуюць людзей, нікога ўжо не зьдзіўляюць. Маўляў, гэтак можна. Так і трэба. ***У Расеі ніхто ніколі ні ў чым не каяўся, ніколі ніхто ні ў каго не парсіў прабачэньня. Тут масава ўхвалялася любое варварства ў інтарэсах рускай імпэрыі.***

Ухваленьне ўсім рускім грамадзтвам генацыду ў Чачэніі яшчэ раз пацьвярджае, што ва ўсіх антычалавечых выступах, ва ўсіх грахах сваёй крывавай гісторыі „рускі народ", разам з рускай уладай і рускімі генэраламі, нясе калектыўную адказнасьць за злачынствы супраць чалавецтва.

Разам з тым, вынішчэньне чачэнскай нацыі Расеяй – гэта ёсьць тэст, выпрабаваньне гуманістычнай трываласьці палітычных прынцыпаў лібэральнай Эўропы. Тэст, які паказвае на падвойнасьць, фальшывасьць гэтых прынцыпаў. Гэта экзамен, якога Захад зноў не вытрымлівае.

*2000 г., чэрвень, Варшава.*
*(„Беларускія Ведамасьці", – 2000, №4(27); „Народная Воля", – 2000, 9 сьнежня).*

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ ГЭТА ЁСЬЦЬ ІСНАВАНЬНЕ НАЦЫІ

***(Выступ на Ўсебеларускім Зьезьдзе за незалежнасьць 29 ліпеня 2000 года.)***

Для кожнага народа стварэньне незалежнай дзяржавы ёсьць сьведчаньне і сэнс гістарычнага разьвіцьця. Калі народ траціць дзяржаву і незалежнасьць, то ягоная гісторыя спыняецца. Страта гісторыіі ёсьць сьмерць. Таму няма большай каштоўнасьці для нацыі, чым дзяржава і дзяржаўная незалежнасьць. ***Гэта ёсьць пытаньне свабоды і нявольніцтва, існаваньня і небыцьця. Альбо мы гаспадары, альбо – нявольнікі. Альбо мы ёсьць – альбо нас няма. Гонар і Бацькаўшчына – вось чым мусяць быць напоўненыя нашыя душы.***

Дзеля вяртаньня свабоды і здабыцьця дзяржаўнай незалежнасьці мы, беларусы, змагаліся два стагоддзі. ***25 Сакавіка 1918 году аб'яўлена Незалежнасьць БНР***. Але Беларусь была адразу акупаваная і падзеленая з двух бакоў, бо не пасьпела стварыць свае ўзброеныя сілы.

Падсумоўкай беларускай барацьбы ў XX-м стагоддзі стаў ***Акт аб Незалежнасьці Беларусі, прыняты 25 жніўня 1991 году***. Яму папярэднічала прыняцьце ***Дэклярацыі „Аб суверэнітэце Беларусі" 27 ліпеня 1990 году***. Гэтыя тры падзеі

ёсьць вызначальныя этапы нашай 200-гадовай барацьбы. І нічога няма для нас важнейшага ў нацыянальнай гісторыі ХХ-га стагоддзя.

Цяпер перад беларускай нацыяй зноў, як і ў 1918-м годзе, паўстала задача абараніць незалежнасьць ад агрэсіі расейскага імпэрыялізму. Але калі 82 гады таму Незалежная Беларусь сутыкнулася *з ваеннай агрэсіяй і акупацыяй зьнешняй*, то *цяпер мы маем справу з унутранай акупацыяй, якую праводзяць расейскія спэцслужбы праз рэжым Лукашэнкі.*

Канцовая мэта гэтай палітыкі – поўная ліквідацыя дзяржаўнасьці Беларусі і зьнішчэньне беларускай нацыі.

Беларускія калябаранты з акупацыйным рэжымам не разумеюць, што з узмацненьнем акупацыі-інтэграцыі ўсе яны паступова будуць адхіленыя ад улады па этнічнай прыкмеце і потым ліквідаваныя. І апошнім у гэтым шэрагу стане сам Лукашэнка.

Гэты працэс ужо ідзе. Правіла такое, што здраднік нацыі заўсёды ёсьць закладнікам ворагаў Бацькаўшчыны. Рана ці позна надыходзіць час, калі здраднік робіцца непатрэбным. Дапамагаючы ворагу, здраднік капае сабе магілу. Тут адлюстраваны ***Боскі закон – нельга здраджваць. Нельга здраджваць Бацькаўшчыне.***

Тыя ганарлівыя людзі, што першы раз здрадзілі Беларусі, калі вялі да ўлады Лукашэнку, былі першымі ж, выкінутыя з гэтае ўлады. Другі раз – яны здрадзілі ўжо Лукашэнку. Трэці раз – яны зноў здраджваюць Беларусі, калі дамаўляюцца з расейцамі, каб коштам незалежнасьці Айчыны вярнуцца да ўлады. Так заканчваецца дарога сьляпых і замыкаецца кола здрады.

Трэба зламаць гэтае кола. Альтэрнатывай акупантам ёсьць мы, Беларусы. Не дэмакраты і не „супэрдэмакраты", а мы, Беларускі Народ, мы – Беларуская Нацыя спынім акупацыю.

Беларусам пара даўно зрабіць высновы з гісторыі. Пакуль існуе Расея як вялікадзяржаўная каляніяльная сістэма – датуль будзе існаваць руская імпэрыялістычная палітыка. Сутнасьць гэтай палітыкі на захадзе – зьнішчыць Беларусь. Ня мае ніякага значэньня, якая будзе ўлада ў Расеі і хто будзе кіраваць імпэрыяй. Гэтая палітыка працягваецца ўжо сотні гадоў, і Расея не хавае сваёй мэты.

Расейскай акупацыйнай інтэграцыі мы мусім супроцьставіць нашу ***Беларускую Салідарнасьць*** і абарону Незалежнасьці Беларусі. *Беларуская Салідарнасьць* за Беларусь і Незалежнасьць – гэта вялікая сіла, пра магутнасьць якой шмат хто з нас не здагадваецца. Яна гуртуецца, вырастае і павялічваецца. Наш Усебеларускі Зьезд ёсьць сьведчаньне патрэбы такой салідарнасьці ў абароне Айчыны і адлюстроўвае беларускую волю мільёнаў людзей. Гэта грунт, ад якога залежыць выніковасьць нашага змаганьня і перамога.

Ніколі беларусы не аддадуць ужо сваёй свабоды, ня страцяць Незалежнасьці. Мы мусім быць гатовымі змагацца за Незалежнасьць Бацькаўшчыны ўсімі сродкамі, і калі на нас палезуць з войскам, – узяцца за зброю і зброяй бараніць Беларусь.

Беларусь была ад пачатку і будзе надалей вольнай, незалежнай дзяржавай, краінай працавітых гаспадароў, дзе ўсталюецца справядлівы лад, і ніякая нечысьць ня зможа пляваць нам у твар. Будзьма пэўныя і набліжайма гэты час!

*(„Беларускія Ведамасьці", – 2000, №5(28)*

# НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ КАШТОЎНАСЬЦІ:

## 1. ЧАЛАВЕК

Калі задумацца над жыцьцём чалавека, мераючы яго гісторыяй, грамадзкімі дачыненьнямі і вечнасьцю, то прыходзім да высновы аб існаваньні агульначалавечых каштоўнасьцяў, якія ў кожным народзе маюць сваістае асэнсаваньне і значэньне, як грунт, на якім палягае культурнае быцьцё людзей на Зямлі.

Агульначалавечыя каштоўнасьці ёсьць, перш за ўсё, каштоўнасьці нацыі. Гэта сам чалавек, народ, мова, зямля (тэрыторыя, на якой жыве чалавек і народ), літаратура, дзяржава, сьцяг і г.д. Існаваньне чалавека ў грамадзтве накіраванае найперш на захаваньне і абарону гэтых каштоўнасьцяў. Абсалютнасьць іх не падвяргаецца сумненьню (не зьяўляецца дыскусійнай).

Чалавек, ягонае жыцьцё і душа, ёсьць першаснымі каштоўнасьцямі самога чалавека. Людзі, падзеленыя ў грамадзтве палітычнымі і сацыяльнымі антаганізмамі, бывае, могуць кожны па-свойму і кожны з свайго гледзішча дбаць пра дабро ўсёй нацыі, ненавідзячы адзін аднаго. Ці справядліва гэта, ці дапушчальна, ці павінна так быць?

Безумоўна, што так быць не павінна. Але гэта ёсьць. Ёсьць, практычна, паўсюдна, толькі ў рознай ступені і ў розных праявах. Таму мы, насуперак нашым жаданьням і перакананьням, вымушаныя прызнаваць рэальнасьць. Аднак гэтая рэальнасьць дапушчальная толькі да пэўнае мяжы.

Такой мяжой ёсьць цана жыцьця чалавека, дакладней – ягоная сьмерць. Народ можа быць адзіным, пакуль не перакрочаная гэта мяжа. Таму цывілізаванае права, ствараючы юрыдычныя нормы, заўсёды імкнецца да абмежаваньня нянавісьці.

Людзі, аб'яднаныя адной культурай, адным этнасам, адной гісторыяй, ня гледзячы на супроцьлеглыя палітычныя арыентацыі, павінны памятаць пра агульнае, дбаць пра агульныя нацыянальныя інтарэсы і бачыць супольную нацыянальную пэрспэктыву. Бо нашчадкі палітычных праціўнікаў могуць быць зусім не праціўнікамі, а сябрамі. Жыцьцё не стаіць на месцы. Палітычныя дактрыны зьмяняюцца, а народ, этнас, нацыя – застаюцца.

Пры ўсёй жорсткасьці палітычных непрыхільнасьцяў, заўсёды можа надыйсьці час, калі беларус беларуса мусіць і абавязаны падтрымаць. Бо толькі тады можа існаваць беларуская палітыка, беларускі народ, беларуская дзяржава, беларуская культура ды беларуская мова, пакуль існуюць беларусы.

Гаворачы пра каштоўнасьць чалавека, мы разглядаем яго шырока: як каштоўнасьць фэнамэнальную, этнічную і народную (тое ж самае – нацыянальную). У хрысьціянскай цывілізацыі стварылася яшчэ адна тыпалёгія чалавечай адметнасьці – індывідуальнасьць душы (пра гэта я ўжо пісаў раней).

У другой палове XX-га стагоддзя чалавек-індывідуальнасьць стаў разглядацца ў сацыяльна-этычных дактрынах дэмакратычнага сьвету як найвышэйшая каштоўнасьць, якая валодае прыярытэтам перад народам, дзяржавай і грамадзтвам. Аднак, пасьля прыходу левых да ўлады ў дэмакратычных краінах (у выніку распаду СССР) і з узмацненьнем працэсу глябалізацыі, дактрынёрства аб „правах чалавека" перарасло ў нешта, накшталт сурагату сацыяльнай рэлігіі чалавека, з выразнымі тэндэнцыямі нэапаганства ў этыцы і культуры.

Штучнасьць і аднабокасьць гэтай дактрыны „абсалютнага чалавека" стала відавочнай, калі яна пачала ператварацца ў пануючую ідэалёгію левай дэмакратыі.

Тым часам, калі мы ўважліва ўгледзімся ў гісторыю і прааналізуем грамадзкія ды прыватныя дачыненьні людзей, то прыдзем да высновы, што і палітычныя эліты, і людзі ў цэлым імкнуцца да гарманізацыі дачыненьняў паміж грамадзтвам, дзяржавай і асобным чалавекам.

З гледзішча агульных інтарэсаў, ёсьць аб'ектыўныя тэндэнцыі да парытэту памж асобай і грамадзтвам (дзяржавай).

Канцэпцыя парытэту, на мой погляд, больш эфэктыўная ў абмежаваньні зла. Яна бліжэй да гармоніі супольнасьці і больш разумная, валодае большай мерай справядлівасьці і шырэйшым паглядам на існаваньне людзей.

* * *

Імкненьне да гармоніі ў чалавечай супольнасьці вынікае з гарманічнай прыроды чалавека, якую ён рэалізуе ў працэсе існаваньня. Чалавек як зьява жыцьця, як духоўны і прыродны фэнамэн ёсьць трыадзіны: чалавек-дзіця, чалавек-жанчына, чалавек-мужчына. Тут адзіны чалавечы сьвет, адна прырода і адначасна – тры сьветы, тры прыроды.

Калі мы супаставім нашыя зьвесткі пра прыроду, рэлігію, космас, гісторыю і чалавека, то заўважым дзіўную карэляцыю функцыяў і падабенства з унівэрсальнасьцю ўсёй сьветабудовы. Фэнамэн гарманічнага чалавека (гэта значыць, абстракцыя, якая выводзіцца з рэальнасьці) набліжае нас да меркаваньня, што чалавек ёсьць вобраз і мадэль (аналёгія) усяго існага, усяго сусьвету, узор (канструкцыя) разьвіцьця духу.

Ёсьць над чым задумацца, чаму, як напісана, Бог стварыў чалавека па вобразу і падобнасьці сваёй.

Калі спрасьціць аналёгію і канкрэтызаваць думаньне, то можна разважаць такім чынам. Пояс, чалавечая сярэдзіна – гэта энэргія і абмен. У гары – тры вышэйшыя субстанцыі: сэрца, розум і, як мяркуецца, душа. Ніжэй – працяг роду, распад, інстынкт палавін.

Калі жыцьцёвая канцэнтрацыя думак, дзеяньняў, паводзінаў і матывацыя засяроджаныя на верхнім узроўні, тады адбываецца высокае разьвіцьцё асобы і грамадзтва (узвышэньне).

Калі канцэнтрацыя накіраванасьці і прыярытэты засяроджаныя на нізкім узроўні – адбываецца дэградацыя (прымітывізацыя) асобы і заняпад (распад) супольнасьці.

Раздумленьне над гэтым прыводзіць да высновы, што тут дзейнічае абсалютная заканамернасьць, якая не прадугледжвае выключэньняў.

Накладаньне і праекцыя арыентацыяў асобы у гістарычных грамадзтвах адносна будовы цела карэлююцца з пэрыядамі ўздыму і заняпаду.

Цывілізацыйная катастрофа адбываецца тады, калі грамадзтва набліжаецца да вобразу Садома і Гаморы.

Гэтакі накірунак існаваньня асобы (апушчэньне ўніз) прывёў да крызісу антычнага грамадзтва і разьвіваецца цяпер у Эўра-Амэрыканскім сьвеце былых хрысьціянаў.

Прыродная і надпрыродная сістэма чалавека (мужчыны-жанчыны), практычна, усюды на Зямлі аднолькавая. Асабліва прыцягвае ўвагу аднолькавасьць дзеяньняў, паняцьцяў і рэакцыяў дзяцей у людзей розных расаў і народаў. З уключэньнем у соцыюм, аднак, рэзка зьмяняецца іхны малюнак паводзінаў і ацэнкі рэальнасьці.

Тым часам відавая ўласьцівасьць духа і натуры трыадзінага чалавека не залежыць ад соцыюма (хоць узаемазьвязаная і соцыюм здольны на яе ўплываць). Прэцэзійная дакладнасьць натуры чалавека і сіла прыроднага наканаваньня ўражвае сваёй магутнасьцю і сваёй зададзенасьцю трыадзінства, як шляху да гармоніі чалавечага існаваньня.

Псіхалягічная прырода, будова цела і біялёгія мужчыны ад пачатку спрыяе яму быць больш незалежным у выбары паводзінаў. Ён актыўны дасьледнік і пераўтваральнік сьвету, зьнішчальнік перашкодаў, заваёўнік і набытчык.

Прырода жанчыны, на якой палягае функцыя прадаўжэньня роду, спрыяе арганізацыі асяроддзя. Жанчына замацоўвае, кансэрвуе, абчалавечвае тое, што здабыта. Без кансэрвуючага, абчалавечваючага фактару жанчыны чалавек не падняўся б з прыроды і першабытнасьці. Яго актыўнасьць дзеля здабыцьця і пераўтварэньня сьвету без „замацаваньня" магла б абярнуцца ў шлях спажываньня і разбурэньня, калі ў імкненьні наперад за плячыма застаюцца адны руіны.

Гэтае наша дапушчэньне добра відаць у гісторыі на прыкладзе варварства. У варвараў, практычна, адсутнічала каштоўнасьць чалавека. Жыцьцё чалавека нічога ня значыла. У гістарычных манголаў часоў Чынгіз-хана сьмяротнае пакараньне ажыцьцяўлялася тут жа, калі мангол разьліў на зямлю малако з курдзюка альбо памачыўся ў юрце. Але калі нехта па нейкай прычыне забіваў іншага, на гэта амаль не зьвярталі ўвагі. Забойства трактавалася як прыватная справа.

Роля жанчыны ў варварскім грамадзтве была мізэрнай. Тым часам і надпрыродная сістэма чалавечай натуры, пра якую я казаў у пачатку, і функцыя жанчыны ў гэтай сістэме чалавека, і гісторыя цывілізаванага сьвету паказваюць, што ўсялякі заняпад грамадзтва, распад у ім маральных правілаў, нормаў і дачыненьняў, не прыводзяць да ягонага краху і разбурэньня, пакуль дэмаралізацыя не паралізавала чалавека-жанчыну. Гэтаму ёсьць шмат прыкладаў. Чалавек-мужчына змагаецца, здабывае, стварае, зьмяняе, але сьвет трымаецца на жанчыне.

Дасьледавана, што неабарачальнае выраджэньне і выміраньне этнічнай супольнасьці характарызуецца дэградацыяй трыадзінага чалавека. Спачатку перастаюць паважаць старых людзей і клапаціцца пра старых бацькоў. Потым перастаюць цікавіцца выхаваньнем дзяцей, іхным жыцьцём і будучыняй. І нарэшце, мужчына перастае змагацца за жанчыну, уплываць на яе жыцьцё, цікавіцца яе лёсам; жанчына траціць сорам, перастае паважаць сваё цела, ня хоча дзяцей.

У мяне не адчыняецца рот, каб сказаць, якія працэсы маральных пераменаў назіраюцца ў нашым беларускім грамадзтве...

Але ня ўсё страчана. Дамагаючыся вялікага, не забывайма пра малое. Трэба змагацца, клапаціцца за кожную душу, за кожнае добрае людзкае слова, за кожнага чалавека так, як робяць гэта шмат хто ў нашай краіне.

* * *

Унівэрсальны прынцып гармоніі ў сусьвеце ёсьць любоў. Гэта надпрыродная зьява жыцьця, сваіста праяўляецца ў натуры чалавека і зьяўляецца асновай сям'і, дзе якраз трыадзіны чалавек

рэалізуецца найбольш дасканала. ***Сям'я, побач з дзяржавай, ёсьць найвялікшае цывілізацыйнае дасягненьне чалавека***. Гуманны, псіхалягічна паўнавартасны чалавек вырастае, як правіла, у паўнавартаснай, добрай сям'і. З гэтай прычыны інстытут сям'і, гэтак жа, як і жыцьцё чалавека, ёсьць ***вялікай каштоўнасьцю нацыі***, вымагае спэцыяльнай аховы яго ў грамадзтве і стварэньня спрыяльных умоваў існаваньня.

Пачынаючы з другой паловы XX-га стагоддзя (пасьля 2-й Сусьветнай вайны), назіраецца інтэнсіўны працэс распаду сям'і, практычна, ва ўсім сьвеце (але найбольш – у Эўропе і Амэрыцы). Узіраючыся ў глыбіню пісанай гісторыі, мы не знаходзім чагосьці падобнага, з чым маглі б параўнаць тое, што адбываецца зараз з сям'ёй. Распадаюцца амаль дзьве трэці шлюбаў, зьяўляюцца хваравітыя канцэпцыі аб непатрэбнасьці сям'і, усё больш людзей (асабліва жанчынаў) сьведама не ўступаюць у шлюб, каб жыць самым з сябе (з вымогаў цела і пачуцьцяў), карыстацца гатовым, ня мець дзяцей і ня мець абавязкаў. (Гэта найбольш назіраецца ў Заходнім сьвеце.)

З мноства канкрэтных прычынаў гэтай зьявы я б вылучыў тры, найбольш агульныя. Першая – гэта культурны разрыў паміж пакаленьнямі, што прывяло да разладу ў передачы традыцыяў, і нават элемэнтарнага вопыту.

Нагадаю, што для нармальнага і пасьлядоўнага разьвіцьця культуры (гэта значыць, з засваеньнем досьведу) павінны быць аўтарытэты (эліта), пастаяннае насельніцтва (на пастаяннай тэрыторыі), узаемаабмен і лучнасьць пакаленьняў. Мінімум тры пакаленьні (дзед, бацька і сын) павінны мець агульныя асноўныя каштоўнасьці. Хуткія зьмены ў грамадзтве дызарыентавалі мэханізм перадачы культуры.

Другая агульная прычына – упадак маралі. Трэцяя – бездухоўнасьць.

Самае дрэннае, што зьява дэградацыі і распаду сям'і – гэта вынік агульнага працэсу абясцэньваньня і рэдукцыі нацыянальнай цывілізацыі. Эўропа айчынаў перакшталтоўваецца ў Эўропу спалучаных вытворцаў і спажыўцоў. Будуецца інтэграцыя па матэрыяльных інтарэсах на фоне фатальнага ўпадку духоўнай і гуманістычнай культуры.

Мы, беларусы, стварылі нацыянальную дзяржаву ў 1918 годзе, і ў тым жа годзе страцілі незалежнасьць. З прычыны больш чым 70-гадовага пэрыяду савецкай акупацыі і камуністычнага вынішчэньня, мы ня мелі магчымасьці стабілізаваць нацыю ў рэжыме дзяржаўнага існаваньня. А гэта (дзяржаўная стабілізацыя) – абавязковы этап. Пасьля 1991 года (калі мы вярнулі незалежнасьць) трэба было прайсьці страчаны этап паскоранымі тэмпамі. Але з 1994 года ізноў усё затрымалася.

Кардынальна зьмяніўся сьвет. Той хвалі нацыянальнага ўздыму і нацыянальнага будаўніцтва, якая была ў Эўропе ў пачатку XX-га стагоддзя, больш не існуе. Мы ўжо ня можам плысьці на яе вяршыні. Няма нават прыбою. Але ж мы мусім, мусім дабудаваць наш нацыянальны дом, мусім мець над ім дах, каб не загінуць у абставінах, калі зьмянілася асяроддзе і плыні, і мы засталіся адны.

Мы, беларусы, павінны зразумець, што ў справе нацыянальнага будаўніцтва нам ніхто (абсалютна ніхто) не дапаможа, акрамя нас самых. Будуць прапаноўваць сваё разуменьне дэмакратыі. Але нікога не цікавіць наш нацыянальны лёс.

Таму, якія б ні былі павароты лёсу, якія б ні перажывалі мы выпрабаваньні, трэба найперш шанаваць і зьберагаць нашых людзей.

* * *

Самае страшнае цяпер для беларусаў – гэта Чарнобыльскі генацыд. Створаныя сапраўды сатанінскія ўмовы для пастаяннага вынішчэньня беларускай нацыі. За апошнія сем гадоў страчана паўмільёна насельніцтва. Змагаючыся за пасьлячарнобыльскае існаваньне, ня кожны чалавек здае сабе справу і ня кожны ўсьведамляе, што беларусам прыходзіцца весьці барацьбу з варожымі сіламі ўсяго сьвету. Уся сусьветная атамная энэргетыка пад шыльдай МАГАТЭ з усім сваім фантастычным капіталам (500 мільярдаў даляраў) стараецца схаваць ад сьвету страшныя вынікі атамнай катастрофы ў Беларусі, зьменшыць іх і сфальшаваць. Іх не цікавіць здароўе і лёс беларусаў.

Такую ж самую пазыцыю займае Расея, якая адмыслова забрудзіла ядзернымі ападкамі Магілёўскую вобласьць, ня выплаціла беларусам кампэнсацыю за Чарнобыль і нясе адказнасьць за катастрофу.

Чарнобыльскі генацыд небясьпечны для ўсіх, але найперш – для дзяцей. Цяпер, гледзячы на маштабы і мэтады чарнобыльскага вынішчэньня, некаторыя беларусы кідаюцца ў роспач, разумеючы, што толькі праводзячы адмысловую дзяржаўную палітыку, можна зьменшыць бяду. Але палітыка не ў беларускіх руках.

У Чарнобыля існуюць як бы зьнешнія пачатковыя прычыны. Але ня менш небясьпечная страта нашых людзей, што зыходзіць з унутраных, як бы зь нябачных прычынаў, зь якімі ізноў жа, вельмі цяжка змагацца без дапамогі дзяржавы.

Прыпамінаю малазначны выпадак з 1995 года. Каля гадзіны ночы ў Менску я сьпяшаўся на апошні тралейбус па пустой вуліцы. Насустрач ішоў нейкі малады чалавек гадоў 25-ці і нешта ў мяне спытаў (ці то пра прыпынак, ці то пра гадзіну). Калі я яму адказваў, ён мяне пазнаў.

– Выбачайце, – кажа потым хлапец, назваўшыся, – але ці мог бы я вам сказаць адну вельмі важную для Беларусі рэч, якая не дае мне спакою?

– Кажыце, – згаджаюся я.

– Трэба ратаваць беларускіх жанчынаў! Згінем. Згіне Беларусь, – усхвалявана загаварыў нечаканы спадарожнік.

Тут ужо зьбянтэжыўся я. Высьветлілася, што хлапец вельмі перажывае, што беларускіх дзяўчат падманваюць розныя агенты ды нягоднікі, вывозяць за мяжу, абяцаючы ўладкаваць на добрую працу. Адбіраюць пашпарты і перадаюць у рабства заходнім сутэнёрам.

– Трэба нешта рабіць, трэба спыніць, – хваляваўся хлапец. – Гэта зьнявага! Ганьба! Страцім Беларусь... У нас такія жанчыны!

Часам мне ўспамінаецца гэты разумны беларускі хлапец, які засьведчыў, што жывы наш народ, жыве, ня гледзячы ні на што, і будзе жыць.

У цяжкіх антыбеларускіх варунках існаваньня ***беларус беларуса павінен падтрымліваць і адзін аднаму дапамагаць***. Асноўным прынцыпам дачыненьняў паміж людзьмі павінна стаць Беларуская Салідарнасьць, падтрымка і спрыяньне адзін аднаму. Шмат якія народы перажывалі цяжкія часы, але разам, зьбярогшы сябе і падтрымліваючы кожнага, перамаглі навалу і пазбавіліся вынішчэньня.

У беларусаў ёсьць магчымасьць перамяніць адмоўны ход сваёй гісторыі. Патрэбная толькі воля.

*6 верасьня 2001 г., Варшава.*

## 2. БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Беларуская нацыя існуе, пакуль жыве Беларуская мова. Мова ёсьць галоўны вынік і сродак культуры.

Калі мы над гэтым задумаемся глыбей, то адчуем, што велічнасьць гэтай зьявы – чалавечай мовы – настолькі грандыёзная, што ўражвае нашу сьвядомасьць. І сапраўды, гэта цуд культуры, матэрыялізаванае думаньне і праяўлены дух. У мове мы, людзі, бачым сябе. Гэта люстэрка нашага існаваньня, адбітак нашых душаў.

Вытокі мовы пакрытыя хвалюючай таямніцай, як і ўсё нашае паходжаньне на Зямлі. Калі ўявіць, што чалавек разьвіваўся з прыроды, і паспрабаваць накрэсьліць схему, зрабіць мадэль ягонага пераходу ў стан культурнага існаваньня, то прыходзім да высновы, што абстрактнае думаньне, памяць роду (гэта значыць – гістарычная памяць) і мова ўзьніклі і разьвіваліся адначасова і ўзаемна ўплывалі самыя на сябе.

Гэтак адбывалася самаўдасканаленьне трох асноваў культуры: абстрактнага думаньня, гістарычнай памяці і мовы. Навуковыя дасьледваньні чалавечай жыцьцядзейнасьці ў старажытнасьці і сьведчаньні простых формаў існаваньня чалавечага грамадзтва ў цэлым пацьвярджаюць нашу траістую схему разьвіцьця сьвядомасьці і мовы людзей.

Зьяўленьне мовы як структураванага інструманту інфармацыі азначала рэзкі прарыў у культуру, у грамадзкае і гістарычнае існаваньне чалавека. Адначасна запрацавала зваротная сувязь. Мова стала найвялікшым сродкам культуры, дзейнічала як матор культурнага разьвіцьця, спрыяла стварэньню чалавека разумнага, фармаваньню чалавечага грамадзтва.

Прарыў з прыроды ў культуру адбываўся найперш праз мову. Бяручы пад увагу гэтую рэвалюцыйную ролю мовы ў разьвіцьці культуры чалавецтва, асабліва робіцца зразумелым вялікае і крылатае цьверджаньне аб тым, што напачатку было *Слова*. Мова трымае ўсё: культуру, гісторыю, памяць, грамадзтва, сумоўе людзкіх душаў. Мова аб'ядноўвае і мацуе, вядзе за сабой. Вось жа сапраўды правільна: напачатку – было *Слова* (гэта значыць, на пачатку культуры).

* * *

Што яшчэ ўражвае нашае ўяўленьне, дык гэта шматаблічнасьць мовы. На Зямлі жыве мноства народаў і этнічных групаў, і, адпаведна, існуе вялікая колькасьць розных моваў. Кожная мова, нібы шчыт, які зьберагае і выдзяляе народ сярод іншых народаў, і адначасна, – гэта плятформа, на якой угрунтаваная культурная індывідуальнасьць чалавечай супольнасьці.

Аглядаючы пісаную гісторыю людзей, мы заўважаем, што заўсёды, калі гінула мова, то гінуў і народ. Тут узаемасувязь, сутнасныя дачыненьні, якія глыбока і афарыстычна адлюстраваў наш вялікі Багушэвіч. ***„Шануйце мову нашу, беларускую, каб ня ўмёрлі”,*** – напісаў паэт.

Шмат моваў зьнікла на Зямлі, і зьнікае па сёньняшні дзень. Прычыны розныя. Але найчасьцей – гэта несамастойнае існаваньне (адсутнасьць незалежнай дзяржаўнасьці) і грамадзка-палітычная сацыяльная катастрофа.

Але шмат моваў трываюць і ня гінуць, ня гледзячы на неспрыяльныя абставіны. Шмат якія мовы адраджаюцца, вяртаюцца да жыцьця амаль зь нябыту. Перадусім, тут велізарнае значэньне мае дух народа (этнаса), яго ўпэўненасьць у сабе, закаранеласьць у сваю духоўную культуру і гісторыю, і, як вынік, – сьвятое шанаваньне сваёй мовы і ўсяго свайго.

Грамадзка-палітычная катастрофа можа зьнішчыць любую мову (нават самую распаўсюджаную) тады, калі зьніклі, замерлі ці ліквідаваныя яе этнічныя носьбіты. Такія зьявы, як генацыд, этнацыд, лінгвацыд, мнемацыд, якія вынікаюць, як правіла, з імпэрскай палітыкі, а таксама з ксэнафобіі і нянавісьці, вельмі небясьпечныя для моваў найперш несвабодных народаў (посткатастрафічных супольнасьцяў). Аднак разбурэньне імпэрыі пры пэўных абставінах таксама можа выклікаць зьнікненьне імпэрскай мовы, прытым нават тады, калі існуе прызнаная імпэрская літаратура.

Тыповымі прыкладамі зьяўляюцца Рымская і Атаманская імпэрыі. Рым разбурыўся, зыходзячы з унутраных прычынаў (перш за ўсё, – з-за ўпадку маралі). Рымская (лацінская) мова гучэла ў Сэнаце, сцьвярджалася ў літаратуры і на ўсіх канцах імпэрыі. Але пад друзам гэтай імпэрыі была пахаваная і вялікая рымская мова, ператварылася потым у мёртвую лаціну.

Чаму так сталася? Сталася так таму, што не было ўжо этнічных носьбітаў гэтае мовы. Лацінскі этнас дэградаваў, бо стлуміў у сабе этнічную сьведамасьць, інстынкт аддзяленьня ад чужога. Этнічная сьведамасьць замянілася імпэрскай. Лаціна рымская абслугоўвала імпэрскую культуру, імпэрскую ўладу і імпэрскую дзяржаву. Яна адрозьнівалася ад этнічнай лаціны. З разбурэньнем рымскай улады і дзяржавы, са стратай рымскага набілітэту, рэзка зьмяніліся функцыі дзяржаўнай лаціны, а ў рэальным штодзённым жыцьці, на самым нізкім (вусным) узроўні не было каму на ёй размаўляць. Лаціна памерла.

Трэба ўлічыць, што імпэрыя (гэта значыць – імпэрская ўлада і імпэрская культура) іманэнтна, зыходзячы з сутнасьці сваёй прыроды, імкнецца зьнівіліраваць і разбурыць любы этнас, у тым ліку і свой, які даў пачатак імпэрыі.

Мова Атаманскай імпэрыі, у адрозьненьне ад рымскай мовы, узьнікла на дэдуктыўным прынцыпе. Гэта была штучная мова, створаная на аснове старажытных моваў Усходу (у асноўным, пэрсідзкай) і абслугоўвала яна якраз толькі імпэрскую дзяржаву, арыстакратыю, чынавенства, афіцыйную культуру і ўвогуле – вярхі. Асноўны народ імпэрыі – туркі – размаўляў на сваёй народнай анаталійскай (турэцкай) мове.

Пасьля разбурэньня і распаду Атаманскай імпэрыі новая Турцыя, будуючы новую нацыянальную дзяржаву, абаперлася якраз на народную этнічную мову, на якой размаўляў народ, і зрабіла яе дзяржаўнай мовай краіны. Тым часам мова Атаманскай імпэрыі аджыла. У ёй не было патрэбы. Са зьнікненьнем імпэрскіх вярхоў на ёй не было каму гаварыць.

Калі мы зьвернем увагу на рускую імпэрыю (Расею), то заўважым там адначасна дзьве схемы функцыянаваньня мовы: індуктыўную, з апорай на этнас, і, ў пэўнай ступені, штучную, прыдуманую форму рускай мовы, якая ў апошнім стагоддзі значна рэдуцыравалася, дзякуючы літаратуры. Тым ня менш, улічваючы няспынную абсалютызацыю імпэрскай ідэалёгіі і адпаведна – псіхалёгіі, і бяручы пад увагу таксама няспынную дэградацыю асноўнага этнасу, існуе вялікая верагоднасьць, што пры разбурэньні расейскай імпэрыі рускую мову можа напаткаць нават ня мёртвае ўжываньне, як у пострымскай сітуацыі, а глыбокі маргіналізм і звужэньне да лякальнага асяродка. (Заўважым, што ніякія інфармацыйныя сістэмы тут не дапамогуць.)

Тое ж самае, улічваючы цяперашні працэс асаблівай дэструкцыі ангельскага этнасу, можа напаткаць і ангельскую мову. (Як гэта каму на слых ня здасца неверагодным.) Штуршок такому ходу гісторыі можа пакласьці пасьпешны ўпадак і распад Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Гэтакая верагоднасьць, па маіх назіраньнях, увесь час павялічваецца і абумоўлена ўнутранымі прычынамі. У ЗША беззваротна нарошчваюцца тыя ж працэсы, што некалі ў Рыме, толькі разьвіваюцца больш хуткімі тэмпамі. (Ізноў жа, паўтаруся,

ніякія інфармацыйныя сістэмы тут не ўратуюць, бо сістэма – гэта прылада.)

Імпэрыя, аказваецца, ня можа гарантаваць вечнага (і, тым больш, жывога) існаваньня імпэрскай мовы. Значна лепш гэта спраўджвае і рэалізуе *нацыянальная дзяржава*, якая і ўзьнікла (прынамсі, у Эўропе) у барацьбе зь імпэрыяй. (Прытым змаганьне йшло, перш за ўсё, за права існаваньня і разьвіцьцё нацыянальнай мовы.)

* * *

Стварэньне нацыяў і нацыянальных дзяржаваў ёсьць гістарычная зьява, якая мае ня толькі свае грамадзкія прычыны, але і храналягічныя рамкі (найперш у Эўропе). Сьцісла можна іх пазначыць ад апошняй чвэрці XVIII па першую чвэрць XX-га стагоддзяў. У гэты пэрыяд сфармаваліся і высьветліліся ўсе нацыянальныя канцэпцыі культуры, свабоды і незалежнага дзяржаўнага існаваньня.

Як правіла, нацыянальныя рухі пачыналіся з самапазнаньня, асьветніцтва, стварэньня нацыянальнага мастацтва, літаратуры, тэатра. Потым разьвіваліся у палітычнае змаганьне зь імпэрыяй і заканчваліся стварэньнем нацыянальнай дзяржавы.

Уражвае ў гэтым працэсе тое, што народы паўсюдна прызнавалі і паўсюдна змагаліся за дзьве асноўныя каштоўнасьці: за *нацыянальную мову* і за незалежнасьць (гэта значыць – за нацыянальную дзяржаву).

Сэнс асьветніцкай і мастацкай дзейнасьці быў падпарадкаваны адной мэце: ***сцьвярджэньню нацыянальнай мовы***.

Гэтую задачу найперш узялі на сябе газэты, літаратура і асабліва вандроўныя тэатры, якія ўзьнікалі паўсюдна. Творца вэнгерскага прафэсійнага тэатра Ота Келеман, які стварыў вэнгерскую вандроўную трупу яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя, прызначэньне свайго тэатра і тэатральнага мастацтва сфармуляваў коратка і выразна: сцьвярджэньне і прапаганда вэнгерскай мовы. (Вэнгры змагаліся тады зь нямецкім засільлем.)

Аналягічна разумеў задачы тэатра Ігнат Буйніцкі і такія яго акторы, танцоры і сьпевакі, як Леапольд Родзевіч ды Алаіза Пашкевіч (Цётка). Гэтак жа ацэньвалі ў той час нацыянальную місію тэатра дзеячы вандроўнай сцэны на Ўкраіне, у Малдове ды Румыніі, у Баўгарыі ды Сэрбіі, у Чэхіі, Славакіі, Летуве і г.д.

Нацыянальныя рухі ўсьведамлялі нацыянальную мову як галоўную каштоўнасьць нацыі, сцьвярджэньню яе ў грамадзтве падпарадкоўвалі ўсю сваю нацыянальна-асьветніцкую дзейнасьць.

* * *

Беларуская нацыянальная ідэя рэалізавалася ў 1918 годзе, калі была створаная ***Беларуская Народная Рэспубліка*** і аб’яўлена яе незалежнасьць. Аднак неўзабаве незалежнасьць была страчаная, і нацыянальнай стабілізацыі не адбылося.

Расейскі камуністычны генацыд і ўсе формы вынішчэньня цярпелі тры пакаленьні беларусаў. У сэнсе культурным, і асабліва – псіхалягічным, 73 гады савецкай акупацыі – гэта чорная дзіра, правал у нацыянальнай сьведамасьці народа. Калі ў 80-х гадах XX-га стагоддзя аднавіўся беларускі рух за незалежнасьць і за культурнае адраджэньне нацыі, новыя адраджэнцы (некаторыя з жахам і з роспачу) убачылі, што сутыкнуліся з узроўнем нацыянальнай сьведамасьці грамадзтва, як у канцы XIX-га стагоддзя.

Камунізм, савецкая акупацыя, вынішчэньне ўсяго беларускага фатальна затармазілі псіхалягічнае разьвіцьцё грамадзтва, дэфармавалі ўнутраны сьвет беларуса, адкінулі сьведамасьць мноства людзей да абсурднай мяжы.

*„Зачэм этат беларускі язык?“; „Какая разьніца, на каком языке гаварыць?“; „Каму нужэн этат сувэрэніцет, главнае, чтобы жылась харашо“* і г.д., – вось тыповыя цьверджаньні шмат якіх па-савецку адукаваных беларусаў канца XX-га стагоддзя.

На жаль, гэта рэальнасьць, і, як кажуць, тут не да сьмеху. Людзі з такой сьведамасьцю – ня рэдкасьць, яны трымаюць уладу, кіруюць беларускім грамадзтвам. На Беларусі адбылася кансэрвацыя саветызму палітычнымі мэтадамі, з выкарыстаньнем аўтарытарнай улады.

Фантасмагарычнасьць сітуацыі ў тым, што пакуль вялікая частка постсавецкага беларускага грамадзтва паўтарае сэнтэнцыі, кшталту, „зачэм язык“ і „какая разьніца“, ні пра якую нацыянальную і сацыяльную свабоду, ні пра якое разьвіцьцё эканомікі, ні пра які дастатак і ні пра якое годнае жыцьцё ня можа быць і гаворкі. Бо такое грамадзтва, якое ня мае агульнасьці галоўных нацыянальных каштоўнасьцяў і, тым больш, адмаўляе іх, такое грамадзтва ня ў стане абараняць свае нацыянальныя інтарэсы. Прытым ня тое, што, скажам, прыродныя рэсурсы, зямлю, фінансы, прадпрыемствы, прыродныя багацьці, але і асабістую працу. Такі беларус будзе шмат і цяжка працаваць, але заўсёды застанецца бедным, не разумеючы прычынаў сваёй беднасьці.

Прыгадваю выпадак з пачатку 90-х гадоў. У час адной з нашых дэпутацкіх паездак па Беларусі, якія практыкавалі дэпутаты *Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце*, мне прышлося чуць у цягніку размову нашых сяброў-дэпутатаў з адным заслужаным пэнсіянерам-настаўнікам. Заслужаны настаўнік, беларус, з гонарам расказваў па-руску, колькі добрых людзей ён навучыў за жыцьцё. Адзін – генэралам у Мурманску, нехта выехаў у Акадэмію навук у Пецярбург, хтосьці цяпер жыве і нешта робіць важнае ў Растове, нехта – спэцыялістам у Навасібірску, а ягоных двох сыноў, дык уладкаваліся ў Маскве. Адзін – выкладчык ва ўнівэрсітэце, а другі – інжэнер, нечым там кіруе, жаніўся на маскоўцы і ўжо гадуе двох дзяцей. Настаўнік быў вельмі задаволены.

– А якая ў вас пэнсія? – пацікавіліся ў настаўніка.

– Ой, ведаеце, малаватая, – пажаліўся ён. – Я яшчэ падпрацоўваю, маю некалькі гадзінаў у школе, бо пэнсіі не хапае.

– Чаму ж так? – запыталіся ў яго. Настаўнік разьвёў рукамі.

– А цяпер вось глядзіце, – заўважылі мае калегі. – Вы ўсё жыцьцё працавалі, навучалі беларусаў на рускай мове. Беларускі ўнівэрсітэт (таксама на рускай мове) падрыхтаваў зь іх спэцыялістаў, якія паехалі ў Расею і пачалі там працаваць, а значыцца даваць прыбытак рускай дзяржаве і плаціць падаткі ў рускі бюджэт. На адукацыю гэтых спэцыялістаў, на навучаньне іх рускай мове Расея не затраціла ні капейкі. Гэта вынік вашай працы. А дзе ж ён, гэты вынік, для вас? Дзе ваш прыбытак? З чаго ваша пэнсія, з чыйго бюджэту?

– Праўда.., – зьдзівіўся настаўнік.

– А што б было, калі б уся адукацыя была па-беларуску ў сістэме дзяржаўнай беларускай мовы? – прадаўжалі мы. – Куды была б найперш ськіраваная ўвага нашых маладых спэцыялістаў і ваш „труд“? Аб’ектыўна – ці ж не на вашыя інтарэсы? А што было б, калі б усю беларускую адукацыю перавесьці на ангельскую мову? – працягвалі мы далей. – Да каго б мы былі прывязаныя і дзе б палягала тады прычына нашай беднасьці і бядоты: на Ўсходзе ці на Захадзе?

Настаўнік быў крыху ашаломлены. Гэты савецкі інтэлігент ніколі не задумваўся над такімі пытаньнямі. Але гэтакая размова была б нармальнай дзе-небудзь у 1890-х у вагоне Лібава-Ровенскай чыгункі, а не цяпер, праз сто гадоў, калі час для многіх

беларусаў адначасна зьмяніўся і адначасна, як бачым, спыніўся ў самым пачатку.

*Беларуская мова як найважнейшая зьява культуры ёсьць таксама аснова нашай нацыянальнай свабоды і найважнейшы чыньнік эканамічнага разьвіцьця.*

Вось чаму нацыянальная ідэя імкнецца да стварэньня нацыянальнай дзяржавы ў нацыянальнай мове і на нацыянальнай тэрыторыі. Гэта дзеля таго, каб рэалізаваць жыцьцёвы (гэта значыць, духоўны і матэрыяльны) патэнцыял народа, каб стварыць аптымальныя ўмовы духоўнага камфорту і матэрыяльнага дастатку для ўсёй нацыі.

* * *

Страты нацыянальнага патэнцыялу і тармажэньне нацыянальнай ідэі нават на сто гадоў, пры ўсіх ускладненьнях, не выглядаюць вялікай бядой, калі б аднавіць незалежную, вольную, нацыянальную дзяржаву, якая б праводзіла палітыку ў інтарэсах нацыі. Тады зусім не спатрэбіцца яшчэ сто гадоў, каб вярнуць страчанае і дагнаць час. Бо калі зьнікаюць перашкоды, тады раней затарможаныя зьявы разьвіваюцца паскоранымі тэмпамі. Паскарэньне – гэта агульны закон разьвіцьця растарможаных працэсаў і назіраецца ўсюды: у мастацтве, у літаратуры, у прыродзе, у грамадзтве. Праз 10-15 гадоў нармальнага нацыянальнага разьвіцьця ў паскоранасьці ўжо не існавала б грамадзкай адсталасьці і сьведамасьці, тыпу „зачэм" і „какая разніца".

Але разумеючы закон паскоранасьці, мы павінны ўсьведамляць яго катэгарычную імпэратыўнасьць. Тое, што было перапынена і ня зроблена сто гадоў таму, на пачатку стабілізацыі нацыі, тое мусіць быць хутка (паскорана) зроблена цяпер. Пераскочыць праз абавязковыя этапы разьвіцьця, праз абавязковыя ацэнкі і абавязковыя каштоўнасьці – нельга. Яны ў адноўленых умовах павінны быць пройдзеныя імкліва, хоць бы пункцірам, але абавязкова пройдзеныя і замацаваныя. Інакш зьява (у дадзеным выпадку – беларуская нацыя) не рэалізуецца як сістэма.

Беларусы, тыя, што, як наш настаўнік, заклапочаныя толькі „сваім" і не прывыклі задумвацца над „нашым", над агульным, мусяць выразна сабе ўсьвядоміць, што калі беларуская мова ня будзе адроджаная, ня зойме належныя ёй дзяржаўныя, грамадзкія, культурныя і маральныя прыярытэты, то беларуская гісторыя можа неўзабаве скончыцца. Удакладняю: канец гісторыі – гэта катастрофа. Гэта – канец нацыі. Катастрофа суправаджаецца зьбядненьнем і дэградацыяй насельніцтва, стратай уласнасьці, зямлі, прыроды, дзяржавы, вынікаў працы. Нават сваёй працай чалавек перастане распараджацца сам.

Мы ўжо нешта падобнае выцерпелі ў XX-м стагоддзі. І таму цяпер, калі цудам засталіся жыць, нам цяжка падняцца з каленяў.

* * *

Функцыя нацыянальнай мовы ў нацыянальным грамадзтве – усеабдымная: ад духоўнага да эканамічнага выяўленьня. Аднак ня ўсюды яна выяўляецца непасрэдна. І ў гэтым хаваецца адна з цяжкасьцяў у разуменьні сутнасьці нацыянальных каштоўнасьцяў для саветызаванага чалавека.

Найбольшая складанасьць для новага беларускага Адраджэньня палягае яшчэ і ў тым, што за сто гадоў моцна зьмяніліся ўмовы і дачыненьні ў Эўропе. Пэрыяд утварэньня нацыяў якраз закончыўся ў першай чвэрці XX-га стагоддзя. Нацыянальная ідэя ў міжнароднай сьведамасьці стала як бы не актуальнай, бо гэта ўжо пражыты і пройдзены этап. А значыць аслабілася і гатовасьць да міжнацыянальнай салідарнасьці.

З 80-х гадоў мінулага стагоддзя пашырылася ў сьвеце ідэя інтэрнацыянальнай дэмакратыі, уздымаецца на катурны міжнародная дактрына „правоў чалавека", узмацняюцца лібэральныя імкненьні да інтэграцыі Эўропы і глябалізацыі сьвету. Міжнародныя дэмакраты і міжнародныя лібэралы працуюць разам над стварэньнем новых дэмакратычных супэр-імпэрыяў, супэр-дзяржаваў.

Для прадстаўнікоў гэтай звышідэалёгіі (гэтай дэмакратыі *uber alles*) нашыя, актуальныя для нас, нацыянальныя праблемы стогадовай даўніны, наша балючасьць, нашае роспачнае імкненьне выкараскацца з той бяздоннай курапацкай ямы, куды ўсадзілі наш народ недабразычліўцы, нашае стараньне ўратаваць найперш нашу мову ды незалежнасьць – усё гэта здаецца ім (шмат каму) анахранізмам. Бо ў іх мова, культура, незалежнасьць – само сабой зразумелае, яны з гэтым нарадзіліся і думаюць, што ўсё гэта існуе натуральна, у парадку рэчаў, як горы, рэкі і даліны.

Але ж у нас – ня так. Мы мусім, паскорана мусім (!) прайсьці этап дзяржаўнага ўсталяваньня нацыянальных каштоўнасьцяў і стабілізаваць нацыю разам з дэмакратыяй. Інакш у нас ня будзе будучыні.

Мы ня можам ігнараваць аб'ектыўныя законы разьвіцьця. Нам трэба дагнаць гісторыю. Мы маем на гэта найвялікшае права. Бо нас зьнішчалі, нам не давалі жыць.

Побач з фактарам пераменаў, якія адбыліся на працягу XX-га стагоддзя і ўскладнілі беларускую палітыку, застаўся нязьменны чыньнік – Расея, зь яе шавінізмам, імпэрскімі амбіцыямі і непрыхаванымі вялікадзяржаўнымі прэтэнзіямі на Беларусь. Гэты чыньнік небясьпечны. Калі б ня ён, не карэляцыя і не ўзаемадзеяньне яго з пераменамі ў сьвеце, беларускіх праблемаў у такім выглядзе, у якім яны існуюць сёньня, проста ўжо б не было.

Бальшавіцкі генацыд – гэта вельмі істотны аспэкт у беларускай трагедыі. Ніхто ня мае права і ніхто ня можа падважваць і адмаўляць нашу незалежнасьць, нашу беларускую мову, нашыя сымвалы, нашу свабоду, адзінства зямлі і гісторыі, не спытаўшыся тых амаль трох мільёнаў беларусаў, якіх нявінных забілі ў часе тэрору. Тых беларускіх пісьменьнікаў, інтэлігентаў, вучоных і простых сялянаў, якіх расстралялі толькі за тое, што былі беларусамі.

* * *

Якая ж яна, нашая сьвятая для нас, Беларуская Мова? Ці можна неяк глянуць на яе збоку, каб ацаніць аб'ектыўна? Як яна гучыць для іншых, як яе ўспрымаюць?

Кожная свая мова для кожнага народа – найлепшая і найпрыгажэйшая. І гэта правільна. Бо ў мове выяўляецца сутнасьць натуры народа, які яе стварыў, відаць яго душа, адбіваецца сваісты склад розуму і манера думаньня, матэрыялізуюцца рытмы духа і цела (гэта значыць, тэмпэрамэнту). Таму ў кожнай мове ёсьць свой характэрны рытм, свая мэлёдыя і сваё гучаньне, а лексіка падпарадкаваная вобразнай сістэме ўспрыняцьця сьвету людзьмі, якая ў розных этнічных супольнасьцяў (першасных носьбітаў мовы) адметная.

Гэтым тлумачыцца зьдзіўляючая для некаторых дасьледчыкаў зьява, што разумовыя і творчыя здольнасьці чалавека найлепш выяўляюцца ў роднай для яго мове. Тут рэалізуецца сумоўе – гарманізацыя рытмаў, распазнаўчых знакаў, найкарацейшых дарог паміж розумам, душой, тэмпэрамэнтам цела і мовай чалавека. Дасягаецца склад (камплект) аптымальнасьці асобы.

Гэта ня толькі тэарэтычныя разважаньні. Там, дзе можна прааналізаваць зьяву на масавых прыкладах і ў шырокай прак-

тыцы, вынікі відавочныя. У пачатку 90-х гадоў, калі ўзьнікла, нарэшце, магчымасьць адчыніць беларускія школы ў гарадах і разьвіваць беларускае школьніцтва, то праз нейкі час было зафіксавана, што беларускія дзеці ў беларускіх школах лепш пасьпяваюць, лепш вучацца, лепш засвойваюць матэрыял і лепш разьвіваюцца, чым беларускія дзеці ў такіх жа рускіх школах. Гэта натуральна. Адбылася гарманізацыя сваістага складу мовы і чалавека, аптымалізацыя разьвіцьця асобы. Карацей, сваё спаткалася са сваім.

Аналягічную зьяву заўважылі таксама нашыя фальклярысты. Ёсьць шмат сьведчаньняў такога роду, калі беларус, які сфармаваўся ў горадзе, у рускай мове, і ўспрыняўшы ўсе праявы савецкай эрзац-культуры, апынуўся раптам у вясковым асяроддзі сярод удзельнікаў аўтэнтычнага фальклёру і нечакана, пад уплывам эмоцыяў і ўзрушэньня, уключаўся ў народныя танцы ды сьпевы. У яго выяўляліся характэрныя рухі танцу і характэрныя прыёмы народнага сьпяваньня. Ён пачынаў ужывацца ў фальклёрнае дзеяньне, і гэтае дзеяньне, невядомае яму раней, аказваецца, не было для яго чужым.

Людзі кожнага народу, кожнага этнасу валодаюць характэрнымі рухамі, якія стасуюцца зь іхняй псіхалёгіяй, з эмацыйным станам, думкамі і мовай, на якой яны гавораць. Гэта мы называем *этнапластыкай*. Гарманізацыя яе з мовай таксама накіраваная на аптымальнае выяўленьне асобы чалавека.

*Аказваецца, нацыянальная мова зьяўляецца ня толькі галоўным чыньнікам сацыяльна-палітычнага адраджэньня нацыі, ня толькі зьвязваючым элемэнтам нацыянальнай культуры, але і фактарам найлепшага разьвіцьця асобы чалавека, перашаснай умовай яго гарманічнага існаваньня.*

* * *

Аднак за 73 гады выпрабленага гвалту над беларускай мовай за часы СССР, што афіцыйна прыкрываўся нібыта палітыкай білінгвізму ў Беларусі, сярод вялікай часткі насельніцтва стварылася вельмі некарысная зьява для беларускай культуры, менавіта, крэалізацыя (дэструктыўнае зьмешваньне) беларускай і рускай моваў. У выніку шмат беларусаў (як правіла, людзей невысокага культурнага ўзроўню) гаворыць цяпер на гэтакай зьбедненай „паўмове" ці на своеасаблівай піджын-рускай (гібрыднай) мове. (Успомнім „клясычныя" прамовы Старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Дзямянцея. Ёсьць і сьвежыя прыклады.)

Трынаццаць гадоў таму мне ўжо прыходзілася пісаць пра разбуральныя вынікі прымусовага двухмоўя на Беларусі. *(Радуга, – Таллинн, 1988, №4)* Тады беларуска-рускі „піджын" я назваў беларускім словам „трасянка", ня думаючы, што гэты тэрмін прыжывецца потым ў паняцьцях пра мову. Цяперака я паўтару тут некаторыя палажэньні.

Паўмова „трасянка" – галоўная прычына абмежаванага культурнага ўзроўню. (І цяпер мы разумеем, чаму. Крэалізацыя – гэта не ўзбагачэньне, а зьніжэньне культуры мовы, якое адлюстроўвае ўпадак культуры асобы.) Культурны чалавек не размаўляе на крэалізаваным піджын. Таму сфэра распаўсюджаньня „трасянкі" за савецкія часы – сярэднія і ніжнія стратыграфічныя сацыяльныя пласты. Грамадзкая лякалізацыя гэтай паўмовы, у сваю чаргу, забясьпечвае рэпрадукцыю і сацыяльную ўстойлівасьць „трасянкі", а значыцца, і нізкага ўзроўню духоўнай культуры, якая ў цэлым выяўляе тут тэндэнцыю да далейшага зьніжэньня. Яшчэ ў 60-80-х гадах стварылася сытуацыя, калі прычына і вынік бескультур'я зьвязаныя неразрыўна, гэта значыць, прычына (паўмова) выступае вынікам, а вынік – прычынай.




*147. Чарговы „ обшчэчэлавечэскі": „Дую сьпік беларэйшан?"*

Паўмоўе значнай часткі насельніцтва Беларусі вельмі згубна адбіваецца на разьвіцьці культуры. Разумовая энэргія народа трацiцца і не атрымлівае разьвіцьця. Прымусовы савецкі білінгвізм ігнараваў аксіёму, што без вызначэньня прыярытэту чалавек ня можа *адначасна* разьвівацца і існаваць у двух культурах. Дызарыентаваная асоба не атрымлівае паўнавартаснага духоўнага разьвіцьця. Паўмоўны індывідыум не адчувае тонкасьцяў духоўных сувязяў (што, дарэчы, засяроджана ў мове і выяўляецца праз гаворку), дрэнна думае абстрактнымі паняцьцямі, часта ня ў стане тэарэтычна асэнсаваць зьяву, а калі і разумее больш складаныя дачыненьні, то ня ўмее іх выказаць, сфармуляваць і выразна растлумачыць субяседніку. Пачынаецца пакутлівы падбор словаў, неадэкватнае ўжываньне паняцьцяў, заіканьне і спыненьне на кожнай дрэнна дапасаванай фразе, „эканьне", „мэканьне" і г.д. Тут праяўляецца не паталягічнае заіканьне, а тармажэньне сьвядомасьці, прыпыненьне на кожным слове як вынік разбалянсаванасьці думаньня і моўнага выяўленьня, як вынік неразьвітых здольнасьцяў апэраваць паняцьцямі і невалоданьне сістэмнай структурай мовы (бо ў „паўмове", між іншым, адзінай структуры няма).

Паўмоўнае існаваньне прыпыняе ўнутраны спантанны працэс культурнага разьвіцьця чалавека, таму што тармозіць нацыянальнае самапазнаньне (ідэнтэфікацыю) яго грамадзкага, культурнага і духоўнага „Я".

Аднак здольнасьць да *спажываньня* культуры пры гэтым застаецца. Толькі яна, гэтая здольнасьць, зьмяняе арыентацыю з унутранага сьвету на зьнешняе асяроддзе, з актыўнай пазыцыі на пасіўную (спажывецкую). У выніку ўзьнікаюць умовы для разьвіцьця і спажываньня масавай культуры, эрзацу, сурагату, імітацыі духоўных каштоўнасьцяў.

Шкоду, якую наносіць беларускай культуры паўмова „трасянка" (і ўвогуле, дэградацыя мовы, распаўсюджваньне чужых слэнгаў, жаргонаў, вульгарызмаў, паняцьцяў і г.д.) ніхто не падлічваў, і, як я ўважаю, ня шмат хто разумее, бо, як мяркуюць, справа ў прычынах, і зь імі трэба змагацца. Правільна. Але калі б так усё было проста, то трасянкавыя палітыкі не кіравалі б уладай у дзяржаве.

Найлепшы сродак вырataваньня беларускай мовы – гэта паўсюдна пачаць на ёй гаварыць. Гаварэм жа, і будуць нас паважаць.

* * *

Знаёмства зь іншай мовай пачынаецца са слуханьня, як яна гучыць, з адчуваньня яе мэлёдыкі і рытму словаў, якія мы ацэньваем, паводле нашага густу ці законаў эстэтыкі. Ужываюцца ацэнкі: прыгожая – непрыгожая. Спэцыялісты стварылі нават адмысловую сістэму тэставаньня моваў па мэлядычнасьці, гучнасьці, колькасьці адкрытых складоў і звонкіх зычных ды галосных гукаў, камбінацыі звонкіх зычных з галоснымі, па вакальных магчымасьцях і г.д. Беларуская мова ў гэтакім тэставаньні займае шостае месца ў сьвеце.

Наўрад ці трэба да гэтакіх дасьледваньняў адносіцца надта сур'ёзна, але ўсяроўна прыемна.

Я сустракаў шмат добрых людзей сярод палякаў, латышоў, украінцаў, ангельцаў, якія былі захопленыя вымаўленьнем, словамі і мэлёдыкай нашай мовы, прасілі пагаварыць па-беларуску і слухалі з захапленьнем, нібы музыку.

Памятаю, у 70-х гадах я пазнаёміўся з маладым літоўцам з Каўнаса Ёзасам Рыбікаўскасам. У дзяцінстве ён прачытаў на пачку з макаронамі словы на незнаёмай мове. Высьветлілася, што напісана па-беларуску. Ёзаса гэтая мова так зацікавіла і потым так спадабалася, што ён вывучыў яе, бегла гаварыў, нават вершы пісаў па-беларуску. Пасьля ён прыязджаў спэцыяльна ў Менск, каб паслухаць беларускую мову (так яму было прыемна). Праўда, у Менску яго напаткаткала вялікае расчараваньне.

Латышская літаратуразнаўца Мірдза Абала выдатна размаўляе па-беларуску. У 70-х гадах яна сказала мне, што яе цягне на Беларусь, як магнітам, і што яна заўсёды стараецца прыехаць на Гарадзеншчыну, каб толькі пагаварыць па-беларуску ды паслухаць беларускае мовы.

У цэлым жа, я лічу, што на сьвеце няма непрыгожых моваў. Кожная мова – прыгожая, бо выяўляе асабовую сутнасьць бясконцага, невычарпальнага, шматаблічнага Боскага сьвету. Гаворачы, напрыклад, пра звонкую мэлядычнасьць італьянскай мовы, у нас звычайна ўзьнікае жаданьне спасладцa на дасканаласьць *бэль-канта*, на традыцыі італьянскай опэры і г.д. Але немагчыма ўявіць у італьянскай мове, скажам, тувінскі гарлавы сьпеў. Тым часам па сіле ўзьдзеяньня і глыбіні выяўленьня нашага, але не прывычнага нам сьвету і ў не прывычнай нам эстэтыцы, гэта ёсьць магутнае мастацтва. Для вобразнага выяўленьня яму адпавядае якраз тувінская мова. І зьбегі зычных тут вельмі дарэчы. Яны на месцы гэтак жа, як італьянская вакальнасьць мовы на месцы ў опэрным *бэль-канта*.

* * *

Чым я найбольш захоплены ў Беларускай мове, гэта яе вобразнасьцю і ёмкасьцю слова (і па зьмесьце, і па гучаньні). Другое, што мне надта падабаецца, гэта шматварыянтнасьць гучаньня і напісаньня словаў, і потым – багацьце сінонімаў. Тут рай для паэтаў, можна плаваць і купацца, плюскацца ў такой багатай мове, было б толькі што казаць.

Калі глянем у гісторыю нашай мовы, то займае дых. Беларуская мова існавала даўно, яшчэ на племянным узроўні ў дапісьмовы пэрыяд. На думку гісторыкаў, як мінімум, у VI-м стагоддзі, яна ўжо была. Але на самай справе – раней. Гэта можна зразумець, аналізуючы гісторыю і аўтэнтычны фальклёр (асабліва тэксты).

У X-м стагоддзі пісьмовасьць распаўсюдзілася на Беларусі разам з Хрысьціянствам у чужой старабаўгарскай мове. Гэтая славянская мова, часткова набліжаная да беларускай, стала адыгрываць ролю афіцыйнай, кніжнай, „граматнай" мовы, мовы, на якой пішуць і размаўляюць пісьменныя людзі (найперш, сьвятары і сацыяльныя вярхі). У пэўнай ступені, яна займала такое ж становішча ў старажытнай Беларусі, як пазьней – мова вярхоў у Атаманскай імпэрыі. Старабаўгарская мова ў беларускай культуры – *гэта была мова бяз этнасу*, гэта ад пачатку была мёртвая мова. Паступова, з разьвіцьцём грамадства і ўскладненьнем функцыяў дзяржавы, адбывалася лексічнае ўзаемапранікненьне моваў і экспансія жывой беларушчыны ў мёртвую кніжную мову.

Асабліва гэта стала відаць у XIV- XV стагоддзях. Ужо ў XVI-м стагоддзі, у пэрыяд *Рэнесансу*, мёртвая старабаўгарская мова зьнікае з грамадзкага ўжытку і лякалізуецца толькі ў праваслаўнай царкве, і то, як царкоўны (царкоўна-славянскі) афіцыёз. У дзяржаўных і грамадзкіх дачыненьнях у *Вялікім Княстве Літоўскім* запанавала старабеларуская кніжная мова, якая канчаткова выцесьніла, запаланіла і перамагла ранейшую кніжную старабаўгарскую мову.

Тут варта заўважыць, што рускія савецкія гісторыкі-шавіністы называлі старабаўгарскую мову „древнерусским языком" і будавалі на гэтым цэлыя антынавуковыя канцэпцыі аб міфічным „древнерусском государстве" (пад якім падразумевалі Кіеўскую Русь і часова залежныя ад яе землі), аб „узьнікненьні" беларусаў, украінцаў і рускіх зь міфічнай „древнерусской народности" (якой ніколі не існавала) і аб пачатку беларускай мовы з XIV стагоддзя, а беларускай гісторыі – з 1917 года.

Рускія афіцыёзныя гісторыкі прыдумвалі гісторыю, каб абгрунтаваць нібыта натуральнасьць існаваньня СССР, расейскі каляніялізм і расейскія прэтэнзіі на Ўкраіну і Беларусь.

Я сказаў у пачатку, што, азіраючыся на гісторыю нашай мовы, займае дых. Таму што на старабеларускай дзяржаўнай мовеневерагодна шмат напісана, таму, што я зачараваны яе багацьцем, вобразнасьцю, распрацаванасьцю і харαством. Пачытаўшы на старабеларускай кніжнай мове, разумееш, чаму Максім Багдановіч, седзячы ў расейскім горадзе Яраслаўль і акунуўшыся ў чытаньне гэтай мовы, стаў вялікім паэтам. Вось жа і сапраўды, што *„як алень спрагнелы, мкнець да вады крынічнай, шукаю Бога я"*.

Апошняя зьмена кніжных і афіцыйных моваў адбылася шмат дзе ў Эўропе (і ня толькі ў Эўропе) у XVIII-XIX стагоддзях, у пэрыяд узьнікненьня нацыянальных рухаў супраць імпэрыяў, з разьвіцьцём літаратуры *рамантызму* і ў выніку стварэньня нацыянальных дзяржаваў.

У гэты час адбываецца пранікненьне ў літаратурны і афіцыйны ўжытак народнай мовы (гэта значыць мовы, на якой гаварылі і сьпявалі шырокія масы народа). Менавіта гэтая мова стала мовай нацыянальнай літаратуры, менавіта за яе змагаліся нацыянальныя рухі, менавіта на ёй будавалася нацыянальная дзяржава

і новая нацыянальная культура. Беларуская гісторыя, таксама як і гісторыя іншых народаў, добра ілюструе гэты моўны працэс.

Цяперака, азірнуўшыся за сабой, углядаючыся ў глыбіню, у наш народны лёс, можам сказаць коратка і ёмка: Беларуская мова – гэта мы.

* * *

Але ёсьць яшчэ вышэйшая цана мовы, якая не вымяраецца нават жыцьцямі. ***Мова належыць усім пакаленьням народу, якія жылі дагэтуль і якія будуць жыць потым. Мова належыць мінуламу і будучыні. Ніхто ня мае права разбуральна распараджацца лёсам нацыянальнай мовы (а толькі station ўча), ніякі чалавек і ніякое пакаленьне народу. Мова ёсьць трансцэндэнтная, вечнасная каштоўнасьць нацыі.*** Таму пытаньне існаваньня ці абмежаванасьці ўжываньня мовы ніколі і нідзе не вырашаецца на рэфэрэндумах. Бо людзьмі (пакаленьнем) могуць маніпуляваць. Не дазваляюць вынясеньня лёсу мовы на рэфэрэндум і беларускія законы.

* * *

У цяперашніх абставінах, калі ўлады рэжыму прыніжаюць беларускую мову, зачыняюць беларускія школы ды беларускія газэты, па афіцыйных крыніцах вядома, што больш за 86 адсоткаў грамадзянаў Беларусі лічаць беларускую мову сваёй роднай, але толькі каля сарака адсоткаў карыстаюцца ёй ў жыцьці.

І тут узьнікае пытаньне, якое мне задавалі ўсюды, на якое ня проста адказаць і цяжка ўсім растлумачыць. Бо не разумеюць. Пытаньне гэтае гучыць так: *„А чаму беларусы між сабой не гавораць па-беларуску?”* Усе на сьвеце між сабой гавораць па-свойму. Цыганы, якія ніколі ня мелі і ня маюць сваіх школаў, бо не існуе цыганскай пісьмовасьці, а між сабой – гавораць па-цыганску. Ня знойдзеш цыгана, які б не гаварыў па-цыганску. Дык у чым жа справа?

Ня стану і я адказваць на дзіўнае пытаньне, тым больш, паўтаруся, што нідзе нас у гэтым не разумеюць. Зазначу толькі, што, для датрыманьня чалавечай годнасьці і нават найпрасьцейшага культурнага звычаю ці маральнага рушэньня, заўсёды патрэбнае стараньне і сіла духа. У канцовым выпадку вырашае воля. Нішто ня можа перамагчы волю людзей, калі яна моцная і калі яна ёсьць. З гэтага гледзішча не павінна б існаваць праблемы беларускай мовы ў Беларусі. Бо заўсёды можа стацца так, як усе захочуць.

Мы мусім усьвядоміць, што ў нас самых засяроджаная велізарная магчымасьць: без вялікай бойкі, бяз грукату, бяз шуму і стратаў у корані перамяніць становішча і высока падняць нашу беларускую мову ў нашай краіне. Менавіта так думаюць і робяць усе ва ўсім сьвеце. Патрэбныя толькі хаценьне, воля і добры чын.

Дык чаму ж беларус зь беларусам не гавораць па-беларуску?..

*28 верасьня 2001 г., Варшава.*
*(„Народная Воля”, – 2001, 31 кастрычніка, 2 лістапада).*

## 3. БЕЛАРУСКІ НАРОД

Найвялікшай каштоўнасьцю Беларускай Нацыі ёсьць Беларускі Народ. Народ – гэта фізічнае цела нацыі. Гэта ўсе мы і кожны з нас разам. Культура, мова, вера, характар, мэнтальнасьць ёсьць як бы аўра народу (душа), вытворнае духа і дзейнасьці. У гэтакім адзінстве „душы” і „цела” толькі й можа існаваць народ.

Калі мы гаворым пра каштоўнасьць народу, то перш за ўсё маем на ўвазе ягонае існаваньне, ягоную ***бытнасьць***, прысутнасьць у жыцьці. Народ павінен ***быць***. Дзеля гэтага грамадзтва клапоціцца пра стварэньне ўмоваў існаваньня народу і пэрспэктываў ягонага разьвіцьця.



Аўра ствараецца толькі на ўзроўні грамадзкага ўсьведамленьня народнай пэрспэктывы і забясьпечвае несьмяртэльнасьць народу. Фігуральна і сымвалічна вечнасьць народу можна паказаць так: ЛЮДЗІ – ДОМ – ХРАМ. Лёгка зразумець (і гэта пацьвярджаецца гісторыяй), што дэградацыя і самавымiраньне пачынаецца заўсёды ў адваротным парадку – з разбурэньня ХРАМА, са зьнішчэньня аўры (г. зн. мовы, рэлігіі, культуры і г.д.). Потым разбураецца ДОМ (г. зн. адбываецца страта ўласнасьці, маёмасьці, дзяржаўнасьці, расстройства працоўных дачыненьняў, марнатраўства грамадзкага багацьця і г.д.).

Пасьля разбурэньня ДОМА перад людзьмі застаюцца два шляхі: альбо адраджэньне (гэта значыць найперш – адраджэньне ХРАМА), альбо заміраньне, зьнікненьне з культуры і геаграфічнае мапы чалавецтва. (У цяперашняй цывілізацыі такі стан можа зацягвацца харытатыўнай дапамогай, гуманітарнымі падачкамі на выжываньне. Але гэта не ўплывае на працэс вымiраньня).

Адраджэньне заўсёды пачынаецца (і толькі магчымае) з духоўнай ідэі адбудовы ХРАМА (сьвятыні). Ізноў паўтаруся: гэта значыць мовы, гістарычнай памяці, культуры, рэлігіі, сымвалаў, велічы і г.д. Ідэалёгіі, якія дэкляруюць будаваць толькі ДОМ, як правіла, узьнікаюць у спэцыяльных абставінах, маюць матэрыялістычна-папулісцкі ці падвойны характар і вырастаюць ва ўмовах рэгрэсу, самы зьяўляюцца адлюстраваньнем заняпаду.

Будаўніцтва сьвятыні вымагае ахвярнасьці, бо яно не абгрунтаванае матэрыяльнымі мэтамі. Каб будаваць храм, трэба ўмець думаць духоўнымі сымваламі, асэнсоўваць іх і адчуваць патрэбу. Вымагаецца адпаведны ўзровень грамадзтва, каб быць народам і мець індывідуальную адказнасьць за нацыянальныя інтарэсы.

Узровень дасягаецца ў выніку стварэньня абставінаў *гістарычнага разьвіцьця*. Тады вялікую ролю пачынае адыгрываць характар улады і дзейнасьць грамадзкай эліты.

Тым часам пры выхадзе з заняпаду і ў пэрыяд нацыянальнага адраджэньня найвялікшую ролю адыгрывае нацыянальнае асьветніцтва і нацыянальная эліта, накіраваная на стварэньне


(Фота Ул. Кармілкіна)

***148. Дзяды – 2001.***

ХРАМА. Дарога павінна весьці да сьвятыні. Грамадзтва мусіць мець ідэалы.

***Ніякія прагматычныя інтарэсы не прыводзяць да нацыянальнага адраджэньня народа, бо адраджэньне патрабуе ахвярнай барацьбы і не зьяўляецца прагматычным дзеяньнем.***

Гісторыя чалавецтва набрала вялікі грамадзкі вопыт, што рабіць і чаго не рабіць. Ня трэба, напрыклад, будаваць Бабілёнскую вежу, але заўсёды трэба берагчы сьвятыню, нават калі ад яе засталася толькі сьцяна.

Шляхі і вынікі нацыянальнага адраджэньня добра вядомыя, маем шмат прыкладаў. Тым часам амаль не гаворыцца пра працэсы і вынікі рэгрэсу. У гэтым ніхто не зацікаўлены. А калі і гаворыцца, то ў скажоным выглядзе, найчасьцей сьведама падмяняючы паняцьці, бо рэгрэсуючае грамадзтва ня ў стане пра сябе адпаведна паведамляць. Заняпад адных часта адпавядае інтарэсам іншых.

Ацэнка народам самога сябе розная на схіле і на ўздыме. Адраджэньне, што вымагае ахвярнасьці, менш праймаецца стратамі, бо на ўздыме на месца аднаго становяцца двое.

Тым часам пры заняпадзе страты неаднаўляльныя. Адсюль патрабаваньне розных стратэгіі існаваньня. Пры ўзьлёце вырастае роля і вартасьць асобы. Але менавіта на схіле прыходзіць усьведамленьне каштоўнасьці кожнага чалавека, патрэбнасьці дапамагаць народу на этнічным узроўні, незалежна ад палітычнае і ідэалягічнае арыентацыі. У найбольш здаровай частцы людзей тут спрацоўвае інстынкт выжываньня. Гэта разумны інстынкт, бо народ існуе пакаленьнямі, а палітычныя погляды, ідэалёгія не абавязкова перадаюцца ў спадчыну. Кожнае пакаленьне сінтэзуе сваю ідэйна-палітычную рэальнасьць. Дзеці не абавязкова ва ўсім паўтараюць бацькоў. Але з пшаніцы вырастае пшаніца, а з бобу – боб. Культурнае поле трэба берагчы ад зарастаньня.

Тым часам у пэрыяд дэградацыі відавы інстынкт (у дадзеным выпадку, інстынкт захаваньня этнасу) якраз аслаблены. Людзі не трымаюцца сваіх, сваёй зямлі, звычаяў, сям'і, бацькоў, дзяцей, традыцыяў і г.д. Зьнікаюць паняцьці і патрэбнасьць ідэалаў, абавязкаў перад усімі, аслабляецца здольнасьць да супрацiўленьня, да барацьбы за што-небудзь, нават за самыя неабходныя асабістыя інтарэсы (не кажам ужо пра інтарэсы народныя).

Працэс заняпаду народа гэта ёсьць, перш за ўсё, заняпад сьведамасьці. Аднак гэты рух па схіле ня ёсьць пэрманэнтным распадам. Адбываецца эфэкт сціскання. Нейкая частка народу (этнасу) на ўзроўні асобаў і цэлых групаў не паддаецца разбурэньню, захоўвае сваю ўнутраную ідэнтычнасьць і здольнасьць супраціўляцца. Колькасьць такіх людзей можа быць рознай і заставацца доўгі час на пастаянным узроўні.

Менавіта дзякуючы перш за ўсё гэтай „сьціснутай" здаровай колькасьці людзей, магчымы ёсьць фэнамэн *нацыянальнага адраджэньня*, і пружына тады пачынае выпроствацца (пры ўмове, калі зьберагласся бытнасьць этнасу).

Калі ж дэградаваны этнас зьнікае і засталася толькі „сьціснутая" ягоная частка, то яна (гэтая частка, якая ідэнтыфікуе сябе) ёсьць самая моцная. Яна можа гістарычна рэалізавацца ў сваіх сьціснутых межах і выявіць надзвычайную здольнасьць да выжываньня (паколькі тут засталася спрэсаваная здаровая сіла загіблага народу).

Тыповымі прыкладамі такой „спрэсаванай" гістарычнай рэалізацыі ёсьць, на мой погляд, краіны Балтыі (Эстонія, Латвія, Летува). Мы яшчэ назіраем таксама шмат дзе ў сьвеце працэс барацьбы за незалежнасьць такіх народаў, што панесьлі этнічныя страты і захавалі толькі сваё народнае ядро). Гэта валійцы, фляманды, чачэнцы, татары, адзін з найстарэйшых народаў Эўропы – баскі – і іншыя.

Выпадкаў канчатковага народнага заміраньня, аднак, яшчэ больш. Блізкія прыклады: прусы, яцьвягі, правансальцы, хазары і інш.

Беларускі народ уваходзіць у трэцюю групу дачыненьняў, менавіта: нацыянальнага адраджэньня і існаваньня ў форме нацыянальнай дзяржавы. У гэтым стане знаходзіцца пераважная большасьць народаў Эўропы. Аднак Беларускае Адраджэньне, якое палітычна рэалізавалася ў 1918 годзе і стварыла беларускую нацыянальную дзяржаву, неўзабаве было перапыненае акупацыяй і расчляненьнем Беларусі паміж Расеяй і Польшчай. Нацыянальныя сілы, якія павінны б былі ў нармальных умовах

забясьпечваць якраз дзяржаўную стабілізацыю беларускай нацыі, змушаныя былі адхіліцца на барацьбу з акупацыйнай палітыкай за выжываньне народа і неўзабаве ў большасьці былі фізічна зьнішчаныя; рэшта выгнаная за межы Беларусі.

Да паловы XX стагоддзя Беларускае Адраджэньне было разгромлена, а ягоныя дзеячы ліквідаваныя. Прытым сталінскія бальшавікі імкнуліся зьнішчыць перш за ўсё найбольш сьведамую, здаровую частку народа.

Тут трэба адзначыць, што генацыд на Беларусі расейскія бальшавікі праводзілі плянава (гэта значыць, што забівалі беларусаў па разнарадцы). Але адначасна зьнішчалі выбарачна, адпаведныя групы насельніцтва, найперш і менавіта – лепшых людзей. Так было забіта агулам каля трох мільёнаў беларусаў. Таму калі ў 80-х гадах (з падрастаньнем новага пакаленьня) пачалося вызвольнае змаганьне за беларускае адраджэньне і дзяржаўную незалежнасьць, выпростваньне пружыны ўжо не набрала належнай сілы, каб адным махам (як у іншых краінах) скончыць з акупацыйнымі дачыненьнямі і рэшткамі каляніялізму.

Мы назіраем перапляценьне супярэчлівых працэсаў. У першай палове 90-х гадоў дамінавалі адраджэнскія тэндэнцыі. З другой паловы 90-х павялічваюцца праявы рэгрэсу.

Генацыд, русіфікацыя і вынішчэньне беларускага народу ў XX-м стагоддзі былі настолькі разбуральнымі для нацыі, што стварылі ў народзе характэрныя праявы заняпаду: абыякавасьць да палітыкі, гісторыі, культуры, да нацыянальных ідэалаў; адсутнасьць нацыянальнага радыкалізму; няздольнасьць да супрацiўленьня і барацьбы; канцэнтрацыя на прыватным жыцьці і г.д.

І рэгрэсіўная тэндэнцыя, і адраджэнскі рух абазначылі „ядро народу" (сканцэнтраваны этнас), лік якога ў 80-х гадах быў вельмі малы і сягаў у сярэднім аднаго-двух мільёнаў чалавек (10-20%). Гэтая лічба была добра відаць падчас гарбачоўскага ўсесавецкага рэфэрэндуму вясной 1991 года. Тут акрэсьленая велічыня, якая заўсёды вызначаецца пры комплекснай рэакцыі на нацыянальныя праблемы і нацыянальныя сымвалы, такія, як абарона нацыянальнай незалежнасьці, беларускай мовы, беларускай школы, беларускага войска, беларускага гэрба *Пагоня* і *Бел-Чырвона-Белага Сьцяга*, гатовасьць змагацца з імпэрскай палітыкай Расеі.

Гэтая цэнтральная велічыня (нацыянальна актывізаванае „ядро народу") цяпер істотна павялічылася, нягледзячы на супярэчлівыя палітычныя тэндэнцыі, і перакрочыла за палову. Але, з прычыны контравэрсійных абставінаў, яна мае, аднак, даволі размытыя межы. (Што ў цэлым якраз і адлюстроўвае становішча пераменнага руху.)

Мушу адзначыць, што ў стабільных незалежных краінах апора грамадзтва на нацыянальных каштоўнасьцях і сымвалах сягае заўсёды далёка за 90 адсоткаў. Нацыянальныя каштоўнасьці – тут бясспрэчныя пастулаты для ўсіх грамадзянаў краіны.

* * *

У беларускім грамадзтве існуюць паняцьці, якія ў сьведамасьці людзей на Захадзе альбо адсутнічаюць, альбо падразумяваюць крыху іншае значэньне. Напрыклад, няма такога шырокага паняцьця, як „інтэлігенцыя", што падразумявае ў нас людзей адпаведнага культурнага, адукацыйнага, сацыяльнага, інтэлектуальнага і маральна-этычнага ўзроўню, вылучаных па роду заняткаў і дзейнасьці. На Захадзе такое абагульненьне і шырокае вызначэньне патрабуе дадатковага тлумачэньня.

Нешта падобнае назіраецца і ў разуменьні слова „народ". Але сутнасьць тут не ў разыходжаньнях з Захадам, а ў разыходжаньні з часам.

На Беларусі – і сярод інтэлігенцыі, і сярод палітыкаў, і ўвогуле ў грамадзтве – пануюць яшчэ народніцкія паняцьці пра народ, якія склаліся ў XIX-м стагоддзі (найбольш у рамантычнай літаратуры). Маўляў, народ – гэта найперш сяляне, пастаяннае насельніцтва, што фізічна працуе на зямлі і выяўляе ў сабе асноўныя прыкметы этнасу. Тыя, што пісалі пра гэта і любілі „народ", былі шляхтай, панамі, разначынцамі і г.д. Адным словам, быў „народ", і былі „яны".

Потым „народ" палюбілі рэвалюцыянеры і распаўсюдзілі гэтае паняцьце таксама на рабочых і на ўсіх, хто займаўся непасрэдна вытворчай ручной неінтэлектуальнай працай. Значыцца – на сацыяльныя нізы грамадзтва.

А калі так, то зьявілася жаданьне народ ашчасьлівіць. Гісторыя дамовых унутраных войнаў і ўнутранай барацьбы за ўладу сьведчыць, што як толькі зьяўляюцца энтузіясты перавярнуць усё ўверх дном, – „шчасьце" не за гарамі.

У расейскай імпэрыі найбольш „шчасьцетворнымі" аказаліся бальшавікі. Грамадзтва, якое яны пабудавалі, выглядала надзвычай проста: з аднаго боку ўжо „шчасьлівы", часткова ацалелы народ, з другога – партыя (бальшавікоў, значыць). Усё гэта называлася: „партия и народ – едины".

Таму калі ў Савецкім Саюзе нейкі партыйны „таварыш" гаварыў пра народ – усё было зразумела, што ён меў на ўвазе. Калі ж гэтак гаварыў не „таварыш", то, як выяўлялася, пад уплывам „таварышаў" і пад узьдзеяньнем адукацыі (дзе вывучалі паэтаў тыпу Някрасава, „філёсафаў", тыпу Чарнышэўскага і палітыкаў, кшталту Леніна), ён разумеў тое ж самае, толькі па паняцьцях XIX-га стагоддзя.

Народ – у савецкім уяўленьні – гэта простыя, як правіла, менш адукаваныя людзі, масы, якія займаюцца пераважна ручной працай, вытворчасьцю і гуртуюцца ў натоўп, рабочыя ды калгасьнікі.

Савецкае (ці савецка-народніцкае) паняцьце пра народ бытуе ў Беларусі па сёньняшні дзень. Зьявіліся нават нэўрастэнікі, гатовыя праклінаць быццам бы „дурны народ" (як яны кажуць), што ня йдзе на барыкады і галасуе за Лукашэнку.

Нацыянальна-дэмакратычнае разуменьне паняцьця „народ" (беларускі народ) – іншае. Народ, як я ўжо казаў у пачатку, – гэта ўсе мы – беларусы, жыхары нацыянальна-дэмакратычнай дзяржавы. Гэта ўсе мы – людзі аднаго беларускага этнасу, яго мовы, гісторыі і тэрыторыі, незалежна ад адукацыі, сацыяльнага стану і роду заняткаў.*

Паводле прынцыпаў нацыянальна-дэмакратычнай дзяржавы, кожны беларус ёсьць частка беларускага народа, кожны можа (мае магчымасьць) сказаць: народ – гэта я. Сумяшчэньне індывідуальных інтарэсаў і пачуцьцё адказнасьці за ўсіх – гэта той стан, якім характарызуецца народ у дэмакратыі айчынаў.

Тым часам, калі пагаварыць зь беларусамі, то шмат хто думае, быццам народ – гэта нехта, а ён – так сабе: інтэлігент, ці вучоны, студэнт, ці ўвогуле „просты чалавек".

За часы акупацыяў і вынішчэньняў у беларускім народзе (як і ў кожным іншым) набралася шмат неадпаведных, чужых, аджылых меркаваньняў, наносных якасьцяў, якія адмоўна ўплываюць на мэнтальнасьць, перашкаджаюць адпаведна ацэньваць рэчаіснасьць.

Гэтыя „адмоўныя якасьці" можна, што называецца, раскласьці па палічках. Але я ня бачу аніякай неабходнасьці ў такога роду

---

* Прадстаўнікі іншых дзяржаваў і іншых нацыянальнасьцяў, якія маюць беларускае грамадзянства і валодаюць усімі правамі, зьяўляюцца інтэгральнай часткай беларускага грамадзтва (у палітычным і юрыдычным сэнсе). У нацыянальна-культурным сэнсе яны могуць карыстацца правамі нацыянальных меншыняў.

аналізе і катэгарычна супраць выстаўленьня народных балячак напаказ у той час, калі зачыняюць беларускія школы, зьневажаюць беларускую мову, аплёўваюць беларускія сымвалы, гісторыю і культуру, Васіля Быкава, Кастуся Каліноўскага, і ўсё гэта называецца афіцыйнай палітыкай. Трэба нам шукаць іншыя спосабы народнай размовы і пазбаўленьня ад недахопаў, чым выстаўленьне іх на публічны агляд у няволі. (Мы ўжо маем гістарычны вопыт самабічаваньня перад чужымі.) Пра нашыя народныя ўнутраныя бядоты публічна мы будзем гаварыць у вольнай Беларусі (калі застанецца ў гэтым патрэба).

Вышэйшая праўда ня ў тым, што ў нас склаліся тыя ці іншыя адмоўныя звычкі, а ў тым, што цяпер, як на вайне, патрэбная адказнасьць і разумная самаацэнка, нельга даваць аргументы нягоднікам і ворагам беларушчыны, каб яны потым пацьвельваліся і зьневажалі наш народ, спасылаючыся на выказваньні самых беларусаў.

Калі йдуць у адведкі да хворага чалавека, то ня кажуць яму, як ён кепска выглядае і што можа памерці, бо вышэйшая праўда ў іншым – падтрымаць хворага, каб выздаравеў.

Нам, беларусам, патрэбна цяпер не самакрытыка і не самаедзтва, а ***самападтрымка***, station станоўчыя прыклады і станоўчыя ідэалы. (Тым больш, што самаедзтва – адна з заганаў у нашым грамадзтве.)

Памятаю, нядаўна ў Чэхіі група чэхаў і беларусаў слухала беларускую песьню, дзе сьпявак-беларус вітаў беларускую „нацыю", абзываючы яе грубым зьняважлівым словам.

„Калі б такое пра чэхаў сьпяваў чэх, – сказаў адзін, – яго б проста..." (Тут я не перадаю, што б зь ім зрабілі, каб не пашыраць экстрэмісцкія выказваньні, але прысуд быў бы вельмі жорсткі.)

Іншая справа, што чэхі такога не сьпяваюць. Не прыходзіць у галаву. А беларусы – нічога. Слухаюць. Прывыклі, відаць.

Зважайма, аднак, што як мы думаем, так мы і жывём. А не наадварот.

Беларускі народ – гэта ты і я, ён і яны. Не забывайма, што народ існуе на доле (кансэрватыўная ягоная частка), але разьвіваецца ўгары.

Народ, як ужо гаварылася, жыве ў лепшых сваіх прадстаўніках. Павінен быць баланс, давер, лучнасьць паміж элітай і паспольствам (грамадзтвам). І найперш – у разуменьні і ўспрыняцьці нацыянальных каштоўнасьцяў. На верхавіне ж народу палягае і трымаецца найвялікшая адказнасьць за ягоны лёс.

Ці ўсьвядоміла сабе гэта наша беларуская „верхавіна"? Вось дзе пытаньне.

* * *

Што трэба рабіць, каб народ існаваў, ствараў і разьвіваўся, як забясьпечыць стабільнасьць ягонай трыадзінай структуры быцьця?

Як і ва ўсялякай канструкцыі, ідэйнай ці матэрыяльнай, тут ёсьць асновы (апоры), на якіх трымаецца ўвесь баланс зьявы. Калі гэтыя апоры выбіць, структура пачынае распадацца, зьява не разьвіваецца. На зьберажэньне такіх апорных асноваў нацыі павінна накіроўвацца агульная энэргія народа. (Тут падкрэсьліваю, што менавіта *агульная энэргія*, як імпэратыўнае дзеяньне, якое не падлягае сумненьню і ўсьведамляецца як неабходнасьць.)

На ўзроўні ЛЮДЗЕЙ галоўным зьберагаючым і фармуючым грунтам зьяўляецца ***салідарнасьць***. Пачуцьцё салідарнасьці рознае ў розных народаў. Мы гэта выразна бачым на практыцы і заўсёды можам ацаніць вынікі гэтай рознасьці.

Салідарнасьць – вялікая сіла, моц народа. Калі народ салідарызаваны, ён вытрывала пераносіць удары лёсу (страту незалежнасьці, акупацыю, генацыд, рэпрэсіі, перасьлед і інш.). Салідарны народ – непераможны, на салідарнасьці трымаецца грунт яго незалежнасьці і свабоды.

Пачуцьцё салідарнасьці – гэта частка мэнтальнасьці народа, яно складваецца гістарычна на працягу жыцьця пакаленьняў. Яго нельга адразу зьнішчыць і адразу набыць. Патрэбныя адпаведныя ўмовы і доўгі працэс, замацаваны ў падсьведамасьці.

Трэба разумець, што народу з малой салідарнасьцю цяжка самарэалізавацца (асабліва ў неспрыяльных умовах), ён лягчэй паддаецца асіміляцыі і без супраціву здольны растрачваць свой духоўны і народны набытак. Аднак салідарнасьць можна шматкроць павялічыць тады, калі народ усьведамляе яе неабходнасьць.

На ўзроўні ДОМУ галоўным апірышчам зьяўляецца ***незалежнасьць*** (дзяржаўная незалежнасьць). Гэтая пазыцыя дасягаецца і зьберагаецца толькі агульным калектыўным дзеяньнем і зьяўляецца ўмовай нармальнага разьвіцьця.

Народнае разьвіцьцё найбольш поўна забясьпечваецца дзяржаўнай палітыкай. Таму на структурным узроўні ДОМУ няма нічога важнейшага за дзяржаўную незалежнасьць, бо толькі тады ўвогуле можна нешта гарантавана плянаваць і рабіць у маштабе ўсёй нацыі.

Цяперашні актуальны лёзунг Беларускага Народнага Фронту: *„Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свбода, бо не бывае „правоў чалавека" пад акупацыяй"*, – гэты лёзунг зыходзіць якраз з разуменьня прыярытэту дзяржаўнай незалежнасьці. Калі ня ставіць галоўнай мэтаю барацьбу за свабоду і незалежнасьць, то можна ўвесь час змагацца за „правы чалавека" (дасягаючы мізэрнасьці цаной вялікіх ахвяраў), але змарнаваць будучыню ўсёй нацыі. Будучыня найперш – у свабодзе, а не ў выпрошваньні правоў перад акупантамі і дыктатарам.

Змагацца за правы неабходна. Але без барацьбы за волю – гэта лёгіка калябарантаў. Хаця (тут я зраблю адступленьне ад тэмы) нельга адмаўляць нацыянальнай калябарацыі з акупацыйным рэжымам у сфэры адміністрацыі, бо трэба абараняць народ любымі спосабамі. Аднак і ў абароне трэба мець на мэце змаганьне за незалежнасьць.

Шмат якія беларускія адраджэнцы пэрыяду 2-й Сусьветнай вайны сьведама пайшлі працаваць у цывільную акупацыйную адміністрацыю, адчынілі беларускія школы, тэатры, арганізавалі беларускую моладзь, у канцы вайны – беларускія вайсковыя адзінкі, выхавалі паўтысячны беларускі афіцэрскі корпус і адначасна (яны ж) адразу стварылі антынямецкае падпольле – таемную Беларускую Незалежніцкую Партыю, якая змагалася зь немцамі. (І якую гэстапаўцы вынішчылі амаль на палову.)

Потым тысячы беларускіх адраджэнцаў стварылі моцную беларускую палітычную эміграцыю на Захадзе, аднавілі дзейнасьць Рады БНР, удзельнічалі ў халоднай вайне супраць СССР, зьберагл і беларускія сымвалы і Беларускую нацыянальную ідэю, якую ў 80-х гадах зноў узьняў і сцьвердзіў нанова Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне".

Другі прыклад калябарацыі: 20-я гады, беларускія дзеячы паверылі абяцаньням бальшавікоў і вяртаюцца на Беларусь. Яны працуюць дзеля Бацькаўшчыны, беларускай навукі, асьветы, культуры, не стварыўшы ніякага антыакупацыйнага падпольля і не змагаючыся з бальшавізмам. Практычна, усе яны неўзабаве былі фізічна зьнішчаныя НКВД, перастраляныя, як качкі, а тыя, што трапілі ў ГУЛАГ, толькі перад сьмерцю зразумелі сваю памылку.

Трэці прыклад: пасьляваенная беларуска-савецкая калябарацыя. Тут згнечаны нават інстынкт супраціўленьня. Абаро-

на Беларушчыны ідзе на ўзроўні адстойваньня нацыянальных правоў, дазволеных у межах камуністычнай дактрыны і савецкай палітыкі. Хоць кожны разумеў, што ўсё вырашае не камуністычная дактрына, а крамлёўская ўлада.

Цяперашняя сітуацыя паказвае, што Масква (дакладней – маскоўская палітычная ўлада: КГБ-ФСБ) зрабіла тактычныя высновы са стогадовай барацьбы зь беларускім Адраджэньнем. Яна імкнецца насадзіць рускую вышэйшую адміністрацыю ў Беларусі, выключыўшы супрацоўніцтва зь беларусамі нават на ўзроўні былых савецкіх функцыянераў і ствараючы пры гэтым сваю квазіапазыцыю з былой каляніяльнай намэнклятуры. (Тактыка так званага „кіруемага канфлікту”.)



***149. Дзіцячы фальклёрны тэатр „Госьціца”. Менск***

Практычна, ідзе франтальнае зьнішчэньне ўсяго беларускага. (Цяпер узяліся за разбурэньне *Курапатаў*, за беларускія кадры і за закрыцьцё апошніх беларускіх газэтаў.) Сытуацыя падобная, як у 1943 годзе за часы гаўляйтара фон Готбэрга – беларусафоба і шэфа Гэстапа, які арганізаваў забойствы дзеячоў Беларускай Незалежніцкай Партыі і ліквідацыю прыхільнага да беларусаў Вільгэльма Кубэ.

* * *

Але вернемся да нашай размовы пра апорныя асновы народу.

На ўзроўні ХРАМУ, у сфэры ідэяў, творчасьці, веры, культуры, галоўным апірышчам зьяўляецца ***нацыянальная мова***.

Я ужо казаў у разьдзеле пра беларускую мову, што змаганьне за ўсталяваньне нацыянальнай мовы было першасным пытаньнем нацыянальнага фармаваньня народаў, стварэньня нацыяў і нацыянальных дзяржаваў. Сьцьверджаньне нацыянальнай мовы адбывалася рознымі шляхамі, але паўсюдна гэтае пытаньне ўспрымалася тады як палітычнае і вырашалася часам у зацятай барацьбе з імпэрскай палітыкай вялікіх дзяржаваў.

Мова, якая ў сваёй фэнамэнальнай сутнасьці зьяўляецца наймагутнейшым сродкам культуры (бо фармалізавала і сфармавала чалавечае думаньне), у пэрыяд стварэньня нацыяў асэнсоўваецца якраз у гэтым культуралягічным значэньні як галоўны, зьвязваючы і культурны чыньнік нацыі.

Гэты чыньнік унівэрсальны як для эвалюцыйных гістарычных нацыяў, гэтак і для новых, піянэрскіх, каляніяльных ці эміграцкіх грамадзтваў, такіх, як, скажам, ЗША, Канада, Аўстралія і інш. Працэсы моўнай уніфікацыі тут даволі вядомыя і складваліся часам у выніку жорсткай ваеннай і палітычнай барацьбы. Адгалоскі яе не закончыліся па сёньняшні дзень. (Напрыклад, змаганьне французкамоўнага Квэбека за незалежнасьць ад Канады).

Агульнапрынята, што працэс складваньня нацыяў спыніўся ў пачатку XX-га стагоддзя. Але змаганьне за незалежнасьць і нацыянальнае Адраджэньне там, дзе засталіся рэшткі каляніялізму і імпэрскай палітыкі, прадаўжаецца па сёньняшні дзень (Каўказ, Балканы, Вялікабрытанія, Усходняя Эўропа, Расея).

Імпэрская палітыка спарадзіла шэраг тактычных і прапагандысцкіх прыёмаў у барацьбе з нацыянальным Адраджэньнем і нацыянальнай мовай.

Самым небясьпечным палітычным вывертам імпэрскай стратэгіі ў змаганьні з нацыямі ёсьць падмена нацыянальнай ідэі рэлігійнай (канфэсійнай) ідэяй. Такая маніпуляцыя, калі яна прышчаплялася ў грамадзтве, заўсёды прыводзіла да бясконцай братабойчай барацьбы і разьліву крыві, да падзелаў народа па канфэсійнай прыкмеце, да нацыянальных стратаў. У тым ліку – і моўных (Ірляндыя). Найбольш характэрныя прыклады – Балканы, Каўказ, Вялікабрытанія-Ірляндыя. (Мы ня кажам тут пра так званы „трэці сьвет”.)

У сфэры прапагандысцкай дэмагогіі існаваў (і прадаўжае існаваць) цэлы набор прыёмаў супраць усталяваньня нацыянальных моваў: ад даказваньня „непаўнавартаснасьці” і „памерласьці” чыёй-небудзь мовы (напрыклад, Карл Маркс пра чэхаў, рускія – пра „інородцев” і г.д.) да сьцьвярджэньня ўвогуле

– другаснасьці мовы ў сістэме нацыянальных каштоўнасьцяў. Маўляў, мова, быццам бы, ня мае значэньня. Галоўнае – „самастойнасьць", „свой шлях". Гатовыя былі няшчыра гаварыць нават пра „незалежнасьць" (аўтаномію) у складзе імпэрскай дзяржавы. Нацыя, маўляў, можа быць і бяз мовы, а вось „народнасьць", „адметнасьць" – трэба паважаць.

„Мы – за Белоруссію, но протів белорусского языка", – казалі афіцыйныя расейскія непрыяцелі Беларушчыны у пачатку XX-га стагоддзя (прадстаўнікі розных агентурных таварыстваў, тыпу „Белорусское Общество", „Крестьянин", газэта „Белорусская жизнь", усялякія саланевічы, кавалюкі і іншыя „дзеячы"). У гэтай думцы выяўлялася сутнасьць ахоўніцкай ідэалёгіі „западнорусизма". На ёй тоўпіліся потым розныя „абласьнікі" ды „інтэрнацыяналісты".

У апошнія гады існаваньня Савецкага Саюзу, калі ўжо набірала моцы новае Беларускае Адраджэньне, зноў зьявіліся людзі, якія то тут, то там пачыналі гаварыць: маўляў, „язык не нада – нада свабода"; „главное ликвидировать тоталитаризм", „главное не язык, а демократия". Потым, калі атрымалі ня тую „дземакрацію", пачуліся галасы: „главное не язык, а права человека" і г.д.

Лапідарныя сэнтэнцыі, аднак, зьяўляюцца зусім не спантанна. Пытаньні прыдуманыя на ўсе ўзроўні. „Што лепш, – пытаюць, напрыклад, – калі хто гаворыць па-беларуску і супраць незалежнасьці, ці калі хто гаворыць па-руску, але за незалежнасьць?" Глядзіш, які-небудзь прастак і задумаецца. (Ёсьць людзі, гатовыя па наіўнасьці выбіраць нават паміж куляй і вяроўкай, хоць выбіраць трэба іншае, бо тут няма выбару.)

Гэтакая палітпрапаганда на бытавым узроўні, нават самага прымітыўнага кшталту, – далёка не бясшкодная справа ў каляніяльна дэфармаваным грамадзтве.

Цікавае назіраньне. Калі нават у вельмі агульных рысах прааналізаваць антыбеларускую дзейнасьць у нашай краіне на працягу другой паловы XX-га стагоддзя, так ці гэтак выкліканую ўсходняй палітыкай, то заўважаем, што найбольшая актыўнасьць, найбольшая колькасьць зьвязаных тэмаў і найбольш выразныя тэндэнцыі разбурэньня відаць былі якраз у накірунку зьнішчэньня беларускай мовы. Тут праходзіў магістральны ўдар па беларускай нацыі, які яшчэ раней пакінуў у гісторыі ўнікальныя сьведчаньні цемрашальства. (Напрыклад, афіцыйная забарона ў 1840-м годзе рускім Сэнатам ужываньня назвы „Беларусь" – і, адпаведна, беларускай мовы – ці рэпрэсіўны сталінскі асіміляцыйны дэкрэт аб „рэформе" беларускай мовы і набліжэньні яе да расейскай.)

Уражвае, аднак, нават ня гэтак характар антыбеларускіх дзеяньняў, колькі іхная бязьлітасная пасьлядоўнасьць, цягласьць, на працягу ўсёй гісторыі дачыненьняў з чужой уладай, накіраваная да адной палітычнай мэты – поўнага зьнішчэньня Беларускай культуры, Беларускай дзяржаўнасьці, Беларускага народа і русіфікацыі яго рэштак.

* * *

Выключнасьць антыбеларускай палітыкі з боку Масквы тлумачыцца, перш за ўсё, старым цывілізацыйным канфліктам. Пасьля разбурэньня і заняпаду Кіева (Кіеўскай Русі) вызначыліся два варагуючыя цэнтры аб'яднаньня ўсходніх славянаў: Вільня (Вялікае Княства Літоўскае) і Масква (Масковія, потым – Расея). Больш магутнае і эўропаморфнае Вялікае Княства, тым ня менш, было ўрэшце разбурана, бо апынулася паміж дзьвюх экспансіяў: захопніцкай з Захаду (немцы) і агрэсіўнай, варварскай – з Усходу (манголы, Масква). Падзел Усходняй Эўропы адбыўся ў канцы XVIII стагоддзя, пасьля таго, як ўсходняя і заходняя экспансіі аб'ядналіся і Беларусь цалкам трапіла ў зону Расеі.

Для Расеі гэта была найвялікшая стратэгічная перамога за ўсё яе існаваньне. Ліквідаваны асноўны супернік. Царызм лічыў, што ўтрымаць у будучыні гэтую заваёву, стратэгічную тэрыторыю і манапольную пазыцыю ён зможа толькі разбурыўшы беларускую дзяржаву, зьнішчыўшы беларускую гісторыю і беларускую мову (паколькі гэта ўсё ўзаемазьвязана).

Татальнае, агульнае вынішчэньне беларускай культуры, русіфікатарская асіміляцыя стала афіцыйнай палітыкай Расеі ў Беларусі, праводзілася непасрэдна (XIX ст.), праз каляніяльную адміністрацыю (XX ст., камунізм), цяпер робіцца праз дыктатуру стаўленьнікаў.

* * *

Калі мы адзначаем апорную функцыю мовы ў вышэйшых (ідэйных) дачыненьнях народа, то маем на ўвазе нармальны эвалюцыйны працэс разьвіцьця цывілізацыі, натуральны працэс фармаваньня нацыяў і разьвіцьця культуры ў межах аднаго ўзроўню грамадзтва.

Мы не разглядаем тут зьявы трэцяга сьвету, арганізацыю дзяржаваў на руінах эўрапейскага каляніялізму тымі этнічнымі супольнасьцямі ды плямёнамі, якія займаліся паляваньнем, жывёлагадоўляй ды зьбіральніцтвам, ня мелі сваёй пісьмовасьці, альфабэту, культурнай гісторыі, але з адыходам калянізатараў стварылі, пры іх дапамозе, свае ўрады і адміністрацыю на партугальскай, францускай ці іншай эўрапейскай каляніяльнай мове. Зьявы гэтакай дэкалянізацыі і дзяржаўнасьці часьцяком даволі змушаныя і хімерычныя, з прычыны папярэдніх гвалтоўных каляніяльных парушэньняў, глыбокай дэфармацыі натуральных дачыненьняў ды патрэбаў разьвіцьця больш простых супольнасьцяў.

Дэкалянізацыйныя працэсы ў трэцім сьвеце вельмі наглядна паказваюць, што калі мова народа не зьяўляецца інфармацыйным чыньнікам ягонай гісторыі (гэта значыць, пісанай фіксацыі падзеяў, ня кажам ужо пра літаратуру), то зьвязваючая (культурная) функцыя мовы аслаблена. Чым больш культурны народ, тым мацнейшае культуратворнае (і адпаведна, палітычнае) значэньне мае для яго нацыянальная мова. Невыпадкова разьвіцьцё нацыянальнай мовы, яе існаваньне, ужываньне, зьберагаючыя абставіны рэгулююцца ня толькі нацыянальным грамадзтвам, але і дзяржаўнымі законамі.

Беларуская мова ў гэтым сэнсе – надзвычай яркі прыклад высокай культуратворнай напоўненасьці яе інфармацыйнай ролі ў грамадзтве. Наша старажытная гісторыя напісана па-беларуску. Сотні тамоў Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага, кнігі Магістратаў беларускіх гарадоў, перапіска знакамітых людзей, дыпляматаў, вялікія помнікі права – Статуты Вялікага Княства, старажытная перакладная літаратура, дыярыушы, потым тэксты Школьнага тэатру, Батлейкі, казані і граматыкі, прамовы і канты, духоўныя творы – усё гэта, ня гледзячы на вынішчэньні, захавала наша гісторыя ў выдатнай беларускай мове. Я не кажу ўжо пра гісторыю і літаратуру нашага нацыянальнага Адраджэньня ў XIX-м і XX-м стагоддзях.

Калі б уявіць немагчымае, што беларуская мова якім-небудзь катастрафічным чынам раптам зьнікла (пра што стараюцца нашыя непрыяцелі) і народ застаўся б бяз мовы, то ўся беларуская гісторыя і культура сталася б для яго адсечанай, мёртвай для новых пакаленьняў беларусаў. Яны як бы павісьлі б у паветры, безабаронныя перад русіфікацыяй і анэксіяй, пазбаўленыя грунту нацыянальнага існаваньня. На гэтым бы беларуская гісторыя і скончылася, нацыя зьнікла б, як туман, як пыл над вадой.

Успомнім 73 гады камуністычнай русіфікацыі, калі вынішчылі мову ў афіцыйным ужытку, сфальсіфікавалі беларускую гісторыю, абулі культуру ў лапці і пачалі яе адлік з 1917 года. Яшчэ адно-два пакаленьні такога існаваньня, і ... я ня ўпэўнены, ці адбылося б ужо Беларускае Адраджэньне.

*Беларуская мова – гэта мы. Мы існуем як гістарычная нацыя толькі таму, што жыве ў грамадзтве беларуская мова і людзі яе падтрымліваюць. Нашае нацыянальнае Адраджэньне і народнае існаваньне, гэтак жа, як існаваньне іншых народаў Эўропы, зьвязанае з адраджэньнем і жыцьцём нацыянальнай мовы.* ***Наша беларуская народная вечнасьць – у беларускай мове.***

Гэта ёсьць абсалютная праўда, неабходнасьць, якая не падлягае дыскусіі.

* * *

Акупацыя Беларусі і жорсткая антыбеларуская палітыка праводзілася якраз тады, калі ўся Эўропа будзілася да нацыянальнага жыцьця. Татальная забарона мовы выключыла легальнае разьвіцьцё беларускай літаратуры. У падпольлі нацыянальная літаратура разьвівацца не магла. (Хоць і зьявіліся беларускія ананімныя творы.) У выніку беларусы страцілі ў XIX-м стагоддзі мноства творчых людзей, якія вымушаны былі пісаць на іншых мовах і аддалі свае таленты іншым народам.

*Літва! Радзіма мая! Ты, як здароўе.*
*Як даражыць табой трэба, толькі той зьведаў,*
*Хто цябе страціў...*

У самым пачатку нацыянальнай эры Беларусь страціла найвялікшага паэта. Можам даказваць цяпер, колькі заўгодна, як думаў Адам Міцкевіч, скуль паходзіў, што любіў, пра што пісаў, як адлюстраваў наш беларускі быт і дух. Але ён пісаў па-польску і ўзбагаціў Польшчу. Ён ня быў чытэльным для беларускага народа, а для тых, хто чытаў (па-польску), ён быў ужо не сваім. Выграшыла мова.

Толькі праз сто гадоў другі раз нарадзіўся яшчэ адзін беларускі Міцкевіч, якога народ ужо ня страціў. Ён стаў Коласам на роднай ніве. Ягоная „Новая Зямля” ёсьць найвялікшым шэдэўрам і праграмным творам беларускага існаваньня. Перамагла беларуская мова.

* * *

Падсумоўваючы размову аб апорнасьці (цэнтральнасьці) беларускай мовы на ўзроўні вышэйшых дачыненьняў жыцьця нацыі і азіраючыся на пройдзены гістарычны шлях супраціўленьня і выжываньня, з палёгкай адзначаю, што ў неверагодна цяжкіх умовах безвыходнасьці і страт беларусы здолелі абмінуць найбольш небясьпечныя камяні, пасткі магчымых будучых няшчасьцяў і пазьбеглі разбуральнай бяды. Мы шмат страцілі: і сталіцу, і велізарныя тэрыторыі, і мільёны насельніцтва, але захавалі ўнітарнасьць нацыі, адзінства культуры і адзінства народу пры шматлікасьці канфэсіяў. Пры невысокім (пакуль што) узроўні нацыянальнага пачуцьця нас, беларусаў, аб’ядноўвае, перш за ўсё, наша культура, гісторыя, мова і не разьядноўвае рэлігія.

Гэта вялікае народнае дасягненьне. У змаганьні з імпэрыяй мы пазьбегнулі таго, ад чаго не зьбераглісія некаторыя іншыя народы (ірляндцы, сэрба-харваты, ліванцы і г.д.) – канфэсійнай нянавісьці. Беларусам не змаглі навязаць канфэсійны разлом нацыі, мы разумна абмінулі той час, калі такое магло стацца.

Псіхалягічнаму адзінству і талеранцыі беларусаў паспрыялі самы падзеі: пратэстантызм і зьнішчэньне пратэстантызму, Вунія і потым зьнішчэньне Вуніі рускімі, затым насаджэньне рускага праваслаўя ды палянізацыя тутэйшага каталіцызму, а потым перасьлед усялякай рэлігіі бальшавікамі і г.д. Народ адчуў, што канфэсія ня ёсьць тым грунтам, на які можна моцна абаперціся. Вывад, які стыхійна быў зроблены з гістарычных пераменаў і які адпавядаў псіхалягічнаму складу беларуса, такі: *з суседзямі трэба жыць згодна*. Беларус ня любіць канфліктаваць. Гэта той выпадак, калі нашыя сацыяльныя недахопы зьяўляюцца працягам нашых гістарычных пераваг.

Мы, прывыклыя да нармальнага людзкага абыходжаньня адзін з адным, не зважаючы на рознасьць, часам недаацэньваем гэтае сваё жыцьцё.

Каб ацаніць сябе, варта глянуць на іншыя месцы ў стыку былых імпэрыяў. Сэрба-харвацкі народ (а гэта адзін народ) гаворыць на адной сэрба-харвацкай мове (таксама ў Босьні, Чарнагоры і Герцагавіне). Толькі для заходняга насельніцтва (харватаў) яна пішацца лацінкай, для ўсходняга (сэрбаў) – кірыліцай. Усходнія – праваслаўныя, заходнія – каталікі. Кожныя маюць сваю дзяржаву і пры нагодзе ненавідзяць адзін аднаго ды рэжуць з такой лютасьцю, што па сёньняшні дзень ня ў стане разабрацца з гэтым нават Гаагскі Трыбунал. (Я ўжо не кажу пра сэрба-харватаў мусульманаў у Босьні і Герцагавіне.)

Такія ж самыя пэрспэктывы, такая ж небясьпека падсьцерагала ў гісторыі і нас, беларусаў. Больш таго, – нас штурхалі да гэтага нашыя непрыяцелі (а некаторыя, найбольш тупыя, штурхаюць яшчэ й цяпер). Але нічога не дамагліся. То ці ж ня мудры, ці не вялікі наш Беларускі Народ!

Апошняя фармальная небясьпека нацыянальнага расколу была абмінута ў 1912 годзе, калі беларускія адраджэнцы, згуртаваныя вакол падпольнай БСГ *(Грамады)* і легальнай *„Нашай Нівы”* (з большага – каталікі) вырашылі, што трэба ўжываць для газэты адзіны альфабэт, апыталі чытачоў і перайшлі толькі на кірыліцу. (Раней газэта друкавалася падвойна: на кірыліцы і на лацінцы.)

Рашэньне было разумным і правільным. Патрэбны быў толькі адзін альфабэт, і толькі на кірыліцы трэба было пісаць і друкаваць тым, хто рэальна ацэньваў рэчаіснасьць, ведаў гісторыю, думаў пра беларускае Адраджэньне і адзінства нацыі. Цяпер, як кажуць валійцы, мы ўжо за вуглом.

* * *

Ужо дзьвесьце гадоў беларусы прыглядаюцца да сябе, як бы шукаючы прычынаў народнай бяды і выйсьця з залежнага стану.

Выйсьце заўсёды ёсьць. Хаця б, напрыклад, падрыхтаваць станоўчыя палітычныя зьмены. Але, па-першае, гэтыя зьмены трэба зрабіць самым. Другое – як бы і куды б мы ні „выходзілі”, мы заўсёды спаткаемся самы з сабой. Адсюль усё і пачынаецца: з унутранага (індывідуальнага і грамадзкага) усьведамленьня нацыянальных патрэбаў і нацыянальнай неабходнасьці, з гатовасьці рабіць, як трэба, а не „як хочацца”, са спадзяваньня на сябе.

Патрэбная духоўная асьветніцкая праца, культурная і палітычная, вялікая і штодзённая, бо нічога само не адбудзецца, ніхто для нас нічога ня зробіць, нічога ня „дасьць”. Беларуская інтэлігенцыя, часам, забываецца пра гэта і чакае нечага ад „народу”, абураючыся за бязьдзейнасьць. Аднак, у пэрыяд апатыі, у міжчасьсі якраз толькі нацыянальная эліта можа і мусіць дапамагчы народу ўсьвядоміць свой грунт, адчуць сілу, расплюшчыць вочы, пракласьці шлях у вечныя каштоўнасьці нацыі, ў храм, які здольны пабудаваць усе разам.

*1-20 лістапада 2001г., Нью-Ёрк-Варшава.*

## 4. БЕЛАРУСКАЯ ТЭРЫТОРЫЯ І ПРЫРОДА

Кожны народ жыве на сваёй зямлі, якая зьяўляецца ягонай тэрыторыяй. Гісторыя сьведчыць, што тэрыторыя была і ёсьць найгалоўнейшым нацыянальным багацьцем, найвялікшым народным дабром.

Кожны народ імкнуўся абараніць сваю жыцьцёвую прастору, а некаторыя – пашырыць яе за кошт іншых. За тэрыторыю ішло змаганьне і бясконцыя войны.

Зьява і паняцьце прасторы ёсьць паважная праблема філясофіі, матэматыкі і фізічных навукаў. Прастора, злучаная з часам (ці дакладней – *„прастора-час”)*, ёсьць асновай быцьця фізічнага сьвету. (Гэта значыць – рухомай рэальнасьці, сьвету, у якім мы жывём.)

Прасторавыя парамэтры формы і руху (існаваньня) мусіць мець любое цела, элемэнт, часьцінка ці стан часьцінкі (хваля) на ўсіх узроўнях фізічнага сьвету. Але ўсьведамленьне, пачуцьцё жыцьцёвай прасторы ўласьцівае толькі істотам жывой прыроды.

Усялякі жывы індывідыум (асобіна) акрэсьлівае сваю прастору (гэта значыць межы, у якіх існуе, рухаецца). Прытым, чым больш высокая біялягічная і псіхічная арганізацыя жывой істоты, тым больш выразнае акрэсьленьне ёй сваёй прасторы. Найбольш абазначана яна ў чалавека, што выклікала адпаведныя сацыяльныя формы яе працягу (кшталтаваньне жыльля, уласнасьці, недатыкальнасьці асобы і г.д.).

Сацыяльнае асэнсаваньне сваёй індывідуальнай прасторы чалавекам не заўсёды супадае з рэалізацыяй. Яно можа розьніцца, не супадаць з магчымасьцямі, залежыць найперш ад узроўню разьвіцьця і культуры грамадзтва.

Няроўныя таксама біялягічныя інстынкты адчуваньня ўласнай прасторы, зьвязаныя непасрэдна з целам. Спэцыялісты адзначаюць, напрыклад, значную шырыню індывідуальнай (біялягічнай) прасторы ў нашчадкаў англа-саксаў і кельтаў і іншыя (меншыя ці большыя) парамэтры ўспрыняцьця яе ў прадстаўнікоў суседніх зь імі этнічных супольнасьцяў і групаў.

З таго, што мне ўдалося назіраць асабіста, ездзячы па сьвеце, я магу толькі пацьвердзіць агульныя меркаваньні. Людзі ў Амэрыцы, напрыклад (нават у такім тлумным і выключным горадзе, як Нью-Ёрк), на вуліцах, у транспарце, у грамадзкіх, гандлёвых месцах, у чэргах – усюды, практычна, не датыкаюцца адзін да аднаго. Калі ў вузкім месцы, на вуліцы, на эскалатары, у вагоне ці ў краме вас мінаюць, то абавязкова просяць прабачэньня. Гэта азначае, што, маўляў, выбачайце, я небясьпечна мінаю вашу тэрыторыю, але я добра да вас настроены, толькі павінен тут прайсьці.

Калі нехта, напрыклад, у чарзе (дзе стаяць, як правіла, амаль што за мэтр адзін ад аднаго) незнарок даткнуўся да іншага, то іншы недаўменна адварочваецца і глядзіць, у чым справа, чаго ад яго хочуць. Таму сытуацыя, каб нехта не заўважыў, што даткнуўся да іншага і не папрасіў бы прабачэньня, проста выключаецца. Інакш – гэта нядобрая сытуацыя.

За пяць гадоў пэрыядычнага знаходжаньня ў Амэрыцы, іншых, скажам так, „тэрытарыяльных” адносінаў між людзьмі – я не назіраў. Тым часам за гэты пэрыяд я ні разу ня бачыў, каб нехта ў гарадзкім транспарце (мэтро ці аўтобусе) саступіў месца старому, калеку ці жанчыне. Людзі (сталыя і маладыя) проста ня ведаюць, што так трэба рабіць. Іх такому не навучылі.

Гэтыя два прыклады праяўленьня сацыяльнай культуры маюць рознае падложжа: з аднаго боку – абкультураны інстынкт пачуцьця прасторы, з другога – маральны нуль, не прыгнечаны тэрытарыяльны эгаізм асобіны.

Абкультураны інстынкт, разуменьне тэрытарыяльнага права, павага да шырокай індывідуальнай прасторы чалавека спрыяе прыязным дачыненьням паміж людзьмі.

Грамадзтва, дзе ў масе, у натоўпе не датыкаюцца адзін да аднаго, не штурхаюцца, не зьневажаюць, не гавораць грубых словаў, стварае добрыя ўмовы для самапачуцьця асобы. І наадварот: там, дзе адсутнічае пашана да прасторавай аўтаноміі чалавека, адбываецца нарастаньне азлобленасьці і агрэсіі.

Раней, за саветамі, мне рэгулярна прыходзілася назіраць такую карціну. Падыходзіць пусты вясковы аўтобус. Ля дзьвярэй скапліваецца натоўп, чалавек 15-20 і шчыльна ціснуцца, чакаюць, пакуль шофер сходзіць у аўтобусную станцыю, вернецца і адчыніць дзьверы. Зь вяртаньнем шафёра ціск павялічваецца, куча робіцца нібы адзінае цела, і, калі дзьверы адчыняюцца, яно – гэтае сьціснутае чалавекацела з жанчынаў і мужчынаў – не адразу можа нават зайсьці праз праём у пусты аўтобус. Нарэшце прарываюцца першыя, ускокваюць унутр і, штурхаючыся, з шумам разьбягаюцца па салоне.

Калі потым спакойна зайсьці ў аўтобус, то людзі ўжо сядзяць, стаяць і размаўляюць між сабой, як ні ў чым ні бывала. Ніхто не адчувае ні зьбянтэжанасьці, ні прыніжэньня, ні сораму за тое, што толькі што адбывалася перад зачыненымі дзьвярыма.

Тут жа побач, за рэспубліканскай мяжой, у балтыйскіх суседзяў, быў той жа сацыялізм, тыя ж калгасы, такі ж узровень жыцьця, практычна, такі ж узровень бытавой культуры і тыя ж савецкія аўтобусы, „ПАЗы” ды „ЛАЗы”, але не стваралася перад імі гэтакае „чалавекацела”.

Я прывёў адзінкавы прыклад. Але „чалавекацела” у нас узьнікае ўсюды, часта – зь нечаканай нагоды, без аніякай лягічнай неабходнасьці і абгрунтаваньня. Мы лічылі гэта раней вынікам дэфіцытнага сацыялізму.

Можна дыскутаваць аб бытавой культуры, аб неабкультуранасьці прыродных інстынктаў, і тут – рацыя. Але ў падложжы гэтай неабкультуранасьці – розны маштаб асэнсаваньня ўласнай прасторы, рознае адчуваньне індывідуальнай тэрыторыі.

Напрошваецца лапідарнае пытаньне: ці не карэлюецца маштаб асэнсаваньня ўласнай прасторы індывідыумам з патрэбнасьцю індывідуальнай свабоды? Напрасткі тут нічога не карэлюецца. Гэта відавочна. Хоць і можна выявіць пэўныя сувязі. Мае значэньне, аднак, сама зьява, сам фэнамэн індывідуальнай прасторы, які ў вельмі адметны і своеасаблівы спосаб праяўляецца на калектыўным, грамадзкім узроўні быцьця людзей як народу, калі ягоная тэрыторыя ёсьць неад’емнай часткай народнага існаваньня.

* * *

Паўнавартаснае этнічнае асэнсаваньне сваёй калектыўнай жыцьцёвай прасторы зьявілася ў людзей толькі пасьля пераходу да земляробства і аседлага жыцьця. Людзі, прывязаныя да аднаго месца, сталі глыбей адчуваць патрэбнасьць гэтай знаёмай канкрэтнай прасторы. Яна стала больш пазнавальнай для чалавека, часткай ягонага штодзённага жыцьця. Прырода, зноў жа, канкрэтызаваная ў прасторы, становіцца ня толькі агульным асяроддзем існаваньня, але як бы прыродным домам. Пастаяннае месца, пастаянная прырода і пастаянныя суседзі спрыялі сталым кантактам паміж людзьмі, далейшаму разьвіцьцю паняцьцяў „сваё” і „наша”. Людзі адной тэрыторыі, якія ўжо раней адрозьнівалі сябе ад чужых па мове і сваяцтве, асеўшы на зямлі, умацавалі сваё супольнае адзінства, наладзілі пастаянства сувязяў у пастаянных абставінах.

Калі лічыць, што людзі эвалюцыйна разьвіваліся з прыроды, то самаўсьведамленьне сваёй грамадзкай асобнасьці і адрозьненьне

ад іншых групаў людзей павінна было мець першасны штуршок якраз ад усьведамленьня сваёй калектыўнай тэрыторыі. Паняцьцевае разьвіцьцё мовы і думаньне паспрыялі *асэнсаваньню* супольнай прасторы як чыньніка лучнасьці людзей. Фігуральна гэта выглядала так: маўляў, тыя, што гавораць інакш і робяць па-іншаму, – жывуць *„там”*, а мы – *„тут”*. *Тутэйшасьць* ёсьць форма супольнага ўсьведамленьня.

Пераход да земляробства і аседлага жыцьця быў плённым для ўмацаваньня і паглыбленьня *этнічнай сьведамасьці*. У сфэры пастаяннага, прывязанага да мясцовасьці насельніцтва лепш разьвілася этнічная культура (перадача традыцыяў праз лучнасьць пакаленьняў).

Асэнсаваньне калектыўнай прасторы паспрыяла ўнутранай кансалідацыі раньніх этнасаў. За *агульную* тэрыторыю вялося *сумеснае* змаганьне. Тэрыторыя этнічнага расьсяленьня стала перашаснай супольнай каштоўнасьцю.

У гэты час глыбока асэнсоўваецца прырода як неад’емная частка існаваньня. Экзыстэнцыянальная і псіхалягічная залежнасьць ад прыроды ў этнічных народаў вельмі моцная. Для гэтакіх людзей прыродная прастора ёсьць іхная агульная радзіма. Гэта тое, што іх найбольш злучае, дае першасныя сродкі для выжываньня, забясьпечвае жыцьцёвую рэалізацыю, веру ў свае сілы і псіхалягічны камфорт жыцьця.

Тэрытарыяльна-прыродны чыньнік тут, як і раней, адыгрывае асноўную псіхалягічна-ацэначную ролю. Але моўна-культурныя і сацыяльна-палітычныя аспэкты пачынаюць дамінаваць у грамадзкіх паводзінах і ў грамадзкім выбары.

Гэта асабліва стала добра відаць з разьвіцьцём гарадоў і ростам гарадзкога насельніцтва. Гарады былі месцам канцэнтрацыі больш разьвітай культуры і больш складаных сацыяльна-культурных адносінаў. Тут быў і больш высокі, ідэйна асэнсаваны ўзровень народнай сьведамасьці. Гарадзкое грамадзтва больш аддаленае ад прыроды, яно існуе ў сфэры *створаных ім* дачыненьняў і ў асяроддзі *арганізаванай ім* сацыяльна-архітэктурнай прасторы. Народная сьведамасьць у сфэры лепш арганізаванага асяроддзя і абкультуранай прасторы гарадоў набывае больш абстрагаванае (а значыць больш абагуленае) асэнсаваньне, апэрыруе лягічнымі катэгорыямі, сістэмнымі паняцьцямі. Супольная (народная) сьвядомасьць гаражанаў (мяшчанаў) менш зьвязаная з псіхалягічным асэнсаваньнем прыроднай прасторы і кансалідуецца на рацыянальным абгрунтаваньні свайго калектыўнага (народнага) адзінства. А гэта, як бачым, ёсьць вышэйшы і мацнейшы ўзровень сьведамасьці.




***150. Мапа Беларускай Народнай Рэспублікі.***

* * *

Наступны этап грамадзкай самаацэнкі і самавыяўленьня – *народная сьведамасьць*. Яна замацоўваецца ў грамадзтве тады, калі ўзьнікае дзяржава (дзяржаўная арганізацыя ўлады) і афармляюцца сацыяльна-праўныя дачыненьні зямельнай ўласнасьці, зьяўляюцца гарады, пісьмовасьць, фіксуецца пісаная гісторыя.

Народная сьведамасьць – гэта тое ж этнічнае, калектыўнае ўсьведамленьне сябе, але дамінуючым і фармуючым фактарам яе (псіхалягічным і рацыянальным) зьяўляецца *культура*.

Сучасная культура разьвівалася найперш праз гарады. Гарады былі (і застаюцца цяпер) маторам культуры. Зразумела, чаму культурна арганізаванае грамадзтва заўсёды імкнулася зблізіць горад зь вёскай, не дапусьціць вялікага разрыву паміж гарадзкім і вясковым існаваньнем. (Пра гэта я пісаў у артыкуле „Урбанізацыя”.)

Такім чынам стварэньне дзяржаўнасьці (дзяржаўнай улады) і ўзьнікненьне гарадоў (рост гарадзкога насельніцтва) у праўна арганізаваным земляробчым грамадстве паспрыяла афармленьню *народнай сьведамасьці* жыхароў адной мовы, адной культуры і адной тэрыторыі.

* * *

Наступны этап кансалідацыі людзей – *нацыянальная сьведамасьць*. Яе афармленьне зьвязанае з пачаткам працэсу пераходу да індустрыяльнага грамадзтва. Пераход паўсюдна суправаджаўся бурным ростам гарадоў, які быў выкліканы разьвіцьцём машыннай (таварнай) вытворчасьці. У выніку адбылося пераразьмеркаваньне балянсу насельніцтва ў карысьць гарадзкога.

У ХХ-м стагоддзі бальшыня насельніцтва індустыяльных краінаў жыве ў гарадах. Асноўным сродкам уласнасьці становяцца грошы, што паспрыяла павелічэньню індывідуальнай свабоды чалавека і мабільнасьці яго ў грамадзтве.

У гэтых умовах (на індустрыяльным узроўні разьвіцьця грамадзтва) нацыянальная сьведамасьць становіцца *формай ідэалёгіі* і грунтуецца, найперш, на *нацыянальнай ідэі*. Гэта значыць на такой ідэі, якая імкнецца да стварэньня *нацыянальнай дзяржавы* і асэнсоўвае нацыянальныя каштоўнасьці грамадзтва (найперш – мову, народ, тэрыторыю, культуру, гісторыю, рэлігію і г.д.) як сродкі яго фэнамэнальнага існаваньня, кансалідацыі і разьвіцьця.

Зразумела, чаму з разьвіцьцём нацыянальнай сьведамасьці пачалі развальвацца імпэрыі, што былі турмой народаў. (Народы, сцьвярджаючы нацыянальныя каштоўнасьці, імкнуліся стварыць самастойныя нацыянальныя дзяржавы.)

Суадносіны гарадзкога і сельскага насельніцтва ў індустрыяльным грамадзтве мелі вялікае значэньне для фармаваньня нацыянальнай сьведамасьці. У традыцыйным эвалюцыйным разьвіцьці нацыі працэс адбываўся напружана, але бесканфліктна. У адраджэнскім разьвіцьці (гэта значыць шляхам змаганьня з імпэрыяй ці за незалежнасьць ад іншай дзяржавы) рашаючай была барацьба за сцьвярджэньне нацыянальнай мовы і за горад (за гарадзкое насельніцтва).

Некаторыя нямецкія інтэлектуалісты ў сярэдзіне XIX стагоддзя (напрыклад, К.Маркс) пісалі пра чэхаў як пра загіблы народ, які канчаткова анямечаны і ўжо ніколі не падымецца. Але ў другой палове XIX стагоддзя рэзка ўзмацнілася чэшскае нацыянальнае Адраджэньне. Таварныя адносіны выклікалі павелічэньне насельніцтва гарадоў, куды перасяліліся чэшскія сяляне, якія ператварыліся там у дробных прадпрымальнікаў, гандляроў, рамесьнікаў, купцоў, рабочых і г.д. Яны-то найперш і падтрымалі чэшскі нацыянальна-культурны і адраджэнскі рух. Гарады пачалі рабіцца ўсё больш чэшскімі па мове і па насельніцтву. Урэшце яны й вырашылі зыход нацыянальнага змаганьня за чэшскую культуру і чэшскую незалежнасьць.

Гэта клясычны шлях нацыянальнага Адраджэньня ў Эўропе. Такой дарогай ішлі і беларусы. Шмат якія беларускія нацыянальныя дзеячы дэкляравалі стаўку выключна на вёску і не давяралі зрусіфікаванаму гораду. Яны лічылі, што сьведамы беларус, вышаўшы з вёскі і атрымаўшы нацыянальную адукацыю, апануе і створыць нанова беларускую гарадзкую культуру.Так яно і пачынала рухацца. Але зьнешне-палітычныя сілы і акупацыі прыпынілі і дэфармавалі гэты рух.

Трэба ўлічыць, што зьява індустрыялізацыі грамадзтва, – гэта не нацыянальны, а *цывілізацыйны* працэс, які выклікаў зрух у нацыянальнай сьведамасьці людзей. Паўтаруся, што галоўны яго цывілізацыйны вынік – утварэньне нацыяў і перабалянсаваньне насельніцтва з сельскага ў гарадзкое.

Большасьць людзей індустрыяльнага грамадзтва (як мы ўжо адзначылі) жыве ў гарадах. Гэтага не назіраецца, напрыклад, у „трэцім сьвеце". Там большасьць – бедныя і жывуць у вёсцы. Гэтым якраз і характарызуецца „трэці сьвет". Сацыяльная дэмаграфія тут мае вызначальны культуралягічны сэнс.

Увогуле, трэба мець на ўвазе, што ў працэсе цывілізацыйнага руху некаторыя народы ці этнічныя супольнасьці па тых ці іншых прычынах выпадаюць з агульнага цывілізацыйнага разьвіцьця. Яны альбо зьнікаюць, альбо цяжка існуюць (экзыстуюць).

Тысячу гадоў таму, калі балты і славяне (цяперашнія беларусы) суіснавалі побач, то нашыя продкі стварылі гарады, мелі пісьмовасьць і передавую рэлігію (Хрысьціянства). Балты нічога гэтага ня мелі і не стварылі. Вынік – яны растварыліся дазваньня ў славянскім моры, не пакінуўшы пасьля сябе нават успамінаў, акрама, хіба што, гідронімаў ды назоваў, тыпу „Дулебы", „Яцьвягі" ці „Дзяволтва".

Этнічная сьведамасьць з апірышчам на тэрыторыю, прыроду, традыцыю і род не змагла супрацьстаяць народнай кансалідацыі, што абапіралася на дзяржаву і культуру (і гарады, як цэнтры культуры), плюс на Хрысьціянства, як дактрынальную цывілізацыйную рэлігію.

Другі прыклад: этнічныя сібірскія народы, якія расейскі імпэрыялізм проста стаптаў, збэсьціў, паламаў, спаіў, абрабаваў і згадзіў іхную зямлю і прыроду, прастору выжываньня. Лёс іхны незайздросны. Цяжка нават сказаць, ці ёсьць у гэтых народаў якая-небудзь пэрспэктыва.

Пэрспэктыва людзей (тэрыторыяў), што былі пад заходняй калянізацыяй, лепшая, але фактам ёсьць тое, што некаторыя зь іх, як і пэўная частка ісламскага сьвету, выпалі з індустрыяльнай цывілізацыі.

Сытуацыя драматычная, бо пакуль што безвыходная. Лёгка пралічыць і даказаць, што трэці сьвет ня можа ў гэтай сытуацыі дагнаць разьвітыя краіны. (Таму ён і „трэці сьвет", – гэта кляймо.)

З другога боку, павялічваецца нянавісьць, эгалітарызм, эміграцыя. Нарастае канфлікт паміж цывілізацыямі, які вельмі нагадвае дачыненьні паміж Рымам і варварамі. Фактычна, гэта той самы канфлікт, такога ж роду, толькі на іншым узроўні і ў іншых умовах.

* * *

Беларусь добра індустрыялізаваная краіна (працэс разьвіцьця затармазіўся толькі за апошнія сем гадоў). Яе структурная дэмаграфія цалкам адпавядае індустрыяльнаму грамадзтву. Толькі чвэрць насельніцтва жыве ў вёсках, а тры чвэрці – у гарадах. Аднак гэты цывілізацыйны ўзровень не карэлюецца зь невысокай нацыянальнай сьведамасьцю грамадзтва.

Токое становішча мае сваё тлумачэньне і абумоўлена, перш за ўсё, трагічнымі ўмовамі ХХ-га стагоддзя, у якіх апынулася Беларусь. Пасьля генацыду і вынішчэньня эліты грамадзтва ў 1920-1940-х гадах, краіна апынулася ў калгасна-саўгасным рэжыме. У 1950-х гадах, калі пачалася адміністрацыйная (сацыялістычная) індустрыялізацыя, афіцыйнае і афіцыйна-грамадзкае жыцьцё ў гарадах было зрусіфікаванае ў выніку палітыкі КПСС. Беларускія школы былі ўжо зачыненыя, а беларуская мова – перасьледвалася, не дапускалася ў афіцыйны і грамадзкі ўжытак. Стваралася атмасфэра непрыняцьця беларускай мовы (і яе носьбітаў), паколькі яна, згодна палітыкі КПСС, мусіла „адміраць", бо пры камунізме плянавалася адна мова (падразумевалася, што руская).

Пра гэта пісаліся псэўданавуковыя дысертацыі, чыталіся даклады на канфэрэнцыях і лекцыі ў інстытутах, паэты плакаліся ў вершах („Кажуць, мова мая адамрэ...” і г.д.).

Інтэлігентаў, якія цьвёрда баранілі мову і беларушчыну, называлі „нацдэмамі” ды „нацыстамі” (а гэта тады былі небясьпечныя палітярлыкі). Іх перасьледвалі, іншых людзей, што размаўлялі па-беларуску, абзывалі „калхозьнікамі”, „дзярэўняй”, і ўсё гэтае антыбеларускае варварства адкрыта падтрымлівалася зграяй начальнікаў, савецкіх кіраўнікоў, камуністаў, савецкіх палкоўнікаў ды іхных жонак, кагэбістаў, савецкіх настаўнікаў ды камсамольцаў і г.д.

У пачатку 60-х гадоў вясковым людзям дазволілі атрымліваць пашпарты (раней калгасьнікам пашпарты не выдавалі) і больш свабодна перамяшчацца. Пачыналася адміністрацыйная індустрыялізацыя, будаўніцтва гігантаў вялікай хіміі, меліярацыя ды інтэнсіфікацыя і г.д. З пачаткам 60-х назіраецца масавая міграцыя сельскіх людзей у зрусіфікаваныя гарады. За кароткі час насельніцтва Менска павялічылася ўдвая. Ужо на 1979 год на вёсцы засталося толькі 28 адсоткаў жыхароў, амаль 72 адсоткі жылі ў горадзе. Усё гэта яшчэ больш умацавала нацыянальна-дэмаграфічную карціну ў беларускіх гарадах, якія былі беларускімі па пераважным нацыянальным складзе насельніцтава.

Аднак чэшскага варыянту (як сто гадоў таму) не атрымалася. На вуліцах загучэла „трасянка”, і горад зноў моўна зрусіфікаваўся. Больш таго, масавы і раптоўны прыход вясковага насельніцтва ў гарады канчаткова дабіў рэшткі даўняй беларускай гарадзкой культуры. Акурат у гэты час амаль бесперашкодна зьнішчаліся гістарычныя цэнтры беларускіх гарадоў, помнікі архітэктуры, перайменоўвалі вуліцы і г.д. Для прыбылага вясковага насельніцтва горада гарадзкая гісторыя нічога ня значыла, горад быў для іх чужым асяроддзем і не зьяўляўся родным домам. Яны хутчэй стараліся атрымаць прапіску, размаўляць парусску (як начальства), стаць у чаргу на кватэру і гадоў праз 15 атрымаць яе. (Жыльлё і разьмеркаваньне жыльля было ў руках дзяржаўнай бюракратыі.) На гэтым жыцьцёвыя мэты гарадзкога вяскоўца, практычна, заканчваліся. Нашыя гарады па сваім сацыяльна-культурным узроўні і характару насельніцтва сталі нагадваць вялікія вёскі (толькі без беларускай мовы).

Справа ў тым, што ў 60-70-х гадах у беларускія гарады перасяліліся не эканамічна вольныя людзі, як некалі ў Чэхіі (каб знайсьці працу, зарабіць грошай, адкрыць бізнэс, пачаць вытворчасьць, гандль і г.д.). У беларускія савецкія гарады ўцёк нядаўна запрыгонены, зганены, запалоханы калгасьнік з адпаведнай псіхалёгіяй, залежнасьцю, няўпэўненасьцю ў сабе і мінімумам патрабаваньняў. Але нават гэты мінімум ён павінен быў яшчэ заслужыць у адміністрацыйнай сістэмы.

Гэта была заплянаваная міграцыя ў таталітарным савецкім сьвеце пад чужой уладай: без свабоды, без дачыненьняў уласнасьці, без пашаны да беларуса і нацыянальных ідэй.

Дэфармаваная этнічная сьведамасьць ня ў стане супрацiўляцца ніякай экспансіі, якая валодае канцэптуальнай культурнай (ці квазікультурнай) ідэалёгіяй і ня ў стане захоўваць сваё асяроддзе ў агрэсіўных чужародных умовах. З сьведамасьцю „тутэйшых” у таталітарных абставінах цяжка стварыць нацыянальную гарадзкую культуру, а з псіхалёгіяй „вясковасьці” і ўсьведамленьнем другаснасьці – нельга яе перайначыць.

Каб дасягнуць мэты, асіміляцыйная палітыка імкнецца, перш за ўсё, сцьвердзіць сваю мову на акупаванай тэрыторыі, зьнішчыць нацыянальныя эліты і асімілюваць гарады. Калі гэта рэалізуецца, то далейшы ход асіміляцыі і разбурэньне нацыянальнай культуры адбываецца ўжо хутка і паўсюдна.

Калі ў гэтых абставінах нацыя траціць мову і пераходзіць на мову асімілятараў, то яна ўцягваецца тады ў самазьнішчэньне, бо неабходныя цывілізацыйныя працэсы (напрыклад, урбанізацыя, прыватызацыя, інфарматыка, адукацыя, уніфікацыя дзяржаўнай сістэмы, стандартызацыя і г.д.) пачынаюць дзейнічаць не як нацыянальна кансалідуючыя, а як асіміляцыйныя (нацыянальна разбуральныя) мэханізмы.

* * *

У беларусаў, як і ў іншых народаў (асабліва ў тых, што змагаліся за нацыянальнае адраджэньне), існуюць адначасна розныя ўзроўні сьведамасьці. Але калі ў іншых ранейшыя, ужо гістарычныя, ўяўленьні пра сябе выяўляюцца як рэліктавыя зьявы, то ў нас, з прычыны асаблівасьцяў гісторыі, яны даволі пашыраныя. Асобы з этнічнай, і асабліва з „трасянковай” сьведамасьцю (этнічна дэфармаванай), не адмаўляюцца ад прыналежнасьці да беларускай нацыі і да Беларускай краіны, але не разумеюць значэньня і не даражаць нацыянальнымі каштоўнасьцямі і інтарэсамі нацыі: беларускай мовай, помнікамі беларускай гісторыі і культуры, беларускай тэрыторыяй, прыродай і г.д.

Анатоль Казловіч у сваіх філясофска-псіхалягічных развагах пра беларускую прыроду і чалавека ў ёй дакладна заўважыў, што для шмат якіх вясковых беларусаў прырода, прастора, у якой яны жывуць, і ёсьць іхная Бацькаўшчына, іхнае паняцьце пра Радзіму, іхны Дом, апошні прыстанак, куды яны імкнуцца, дзе яны знаходзяць упэўненасьць і душэўны спакой. Але калі чужынцы пачалі крамсаць іхную Радзіму, асушаць ды выпростваць, высякаць ды капаць – яны маўчалі. Яны нават не супраціўляліся. Хоць месца ім на іхнай зямлі ўжо амаль не пакінулі.

На жаль, гэта тыповыя паводзіны ігнараваных людзей з этнічнай сьведамасьцю. Аналягічна паводзяць сябе іншыя людзі і цэлыя народы з тэрытарыяльна-прыроднымі паняцьцямі Бацькаўшчыны ў сутыкненьні з вынішчэньнем іхняга жыцьцёвага асяроддзя (народы Поўначы, Сібіры і г.д.).

Змагацца за сваю прыродную Бацькаўшчыну, супраць вынішчэньня зямлі пасьлядоўна могуць толькі асобы, аб’яднаныя нацыянальнай ідэяй, а не насельніцтва на ўзроўні рэліктавай (і, тым больш, дэфармаванай) сьведамасьці.

Гэта агульнае месца. Няправільна было б бачыць на Беларусі нейкае выключэньне ці абвінавачваць вясковых беларусаў у тым, да чаго іх змусіла савецкая ўлада, чужынцы і прыбышы, перад якімі яны былі безабаронныя. І мы гэтага ня робім. Людзі, перажыўшы генацыд і ня злучаныя агульнай нацыянальнай мэтай, баяліся выступаць супраць савецкай „уласьці”. Страх захаваўся па сёньняшні дзень.

Але каб перамагчы і нават каб захавацца, трэба супраціўляцца ўсялякаму вынішчэньню.

* * *

Тое, што прастора і прырода мае велізарны псіхалягічны ўплыў на чалавека, –гэта аксіёма. Культурныя людзі стараюцца палепшыць сваю прастору і асяроддзе, дзе існуюць.

Падсумоўваючы вопыт, можна зрабіць заключэньне, што існуе, відавочна, пэўны псіхалягічны парог ва ўспрыняцьці „дрэннай” (іншай) прасторы, перайшоўшы які чалавек не вытрымлівае, траціць сьведамасьць, адбываецца параліч псіхікі. (Псіхалягічны эфэкт парогавай прасторы скарыстоўвалі, напрыклад, рускія энкавэдзісты-бальшавікі пры катаваньні людзей.)

Псіхапарогавым эфэктам валодае, на мой погляд, касьмічная прастора за межамі зямной гравітацыі, дзе экстрымальныя ўмовы для чалавека канчаюцца і пачынаецца псіхічны хаос (цёмнае царства Гаргоны-Мядузы, як сказалі б старажытныя грэкі).

Некалі, у XVIII-XIX стагоддзях, філёсафы будавалі пазнаваўчыя сістэмы геаграфічнага дэтэрмінізму, дзе дамінуючым фактарам уплыву на характар і паводзіны людзей лічылі якраз прастору, геаграфічнае асяроддзе, залежнасьць ад геаграфічнай шырыні, клімату, вышыні над узроўнем акіяну і г.д.

Погляды геаграфічнага дэтэрмінізму былі вельмі аднабокімі, каб растлумачыць філясофскія праблемы з свайго гледзішча. Тым ня менш, пэўны сьлед у разуменьні зьяваў яны пакінулі.

Я, праўда, не рызыкнуў бы напрасткі зьвязваць прасторавы характар беларускага краявіду з характарам народу, хоць пэўную адпаведнасьць можна знайсьці на этнічным узроўні.

Прыродны ўплыў быў раней і існуе цяпер. Мы ўвесь час адчуваем яго ў эмацыйным успрыняцьці. Гэта становіцца добра зразумелым, калі ад'едзеш ад Беларусі далей. Тады шмат якімі беларусамі апаноўвае настальгія (мэлянхолія, дэпрэсія) па беларускай прасторы і краявідах. Я шмат разоў назіраў гэта ў беларусаў за мяжой і перажываў сам.

Гэта вельмі цяжкі псіхічны стан, які ў некаторых (як правіла, у тых, хто ня ў стане вярнуцца) доўжыцца гадамі і які я нікому б ня зычыў перажываць. Чалавек адчувае боль душы. Ва ўяўленьні, днём і ноччу, узьнікаюць краявіды Бацькаўшчыны і адчуваньне страчанага замілаваньня. Пачуцьцё страчанасьці любові ў некаторых даходзіць да роспачы, да самазабыцьця, да фетышызацыі прадметаў, гукаў і пахаў Айчыны, да галюцынацыяў у рэальнасьці і да нематываванага адчаю (плачу).

Такое адчуваньне можна параўнаць са станам, як пасьля страты каханай ці са стратай (сьмерцю) самага блізкага чалавека. Толькі душа шчыміць шматкроць мацней і даўжэй.

Калі чалавек мае моцную волю і разумее, што зь ім адбываецца, то можна перамагчы настальгію па роднай прасторы, задушыць у сабе боль, загнаць яго на дно. Але калі не змагацца, то, як кажуць, Бог – бацька. Тады дапамагчы можа толькі час.

Тысячы беларусаў пасьля 2-й Сусьветнай вайны, якія апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, і шмат хто цяпер прайшлі праз такое выпрабаваньне.

Але ўсё гэта, як кажуць, цяжкая проза. (Хоць, можа, й ня ўсім ведамая). Мяне захапіла іншае адкрыцьцё, якое выявілася само сабой. Трэба было толькі параўнаць.

Я аб'ехаў усю Беларусь, уздоўж і ўпоперак і па пэрымэтру. У беларускім краявідзе паўсюдна адчуваецца нейкая цёплая таемнасьць, нейкая сьвятасьць, прысутнасьць сьветлага Духа. Беларускі краявід мае нейкую Боскую пячатку, душэўную заспакоенасьць. Вось жа нездарма нарадзілася выслоўе: „На Беларусі Бог жыве".

На Беларусі гэтая Боскасьць была для мяне абсалютна відавочнай, і я меркаваў, што так ёсьць ва ўсёй прыродзе. Усюды на Зямлі, думаў я, павінна бачыцца пячатка Бога.

Але потым, паезьдзіўшы трохі па сьвеце і паўзіраўшыся, я нідзе такога, як на Беларусі, ня ўбачыў і не адчуў.

Можа быць, у гэтакім адчуваньні Боскасьці беларускай прыроды ёсьць блізкая псіхалягічная аснова, як і ў перамене прасторы? Але ўсё гэта, як і раней на Беларусі, фіксуецца мной у спакойным стане духу і дастаткова рацыянальна.

Тут справа не ў суб'ектыўнасьці. Прырода, як і чалавек, мае сваё аблічча. Ёсьць людзі з добрымі вачыма, сьветлай усьмешкай і спагадным тварам, мы кажам, – з Боскім абліччам. Гэтыя людзі валодаюць канцэнтрацыяй дабра.

Прырода таксама валодае такімі асаблівасьцямі ў выяўленчым сэнсе яе вобразу. І гэта (аснова асаблівасьцяў) якраз паддаецца дакладнаму вывучэньню і дасьледваньню. Распрацаваныя пэўныя сістэмы. Так што тут няма містыкі.

Беларуская прырода – унікальная зьява, зьбег выдатных геалягічных, геаграфічных, кліматычных, марфалягічных, экалягічных, флярыстычных, гідралягічных і дэмаграфічных абставінаў, якія ствараюць сваісты вобраз прасторы і аўру прыроды, у якой прыхільна і добра жывецца сваістаму чалавеку, які здольны гэтае Боскае харaство (падкрэсьліваю: пагрунтаванае на аб'ектыўнай прыроднай аснове) адпаведна ўспрыняць, цаніць, шанаваць і любіць.

Вось тут і ўзгадвалася ўзаемасувязь паміж беларускім чалавекам і беларускай прыродай. Пра іншыя дачыненьні ў сфэрах народнага і нацыянальнага грамадзтва мы ўжо гаварылі вышэй.

* * *

Мушу падкрэсьліць яшчэ раз, што на нацыянальным узроўні разьвіцьця нацыянальныя каштоўнасьці грамадзтва ацэньваюцца і ўсьведамляюцца ім у значэньні ідэй.

Клопат, пачатак, ініцыятыва ў пытаньні разьвіцьця сьведамасьці заўсёды зыходзіла і мусіць зыходзіць ад энтузіястаў, ад эліты нацыі. Эліта не павінна чакаць нацыянальнай ініцыятывы зьнізу і абвінавачваць людзей у бяздзейнасьці, бо нацыянальная ініцыятыва заўсёды ішла зьверху (гэта значыць, ад сьведамых людзей – ад ідэйнай эліты).

Ініцыятыва эліты – гэта ня заклікі. Гэта ёсьць асьветніцкая праца і дзейнасьць у нацыянальных інтарэсах ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця. Нацыянальная сьведамасьць грунтуецца ўжо ня толькі на жыцьцёвай прасторы (ізноў жа, паўтаруся), ня толькі на займаемай тэрыторыі, ня толькі на прыродзе, але на *нацыянальнай ідэі*, *нацыянальных інтарэсах* і *нацыянальных каштоўнасьцях* (мове, культуры, гісторыі, дзяржаве і г.д.).

Істотна аднак тое, што нацыянальная ідэя можа рэалізавацца (у форме нацыянальнай дзяржавы) толькі на *нацыянальнай тэрыторыі*. Іншых прыкладаў у гісторыі не існуе.

Азначэньне нацыянальнай тэрыторыі мае праграмны сэнс для беларускага Адраджэньня.

*„Наша зямля, наша нацыянальная тэрыторыя ад пачатку існаваньня на ёй людзей ёсьць наша зямля,* – адзначаецца ў дакумантах беларускага Адраджэньня. – *На ёй мы, беларусы, і нашы продкі жылі спрадвеку. На ёй мы стварылі нашу гісторыю, культуру і дзяржаву. Наша зямля ёсьць часткай нас самых, нашага гістарычнага, культурнага і нацыянальнага існаваньня. Нічога няма даражэйшага за нашу Беларускую зямлю. Наша зямля непадзельная, недатыкальная, сьвятая.*

*Аніхто – ніякі чалавек, ніякая група людзей, ніякі дзяржаўны ворган, ніякая краіна, ні Беларуская дзяржава, ні Беларускі народ – ня можа распараджацца лёсам Беларускай зямлі, бо яна належыць ня толькі нам, ня толькі тым, хто жыве цяпер, але й будучым пакаленьням беларусаў, датуль, пакуль будзе наш род у Сусьвеце.*

*Наша зямля ёсьць наш вечны Дом, вечная спадчына, якая сягае за межы часу – непадзельны маярат, асьвечаны найвышэйшым гістарычным правам і найвышэйшым абавязкам, неад'емная каштоўнасьць беларускай нацыі. Нашу Беларускую зямлю трэба любіць, берагчы, шанаваць, абараняць ад страты і спусташэньня, умець змагацца за яе." (Праграма Партыі БНФ, 1999 г.)*

Нацыянальная тэрыторыя адыграла гістарычную ролю ў самапазнаньні і самаўсьведамленьні нас як народа, паспрыя-

ла фармаваньню нашага этнічнага характару, псіхалёгіі і мэнтальнасьці, была і ёсьць нашай жыцьцёвай прасторай, дзе мы можам гістарычна (гэта значыць – і ў будучыні, вечна і бясконца) жыць, разьвівацца і існаваць.

Беларуская тэрыторыя, гэтак жа, як Беларуская мова і Беларускі народ, ёсьць найвялікшай каштоўнасьцю беларускага быцьця на Зямлі.

*8 сьнежня 2001 г., Варшава.*

## 5. БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ

Першаснай інтэлектуальнай і духоўнай каштоўнасьцю нацыі ёсьць Нацыянальная ідэя. Без яе нацыя ня можа ні ўзьнікнуць, ні існаваць. Гэта ёсьць нацыянальная ідэалёгія: ўсьведамленьне неабходнасьці незалежнага нацыянальнага існаваньня; стварэньне нацыянальнай дзяржавы; разьвіцьцё нацыянальнай культуры; усьведамленьне нацыянальнай самакаштоўнасьці самых сябе (народа, нацыянальнай супольнасьці).

Асэнсаваньне Нацыянальнай ідэі і дэтэрмінацыя яе (прычынна-абумоўленая сувязь) з кожнай нацыянальнай асобай ёсьць чыньнікам нацыянальнай сьведамасьці грамадзтва.

Палітычная практыка і гісторыя краінаў паказала, што калі ў грамадзтве няма „першаснай каштоўнасьці нацыі” ці калі Нацыянальная ідэя нясьпелая, а нацыянальная сьведамасьць людзей невысокая, то ніякія іншыя перавагі, нават вельмі значнага матэрыяльнага кшталту, не дапамогуць грамадзтву самаразьвіцца, сцьвердзіцца і свае перавагі рэалізаваць.

Ні багатыя прыродныя рэсурсы, ні вялікая колькасьць маёмных, адукаваных людзей, ні культурная спадчына гістарычнага мінулага, ні разьвітая эканоміка – нішто не паспрыяе, калі насельніцтва не ўсьведамляе агульных інтарэсаў і агульных каштоўнасьцяў нацыі, калі не разумее абсалютнай нацыянальнай каштоўнасьці самых сябе, сваёй супольнасьці, мовы, культуры і гісторыі. Такое грамадзтва страціць свае багацьці, апынецца ў залежнасьці ад іншых, дэградуе, занепадзе.

Прывяду прыклад. У 1991 годзе (у годаднаўленьня незалежнасьці і ліквідацыі ўлады КПСС) Беларусь, адносна сваіх суседзяў (Польшчы, Летувы, Латвіі, Украіны) была самай перадавой краінай па жыцьцёвым узроўні. У Беларусі (адносна гэтых краінаў) была добра разьвітая структура таварнай вытворчасьці і эканомікі, высокая навукаёмкасьць вытворчасьці, збалянсаванасьць прамысловасьці, стратэгічная вытворчасьць, нафтавая, хімічная, электронная, аптычная, тэкстыльная і харчовая, транспартная і г.д. Тут была найлепшая ў былым СССР чыгунка, найлепшая сельская гаспадарка, найбольшая колькасьць ворнай зямлі ў Эўропе з разьліку на душу (каля аднаго *га*). Тут была высокаразьвітая фундамэнтальная і ўжытковая навука, структураваная сістэма сярэдне-спэцыяльнай і вышэйшай адукацыі, добры ўзровень медыцыны, высокі ўзровень і вялікі працэнт адукаваных спэцыялістаў, добрая кваліфікацыя рабочых і агульная адукацыя насельніцтва, наяўнасьць важных прыродных рэсурсаў.

Ніводная з пералічаных краінаў ня мела тады такога становішча. Эканамічны патэнцыял Беларусі перавышаў патэнцыял значна большай па насельніцтву Польшчы (ня кажам ужо пра войскі і ўзбраеньні).

Цяпер, аднак, праз 10 гадоў Польшча – ўжо ў НАТО, краіна з рынкавай эканомікай, мае эўрапейскі выгляд, зьбіраецца ў Эўразьвяз. Пайшлі наперад Балтыйскія краіны, умацавалі валюту, будуюць новую гаспадарку. Нават Украіна, дзе быў даволі нізкі жыцьцёвы ўзровень і вельмі складаныя праблемы ў эканоміцы, выбралася на лепшую пэрспэктыву, добра ўспрымаецца ў сьвеце.

Толькі ў Беларусі за гэты час усё змарнавана. Яна зьбяднела, зьехала найніжэй і само існаваньне яе дзяржаўнай незалежнасьці пастаўлена пад пагрозу.

У чым жа прычына, чаму так сталася ў краіне, якая рэальна магла б быць наймагутнейшай і найбагацейшай на Ўсходзе Эўропы, гэтакім усходне-эўрапейскім драконам, як спрабавалі ўжо характарызаваць яе будучыню.

Так, згодзен, ёсьць пытаньне зьнешняй палітыкі. Расея адчула ва ўзвышэньні незалежнай Беларусі сьмяртэльную небясьпеку для сябе, для існаваньня яе як імпэрыі, для таемных мараў усё вярнуць. Эканамічна магутная, з высокім жыцьцёвым узроўнем


*151. Менск, 1997. Змагар за Беларусь.*

Беларусь паўплывала б на ўвесь рэгіён як станоўчы прыклад, стала б зьвязваючым зьвяном новага жыцьця ва Ўсходняй Эўропе. Імпэрскія ўплывы Расеі тут бы вельмі аслабелі, прыйшлося б разьвітацца з імпэрскімі марамі на Захадзе і будаваць раўнапраўныя дачыненьні.

Таму беларускі напрамак быў аб'яўлены кірункам нумар 1 па важнасьці ў расейскай зьнешняй палітыцы, і ўся магутнасьць яе спэцслужбаў, дыпляматыі, хітрасьць розумаў „гайдароў” і так званых „расейскіх дэмакратаў” запрацавалі ў зададзеным рэжыме.

Яны дасягнулі вынікаў. Беларусь узначаліў свой прарасейскі кіраўнік, які дапамог расейскім спэцслужбам ажыцьцявіць акупацыю беларускай улады знутры.

Аднак зьнешнія прычыны – гэта ўсё ж недастатковае тлумачэньне заняпаду Беларусі. Адсутнасьць шырокага разуменьня ў беларускім грамадзтве таго, што рэальна адбылося і адбываец-

ца, адсутнасьць рэальнага і шырокага супраціўленьня ўнутранай акупацыі гавораць аб тым, што прычына – ўнутры.

Ва ўсіх суседніх краінах не было такога матэрыяльна-эканамічнага ўзроўню, як у Беларусі, але існавала галоўнае, што рабіла іх моцнымі, гарантавала нацыянальнае і дзяржаўнае існаваньне і разьвіцьцё. Гэтае галоўнае – ***высокая нацыянальная сьведамасьць людзей, нацыянальная самасьвядомасьць грамадзтва***. Гэта зрабіла іх свабоднымі, гэта дапамагло стварыць ім нацыянальную дзяржаву і падняцца зь нізін.

Беларусь, якой пасьля вайны за часы СССР, ня гледзячы на вынішчэньне і генацыд, пашанцавала акамуляваць сваю працу ў сістэме савецкай гаспадаркі і часткова ўтрымаць яе вынікі на сваёй тэрыторыі, гэтай працавітай Беларусі не ўдалося захаваць на ўзроўні сваю нацыянальную культуру. Краіна страціла беларускую школу (якая фармуе беларускую асобу), не зьберагла павагу да беларускай мовы ў грамадзтве, трапіла пад навалу шалёнай саветызацыі, дэнацыялізацыі і русіфікацыі.

У пачатку 90-х гадоў у беларускім грамадзтве было ўсё для новага годнага нацыянальна-дзяржаўнага эўрапейскага разьвіцьця. Але не было галоўнага: ***моцнай нацыянальнай сьведамасьці людзей***. У выніку – наша грамадзтва страціла ўсе свае матэрыяльныя перавагі і магчымасьці, апынулася перад пагрозай страты незалежнасьці, народнай маёмасьці і ўвогуле – гістарычнага існаваньня.

Вось што такое нацыянальная сьведамасьць людзей. Гэта калектыўны розум нацыі. Гэта сьведчаньне існаваньня духоўнай індывідуальнасьці народа, якая дзейнічае разумна, паводле агульнай неабходнасьці патрэбаў і інтарэсаў нацыі.

Калі б у 1991 годзе гэтая беларуская нацыянальная сьведамасьць ужо б была адроджана, лёс Беларусі быў бы іншым.

Незалежнасьць Беларусі вярнуў беларускі нацыянальна-дэмакратычны авангард (гэта значыць Народны Фронт, і ўсе, хто вакол яго). Першыя, што нацыянальна адрадзіліся, рынуліся на сьведамае і сьвятое змаганьне і малою сілаю –перамаглі. Гэта было няпроста. Бо справа вымагала выключнасьці, не цярпела прамаруджаньня, нясьмеласьці і памылак.

Але далей, каб вырашыць пытаньне новай нацыянальнай улады і новай нацыянальнай дзяржавы, трэба было абаперціся на сьведамае гэтым нацыянальным задачам грамадзтва, на сьведамыя грамадзкія сілы. Сілаў было замала.

Ужо летам 1992 года Масква (у асноўным спэцслужбы), злучыўшыся з беларускай каляніяльнай адміністрацыяй (урадам і намэнклятурай) перайшла ў наступ на вольную Беларусь.

* * *

Нацыянальная ідэя – гэта *ідэя аб'яднаўчага выбару*. Гэта абазначае, што яна ня ёсьць ідэяй кампрамісу, але – прынцыпу. Тут трэба выбіраць: альбо-альбо. Але тым часам гэта ёсьць ідэя менавіта аб'яднаўчая для ўсіх, нават калі б спачатку за ёй стаяў толькі адзін чалавек, ці двох, ці – невялічкая група.

Чаму гэтак ёсьць? Таму што Нацыянальная ідэя – нішто іншае, як выніковая, практычная і ўнівэрсальная мэта, якая аб'ектыўна вынікае з жыцьцёвага становішча і з духоўных інтарэсаў народа.

Нацыянальную ідэю ніякі мудрэц не прыдумаў. Яе нарадзіла нацыя. Людзі аднае культуры, аднае мовы, аднае гісторыі, тэрыторыі, знаходзячыся ў аднолькавых сацыяльна-палітычных умовах, паступова ўсьведамляюць аднолькавую нацыянальную неабходнасьць. Нават тыя, што з пабочных прычынаў спачатку не разумелі і не прымалі Нацыянальнай ідэі, ці тыя, што былі да ўсяго абыякавыя. Нацыянальная ідэя, пашыраючыся, разьвіваючыся, увасабляючыся і сцьвярджаючы сябе, паступова набірае падтрымкі, бо аб'ектыўна – не супярэчыць грамадзкім інтарэсам народа, а толькі выяўляе і фармулюе іх. Нацыянальная ідэя рухаецца як шлях нацыянальнай праўды. Кожны ў народзе знаходзіць там свой інтэрас, яна ня ёсьць ідэяй абстрактнай, але канкрэтнай формулай, абапертай на агульнае народнае дабро.

Уявім найпрасьцейшыя прыклады. Калі, магчыма, вельмі простаму чалавеку тлумачыць: ты працуеш на зямлі і хочаш мець яе ва ўласнасьць. Ты атрымаеш такую квоту зямлі, якую зможаш апрацаваць. Дадзім табе трактар наперад, у кошт крэдыту. Выплаціш крэдыт з ураджаю, паступова, за 10 гадоў. Гарантуем табе, што прадасі сваю бульбу і жыта. Але дзеля гэтага нам усім разам трэба стварыць сваю дзяржаву з сваіх людзей, каб мець свае законы „пра твой трактар", тваю зямлю і гарантыі прадажы жыта на ўнутраным рынку, пра твае падаткі і мыта на межах (каб абараніць тваю працу) і г.д. То ўрэшце рэшт, ці ні пагодзіцца з гэтым чалавек?

Альбо пытаем: калі мы з табой будзем мець сваю беларускую ўладу, то ці будзе яна пераймяноўваць тваю вёску Быкоўшчына ў вёску „Сірэнь"?

Нацыянальная ідэя, нават у дэталях, у самым простым, – гэта ідэя здаровага сэнсу. Яна свая. Таму яна аб'яднаўчая, патрабуе асьветніцтва, тлумачэньня сваім людзям, і змаганьня за яе – з чужой палітыкай.

Той жа прыклад, але ў рэчышчы ідэі абстрактнай (чужой, нездаровага сэнсу). Ты працуеш на зямлі, але ня маеш яе. Давай адбяром у тых, хто мае яе шмат, і дадзім табе, колькі трэба. Але потым – абагулімся, складзем зямлю ў вадно, разам з жывёлай і інвэнтаром. І будзеце ўсе разам, такія, як ты, на ёй працаваць. Бульба і жыта – агульныя. Частку ўраджаю падзеліце паміж сабой, а астатняе – Маскве, за тое, што нас аберагае і намі кіруе. Быкоўшчыну назавем „Камінтэрн".

Тлумачэньні, мяркую, непатрэбныя. Як укаранялася гэтакая ідэя – добра ведама. Яе не растлумачыш, не пакажаш, не дакажаш і ня ўспрымеш, ці ты адукаваны, ці ты неадукаваны. Бо яна не вынікае ні з жыцьцёвых абставінаў, ні з сацыяльных патрэбаў, ні са здаровай лёгікі. Гэта тыповая разбуральная, разьяднаўчая ідэя, не адпаведная жыцьцю, якая (каб існаваць) патрабавала маўзэра, калючага дроту і лёзунгу: „Хто ня з намі, той супраць нас."

* * *

Нацыянальная ідэя ёсьць ідэяй прынцыпу і выбару, але (як я ўжо адзначыў) – не канструкцыяй кампрамісаў. Некаторыя наіўныя людзі (зрэшты, і зацятыя дэмагогі таксама) шчыра мяркуюць, што ва ўсіх выпадках грамадзкіх сутыкненьняў і суперніцтва процілеглых тэндэнцыяў у палітыцы ды сярод людзей, трэба заўсёды не канфліктаваць, а шукаць нечага агульнага, прыймальнага для ўсіх. Такія людзі здаюцца палітычнымі мудрацамі, разважаюць то пра „цэнтрызм", то пра „мастацтва кампрамісу" і г.д., думаючы, што валодаюць унівэрсальнай тэхналёгіяй дэмакратыі.

Квінтэсэнцыю такой „тэхналёгіі" выявіў некалі ў польскім Сэйме наш беларускі сэнатар Аляксандар Уласаў: „Усё будзе добра, панове, – зьвяртаўся ён да сэнатараў-дыскутантаў, – толькі нічога ня трэба рабіць".

Кампраміс магчымы (і можа быць плённым) па збліжаных і альтэрнатыўных пазыцыях. Сутнасьць жа ў тым, што ў Нацыянальнай ідэі не існуе нацыянальнай альтэрнатывы. Яе абагуленасьць – абсалютная. Яе альтэрнатыва знаходзіцца за межамі нацыі

і зьяўляецца – антаганізмам. Кампраміс паміж антаганізмамі, практычна, немагчымы (альбо – альбо). Хіба што гэта будзе кампраміс абсурду.

Не існуе здаровага кампрамісу, скажам, паміж антаганізмам жыцьця і сьмерці: быць ці ня быць. Але аб'яднаўчы сэнс для людзей (здаровы сэнс), ня гледзячы на дыямэтральную супроцьлегласьць ідэяў, знаходзіцца ў пазыцыі жыцьця: „Быць."

Значыцца, калі мы гаворым „быць", – мы можам урэшце ўсіх аб'яднаць, хоць бы бальшыня меркавала зь нейкіх прычынаў, што „быць" – ня трэба.

За „быць" (гэта значыць, жыць) – трэба змагацца, бо жыць – мусім усе.

Добра, што за часы Хрыста не было дэмакратыі. А то арганізавалі б „круглы стол" па дасягненьні кампрамісу паміж Хрыстом і фарысеямі.

Ідэя ад ідэі розьніцца, і ня ўсё – дзеліцца папалам. Каб разумець гэта, Бог і даў чалавеку розум.

Калі глянуць на гісторыю эўрапейскага Адраджэньня ў XIX стагоддзі, то ўбачым якраз такую аб'яднаўчую карціну: рух Нацыянальнай ідэі ад малога – да вялікагга, праз асьвету і змаганьне і нясеньне Крыжа дзеля шчасьця і будучыні ўсяго народа. Гэта такое змаганьне, дзе кожны венгр, ці кожны чэх, ці кожны беларус быў у Нацыянальнай ідэі – сябрам.

* * *

Пэўная катэгорыя людзей у Расеі і іхныя прадстаўнікі ў Беларусі вельмі ня любяць Беларускую Нацыянальную Ідэю. Але заўважана, што яны яе і баяцца. Пакусваюць, ды з-падцішка, скрытна, між іншым, не ўдаючыся ў вялікія разважаньні. А так, звычайна, робяць выгляд, што яе няма. Ды й самы яны, маўляў, амаль клапоцяцца пра Беларусь, шукаюць, быццам бы, шляхоў выхаду (у Расею, вядома).

Мітусьня ўсё гэта, пустата і дэмагогія. Пераможа праўда, бо такая яе прырода. Беларусь была і будзе. Але за Беларусь трэба змагацца.

Каб змагацца, трэба быць разам. Аб'яднаць беларусаў можа толькі *Белларуская Ідэя*. А гэта ёсьць Ідэя нашага вольнага нацыянальнага жыцьця ў незалежнай Беларускай дзяржаве. Беларусаў ня можа злучыць чужая Нацыянальная ідэя, ці чужая дэмакратыя, а толькі – разлучыць. Вось чаму за сваю ідэю трэба змагацца супраць чужароднага.

Сапраўды так. Ёсьць толькі адна дарога выратаваньня Беларусі: узмацняць Беларусь, берагчы ўсё беларускае. Супраціўляцца зьнішчэньню, русіфікацыі, этнацыду. Нельга цярпець, каб нас паніжалі, тапталі ў гразь наша імя, зьневажалі нашу мову і род, забіралі маёмасьць.

Як гэта ня дзіўна, але, каб абараніцца, трэба вельмі ня шмат: адчуць гонар за свой народ і адказнасьць за ягоную будучыню.

*28 траўня 2002 года, Варшава.*

## 6. КУЛЬТУРА, ГІСТОРЫЯ, МАЁМАСЬЦЬ

Часам гаворыцца, што чалавек – гэта культура. У гэтым ёсьць сэнс. Дакультурны чалавек мусіў бы быць часткай прыроды (ці больш сьцісла – жывёльнага сьвету). Ці быў дакультурны пэрыяд у чалавека на Зямлі, сказаць цяжка, хоць дзеля гэтакага меркаваньня хораша выбудоўваецца лягічны ланцужок і пад рукой – розныя прыклады. Але пакуль што гэта ўсяго толькі навуковалягічныя канструкцыі, а не дакладная навуковая сістэма. Тым ня менш, мы мусім карыстацца тым, што маем, – лёгікай вылучэньня чалавека з прыроды, абапіраючыся на фрагмэнты дакладных ведаў.

Калі прааналізаваць значэньне, гісторыю і сэнс слова „культура", то прыходзім да высновы, што яно выяўляе асноўнае паняцьце і спосаб чалавечага існаваньня на Зямлі. ***Культура – гэта ўсё, што створана рукамі і розумам чалавека***. Вышэй культуры ёсьць толькі Бог і прырода.

Вылучэньне чалавека з прыроды – гэта быў шлях у культуру. Чалавек, утвараючы культуру, сам зьяўляецца яе стварэньнем (у сфэры культуры ён стварае сябе). У той жа час чалавек ёсьць часткай прыроды і Боскага Духу.

Мяркуючы па-філязофску, чалавек, разьвіваючыся ў культуры, ёсьць зьявай прыроды, якая, надзеленая Боскім Духам, пазнае сама сябе. Таму сэнс культуры – у чалавеку.

Ня цяжка зразумець, што фізічны чалавек у прынцыпе ня можа выйсьці за межы прыроды (усяго існага), а фізічнае жыцьцё чалавецтва абмежавана пэрыядамі прыродных пераменаў.

Таму чалавек ня можа быць „царом прыроды", як сцьвярджалі неадукаваныя людзі, бо прырода ў анталягічным сэнсе – бясконцая (адваротна пэрспэктыўная ў шырыню) і ў гнасеалягічным зьмесьце – непазнавальная (проста пэрспэктыўная).

У чым жа тады зьмест культуры, калі яна, існуючы паралельна, ня можа выйсьці за межы прыроды?

***Культура гэта ёсьць духоўнае цела фізічнага чалавецтва, форма, у якой разьвіваецца чалавек***. Гэта нібы дом, які людзі могуць абсталяваць, як сьвятыню, як храм, альбо ператварыць яго ў хлеў. Бо чалавек культурны, у адрозьненьне ад істоты прыроднай (жывёлы), валодае *свабоднай воляй*.

Пераходны, канцовы сэнс культуры можна зразумець, калі разглядаць яе як асяроддзе дзеля ўдасканаленьня чалавечай душы і разьвіцьця чалавечага духу (гэта значыць, як сфэру выяўленьня вечнага розуму).

Мы, беларусы, ствараючы і адраджаючы нашу культуру, ніколі не павінны забывацца пра вечнасны, духоўны сэнс народнага існаваньня.

Ёсьць таксама вузкае разуменьне тэрміну культуры. Яно ўключае ў сабе сфэры творчасьці, мастацтва, этыкі, самаарганізацыю грамадзтва. Ёсьць сваістыя катэгорыі культуры. Напрыклад, агульначалавечая культура, нацыянальная культура, народная культура (пад якой звычайна падразумеваюць фальклёр), мастацкая, бытавая, індывідуальная культура і г.д. Усе культурныя дачыненьні ўзаемазьвязаныя і, у рознай ступені, узаемазалежныя.

Нас цікавіць тут нацыянальная культура як асноўная каштоўнасьць нацыі. Некалькі пакаленьняў беларусаў жыло пры камуністычным рэжыме, пад расейска-савецкай акупацыяй. Тады ідэалёгія і палітыка ў галіне нацыянальнай культуры вызначалася падвойна. У афіцыёзным пляне лічылася, што нацыянальная культура (гэтак жа, як і мова) ёсьць часовая зьява. Пры камунізме, маўляў, да якога ўсё няўхільна рухаецца, будзе адна камуністычная культура (і адна мова). На просьбу ўдакладніць, што гэта будзе за культура і якая мова, прапагандысты (псэўдавучоныя) звычайна ухіляліся ад адказу альбо намякалі, што „возможно, это будет взбагаченная национальными культурами русская культура и русский язык, как самые высокаразвитые и наиболее распространенные".

Другі варыянт тлумачэньня гэтакай пазыцыі адбываўся на паўафіцыйным (непублічным, непісьмовым) узроўні, дзе гаварылася, што беларуская нацыянальная культура і мова „никому не

нужны”, што трэба жыць іншай, „более передовой” рускай культурай, і гаварыць – па-руску, бо „все понимают и везде говорят”.

Узровень гэтакай шавіністычнай прапаганды, як кажуць, недыскусійны. Але бывае, што чым больш прымітыўная прапаганда, тым лепш яна засвойваецца простымі людзьмі. З такой зьявай нялёгка змагацца, бо на прапагандысцкі прымітыў павінен быць контр-прымітыў. Тады успрымаецца.

Вядома, усё вырашаецца нацыянальнай асьветай у нармальнай краіне. Але ў акупаванай краіне, дзе такой асьветы няма (ці яна забаронена), а нацыянальныя асьветнікі і шмат якія культурныя людзі – зьнішчаныя, у такой краіне могуць існаваць самыя неверагодныя антыкультурныя ўяўленьні.

* * *

Нацыянальная культура акамулюецца ў генетычнай памяці, у інтэлекце чалавека і ў набытых інстынктах. У грамадзкім сэнсе, нацыянальная культура адкладваецца *ў гісторыі* і выяўляецца ў людзкіх (грамадзкіх) дачыненьнях. З гэтага вынікае, што чалавек нармальна разьвіваецца толькі ў сістэме сваёй нацыянальнай культуры, але можа ўзбагачацца ў іншай нацыянальнай культуры. Такім чынам, кожная нацыянальная культура у дачыненьні сама да сябе ёсьць *сістэма існаваньня і разьвіцьця*, а ў дачыненьні да іншай нацыянальнай культуры яна выступае як *сістэма ўзбагачэньня*. Адсюль зразумела, што нацыянальная культура ёсьць абсалютнай умовай культурнага існаваньня, а множнасьць культураў ёсьць чыньнікам *паскоранага культурнага разьвіцьця* кожнай нацыянальнай культуры і культуры чалавецтва ў цэлым. І чым большая множнасьць, тым лепшыя ўмовы, тым большая магчымасьць разьвіцьця.

Гісторыя ёсьць часткай культуры. Гэта яе памяць і назапашаны вопыт. Аб значэньні веданьня гісторыі для асобы і грамадзтва шмат напісана і сказана.

Без гісторыі культура не разьвіваецца, як не разьвіваецца чалавек бяз памяці. Каб лепш зразумець, паспрабуем уявіць такога чалавека. Скажам, з сёньняшняга дня асоба перастае раптам памятаць усё, што было. Чалавек адразу нібы выпадае з сацыяльна-культурнага жыцьця. Перастае быць паўнавартаснай асобай. Ня зможа далей ні нармальна жыць, ні працаваць.

Расейскія камуністы, зьнішчаючы беларускую гісторыю, фальсіфікуючы і зачыняючы яе для цэлых пакаленьняў, стваралі непаўнавартасныя ўмовы культурнага разьвіцьця, спрыялі інтэлектуальнай люмпэнізацыі (адсутнасьці духоўных каштоўнасьцяў) і культурнай няразьвітасьці ў грамадзтве. А гэта выклікала дэфармацыю нацыянальнай сьведамасьці, неадэкватныя грамадзкія паводзіны народа.

Па-за культурай (гэта значыць, увогуле па-за культурным чалавечым грамадзтвам) чалавек не разьвіваецца як культурная індывідуальнасьць (дзічэе).

Выходзіць, што для нармальнага і праўдзівага існаваньня і разьвіцьця грамадзтва і чалавека неабходна, каб былі моцныя нацыянальныя (народныя, этнічныя) культуры, каб іх было шмат і каб людзі, жывучы ў сістэме адной нацыянальнай культуры, маглі рухацца па сьвеце (ці хаця б ведаць, што ў ім робіцца).

У рэальнасьці аднак, назіраюцца істотныя адхіленьні ад узору, узьнікаюць войны і канфлікты з мэтай захопу чужой тэрыторыі ды маёмасьці, прыдумваюцца пачварныя тэорыі ды ідэалёгіі, дзеля асіміляцыі ці вынішчэньня нацыяў, снуецца хітрая палітыка і таемная дыпляматыя, правакуецца культурная экспансія, міграцыі, дыверсіі, імпэрыялізм у культуры і г.д.

На працягу ўсёй гісторыі культурнага існаваньня людзей назіраецца пастаянная разбуральная тэндэнцыя: зьменшыць множнасьць культураў (якія ствараюцца ў выніку культурнага разьвіцьця чалавецтва.)

Найвыразьней гэтая зьява ўвасоблена ў ідэалёгіі, псіхалёгіі і палітыцы імпэрыі. Ці ёсьць у гэтым нейкі аб’ектыўны рацыянальны сэнс? На жаль, ёсьць. Для хутчэйшага і вышэйшага разьвіцьця культуры патрэбная ня толькі множнасьць, але і канцэнтрацыя магчымасьцяў, рэсурсаў, грамадзкай сілы. Так узьнікалі вялікія цывілізацыйныя імпэрыі, заснаваныя на крыві і касьцях загінулых народаў, дзе будаваліся велічныя храмы, калёны, помнікі, сфінксы, аквэдукі ды піраміды, тэатры ды стадыёны, а вайна была сродкам культурнага прагрэсу.

Канцэнтрацыя багацьцяў і культуры ў імпэрыях выклікала зайздрасьць малакультурнага, так званага „варварскага сьвету”, зь якім імпэрыі вялі пэрманэнтныя войны. У выніку гэтакіх войнаў узьнікалі нават варварскія імпэрыі (напрыклад, Манчжурыя, Залатая Арда, імпэрыя Тамэрляна, Расея* і г.д.), якія пагражалі зьнішчэньнем любой культуры.

Цывілізацыйныя старажытныя імпэрыі зьнікалі, аднак, перш за ўсё, з унутраных прычынаў (заняпад маралі, духоўная дэградацыя), а ня толькі пад ударамі варвараў. Бо нішто ня можа доўга трываць, заснаванае на гвалце і крыві. На месцы імпэрыяў зноў



**152. *Старая Вільня.***

(Фота Яна Булгака, 1910-я гг.)

* Нагадаю ізноў, што „варварамі” раней звычайна называлі тыя народы (дзяржавы), якія не стваралі высокай культуры (гэта значыць, духоўнай, не ўжытковай культуры: літаратуры, тэатра, архітэктуры і т.п.), а займаліся, галоўным чынам, вайной, ваенным рабаўніцтвам і заваёўніцтвам. Расея мела характэрныя рысы варварскай імпэрыі. Расейскі Цар Мікалай I, які цараваў у XIX ст., характарызаваў Расею як „военную дзяржаву”, а Сталін (у XX-м стагоддзі) рыхтаваў сусьветную рэвалюцыю, заваяваньне Эўропы і Азіі, перабудаваў усю імпэрыю на ваенна-лягерны лад.

ажывалі ацалелыя народы, адраджалася множнасьць культураў, якія разьвівалі свае народныя традыцыі і вельмі выбарачна засвойвалі культуру імпэрскую.

У XX-м стагоддзі разваліліся і спынілі сваё існаваньне, практычна, усе (акрамя Расеі) сусьветныя імпэрыі (у тым ліку, і каляніяльныя). Утварылася мноства нацыянальных і посткаляніяльных дзяржаваў. Назапашаны велізарны вопыт па самазахаваньні і адраджэньні нацыянальнай культуры.

У гэты ж час становіцца зразумелым (а ў канцы XX-га стагоддзя замацоўваецца ў палітыцы), што вялікая традыцыйная вайна (вайсковая франтавая кампанія) стала эканамічна непасільнай і эканамічна ня выгаднай, а вынікі яе – надзвычай разбуральныя і гвалтоўныя для культуры, якая, з ускладненьнем сваёй структуры, стала больш датклівай на разбурэньне.

Да пачатку XXI стагоддзя і спосабы вайны, і імпэрская палітыка пачалі мяняць аблічча. На месца „нэакаляніялізму" прыходзіць „глябалізацыя" (якая ўжо выклікала канфлікт з ісламскім сьветам), а замест традыцыйнай ваеннай акупацыі часьцей і часьцей ужываецца эканамічная вайна, распрацоўваюцца мэтады інфармацыйных, кібэрнэтычных, прапагандысцкіх, фінансавых войнаў, выкарыстаньне разьведкі, спэцслужбаў і г. д.


(Фота З. Пазьняка)

***153. „Сьвятая Ганна" і „Бернардынец". Вільня, 2001 г.***

Дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь (як я ўжо адзначаў раней) была захоплена Расеяй у выніку скаардынаваных дзеяньняў расейскіх спэцслужбаў і савецкага КГБ, з выкарыстаньнем дзеючых мэханізмаў фармаваньня ўлады. Гэта новы від вайны: акупацыя знутры пры дапамозе спэцслужбаў.

На працягу ўсіх гадоў гэтай вайны (з 1994-га) адбываецца пасьлядоўнае вынішчэньне асноваў беларускай культуры, гісторыі, эканомікі, незалежнасьці і дзяржаўнасьці. Старая імпэрыя з адсталай эканомікай, культурай, з традыцыйнымі ськіваваньнямі на захоп тэрыторыяў, на генацыд, тэрор і асіміляцыю (такую тэрарыстычную вайну яна вядзе ў Чэчэніі) распачала ў Беларусі новы мэтад вайны – ўнутраную акупацыю, расьцягнутую ў часе, шляхам стварэньня ўмоваў для самазьнішчэньня беларускай нацыі.

Экспансія любой імпэрыі (варварскай ці цывілізацыйнай) ёсьць заўсёды пагроза множнасьці культураў, духоўнаму і фізічнаму існаваньню народаў.

Прыклад зь Беларусяй яскравы, але можам паглядзець на сьвежы прыклад зь іншага боку: як адбываецца экспансія цывілізацыйнай глябалізацыі, наступ супэрімпэрыі. Якім мэтадам тут зьнішчаецца мова, культура, духоўныя традыцыі народаў (інакш бо „глябалізацыі" ці новага каляніялізму плянэты ня станецца). Гэты мэтад ёсьць *культурны імпэрыялізм* (распаўсюджаньне камэрцыйнай збочанай мас-культуры па рыначных каналах). „Культурны імпэрыялізм", распуста і збочанасьць агрэсіўнай мас-культуры ідуць наперадзе глябалізацыі і здольныя разваліць, зьнішчыць, спаганіць любую чалавечую культуру, „зжэрці" любую мараль, разбэсьціць нармальнае грамадзтва.

Радыкальныя ісламісты ў Аўганістане (талібы) пачалі змагацца з культурным імпэрыялізмам даступным ім варварскім мэтадам (рэпрэсіямі) і вышлі з-пад кантролю супэр-імпэрыі. Праз нейкі час, пад выглядам злаўленьня Бін-Ладэна, які хаваўся ў Аўганістане, Аўганістан як дзяржава* быў сьцерты з твару зямлі тысячамі бомбаў ды ракетаў. Талібы перасталі існаваць.

Вось такое „радыкальнае ўмяшальніцтва", як кажуць у хірургіі. (Дарэчы, а дзе Бін-Ладэн? Але, зрэшты, ня важна, дзе. Галоўнае, што ўсё у парадку і з „правамі чалавека", і з „ідэаламі дэмакратыі" таксама.)

Дадам толькі, што Аўганістан – стратэгічны ключ да Сярэдняй Азіі і ўсяго Ўсходу. Праз яго – ўсе шляхі. Гэта яшчэ Аляксандар Македонскі ведаў, калі туды ішоў рызыкаваць сваёй галавой і арміяй.

Такім чынам, там, дзе паўстае пытаньне аб існаваньні альбо аб становішчы народаў, заўсёды, першым чынам, узьнікае пытаньне аб нацыянальнай культуры. Усім да яе раптам зьяўляецца справа.

Але, можа, у Беларусі інакш, можа тут – нейкае выключэньне з правіла? Можа, і сапраўды, як кажуць саветы, „какая разница?".

Мэта сучаснай, „тэхналягічнай" вайны, гэтак жа, як і мэта традыцыйнай збройна-вайсковай кампаніі – аднолькавыя: захоп нацыянальнай маёмасьці, тэрыторыі і рэсурсаў. Культура сама па сабе менш цікавіць акупантаў, але, каб дасягнуць мэты, ім трэба зьнішчыць культуру. ***Бо культура, мова, гісторыя ёсьць кансалідуючым чыньнікам нацыі.*** Яны злучаюць народ, робяць яго сьведамым дзеля нацыянальных інтарэсаў, спрыяюць адпорнасьці народа пры замаху на ягоную ўласнасьць і свабоду. Без культуры народ раззброены.

Усьлед за стратай нацыянальнай культуры ідзе страта нацыянальнай ўласнасьці. Што гэта абазначае – тлумачыць няма патрэбы. Галечу і выміраньне, беднасьць. Зьнішчыўшы нацыянальную культуру, мову, гістарычную памяць народа, чужынцам значна лягчэй забраць („прыватызаваць", купіць за бясцэн) нацыянальную ўласнасьць, напрацаваную пакаленьнямі, захапіць рэсурсы, фабрыкі ды заводы, зямлю, лясы, дарогі, ваду, нетры, палі ды паветра. Народ становіцца нікім і нічым на сваёй зямлі, якая робіцца ўжо не яго. Чалавек можа пайсьці, праўда, на працу, да новых гаспадароў-акупантаў, бо ім патрэбная будзе танная рабочая сіла. Але на гэтым пэрспэктыва яго і замкнецца.

Савецкага простага беларуса, які кажа „какая разница", ужо рыхтуюць да нявольніцкай пэрспэктывы. Лібэрал-калябаранты

* Дзяржаўная ўлада ў акупаваным войскамі НАТО Аўганістане мае фармальны характар і ў сапраўднасьці не выходзіць за межы Кабула.

да таго ж яшчэ хлусьліва „растлумачаць” яму (па-руску), што, маўляў, ня мае значэньня, чыя ўласнасьць, важна гарантаваная праца, рабочыя месцы, заробкі. І савецкі „пралетар”, даведзены да галечы гэтымі калябарантамі ды чужынцамі, павінен (па задуме) узрадвацца, што ўзамен за ягоную нацыянальную ўласнасьць дадуць яму пустыя гарантыі працы на прыбытак рабаўніку. (Як быццам нешта значаць гарантыі беднаму ды слабому.)

Ці вось іншы прыклад савецкага. Гандляр, прадпрымальнік робіць грошы, мае фірму. „Быстрэй бы пад Расію, – кажа мне гэты малады нявольнік. – Расійскія законы лушчэ для бізнеса. Тагда і мы паднімемся.” Камэнтар непатрэбны.

* * *

Людзі, не аб’яднаныя нацыянальнай памяцьцю, гісторыяй і культурай, якія не разумеюць каштоўнасьці нацыянальнай культуры, страцілі нацыянальную культуру і адчужаныя ад яе, такія людзі ня ў стане валодаць нацыянальнай сьведамасьцю, зразумець нацыянальныя інтарэсы як свае інтарэсы і стварыць нацыянальную дзяржаву. Нават уласнасьць, якой яны асабіста валодаюць, будзе імі страчана ва ўмовах чужынскай акупацыйнай палітыкі, сутнасьць якой ім звычайна таксама – незразумелая.

Беларус, які валодае нацыянальнай сьведамасьцю, беражэ таксама і каштоўнасьці нацыянальнай культуры. Ён разумее: каб мець маёмасьць, памнажаць уласнасьць і стаць заможным, неабходная самастойнасьць і дзяржаўная незалежнасьць.

Каб лепш жыць у народзе, трэба найперш, рупіцца пра свабоду для народа, а не пра грошы для сябе. Бо ня маючы незалежнасьці і свабоды, людзі будуць працай сваёй узбагачаць тых, ад каго залежныя, тых, хто будзе над імі гаспадаром, хто будзе распараджацца ў іхным доме (у іхнай краіне). Калянізатар зацікаўлены ўзбагаціцца коштам і працай нявольніка, а ня тым, каб памножыць яго дабрабыт. У сваёй краіне трэба быць гаспадаром.

Некалі я напісаў для сябе малы верш (нібы зацемку, дзеля памяці):

– Ці хочаш свабоды?
– Хачу – дабрабыт.
– Ня будзеш яго мець.
Бо, каб стаць заможным,
Трэба быць незалежным.

* * *

Велізарнай каштоўнасьцю культуры зьяўляюцца талент і інтэлект нацыі (адукаваныя людзі). Гэтыя акамуляваныя каштоўнасьці зрабіліся ў сучасным сьвеце першаснымі рэсурсамі культурна-эканамічнага разьвіцьця народа (ня нафта, ня газ, не жалезная руда, а менавіта інтэлект).

Адначасна талент і інтэлект даўно ўжо сталі таварам міжнароднага клясу, які зь беларускага боку расходуецца за бясцэн, задарма нават у Афрыку, і проста марнуецца ад таго, што рэальна не існуе ў акупаваным беларускім грамадзтве абароны інтэлекту як нацыянальнай уласнасьці народу. Каб абарона існавала, патрэбна ня толькі незалежная нацыянальная палітыка, але і сьведамасьць нацыянальнага існаваньня.

* * *

Разважаючы пра нацыянальныя каштоўнасьці, зьвернем увагу на паяднаньне іхных духоўных і матэрыяльных кшталтаў. Тут выразна прасочваецца залежнасьць характару матэрыяльнага ўгрунтаваньня грамадзтва ад ўсьведамленьня ім духоўных, маральна-этычных і культурных здабыткаў нацыі.


(Фота З. Пазьняка)

*154. Віленшчына асеньнім днём. 2001 г.*

Аказываецца, што свабода, эканамічнае разьвіцьцё і дабрабыт людзей у нацыянальным грамадзтве апасродкавана залежныя ад кшталтаваньня ў ім найперш духоўных і культурных каштоўнасьцяў нацыі (мовы, гісторыі, культуры, нацыянальных традыцыяў, маралі, этыкі, мастацтва, нацыянальнай ідэі, інтэлекту, усьведамленьне нацыянальных абавязкаў і г.д.).

Зрэшты, яно зразумела само сабой. Але пра дачыненьні культуры неабходна гаварыць. Нават пра самае відавочнае. Бо доўгі савецкі пэрыяд і затым – частковая ягоная рэанімацыя (антыбеларускі рэжым) зьмянілі шмат дзе сам характар думаньня людзей. Шмат каму падсьведама здаецца, што духоўныя інтарэсы ня маюць самакаштоўнасьці, што за ўсялякім духоўным зрухам стаіць матэрыяльны інтэрас.

Можа б яно так і выгляла, калі б чалавек ня жыў духоўным жыцьцём. Першаснасьць у канкрэтных выпадках можа быць дыскусійнай, але агульны вызначальны кшталт культуры, сувязь і ўзаемазалежнасьць – відавочныя.

Прыярытэтнасьць частак можна вызначыць па магчымасьці ўзнаўленьня цэлага. Страціўшы матэрыяльнае, але захаваўшы культуру і дух, усё можна ўзнавіць. Страціўшы культуру і дух, можам страціць і матэрыяльнае. І калі страцім, то без культуры, бяз духу, без ідэі ўжо нічога не адновім.

Бо лепш умець, чым мець, ня ўмеючы. Лепш ведаць, чым валодаць, ня ведаючы. Беларуская культура ёсьць найвялікшы нацыянальны скарб.

*15 чэрвеня 2002 г., Варшава.*

## 7. НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЬВЕДАМАСЬЦЬ

Узровень жыцьця людзей *як супольнасьці* залежны ад дачыненьняў паміж асобай (асобным чалавекам) і грамадзтвам. Дачыненьні паміж асобай і грамадзтвам вымяраюцца супольнай *сьведамасьцю*.

Гістарычна чалавечая супольнасьць асэнсавала і прайшла праз розныя віды сьведамасьці і захавала яе рэлікты. Напачатку існавала сьведамасьць, дадзеная прыродай – *усьведамленьне віду* (людзі – і ўсё астатняе). Потым – *родава-племянная*. Затым, з разьвіцьцём цывілізацыйнага працэсу (а ён пачаўся тады, калі людзі сталі жыць асела і працаваць на зямлі), узьнікае *этнічная (тутэйшая) сьведамасьць*. Супольны інтэрас і супольнае адзінства вымяралася ў гэты час па тэрыторыі, па звычаях (культуры) і па мове.

Наступны этап – *народная сьведамасьць*. Яна зьвязаная са стварэньнем дзяржавы і дзяржаўнага віду ўлады. Супольнае адзінства і дачыненьні людзей асэнсоўваліся на ўзроўні забесьпячэньня агульных сацыяльна-культурных інтарэсаў.

У XVIII-XIX стагоддзях цывілізацыйны працэс прывёў да зьяўленьня *нацыянальнай сьведамасьці*, калі супольнасьць гуртуецца на аснове *нацыянальнай ідэі*, якая ўбірае ў сябе ўсе ранейшыя дасягненьні этнічнага і народнага духа, абагульняе інтарэсы і выступае ў якасьці *нацыянальнай ідэалёгіі*. Рэалізацыяй нацыянальнай сьведамасьці ёсьць вольная нацыянальная дзяржава, якая забясьпечвае ўсебаковае існаваньне і разьвіцьцё нацыі і кожнага асобнага чалавека. Гэта той стан сьведамасьці, у якім знаходзіцца зараз цывілізаваны сьвет.

Нацыянальная сьведамасьць мае тую асаблівасьць, што зьяўляецца *прыярытэтнай* перад сацыяльнай сьведамасьцю і перад усімі астатнімі. Менавіта гэтая асаблівасьць забясьпечвае моц і існаваньне нацыянальнай дзяржавы і ўласна самой нацыянальнай сьведамасьці, бо зьяўляецца яе найгалоўнейшай рысай.

На практыцы гэта выглядае так, што кожны грамадзянін нацыі ўсьведамляе агульны інтэрас нацыі як свой асабісты, ён разумее лучнасьць інтарэсаў і абараняе іх.

У чалавека ненацыянальнай сьведамасьці (альбо дэнацыяналізаванага) асабісты інтэрас і інтэрас агульнанацыянальны (грамадзкі, дзяржаўны) існуюць як бы незалежна. Такі чалавек дбае толькі пра свой інтэрас і, як часта бывае, – насуперак агульным інтарэсам нацыі.

Людзі нацыянальнай сьведамасьці заўсёды аддаюць перавагу агульнанацыянальным каштоўнасьцям перад сацыяльнымі, палітычнымі, канфэсійнымі, групавымі, эканамічнымі і г.д. Гэтая асаблівасьць нацыянальнай сьведамасьці трымае ў моцы і ў адзінстве і такую, напрыклад, маналітную нацыянальна зьяднаную краіну, як Польшча, і поліэтнічную эміграцыйную Амэрыку. Нацыянальная сьведамасьць грамадзтва дае магчымасьць бяз цяжкасьцяў праводзіць узгодненую, агульнанацыянальную ўнутраную і зьнешнюю палітыку, вырашаць шэраг грамадзкіх задачаў.

Напрыклад, ні ў польскіх кансэрватараў, ні ў сацыялістаў, ні ў былых камуністаў не ўзьнікае думкі дыскутаваць пра незалежнасьць Польшчы ці пра дзяржаўнасьць польскай мовы, ці пра неабходнасьць польскай школы, ці аб прызнаньні нацыянальнага гэрбу ці сьцягу і г. д. Нацыянальная сьведамасьць стварае каштоўнасьці, бясспрэчна агульныя для ўсяго грамадзтва. Ёсьць агульнанацыянальная неабходнасьць быць Польшчы ў НАТО – і ўсе польскія партыі праводзяць узгодненую палітыку, незалежна ад перамены ўлады, зьмены ўраду і г. д.

Тое ж самае – ў ЗША. Нацыянальныя інтарэсы, нацыянальная ідэя, амэрыканскія каштоўнасьці – вышэйшыя за ўсе ўнутраныя, расавыя, сацыяльныя, канфэсійныя і іншыя інтарэсы, і нават канфлікты. Любімае выслоўе амэрыканскіх прэзыдэнтаў: „Думайце не пра тое, што Амэрыка зрабіла для вас, а што вы зрабілі для Амэрыкі”.

Грамадзтва, якое ёсьць на ўзроўні нацыянальнай сьведамасьці, дзе існуе нацыянальны прыярытэт у паводзінах асобы, такое грамадзтва можа ***самаіснаваць***, яно ***самадастатковае***, яно здольнае на ***самакіраваньне*** і можа абыйсьціся без улады, устаноўленай зьверху ці звонку (абсалютызм, манархія, насьледнае каралеўства, дыктатура, імпэрыя, каляніяльнае праўленьне і г.д.).

Грамадзтва на ўзроўні нацыянальнай сьведамасьці выклікае новы тып улады – ***дэмакратыю***, стварае нацыянальную дэмакратычную дзяржаву. Гэта натуральны стан нацыянальнай дзяржавы, якая іманэнтна (унутрана) імкнецца да дэмакратыі. Усялякія адхіленьні ад дэмакратыі (дыктатура, аўтарытарызм, аўтаркія і г.д.) асэнсоўваюцца як неадпаведныя, і нацыянальнае грамадзтва імкнецца да аднаўленьня дэмакратычнай раўнавагі.

* * *

Нацыянальная сьведамасьць фармавалася ў змаганьні з імпэрыяй і імпэрскай ідэалёгіяй. Імпэрская сьведамасьць заўсёды выяўляла інтарэсы групы ўлады, заўсёды была *таталітарнай ідэалёгіяй* і, як правіла, абапіралася на нейкі адзінанародны ўніфікацыйны прынцып, накінуты зьверху ці звонку.

Імпэрыя – гэта прынцып дзяржаўнай арганізацыі ўлады, які ўзьнік і мог існаваць на ўзроўні народнай сьведамасьці. Разьвіцьцё нацыянальнай сьведамасьці народаў прывяло да распаду імпэрыяў.

Аднак распад імпэрскага абсалютызму не заўсёды прыводзіў да поўнай ліквідацыі імпэрыі. Імпэрская ідэалёгія (адзіны

ўніфікацыйны прынцып улады) аказвалася жывучай, калі перапляталася з нацыянальнымі інтарэсамі. Гэта прыводзіла да новых формаў таталітарызму, да ўнутраных і зьнешніх канфліктаў, станавілася прычынай войнаў.

Эўрапейскія нацыі і эўрапейскае нацыянальнае думаньне перажылі дзьве вялікія нацыянальныя рэвалюцыі („вёсны народаў"). Першую – у сярэдзіне XIX-га стагоддзя (1848-1849 гг.), якая была задушана імпэрыямі, і другую – у першай чвэрці XX-га стагоддзя, якая завяршылася перамогай нацыяў і абнаўленьнем мапы Эўропы (пасьля I-й Сусьветнай вайны), крахам эўрапейскіх і сусьветных імпэрыяў (акрамя Расеі).

Заўважым, што тыя народы, якія стварылі ў той час нацыянальныя дзяржавы, дамагліся незалежнасьці і прайшлі потым пэрыяд нацыянальна-дзяржаўнай стабілізацыі (гэта, у сярэднім, 20-25 гадоў – адно пакаленьне), тыя народы поўнасьцю ўключыліся ў сістэму эўрапейскай дэмакратычнай цывілізацыі і забясьпечылі незваротнасьць нацыянальнага працэсу існаваньня.

Тыя нацыі, якія потым неўзабаве згубілі дзяржаўную незалежнасьць і апынуліся ў таталітарнай імпэрыі – бальшавіцкай Расеі, – тыя нацыі страцілі гістарычны час, не прайшлі абавязковага пэрыяду нацыянальна-дзяржаўнай стабілізацыі і, што страшна, – сталі аб'ектам генацыду і нацыянальнага вынішчэньня. Нацыянальна-псіхалягічная і ідэйна-нацыянальнае разьвіцьцё іх – было затарможана.

Найбольш пацярпелі ў гэтым сэнсе беларусы і ўкраінцы. Вынішчалася, перш за ўсё, нацыянальная сьведамасьць і яе актыўныя носьбіты. За некалькі пакаленьняў перажытага расейска-бальшавіцкага таталітарызму і масавага зьнішчэньня ідэйна-нацыянальная самаідэнтыфікацыя грамадзтва гэтых краінаў (асабліва Беларусі) была адкінута на рэліктавы ўзровень этнічна-тутэйшай сьведамасьці. Але самае страшнае тое, што за няпоўнае стагоддзе гвалту, хлусьні і фальшывых дачыненьняў адбылася масавая люмпэнізацыя сьведамасьці вялікай колькасьці людзей. Менавіта распаўсюджанасьць люмпэнізаванай („савецкай") сьведамасьці стала адным з галоўных чыньнікаў выбраньня Лукашэнкі на прэзыдэнта Беларусі.

* * *

Аднак сытуацыя, у якой апынулася беларускае грамадзтва ў выніку 73-х гадоў расейска-бальшавіцкай акупацыйнай палітыкі, у прынцыпе падлягала выпраўленьню пасьля дасягненьня дзяржаўнай незалежнасьці. Нацыя магла адрадзіць і дзяржаву, і культуру, і стабілізаваць нацыянальнае грамадзтва. Дзеля гэтага трэба было разьвівацца *паскорана* ў спрыяльных умовах, і перш за ўсё – аднавіць нацыянальную эліту, беларускую школу і нацыянальную сістэму адукацыі, накіраваную на разьвіцьцё нацыянальных інтэлектуальных магчымасьцяў і фармаваньня беларускай нацыянальнай сьведамасьці.

У 1994 годзе, пасьля выбраньня Лукашэнкі прэзыдэнтам і пасьля ўсталяваньня прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі, магчымасьці нацыянальнага Адраджэньня і стабілізацыі, пры існаваньні рэжыму, практычна, зьведзеныя да мінімуму (і прадаўжаюць зьмяншацца).

Беларусь зараз перажывае адну з самых небясьпечных калізіяў сваёй гісторыі (прытым значная частка грамадзтва таго не ўсьведамляе), калі вырашаецца лёс далейшага існаваньня Беларускай нацыі.

Тым ня менш, пры наяўнасьці моцнай нацыянальнай эліты, нацыянальнай ідэі і нацыянальнага руху, супадзеньне розных пратэстных чыньнікаў (якое паступова нарастае) магло б прывесьці да выпраўленьня становішча.

* * *

Падсумоўваючы сказанае, зьвяртаю ўвагу на істотныя акалічнасьці. Пасьля распаду СССР Беларусь мела лепшыя эканамічныя, сацыяльна-матэрыяльныя і навукова-тэхнічныя пэрспэктывы незалежнага разьвіцьця, чым іншыя краіны-суседзі ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе, што вызваліліся з-пад расейскага камунізму. Але ў параўнаньні зь імі, у Беларусі была моцна дэфармаваная нацыянальная сьведамасьць насельніцтва. Нават адукаваныя савецкія беларусы, людзі інтэлектуальнай працы, у большасьці, не разумелі і не арыентаваліся ў прасьцейшых пытаньнях нацыянальна-культурнага існаваньня (якія ў іх, да таго ж, не былі прыярытэтнымі).

Такое грамадзтва не магло эфэктыўна супрацьстаяць антыбеларускай палітыцы і неўзабаве страціла свае перавагі. І нават незалежнасьць дзяржавы апынулася пад пагрозай.

У той жа час суседзі, будучы больш нацыянальна салідарызаванымі, пайшлі наперад у сваім нацыянальна-дзяржаўным разьвіцьці і знаходзяцца ўжо на парозе Эўропы. Вырашальным чыньнікам стала нацыянальная сьведамасьць грамадзтва.

Зьвяртаю ўвагу таксама, па якіх накірунках вядзецца сучасная вайна супраць Беларусі. Першая антыбеларуская акцыя рэжыму – зьнішчэньне нацыянальных сымвалаў. Потым – ліквідацыя дзяржаўнай функцыі беларускай мовы, ліквідацыя беларускай школы, адукацыі і асьветы на беларускай мове, кантроль над інфармацыяй і перавод яе на чужую мову, разбурэньне беларускага мастацтва і літаратуры, разбурэньне беларускай фундамэнтальнай навукі, стварэньне ўмоваў для маральнай дэградацыі насельніцтва (адкрыцьцё на Беларусь чужой разбуральнай інфармацыйнай прасторы, чужога разбуральнага тэлебачаньня, запрашэньне антымастацкіх гастрольных групаў, цэнавая стымуляцыя п'янства, дыскрымінацыя і стварэньне нецярпімасьці да беларушчыны ў сістэме дзяржаўных установаў і г.д.).

Дэнацыяналізаваная бюракратыя і частка насельніцтва лёгка паддаюцца такой ненармальнай палітыцы, часам нават не здагадваючыся, што існуюць у сытуацыі абсурду. Калі сказаць коратка, то ўся стратэгія антыбеларускіх дзеяньняў і ўся сістэма разбурэньня накіравана на тое, каб беларусы не разьвіваліся, як нацыя, каб не ўсьведамлялі чалавечую і нацыянальную годнасьць свайго існаваньня, каб ня мелі нацыянальнай сьведамасьці. У выніку такой палітыкі непрыяцелі Беларусі ствараюць і плянуюць грамадзтва суіцыду, нацыянальнага самазьнішчэньня.

Аднак ня трэба думаць, што беларускае грамадзтва у выніку акупацыйнай палітыкі ўжо цалкам нацыянальна задушана і ня здольнае да нацыянальнага Адраджэньня.

Для нармальнага разьвіцьця нацыянальнай культуры і фармаваньня асобы неабходныя нацыянальная асьвета, адукацыя і спрыяльная дзяржаўная палітыка. Цяпер гэта ліквідавана. Аднак, ня гледзячы ні на што, беларускае грамадзтва знаходзіцца ў значна лепшым ідэйным і нацыянальным стане, чым яно было ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, напярэдадні стварэньня Беларускага Народнага Фронту і напярэдадні аднаўленьня незалежнасьці. Перажытае – не зьнікае бясследна.

Грамадзтва – гэта ня простая сума людзей і не натоўп. Перажываемы сацыяльна-палітычны вопыт, які асэнсоўваецца частка беларусаў, незалежна ад афіцыйнай прапаганды і хлусьні, можа аказацца нядрэнным нацыянальным унівэрсітэтам, і тады загоншчыкі народа загоняць у пастку толькі самых сябе.

Цяпер акурат настае вызначальны час. Антыбеларускія заявы прэзыдэнта Расеі Пуціна, зробленыя ім у жніўні гэтага года, паказваюць, што расейскае кіраўніцтва лічыць ужо сваю чорную справу

зробленай і паводзіць сябе так, нібы беларускі народ не існуе. Адсюль той грубы цынізм і адкрытая непавага да беларускай нацыі. Беларусам даюць зразумець, што лічаць іх за нішто, не за народ, а за сьмецьце, і таму кажуць у твар: мы вас анэксуем, ліквідуем, забярэм вашу зямлю і краіну, падзяліўшы на сем частак. Выбірайце: альбо адразу, альбо праз „саюз" і „дружбу навек".

У нацыянальна разьвітай краіне такая заява выклікала б узрыў грамадзкага абурэньня і, хутчэй за ўсё, – спыненьне дыпляматычных адносінаў паміж дзяржавамі, паколькі гэта ёсьць пагроза вайны. У Беларусі нічога такога не назіраецца, бо краіна ўжо знаходзіцца ў стане ўнутранай прамаскоўскай акупацыі, а невысокі ўзровень нацыянальнай сьведамасьці і прадажнасьць элітаў не дазваляе адэкватна ацаніць небясьпеку.

І тым ня менш, – няма прычыны да роспачы. Становішча ня ёсьць аж такім дрэнным. Вопыт, які перажывае цяпер беларускае грамадзтва, вельмі істотны. Асэнсаваньне і рэакцыя высьпяваюць ў беларусаў павольна, але падзеі сьпеюць, і не ў карысьць рэжыму акупантаў. Беларуская ідэя жыве і разьвіваецца ўзьняты Беларускі Сьцяг. Пад яго павевы хутка стане мноства людзей, і не пазнаць будзе нашу ціхую Беларусь. Няхай жа мацнеюць шэрагі і набліжаецца Сьветлы час.

*17 верасьня 2002 г., Варшава*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 6(46); (Беларус, – 2002, № 477 (кастрычнік)*

# ЛЁГІКА СТРАТАЎ І АДРАДЖЭНЬНЯ

Пры поглядзе на гісторыю беларускага Адраджэньня ўражвае, як упарта яно падымалася ў кожным пакаленьні беларусаў і як аднолькава, штораз больш выраблена, яно вынішчалася імпэрскай машынай Расеі.

Беларускае змаганьне – гэта заўсёды была барацьба авангарда. Тут былі ахвярнасьць, гераізм і сіла духу, і – трагічнае вынішчэньне. Трагічнасьць барацьбы (што на справе абазначае несьмяротнасьць ідэі, вялікасьць прыкладу) падымала на змаганьне наступныя пакаленьні. І ўсё паўтаралася.

Лёгіка і прычыны гэтага паўтору пагібелі пакаленьняў паказваюць на асаблівую вырабленасьць расейскай палітыкі вынішчэньня беларускага супраціву, на яе змасаваны ўсеабдымны характар. З гэтакай пэрманэнтнай, гіпертрафіраванай злой сілай ня мог парадзіць геройскі, але малалікі авангард. Недастаткова было гераізму, які, пры вузкасьці змагарных колаў і пагібелі змагароў, спараджаў у наступных пакаленьнях мэмарыялізацыю мэнтальнасьці людзей (псіхалёгію аплакваньня і жалю). Патрэбна было стварэньне глыбокай, масавай салідарнасьці ў барацьбе за агульную ідэю.

*Беларускаму Адраджэньню ва ўсе часы не хапала шырокага і грунтоўнага асьветніцтва ў грамадзтве. Не былі ўключаныя мэханізмы самаасьветніцтва, не сфармаваны выразны і пазнавальны вобраз ворага; бяду і зло разумелі ў адцягненым (абстрактным) сэнсе.*

Асьветніцтва вымагала цяжкай, часамі шэрай, непрыкметнай і будзёнай працы. Але менавіта гэтае асьветніцтва, у першую чаргу, пад корань стараліся зьнішчыць ворагі беларускага Адраджэньня. Замкнутае кола. Як зь яго выйсьці? Пытаньне, якое стаіць перад новымі пакаленьнямі.

* * *

У канцы XVIII стагоддзя, у выніку трох разбораў Рэчы Паспалітай, Беларусь (як інтэгральная, суверэнная частка Рэчы) страціла дзяржаўны суверэнітэт. Уся яе тэрыторыя апынулася пад Расеяй.

Існавалі дзьве галоўныя прычыны страты незалежнасьці. Першая, гэта тая, што Беларусь знаходзілася на ўскраіне эўрапейскай цывілізацыі і стрымлівала агрэсію варвараў: спачатку татара-манголаў і мангольскай Залатой Арды, потым – маскоўцаў і Расейскай імпэрыі, якая вырасла з мангольскага заваёўніцтва.

На ўсход ад Беларусі, за Смаленскам і Дзясной, была яшчэ геаграфічная Эўропа, але па мэнтальнасьці і дзяржаўнаму ўладкаваньню грамадзтва гэта была Азія са зьмешаным канглямэратыўным насельніцтвам, жорсткімі звычаямі і адсталай культурай.

„Мы на самым краі хрысьціянства, – пісаў вялікі Гусоўскі. – Як лес безгалосы, мы пад сякерай."

Другая прычына: сілавая разьяднанасьць і палітычны канфармізм Эўропы. Цывілізацыйнымі катэгорыямі, гэтак, як Мікола Гусоўскі, думалі ня многія. Можныя эўрапейцы не імкнуліся падтрымаць тых, хто „на краі хрысьціянства" прымаў на сябе ўдары з усходу, а наадварот, клапаціліся аб прыдбаньні новых тэрыторыяў за іхны кошт для сваіх імпэрыяў, уступаючы ў змову з Масквой.

Стагоддзямі змагаючыся паміж двух агнёў, магутная Беларусь абяскровілася. Вялікае Княства Літоўскае было разбурана, Беларусь захоплена Масквой.

* * *

Барацьба за незалежнасьць Вялікага Княства і ўсёй Рэчы Паспалітай пачалася адразу, пасьля канчатковага забору. Паўстаньне Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі. Вынікі паражэньня: вынішчэньне краю, рэпрэсіі актыўных людзей, эміграцыя.

Наступная спроба вызваліцца – 1812 год, паход Напалеона. Барацьба з маскоўцамі набывала ўсенародны характар. Ня толькі шляхецкае войска змагалася з расейскім ворагам побач з французкай арміяй, але і беларускія сяляне, мяшчане – зьнішчалі акупантаў. У Менску, напрыклад, мяшчане і шляхта ўзялі ўладу ў свае рукі за тыдзень да заняцьця горада аддзеламі французскага маршала Даву.

Вынікі паражэньня кампаніі, бяздарна прайгранай французамі: рэпрэсіі беларускай шляхты, эміграцыя актыўных людзей.

1830 год – чарговае паўстаньне шляхты і барацьба за незалежнасьць. Зброю ўзялі нават жанчыны. (Геройская Эмілія Плятар.)

У выніку паражэньня гэтага паўстаньня, расейцы, як і пасьля 1794 і 1812, амаль пад корань вынішчылі заможную беларускую шляхту і магнацтва, выгналі іх у эміграцыю, саслалі ў Сібір. Маёнткі і землі рэпрэсаваных параздавалі рускім памешчыкам, фаварытам рускага двара. Тых, што ацалелі, узялі пад нагляд, пазбавілі права пера-

мяшчэньня, маёнткі абклалі непасільнымі рэпарацыямі, штрафамі і штогадовымі выплатамі ў акупацыйную казну.

У гэты час (1831-1839) была зьнішчаная і патопленая ў крыві найбольш пашыраная беларуская рэлігія (канфэсія) – Вунія (80% вернікаў), спаленыя тысячы беларускіх кніг і сьвятых абразоў, зьнішчаныя і разрабаваныя кляйноты, разбураныя сьвятыні, манастыры. У 1840 годзе забароненая беларуская мова і назва краіны – Беларусь.

Уся беларуская барацьба за свабоду да паловы XIX стагоддзя вялася шляхтай пад сьцягам аднаўленьня незалежнасьці краіны, адраджэньня Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

* * *

У сярэдзіне XIX стагоддзя змаганьне за незалежнасьць працягвала ацалелая дробная шляхта, што стаяла найбліжэй да сялянства.

Пачаўся новы, шляхецка-народніцкі этап змаганьня, пагрунтаваны ня толькі на саслоўна-дзяржаўнай ідэі свабоды, але і на этнічна-культурным, моўным адзінстве. (Тыповым прадстаўніком і вястуном шляхецка-народніцкай беларускай пазыцыі быў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.)

Менавіта ў гэты час назва „Беларусь" пачынае ўжывацца як новы нацыянальна-кансалідуючы тэрмін, назоў народа і ўсёй краіны, што гістарычна склалася як Літва (Вялікае Княства Літоўскае).

1863 год. Студзенскае паўстаньне. Узьнялася дробная шляхта (апошняя рэзэрва збройнага супраціву), якую месцамі падтрымалі сяляне-касіянеры. Кастусь Каліноўскі, стоячы на грунце Вяліка Княства, выяўляў у сваёй пазыцыі ўжо і народніцкую ідэю Беларусі. Ідэю нацыі.

Вынікі паражэньня студзенскага паўстаньня. Тысячы шляхецкіх змагароў пакараныя сьмерцю, тысячы адпраўленыя на катаргу, больш 30 тысячаў навечна сасланыя ў Сібір і казахскія стэпы. Іхныя маёнткі і землі – забраныя пад Расею, на ўласнасьць накладзеныя непасільныя выплаты ў рускую казну і рэпарацыі. За падазронымі ўстаноўлены паліцэйскі нагляд, абмежаванае права выезду з маёнтку. Маса дробнай шляхты, спосабам бюракратычных маніпуляцыяў, была пазбаўлена шляхецтва і пераведзеная ў сялянства.

* * *

На гэтым (з фізічным і сацыяльным вынішчэньнем шляхты) фактычна, скончылася цэлая эпоха шляхецкага збройнага змаганьня за незалежнасьць і аднаўленьне Вялікага Княства.

Пачаўся новы этап беларускага Адраджэньня, этап беларускай ідэнтыфікацыі і нацыянальнай кансалідацыі грамадзтва.

Фармуецца новая нацыянальная эліта з ацалелай шляхты, сялянства і мяшчанаў, але вызначальную ролю адыгрывалі выхадцы са шляхты. Галоўным прынцыпам вызваленьня робіцца нацыянальнае асьветніцтва і палітычная дзейнасьць. Найбольшыя надзеі на Адраджэньне нацыі зьвязваюцца зь беларускай вёскай. Апірышча на інтэлігенцыю. З пачаткам XX-га стагоддзя і да Першай Сусьветнай вайны беларускі нацыянальна-адраджэнцкі рух набывае ўжо значны размах.

* * *

1914 год, вайна. Расейскія ўлады аб'яўляюць спачатку ўсеагульную мабілізацыю, а потым, з разгортваньнем нямецкага наступленьня (1915 год), абавязковую эвакуацыю насельніцтва, асабліва інтэлігенцыі, інтэлектуальных пластоў грамадзтва, спэцыялістаў. Пры адступленьні рускай арміі з Беларусі загадана было ўсё спальваць і зьнішчаць: запасы прадуктаў, жыўнасьць, збожжа на палях, сады, студні; гарэлі вёскі і масты; выганялі людзей ў Расею.

***Пасьля вайны сталі відавочнымі велізарныя матэрыяльныя страты Беларусі. Загінула каля паўтара мільёна беларусаў.***

Аднак беларускае нацыянальнае Адраджэньне расейцам спыніць не ўдалося. 25 Сакавіка 1918 года аб'яўлена незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Расейцы не змаглі перашкодзіць. Беларуская дзяржава аднавілася ў нямецкай зоне акупацыі, калі вайна хілілася да заканчэньня.

* * *

Утварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі і аб'яўленьне незалежнасьці БНР перакрэсьліла ўсю зьнішчальную працу расейцаў у Беларусі за XIX стагоддзе. Высновы яны зрабілі адразу. Галоўнай небясьпекай для ўлады расейскага бальшавізму ў Беларусі яны палічылі Беларускае нацыянальнае Адраджэньне і найперш – Раду БНР.

У самым канцы 1918 года Беларуская Народная Рэспубліка была акупаваная рускім бальшавізмам. У 1921 годзе, у выніку Рыскай змовы, расейцы і палякі падзялілі Беларусь на дзьве часткі. Утварыліся дзьве зоны акупацыі. Ва ўсходняй частцы Беларусі засталася фармальна існаваць БССР – марыянэткавае дзяржаўнае ўтварэньне.

Франтальны наступ на ўсё беларускае пачаўся ў другой палове 20-х гадоў. Ён меў усеагульны характар: у БССР, у зоне польскай акупацыі (Заходняя Беларусь) і ў эміграцыі, дзе дзейнічала маскоўская разьведка супраць БНР.

Рэпрэсіі канца 20-х пачатку 30-х гадоў пачаліся са зьняцьця спэктакляў у беларускіх тэатрах, закрыцьцём беларускіх часопісаў, з перасьледу творчай інтэлігенцыі і закончыліся масавымі арыштамі і высылкамі найбольш актыўных, творчых і адукаваных беларусаў на расейскую Поўнач, у Сібір, у расейскія турмы, на пасяленьне ў Расею і г.д.

У другой палове 30-х гадоў узьнялася новая хвала расейскіх вынішчэньняў на Беларусі, найбольш жорсткая – клясычны генацыд. Акрамя таго, што забівалі і расстрэльвалі тых беларусаў, якія былі адукаваныя, працавітыя, маёмныя, паходзілі са шляхты, валодалі талентам, займалі пасады ў адміністрацыі і г.д., адбывалася яшчэ плянавае масавае вынішчэньне людзей па тэрытарыяльна-бюракратычнаму прынцыпу („спускалі" разнарадкі на арышт на кожны сельсавет, акругу, вобласьць ці вёску і г.д.).

У выніку – забілі мільёны беларусаў, амаль поўнасьцю вынішчылі беларускую адміністрацыю, заможных гаспадароў, творчую інтэлігенцыю, пісьменьнікаў, мастакоў, настаўнікаў, практычна, усіх адраджэнскіх палітыкаў. Да пачатку Другой Сусьветнай вайны беларускае Адраджэньне ў БССР было цалкам разгромлена, дзеячы расстраляныя.

Перад вайной дабівалі беларускую інтэлігенцыю і актыўнае насельніцтва таксама ў Заходняй Беларусі. Гэтую справу аднак (вымардаваньне Заходняй Беларусі) расейцы не пасьпелі закончыць, бо пачалася вайна.

* * *

У часе вайны, дзякуючы сваістаму зьбегу абставінаў (прыхільнасьць цывільнай адміністрацыі Вільгельма Кубэ) адбылося станаўленьне беларускіх незалежніцкіх сілаў, кароткае, але моцнае беларускае Адраджэньне, якога, бадай (па аднадуш-

наму сьведчаньню эміграцыі), Беларусь ня мела ні пры адной акупацыі. Пасьля вяртаньня бальшавіцкіх акупантаў тысячы беларускіх дзеячоў гэтай генэрацыі эмігравалі на Захад, а на Беларусі з новай сілай аднавіліся рэпрэсіі, арышты і расстрэлы людзей. Найперш – зьвязаных зь беларускім рухам.

Пачалася цёмная ноч беларускай нацыі. Зьнішчана, вытаптана, сфальшавана, забаронена было ўсё, што зьвязана з беларускай незалежнасьцю і змаганьнем за вольную Беларусь. Практычна, была амаль цалкам зьнішчана гістарычная памяць нацыі і ўяўленьні людзей аб палітычным змаганьні за Беларусь.

Некалькі пакаленьняў беларусаў, што выжылі, прапушчаныя праз сталінска-хрушчоўска-брэжнеўскую сістэму адукацыі і прапаганды, ня мелі ўжо ніякага паняцьця пра беларускую свабоду і незалежнасьць, пра Беларускі Сьцяг і Гэрб *Пагоня*, пра БНР ды беларускае войска.




***155. Менск. 1996 год.***

* * *

Цяпер зьвернем увагу на палітыку і мэтодыку зьнішчэньня Беларусі і беларускага нацыянальнага Адраджэньня, якую ўжывала раней і практыкуе цяпер Расея. Акрамя зьнішчэньня беларускай мовы, здабыткаў культуры, рэлігіі (ліквідацыя Вуніі), адабраньня маёмасьці і стварэньня ўмоваў для беднасьці насельніцтва, галоўную ўвагу Расея зьвяртала найперш на вынішчэньне ў Беларусі людзей, якія здольныя былі падняць край на змаганьне з акупантамі і забясьпечвалі краіне культурна-эканамічную магутнасьць.

Гэтак на працягу ўсяго XIX стагоддзя царат пасьлядоўна вынішчаў беларускую шляхту. Збройна змагацца і падымаць краіну на ваенную барацьбу магла толькі шляхта. Шляхта была на Беларусі свабоднай і шматлікай. Яе галоўная задача ў мірны час: ажыцьцяўленьне ўлады, памнажэньне багацьця і культуры. У ваенны час – абарона Бацькаўшчыны, стварэньне войска. Пакуль існавала вольная шматлікая шляхта, акупанты не маглі лёгка зьнішчыць Беларусь і ня мелі гарантыяў, што ўтрымаюць за сабой захопленую беларускую тэрыторыю.

Паўторым: шляхта ў Беларусі не перарасла натуральным шляхам у новую супольнасьць, не інтэгравалася ў сучаснае грамадзтва, разьвіваючыся разам зь ім. Яна была адмыслова зьнішчаная фізічна і рэпрэсіўна (і часткова – адміністрацыйна) царскай Расеяй, як масавая сацыяльная група.

Расейцы зьмянілі структуру беларускага грамадзтва, прадумана пазбавіўшы яго актыўнай баёвай інтэлігентнай і незалежнай сілы. (Мы не разглядаем тут пытаньне палянізацыі шляхты. Яно ў гісторыі перабольшанае. Калі пачынаецца нацыянальнае Адраджэньне, культурна-асіміляцыйныя меры, як правіла, рассыпаюцца. Пра гэта сьведчыць гісторыя нацыянальнага Адраджэньня іншых краінаў, напрыклад, Чэхіі, Вэнгрыі, Балгарыі, Малдовы і г.д., ды й Беларусі таксама.)

* * *

Беларускае Адраджэньне, абапертае на беларускай Нацыянальнай ідэі, разьвівалася ў пачатку XX-га стагоддзя і фармавалася яшчэ амаль выключна выхадцамі са шляхты і шляхецкай інтэлігенцыі. Але яно мела выразны сацыяльна-народніцкі (сацыялістычны) характар і арыентавалася на рэальны народны патэнцыял – на беларускае сялянства, якое складала ў 90-х гадах XIX стагоддзя каля дзевяноста адсоткаў насельніцтва. У ім беларускія адраджэнцы справядліва бачылі нацыянальную будычыню Беларусі. Таму яны ставілі задачу вызваліць сялянства сацыяльна (даць зямлю і эканамічную свабоду), прасьвяціць культурна-нацыянальна, адкрыць шляхі да адукацыі, палітыкі і вытворчасьці.

У беларускай мастацкай літаратуры таго часу нават словы „беларус" і „мужык" (селянін) часам атаясамліваліся. Гэтак моцная была нацыянальная арыентацыя на сялянства, і гэтак выразна выяўляліся сацыялістычна-народніцкія ўплывы ў адраджэнскай ідэялёгіі.

* * *

Але што робяць рускія бальшавікі адразу пасьля акупацыі Беларускай Народнай Рэспублікі? Яны пачынаюць мэтанакіравана зьнішчаць усю беларускую інтэлігенцыю, што была не з бальшавікамі і ўсіх беларусаў – выхадцаў са шляхты і маёмных пластоў насельніцтва. Па „клясавай" прыкмеце. (Расстрэлы і тэрор расейскіх „чрэзвычаек" у 1919-м, 1920-м гадах.)

Зьнішчэньне беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі было давершана ў 30-х гадах. У гэты ж час мэтадам усеагульнай калектывізацыі і рэпрэсіяў было задушана беларускае сялянства. У першай палове XX-га стагоддзя, шляхам генацыду, рэпрэсіяў, этнацыду і тэрору, расейцы ў чарговы раз (гэтак жа, як і ў XIX стагоддзі) разбурылі і зьнішчылі сацыяльную структуру беларускай нацыі, абапертую на ўласнасьць, на зямлю і традыцыі культуры. Гэта значыць, зноў былі ліквідаваныя нацыянальна-пэрспэктыўныя пласты грамадзтва.

Цяперашнія абаронцы расейскай тэрарыстычнай палітыкі ўсё ськідваюць на бальшавікоў. Маўляў, яны і ў Расеі рабілі тое самае. Аднак тое – ды ня тое. *Плянавасьць і пасьлядоўнасьць вынішчэньня па культурна-этнічнаму прынцыпу мы назіраем толькі на нярускіх тэрыторыях (у Беларусі, на Ўкраіне, на Каўказе, у Казахстане і г.д.).*

Але ня менш істотна іншае. Бальшавікі ўзначалілі рускую ўладу і рускую дзяржаву, яны ўмацавалі рускую імпэрыю і рускі

таталітарызм. Зьнішчаючы маёмныя станы ў Расеі, праводзячы калектывізацыю і рэпрэсуючы дзеячоў навукі і культуры, яны таксама дэфармавалі сацыяльную структуру расейскага грамадзтва. Але ад гэтага яно не пераставала быць рускім. Ніхто не перасьледваў і не забараняў рускую мову, нікога не каралі за рускі нацыяналізм, за вялікадзяржаўнасьць. Наадварот, бальшавікі скарысталі камуністычную дактрыну і ўмацавалі гэтую рускую вялікадзяржаўнасьць, як ніколі. Давялі яе да абсалюту і аб'явілі пра пабудову камунізму ў адной асобна ўзятай краіне, дзе ў канцовым выніку ўсе павінны былі размаўляць на адной рускай мове і складаць адзіны „савецкі" (разумей „рускі") народ.

Бальшавіцкія рэпрэсіі ўнутры Расеі ня мелі антырускага, антынацыянальнага (антынацыяналістычнага) характару. Бальшавікі не забівалі за рускую нацыянальную ідэю, не змагаліся з рускай нацыянальнай культурай. Усе іхныя рэпрэсіўныя дзеяньні былі накіраваныя выключна на ўмацаваньне абсалютызму сваёй рускай (камуністычнай, групавой) улады і рускага таталітарызму. (Нездарма некаторыя рускія эмігранты-шавіністы, ненавідзячы бальшавікоў, часам хвалілі іх за тое, што яны ўратавалі Расею ад распаду.)

Тым часам зусім другая карціна рэпрэсіяў і тэрору назіралася ў Беларусі. Першае, тут былі выразна акрэсленыя „ворагі" – беларускія нацыянальсты. Пад гэтай маркай рускія вынішчалі ўсё беларускае (размова па-беларуску таксама трактавалася як праява беларускага „буржуазнага нацыянальзму"). Другое, усялякае нібыта „клясавае" вынішчэньне беларускай інтэлігенцыі, адміністрацыі, нашчадкаў шляхты, заможных сялян, якое падавалася як зьнішчэньне „клясавых ворагаў", было на Беларусі не ўнутраным „тэрорам улады", як у Расеі, а клясычным генацыдам на чужой акупаванай тэрыторыі, забіваньнем людзей па нацыянальнай прыкмеце, вымардаваньнем беларускай нацыі.

Беларусь была акупаванай краінай, уладу на Беларусі трымалі рускія бальшавікі, якія выконвалі тут палітыку Масквы.

Паўторым: тут быў ня ўнутраны тэрор нацыянальных уладаў незалежнай краіны, як у Расеі (дзе ён не ўплываў карэнным чынам на пэрспэктывы існаваньня дзяржавы і нацыі і нават рускай нацыянальнай культуры). Тут было вынішчэньне беларусаў на беларускай акупаванай зямлі, людабойства, зьнішчэньне асобнага народа, ліквідацыя ягонай будучыні, магчымасьці існаваць і разьвівацца ў гісторыі. Справу забітых беларускіх паэтаў, палітыкаў, адраджэнцаў не заступіў ніхто. А на месца зьнішчанай беларускай адміністрацыі прыслалі рускіх з Расеі (альбо паставілі мясцовых, што адмовіліся ад роднай мовы і культуры і дапамагалі акупантам у вылюдненьні і русіфікацыі краіны).

Нельга ставіць знак роўнасьці паміж унутраным бальшавіцкім тэрорам у Расеі і расейска-бальшавіцкім генацыдам у Беларусі. Гэта розныя зьявы. Тут былі розныя мэты, задачы і розныя вынікі. (Не адно і тое, калі гіены грызуцца паміж сабой і паядаюць сабе падобных – і калі яны ўсе разам грызуць антылопу.)

Бальшавізм (камунізм) – гэта была найбольш агрэсіўная форма рускага імпэрыялізму, які Расея скарыстала дзеля вынішчэньня паняволеных нярускіх народаў і акупаваных краінаў. Галоўная звышзадача ў гэтай імпэрскай палітыцы рускіх вялікадзяржаўнікаў – ня даць падняцца ў будучыні, ня даць магчымасьці адрадзіцца Беларусі.

* * *

У 50-70 гады праводзілася ідэалягічнае замацаваньне разгрому беларускага Адраджэньня. Некалькі пакаленьняў беларусаў было выхавана савецкай сістэмай адукацыі ў поўным няведаньні сапраўднага мінулага Беларусі, у хлусьлівых уяўленьнях пра нібыта непаўнавартаснасьць беларускай культуры, беларускай мовы і беларускага народа, які (як сьцьвярджалі савецкія прапагандысты) быццам бы ніколі ня меў дзяржавы і ня здольны быў яе стварыць, ды вечна цягнуўся да Расеі, каб быць разам.

***Галоўнае дзеяньне і генэральны плян рускай палітыкі на Беларусі (пасьля ліквідацыі і калгаснай дэфармацыі сялянства) заключаўся ў вынішчэньні этнічных карэньняў беларускай культуры*** (гэта значыць, ізноў той жа асновы, якая магла б паспрыяць аднаўленьню ідэяў нацыянальнага Адраджэньня). Фальклярысты, этнографы, знаўцы народнай культуры, хто памятае тыя часы, ведаюць, якія перашкоды рабіліся ў тым, каб існаваў беларускі аўтэнтычны фальклёр, каб распаўсюджвалася інфармацыя пра яго, накопліваліся веды, перадаваліся традыцыі.

Але гэта была палітыка, якая вынікала толькі з пазыцыйнага, тактычнага зьместу ў ліквідацыі беларускага этнасу. Стратэгічны ж плян быў апрацаваны ў шырокім маштабе ў 1964 годзе. Ён заключаўся ў тым, што 73 адсоткі беларускіх вёсак (25 тысячаў з 34-х тысячаў) аб'яўляліся „непэрспэктыўнымі". Іх плянавалася зьнесьці (пабудову перанесьці ў іншае месца альбо зьнішчыць), а людзей перасяліць у вызначаныя зьверху „цэнтральныя" паселішчы.

Як бачым, гэта плян каласальнага структурнага разбурэньня беларускай нацыі (сотні чарнобыляў), у выніку якога была б канчаткова дабіта этнічна-гістарычная і звычаёвая культура беларускага народа. Бо ўсё астатняе ў грунце рэчы – ужо, парктычна, да таго часу разбурылі. (Заўважым агульнавядомае, што традыцыйная народная культура існуе і разьвіваецца толькі пры ўмове, што носьбітам яе ёсьць пастаяннае насельніцтва на пастаяннай тэрыторыі.)

Плян вымагаў неверагодна вялікіх сродкаў. З эканамічнага боку ён выглядаў абсурдным, з сацыяльна-культурнага – антычалавечым. Тым ня менш Масква, ня гледзячы на патрэбу вялікіх фінансавых затратаў, узялася яго ажыцьцяўляць. І толькі крызіс камуністычнай сістэмы прытармазіў тэмпы зьнішчэньня беларускай вёскі. Далейшы распад СССР пакуль што ўратаваў беларусаў ад сацыяльна-культурнай катастрофы.

* * *

Ужо ў 70-х гадах, практычна, уся кампартыя на Беларусі (складвалася ўражаньне, што ўсе, да аднаго чалавека) і, як можна меркаваць, бальшыня КГБ былі перакананыя, што пасьля вынішчэньня, якое яны зрабілі, Беларусь памерла, ніколі ўжо не падымецца і не ўваскрэсьне. Яны былі ашарашаныя, зьдзіўленыя і зьбянтэжаныя, калі ў 1988-1991 гадах Беларусь увасркэсла разам з *Пагоняй* і *Беларускім Бел-Чырвона-Белым Сьцягам,* разам з узьнікненьнем Беларускага Народнага Фронту. Калі ж зьбянтэжанасьць мінула, то Масква добра прааналізавала сітуацыю і адразу ўбачыла нешматлікасьць адраджэнскага авангарду ў Беларусі.

Неўзабаве крамлёўскі кантроль над Беларусяй быў вернуты. Масква правяла на прэзыдэнта краіны свайго стаўленьніка, абапершыся на савецкі КГБ, на савецкую каляніяльную адміністрацыю (былую камуністычную намэнклятуру) і на той дэфармаваны канглямэрат савецкага насельніцтва, якое засталося пасьля рэпрэсіяў, генацыду, калектывізацыі і савецкай школы. Стаўленьнік забясьпечыў умовы для ўнутранага захопу ўлады ў Беларусі прамаскоўскімі функцыянерамі і спэцслужбамі Расеі.

Вайна Расеі ў Беларусі – гэта адмысловая дзейнасьць спэцслужбаў КГБ-ФСБ, пры дапамозе якіх была захоплена ўлада знутры і ажыцьцёўлена ўнутраная акупацыя краіны. Задача уну-

транай акупацыі – развал нацыянальнай эканомікі і зьнішчэньне беларускай культуры знутры, падрыхтоўка такім чынам захопленай краіны да здачы пад Расею. (Зараз, у 2002 годзе, расейцы рыхтуюць захоп беларускай нацыянальнай маёмасьці, адкрыта аб'явілі пра пэрспэктыву анэксіі Беларусі.)

Але вернемся да палітыкі і мэтодыкі зьнішчэньня расейцамі беларускага Адраджэньня. Што новага зьявілася ў дзейнасьці непрыяцеляў Беларусі пасьля таго, калі, ня гледзячы на тое, што яны зьнішчылі і разбурылі на Беларусі амаль усё, беларуская нацыя (і дзяржава) раптам пачалі адраджацца і ў 1991 годзе Беларусь вярнула незалежнасьць?

Схема выглядае так. Захоп улады, зьнішчэньне нацыянальных дзяржаўных сымвалаў (гэрб, сьцяг) і духоўных цэнтраў, мэмарыяльна-сакральных месцаў (Курапаты), нацыянальнай мовы, нацыянальнай школы і адукацыі, літаратуры і мастацтва, разбурэньне эканомікі, захоп нацыянальнай маёмасьці і нацыянальных рэсурсаў, ліквідацыя нацыянальнай фінансавай сістэмы, зьнішчэньне нацыянальна актыўных людзей, дэградацыя і замена насельніцтва.

На першы погляд, мы бачым як бы стандартны імпэрска-крымінальны набор, але ёсьць і новае. Па-першае, фатальнае выкарыстаньне Чарнобыльскай катастрофы ў палітыцы дэградацыі і замены беларускага насельніцтва. Гэта вельмі страшная і, бадай, найбольш небясьпечная і найбольш антычалавечая зьява. Прытым Расея тут можа мець саюзьнікаў на Захадзе – міжнародную атамную карпарацыю МАГАТЭ.

Другое, гэта ліквідацыя адукацыі, зьнішчэньне і стварэньне штучнага адплыву інтэлекту зь Беларусі, марнатраўства і рабаваньне інтэлектуальнай уласнасьці нацыі.

Бальшавікі стварылі сваю сістэму адукацыі і навукі. Аб'яднаўшы адукацыйны працэс з ідэалёгіяй і прапагандай, яны спадзяваліся выхаваць у Беларусі інтэлектуальных мамелюкаў, імпэрскіх людзей (саветаў) бяз памяці, бяз Бога і без нацыянальных паняцьцяў культуры, ненавісьнікаў беларушчыны.

Аднак аказалася, што ня так проста кіраваць інтэлектам. Імпэрыі вынішчэньня хацелася, каб гэтага інтэлекту ў беларусаў увогуле не было. Цяперашняя палітыка прамаскоўскага рэжыму (і дарэчы, акупацыйны кантроль над адукацыяй) накіраваныя на інтэлектуальнае вынішчэньне нацыі, наператварэньне Беларусі ў краіну трэцяга сьвету, цалкам залежную ад чужых тэхналёгіяў і ад чужой вытворчасьці, краіну бедных, пасіўных людзей.

Цалкам новымі зьявамі ў барацьбе зь беларускім Адраджэньнем і беларускай нацыянальнай дэмакратыяй зьяўляецца стварэньне на Беларусі адмысловай, кантралюемай Расеяй (найперш, спэцслужбамі) так званай „дэмакратычнай апазыцыі" (у грунце сваім – прамаскоўскай). А таксама кантралюемага рускімі спэцслужбамі так званага „незалежнага" апазыцыйнага друку.

Рускія спэцслужбы настваралі тут нават сваіх апазыцыйных арганізацыяў (у рэчышчы каляніяльнай апазыцыі), над якімі ажыцьцяўляюць кантроль праз агентуру і розных „каардынатараў". (Гэта ўтварэньні тыпу „Хартыя-97", „Зубр", „Край", „Белы легіён", шэраг партыяў і інш.)

Бальшавікі такімі мэтадамі, практычна, не карысталіся і ня бавіліся ні ў якую „дэмакратыю".

Але найбольш заблытала, дэзінфармавала беларускае грамадзтва іншая новая зьява ў маскоўскай антыбеларускай палітыцы. Гэта супрацоўніцтва з заходнімі палітычнымі русафіламі і міжнароднымі лібэральнымі арганізацыямі. Адмоўную ролю ў змаганьні супраць беларускай нацыянальнай дэмакратыі адыграла Місія АБСЭ ў Менску, і асабліва яе кіраўнік у 1998-2001 гадах – прафэсійны нямецкі разьведчык Ганс-Георг Вік.

Ганс Вік апасродкавана прычыніўся да расколу Беларускага Народнага Фронту, які адбыўся ў 1999 годзе, быў фактычным ініцыятарам і арганізатарам антыадраджэнскай каляніяльнай „апазыцыі", арыентаванай на супрацоўніцтва з Масквой (рускай „дэмакратыяй"). *Стварыўшы такую „апазыцыю" (якая фінансавалася з Захаду і з Усходу праз гранты і т.п.), Захад і Масква мелі кантроль над яе дзеяньнямі.*

У сфэру кантролю расейскіх спэцслужбаў і розных лібэральных актывістаў з Захаду патрапіў, фактычна, увесь (за рэдкім выключэньнем) так званы „незалежны" друк у Беларусі, радыё „Свабода" (беларуская рэдакцыя) і іншыя інфармацыйныя цэнтры.

Нельга сказаць, каб уся гэтая псэўдадэмакратычная „мабілізацыя" адразу абрынулася на Народны Фронт і беларускае Адраджэньне, як некалі, за КПСС, рабілі камуністы. Тут мэтады больш выпрацаваныя: выбарачныя напады і выбарачная дэзінфармацыя. Але самы адвечны агульны прыём (дзе найбольш і відаць зададзенасьць), – гэта замоўчваньне дзейнасьці, справаў і падзеяў Беларускай нацыянальнай дэмакратыі (Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне", Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ і інш.). Узамен – штучнае разьдзьмухваньне пабочнага нібыта „канфлікту" паміж Лукашэнкам і каляніяльнай „апазыцыяй" (пра якую сам Лукашэнка, дарэчы, выказаўся, што калі б такой „апазыцыі" не было, то трэба б было яе спэцыяльна прыдумаць.)

Стварыўшы і фінансуючы прамаскоўскую „дэмакратычную апазыцыю" (куды ўваходзяць нават камуністы), Ганс Вік і ягоныя калегі на Ўсходзе і на Захадзе атрымалі магчымасьць адметным чынам кантраляваць праз яе рэжым Лукашэнкі, дэзынфармаваць беларускае грамадзтва і міжнародную супольнасьць пра рэальнае змаганьне і рэальны канфлікт на Беларусі, адцягваючы на сябе (праз „незалежныя" СМІ) і на псэўдадзейнасьць гэтай „апазыцыі" ўсю інфармацыйную ўвагу. Барацьба беларускіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў з акупацыйнай палітыкай за свабоду і незалежнасьць Беларусі ў выніку як бы выпадае з інфармацыйнага поля. Бо беларускі адраджэнскі друк (з закрыцьцём газэты „Пагоня") ужо, практычна, зьнішчаны.

Сімптаматычна, што Ганс Вік здолеў супрацоўнічаць і з кіраўніцтвам рэжыму Лукашэнкі, непасрэдна прычыніўся да выгнаньня апазыцыйнага старшыні Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Сымона Шарэцкага зь Беларусі і зь вялікай палітыкі (паколькі той ня стаў упісвацца ў схемы Бэрліна і Масквы).

У верасьні 2000 года, на канфэрэнцыі ў Беластоку, спаўняючы пэўную зададзенасьць, Ганс Вік публічна засьведчыў, што сваёй дзейнасьцю ў АБСЭ на Беларусі ён спрыяў палітыцы ўключэньня Беларусі ў склад Расеі.

18 лістапада 2000 года Беларускі Народны Фронт і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ аб'явілі Ганса Віка пэрсонай нон-грата на Беларусі. Яму прапанавалі пакінуць краіну. Пра гэтае рашэньне былі афіцыйна паінфармаваныя АБСЭ, Парляманцкая Асамблея АБСЭ, амбасада Нямеччыны ў Беларусі, Міністэрства замежных справаў Нямеччыны, Эўразьвяз і іншыя міжнародныя арганізацыі.

Ня гледзячы на тое, што падвойная дзейнасьць Ганса Віка ў Беларусі была ўжо выкрыта, ён паводзіў сябе як ні ў чым ні бывала, а рэжым Лукашэнкі, ягоная „апазыцыя", міжнародныя структуры і так званыя „незалежныя" СМІ рабілі выгляд, што нічога не адбылося.

Гэта дазволіла спадару Віку амаль свабодна плянаваць сваю апошнюю афёру ў Беларусі – прызнаньне „дэмакратычнасьці" выбараў прэзыдэнта ў 2001 годзе і легалізацыю рэжыма

Лукашэнкі. Пры ўхваленьні з боку Віка і АБСЭ (і адпаведна, Масквы) была створана „пяцёрка” прамаскоўскіх кандыдатаў на прэзыдэнта Беларусі з былой камуністычнай намэнклятуры, а потым пакінута кандыдатура самага шэрага зь іх, камунасавецкага функцыянера У. Ганчарыка (які ня мог быць рэальным супернікам Лукашэнкі). Для фальсіфікацыі і выграньня выбараў Лукашэнку стварылі выдатныя ўмовы і слабога псэўдасуперніка.

Аднак Лукашэнка перастараўся. Фальсіфікацыя была праведзена ім настолькі маштабна, груба, нахабна, татальна і бессаромна, што прызнаць выбары не было як. Акрамя таго Ганс Вік, вядучы падвойную гульню, ня мог эфектыўна ўплываць на назіральнікаў за выбарамі, якія паўсюдна зафіксавалі грубыя парушэньні.

Камісія АБСЭ, якая (відаць па ўсім) прыехала ў Беларусь з гатовымі фармулёўкамі аб прызнаньні выбараў, вымушана была скарэктаваць свае намеры і сказаць пра недэмакратычнасьць выбараў 2001 года ў Беларусі.

Ганс Вік пацярпеў частковае фіяска. Лукашэнка застаўся ў крэсьле, але выбары сьвет не прызнаў.

Закончылася ўсё даволі камічна. Ня гледзячы на супрацоўніцтва і „заслугі” Г. Віка, Лукашэнка ня даў яму ўязной візы і не пусьціў больш у Беларусь. Гэтакае цыганска-гэбоўскае вераломства. Маўляў, вы сваю справу зрабілі, спадары, дзякуй, вы вольныя. Місія АБСЭ таксама больш непатрэбная начальніку з усходняй мэнтальнасьцю.

Можа ўзьнікнуць пытаньне аб прычынах падвойнай „працы” Ганса-Георга Віка і пра сутнасьць агульных інтарэсаў Бэрліна і Масквы ў Беларусі. Гэта тэма асобнай размовы. Але можна сказаць, што тут справа ідзе пра незалежнасьць Беларусі, і пра транзіт, і пра канцэрн Рургаз-Газпром, і пра „калідор” праз Польшчу, і пра інтарэсы Масквы за Бугам, а Бэрліна – у Калінінградзкай вобласьці, і пра ськідваньне „лішняга насельніцтва” з былой Усходняй Прусіі ў Беларусь (аналягічна, як гэта было ў 1990-1991 гадах – з Усходняй Нямеччыны), і пра ськідваньне ў Беларусь атамных адыходаў ды расейска-эўрапейскага сьмецьця і шмат пра што іншае, да чаго не дадумаецца звычайны беларус, але плянуюць злыдні.

Шкода, якую спадар Ганс-Георг Вік, сумесна зь Місіяй АБСЭ ў Менску, зрабіў для беларускай нацыянальнай дэмакратыі, беларускага Адраджэньня і для Беларусі – велізарная і ўтрымлівае ў сабе элемэнты злачынства, вымагае рассьледваньня, сьледзтва і разьбіральніцтва ў судзе.

* * *

Падсумоўваючы страты Беларускага Адраджэньня, мусім сказаць, што сытуацыя пасьля ўсяго, што натварылі на Беларусі расейцы за дзьвесьце гадоў акупацыі, няпростая. Найгорш, што непрыяцелі моцна і неаднаразова пабурылі сацыяльна-культурную структуру беларускага грамадзтва, зламалі сацыяльна-культурныя мэханізмы, ператварылі насельніцтва ў не прывязаных да месца людзей, моцна вынішчылі нацыянальную інтэлігенцыю, ідэёвых асобаў і змагароў. Беларускую нацыю пазбавілі сацыяльных апірышчаў, у грамадзтве не засталося моцных, стабільных, сацыяльна ўгрунтаваных групаў людзей, няма рэальных і нармальных дачыненьняў уласнасьці, вольных прафэсіяў і г.д. Ня кажам ужо пра нацыянальную сьведамасьць, культуру, рэлігійнасьць насельніцтва.

Тым ня менш Масква (нават пры дапамозе Нямеччыны) не дасягне, чаго хоча. У Беларусі ёсьць магчымасьці зьберагчы незалежнасьць, зьмяніць унутраныя абставіны (у тым ліку, і ўладу) да лепшага і выйсьці на вышэйшы ўзровень нацыянальнага разьвіцьця.

Аднак беларусы мусяць добра ведаць сваю гісторыю і разьбірацца ў гісторыі змаганьня за сваю незалежнасьць, дзяржаву, свабоду і нацыянальнае разьвіцьцё.

Беларусы павінны ведаць, хто іхны прыяцель у сьвеце, а хто – непрыяцель, мусяць разумець, найперш, палітыку Расеі ў дачыненьні да Беларусі, каб правільна арыентавацца, змагацца, адстойваць, абараняць сябе і сваю краіну.

* * *

Адзін з унівэрсальных сучасных шляхоў дзеля ўзмацненьня абароны і сілы нацыі ёсьць нацыянальная асьвета і адукацыя. ***Беларускае Адраджэньне ня будзе моцным без нацыянальнага асьветніцтва***. У цяжкі час трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на ўзровень і становішча розумаў, калі хочам сур’ёзна супроцьстаяць несвабодзе і чужынскай навале. Каб эфэктыўна змагацца, трэба падрыхтаваць добрыя сілы, не марнаваць час і вызначыць прыярытэты. Гістрыя паказвае, што ***ў палітычнай барацьбе перамагае ня толькі сіла зброі ды грошай, але, найперш, – узровень розуму і сіла духу, калі яны абапіраюцца на сьведамае, асьвечанае грамадзтва***.

Беларускае Адраджэньне жыве і змагаецца. Падступныя ўдары па сілах нацыянальнай дэмакратыі ў Беларусі не дасягаюць мэты. Сутнасьць, аднак, ня толькі ў тым, каб змагацца ды выстаяць, але – перамагчы найгоршага непрыяцеля. На гэта павінны быць накіраваныя дзеяньні і праца беларускіх адраджэнцаў.

*17 чэрвеня 2002 года, Варшава.*

# БЕЛАРУСКІЯ ГІМНЫ

Гімны нацыі, дзяржавы, краіны пішуцца, як вядома, не па заказу, а самой гісторыяй. Прытым сам факт зьяўленьня гімну можа быць выпадковай падзеяй, неадпаведным вершам і мэлёдыяй, але, трапіўшы ў гістарычны кантэкст народа, яны становяцца яго гімнам.

Вядомая, напрыклад, гісторыя французкай салдацкай песьні *Марсельеза*, што стала дзяржаўным гімнам Францыі, ці мазуркі *„Ешчэ Польска не згінэла”*, якая стала ў 1918 г. дзяржаўным гімнам Польшчы.

Дзяржаўны заказ на стварэньне гімну ёсьць блюзьнерства. Што з гэтага атрымліваецца, добра відаць на прыкладзе гімнаў СССР і так званых „рэспублік свабодных”. Гімны найчасьцей ствараюцца ў барацьбе за нацыянальна-культурнае, дзяржаўнае і духоўнае адраджэньне нацыі і выбіраюцца народам, які змагаецца за сваю волю і лепшую долю.

У пачатку XX стагоддзя гімнам беларускага Адраджэньня найчасьцей гучаў верш *Янкі Купалы* ***„А хто там ідзе...”*** на музыку *Людаміра Рагоўскага*. Ён так і называўся: *„Беларускі гімн”*.

Пазьней, пасьля ўтварэньня *Беларускай Народнай Рэспублікі*, ужо ў 20-х гадах, шырока распаўсюдзіўся гімн ***„Мы выйдзем шчыльнымі радамі”***, паводле верша *Макара Краўцова*,

напісанага ў 1919 годзе (музыка *Уладзімера Тэраўскага*). Ён стаў гімнам *Беларускай Народнай Рэспублікі*. Яго сьпявалі паўсюдна змагары ў Заходняй Беларусі, потым ён гучэў у часы Другой Сусьветнай вайны і цяпер гучыць ва ўсім сьвеце, дзе жывуць беларусы, якія памятаюць пра Бацькаўшчыну.

З часоў Другой Сусьветнай вайны, падзеі якой стымулявалі беларускае нацыянальнае Адраджэньне, паўсюдна гучыць побач з гімнам *БНР беларускі духоўны гімн „**Магутны Божа**”*. Гэта знакаміты верш *Натальлі Арсеньневай* (музыка *Міколы Равенскага*). Надзвычай велічная, узьнёслая і ўрачыстая мэлёдыя і зьмест гімна гучаць паўсюдна, дзе ладзяцца беларускія нацыянальна-культурныя мерапрыемствы. Прытым часта ўсё пачынаецца *дзяржаўным гімнам БНР*, а заканчваецца *духоўным гімнам нацыі* – *„Магутны Божа”*.Рэлігійныя службы ва ўсіх беларускіх цэрквах *Амэрыкі, Канады, Аўстраліі, Вялікабрытаніі* завяршаюцца сьпевам *„Магутны Божа”*.

Склалася добрая і прыгожая традыцыя. Беларуская нацыя мае два гімны – дзяржаўны і духоўны. Кожны заняў сваё месца. Кожны сьпяваецца ў сваім часе. Кожны адлюстроўвае нашу беларускую гісторыю, наш розум, нашую волю, наш дух, нашае беларускае сэрца.

Мяркую, што кожны Беларус павінен ведаць свае гімны.

### *МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны, родны свой прастор;
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!
 Дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух;
 Вольны дух!
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух.

На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі...
На бой! – усе да аднаго!
 Да аднаго!

Імя і сілу Беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
 Бачыць той!
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасьця мы падходзім;
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй!
 Жыцьцё Рэспублікі сваёй!



(Фота В. Фядосенкі)

***156. Шэсьце за Беларусь.***

***МАГУТНЫ БОЖА***

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых!
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні свае хвалы.

Дай спор у працы штодзённай, шэрай,
На лусту хлеба, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць – дай!

Дай ўрадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот!
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

*(„Беларускія Ведамасьці”, – 1998, №2(12); „Народная Воля”, – 2001, 19 красавіка)*

# КАНФЛІКТ ДАВІДА З ГАЛІЯФАМ

Няшчасьце, якое здарылася ў Амэрыцы 11-га верасьня ў выніку нападу таямнічых авіаэкстрэмістаў на Нью-Ёрк і Вашынгтон, уразіла сьвет сваёй жорсткасьцю, разбуральнай выніковасьцю і бездапаможнасьцю Амэрыкі.

Я шаную Амэрыку, зычу ёй дабра і квітненьня. Аднак узрушэньне, якое завалодала палітыкамі, імкненьне тут жа зьнішчыць нябачнага і нібыта „слабога ворага”, вымушае мяне сказаць свае слова. Абсалютна відавочна, што палітычныя рашэньні, якія прымаюцца на пачуцьцях, заўсёды накіраваныя толькі на бліжэйшыя мэты. Як правіла, ім нестае прадуманасьці, усьведамленьня магчымых адмоўных вынікаў. Мэта ацэньваецца як рэальнасьць. Але ў працэсе яе дасягненьня сытуацыя можа рэзка перамяніцца, і кантраляваць новыя дачыненьні стане немагчыма.

Пасьпешныя дзеяньні супраць адной усходняй краіны могуць перамяніць сытуацыю і скансалідаваць людзей на Ўсходзе супраць Амэрыкі. Тады, ня гледзячы на палітычныя пазыцыі ўсходніх урадаў, ворагам Амэрыкі стане ўвесь Усход.

Я мяркую, што, ва ўмовах цяперашняга сьвету, збройны канфлікт з Усходам можа быць фатальным для Эўропы і Амэрыкі. На жаль, на Захадзе шмат хто не разумее, што калі будзе дапушчаная памылка, то ваяваць прыйдзецца не зь дзяржавамі на Ўсходзе, а зь людзьмі.

Ніякая эканамічная магутнасьць, ніякая супэртэхніка і ніякія спосабы яе ўжываньня ня могуць перамагчы перакананага чалавека. Нават ядзерныя ўзрывы не прынясуць Захаду перамогі, калі будуць парушаныя справядлівасьць, сувэрэнітэт і гонар людзей на Ўсходзе. Злачынства тэрарызму, перш чым будзе пакаранае, мусіць быць дакладна ідэнтыфікаванае і даказанае.

Захад ня выйграў ніводнай вайны зь „беднымі народамі” на Ўсходзе (Карэя, Індакітай, В'етнам, Індыя, Алжыр, Конга і г.д.), але, на жаль, не зрабіў з гэтага высноваў. Пасьпешнае, недакладна акрэсьленае і прыблізна вызначанае ўжываньне высокатэхнічнай зброі можа маральна салідарызаваць Усход. Вайна „беднага Ўхсоду” супраць ЗША (якая, дарэчы, вядзецца ўжо даўно малымі, нябачнымі сіламі) можа ператварыцца ў сусьветную партызанскую вайну Давіда з Галіяфам, якая будзе тлець дзесяцігоддзямі, ператворыць у кашмар жыцьцё ў Эўропе і ў Амэрыцы і можа скончыцца вядомым па антычнай легендзе канцом.

* * *

Амэрыцы варта задумацца глыбей, у чым прычына нянавісьці да яе з боку краінаў, бедных эканомікай і жыцьцёвым узроўнем, але багатых гісторыяй і духоўнай культурай. Амэрыканскае грамадзтва шмат выйграла б, калі б глянула ў глыбіню сябе, калі б зірнула на сябе збоку і знутры, заўважыла б свае маральныя эрозіі і недахопы.

На добры лад, перад абліччам вялікага і зьнешне таемнага, малазразумелага канфлікту Ўсходу з Амэрыкай, ня варта супакойваць сябе тлумачэньнямі пра неабходнасьць помсты антылюдзкаму арабскаму тэрарызму. Разумней было б амэрыканцам задаць сабе пытаньне: чаму, маўляў, яны, на Ўсходзе, нас, амэрыканцаў, ненавідзяць? Чым мы ім не падабаемся? Што яны хочуць сцьвердзіць, чаго дасягнуць? Мудра было б увогуле зразумець усходнюю мэнтальнасьць людзей Азіі і паўночнай Афрыкі. Тых, каго называюць „тэрарыстамі” – гэта не піраты. Яны гінуць не дзеля матэрыяльных каштоўнасьцяў. Гэта таксама ня ёсьць вар'яты, а цалкам нармальныя і сацыяльна адаптаваныя людзі. Але яны іншыя. Дык якія ж яны?

На жаль, рэчаіснасьць сьведчыць, што зрабіць паварот у сваёй сьвядомасьці простаму амэрыканцу вельмі цяжка. Ён перакананы, што яго краіна найлепшая, што сам ён таксама найлепшы, і не цікавіцца іншымі. І, што самае горшае, – ня хоча цікавіцца, ня хоча нічога ведаць. Абмежаванасьць ведаў пра сьвет у шэраговых людзей багатай і высокатэхнічнай Амэрыкі проста шакуе.

Зрэшты, на высокім узроўні амэрыканцы разумеюць свае праблемы. Толькі ці паўплывае гэта на выбар паводзінаў цяпер?

Ёсьць язвы ў амэрыканскім грамадзтве, экспарту якіх ня ўспрыме і не дапусьціць ні адзін народ на Ўсходзе (і ня толькі на Ўсходзе). Можа, ня ў сіле і не ў багацьці справа?

Канфліктныя дачыненьні цывілізацыяў ня выправіш бомбамі ды самалётамі, не палепшыш вайной.

Раптоўнае, нечаканае, на вачах ўсяго сьвету, хуткае і шокавае разбурэньне прымітыўнымі экстрэмістамі найвышэйшых будынкаў у ЗША (сьведчаньняў багацьця фінансава моцнай Амэрыкі), – ўспрымаецца як жудасны сымвал. Можа, гэта знак для Амэрыкі? Можа, гэта заклік павярнуцца да каштоўнасьцяў духу? Можа, гэтая страшная ахвяра ў шмат тысячаў загубленых жыцьцяў мае нейкі таемны зьмест?

Ілюзія сілы, увасобленая ў ваеннай, фінансавай і таварнай матэрыі, можа рассыпацца ў пыл і груду руінаў.

* * *

Заклікі татальна зьнішчаць тэрарызм паўсюдна, ва ўсіх яго праяўленьнях, правільныя, на жаль, толькі тэарэтычна. На практыцы, у цяперашняй палітычнай рэальнасьці, гэта можа абярнуцца масавай несправядлівасьцю, парушэньнем правоў нацыянальных меншыняў і генацыдам іхняга насельніцтва.

Схема такая. Нейкі дзяржаўны рэжым пачынае парушаць правы, а потым і рэпрэсаваць нейкую нацыянальную меншасьць ці групу людзей. Тыя, абараняючы жыцьцё і сваё існаваньне, пачынаюць змагацца ў адказ. Тады рэжым аб'яўляе іх тэрарыстамі і пачынае зьнішчаць, ужо зыходзячы і з сілы, і з права.

Выразны прыклад – тэрарыстычная Расея, якая ўжо некалькі гадоў вядзе шырокамаштабную вайну супраць мікраскапічнай Чачэніі і праводзіць генацыд чачэнскага насельніцтва (пры стрыманых, на жаль, і пасіўных паводзінах заходніх краінаў).

Чатыры гады таму, калі закончылася 1-я Расейска-Чачэнская вайна, быў падпісаны ***„Дагавор аб міры і прынцыпах мірных узаемаадносінаў"***. Яго падпісалі законныя, усенародна абраныя прэзыдэнты – Аслан Масхадаў і Барыс Ельцын, – дзе было заяўлена на ўвесь сьвет ***„аб спыненьні ваеннага супрацьстаяньня Расеі і Чачэніі, якое доўжылася цягам чатырох стагоддзяў"***.

Цяпер расейцы вядуць новую вайну супраць Чачэніі з ужываньнем усіх відаў зброі з расейскага боку (акрамя атамнай). Рускія накіравалі 150-тысячную армію супраць 5-тысячнай чачэнскай, разбамбавалі і ператварылі ў руіны паўмільённую чачэнскую сталіцу і іншыя гарады, забілі больш за 130 тысячаў мірных людзей у краіне, насельніцтва якой не дасягае і аднаго мільёна жыхароў; сотні тысячаў выгналі з Чачэніі ва ўцякацтва, тысячы замкнулі ў фільтрацыйныя лягеры, дзе катуюць і забіваюць мірных цывільных людзей. І ўсё гэта называюць „антытэрарыстычнай апэрацыяй". Бо расейцы разумеюць, што назваўшы ўсё сваім імем (вайну вайной, а генацыд – генацыдам), – трэба будзе выконваць (альбо парушаць) Жэнэўскую Канвэнцыю пра ваеннапалонных, Усеагульную Дэклярацыю аб правах чалавека і іншыя міжнародныя прынцыпы і пагадненьні. А так рускія дазволілі сабе збамбаваць і зьнішчыць цэлую суверэнную краіну, забіваюць малалікі свабадалюбны народ, і не жадаюць несьці за гэтае злачынства супраць чалавецтва ніякай адказнасьці.

Цяпер расейскія прыхільнікі вайны хочуць скарыстаць бандыцкі напад на Амэрыку ў сваіх інтарэсах, каб апраўдаць генацыд чачэнцаў. Рускія палітыкі заяўляюць аб сваёй гатовасьці, разам з Амэрыкай, зьнішчаць тэрарызм „ісламскі, чачэнскі, ня важна, які". Некаторыя дагаварыліся нават, што напад на ЗША зроблены пры дапамозе і з удзелам чачэнцаў. (Якія, акрамя як на сябе, спадзяюцца, у сапраўднасьці, толькі на Амэрыку.)

Але барацьба суверэннай Чачэніі за свабоду і незалежнасьць супраць рускай агрэсіі ня мае дачыненьня да тэрарызму. Тэрор праводзіць якраз руская армія і рускія спэцслужбы.

* * *

Кожны народ валодае натуральным правам на незалежнасьць і свабоду, мае права абараняць незалежнасьць і, калі яе няма, – змагацца за яе. Кожны народ, калі яго вынішчаюць, мае права абараняцца ўсімі даступнымі і магчымымі сродкамі.

Заклік „паўсюдна зьнішчаць" і „ва ўсім сьвеце", без усебаковага аналізу і ўліку палітычнай рэальнасьці, можа прывесьці да падмены паняцьцяў у рэальнай палітыцы, можа ня вырашыць праблему, а толькі ўскладніць яе, узаконіць забойствы і гвалт, легалізаваць рэпрэсіі, пашырыць маштабы тэрору.

На мой погляд, патрэбна дакладнае вызначэньне тэрарызму і выразнае называньне канкрэтных дзеяньняў, доказнасьць аргумантаў, завершанасьць сьледзтва, устанаўленьне віны. Мусіць быць зразумеласьць. Усход не павінен успрымаць ваяўнічыя заявы як новы крыжовы паход.

Існуе небясьпека, калі Захад можа аказацца перад праблемай, што, каб перамагчы „тэрарызм", неабходна зьнішчыць цэлыя народы. Але трэба памятаць, што партызаны Ўсходу (як гэта ні жахліва) могуць ператварыць у руіны Жэнэву ці Брусэль, а заходнім арміям немагчыма зьнішчыць народ. (Гэта выглядала б злачынствам супраць чалавецтва.)

Вялікай небясьпекай для Амэрыкі і для Эўропы была б партызанская вайна з Усходам. Яе неабходна пазьбегнуць. Бо гэта заўсёды – вайна бяз правілаў, дзе сіла вымяраецца, з аднаго боку, авіяносцамі, ракетамі ды самалётамі сістэмы „Стэлс", з другога – сілай чалавечай апантанасьці. І, паўтаруся, яшчэ не было выпадку ў найноўшай гісторыі, каб самалёты перамаглі апантанага чалавека, які не баіцца сьмерці.

На маю думку, трэба заўсёды і найперш – старацца пра супрацоўніцтва і гуманную кансалідацыю сьвету, цаніць міжлюдзкія дачыненьні.

Тым часам складваецца ўражаньне, што ў паветры запахла вайной. Зьявілася шмат галасоў, якія толькі і гучаць: „Зьнішчыць!", „Забіць!" Але калі прааналізаваць усё спакойна, то прыходзіш да высновы, што ў трагічных выпадках 11 верасьня трэба найперш дакладна ўстанавіць арганізатараў, кіраўнікоў і спонсараў нападу (бо выканаўцы загінулі). І толькі тады прымаць захады і ажыцьцяўляць рашэньні. Лепш за ўсё, каб гэта быў паказальны судовы працэс з удзелам усіх зацікаўленых краінаў, а не ваеннае забойства, якое (можна не сумнявацца) пацягне за сабой новыя забойствы.

* * *

Я падтрымліваю Амэрыку, бо разумею, што на гэтую краіну абапіраецца цяперашні сьвет і цяперашняя Эўропа. Я падтрымліваю амэрыканскі народ, бо ведаю яго дабразычлівасьць. Бо крыўда і страты зроблены яму – несправядлівa, і людзі загінулі, ні ў чым і ні перад кім не вінаватыя.

Але Амэрыка прымае цяпер вельмі адказныя рашэньні, якія могуць уплываць на далейшы ход гісторыі XXI-га стагоддзя. На мой погляд, у такім становішчы ніхто і нідзе на сьвеце не павінен заставацца абыякавым ці ацэньваць падзеі толькі на пачуцьцях. Патрэбна дыскусія і разумнае асэнсаваньне.

*14 верасьня 2001 г., Варшава.*
*(„Беларускія Ведамасьці", – 2001, №8(38); „Народная Воля", – 2001, 20 верасьня)*

# КУРАПАТЫ – НАШ БОЛЬ, НАША ПАМЯЦЬ, НАША ТРЫВОГА

Сёлета пачалося будаўніцтва шырокае сучаснае аўтастрады праз Курапаты. Ужо высякаюць Курапацкі лес, вядуць земляныя працы, каб пашырыць існуючую кальцавую дарогу. Савецкая практыка такой працы паказвае, што чакаюцца вялікія разбурэньні. Над Курапатамі зноў навісла небясьпека псаваньня і зьнішчэньня.

У абарону Курапатаў сталі энтузіясты Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”, Маладога Фронту, Мартыралёгу Беларусі, прадстаўнікі грамадзкасьці.

* * *

Цяжка ўсьведамляць, што на пачатку XXI-га стагоддзя прыходзіцца зьвяртацца да людзей у абароне *Курапатаў*. *Курапаты* – ня толькі найбольшы і найстрашнейшы на Зямлі масавы магільнік генацыду беларусаў, але і найвялікшы і найтрагічнейшы сымвал мартыралёгіі народу.

Гэта той сымвал, які трынаццаць гадоў таму ў адначасьсі абудзіў наш народ ад сну, ад ілюзіяў камуністычнае прапаганды і праз скруху нагадаў пра чалавечую годнасьць, прымусіў задумацца над паправай нашай агульнай будучыні.

Мы, беларусы, павінны цяпер разумець, што будучыня нашай нацыі мераецца існаваньнем *Курапатаў*. ***Гэта наш духоўны знак, мера нашай якасьці як народа, і вымярэньне духоўнай сілы.*** У якім стане знаходзяцца *Курапаты* – у такім і народ. Тут усё адпавядае да дробязяў. Сходзім туды і паглядзім, як яны выглядаюць праз трынаццаць гадоў пасьля адкрыцьця, дасьледваньня і ўсьведамленьня сэнсу. Убачыўшы, зразумеем: якія мы ёсьць, у якім стане жывём.

Калі б мы, беларусы, дапусьціліся, што *Курапаты* зьнішчылі б, разбурылі ці зьняважылі, лічыце, што тое самае адбудзецца і з намі. У 1988 годзе, калі йшло дасьледваньне і яраснае змаганьне за *Курапаты*, я зьвярнуў на гэта ўвагу і пісаў пра гэта („Калі мы згубім, страцім гэтую сілу, нас – няма”).

Зьвернем увагу таксама, што непрыяцелі нашага нацыянальнага быцьця і нашай свабоды, і ўся цемра, што ўзрошчана ў нашым грамадзтве, імкнуцца *Курапаты* зьнішчыць. Па-свойму, пацёмнаму, яны дакладна разумеюць сэнс *Курапатаў* для Беларусі. І ў сваім непрыхільным стаўленьні ведаюць, што робяць.

Для закаранелых злачынцаў-забойцаў няма праблемы сумленьня і ніякіх праблемаў у злачынстве, акрамя праблемы трупа. У іх адзіны клопат: куды яго падзець, як схаваць. Энкавэдзісты хавалі ў зямлю, але сьляды замяталі потым. І найлепшай шырмай было якоенебудзь будаўніцтва.

Так схавалі шмат забойстваў. У пачатку 60-х гадоў, напрыклад, каля Менску, за Абсэрваторыяй (у бок Уручча) пры пабудове дарогі і дарожнай разьвязкі было зьнішчана месца масавых пахаваньняў растраляных энкавэдзістамі людзей.

У гэты ж час (пачатак 60-х) вялі кальцавую дарогу праз *Курапаты*, выграблі горы касьцей расстраляных. Хто ведае, хто памятае цяпер пра гэта? (Магчыма, акрамя мяне, што запісаў гэтыя зьвесткі ад людзей, якія ў большасьці ўжо не жывуць.) Будаўніцтва на касьцях – гэта цёмны зьдзек над людзкасьцю, сьвятакрадзтва, працяг злачынства, працяг, які хавае забойствы.

Так было з масавымі пахаваньнямі расстраляных у *Лошыцы (Лошыцкім Яры)*, зьвесткі пра якія я, на хвалі перамогі ў *Курапатах*, як аказалася, неабачліва, рассакрэціў раней часу (не зрабіўшы археалягічных дасьледваньняў). Сістэма зрэагавала імгненна. Тут жа хутка скапалі экскаватарамі прылеглыя ўзгоркі і засыпалі *Лошыцкі Яр*, заасфальтавалі, а на паверхні пабудаванлі гаражы.

З *Курапатамі* такі нумар не прайшоў. Пятнаццаць гадоў рыхтавалася іхняе адкрыцьцё. Мне і маім сябрам, якія ведалі таямніцу, хапіла вытрымкі, і *Курапаты* дачакаліся свайго часу. У 1988 годзе пра злачынствы камунізму ў *Курапатах* ведаў увесь сьвет.

Ні адзін помнік мартыралёгіі не дасьледаваны на такім узроўні, як *Курапаты*. Сфальшаваць зьвесткі і сказаць іншае нашчадкі НКВД ўжо былі ня ў стане. Кожная спроба давесьці адваротнае толькі сьведчыла супраць іх. Тады вярнуліся да старога мэтаду – да будаўніцтва. Так узьнікла ініцыятыва пашырэньня кальцавой дарогі і правядзеньня шырокай сучаснай аўтастрады праз *Курапаты*. І гэта нягледзячы на тое, што даўно існуюць нармальныя праекты аўтастрады ў абход *Курапатаў.* Але будаваць хочуць напрасткі. Тут відавочны палітычны заказ тых, хто зацікаўлены зьменшыць значэньне *Курапатаў* і ў пэрспэктыве – разбурыць іх.

Патрабаваньні людзей і ўсёй грамадзкасьці цяпер павінны быць рашучымі і адназначнымі: ***ніякай аўтастрады праз Курапаты не павінна будавацца і не павінна быць!***



(Фота Ул. Кармілкіна)

***157. Міліцыя ахоўвае разбурэньне Курапатаў. 2001 г.***




***158. Дарога праз Курапаты.***



(Фота Ю. Дзядзінкіна)

***159. Курапаты. Беларусы перад памяцьцю пра генацыд.***

Справа ня ў тым, што дарога, як абяцаюць, быццам бы не разбурыць зноў Курапацкія магілы (што сумніўна). Будаўніцтва аўтастрады праз *Курапаты* стане прыступкай для далейшай непавагі і стварэньня магчымасьцяў для зьнішчэньня рэшты магілаў у пэрспэктыве. Аўтастрада іх зьняважыць, прынізіць значэньне гэтага трагічнага і сьвятога месца, бо такія адносіны да яго – хамскія, паказваюць на тое, што ў людзей, якія б зрабілі такую дарогу, няма прыярытэту духа, памяці, пашаны перад пакутніцкай сьмерцю часткі нацыі; сьведчаць пра дробязнасьць інтарэсаў дробных людзей, што не берагуць спакой мёртвых. Брыдка пляваць у мінулае, але недапушчальна і дзіка пляваць у будучыню.

***Не павінна такога быць, каб па краю пакутных магілаў, з шумам і грукатам, імчалася рака машын! Аўтастрада мусіць ісьці ў абход, далей ад Курапатаў і ад жылых дамоў. (Трэба шанаваць і жывых, і мёртвых!) Гэта было б правільна, разумна і па-людзку.***

А на адрэзку старой кальцавой дарогі праз *Курапаты* (калі яна застанецца) неабходна паставіць з двух бакоў індывідуальны *Знак Курапатаў* і дарожныя знакі абмежаваньня хуткасьці, каб кожны ведаў, дзе праязджае.

Беларуская грамадзкасьць, дасьледчыкі і пацярпелыя (дзеці і сваякі расстраляных) не павінны паддавацца ні на якія нібы-та „канструктыўныя” кампрамісы, распачынаць нейкія „дасьледваньні” ў зоне заплянаванай дарогі (і тым самым згаджацца з будаўніцтвам), бо ня можа быць кампрамісу са злачынствам. А заплянаваная аўтастрада праз *Курапаты* якраз і ёсьць – злачынства.



***160. Курапаты. 29 кастрычніка 2000 г. Удзельнікі Крыжовага шэсьця. (Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ).***

* * *

У абставінах, калі імкненьням прынізіць і зьнішчыць *Курапаты* спрыяе ўлада і інсьпіруе такія дзеяньні, выратаваць мэмарыяльнае месца можа толькі грамадзкасьць, сам народ, і найперш – эліта грамадзтва.

У *Курапатах* (улічваючы нэгатыўную пазыцыю і дачыненьні ўладаў) можа быць толькі народны помнік расстраляным, народны мэмарыял, які спантанна здольны стварыць народ.

Пачатак народнаму мэмарыялу паклалі ў 1989 годзе, калі ўсім народам (тысячы людзей) паставілі ў *Курапатах сямімэтровы Крыж пакуты*. *Курапаты* мне бачацца помнікам з мноства крыжоў, дзе кожны крыж сымвалізуе ахвяру. Гэта помнік на вечнасьць. Ён не зьнікае і не марнее, пакуль жывы народ. Бо людзі кожнага пакаленьня нясуць сюды свае крыжы памяці.

29-га кастрычніка мінулага году Народны Мэмарыял пачаў мэтанакіравана ствараццa энтузіястамі *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ* і *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”*, калі было арганізаванае шматкілямэтровае крыжовае шэсьце ў *Курапаты* і ўсталяваныя на магілах дзясяткі крыжоў.

З таго часу колькасьць крыжоў большае. Кожны чалавек можа прынесьці сюды і паставіць свой крыж у памяць пра генацыд, па загіблых людзях, па замардаваных матках, бацьках, дзядах, прадзядах, па нявінна забітых продках. Беларусаў зьнішчалі, і гэтая памяць у нас – велізарная, павінна стукаць у нашыя сэрцы.

Мала рушэньня энтузіястаў. Добра, каб быў шырокі, сапраўды ўсенародны рух. Тысячы, дзясяткі тысячаў, лес крыжоў можа вырасьці ў *Курапатах*, калі толькі людзі зрушацца і захочуць ушанаваць жыцьцё і сьмерць, і пакуты продкаў.

Пакаленьне 80-х гадоў выканала сваю задачу, выявіла, дасьледвала і выратавала *Курапаты*, паказала беларускую трагедыю ўсяму сьвету. Перад людзьмі пачатку трэцяга тысячагоддзя стаіць новы выклік, каб уратаваць *Курапаты*. Мусіць быць ня толькі пратэст супраць варварства, але й стваральная праца ўсіх. Ідэя ёсьць, пачатак зроблены. Няхай жа дапаможа Беларусі Бог!

*6 кастрычніка 2001 г., Варшава.*
*(„Народная Воля”, – 2001, 10 кастрычніка; „Берасьце”, – 2001, верасень-кастрычнік, №12).*

# ЧЫМ ВЫКЛІКАНЫ ВАРВАРСКІ НАСТУП НА КУРАПАТЫ

Ідэалёгія і палітыка разбурэньня *Курапатаў* зразумелая. Уладу ў Беларусі захапілі выхадцы з НКВД-КГБ, якія хацелі б зьнішчыць сьведчаньні генацыду, што ажыцьцяўляла Масква празворганы НКВД. Усе спробы сфальшаваць вынікі навуковых дасьледваньняў, зробленых у 1988 годзе, і абвергнуць вынікі сьледзтва па *Курапатах* праваліліся. Пасьля гэтага запанавала ўяўная цішыня, у час якой паволі руйнавалася і занечышчалася ўсё, што зьвязана было з памяцьцю пра *Курапаты*, засьмечвалася тэрыторыя магілаў, месца рабілася прахадным, кінутым на таптаньне наезных жыхароў з бліжэйшых кварталаў горада.

Тактыка рэжыму была зразумелай. Яе неабходна было спыніць. У 2000 годзе *на Дзяды Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* і ягоная *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* распачалі актыўнае стварэньне *ў Курапатах* ***Народнага Мэмарыялу Беларускай мартыралёгіі***. Было наладжана масавае Крыжовае шэсьце *ў Курапаты* і ўстаноўлена над магіламі мноства крыжоў (больш 30-ці).

Стаўленьне крыжоў працягвалася ўвесь час. На 2001 г. іх ужо паставілі больш за сотню. Была растлумачана (часткова ў друку) канцэпцыя *Народнага Мэмарыялу ў Курапатах*, які па задуме ствараў бы сам народ. Дзеля гэтага кожны мог зрабіць і прынесьці ў Курапаты свой крыж, паставіць яго за душы расстраляных беларусаў, сваіх родных і блізкіх. Над магіламі расстраляных на Курапацкіх горах, побач з соснамі, на палянах і ўздоўж дарог вырастаў бы лес рукатворных крыжоў. Усё гэта рэальна абазначыла б памяць па расстраляных і сымвалізавала б уваскрасеньне душ. (Такі беларускі крыжовы помнік ёсьць на сьвятой гары *Грабарка* на Беласточчыне і ў іншых месцах. Кожны год беларусы нясуць у Грабарку крыжы.)

Справа зрушылася. Гэтакія дзеяньні выклікалі ціхую паніку ў кіраўнічым асяроддзі рэжыму. Безумоўна, што маскоўскія аналітыкі з ГБ прааналізавалі задуму *Народнага Мэмарыялу* і зразумелі, што прыходзіць канец іхным спробам схаваць памяць пра *Курапаты* і паступова зьнішчыць іх.

Рэакцыя была пасьпешнай і грубай. Ужо летам 2001 года пачалася падрыхтоўка да будаўніцтва шырокай аўтастрады праз *Курапаты*. Прытым так сьпяшаліся, што пачалі без пляну і без узгадненьня праекту. Мэтадам такога будаўніцтва (гледзячы па абставінах) можна было разбурыць і зьнішчыць літаральна ўсё: і лес, і крыжы, і магілы. Напрацаваны вялікі савецкі вопыт зьнішчэньня культуры. Гісторыя расейскай акупацыі на Беларусі паказала, што не існуе ніякіх маральных перашкодаў у варвараў: ні ў тых, хто загадвае, ні ў тых, хто выконвае. Тыя, хто разбураюць крыжы і магілы, ня маюць ніякіх духоўных каштоўнасьцяў, акрамя паняцьцяў нявольніка і раба.

Разбурэньне *Курапатаў* заплянавана з асаблівым цынізмам. Варта зьвярнуць увагу на даты. Ігнаруючы ўсіх і ўсё, шырокім фронтам прыступілі да будаўніча-разбуральных працаў у зоне *Курапатаў* 20 верасьня, якраз ў дзень так званай „самаінаўгурацыі” Лукашэнкі пасьля сфальшаваных выбараў. 8-га лістапада, на другі дзень галоўнага бальшавіцкага сьвята, па загаду зьверху пачалі ламаць Крыжы, зьбіваць і катаваць людзей – абаронцаў магіл, кінулі на іх тэхніку, бульдозеры, КГБ і спэцыяльныя атрады міліцыі.

Такое супадзеньне датаў добра адлюстроўвае ідэалёгію вандалізму, паказвае, у якой сфэры паняцьцяў існуюць разбуральнікі *Курапатаў*.

*Курапаты* – унікальны помнік і сымвал генацыду. Ад асэнсаваньня яго беларусамі шмат у чым залежыць лепшая будучыня Беларусі. Бяда якраз у тым, што непрыяцелі беларушчыны гэта разумеюць лепш, чым некаторыя беларусы. Лёс *Курапатаў* будзе залежыць ад двух зьяваў: ад сілы супраціўленьня варварству і галоўнае – ад уздыму і моцы стваральнай працы, ад рабленьня ***Народнага Мэмарыялу крыжоў***. Рэч зразумелая: напачатку гэтую працу павінна ўзяць на свае плечы арганізаваная эліта грамадзтва, актыўныя і сьведамыя людзі, пакуль ня зрушыцца ўвесь народ.

*2001 г., лістапад, Варшава.*
*(„Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №10(40); „Беларус”, – 2002, красавік, №471).*




***161. Нясеньне крыжоў у Курапатах. 29 кастрычніка 2000 года Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ арганізавалі Крыжовае шэсьце і мітынг-рэквіем, прысьвечаныя Дню памяці продкаў „Дзяды". Больш за тысячу асобаў сабраліся на праспэкце Скарыны і прайшлі 12 кілёмэтраў, нясучы крыжы ў Курапаты і белыя кветкі. Крыжы паставілі на месцы расстрэлаў над магіламі, а сьвятары асьвяцілі іх.***

***162. Крыжовы шлях-2000. Пачатак працэсіі на праспэкце Скарыны ў Менску.***

# БЕРАЖЭМ КУРАПАТЫ!

*(Зварот да моладзі)*

Вельмі добра, што ў нашым беларускім грамадзтве знайшліся людзі, якія дабраахвотна ўсклалі на сябе абавязак старажаваньня Курапатаў.

Павінен сказаць пра сэнс зьявы. Курапаты гэта ёсьць ***мэмарыяльны помнік расейска-бальшавіцкага генацыду***, учыненага над нашым народам. Гэтае месца ёсьць адначасна ***нацыянальным сымвалам*** пакутаў і сымвалам беларускай народнай памяці. Гэта духоўнае месца. Па адносінах да Курапатаў мераецца наша народная беларуская моц, нашая маральная якасьць як народа.

Цяпер нашая народная моц і нашая беларуская мараль падвяргаюцца выпрабаваньням з боку ідэйных нашчадкаў тых злачынцаў, якія некалі расстрэльвалі людзей у Курапатах.

Яны нахабна дэманструюць непавагу да беларускай сьвятасьці, будуюць дарогу праз нашае сьвятое месца і глядзяць, як мы будзем сябе паводзіць.

Можна сказаць пэўна, што калі б на абарону Курапатаў ніхто не паўстаў, – гэта абазначала б, што мы – ніхто і нішто, што нас – няма. І цемра зрабіла б з гэтага высновы.

Але нашыя людзі сталі на абарону Курапатаў з поўнай сьведамасьцю. Прынесьлі сюды і паставілі сотні крыжоў. Прыйшлі з сьвятарамі. А маладыя дабраахвотнікі ўсталявалі тут кругласутачнае пільнаваньне.

Мушу сказаць, што гэта ёсьць *ужо* наша маральная перамога.

Цемра бярэ верх толькі тады, калі ёй не супраціўляюцца. Калі ж яна вымушанаяісьці па касьцях, па ахвярах, ламаючы супраціўленьне справядлівасьці грубай сілай, – гэта ніколі ня ёсьць перамога цемры, а толькі сьведчаньне яе амаральнасьці і зла. Такое зло ніколі доўга ня будзе трымацца. Вось чаму ***заўсёды трэба супраціўляцца злу***.

Хлапцам і дзяўчатам, якія дабраахвотна сьцерагуць Курапаты, я б сказаў: „Сярод вас, пэўна, ёсьць розныя людзі. Але памятайце: вы спрычыніліся да абароны найвялікшай таямніцы – таямніцы сьмерці, над якой ніхто ня ўладны. Усе народы берагуць і сьцерагуць месцы і памяць пра сьмерць, таму што гэтыя месцы і гэтая памяць ёсьць ***сымваламі вечнага існаваньня***. Ці гэта на Зямлі – для народа, ці гэта для вечнай душы – у іншым сьвеце.

Я хацеў бы, каб маладыя беларусы думалі і задумваліся над гэтым. І тады Курапаты могуць дапамагчы кожнаму ў паляпшэньні ягонай душы. Гэтак жа, як паспрыялі яны ў Адраджэньні Беларусі, як дапамагаюць у Адраджэньні ўсёй беларускай нацыі.”

*26 сьнежня 2001 г., Варшава.*

# НАШ БЕЛАРУСКІ ШАСЬЦІКАНЦОВЫ КРЫЖ

У 30-я гады мінулага стагоддзя і за часы нямецкай акупацыі найбольш знакамітай асобай, як знаўца мастацтва і культуры, быў у Менску скульптар і прафэсар ***Міхаіл Керзін***. Аўтарытэт ягоны быў надзвычай высокі. Напачатку 40-х, калі нямецкія акупанты ўжо абсталяваліся ў горадзе і кіраўніком цывільнай адміністрацыі Генэральнай Губэрніі быў прызначаны *Вільгэльм Кубэ*, тады дазволена было беларусам аднавіць беларускі гістарычны музэй, які знаходзіўся ў так званым „Юбілейным Доме”. (Пабудаваны ў 1913 годзе ў манеры „а ля рюс” у гонар юбілею расейскай царскай дынастыі. Цяпер там Дом актора. 25 сакавіка 1918 года тут была аб'яўлена незалежнасьць БНР.)

Дырэктарам беларускага музэю заступіў ***Антон Шукелойць***, які акурат уцёк з бальшавіцкай турмы ў Крупках (фактычна, з-пад расстрэлу) і апынуўся ў Менску. (Як толькі пачалася вайна, энкавэдзісты схапілі яго і, разам з тысячамі такіх жа як ён арыштаваных беларускіх інтэлігентаў, павезьлі этапамі на Ўсход.)

Пачалі фармаваць музэйную экспазыцыю. І вось сабралі аднаго разу ўсе ўнікальныя археалягічныя экспанаты, якія засталіся ад ранейшага менскага музэю, расклалі на вялікім шырокім стале каменныя сякеры, наканечнікі, фігуркі, амулеты і задумаліся, што з гэтым рабіць.

Паклікалі прафэсара Керзіна, каб той парадзіў. Прафэсар прышоў, кінуў вокам, паўзіраўся і кажа:

– Нясіце вядро.

Прынесьлі вядро. А прафэсар гэтак адным махам шырокай рукі згроб усе археалягічныя экспанаты і – шух у вядоро.

– Выносьце, – кажа, – на сьметнік. – Гэта ж падумаць толькі, – прадаўжаў далей прафэсар Керзін пасьля ўсеагульнай замінкі, – Масква ўсюды рабавала, дзе толькі магла! Па ейнай палітыцы, ніякай культуры на Беларусі не павінна было быць. Усе арыгінальныя знаходкі і ўнікумы – сабе ў Маскву забралі, а нам тут, у Беларусі, муляжы пакінулі, падробкі, хлам: радуйцеся! О, гэта адмыслова. У іх розум не на дабро, ведалі, што рабілі, – рэзюмаваў прафэсар.

* * *

Гэтую гісторыю расказаў мне аднойчы Антон Шукелойць, разважаючы пра ***Крыж*** і муляж Крыжа ***Эўфрасіньні Полацкай***. Муляж Крыжа (калі не прымаць пад увагу ягоную ілюстрацыйную ўжытковасьць) мае, на мой погляд, такі самы сэнс для культуры і такую ж цану, як і той хлам, які прафэсар Керзін выкінуў у вядро для сьмецьця.

Муляж наталяе розум, але засоньвае дух, стварае ілюзію, што нешта ўжо ёсьць. Фальшыўка, падробка дае ўяўленьне – і спрыяе забыцьцю рэальнасьці.

Калі б хто думаў спэцыяльна, што зрабіць, каб прымусіць беларусаў забыцца пра сваю зрабаваную маскоўцамі культуру і пра яе духоўны сэнс, то замест кляйнота стварыў бы дублікат, пустышку, каб улагодзіць і заспакоіць сярэдніх людзей, і тых, хто ня ведае і не разьбіраецца (якіх, на жаль, вельмі шмат).

Што датычыць рэальнага Крыжа Эўфрасіньні, то тут, на мой погляд, сэнс найглыбейшы. Я б сказаў, эзатэрычны сэнс, цудатворны і лёсавызначальны для ўсяго беларускага народа. Зьдзіўляе, зь якой пасьлядоўнасьцю расейцы-бальшавікі імкнуліся неўпрыкметна зьнішчыць Крыж, завалодаць ім, ня даць, каб ён заставаўся на Беларусі.



(Фота Ул. Карміпкіна)

***164. Курапаты.***

Зь літаратуры вядома, што ў 1929 годзе ГПУ-НКВД вывез Крыж Эўфрасіньні Полацкай зь Менску ў Магілёўскі музэй. (Захаваліся нават прозьвішчы тых гэбістаў, што вывозілі.) Тлумачылі акцыю тым, што, маўляў, рэліквія павінна быць далей ад мяжы, каб гарантаваць бясьпеку.

У канцы 70-х мне прыходзілася некалькі разоў размаўляць пра Крыж з былым дырэктарам Магілёўскага гісторыка-краязнаўчага музэю спадаром Філіповічам, які ў 1941 годзе працаваў у музэі і прысутнічаў пры эвакуацыі ягоных экспанатаў. Ён цьвердзіў, што энкавэдзісты вывезьлі тады Крыж ў Маскву.

Праўда, пасьля вайны была пушчана плётка (хутчэй за ўсё, праз КГБ), што быццам бы Крыжа на той час у Магілёве не было, і што невядома, дзе ён. Пазьней пускаліся іншыя чуткі, што быццам бы Крыж трапіў то ў Амэрыку (называлі нават калекцыю Моргана), то ў Аўстралію, то ў беларускую эміграцыю, Бразілію і г.д.

Пусканьне плётак тымі, хто скраў Беларускую Рэліквію, мяне не зьдзіўляе. Я схільны верыць Філіповічу. Бальшавікі пры эвакуацыі музэя, першым чынам (вядома ж) забралі б Крыж, а не муляжы каменных сякераў, кшталту тых, якія выкінуў на сьмецьце прафэсар Керзін.

Але нават калі б сапраўды ў 1941 годзе Крыжа ўжо не было ў Магілёве (хадзілі яшчэ чуткі, што Крыж хавалі ў абкамаўскім партыйным сэйфе), то ці могуць быць сумненьні ў тым, дзе ён апынуўся пасьля таго, як гэбісты забралі яго зь Менску?!

Крыж схаваны ў Маскве, і прычыны ягонага знаходжаньня там, відаць, ня толькі культурна-матэрыяльнага і музэйнага кшталту. Нездарма гэтым займаўся НКВД. Там думалі наперад, зьнішчалі дзеля „сьветлай камуністычнай будучыні”. (І, як паказала гісторыя, – дзеля рускай і гэбоўскай будучыні.)

Для беларускай нацыі ***Полацкі Крыж*** ёсьць сакральны агульнанародны сымвал, гэтак жа, як ***Пагоня***, ***Бел-Чырвона-Белы Сьцяг***, ***Вільня***, ***Курапаты***, ***Абраз Маці Божай Вострабрамскай***, ***Наваградак***, ***Мірскі замак***, ***Нясьвіж***, ***Полацак***, *рака* ***Нёман*** і *гістарычная рака* ***Няміга*** (дзе цаной вялікіх ахвяраў, у крывавай бітве былі спынены чужынцы), ***Белавежская Пушча***, ***Крэва*** і г.д. (Дарэчы, нават маючы на ўвазе толькі тое, што я назваў, заўважце, куды цаляюць непрыяцелі.)

Добра вядомы таксама ***Запавет*** Шасьціканцовага Крыжа Эўфрасіньні, сэнс якога ў тым, што Полацкі Крыж „жыватворыць” душы народа, сьцеражэ, аберагае краіну. Страта Крыжа – пазбаўляе народ апекі і прынясе няшчасьце тым, хто яго ўкрадзе.

І вось ён зьнік. З пачатку 40-х гадоў яго няма на Беларусі. Запавет прыдае Крыжу значэньне пэрспэктыўнага і мабілізуючага нацыю сымвала. (У мяне падазрэньне, што найперш таму ён і быў выкрадзены бальшавікамі-равсейцамі. У ягоным зьнікненьні прачытваецца злая воля.)

Крыж Эўфрасіньні – гэта беларускі Грааль, толькі захоўваецца ён ужо не на Монтсальвачы (Полацку), а, відаць, у д’ябальскім замку Шахтэльмарвайль.

Нагадаю, што Полацкі Шасьціканцовы Крыж, які сымвалізуе Боскае стварэньне сьвету (шэсьць канцоў – шэсьць дзён стварэньня) ёсьць Крыж- -Куфэрак, у якім захоўваюцца кавалак Крыжа Хрыстовага з кроплямі Ягонай Боскай крыві і асколак каменю з крыпты (труны) Багародзіцы.

Калі паўзірацца на нашыя пасьляваенныя гады, то відаць, што то тут, то там зьяўляюцца людзі, якім не дае спакою лёс Полацкага Крыжа. Яны пачынаюць разважаць, дзе б ён мог быць. Некаторыя нават парываліся яго безвынікова шукаць. Але, зразумела

(хоць, магчыма, яшчэ нямногім), што шукаць Полацкі Крыж трэба ня толькі ў натуральным ягоным выглядзе, як канкрэтную нацыянальную рэліквію, але здабываць у духу, як найсьвятлейшую, вечную праўду, знайшоўшы якую, народ становіцца – бесьсьмяротным.

І вось, калі ў чарговы раз зноў ажыла цікавасьць да Полацкага Крыжа, аднекуль, зь вельмі сумніўных сфэраў сьвядомасьці, зьяўляецца прымітыўная ініцыятыва стварыць ілюзію Крыжа, падробку, каб заспакоіць інтэрас ды суцішыць неабуджаны дух. Ствараецца муляж рэліквіі (1997г.), фальшыўка, і хараша абгрунтоўваецца; дзіўныя спонсары, зьвязаныя з Расеяй, дапамагаюць яе зрабіць. Утварылася зьява, як наш цяперашні суверэнітэт, які, заўважце, карэлюецца з муляжным падабенствам Вялікага Сымвала.

У іншых умовах і абставінах, пры адсутнасьці маскоўскага сьледу і пры поўнай невядомасьці пра месца знаходжаньня Крыжа, можа і не было б у гэтым чыне вялікай бяды. Хутчэй за ўсё, нават рэалізаваліся б добрыя памкненьні. Але калі ведаем і здагадваемся, што злодзей засеў там, у цёмным замку Кліншора, за крамлёўскімі сьценамі, то ўся гэтая самадзейнасьць выглядае інакш.

Тут выяўляецца тыпалягічная рыса пэўнай зьявы. У дачыненьні да беларускай культуры я назваў бы яе „адмоўным эфэктам Керзіна”. Яна (гэтая зьява) вынікае з тыпалёгіі ашуканства і каляніяльных дачыненьняў. Гэтак бэльгійцы некалі рабавалі Афрыку, забіралі брыльянты ды алмазы, а ўзамен давалі туземцам шкляныя пацеркі (каб цешыліся). З цывілізаваным народам можна абыходзіцца гэтак жа, калі давесьці ягоную сьведамасьць да ўзроўню Афрыкі.

У апошні час месцазнаходжаньнем Полацкага Крыжа спрабаваў цікавіцца Пётр Краўчанка, былы Міністар замежных справаў Беларусі. Але ён ніколі не задумваўся пра Грааль, таму ягоная мімалётная цікаўнасьць ні да чаго не прывяла, а сам ён неўзабаве ператварыўся ў „японскага пасла” ў краіне Ўзыходзячага Сонца.

Што дзень наступны нам рыхтуе? Калі вернецца на Беларусь Полацкі Шасьціканцовы Крыж? Дзе ягоныя рыцары і абаронцы? Хто дасьць адказ?

Але ня трэба адказу. Ужо даўно, так даўно, што сталі, як мроя, „усё лятуць і лятуць тыя коні, срэбнай збруяй далёка грымяць...”

*12 жніўня 2002 г., Варшава.*




(Мастак А. Марачкін)

***163. Пагоня.***

# 1990-1995



(Фота з друку)

1-Д. *У залі Вярхоўнага Савета БССР. 1990 год. Другая (асеньняя) сэсія.*

АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ
пераходу Беларускай ССР на рыначную эканоміку

1. Беларуская ССР згодна Дэкларацыі аб суверэнітэце поўнасцю незалежная ад СССР дзяржава.

2. Беларуская ССР не заключае новы саюзны дагавор з Савецкім Саюзам, але заключае эканамічныя пагадненьні з усімі незалежнымі дзяржавамі, зыходзячы са сваіх эканамічных інтарэсаў.

3. У Беларускай ССР прызнаецца множнасць формаў уласнасьці ў тым ліку прыватная ўласнасьць на зямлю для грамадзянаў Рэспублікі.

Павінен быць распрацаваны сьпецыяльны парадак /механізм/ спараджэньня зямлёй.

Прызнаць зямлю як тавар на рынку.

Замена бясплатнага карыстаньня зямлёй на платнае праз увядзеньне зямельнага падатку незалежна ад формы ўласнасьці.

Памеры падатку на зямлю могуць залежыць толькі ад месцазнаходжаньня і кадастравай ацэнкі.

Стварэньне аднолькавых эканамічных ды палітычных умоваў развіцьця разнастайных формаў сельскагаспадарчай вытворчасьці.

5. Беларуская ССР стварае ўласную грашова-крэдытную сістэму, уводзіць уласныя грошы, банкі, вядзе ўласную фінансава-бюджэтную палітыку.

6. Павінна быць сістэма сацыяльных гарантый для ўсіх слаёў насельніцтва на перыяд пераходу да рыначнай эканомікі.

7. Павінна быць грамадзянства Беларускай ССР.

8. Павінна быць створана мытная служба і кантроль межаў Беларускай ССР.

9. Павінны быць дзяржаўныя гарантыі захаваньня і развіцьця беларускай культуры, мовы і адукацыі.

2.

10. Павінна быць зьменена і распрацавана новая дзяржаўная структура улады Саветаў і мясцовага самакіраваньня у Беларускай ССР.

11. Прадугледзіць сістэму выратаваньня беларускай нацыі ад вынікау Чарнобыльскай катастрофы на перыяд пераходу і усталяваньня рыначнай эканомікі.

1. С. Навумчык — 181 — [подпіс]
2. З. Пазьняк — 9-я — [подпіс]
3. [illegible] 197 [подпіс]
4. [illegible] 262 [подпіс]
5. [illegible] — 111 [подпіс]
6. [illegible] 54 [подпіс]
7. [illegible] 272 [подпіс]
8. [illegible] 298 [подпіс]
9. Бобоченков 277 [подпіс]
10. Драгун А.С 131 [подпіс]
11. [illegible] 37 [подпіс]
12. Зеленин В.И 124 [подпіс]
13. [illegible] 38 [подпіс]
14. [illegible] [подпіс]
15. [illegible] 137 [подпіс]
16. [illegible] 193 [подпіс]
17. [illegible] Н.И. об. чиновник [подпіс]
18. Борисенко А.Е — " — [подпіс]
19. Кисселевич А.С 185 [подпіс]
20. [illegible] 1.А 276 [подпіс]
21. [illegible] [подпіс]
22. [illegible] 18-я [подпіс]
23. Антончик С.А 17-я [подпіс]
24. Малашко В.А [подпіс]
25. [illegible]
27. [illegible] [подпіс]
28. [illegible] [подпіс]

**2-Д.** ***Асноўныя прынцыпы пераходу Беларускай ССР на рынкавую эканоміку. Кастрычнік 1990 г. Тэкст падрыхтаваны дэпутацкай Апазыцыяй БНФ. Абмеркаваны на 2-й сэсіі Вярхоўнага Савета. (Подпісы дэпутатаў, сабраныя для ксэракснага размнажэньня дакуманту і распаўсюду яго на сэсіі дзеля азнаямленьня дэпутатаў перад галасаваньнем і ўключэньнем у парадак дня.)***

Праект падрыхтаваны дэпутацкай апазіцыяй БНФ.

АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ
ДА КАНЦЭПЦЫІ ПЕРАХОДУ БЕЛАРУСКАЙ ССР НА
РЫНАЧНУЮ ЭКАНОМІКУ

Пераход Беларускай ССР на рыначную эканоміку зьяўляецца жыцьцёвай неабходнасьцю. Сумяшчэньне адміністрацыйна-размеркавальных і рыначных прынцыпаў эканомікі не можа лічыцца ні вырашэньнем праблемы, ні нават пераходным этапам, бо заканамерна прыводзіць да аднаго выніку – нястрыманага росту сьпекуляцыі, ценявой дзейнасьці, і узьнікненьню карумпаваных мафіёзных груп, да зьбядненьня людзей, недахопу тавараў першай неабходнасьці. Барацьба са сьпекуляцыяй адміністрацыйна-карнымі метадамі выніку не дае. Адзіны выхад –– пераход да прыватнай уласнасьці і развіцьцё рыначнай эканомікі.

Гэта неабходна зрабіць чым хутчэй, улічваючы, што суседнія рэспублікі аб'явілі пра свой суверэнітэт, рэальна будуюць сваю незалежнасьць, ствараюць заканадаўчую і структурную базу рынку і апярэджваюць нас па усіх паказчыках палітычных і эканамічных рэформаў.

ДЗЯРЖАЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ

Ва ўмовах тупіковага крызісу адміністрацыйнай сістэмы і апераджальных працэсаў у суседніх рэспубліках Беларуская ССР, калі яна і надалей будзе фактычна заставацца ў складзе Савецкага Саюзу і не пачне рабіць рашучых крокаў да пераходу на рыначную эканоміку, можа згубіць усе свае гаспадарчыя перавагі, што прывядзе да катастрафічнага зьбядненьня людзей, страты рэсурсаў, да эканамічнай залежнасьці Беларусі ад іншых рэспублік і краін, што вялікім цяжарам ляжа на беларускі народ.

2.

Таму першай умовай развіцьця рыначных узаемаадносін на Беларусі зьяўляецца суверэнітэт і фактычная дзяржаўная незалежнасьць Рэспублікі ад СССР. Толькі дзяржаўная незалежнасьць, магчымасьць праводзіць сваю незалежную унутранную і зьнешнюю палітыку зможа забясьпечыць нармальнае цывілізаванае існаваньне беларускаму грамадству, рэальныя ўмовы пераходу на рыначныя узаемаадносіны.

Стварэньне ўнутраннага рынку заканамерна прыводзіць да неабходнасьці зьнешнеэканамічных узаемадачыненьняў паміж дзяржавамі на аснове роўнага партнёрства і узаемавыгады.

ГРАМАДЗЯНСТВА РЭСПУБЛІКІ

Рыначная эканоміка, якая заключае ў сябе розныя формы ўласнасьці, павінна абапірацца перш за ўсё на прыватную уласнасьць і мець суб'екта гэтай уласнасьці. Суб'ектам уласнасьці ў дзяржаве зьяўляецца грамадзянін Рэспублікі, які валодае адпаведнымі правамі і абавязкамі ў дачыненьнях з дзяржавай, замацаваных Законам аб грамадзянстве Беларускай ССР.

ДЗЯРЖАЎНАЯ СТРУКТУРА УЛАДЫ

Дэмакратычнае грамадства, праз прыватызацю уласнасьці і рыначныя дачыненьні вяртае чалавека са стану люмпена у стан гаспадара, здольнага дбаць пра вынікі сваёй працы, пра будучыню грамадства, народа, прыроды і зямлі. Адраджэньне чалавека-гаспадара і самарэгулюемай эканомікі выклікае і новыя формы дзяржаўнай улады.

3.

Старая структура Саветаў адпавядала адміністрацыйна-разьмеркавальнай сістэме аднапартыйнай дыктатуры. З дэградацыяй і развалам гэтай дыктатуры старыя Саветы аказаліся недзеяздольныя як другасная, службовая форма ўлады, пабудаваная па вертыкальным іерархічным прынцыпе.

Пры пераходзе на рыначную эканоміку дзяржаўная структура павінна быць заснавана на двухступеннай выбарна-муніцыпальнай /мясцовай і тэрытарыяльнай/ сістэме ўлады з выбарнасьцю прадстаўнічых і выканаўчых органаў, гарызантальнай структурай іх кампетэнцый і роўным падпарадкаваньнем закону, дзе цэнтральныя органы ўлады вызначаюць толькі выключнасьць асобных дзяржаўных прэрагатыў. У астатнім дзейнічае закон. Абласныя структуры Саветаў ліквідуюцца.

## ГАРАНТЫІ АБАРОНЫ ЎЛАСНАСЬЦІ

Пераход на рыначную эканоміку павінен прадугледжваць стварэньне стартавых рэзерваў і гарантый рынку, гарантыі абароны прыватнай уласнасьці. Неабходна прадугледзець канверсію, скарачэньне савецкага войска і вывад яго з тэрыторыі Беларусі, уключэньне вызваленых земляў з-пад палігонаў і іншых ваенных аб'ектаў у гаспадарчую дзейнасьць. Асновай рыначнага заканадаўства павінны стаць палажэньні Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларускай ССР.

Неабходна мець на ўвазе, што гарантыяй абароны ўласнасьці зьяўляецца перш за ўсё сама прыватная ўласнасьць і прававая дзяржава, заснаванал на законах. Важнейшым кампанентам гарантый уласнасьці зьяўляецца грамадзянская супольнасьць і аснова яе --

4.

нацыянальная інтэграцыя, культура і рэлігія. Працэсы дэмакратызацыі разьвіваюцца так, што на зьмену таталітарнаму грамадству праз разьвіцьцё культуры і інтэграцыю нацыі прыходзіць грамадзянская супольнасьць людзей, дзе чалавек ёсьць асоба і суб'ект грамадства, а дзяржава выступае толькі як функцыя грамадзянскай супольнасьці.

Таму дзеля стварэньня ўмоў нацыянальнай інтэграцыі і разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці неабходны пакет законаў аб адраджэньні нацыі, культуры і грамадскіх дэмакратычных інстытутаў, якія забясьпечылі б маральную мікраструктуру новых эканамічных узаемадачыненьняў людзей.

## ГРАШОВА-КРЭДЫТНАЯ ПАЛІТЫКА

Беларуская ССР стварае ўласную грашова-крэдытную сістэму, уводзіць уласныя грошы. Комплекснае ажыцьцяўленне мер па праведзенню рэформы павінна забясьпечыць пераход да канверсуемасьці грашовай адзінкі.

Банкаўская сістэма Беларускай ССР зьяўляецца двухузроўневай, у якую ўваходзяць: нацыянальны банк Беларускай ССР, камерцыйныя банкі.

Нацыянальны банк Беларускай ССР зьяўляецца цэнтральным банкам рэспублікі, які падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету рэспублікі.

Асноўнай задачай нацыянальнага банка Беларускай ССР зьяўляецца ажыцьцяўленьне эканамічнай стратэгіі рэспублікі ў вобласьці грашовага абарачэньня, крэдытаваньня, фінансаваньня разьлікаў, зьнешнеэканамічных адносін.

5.

Нацыянальны банк Беларускай ССР сумесна з міністэрствам фінансаў БССР устанаўлівае парадак зьдзяйсненьня аперацый па касавым выкананьні дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР, арганізуе праз банкі Рэспублікі яго выкананьне. Нацыянальны банк Беларускай ССР прадстаўляе інтарэсы БССР у адносінах з цэнтральнымі міжнароднымі банкамі і іншымі фінансава-крэдытнымі ўстановамі.

Нацыянальнаму банку Беларускай ССР належыць выключнае права выпуску ў абарачэньне і выключэньня з абарачэньня грашовых знакаў рэспублікі.

Нацыянальны банк Беларускай ССР выдае ліцэнзіі на адкрыцьцё камерцыйных банкаў, зьдзяйсьняе кантроль за іх дзейнасьцю ў адпаведнасьці зь іх статутамі і дзеючым заканадаўствам.

Камерцыйныя банкі ажыцьцяўляюць сваю дзейнасьць на дагаворных асновах па абслугоўваньню юрыдычных і фізічных асобаў у адпаведнасьці са сваімі статутамі і дзеючым заканадаўствам.

Асновай стварэньня самастойнай банкаўскай сістэмы зьяўляецца пераняцьце ў СССР банкаўскіх устаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР з усімі актывамі, пасівамі, а таксама часткі рэзервных, статутных і іншых фондаў гэтых банкаў.

Стварэнне ўласнай грашова-крэдытнай сістэмы, увядзеньне ўласных грошай спалучаецца са стварэньнем мытнай службы БССР, увядзеньнем кантролю за межамі Рэспублікі і мытнямі.

Стварэньне ўласнай грашова-крэдытнай сістэмы спалучаецца з асноўнымі момантамі эканамічнай рэформы - прыватызацыяй, зямельнай рэформай і г.д.

6.

## ФІНАНСАВА-БЮДЖЭТНАЯ ПАЛІТЫКА

Бюджэт Беларускай ССР складаецца з рэспубліканскага бюджэту, бюджэтаў мясцовых і тэрытарыяльных Саветах, фондаў. Парадак фармаваньня і выкананьня рэспубліканскага бюджэта зацьвярджае Вярхоўны Савет БССР па прадстаўленьні Міністэрства фінансаў рэспублікі, бюджэты мясцовых і тэрытарыяльных Саветаў - мясцовымі і тэрытарыяльнымі Саветамі народных дэпутатаў.

Савет Міністраў рэспублікі не мае права пераразьмеркаваньня бюджэтаў мясцовых і тэрытарыяльных Саветаў, акрамя выпадкаў прадугледжаных заканадаўствам.

У пераходны перыяд павінна зьмяніцца структура даходаў і выдаткаў дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР. Даходная частка фармуецца за кошт падаткаў з насельніцтва і прыбытку юрыдычных асобаў, акцызаў.

Паступова скарачаецца асартымент тавараў, якія абкладаюцца падаткам з абароту. Устанаўліваецца парадак абкладаньня акцызамі абмежаванай колькасьці тавараў; адмяняецца датацыя стратных прадпрыемстваў, у той жа час уводзіцца выплата кампенсацый людзям з нізкімі даходамі.

На перыяд пераходу да канверсуемасці нацыянальнай валюты уводзіцца падатак на прыбытак, атрыманы ў замежнай валюце, які ўтрымліваецца ў тым жа парадку, як і падаткі ў нацыянальнай валюце.

Падтрымліваецца такі ўзровень падаткаў з насельніцтва і прыбытку юрыдычных асобаў, які актывізаваў бы прадпрымальніцтва, стымуляваў бы інвестыцыі замежнага капіталу.

7.

Уводзіцца сістэма ільготнага падаткаабкладаньня, якая забясьпечвае разьвіццё асабліва важных галінаў народнай гаспадаркі, прадпрыемстваў, стымулюе разьвіцьцё культуры, нацыянальнай мовы, дапамагае вырашэньню сацыяльных праблемаў.

Падаткавая сістэма Беларускай ССР падлягае ўзгадненьню з сістэмамі суседніх дзяржаў, прыводзіцца ў адпаведнасць з дзеючымі міжнароднымі пагадненнямі.

## АБГРУНТАВАНЬНЕ ФОРМАЎ УЛАСНАСЬЦІ. ГАРАНТЫІ ПРАВАВОЙ АБАРОНЫ РЫНКУ.

Галоўнай сілай, якая рухае грамадства, зьяўляецца мэтазгодная дзейнасьць чалавека. Задача цывілізаванага грамадства -- накіраваць гэтую дзейнасьць у рэчышча стваральнай творчасьці. Гістарычны вопыт чалавецтва паказвае, што болей за ўсё стваральнай дзейнасьці адпавядае такое ўладкаваньне грамадства, дзе ўсе людзі працы зьяўляюцца суб'ектам разнастайных формаў уласнасьці. Прыватная ўласнасьць, уласнасьць грамадзянаў, якія аб'ядналіся ў групы /калектывы/, ствараюць аснову эканамічнай сістэмы, яе падмурак. Рэспубліка ў асобе сваіх органаў улады ў адпаведнасьці з будучымі законамі забясьпечвае абсалютна аднолькавыя ўмовы для дзейнасьці ўсіх формаў і відаў уласнасьці. Дзяржаўна-прававой асновай для абароны рынкавых адносінаў павінен служыць адзін з прынцыпаў прававой дзяржавы -- падзел заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, у адпаведнасьці зь якім выканаўчая ўлада ў асобе яе органаў у цэнтры і на месцах не маюць права даваць якіх-кольвечы тлумачэньняў законаў.

8.

Дзяржава бярэ на сябе абавязак у адпаведнасьці з дэмакратычным законам не ўмешвацца ні пры якіх умовах у адносіны ўласнасьці пасля выплаты падаткаў, без уліку дзяржаўнага сектара або тых відаў уласнасці, дзе дзяржава мае сваю долю.

Кожны ўласьнік мае права ўстанаўліваць непасрэдныя эканамічныя сувязі ва ўсіх сьферах дзейнасьці, акрамя той, што забароненая законам Рэспублікі. Дзяржава захоўвае за сабой права атрыманьня поўнай інфармацыі аб зьнешнеэканамічнай дзейнасьці любога ўласьніка.

Дзеля нармальнага функцыянаваньня паўнацэннага рынку дазваляльны характар рэгістрацыі любога ўласьніка -- як юрыдычнай асобы -- павінен быць заменены на папераджальны.

Закон павінен гарантаваць захаваньне Камерцыйнай тайны. Дзяржава бярэ на сябе абавязак абараняць усе формы і суб'екты ўласнасьці. Дзяржаўныя органы абавязаны пастаянна забясьпечваць абарону ўласьніка ў пытаньнях інфармацыі аб яго вытворчасьці. Такая абарона павінна ажыцьцяўляцца выключна на дагаворных пачатках паміж уласьнікам і адпаведнымі дзяржаўнымі органамі.

## АСНОЎНЫЯ НАКІРУНКІ Ў ГАЛІНЕ АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ Ў ПЕРАХОДНЫ ДА РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІКІ ПЕРЫЯД

Увядзеньне прыватнай уласнасьці на зямлю для грамадзян Рэспублікі. Пры гэтым павінен быць распрацаваны спецыяльны парадак /механізм/ распараджэння зямлёю.

Прызнаньне зямлі як тавара на рынку.

9.

Замена бясплатнага карыстаньня зямлёй на платнае праз увядзеньне зямельнага падатку незалежна ад формы ўласнасьці. Памеры падатку на зямлю могуць залежыць толькі ад месцазнаходжаньня і кадастравай ацэнкі.

Стварэньне аднолькавых эканамічных ды палітычных умоваў разьвіцьця разнастайных формаў сельскагаспадарчай вытворчасьці.

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЎЛАСНАСЬЦІ Ў ПЕРАХОДНЫ ПЕРЫЯД

Актыўнае функцыянаванне рынку і эфектыўнасьць эканомікі магчымыя пры ахопе дзяржаўным сектарам не больш за 30-40% гаспадаркі. Таму абавязковым элементам рэформы з'яўляецца раздзяржаўленьне і прыватызацыя эканомікі, што дазваляе стварыць дынамічны сектар прыватнай маёмасьці. Прававая база дзяржавы павінна гарантаваць абарону ўсіх відаў прадпрымальніцкай дзейнасьці, акрамя абумоўленай законам.

Асноўныя прынцыпы прыватызацыі:

а/ аб'ектам прыватызацыі павінна быць дзяржаўная уласнасць, якая з'яўляецца таварам;

б/ кожны грамадзянін Беларусі мае права на частку дзяржаўнай маёмасьці, якая падлягае прыватызацыі;

в/ прыярытэт у выбары формаў прыватызацыі /прыватнае, народнае, акцыянернае, арэнднае прадпрыемства/ належыць працоўным калектывам;

г/ на першым этапе належаць прыватызацыі дробныя і сярэднія прадпрыемствы ў гандлю, абслугоўванні, у галіне вытворчасці тавараў народнага спажывання, аграрным сектары;

10.

д/ у пераходны перыяд дзяржава забяспечвае работу абарончых механізмаў супроць спекуляцыі і злоўжываньня прыватызаванай маёмасьцю;

е/ дзяржава забяспечвае ўмовы для прыцягненьня ў працэс прыватызацыі замежнага капіталу з усталяваньнем, у выпадку неабходнасьці, частковага яго абмежавання і заахвочваньня рэінвестыцыяў прыбытку ў эканоміку Рэспублікі;

ж/ інтэнсіфікацыі працэсу прыватызацыі павінны садзейнічаць ільготныя крэдытна-фінансавыя і падатковыя меры;

з/ сродкі ад прыватызацыі павінны паступаць у рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты ў абумоўленых законам частках;

і/ раздзяржаўленьню і прыватызацыі не падлягаюць прадпрыемствы, чый функцыянальны характар патрабуе дзяржаўнага кіраўніцтва.

## ЦЭНАВАЯ ПАЛІТЫКА

Пераход да цэнаўтварэньня, якое рэгулюецца толькі суадносінамі попыту і прапановы - адзіны спосаб прымусіць працаваць усе рынкавыя механізмы.

На першым этапе эканамічнай рэформы дзяржава захоўвае за сабой права прызначаць лімітныя цэны толькі на тавары першай неабходнасьці, якое падмацоўваецца ў адпаведных нарматыўных актах.

Свабода цэнаў па ўсёй номенклатуры тавараў на рынку павінна адбыцца пры завяршэньні этапу стабілізацыі і ўмацаваньню грашовай адзінкі, а таксама раздзяржаўленьня і прыватызацыі асноўнай часткі дзяржаўнай маёмасьці ў сектары

II.

рознічнага і оптавага гандлю, паслугаў і г.д.

Цэны на прадукцыю прадпрыемстваў -- манапалістаў рэгулююцца пры дапамозе спецыяльнай падаткавай палітыкі.

Рост цэнаў на пераходным этапе кампенсуецца насельніцтву ў выглядзе даплатаў у адпаведнасьці з індэксацыяй узроўню інфляцыі.

САЦЫЯЛЬНАЯ АБАРОНА НАСЕЛЬНІЦТВА
Ў ПЕРАХОДНЫ ПЕРЫЯД

Дзяржаўная палітыка ў пераходны перыяд павінна мець сацыяльную арыентацыю з дакладнымі і зразумелымі для кожнага грамадзяніна рэспублікі механізмамі яе рэалізацыі.

У пераходны перыяд неабходная сістэма сацыяльных гарантый для ўсіх слаёў насельніцтва. Да гарантый належаць:

- мінімальны пражытковы бюджэт;
- права на працоўную дзейнасьць;
- права на адукацыю і медыцынскае абслугоўваньне;
- права на жыльлё;
- права на адпачынак.

Пры гэтым рацыянальна вылучыць 4 катэгорыі грамадзян, на якіх распаўсюджваюцца дадатковыя віды сацыяльнай абароны:

I. Працаздольныя грамадзяне, занятыя ў вытворчай сьферы: пры зьяўленьні рынку рабочай сілы і беспрацоўі прадугледжваецца выплата па беспрацоўю толькі тым асобам, якія зарэгістраваныя на біржы працы і актыўна шукаюць працу; занятцё на грамадскіх работах, прадастаўленьне магчымасьці для авалоданьня новымі сьпецыяльнасьцямі, прадугледжваецца права пошуку працоўных месцаў не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі.

I2.

2. Працаздольныя грамадзяне, якія маюць фіксаваныя даходы і занятыя ў непрацоўнай сьферы, павінны мець гарантыю даплатаў у адпаведнасьці з індэксацыяй інфляцыі.

3. Часткова працаздольныя грамадзяне дадаткова павінны мець ільготнае падаткаабкладаньне. Такое ж ільготнае падаткаабкладаньне прадугледжана для прадпрыемстваў, якія ствараюць рабочыя месцы для дадзенай катэгорыі грамадзянаў.

4. Непрацаздольныя і малазабясьпечаныя грамадзяне. Для іх павінны быць прадугледжаныя датацыі з фондаў сацыяльнага забесьпячэньня, вытворчай сьферы, бюджэту рэспублікі і мясцовых органаў улады.

ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА БЕЛАРУСІ Ў ЗАХАВАНЬНІ
І АДРАДЖЭНЬНІ НАЦЫІ Ў ПЕРАХОДНЫ ПЕРЫЯД ДА
РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІКІ

Беларуская дзяржава зыходзіць з таго, што найважнейшым яе клопатам зьяўляецца забесьпячэньне карэнных інтарэсаў грамадзянаў Рэспублікі, адраджэньне і разьвіцьцё беларускай нацыі.

Чарнобыльская катастрофа паставіла народ Беларусі пад пагрозу фізічнага зьнікненьня. Яго ратаваньне патрабуе надзвычайных мераў. Пакуль Савецкі Саюз застаецца юрыдычнай асобай у міжнародна-прававым сэнсе, неабходна тэрмінова запатрабаваць ад Урада СССР поўнай кампенсацыі ў канвертуемай валюце.

Беларусь не павінна выдаткоўваць ніводнага рубля на стварэньне і ўтрыманьне зброі масавага зьнішчэньня, рэзка скараціць выдаткі на войска ўвогуле. Беларуская дзяржава не павінна ўдзельнічаць у фінансаваньні атамнай энергетыкі,

I3.

а скіраваць намаганьні на разьвіцьцё рэсурсаў ды энергазьберагаючай тэхналогіі, альтэрнатыўных крыніц здабычы энергіі. Павінна быць распрацавана Нацыянальная праграма экалагічнай бясьпекі.

У рэальных умовах свайго існаваньня Беларуская рэспубліка павінна першачарговы клопат праўляць пра выхаваньне і захаваньне сваіх навуковых і прафесійных кадраў. Трэба накіраваць дадатковыя сродкі на прыцягненьне лепшых сьпецыялістаў у стратэгічна важныя галіны навукі і тэхнікі; ва ўмовах пераходу да рынку стварыць Нацыянальны фонд навукі, заснаваць нацыянальную школу падрыхтоўкі сьпецыялістаў рыначнай эканомікі.

Паколькі Беларусь і толькі Беларусь зьяўляецца гістарычнай бацькаўшчынай беларускага народа, неабходна забясьпечыць праводзеньне дзяржаўнай палітыкі разьвіцця беларускай культуры, мовы і адукацыі. Дзяржава павінна гарантаваць долю нацыянальнага даходу, якая выдаткоўваецца на патрэбы адукацыі і культуры на ўзроўні адпаведных выдаткаў у разьвітых краінах свету, г.зн. ад 20 да 25%.

З А К Л Ю Ч Э Н Ь Н Е

ПАЛІТЫЧНЫЯ ЎМОВЫ АЖЫЦЦЯЎЛЕНЬНЯ ПЕРАХОДУ
ДА РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІКІ

Рэзкае зьніжэньне ўзроўню жыцця, інфляцыя, сьпекуляцыя, рост злачыннасьці, адсутнасьць тавараў першай неабходнасьці і, галоўнае, адсутнасьць пазітыўных палітычных і эканамічных пераменаў на Беларусі -- усё гэта выклікала глыбокае расчараваньне людзей у палітыцы, у дзейнасьці уладаў, спарадзіла апатыю, азлобленасьць і недавер да ўсялякіх дзяржаўных ініцыятываў.

I4.

У такіх варунках, калі патрэбны намаганьні ўсяго грамадства, каб вывесьці Рэспубліку на дарогу рыначнай эканомікі, ажыццявіць гэта змог бы толькі Ўрад, які б карыстаўся народным даверам. Аднак у Рэспубліцы няма такога ўраду, няма і дзяржаўнага лідэра, якому б паверыў народ. Цяперашні Вярхоўны Савет у большасьці сваёй няздольны ажыццяўляць інтарэсы народа, патрэбы беларускай нацыі. Роспуск гэтага Вярхоўнага Савета цалкам верагодны і, бадай, непазьбежны. Як адзін з варыянтаў выхаду са становішча магло б стаць склікаНьне Устаноўчага Сойму -- прадстаўнічага органа ад усіх грамадзкіх і грамадзка-палітычных арганізацый, аб'яднаньняў і рухаў на Беларусі. Функцыя Устаноўчага Сойму -- правесьці новыя выбары ў Вярхоўны Савет на аснове дэмакратычнага, зацьверджанага Устаноўчым Соймам Закона аб выбарах.

Без Ураду, якому давярае народ, перайсьці да рынку будзе вельмі цяжка. У гэтых умовах толькі дасягненьне суверэнітэту, поўнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі магло б дапамагчы народу Рэспублікі выйсьці са складанага стану.

С. Навумчык
12.10.1991.

У сакратарыят чарговай сесіі ВС БССР.

У адпаведнасьці з "Часовым рэгламентам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР" просім памножыць і распаўсюдзіць сярод народных дэпутатаў БССР тэкст "Асноўныя прынцыпы да канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рынкавую эканоміку" падрыхтаваны апазіцыяй Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце БССР.

124-400
12.10.90г.

вх. №СС-3/64
ад 12.10.90

**3-Д.** ***Асноўныя прынцыпы да канцэпцыі пераходу Беларускай ССР на рынкавую эканоміку. Праект падрыхтаваны дэпутацкай Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце ў кастрычніку 1990 г.(Подпісы – у канцы, – сабраныя дзеля памнажэньня тэксту на сэсіі ВС БССР.) Дапрацаваны тэкст эканамічнай праграмы надрукаваны ў „ Народнай газэце", – 1992, 16 красавіка.*** *(Дакумант з архіву С. Навумчыка)*

# МІЖНАРОДНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ПА ПЫТАНЬНЯХ СТВАРЭНЬНЯ БАЛТА-ЧАРНАМОРСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ*

## СУСТРАКАЛІСЯ ДЭПУТАТЫ... ПРА ШТО ГАВАРЫЛІ?..

**23-24 лістапала гэтага года *(1990-га – З. П.)* ў Менску сустракаліся прадстаўнікі Вярхоўнага Савета Летувы, фракцыі Народнага Фронту Латвіі ў Вярхоўным Савеце Латвіі, апазыцый у Вярхоўным Савеце Ўкраіны і Вярхоўным Савеце Беларусі. Многія нашы чытачы цікавяцца вынікамі гэтых перамоваў. Што ж, сакрэтаў у гэтым ніякіх няма, паведамляем падрабязнасьці. Дарэчы, пазнаёміць чытачоў з вынікамі сустрэчы папрасіла і група народных дэпутатаў БССР.**

На сустрэчы дэпутацкіх груп была прынята сумесная Заява, у якой гаворыцца аб разглядзе пэрспэктыў палітычнага, эканамічнага і гуманітарнага супрацоўніцтва паміж Балтыйскімі краінамі, Беларусьсю і Ўкраінай, а таксама магчымасьці працяглага ўзаемадзеяньня і каардынацыі сумесных намаганьняў ў дасягненьні незалежнасьці гэтых краінаў.

Дэлегацыі заявілі аб мэтазгоднасьці садружнасьці дзяржаваў гэтага рэгіёна на падставе прызнаньня суверэнітэту кожнай зь іх і аб тым, што яны прыступілі да кансультацыяў па наступных пытаньнях:

1. Вызначэньне магчымасьці міжнародных пагадненьняў аб палітычным, эканамічным і гуманітарным супрацоўніцтве гэтых дзяржаваў, а таксама аб умовах вываду савецкіх войскаў з Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну і стварэньня нацыянальных узброеных сілаў.

* Гэтая, 2-я Канфэрэнцыя па БЧС была арганізаваная дэпутацкай Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце і праходзіла ў залі Прэзыдыюму Савета Міністраў (па дамоўленнасьці з В. Кебічам, што выклікала ў Маскве нэрвовае абурэньне Ельцына). Першая канфэрэнцыя па БЧС, арганізаваная дэпутатамі БНФ, адбылася 26 красавіка 1990 г. у Менску ў „Чырвоным касьцёле" і таксама выклікала „шалёную" нэгатыўную рэакцыю камуністаў у Менску і ў Маскве (камуністычныя „асуджэньні" друкаваліся ў Звяздзе і інш. газэтах) – *(З. П.)*.

**2**. Магчымасьць утварэньня рабочых міжпарляманцкіх структураў для садзеяньня міждзяржаўным перамовам і для абмену інфармацыяй.

У Заяве выказана думка ўдзельнікаў сустрэчы, што да дасягненьня дзяржаўнай незалежнасьці рэспублік немагчыма гаварыць аб заключэньні саюзнага дагавору.

Дэлегацыі дамовіліся ўнесьці прапановы ў Вярхоўныя Саветы сваіх рэспублікаў аб стварэньні кансультацыйнай камісіі і працягу шматбаковых кантактаў па праблемах садружнасьці і ўзаемаадносінаў дзяржаваў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна.

Дэлегацыі прынялі рэзалюцыі аб эканамічным, гуманітарным супрацоўніцтве, аб падыходах да стварэньня нацыянальных узброеных сілаў дзяржаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна.

У адной з рэзалюцыяў адзначаецца, што дэлегацыі лічаць неабходным садзейнічаньне разьвіцьцю культур народаў Балтыйскіх краін, Украіны і Беларусі. Для рэалізацыі гэтага мэтазгодна ўзаемнае стварэньне культурных прадстаўніцтваў ва ўсіх нашых дзяржавах і актывізацыя сумесных дзеяньняў па адраджэньню гісторыка-культурнай самасьвядомасьці нашых народаў, а таксама:

– стварэньне сумеснага навукова-папулярнага выданьня і сумеснай газэты на дзяржаўных мовах краінаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна;
– адкрыцьцё пры ўнівэрсітэтах аддзяленьняў па вывучэньню моваў, гісторыі і культуры Балтыйскіх краінаў, Беларусі і Ўкраіны;
– сумеснае забесьпячэньне падрыхтоўкі пэдагагічных кадраў для нацыянальных меншасьцяў, якія прадстаўляюць нашы народы;
– фармаваньне аб'яднанай рабочай групы вучоных-гісторыкаў для напісаньня гісторыі дзяржаваў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна.

З дакумантаў, прынятых падчас сустрэчы, бачна, што дэлегацыі, захоўваючы прыярытэты міжнароднага права, прызнаючы прынцыпы Гэльсінскіх пагадненьняў, выступаючы за захаваньне стабільнасьці ў Балтыйска-Чарнаморскім рэгіёне, падтрымліваюць імкненьне краінаў рэгіёна стаць дзяржавамі, якія б ня мелі зброі масавага зьнішчэньня. Дэлегацыі лічаць неабходным стварэньне нацыянальных узброеных сілаў, выказваюцца за кансультацыі і каардынацыю дзеяньняў у працэсе іх утварэньня, за дружалюбныя адносіны паміж імі. Выступаючы за правядзеньне перамоваў з урадам СССР па пытаньнях часовага знаходжаньня, па статусу Узброеных Сілаў СССР на тэрыторыі краінаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна, дэлегацыі заявілі аб недапушчальнасьці праяўленьня з боку ўзброеных сілаў СССР палітычнай актыўнасьці і ўмяшаньня ў якой-небудзь форме ва ўнутраныя справы суверэнных дзяржаваў. Яны рэкамендуюць сваім урадам каардынаваць дзеяньні па забесьпячэньні вайсковай і альтэрнатыўнай службы грамадзянаў, аказваць узаемнае садзейнічаньне ў пытаньнях захаваньня правоў чалавека ў адносінах ваеннаслужачых і садзейнічаць вяртаньню іх для праходжаньня службы ў межах сваіх дзяржаваў.

Дэлегацыі прапануюць сваім урадам рабіць намаганьні для ўрэгуляваньня праблем дабраахвотнага вяртаньня ваеннаслужачых, што знаходзяцца ў запасе і ў адстаўцы (з сем'ямі) на тэрыторыі тых рэспублік, зь якіх яны прызываліся. Дэлегацыі прышлі да адзінай высновы, што пры ўмацаваньні незалежнасьці дзяржаваў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна мэтазгодна разьвіваць адзіны рынак гэтых краінаў.

Для гэтай мэты вырашана:

– рэкамендаваць Вярхоўным Саветам сваіх рэспублікаў прызнаць неабходным паважаць тэрытарыяльную цэласнасьць дзяржаваў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна;
– прызнаць права ўласнасьці рэспублікаў на ўсю маёмасьць, якая знаходзіцца на іхных тэрыторыях;
– стварыць паўнамоцныя прадстаўніцтвы і інфармацыйныя цэнтры ў сталіцах дагаворных бакоў.

Рэкамендавана ўрадам рэспублік, якія дамаўляюцца, забясьпечыць умовы для захаваньня і пашырэньня непасрэдных гаспадарчых сувязяў паміж гаспадарнымі суб'ектамі рэспублік,

вызначыць сфэры сумеснай гаспадарчай дзейнасьці і спрыяць іхнаму разьвіцьцю,

прыняць меры да стварэньня агульных супрацьблякадных і страхавых фондаў,

праводзіць узгодненую палітыку па падзелу залатога запасу і алмазнага фонду СССР.

Удзельнікі сустрэчы накіравалі тэлеграму на адрас Вярхоўнага Савета РСФСР, у якой выказваюцца спадзяваньні на супрацоўніцтва з суверэннай Расеяй.

Як было падкрэслена на прэс-канфэрэнцыі, сустрэча груп дэпутатаў насіла рэкамендацыйны характар, таму што яны не прадстаўлялі афіцыйна свае парляманты.

* * *

**Інфармуючы чытачоў аб прайшоўшай сустрэчы прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета Летувы, фракцыі Народнага Фронта Латвіі ў Вярхоўным Савеце Латвіі, апазыцыяў у Вярхоўным Савеце Ўкраіны і Вярхоўным Савеце Беларусі, рэдакцыя „Народнай газеты” лічыць, што няма неабходнасьці камэнтаваць яе вынікі, таму што, думаецца, гэта будзе зроблена Вярхоўным Саветам рэспублікі на маючай адбыцца сэсіі.**

*Надрукавана: („Народная газета”,– 1990, 4-11 сьнежня, (№10). Рубрыка „Пасьля падзеі”).*


(Фота з Сеціва)

**5-Д.** ***Менск 1930-х гадоў напярэдадні вайны. Відаць рог скверу ля Купалаўскага тэатра.***

# БЧС – ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЕЎРОПА Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ

На Беларусі завяршылася першая ў яе гісторыі прэзідэнцкая кампанія.

Сілы наменклатуры, якія ўдзельнічалі ў першым туры выбараў былі падзелены на 4 часткі: перш-наперш «наш любимый Вячеслав Францевич» — гэта буйная наменклатура, якая і праводзіць так званую «прихватизацию». З другога боку «былы камуніст за дэмакратыю» Аляксандр Лукашэнка, які аб'яднаў тых, хто не хоча працаваць, а жадае зноў сьпяваць знаёмую песьню «Мой адрес не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз». Найбольш кансерватыўныя камуністычныя сілы прасталінскай накіраванасьці ўзначаліў Васіль Новікаў, а вясковых старшынь калгасаў і саўгасаў, асабліва з Гродзеншчыны і Берасьцейшчыны, аб'яднаў пад сваім штандарам Аляксандр Дубко. Гэтыя два апошнія ў выніку першага тура правaліліся.

У праграмах усіх чатырох аб лёсе Беларусі ў наступным стагоддзі шмат агульнага, бо ўсе бачаць Беларусь як і раней, моцна прывязанай да Расіі. Толькі адны мараць зноў вярнуць СССР, другія вядуць гаворку аб союзе «трох славянскіх рэспублік», а трэція згодны ісьці ў Расію на правах «Северо-Западного края».

Асабліва ім не падабаецца ідэя Балтыйска-Чарнаморскай садружнасьці, выказанай і распрацаванай парламенцкай апазіцыяй на платформе БНФ яшчэ ў 1990 годзе. Якраз восеньню 1990 г. у Менску, у будынку Савета Міністраў БССР адбылася нарада на гэту тэму з удзелам дэпутатаў ад БНФ, Народнага фронту Латвіі, «Саюдзіса» і ўкраінскага Руху. Былі выпрацаваны накірункі агульнай працы па рэалізацыі гэтай ідэі, якая, нягледзячы на моцнае супрацьдзеяньне шматлікіх мясцовых і замежных палітычных рухаў, пакрысе рухаецца наперад.

І менавіта рэалізацыі вышэйзгаданага праекта, як «нячыстая сіла — крыжа», баяцца праваднікі імперскай палітыкі пэўных колаў сёньняшняй Расіі. Дастаткова толькі пагартаць некаторыя беларускія газеты: «Звязда» ад 1 чэрвеня 1994 г. З выступленьня Старшыні Саўміна Беларусі сп.В.Кебіча на мінскім маргарынавым заводзе... «Цяпер коратка аб нашых агульных праблемах.

Разарваныя эканамічныя сувязі, і ў першую чаргу з Расіяй, паставілі нас у вельмі складаныя ўмовы дэфіцыту практычна ва ўсім.

А дзе выйсьце? Будаваць перспектыўныя «балтыйска-чарнаморскія» утопіі, чакаць дапамогі ад Захаду, як прапануюць некаторыя нашы палітыкі?

«Фемида» N 21, 30 мая — 5 чэрвеня 1994 г. З артыкула віцэ-прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў Беларусі, пісьменьніка-фантаста А.Патупы «Выборы президента и центристский выбор»: «Прямо скажем, что наша страна сохранила наиболее высокий уровень диалога с Россией среди других республик бывшего СССР. Возвести свои претензии и обиды на принципиальную высоту не так уж трудно. Одно только выталкивание из рублевой зоны чего стоит... Но повернись мы к России спиной, практически неизбежно возникла бы «Черноморско-Балтийская полоса». Суверенные западные границы Росии — голые. На юге — полыхающий Кавказ, весьма специфические напряжения на рубежах казахстанско-среднеазиатского региона, заметно увеличивающаяся прозрачность китайской границы..."

«Советская Белоруссия» 3 чэрвеня 1994 г. З публікацыі ўласнага карэспандэнта «СБ» В.Аўгарова «Кто вбивает клин?»: «В качестве противовеса России предлагается учредить некое Балтийско-Черноморское сообщество государств. А временно находящиеся на территории Белоруссии стратегические силы России называются не иначе как »оккупационная армия", экономический и денежный союз з Россией — «аморальным и предательским шагом».

Усе гэтыя цытаты яскрава сьведчаць, што шаноўныя «господа-товарищи» вельмі напалоханы тым, што пасьля двухсотгадовага панаваньня Расіі і яе пераемніка СССР у Цэнтральнай Еўропе сітуацыя можа зьмяніцца і Беларусь зноў стане краінай арэалу заходнееўрапейскай цывілізацыі, якой яна і была з XI па XVIII ст.

6-Д. ***БЧС – Цэнтральная Эўропа ў XXI стагоддзі. Урывак пра БЧС з артыкула Алега Трусава.*** (*„Менская Грамада", – 1994, ліпень, №1(6)*)



(Фота з Сецціва)

7-Д. ***Менск сярэдзіны 1950-х гадоў. Уваход у сквер ля тэатра імя Янкі Купалы.***

Найважнейшыя заканапраекты і іншыя заканадаўчыя
ініцыятывы, распрацаваныя і прадстаўленыя
Апазіцыяй Беларускага народнага Фронту
ў Вярхоўным Савеце Беларусі
ў 1990--1994 гадах

I. "Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі" /першая сесія, ліпень 1990 г./.

У праекце Дэкларацыі прапаноўвалася абвясціць незалежнасць беларускай дзяржавы як гістарычнай пераемніцы Беларускай Народнай Рэспублікі. Абвяшчалася стварэнне сваёй рынкавай сістэмы гаспадарання, фінансава-крэдытнай сістэмы, свайго войска. Упершыню быў абгрунтаваны тэзіс аб нейтральнасці і бяз"ядзернасці Беларусі, якая моцна пацярпела ад войнаў і Чарнобыльскай катастрофы. Праект Дэкларацыі быў распрацаваны і ўхвалены Першай канферэнцыяй БНФ /Мінск, 30.06.--I.07. 1990/.

2. Закон "Аб грамадзянстве Беларусі" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

У заканапраекце прадугледжвалася бесперашкоднае наданне грамадзянства Беларусі ўсім грамадзянам/ незалежна ад нацыянальнасці і іншых крытэрыяў/, што жывуць на момант прыняцця гэтага закона на тэрыторыі Беларусі і пэўныя абмежаванні для тых, хто прыязджае ў Беларусь у будучым /сямігадовы цэнз пражывання, павага да Канстытуцыі і законаў нашай дзяржавы/. Пасля жнівеньскага путчу 1991 года парламенцкая большасць фактычна пагадзілася з канцэпцыяй закона, прапанаванай апазіцыяй.

3. Эканамічная праграма -- канцэпцыя пераходу Беларусі да сацыяльна-рыначнай эканомікі /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

У дакуменце былі выкладзеныя падставовыя прынцыпы эканамічнай рэформы і пераходу да рынку ў Беларусі. Падрабязны, дапрацаваны варыянт канцэпцыі надрукаваны ў "Народнай газеце" за 16.04.1992.

4. Закон "Аб уласнасці" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

У гэтым заканапраекце не толькі ўпершыню ў тагачаснай БССР прызнавалася права на раўнапраўнае існаванне прыватнай уласнасці, побач з іншымі формамі /муніцыпальная ўласнасць, дзяржаўная ўласнасць/, але закладаліся таксама асновы будучага механізму прыватызацыі.

5. Закон "Аб прадпрыемстве" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

Прадугледжвалася існаванне прадпрыемстваў з рознымі формамі ўласнасці. Гарантавалася свабода гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў, вызначалася іх адказнасць перад спажыўцамі прадукцыі і перад працоўнымі калектывамі.

6. Закон "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

У заканапраекце прапанавана і дэталёва абгрунтавана муніцыпальная сістэма мясцовага самакіравання з выбарамі кіраўніка мясцовай адміністрацыі ўсім насельніцтвам адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі. Тут закладзены падмурак для рэалізацыі ідэі новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі /без сённяшняга абласнога звяна/.

7. Кодэкс "Аб зямлі" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

У праекце ўпершыню ў БССР прызнаваліся і атрымлівалі юрыдычны статус дзве формы ўласнасці на зямлю -- дзяржаўная і прыватная. Падрабязна быў сфармуляваны механізм вызначэння рэальнага кошту зямлі, перадачы зямлі ва ўласнасць грамадзянам.

8. Закон "Аб банках і банкаўскай дзейнасці" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

У праекце дакладна вызначаліся асновы стварэння і функцыянавання самастойнай банкаўскай сістэмы Беларусі, вызначалася мэта -- пераход у будучым да сваёй нацыянальнай валюты.

9. Закон "Аб арэндзе" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990 г./.

У заканапраекце дакладна вызначаўся механізм арэнды ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, сферы абслугоўвання, прававыя асновы выкупу арэндаваных дзяржаўных аб"ектаў.

10. Пастанова Вярхоўнага Савета "Аб першачарговых мерах па выкананні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у галіне нацыянальнай ваеннай палітыкі БССР" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990/.

Паводле праекта Пастановы, Савет Міністраў БССР павінен быў да 1.12.1990 г. вырашыць пытанне аб пераводзе грамадзян БССР, якія праходзілі тады вайсковую службу ў раёнах міжнацыянальных і іншых канфліктаў, на тэрыторыю Беларусі. З восені 1990 г. прызыў грамадзян рэспублікі павінен быў ажыццяўляцца толькі ў войскі, што дыслакуюцца на тэрыторыі БССР.

11. Дэкрэт "Аб уладзе" /другая нечарговая сесія, кастрычнік 1990 г./.

Паводле праекта гэтага дэкрэта, з гэтай пары ўладу ў Беларусі павінен быў ажыццяўляць толькі сам народ праз выбраныя ім органы кіравання або праз рэферэндумы. Забаранялася манаполія якой-небудзь палітычнай арганізацыі на ўладу.

12. Пастанова Вярхоўнага Савета "Аб дэнансацыі Саюзнага дагавора 1922 г." /уносілася на другой нечарговай, чацвёртай, пятай нечарговай, шостай, была прынята амаль аднагалосна на сёмай сесіі/.

Пастанова павінна была забяспечыць рэальнае юрыдычнае афармленне незалежнасці беларускай дзяржавы.

13. Закон "Аб міліцыі" /трэцяя сесія, студзень 1991 г./.

Заканапраект быў распрацаваны апазіцыяй БНФ разам з супрацоўнікамі нізавых структур міліцыі і прадугледжваў больш выразную адказнасць міліцыі за свае дзеянні і большыя сацыяльныя гарантыі для міліцыі -- калі параўноўваць з праектам Саўміна.

14, Закон "Аб рэферэндуме" /трэцяя сесія, студзень 1991 г./.

Ініцыятыва заканапраекта з самага пачатку належала апазіцыі БНФ. У распрацаваным ёй варыянце вельмі дакладна акрэслівалася кола пытанняў, па якіх можна праводзіць рэферэндумы, дэталёва быў распісаны механізм збору подпісаў, механізм кантролю на ўчастках для галасавання і г.д.

15. Закон "Аб фермерскай (сялянскай) гаспадарцы" /трэцяя сесія, снежань 1990 г./.

Законапраект, у шмат якіх дэталях паўтараючы палажэнні прынятага на той час адпаведнага закона Расійскай Федэрацыі, вызначаў магчымасці грамадзян Беларусі заснаваць сваю сялянскую гаспадарку, узяць неабходныя крэдыты, атрымаць ва ўласнасць зямлю, іншыя ўгоддзі і г.д.

16. Закон "Аб дэпартызацыі" /чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета, май 1991 г./.

У заканапраекце прадугледжвалася забарона стварэння і функцыянавання структур палітычных партый і аб"яднанняў іншага характару, якія ставяць перад сабой палітычныя мэты, на прадпрыемствах, ва ўстановах, органах КДБ, міліцыі, суда пракуратуры і інш.

17. Закон "Аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі" /чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета, май 1991 г./.

Закон прадугледжваў магчымасці правядзення сапраўды дэмакратычных, раўнапраўных выбараў у новы парламент Беларусі, па змяшанай мажарытарна-прапарцыянальнай сістэме, забяспечваў арганізацыю эфектыўнага кантроля за захаваннем Канстытуцыі і законаў пры падрыхтоўцы і ў ходзе выбараў. Праект быў апублікаваны 4.03.1992 г. у"Народнай газеце" і атрымаў фактычную падтрымку каля 450 тыс. выбаршчыкаў пад час кампаніі збору подпісаў за рэферэндум у 1992 г.

18. Пастанова Вярхоўнага Савета "Аб сістэме абароны і нацыянальнай бяспекі Беларусі" /шостая сесія, верасень 1991 г./.

У праекце Пастановы вызначаліся прынцыпы стварэння нацыянальных Узброеных Сіл Беларусі /Беларускага войска/, прадугледжвалася магчымасць паступовага пераходу да прафесіяналізацыі войска.

19. Пастанова "Аб прызнанні права прыватнай уласнасці на зямлю" /шостая сесія, верасень 1991 г./.

20. Закон "Аб роспуску структур КПСС--КПБ і пераводзе ў дзяржаўную ўласнасць яе маёмасці на тэрыторыі Беларусі" /шостая сесія, верасень 1991 г./.

21. Закон "Аб дзяржаўных служачых" /сёмая сесія, лістапад 1991 г./. У заканапраекце прадугледжваліся павышаныя сацыяльныя гарантыі для розных катэгорый дзяржаўных служачых і дакладна вызначаліся іх аба-

**8-Д.** ***Найважнейшыя заканапраекты і іншыя заканадаўчыя ініцыятывы, распрацаваныя і прадстаўленыя дэпутацкай Апазыцыяй Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Беларусі ў 1990-1993 гадах. Сьпіс складзены Лявонам Баршчэўскім у тым часе.***

3 стар. 16 КРАСАВІКА 1992 г.

# КАНЦЭПЦЫЯ ЭКАНА
# Ў РЭСПУБЛІЦ

## (прапануецца Апазіцыяй БНФ у Вяр

**Галоўнаму рэдактару**
**«Народнай газеты»**
**сп. СЯРЭДЗІЧУ І. П.**

**Тэкст канцэпцыі эканамічнага развіцьця Беларусі, падрыхтаваны Апазіцыяй БНФ, прашу надрукаваць на беларускай мове, так, як ён напісаны, без перапраўленьня на сталінскі сурагат.**

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусі.**

### Уводзіны

Прынцыпы пераходу эканомікі Беларусі да рыначных узаемадачыненьняў і шэраг законапраектаў, прапанаваных дэпутацкай Апазіцыяй Беларускага Народнага Фронту ў 1990 годзе, былі адкінуты камуністычна-наменклатурнай большасьцю Вярхоўнага Савету. Была зроблена стаўка на стабілізацыю эканомікі загадна-адміністрацыйнымі мэтадамі пры захаваньні дзяржаўнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці і манапалізму дзяржаўных уладна-эканамічных структураў. Рынкавая рэформа не праводзілася, заканатворчасьць насіла бессыстэмны, хаатычны характар; прынятыя законы не выконваліся, альбо сабатаваліся старымі выканаўчымі органамі ўлады. Рынкавыя структуры не разьвіліся належным чынам. У выніку зьявіліся ценявыя прадпрымальніцтва і гандаль, вырасла крымінальная сыстэма эканомікі на аснове спалучэньня камандна-адміністрацыйнай улады, дзяржаўнай уласнасьці, рынкавых утварэньняў і карумпаванага заканатворства. Пачалася скрытая, незаконная, «дзікая» прыватызацыя, перапампоўваньне дзяржаўных фондаў і рэсурсаў у прыватную уласнасьць дзяржаўнай бюракратыі і мафіёзных структураў, перавод безнаяўных грошай у наяўныя, усталяваньне двайных цэнаў (дзяржаўных і ценявых). Усё гэта паскорыла інфляцыю, зьнікненьне тавараў, рост беспрацоўя, зьбядненьне людзей і агульнае зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі.

Працэс абрабаваньня беларускага народа былой камуністычнай бюракратыяй адбываецца на фоне вялай дзяржаўнай палітыкі, адсутнасьці ўвагі да каштоўнасьцяў сувэрэнітэту і нацыянальных інтарэсаў Беларусі. Гэта прывяло да залежнасьці Беларусі ад хворай эканомікі некаторых суседніх дзяржаваў, да капітулянцтва, марнатраўства народнай працы і багацьцяў Рэспублікі, моцна паўплывала на зьбядненьне беларускага народа ў сувязі з навязанай нам так званай лібералізацыяй цэнаў (фактычна іх падвышэньнем); закрывае свабодныя перспэктывы разьвіцьця Беларусі як вольнай эўрапейскай дзяржавы. Эканоміка Рэспублікі стаіць перад пагрозай калапсу.

Адначасна на Беларусі пачынаецца вельмі небясьпечны крызіс культуры, дэвальвацыя каштоўнасьцяў, зьмешваньне крытэрыяў, распад традыцыйных прафэсійных структураў, камэрцыялізацыя творчасьці і рэзкае ў сувязі з гэтым зьніжэньне ўзроўню. Крызіс ахапіў таксама фундамэнтальную навуку. Усе гэта на фоне дэфармаванай, нясьпелай нацыянальнай сьвядомасьці надзвычай абцяжарвае выхад з эканамічнай пасткі, аслабляе магчымасьці так неабходнай у гэтым становішчы нацыянальнай кансалідацыі і самаарганізацыі беларускага грамадзтва.

Паколькі ў аснове пагаршэньня эканамічнага стану дзяржавы ляжаць групавыя матэрыяльныя інтарэсы кіруючай камуністычнай бюракратыі, якія супярэчаць патрэбам народу, крызіс на Беларусі бязвыходны бяз адхіленьня былой камуністычнай наменклатуры ад улады. Перамена ўлады на карысьць народу можа адбыцца толькі шляхам нечарговых выбараў на аснове дэмакратычнага закону. Менавіта, выходзячы з магчымасьці дэмакратычных пераменаў на Беларусі, і плануецца гэтая канцэпцыя. Яна неажыцьцявімая ў цяперашніх абставінах, бо падрывае манапольныя магчымасьці і ўладу былой наменклатурнай бюракратыі, аднак яна стасуецца да дэмакратычнага спосабу разьвіцьця грамадзтва, будзе спрыяць умацаваньню беларускай дзяржавы.

### Мэта рэформы

Мэтаю рэформы ёсць стварэньне эфэктыўнай эканомікі, здольнай забясьпечыць высокі ўзровень жыцьця грамадзян і эканамічны сувэрэнітэт Рэспублікі Беларусі. Пры гэтым пераход да рынкавых адносін разглядаецца як мэта і сродак.

### Мэтады рашэньня

Выкарыстаньне планава-адміністрацыйных мэтадаў для пераходу да рынкавых адносін з наступнай арыентацыяй на рынкавыя мэханізмы, пакідаючы за дзяржаўнымі структурамі рэгуляваньне эканомікі на макраскапічным узроўні.

### Аналіз прычынаў крызісу эканомікі

Прычыны крызісу, акрамя палітычных чыньнікаў, пералічаны ніжэй:

1. Празьмерны ўзровень расходаў у ваенна-палітычнай галіне былога СССР (ваенныя расходы, падтрымка «сяброўскіх» рэжымаў і партыяў, правядзеньне геапалітыкі, удзел у канфліктах і войнах). Дзесяцігодзьдзі праводзілася палітыка на абрабаваньне эканомікі ўсіх рэспублікаў СССР. На фінансаваньне гэтай палітыкі пайшлі даходы ад прададзеных за мяжу прыродных рэсурсаў, адкладзеная вартасьць працы (пэнсійны фонд, назапашваньні насельніцтва ў ашчадбанках СССР, амартызацыйныя назапашваньні). Трэба таксама ўлічваць, што ў СССР увесь час падтрымліваўся нізкі ўзровень аплаты працы.

2. Парушэньне базавых эканамічных адносінаў уласнасьці. Рабілася спроба ўвесьці рынкавыя мэханізмы і паказчыкі ў нярынкавую эканоміку, што прывяло да страты кіравальнасьці і анархіі ў вытворчасьці, парушэньня адносінаў меры працы і спажываньня, вынікам чаго стала спэкуляцыя, спад вытворчасьці, інфляцыя.

3. Пасьлядоўнае разбурэньне грашовай і крэдытна-фінансавай сыстэмы. Адсутнасьць інстытутаў захаваньня ўстойлівасьці фінансавай сыстэмы (цэнтраль-

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# ...АМІЧНАЙ РЭФОРМЫ ...Ы БЕЛАРУСІ

## ...рхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі)

нага банку, рэзэрвовай сыстэмы рублёвай зоны і г. д.). Пакрыцьцё дэфіцыту за кошт незабясьпечанай эмісіі грошай. Сьвядомае правядзеньне інфляцыйнай палітыкі.

4. Правядзеньне зьнешнеэканамічнай палітыкі, накіраванай супраць уласнага (унутранага) вытворцы, што асабліва датычыцца сельскагаспадарчай вытворчасьці.

5. Захаваньне татальнай дзяржаўнай уласнасьці як у прамысловасьці, так і дэ-факта ў сельскай гаспадарцы.

6. Адсутнасьць мэтаў і праграмы пераводу народнай гаспадаркі на іншыя прынцыпы, на іншы спосаб вытворчасьці, заснаваны на свабоднай рынкавай эканоміцы.

## Прынцыпы рэформы

— Рэфармаваньне эканомікі Рэспублікі Беларусі ажыцьцяўляецца ва ўмовах наяўнасьці ўсіх чыньнікаў, што вызначаюць дзяржаўнасьць Рэспублікі Беларусі: мяжа, мытня, свая валюта і банкавая сыстэма з цэнтральным банкам, магчымасьць абароны дзяржаўнага сувэрэнітэту (нацыянальнае войска).

— Непарушнасьць прынцыпаў недатычнасьці ўласнасьці і захаваньня права ўласнасьці.

— Раздзяленьне для дзяржаўнага сэктару функцый улады і ўласнасьці (уладныя перадаюцца міністэрствам, холдынгавым кампаніям, канцэрнам і г. д., маёмасныя — альбо Камітэту па дзяржмаёмасьці, альбо Фонду дзяржмаёмасьці, уласнасьць на зямлю дзяржфонду — Зямельнаму Фонду).

— Заканадаўчае фармаваньне рынкавых дачыненьняў пры роўнасьці ўсіх формаў уласнасьці, якімі забесьпячаюцца:

а) свабода эканамічнай і гаспадарчай дзейнасьці фізічным і юрыдычным асобам;

б) свабода спажываньня суб'ектам на рынку;

в) стварэньне ўмоў і забесьпячэньне канкурэнцыі вытворцаў тавараў і паслугаў.

— Недапушчэньне зьмешваньня на прадпрыемствах прынцыпаў, мэтадаў і структураў адміністрацыйна - разьмеркавальнай і рынкавай сыстэмаў.

— Прызнаньне магчымасьці ўваходжаньня ў рынкавыя дачыненьні: увядзеньне ўсяго комплексу рынкавых мэханізмаў да заканчэньня правядзеньня прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці.

— Стварэньне прыватнага (недзяржаўнага) сэктару эканомікі Беларусі шляхам правядзеньня разьдзяржаўленьня і прыватызацыі, а таксама правядзеньне дзяржаўнай палітыкі падтрымкі прадпрымальніцкай дзейнасьці. Потым сумяшчэньне прыватызацыі з нацыяналізацыяй.

— Прыняцьце ўзроўню ваенных расходаў не больш за 6—8 працэнтаў бюджэту. (На пераходны перыяд можа быць іншы ўзровень).

— Правядзеньне дзяржаўнай палітыкі паводле структурных зьменаў Рэспублікі Беларусі на грунце рынкавых падыходаў.

— Правядзеньне валютнай рэформы і заканадаўчае замацаваньне грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусі ў якасьці адзінага плацежнага сродку на тэрыторыі Беларусі.

— Фармаваньне падаткавай сыстэмы, накіраванай на павелічэньне аб'ёмаў вытворчасьці, прадукцыйнасьці працы, правядзеньне актыўнай амартызацыйнай і інвэстыцыйнай палітыкі.

— Правядзеньне сацыяльнай палітыкі, накіраванай на падтрымку неабароненых слаёў насельніцтва за кошт падаткавай палітыкі і стварэньня пазабюджэтных фондаў, а таксама вырашэньне пытаньняў унутранай дзяржаўнай пазыкі (пэнсійнага фонду, накапленьняў у дзяржбанку) за кошт продажу часткі дзяржаўнай маёмасьці, у тым ліку залішняй ваеннай маёмасьці.

— Фармаваньне дзяржаўнасьці Рэспублікі Беларусі. Рэспубліка Беларусь у адпаведнасьці з канстытуцыйным заканам фармуе самастойныя дзяржаўныя інстытуты, якія дазваляюць праводзіць знешнюю і ўнутраную палітыку ў інтарэсах Беларусі.

## Непарушнасьць прынцыпаў недатычнасьці ўласнасьці і захаваньня права ўласнасьці

Патрабуецца спарадкаваць дачыненьні ўласнасьці ў эканоміцы Рэспублікі Беларусі. На прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасьці ўзнавіць права ўласьніка-дзяржавы на дзяржаўную ўласнасьць, якая павінна выкарыстоўвацца для вырашэньня эканамічных і сацыяльных праблемаў усяго народу Рэспублікі Беларусі. У зьвязку з гэтым Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусі неабходна прыняць заканадаўчы акт, які б пацьвердзіў пералік прадпрыемстваў, аб'ектаў, зямлі і карысных выкапняў, водаў і паветранай прасторы, што зьяўляецца дзяржаўнай уласнасьцю Рэспублікі Беларусі. Такім чынам, пацьвярджаецца права дзяржавы як уласьніка прымаць рашэньне пра лёс уласнасьці, адказваць за яе эфэктыўнае выкарыстаньне і атрымліваць прыбытак на ўкладзены дзяржавай капітал, акрамя падаткаў, што атрымлівае ў агульным парадку. Упарадкоўваюцца адносіны ўласьніка з калектывам наёмнай працы і найманай уласьнікам асобай або органам кіраваньня.

Строгае выкананьне прынцыпаў недатыкальнасьці ўласнасьці не дазволіць надалей лічыць калгасы дзяржаўнай уласнасьцю. Зямля павінна арандавацца калгасамі ў дзяржавы. А калгасную ўласнасьць давядзецца лічыць калектыўнай з вызначэньнем паю для кожнага, хто працуе ці працаваў у калгасе, а таксама іхніх спадкаемцаў. За гэтым абавязкова наступае фактычнае разьняволеньне сельскагаспадарчай галіны.

У заканадаўчым акце пацьвярджаецца суб'ект права дзяржаўнай уласнасьці — Камітэт дзяржаўнай уласнасьці (або Фонд дзяржаўнай уласнасьці).

Як вынікае з вышэйпададзенага, павінна быць адноўлена манаполія дзяржавы на ўнутраны і зьнешні гандаль пэўнай прадукцыяй прадпрыемстваў дзяржаўнага сэктару, які доўга яшчэ застанецца манаполіяй дзяржавы: асноўнымі відамі сыравіны, ювэлірнымі вырабамі, алкагольнымі вырабамі, зброяй. Для аховы дзяржаўнай манаполіі на продаж гэтых тавараў уводзіцца строгая крымінальная адказнасьць.

Дзяржава гарантуе недатыкальнасьць і абарону ўласнасьці й права ўласнасьці для ўсіх формаў уласнасьці праваахоўнымі й страхавымі захадамі.

— захаваньнем пастаяннага індэксу цэнаў на асноўныя спажывецкія тавары.

Толькі пры пастаянным індэксе цэнаў рэнтабельнасьць аказваецца непаракрыўленая, што правільна арыентуе гаспадарчых кіраўнікоў. Такім чынам, галоўная задача Нацыянальнага банку як цэнтральнага банку — гэта забесьпячэньне пастаяннага індэксу цэнаў праз рэгуляваньне колькасьці грошай у абарачэньні.

Мытная палітыка: вываз сыравіны й тавараў неглыбокай перапрацоўкі абкладаецца высокім падаткам, навукаёмістая прадукцыя й тавары з глыбокім узроўнем перапрацоўкі падаткам могуць і не абкладацца. Танныя сыравіна й працоўныя рэсурсы ў Рэспубліцы будуць вабіць замежны капітал для арганізацыі на Беларусі эфэктыўнай вытворчасьці тэхналягічна складанай прадукцыі, на ўвоз якой ня будуць уводзіцца высокія падаткі. Што да доступу тавараў зь іншых краінаў на рынак Рэспублікі, тут трэба праводзіць дыфэрэнцыяваную мытную палітыку, не дапускаючы краху ўласных вытворцаў, але абвяшчаючы пры гэтым, што на працягу пэўнага часу падаткі на ўвезеныя тавары будуць зьніжацца і будзе ўстаноўлены тэрмін іх адмены.

Праводзячы валютную рэформу, давядзецца рашаць наступныя пытаньні:

— тэхнічныя, зьвязаныя з вырабам грошай;

— мэтадычныя, зьвязаныя з тым, якім чынам уводзіць новыя грошы і зь якім маштабам цэнаў;

— ацэнка аб'ёмаў (масы) наяўных грошай;

— вызначэньне неабходных рэзэрваў СКВ для рэалізацыі ўнутранай канвэрсавальнай грашовай адзінкі;

— абарона грашовай сыстэмы;

— валютныя пагадненьні з суседнімі дзяржавамі, уключна з былымі рэспублікамі СССР;

— атрыманьне крэдытаў у СКВ пад заклад багацьцяў Беларусі для стварэньня запасаў сыравіны, энэргарэсурсаў і камплектацыі для забесьпячэньня ўстойлівай работы эканомікі на некалькі цыклаў вытворчасьці ў пачатковы перыяд рэформы.

Мэтазгодна ў адначасьсе з валютнай рэформай прывесьці структуру цэнаў у адпаведнасьць са структурай цэнаў эўрапейскіх дзяржаваў, улічваючы розьніцу ў тэхналёгіях. Пажаданая арыентацыя наміналаў купюр, цэнаў на аналягічныя рашэньні ў ФРГ.

Заканадаўча трэба замацаваць на тэрыторыі Беларусі толькі і выключна адзін плацёжны сродак— яе грошы. Выкарыстаньне іншых валют забараняецца законам і парушэньне забароны крымінальна караецца, па-першае, а па-другое, мае быць забясьпечаная эканамічная выгада выкарыстаньня грошай Рэспублікі Беларусі.

## Плян дзеяньняў. Падрыхтоўчы пэрыяд

1. Масіраваная прапаганда праграмы рэформаў.

2. Навучаньне кіраўнікоў гаспадарак уласьцівасьцям рынкавага мэханізму.

3. Падрыхтоўка фінансавай сыстэмы для абслугі рынкавых дачыненьняў:

— падрыхтоўка валютнай і структурнай цэнавай рэформаў;

— анулююцца ўсе безнаяўныя грошы на рахунках юрыдычных асобаў або зьмяншаюцца ў некалькі разоў;

— уводзяцца безнаяўныя беларускія грошы або адкрываюцца паралельныя рахункі ў існуючых камэрцыйных банках па спэцыяльнай праграме.

4. Дзяржаўная ўласнасьць дзеліцца на рэспубліканскую й муніцыпальную, даецца права яе прыватызацыі адпаведнымі ўзроўнямі дзяржаўнага кіраваньня ў межах дзейнага заканадаўства.

5. Увесь гандаль таварамі спажываньня звыш устаноўленай вартасьці заканадаўча пераводзіцца толькі (!) на безнаяўны разьлік з адзінага рахунку грамадзян зь ягонай рэгістрацыяй у пашпарце і г. д.

6. Заканадаўча даецца месячны тэрмін, каб перавесьці на адзіны асабовы рахунак грошы з усіх іншых рахункаў і наяўныя грошы без дэкларацыі пра крыніцу даходаў.

Усе сродкі, якія будуць паступаць на адзіны асабовы рахунак пасьля ўстаноўленага тэрміну, павінны падмацоўвацца дакумэнтамі, што засьведчаць законнасьць крыніцаў даходу.

7. Замарожваюцца на адзін год грашовыя назапашваньні звыш вызначанай сумы для набыцьця тавараў спажываньня, апрача спэцыяльна абумоўленых выпадкаў.

У інвэстыцыйнай дзейнасьці замарожаныя сродкі дазволена выкарыстоўваць без абмежаваньняў.

8. Заканадаўча ўводзіцца новы мэханізм падаткавай палітыкі, які прадугледзіць многаканальнасьць і самастойнасьць вызначэньня ставак падатку.

Памеры падаткавых ставак вызначаюцца адпаведна патрэбам бюджэтаў у межах разьдзелу паўнамоцтваў дзяржаўных органаў рознага ўзроўню.

З прадпрыемстваў бяруцца падаткі за выкарыстаньне прыродных рэсурсаў, шкоднае ўзьдзеяньне на навакольле, вызначаецца акцызны падатак на вытворчасьць тавараў, што задавальняюць шкодныя звычкі чалавека, а таксама на вытворчасьць прадметаў раскошы.

9. Фармуецца адзіная падаткавая інспэкцыя. У Крымінальны кодэкс уводзяцца артыкулы аб пакараньні за ўкрываньне даходаў.

10. Заканадаўча забараняецца браць падаткі з сродкаў, што ідуць на інвэстыцыі.

11. Заканадаўча забараняецца выдаткаваньне бюджэтных сродкаў на камэрцыйную дзейнасьць.

12. Ствараецца фонд адаптацыі насельніцтва і прадпрыемстваў да новага гаспадарчага мэханізму.

13. Ствараюцца службы сацыяльнай абароны і занятасьці.

14. Прымаецца Закон пра абарону беспрацоўных, які б прадугледжваў асігнаваньні за кошт фонду адаптацыі для выплаты дапамог па беспрацоўі ў памерах, блізкіх да сярэдняга заробку.

15. Прымаецца Закон аб банкруцтве камэрцыйных банкаў і прадпрыемстваў, незалежна ад формы ўласнасьці.

16. Ствараецца дзяржаўная інфармацыйная служба, якая будзе паведамляць вытворцам і спажыўцам пра каньюнктуру, што складваецца на ўнутраным і зьнешнім рынку.

17. Праводзяцца перамовы і падпісваюцца клірынгавыя пагадненьні для ўзаемных разьлікаў зь дзяржавамі (былымі рэспублікамі СССР). Ствараецца беларуская служба закупак і продажу для ажыцьцяўленьня міжрэспубліканскага гандлю.

18. Падрыхтоўваецца заканадаўства, якое будзе прадугледжваць адказнасьць партнёраў за невыкананьне кантрактаў і за падман пакупнікоў, у тым ліку і з выкарыстаньнем рэкламы.

## Старт рэформаў

1. Пасьля правядзеньня ўсяго пераліку мераў падрыхтоўчага пэрыяду ўводзяцца ў дзеяньне законы, якія здымуць усе абмежаваньні на камэрцыйную дзейнасьць і адменяць усе прымусова ўстаноўленыя дзяржзаказы і цэны, а таксама ўводзяцца мытныя пошліны, што кампэнсуюць розьніцу рынкавых цэнаў на сыравіну і энэргарэсурсы. Прымаецца альбо пастанова Вярхоўнага Савету, альбо пастанова Савету Міністраў.

2. Пасьлядоўна, па спэцыяльнай праграме, праводзіцца прыватызацыя дзяржуласнасьці. Хуткасьць прыватызацыі не залежыць ад увядзеньня рынкавых дачыненьняў.

3. Прыватызуецца ўвесь жыльлёвы фонд па канкрэтнай праграме.

4. Штомесячна карэктуюцца стаўкі падаткаў у адпаведнасьці з сацыяльна-палітычным становішчам.

5. Прадугледжваецца прыярытэтнае фінансаваньне культуры, адукацыі, навукі й іншых напрамкаў, што забясьпечваюць пэрспэктыўнае разьвіцьцё нацыі і дзяржавы.

6. Уводзіцца ўнутраная канвэрсавальнасьць талера.

7. Праводзяцца перамовы з суседнімі краінамі аб прыняцьці сродкаў для разьлікаў, узгадненьне курсу нацыянальных валютаў.

8. Ствараецца ліцэнзійная служба на імпарт, якая вядзе палітыку забароны імпарту тавараў і тэхналёгій зь нізкім узроўнем якасьці.

9. Не радзей аднаго разу ў год праводзіцца рэфэрэндумы аб даверы органам дзяржаўнага кіраваньня розных узроўняў.

## Аграпрамысловы комплекс. Зямельныя дачыненьні. Прыватызацыя зямлі

Выйсьце з крызісу немагчымае без кардынальнай зямельнай рэформы, у аснове якой павінна ляжаць зьмена дачыненьняў уласнасьці. Толькі надзяліўшы сельскагаспадарчага вытворцу правам прыватнай уласнасьці на зямлю, можна дасягнуць галоўнай мэты зямельнай рэформы — падвышэньня эфэктыўнасьці вытворчасьці ды якасьці землекарыстаньня, стварэньня канкурэнтаздольнай таварнай сельскагаспадарчай вытворчасьці. Прыватызацыя зямлі ня толькі магчымая, але й неабходная, бо яна ёсьць адною з найважнейшых умоваў усталяваньня рынкавых дачыненьняў у эканоміцы, гарантам вольнае прадпрымальніцкае дзейнасьці вытворцы. У пераходны пэрыяд прыватызацыя зямлі найбольш эфэктыўна стабілізуе фінансавую сыстэму, зьвязваючы вялікую частку вольных сродкаў. Зямля, што выкарыстоўваецца для сельскай гаспадаркі, ёсьць сродкам вытворчасьці і мае спажывецкую вартасьць. Прыватызацыя зямлі ня можа праводзіцца асобна ад прыватызацыі іншае дзяржаўнае ўласнасьці, гэтаксама й наадварот. Суб'ектамі прыватызацыі зямлі могуць быць усе грамадзяне Рэспублікі Беларусі незалежна ад месца жыхарства й працы.

Пераважнае права сялян на бязвыплатную прыватызацыю часткі асноўных вытворчых і зямельных фондаў у сваіх саўгасах і калгасах неабходна замацаваць заканадаўча, але толькі ў межах адпаведных велічыняў (сумаў) прыватызацыйных чэкаў (інвэстыцыйных рахункаў), вызначаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусі аб прыватызацыі. Прыва-

стварэньне антыманапольных варункаў;

— стварэньне ў прамысловасьці да 100—150 тыс. юрыдычных асобаў (таваравытворцаў);

— арганізацыя ў сельскай гаспадарцы да 30 тыс. таваравытворцаў (калектыўных і фэрмэрскіх гаспадарак);

3.2. Правядзеньне актыўнай дзейнасьці выканаўчых органаў па стварэньні варункаў для шматканальных сувязяў па паліўна-энергетычным, сыравінным, матэрыяльна-тэхнічным забесьпячэньні ўнутранага рынку.

3.3. Пераход на структуру і прапорцыі сусьветных цэнаў.

3.4. Правядзеньне ўсёй падрыхтоўчай праграмы прыватызацыі (інвентарызацыя дзяржаўнай уласнасьці, стварэньне неабходных банкаўскіх структураў, аўкцыёнаў, інфармацыйных сродкаў, біржаў, каштоўных папераў і інш.).

Тэрмін выкананьня трэцяга этапа — ад увядзеньня ўласнай грашовай сыстэмы да ўсталяваньня антыманапольных варункаў у прамысловасьці, сельскай гаспадарцы і гандлю.

**4. Чацвёрты этап.**

Правядзеньне прыватызацыі. Поўны пераход на рынкавыя механізмы рэгуляваньня эканомікай.

Тэрмін выкананьня ад пачатку прыватызацыі да прыватызацыі 60% дзяржаўнай маёмасьці і ўласнасьці (прыкладна, 2 гады).

**5. Пяты этап.**

Уваходжаньне ў сусветную эканоміку ў якасьці актыўнага суб'екта.

Тэрмін — 5 год пасьля 4-га этапа.

Галоўнымі крытэрыямі ацэнкі выбару шляхоў у правядзеньні рэформы зьяўляюцца:

— уздым дзелавой актыўнасьці ў накірунку непасрэднай вытворчасьці тавараў, у першую чаргу, спажывецкіх;

— напаўненьне рынку спажывецкімі таварамі;

— утрыманьне сацыяльнай абароны насельніцтва ў пераходны перыяд на прымальным узроўні канфліктнасьці;

— захаваньне і развіцьцё інтэлектуальнага патэнцыялу;

— забесьпячэньне эквівалентнага выгаднага тавараабмену і гандлю з замежнымі краінамі.

Мерапрыемствы ўсіх этапаў замацоўваюцца прыняцьцем адпаведных законаў, заканадаўчых актаў і паправак да дзеючых законаў. На першым і другім этапах адмяніць дзейнасьць падзаконных актаў Савету Міністраў, Міністэрства фінансаў, Цэнтральнага банку.

***

**Над канцэпцыяй працавала эканамічная група Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі:**

**Уладзімір Заблоцкі (агульная канцэпцыя), Юры Беленькі (грашовая сыстэма), Лявонці Зданевіч (зямельнае пытаньне), Сяргей Папкоў (праграма стабілізацыі), Зянон Пазьняк (уводзіны).**

Апазіцыя дзякуе ўсім тым сьпецыялістам, хто прыняў удзел у абмеркаваньні канцэпцыі, даваў парады і кансультацыі.

**10-Д.** ***(Стар. 356-363). Канцэпцыя эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь. Прапанаваная Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі.*** *(„Народная газета", – 1992, 16 красавіка.)* ***Гэта далейшы працяг і распрацоўка Канцэпцыі 1990-га года ў новых палітычных умовах незалежнай Беларусі.***



**10а-Д.** ***Менск. Угодкі Скарыны. 1990 год – час пераменаў і надзеі.***

# Зварот апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь

Апазіцыя Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь ухваляе рашучыя дзеянні прэзідэнта Расіі спадара Ельцына па ліквідацыі чарговага фашысцка-камуністычнага мяцяжу ў Маскве, распачатага экстрэмістамі 3 кастрычніка. Мы выказваем спачуванні родным і блізкім нявінна забітых людзей у Расіі, асуджаем камуністычных і фашысцкіх забойцаў.

Апазіцыя БНФ лічыць, што злачынныя сілы разбою і вайны ў Расійскай Федэрацыі вялі падрыхтоўку да мяцяжу ў Маскве сумесна з камуністамі і пракамуністычнымі, праімперскімі арганізацыямі на Беларусі, звяртае ўвагу на сувязь дзеянняў камуністаў Беларусі і Расіі. Грамадскім выяўленнем гэтай сувязі і падрыхтоўкі мяцяжу стаў так званы Кангрэс народа Беларусі, змест якога быў скіраваны на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і аднаўленне таталітарнага СССР.

Грамадства Беларусі стала сведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністычнай большасці Вярхоўнага Савета Беларусі, якія ўступілі ў злачынную змову са Старшынёй былога Вярхоўнага Савета Расіі і арганізатарам крывавага мяцяжу — Русланам Хасбулатавым і іншымі чырвона-карычневымі сіламі, узначальваемымі сп.сп. Зюганавым, Стэрлігавым і інш. Усё гэта адбывалася пры спагадных адносінах пэўных структур і асоб урада Беларусі (Г.Данілава, С.Гайдукевіча, В.Паўлава і інш.).

Мы, дэпутаты апазіцыі БНФ, настойваем на тэрміновым скліканні нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Мы патрабуем ад Савета Міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта:

— забяспечыць бяспеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ад пранікнення злачынных груповак і асоб пасля разгрому фашысцка-камуністычнага мяцяжу ў Расіі;

— тэрмінова ўвесці дакументальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расіяй, а ў бліжэйшы час разгледзець пытанне аб увядзенні візавага рэжыму;

— забараніць дзейнасць камуністычных і праімперскіх партый і арганізацый на Беларусі (ПКБ—КПБ—КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі сабор "Белая Русь").

Мы звяртаемся да Генеральнага пракурора Беларусі сп. В.Шаладонава з патрабаваннем прыступіць да расследавання антыдзяржаўнай дзейнасці гэтых арганізацый, ступені іх удзелу ў камуністычным мяцяжы ў Расіі і ў падрыхтоўцы гэтага мяцяжу.

Мы лічым неабходным паставіць пытанне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленні дэпутацкіх паўнамоцтваў дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасці Беларусі. Мы ставім пытанне аб расследаванні Генеральным пракурорам Беларусі іх магчымага ўдзелу ў падрыхтоўцы камуністычнага мяцяжу ў Расіі і ў дзеяннях, накіраваных на ліквідацыю суверэнітэту і дзяржаўнасці Беларусі, пра што большасць з іх неаднаразова публічна засведчыла.

Мы патрабуем неадкладна спыніць распаўсюджванне на Беларусі расійскіх камуністычных і фашысцкіх газет ("Правда", "Советская Россия", "День" і г.д.).

Мы лічым недапушчальным знаходжанне на тэрыторыі Беларусі кіраўнікоў кампартый іншых краін (сп.сп. Буракявічуса, Шведа і інш.), якія праследуюцца ў гэтых краінах па закону за крымінальныя дзеянні.

**Народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце: З.Пазьняк, У.Заблоцкі, В.Голубеў, Л.Баршчэўскі, М.Крыжаноўскі, С.Навумчык, Г.Сямдзянава, Б.Гюнтар, А.Трусаў, В.Аляміеў, С.Антончык, У.Новік, Ю.Беленькі, Л.Зданевіч, І.Пырх, Л.Тарасенка, В.Малашка, І.Германчук, Л.Дэйка, І.Герасюк, А.Шут, П.Холад, Я.Цумараў, В.Даўгалёў (член дэпутацкай групы "Згода").**

**11-Д.** ***Зварот Апазыцыі БНФ да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь.*** *(„ Народная газета", – 1993, 6 кастрычніка).*

# АСНОЎНЫЯ КІРУНКІ РЭФОРМАЎ ДЛЯ ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ

## ПЕРАДВЫБАРЧАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ПЛЯТФОРМА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"[1]

### Крытычны стан эканомікі

**Вытворчасьць валавага ўнутранага прадукту за 1994 г. у параўнаньні з папярэднім скарацілася на 20% і склала ў дзейных цэнах 20,3 трлн. руб. Прадукцыя** *прамысловасьці* **зьменшылася на 19,3%. Пастаяннай тэндэнцыяй зьяўляецца рэзкае зьніжэньне аб'ёмаў вытворчасьці у галоўных экспартных галінах. Так, у 1994 г. аб'ём вытворчасьці грузавых аўтамабіляў скараціўся на 31%, трактароў -- на 48%, мэталарэзных станкоў -- на 39%.**

**Вытворчасьць** *сельскай гаспадаркі* **скарацілася на 14,1%. На 18% зьменшыўся выраб каўбасных вырабаў, на 16% -- масла. У параўнаньні з 1990 г. зьніжэньне ўраджайнасьці сельскагаспадарчых культураў у 1,5-2 разы (збожжавых з 36 да 23 ц/га, бульбы -- з 182 да 90 ц/га), скарачэньне пасяўных плошчаў і вялікія страты пры захаваньні прывялі да рэзкага пагаршэньня забесьпячэньня насельніцтва прадуктамі. У 1994 годзе на душу насельніцтва ў грамадзкім сэктары выпрадукавана 600 кг збожжа, каля 600 кг бульбы, прыкладна 75 кг** гародніны, менш за 44 кг садавіны. Яшчэ горшая сітуацыя ў жывёлагадоўлі. Пагалоўе буйной рагатай жывёлы зьменшылася на 1,7 млн. галоваў, свіньняў амаль на 1,2 млн. галоваў, авечак у 4 разы. З прычыны зьніжэньня прадукцыйнасьці жывёлы вытворчасьць малака і мяса ў разьліку на аднаго жыхара зьменшылася у 2 разы і склала адпаведна 360 і 52 кг. У цэлым забясьпечанасьць насельніцтва асноўнымі прадуктамі харчаваньня вагалася ў межах 76-85% ад нормы.

Аб'ём *капіталаўкладаў* у фактычных цэнах скараціўся за 1994 г. у параўнаньні з 1993 г. на 25%. Капіталаўклады вытворчага прызначэньня за гэты пэрыяд скараціліся на 31%, невытворчага прызначэньня -- на 27%, у тым ліку на будаўніча-мантажныя работы -- на 28%. На 17% зьменшылася дзяржаўнае жыльлёвае будаўніцтва, будаўніцтва жыльлёва-будаўнічымі кааперaтывамі -- на 27%, а ў калгасах удвая. На пачатак бягучага году болей як 21 тысяча аб'ектаў знаходзяцца ў незавершаным будаўніцтве, 1800 -- законсэрваваныя.

Выпуск *тавараў народнага спажываньня* за гэты ж пэрыяд скараціўся на 16%, аб'ём платных паслугаў насельніцтву ў супастаўных цэнах -- на 14%, увод у дзеяньне жылых дамоў -- на 15%.

Зьмяняецца *структура грашовых даходаў* насельніцтва. Так, у чацьвертым квартале 1994 г. доля аплаты працы ў сямейных бюджэтах складала 37%, што значна ніжэй, чым у нашых суседзяў. Зьмяншэньне долі заробнай платы сьведчыць ня толькі пра аслабленьне матывацыі да працы, але і пра тое, што эканамічна актыўнае насельніцтва ня можа рэалізаваць свой патэнцыял па месцы асноўнай працы і вымушана дзьве трэці сямейнага бюджэту папаўняць у сфэры "ценевай" эканомікі. *Уклады насельніцтва* ў ашчадныя і камэрцыйныя банкі склалі 104 млрд. рублёў, што ў даляравым эквіваленце роўна 90 цэнтам у разьліку на аднаго жыхара краіны.

Пагоршыўся *фінансавы стан вытворчасьці*. Крэдытная (дэбіторская) запазычанасьць вытворцаў склала летась 19,4 трлн. рублёў. Камэрцыйныя банкі амаль ня ўдзельнічаюць ва ўзнаўленчым працэсе прамысловасьці і сельскагаспадарчай вытворчасьці. Доўгатэрміновыя крэдыты склалі толькі 8,3% усяго аб'ёму крэдытаваньня.

Дэстабілізацыйным фактарам эканомікі на працягу году была *інфляцыя*. Намінальная заробная плата за 1994 год узрасла ў 15,8 разоў, а цэны на спажывецкія тавары ў 23,2 разы. У выніку рэальная заробная плата скарацілася да 68% да леташняга ўзроўню. Спажывецкія цэны за студзень 1995 г. вырасьлі на 39,2%, у тым ліку на харчовыя тавары на 40,7%, на нехарчовыя -- на 31,0%, на паслугі -- на 45,5%.

Расьце *беспрацоўе*. На канец 1994 г. лік афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных перасягнуў 102 тыс. чалавек. Да таго ж страты рабочага часу з-за прастояў склалі летась 25 мільёнаў чалавека-дзён або 137 тыс. гадавых рабочых месцаў. З улікам схаваных формаў беспрацоўе дасягнула 25% ад усіх занятых.

Зьбядненьне народу абумовіла *скарачэньне насельніцтва* краіны. У 1994 г. колькасьць народжаных зьменшылася на 4% і склала 113 тыс., а лік памёрлых павялічыўся на 0,7% да 129 тыс. чалавек і перавысіў колькасьць народжаных на 16 тыс. чалавек.

Паводле прагнозу экспэртаў, *спад вытворчасьці* сёлета дасягне 15-20% ад узроўню 1994 году.

*Прадпрымальніцтва* надалей застаецца "іншародным целам" для беларускай эканомікі. Перадусім надалей захоўваецца нераўнапраўнае становішча недзяржаўных гаспадарчых суб'ектаў.

**На станаўленьне і разьвіцьцё прадпрымальніцтва адмоўна ўплывае** ***нявырашанасьць праблемы прыватнай уласнасьці.*** **Практычна ўся ўласнасьць належыць дзяржаве.**

Інфляцыя вядзе да нявызначанасьці сапраўднага фінансавага стану прадпрымальніка. Праблемы спараджае надзвычайны *падатковы прэс*, частая зьмена законаў і нарматыўных актаў, недакладнасьць інструкцыяў, паўсюдная карумпаванасьць чыноўніцтва.

*Умовы для станаўленьня прадпрымальніцтва ў Беларусі можна ацаніць як надзвычай неспрыяльныя.*

**Адсутнасьць рэформаў, імкненьне захаваць загадна-адміністрацыйную сыстэму кіраваньня як пры папярэдняй адміністрацыі В.Кебіча, так і пры сучасным кіраўніцтве А.Лукашэнкі абумоўліваюць паглыбленьне і пашырэньне эканамічнага крызісу.**

### Прычыны крызісу эканомікі

Дзяржаўная адміністрацыя засьведчыла свой *непатрыятызм і непрафэсіяналізм*. Прэзыдэнт і ягоны ўрад, а таксама залежная ад іх большасьць Вярхоўнага Савету сьвядома *не жадаюць* праводзіць *самастойную* эканамічную палітыку незалежнай дзяржавы ў інтарэсах яе народу.

*Адсутнічаюць мэта і праграма* пераводу народнай гаспадаркі на іншыя прынцыпы і спосабы вытворчасьці, заснаваныя на свабоднай рынкавай эканоміцы.

У краіне ня вызначаныя і *не адрэгуляваныя базавыя дачыненьні ўласнасьці*. Не разьдзеленыя функцыі валоданьня, кіраваньня і карыстаньня маёмасьцю. Пры гэтым чалавек аказаўся адчужаным ад уласнасьці і ад вынікаў сваёй працы.

*Структура вытворчасьці не прыстасаваная* да ўмоваў краіны. Прадукцыя надзвычай энэрга- і матэрыялаёмістая.

Мэтады адміністрацыйнага рэгуляваньня эканамічнай дзейнасьці засьведчылі сваю неэфэктыўнасьць. Гэта выразілася:

-- у пасьлядоўным *разбурэньні грашовай і крэдытна-фінансавай сыстэмы*;

---

[1] **Прапануе Грамадзкі (Ценевы) Кабінэт міністраў Беларускага Народнага Фронту. Плятформу распрацавалі: А.Станкевіч, У.Тарасаў, І.Нікітчанка, У.Кулажанка, Л.Зданевіч, С.Гусак, Ю.Беленькі, М.Крыжаноўскі, В.Масквіч, С.Папкоў. Кіраўнік Кабінэту міністраў З.Пазьняк, прэм'ер-міністр Кабінэту У.Заблоцкі.**

-- у *недасканаласьці падаткавай сыстэмы*, якая не захвочвае стваральную дзейнасьць і не спрыяе падвышэньню фондааддачы сродкаў вытворчасьці;

-- у *разбуральнай цэнавай палітыцы*, якая паразітуе на вытворцах (асабліва сельскагаспадарчай прадукцыі);

-- у *недасканаласьці бюджэтнай палітыкі*, якая не дала нашай краіне магчымасьці выкарыстоўваць выгаднае геаграфічнае становішча і атрымліваць дадатковы даход ад платы за транзіт каля 2 млрд. даляраў у год (яшчэ адзін наш дадатковы бюджэт);

-- у *недасканаласьці інвэстыцыйнай і амартызацыйнай палітыкі*, якая прывяла да таго, што прадукцыйныя сілы ўжо ня здольныя забясьпечваць пашыранае ўзнаўленьне асноўнага і абаротнага капіталу. Фізычная зношанасьць асноўных фондаў большасьці галінаў вытворчасьці перасягнула 50%, а на асобных прадпрыемствах -- ад 70% і больш пры аднаўляльнасьці 2%. Маральная ж зношанасьць асноўных вытворчых фондаў амаль ва ўсіх галінах перасягнула 100%.

-- у *адсутнасьці маральнай палітыкі ў прыватызацыі* дзяржаўнай уласнасьці, у недасканаласьці і неэфэктыўнасьці формаў прыватызацыі, у бескантрольным раскраданьні дзяржаўных сродкаў і маёмасьці.

*Зьнешнеэканамічная дзейнасьць стратная*: даходы ад яе не перавышаюць выдаткаваных на яе сродкаў. Адсутнічае дзяржаўны кантроль за ўцечкай капіталу, якая стала хранічнай для эканомікі краіны.

## Выйсьце з крызісу

Выйсьце з крызісу можа быць пасьпяховым толькі пры дакладным вызначэньні мэтаў і прынцыпаў, з якіх павінна зыходзіць эканамічная палітыка краіны. Яна павінна арыентавацца на *ўзаемавыгадныя эканамічныя дачыненьні з усімі партнёрамі* -- як на ўсходзе, так і на захадзе, як на поўдні, так і на поўначы. Гэта -- адна з умоваў рэалізацыі на практыцы незалежнасьці краіны.

Незалежная палітыка мае на ўвазе распрацоўку і ажыцьцяўленьне канцэпцыі нацыянальнай бясьпекі краіны. Яна павінна прадугледжваць як зьнешнюю, так і ўнутраную бясьпеку. Унутраная бясьпека неадрыўная ад пасьпяховага правядзеньня эканамічных рэформаў. Для гэтага неабходныя:

-- кардынальная рэформа палітычнай сыстэмы і сыстэмы органаў выканаўчай улады;

-- спрашчэньне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу дзяржавы і рэформа сістэмы мясцовага самакіраваньня;

-- набліжэньне заканадаўства да ўзроўню краін, якія дасягнулі найбольшых посьпехаў у сацыяльна-эканамічным разьвіцьці;

-- максімальнае выкарыстаньне вытворчага, эканамічнага, навукова-тэхнічнага патэнцыялу і геапалітычнага становішча краіны;

-- рэструктурызацыя фінансава-бюджэтнай сыстэмы, якая прадугледжвае ўвод нацыянальнай валюты, разьдзяленьне дзяржаўнага бюджэту і бюджэтаў мясцовых узроўняў улады, зьмену мэтадалёгіі фармаваньня бюджэтаў у бок збалянсаваньня расходнай і даходнай частак;

-- фармаваньне новай падатковай сыстэмы і зьмена падатковай палітыкі з фіскальнай на стымуляцыйную;

-- разьвіцьцё банкаўскага заканадаўства і банкаўскай сыстэмы; падвышэньне статусу Нацыянальнага банку да самастойнага суб'екта, незалежнага ад выканаўчай і заканадаўчай улады;

-- паскоранае стварэньне інфраструктуры рынкаў;

-- дзяржаўнае рэгуляваньне эканомікі на аснове эканамічных рычагоў узьдзеяньня і шляхам перанясеньня акцэнту з адміністрацыйнага плянаваньня на індыкатыўнае;

-- адмова ад якіх бы ні было спробаў аб'яднаньня з грашовымі сыстэмамі іншых дзяржаваў;

-- правядзеньне структурнай і інвэстыцыйнай палітыкі, скіраванай на зьмяншэньне энерга- і матэрыялаёмістасьці з арыентацыяй на платаздольныя рынкі збыту;

-- рашучыя захады для паскарэньня працэсу прыватызацыі;

-- рацыянальная зямельная і аграрная рэформа ў інтарэсах грамадзян краіны;

-- фармаваньне самастойнай навукова-тэхнічнай палітыкі, якое мае на ўвазе пераарыентацыю як прыкладной, так і фундамэнтальнай навукі пераважна ў бок грамадзянскіх галін вытворчасьці, якія маюць платаздольны попыт;

-- актыўная палітыка сацыяльнай абароны, якая ўключае стварэньне новых рацыянальных рабочых месцаў для працаздольных і адрасную сацыяльную дапамогу з боку дзяржавы для пэнсіянэраў, інвалідаў і іншых сацыяльна неабароненых катэгорыяў насельніцтва;

-- рэформы пэнсійнай справы, аховы здароўя, сярэдняй, сярэдняй спэцыяльнай і вышэйшай адукацыі, скіраваныя на пэрсаніфікацыю інтарэсаў канкрэтнага чалавека і зьмяншэньне ўплыву на яго з боку бюракратыі;

-- рэформа Ўзброеных Сілаў, органаў унутраных справаў і органаў бясьпекі, скіраваныя на забесьпячэньне інтарэсаў незалежнай дзяржавы;

-- эфэктыўная зьнешнеэканамічная палітыка, скіраваная як на захаваньне традыцыйных, так і на здабыцьцё і пашырэньне новых рынкаў.

## Нацыянальная валюта

Пагаршэньне сацыяльна-эканамічнай сытуацыі прыводзіць да неабходнасьці ўвядзеньня нацыянальнай валюты -- радыкальнага і адзіна магчымага сродку санацыі нацыянальных фінансаў. Пры гэтым часу на стабілізацыю цяперашняга законнага платнага сродку -- беларускага рубля -- ужо не засталося. Ліміт часу, дадзенага нам гісторыяй, бяздарна згублены ўрадам В.Кебіча і адміністрацыяй А.Лукашэнкі. Застаецца класічны эрхардаўскі варыянт грашовай рэформы як аднамомантавай акцыі паводле прынцыпу "валютнага камітэту".

У якасьці валюты-арыенціра найлепш можа выступаць эўрапейская грашовая адзінка -- ЭКЮ. Мінімальныя ваганьні гэтай валюты дазваляюць праводзіць больш дакладную макраэканамічную палітыку і мінімізаваць магчымы вонкавы націск на нацыянальную фінансавую палітыку.

Найбольш сур'ёзнымі праблемамі пры ўвядзеньні нацыянальнай валюты зьяўляюцца:

-- бюджэтны дэфіцыт, які неабходна скараціць да ўзроўню 2-3% ВУП;

-- рост цэнаў на энерганосьбіты і сыравіну;

-- забесьпячэньне станоўчага сальда гандлёвага балянсу.

Да фактараў, якія ўплываюць на валютны курс у доўгачасовай пэрспэктыве, адносяцца:

-- стан плацёжнага балянсу краіны;

-- узровень і тэмпы інфляцыі ўнутры краіны і ў дзяржавах -- гандлёвых партнёрах;

-- пакупная здольнасьць нацыянальнай грашовай адзінкі;

-- стабільнасьць функцыянаваньня замежных валютных рынкаў;

-- ступень даверу да нацыянальнай грашовай адзінкі на вядучых валютных рынках.

Аднак вызначаць курс нацыянальнай валюты будзе перадусім стан бягучага плацёжнага балянсу краіны.

Асаблівае значэньне для пасьпяховага ўвядзеньня нацыянальнай валюты маюць: рэструктурызацыя фінансава-бюджэтнай сыстэмы; стымуляцыйная

падатковая палітыка; арганізацыя эфэктыўнага працэсу разьдзяржаўленьня і прыватызацыі; інстытуцыянальная "рэвалюцыя" -- хуткае разьвіцьцё рынкаў: фінансавых, таварных і нерухомай маёмасьці.

## Сацыяльная абарона насельніцтва

Новая бюджэтная палітыка дазволіць праводзіць актыўную і адрасную сацыяльную палітыку, скіраваную на падтрымку неабароненых катэгорыяў насельніцтва за кошт сродкаў дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў, пры агульным кірунку на стварэньне новых рацыянальных працоўных месцаў для працаздольных.

Будзе ажыцьцяўляцца новая палітыка заробнай платы і даходаў для работнікаў дзяржаўнага сэктару эканомікі і бюджэтных установаў, заснаваная на прынцыпе роўнай аплаты пры аднолькавай кваліфікацыі, якасьці і інтэнсыўнасьці працы.

Дзяржаўны доўг, працэдуры яго фармаваньня і крыніцы пагашэньня павінны быць заканадаўча аформлены. На дзяржаўны доўг будуць аднесеныя кампэнсацыі ўкладаў насельніцтва, жыльлёва-будаўнічых кааперытываў, пэнсійнага фонду.

Пагашэньне запазычанасьці дзяржавы перад грамадзянамі будзе адбывацца за кошт сродкаў ад прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, а таксама за кошт нерухомай маёмасьці.

Дзяржава будзе праводзіць дзейсную дэмаграфічную палітыку, скіраваную на падтрымку жанчын, дзяцей, маладых сем'яў. Жыльлёвая палітыка будзе зарыентаваная пераважна на будаўніцтва індывідуальнага жыльля з выкарыстаньнем дзяржаўных сродкаў для стварэньня інжынэрнай інфраструктуры. Для забесьпячэньня фінансавых магчымасьцяў такога будаўніцтва будуць створаны іпатэчныя фінансавыя інстытуты.

Будзе ажыцьцяўляцца фінансаваньне адраджэньня культуры, разьвіцьця навукі, адукацыі, аховы здароўя.

Міграцыйная палітыка будзе весьціся выключна ў інтарэсах грамадзян нашай дзяржавы.

## Экалёгія

**Наступствы Чарнобыля -- рэальнасьць нашага жыцьця на доўгі час**, таму ўся дзейнасьць дзяржаўных органаў будзе будавацца з улікам неабходнасьці аховы здароўя людзей.

У заканадаўства краіны будуць уведзеныя палажэньні, скіраваныя на дакладнае выкананьне нормаў экалягічнай бясьпекі.

Будзе створана надзейная сыстэма экалягічнага кантролю за станам навакольнага асяродзьдзя і прадуктаў харчаваньня. Па ўсёй тэрыторыі Беларусі будзе праведзены маніторынг на забруджанасьць радыенуклідамі, цяжкімі мэталамі, рэшткавымі пэстыцыдамі і гербіцыдамі, адыходамі хімічнай вытворчасьці. Будуць зьнятыя пошліны на ўвоз у Беларусь экалягічна чыстых прадуктаў.

Праграма мінімізацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы будзе перагледжана. Будуць спынены ўсе непатрэбныя працы па дэзактывацыі тэрыторыяў і вядзеньне ў забруджаных зонах сельскагаспадарчых працаў, якія толькі спрыяюць разносу радыеактыўнага "бруду" і бессэнсоўна марнуюць грашовыя сродкі. Ліквідуюцца ўсе бюракратычныя надбудовы, якія ператварылі нацыянальную бяду ў спосаб асабістай нажывы.

**Праблемы, зьвязаныя зь бясьпекай пражываньня людзей, будуць вырашацца ў першачарговым парадку.**

## Прыватызацыя індустрыі

Мэханізм разьдзяржаўленьня і прыватызацыі павінен грунтавацца на наступных зыходных пасылках:

-- пры правядзеньні прыватызацыі прыярытэты павінны быць аддадзеныя ня толькі працоўным калектывам, але і адказным інвэстарам, якія змогуць рацыянальна распарадзіцца ўласнасьцю прадпрыемства. Належыць выкарыстоўваць як цэнтралізаваную (праз адпаведныя дзяржаўныя органы прыватызацыі), гэтак і дэцэнтралізаваную (калі самі працоўныя калектывы выбіраюць мэтад правядзеньня прыватызацыі) стратэгіі;

-- належыць забараніць выкарыстаньне прыватызацыйных сродкаў для датацыяў, фінансавай падтрымкі нерэнтабэльных прадпрыемстваў;

-- адной з крыніцаў рэсурсаў, неабходных для буйных структурных пераўтварэньняў, павінен быць замежны капітал. Прыцягненьне замежнага капіталу павінна быць не выпадковым, а засноўвацца на сацыяльна-палітычнай стабільнасьці дзяржавы і на навукова абгрунтаванай праграме. У якасьці формаў прыцягненьня замежнага капіталу могуць выкарыстоўвацца крэдыты, частковы або поўны продаж акцыяў ужо дзейнага аб'екту, стварэньне сумесных або цалкам замежных прадпрыемстваў;

-- у прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў неабходна выкарыстоўваць шырокі арсэнал спосабаў: публічны продаж акцыяў, выкуп прадпрыемства, перадачу ў карыстаньне (арэнда, траст, лізінг і г.д.), падзел ці фрагмэнтацыю прадпрыемства. Выбар спосабу ці формы прыватызацыі залежыць ад аб'екту прыватызацыі і праблемаў, якія пры гэтым вырашаюцца;

-- дзеля падвышэньня эфэктыўнасьці і гнуткасьці правядзеньня прыватызацыі належыць дазволіць па жаданьні працоўнага калектыву прыватызацыю любога структурнага падразьдзяленьня прадпрыемства (цэха, участка і пад.);

-- прыватызацыя павінна праводзіцца сукупна зь іншымі захадамі: дэманапалізацыяй і разьвіцьцём канкурэнцыі, структурнай перабудовай эканомікі і рэструктурызацыяй прадпрыемстваў, аздараўленьнем фінансава-крэдытнай і падатковай сыстэмы і санацыяй фінансаў прадпрыемстваў. Без сыстэмнага падыходу да прыватызацыі яна можа стаць магутным дэстабілізацыйным фактарам у грамадзка-палітычным жыцьці краіны.

## Рэструктурызацыя індустрыі

Рэструктурызацыя індустрыі павінна адбывацца на падставе шматкрытэрыяльнага падыходу. Такімі эканамічнымі крытэрыямі могуць выступаць:

-- экспартны патэнцыял вытворчасьці;

-- спрыяньне росту навуковага і інтэлектуальнага патэнцыялу краіны, дасягненьне больш высокай тэхналягічнай стадыі разьвіцьця;

-- стварэньне імпартазаменнай вытворчасьці;

-- зьніжэньне рэсурсаёмістасьці вытворчасьці;

-- разьвіцьцё прадукцыі прадметаў спажываньня;

-- мінімізацыя дэфіцыту ў гандлёвым балансе краіны.

У цяперашніх эканамічных умовах, якія створаны ў Беларусі, немагчыма рэалізаваць буйнамаштабныя праграмы структурных пераўтварэньняў вытворчасьці, асабліва ў канкрэтных галінах. Мэтазгодна распрацоўваць асобныя праекты рэструктурызацыі вытворчасьці

дзяржаўных прадпрыемстваў, у тым ліку прадпрыемстваў ВПК, стварэньне новых вытворчасьцяў.

Найважнейшы кірунак эканамічнай палітыкі -- утрыманьне капіталу ў краіне, бо вельмі часта рэсурсы беларускіх прадпрыемстваў працуюць на эканоміку іншых дзяржаваў. Таму неабходна:

-- зьмяніць прынцыпы і формы ўдзелу бюджэтных сродкаў у фінансаваньні праектаў структурнай перабудовы эканомікі (зваротнасьць, акупнасьць, эфэктыўнасьць, сумеснае фінансаваньне і крэдытаваньне);

-- перайсьці ад поўнага бюджэтнага фінансаваньня праектаў структурнай перабудовы вытворчасьці да пераважна долевага ўдзелу ў іхным ажыцьцяўленьні, пераход на самафінансаваньне прадпрыемстваў;

-- перайсьці да сусьветна прынятых мэтадаў ацэнкі эфэктыўнасьці інвэстыцыяў і да незалежнай экспэртызы інвэстыцыйных праектаў;

-- пачаць каардынацыю інвэстыцыйных кірункаў мэтадамі, прынятымі ў рынкавай эканоміцы (падаткі, амартызацыя, крэдыты);

-- зьмяніць пераважнае інвэставаньне разьвіцьця эканомікі манапольнага тыпу на інвэстыцыйную падтрымку вытворчасьцяў, якія забясьпечваюць пашырэньне канкурэнцыйных рынкавых дачыненьняў;

-- перайсьці да пераважнага інвэставаньня і льготнага фінансаваньня распрацовак і ўкараненьня перадавых тэхналёгіяў, а таксама вытворчасьцяў, якія забясьпечваюць распаўсюджаньне такіх тэхналёгіяў.

## Стратэгія разьвіцьця паліўна-энэргетычнага комплексу

**Паліўна-энэргетычны крызіс выкліканы аднабаковай арыентацыяй на закупку энэрганосьбітаў і катастрафічным падзеньнем здабычы нафты у Расеі.**

Так, паводле падпісаных пагадненьняў, у 1995 г. Расея зможа прадаць Беларусі толькі 10 млн. т нафты, а патрэбы Беларусі з улікам наяўных магутнасьцяў -- каля 40 млн. т.

Сёлета прастой абсталяваньня Наваполацкага і Мазырскага нафтаперапрацоўчых заводаў складзе каля 72%. Рашэньне праблемы -- у дапаўненьні паставак энэрганосьбітаў з Расіі пастаўкамі зь іншых нафтаздабыўных рэгіёнаў сьвету. Распрацаваным і найбольш эфэктыўным зьяўляецца праект Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара (БЧНК).

Паэтапная рэалізацыя праекту БЧНК дазволіць Беларусі ўжо праз год атрымаць нафту з тэрміналаў Балтыкі і значна павялічыць загрузку нафтаперапрацоўчага комплексу.

Першы этап рэалізацыі праекту БЧНК (балтыйскі кірунак) патрабуе 300 млн. даляраў. Неабходныя ўкладаньні акупляюцца за два гады. Павелічэньне вытворчасьці аб'ёмаў нафтапрадуктаў дазволіць замяніць у структуры паліваспажываньня энэргетычнай галіны краіны газ на мазуту і замест імпарту пачаць экспарт паліўназмазных матэрыялаў.

Павелічэньне аб'ёму спальваньня мазуты дазволіць краіне зьнізіць выдаткі на вытворчасьць цеплавой і электрычнай энэргіі ня менш чым на 300 млн. даляраў у год, а агульны эканамічны эфэкт ад загрузкі нафтаперапрацоўчага комплексу і хімічнай галіны складзе каля 900 млн. даляраў у год.

У выніку сабекошт электрычнай і цеплавой энэргіі зьнізіцца на 16%, што палепшыць эканамічнае становішча прадпрыемстваў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

## Зямельная рэформа

Асноўная мэта зямельнай рэформы -- забясьпечыць рацыянальнае выкарыстаньне галоўнага нацыянальнага багацьця краіны -- зямлі -- у інтарэсах усіх грамадзянаў нашай дзяржавы.

Рэформа землекарыстаньня і прыватызацыя зямлі павінны адпавядаць двум патрабаваньням: выключыць сацыяльныя канфлікты і не дапусьціць зьмяншэньня сельскагаспадарчай вытворчасьці. Гэтыя патрабаваньні могуць быць выкананыя пры ўмове паралельнага ўводу новых формаў гаспадараньня, а не пры татальнай замене адных формаў другімі.

Зямельная рэформа павінна праводзіцца на аснове новага зямельнага заканадаўства, якім гарантуецца прыватная ўласнасьць на зямлю і яе гаспадарчае выкарыстаньне. Аднаўленьне інстытуту прыватнай уласнасьці на зямлю неабходна не для рэалізацыі ідэалягічных установак, а для ўпарадкаваньня сыстэмы зямельных дачыненьняў.

Пераўтварэньне дачыненьняў уласнасьці на зямлю павінна праходзіць двума кірункамі. Першы -- унутраныя пераўтварэньні калгасаў і саўгасаў, трансфармацыя іх у больш гнуткія арганізацыйныя формы. Цяперашнім калгасам і саўгасам будзе забясьпечана поўная свабода трансфармавацца ў рынкавыя структуры -- акцыянэрныя таварыствы, дабраахвотныя аб'яднаньні ўласьнікаў, таварыствы, асацыяцыі, саюзы, таварыствы з абмежаванай адказнасьцю і інш. Саўгасы перад пераўтварэньнем будуць разьдзяржаўленыя зь перадачай маёмасьці ва ўласнасьць працоўных калектываў. У распараджэньні дзяржавы застануцца толькі экспэрымэнтальныя базы навуковых установаў, племянныя і элітныя насеньняводчыя гаспадаркі, сортавыпрабавальныя ўчасткі. Дзяржава павінна забясьпечыць юрыдычную, арганізацыйную і мэтадалягічную магчымасьць пераўтварэньняў. Другі кірунак -- стварэньне на базе дзяржаўнага рэзэрвовага зямельнага фонду прыватных сялянскіх гаспадарак.

Прыватызацыя зямлі -- не самамэта, а сродак падвышэньня эфэктыўнасьці гаспадараньня, гарантыя стварэньня экспартнага патэнцыялу прадуктаў харчаваньня, галоўная гарантыя любых капіталаўкладаў, а значыць -- найпершая ўмова ажыўленьня інвэстыцыйнай дзейнасьці і ўсёй эканомікі.

У выніку прыватызацыі зямлі мясцовая ўлада набудзе ўласныя фінансавыя магчымасьці дзеля ажыцьцяўленьня сацыяльных праграмаў дапамогі непрацаздольным жыхарам сяла, якія цяпер часткова выконваюць калгасы і саўгасы. Гэтыя сродкі дае падатак на зямлю. Калгасы і саўгасы павінны не падмяняць мясцовую ўладу, а займацца толькі гаспадарчай дзейнасьцю і плаціць, як і ўсе землеўладальнікі, эканамічна абгрунтаваны падатак на зямлю.

Рынак зямлі, які будзе функцыянаваць праз сыстэму іпатэчных банкаў і права на заклад зямлі, -- галоўная ўмова самарэгуляцыі эканомікі, яе дынамічнасьці.

## Аграрная палітыка

Галоўная мэта аграрнай палітыкі -- эфэктыўная вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі.

Вытворца, незалежна ад формы ўласнасьці на сродкі вытворчасьці, атрымае поўную свабоду прадпрымальніцкай дзейнасьці, свабоду выбару, што і дзе вырабляць без усякага ўмяшальніцтва дзяржавы.

Калгасы, саўгасы (і іх праваправаемнікі), фэрмэры стануць гаспадарамі ўласнай прадукцыі і змогуць прадаваць яе без абмежаваньняў з боку дзяржавы туды, дзе будзе найвыгадней. Згубная практыка прымусовага забіраньня

прадукцыі за бясцэнак пад выглядам дзяржаўнага заказу будзе адмененая.

Кожны вытворца атрымае права самастойна вызначаць цэны на сваю прадукцыю. Іх будзе рэгуляваць толькі канкурэнцыя і платаздольны попыт. Шырокую дзяржаўную падтрымку атрымаюць дзеянні усіх вытворцаў дзеля пашырэньня рынкаў збыту сельскагаспадарчай прадукцыі.

Будзе праводзіцца разьдзяржаўленьне і акцыянаваньне ўсіх прадпрыемстваў перапрацоўчай прамысловасьці зь перадачай больш як 50% акцыяў цяперашнім калгасам і саўгасам ці іхным пераемнікам.

З мэтай больш эфэктыўнага выкарыстаньня наяўнага патэнцыялу і надзейнага забесьпячэньня ўсіх вытворцаў будзе прыватызаваная ўся сельскагаспадарчая тэхніка. На базе цяперашніх цэхаў мэханізацыі гаспадарак і прадпрыемстваў "Сельгасхіміі" будуць створаныя сэрвісныя арганізацыі (станцыі), якія за плату будуць абслугоўваць дзяржаўныя, калектыўныя і фэрмэрскія гаспадаркі, а таксама прысядзібныя ўчасткі.

Дзяржава возьме на сябе падтрымку тэхналягічнай рэканструкцыі ўсіх галін аграпрамысловага комплексу, асабліва перапрацоўчай прамысловасьці зь пераводам яе на безадыходныя тэхналёгіі. Прыярытэт будзе аддавацца тэхналёгіям з шырокім выкарыстаньнем мясцовай сыравіны, аднаўляных крыніцаў энэргіі (сонца, ветру, вады). Прадпрымальнікі атрымаюць ільготныя крэдыты для закупкі абсталяваньня і будаўніцтва вытворчых аб'ектаў з новымі тэхналёгіямі, перадусім малых прадпрыемстваў для перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі.

Радыкальна зьменіцца крэдытна-фінансавая палітыка ў дачыненьні да аграпрамысловага комплексу Замест падачак у выглядзе датацыяў і спусташальных крэдытаў будуць рэалізаваныя дзяржаўныя праграмы адраснай падтрымкі сельскагаспадарчай вытворчасьці

Вытворца атрымае магчымасьць узяць ільготны крэдыт для будаўніцтва вытворчых памяшканьняў, жыльля, аб'ектаў сацыяльнага, культурнага і бытавога прызначэньня, закупкі абсталяваньня і тэхнікі пад заклад маёмасьці, для чаго ў найкарацейшыя тэрміны будзе арганізаваная сетка іпатэчных банкаў.

## Інвэстыцыйная палітыка

Асноўнай задачай інвэстыцыйнай дзейнасьці зьяўляецца забесьпячэньне расшыранага ўзнаўленьня асноўнага і абаротнага капіталу з мэтай задавальненьня патрэбаў грамадзтва і кожнага чалавека на аснове прыцягненьня і ўкладаньня ўсіх відаў маёмасьці і інтэлектуальных каштоўнасьцяў у гаспадарча-камэрцыйныя, навуковыя, культурныя і іншыя прадпрыемствы, праграмы і праекты.

Агульны аб'ём інвэстыцыяў з кожным годам скарачаецца. Калі за два гады (1992 і 1993) ён скараціўся на 38%, то за адзін 1994 год -- на 31,5%. Гэтая тэндэнцыя захоўваецца і ў 1995 г.

Акрамя таго, у структуры ўнутраных інвэстыцыяў доля дзяржаўных капітальных укладаньняў зь пераходам да рынкавай эканомікі будзе непазьбежна скарачацца. Г. зн., неабходна абудзіць прыватныя інвэстыцыі (акцыянэрных і страхавых кампаніяў, камэрцыйных і інвэстыцыйных банкаў, прадпрыемстваў і асобных прадпрымальнікаў), павялічыць колькасьць інвэстыцыйных суб'ектаў.

Галоўнай умовай актывізацыі інвэстыцыйнай дзейнасьці грамадзянаў і юрыдычных асобаў (прадпрыемстваў) зьяўляецца *безумоўнае* заканадаўчае і практычнае гарантаваньне інвэстарам іхных капіталаўкладаў (уласнасьці) і прыватная ўласнасьць на зямлю.

Неабходна вырашыць праблему стымуляваньня зьберажэньняў, што паспрыяе крэдытаваньню беларускай эканомікі пад нізкі працэнт.

Дзяржава павінна стымуляваць тыя кірункі інвэстыцыйнай дзейнасьці, якія адпавядаюць доўгатэрміновым інтарэсам грамадзтва. Галоўныя з гэтых кірункаў -- жыльлёвае будаўніцтва, будаўніцтва і рэканструкцыя інжынэрнай і транспартнай інфраструктуры, інфраструктуры сувязі, будаўніцтва аб'ектаў вытворчасьці, заснаванай на мясцовай сыравіне (будаўнічыя матэрыялы, перапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі і інш.).

Сваім удзелам у інвэстыцыйным працэсе дзяржава павінна спрыяць хуткаму абарачэньню капіталаў і эфэктыўнаму іх выкарыстаньню.

Прыярытэтам у палітыцы жыльлёвага будаўніцтва павінна стаць стварэньне ўмоваў кожнаму грамадзяніну (сям'і) пабудаваць уласны дом (кватэру, гараж, участак -- у адным месцы). Гэта дае станоўчы сацыяльны вынік.

Дзяржаўная палітыка павінна ўлічваць розныя фінансавыя магчымасьці розных катэгорыяў насельніцтва. Таму ў бліжэйшы час нельга адмаўляцца ад будаваньня дзяржаўнага сацыяльнага жыльля для малазабясьпечаных за кошт сродкаў ад рэалізацыі дзяржаўных рэсурсаў (зямлі, нерухомасьці) і падаткаў на іх.

Замежны капітал -- гэта ня толькі фінансавыя сродкі, але і сучасныя тэхналёгіі, рабочыя месцы, інтэлектуальны патэнцыял, досьвед кіраваньня. Будуць створаныя некалькі рэжымаў для замежных інвэстыцыяў. Асабліва прывілеяваны рэжым павінны мець прадпрыемствы, якім патрэбныя буйныя капіталаўклады. Патрэбныя наступныя льготы: вызваленьне ад мытных пошлінаў пры ўвозе абсталяваньня і сыравіны, бяспошлінны вываз гатовай прадукцыі, поўнае або частковае вызваленьне ад падатку на прыбытак на пэўны тэрмін, свабода рэпатрыяцыі прыбытку.

Нормы, якія рэгулююць рэжым інвэстыцыяў, павінны ўключацца ў гандлёвыя дагаворы і кантракты; будуць прадугледжаныя спэцыяльныя двухбаковыя пагадненьні аб інвэстыцыях.

Неабходна выкарыстаць перавагі міжнароднага падзелу працы і ўвайсьці ў сусьветны інвэстыцыйны рынак. Для гэтага трэба стварыць умовы, ня горшыя за сусьветныя. Трэба імкнуцца ня толькі да імпарту капіталу, але не забывацца на экспарт, стварыць спрыяльныя ўмовы і для эксплуатацыі рэсурсаў іншых краін.

12-Д. *(стар. 365-369). Асноўныя кірункі рэформаў для выхаду з крызісу. Перадвыбарчая эканамічная платформа Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". 1995 год. Праграма падрыхтаваная Ценявым Кабінэтам Міністраў БНФ.*

# 1996

## АБ АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЦЫ ЎРАДУ ЛУКАШЭНКІ Ў ГАЛІНЕ АДУКАЦЫІ

**Заява Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

Палітыка ўраду Лукашэнкі ў сьферы адукацыі скіраваная на зьнішчэньне гістарычнай памяці і мовы беларускага народу. Робіцца ўсё, каб беларуская мова сталася чужою для наступных пакаленьняў беларусаў.

Чарговым крокам у гэтым кірунку стаў загад міністра адукацыі, паводле якога ў сьпісе абавязковых пісьмовых выпускных іспытаў за курс сярэдняй школы адсутнічае дзяржаўная беларуская мова. У той жа час выпускнікі абавязаныя здаваць пісьмова расейскую мову. Гэта зроблена сьвядома, каб адкінуць беларускую мову як навучальны прадмет у шэраг «непатрэбных» і непрэстыжных, каб выціснуць яе з сістэмы адукацыі, каб зьнішчыць беларускую нацыянальную школу.

Сойм Беларускага Народнага Фронту, абараняючы інтарэсы, законныя правы і будучыню беларускай нацыі, патрабуе спыніць дыскрымінацыю беларускай мовы ў школе і ў сістэме адукацыі ў цэлым. Патрабуем адмены дыскрымінацыйнага загаду.

(„Пагоня”, –1996, 16-22 лютага, №7(74)

**13-Д.** ***Заява Сойму БНФ „Аб антыбеларускай палітыцы ўраду Лукашэнкі ў галіне адукацыі.***



(Фота з друку.)

**14-Д.** ***Зьдзіўленьне. 1996 г.***

## СОЙМ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**13 студзеня 1996 году ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Сойм разглядзеў стратэгічныя задачы Фронту ва ўмовах пазапарламанцкай апазіцыі.**

Старшыня БНФ Зянон Пазьняк ахарактарызаваў сітуацыю ў краіне, як сітуацыю этнацыду, мэтанакіраванага зьнішчэньня беларускай нацыі:

«...Фактычна за апошнія паўтара года, а то трошкі болей, адбываецца прыхаваны і непрыхаваны этнацыд, зьнішчэньне беларускай культуры, мовы, нацыянальнай прэсы, навукі, адукацыі і нацыянальнай сьвядомасьці цэлага пакаленьня. Калі мы прааналізуем стан у навуцы і іншых галінах, асабліва гуманітарнай сьферы, то заўважым такую самую палітыку, прытым мэтанакіраваную і пасьлядоўную. Яна ідзе крок за крокам, зьява за зьявай. Гэта палітыка адшчыпваньня кавалкаў. Прэса манапалізавана. Адбываецца звужэньне сьферы ўжываньня беларускай мовы цераз матэрыяльны націск. Гэта не пытаньні крызісу, гэта пытаньні мэтанакіраванай палітыкі. Палітычная акцыя ,накіраваная супраць нашай школы, працягваецца. Цяпер ня проста не дапускаецца нічога беларускага (як пры бальшавіках), цяпер праводзіцца палітыка на вынішчэньне яго, на дыскрэдытацыю, на рэвізію гісторыі, на доказы розных міфаў, якія былі прыдуманы нашымі непрыяцелямі за часы акупацыі...»

Што ж прапануе Зянон Пазняк супрацьпаставіць этнацыду беларусаў? Нацыянальную ідэю.

«...Багацейшы вопыт гісторыі Эўропы паказвае, што адзіная кансалідавальная ідэя, адзіная дэмакратычная ідэя, якая стварае дзяржаву, нацыю, будучыню - гэта ёсьць ідэя нацыянальная. Нас 80 працэнтаў беларусаў на Беларусі. Вось усе гэтыя людзі незапатрабаваныя нацыянальнай ідэяй... Мы ставім знак роўнасьці паміж беларусамі і грамадзянамі Беларусі. Людзі, якія жывуць на Беларусі і ўспрымаюць беларускую нацыянальную ідэю і ёсьць беларусы, ёсьць грамадзяне Беларусі. У 19-м стагоддзі быў такі лозунг « Польшча для палякаў, Францыя для французаў і г.д.» Цяпер мы маем формулу 20-га стагоддзя. І формула сёньня гучыць так: «Беларуская дзяржава, беларуская мова, дэмакратыя». Прыдомак «дэмакратыя» абавязковы каб грамадзяне іншага паходжаньня маглі рэалізаваць свае нацыянальна-культурныя інтарэсы ў нашай дзяржаве і любой іншай.

Сойм даў ацэнку генацыду, які праводзіць расейская ваеншчына ў Чачні, асудзіў міжнародную супольнасьць за маўклівае патураньне вынішчэньню чачэнскага народу.

Сойм прыняў заявы: «Аб «стратэгічным курсе» Расейскай Федэрацыі і абароне дзяржаўных інтарэсаў Беларусі», «Да гадавіны расейска-чачэнскай вайны», «Да 700-х угодкаў беларускага нацыянальнага сімвала «Пагоня», «Аб палітычна-крымінальнай акцыі ў Віцебску».

**СТАНІСЛАЎ СУДНІК**

**15-Д.** ***Інфармацыя пра Сойм БНФ.*** *(„Пагоня”, – 1996, 19-25 студзеня)*

# Да Народнага Руху і ўсіх палітычных сілаў Украіны

## Зварот Сойму Беларускага Народнага Фронту

Вельмі шаноўныя калегі, сябры, браты!

Зьвяртаемся да вас ў надзвычай цяжкі для Беларусі час. Над нашай Бацькаўшчынай навісла пагроза страты незалежнасьці і разрабаваньня нацыянальных багацьцяў. Краіна апынулася ва ўладзе расейскіх сьпецслужбаў і іхных стаўленікаў. Растаптаныя беларускія нацыянальныя дзяржаўныя сімвалы і вернутыя камуністычныя, разбураецца беларуская школа, забараняюцца беларускія падручнікі, ідуць пад нож беларускія энцыклапедыі. На беларускім тэлебачаньні і радыё ўжо амаль не чуваць беларускай мовы. Прэзідэнт прылюдна ганьбіць беларускую незалежнасьць, мову, гістарычныя сьвятыні.

Разам са зьнішчэньнем усяго беларускага адбываецца інтэнсіўная крыміналізацыя ўлады. Прэзідэнцкія структуры адкрыта захопліваюць дзяржаўную маёмасьць і сродкі бюджэту. Рэформы паралізаваныя, інфраструктура эканомікі Беларусі аддаецца Расеі, і ў нашай краіне пачынае гаспадарыць расейскі капітал. Размова ідзе ўжо нават не пра карупцыю, а пра метадычнае рабаўніцтва краіны ўладаю.

Прэзідэнт Лукашэнка паталагічна ненавідзіць усё беларускае ня толькі з-за адсутнасьці культуры, ня толькі з-за свайго хваравітага стану (што само па сабе няшчасьце), але і таму, што разумее: за абарону нацыянальнай маёмасьці, уласнасьці і нацыянальных інтарэсаў выступаюць перш за ўсё сьвядомыя нацыянальныя сілы.

Дарагія ўкраінцы!

Палітыка Расейскай імперыі была агрэсіўнаю, падступнаю і варожаю нашым народам. Калі імперыі ўдасца захапіць Беларусь, гэта стане першым крокам да захопу Украіны. Не паддавайцеся ні на якія двудушныя маскоўскія ініцыятывы і спробы ўмяшацца ў вашае дзяржаўнае жыцьцё, ні на якія «інтэграцыі». Імперыялістычная дзяржава ня можа быць дэмакратычнаю. «Чудище обло, огромно, стозевно» не зьмянілася за вякі, і нашыя народы ведаюць гэта лепш, чым хто.

Цяпер крывавая маскоўская ўлада вядзе чарговую каланіяльную вайну, зьдзяйсьняе генацыд чачэнскага народу. Злачынствы супраць чалавецтва - спосаб існаваньня імперыі. Тое самае яна здольная рабіць з украінцамі, з усімі і ўсюды - гэтаксама, як рабілі з нашымі народамі ў 20-х, 30-х, 40-х гадах. Няма розьніцы паміж крамлёўскімі бальшавікамі і крамлёўскімі імперыялістамі. Хіба горкі досьвед Чачэніі, Грузіі, Малдовы, каўказскіх народаў, а цяпер і Беларусі не пацьвярджае гэтага?

Беражыце Украіну!

Вольная, незалежная Украіна можа стаць апірышчам свабоды ва Усходняй Эўропе. Ня можа быць заможным і шчасьлівым народ несвабодны, несамастойны на сваёй зямлі. Свабода, незалежная дзяржава, культура - найвялікшыя каштоўнасьці нацыі.

Цяпер, калі Расея намагаецца ажыцьцявіць «ціхую акупацыю» Беларусі, калі ідзе халодная вайна супраць нашай нацыі, усё больш людзей пачынае разумець значэньне нацыянальных каштоўнасьцяў. Беларускі Народны Фронт выступае як нацыянальна-вызвольная сіла. І мы будзем змагацца за нашую незалежнасьць, за ідэалы свабоды і дабра, дэмакратыі і культуры, ведаючы, што ў гэтай сьвятой барацьбе ў беларусаў ёсьць паплечнікі.

Слава вольнай Украіне!

Жыве Беларусь!

**16-Д.** ***Зварот Сойму БНФ да Народнага Руху і палітычных сілаў Украіны.*** *(„Пагоня”, – 1996, 15-21 сакавіка).*

# ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ГАЗЭТЫ „СВАБОДА”

Газэта *„Свабода”* (Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук, дэпутат ВС 12 скліканьня) *3-га траўня 1996 году*, на першай бачыне паведамляе, што 29 красавіка (пасьля Чарнобыльскага шляху):

„Лукашэнка выклікаў да сабе „на ковёр” усё кіраўніцтва сілавых структураў”... „Шэфу КДБ Уладзімеру Мацкевічу і намесьніку міністра ўнутраных спраў Леаніду Ерыну дасталося за тое, што іхнія падначаленыя не змаглі затрымаць Зянона Пазьняка. Маўляў, Пазьняк яшчэ раніцай сышоў з варшаўскага цягніка ў Менску, а КДБ пра гэта нічога ня ведаў. А той факт, што Пазьняку здалося зьнікнуць праз „чорны” выхад са штаб-кватэры БНФ падчас начной аблавы, прэзыдэнт назваў „непростітельным”.

*(Наклад гэтага нумару – 44.000.)*

* * *

*„Свабода”, 21 траўня 1996 г. Нумар 36, Наклад 41.750.*

*Першая паласа:*

# „ПАЗЬНЯКА, НАВУМЧЫКА ЗАТРЫМАЦЬ...”

„Улады заяўляюць, нібыта зусім не маюць намеру арыштоўваць Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, якія знаходзяцца цяпер у Варшаве. У сапраўднасьці ж усё выглядае якраз наадварот: лідэраў Народнага Фронту вельмі чакаюць на мяжы.

З некалькіх крыніцаў рэдакцыя СВАБОДЫ атрымала інфармацыю, што на ўсіх памежных пастах Беларусі у кнізе дзяжурнага КПП запісана наступнае ўказаньне: „Грамадзянаў РБ Пазьняка З.С. і Навумчыка С.І. пры выездзе-уездзе – затрымаць”. Распараджэньне датаванае 27 красавіка 1996 г.

Дарэчы, прыехаўшы ў Менск 26 красавіка, Зянон Пазьняк выехаў нелегальна з Беларусі ў польскую сталіцу толькі 8 траўня.

***Мікола Грынявіцкі”.***

# 1997


(Фота З. Пазьняка)

**19-Д.** ***Дзяцюк са Сьцягам.***

## СПРАЎЦЫ ГЛУМЛЕНЬНЯ

Лукашэнкаўская хунта нанесла велізарныя страты народу і дабрабыту Беларусі. У аснове яе паводзінаў ляжыць здрада нацыі і ні з чым не параўнальная крымінальная прага нажывы. Суд немінучы. Адбудзецца следзтва. Напэўна, сьвет будзе ўражаны, калі раскрыюцца навідавоку ўсе справы рэжыму, выявяцца сумы, нарабаваныя ў народа, асабліва салістамі дыктатуры.

Сярод будучых судовых справаў аб мільярдах Лукашэнкі, Ціцянкова і кампаніі важнейшым усё ж, без сумніву, павінен стаць суд над спраўцамі глуму і нішчэньня дзяржаўнага беларускага нацыянальнага сьцяга. Спадзяваньні на мяккасьць заканадаўства тут нікога не ўратуюць, бо той зьдзек, які ўтварыла хунта над нацыянальнай сьвятыняй — сьцягам — гэта сімвалічнае адлюстраваньне таго, што зрабілі яны зь дзяржавай і грамадзтвам. Адказваць прыдзецца па ўсіх артыкулах.



Захаваліся досыць падрабязныя (растыражаваныя па ўсім сьвеце) відэакадры, на якіх відаць, як група спраўцаў на чале зь Ціцянковым летам 1995 года зьдзеквалася зь беларускага сьцяга на даху будынка Вярхоўнага Савета Беларусі. У іх былі вясёлыя, самадавольныя, нахабныя фізіяноміі, калі яны рвалі на кавалкі дзяржаўны сымбаль нацыі і пісалі на палатне свае брудныя закаручкі. Потым яны прадавалі сьцяг па кавалачках за даляры. Гэтак жа, як і Беларусь, — агулам і ў розьніцу. Шмат каму задавалі пытаньне аб кары за глум. Адказы людзей можна тут нават і не пісаць. Патрабаваньне суду над спраўцамі бруднага ўчынку — гэта самая мяккая пазыцыя.

На здымку, зробленым з экрана тэлевізара, добра відаць чатыры асобы. У цэнтры Ціцянкоў крэмзае сьцяг. Астатнія задаволена ўсьміхаюцца. Хто гэтыя астатнія — даведацца нескладана. Але людзям цікава ведаць усё ж, хто? Зрэшты, зірніце на фатаграфію.

*Мар`ян Ванькевіч*

**20-Д.** ***Спраўцы глумленьня.*** *(„Беларускія Ведамасьці", – 1997, №2(6), стар. 17)*

# „СУПРАЦЬ ЗЬНІШЧЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ"

***(Заява V-га зьезду БНФ „Адраджэньне")****

Кіруючыся плянам зьнішчэньня Беларускай дзяржаўнасьці, афіцыйны рэжым вядзе асабліва апантаны наступ у галіне нацыянальнай адукацыі: гвалтоўна звужаецца сфэра ўжытку беларускай мовы, з імпэрскіх пазыцыяў пераглядаецца зьмест гістарычнай адукацыі, ад кіраўнічых пасадаў адхіляюцца нацыянальна сьвядомыя спэцыялісты, беларускія аўтары пазбаўляюцца магчымасьці выданьня ўжо падрыхтаваных імі падручнікаў, праз афіцыйныя моладзевыя арганізацыі выхоўваецца нігілістычнае стаўленьне школьнікаў і студэнтаў да нацыянальных каштоўнасьцяў.

Грамадзяне Беларусі, фактычна, пазбаўленыя магчымасьці навучаньня на беларускай мове. Актыўная русіфікацыя ў адукацыйнай сфэры прывяла, напрыклад, да таго, што за апошнія два гады набор у першыя беларускія клясы ў г. Менску скараціўся з 58% да 12%, а ў гарадах Магілёўскай вобласьці з 67% да 1,7%.

Практычна, вынішчана ўжываньне беларускай мовы ў вышэйшай адукацыі – у дзяржаве не існуе ніводнай ВНУ з навучаньнем на мове карэннага этнасу.

Сёньняшняя палітыка марыянеткавага рэжыму ў Беларусі зьяўляецца лягічным працягам палітыкі Расейскай імпэрыі і яе спадкаемцы Савецкага Саюза, скіраванай на асіміляцыю беларускай нацыі праз вынішчэньне беларускай адметнасьці.

Беручы пад увагу, што абавязковым атрыбутам незалежнай дзяржавы выступае нацыянальная мова, Беларускі Народны Фронт рэалізуе свае праграмныя палажэньні ў сфэры адукацыі ў рамках мэханізму супрацьдзеяньня лукашэнкаўскаму антыбеларускаму рэжыму.

*21 чэрвеня 1997 г., г. Менск.*

* Астатнія дакуманты 5-га Зьезду БНФ надрукаваныя ў часопісе „Беларускія Ведамасьці", – 1997, № 4 (8). – *(З. П.)*

# ЭПІЗОДЫ. НЕКАЛЬКІ ТЭКСТАЎ:

## КРАСАВІЦКАМУ СОЙМУ БНФ

Высылаю прэс-рэліз лукашысцкай місіі пры ААН. Рэліз разасланы ва ўсе амэрыканскія газэты і ў 102 адрасы дзяржаўных, палітычных і грамадзкіх арганізацыяў Амэрыкі і Эўропы.

Дрэннае ўражаньне ў эміграцыі. Ня могуць паверыць, што такое было, бо кожнаму зразумела, што нельга ісьці на „саюз з д'яблам" і сядаць „за адзін стол з бандытам".

Рада Эўропы і АБСЭ патрабавалі ў Лукашэнкі пачаць дыялёг з апазыцыяй. У рэлізе напісана, што ён пачаў такі дыялёг з Народным Фронтам (Ю. Хадыкам) у тэлеэфіры.

Гэта дае падставу рэжаму настойваць на ўступленьні у Раду Эўропы. Горшага глупства не прыдумаеш. У лістападзе мінулага году ўсіх заходніх палітыкаў зьдзівіў сваім ідыятызмам С. Шарэцкі, цяпер – прадстаўнік БНФ.

Прашу зачытаць пераклад рэліза Сойму. Таксама прашу высьветліць, што гэта за самадзейнасьць спадара Хадыкі.

ПРАПАНУЮ: уключыць пытаньне ў парадак дня Сойму, прыняць і потым распаўсюдзіць дакумант, які б дэзавуіраваў прапагандысцкую заяву лукашысцкай місіі пры ААН.

Спадзяюся на крытычныя адносіны да нашых памылак. У палітыцы ёсьць стандартныя хады, якіх трэба прытрымлівацца ўсім, хто хоча, каб іх сур'ёзна ўспрымалі.

Праект заявы прапаную падрыхтаваць спадарам Вячорку, Асташынскаму, Баршчэўскаму. Тэкст заявы, завераны пячаткай Сойму БНФ, адразу пасьля прыняцьця прашу выслаць мне на мой факс у Нью-Ёрк (пажадана у нядзелю ці не пазьней 1-й паловы дня панядзелка).

***З. Пазьняк Старшыня БНФ***

*13 красавіка 1997 г. Нью-Ёрк*

## ЗАЯВА СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Міністэрства замежных справаў Беларусі распаўсюдзіла, у тым ліку праз ААН, інфармацыю аб нібыта пачатку „дыялёгу" паміж Лукашэнкам і БНФ. Інфармацыя грунтавалася на факце прысутнасьці аднаго з кіраўнікоў БНФ Ю. Хадыкі ў тэлевізійнай прэс-канфэрэнцыі з удзелам Лукашэнкі.

Трэба заўважыць, што назаўтра пасьля тэлеэфіру сп. Хадыка быў чарговы раз асуджаны лукашысцкім судом за нібыта ўдзел у „несанкцыянаваным шэсьці" 2-га красавіка. Гэта паказвае сапраўдную вартасьць публічных заяваў рэжыму.

Сойм Беларускага Народнага Фронту заяўляе, што не мяняў і не мяняе свайго стаўленьня да нелегітымнага лукашэнкаўскага рэжыму, які быў і застаецца рэпрэсіўным і антыдэмакратычным. У Беларусі ёсьць палітычныя вязьні, тут душыцца свабода слова і дэманстрацыяў, апазыцыя ня мае рэальнага доступу да зманапалізаваных дзяржаваю СМІ. Рэжым карыстаецца поўнай падтрымкай Крамля і мэтанакіравана нішчыць саму беларускую незалежную дзяржаўнасьць. Беларускі Народны Фронт лічыць сваёй галоўнай палітычнай задачай вызваленьне Беларусі ад прафашысцкага лукашэнкаўскага рэжыму.

*13 красавіка 1997 г., Менск*

## АДКАЗНАМУ САКРАТАРУ УПРАВЫ СОЙМУ БНФ СП. В. СІЎЧЫКУ

Паважаны Вячаслаў, атрымаўшы прэс-рэліз (тэкст) беларускай місіі пры ААН, варта:

1. Прадубляваць дэзавуіруючае паведамленьне ад Управы.
2. У панядзелак на $12^{00}$ прызначыць прэс-канфэрэнцыю і даць інфармацыю аб прапагандысцкай дзейнасьці рэжыму і пра пазыцыю БНФ. Прытым калі гэта была прыватная ініцыятыва адной асобы, то трэба прызнаць, што яна не адлюстроўвае пазыцыю Фронта.

Прашу ўзгадніць з Баршчэўскім і Хадыкам і завершыць гэтую справу.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*13 красавіка 1997 г., Нью-Ёрк*

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ ЛІСТ

Беларускімі дыпляматычнымі арганізацыямі ў Амэрыцы распаўсюджаны 11 красавіка гэтага году прэс-рэліз пад загалоўкам: „President A. Lukashenka meets the opposition", у якім гаворыцца, што прэзыдэнт Лукашэнка, які ўзурпаваў уладу ў краіне, быццам бы ўступіў у дыялёг з апазыцыяй – Беларускім Народным Фронтам (БНФ). На самай справе гэта ёсьць чарговая дэзынфармацыя і ашуканцтва міжнароднай супольнасьці з боку рэжыму Лукашэнкі.

З гэтым маім паведамленьнем дасылаю тэкст заявы Сойму БНФ – вышэйшага кіруючага органа Народнага Фронта, дзе абвяргаецца непраўдзівая інфармацыя дыпляматычных структураў прэзыдэнта А. Лукашэнкі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***

*14 красавіка 1997 г., Нью-Ёрк*

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗЬНІ РЭЖЫМУ

Грубасьць, жорсткасьць, цынізм і зьнявага, зь якой дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ўжывае сілу супраць беларусаў, нязгодных зь яго акупацыйнай палітыкай, уразіў увесь сьвет. Галоўны рэпрэсіўны ўдар сьціраваны цяпер супраць беларускай моладзі, школьнікаў і студэнтаў, якія найбольш раздражняюць Лукашэнку.

25 жніўня схапілі і кінулі бяз суда ў турму актывістаў Маладога Фронту – *18-гадовага **Аляксея Шыдлоўскага*** (г.Стоўбцы), *22-гадовага **Вадзіма Кабанчука*** (г.Бабруйск) і *16-гадовага школьніка **Вадзіма Лабковіча*** (г.Менск). У турме ўсіх жорстка зьбілі. А.Шыдлоўскі пасьля зьбіцьця трапіў у турэмны шпіталь.

Ім прад'явілі абвінавачваньне ў роспісе сьцен антыпрэзыдэнцкімі лёзунгамі і заклікамі за свабоду Беларусі. Па закону гэтае абвінавачваньне (як і ва ўсіх іншых выпадках) не вымагае садзіць непаўналетніх у папярэднюю (сьледчую) турму. Ужо чацьвёрты месяц так званыя „сьледчыя" гэтае абвінавачваньне ня могуць даказаць. (Ды, відаць, і не зьбіраюцца.) Маладым палітычным вязьням адмовілі ў спатканьнях з бацькамі, бацькам забаранілі перадаваць арыштаваным усялякія перадачы, нават лякарствы, есьці даюць праз дзень. Да іх не дапускаюць адвакатаў. Калі вучню Лабковічу нейкім чынам удалося перадаць падручнік па беларускай мове, турэмная адміністрацыя гэты падручнік у яго адабрала і парвала. Хлопчыка, ні ў чым не вінаватага, пазбавілі права вучыцца ў школе. Цяпер яму зноў удалрося перадаць школьныя падручнікі. Але турэмнае начальства забараніла настаўнікам наведаць і праэкзаменаваць вучня. Уся 95-я школа Менска, дзе вучыўся Вадзім, і ўсе настаўнікі стаяць за яго і абураныя варварствам рэжыму.

У Беларусі і ў беларускай эміграцыі множацца патрабаваньні вызваліць маладых вязьняў рэжыму Лукашэнкі. Іх трымаюць у Жодзінскай сьледчай турме (г.Жодзіна, 40 км ад Менска), каб цяжэй было даехаць бацькам, сябрам і абураным людзям.

Я зьвяртаюся да сусьветнай грамадзкасьці, да беларусаў замежжа з заклікам узьняць свой голас у абарону і за вызваленьне з турмы гэтых беларускіх юнакоў. Нельга маўчаць, калі побач топчуць годнасьць маладога чалавека.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"*

**Вадзім ЛАБКОВІЧ**

Родам зь Менску. 16 гадоў. Вучань 11-га кляса 95-й школы г.Менска. Добра вучыцца. Першы раз быў затрыманы вясной 1997г. пад час масавай маладзёвай маніфэстацыі супраць дыктатарскага

рэжыму. Зноў арыштаваны 28 жніўня. Абвінавачаны па арт. 201 ч.2 і 86 ч.2 Крымінальнага Кодэксу („злоснае хуліганства" і „зьнявага дзяржаўнай сымволікі"). Кагэбісты лічаць, што ён разьвешваў у горадзе беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі.

Маці: Лабковіч Ядзьвіга Язэпаўна, таваразнаўца. Выхоўвае адна Вадзіма і меншага сына 4-класьніка. Маці Лабковіча адмовілася на запатрабаваньне пракурора Стаўпцоўскага раёна даваць паказаньні супраць сына. За гэта пракурор не дазволіў ёй спатканьні з сынам (што зьяўляецца парушэньнем закону, тым больш, што Вадзім няпаўналетні).

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Студэнт 1-га курса журналісцкага факультэту Беларускага Дзяржаўнага унівэрсытэту. 18 гадоў (нарадзіўся 27.12.1978). Выключаны з унівэрсытэту летам 1997г. за палітычную дзейнасьць у „Маладым Фронце". Вясной 1997 года быў арыштаваны на 10 сутак за ўдзел у студэнцкіх дэманстрацыях пратэсту супраць рэжыму. Трымаў галадоўку.

Родам са Стоўпцаў. Бацька: Міхась Пятровіч, працуе шафёрам. Маці: Раіса Янаўна, працуе на раённай пошце. Арыштаваны 25-га жніўня. Прад'яўлены тыя ж абвінавачваньні, што і В.Лабковічу. Сьледчы, які вёў справу ў Стоўпцах – **Панін Всілій Сцепанавіч**. Пракурор – **Мяцельскі Сяргей Васілевіч**. Са Стоўпцаў Аляксея перавялі ў Жодзіна. Там ён абвясьціў галадоўку пратэсту. За гэта быў па-зьверску зьбіты адміністрацыяй Жодзінскай сьледчай турмы. Страціў сьвядомасьць. Трапіў у рэанімацыю турэмнага шпіталю. Абвастрыліся хваробы: арытмія сэрца, астматычныя прыступы, запаленьне нырак.

**Вадзім КАБАНЧУК**

Выпускнік Беларускай Палітэхнічнай Акадэміі аўтатрактарнага факультэту, 22 гады. Арыштаваны 12-га кастрычніка пасьля масавай акцыі Народнага Фронту за ўдзел у вясновых дэманстрацыях. Знаходзіцца ў сьледчай турме ў Менску. Нарадзіўся і жыве ў Бабруйску. Бацька, Міхась Апанасавіч, рабочы. Маці Тацьцяна Карпаўна, бібліятэкар. Два прадзеды Вадзіма загінулі ў сталінскіх лягерах у Сібіры. Бабуля пры Сталіне адседзела восем гадоў і вярнулася з лягераў сьляпой.

У турме ў Вадзіма абвастрылмся хваробы нырак (піяланэфрыт), горла і сэрца. Маці забаранілі перадаваць яму лекі.

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997, № 5(9).*

# СВАБОДУ ПАЛІТЫЧНЫМ ВЯЗЬНЯМ СУМЛЕНЬНЯ Ў БЕЛАРУСІ: ВАДЗІМУ ЛАБКОВІЧУ, АЛЯКСЕЮ ШЫДЛОЎСКАМУ, ВАДЗІМУ КАБАНЧУКУ!

*20 сьнежня 1997г.* ў суботу ў ***Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў*** быў працоўны дзень. Насупраць галоўнага ўваходу ў будынак *ААН* на 1-й эвеню ў Нью-Ёрку сабралася вялікая грамада амэрыканскіх беларусаў, каб выказаць свой пратэст бесчалавечнаму рэжыму Лукашэнкі на Беларусі, які кідае ў турму няпаўналетніх за палітычныя погляды, утрымлівае за кратамі моладзь без суду, ужывае катаваньні, зьбівае людзей.

Дэманстранты патрабавалі неадкладнага вызваленьня з турмы палітычных вязьняў рэжыму: *16-гадовага школьніка **Вадзіма Лабковіча**, 18-гадовага студэнта **Аляксея Шыдлоўскага*** і *нядаўняга выпускніка Палітэхнічнай акадэміі **Вадзіма Кабанчука***. Усіх траіх вось ужо 4 месяцы без суду ўтрымліваюць у сьледчай турме па абвінавачваньні ў напісаньні лёзунгаў за свабоду Беларусі, супраць дыктатуры і рэжыму Лукашэнкі. Над дэманстрантамі была моц *бел-чырвона-белых* сьцягоў і плякатаў па-беларуску і па-ангельску: *„Патрабуем свабоды палітычным вязьням* у *Беларусі!"*, *„Патрабуем вызваліць з турмы В.Лабковіча, А.Шыдлоўскага, В.Кабанчука – палітычных вязьняў рэжыму Лукашэнкі!"*, *„Лукашэнка ператварыў Беларусь у турму!"* і інш.

Прысутныя хорам выкрыквалі лёзунгі, раздавалі лістоўкі амэрыканцам (у тым ліку і паліцыі), выступалі з прамовамі, дзе казалі, што справа вызваленьня В.Лабковіча, А.Шыдлоўскага, В.Кабанчука ёсьць зараз самай актуальнай і найважнейшай гуманітарнай справай беларускага грамадства й абаронцаў правоў чалавека, бо правы арыштаваных паламаныя, бо пад пагрозай іхны чалавечы гонар, свабода, здароўе і жыцьцё. Усе беларусы ва ўсім сьвеце павінны дамагацца вызваленьня з лукашысцкай турмы гэтых маладых беларускіх герояў, якія ахвяраваліся і церпяць за Беларусь!

Было выказана таксама зьдзіўленьне маўчаньнем так званага „незалежнага" друку ў Беларусі,* які замест таго, каб выступіць у абарону Лабковіча, Шыдлоўскага і Кабанчука, мусіруе пустапарожнюю маскоўска-палітычную (і, галоўным чынам, мафіёзную) тэму П. Шарамета,** якая ня мае ніякіх дачыненьняў ні да свабоды слова, ні наогул да вызвольнага змаганьня ў Беларусі.

Увогуле Захад як носьбіт больш гуманнай ідэалёгіі хутчэй адклікаецца на несправядлівасьць, паламаньне правоў і пакуты канкрэтнага чалавека і рэальных лэдзей. Беларусы Амэрыкі вельмі

---

* Пытаньне аб абароне ад зьнішчэньня ў турме маладых беларусаў В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука было паднятае на Беларусі і ў міжнародным маштабе мной і Сяргеем Навумчыкам. С. Навумчык „абзвоньваў" нават некаторых тыхчасовах апазыцыянераў (напрыклад, Г. Карпенку) і дакараў за маўчаньне. Мне прыйшлося тут „аббіваць парогі" шмат якіх „абарончых" арганізацыяў, пісаць мнаства лістоў, зваротаў, заяваў, арганізоўваць шэраг дэманстрацыяў у Нью-Ёрку, рассылаць сотні лістоў, друкаваць артыкулы, весьці перамовы. (У гэты ж час мне неўзабаве прыйшлося займацца справай вызваленьня з турмы С. Адамовіча, Ю. Мароза, У. Плешчанкі, праблемай У. Місько і інш.). Справа трох юнакоў была першай і мела прынцыповае значэньне. Улічваючы прынцыповасьць становішча і патрэбу недапушчэньня зьдзеку над моладдзю (пляны рэжыму былі зразумелымі), Сяргей Навумчык нават прапанаваў Лукашэнку абмяняць увязьненых А. Шыдлоўскага і П. Севярынца на сваю асобу, гатоў быў замест іх адсядзець у турме (гл. БДГ, – 1998, 5 траўня). Маладых усё ж засудзілі. Але рэзананс, які ўдалося выклікаць за мяжой і ў Беларусі па гэтай справе, выратаваў хлопцаў ад зусім марнага лёсу. Пазьней ніхто зь іх не зачапіўся ў палітыцы. Вядома, што ў турме іх „ламалі" (у гэтым сутнасьць Лукашысцкай „пасадкі" беларускай моладзі), двяіх спрабавалі вербаваць; Шыдлоўскі пасьля турмы выступаў супраць мяне як палітыка і старшыні Фронту, трымаўся нікчэмна, пісаў нават непаважлівыя тэксты „пра Пазьняка." (Далей пра гэта гл. разьдзел „1998") – *(З. П.)*

** Павел Шарамет, журналіст, чалавек з асяроддзя крэатуры прарасейскага кшталту. У 1997 годзе як карэспандэнт расейскага тэлебачаньня „ОРТ" ўблытаўся ў мафійная канфлікты, зьвязаныя з гандлем гарэлкай на Беларуска-Летувіскай мяжы (быў пасланы фільмаваць „канкурэнтаў"), за што разам зь іншымі быў арыштаваны рэжымам Лукашэнкі і кінуты ў каталажку. Расейскія „братья" (праз іншых людзей, вядома) паднялі ў палітыцы і СМІ страшэнны шум – „Свабоду Шарамету!" Гэта падхапіла адпаведная катэгорыя зь беларускіх СМІ, і ўсчаўся вэрхал, які, аднак, скончыўся амаль камічна. Арыштаваных выпусьцілі па просьбе Ельцына. – *(З. П.)*

занепакоены лёсам маладых вязьяў, бо тут ім (амэрыканцам) добра вядома, як лукашысты схапілі ў 1996 годзе маладога выкладчыка Бабруйскага лесатэхнічнага тэхнікума Юрыя Бабуджыева і 7 месяцаў без суду катавалі яго, „выбівалі" паказаньні. Турэмныя каты замардавалі Юрыя насьмерць. Яго забілі без суду ў турме, адабралі жыццё пакутніцкай сьмерцю, і ніхто ў Беларусі ня выступіў у яго абарону, не падняў голас аб адказнасьці забойцаў. Гэта страшны энкавэдзісцкі рэжым і страчанае грамадзтва.

***„Людзі, жывыя духам, здаровыя псыхічна, людзі добрай волі, беларусы павінны ратаваць, абараняць, змагацца за кожнага беларуса, за кожнага грамадзяніна Беларусі, які выступіў за свабоду і волю супраць дыктатуры і церпіць ад акупантаў,"–*** так гаварылася на беларускай дэманстрацыі перад будынкам *Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.*

Потым быў зачытаны калектыўны ліст у *Камісію па правах чалавека ААН*, які будзе перададзены таксама ў іншыя праваахоўныя міжнародныя арганізацыі.

***Зянон Пазьняк***

*Нью-Ёрк, 1997, сьнежань.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1997/98, № 6(10). Пад псэўд. Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ).*

# TESTING GROUND DESTRUCTION OF FREEDOM AND HUMAN RIGHTS IN BELARUS

***A lecture delivered on December 11, 1997 in Political Committee of Radio Liberty in Washington for American politicians, representatives of the State Department and journalists.***

Belarus has turned into a testing ground of post-Soviet dictatorship– being tested there are the adventureous plans of restoration of state totalitarism in the Eastern Europe. It is a place where freedom and human rights, as the main values of European culture, are subjected to ordeal and destruction.

The dictatorship in Belarus was established in November 1996 by dissolution of the legal Parliament, suspension of the Constitution and the work of the Constitutional Court judges. The reality that it is a dictatorship can be proved by the following facts. All legislative, executiveand court power are controlled by one person– president Lukashenka. He approves the appointment of all the top executive officials and their deputies, judges of all levels; he usurped the right to dismiss any official of governmental and even non-governmental institutions, notwithstanding of its form of property. At the same time, Lukashenka proclaimed his decrees to have priority over the laws. The state budget of the country is at Lukashenka's service. In fact there are three budgets: the official one, the second– so called „out-of-budget funds", and the third– the president's own budget, called „the president's fund", which is not controlled and checked and which receives large funds, distributed and used personally by Lukashenka.

The regime has completely monopolized all electronic mass media and the central printed media. All international conventions and domestic laws are largely ignored. Full control is established over entrepreneurs and private enterprises, which are catastrophically shrinking. All banks are taken under state control. The body of independent attorneys is liquidated. A system of dependence of judges on the president is introduced. The same is true for the power ministries, which received extraordinary rights from the president. Human rights are completely ignored.

The dictatorial regime in Belarus has its unique features. It is KGB-installed, pro-Russian and is directed against Belarusian independence. It has established itself through the seizure of power by anti – independence forces. The government key positions are held by people known as the KGB officers. The domestic policy is oriented against Belarusian statehood, which is systematically destroyed by discrimination against the Belarusian language in official use and in the educational sphere, including destruction of culture, mass transforming Belarusian schools into Russian ones, falsification of history, a ban on textbooks, ridiculing of Belarusian national activists, breaking of the national education system and centers of education and culture, preventing ethnic Belarusians from taking important positions, politicswhich are the reanimation of Soviet Communist policies. Human rights are brutally violated, and Belarusians are persecuted for their nationality, includingpersecutions for spesking Belarusian in public, using the national flag, badges with national colors, lay-offs for belonging to opposition organizations. The foreign policy is oriented on the liquidation of the sovereignty of Belarus and integration with Russia.

The political sense of changes in Belarus during perestroika and the collapse of the Soviet Union might be described as the redistribution of state property among the Sovier nomenklatura, which preserved power and institutions like the KGB– the pillar of Communist totalitarianism. Weakened but not destroyed, the KGB becam, after the collapse of the USSR, a semi-autonomous force preserving Russianinfluence in national republics and trying to take its share in redistribution of power and property. Belarus became a testing ground for the plans of reviving the imperial idea, even in the time of prime-minister V.Kebich. Lukashenka, a former KGB employee, was in a seemingly democratic manner elected as president with the help of KGB structures. The further seizure of power included introduction of censorship and mass media monopolization, a struggle with Parliament and the Constitutional court, trade unions and the Belarusian Popular Front; the illegitimate referendum of 1995, a ban on national Belarusian symbols.

At the same time, the main plan of special services and Lukashenka's dream were seizure of power in Russia through formation of an „unified" Belarusian-Russian state and new presidential elections, with the successful scenario of 1994's Belarus.Through influence on the electorate, KGB structures hoped to push Lukashenka to power as the president of a Russo-Belarusian union.

This plan, though incredible as it might seem, was quite real, for its first part was already implemented in Belarus. Its success might change the situation not only in Eastern Europe, but in all the world. If the hand of collective-farm dictator and Hitler's admirer Lukashenka could reach the nuclear start buttons of Russia, then Saddam Hussein would seem a much less dangerous factor compared to Lukashenka.

Representatives of the Belarusian Popular Front, from 1995 on, tred to warn the world community and the Russian publik about Lukashenka's pretensions and the secret services' plans.

Only after two years, Russian reformists and Yeltsin have realized that it is not a joke.

But the situation is complicated by the old Russian policies of overtaking Belarus and new Russian nationalism, and thus most of the Russian politicians stand on the same platform as Lukashenka, despite differences in phraseology. That is why the Russian authorities supported Lukashenka's coup of November 1996, and even took part in it. Now hard bargaining is going on. Lukashenka offers Belarusian independence in exchange for a share in the Russian system of power, but the Russians, though welcoming incorporation of Brlarus, are not ready to satisfy Lukashenka's

aspiration. Such a situation explains somewhat the recent events in Belarusian-Russian relations.

In the system of political and legal repressive measures which Llukashenka's regime uses for achieving his strategic plans and strengthening his dictatorship, the main point and objective is to suppress the Belarusian people, their rights and freedom. At the same time, for the Belarusian Popular Front and the opposition-minded segment of Belarusian society, human rights, jointly with state independence and liberty, became the focal points of struggle against the dictatorship. And here is the root of conflict between the forces of freedom and oppression. The dictatorship is aware that only having oppressed and scared an individual, only having deprived him of all his rights, the government eliminate the resistance against the regime and be able to promote its plans.

The roughness, brutality, cynicism and the contempl with whch Lukashenka's regime uses force against Belarusians who do not agree with his policies, has stunned the world. The internal policy of the regime is built on the psychology of hate and suspicion, on suppression and brutal force, on the idea of struggle with the enemies of president Lukashenka. The strength of repressive activities is turned on youth and students, who are the most irritating for Lukashenka.

In order to illustrate the specifics of these repressions and deprivation of people's rights, here are several facts. After the November coup of 1996 it became routine for police special units to trace down and incarcerate people in Minsk and other Belarusian towns, whom they consider to be dangerous. Student Zhenia Mitraeva, age 17, says: „I was walking down the street. Suddenly a car stopped near me and two men whith angry faces jumped out of it. They were plain clothed. I was scared, they really had beast-like faces. Without saying a word they started to push me into their car. I did not realize it was police. When I resisted, they banged my hesd against the car. In the car they insulted me." At police station she was beaten up, no accusation was given. Following the incident Zhenia was hospitalized with a head injuru. It all happened on April 2, 1997. Zhenia's father failed to bring the police to trial.

Juras Maroz (Viciebsk) addressed police officers wiht a question. Because he asked the question in Belarusian language, he was beaten up, and found himself in a reanimation unit with head injury. Acourt rejected his case.

On September 30, 1997 a group of police officers has severely beaten a young worker Alaksandar Kontus for speaking Belarusian and for his membership in the Belarusian Popular Front. He lost conscience. Police officers searched him and confiscated 300 thousand Belarusian rubles ($ 11). The young man was taken to a hospital, and doctor's diagnosis was „broken ribs with penetration into lungs". A court does not want to process the case.

Dzimitry Bushmakou, high school student in Minsk, was detained on the street without any obvious reason. He was beaten whith his head against the car door and spend 7 hours in a police station. He was forced to sign a blank sheet of paper.

On October 12, 1997, student Dudzin was grabbed in the street by a group of police officers for participating in the demonstration, brought into a building and severely beaten.

In July 29, 1997 Siarhiej Salash on suspicion of participating in a demonstration was grabbed on the street in Minsk. He has with him a book in Belarusian – „Belarusica". For that he was beaten and put on trial. The argument was that „if he carries a book in Belarusian, he was participating in the demonstration".

Police broke into the apartment of Mr V. Umrejka, and started to tear off white-redwhite badges from the clothes of people present, and took Belarus national flag which was in the apartment. The family was insulted for its background: Belarusian.

There are hundreds of cases of such violations of human rights recorded in 1997. On August 25, 1997, the activists of Young Front organization Alaksei Shydlouski (age 18, Stoubcy), Vadzim Kabanchuk (age 22, Babruisk) and Vadzim Labkovich (16, Minsk) were arrested and jailed. In prison all three were severely beaten and A. Shydlouski was taken to the prison hospital. All three were accused of writing anti – Lukashenka graffiti and appeals for freedom of Belarus. According to the law sich actions do not call for incarceration. But the young people are still kept in prison for about foul months, and the investigators can not prove they are guilty. The young political prisoners were denied meeting with their parents, medication, receiving packages; they are given fool every other day. Their lawyers are not allowed to visit them. When student Labkovich managed to receive a Belarusian language textbook, administration confiscated and destroyed it. The innocent boy was deprived of his right to go to school. The prison authorities prohibited teachers to visit their pupil.

All students of high school No.95, where Vadzim studied, and all the teachers are on his side and are indignated by the barbarism of the regime. In Belarus, and among Belarusians abroad, voices are growing for the release the young prisoners.

***I ask the world community to raise their voice for the Belarusian young people, for their release.***

The teacher of Babruisk forestry college Yury Babudzhieu was arrested in 1996 and accussed of taking bribes. Then the teacher was kept in prison for 7 month, where he was beaten and tortured. Babudzhieu died from tortures before he was judged in court. Prior to his the death, when he was taken to reanimation unit in the Babruisk hospital, it was hard to recognize him – a healthy man turned into a skinny 48 kg creature which could hardly speak. The doctors diagnosed pneumonia, paralized right side, injures of inner organs – lungs and liver. Shortly before his death Babudzhieu told his mother that he was continuously beaten. Nobody answered for that. This is today's reality of the regime installed by Mr. A.Lukashenka.

There are recorded hundreds of similar violations. This is only one aspect of the problem. Violation of human rights in Belarus is broad and multifaceted, it is present in all spheres of life and human relations. It is symptomatic though, that it's thoroughly planned by the regime as a method of the state power policy. It is followed by criminal-like legislation and legitimization of state terror as a norm of official acts and state dictatorial moral.

In November 1997, Lukashenka's pocket parliament – „the house of representatives", passed a law callrd „On the organs of KGB in the Republic of Belarus", as controlled by the president. In this legislative peice it is said that KGB has the right to „enter at any time living premises and other structures belonging to citizens, with breaking of locks if necessary, and on the land plots belonging to them; have right to detain persons, use weapons and physical force, held interrogations". By the way, such „rights" among total rightlessness have in Belarus practically all state organs and their functionaries.

Lukashenka's regime has officially approved wire tapping of citizens. At the beginning of 1997 Ministry of Communications of Belarus issued a new text of agreement with the users of telephones, where it is said: „Customer must not allow to use telephone talks for the aims which confront state interests and public order. Otherwise the telephone will be disconnected, and agreement voided". This indicates that telephone talks are overheard and when criticism of Lukashenka's regime is heard, the telephone will be disconnected.

In order to held more freely the repressions, Lukashenka issued a decree No 12 in May 1997 by which he banned the free attorney's activities in Belarus. The lists of „not loyal" attorneys are compiled, many lost their licences. The famous attorney Nadzieia Dudarava, who took active part in

political cases and defended her clients free of charge, now faces criminal and administrative investigation because she accused Lukashenka's judges in non-objective handling of court process.

Attorneys are turned into a part of the state bureaucracy. In order to practicise, one has to join the official attorneys' collegium which remained intact from the Soviet times. On September 30, 1997, Minsk city attorneys' collegium (official one) expelled from its ranks an attorney Harry Pahaniaila, who defended people disliked by Lukashenka. The expelling, according to the president's decree, means deprivation of right to practicise. In general the regime does not need attorneys at all, as it does not need the parliament.

There is an extraordinary pressure on judges and on courts. Lukashenka issued an instruction to consider living premises of judges as belonging to the courts and other organizations. That means that when a judge is not „loyal" to the regime, he will be layed off and thrown out of his apartment.

The next step of the regime – to prepare „new" legislation on appointment of judges. It is proposed that judges will be elected for 5 years on the judges' congress. It means all of judges will be dependent and manipulated by the regime using their fesr to lose their homes. I think no commentaries here are necessary.

The rationale of such actions, to my mind, is nit only in destruction, simplification and submission of the court system to the regime. The sense is in creating of possibilities for repressions in decisive hour, for which the dictatorship prepares itself. The dictatorship in Belarus and its head Lukashenka have KGB nature and KGB/NKVD psycology. This regime cannot avoid repressions. The question is only in their scale, which seems relative in that great political game, which Lukashenka tries to play.

Finally the main question is – where is the way out? I see it only in removal of Lukashenka. This must become a goal not only for the Belarusian Popular Front, but for all people of Belarus, who reject the reign of dictatorship. And this people are a majority.

Claiming removal of Lukashenka, I propose to go further– to liquidate in general the system of presidency in Belarus and return to a parliamentary republic, in order to establish a normal democracy and normal democratic relations in society.

The Belarusian public is pronouncedlysovietized, with aging population and pro-Soviet psychology of significant part of people. Neither society, nor proposed candidates on president's position are not ready for presidential form of rule. If the system not changed, the result of Lukashenka's removal and of new elections might be a new dictator and Moscow's marionette. That is why the question of power must be decided in political and systemic sense according to the society's condition.

In practice, there is no legal mechanism for removal, although not all opportunities are closed. But even if there were a mechanism, the decisive factor for change in such a situation will be a political factor, the factor of mass public force, mass pressure on the dictator, all-out public nonviolent struggle. Is that possible? I think– yes, possible, and necessary. So mach so that the same struggle took place not long ago, when Communism and the USSR collapsed. It is true, then there was a solidarity of all who struggled with Communism and of all the free world which supported the struggle. The question– who will support us, Belarusians– is open. But nothing will stop our struggle for freedom.

***Zianon PAZNIAK***

*December 11, 1997. Washington, D.C.*
*(Пераклад на ангельскі В. Буйвала)*




**26-Д.** ***Дэманстрацыя беларусаў Нью-Ёрку перад ААН у падтрымку палітычных вязьняў. 1997 г.***

# 1998



(Фота С. Грыца)

**27-Д.** ***Маналог з рэжымам.***

# ЗАЯВА ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ АБ „ГРАМАДЗЯНСТВЕ” БНР

**Рада БНР як носьбіт ідэі незалежнасьці Беларусі, угрунтаванай на ўстаўных граматах Рады БНР і Акце 25 Сакавіка 1918 году, вітае ўсіх прыхільнікаў гэтай ідэі. Людзі, што працуюць на карысьць ужыцьцяўленьня ідэі беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці, маюць аснову ўважаць сябе за грамадзянаў БНР. Такое сымвалічнае грамадзянства набывае маральнае і палітычнае значэньне, бо супрацьдзеіць нацыянальнай здрадзе, якую праводзіць рэжым дыктатара Лукашэнкі і спрыяе ўмацаваньню і пашырэньню руху за ўсталяваньне дэмакратыі ў Беларусі і адраджэньне беларускай культуры ды ўмацаваньне свабоды разьвіцьця культуры нацыянальных меншыняў на Беларусі.**

*Нью-Ёрк, 13 сакавіка 1998 г.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12).*

# СВАБОДУ АЛЯКСЕЮ ШЫДЛОЎСКАМУ

***Лабковічу** – адтэрміноўка. **Шыдлоўскаму** – турма*: такі прысуд лукашэнкаўскага суда. Турма строгага рэжыму за ***„люблю Беларусь”***.

Калі параўноўваць з акупацыяй бальшавіцкай, дзе расстрэльвалі дванаццацігадовых за збор каласкоў на калгасным полі, то палітычная расправа над беларускімі юнакамі выглядае амаль што „гуманнай”. Зрэшты, мяне б не зьдзівіла, калі б загадалі і расстраляць. Рэжым гатовы націскаць на куркі, а грамадства гатовае даносіць *(хлопцаў схапілі па даносу сэксота*).

**Жыцьцю Шыдлоўскага пагражае небясьпека.** Мы бачым, што адбываецца . Адбываецца ня толькі рэалізацыя нянавісьці акупантаў да ўсяго беларускага, ня толькі застрашваньне беларускай моладзі, адбываецца яшчэ і помста лукашэнкаўскіх кагэбістаў Аляксею Шыдлоўскаму за адмову яго жонкі студэнткі Іны Піменавай супрацоўнічаць з КДБ, абгаворваць Аляксея і яго сяброў, удзельнічаць у правакацыі супраць дзеячоў *БНФ*. Гэта помста за правал бруднай кадэбісцкай правакацыі з нібыта згвалтаваньнем Піменавай. Кадэбісты пагражалі ёй, што, пры адмове „супрацоўніцтва” і ўдзелу ў правакацыі, яна ніколі больш ня ўбачыць Аляксея: яго пасадзяць надоўга і згнояць у турме.

Мы бачым, як пагрозы нелюдзяў, папярэднікі якіх замардавалі 70 мільёнаў людзей, зноў пачынаюць ажыцьцяўляцца ў Беларусі.

Аляксея кінулі ў сырую турэмную камеру ў падвале Пішчалаўскага замку. З-за сырасьці там не зажывае і гніе нават драпіна на руцэ. Аляксей падаў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд. Пакуль суд зьбярэцца, Шыдлоўскага будуць гнаіць у Пішчалаўскай турме. Потым яго вышлюць далей зь Менска, куды-небудзь у Глыбокае ці Воршу і пастараюцца там, пры маўчаньні грамадства, зламаць і зьнішчыць.

Я не выпадкова кажу, што „пры маўчаньні грамадства”. Скончыўся „суд”, пададзена інфармацыя, выказаны абурэньні, і на гэтым можа спыніцца інтэрас да лёсу маладых ахвяраў акупацыйнага рэжыму. Зьявяцца новыя ахвяры, узьнікнуць іншыя клопаты, і пра расправу над Шыдлоўскім стануць гаварыць у мінулым часе.

***Гэтага нельга дапусьціць, бо расправа над Шыдлоўскім прадаўжаецца, але грамадства можа выратаваць яго ад пакутаў, калецтва і сьмерці.***

Нармальнае грамадства павінна змагацца за справядлівасьць, за жыцьцё чалавека, абараняць яго гонар і годнасьць. Беларусы не павінны дапускаць, каб зьдзекваліся над беларусам. Інакш гэтае дзікунства і акупацыя ніколі ня скончацца.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці,– 1998, № 1(11). Пад псэўд. Мар’ян ВАНЬКЕВІЧ)*

# ЗАЯВА АБ ПРАПАГАНДЫСЦКАЙ КАМПАНІІ СУПРАЦЬ ЛАТВІІ

Выклікае непакой і насьцярожанасьць антылатвійская кампанія, разьвязаная сродкамі масавай інфармацыі, дэпутатамі Думы і палітыкамі Расеі. Зьвяртае на сябе ўвагу неадэкватны тон і недапушчальныя азначэньні з боку кіраўнікоў Расеі, якія называюць разгон дэманстрацыі рускіх адстаўных службоўцаў і пэнсіянераў „генацыдам” (В.Чарнамырдзін) і іншымі моцнымі словамі. Кіраўніцтва Расеі пастаянна дэманструе сваю незвычайную ўзрушанасьць дзеяньнямі латышскай паліцыі адносна дэманстрантаў.

Але мы бачым адначасна поўную абыякавасьць рускага кіраўніцтва да грубага парушэньня правоў чалавека ў Беларусі, да масавых зьбіваньняў АМАПам дэманстрантаў, моладзі, жанчынаў, журналістаў, да масавых арыштаў, кіданьня ў турму без суда за палітычныя погляды, за размову па-беларуску. Маскава абыякавая да бясчынстваў і рэпрэсіяў, якія робіць ў Беларусі дыктатарскі рэжым Лукашэнкі.

Усё гэта ня йдзе ні ў якое параўнаньне з інцыдэнтам у Рызе. Расея – адзіная краіна ў Эўропе, якая заявіла аб прызнаньні дыктатарскага, антыбеларускага, антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі, а спадар Чарнамырдзін, які паказвае ўсхваляванасьць падзеямі ў Рызе, сам асабіста меў дачыненьне да антыканстытуцыйнага перавароту ў Беларусі ў лістападзе 1996 году.

Усё гэта прымушае сумнявацца ў шчырасьці рэакцыі і азначэньняў палітыкі Латвіі з боку расейскага кіраўніцтва. Тут відавочны штучна створаны націск на Латвію з палітычнымі мэтамі і заплянаванымі інтарэсамі.

Міжнародная супольнасьць не павінна быць у чарговы раз уведзена ў зман прапагандысцкай кампаніяй Масквы.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*20 сакавіка 1998 г Нью-Ёрк.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12).*

# РЭЖЫМ ЗАБРАЎ У НАРОДА СЬВЯТА

***(Заява Сойму БНФ „Адраджэньне”)***

У 1992 годзе дэпутаты Беларускага Народнага Фронту дамагліся ад Вярхоўнага Савету прызнаць сьвяточнымі асноўныя хрысьціянскія сьвяты – Каляды, Вялікдзень, Радаўніцу і Дзяды.

У 1998 годзе Лукашэнка выдаў дэкрэт аб сьвяточных днях, якім забараніў людзям належна сьвяткаваць Вялікдзень паводле абодвух календароў. Ён скасаваў сьвята Дзяды – спрадвечны дзень ушанаваньня продкаў. Прэзыдэнцкі дэкрэт абурыў нават тых, хто прывык безаглядна верыць Лукашэнку.

Гэты крок Лукашэнкі невыпадковы. Нагадаем, як абышоўся ён з нацыянальнымі і агульнахрысьціянскімі сьвятынямі раней.

У 1991 годзе старажытны беларускі гэрб Пагоня, дзе на шчыце рыцара – сьвятога Юр'я – выяўлены Патрыяршы крыж, або Крыж сьвятой Ефрасіньні Полацкай, стаў дзяржаўным гэрбам. Народнае белае палотнішча з чырвонай паласой – колеру Хрыстовых пакутаў – стала тады дзяржаўным сьцягам Беларусі. Але, прыйшоўшы да ўлады, Лукашэнка ў 1995 годзе замяніў гэтыя старажытныя і сьвятыя для хрысьціянаў сымбалі на савецкую атрыбутыку – гэрб з пяціканцовай зоркай і чырвона-зялёны сьцяг – „сымвал", пад якім тварыліся сталінскія злачынствы.

Тады ж пачалося вяртаньне хлусьлівых падручнікаў гісторыі савецкага часу. Тады ж быў адменены статус нашай мовы як адзінай дзяржаўнай мовы Беларусі, і яна, не пасьпеўшы як мае быць адрадзіцца, зноў апынулася ў паняверцы.

Лукашэнка зноў зрабіў „чырвоным" днём 7 лістапада – чорную дату камуністычнага перавароту ў суседняй Расеі. Затое адменены сьвяточны Дзень Канстытуцыі, чым рэжым засьведчыў сапраўднае стаўленьне да Асноўнага закону краіны. Дзень аднаўленьня незалежнасьці Беларусі 27 ліпеня заменены на „дзень рэспублікі" 3 ліпеня, дату, калі на зьмену нямецкаму акупанту ў краіну вярнуўся сталінска-бальшавіцкі рэжым.

Але сапраўдныя народныя сьвяты немагчыма забараніць. У нашых сэрцах і душах жывуць Вялікдзень і Дзяды, жывуць Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка і Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасьня. І як толькі рэжым Лукашэнкі згіне, гэтыя сьвяты вернуцца ў наш каляндар.

*11 красавіка 1998 г., Менск*

# ФРОНТ І ВЫБАРЫ ДЫКТАТУРЫ

Выбары – вялікая падзея і выпрабаваньне для палітычнае арганізацыі. Для некаторых партыяў на Захадзе гэта пік дзейнасьці і вяршыня актыўнасьці. У гэты час дзейнічаюць і выконваюцца самыя жорсткія партыйныя законы, датрымліваюцца ўсе праграмныя і статутныя абавязкі.

*Беларускі Народны Фронт* строга прытрымліваўся і прытрымліваецца гэтых палітычных правілаў. Парушальнікі выключаліся з *БНФ* нават цэлымі першаснымі арганізацыямі. На выбарах ня можа быць ніякай расхлябанасьці і анархіі ў працы, бо выбарчая кампанія ёсьць жорстка вызначаны палітычны працэс, незалежна ад таго, удзельнічае ў ёй партыя, ці ня ўдзельнічае, пасыўная яе роля, ці актыўная.

Бадай адзіны раз, калі *БНФ* ў пэўнай ступені праявіў няўзгодненасьць і мяккацеласьць – гэта ў 1996 годзе восеньню, у час выбарчых маніпуляцыяў Лукашэнкі. Вопыт паказвае, што заўсёды знаходзяцца людзі, у якіх жаданьне стаць дэпутатам ці удзельнічаць у выбарах засцямняе розум, робіць іх неўсьведамляльнымі. Яны гатовыя парушыць нават статутную дысцыпліну і элемэнтарную палітычную лёгіку.

Лукашэнкаўскія выбары ва ўмовах акупацыйнай дыктатуры па нелегітымных законах – гэта ня тая справа, у якой Фронту можна памыліцца. Вынікі памылкі маглі б стаць вельмі пагрозьлівымі. Таму *БНФ* заранёў дакладна вызначыў сваю пазыцыю і лінію паводзінаў. *„Беларускі Народны Фронт ня будзе ўдзельнічаць у любых выбарчых спэктаклях пры захаваньні антыдэмакратычнага рэжыму і сістэмы фальсіфікацыяў,"* – сказана ў заяве *Сойму БНФ*.

Ухвала Сойму Партыі БНФ ад 17-га студзеня 1998 г. дае наступнае вызначэньне пазыцыі: *„Партыя Беларускага Народнага Фронту пацьвярджае, што дэмакратычныя выбары ў нашай краіне магчымыя толькі пры вяртаньні да Канстытуцыі 1994 году, спыненьні палітычных рэпрэсіяў і перасьледу незалежнай прэсы, вольным доступе ўсіх палітычных сілаў да радыё і тэлебачаньня, дэмакратычным фармаваньні выбарчых камісіяў. Мы ня маем ніякіх ілюзіяў, што рэжым Лукашэнкі выканае гэтыя ўмовы. Таму Партыя БНФ ня будзе ўдзельнічаць у выбарчых інсцэніроўках."**

11-га красавіка Сойм БНФ прыняў рашэньне, якое будзе няўхільна выконвацца. Зьмест яго наступны:

Лічыць немагчымым актыўны альбо пасыўны ўдзел сяброў БНФ „Адраджэньне" ў любых кампаніях выбараў, прызначаных А. Лукашэнкам паводле „канстытуцыі" 1996 г.

Парушэньне п.1 гэтага Рашэньня цягне за сабой выключэньне з шэрагаў БНФ „Адраджэньне", як за дзейнасьць, супярэчную Статуту БНФ „Адраджэньне".

Трэба адзначыць, што гэтае Рашэньне, як і ўсе дакументы па выбарах, прынятыя абсалютнай большасьцю сяброў Сойму (супраць не галасаваў ніхто). Цяпер у Фронце, практычна, ўсе разумеюць, што супрацьстаячыя рэжыму сілы не павінны удзельнічаць у дыктатарскіх выбарах. Для Фронта – гэта пытаньне яго палітычнай пэрспэктывы і будучыні вольнай Беларусі.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 6(16). Пад псэўд. Мар'ян Ванькевіч)*

# АБ ЗЬВЕРСТВАХ РЭЖЫМУ ЛУКАШЭНКІ І КАТАВАНЬНЯХ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСАЎ І ДЗЯЦЕЙ КАРНЫМІ ВОРГАНАМІ ДЫКТАТУРЫ

Фактарам палітычнага жыцьця Беларусі апошніх гадоў стала далучэньне да дэмакратычнага руху тысячаў юнакоў і дзяўчат. Становячыся ў шэрагі *Беларускага Народнага Фронту*, яны выбіраюць шлях пабудовы незалежнай дэмакратычнай Беларусі, вернасьці роднай культуры і мове, шлях супраціву дыктатуры КГБ, якая, фактычна, кіруецца структурамі Расеі. Рэжым імкнецца прымусам задушыць дэмакратычны маладзёвы рух; асноўны цяжар рэпрэсіяў ськіраваны супраць актывістаў *„Маладога Фронту"* – маладзёвай арганізацыі *БНФ „Адраджэньне"*.

8 месяцаў знаходзіцца за кратамі ***Аляксей Шыдлоўскі*** (*19 год*), які асуджаны на 1,5 гады турэмнага зьняволеньня за надпісы на сьце-

* Маргінальныя дэмакратычныя партыі, а пасьля расколу БНФ у 1999 годзе, і прагматычная частка БНФ, рэгулярна ўдзельнічалі ва ўсіх выбарах рэжыму. За ўвесь час у рэжымны „парлямант" не прайшоў (ня быў прапушчаны) ні адзін чалавек з апазыцыі. Ніякіх высноваў з гэтага дэмакратычнай „апазыцыяй" не было зроблена, ніякай новай тактыкі за ўвесь час не прапанавана, ніякай працы з выбаршчыкамі не праводзілася. – *(З. П.).*

нах *„Жыве Беларусь!”* Зьбіты аховай, ён знаходзіўся у турэмным шпіталі. За тое ж „злачынства” правёў 6 месяцаў у турме ***Вадзім Лабковіч*** *(17 год)*, ад якога пагрозамі вымушалі паказаньняў супраць А. Шыдлоўскага. За публічнае сьпяваньне беларускай песьні і выказваньне пратэсту супраць анэксіі Беларусі Расеяй кінуты ў турму лідэр *„Маладога Фронту”* ***Павал Севярынец*** *(21 год)*, супраць яго ўзбуджана крымінальная справа. За ўдзел у дзейнасьці *Беларускага Народнага Фронту* студэнтаў выключаюць з вышэйшых навучальных установаў. У той жа час на тэрыторыі Беларусі пры падтрымцы рэжыму свабодна дзейнічаюць мясцовыя філіі расейскіх шавіністычных і адкрыта фашыстоўскіх арганізацыяў.

Падчас і пасьля заканчэньня кожнай мірнай акцыі пратэсту (незалежна – дазволенай або недазволенай ўладамі) міліцыя і бандыцкія групоўкі, якія знаходзяцца на службе рэжыму, арганізоўваюць сапраўднае паляваньне за маладымі людзьмі і дзецьмі. Іх жорстка зьбіваюць пры затрыманьні, дастаўляюць у міліцэйскія пастарункі, дзе іх зноў зьбіваюць і запалохваюць. У апошнія 2 месяцы карныя органы рэжыму пачалі ўжываць катаваньні супраць моладзі і, што яшчэ больш жахліва, *супраць непаўналетніх дзяцей*. Найбольш зьвестак пра гэтую злачынную практыку паступае ад ахвяраў, якія знаходзіліся ў Савецкім раённым аддзеле ўнутраных справаў г. Менска.

У міліцэйскім пастарунку жорстка зьбівалі ***Сьцяпана Кульчанку*** **(**17 год) і ***Івана Абадоўскага*** *(19 год*). Абадоўскі пазьней быў захоплены бандыцкай групоўкай рэжыму. Яго завезьлі ў лясны масіў *Курапаты* (дзе савецкія ўлады расстралялі сотні тысячаў нявінных людзей ў 1937 – 1941 гг.) і папярэдзілі, што „назаўсёды пакінуць яго тут, калі ён будзе й надалей пратэставаць супраць рэжыму Лукашэнкі”. Двойчы арыштоўвалі ***Алену Яфіменку*** *(16 год*), білі і патрабавалі ад яе паказаньняў супраць П. Севярынца. ***Аляксандра Піткевіча*** *(26 год*), які быў захоплены міліцыяй пасьля нападу на яго бандыцкай групоўкі рэжыму, параненага, пакусанага сабакамі, міліцыянты зьбівалі ў пастарунку, пасьля чаго ён апынуўся ў шпіталі. ***Зьміцера Васьковіча*** *(15 год*), які мае хворы страўнік, зьбівалі і на працягу 4 сутак далі есьці 1 раз. Юнак курчыўся ад болю, маці не дапускалі сустрэцца зь ім. Пасьля катаваньняў З.Васьковіч праходзіў лячэньне ў шпіталі. ***Зьміцера Касьпяровіча*** *(15 год*) пасьля аднаго з шматлікіх затрыманьняў лукашэнкаўскія бандыты адвезьлі ў паркавы масіў на ўскраіне Менску, дзе, прыставіўшы да цела нож, білі і абяцалі забіць, калі убачаць на акцыях *БНФ „Адраджэньне”*. ***Антону Тарасу*** *(15 год*) міліцыянты апранулі на галаву супрацьгазавую маску і перацiскалі шланг, не даючы дыхаць.

Калі не спыніць злачынны рэжым Лукашэнкі, то пад пагрозай апынуцца жыцьці беларускіх дзяцей.

Мы зьвяртаемся да палітычнага кіраўніцтва і грамадзтва цывілізаваных краінаў, міжнародных арганізацыяў і рэлігійных дзеячоў усяго сьвету з заклікам выказаць пратэст супраць злачынстваў дыктатарскага рэжыму, выкарыстаць усе магчымыя мэтады ўзьдзеяньня на дыктатара, каб была спынена практыка катаваньня дзяцей і былі пакараныя вінаватыя ў гэтых злачынствах службовыя асобы. Мы лічым, што патрэбны міжнародны трыбунал для суда над дыктатарскім рэжымам, які пануе ў Беларусі.

***Кіраўніцтва Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*30 красавіка 1998 г.,*
*г. Менск.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 3(13).*

# ПАВЕЛ СЕВЕРИНЕЦ ПО-ПРЕЖНЕМУ В ЦЕНТРЕ ВНИМАНИЯ*

*Белорусская общественность продолжает реагировать на удержание под стражей лидера «Молодого фронта» Павла Северинца, ожидающего суда в минском следственном изоляторе.*

11 мая в штаб-квартиру Белорусского Народного Фронта пришло послание заместителя председателя Рады БНР, члена Сойма БНФ Сергея Наумчика. В заявлении для прессы, подписанном Наумчиком, говорится, что Алексей Шидловский и Павел Северинец выступили в защиту свободы и независимости своей родины, сражались за право ощущать себя свободными людьми и только поэтому были лишены свободы. *«Имея величайшую честь входить в Раду БНР, которая на протяжении десятилетий сохраняла идеи белорусской независимости, являясь в свое время депутатом парламентской оппозиции БНФ, которая делала все возможное, чтобы под святым Бело-Красно-Белым флагом взошло новое поколение сторонников национального Возрождения, – я ощущаю личную моральную ответственность за этих молодых людей»*, – говорится в заявлении. В связи с тем, что Северинец и Шидловский *«имеют данное им Богом и родителями право быть на свободе»*, г-н Наумчик решил выступить с обращением к президенту и предложить главе государства сесть за решетку вместо молодых людей. В обращении Сергея Наумчика к президенту говорится о том, что, удерживая под стражей Алексея Шидловского и Павла Северинца, Александр Лукашенко ведет себя *«как террорист, который захватил детей»* . Наумчик предлагает: *«Если вам нужны заложники, я согласен им быть. В обмен на освобождение Шидловского и Северинца я готов отсидеть в вашей тюрьме вместо них»*. Согласно обращению, обмен должен состояться в присутствии представителя миссии ОБСЕ и одного из аккредитованных в Минске посольств любой западной страны. *«Захват беззащитных людей в политических или личных интересах в цивилизованном мире имеет одно название – терроризм. И предложение захватчику иной личности в обмен на освобождение невинных людей не должно восприниматься как признание правоты этого террориста»*, – подчеркивает представитель рады БНР…

***Виктор МАРТИНОВИЧ,***
***Ольга ТОМАШЕВСКАЯ***

*Надрукавана: (Белорусская Деловая Газета.*
*– 1998, 14 траўня (N466).*

# Л І С Т

***Глыбокапаважаным спадарыням***
***і спадарам амбасадарам і дыпляматам***
***Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі,***
***Нямеччыны, ЗША***

*Зянон Пазьняк*
*Старшыня Беларуска Народнага*
*Фронту «Адраджэньне»*

*20 чэрвеня 1998г. г. Варшава*

Разумеючы, што Вы і Вашыя ўрады павінны прыняць рашэньне адносна грубых, паліцэйскіх паводзінаў прэзыдэнта Лукашэнкі супраць Вас і Вашых сем’яў, калі парушаныя ня толькі міжнародныя правілы, але і элемэнтарныя нормы цывілізаванай этыкі, я хацеў бы

* Урывак з публікацыі.

выказаць свае меркаваньні і пазыцыю *Беларускага Народнага Фронта*, якую выклаў ужо тыдзень таму амбасадару ЗША ў Беларусі спадару Дэніэлу Спэкарту.

Беспрэцэдэнтны выпадак у дыпляматычнай практыцы з пагрозай высяленьня Вас і Вашых сем'яў з дыпляматычнай рэзыдэнцыі сьведчыць ня толькі аб стане нэрваў і псіхікі дыктатара Лукашэнкі, аб чым ужо шмат сказана. Такія паводзіны я расцэньваю, перш за ўсё, як грубую правакацыю з боку правячай групы ўлады, разьлічаную на выдаленьне пасольстваў заходніх краінаў зь Беларусі.

У гэтым зацікаўленая, перш за ўсё, Расея, кіраўніцтва якой дапамагло Лукашэнку зрабіць антыканстытуцыйны пераварот у 1996 годзе. Расея праводзіць мэтанакіраваную палітыку анэксіі Беларусі, падпарадкаваньне сабе вузлавых сфэраў беларускай палітыкі і эканомікі. Масква рыхтуецца да прэзыдэнцкіх выбараў, і там кожная паліттычная сіла робіцца зацікаўленай у аслабленьні Беларусі і ў інтэграцыі яе з Расеяй.

Рэжым, а дакладней правячая група Лукашэнкі, таксама ня бачыць для сябе карысьці ад прысутнасьці ў Беларусі заходніх пасольстваў. Пасольствы толькі перашкаджаюць Лукашэннку свабодна парушаць правы чалавека, зьнішчаць беларускую культуру і змагацца зь беларускім дэмакратычным *Вызвольным Рухам*.

Акупацыйны прарасейскі рэжым на Беларусі не шануе і ня будзе шанаваць нічыіх правоў. Ня будзе ён улічваць якія б там ні былі дыпляматычныя правілы. Такая ёсьць лёгіка гэтага рэжыму. На жаль, шмат якім заходнім палітыкам, з прычыны іх прарасейскіх ілюзіяў, гэта незразумела.

Я хацеў бы зьвярнуць Вашу ўвагу на тое, што будзе вялікай шкодай для беларусаў і паслугай акупацыйнаму рэжыму Лукашэнкі, калі заходнія пасольствы і заходнія ўрады паддадуцца на гэтую грубую, прымітыўную правакацыю і адклічуць сваіх паслоў на нявызначаны час альбо прымуць іншыя захады, якія звузяць прысутнасьць заходніх дыпляматаў у Беларусі.

*Беларускі Народны Фронт* і ўвесь беларускі дэмакратычны *Вызвольны Рух* зацікаўленыя ў нармальнай дзейнасьці заходніх амбасадаў у Беларусі.

Выказваю шкадаваньне з прычыны брутальнага захаваньня правячага рэжыму адносна Вашых асобаў і Вашых сем'яў і маю надзею, што ў будучыні дыпляматычныя стасункі паміж Беларусяй і Заходнімі краінамі будуць мець нармальны і гуманны характар.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ПАЛІТЫКА СЛАБЫХ

У расейскіх колах улады і ў расейскіх сродках масавай інфармацыі пашыраецца штучная гістэрыка супраць Латвіі, выкліканая правакацыяй рускіх пэнсіянераў, што засталіся ў Латвіі з часоў савецкай акупацыі. Латвія разьмешчана паміж Эстоніяй і Летувой, а таму займае стратэгічнае месца ў Прыбалтыцы. Правакацыя КГБ не выпадкова арганізаваная ў Латвіі. Большасьць расейскага акупацыйнага насельніцтва (асабліва пэнсіянеры, былыя стукачы, кагэбісты, вайскоўцы і чыноўнікі) не пажадалі прымаць латышскага грамадзянства і ведаць латвійскую мову, але хацелі бесперашкодна езьдзіць у Расею па савецкіх пашпартах і атрымліваць пэнсіі такія, як у латышоў (у Расеі пэнсіі значна ніжэйшыя, чым у Латвіі). Некаторыя маладзейшыя расейцы (унукі захопнікаў) ня хочуць служыць у латышскім войску, выконваць патрабаваньні латышскай дзяржавы. Асяроддзе гэтай пятай калёны і паслужыла грунтам для кагэбісцкай правакацыі ў Рызе. Інспірацыя яе з боку Расеі відавочная. Інцыдэнт звычайны. Ніхто сур'ёзна не пацярпеў. Незвычайнасьць толькі ў тым, што азлобленыя акупацыйныя пэнсіянеры, вышаўшы на несанкцыянаваны мітынг у няўзгодненае месца, накінуліся на латышскую паліцыю, якая вымушана была ўжыць сілу.

У Маскве тут жа залемантавалі па камандзе. Неадэкватныя паводзіны Крамля выліліся ў эканамічныя санкцыі супраць латвійскіх тавараў і латвійскага гандлю. Напрыклад, расейцы адмовіліся прымаць раней замоўленыя ў Латвіі рыбныя кансэрвы вартасьцю ў 40 мільёнаў даляраў, латвійскую касметыку і лекі (няважна, што ў Расеі нічога гэтага няма, пабудуць без шпротаў). Латвійскія фабрыкі панесьлі страты. Тут жа загаласілі рускія прадпрыймальнікі ў Латвіі і некаторыя латышскія бізнэсмэны. Залемантавалі пра страчаныя грошы і пачалі дамагацца ад улады саступак Маскве.

Яшчэ больш несамавітымі апынуліся ўлады. Замест цьвёрдай і рашучай пазыцыі па спыненьні правакацыйнага штучнага ажыятажу, замест прыняцьця рашучых контрзахадаў супраць Расеі (я ўжо не кажу пра пошукі балтыйскай салідарнасьці), латышскія палітыкі, парлямант і ўрад пачалі паддавацца маскоўскаму ціску, браць на сябе неіснуючую віну, крытыкаваць прэм'ер-міністра, патрабаваць адстаўкі, зьмяняць законы і г.д., абы ўціхамірыць і ўлагодзіць Маскву (і прадаць кансэрвы).

Латвійскія ўлады, за якімі ўся праўда, пачалі дэманстраваць тыповую палітыку запалоханых і слабых. Праўда, сам прэм'ер-міністар Гунтар Крастсацаніў правакацыйную валтузьню даволі дакладна. Ён сказаў, што Расея неўзабаве адмовіцца ад санкцыяў альбо Латвія хутка пераарыентуе гаспадарку з усходняга на заходні рынкі.

Гледзячы на абставіны і ведаючы Расею, трэба сказаць, што прэм'ер Крастс зрабіў разумную выснову. Да 1994 года Эстонія пераарыентавала сваю эканоміку на заходнія рынкі на 90 %. Ідэальна было б на 99%. Маленькая краіна не павінна і на 5 адсоткаў залежыць ад велізарнага агрэсыўнага і варожага монстра на Усходзе. У гэтым схавана для яе фатальная небясьпека. Эстонія цяпер ужо пачуваецца няблага ў эканамічных адносінах, незалежных ад Расеі.

Тым часам 20% замежнага гандлю Латвіі – гэта гандлёвыя абароты з Расеяй. Гэтага расейцам хапіла, каб груба шантажаваць малую краіну.

На жаль, пазыцыя Крастса ня ўлічана. Латвійскі парлямант займаецца пустапарожняй мітусьнёй, у якой патанаюць рашучыя прапановы грамадзянаў Латвіі аб рэпатрыяцыі рускіх акупантаў. Тым часам руская дыпляматыя і прапаганда ўжо на ўсё горла бэсьціць латышоў за мяжой перад міжнароднай супольнасьцю, знаходзячы там спачуваньне ў некаторых неадэкватных палітычных філістэраў.

Пасьля ліквідацыі акупацыйнага лукашэнкаўскага рэжыму на Беларусі беларусам вельмі ўважліва трэба вывучыць эканамічны вопыт балтыйскіх краінаў. Беларускі рынак ляжыць не ў Расеі, і трэба будзе хутка спыніць усе штучныя прывязкі да дэфэктнай рускай эканомікі і дэфэктнага рускага рынку. Інакш беларусы будуць заўсёды мець слабое месца на ўсходзе, рычаг пагрозы сваёй незалежнай палітыкі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, № 2(12). Пад псэўд. Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ)*

# БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА ЗМАГАЕЦЦА З ДЫКТАТУРАЙ

25 – 26 ліпеня ў Вільні адбыўся 2-гі зьезд Беларусаў Балтыі. Зьехаліся прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў Эстоніі, Латвіі, Летувы, Польшчы, Расеі, Беларусі. Даклады і дыскусіі па беларускіх

праблемах склаліся ў двух накірунках: выжываньне і разьвіцьцё беларускай культуры і беларусаў у балтыйскіх краінах і лёс Беларусі пад прамаскоўскай акупацыяй лукашэнкаўскай дыктатуры.

Тэматыка самая што ні ёсьць актуальная, абумоўленая сьвядомасьцю і пазыцыяй удзельнікаў зьезду. II зьезд адметны тым, што сабраліся людзі адраджэнскага накірунку, якія ахвяраваліся Беларускай нацыянальнай ідэі, якія адмаўляюць антыдэмакратычны рэжым Лукашэнкі і змагаюцца зь ім.

Лукашэнкаўскі рэжым, абапіраючыся на свае пасольствы і спэцслужбы Расеі, вядзе мэтанакіраваную працу па расколу беларускага грамадзтва ў краінах Балтыі, па адарваньні асобных людзей ад беларускіх адраджэнскіх арганізацыяў, па стварэньні сваіх груповак, таварыстваў і ў цэлым – пралукашэнкаўскай *пятай калёны* зь беларусаў у балтыйскіх краінах.

Адчувальна такая падрыўная праца актывізавалася ў Летуве, дзе жыве найбольш беларусаў. Лукашэнкаўскае пасольства дзейнічае праверыным у КГБ мэтадам: подкупам, матэрыяльнымі і грашовымі падачкамі. Кіраўніцтва некалі вядомага беларускага клюбу „Сябрына" і іншых беларускіх інстытуцыяў падпалі пад грашовы і агентурны ўплыў функцыянераў лукашэнкаўскага пасольства. Пасольства дало, напрыклад, права дзеячам падкупленых беларускіх арганізацыяў афармляць выязныя візы для насельніцтва. За афармленьне візаў „дзеячы" бяруць сабе пэўную суму з кожнага падаўцы на візу. Улічваючы, што рух праз беларускую мяжу зь Летувой даволі інтэнсіўны, справа гэтая прыбытковая і прымушае некаторых з таемнай ( а то і адкрытай) прыхільнасьцю ставіцца да рэжыму Лукашэнкі, чаго ўзамен за паслугі і патрабуе пасольства. Сюды ж залічваецца забесьпячэньне розным тэхнічным рыштункам, кампутарамі, ксэраксамі, прапагандысцкай літаратурай і іншай інфармацыяй.

Плата за паслугі – вядомая. Беларуская нацыянальная сымволіка выганяецца зь віленскай беларускай школы (дырэктар школы Г.Сівалава) у Вільні, выкладаньне беларускай мовы звужаецца. Беларуская мова паступова замяняецца рускай (?!), беларускіх настаўнікаў з адраджэнскімі поглядамі пад рознымі сьмехатворнымі прычынамі дырэктар звальняе з працы.

Беларускія актывісты з каляпасольскага асяроддзя (Р.Вайніцкі, Л.Мурашка, І.Малафей і інш.) удзельнічалі ў інтэрскай апазыцыі па расколу Згуртаваньня беларусаў сьвету „Бацькаўшчына". Спадары Вайніцкі і Малафей (былы райкамаўскі функцыянер з Салечнікаў, родзіч А.Малафеева, былога сакратара ЦК КПБ і цяперашняга кіраўніка лукашэнкаўскай „палаты") прымалі ўдзел у раскольніцкім спатканьні з Лукашэнкам, у лукашэнкаўскім „сьвяце" 3-га ліпеня і г.д.

Рэанімацыя былых „інтэраў" і арганізацыя пралукашэнкаўскай *пятай калёны* ў беларускім асяроддзі Віленшчыны зусім не бяскрыўдная рэч, як магло б здавацца на першы погляд. Гэта элемэнт прадуманай палітыкі (распрацаванай яшчэ КГБ СССР) па вынішчэньні ўсяго беларускага, па запабяганьні стварэньня сярод беларускага насельніцтва за межамі Беларусі беларускіх нацыянальных асяродкаў, якія маглі б супрацьстаяць дыктауры і акупацыі Беларусі.

Толькі на рамонт лукашэнкаўскага пасольства ў Вільні (ня лічачы інсталяцыі) рэжым, які ня любіць разлучацца з валютай, патраціў адзін мільён даляраў. Створаны цэнтр, які вядзе сур'ёзную працу. Міліцэйска-амапаўскія зьверствы ў Беларусі супраць беларусаў тлумачацца яшчэ і тым, што лукашысты падабралі ў свой спэцназ і АМАП інтэрскія адкіды з Прыбалтыкі, бандытаў з прыбалтыйскіх АМАПаў, якія хаваліся ад ворганаў сьледства Эстоніі, Латвіі і Летувы і знайшлі ў Лукашэнкі прыстанак, добры заробак і занятак па схільнасьцях.

Мне вядома, што за некаторых „інтэраў" беларускага паходжаньня, у якіх было ня ўсё ў парадку зь мінулым, грамадзкія дзеячы паручыліся перад уладамі Летувы. Гэта была памылка, якую беларусы ў палітыцы рабілі ня раз і пра якую сьведчыла гісторыя. Так і цяпер.

Толькі на гэты раз, гледзячы па сытуацыі і настрою, ня думаю, што ўсё праміне́цца бясьсьледна. Безумоўна, трэба ставіць пытаньне аб замене дырэктара беларускай школы на незрусіфікаваную асобу, якая валодала б беларускай мовай і служыла б нацыянальна-культурным інтарэсам беларусаў Віленшчыны, а не інтарэсам лукашэнкаўскага рэжыму. Ня думаю, што пасьля ліквідацыі дыктатуры і ўсяго таго страшнага паніжэньня, якое перажывае цяпер беларуская нацыя, нешта будзе потым забывацца і што ўсім спраўцам рэжыму ўсё даруецца. Аднак на сёньняшні дзень ёсьць тое, што ёсьць. І гэта мы мусім улічваць.

II зьезд беларусаў Балтыі арганізавала Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве (ТБК).

Зьезд прывітаў у сваім пасланьні прэзыдэнт Летувы А.Адамкус, старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, выступілі з вітаньнямі Першы намесьнік Старшыні Сойму Летувы А.Кубілюс і іншыя асобы.

Цікава, што зьезд выклікаў надзвычайнае ўзбуджэньне і азлобленасьць у прасавецкіх журналістаў зь віленскіх рускіх газэтаў. Забыўшыся, што яны па статусу ўсяго толькі журналісты, а не палітыкі, экзальтаваныя і нястрыманыя расейцы, перабіваючы адзін аднаго, выказвалі на прэс-канфэрэнцыі і падчас шматлікіх інтэрв'ю погляды, што „нада аб'едзінятся, а не раз'едзінятся" і іншыя прапагандысцкія агентурныя шаблоны.

Ініцыятыва, якую праявіла ТБК і яго паважаны кіраўнік спадар Хведар Нюнька па аб'яднаньні здаровых адраджэнскіх беларускіх сілаў, што не прызнаюць нелегітымны дыктатарскі рэжым Лукашэнкі, у дадзенай сытуацыі была вельмі правільнай і своечасовай. Нельга было дапусьціць, каб лукашэнкаўскія калябарацыяністы, знаходзячыся пад адным дахам зь беларускімі дэмакратамі і адраджэнцамі ў Летуве, паралізавалі б і развалілі беларускую працу і падтрымку вызвольнаму змаганьню беларусаў супраць дыктатуры. Мэты і задачы гэтакіх людзей і тых, зь кім яны супрацоўнічаюць, зразумелыя. З такімі асобамі трэба толькі разлучацца. Гэта правільна, неабходна і робіцца паўсюдна, дзе аналягічныя сытуацыі ўзьнікаюць і дзе разумеюць, што трэба рабіць.

II зьезд Беларусаў Балтыі прыняў шэраг дакумантаў. Сярод іх – ухвалу ***„Да беларусаў, што жывуць у Летуве, Латвіі, Эстоніі, Украіне, Польшчы, Расеі"***, дзе выказана прапанова правесьці сустрэчу прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў гэтых краінаў *„у 1999 годзе ў Вільні – старажытным духоўным цэнтры Беларусі"*.

У звароце ***„Да землякоў-беларусаў Балтыі „Аб грамадзянстве БНР"*** падкрэслена, што ўступаючы ў сымвалічнае грамадзянства БНР, *„кожны з нас галасуе за незалежную дэмакратычную Беларусь. Гэтым актам кожны выяўляе непрыняцьце акупацыйнага дыктатарскага рэжыму на Беларусі, гэтым кожны з нас асабіста выносіць прысуд пачварнай савецкай мінуўшчыне, гэтым кожны з нас галасуе за вольную будучыню Беларусі."*

*У заяве* ***„Аб антыбеларускай дзейнасьці рэжыму Лукашэнкі"*** (якую мы прыводзім тут поўнасьцю) адзначана:

*„Мы, удзельнікі II-га зьезду Беларусаў Балтыі, глыбока занепакоеныя ўзмацненьнем антыбеларускай палітыкі рэжыму Лукашэнкі. Груба парушаюцца асноўныя правы чалавека: метадычна зачыняюцца беларускія школы і іншыя беларускія навучальныя ўстановы (у 2-хмільённым Менску ўжо амаль не засталося беларускіх школаў), ажыцьцяўляецца небывалы ціск на бацькоў, рыхтуюцца пляны ліквідацыі недзяржаўных навучальных інстытутаў і вучэльняў. Маладое пакаленьне беларускай нацыі пазбаўляецца магчымасьці вучыцца па-беларуску. Адбылася і адбываецца*

*мэтанакіраваная замена беларускіх кіруючых кадраў на кіраўнікоў рускай нацыянальнасьці, на функцыянераў савецкага КГБ. На сёньняшні дзень толькі 8 адсоткаў беларусаў займаюць вышэйшыя кіруючыя пасады ў краіне. Існуе шмат фактаў, калі гэтакая адміністрацыя выдае загады аб забароне ўжываньня беларускай мовы ў справаводзтве, а суды адмаўляюцца прымаць заявы і касацыйныя скаргі, напісаныя па-беларуску. Функцыянеры міліцыі, спэцназу, унутраных войскаў, аддзелаў аховы (што непасрэдна падпарадкаваныя прэзыдэнту Лукашэнку) хапаюць людзей на вуліцах, арыштоўваюць і зьбіваюць толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску. Пры гэтым адбываецца жорсткі перасьлед студэнтаў, моладзі і дзяцей, якія размаўляюць па-беларуску, выявілі любоў да Беларусі і крытыку прэзыдэнта. Студэнтаў выключаюць з унівэрсітэтаў, а непаўналетніх вучняў 15-ці – 16-ці гадоў функцыянеры міліцыі хапаюць, замыкаюць пад арышт, запалохваюць і падвяргаюць жорсткім катаваньням і зьбіцьцю, прытым самымі*



(Фота З. Пазьняка, 1965 г.)

**38-Д.** ***Вільня. Вострая брама.***

*бесчалавечнымі мэтадамі (напрыклад, нацягваюць на галаву маску супрацьгазу і пераціскаюць шлянг з доступам паветра). У апошні час зафіксавана дзясяткі такіх злачынстваў карных ворганаў на Беларусі.*

*У краіне ўсталяваны рэжым кагэбісцкай антыбеларускай дыктатуры, які праводзіць тыпова акупацыйную палітыку этнацыду і русіфікацыі, пры гэтым у цынічнай антычалавечай форме, ламаючы ўсе правы чалавека, што павінны паважацць ў цывільным грамадзтве.*

*Мы, дэлегаты зьезду, узрушаны гэтымі жахлівымі фактамі і антыбеларускімі дзеяньнямі дыктатарскага рэжыму ў Беларусі.*

*Мы зьвяртаемся да беларусаў Балтыі, Польшчы, Амэрыкі, Канады, Вялікабрытаніі, Францыі, Аўстраліі, Украіны, Расеі, да ўсіх суродзічаў у сьвеце ўзьняць свой голас у абарону правоў чалавека на Беларусі, зьвярнуцца да ўрадаў, дэпутатаў парлямантаў грамадзкіх арганізацыяў сваіх краінаў з прапановамі і патрабаваньнямі выявіць салідарнасьць зь беларускім дэмакратычным супраціўленьнем дыктатуры Лукашэнкі, і, перш за ўсё, аказаць узьдзеяньне на ўрад, кіраўніцтва і палітычныя структуры Расеі, якія падтрымліваюць рэжым Лукашэнкі, зыходзячы зь вялікаімпэрскіх інтарэсаў. У міжнароднай супольнасьці ёсьць магчымасьці і рычагі, каб уплываць на абмежаваньне і ліквідацыю злачыннага антыдэмакратычнага рэжыму ў Беларусі. Але моцны голас і цьвёрдую пазыцыю павінны засьведчыць перш за ўсё беларусы.”*

Гэта сапраўды так. Свой лёс павінны вырашаць самы беларусы. І перш за ўсё іхнія лепшыя прадстаўнікі: адраджэнцы, нацыянальна сьвядомыя людзі, палітычная, культурная і ўвогуле інтэлектуальная эліта грамадзтва, якую трэба заўсёды шанаваць, зьберагаць і памнажаць. Цяпер, калі над Беларусьсю апусьцілася ноч і дзеіцца шабаш цёмных варожых сілаў, беларускае замежжа можа моцна дапамагчы якраз беларускай інтэлектуальнай эліце. Місія замежжа цяпер узрасла. І мы бачым, што патэнцыяльную ролю беларускага грамадзтва ўсьведамляюць ужо нават сілы рэжыму. А гэта азначае, што барацьба з Расеяй, з лукашэнкаўскай дыктатурай за вольную, незалежную і дэмакратычную Беларусь ідзе ва ўсім сьвеце і ўцягвае ўсё болей людзей.

***Зянон Пазьняк***

*Ліпень 1998 г.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998, №4 (14). Пад псэўд. Мар’ян Ванькевіч)*

## ЗАЯВА АБ ВЫГНАНЬНІ АМБСАДАРАЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Грунтуючыся на пазыцыі Беларускага Народнага Фронту, выказваю шкадаваньне з прычыны грубай правакацыі рэжыму Лукашэнкі, вынікам якой стала выгнаньне паслоў Заходніх краінаў зь Беларусі.

Беларускі Народны Фронт занепакоены гэтымі беспрэцэдэнтнымі дзеяньнямі і іх наступствамі, якія сьведчаць аб працягу палітыкі падрыву суверэнітэту Беларусі і аб кансэрвацыі тут антыдэмакратычнага акупацыйнага рэжыму. Я не сумняваюся, што такія паводзіны сталі магчымымі з прычыны падрыхтоўкі ў Менску і Маскве чарговых захадаў па „інтэграцыі” Беларусі з Расеяй і зьнішчэньні ўсяго беларускага, а таксама з прычыны плянуемых выбараў прэзыдэнтаў.

Ні Маскве, ні яе марыянэткаваму рэжыму ў Беларусі не патрэбныя тут Заходнія паслы і амбасады. Рэжым Лукашэнкі неаднаразова стараўся пазбавіцца ад іх любымі спосабамі.

Дзейнасьць амбасадаў і консульстваў Заходніх дэмакратычных краінаў патрэбная, перш за ўс, беларускім людзям, беларускаму Вызвольнаму руху і беларускім дэмакратычным арганізацыям, а не дыктатарскаму рэжыму.

Беларускі Народны Фронт спадзяецца на зразуменьне Заходнімі краінамі становішча і сутнасьці акупацыйнай палітыкі дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, што, маю надзею, засьцеражэ Захад ад далейшых непрадуманых дзеяньняў, у выніку якіх пацярпелі б толькі беларускія людзі, справа беларускага вызваленьня і беларускай дэмакратыі, а не антыдэмакратычны рэжым у Беларусі.

Беларускі Народны Фронт змагаецца за вяртаньне Беларусі ў праўны кантэкст цывілізаванага сьвету і разьлічвае на салідарнасьць і разуменьне міжнароднай супольнасьці.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне***

*10 ліпеня 1998 г.*
*г.Варшава*
*Надрукавана: („Пагоня”, – 1998, 14 ліпеня).*

# ЗАЯВА
# БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ”

## Аб палітыцы заходніх краінаў у дачыненьні да Беларусі

Банкруцтва расейскай фінансавай сістэмы, якое стала відавочным у жніўні сёлета, абвастрыла палітычную сытуацыю ва Ўсходне-эўрапейскім рэгіёне. Да ўлады ў Расеі вяртаюцца колы, узрошчаныя і захаваныя былымі савецкамі спэцслужбамі. Яны адкрыта пачалі дзейнічаць згодна сваёй імпэрскай камуністычнай ідэалёгіі. Узмацніліся інтэграцыйныя дзеяньні, накіраваныя на анэксію Беларусі.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”* пацьвярджае свой „Зварот да кіраўніцтва Расеі, разьвітых краінаў сьвету і міжнароднай супольнасьці” ад 13 сьнежня 1997г., дзе гаворыцца пра *„небясьпеку прыходу да ўлады ў Расеі палітычных сілаў, якія спарадзілі рэжым Лукашэнкі ў Беларусі. Авалодаўшы ядзернай кнопкай, яны будуць здольныя ўчыніць шантаж усяго цывілізаванага сьвету. Нельга гэтага дапусьціць”.*

*Беларускі Народны Фронт* заклікаў разьвітыя краіны ўжыць рычагі палітычнага, фінансавага і эканамічнага ўплыву на Расею, якая ўскормлівае і падтрымлівае рэжым Лукашэнкі і тым самым мосьціць шлях да новага таталітарызму ва Ўсходняй Эўропе.

Мы вымушаныя канстатаваць, што банкруцтва Расеі — гэта ёсьць адначасна і вынік памылковай палітыкі цяперашняй адміністрацыі ЗША, якая безаглядна падтрымлівала Ельцына, не зважаючы на адсутнасьць рэальнае дэмакратыі і на адсутнасьць рэформаў, якія б замацоўвалі рэальны рынкавы капіталізм. Яны заплюшчвалі вочы на адкрыта імпэрскую палітыку Расеі ў дачыненьні да ейных постсавецкіх суседзяў, на тое, што Масква выдаткоўвае немалыя матэрыяльныя сродкі дзеля падтрымкі антыдэмакратычнага марыянэткавага рэжыму Лукашэнкі. Безаглядная стаўка на Ельцына з боку Захаду тлумачылася неабходнасьцю надзейна кантраляваць ядзерную зброю былога СССР.

Сёньня відавочна, што фінансавыя рычагі ўзьдзеяньня на Расею не спрацоўваюць. Там стварылася крымінальная сістэма эканомікі, пры якой заходнія крэдыты трапляюць на рахунак прыватных асобаў і вывозяцца за мяжу.

9

Цяперашняя сытуацыя, у якой апынулася Расея, вядзе да ўсталяваньня дыктатуры альянсу чырвона-карычневых палітычных сілаў і функцыянэраў колішняга савецкага КГБ.

Мы лічым правільным, калі краіны Захаду і ЗША ў інтарэсах дэмакратыі і міру ня будуць спрыяць імпэрскім інтарэсам Расеі і падтрымліваць іх. Нельга дапусьціць ліквідацыі сувэрэнітэту Беларусі пад выглядам „інтэграцыі” і ўвядзеньня падвойнага беларуска-расейскага грамадзянства. Гэта адчыніць Лукашэнку дарогу ў Крэмль. Ён застаецца тым кандыдатам, на якога робяць асноўную стаўку савецка-імпэрскія сілы Расеі. Дыктатура ў Расеі ня вырашыць ні расейскіх, ні сусьветных праблемаў. Наступствам яе можа стаць пагроза дэмакратыі, міру і стабільнасьці ў Эўропе.

Мы лічым, што ў інтарэсах дэмакратычнага сьвету была б ліквідацыя дыктатарскага рэжыму ў Беларусі і падтрымка рэальнага пашырэньня дэмакратыі на Ўсходзе Эўропы. Дэмакратычныя сілы ў Беларусі, як і ўвогуле ва Ўсходняй Эўропе, сфармаваліся на аснове нацыянальна-незалежніцкага антыімпэрскага руху за вызваленьне ад расейска-савецкай імпэрыі. Незалежніцкія сілы пасьлядоўна выступаюць за дэмакратычны шлях разьвіцьця, супраць дыктатуры, супраць расейскага імпэрыялізму і ксэнафобіі, за далучэньне да эўрапейскае супольнасьці, за ўступленьне ў НАТО. Яны арыентуюцца на Захад. Моцная незалежная дэмакратычная Беларусь разам з моцнай дэмакратычнай Украінай стварылі б умовы для хутчэйшага ўсталяваньня дэмакратыі ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Дэзынтэграцыя расейскай імпэрскай сістэмы, усьлед за распадам „сацыялістычнага лягеру” і СССР, ёсьць непазьбежнасьць. Мы заклікаем дэмакратычныя разьвітыя краіны сьвету прыкласьці усе намаганьні, каб зьнізіць выдаткі гэтага распаду і ўлічваць яго нармальны працэс. Падчас дэзынтэграцыі Расеі кантроль і зьнішчэньне ядзернай зброі, накопленай СССР, былі б больш эфектыўныя пад міжнародным кантролем, чым пад уладай любога рускага дыктатара.

Мы чакаем, што Захад і Злучаныя Штаты Амэрыкі рэальна падтрымаюць незалежнасьць Беларусі і змаганьне беларускіх незалежніцкіх сілаў за дэмакратыю і свабоду.

***Сойм Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***
*12.09.1998 г., Менск*

**40-Д.** ***Заява БНФ Аб палітыцы заходніх краінаў у дачыненьні да Беларусі.*** *(„Беларускія Ведамасьці”, – 1998, №6(16), с. 9-10)*

## ЯК Я ЕХАЛА ДА БРАТА

***З. Пазьняку й С. Навумчыку надалей пагражае небясьпека***

Пасьля таго, як мой брат *Сяргей Навумчык* разам зь *Зянонам Пазьняком* атрымаў палітычны прытулак, не праходзіць месяца, каб афіцыйная прапаганда (а то й сам Лукашэнка) не прыгадвалі Пазьняка й Навумчыка, абвінавачваючы іх ва ўсіх сьмяротных грахах — і ў „міжнароднай ізаляцыі краіны", і ў „дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнага становішча". Прадметам пільнай увагі стала й наша сям'я. І калі абразьлівыя публікацыі ў газэтах (напрыклад, фэльетон пра „сям'ю здраднікаў" ва ўрадавай газэце „Рэспубліка") спрабуеш не заўважаць, то да няспыннай цікавасьці з боку спэцслужбаў прызвычаіцца цяжка. Прычым КГБ нават і не хвалюе, што наш тэлефон праслухоўваецца. Хаця ім і бяз гэтага вядома, што мы знаходзімся ў апазыцыі да антыдэмакратычнага лукашэнкаўскага рэжыму.

У Віцебскі Ўнівэрсытэт, дзе працуе муж, нават прыходзіў прадстаўнік КГБ і выказваў незадаволенасьць з мужавых „апазыцыйных поглядаў". Некаторыя журналісты пішуць, што Пазьняк даўно не ўяўляе для рэжыму небясьпекі й што ён можа бесьперашкодна вярнуцца на радзіму. Аднак я пераканалася, што гэта ня так.

У канцы ліпеня я вылятала ў Нью-Ёрк з аэрапорту „Менск-2". На мытным кантролі мне ўчынілі сапраўдны допыт — ці не вязу я „апазыцыйную літаратуру" й „падпольныя выданьні".

Відавочна, кіраўнікі мытні не ўяўляюць, што з дапамогаю *„Інтэрнэту"* адным ударам па клявішы можна пераправіць мегабайты „падрыўной" інфармацыі ў любы пункт сьвету. Калі ж мытня была пройдзеная, я падышла да памежнага кантролю. Памежнік, прагледзеўшы мой пашпарт, адразу спыніў мяне.

— Мне трэба параіцца з начальствам, — сказаў ён і правёў мяне ў асобны пакой.

Час ішоў, людзі ўжо прайшлі ў самалёт. Нарэшце, да мяне выйшаў памежнік. Я пацікавілася, у чым прычына затрымкі? Мне не адказалі. Тады я запыталася: „Можа, справа ў маім прозьвішчы?" Памежнік даў зразумець, што менавіта так.

Як вядома, у траўні 1996 году газэта *„Свабода"* паведаміла, што камандуючы памежнымі войскамі Беларусі выдаў загад на ўсе пункты *„грамадзянаў Рэспублікі Беларусь З.С. Пазьняка і С.І. Навумчыка пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць"*, і іх прозьвішчы й ініцыялы занесеныя ў камп'ютары. А я таксама „І.С. Навумчык", бо засталася на дзявочым прозьвішчы.

Вось так нечакана пацьвердзілася, што лідэраў *Народнага Фронту* чакае зусім ня цёплае спатканьне й што *Пазьняк* паранейшаму застаецца для Лукашэнкі „ворагам нумар адзін".

***Сьвятлана НАВУМЧЫК***

***41-Д. Як я ехала да брата. Сьвятлана Навумчык. (У перадапошнім абзацы чытаць не „ І. С. Навумчык", а С. І. Навумчык. – З.П.).***
*(„ Беларускія Ведамасьці", – 1998, №6(16), с. 18)*

## АБ АРЫШЦЕ УЛАДЗІМЕРА ПЛЕШЧАНКІ ЗАЯВА

Рэжым Лукашэнкі на Беларусі працягвае бясчынствы супраць асобы. Арышты без прычыны і ўтрыманьне ў турме палітычных апанэнтаў без суду прадаўжаюцца.

Вось ужо два месяцы знаходзіцца за кратамі вядомы ў Віцебску супраціўленец і змагар супраць дыктатуры ***Уладзімер Плешчанка***. Яго кінулі ў камэру быццам бы па падазрэньні ў зьнішчэньні гіпсавага бюста расейскага карніка „генералісімуса" Суворава (кіраваў рускай арміяй супраць паўстанцаў Касьцюшкі ў Польшчы і Беларусі).

Абвінавачваньне прыдуманае і цалкам галаслоўнае тым больш, што бюст карніка знайшоўся. Сапраўдная прычына нематываванага арышту Ул. Плешчанкі заключаецца ў яго апазыцыйным змаганьні супраць этнацыду і дыктатуры. Уладзімер Плешчанка разам зь вядомымі віцебскімі супраціўленцамі ***Барысам Хамайдам*** і ***Юрасём Марозам*** уваходзіць у суполку *Беларускага Народнага Фронту — групу „Выбар"*, якая выдае напаўлегальную газэту *„Выбар"* і змагаецца з лукашэнкаўскім рэжымам шляхам адкрытай і самаахвярнай дэманстрацыі грамадзянскай пазыцыі, непрыняцьця афіцыйнай беларусафобіі і дыктатуры. Група *„Выбар"* мэтадычна наладжвала пікеты і дэманстрацыі пад лёзунгам: ***„Мы — за дэмакратычную Беларусь", „Беларусь — наша Бацькаўшчына, наш дом, наша маці".*** Спэцаддзелы міліцыі тут жа арыштоўвалі групу, зьбівалі, потым судзілі, саджалі пад арышт. Але пасьля выхаду з турэмнай камэры змагары зноў дэманстравалі непахіснасьць пад сваімі лёзунгамі. Усё паўтаралася. І гэтак дзясяткі разоў.

Ніякага парушэньня нават лукашэнкаўскага заканадаўства з боку групы *„Выбар"* не было. Тут усё законна. Гэта гандзіцкі мэтад дэманстрацыі ўпартасьці і бясстрашша перад дыктатурай. Змагары перамагалі духоўна. Функцыянеры рэжыму гэта разумелі і ўжывалі супраць іх крайнія антычалавечныя мэтады.

За размову на беларускай мове з афіцэрамі спэцаддзелу міліцыі ***Юрась Мароз*** быў зьбіты імі да паўсьмерці і доўга лячыўся ў шпіталі. Ён падвяргаўся шалёнаму перасьледу. Вясной гэтага года ўзьнікла сур'ёзная пагроза яго свабодзе і жыцьцю, і Ю. Мароз вымушаны быў уцякаць зь Беларусі. Ён папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі. Цяпер улады ўзяліся за ***Плешчанку***, каб згнаіць яго без суда ў турме. Мэтад адпрацаваны і ўсё разьлічана — Ул. Плешчанка хворы на сэрца. На чарзе ***Барыс Хамайда і іншыя***.

Я зьвяртаюся да праваабарончых арганізацыяў у Эўропе і Амэрыцы з запрашэньнем зьвярнуць увагу на гэтыя факты і выказацца пра паламаньне правоў чалавека ў Беларусі, пра прадуманую тактыку пераходу да індывідуальнага перасьледу, тэрору і зьдзеку над асобным чалавекам.

Уладзімеру Плешчанку патрэбная міжнародная падтрымка. Ён, як і іншыя палітычныя вязьні ў Беларусі, не павінен знаходзіцца ў турме, бо чалавек мае права на свабоду слова і свабоднае волевыяўленьне, на прыхільнасьць да чалавечых каштоўнасьцяў, на шанаваньне сваёй мовы і краіны.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***
***сябра Беларускага ПЕН-клюбу***
*2 лістапада 1998 г., г. Нью-Ёрк*

***42-Д. Аб арышце Ўладзімера Плешчанкі. З. Пазьняк.*** *(„ Беларускія Ведамасьці", – 1998, №7(17), с. 13)*

***Гэты артыкул Зянона Пазьняка быў апублікаваны роўна 10 год таму — 9 кастрычніка 1988 года ў газеце «Московские новости». Менавіта пасля гэтай публікацыі ўвесь свет даведаўся пра Курапаты.***

***Мы вырашылі перадрукаваць артыкул, каб нагадаць нашым чытачам падзеі дзесяцігадовай даўніны — з абнародавання праўды пра Курапаты фактычна пачаўся новы этап беларускай гісторыі.***

16 «МОСКОВСКИЕ НОВОСТИ» № 41, 9 октября 1988г.

ПЕРЕЖИТОЕ

## КУРОПАТЫ
### НАРОДНАЯ ТРАГЕДИЯ, О КОТОРОЙ ДОЛЖНЫ ЗНАТЬ ВСЕ

**Как-то в начале 1937 г. обнаружил лесник Король Кононович непорядок в лесу: кто-то ямы накопал, засыпал и сосенками засадил, а они засохли. Рядом на дереве — мешочек крестьянский забытый, а в нем хлеб, колбаса... Побежал лесник в сельсовет звонить «куда надо». Так, мол, и так... Тогда промолвила трубка металлическим голосом: «Поменьше присматривайся, если хочешь жить». Все понял лесник Кононович. А через некоторое время появился в том лесу высоченный (выше трех метров) глухой дощатый забор с колючей проволокой поверху, за которым зазвучали выстрелы ночью и днем, зимой и летом, и слышались крики, причитания, мольбы и стоны, и лай собак, и урчание автомобильных моторов...**

**Так возникло невдалеке от Минска это страшное место (10—15 гектаров), именуемое по традиции Брод, или Куропаты. Место массовых расстрелов, «душегубка», которая действовала ежедневно с 1937 по июнь 1941 года.**

был уже к тому времени взрослым восемнадцатилетним парнем, удалось увидеть нечто исключительное. Обреченных расстреливали из винтовок; людей так же убивали партиями, но не в затылок. Их ставили около ямы в ряд, каждому затыкали рот кляпом и завязывали тряпкой. Потом заходили с флангов и стреляли из винтовок в голову «крайнего» так, чтобы одной пулей «прошить» двух человек. «Как выстрелит,— говорит Николай Васильевич,— так сразу двое в яму и попадают. Патроны жалели». Это была своего рода бравада, спорт, демонстрация профессионализма.

Найдено около двух сотен гильз от советского револьвера системы «наган» и одна от пистолета «ТТ». Вынуты десятки пуль, некоторые в черепах. Диаметры наганных гильз, пуль, пулевых отверстий в черепах совпадают.

У большинства черепов в лобной части, в височной или сверху видны большие, диаметром до 5—6 см и более, рваные отверстия. Это выходы пуль, свидетельство того, что ствол нагана приставляли плотно к затылку: после выстрела пороховые газы под давлением шли вслед за пулей в череп и через выходной пулевой пролом. Некоторые жители из окольных деревень рассказывали, что часто по субботам люди в форме НКВД из леса — этак часов около 11 вечера (видно, после пересменки команды)— появлялись на деревенских танцах-вечеринках.

прихвостней. Дело в том, что за каждого выявленного «врага» доносчику-осведомителю сразу же выплачивалась наличными определенная сумма из спецфонда НКВД (около 15 руб. за душу по теперешнему курсу). Селивановские иуды всегда пьянствовали, продав очередного односельчанина, даже песенку сложили о своих «доходах», которую и распевали во время попоек.

Социальный уровень большинства похороненных в Куропатах был невысок. Могила № 1 была заполнена скорее всего зимой: в ней обнаружено много зимней поношенной одежды (крестьянские кожухи, остатки валенок, зимние боты и т. п.).

Далее на восток и юго-восток размещены захоронения 1939 г. и после 1939 г. Там лежат преимущественно выходцы из Западной Белоруссии. В раскопе № 5 выявлено больше всего вещей «интеллигентного» пользования (много предметов туалета, очков, монокль, пенсне, лекарства и т. д.). Обувь здесь высокого качества, фабричная, модельная, сшитая по ноге, женские сапожки на высоком каблуке, перчатки и т. д.

По номенклатуре предметов, обнаруженных в могилах, и по тому, что часть вещей (одежда, обувь) найдена в сложенном виде, по наличию продовольственных припасов, кошельков и т. д. можно сделать вывод, что люди собирались

# Народная трагедыя, пра якую павінны ведаць усе

**Зянон ПАЗЬНЯК**

Неяк у пачатку 1937 г. вынайшаў ляснік Караль Канановіч непарадак у лесе: нехта ямы панакапаў, засыпаў і сасонкамі засадзіў, а яны засохлі. Побач на дрэве — торбачка сялянская вісіць, а ў ёй хлеб, каўбаса... Пабег ляснік у сельсавет — тэлефанаваць «куды трэба». Такая, маўляў, справа... А ў тэлефоне — металічны голас: «Калі жыць хочаш — менш прыглядайся». Усё зразумеў ляснік Канановіч. А праз некаторы час з'явіўся ў тым лесе вышэзны (вышэй за тры метры) глухі плот з дошак з калючым дротам паверсе. За плотам загучалі стрэлы ноччу і днём, узімку і летам, і чуліся крыкі, мольбы і стогны, сабачы брэх і рокат аўтамабільных матораў...

Так узнікла непадалёк ад Мінска гэтае страшнае месца (10—15 гектараў), якое па традыцыі называюць Брод, або Курапаты. Месца масавых расстрэлаў, «душабойка», якая дзейнічала штодзённа з 1937 па чэрвень 1941 г.

«Душабойкі» такога кшталту меліся і паблізу іншых буйных гарадоў Беларусі. Па сведчаннях відавочцаў толькі ў Мінску і ў яго ваколіцах удалося выявіць — пакуль — пяць буйных месцаў масавага знішчэння людзей у часы сталінскіх рэпрэсіяў.

## Заметалі сляды

Вакол Курапатаў на адлегласці 1,5—2,5 кіламетраў знаходзіліся вёскі Цна-Ёдкава, Драздова, Зялёны Луг, Зялёнаўка і хутары. У 1970-я гады мне і майму калегу Яўгену Шмыгалёву даводзілася не раз чуць расповяды старажылаў з гэтых вёсак пра падрабязнасці забойстваў. Звычайнае сялянскае жыццё праходзіла пад трэск стрэлаў і крыкі людзей, якіх забівалі. Бывала, жалі жыта ці саджалі бульбу і спрабавалі лічыць забітых: стрэл — чалавек. «Рукі апускаліся, сэрца абрывалася і праца была не ў радасць», — уздыхалі расказчыкі. «Уся вёска была ў страху. Пяць гадоў ноччу не маглі спаць з-за страляніны», — кажа старажыл Цны Раман Мікалаевіч Бацян (1913 года нараджэння).

У 1987—1988 гг. мы з Яўгенам Шмыгалёвым зрабілі метадычнае апытанне некалькіх дзесяткаў сведкаў (цяпер іх выяўлена каля 170 чалавек) і правялі археалагічныя раскопкі ў Курапатах. Вынікам гэтай работы стаў артыкул, апублікаваны 3 чэрвеня ў рэспубліканскай газеце «Літаратура і мастацтва». Коратка прывяду асноўныя факты і высновы нашага даследавання. Расстрэлы праводзіліся кожны дзень пасля абеду — бліжэй да вечара і ўсю ноч. Ахвяраў прывозілі ў крытых машынах, расстрэльвалі групамі з наганаў і скідвалі ў глыбокія ямы. Забойцы былі ў форме НКВД. Знішчыўшы адну партыю людзей, трупы трохі прысыпалі пяском і падводзілі наступную, пакуль яма не напаўнялася да верху.

У выніку нашых даследаванняў і археалагічных раскопак было высветлена, што ўсе пахаваныя ў Курапатах былі падвергнуты эксгумацыі ў 40-я гады, ужо пасля вайны. Некаторыя сведкі паказалі, што там «капаліся» салдаты. Каму спатрэбілася таемна, у кароткі тэрмін выкопваць з магілаў трупы? Куды іх падзелі? Хто «заметаў сляды»? Гэтыя пытанні мы паставілі ў артыкуле.

Зрэшты, замесці сляды ім не ўдалося. Як высветлілася ў выніку раскопак, эксгумацыя была праведзеная неахайна. На дне ямаў (а глыбіня іх каля 3 метраў) захаваліся парэшткі расстраляных. Былі знойдзеныя дзесяткі прастрэленых чарапоў, скураны і гумовы абутак савецкай вытворчасці (клеймы на галёшах 1937, 1938 гг.), знойдзеныя гільзы ад савецкага нагана, гузікі, кашалькі з савецкімі манетамі 30-х гадоў, акуляры, фарфоравыя і эмаліраваныя кубкі, зубная шчотка вытворчасці віцебскай фабрыкі і да т.п.

## Следства пачалося

Публікацыі артыкула папярэднічала супраціўленне, як прынята цяпер гаварыць, «сілаў тармажэння». Аднак рэдакцыя не паддалася ўціску. У трохі скарочаным выглядзе, але артыкул на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ўсё ж з'явіўся.

Праз два тыдні пасля яго публікацыі была створаная ўрадавая камісія для «расследавання фактаў, выкладзеных у артыкуле». А з Пракуратуры БССР Інстытут гісторыі АН БССР атрымаў такі ліст: *«Пракуратурай БССР расследуецца крымінальная справа, узбуджаная па факце знаходкі пахавання ў лясным масіве на тэрыторыі Бараўлянскага сельсавета Мінскага раёна. З мэтай вызначэння абставінаў пахавання па справе неабходна правесці эксгумацыю парэшткаў. У сувязі з гэтым, кіруючыся арт. 44 Крымінальна-працэсуальнага Кодэкса БССР, просім аказаць садзейнічанне. Для ўдзелу ў выбарачнай эксгумацыі выдзеліць супрацоўніка інстытута — спецыяліста ў галіне археалогіі».*

Такім чынам у раскопках (праводзіліся яны з 6 па 15 ліпеня) прымалі ўдзел: следчая група Пракуратуры БССР пад кіраўніцтвам следчага па асабліва важных справах пры Пракуратуры БССР Я.Я.Бролішса, з аднаго боку, з другога — археолагі, супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР — я і мае калегі: навуковы супрацоўнік М.М.Крывальцэвіч, аспірант А.В.Іов.

Намі былі распрацаваныя 7 раскопаў і адзін шурф на максімальную глыбіню 2,75 м агульнай плошчай 44 кв.м.

Даследаванні праводзіліся ў прысутнасці панятых, вяліся пратаколы, дзённікавыя запісы, агульныя вымярэнні, праводзілася фіксацыя на фотаплёнку і магнітную відэастужку; кіназдымку работ вялі некалькі груп кінахронікі, працавала тэлебачанне, прысутнічалі карэспандэнты газетаў, некаторыя члены ўрадавай камісіі. Пасля завяршэння палявых работ быў праведзены аналіз і абагульненне навуковых дадзеных, зробленыя чарцяжы (планы, профілі, разрэзы раскопаў і г.д.), зробленыя высновы, заключэнне, падрыхтаваная навуковая справаздача аб раскопках, якая была абмеркаваная, прынятая і зацверджаная на агульным паседжанні аддзела археалогіі. Экземпляр справаздачы прадстаўлены ў Пракуратуру БССР.

## Доказы

Амаль ва ўсіх выяўленых чарапах (312 штук) знойдзены кулявыя прастрэлы, як правіла, на патыліцы, часта па дзве і нават па тры адтуліны. Ёсць таксама бакавыя прастрэлы і прастрэлы ззаду «пад чэрап». Магчыма, некаторыя ахвяры супраціўляліся, і тады стралялі бессістэмна (зрэшты, магчыма, у гэтым праявіліся розныя «почыркі» забойцаў).

Аднаму з сведкаў, жыхару Цны Мікалаю Васільевічу Карповічу (1919 года нараджэння), які быў ужо на той час дарослым васемнаццацігадовым хлопцам, удалася ўбачыць нешта выключнае. Прыгавораных расстрэльвалі з вінтовак; людзей таксама забівалі партыямі, але не ў патыліцу. Іх ставілі каля ямы ў шэраг, кожнаму затыкалі рот кляпам і завязвалі анучай. Потым заходзілі з фланга і стралялі з вінтовак у галаву крайняга так, каб адной куляй «прашыць» двух чалавек. «Як стрэляць, — кажа Мікалай Васільевіч, — так адразу двое ў яму і падаюць. Патроны шкадавалі». Гэта была свайго роду бравада, спорт, дэманстрацыя прафесіяналізму.

Знойдзена каля дзвюх сотняў гільзаў ад савецкага рэвальвера сістэмы «наган» і адна ад пісталета «ТТ». Выяўленыя дзесяткі куляў, некаторыя ў чарапах. Дыяметры наганных гільзаў, куляў, кулявых адтулінаў у чарапах супадаюць.

У большасці чарапоў у лобнай частцы, у скроневай ці зверху бачныя вялікія, дыяметрам да 5—6 см і больш, рваныя адтуліны. Гэта выхады куляў, сведчанне таго, што ствол нагана прыстаўляўся шчыльна да патыліцы: пасля стрэлу парахавыя газы пад ціскам ішлі следам за куляй у чэрап і праз выхадны кулявы пралом. Некаторыя жыхары навакольных вёсак расказваюць, што часта па суботах людзі ў форме НКВД з лесу — гадзінаў каля 11 вечара (відаць, пасля перазменкі каманды) —з'яўляліся на вясковых танцах-вечарынках.

Што мяне больш за ўсё ўзрушыла не як даследчыка, а як чалавека падчас раскопак — гэта вялікая колькасць пахаваных жанчын. Жаночыя чарапы і рэчы знойдзеныя ва ўсіх пахаваннях.

## Колькі іх было?

Удалося прасачыць геаграфію і храналогію пахаванняў у Курапатах. Расстрэлы пачаліся ва ўсходняй частцы тэрыторыі. Магілы датуюцца тут 1937—1938 гадамі. У раскопах знойдзены рэчы і прадметы выключна савецкай вытворчасці, шмат самаробнага і кустарнага абутку, мала прадметаў туалету. Усё кажа за тое, што тут пахаваныя ў асноўным мясцовыя жыхары. Гэта пацвярджаюць лісты, атрыманыя мною ад Мікалая Асонавіча Рымарава (1927 г.н.) з Бабруйска, у якіх ён імкнецца прыгадаць паіменна сотні аднавяскоўцаў, што загінулі за тыя чатыры гады. На пачатку 30-х гадоў у ягонай вёсцы Сялівонаўка было 120 двароў, больш за 800 жыхароў. На пачатку 40-х, перад вайной, там заставалася менш за 40 двароў. Усё насельніцтва тэрарызавалі некалькі чалавек — старшыня калгаса, старшыня сельсавета, брыгадзір і пара іхніх прыхвасняў. Справа ў тым, што за кожнага выяўленага «ворага» даносчыку-асведаміцелю адразу ж выплачвалася наяўнымі пэўная сума з спецфонду НКВД (каля 15 рублёў за душу па сённяшнім курсе). Сялівонаўскія іуды заўсёды п'янствавалі, прадаўшы чарговага аднавяскоўца, нават песеньку склалі пра свае «подзвігі», якую і распявалі падчас папоек.

Сацыяльны ўзровень большасці пахаваных у Курапатах быў невысокі. Магіла № 1 была запоўненая хутчэй за ўсё зімой: у ёй знойдзена шмат зімовай скураной вопраткі (сялянскія кажухі, рэшткі валёнкаў, зімовыя бахілы і да т.п.).

Далей на ўсход і паўднёвы ўсход Курапацкага лесу размешчаныя пахаванні 1939 г. і пасля 1939 г. Там ляжаць пераважна выхадцы з Заходняй Беларусі. У раскопе № 5 выяўлена больш за ўсё рэчаў «інтэлігенцкага» карыстання (шмат прадметаў туалету, акуляраў, манокль, пенснэ, лекі і г.д.). Абутак тут высокай якасці, фабрычны, мадэльны, пашыты па назе, жаночыя боцікі на абцасах, пальчаткі і г.д.

Па наменклатуры прадметаў, знойдзеных у магілах, і па тым, што частка рэчаў (адзенне, абутак) знойдзеныя ў складзеным выглядзе, па наяўнасці харчовых прыпасаў, кашалькоў і г.д. можна зрабіць выснову, што людзі збіраліся ў дарогу, што родны дом яны пакінулі незадоўга да смерці, што ў турмах да расстрэлу не ўтрымліваліся. Гэта наводзіць на думку, што яны былі «ліквідаваныя», як тады казалі, без суда.

Зрабіўшы неабходныя вымярэнні, падлікі і абагульніўшы дадзеныя, можна прыблізна вызначыць першапачатковую (да эксгумацыі 40-х гадоў) колькасць пахаваных у даследаваных магілах. Калі ўзяць сярэднюю колькасць — 200 трупаў у магіле — і зрабіць простае памнажэнне на колькасць знойдзеных на сёння пахаванняў (510), то атрымаем 102 тысячы чалавек. Аднак сапраўдная колькасць ахвяраў была большай.

Трэба ўлічваць, што каля сотні (калі не больш) магільных ямаў было засыпана і потым знівелявана бульдозерам падчас пракладкі газатрасы і высечкі лесу вакол яе ў сакавіку—траўні 1988 года. Многія магілы зніклі, калі пракладвалася кальцавая дарога ў канцы 1950-х — пачатку 1960-х гг. і, магчыма, у 1940-х гадах падчас вырубак, тралявання і падсадак лесу на гэтым месцы: не ўлічаныя пахаванні і на поўдзень ад кальцавой дарогі, дзе была паўднёвая ўскраіна тэрыторыі расстрэлаў.

* * *

Калі слухаеш расповяды відавочцаў усёй гэтай крывавай фантасмагорыі, калі сам бачыш яе сведчанні і вынікі, знаходзячыся ў яме з трупамі, дзе пазнаеш знаёмыя з дзяцінства посуд і начынне паміж касцямі, знаёмыя жаночыя гумовыя туфлі, якія, памятаю, у маладосці насіла мая маці, калі выцягваеш з-пад прастрэленых чарапоў светлыя, нібы лён, доўгія жаночыя валасы, як у той, якую бачыў сёння раніцай, калі ўсё гэта бачыш, адчуваючы пах тлену ў квітнеючым лесе, дзе спевы птушак (можаце ўявіць, наколькі псіхалагічна цяжкімі былі раскопкі), калі ўсё гэта бачыш — няма слоў, яны не нараджаюцца. Перажываеш стан...

У заключэнне дазволю сабе выказаць дзве думкі, якія вынікаюць з усяго напісанага. Першая: нікому ўжо не ўдасца схаваць праўду пра Курапаты. Другое і галоўнае: кожны прыстойны чалавек павінен змагацца са сталінізмам, гэтай подлай, ілжывай, жорсткай і антынароднай з'явай.

**43-Д.** ***Народная трагедыя, пра якую павінны ведаць усе. З. Пазьняк.*** *(Навіны, – 1998, 9 кастрычніка)*

# НЕКАЛЬКІ ЛІСТОЎ ПА АБАРОНЕ

**Mr. Anti Korkeakivi**
**Lawyers Committee for Human Rights**
330, 7th Ave, 10th Floor, New York,
N.Y. 10001

**Ms. Erika Dailey**
**Human Rights Watch,**
485, 5 Avenue, New York, N.Y.
10017–6104

Уважаемые господа!

Уже 8 месяцев без суда содержится в тюрьме КГБ в городе Витебске в Беларуси поэт ***Славомир Адамович***. Его схватили и бросили в тюрьму по указанию президента Лукашенко в марте 1996 г. за написание стихотворения, якобы направленного против Лукашенко (хотя фамилия Лукашенко в произведении не называется).

Мне передали сведения, что поэт подвергается в тюрьме жестокому обращению и психологической обработке, подталкивающей его к самоубийству. Недавно за попытку передать из тюрьмы написанные там стихотворения своей матери он получил 5 суток карцера. Это крайне жестокое обращение. Полагаю, что жизнь этого человека, вина которого не доказана (и вина ли это?), находится в опасности. Зная о садистских склонностях А. Лукашенко, опасаюсь, что поэта уничтожат.

Необходимо срочное вмешательство и заступничество международных правозащитных организаций. Прошу Вас помочь и, не откладывая, сделать шаги в защиту жизни Славомира Адамовича и предпринять действия, которые в Ваших возможностях.

С уважением

***Зянон Пазьняк***
***Председатель Белорусского Народного Фронта***
***Член Белорусского ПЭН-центра***

*9 декабря 1996 г.*
*Нью-Ёрк*

**Fax: 1 стар.**

**Алесю Бяляцкаму,**
**Сяргею Папкову**

Шаноўныя калегі, мне тэрмінова патрэбная інфармацыя і зьвесткі пра Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага (ведаеце, навошта). ... Прашу прыслаць мне па ўсім гэтым камэнтар Н. Дударавай.

Прашу коратка і хутка. Прышліце факс у панядзелак-аўторак (будзе на аўтамаце), не пазьней.

**Лявону Баршчэўскаму**

Лявон Пятровіч, хлопцаў трэба ратаваць і біць ва ўсе званы. Разгледзьце спэцыяльна гэтае пытаньне. Трэба арганізаваць іх абарону, падтрымку. Даваць інфармацыю.

Жыве Беларусь!

***Зянон Пазьняк***

*21 лістапада 1997 г., N.Y.*

**W.P. Dr. Margaret Kępińska-Jakobson**
Den Danske Helsingfors Komite,
Gothersgade 89, DK-1123
Kopenhagen K, Denmark

Глубокоуважаемая госпожа Кемпийска-Якобсон!

Белорусские борцы за права человека, свободу и демократию обеспокоены судьбой трёх политических заключенных режима Лукашенки – Вадима Лабковича *(16 лет)*, Алеся Шидловского *(18 лет)*, Вадима Кабанчука *(22 года)*. Они схвачены за участие в демонстрации и брошены в тюрьму, где удерживаются без суда уже 4-й месяц в античеловеческих условиях. Им запрещены встречи с адвокатом, родителями, не разрешаются передачи одежды, книг, продуктов и медикаментов. (При этом г-н Кабанчук серьёзно болен: пиалонефрит, гнойный гайморит). Они страдают от холода и голода. Кормят через день.

Вадим Лабкович, которому 16 лет, есть несовершеннолетний ученик средней школы. Его незаконно лишили права учиться. Теперь ему инкриминируют надписи на заборе в поддержку свободы Беларуси. Нет такого закона, по которому бы за это предписывалось держать несовершеннолетнего без суда в тюремной камере. Вадим пробовал в тюрьме учиться, чтобы не отстать от одноклассников. Одако власти не позволили учителям его экзаменовать. Этот пример показывает, какое жестокое лицо у лукашенковского оккупационного режима.

Просил бы Вас посодействовать, чтобы этот факт насилия над правами человека рассмотрели в „Den Danske Helsingfors Komite" и потом от имени Датского Комитета обратились в „International Helsinki Federation for Human Rights", ссылаясь, возможно, на моё письмо и на сведения других людей из Беларуси. Хорошо бы было, если бы Датский Комитет смог послать своих представителей в Беларусь для ознакомления с делом.

С уважением

***Зянон Пазьняк***
***Председатель Белорусского Народного Фронта „Адраджэньне"***

*28 ноября 1997 г.*
*Нью-Ёрк*

**H. E. Helweg Petersen**
Chairman-in-office OSCE
Royal Danish Ministry of Foreign Affairs
2, Asiatics Plads
DK – 1448 Copenhagen K
Denmark

Глыбокапаважаны спадар Пэтэрсан!

Беларускія змагары за правы чалавека, свабоду і дэмакратыю занепакоены лёсам трох палітычных вязьняў рэжыму Лукашэнкі – *Вадзіма Лабковіча (16 год), Алеся Шыдлоўскага (18 год), Вадзіма Кабанчука (22 гады)*. Яны схоплены за ўдзел у дэманстрацыі і кінуты ў турму, дзе ўтрымліваюцца без суда ўжо 4-ы месяцы ў антычалавечых умовах. Ім забаронены сустрэчы з адвакатам, бацькамі, перадачы адзежы, кніг, прадуктаў і медыкаментаў (лякарстваў). Тым часам сп. Кабанчук сур'ёзна хворы (піяланэфрыт, гнойны гаймарыт). Яны пакутуюць ад холаду і голаду. Есьці даюць праз дзень.

Вадзім Лабковіч, якому 16 гадоў, ёсьць непаўналетні вучань сярэдняй школы. Яго незаконна пазбавілі права вучыцца. Цяпер яму інкрымінуюць надпісы на плоце за свабоду Беларусі. Гэта ня ёсьць злачынства. Няма такога закона, паводле якога можна было б тры-

мацъ няпаўналетняга без суда ў турэмнай камэры. Вадзім спрабаваў у турме вучыцца, каб не адстаць ад аднаклясьнікаў. Аднак улады не дазволілі настаўнікам яго экзаменаваць. Гэты прыклад паказвае, якое жорсткае аблічча лукашэнкаўскага акупацыйнага рэжыму.

Я ня першы раз зьвяртаю ўвагу міжнародных арганізацыяў на бесчалавечныя парадкі ў лукашэнкаўскіх турмах. (Лукашэнка, як вядома, перш чым стаць старшынёй саўгаса, а потым прэзыдэнтам краіны, працаваў намесьнікам начальніка Аршанскай турмы.) Беларусы будуць вельмі ўдзячны Вам, спадар Пэтэрсан, калі Вы дапаможаце нам у барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека.

У дапаўненьне да майго ранейшага ліста на Ваша імя з просьбай паслаць адмысловую камісію АБСЭ ў Беларусь па пытаньнях грубага парушэньня правоў беларусаў з боку рэжыму Лукашэнкі і перасьледу па этнічных прыкметах, прасіў бы Вас зьвярнуць увагу на жорсткае ўтрыманьне людзей да суда ў турмах Беларусі, на грубае парушэньне законаў і правоў чалавека, а таксама садзейнічаць вызваленьню і аднаўленьню чалавечых правоў грамадзянаў Беларусі Вадзіма Лабковіча, Алеся Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука.

***Зянон Пазьняк***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”***

*1 сьнежня 1997 г.*
*Нью-Ёрк*

**Сп.сп. В. Сіўчыку,**
**В. Асташынскаму,**
**А. Бяляцкаму,**
**Я. Калубовічу,**
**В. Кароліку,**
**А. Крывароту,**
**А. Чахольскаму**

Шаноўныя калегі.

Прашу вас прыняць на Ўправе зварот у АБСЭ аб дапамозе ў вызваленьні з турмы маладых палітвязьняў рэжыму: В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука. Напішыце пра непаўналецьце Лабковіча, пра незаконнасьць утрыманьня, пра непрадстаўленьне адваката, пра жорсткасьць, зьбіваньне і зьдзек з асобы, пра пазбаўленьне права вучыцца, пра абсурднасьць абвінавачваньня і неадэкватнасьць паводзінаў уладаў, пра нахабнае застрашваньне грамадзтва на прыкладзе зьдзеку над гэтымі хлопцамі. Прасіце прыняць палітычныя і эканамічныя санкцыі супраць рэжыму. Прасіце прававую дапамогу беларускай моладзі.

На гэтым тыдні Мэдэлін Олбрайт будзе выступаць у Капэнгагене ў АБСЭ пра ламаньне правоў чалавека ў Беларусі. Расейцы, рускі ўрад і руская дыпляматыя ўсяляк перашкаджаюць і працівяцца, каб адбылося гэтае выступленьне М. Олбрайт. Сёньня ж падрыхтуйце і прыміце зварот, перакладзіце на ангельскую мову і адпраўце факсам (і ўдагонку лістом) у АБСЭ. Лепш гэта зрабіць сёньня, альбо заўтра нараніцы. Адзін ліст тэксту. *(Ніжэй адрасы і факсы міжнародных арганізацыяў.)*

Пазнаёмце з гэтым лістом сп. Баршчэўскага.

Жыве Беларусь!

***Зянон Пазьняк***

*15 сьнежня 1997г., N.Y.*

**Сп. В. Сіўчыку,**
**сп. С. Папкову**

Паважаныя сябры.

Сёньня на Ўправе прасіў бы разглядзець пытаньне аб стварэньні фронтаўскага „Камітэту ў абарону палітвязьняў Беларусі”. Арганізаваць Камітэт трэба хутка (да пятніцы на гэтым тыдні; падаць у друк і г.д.).

**Мэта** Камітэту адлюстравана ў самой яго назве. **Задача**: вызваліць з турмы А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука; адмена судовага рашэньня па В. Лабковічу. **Зьмест працы**:

– інфармацыя пра вязьняў, іхняя становішча і праблемы вакол іх;

– арганізацыя патрабаваньняў аб вызваленьні (юрыдычная праца, пікеты, масавыя дзеяньні, прапаганда іхных учынкаў у школе; збор сродкаў і дапамога бацькам; канфэрэнцыі, лекцыі, выступы, выставы.

Трэба ўлічыць, што такі Камітэт мог бы стаць нашай міжнароднай ініцыятывай. Тым больш, што некалькі дзён таму ў ЗША сябры Фронта, што апынуліся тут, стварылі дзьве арганізацыі БНФ (Суполка БНФ штату Нью-Джэрзі і Суполка БНФ штату Нью-Ёрк); пакуль што 20 чалавек, але ў пэрспэктыве будзе болей).

У Канадзе створана дапамаговая зборка В. Лабковічу, А. Шыдлоўскаму і В. Кабанчуку.

Паўтаруся. Камітэт трэба закласьці хутка. Потым ён можа пашырацца і павялічвацца.

Жыве Беларусь!

***Зянон Пазьняк***

*2 сакавіка 1998 г., N.Y.*

# ТРЭБА РАТАВАЦЬ АЛЯКСЕЯ ШЫДЛОЎСКАГА І ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА

Аляксея Шыдлоўскага працягваюць надалей утрымліваць у Пішчалаўскім астрозе, што па вуліцы імя бальшавіка Валадарскага ў Менску. Тут вельмі цяжкія і нездаровыя ўмовы. З размоваў з арыштаванымі, якія мне даводзілася весьці тут у 1990 годзе падчас змаганьня за жыцьцё і вызваленьне з гэтай камуністычнай тады яшчэ турмы фронтаўца Валеры Сядова, я неаднаразова чуў, што бывалыя вязьні прасілі хутчэй судовага працэсу і прысуду, каб вырвацца ў „зону” і пазбавіцца казематаў Пішчалаўскага замку.

Аляксея тут трымаюць, каб павялічыць яго пакуты і паболей адабраць здароўя. Цяпер у гэтую нару рэжым укінуў Паўла Севярынца, фактычна, у якасьці закладніка. Спачатку яго схапілі, а потым пачалі прыдумваць абвінавачваньні, якія ніяк ня могуць праўдападобна сфармуляваць. Плян акупантаў зразумелы: трымаць палітычнага закладніка ў турме і рабіць выгляд, што вядуць сьледзтва.

Пройдзе час, і акупанты адкажуць за ўсе свае зьдзекі над беларускай моладдзю. Цяпер жа ўсім беларусам трэба зразумець, што юнакам пагражае сур’ёзная небясьпека, што небясьпеку стварае рэжым Лукашэнкі, што правы чалавека паламаныя. Трэба сур’ёзна, грунтоўна бараніць іхныя правы і не аслабляць увагі да іхняга лёсу. Задача грамадзтва – вызваліць іх.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, №2(12)/98).*

# АБ АНТЫБЕЛАРУСКІХ НАМЕРАХ

***(ЗАЯВА кіраўніцтва БНФ „Адраджэньне")***

25 сьнежня 1998 г. Б.Ельцын і А.Лукашэнка падпісалі ў Маскве шэраг дакумантаў, дзе засьведчана імкненьне стварыць у другой палове 1999 г. нейкую „саюзную дзяржаву" **ў** складзе Расеі і Беларусі.

Прычынаю ліхаманкавай «інтэграцыйнай» актыўнасьці прэзыдэнтаў Расеі **і** Беларусі стаў эканамічны крах і палітычнае банкруцтва рэжымаў, якія яны ўзначальваюць. Прыняты ў першым чытаньні бюджэт Расейскай Фэдэрацыі – тыповы бюджэт **краіны** «трэцяга сьвету», які ставіць гэтую **імпэрыю** на мяжу канчатковага развалу. Інкарпарацыя Беларусі – гэта спроба імпэрскага рэжыму самазахавацца.

А.Лукашэнка, фактычна, зьнішчыў беларускую Канстытуцыю, законнасьць, нацыянальную валюту, вынішчае беларускую культуру, мову, гістарычную памяць. У першай палове 1999 г. у Беларусі, паводле легітымнай Канстытуцыі, павінны адбыцца прэзыдэнцкія **выбары.** Лукашэнка, баючыся свабодных дэмакратычных выбараў, дзеля захаваньня ўлады і магчымасьці змагацца за лідэрства ў Расеі, гатовы на ліквідацыю беларускай дзяржаўнасьці.

У гэтых варунках прэзыдэнты дзьвюх краін падпісваюць дакуманты, якія пярэчаць ня толькі нормам міжнароднага права, але і дзейным Канстытуцыям Расейскай Фэдэрацыі і Рэспублікі Беларусі.

Б. Ельцыну добра вядома, што ў Беларусі адсутнічаюць усялякія падставы для свабоднага волевыяўленьня народу, каб законным чынам ажыцьцявіць зьмены ў Канстытуцыі. У Беларусі дзясяткі палітычных зьняволеных. Прэзыдэнцкія структуры зманапалізавалі ўсе электронныя СМІ. Усялякая апазыцыя рэжыму жорстка перасьледуецца. *Між* тым, як паказваюць сацыялагічныя зьвесткі, ня менш як тры чвэрці беларускага насельніцтва не падтрымліваюць ідэю аб'яднаньня Расеі і Беларусі ў адну дзяржаву. Відавочны разьлік на фальсіфікацыю народнага волевыяўленьня.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» ацэньвае гэтыя крокі Лукашэнкі як дзяржаўную здраду. Мы зробім ўсё, каб адстаяць апляначаную крывёю продкаў незалежную беларускую дзяржаўнасьць. Здраднікі і злачынцы будуць непазьбежна пакараныя ў адпаведнасьці з законам. Заклікаем усе дэмакратычныя незалежніцкія сілы згуртавацца на падмурку абароны незалежнасьці Беларусі.

*25 сьнежня 1998 г.*
*г.Менск*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998/99, № 1(18).*

# ДА ПАРЛЯМАНТАЎ І ЎРАДАЎ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ КРАІНАЎ ЭЎРОПЫ І ЗША

***(Зварот кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»)***

Паважаныя спадарыні і спадары. Зьвяртаемся да вас са спадзяваньнем на разуменьне і дапамогу ў нашым змаганьні за дэмакратыю, свабоду і незалежнасьць Беларусі.

25-га сьнежня 1998 года прэзыдэнт Беларусі Лукашэнка і прэзыдэнт Расеі Ельцын без папярэдняга інфармаваньня грамадзкасьці сваіх краінаў падпісалі ў Маскве дэкларацыю аб аб'яднаньні Беларусі і Расеі ў адзіную дзяржаву. Плянуецца чарговы незаконны рэфэрэндум аб ліквідацыі незалежнасьці Беларусі.

З пункту гледжаньня права, прапанова Лукашэнкі зьяўляецца незаконнай, а ўчынак авантурным.

Згодна Канстытуцыйнага закону аб рэфэрэндуме (1991 год), беларускае права не дазваляе выносіць на рэфэрэндум пытаньні, якія закранаюць асновы існаваньня беларускай дзяржавы, суверэнітэту і тэрыторыі.

Акрамя таго, ніякі рэфэрэндум ня можа праводзіцца ва ўмовах дыктатуры, адсутнасьці доступу апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі, у абставінах парушэньня правоў чалавека і наяўнасьці палітычных вязьняў у турмах, у краіне, дзе заканадаўства падменена воляй дыктатара.

З пункту гледжаньня палітычнае матывацыі – гэта ёсьць змова двух безадказных палітыкаў, дзе Ельцын хоча засьведчыць, што ён па-ранейшаму ўплывае на палітыку Расеі, а Лукашэнка – удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у Расеі і трапіць у Крэмль цаной прадажы Беларусі.

Бессаромная дэклярацыя 25-га сьнежня зьяўляецца трэцяй спробай анэксаваць Беларусь (першыя дзьве былі ў 1996, 1997 гадах). Гэтая дзіўная, на першы погляд, палітыка абумоўленая ***ўнутранай акупацыяй Беларусі сіламі савецкага КГБ***, якая пачалася ў 1994 годзе пасьля выбраньня на прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі пры актаўным спрыяньні структураў савецкай дзяржбясьпекі.



(Фота З. Пазьняка)

**47-Д.** ***Беларусы Нью-Ёрка на дэманстрацыі перад ААН. 1997 г.***

Беларускі Народны Фронт як галоўная дэмакратычная вызвольная сіла ў краіне ўжо з 25-га сьнежня распачаў рух і акцыі пратэсту супраць спробаў ліквідаваць незалежнасьць Беларусі. Пад сьцягам супраціўленьня авантурніцкай палітыцы анэксіі і дыктатарскіх рэфэрэндумаў мы імкнемся злучыць усе апазыцыйныя дэмакратычныя і здаровыя сілы беларускага грамадзтва.

Мы бачым вялікую небясьпеку для ўсёй Эўропы у спробах Лукашэнкі цаной беларускай незалежнасьці прарвацца да прэзыдэнцкай улады ў Расеі. Расея стаіць на парозе камуна-фашысцкай дыктатуры. Выхад Лукашэнкі на рускае палітычнае поле і ўключэньне яго ў палітычную барацьбу за Крэмль можа зрабіць магчымасьць чырвона-карычневай дыктатуры ў Расеі рэальнасьцю. Для беларусаў гэта будзе абазначаць страту незалежнасьці і нацыянальную катастрофу. Для Эўропы – парушэньне існуючага парадку рэчаў, актывізацыю камуністычных сілаў, рэанімацыю геапалітычных канфліктаў, тэрытарыяльных праблемаў, атамнага шантажу і ядзерных аргумантаў.

Мы спадзяемся на дэмакратычную салідарнасьць з боку ўрадаў, парлямантаў і арганізацыяў заходніх краінаў, на рэальную падтрым-

ку нашага змаганьня за свабоду і незалежнасьць Беларусі, дэмакратыю і правы чалавека.

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» зьвяртаецца да ўрадаў і парлямантаў заходніх краінаў Францыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Італіі, Гішпаніі, Партугаліі, Бэльгіі, Галяндыі, Аўстрыі, Швэцыі, Нарвэгіі, Фінляндыі, Грэцыі, Ірляндыі, Даніі, Польшчы, Чэхіі, Вугоршчыны, Канады і ЗША са спадзяваньнем, што яны:

– выступіць з палітычнымі ацэнкамі чарговай ініцыятывы Лукашэнкі-Ельцына аб аб'яднаньні Беларусі з Расеяй;
– падтрымаюць апазыцыйнае змаганьне ўсяго беларускага вызвольнага руху за дэмакратыю, незалежнасьць і свабоду Беларусі;
– крэдыты, пазыкі і дапамогі, якія будуць прызначацца Расеі, будуць выдзяляць пры ўмове адмаўленьня яе ад любых спробаў зьнішчыць суверэнітэт Беларусі і далучыць беларускую тэрыторыю да Расеі;
– ініцыююць разгляд пытаньня аб пагрозе незалежнасьці Беларусі і парушэньні правоў чалавека рэжымам Лукашэнкі ў Радзе Эўропы і Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Прадугледзяць пры гэтым слуханьні прадстаўнікоў беларускай апазыцыіі ўсяго дэмакратычнага вызвольнага руху Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*28 сьнежня 1998г.*
*Варшава – Менск*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1998/99, № 1(18).*

# ПРАГРАМНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ* ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАЛІТЫКІ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ.” 1999 Г.

## СУТНАСЬЦЬ І МЭТА

Беларусь стаіць перад жорсткім выбарам: ці трапіць у палітычную і каляніяльную залежнасьць ад Расеі, ці змагацца і будаваць незалежную дэмакратычную дзяржаву ў Эўропе.

Першы шлях, і гісторыя пра гэта сьведчыць, – шлях нацыянальнага прыніжэньня, эканамічнай адсталасьці і духоўнай дэградацыі, страта ўласнасьці, незалежнасьці і свабоды.

Другі шлях – ліквідацыя дыктатарскага рэжыму, змаганьне з рускім імпэрыялізмам і пэрспэктыва нацыянальна-культурнага адраджэньня, эканамічнага дабрабыту і грамадзкага спакою.

На першы шлях Беларусь спрабуе скіраваць Масква і яе памагатыя ў Беларусі. За другі шлях змагаецца Беларускі Народны Фронт.

* * *

Беларусь – адна з найбагацейшых краінаў Эўропы па прыродных, культурных і тэрытарыяльных рэсурсах. Насельніцтва Беларусі – працавітае і адукаванае.

Беларусы могуць і павінны жыць прыстойна і заможна. Для гэтага, перш за ўсё, трэба разарваць путы залежнасьці ад існуючага прамаскоўскага рэжыму і ад імпэрскай палітыкі Расеі.

Трэба ўзаемадзейнічаць з цывілізаванай Эўропай і захаваць мірныя дачыненьні з Усходам.

Мы ставім задачу ўмацаваць незалежнасьць і пабудаваць беларускую дзяржаву на грунце дэмакратыі, культуры і права; беззваротна выйсьці на шлях духоўнага нацыянальнага разьвіцьця, эканамічнага і культурнага прагрэсу.

Апорай для зьдзяйсьненьня гэтай задачы зьяўляецца тое, што большая частка насельніцтва Беларусі імкнецца да пераменаў.

Месца Беларусі – сярод разьвітых эўрапейскіх краінаў.

## ТЭЗІСЫ

– Беларусь – незалежная, дэмакратычная дзяржава ў Эўропе.

– Нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі, аднаўленьне беларускай школы, асьветы і адукацыі. Адзіная адукацыйная палітыка. Бясплатнасьць усёй сістэмы дзяржаўнай адукацыі. Апора на культуру і хрысьціянскія каштоўнасьці.

– Раўнапраўнасьць канфэсіяў у сфэры беларускага падпарадкаваньня. Гарантыі правоў нацыянальным мяншыням.

– Аднаўленьне беларускіх дзяржаўных інстытутаў улады, дзяржаўнасьці беларускай мовы, дзяржаўных беларускіх сымвалаў, Канстытуцыі 1994 года.

– Збалянсаваньне галінаў улады, павелічэньне ролі парляманту і ўраду. Судовая рэформа. Незалежная адвакатура; свабодная (неабавязковая) сістэма самакіраваньня, абумоўленая воляй і выбарам насельніцтва.

– Уладкаваньне Арміі і ўнутраных войскаў. Армія стаіць на варце беларускіх нацыянальных інтарэсаў і зьяўляецца гарантыяй бясьпекі краіны.

– Стварэньне паліцыі і сістэмы законаў аб паліцыі.

– Рынкавая эканоміка зь існаваньнем дзяржаўнага сэктару ў эканамічных дачыненьнях. Упарадкаваньне дачыненьняў уласнасьці. Вызначэньне і заканадаўчае замацаваньне маёмасных правоў усіх уласьнікаў. Першаснасьць уласнасьці. Стабільнасьць інстытута ўласнасьці. Упарадкаваньне прыватызацыі. Прыватызацыя на падставе рынкавых механізмаў і нацыянальных законаў.

– Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі на аснове ўсіх формаў уласнасьці на зямлю; рэканструкцыя калгасаў у рынкавыя гаспадаркі. Зьберажэньне працаўнікоў вёскі, кіраўнікоў, гаспадароў, арганізатараў, спэцыялістаў. Разьвіцьцё і дзяржаўная падтрымка прыватных гаспадарак. Заснаваньне і дзейнасьць зямельных іпатэчных банкаў.

– Фінансавае ўладкаваньне. Увядзеньне беларускага талера. Збалянсаваная манетарная палітыка, спыненьне інфляцыі і росту цэнаў. Канвэртацыя талера.

– Спрошчаная сістэма падаткаў (вызваленьне ад падаткаў, ільготныя падаткі, рацыянальна абумоўленыя падаткі), накіраваная на разьвіцьцё прадпрымальніцтва, узбагачэньне людзей і стварэньне сярэдняй клясы. Стабільнасьць законаў.

– Вяртаньне да нармальнага рэжыму працы беларускай дзяржаўнай мяжы і мытні. Адмена мытных пошлінаў на ўвоз і вываз замежных тавараў, якія не вырабляюцца ў Беларусі (легкавыя аўтамабілі, некаторыя віды лекаў і г.д.). Аднаўленьне свабоднага гандлю такімі таварамі. Палітыка мытных пошлінаў, накіраваная на забесьпячэньне беларускіх нацыянальных інтарэсаў, беларускіх суб’ектаў гаспадараньня і беларускіх грамадзянаў.

– Збалянсаваньне замежнага гандлю. Арыентацыя на гандлёвую выгаду з улікам беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Ліквідацыя нявыгадных, штучна створаных гандлёвых накірункаў. Асваеньне заходніх, паўночных і паўднёвых гандлёвых вектараў.

– Сістэма аховы здароўя з апорай на дзяржаўную (бясплатную) медыцыну. Сістэма прафіляктычнай медыцыны. Медыцына – дзяржаўны прыярытэт. Арганізацыя страхавай медыцыны. Арганізацыя дзяржаўнага медыцынскага фонду.

– Падтрымка і ўмацаваньне дзяржаўнага пэнсійнага фонду. Крэдытныя і бюджэтныя адлічэньні ў пэнсійны фонд. Адлічэньні ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці. Гарантыя дзяржаўнага пэнсійнага забесьпячэньня і выплаты пэнсіяў пэнсіянерам.

– Сям’я, мацярынства, моладзь, дзяцінства – галоўны гуманітарны і сацыяльны клопат дзяржавы. Моцная, здаровая сям’я – моцнае здаровае грамадзтва. Падтрымка сям’і праз жыльлёвую палітыку, праз гарантыю працоўных месцаў для моладзі, праз сістэму адукацыі і ахову здароўя, адпаведную крэдытную і падатковую палітыку, сістэму фондаў і заканадаўства. Падтрымка павелічэньня нараджальнасьці ў сям’і. Спыніць выміраньне беларусаў і забясьпечыць натуральны прырост беларускага насельніцтва ёсьць стратэгічная задача разьвіцьця грамадзтва.

– Уладкаваньне статусу пасьлячарнобыльскіх радыяактыўна засьмечаных тэрыторыяў. Стварэньне бясьпекі для здароўя людзей. Невыкарыстаньне забруджанай зямлі ў сельскай гаспадарцы, скасаваньне перашкодаў для гуманітарнай дапамогі, сістэма забесьпячэньня чыстымі прадуктамі і лекамі, сацыяльная санацыя тэрыторыяў, ажыцьцяўленьне дзяржаўных экалягічных праграмаў.

– Экалягічнае і культуралягічнае аздараўленьне прыроды (аднаўленьне малых рэк, азёраў, мікратапанімікі, жыцьцёва важных зонаў). Павышэньне якасьці навакольнага асяроддзя (вады, паветра, жыльлёвых умоваў, прадуктаў харчаваньня і г.д.). Стварэньне эфэктыўнай сістэмы кіраваньня экалёгіяй (экалягічнае права, арганізацыя аховы прыроды, кантроль за экалягічнымі рэгляментамі,

---

* У падрыхтоўцы „Праграмных палажэньняў”, акрамя кандыдата (З. Пазьняка), прымалі ўдзел сябры Ценявага Кабінэту БНФ „Адраджэньне” спадары Ю. Беленькі, Л. Зданевіч, М. Крукоўскі, М. Крыжаноўскі, С. Папкоў, Р. Сачок і інш.

ашчаднае рэсурсакарыстаньне, навукаёмкія і малаадходныя тэхналёгіі, біятэхналёгіі, эфэктыўнае землекарыстаньне і г.д.).

## ПРЫЯРЫТЭТЫ ВА ЎНУТРАНАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАЛІТЫЦЫ

Галоўным і безумоўным прыярытэтам зьяўляецца дзяржаўная незалежнасьць і суверэнітэт Беларусі. Прыярытэтнымі накірункамі ва ўнутранай палітыцы будуць: адраджэньне беларускай духоўнай, мастацкай і матэрыяльнай культуры на аснове беларускага вопыту, менталітэту і беларускай мовы; сістэмнае аднаўленьне беларускай школы, асьветы і адукацыі; падтрымка заснаваных на рэлігіі прынцыпаў маралі і справядлівасьці; разьвіцьцё навукі, прадпрымальніцтва, адукацыі, сельскай гаспадаркі, навукаёмістых галінаў прамысловасьці, стратэгічных галінаў (энэргетыка), ажыцьцяўленьне валютапрыбытковых праектаў.

Галоўным дзеючым фактарам ва ўнутранай палітыцы будзе стымуляваньне матывацыяў людзей для дзейнасьці. Дзяржаўная палітыка будзе спрыяць уздыму аптымізму ў грамадзтве, прэстыжу працы, адраджэньню атмасфэры духоўнасьці, узаемнай павагі ў грамадзтве.

## ПРЫЯРЫТЭТЫ Ў ЗЬНЕШНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ

Умацаваньне дзяржаўнай бясьпекі Беларусі. Супрацоўніцтва з НАТО. Падрыхтоўка да найхутчэйшага ўступленьня Беларусі ў НАТО.

Вектарная арыентацыя на Эўропу (краіны Эўрапэйскай Вуніі і Скандынавіі).

Дачыненьні з суседзямі (Украінай, Польшчай, Летувой, Латвіяй). Спыненьне дызбалянсу дачыненьняў на Ўсходзе, штучна створанай палітычнай і эканамічнай залежнасьці ад Расеі. Пераарыентацыя стратнага гандлю з Расеяй на заходні, паўднёвы і паўночны накірункі, наладжваньне двухбаковых дачыненьняў з Масквой на падставе міжнароднага і нацыянальнага заканадаўстваў і ўліку беларускіх інтарэсаў.

Стварэньне гарантыяў даверу да Беларусі і спрыяльнага клімату для заходніх інвэстыцыяў і тэхналёгіяў.

## ПЕРШАЧАРГОВЫЯ ДЗЕЯНЬНІ ПАСЬЛЯ ЛІКВІДАЦЫІ ДЫКТАТУРЫ

Адразу пасьля сканчэньня дыктатуры, адмены ўлады рэжыму і ўступленьня на пасаду новага Прэзыдэнта, ***аўтаматычна*** зноў уступае ў дзеяньне Канстытуцыя 1994 года, вяртаецца ўсё адмененае і забароненае рэжымам заканадаўства і інстытуты ўлады. Новы Прэзыдэнт стварае новы ўрад. Аднаўляецца праца Канстытуцыйнага суду, які выносіць прысуд аб адмене вынікаў незаконнага рэфэрэндуму 1995 года і ставіць пытаньне аб узбуджэньні крымінальнай справы супраць яго ініцыятараў. Адразу ж вяртаюцца дзяржаўныя сымвалы Беларусі – *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і гэрб *Пагоня*. Распускаецца незаконны лукашэнкаўскі „нацыянальны сход” і ўзбуджаецца крымінальная справа аб антыканстытуцыйнай антыдзяржаўнай дзейнасьці супраць кожнага яго ўдзельніка.

Вярхоўны Савет 13-га скліканьня (дэпутаты, што засталіся вернымі Канстытуцыі) альбо новаабраны Грамадзянскі Парлямант прымае новы Закон аб выбарах на прапарцыйнай (альбо зьмешанай) аснове. Аб’яўляюцца і праводзяцца выбары ў парлямант.

З выбраньнем парляманту працэс уступае ў нармальнае рэчышча. Пачынаецца збалянсаваньне галінаў улады, падрыхтоўка да мясцовых выбараў, сістэмнае ўладкаваньне эканомікі, культуры, адукацыі, сацыяльнай сфэры, міжнароднай палітыкі.

* * *

**На першым этапе** прыдзецца дзейнічаць хутка і рашуча. Пры гэтым усе дзеяньні новай улады будуць падначалены прынцыпу – „не нашкодзь!”. Дзеяньні павінны мець стваральны накірунак. Неабходна будзе:

1. Стварыць умовы для хуткага аднаўленьня правамоцнасьці Канстытуцыі. Усталяваць незалежную дзейнасьць суддзяў усіх узроўняў, пракуратуры і адвакатуры, забясьпечыць матэрыяльныя ўмовы гэтай незалежнасьці.
2. Падрыхтаваць становішча і ўмовы для правядзеньня дэмакратычных выбараў у парлямант Беларусі і мясцовыя прадстаўнічыя органы ўлады.
3. Забясьпечыць доступ да радыё і тэлебачаньня грамадзянам, грамадзкім арганізацыям, партыям. Ліквідаваць палітычную цэнзуру. Скасаваць дзяржаўную манаполію на электронныя сродкі масавай інфармацыі (СМІ). Удакладніць заканадаўчую базу адносна СМІ з улікам інтарэсаў культурна-нацыянальнага аднаўленьня і бясьпекі беларускай дзяржавы. Увесьці ільготнае падаткаабкладаньне на інвэстыцыйныя праекты ў СМІ.
4. Спыніць дзейнасьць дэкрэтаў, указаў, законаў, папраў да законаў, якія не адпавядаюць інтарэсам беларускай дзяржавы, парушаюць правы чалавека і яго маёмасныя правы. Увесьці права недатыкальнасьці прыватнай уласнасьці і маёмасьці, права ўласьніка на іх абарону. Правесьці амністыю і скасаваць крымінальныя справы па палітычных і эканамічных пытаньнях, якія былі ўзбуджаныя дзяржаўнымі органамі. Правесьці перагляд у судах крымінальных справаў эканамічнага і маёмаснага характару з мэтай вызваленьня са зьняволеньня і пры ўмове выплаты грашовай кампэнсацыі і вяртаньня канфіскаванай маёмасьці несправядліва асуджаным.
5. Зрабіць захады па навядзеньні парадку і ўсталяваньні законнасьці. Узмацніць матэрыяльную і тэхнічную забясьпечанасьць міліцыі, памежнай варты і мытных органаў. Нармалізаваць дзейнасьць беларуска-расейскай мяжы. (Увесьці памежны і мытны кантроль.)
6. Актывізаваць міжнародную дзейнасьць. Нармалізаваць сувязь з краінамі эўраатлянтычнага альянсу. Аднавіць супрацоўніцтва з Эўразьвязам, Эўрапарлямантам, МВФ і іншымі міжнароднымі арганізацыямі.
7. Актывізаваць дзейнасьць усіх суб’ектаў гаспадараньня: грамадзянаў, прадпрымальнікаў, прадпрыемстваў. Дзеля гэтага:

– тэрмінова правесьці перамовы з Расейскай Фэдэрацыяй па мытных пытаньнях і ўвесьці мытныя пошліны на імпарт і экспарт тавараў і прадукцыі ў інтарэсах Беларусі;

– правесьці перамовы з суседнімі краінамі – Украінай, Польшчай, Летувой, Латвіяй, Чэхіяй. Удакладніць ранейшыя дамовы, падпісаць дадатковыя пагадненьні дзеля спрашчэньня правілаў перамяшчэньня грамадзянаў Беларусі праз мяжу і актывізацыі гандлю;

– зьнізіць падаткавую нагрузку на суб’екты гаспадараньня, спрасьціць справаздачнасьць для малога і сярэднега бізнэсу. Усталяваць ільготныя падаткі для перапрацоўшчыкаў сельгаспрадукцыі, для вытворцаў лекаў, медыцынскай прадукцыі і медыцынскага абсталяваньня, для суб’ектаў, што працуюць на тых накірунках эканамічнай дзейнасьці, якія даюць хуткія вынікі ў павелічэньні рабочых месцаў і насычэньні таварнага рынку. Вызваліць ад падаткаў прыбыткі, якія накіроўваюцца на інвэстыцыі. Вызваліць ад уплаты асноўных падаткаў (дабаўленая вартасьць, прыбытак) фірмы і прадпрыемствы, якія выконваюць інвэстэцыйныя праекты дзеля разьвіцьця транспартных камунікацыяў, сувязі, турызму;

– ліквідаваць шматлікія кантрольныя органы;

– перадаць увесь арэндны нежылы фонд, у тым ліку той, што прыўлашчаны Упраўленьнем справамі прэзыдэнта, у муніцыпальную ўласнасьць. Значна зьнізіць арэндную плату;

– увесьці заяўляльны прынцып пастаноўкі на ўлік суб'ектаў эканамічнай дзейнасьці. Скасаваць дзяржаўную манаполію на большасьць відаў прадукцыі. Адмяніць ліцэнзаваньне відаў эканамічнай дзейнасьці;

– нармалізаваць функцыянаваньне дзяржаўнага бюджэту. Ліквідаваць фонд прэзыдэнта, яго сродкі перавесьці ў дзяржаўны бюджэт. Ліквідаваць пазабюджэтныя фонды;

– правесьці аўкцыённую прадажу фірмаў, утвораных пры Упраўленьні справамі прэзыдэнта. Сродкі накіраваць на папаўненьне пэнсійнага фонду;

– уладкаваць правілы дзейнасьці банкаўскай сістэмы. Зьняць з камэрцыйных банкаў функцыі кантролю за эканамічнай дзейнасьцю кліентаў;

– стварыць умовы для свабоднай дзейнасьці рынкавых мэханізмаў, у тым ліку: валютных, таварных, фондавых, нерухомай маёмасьці, біржаў, страхавых і фінансавых кампаніяў і інш.;

– правесьці мерапрыемствы дзеля стабілізацыі беларускіх грошай. Забясьпечыць устанаўленьне адзінага курсу беларускага рубля. Стварыць стабілізацыйны валютны запас. Увесьці беларускую валюту (беларускі талер);

– актывізаваць аўкцыённую прыватызацыю гандлёвых прадпрыемстваў, прадпрыемстваў харчовай, лёгкай, будаўнічай прамысловасьцяў. Сродкі ад продажу дзяржаўнай маёмасьці накіраваць на папаўненьне пэнсійнага фонду і дзяржаўнага страхавага кампэнсацыйнага фонду.

* * *

Выбары новага беларускага парламанту ў дэмакратычных умовах, дасягненьне збалянсаванасьці галінаў улады, дасягненьне стабільнасьці на таварным рынку, увядзеньне стабільнай беларускай валюты (талера) стануць прыкметай завяршэньня пераходнага пэрыяду.

## ТЛУМАЧЭНЬНІ ПАЗЫЦЫЯЎ:

### (ПРЫЯРЫТЭТЫ ВА ЎНУТРАНАЙ ПАЛІТЫЦЫ)

**Галоўным чыньнікам** *моцнага і здаровага грамадзтва зьяўляецца здаровая ідэя, якая яго яднае, а таксама культура, духоўнасьць і традыцыйная мараль. Без маральнасьці немагчымая ніякая эканоміка (акрамя крымінальнай). Без адраджэньня нацыянальнай культуры народ няздольны стварыць дзяржаву і арганізаваць самастойнае жыцьцё. Таму гуманітарным чыньнікам будзе нададзенае першаснае значэньне ў дзяржаўнай палітыцы.*

**1. Навука** *у сучасным сьвеце стала асноўнай вытворчай сілай, а адукаваны інтэлект – найбольшым вытворчым рэсурсам. Перамога ў навуцы прадугледжвае перамогу ў эканоміцы і перавагу на рынку. Навука павінна мець сувязь з вытворчасьцю, адукацыяй і навучаньнем. Але галоўным зьвяном у сістэме дзяржаўнай арганізацыі навукі ёсьць* ***фундамэнтальная навука***, *якая складаецца з навукі прыроды і навукі культуры (гуманітарная сфэра). Навука мусіць быць чыньнікам эканомікі і грунтам адукацыі, галоўным клопатам беларускага грамадзтва.*

*Трэба зыходзіць зь неабходнасьці аднавіць і рэалізаваць нашыя беларускія навуковыя перавагі ва Ўсходняй Эўропе, якія ў нас былі і якія яшчэ можна ўратаваць, адрадзіць і разьвіць. Калі мы гэтага ня зробім, то рызыкуем стаць слабаразьвітай краінай трэцяга сьвету ў электронна-інтэрнэтнай камутарызаванай цывілізацыі. Бездань паглыбляецца, але беларусы ня мусяць апусьціцца на дно.*

**2. Адукацыя**. *Разьвіцьцё гуманітарнай навукі дасьць падставу для адукацыі чалавека і фармаваньня духоўнай, сацыяльнай асобы беларуса. Без такой асобы немагчымы ніякі прагрэс у дзяржаве і ніякія пераўтварэньні.*

*Неадукаваны чалавек няздольны адэкватна ўспрымаць інфармацыю. Ён не разумее яе і запамінае толькі асобныя словы, робіцца аб'ектам для псыхалягічных маніпуляцыяў з боку палітыкаў і папулістаў.*

*Нельга дапусьціць рэзкага падзелу грамадзтва на адукаваных і неадукаваных (ці мала адукаваных). За гэтым падзелам стаіць сацыяльны падзел на бедных і багатых, незалежна ад укладзенай працы. Такое грамадзтва ня можа быць стабільным.*

*Вёска павінна быць адукаванай; сярэдняя адукацыя – абавязковай; сістэма навучаньня – дзяржаўным прыярытэтам. Нельга ператвараць адукацыю толькі ў прыватную справу. Вышэйшая і спэцыяльная адукацыя павінна быць бясплатнай і ўсім даступнай. Трэба ўвесьці магчымасьць спэцыяльнага тэхнічнага навучаньня за кошт зацікаўленых прадпрыемстваў, арганізацыяў, працадаўцаў і міністэрстваў. Сродкі, затрачаныя на адукацыю і навучаньне людзей, заўсёды акупляюцца. Нельга эканоміць на адукацыі, на настаўніках і пэдагогах – гэта блізарукія дзеяньні, дарога ў беднасьць і адсталасьць.*

*Прыярытэт адукацыі – гуманітарнае разьвіцьцё асобы. Адукацыя павінна быць беларускай, заснаванай на беларускіх культурных каштоўнасьцях і духоўных здабытках хрысьціянскай Эўропы. Шмат дзе на Захадзе (асабліва за акіянам) зьмест і сістэма адукацыі (акрамя вышэйшай) знаходзяцца ў стане дэградацыі. Мы нічога не павінны сьлепа капіяваць і бяздумна пераймаць. Мы мусім усё абдумваць і бачыць будучыню Беларусі.*

**3. Сельская гаспадарка**. *Нашае асноўнае народнае багацьце – зямля. Ворнай зямлі ў нас шмат. Больш, чым у самых перадавых краінах, і прыпадае каля гектара на чалавека.*

*У нас найбагацейшыя традыцыі сялянскай працы і сялянскай культуры, якія ўвайшлі складовай часткай у духоўную спадчыну беларусаў. Недапушчальна, недаравальна, каб Беларусь была залежнай ад замежных сельгаспрадуктаў. Мы ня будзем тады мець ні ўстойлівай эканомікі, ні ўстойлівага грамадзтва.*

*Выратаваць, зьберагчы і адрадзіць беларускае сялянства – гэта ня толькі задача беларускай дзяржаўнай улады – гэта місія, гэта рушэньне для ўсіх, калі мы ўвогуле хочам застацца нацыяй і здольныя хоць трохі рэальна ацэньваць справы.*

*Людзі вёскі павінны быць асноўнымі землекарыстальнікамі і ўласьнікамі зямлі. Зямельныя і сельскагаспадарчыя пераўтварэньні неабходна рабіць перш за ўсё ў іхных інтарэсах, даць свабоду вытворчых і гандлёвых дзеяньняў актыўным асобам, паспрыяць стварэньню іпатэкі, сялянскага зямельнага банку і крэдытных таварыстваў, адрэгуляваць падаткі, эканамічна садзейнічаць вяртаньню вясковых людзей з гарадоў на зямлю.*

*Мы не павінны страціць вясковыя кадры працаўнікоў, спэцыялістаў, арганізатараў і кіраўнікоў. Для нармальнай эканомікі палітычныя прыхільнасьці спэцыялістаў ня маюць значэньня. Таму мы павінны стварыць нармальную эканоміку, бо спэцыялісты самы па сабе ня робяцца. Іхняя падрыхтоўка – гэта грамадзкая праца і грамадзкі час.*

*Бяз хуткага ўздыму сельскай гаспадаркі, без сацыяльна-эканамічнага, культурнага адраджэньня і разьвіцьця вёскі нельга пабудаваць забясьпечанае грамадзтва ў Беларусі. Беларуская вёска павінна быць заможнай, таварнай і застацца традыцыйна кансэрватыўнай.*

*Заможнае грамадзтва тое, дзе заможны селянін. Гэта грунт. Галеча вёскі расколвае грамадзтва на бедных і багатых, дае ланцуговую рэакцыю нестабільнасьці ў дзяржаве. Сельская гаспадарка павінна стаць нашым прыярытэтам у гаспадарчым разьвіцьці і адным з галоўных клопатаў у эканоміцы.*

**4. Сярэдняе прадпрымальніцтва (сярэдні бізнэс)**. *Прыярытэты гэтакага падыходу ў час станаўленьня рэформаў агульнавядомыя:*

*хуткадаступнасьць, хуткі эфэкт, шырокая занятасьць, высокая мабільнасьць. Акрамя таго сярэдняе прадпрымальніцтва стварае адказнага гаспадара, рабочыя месцы і сярэдні сацыяльны пласт людзей. Гэта зьмяняе ня толькі эканамічны, але і палітычны клімат у грамадзтве, спрые дэмакратыі і неабарачальнасьці рынкавых пераўтварэньняў. Тэмпу сярэднепрадпрымальніцкіх працэсаў павінны спрыяць: просты, хуткі, заяўляльны спосаб рэгістрацыі прадпрыемства, рацыянальна-абумоўленая сістэма крэдытаваньня, і галоўнае – спрошчаная сістэма падаткаў, накіраваная перш за ўсё на падтрымку і станаўленьне актыўнага прадпрымальніцтва.*

## (ПРЫЯРЫТЭТЫ Ў ЗЬНЕШНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ)

**5. Дачыненьні з краінамі-суседзямі** *заўсёды маюць першачарговае значэньне (бо ёсьць агульныя межы, праблемы і інтарэсы). Трэба ўлічваць яшчэ нашыя агульныя міжнародныя інтарэсы вызваленьня з-пад расейскай акупацыі былога СССР і падобнасьць умоваў у нашай частцы Эўропы, якія прадугледжваюць салідарныя пазыцыі і салідарную палітыку, выгадную для ўсіх.*

**6. Важнейшая задача міжнароднай палітыкі Беларусі** – *нэўтралізаваць пастаянную пагрозу з Усходу. Гэта цяпер стала задачай нумар 1. Як мадэль дачыненьняў трэба разглядаць палітыку Эстоніі, якая, практычна, поўнасьцю пераарыентавала свае эканамічныя адносіны і гандль на Скандынавію і Заходні сьвет. Фінансавы крах і эканамічны развал у Расеі не трывожаць упэўненае плаваньне эстонскага карабля.*

*Беларусь мела выдатныя магчымасьці для пабудовы вектарна накіраванай на Эўропу і на шырокі сьвет мадэлі ўзаемных эканамічных адносінаў, якія, нягледзячы на палітычныя перашкоды, пачалі стыхійна ажыцьцяўляцца ў першай палове 90-х гадоў. За часы дыктатуры і рэжыму Лукашэнкі добрыя тэндэнцыі ў замежным гандлі былі гвалтоўна спыненыя і штучна, зь вялікімі стратамі, насуперак эканамічным і нацыянальным інтарэсам Беларусі, прывязаныя да Расеі, зыходзячы перш за ўсё з маскоўскіх геапалітычных і рэваншысцкіх памкненьняў.*

*Ненармальнае становішча будзе зьмененае. У барацьбе зь няспынным рускім імпэрыялізмам мы павінны будзем праводзіць цьвёрдую, але цьвярозую, разумную палітыку. Мы ня мусім перагароджваць Расеі дарогу на Захад, але ўлічваць узаемныя эканамічныя інтарэсы на аснове двухбаковых умоваў і пагадненьняў, нацыянальных законаў і нормаў міжнароднага права.*

*Наша палітыка ў дачыненьні да Расеі павінна стаць нэўтральнай. Нам зручна ўдзельнічаць у розных формах супрацоўніцтва з НАТО, з краінамі Эўрапейскай Вуніі і іншымі краінамі Эўропы. Мы павінны разумець, што наша бясьпека будзе залежыць ад двух фактараў: моцнага сучаснага беларускага войска і членства ў НАТО. Першы фактар мы можам стварыць самы за некалькі гадоў. Другі – у залежнасьці ад таго, наколькі моцна і стабільна мы засьведчым сябе ў Эўропе як дзяржава і дэмакратыя.*

*Я цьвёрда перакананы, што Беларусь, нават стаўшы нармальнай, заможнай дэмакратычнай краінай, не павінна ўступаць у Эўрапейскую Вунію, а застацца за яе межамі гэтак жа, як краіны Скандынавіі, Ісляндыя і іншыя. Нам гэтак будзе больш эканамічна выгадна і палітычна зручна. Мы захаваем большую шырыню манэўру і самастойнасьці. Мы пазьбегнем верагоднасьці разбурэньня свайго рынку і цэлых галінаў вытворчасьці, магчымых стратаў беларускай рабочай сілы, адплыву інтэлекту, абавязку выконваць чужыя, часта непрымальныя для нас, устаноўкі.*

*Асобы, якім выпадзе доля ўдзельнічаць у кіраваньні Беларускай дзяржавай і ўплываць на будучыню нацыі, павінны разумець тое, пра што ня ведаюць звычайныя людзі. Захад, які стварыў таварную цывілізацыю, фінансавую магутнасьць, прыярытэт права і свабоды для чалавека, гэты дэмакратычны Захад перажывае маральны крызіс і духоўны спад, які год за годам, дзень за днём павялічваецца і нагадвае пра сябе. Дэмакратычныя свабоды асобы ператвараюцца ў свабоду заганаў і замацоўваюцца ў заканадаўстве.*

*Для нацыі, якая вызвалілася ад камунізму і ідзе ў Эўропу без дэмакратычнага імунітэту, – гэта пагроза.*

**7. Стварэньне ўмоваў для інвэстыцыяў**. *Калі пераможа Народны Фронт і будзе ліквідаваная дыктатура, вернута канстытуцыйная законнасьць, ня думаю, што ўзьнікнуць цяжкасьці з крэдытамі і інвэстыцыямі. Тым больш, што ўмовы для інвэстыцыяў мы створым. Дапамога будзе. Будзе ўжо на старце. Аднак, я глыбока перакананы, што разьлік на ажыцьцяўленьне эканамічных пераўтварэньняў мы павінны зрабіць па самым жорсткім варыянце – без спадзяваньня на зьнешняе фінансаваньне. Вытворчыя, інтэлектуальныя і духоўныя рэсурсы ў нас ёсьць. Гэтак мы будзем больш адказнымі і больш незалежнымі. Бо самае надзейнае – спадзявацца на сябе, на сваю Бацькаўшчыну, на свой народ.*

## *ВАРЫЯНТЫ ПЕРАМЕНЫ ЎЛАДЫ:*

*Зьмена ўлады ў Беларусі можа адбывацца па-рознаму:*

*1. Выбіраецца новы прэзыдэнт і пасьля 20 ліпеня Лукашэнка, як таго патрабуе Канстытуцыя, пакідае пасаду.*

*2. Выбіраецца новы прэзыдэнт, але Лукашэнка незаконна ўтрымлівае сваю пасаду сілай. Тады прэзыдэнт ад БНФ стварае законны ўрад, які пачынае дзейнічаць у Беларусі і за мяжой.*

*(Гэтыя два варыянты малаверагодныя.)*

*3. Новы прэзыдэнт не выбіраецца па прычыне недастатковай колькасьці выбаршчыкаў, што прынялі ўдзел у галасаваньні (альбо па іншай прычыне). Далейшыя выбары прэзыдэнта робяцца бессэнсоўнымі. Тады Народны Фронт прапануе Вярхоўнаму Савету, улічваючы абставіны і грунтуючыся на праве, прыняць новы Закон аб выбарах у парлямант на зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай аснове.*

*Пры непрыняцьці гэтага Закону (альбо прапановы) Народны Фронт разгортвае акцыю па выбарах Грамадзянскага Парляманту Беларусі, які выбіраецца (гэтак жа, як некалі – Рада БНР) шляхам дэлегаваньня паўнамоцных дэлегатаў ад усіх беларускіх арганізацыяў (у тым ліку і Камітэтаў грамадзянаў БНР), тэрытарыяльных прадстаўніцтваў і партыяў. Грамадзянскі Парлямант як легальны орган, пагрунтаваны на непасрэднай дэмакратыі, выконвае функцыю заканадаўчай улады, прымае неабходны Закон аб выбарах, зацьвярджае механізм выбараў і абвяшчае выбары ў парлямант.*

*Пры немагчымасьці правядзеньня ўсеагульных выбараў у парлямант усе абавязкі прадстаўнічай улады бярэ на сябе Грамадзянскі Парлямант, які стварае ўрад і надае кіраўніку ўраду шырокія (пры неабходнасьці – надзвычайныя) паўнамоцтвы. Урад стварае ўсе неабходныя структуры і праводзіць неабходную палітыку. Пры*

*акупацыі Беларусі і спробах ліквідацыі незалежнасьці краіны Урад арганізоўвае ўсенародную барацьбу супраць акупантаў.*

*З 1996 года на Беларусі ўтварылася намінальнае (ілюзорнае) двоеўладдзе. Задача – стварыць рэальнае двоеўладдзе. Пытаньне аб вяртаньні Канстытуцыі, законнасьці і дэмакратыі вырашаецца тады альбо атрыманьнем актыўнай падтрымкі пераважнай большасьці грамадзтва, альбо шляхам дамоўленасьці і кампрамісу з рэжымам (напрыклад, праз „круглы стол”), альбо шляхам адкрытага канфлікту.*

*Ёсьць шмат магчымасьцяў і рычагоў, каб не дапусьціць да канфлікту. (Хіба што Расея пачне адкрыты захоп Беларусі.) Аднак неабходна ўсьведамляць, што дыктатура на Беларусі – гэта ёсьць унутраны акупацыйны і прамаскоўскі рэжым, і таму беларусы павінны быць заўсёды гатовымі да змаганьня за волю і незалежнасьць сваёй краіны.*[*]

***Зянон Пазьняк***

*30 красавіка 1999 г.*
*Варшава – Менск*

*Надрукавана: („Народная Воля”, – 1999, 13 траўня).*



(Фотаархіў, 1998 г.)

**50-Д.** ***„БНФ – апошняя надзея”.***

* *„Платформа прэтэндэнта на пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь” Зянона Пазьняка надрукаваная ў „Народнай волі” (13.05.99 г.) ў скарочаным варыянце, без раздела „Варыянты перамены ўлады” — па цэнзурных меркаваннях.*

## ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁ

*15 траўня. Радыё „Свабода”.* „Кіраўніцтва *БНФ* на адмысловай прэсавай канфэрэнцыі заявіла, што *80 адсоткаў сяброў Фронту* выходзяць з выбарчых камісіяў.

У якасьці жывога сьведкі фальсіфікацыяў на прэсавай канфэрэнцыі выступіў ***Мікола Занька*** *з Ганцавічаў*, які ўзначальвае там выбарчую камісію. Ён паведаміў, што выбарчыя бюлетэні паступілі толькі 9 траўня ўвечары, але ЦВК паведамляе, што ў Ганцавіцкім раёне на той момант прагаласавала 10 адсоткаў выбаршчыкаў. У сувязі з гэтым ***Сяргей Папкоў*** заявіў: *„Ужытая тэхналёгія дэманстратыўнай фальсіфікацыі. Ужытая для разбурэньня якраз адной з асноўных арганізацыяў, якая змагаецца супраць камуна-фашыстоўскага рэжыму, супраць дыктатуры. Менавіта В. Ганчар, уступіўшы на шлях падману і дэманстратыўнай фальсіфікацыі, здрадзіў чарговы раз, пад прыкрыцьцем сп. Шарэцкага; здрадзілі беларускаму народу, не арганізаваўшы дакладна нармальнае правядзеньне выбараў.”*

**Вячаслаў Сіўчык**: „Я падкрэсьліваю, што дадзеныя, якія дае ЦВК, пакуль папярэднія, яны могуць быць зьмененыя. Яны ня могуць быць аргумантам, што ідзе фальсіфікацыя, бо няма пратаколаў. Нягледзячы на ўсё, што адбываецца, сябрам БНФ ні ў якім разе нельга парушаць самым заканадаўства. Сёньня я ня бачу ніякіх падставаў для таго, каб сябры БНФ выходзілі з выбарчых камісіяў.

*17 траўня. Радыё „Свабода”.* ***Паўлюк Быкоўскі***: „Мне падаецца, што ў дадзеным выпадку пазыцыя Зянона Пазьняка, які заявіў аб тым, што ня ўдзельнічае ў гэтай кампаніі, больш слушная, чым пазыцыя выбарчай камісіі. На маю думку, тыя відавочныя фальсіфікацыі, што прысутнічалі ў падпольнай выбарчай кампаніі, абавязкова дыскрэдытуюць і ўжо дыскрэдытавалі апазыцыю ў вачах грамадзтва. Але, разам з тым, апазыцыя можа, і было б вельмі добра, каб яна магла выкарыстаць тое, што адбылося, каб ачысьціцца ад бруду. Калі хлусяць палітыкі – дык гэта горш за ўсё. Асабліва, калі гэта робяць тыя, хто можа абаперціся толькі на сваіх прыхільнікаў, якія дапамагаюць ім толькі з-за веры ў нейкія ідэалы.”

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 3(20).*

## У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ 13-ГА СКЛІКАНЬНЯ

### АФІЦЫЙНАЯ ЗАЯВА

У студзені 1999 года Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, грунтуючыся на Канстытуцыі 1994 года, прыняў рашэньне аб правядзеньні выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, прызначыў дату правядзеньня выбараў, зацьвердзіў склад Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і прызначыў Віктара Ганчара старшынём гэтай Камісіі. Гэтым актам Вярхоўны Савет ня толькі выканаў канстытуцыйны абавязак, але і ўсклаў на сябе адказнасьць перад грамадзянамі Беларусі за правядзеньне выбарчай кампаніі ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй і Законам „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”.

Цэнтральнай камісіяй па выбарах Прэзыдэнта не былі зробленыя арганізацыйныя захады дзеля складаньня сьпісаў выбаршчыкаў, стварэньня ўчасткаў для галасаваньня, інфармаваньня грамадзянаў аб месцах галасаваньня і іншае.

Цэнтральная камісія па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і яе старшыня В. Ганчар, на наш погляд, груба парушылі Закон „Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”, калі на падставе сваёй пастановы №192 прымянілі парадак галасаваньня на працягу 10-ці дзён шляхам абходу кватэраў без складаньня адпаведных сьпісаў.

Вынікі выбараў вядомыя. Цэнтральная камісія і непасрэдна яе старшыня В. Ганчар зацьвердзілі лічбы па колькасьці грамадзянаў, прыняўшых удзел у галасаваньні, якія не адпавядаюць рэчаіснасьці. Гэта немагчыма схаваць ні ад грамадзянаў Беларусі, ні ад міжнароднай супольнасьці.

Просім разгледзець пытаньне аб дзейнасьці Цэнтральнай камісіі падчас выбарчай кампаніі і прыняць адпаведнае рашэньне. Лічым, што В. Ганчар ня мае права быць старшынём Цэнтральнай камісіі.

***Ад Управы БНФ „Адраджэньне”***
***Л. Баршчэўскі***
***А. Крыварот***

*28 траўня 1999 г.*
*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 1999, №3(20).*

# ЛІСТ У ШВЭДЗКІ ГЭЛЬСІНСКІ КАМІТЭТ

Zianon Pazniak
*Al. Jerozolimskie, 141, m.20,*
*Warszawa 02-304*
*Polska (Poland)*
*Tel/fax: +4822 – 6596225*

**An das Schwedische Helsingskomitee,**
**Hr. Gerald Nagler**

*10 Juni 1999.*

Sehr geehrter Herr Nagler.

In Schweden (in Stockholm) befindet sich in irgendeinen Asylpunkt (oder Polizeipunkt) das Mitglied der Belarussischen Volksfront Herr ***Uladzimier Miśko*** (Уладзімер Місько). Ich wejß nicht, wo dieser belarussische junge Mann jetzt konkret befindet sich. Er bittet um das politische Asyl in Schweden. Auf diesen Mann warten in Belarus eine Gefangnisstrafe und Lagerszone von Lukaschenkas Diktaturregime. (Belarussische Volksfront ist die Oppositionsorganisation gegen Diktaturregime von Lukaschenka.)

Ich bitte Sie um diesen junge Mann ausfindig machen, nämlich: wo befindet er sich, und dann dieses faxdokument an ihm abgeben. (Das ist die Information über seine Politikarbeit. Das Dokument ist in belarussischer Sprache geschrieben.) Später werden Sie dieses Originaldokument per Post bekommen.

Bitte helfen Sie diesem hilfsbedürftigen belarussischen Demokrat – Uladzimier Miśko.

(Verzeihen Sie bitte um die schleche Deutsch.)

Vielen Dank.

***Zianon Pazniak***
***Präsident***
***Der Belarussischen Volksfront***

Зянон ПАЗЬНЯК
Старшыня БНФ "Адраджэньне"

Сп. Юхо, перадаць сп. Баршчэўскаму. Пазьняк

**В.а. старшыні БНФ**
**Лявону БАРШЧЭЎСКАМУ**

Арганізацыя так званых перамоваў "апазыцыі" з "рэжымам" пачынае набываць кепскі выгляд. Спосабы, якімі карыстаецца спадар Вік, а таксама імкненьне В. Ганчара ўдзельнічаць ў працэсе перамоваў і ачоліць яго, выключаюць наш удзел у гэтай кампаніі. Мы добра разумеем мэты спадара Віка і спадара Ганчара і ведаем цану апошняму.

Перамовы мусяць арганізоўвацца не Вярхоўным Саветам, а партыямі, якія ў апазыцыі да рэжыму і да яго інтэграцыйнай палітыкі з Расеяй. Спадар Вік і спадар Севярын могуць быць толькі пасрэднікамі ў перамовах (і ніяк не арганізатарамі). Удзел Вярхоўнага Савета (у асобе спадара Ганчара) у перамовах немэтазгодны.

Калі падзеі і надалей будуць разьвівацца ў тым жа рэчышчы, то Фронт мусіць адмовіцца ад удзелу ў такіх перамовах.

*Шаноўны Лявон. Вашыя абавязкі застаюцца за Вамі. і я прасіў бы Вас хутка абмеркаваць пытаньне пра варункі нашага ўдзелу ў перамовах (улічыўшы гэты мой ліст) і прыняць рашэньне. Прасіў бы мяне праінфармаваць да 16 жніўня гэтага года.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ "Адраджэньне"***

*12 жніўня 1999 г.*

**55-Д.** ***Ліст Лявону Баршчэўскаму 12. 08. 1999.***

**Сп. Л. Баршчэўскаму**
**выконваючаму абавязкі**
**старшыні БНФ "Адраджэньне"**

Шаноўны Лявон Пятровіч!

12 жніўня я выслаў Вам для абмеркаваньня свае тэзісы ўмоваў, пры якіх Фронт можа ўдзельнічаць у перамовах з рэжымам. Вы праігнаравалі гэта. Вы не абмяркоўвалі пытаньне аб перамовах з калегамі і ў выніку ў чарговы раз ня здолелі стаць на прынцыповую пазыцыю і падпісалі канфармісцкі мэмарандум з цалкам штучнымі і надуманымі прапановамі аб перадачы паўнамоцтваў на зацьверджаньне складу дэлегацыяў і мандату на перамовы "Вярхоўнаму Савету".

Умовы нашага ўдзелу ў перамовах трэба перагледзець і выразна сфармуляваць. Ваша падтрымка "мэмарандуму" і перадача паўнамоцтваў можа разглядацца як папярэдняе меркаваньне, якое будзе ўдакладнена. Пра гэта я паведаміў пасярэдніку ў перамовах спадару Г. Віку.

Мушу выказаць шкадаваньне з прычыны Вашых паводзінаў. Паўтары гады праца Фронту была паралізаваная з прычыны Вашага (і спадароў Хадыкі і Вячоркі) канфлікту са спадаром Сіўчыкам, з прычыны ўзаемных няправільных паводзінаў і абвінавачваньняў у "кагэбізме", "згвалтаваньні", амбіцыйнасьці і т. п. Канфліктуючыя бакі закідвалі мяне ўзаемным "кампраматам", лістамі, "дакумантамі", заявамі і нават магнітафоннымі "подслухамі" адзін аднаго. Мне з цяжкасьцю ўдалося разьвесьці бакі і патушыць канфлікт. Але неўзабаве гэтыя ж людзі (ужо разам з сп. Сіўчыкам) пачалі новы канфлікт супраць новага кіраўніка Ўправы і аднаго з намесьнікаў, ужываючы тыя ж фармулёўкі і абвінавачваньні.

Вашыя шматлікія нэрвовыя заявы аб адстаўцы я не прымаў да апошняга часу і пастаянна ўгаворваў Вас супакоіцца і застацца выконваючым абавязкі. Нарэшце, на VI Зьезьдзе БНФ Вы прылюдна прызналі сваю віну, каяліся, казалі пра сваю "пастаянную слабахарактарнасьць", "пазыцыю стравуса" і г.д. Пасьля гэтага Вам сапраўды трэба было ісьці ў адстаўку. Але Вы працягвалі ўсё, як і раней. Цяпер жа, сваімі неабдуманымі дзеяньнямі і падыходам да перамоваў, Вы гатовыя ўваліць Фронт у новае балота.

Толькі чалавек, які нічога ня ведае, што адбываецца на Беларусі, мог бы ня бачыць і не разумець, што з "перамовамі" па-ганчароўску пачынаецца новая авантура ўжо знаёмых нам асобаў -- майстроў фальшывых прэзыдэнцкіх выбараў і датэрміновага галасаваньня. Гэтая авантура (калі яе прафінансуюць і калі БНФ прыме яе ўмовы) патопіць ня толькі Фронт, але і ўсю дэмакратычную "апазыцыю", разам з творцамі новых лукашэнак і спажывальнікамі грантаў усіх масьцяў уключна.

Шаноўны Лявон Пятровіч! У мяне складваецца ўражаньне, што Вы змарнавалі дадзеныя Вам авансы. Мне вельмі шкада, бо я зь вялікай павагай адношуся да Вас і сам угаварыў Вас на гэты нялёгкі лёс кіраваць палітычнай арганізацыяй. Зараз, калі Фронт фактычна ўжо расколаты, я пераконваюся, што мне трэба было раней задаволіць Вашыя заявы аб адстаўцы. Цяпер я сам прапаную Вам гэта зрабіць.

Прасіў бы паведаміць мне да 19 жніўня гэтага году.

Зянон ПАЗЬНЯК
Старшыня БНФ "Адраджэньне"

*16 жніўня 1999 г.*

**56-Д.** ***Ліст Лявону Баршчэўскаму 16. 08. 1999.***

# ПРА ПЕРАМОВЫ З РЭЖЫМАМ І СЫТУАЦЫЮ Ў ГРАМАДЗТВЕ

***(Ліст да сяброў БНФ. 18 жніўня 1999 г.)***

На жаль, працягваецца працэс развалу палітычнай дзейнасьці БНФ. 12 жніўня я выслаў спадару Л. Баршчэўскаму тэзісы ўмоваў, пры якіх Фронт мог бы ўдзельнічаць у перамовах з рэжымам, прасіў хутка абмеркаваць пытаньне і прыняць рашэньне.

Аднак прапановы не абмяркоўвалі. Быў падпісаны канфармісцкі „мэмарандум" з штучнымі і надуманымі палажэньнямі аб передачы паўнамоцтваў на зацьверджаньне складу дэлегацыяў і „мандату" на перамовы „Вярхоўнаму Савету".

Неабдуманы падыход да перамоваў і пасьпешныя дзеяньні могуць уваліць Фронт у новае балота і канчаткова паралізаваць яго дзейнасьць.

Толькі людзі, якія нічога ня ведаюць, што адбываецца на Беларусі, маглі б ня бачыць і не разумець, што пачынаецца новая гульня ўжо знаёмых нам асобаў – майстроў фальшывых прэзыдэнцкіх выбараў і датэрміновага галасаваньня. Гэтая гульня (калі яе прафінансуюць і калі БНФ прыме яе ўмовы) патопіць ня толькі Фронт, але і ўсю дэмакратычную «апазыцыю», разам з творцамі новых лукашэнак і спажывальнікамі грантаў усіх масьцяў уключна.

Неабходна пераглядзець умовы нашага ўдзелу ў перамовах з рэжымам і выразна іх сфармуляваць. Пазыцыю, падпісаную ў «мэмарандуме», трэба разглядаць толькі як папярэдняе меркаваньне.

Напачатку неабходна вызначыць агульную платформу апазыцыйных партыяў у перамовах. Бо ў Беларусі ёсьць дзьве апазыцыі. Адна нацыянальна-вызвольная (Беларускі Вызвольны Рух начале з БНФ) і другая – намэнклятурная-каланіяльная, якая выступае пад назовам «дэмакратычная апазыцыя» ці «демократические силы».

***Беларускі Вызвольны Рух выступае за дэмакратычныя перамены, за ліквідацыю рэжыму Лукашэнкі, супраць «інтэграцыі» і любых саюзаў з Расеяй. Беларускі Вызвольны Рух ставіць задачу пабудовы беларускай дзяржавы зь беларускай адміністрацыяй, беларускай уладай і беларускай культурай у сістэме эўрапейскай геапалітыкі і хрысьціянскіх каштоўнасьцяў Эўропы.***

Беларуская намэнклятурная апазыцыя («дэмакратычныя сілы») выяўляе погляды каланіяльнай адміністрацыі і бачыць галоўную задачу ў зьмене рэжыму і прыходу да ўлады. Фактычна, гэта адна палітычная сістэма, дзе ўлада і «апазыцыя» павінны зьмяняць адна другую і захоўваць погляды чужых адміністрацыйных выканаўцаў. Яны таксама дзяржаўнікі, але ўяўленьні пра характар, ролю і прызначэньне беларускай дзяржавы, пра разьвіцьцё і будучыню беларускай нацыі, пра ролю беларускай мовы і культуры ў гэтым разьвіцьці ў іх дэкляратыўныя і вельмі агульныя. Пры канкрэтным падыходзе яны лёгка ператвараюцца ў процілегласьць іхным заявам і дэкларацыям. Яны ня бачаць пэрманентнай небясьпекі з боку Расеі, гатовыя заключаць зь ёй саюзы і супрацоўнічаць «с Россией демократической».

***Інтарэсы дзьвюх апазыцыяў супадаюць у непрыняцьці рэжыму Лукашэнкі і розьняцца ў поглядах на характар беларускай дзяржавы і на адносіны з Расеяй.***

Менавіта таму каланіяльная апазыцыя скрыта (а то й адкрыта) варожая Беларускаму Народнаму Фронту (зь якім імкнецца мець дачыненьні), а Беларускі Народны Фронт насьцярожаны да намэнклятурных апазыцыянераў.

Сіла нацыянальна-вызвольнага руху ў нацыянальнай ідэі, у падтрымцы яго грамадзтвам, у арганізацыйных структурах.

Сіла намэнклятурных дэмакратаў у так званым „незалежным" (недзяржаўным) друку, які (як і пры саветах) прадаўжае існаваць у стылі прапаганды і практычна ўвесь (зь невялікімі выключэньнямі) выяўляе погляды каланіяльнай апазыцыі і выдаецца па-руску.

Невыпадкова, што прадстаўнікі намэнклятурнай апазыцыі, і асабліва «незалежны» друк, сыгралі не апошнюю ролю ў ахайваньні і расколе Народнага Фронту. Асабліва гэта было відавочна ў час фальсіфікатарскай кампаніі галасаваньня на „альтэрнатыўных" выбарах прэзыдэнта ў траўні гэтага году.

Пры планаваньні дачыненьняў і супрацоўніцтва неабходна разьлічваць сумесную справу не па колькасьці фармальных арганізацыяў, а зыходзіць з існаваньня дзьвюх апазыцыяў у Беларусі.

Перамовы з рэжымам павінны пачацца з высьвятленьня прыналежнасьці да апазыцыі (па адпаведных крытэрыях) і будавацца па прынцыпу – 1:1. Гэта значыць, што калі, напрыклад, з васьмі партыяў-удзельнікаў перамоваў шэсьць будуць стаяць на платформе каланіяльнай апазыцыі, а дзьве – на нацыянальна-вызвольнай платформе, то колькасьць прадстаўнікоў павінна суадносіцца 6 да 6-ці. Пароўну – з аднаго і з другога боку. Інакш перамовы ня маюць сэнсу (КГБ мог бы накляпаць і 12 партыяў, вопыт ёсьць). Я заўсёды паказваў на намэнклятурнае шулерства ў гэтым пытаньні і заклікаў спыніць яго як найхутчэй, ня бавіцца ў фантомы і ўяўнае прадстаўніцтва.

Цяпер пра пазыцыю БНФ:

– умовы нашага прапарцыйнага ўдзелу ў перамовах трэба пераглядзець. Мусіць быць прынятая схема 1:1;

– суб'ектамі перамоваў павінны зьяўляцца палітычныя партыі, якія знаходзяцца ў апазыцыі да рэжыму і маюць структуры па ўсёй Беларусі (ва ўсіх вобласьцях) альбо фракцыі ў Вярхоўным Савеце;

– мандат на ўдзел партыяў у перамовах фармальна павінен даваць выконваючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Сымон Шарэцкі – цяпер цалкам законная і легітымная фігура ў сістэме беларускай улады;

– група апазыцыйных дэпутатаў, якая прадстаўляе Вярхоўны Савет, можа вылучыць на перамовы свайго прадстаўніка, але не кіраваць перамовамі, і тым больш – «зацьвярджаць» партыйных прадстаўнікоў. У гэтым няма патрэбы, калі будзе мандат ад в.а. Прэзыдэнта. Ні на якім этапе ў перамовах ня можа ўдзельнічаць дэпутат В. Ганчар, які скампраметаваў сябе на пасадзе старшыні ЦВК (груба сфальсіфікаваў галасаваньне і праваліў „альтэрнатыўныя" прэзыдэнцкія выбары);

– Народны Фронт выступае за выбары толькі ў аднапалатны парлямант, згодна новага мажарытарна-прапарцыйнага (50 : 50) Закону аб выбарах, які прыняты спэцыяльна створаным канстытуцыйным органам;

– стварэньне спэцыяльнага канстытуцыйнага воргану – тэма перамоваў;

– спэцыяльны канстытуцыйны ворган павінен прыняць два законы: «Аб выбарах у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь» і «Аб Вярхоўным Савеце».

Умовы, пры якіх могуць адбывацца перамовы, павінны быць выразна сфармуляваныя. Прапаную наступныя ўмовы:

– спыненьне палітычных рэпрэсіяў, арыштаў, нападаў міліцыі на людзей;

– вызваленьне палітвязьняў;

– спыненьне палітычных перамоваў і дзеяньняў па інтэграцыі з Расеяй;

– свабодны доступ апазыцыйных партыяў да сродкаў масавай інфармацыі (тэлебачаньне, радыё, друк);

– адкласьці перарэгістрацыю арганізацыяў, што ўдзельнічаюць у перамовах, да заканчэньня перамоваў.

Для перагляду ўдзелу БНФ у перамовах і для прыняцьця нармальных умоваў і прынцыпаў перамоваў, Фронт павінен стварыць

спэцыяльную дэлегацыю, у якую я прапанаваў бы ўключыць групу фронтаўцаў:, Міколу Анцыповіча, Лявона Баршчэўскага, Юры Беленькага, Вінцука Вячорку, Мікалая Крукоўскага, Сяргея Папкова, Уладзімера Старчанку. Кіраўніком групы прапаную Юры Беленькага (яго намесьнік – Уладзімер Старчанка). Сябры групы павінны спаткацца з прадстаўнікамі партыяў і ўдзельнічаць у перамовах.

На мой погляд, уся папярэдняя падрыхтоўка да працэсу перамоваў з боку БНФ была праведзена нездавальняюча. Трэба паправіць становішча і зрабіць нязробленае.

Удзел у перамовах па тым зьмесьце і на тых умовах, якія прынятыя цяпер, для Фронту недастатковыя. Нас могуць уцягнуць у ганебную справу, калі пад выглядам пошукаў кампрамісу (за кошт прынцыпаў), крок за крокам будзе прызнавацца легітымнасьць рэжыму, яго правілы, «дэкрэты» і незаконныя структуры. Каланіяльная псіхалогія адпаведных „апазыцыянераў" ужо падрыхтаваная да гэтай паўзучай палітыкі – абы была бачнасьць руху да ўлады. Калі б сёньня Лукашэнка аб'явіў выбары ў «палату», то большая палова дэмакратычных «перамоўшчыкаў» (калі ня ўсе) кінулася б удзельнічаць у выбарах. Хіба нядаўнія „альтэрнатыўныя" прэзыдэнцкія выбары «апазыцыі» ўжо не паказалі такіх паводзінаў, калі ўсе «дэмакраты» і частка фронтаўскіх канфармістаў тут жа пайшлі служыць Ганчару, падтрымліваць «вялікага дэмакрата» Чыгіра і залезьлі ў такі бруд, зь якога удалося выйсьці толькі коштам вялікіх ахвяраў. Але, відаць, нішто нічаму ня вучыць некаторых нашых калег.

Думаю, што сябрам БНФ і Партыі БНФ варта было б абмеркаваць праблемы, зьвязаныя з перамовамі. Я не выключаю, што непрапарцыйнае прадстаўніцтва апазыцыі ў перамовах, прынцыповая нявызначанасьць па некаторых пытаньнях могуць стварыць абставіны, калі Фронт ня зможа і не павінен мець дачыненьні да сумнiўнай працы. Але пры разумным і прынцыповым падыходзе можна б было весьці на перамовах беларускую вызвольную палітыку.

Галоўная наша палітыка, аднак, павінна рухацца за мяжой перамоваў. Мы мусім стварыць структуры дзяржаўнага самакіраваньня грамадзкага кшталту ў дапамогу і ў падтрымку Вызвольнага руху і вызвольнага перамоўнага працэсу. Павінна быць створаная такая сістэма апазыцыі, каб у любы час народ мог на яе абаперціся. Трэба даць апору людзям, стварыць яе канкрэтна, структурна і арганізацыйна. Да гэтага я ўвесь час заклікаў і заклікаю Беларускі Народны Фронт.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ «Адраджэньне»***

*18 жніўня 1999 г.*

# ЛІСТ ДА СЯБРОЎ БНФ

***(5 верасьня 1999 года)***

Паважаныя сябры Партыі БНФ. 8 жніўня гэтага году я зьвярнуўся зь лістом да ўсіх сяброў Беларускага Народнага Фронту і Партыі БНФ з прапановай не дапусьціць развалу Беларускага Народнага Фронту і паўтарэньня ў Беларусі ўкраінскай мадэлі разбурэньня нацыянальна-вызвольнага руху.

Я прапанаваў рэальна ўлічыць дзьве пазыцыі ў Фронце і кардынальнае маральна-палітычнае разыходжаньне, якое агаліла правакацыйная авантура з фальсіфікацыяй галасаваньня на так званых „альтэрнатыўных" выбарах Прэзыдэнта ў траўні гэтага году. Выявіліся пазыцыі несумяшчальныя ў адной арганізацыі.

Але мы павінны дбаць пра адзінства беларускага Адраджэньня і беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, не дапусьціць яго паралічу і зьнішчэньня. З гэтай мэтай я прапанаваў новае сістэмнае ўладкаваньне Фронту з свабодным арганізацыйным афармленьнем яго дзьвух пазыцыяў і паяднаньнем у агульнай скаардынаванай кааліцыйнай (блёкавай) дзейнасьці.

На жаль, гэтыя меркаваньні і прапановы не былі ўспрыняты прыхільнікамі „новай хвалі дэмакраты". Яны робяць выгляд, што няма падзелу ў Фронце, і трэба працягваць барацьбу ў вярхах (каб потым абвінаваціць іншых у разбурэньні).

Сытуацыя з гэтымі асобамі мне абсалютна зразумелая. Некаторыя змагаліся гэтак ужо 10 гадоў, марна імкнуліся перакуліць Фронт, і думаюць, што цяпер такі час настаў. Шкада.

Жаданая мара намэнклятуры развaліць Фронт не павінна спраўдзіцца. Працэс прадуманай карозіі раскрыўся. Усё выявілася пасьля правалу фальсіфікацыі галасавньня на выбарах Прэзыдэнта ў траўні гэтага году. Выбар (палітычны і маральны) зроблены. Ён паказвае, што ёсьць магчымасьць захаваць здаровыя сілы беларускага Адраджэньня, палітычны грунт і адзінства Народнага Фронту.

Пасьля 1-га паседжаньня VI Зьезду БНФ (на якім, згодна Статуту БНФ, быў выбраны Старшыня БНФ) неабходна выканаць рашэньне чэрвеньскага Сойму Партыі БНФ аб правядзеньні IV Зьезду Партыі БНФ, які быў прызначаны на 31 ліпеня-1 жніўня гэтага году.




**59-Д.** ***(Фота). Ветэранская арганізацыя БНФ (ветэранаў вайны і працы) на дэманстрацыі. 1997 г. (У цэнтры Артур Вольскі.)***

На жаль, в. а. Старшыні Партыі БНФ спадар Л. Баршчэўскі зрабіў грубае парушэньне і, нягледзячы на тое, што дэлегаты сабраліся ў вызначаны час, не адчыніў Зьезд, ня выканаў рашэньне Сойму. Таму, грунтуючыся на рашэньні чэрвеньскага Сойму і на Статуце Партыі БНФ, пасьля кансультацыі з сябрамі Партыі, я прызначыў дату правядзеньня Зьезду Партыі БНФ на 26 верасьня гэтага году, аб чым выдадзенае распараджэньне №3 ад 5 верасьня.

Адначасна з гэтым лістом сябрам Партыі БНФ рассылаюцца дакуманты для абмеркаваньня:

**1.** Праект праграмы Партыі БНФ;

**2.** Праект першачарговай Праграмы Партыі БНФ (праграма-мінімум);

**3.** Папраўкі і дадаткі ў Статут Партыі БНФ.

Заўвагі па праектах дакумантаў просьба прысылаць на Ўправу БНФ на імя Першага намесьніка старшыні Партыі БНФ спадара Ю. Беленькага. Прапановы будуць разгледжаны Часовай рабочай групай па праекце Праграмы і папраўках у Статут Партыі БНФ. Апошні тэрмін прысыланьня заўваг – 19 верасьня.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Партыі БНФ***

*5 верасьня 1999 г.*

# РАСПАРАДЖЭНЬНЕ №3 ПА ПАРТЫІ БНФ

Улічваючы, што рашэньне чэрвеньскага (гэтага году) Сойму Партыі БНФ аб правядзеньні 31 ліпеня – 1 жніўня 1999 г. IV Зьезду Партыі БНФ не было выканана (Зьезд ня быў адчынены, нягледзячы на збор дэлегатаў), грунтуючыся на Статуце Партыі БНФ і на рашэньні чэрвеньскага Сойму Партыі БНФ, пастанаўляю:

**1.** Адзначыць грубае невыкананьне выконваючым абавязкі старшыні Партыі БНФ Л. Баршчэўскім рашэньня чэрвеньскага Сойму Партыі БНФ.

**2.** Правесьці IV Зьезд Партыі БНФ 26 верасьня 1999 года ў горадзе Менску, згодна ўжо вызначанай і выбранай квоты дэлегатаў.

**3.** Арганізацыйныя пытаньні і падрыхтоўку Зьезду працягваць, ажыцьцяўляць Управе Партыі БНФ (адказны А. Крыварот).

**4.** Адказнаму сакратару Ўправы А. Крывароту забясьпечыць каардынацыю і працу ўсіх арганізацыйных зьвеньняў Зьезду.

**5.** Падтрыманьне парадку ў час правядзеньня Зьезду забясьпечыць Дружыне Партыі БНФ (адказны сп. А. Чахольскі). Уваход на Зьезд толькі па пратаколах і сьпісах дэлегатаў.

**6.** Першаму намесьніку старшыні Партыі БНФ сп. Юры Беленькаму:

**6.1.** Даручаю вядзеньне паседжаньняў IV Зьезда Партыі БНФ.

**6.2.** Забясьпечыць правільнасьць працэдуры вядзеньня Зьезду.

**7.** З дня выданьня гэтага распараджэньня і да пачатку IV Зьезду Партыі БНФ прыпыніць прыём новых сяброў у Партыю БНФ.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Партыі БНФ***

*5 верасьня 1999 г.*

# РАСПАРАДЖЭНЬНЕ №5 ПА ПАРТЫІ БНФ

У сувязі з грубымі парушэньнямі спадаром Л. Баршчэўскім партыйнай этыкі і Статуту Пратыі БНФ, што выявілася:

– у супроцьстатутнай спробе, нягледзячы на папярэджаньні, склікаць (11. 09. 1999 г.) Сойм БНФ (гэта выключная прэрэгатыва старшыні Партыі БНФ) і прыняць групавыя рашэньні;

– у грубым невыкананьні рашэньня чэрвеньскага (гэтага году) Сойму Партыі БНФ аб IV Зьезьдзе Партыі БНФ (Зьезд ня быў адчынены спадаром Л. Баршчэўскім, нягледзячы на збор дэлегатаў);

– у пагрозах і спробе ўжываньня сілы супраць партыйных сяброў і апанэнтаў (А. Чахольскага і інш.), у правакацыі неэтычных паводзінаў, –

## ПАСТАНАЎЛЯЮ:

**1.** Грунтуючыся на Статуце і на рашэньні III-га Зьезду Партыі БНФ, адмовіць спадару Лявону Баршчэўскаму ў спаўненьні ім фунуцыяў выконваючага абавязкі старшыні Партыі БНФ у Беларусі з 14 верасьня 1999 года.

Пры гэтым улічваю стварэньне Л. Баршчэўскім зацяжных канфліктных сытуацыяў у Фронце і ў Партыі БНФ на працягу 1997-1998 гадоў, у прыватнасьці, у справакаваньні хуліганскай бойкі (з умяшаньнем міліцыі) увосень 1997 года паміж прыхільнікамі Л. Баршчэўскага і В. Сіўчыка, зь якім Л. Баршчэўскі канфліктаваў. Мной было зроблена тады строгае папярэджаньне Л. Баршчэўскаму і загадана расфармаваць групу („ахову”), якую ён тады стварыў.

Улічваючы таксама нездавальняючую кіраўнічую працу Л. Баршчэўскага ў БНФ „Адраджэньне” (што прызнаў VI Зьезд Фронта і сам Л. Баршчэўскі), а таксама зьбіраньне ім „кампрамату” на сяброў Партыі:

**2.** Прызначыць выконваючым абавязкі старшыні Партыі БНФ у Беларусі 1-га намесьніка старшыні Партыі БНФ спадара ***Юры Беленькага*** з 14 верасьня 1999 года.

**3.** Рашэньні сходу сяброў Сойму Партыі БНФ, які склікаў (11. 09. 1999 г.) Л. Баршчэўскі і які адбыўся да таго ж пры адсутнасьці неабходнага кворуму, ня маюць сілы, ня дзейсныя, не павінны нікім выконвацца і не прымаюцца пад увагу.

У пэрыяд IV Зьезду Партыі БНФ прапаную прыпыніць выкананьне Л. Баршчэўскім абавязкаў намесьніка старшыні Партыі БНФ.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Партыі БНФ***

*13 верасьня 1999 г.*

**Адказнаму сакратару Ўправы БНФ**
**Спадару А. Крывароту,**
**Сябрам БНФ „Адраджэньне”**

## УДАКЛАДНЕНЬНЕ

**1.** 11-га верасьня гэтага года, нягледзячы на адкрыцьцё VI Зьезду БНФ і на спыненьне ў сувязі з гэтым паўнамоцтваў Сойму БНФ, выконваючы абавязкі старшыні Л. Баршчэўскі паспрабаваў сабраць Сойм Фронту дзеля ажыцьцяўленьня групавых інтарэсаў.

Выбраны ворган (Сойм) у час Зьезду ня дзейнічае, ня кажучы пра тое, што Сойм адбываўся пры адсутнасьці кворуму. Гэта быў сход.

Усе рашэньні і прапановы, прынятыя гэтым сходам, ня маюць статутнай сілы, ня дзейсныя, не павінны нікім выконвацца і не прымаюцца пад увагу.

**2.** Нагадваю, што ў сувязі з адкрыцьцём VI Зьезду БНФ „Адраджэньне”, функцыі выбарных ворганаў БНФ (Сойм) і асобаў (намесьнікі старшыні) прыпыненыя, а Аргкамітэт Зьезду выканаў свае задачы і спыніў існаваньне.

Дзейнай кіруючай асобай зьяўляецца новаабраны на VI-м Зьезьдзе старшыня БНФ, а дзейным кіруючым органам у гэты пэрыяд застаецца Ўправа БНФ „Адраджэньне”.

**3.** Прасіў бы сяброў Ўправы вызначыцца з датай 2-га паседжаньня VI-га Зьезду БНФ „Адраджэньне”. Мэтазгодна правесьці яго ў кастрычніку, пасьля IV-га Зьезду Партыі БНФ.

**4.** Адказнаму сакратару Ўправы БНФ спадару А. Крывароту, куратару Ўправы спадару С. Папкову і адказнаму за парадак сакратару Ўправы А. Чахольскаму неабходна забясьпечыць нармальную дзейнасьць Управы і нармальны рэжым працы ў сядзібе БНФ.

**5.** Гэтым удакладненьнем паведамляю, што з 14 верасьня 1999 году за допушчаныя парушэньні адклікаю функцыі выконваючага абавязкі старшыні БНФ спадара Л. Баршчэўскага і передаю іх спадару Юры Беленькаму.

Спадара Л. Баршчэўскага абавязваю перадаць дакуманты, пячатку БНФ і ўсе неабходныя справы спадару Юры Беленькаму.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне”***

*13 верасьня 1999 г.*

# ПРА АБВАСТРЭНЬНЕ ПАЛІТЫЧНАГА СТАНОВІШЧА

*(Заява)*

Выклікаюць занепакоенасьць эскаляцыя ваеннага напружаньня і грубыя парушэньні правоў чалавека ў Расеі. Чарговыя ваенныя дзеяньні, справакаваныя на Каўказе, і сэрыя ўзрываў у Расеі выклікалі неадэкватную рэакцыю расейскіх уладаў, стварылі псіхоз нянавісьці да ўсіх нярускіх, і ў першую чаргу -- да мусульманаў, людзей азіяцкага і каўказкага паходжаньня.

Без аб'яўленьня надзвычайнага становішча ў Маскве і іншых расейскіх гарадах фактычна ўведзеныя элемэнты надзвычайнага становішча. Людзей нярускай нацыянальнасьці і неславянскага выгляду міліцыянеры і спэцаддзелы міліцыі хапаюць на вуліцах, у дамах і на рынках, правяраюць дакументы, арыштоўваюць, б'юць і зьневажаюць, чуваць заклікі да расправы. Рускі друк, радыё, тэлебачаньне і ўлады падтрымліваюць расава-этнічныя чысткі ў Расеі, культывуюць нянавісьць да іншых.

Гэта недапушчальна, бо ёсьць грубым парушэньнем правоў чалавека. Гэта шлях распаду, па якім пайшла камуністычная Югаславія і на які ступае цяпер Расея.

Міжнародная супольнасьць і эўрапейскія міжнародныя структуры ня могуць застацца абыякавымі да перасьледу людзей па расава-этнічных прыкметах у Расейскай Фэдэрацыі.

Імкненьне рэжыму Лукашэнкі экстрапаляваць надзвычайны стан у Расеі на Беларусь сьведчыць аб намерах антыбеларускага рэжыму выкарыстаць становішча ў суседняй краіне, каб паралізаваць і разбурыць беларускую дэмакратычную працу.

Ва ўмовах надзвычайнага становішча, якое пачынае ўводзіць Лукашэнка на Беларусі, зьнікае магчымасьць перамоўнага працэсу зь існуючым рэжымам, які, да таго ж, прадаўжае нарошчваць інкарпарацыйную палітыку аб'яднаньня з краінай, што знаходзіцца ў стане пэрманэнтнай вайны і распаду.

Працэс спаўзаньня антыбеларускага рэжыму да рэпрэсіяў і крымінальных дзеяньняў адносна асобы чалавека на Беларусі (так, як гэта адбываецца ў Расеі) павінен быць спынены. Нельга дапусьціць экспарту вайны і крымінальшчыны ў Беларусь, разьвязваньня перасьледу апазыцыйна настроеных беларусаў.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ "Адраджэньне"***
***і Партыі БНФ***

*19 верасьня 1999 г.*

**62-Д.** ***Пра абвастрэньне палітычнага становішча. З. Пазьняк.***

# ПАЛІТЫКА ПАРТЫІ АДРАДЖЭНЬНЯ

***(Даклад на IV Зьезьдзе Партыі БНФ)***

Паважаныя спадарыні і спадары, шаноўныя фронтаўцы – сябры Партыі БНФ, госьці Зьезду. Вітаю Вас у Бацькаўшчыне, якая скора будзе свабоднай!

У сваім дакладзе я спынюся на палітычным становішчы і на палітычных задачах Партыі беларускага Адраджэньня.

У гісторыі БНФ, на які ўвесь час градам сыпаліся каменьні непрыяцеляў Беларусі, мы ўжо перажывалі магутны стрэс, які адбіўся на нашых структурах. Гэта было ў канцы 1990 года, яшчэ за часы непадзельнага панаваньня КПСС і КПБ. Тады, 7 лістапада, у дзень юбілею камуністычнага перавароту, Беларускі Народна Фронт арганізаваў першую ў СССР грандыёзную антыкамуністычную дэманстрацыю ў Менску. Звыш 30 тысячаў фронтаўцаў і прыхільнікаў Фронту прайшлі калёнай праз увесь праспэкт Леніна з антыкамуністычнымі лёзунгамі, скандуючы: „Далоў камунізм!", „Далоў КПСС!", „Далоў Савецкі Саюз!". На плошчы Леніна перад Домам ураду адбыўся антыкамуністычны мітынг, у час якога з боем, перамагаючы нападзеньне міліцыі, да падножжа помніку Леніна былі ськінутыя „дары камунізму": пудзіла ГУЛАГу, калючы дрот, расстрэльныя мішэні НКВД, фуфайкі зэкаў, сымвалічныя шыбеніцы і крывавыя партрэты бальшавіцкіх катаў, лёзунгі камунізму.

Мы рытуальна вярнулі ім іхныя „заваёвы сацыялізму". Гэты сымвалічны акт ачышчэньня і сам факт антыкамуністычнай дэманстрацыі, замест традыцыйнай савецкай „демонстрации трудящихся", нанесьлі моцны ўдар па камуністычных уладах на Беларусі.

Але камунізм яшчэ трымаўся. Такой прапагандысцкай істэрыі супраць БНФ, такога татальнага напору, такога шаленства і псіхозу супраць нас я ня памятаю за ўсю гісторыю Фронта. Супраць БНФ была мабілізаваная ўся дзяржаўная машына, уся камуністычная партыя, усе яе сілы і запасы і ўсе прапагандысцкія рэсурсы.

І здавалася, што Фронт „пасыпаўся", пачалі выходзіць зь яго шэрагаў розныя „дэмакратычныя камуністы", барацьбіты за „перабудову" і „сацыялістычную справядлівасьць", змагары за Леніна супраць Сталіна, за „дэмакратыю ў СССР" і проста выпадковыя людзі, сярод якіх нават савецкі прафэсар Акулаў быў прыхільнікам БНФ і разносіў ўшчэнт намэнклатуру КПСС. „Гэта памылка, – крычалі мне ў вочы, – Пазьняк разбурае Фронт! Гэта правал! Ня трэба было такой дэманстрацыі!"

У сакавіку 1991 года на 2-м Зьезьдзе БНФ я казаў, што гэта не памылка і не паражэньне, а найвялікшая перамога, якая ўвойдзе ў гісторыю барацьбы з камуністычнай уладай і ўмацуе Беларускі Народны Фронт.

Так яно і сталася: сплылі „дэмакраты за перабудову", спадарожнікі і змагары за паляпшэньне сацыялізму. Прыйшлі новыя сьведамыя людзі, антыкамуністы. Беларускі Народны Фронт палітычна кансалідаваўся і сапраўды стаў беларускім нацыянальна-дэмакратычным рухам.

Нешта падобнае мы назіраем цяпер. Настаў момант ісьціны, момант выбару. Трэба прыняць яго з розумам і згуртаваць вакол Партыі БНФ усё здаровае, моцнае і дзеяздольнае, каб гэты выбар стаў чыньнікам сілы нашай Партыі і грунтам для ўмацаваньня Беларускага Народнага Фронту.

Будучы за мяжой, я стараўся захаваць адзінства руху. Можна было б, на мой погляд, арганізаваць скаардынаваную працу Фронту і Партыі Фронту на ўзроўні кааліцыйнай каардынацыі ў кіраўніцтве і паяднаньне асобных структураў (мой ліст ад 8-га жніўня). Аднак прапанова не была ўспрынята, і ў адказ пачуліся абвінавачваньні ў расколе.

Такая рэакцыя, а таксама шэраг іншых дзеяньняў, артыкулаў і інтэрв'ю ў антыфронтаўскім друку, выпуск сумніцельных лістовак на рускай мове аб „новой волне", дзе нашыя прагматыкі паказаныя ў атачэньні В. Ганчара, і іншыя папулісцкія заявы пераканалі мяне, што мы маем справу з даволі безадказнай пазыцыяй. Магчыма тут зьбег абставінаў і ўсё выглядае ня так кепска, але ўсё гэта, тым ня менш, абавязвае нас цяпер выразна і зразумела засьведчыць беларускую фронтаўскую пазыцыю, структурна арганізаваць яе ў моцнай палітычнай партыі і паставіць у аснову сістэмнай арганізацыі Фронту.

Як будзе выглядаць умацаваная сістэма БНФ, мы вырашым на 2-м паседжаньні 6-га Зьезду Фронта, дзе нам засталося выбраць Сойм і намесьнікаў старшыні.

12-га верасьня ў лісьце „Беларуская сіла – у палітычнай арганізацыі" я прапанаваў для абмеркаваньня прыблізную схему адзінай сістэмы БНФ з узмоцненай роляй Партыі. Мяркую, што пасьля гэтага Зьезду ў нас яшчэ будзе час удакладніць дэталі і падыходы ў фронтаўскай арганізацыйнай сістэме.

* * *

Сябрам Партыі БНФ прапанавана разглядзець папраўкі і дадаткі ў Статут. Яны ня маюць, як вы заўважылі, кардынальнага характару, але накіраваныя на тое, каб умацаваць арганізацыю і паставіць яе на добры партыйны грунт.

У прэамбуле адзначана, што Партыя Беларускага Народнага Фронту гэта палітычная партыя, якая грунтуецца на ідэалёгіі Беларускага адраджэньня і народна-кансэрватыўных каштоўнасьцях беларускай палітычнай культуры, ажыцьцяўляе сваю палітычную праграму шляхам прапаганды ідэй і ўдзелу ў фармаваньні канстытуцыйных ворганаў дзяржаўнай улады Беларусі.

Партыя БНФ выступае за добрае ўладкаваньне грамадзтва на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, за культурна-нацыянальнае адраджэньне беларускай нацыі, за разьвіцьцё беларускай культуры ды культуры ўсіх нацыянальных меншыняў Беларусі.

Галоўная мэта Партыі БНФ – усталяваньне дэмакратычнага грамадзтва і пабудова моцнай беларускай дзяржавы.

Мы асабліва падкрэсьліваем нашу сувязь, пераемнасьць і адзінства зь Беларускім Народным Фронтам, адзначаем, што Партыя БНФ увасабляе палітычную лінію Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», ажыцьцяўляе палітычныя палажэньні Праграмы БНФ і зьяўляецца ягонай ідэйнай, палітычнай і арганізацыйнай самастойнай асновай. Партыя БНФ прызнае за сабой усю гісторыю Беларускага Народнага Фронта і бярэ на сябе адказнасьць за ўсю ягоную палітыку, усю дзейнасьць і дакументы, ад пачатку існаваньня БНФ. У выпадку спыненьня дзейнасьці БНФ, зьяўляецца ягонай пераемніцай.

Дбаючы пра пабудову дэмакратычнага грамадзтва і моцнай беларускай дзяржавы, ***мы шануем духоўныя, культурныя і звычаёвыя каштоўнасьці, створаныя беларускім народам. Асоба павінна быць ня толькі свабоднай, але і маральнай, грамадзтва – ня толькі вольным, але і праўным, дзе кожны чалавек мае праўныя гарантыі прыкласьці свае здольнасьці і карыстаць з сваёй працы, дзе права стварае магчымасьці рэалізаваць шансы кожнаму, нават нямогламу, дзе няма лішніх людзей. Мы шануем грамадзтва, у якім сэнсам існаваньня ёсьць вечныя ідэалы дабра і справядлівасьці, павага да продкаў і клопат пра будучыню нацыі.*** Мы разумеем зьмест нацыянальнага існаваньня як працэс духоўнага, гуманітарнага разьвіцьця, як пабудову на моцным грунце, а не на новым месцы, як вырастаньне з карэньняў, а не перасадку ідэй.

Мяркую, што мы павінны, нарэшце, удакладніць назву сваёй партыі, згодна той вялікай нішы, якую мы займаем, і кансалідавацца ў беларускі і эўрапейскі палітычны працэс.

Гісторыя палітычнае дзейнасьці паказала, што Беларускі Народны Фронт трывала стаіць на платформе беларускай адраджэнскай ідэалёгіі, абапіраецца на традыцыі беларускай палітыкі і нацыянальнай культуры, на кансэрватыўныя палітычныя каштоўнасьці і хрысьціянска-дэмакратычныя погляды на грамадзтва. Агулам – гэта правы спэктар кансэрватыўных, народных і хадэцкіх партыяў. Фронт яднае ў сабе гэтыя погляды і найбольш адлюстроўвае кансэрватыўна-хадэцкую плятформу. Пазытывісцкі прагаматызм, які выявіўся ў апошнім часе ў сувязі з рэсурснай дзейнасьцю НДА, – гэта, на мой погляд, анамалія ў Фронце, скок убок, часовая і дастаткова суб'ектыўная зьява, якая зьнікне са зьнікненьнем прычыны (спонсарскай падтрымкі «грантавай дэмакратыі»).

Па сваёй палітычнай платформе мы ёсьць беларуская народная (адраджэнская) партыя кансэрватыўнага кшталту. Умацоўваючы Партыю Фронта, мы павінны ў назве канкрэтызаваць яе палітычную сутнасьць. Прапанаванае ўдакладненьне назвы: «Кансэрватыўная партыя – Беларускі Народны Фронт», на мой погляд, добра выяўляе зьмест ідэалёгіі, палітычную шкалу каштоўнасьцяў, палітычную нішу і гістарычную прыналежнасьць партыі.

Гістарычная (сутнасная) частка назвы партыі («Беларускі Народны Фронт») ня можа быць зьмененая ні пры якіх абставінах. БНФ – гэта ёсьць ужо аб'ектыўны палітычны і гістарычны тэрмін, зь якім мы ўвайшлі ў гісторыю і палітыку Беларусі. І ў сусьветную палітыку. БНФ ёсьць мы, фронтаўцы. Гэтая назва можа зьнікнуць з нашага ўжытку толькі са зьнікненьнем самой арганізацыі.

Заканчваючы гаворку пра дадаткі ў Статут, хачу адзначыць дзьве важныя пазыцыі: у Партыі прадугледжана фактычная двухузроўневая структура функцыянаваньня. Гэта суполкі і раённыя арганізацыі суполак з аднаго боку, і непасрэдна кіраўніцтва Партыі (старшыня, Сойм і Управа) – з другога. Спаўняючы заканадаўства, мы прадугледзелі і прамежаквы (бюракаратычны) узровень. Гэта рэгіянальныя (у тым ліку і абласныя) арганізацыі. Але яны валодаюць толькі каардынацыйнымі функцыямі. Гэта дапаможа нам актывізаваць дзейнасьць Партыі і адначасна пазьбегнуць яе бюракратызацыі ў трэцім прамежкавым (абласным) зьвяне.

Другая важная пазыцыя датычыць палітычнай эфэктыўнасьці і кіруемасьці Партыі і заключаецца ў тым, што ў пэрыяд выбараў кіраўніка краіны і ў органы ўлады Беларусі Сойм Партыі БНФ (калі Партыя ўдзельнічае ў выбарах) валодае функцыямі непасрэднага цэнтральнага кіраваньня: можа прымаць рашэньні па кожным сябры Партыі (выключэньне з арганізацыі, наданьне і пазбаўленьне паўнамоцтваў і інш.).

Такое палажэньне дасьць магчымасьць запабегчы авантурызму і некіруемасьці ў час выбараў, пранікненьню ў Партыю чужародных асобаў з мэтай стаць дэпутатамі і г.д. БНФ ужо мае такі нэгатыўны вопыт. Трэба выключыць яго паўтарэньне. Але падкрэсьліваю: гэтае статутнае правіла дзейнічае толькі ў пэрыяд выбараў і пры ўмове, што Партыя ў іх удзельнічае. Гэта трэба асабліва ўдакладніць у фармулёўцы (гл. разьдзел 4, устаўка пасьля 20-га абзацу).

* * *

Да ўвагі дэлегатаў Зьезду прапанаваныя праект Праграмы Партыі БНФ і кароткі праект Першачарговай Праграмы альбо Праграмы-мінімум.

Праект агульнай Праграмы Партыі БНФ падрыхтаваны на аснове Праграмы Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне", прынятай на ІІІ-м Зьезьдзе БНФ 30 траўня 1993 года. Скарыстаная яе структура, тэкст і асноўныя палажэньні, выпрабаваныя гісторыяй, часам і практыкай палітычнае працы. Разам з тым з тэксту выключаныя ўжо не актуальныя і агульнавядомыя сэнтэнцыі, удакладненыя некаторыя пазыцыі (напрыклад, пра палітыку нэўтралітэту і дачыненьні з НАТО), дададзеныя новыя тэмы, зробленыя акцэнты, пашыраная платформа галоўных каштоўнасьцяў, сфармуляваныя азначэньні і палітычныя задачы. Праграма (праект) складзеная на дастаткова адлеглы адрэзак часу.

Асаблівая ўвага зьвернутая на галоўныя каштоўнасьці Партыі, на правы асобы, ролю беларускай сям'і, школы, мовы і культуры, на канстытуцыйныя прававыя прынцыпы дзяржаўнага ладу, на пабудову добрай эканомікі, на гарантыі незалежнасьці і дзяржаўнай бясьпекі Беларусі, на вектары зьнешняй палітыкі.

Асноўныя акцэнты гэтага праекту: дабро асобы – і дабро нацыі (дабро грамадзтва); правы чалавека – і незалежнасьць беларускай дзяржавы; разьвіцьцё людзей – і адраджэньне беларускай культуры; дабрабыт сям'і – і добрая эканоміка.

Тут выяўленая спроба паглыбіць і сканкрэтызаваць традыцыйныя Праграмныя палажэньні Беларускага Народнага Фронту.

У праекце Праграмы-мінімум адзначаны тры галоўныя палажэньні як акцэнты і арыентыры нашай першачарговай палітыкі. Першае – неабходнасьць ліквідацыі дыктатуры і спыненьне палітыкі «інтэграцыі» з Расеяй. Другое – першачарговыя палітычныя дзеяньні пасьля ліквідацыі дыктатуры, дзе коратка раскрыты іх зьмест. І трэцяе – дастаткова падрабязна апісаны парадак першасных эканамічных пераўтварэньняў як надзвычай важны этап у палітыцы Партыі, ад якога будзе залежыць далейшы ход дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі.

Усе палажэньні, прапанаваныя ў абодвух Праграмных праектах, дастаткова выверыныя і апрабаваныя ў ранейшых дакумантах і дакумэнтальнай практыцы Беларускага Народнага Фронту. Мяркую, што гэтыя праекты Праграмаў можна прымаць адразу цалкам, пакінуўшы камісіі рэдактарскія дапрацоўкі і ўдакладненьні.

* * *

Мы павінны будзем будаваць нашу палітыку, абапіраючыся на Праграмныя палажэньні. Аднак шмат залежыць таксама ад добрага аналізу і дакладнага разуменьня канкрэтнай сытуацыі ў Беларусі. Сябры Партыі мусяць прыглядацца да падзеяў, аналізаваць іх і друкаваць свае абагульненьні. Адразу пасьля Зьезду мы павінны арганізаваць выданьне партыйнага бюлетэню, на старонках якога сябры БНФ маглі б абменьвацца тэарытычнымі меркаваньнямі і інфармацыяй.

З аналітычных матэрыялаў сяброў Фронту за апошні час я асабліва адзначыў бы Зварот Чашніцкай Рады БНФ «Адраджэньне» ад 11 жніўня г.г. да суполак і рэгіянальных радаў Фронту, а таксама артыкул спадара Уладзімера Старчанкі, прысьвечаны падзеям травеньскай выбарчай кампаніі.

Сапраўды, самай неабходнай задачай нацыянальна-вызвольнага руху на шляху адбудовы незалежнай беларускай дзяржавы зьяўляецца ***замена старой каляніяльнай адміністрацыі на новую беларускую, якая будзе кіравацца нацыянальнай сьведамасьцю і зыходзіць зь беларускіх нацыянальных інтарэсаў.*** Пакуль гэтага ня зроблена – ня будзе і беларускай палітыкі. Лукашэнкаўскі антыбеларускі рэжым, яго каляніяльная адміністрацыя і яго каляніяльная апазыцыя (тая, што апынуліся за бартом улады) уяўляюць адну сістэму, адзін двухполюсны мэханізм, ад перамены бакоў якога нічога ў корані ня зьменіцца на Беларусі.

Тое ж самае і з друкам. І афіцыйны каляніяльны друк па-руску, і так званы апазыцыйны (ці незалежны) каляніяльны друк па-

руску ёсьць два бакі адной сістэмы інфармацыі (дакладней – дэзынфармацыі). Адраджэнская Партыя БНФ мусіць добра арыентавацца ў гэтым становішчы.

Мы павінны зрабіць захады, каб ліквідаваць (ці хаця б абмежаваць) разбуральны ўплыў рэсурсных цэнтраў НДА на беларускія палітычныя арганізацыі. Ніхто ня можа дыктаваць нам свае погляды і паводзіны, аплочаныя далярамі, ніхто ня будзе заказваць палітыку, бо ў нас ёсьць свая, беларуская палітыка, ёсьць маральныя прынцыпы і беларускія ідэалы, якімі не гандлююць ні пры якіх абставінах і дзеля перамогі якіх патрэбныя ня грошы, а вера ў Беларусь, чыстае сумленьне і гарачае сэрца. Калі гэтага няма – грошы не ўратуюць, даляры не дапамогуць, бо тады не купляюць, а прадаюцца.

***Ня верце людзям, якія пасьмейваюцца над ідэаламі***. У палітыцы, калі пытаньне ставіцца рубам, перамагае дух. Гэта першае, што трэба мець змагарам за Беларусь. Астатняе знойдзецца і далучыцца.

* * *

Адразу пасьля Зьезду нашай Партыі трэба будзе ўпарадкаваць структуры і арганізацыі. Неабходна спыніць паслабленьне Фронту і прывесьці ўсе ў статутны парадак.

Паралельна мы павінны пачаць мэтанакіраваную арганізацыйную і прапагандысцкую працу ў выбарчых акругах. Ня мусіць быць пустых акругаў, не павінна быць неінфармаванасьці і тым больш – дэзынфармацыі. Мэтады партыйнай працы вядомыя, яна вядзецца месяцамі, гадамі. Тым часам рэжым ня вечны. Партыя ўжо цяпер павінна пачаць працаваць ня толькі на сёньня, але й на будучыню. Арганізацыі Партыі БНФ павінны быць створаныя паўсюдна.

Наступнае. Як гэта цяпер ня цяжка будзе рабіць, але мы павінны вярнуцца да ініцыятывы канцэптуальнай палітыкі, якую зглумілі нашы канфармісты-прагматыкі. Галоўнае – гэта стварэньне структурнай грамадзянскай альтэрнатывы нелегальнаму анібеларускаму рэжыму. Трэба арганізаваць надпартыйныя агульнаграмадзянскія органы з прыкметамі легітымнасьці і магчымасьцямі прадстаўнічай, выканаўчай і самакіруючай ўлады. Менавіта: камітэты самакіраваньня і галоўнае – Грамадзянскі Парлямант як грамадзкае дапаўненьне да існуючай легальнай дэпутацкай групы Вярхоўнага Савета, як падтрымка выконваючаму абавязкі Прэзыдэнта Беларусі і як самастойны чыньнік палітыкі. Калі б не разбуральная дзейнасьць канфармістаў і калі б да 21 ліпеня мы мелі Грамадзянскі Парлямант ды створаны ім Часовы Урад, ды пару сотняў тысячаў подпісаў за адхіленьне Лукашэнкі ад улады, то тады быў бы сэнс 21 ліпеня клікаць людзей на вуліцу, было б поле для манэўру, было б каму выдаць загад аб арышце парушальніка Канстытуцыі, стварылася б альтэрнатыва і меліся б аргуманты. Па-іншаму б сябе паводзіў так званы Вярхоўны Савет і яго старшыня С. Шарэцкі, па-іншаму можна было б выходзіць на перамовы з рэжымам (калі б да таго дайшло).

Зглумленьне ідэі Грамадзянскага Парляманту Беларусі і акцыі Грамадзянства БНР ёсьць самай дрэннай справай, якую зрабілі праціўнікі фронтаўскай палітыкі. Акцыя Грамадзянства БНР давала нам адраджэнскі грунт для папаўненьня Фронту і новыя магчымасьці адраджэнскай працы, а ў выніку – пэрспэктыву беларускай грамадзкай мабілізацыі. Я ўражаны зрывам гэтай акцыі людзьмі, якія гавораць пра Беларусь.

Нічога сур'ёзнага ня робіцца наскокам, махаючы драўлянай шабелькай. У палітычнай дзейнасьці часта надыходзіць патрэба, якая вымагае доўгай нуднай падрыхтоўкі і руціннай працы. Гэты час – з 1997 па 1999 гады, калі я прапанаваў правесьці папярэднія падрыхтоўчыя дзеяньні, – гэты час ужо страчаны.

Цяпер, калі не падрыхтавана і не прапанавана ўзамен ніякай іншай рэальнай грамадзкай альтэрнатывы рэжыму, ніякіх структураў, ніякога арганізацыйнага апірышча, ніякіх палітычных асбаў і ніякога пляну, калі паралізавалі да таго ж Беларускі Народны Фронт, некаторыя дэмакраты «новой волны» лёгкадумна пачынаюць клікаць людзей на вуліцу на 100-тысячны мітынг. Дзеля чаго? Каб ізноў пакрычаць «далоў Лукашэнку» і разыйсціся з усьведамленьнем апатыі і нікчэмнасьці апазыцыі? Гэта гапонаўшчына, правакацыя, бяздумнасьць і хлестакоўшчына ў кароткіх портачках, а не сур'ёзны падыход.

Партыя БНФ мусіць прыступіць да сур'ёзнай працы з падвойнай аддачай. Сытуацыя мусіць быць перамененая яшчэ ў гэтым годзе. Такія магчымасьці ёсьць, калі не займацца ерундой ды «объединением демократических сил», а рыхтаваць рэальныя арганізацыі і рэальных людзей.

* * *

На VI-м Зьезьдзе БНФ 31-га ліпейя была зачытаная мая кароткая справаздача пра дзейнасьць за мяжой за апошнія два гады. Няма сэнсу яе паўтараць. Аднак я хацеў бы закрануць адзін далікатны аспэкт, які выклікае ў мяне шмат горычы і шкадаваньня, хоць мне і нязручна пра тое казаць.

У 1996 годзе, апынуўшыся з Сяргеем Навумчыкам за мяжой, мы ўбачылі, што Беларусь была ўжо ціха здадзена Захадам Маскве. Воляй лёсу і вялікімі высілкамі нам удалося адвесьці стрэлкі назад, яшчэ калі мы знаходзіліся ў Эўропе; а ў Амэрыцы, зноў жа, воляй лёсу і вялікімі намаганьнямі як за мяжой, так і ў Беларусі (і, як я лічу, – проста Боскай воляй) удалося дамагчыся, што міжнародная супольнасьць не прызнала легальнасьці вынікаў лістападаўскага рэфэрэндуму 1996 года на Беларусі, а рэжым Лукашэнкі трапіў у ізаляцыю.

Чаму была магчымасьць уплываць? Таму што быў пэўны аўтарытэт, добрае імя і міжнародная вядомасьць. Усе дзьверы адчыняліся, і на высокім узроўні. Ніякай падтрымкі гэтаму добраму імю не было зь Беларусі. Наадварот. Гаворачы „наадварот", я маю на ўвазе не КГБ, не расейскія спэцслужбы, не „хартыі" і не агентуру, што моцна папрацавала супраць мяне на Захадзе. Я маю на ўвазе тых, хто мусіў бы мяне падтрымаць. Бо Фронт як апазыцыйная арганізацыя атрымаў у сувязі з маёй вымушанай эміграцыяй ўнікальныя палітычныя магчымасьці раскруткі сытуацыі. Аднак «раскрутка» была са знакам мінус.

Ня буду прыводзіць фактаў і рабіць высноваў, зыходзячы з маральных меркаваньняў. Скажу толькі, што нескарыстаныя магчымасьці, – гэта таксама страта.

Узмацняючы Партыю БНФ і дбаючы пра адзінства Фронту, азіраючыся назад і аналізуючы пройдзены шлях, мы ня шмат знойдзем памылак (я б сказаў, зусім ня шмат), бо памыляюцца ў палітыцы ня так ужо і часта. У палітыцы найбольш – нескарыстоўваюць магчымасьці. Гэта галоўны недахоп. Уменьне ж скарыстаць, зрабіць тое, што трэба ў неабходны час, у патрэбным месцы, у рэальнай, канкрэтнай сытуацыі, – гэта і ёсьць добрая палітыка, я б сказаў, нават неабходная палітыка.

Зычу ўсім нам, дарагія сябры, добрай палітыкі ў добры час і на сваім месцы дзеля шчасьця, свабоды і гонару нашай дарагой Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

Слава героям!

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ «Адраджэньне»***
***і Партыі БНФ***

*23-26 верасьня 1999 г.*

# ЗВАРОТ ПАРТЫІ БНФ ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ

8-га кастрычніка 1999 г. у газэце „Советская Белоруссия" апублікаваны праект дамовы пра стварэньне „саюзнай" дзяржавы Беларусі і Расеі, які ў лістападзе гэтага году зьбіраюцца падпісаць Лукашэнка і Ельцын.

Дамова ўяўляе вялікую небясьпеку для беларускага народа. Яе прыняцьцё дасьць магчымасьць „інтэгратарам" перавесьці практычную працу па далучэньні Беларусі да Расеі ў вузкія межы чыноўніцкай дзейнасьці. Праграмай дзеяньняў будуць займацца, з аднаго боку, чыноўнікі Масквы, з другога – падначаленыя ім чыноўнікі зь Менску. Іхняя асноўная задача – сумеснымі намаганьнямі ашукаць грамадзянаў Беларусі.

Прапагандысцкая кадэбісцкая машына максімальна прыхоўвае сутнасьць гэтай дамовы, падае яе як неістотную, чарговую „пустую паперку".

Рэальная ж пагроза гэтай дамовы для грамадзянаў Беларусі ў наступным:

*– Беларускае войска становіцца часткай расейскай ваеннай машыны. Беларускія юнакі будуць выкарыстоўвацца ў расейскіх імпэрскіх войнах.* ***Беларусь ператвараецца ў пляцдарм для далейшай расейскай экспансіі ў кірунку краінаў Балтыі і Украіны****. Беларусь будзе і надалей выкарыстоўвацца ў якасьці пляцдарму для разьмяшчэньня ваенных аб'ектаў, па якіх будуць наносіцца першыя ўдары ў выпадку ваеннага канфлікту Расеі з Захадам.*

*– Поўная залежнасьць Беларусі ад эканамічнага дыктату Масквы. Устанаўленьне мытных пошлінаў у інтарэсах Расеі. Праўдзеньне інвестыцыйнай палітыкі ў інтарэсах Расеі. Перацягваньне адукаванай, таннай беларускай рабочай сілы ў расейскія рэгіёны, галоўным чынам – у Сібір ды раёны поўначы (у сыравінныя галіны вытворчасьці).*

*– Пашырэньне працэсу замены нашых нацыянальных кадраў на расейскія ў войску, ворганах бясьпекі, ключавых урадавых структурах, міністэрствах і прадпрыемствах. Страта матэрыяльнай уласнасьці беларускага народа і пераход яе ў рукі расейскага крымінальнага капіталу.*

*– Далейшае зьнішчэньне беларускай нацыянальнай сістэмы выхаваньня, школы і культуры, умацаваньне палітыкі дыскрымінацыі і этнацыду.*

*– Укараненьне палітыкі: адна дзяржава – дзьве сістэмы (як пра гэта ўжо заяўлена). Ператварэньне Беларусі ў камуністычны „адстойнік". Блакіроўка рэформаў у эканоміцы і зямельнай рэформы з мэтаю ня даць магчымасьці карэннаму насельніцтву замацавацца на сваёй зямлі і жыць па сваіх законах.*

*– Ператварэньне Беларусі ў „тэрыторыю", „санітарную зону" для Масквы, тэрыторыю для перасяленьня састарэлага насельніцтва з Сібіры і паўночных рэгіёнаў.*

***Падкрэсьліваем поўную антызаконнасьць дзеяньняў рэжыму на Беларусі і ягоную змову з чужой джяржавай.***

***Заклікаем выказаць рашучы пратэст супраць антыканстытуцыйных дзеяньняў лукашэнкаўскага рэжыму, супраць зьнішчальнай для беларусаў дамовы пра стварэньне „саюзнай" дзяржавы з Расеяй.***

Не дапусьцім зьдзяйсьненьня імпэрскіх плянаў Расеі па ліквідацыі незалежнасьці і дзяржаўнасьці Беларусі!

Лісты пратэсту з патрабаваньнем непрызнаньня дамовы накіроўвайце ў прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь: г. Менск, вул. Кірава, 17 – а таксама ў групу АБСЭ ў Менску: праспэкт „Газэты Праўда", 11.

*Прынята Соймам Партыі БНФ*

***Старшыня Партыі БНФ Зянон ПАЗЬНЯК***
***Адказны Сакратар Управы Партыі БНФ***
***Анатоль КРЫВАРОТ***

*16 кастрычніка 1999 г.*
*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 1999, №6(23).*

# TO THE SUMMIT OF THE OSCE IN ISTAMBUL

## STATEMENT

Belarusan Popular Front „Adradzennie" and the Party of Belarusan Popular Front propose to examine as a special item the problem of the security of Belarus.

We beg you to pay attention to the aggressive policy of the incorporation realized by Russia against Belarus in cooperation with the illegal Lukashenka's regime.

We are worried because of activisation of the Russian policy directed to the undermining and liquidation of the sovereignty of Belarus, which coincides with the military aggression of Russia against the Chechenian people of Ichkeria in the Caucasus. There are actions of the same sense and of same aggressive imperial policy made by different methods.

We are deeply worried because of the extermination of Chechenian people made by the Russian army in Ichkeria and horrible humanitarian catastrophe of the civil population, artificially organized by the Russian military in Chechnia.

We are disturbed because of the cruel, non-motivated repression, personal humiliation and tortures of Belarusans realized by the pro-Moscow occupational Lukashenka's regime in Belarus (which was especially demonstruated by the massacre in Minsk on October 17, this year).

We propose to the participants of the Summit of OSCE in Isstambul:

*– to recognize Russia as a country which realize actions and policy of aggression;*

*– to analyze the question about the international sanctions against this country;*

*– to propose to the international funds and freer all the credits and the financial aid to Russia until Russia wouldn't stop the actions incorporation of Belarus and unification with the dictatorial Lukashenka's regime.*

We declare that the negotiations with the executive power in Belarus are impossible without the fulfillment by Lukashenka of the main preliminary condition – to put a stop to all the actions directed to the liquidation of the sovereignty of Belarus and to the unification with Russia.

The situation in Belarus is aggravating. Every attempt on Belarusan independence made by Moscow with support of dictatorial Lukashenka's regime will provoke an adequate reaction. Belarusan people, young persons, active sociery will fight with all possible methods and all measures for their State and Freedom.

***Zianon PAZNIAK***
***Chairman of Belarusan Popular Front***
***„Adradzennie" and of Party of BPF***

*November 15-19, 1999*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 6(23).*
*(Пераклад зь беларускай В. Буйвала)*

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ” ПРА VI ЗЬЕЗД БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ”

У адпаведнасьці з рашэньнямі красавіцкага Сойму БНФ „Адраджэньне” і чэрвеньскага Сойму Партыі БНФ была праведзена падрыхтоўка да правядзеньня абодвух зьездаў напрацягу двух дзён, 31 ліпеня і 1 жніўня. З вопыту правядзеньня папярэдніх зьездаў, двух дзён было дастаткова для пасьпяховага вырашэньня ўсіх пытаньняў.

Зьезд БНФ „Адраджэньне” пачаў працу 31 ліпеня ў 11-30. Вядучым зьезду быў на той час выконваючы абавязкі старшыні сп. Л. Баршчэўскі. Хутка былі вырашаны арганізацыйныя пытаньні (абраны рабочы прэзыдыюм, сакратарыят, лічыльнікі ў залі, мандатная і падліковая камісіі і іншыя).

Мандатная камісія апэратыўна правяла працу і прызнала паўнамоцтвы 325 дэлегатаў.

Логіка і парадак вядзеньня зьезду быў парушаны пасьля таго, калі Зьезд БНФ „Адраджэньне” пры разглядзе пытаньня „Аб парадку дня” не прыняў падтрыманы аргкамітэтам (кіраўнік нам. старшыні сп. В. Вячорка) парадак выбараў кіруючых ворганаў БНФ „Адраджэньне” (спачатку абраць Сойм, а пасьля са складу Сойму абраць старшыню і намесьнікаў). Зьезд большасьцю галасоў прыняў наступнае рашэньне: спачатку абраць старшыню, пасьля, па прапанове старшыні, абраць намесьнікаў, а таксама Сойм.

Пасьля такога рашэньня аб парадку (такі парадак быў на ўсіх зьездах) вядучы сп. Л. Баршчэўскі штучна пачаў зацягваць і парушаць працэдуру вядзеньня зьезду. Не вытрымліваўся рэглямант, шмат часу было згублена на зацьвярджэньне зьездам дэлегатаў, якія па дакумантах і па факту не маглі быць дэлегатамі (прыклад: сп. Яўген Лугін, старшыня Сялянскай партыі), выступленьні наўмысна зацягваліся. Для таго, каб пацягнуць час, група В. Вячоркі вылучыла шэсьць кандыдатаў на пасаду старшыні БНФ „Адраджэньне”. Кожны зь іх доўга распавядаў аб сваёй праграме дзеяньняў, а напрыканцы прамовы здымаў сваю кандыдатуру на карысьць сп. В. Вячоркі.

У выніку такіх дзеяньняў за два дні зьезду былі разгледжаны толькі два рабочыя пытаньні Зьезду БНФ „Адраджэньне”: справаздача кіраўніцтва і выбары Старшыні БНФ „Адраджэньне”. Па выніках справаздачы зьезд большасьцю галасоў (137) даў адзнаку працы кіруючых ворганаў „нездавальняюча”.

Старшынёй БНФ „Адраджэньне” большасьцю галасоў быў абраны Зянон Пазьняк. Таемнае галасаваньне праходзіла на альтэрнатыўнай аснове: за Зянона Пазьняка пададзена 156 галасоў, за Вінцука Вячорку – 152 галасы. Пратакол падліковай камісіі быў зацьверджаны 232 дэлегатамі VI-га Зьезду БНФ „Адраджэньне”.

Час быў вычарпаны, і прышлося абвясьціць перапынак у правядзеньні Зьезду БНФ „Адраджэньне”.

Зьезд Партыі БНФ ня быў адчынены нават фармальна. Такім чынам сп. Л. Баршчэўскі парушыў рашэньне Сойму Партыі БНФ ад 19 чэрвеня 1999 года. Гэта было зроблена таму, што група сп.В. Вячоркі адчула, што значная большасьць ***дэлегатаў Зьезду Партыі БНФ*** (вылучаных ў адпаведнасьці з вызначанымі квотамі, 208 дэлегатаў) прытрымліваецца пазыцыі Старшыні БНФ „Адраджэньне” З. Пазьняка.

У сувязі з грубымі парушэньнямі Старшыня БНФ „Адраджэньне” распараджэньнем №2 ад 23 жніўня 1999 года адхіліў сп. Л. Баршчэўскага ад выкананьня абавязкаў старшыні на Беларусі і даручыў выконваць гэтыя абавязкі намесьніку старшыні сп. Ю. Беленькаму.

Другая сэсія Зьезду БНФ „Адраджэньне” адбылася 30 кастрычніка гг. Рэгістрацыю дэлегатаў, якія прыбылі на 2-ю сэсію Зьезду БНФ „Адраджэньне”, праводзіла Мандатная камісія паводле свайго рашэньня ад 23 кастрычніка 1999 г. Рэгістрацыя і выдача мандатаў новага ўзору адбывалася па сьпісах дэлегатаў, якія атрымалі мандаты падчас 1-й сэсіі. Згодна дакладу Мандатнай камісіі, на другую сэсію Зьезду прыбыло 264 дэлегаты. У адпаведнасьці з гэтым ажыцьцяўляўся допуск дэлегатаў у залю паседжаньняў.

Частка дэлегатаў, якая не прызнала абраньне Зянона Пазьняка Старшынёй БНФ „Адраджэньне”, пасьля паведамленьня мандатнай камісіі пра вынікі рэгістрацыі дэманстратыўна пакінула залю. Сыходам дэлегатаў кіравалі сп. Сп. Л. Баршчэўскі, В. Вячорка, С. Гусак, Ю. Хадыка.

З-за неканструктыўных паводзінаў часткі дэлегатаў разгляд пытаньняў парадку дня 2-й сэсіі пачаўся са спазьненьнем на дзьве гадзіны.

Падчас працы 2-й сэсіі зьезду дэлегаты па прапанове Зянона Пазьняка абралі намесьнікамі старшыні БНФ „Адраджэньне” сп. Сп. Міколу Анцыповіча, Юры Беленькага і Ўладзімера Старчанку, а таксама сфармавалі Сойм і абралі сяброў Рэвізійнай камісіі. Праца Зьезду БНФ „Адраджэньне” завершылася а 19-й гадзіне 30-га кастрычніка г. г.

Увечары 30 кастрычніка, пасьля завершаньня працы VI-га Зьезду БНФ „Адраджэньне”, апанэнты Зянона Пазьняка правялі свой альтэрнатыўны сход. Была праведзена новая рэгістрацыя, у якасьці дэлегатаў рэгістраваліся ўсе жадаючыя, без наяўнасьці пратаколаў; сярод дэлегатаў было шмат асобаў, за якімі не было ніякіх арганізацыяў, яны прадстаўлялі толькі самых сябе. Былі абраныя новыя ворганы: сакратарыят, мандатная і падліковая камісіі. Праз недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі было заяўлена, што гэты сход трэба лічыць VI-м Зьездам БНФ „Адраджэньне”.

На альтэрнатыўным сходзе ў бюлетэнь для таемнага галасаваньня па выбарах старшыні была ўнесена кандыдатура Зянона Пазьняка, а ў бюлетэнь па выбарах намесьнікаў старшыні – кандыдатура Юры Беленькага, якія на гэта не давалі сваёй згоды.

Удзельнікі альтэрнатыўнага сходу прынялі адмысловую пастанову, у якой аб’явілі аб сваім манапольным праве прадстаўляць Партыю БНФ і Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне” і карыстацца яго сымваламі.

Сойм БНФ „Адраджэньне” павеамляе, што такія заявы групы асобаў не адпавядаюць статутным палажэньням БНФ „Адраджэньне” і ня могуць мець аніякіх юрыдычных наступстваў.

***Управа Сойму БНФ „Адраджэньне”***

*20 лістапада 1999 г., Менск*

# ЗВАРОТ ДА ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЯЎ КРАІНАЎ ЗАХАДУ

Праімпэрскі рэжым Ельцына і дыктатарскі прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі зьбіраюцца падпісаць дамову аб стварэньні „саюзнай” дзяржавы Расеі і Беларусі. Дата падпісаньня перанесена з 26 лістапада 1999 г. на першую палову сьнежня 1999 г. Гэта зроблена для таго, каб падпісаньне дамовы адбылося ў пэрыяд палітычнага зацішша ў краінах Захаду, калі ў гэтых краінах будуць рыхтавацца да Нараджэньня Хрыстовага і пачнуцца парляманцкія канікулы.

Гэтая дамова ёсьць мэханізм ашуканства беларускага народа, прыкрыцьцё ўнутранай акупацыі Беларусі, паколькі абодва бакі ўяўляюць

сабой структуры адной і той жа савецкай кагэбісцкай сістэмы, якая не разбурылася з распадам СССР. Гэтак жа, як Лукашэнка зьяўляецца стаўленікам кагэбісцкіх структураў, якія ўпершыню за постсавецкі час зь яго абраньнем у 1994 г. прышлі да ўлады ў Беларусі, так і расейская ўлада пасьлядоўна ператвараецца ў кагэбісцкі імпэрскі рэжым. Уважлівы назіральнік без асаблівых цяжкасьцяў заўважыць, што выключна ўсе расейскія ўнутраныя структуры сёньня кіруюцца альбо падкантрольныя сістэме былога савецкага КГБ.

Дзеяньні па рэалізацыі расейскіх імпэрскіх плянаў стварылі жорсткую канфліктную сытуацыю ў Беларусі.

Рэжым Лукашэнкі ня ёсьць беларуская ўлада.

Уладу ў Беларусі прадстаўляюць расейцы, накіраваныя ў Беларусь Масквой (такія, як міністар замежных справаў палкоўнік КГБ **Латыпаў**, намесьнік прэм’ера палкоўнік **Замяталін**, міністар унутраных справаў генерал **Сівакоў**, намесьнік кіраўніка КГБ **Ерын**, міністар эканомікі **Шымаў** ды інш.) і верныя людзі каляніяльнага прамаскоўскага рэжыму (такія, як **Лукашэнка**, **Мясьнікович**, **Шэйман**, **Даўгалёў**, **Лінг**, **Малафееў** ды іншыя).

Сацыяльным апірышчам для іхнай разбуральнай дзейнасьці служыць агрэсіўны савецкі электарат, прадстаўлены ў асноўным у буйных гарадах Беларусі. Гэта: расейскае афіцэрства ў беларускім войску і іншых сілавых структурах, пэнсіянеры савецкай арміі і спэцслужбаў, адстаўныя чыноўнікі сталінска-брэжнеўскай загартоўкі. Шмат асела ў Беларусі і ўладкавалася на пасадах у дзяржаўных ворганах і дзяржаўных прадпрыемствах адстаўнікоў расфармаваных вайсковых частак і спэцслужбаў (у тым ліку расфармаваных пры выводзе з краінаў Цэнтральнай Эўропы падчас распаду сацлягеру і СССР). Асобную частку (асабліва на вёсцы) прадстаўляюць людзі зь невысокім сацыяльным статусам, адукацыяй і даходам, якія знаходзяцца пад аднабокім інфармацыйным уплывам манапольнай афіцыйнай прапаганды і зьяўляюцца часовай электаральнай апорай антынароднага рэжыму.

Ім супрацьстаяць сілы нацыянальна-вызвольнага руху, якія складаюцца з актыўнай дэмакратычнай часткі грамадзтва, патрыётаў Беларусі, грамадзянаў, якія не прымаюць камуна-фашыстоўскай ідэалёгіі ды імпэрскіх замахаў Расеі.

Беларусы не зьбіраюцца спакойна глядзець, як, паводле новага пакту будзе зьнішчацца нашая краіна; яны гатовыя змагацца за незалежнасьць і свабоду, калі спатрэбіцца, то і са зброяй у руках. На гэтым баку мільёны грамадзянаў. Яны добра разумеюць, што рыхтуецца анэксія і зьнішчэньне дзяржаўнасьці Беларусі, акупацыя і захоп беларускай тэрыторыі.

Нацыянальна-вызвольныя сілы прыкладаюць намаганьні, каб мірным шляхам зьмяніць нелегітымны, прамаскоўскі, дыктатарскі рэжым Лукашэнкі на беларускую дэмакратычную ўладу. Гэта вырашыцца ў тым выпадку, калі ў справы Беларусі ня будзе ўмяшальніцтва з боку Расеі. Нельга дапусьціць, каб быў падпісаны і прыведзены ў дзеяньне цалкам незаконны і немагчымы дагавор аб стварэньні так званай „саюзнай” дзяржавы Расеі і Беларусі.

Шкада, але даводзіцца канстатаваць, што ўрады краінаў Захаду занялі ў цэлым пасіўную пазыцыю ў адносінах да плянаў зьнішчэньня беларускай дзяржавы Расеяй. Пасіўнасьць прыкрываецца заявамі аб „унутраных справах у дачыненьнях паміж дзьвума дзяржавамі”. Такую пазыцыю заняла АБСЭ, кіраўніцтва якой нібыта ня ведае аб нелегітымным характары рэжыму Лукашэнкі.

*Мы зьвяртаемся да палітычных партыяў дэмакратычнай і кансэрватыўна-хрысьціянскай арыентацыі, да ўсіх партыяў краінаў НАТО, Заходняй і Цэнтральнай Эўропы, Балтыі, якія разумеюць небясьпеку для Эўропы з боку рэваншысцкіх, камуна-кагэбісцкіх колаў Расеі, і просім аказаць уплыў на парляманты і ўрады сваіх краінаў з мэтай правядзеньня рашучых захадаў дзеля спыненьня імпэрскай, захопніцкай палітыкі Расеі. У Захада ёсьць усе магчымасьці ацэньваць Расею не па словах і дэклярацыях, а па справах, і зразумець, што Расея ня ёсьць вялікая дзяржава, што ўтрыманьне яе задорага каштуе, а той факт, што яна мае атамныя ракеты, зусім не азначае, што ёй трэба даваць эканамічныя і геапалітычныя прывілеі.* Сёньняшняя Расея вяртаецца назад да пэрыяду імпэрскага думаньня. Нельга дапусьціць аднаўленьня ваеннай расейскай імпэрыі на ўсходзе і зьяўленьне зноў на мапе сьвету агрэсіўнай краіны. Занадта вялікую цану можа заплаціць Эўропа за ўступкі нафта-газавым лобі, за розныя сепаратныя дамоўленасьці з Расеяй па падзелу зонаў уплыву. Ёсьць час і магчымасьць спыніць апетыты Расеі і не дапусьціць перарастаньня канфлікту ў пажар вайны, які паглыне рэсурсы краінаў Захаду і краінаў-суседзяў Беларусі ў значна большым памеры, чым ў Югаславіі і Чачэніі.

***Прынята кіраўніцтвам Партыі Беларускага Народнага Фронту***

***Старшыня Партыі БНФ Зянон ПАЗЬНЯК***
***Сакратар Управы Партыі БНФ Анатоль КРЫВАРОТ***

*29 лістапада 1999г.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 1999, № 6(23).*

# ВЫСТУП НА СЬНЕЖАНЬСКІМ СОЙМЕ ПАРТЫІ БНФ

…Хацеў бы выказаць свае меркаваньні па асобных пытаньнях і зрабіць прапановы.

Сытуацыя на Ўсходзе.

Становішча згоршала. У *Расеі шырока і адкрыта фармуецца гэбоўская ўлада фашыстоўскага кшталту*, сацыяльнай базай якога зьяўляюцца спэцслужбы, армія, ваена-прамысловы комплекс, камуністычная намэнклятура і масы сьпітага, азлобленага, даведзенага да жабрацтва расейскага абывацеля. За ўсё, што робіцца цяпер у Расеі, расейскае імпэрскае грамадзтва нясе калектыўную адказнасьць.

Уладу ў Расеі (пасьля выбараў у Думу) ужо практычна поўнасьцю захапілі функцыянеры і агентура КГБ-ФСБ (фармальна – акрамя пасады прэзыдэнта, якая будзе захоплена пазьней). *У Расеі фармуецца агрэсіўны, вельмі жорсткі і крымінальны від фашызму (я б назваў яго «кагэбізмам» па галоўнай палітычнай сіле і яе сацыяльнай псіхалогіі), для якога чалавечае жыцьцё ня мае ніякага значэньня.* Ва ўнутранай палітыцы павялічваецца жорсткі дзяржаўны тэрор, які будзе рабіцца крымінальным мэтадам праз спэцыяльныя структуры альбо праз войска (як у Чачэніі). У замежнай палітыцы – гэта агрэсіўны імпэрыялізм, захоп і далучэньне да Расеі чужых тэрыторыяў.

Прыкметы гэтай палітыкі, якая ўвесь час узмацняецца, мы назіраем з 1992 году. З таго часу, калі КГБ у Расеі пачаў уключацца ў непасрэдную палітычную дзейнасьць, у эканамічныя дачыненьні і рабіцца палітычнай сілай улады.

Выразным прыкладам агрэсіўнай палітыкі рускага „кагэбізму” зьяўляецца яго вайна у Чачэніі, поўнае разбурэньне Чачэнскай краіны і нішчэньне чачэнскага народа.

Мы павінны выразна ўсьведамляць сувязь, якая існуе паміж расейскай каланіяльнай агрэсіяй у Чачэніі і расейскай палітычнай агрэсіяй

у Беларусі, і разумець, што цяпер лёс Беларусі ў значнай ступені вырашаецца ў Чачэніі. Чачэнцы, бароначы сваю незалежнасьць, свабоду і існаваньне, змагаюцца і гінуць таксама і за нас.

Мы павінны добра разумець, што пры абвастрэньні становішча і ўмацаваньні *рускай* агрэсіі, Захад прадасьць Беларусь гэтак жа, як прадаў Чачэнію, разам з усёй сваёй дэмагогіяй пра правы чалавека (якія аказваюцца не для ўсіх роўныя). Фактычна – нас ужо прадаюць. Гэта здарыцца канчаткова, калі мы будзем бязьдзейнічаць.

Калі мы, беларусы, не пераменім сытуацыю, то мы рызыкуем рэальна страціць незалежнасьць і дзяржаву. Цяпер, у вельмі цяжкіх умовах мы павінны знайсьці сілы і спосабы прадоўжыць тую неабходную працу, што гадамі гробілі ў Фронце некаторыя мае няшчырыя паплечнікі. Нагадаю, што гэтая праца заключаецца ў стварэньні двоеўладдзя, альтэрнатыўных структураў улады, мабілізацыі нацыянальна-вызвольных сілаў грамадзтва і ліквідацыі дыктатуры.

Першай агульнанацыянальнай ініцыятывай, якую я прапаную абмеркаваць і распачаць не адкладаючы – гэта пэрманэнтная акцыя „Беларуская салідарнасьць”. Гэта мусіць быць вельмі шырокая акцыя, заснаваная на станоўчых ідэалах. Гэта дэманстрацыя салідарнасьці на грунце нацыянальных каштоўнасьцяў: Беларускай дзяржавы, беларускай мовы, беларускай культуры і беларускай незалежнасьці.

Гэта дэманстрацыя беларускай салідарнасьці перад пагрозай расейскай акупацыі. Мы павінны сказаць:

„Беларусы, яднайцеся!”

«Беларусы, дапамагайце сабе!»

«Беларусь – наша зямля!»

Зьмест гэтага клясычнага незалежніцкага лёзунгу азначае тое, што *мы былі, ёсьць і будзем гаспадарамі ў нашым доме, у нашай дзяржаве. Наша зямля – для нас. Мы будуем сваю незалежную дзяржаву. Ніхто ня будзе нам указываць, як жыць, ды намі кіраваць, ды на чужой мове прымушаць гаварыць. Беларусь – для беларусаў. Трэба голасна і высока падняць гэтую праўду і гэтую ідэю перад абліччам расейскай пагрозы.*

Канкрэтна «Беларуская салідарнасьць» павінна выяўляцца ў вялікіх акцыях кшталту мітынгаў і дэманстрацыяў, дзе ўхваляюцца вялікія беларусы і вялікія падзеі беларускай гісторыі і беларускай культуры; дзе паказваюцца, чытаюцца і выконваюцца вялікія творы беларускага мастацтва, дзе гаворыцца пра беларускіх герояў і подзьвігі беларускага духу; дзе прамаўляе не нянавісьць «супраць», а вышэйшая станоўчасьць «за».

Гэта могуць быць сходы ў памяшканьнях і малыя зборкі ў розных месцах, спаборніцтвы і выступы, чытаньні і хэпэнінгі, танцы і шэсьці з паходнямі, наведваньні магілаў герояў, выставы, агульныя сьпевы ды маўчаньні са сьвечкамі, ды пікеты пад лёзунгам народнага яднаньня перад абліччам злавеснай небясьпекі з Расеі. Ня мае значэньня, дзе гэта будзе адбывацца, у якім месцы (у цэнтры ці ня ў цэнтры). Важна – каб усюды, па ўсёй Беларусі.

Паважаныя сябры. З 1997 года, адразу пасьля 5-га Зьезду БНФ, я гавару пра істотную зьмену нашай палітыкі, пра пераключэньне з тупіковых і *ўжо* даведзеных да абсурду шаблонных акцыяў пратэсту да акцыяў нацыянальнай салідарнасьці і станоўчага беларускага ідэалу перад пагрозай расейскай акупацыі (галоўнай тут была ініцыятыва „Грамадзянства БНР”), пра стварэньне двоеўладдзя і альтэрнатыўных структураў улады, замест палітычнага імітатарства.

На жаль, ворагам беларушчыны, разам з маімі былымі паплечнікамі, удалося ўсё гэта змарнаваць і ледзь ні загубіць Беларускае адраджэньне. Цяпер шмат што мы павінны пачаць спачатку.

Мы павінны зыходзіць з таго, што цяпер галоўным пытаньнем у беларускай палітыцы ёсьць пагроза з Расеі, пытаньне, як абараніць нашую незалежнасьць, дзяржаву і не дапусьціць акупацыі Беларусі Расеяй. З гэтага пункту гледжаньня мы мусім падыходзіць і да ліквідацыі рэжыму Лукашэнкі. *Ліквідацыя рэжыму павінна служыць беларускай свабодзе і беларускай незалежнасьці і быць беларускай палітыкай, а ня стаць новым этапам расейскай палітыкі ў акупацыі Беларусі.* (На што схіліліся В.Ганчар, М.Чыгір, Ю.Хадыка і інш. асобы, якія, дзякуй Богу, ад нас адыйшлі.)

Пра «Беларускую салідарнасьць» я ўжо размаўляў у агульных рысах са спадарамі Беленькім і Папковым. Мяркую, мы ня можам больш цягнуць час. Трэба прыступаць да справы адразу, але мэтанакіравана і пасьлядоўна, крок за крокам. У акцыі «Беларуская салідарнасьць» трэба абавязкова аднавіць ініцыятыву „Грамадзянства БНР”, яна павінна стаць часткай дзеяньня «Беларускай салідарнасьці».

Падкрэсьліваю, што *няма цяпер больш важнага пытаньня для беларускай палітыкі, чым пытаньне незалежнасьці Беларусі з-за пагрозы расейскага аншлюсу.* Гэта разумеюць і расейцы. Яны хочуць усё сьцішыць, зрабіць выгляд, што нічога не адбываецца і адцягнуць увагу беларускай грамадзкасьці на розныя пабочныя зьявы. Такой падкінутай палітычнай пустышкай ёсьць, напрыклад, інфармацыя пра зьяўленьне Віньнікавай. Яе банальным шматслоўем, шматзначнымі намёкамі і агульнымі (усім вядомымі) разважаньнямі запоўнена цяпер усё ў так званым «незалежным” (ад Лукашэнкі) друку і эфіры. Беларусь стаіць перад пагрозай згубы, а табун інфарматараў СМІ наперабой абмяркоўвае і рэпрадукуе агентурную распрацоўку. Тым часам мы добра ведаем, што гэта спадарыня – з лукашэнкаўскай групы, якую, па законах згрaі, і загрызлі. І ўсё было праўдападобна, пакуль яна не зьнікла. Астатняе – грубая праца (нават для КГБ).

Хацеў бы таксама спыніцца на прынцыпах фармаваньня Партыі БНФ і прыёму ў Партыю. Тым больш, што ў рамках «Беларускай салідарнасьці» добра было б арганізаваць грамадзка-партыйную канфэрэнцыю ў канцы студзеня на тэму беларускага яднаньня і нацыянальнай ідэі.

Я мяркую, што ў цяперашніх умовах фармаваньне Партыі БНФ павінна быць пасьлядоўна ўпарадкавана. Я гэта абмяркоўваў з сябрамі Партыі, зь якімі меў магчымасьць спатыкацца, са спадаром Беленькім і іншымі калегамі. Прапаную разглядзець і зацьвердзіць на гэтым Сойме прынцып прыёму ў Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю – БНФ, які павінен грунтавацца на наступных палажэньнях:

- □ спаборнік падае заяву ў Партыю, у якой паведамляе аўтабіяграфічныя і анкетныя зьвесткі;
- □ абавязковы тэрмін разгляду заявы ў партыйнай суполцы ці ў кіруючым воргане Партыі – ад трох дзён да трох месяцаў;
- □ пры неабходнасьці спаборніку можа быць прапанавана прадставіць рэкамендацыі ад двух сяброў Партыі, якія знаходзяцца ў Партыі ня менш аднаго году. Пры гэтым разгляд заявы можа быць павялічаны яшчэ на адзін месяц.

Даручыць Управе Партыі БНФ і Арганізацыйна-кадравай камісіі Сойму распрацаваць кароткае палажэньне аб прыёмё ў Партыю на зацьверджаных прынцыпах **і** аб выключэньні з Партыі на аснове Статуту. Улічыць статутнае правіла аб прыёме ў Партыю першаснай суполкай і абгрунтаваць выпадкі прыёму ў Партыю непасрэдна Ўправай Партыі БНФ.

*Зычу вам усім здароўя і сілы духу.*

*Жыве Беларусь!*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***Старшыня Партыі БНФ і БНФ „Адраджэньне”***

*26 сьнежня 1999 г.*

# 2000




**70-Д.** ***Сябры КХП–БНФ на месцы расстрэлаў беларусаў у Лошыцы.***

# ПРА БЕЛАРУСКУЮ САЛІДАРНАСЬЦЬ

***(Зварот да нацыянальных супольнасьцяў Беларусі)***

Сутнасьць акцыі ***„Беларуская Салідарнасьць”*** – станоўчы ідэал, мабілізацыя грамадзтва на абарону беларускіх каштоўнасьцяў: дзяржавы, мовы, культуры і незалежнасьці.

Сёньня, як ніколі за апошнія 10 гадоў, для грамадзянаў Беларусі стала зразумелай каштоўнасьць незалежнай дзяржавы. Гэта дзякуючы рашучым дзеяньням фракцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, усіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў Беларусі, з 1992 года грамадзяне Беларусі ня ўдзельнічаюць і ня гінуць у так званых „гарачых кропках”, якія ўвесь час параджаюць расейскія палітыкі і генэралы.

Але сёньня зноў навісла рэальная пагроза над грамадзянамі Беларусі.

Апошняя крамлёўская змова Ельцына і Лукашэнкі (8 сьнежня 1999 г.) адкрыла дарогу да захопу Беларусі расейскай імпэрыяй. Адбылася пасьпешная ратыфікацыя Дзярждумай РФ (13 сьнежня 1999 г.) і лукашэнкаўскай „палатай” у Беларусі (14 сьнежня 1999 г.) пакту „Ельцына-Лукашэнкі” пра стварэньне так званай „саюзнай” дзяржавы Беларусі і Расеі, а таксама абмен „ратыфікацыйнымі граматамі” (26 студзеня 2000 г.). Змоўшчыкі імкнуцца надаць пакту статус міжнароднага права ў сувязі з чым Лукашэнка заявіў, што гэтая дамова цяпер мае сілу закона.

Такім антыканстытуцыйным механізмам, фактычна, дзьве расейскія групоўкі, адна ў Маскве, другая ў Менску (нельга рэжым Лукашэнкі, у якім ключавыя пасады займаюць агенты расейскіх спэцслужбаў, назваць беларускім урадам), імкнуцца ашукаць і зьняволіць беларускі народ, зьліквідаваць Беларускую дзяржаву. Для гэтага вядзецца інтэнсіўнае разбурэньне беларускай эканомікі, падаўленьне дзелавой актыўнасьці беларускага бізнэсу, навукі, зьнішчэньне беларускай мовы, культуры і школы. Людзей трымаюць пад пастаянным страхам згубіць нават тыя мізэрныя крыніцы існаваньня, якія яшчэ засталіся.

***Акцыя „Беларуская Салідарнасьць” – гэта змаганьне з падняўшай галаву ідэалёгіяй камунізму і яе пачварным параджэньнем „кагэбізмам”***, які адраджае вайну, нянавісьць да чалавека, шавінізм, імпэрскую палітыку пад прыкрыцьцём псэўдаідэяў „славянскага адзінства” і „аднаўленьня вялікай Расеі”.

Акцыя „Беларуская Салідарнасьць” накіравана на інфармаваньне грамадзянаў Беларусі адносна плянаў рэваншысцкіх камуністычна-імпэрскіх сілаў, супраць інфармацыйнай вайны, якую вядуць расейскія і лукашэнкаўскія СМІ.

Беларусь, грамадзяне Беларусі не павінны стаць матэрыялам для ўзмацненьня новай камуна-кагэбісцкай імпэрыі. Яна нясе небясьпеку для жыцьця народаў, якія зусім нядаўна вызваліліся ад камуністычнага зла, а таксама ў цэлым для эўрапейскай цывілізацыі.

На беларускай зямлі спрадвек жылі людзі рознага этнічнага паходжаньня, рэлігійнай прыналежнасьці, традыцыі і культуры. Нават у самыя трагічныя часы эўрапейскай гісторыі (падчас рэлігійных войнаў, палітычных катаклізмаў, перасьледу іншадумцаў) у Беларусі захоўвалася міжнацыянальная і міжканфэсійная згода, не было сур’ёзных міжэтнічных канфліктаў. Наадварот, на працягу стагоддзяў у Беларусі знаходзілі прытулак, а потым і новую радзіму тыя, каго перасьледвалі і пагражалі зьнішчэньнем дэспатычныя ўлады і фанатызаваныя грамадзтвы іншых краінаў. Дастаткова ўзгадаць расейскіх стараconveraў, габрэяў і езуітаў з Заходняй Эўропы. Нацыянальныя супольнасьці ня толькі выратоўвалі сабе жыцьцё і атрымлівалі гарантыі дастатковага існаваньня, але й актыўна разьвівалі сваю культуру, захоўвалі традыцыі, больш таго, узбагачалі беларускую культуру. Рашаючым фактарам у гістарычнай зьяве міжэтнічнага міру заўсёды была традыцыя талерантнасьці і павагі да іншых з боку беларусаў – карэннай нацыі краіны.

Мы зьвяртаемся да ўсіх грамадзянаў Беларусі, у тым ліку да нацыянальных супольнасьцяў: польскай, украінскай, габрэйскай, татарскай, рускай, летувісцкай, – усіх, якія існуюць у Беларусі, падтрымаць акцыю „Беларуская Салідарнасьць”, стаць на абарону нашай агульнай Радзімы.

Кожны з нас мае магчымасьць даступным яму спосабам прыняць удзел у вырашэньні нашай агульнай задачы.

***Народ заўсёды мацнейшы за любы рэжым!***

Разам мы пераможам!

Жыве незалежная Беларусь!

***Старшыня Партыі БНФ З. Пазьняк***
***Адказны сакратар Управы Сойму Партыі БНФ***
***А. Крыварот***

*Прынята Ўправай Сойму Партыі БНФ 7 лютага 2000 г.*

# ХРОНІКА 25-ГА САКАВІКА

## ПРЭС-РЭЛІЗ

***(Вытрымкі)***

***Дзень Волі 25 Сакавіка 2000 года*** патрыёты Беларусі адзначылі ўрачыстымі мерапрыемствамі, мітынгамі і шэсьцямі па ўсёй краіне. *Беларусаў аб’яднала радаснае сьвята 82-х угодкаў абвяшчэньня* ***Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі****.* Антыбеларускі, антыдзяржаўны рэжым адрэагаваў на патрыятычныя мірныя выступы грамадзянаў нянавісьцю і гвалтам.

У Менску людзі сабраліся на плошчы Якуба Коласа, каб адзначыць нацыянальнае сьвята. Рэжым мабілізаваў супраць грамадзянаў тысячы ўзброеных міліцыянтаў і вайскоўцаў з сабакамі і бронемашынамі. Паслугачы рэжыму напалі на мірных людзей і правялі масавыя арышты. Сотні людзей былі інтэрнаваныя на тэрыторыі вайсковых частак і РАУС.

Сярод іншых толькі на плошчы Якуба Коласа былі арыштаваныя больш за 50 сябраў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Быў жорстка зьбіты амапаўцамі Выконваючы абавязкі старшыні нашай Партыі ***Юры Беленькі***. Сп. Беленькі, а таксама іншыя дзеячы Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ: сакратар Управы ***Алесь Чахольскі***, кіраўнікі раённых Радаў г. Менска ***Алесь Пагарцаў***, ***Міхаіл Новік*** і сябры Партыі ***Зьміцер Гуніч***, ***Анатоль Патаповіч***, ***Анатоль Рабкавец –*** дагэтуль знаходзяцца за кратамі (сьпіс гэты няпоўны, бо рэпрэсіўныя органы не даюць зьвестак аб затрыманых). Над нашымі сябрамі рыхтуецца судовая расправа.

Стала вядома, што **Пуцін і Лукашэнка сумесна кіравалі рэпрэсіямі ў Менску**. Расейскі акупацыйны рэжым і ягоныя мясцовыя сатрапы імкнуліся не дапусьціць да антыімпэрскіх, антымаскоўскіх выступаў напярэдадні выбараў у Расеі.

Выратаваць нашу дзяржаву можа толькі ***Беларуская Салідарнасьць***. *Абаронім незалежнасьць Беларусі!*

***Прэс-служба Беларускага Народнага Фронту і***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*25, 26 сакавіка 2000 г.*

## САКАВІК 2000

***На Дзень Незалежнасьці Беларусі***, у цэнтар Менска была сьцягнутая велізарная колькасьць міліцыі. Упершыню міліцыя скарыстала агрэсіўных сабак. Карэспандэнты налічылі ў цэнтры 7 бронетранспарцёраў (браневікоў у горадзе было пару дзясяткаў), навідавоку стаялі вадзяныя гарматы. Уздоўж вуліц Якуба Коласа і Чырвонай расьцягнуліся вайсковыя ў шаломах з дубінкамі і рацыямі. За паўгадзіны да пачатку акцыі ў раёне пляцу пачаўся масавы хапун тых, хто быў на плошчы. Практычна, схапілі ўсіх журналістаў (усяго каля 40 асобаў) і адвезьлі пад арышт у 1-ю вайсковую частку ўнутраных войскаў. Праз 2 гадзіны (пасьля таго, як усіх людзей на плошчы пахапалі) журналістаў выпусьцілі.

*25 Сакавіка* ў перапоўненую спартыўную залю вайсковай часткі па вул. Маякоўскага *зьвезьлі больш за **200 затрыманых***. Людзі селі ў кола і пачалі сьпяваць песьні („Пагоня" і інш.). Вайскоўцы і міліцыянты, каб заглушыць іх сьпеў, уключылі гучна на дынамік нейкую рускую песьню. Гэта толькі больш узрушыла людзей, і тады засьпявала ўся заля.

*Там былі і моладзь, і старэйшыя людзі, і жанчыны, дзяўчаты, і хлопцы, там апынуліся і актывісты з польскай „Лігі Рэспубліканскай", разам з дэпутатам Сэйму Польшчы* ***Марыюшам Каміньскім***. Яны былі вельмі ўзрушаныя, калі пачулі агульны сьпеў, і таксама спрабавалі дапамагаць сьпяваць песьні.

Ужо даволі позна былі адпушчаныя польскія грамадзяне, а рэшта тых людзей, якія ня мелі з сабой дакумантаў (каля 25 чалавек), заставаліся. Ім сказалі: „Чаго вы тут знаходзіцеся? Ідзіце, калі ласка, вы свабодныя." У момант, калі яны пачалі выходзіць са спартовай залі, на іх накінулася нейкае вайсковае падразьдзяленьне і пачало зьбіваць.

***Усяго на Дзень Незалежнасьці ў Менску схапілі больш за 500 чалавек, у тым ліку – замежных прадстаўнікоў і дэпутатаў Сэйму Польшчы.***

***Арыштавалі ўсё кіраўніцтва Партыі Беларускага Народнага Фронту (Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***, якія, нягледзячы на браневікі і войскі на вуліцах, імкнуліся наладзіць маніфэстацыю ў цэнтры Менска.

– Некалі ж былі мы хоць крыху нейкія свабодныя, – сказала адна пажылая жанчына, – а цяпер што скажаце, калі кругом „АМОН"!

Рэпрэсіі супраць мірных дэманстрантаў у Дзень Волі шакавалі ўвесь сьвет.

***ВАСІЛЬ БЫКАЎ***: „Мне думаецца, што тыя падзеі, якія адбыліся ў Менску 25 Сакавіка, вельмі паказальныя. Найперш у тым сэнсе, што палітыка рэжыму ніколькі не мяняецца. Ён будзе няўхільна доўжыць сваю палітыку і далей, асабліва цяпер, у атмасфэры таго, што адбываецца ў Расеі пасьля перамогі пэўных расейскіх сіл."

Арганізацыя *„Міжнародная амністыя"* абвесьціла напярэдадні, што будзе лічыць усіх затрыманых за мірнае выказваньне пратэсту *вязьнямі сумленьня*.

Адмысловы дакладчык парляманцкай Асамблеі Рады Эўропы ў справах Беларусі ***ВОЛЬФГАН БЭРЭНТ***: „Пасьля сёняшніх падзеяў я ня веру, што могуць быць свабодныя выбары".

Кіраўнік сэктару Беларусі ў Дзяржпэпартаманце ЗША ***ДЖОН АРМСТРОНГ*** напярэдадні дэманстрацыі заявіў: „За любы гвалт адказны рэжым. Калі ён нават ня можа дазволіць мірнага шэсьця, то ня можа быць і гаворкі пра свабодныя выбары."

## АПАВЯДАНЬНІ ВІДАВОЧЦАЎ

***ВАЛЕР КАЛІНОЎСКІ***: „ Менск выглядае як акупаваны горад, пл. Якуба Коласа ачэпленая з усіх бакоў АМАПам і ўнутранымі войскамі, а ўздоўж праспэкта Скарыны (ад *пл. Якуба Коласа* да *пл. Незалежнасьці*) цягнуцца 2 ланцугі вайскоўцаў унутраных войскаў. Яны экіпіраваныя гумавымі палкамі і супрацьгазамі. Міліцыя з сабакамі без намордынікаў. У небе лётаюць шрубалёты.

На плошчы *Якуба Коласа* а 12[15] я ня бачу ніводнага цывільнага чалавека. Толькі міліцыянты з сабакамі. Тут жа на плошчы прыпаркаваныя некалькі машынаў хуткай дапамогі, пажарныя машыны і спэцыяльныя, з гукаўзмацняльнікамі. Усе падземныя пераходы перакрытыя, людзям не было магчымасьці сканцэнтравацца, таму яны сабраліся на прыпынках транспарту.

Ужо на гэты момант пачалі некаторых хапаць. Насупраць (у бок Камароўкі) было некалькі боек і адыйшла машына з затрыманымі. Усюды блішчаць каскі *спэцназу*."

**ЛЯВОН ДЗЕЙКА**: „З боку Ўручча ў Менск ішло прыблізна *50 машын з унутранымі войскамі і 7 бронетранспарцёраў*. Я прайшоў уздоўж па праспэкце за паўтары гадзіны да пачатку акцыі. *20 бронетранспарцёраў* з міліцэйскімі адзнакамі я бачыў на плошчы Якуба Коласа, *чатыры* – на плошчы Перамогі і *адзін* – на Кастрычніцкай плошчы."

**ВАЛЯНЦІНА МАРОЗ**: „ Мы былі сьведкамі таго, як міліцыя, заламаўшы рукі, уцягнула ў аўтобус і павезла ў невядомым накірунку ўсё кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ (***А. Чахольскага***, ***А. Крыварота***, ***Ю. Беленькага***, якога зьбілі да непрытомнасьці). Арыштавалі на нашых вачах кіраўніцтва і сябраў радаў Менска нашае партыі, спадароў ***Новіка***, ***Пагарцава*** і іншых.

Вельмі шмат арыштавалі моладзі (тых, якія выглядалі маладзейшыя за 16 гадоў). Відаць, каб запалохаць іншых і выклікаць адчуваньне страху. Паводзілі сябе па-бандыцку. Практычна, ад вакзалу аж да канца праспэкту ў два рады былі выстаўленыя амапаўцы."

**ВЯЧАСЛАЎ РАКІЦКІ**: „На плошчы Якуба Коласа білі журналістаў. З-за маёй сьпіны выскачыў лейтэнант і ўдарыў палкай па камэры тэлеапэратара. Затым выскачыў другі амапавец і пачалі заламваць рукі апэратару, пашкодзілі яго камэру. Людзі спрабавалі адбіць журналіста.

Плошча нагадвае горад у асадным стане. Ніколі нічога падобнага я ня бачыў. Увесь час у натоўп людзей укліньваюцца групы міліцыянтаў па 10-15 чалавек. Усе ў касках. Страшнае відовішча.

Перабежкамі перамяшчаецца міліцыя з аўчаркамі без намордынікаў. У прахожых здаюць нэрвы. Узьнікаюць вельмі ярасныя спрэчкі паміж людзьмі і міліцыянтамі.

Я быў сьведкам, калі людзі ў падземным пераходзе, дзе блякаваныя ўсе выйсьці, крычаць АМАПу: „Зараз зробіце „Нямігу"! Пускайце!" А яны па-расейску ў адказ: „Так і зьдзелаем, будзет вам „Неміга!"

Бачыў такую карціну, калі пажылая жанчына падышла да вайскавіка, зусім зялёнага, і крычыць яму: „Здымай форму, гэта сорамна!" Дык у яго пацяклі сьлёзы."

**ВІТАЛЬ ЦЫГАНКОЎ**: „Падчас „зачысткі" быў схоплены афіцыйны прадстаўнік АБСЭ ***Крыстофер Паніка***. У машыне ён прад'явіў пасьведчаньне аб недатыкальнасьці. Яму адказалі, што ў яго была недатыкальнасьць, пакуль ён ня быў затрыманы. Яго прывезьлі на базу ўнутраных войскаў па вул. Маякоўскага. Дыплямата прымусілі стаяць тварам да сьцяны, побач з іншымі затрыманымі."

**ВАЛЕР КАЛІНОЎСКІ**: „Я быў вызвалены адным з апошніх, разам з польскімі сябрамі. Запісалі нашыя прозьвішчы, сфатрагафавалі. Потым нас пасадзілі ў „крумкач", натахцілі, як селядцоў. Мы ня ведалі, куды нас вязуць. Адвезьлі далёка за горад і выкінулі ў нейкія кар'еры. Потым ***Анатоль Крыварот*** сказаў, што гэта *Лошыца*. Сюды ў 1937-м годзе НКВД звозіла свае ахвяры на расстрэл."

**МАРЫЮШ КАМІНЬСКІ** *(дэпутат Сэйму Польшчы)*: „Гэты чалавек (Лукашэнка) дэманструе, што ня ёсьць беларусам. Гэта палітык постсавецкі, але не беларускі.



**73-Д.** ***(Фота). Юры Беленькі выступае на дэманстрацыі КХП–БНФ у Менску.***

Міліцыянты, якія затрымалі нас, ведалі, што я дэпутат польскага Сэйму, маю дыпляматычны пашпарт."

## № 101

***Сьведчыць Левакоў Леанід Хведаравіч***
*(1945 г. нараджэньня, інжэнер-будаўнік. Вытрымкі зь ліста)*

*Менск. 25 Сакавіка 2000 г. Дзень Незалежнасьці.* У момант затрыманьня я размаўляў з двума знаёмымі на ходніку каля крамы „Дамавы". Маіх субяседнікаў не затрымалі. Усіх схопленых павялі ў аўтобус, у якім знаходзілася некалькі амапаўцаў. Яны з крыкам і нецэнзурнай лаянкай прымушалі ўсіх стаць на калені ў праходзе аўтобуса, нахіліць галаву і закласьці рукі за галаву.

Сярод затрыманых была маладая сямейная пара, якая ішла ў краму. Калі іх затрымлівалі, я бачыў, як іх дубінкамі зьбівалі амапаўцы. Жанчына сядзела на падлозе, плакала і была ў шоку. Побач зь ёй на падлозе ляжаў мужчына каля 50 гадоў, амаль нежывы. У салоне аўтобуса нейкі чалавек увесь час падымаў галаву, за гэта амапаўцы білі яго дубінай і суправаджалі зьбіваньне нецэнзурнай лаянкай.

Нас прывезьлі на базу АМАПу па вуліцы Маякоўскага, загадалі ўсім выйсьці з аўтобуса і стаць тварам да сьцяны, рукі – за галаву... Адзін мужчына паказаў дыпляматычныя дакументы; амапаўцы не рэагавалі... Частку людзей абшукалі... Чалавек з дзьвесьце размясьцілі ў спортзалі... Пасьля перапісу, усіх пэрсанальна зьнялі на відэакамэру. Пад №99 – беларускі пісьменнік, пад №100 – яго дачка, №101 – я."

## СЬВЕДЧАНЬНЕ АЛЯКСЕЯ БАЛАШОВА

Я, Аляксей Балашоў, адзін з тых, хто воляю лёсу й паводле асабістых перакананьняў 25 Сакавіка 2000 г., у Дзень нашае Волі й Незалежнасьці, апынуліся на плошчы Якуба Коласа... Узброеныя гумовымі дубінкамі міліцыянты хапалі й жорстка зьбівалі людзей на вуліцы. Жанчын, старых, непаўнагадовых валілі з ног і цягнулі ў машыны, не зважаючы на енк, плач, крыкі затрыманых і абурэньні прахожых. Асабліва жорстка абыходзіліся з моладзьдзю. Маладых людзей выхоплівалі з натоўпу, выкручвалі ім рукі, білі па галаве і нырках. І гэта пры тым, што людзі паводзілі сябе спакойна і прыстойна, з павагаю ставячыся адзін да аднаго і да „ахоўнікаў парадку". Нават маніфэстацыі яшчэ не пачалося. Ніводнага плякату альбо сьцягу я ня бачыў... Людзей зьбівалі й затрымоўвалі ні за што.

Мяне затрымалі на вул. Якуба Коласа каля ўваходу ў мэтро. Ззаду схапілі за каўнер і рукавы і, як бандыты, нічога не тлумачачы і не пытаючыся, пацягнулі ў машыну. Я крычаў, каб мяне адпусьцілі. Мне груба адказвалі: „Давай, ідзі!", „Уперод!"

Са мной у машыну пасадзілі яшчэ двух чалавек: дарослага мужчыну і хлопца, гадоў 16-17. Хлопец спытаў, чаму яго затрымалі. Міліцыянт адказаў яму, што той п'яны, і ўдарыў яго ў твар...

Сёньня ў Латвіі судзяць нават васьмідзесяцігадовых катаў. Ніхто не схаваецца ад пакараньня і ў Беларусі. Садыстаў, што б'юць па галовах нашу моладзь, ня будзе ў праваахоўных ворганах. Яны будуць сядзець за кратамі. Беларускае войска і паліцыя будуць ахоўваць правы беларусаў, беларускае нацыі. Яны будуць абараняць беларускі парадак.

## КАК „НАШЫ" ПРОУЧЫЛІ БЕЛОРУСОВ*

Падчас „зачысткі" на плошчы Якуба Коласа дзейнічалі вайскоўцы з брыгады ўнутраных войскаў.Яны хапалі ўсіх, хто трапляў ім на вочы. Зьбівалі гумовымі палкамі жыхароў Менску, якія выходзілі з крамаў.

* Як „нашыя" паказалі беларусам – *(з рус.)*

Адна жанчына вельмі сталага ўзросту выйшла з унівэрсаму „Сталічны". Калі ўбачыла, як вайскоўцы за валасы цягнуць па асфальце юнака, падыйшла да аднаго афіцэра і крыкнула: „Што вы робіце? Ён жа яшчэ зусім дзіця!" Афіцэр паклікаў памочніка, і той ззаду ўдарыў жанчыну па патыліцы. Падаючы, яна выпусьціла сумку з прадуктамі. На боты вайскоўцаў пырснула малако. Яны схапілі жанчыну і пацягнулі яе ў „крумкач". Да сумкі падбег яшчэ адзін ваенны і нагой стукнуў па ёй, падкінуў і параськідаў усе прадукты ды пабег да сваіх.

Іншая жанчына падбегла да вайсковых, плакала і казала, што гэта яе старая хворая маці. Яе таксама схапілі і пацягнулі ў буду.

Я была бліжэй і ўсё бачыла. Да мяне падбег афіцэр і стукнуў палкай па дыктафоне. Зь яго высыпаліся батарэйкі. Два целаахоўнікі гэтага афіцэра пачалі іх таптаць. Нейкі апэратыўнік шапнуў ім, што я карэспандэнт „Свабоды", тады яны радасна заенчылі: „А вас мы сегодня будем мочить по отдельной програме."*

Ля філярмоніі зьявіліся расейскія „эрэнэшнікі" (фашысты). Калі назіральнікі спыталі, чаму ваенныя не затрымліваюць рускіх фашыстаў, ім адказалі, што „так і павінна быць, бо гэта нашы".

***Любоў ЛУНЁВА***

## ПРАГРАМА НА МОВУ

***(фразы з друку і з інтэрнэту)***

„Такога скапленьня людзей у ваеннай форме пасьляваенны Менск яшчэ ня бачыў."

„Па дварах шнырылі дзяцюкі ў скураных куртках з паголенымі галовамі і ўглядаліся ў аблічы прахожых і жыхароў."

„У раёне плошчы Якуба Коласа і ў цэнтры горада затрымана каля 500 чалавек. Людзей проста выхоплівалі з натоўпу, пачуўшы толькі беларускую мову."

„Дзясяткі тысячаў мінчанаў назіралі за бяспраўем, якое рабілі ўлады."

„25 сакавіка беларусаў хапалі толькі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску і мелі на грудзях значкі з афіцыйна зацьверджанаю эмблемаю *Таварыства Беларускай Мовы"*.

## КАМЭНТАР СЯРГЕЯ ПАПКОВА

***(намесьніка старшыні БНФ і Партыі БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

„25 сакавіка была прадэманстраваная сіла. Прамаскоўскі рэжым засьведчыў, што такія ж „зачысткі" ад людзей, як у Чачэніі, рыхтуюць і на Беларусі. Трэніраваліся на беларусах, правяралі ўзаемадзеяньні службаў і войска, ангары падрыхтавалі (для схопленых) і інш.

Тое, што затрымалі ўсіх журналістаў (нават тых, хто абслугоўвае рэжым (БелТ), прадстаўнікоў міжнародных арганізацыяў, дэпутатаў польскага Сэйму – усё гэта сьведчыць: цэнтар кіраваньня вайсковай апэрацыяй быў ня ў Менску. Цэнтар быў расейскі. Міністар Унутраных справаў генерал Сівакоў таксама расеяц.

Але мы не спалохаліся гэтай сілы і пайшлі супраць, хоць арыштавалі сотні сяброў Партыі БНФ.

Праўда, былі і іншыя, якія пастаянна цягнуць людзей у „балота" (на былую „балотную станцыю", дзе цяпер выгул сабак і пляц Бангалёр). Пасьля 25 сакавіка, што да гэтых ахвотнікаў, дык нават тэрмін зьявіўся – *„балотная апазыцыя"*. Добра пасуе.

Альтэрнатывай „балотнай апазыцыі" застаецца БНФ (акрамя часткі, што вышла ў „балота"), але галоўнае – павінна адбыцца кансалідацыя ўсіх беларускіх нацыянальна-вызвольных сілаў."

## ГАВОРЫЦЬ БАРЫС ХАМАЙДА

***(намесьнік старшыні Віцебскай гарадзкой Рады Партыі БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

Шырокія рэпрэсіі ў адносінах да грамадзянаў Беларусі, якія ўдзельнічалі 25 Сакавіка ў сьвяточных мерапрыемствах з нагоды Дня Волі ў Менску і Віцебску, сьведчаць аб тым, што існуючая ўлада не аналізуе нядаўніх гістарычных падзеяў. У тым ліку, народнага паўстаньня ў Румыніі ў 1989 годзе.

Гвалт з боку ўлады можа выклікаць толькі супрацьнакіраваны гвалт.

У гэты пэрыяд вельмі вагавіта засьцерагчыся нецярплівасьці – імкненьня некаторых кіраўнікоў апазыцыі выводзіць на вуліцы як мага большую колькасьць непадрыхтаваных безабаронных людзей.

Трэба спакойна і мэтанакіравана рухацца да непазьбежнага моманту „N". І тады гэтай злачыннай уладзе не дапамогуць ні ваўкадавы, ні кулямёты бранетранспарцёраў, ні бандзюгі ў масках. Толькі падрыхтаваныя людзі змогуць адстаяць сваю волю і волю Радзімы!

## ЗЬВЕСТКІ З ГАРАДОЎ

Акцыі на *Дзень Волі* адбыліся ў Горадні, Мастах, Сьвіслачы, Лідзе, Воранаве, Воршы, Наваполацку, Полацку, Шчучыне, Дзятлаве, Гомлі, Берасьці, Смаргоні, Баранавічах, Віцебску, Пінску, Магілёве і іншых гарадах.

**Віцебск**. У Віцебску на *Дзень Незалежнасьці* людзей пачалі хапаць яшчэ да пачатку дазволенай уладамі дэманстрацыі. Былі затрыманыя актывісты *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі Беларускага Народнага Фронту*: ***Уладзімер Плешчанка***, ***Юрась Карпаў*** і ***Раман Салаўян***, ***Зьміцер Піменаў*** і іншыя, а таксама ***Валеры Шчукін*** (на якога накінуліся шасьцёра амапаўцаў).

У пастарунку Кастрычніцкага РАУС склалі пратаколы на сем асобаў, якіх адразу накіравалі ў раённы суд. (Нягледзячы на выхадны дзень, суд працаваў.)

***Зьміцеру Піменаву***, ***Генадзю Васілевічу*** *і* ***Юрасю Карпаву*** прысудзілі па трое сутак арышту. Усе яны ў знак пратэсту за заняволеньне адмовіліся ад яды (якой, зрэшты, у лукашэнкаўскім арышце і так амаль не даюць.) ***Валеры Канавалава*** той жа суд аштрафаваў на 20 мінімальных заробкаў. ***Ігар Марозаў***, ***Уладзімер Акулаў***, ***Віталь Мялешка*** папярэджаныя.

*Уладзімер Плешчанка, Раман Салаўян і Валеры Шчукін* адмовіліся ісьці ў суд. Суддзя Чыгуначнага раёну, вядомая лукашэнкаўская службістка **Сьвятлана Туфан** сама пайшла ў пастарунак Чыгуначнага РАУС.

У. Плешчанку яна абʼявіла 10, а Раману Салаўяну 5 сутак арышту.

Суд, як у гісторыі пра Несьцерку.

**У Горадні** адбыўся мітынг салідарнасьці і пратэсту, за лепшае жыцьцё ў вольнай Беларусі. Сабралася больш за дзьве тысячы чалавек. Удзельнікі шэсьця згуртаваліся на Савецкай плошчы, ля месца, дзе стаяла фара Вітаўта (гатычны касьцёл, разбураны рускімі камуністамі). Дэманстранты рушылі па вуліцах, разгарнуўшы *Бел-Чырвона-Белыя сьцягі*. Ішла, пераважна, моладзь.

Быў спалены расейскі сьцяг, на флягштоку ўзьняты беларускі Бел-Чырвона-Белы сьцяг і сьцяг эўрапейскага саюзу.

**У Мастах**, **Сьвіслачы** і **Лідзе** адбыліся мітынгі. **У Воранаве** і **Шчучыне** – пікеты. **У Смаргоні** адбылося невялічкае шэсьце. **У**

* А вас мы сёньня будзем забіваць па асобнай праграме – *(з рус.)*

**Бераставіцы** над касьцёлам зьявіўся *Бел-Чырвона-Белы сьцяг*, а на дамах – патрыятычныя надпісы. **У Дзятлаве** на сьценах дамоў таксама зьявіліся надпісы і былі раскіданыя ўлёткі.

**У Магілёве** прыйшлі адзначыць Дзень Незалежнасьці некалькі соцен жыхароў гораду, хоць ведалі, што дэманстрацыя забароненая. Міліцыянты спрабавалі спыніць шэсьце. Але гэта ім не ўдалося.

Выступалі беспрацоўныя, рабочыя, настаўнікі, школьнікі. Усе казалі аб неабходнасьці змагацца за незалежнасьць і дабрабыт Беларусі самымі актыўнымі сродкамі.

**Гомельскі** гарвыканкам адмовіў групе грамадзянаў правесьці мітынг на плошчы Паўстаньня. Аднак невялікі мітынг адбыўся ў іншым месцы горада. На мітынгу, між іншым, выступіў спадар ***А. Чарняцоў*** – ураджэнец Расеі (у БНФ уступіў 7 год таму). Ён сказаў: „Расея прынесла столькі гора Беларусі, што я лічу, што расейская дыяспара ў Беларусі павінна неяк выкупіць хоць частку грахоў.”

**У Берасьці** у мітынгу з нагоды *Дня Незалежнасьці* ўдзельнічала каля 300 чалавек (стадыён „Будаўнік”). Улады забаранілі разгортваць беларускія сьцягі, але арганізатары і ўдзельнікі праігнаравалі забарону.

**Наваполацк**. Вулічныя сьвяткаваньні пачаліся ад раніцы. А $10^{00}$ *Бел-Чырвона-Белыя сьцягі* залунаді на пляцы перад палацам культуры. А $11^{00}$ адбыўся мітынг, на якім прысутнічалі паўтары сотні чалавек. Адкрыў яго адзін з лідэраў *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі Беларускага Народнага Фронту* ***Анатоль Кулік***. Прадстаўнік гэтай партыі ***Уладзімер Гацкі*** заклікаў вылучыць ідэю ***беларускай салідарнасьці*** як галоўную ідэю нашага часу.

**У Полацку** акцыі ладзіліся ў гэты ж самы час. Пікетоўцаў было каля 50 чалавек.

Як сьведчаць відавочцы, увечары 24 сакавіка з Наваполацку ў Менск выехалі машыны зь міліцыянтамі ў поўнай баявой амуніцыі.

**Ворша**. Завадатарамі сьвяткаваньня выступілі суполкі *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі Беларускага Народнага Фронту* ды *Задзіночаньне беларускіх студэнтаў*. Каля помніка Уладзімеру Караткевічу пад нацыянальнымі сьцягамі сабраліся сябры варшанскіх маладзёвых суполак. Потым сюды прыйшлі і беларусы старэйшага пакаленьня. Улады не праявілі цікаўнасьці. Потым адбыліся канцэрт і літаратурна-мастацкая гасьцёўня. Пасьля усе сабраліся ў аршанскім касьцёле сьвятога Язэпа на імшу за Бацькаўшчыну.

**У Баранавічах** сабралася некалькі сотняў чалавек. Дзясяткі сьцягоў, плякатаў, белых і чырвоных шароў амаль 2 гадзіны ўпрыгожвалі Гарадзкі парк культуры і адпачынку. Большасьць прысутных – моладзь, якая пад *Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі* рушыла да цэнтру горада.

**У Варшаве** 24 сакавіка адбылося пікетаваньне беларускай амбасады. Сьцягі і лёзунгі *„Лукашэнку ў адстаўку!”*. Выступіў паэт ***Уладзімер Някляеў***.

**У Вашынгтоне** ля беларускай амбасады з нагоды ўгодкаў Незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка сабраліся беларусы з усёй Амэрыкі (больш за 100 асобаў). *„Лукашэнка, прэч зь Беларусі!”, „Амэрыка, не кармі расейскі імпэрыялізм!”, „Дэмакратыю і свабоду – у Беларусь!”,* – маніфэставалі дэманстранты. Яны патрабавалі ад міжнароднай супольнасьці санкцыяў супраць Расеі за акупацыю *Чачэніі* і падрыхтоўку акупацыі *Беларусі*. ***Янка Запруднік*** паведаміў пра падзеі ў Менску.

Пасьля мітынгу ўсе скіраваліся да расейскай амбасады і яшчэ дзьве гадзіны там адбываўся мітынг пратэсту супраць варварскай і антылюдзкай палітыкі Расеі. Раздавалі ўлёткі амэрыканцам. Была моц беларускіх сьцягоў.

**Прага**. Больш як 100 чалавек сабраліся ў Люстраной залі галоўнай бібліятэкі Чэхіі Клімэнтыну. Урачыстасьць адкрыў кіраўнік пражскай беларускай суполкі *„Скарына”* сп. ***Юрка Станкевіч***. Паседжаньне вяла старшыня *Згуртаваньня беларусаў сьвету Бацькаўшчына”* ***Ганна Сурмач***. Выступілі: *вялікі беларускі пісьменьнік* ***Васіль Быкаў***, *Старшыня Рады БНР* ***Івонка Сурвіла***, *Старшыня Беларускага Народнага Фронту і Партыі БНФ* ***Зянон Пазьняк***, якія адмыслова прыехалі ў Прагу, гісторык прафэсар ***Мікола Іваноў***, сябра *БСДГ* ***Алесь Станкевіч***, старшыня суполкі ТБМ з Баранавічаў ***Віктар Сырыца***, госьць зь Нямеччыны ***Дзімітры Ярашэўскі***, беларусістка са Швайцарыі ***Моніка Банькоўская***.

Удзельнікі сьвяткаваньня гаварылі пра вялікую каштоўнасьць беларускай незалежнасьці, пра неабходнасьць берагчы і абараняць яе да апошняга дыханьня, выказалі ўпэўненасьць у перамозе над акупацыйным рэжымам у Беларусі.

Потым ўдзельнікі сьвята накіраваліся на *Альшанскія могілкі*, дзе адбылася паніхіда на магілах старшыняў *Рады БНР* ***Пётры Крычэўскага*** і ***Васіля Захаркі***, якую адслужыў сьвятар ***Кастусь Бандарук***.

**У Маскве** адбылася вечарына, арганізаваная *Таварыствам Беларускай Культуры (ТБК)*. Удзельнікі былі пад уражаньнем тэлерэпартажаў з вуліцаў Менску. Сябра *ТБК* ***Таіса Мішчанка*** па тэлефоне сказала: „У нас няма магчымасьці эфэктыўна адрэагаваць на падзеі ў Менску. Атрымаць нейкі дазвол на пікет ў рускіх – гэта абсалютна немагчыма. Маскоўскія ўлады арганізавалі супраць нас інфармацыйную блякаду. Калі раней яны з намі больш-менш супрацоўнічалі, то пасьля правядзеньня Зьезду беларусаў Расеі, убачыўшы нашую сілу, – цалкам адмоўнае стаўленьне. Калі мы будзем адзначаць Купальле ці Каляды, то яшчэ нейкі дазвол магчымы. А калі хоць крышачку будзе нейкае нацыянальнае беларускае патрыятычнае адценьне, то ўсё забароняць. У *ТБК* вельмі вялікія праблемы з рускімі па ўсіх накірунках. Рускія СМІ спэцыяльна замоўчваюць нашую справу.

З намі раней у хоры сьпявала руская дзяўчынка, мая суседка, але яна (даведаўшыся, што беларусы змагаюцца з акупацыйным рэжымам Лукашэнкі) заняла гэтакую рускую пазыцыю і сказала: „Беларускія сьпевы я сьпяваць ня буду.”

Сэрцам мы заўсёды на Беларусі. Перамога будзе за намі!”

**У Брусэлі** адбыліся ўрачыстасьці з нагоды Дня Незалежнасьці. Сабраліся бэльгійскія беларусы. Сябра *Прэзыдыюму Рады БНР* ***Янка Жучка*** сказаў: „Кожны сьведамы беларус, дзе б ён ні знаходзіўся, з годнасьцю адзначае гэтае сьвята...У Бэльгіі беларусы зьбіраюцца кожны год у гэты сьвяты Дзень.”

*Падрабязныя рэпартажы аб падзеях у Менску перадалі інфармацыйныя агенцтвы Ройтар, Франц-Прэс, нямецкая Дэ Пэ А, Ітар-Тас. Тэлевізійныя рэпартажы прайшлі па каналах CNN, Эўра-Ньюс, польскіх і расейскіх каналах і інш.*

## АДРАЗУ БЫЛІ СХОПЛЕНЫЯ:

***Юры Беленькі***, ***Алесь Чахольскі***, ***Алесь Пагарцаў***, ***Міхась Новік***, ***Зьміцер Гуніч***, ***Анатоль Патаповіч***, ***Анатоль Рабкавец*** , ***Аляксандар Шатэрнік***,

***Мікола Купава***, ***Анатоль Крыварот***, ***Алесь Фралоў***, ***Юры Шалабурда***, ***Уладзімер Цітовіч***, ***Міхась Паўлавец***, ***Сяргей Яўменаў***, ***Уладзімер Шпакоўскі***, ***Аляксей Жукоўскі***, ***Яўген Лемеш***, ***Ларыса Ляпарская***, ***Алесь Мікуліч***, ***Ільля Кірсанаў***, ***Кірыла Рэутовіч***, ***Анатоль Цітовіч***, ***Мікалай Цітовіч***, ***Аляксей Раменскі***, ***Аляксандар Сафонаў***, ***Сяргей Латуцянкоў***, ***Юрась Жэлабковіч***, ***Віталь Хэйман***, ***Марыя Апейка***, ***Аляксандар Сіманенка***, ***Тамара Машара***, ***Аляксандар Сушкевіч***, ***Міхась Гладухаў***, ***Вера Пірагова***, ***Адольф Зацэпін*** *(Горадня) – штраф*, ***Вялянцін Лучко*** *(Горадня)*, ***Уладзімер Вяроўкін***, ***Аляксандар Калпакоў***, ***Канстанцін Марозаў***, ***Алена Лукашэвіч***, ***Сяргей Пушкін***, ***Дзімітрый Наважылаў***, ***Дзімітрый Завадзкі***, ***Мар'я Верніkоўская***, ***Шыман***

***Гялеўскі** (Польшча), **Ягор Маёрчык**, **Міхась Стэльмах**, **Юры Дракахруст**, **Альгерд Невяроўскі**, **Ларыса Ключнікава**, **Дзімітры Ярмак**, **Паліна Сьцепаненка**, **Алег Грузьдзіловіч**, **Ірына Халіп**, **Аляксандар Тамковіч**, **Валер Каліноўскі**, **Тацьцяна Сьнітко**, **Марына Бабкіна**, **Аляксандар Ціханаў**, **Арсен Старуліс**, **Валянцін Гармовіч**, **Віктар Івашкевіч**, **Любоў Лунёва**, **Юры Дзядзінкін**, **Уладзімер Кармілкін**, **Віктар Драчоў**, **Славамір Адамовіч**, **Леанід Канфер**, **Аляксей Пакроўскі**, **Вадзім Казначэяў**, **Аляксей Шыдлоўскі**.*

## ПАЧАЛІСЯ СУДОВІЧШЫ

*27 сакавіка* ў судзе Савецкага раёну Менска пачаліся суды над затрыманымі 25 сакавіка. У працэсах прымалі ўдзел чатыры суддзі: **Іна Шыйко**, **Руслан Казадаеў**, **Аксана Рэлява**, **Людзьміла Севасьцьян**.

У першай палове дня судзілі тых, хто зьявіўся ў суд па позвах, атрыманых 25-га. У другой палове дня судзілі тых, хто ўтрымліваўся ў спэцпрыёмніку-разьмеркавальніку на вуліцы Акрэсьціна. Са спэцпрыёмніка затрыманых дастаўлялі на „аўтазаках", адкуль па чарзе (па адным чалавеку) дастаўлялі да суддзяў у кабінэты. Такім чынам людзі па некалькі гадзінаў знаходзіліся ў клетцы, у цёмным цесным, пазбаўленым паветра „аўтазакаў", чакаючы сваёй чаргі. Усяго „аўтазакаў" было, прыблізна, чатыры, па 20 чалавек у кожным.

Асноўнае абвінавачваньне – парушэньне парадку правядзеньня мітынгаў, шэсьцяў і пікетаваньня (артыкул 167.1 Адміністрацыйнага Кодэксу). Суды цягнуліся з $10^{00}$ да $19^{30}$ гадзінаў.

**Няпоўныя папярэднія зьвесткі з судоў**:

***Ангеліна Масюта*** (папярэджаньне); ***Андрэй Ганчароў*** (папярэджаньне); ***Юры Борак*** (папярэджаньне); ***Андрэй Казакевіч***; ***Ніна Багінская***; ***Мікола Яўменека***; ***Алесь Плескач***; ***Ігар Картэль*** (папярэджаньне); ***Зьміцер Гуніч***; ***Алесь Пагарцаў*** (трое сутак адміністрацыйнага арышту); ***Сяргей Канапелька***; ***Адам Шпакоўскі***; ***Аляксей Шахоўскі***; ***Мікола Хільчук*** (папярэджаньне, пасьля таго, як адсядзеў 2-е сутак); ***Віктар Явіч*** (папярэджаны); ***Алеся Ясюк*** (справа адпраўленая на дасьледваньне); ***Анатоль Лябедзька***; ***Юры Беленькі*** (справа адпраўленая на дасьледваньне); ***Андрэй Ягораў*** (адпушчаны); ***Уладзімер Жывіца***; ***Яўген Кардаш***; ***Сяргей Пціцын*** (штраф); ***Пётра Патапёнак***; ***Уладзімер Феактыстаў***; ***Уладзімер Кавалеўскі***; ***Рыгор Гітліц***; ***Сяргей Вярэйчык***; ***Андрэй Небышынец***; ***Сяргей Саўчыц***; ***Сяргей Селезень***; ***Сяргей Голуб***; ***Віктар Івашкевіч***; ***Фелікс Свід***; ***Аляксандар Брэзін*** (Берасьцейская вобласьць, адпушчаны); ***Уладзімер Ільюкевіч***; ***Аляксандар Гоман*** (папярэджаньне); ***Міхал Шарай***; ***Сяргей Шэчко***; ***Мая Кляшторная*** (папярэджаньне); ***Сяргей П'яных***; ***Алесь Мікалаеў***; ***Аляксандар Зосімаў*** (папярэджаньне); ***Валеры Голуб*** (папярэджаньне); ***Міхал Гладухаў*** (5 сутак адміністрацыйнага арышту); ***Аляксей Кухаронак***; ***Аляксандар Мядзьведзеў***; ***Анатоль Рабкавец***; ***Яўген Лемеш***; ***Алесь Бондар*** (3 сутак адміністрацыйнага арышту); ***Алесь Капуцкі***; ***Алесь Чахольскі***; ***Леанід Валуй*** (адпушчаны); ***Міхась Новік***; ***Уладзіслаў Вяроўкін***; ***Барыс Крыўцоў***; ***Мікола Чарнавус***; ***Ігар Шыманаў***; ***Аляксандар Алежка***; ***Анатоль Рэбкавец***; ***Уладзімер Бурдыка***; ***Уладзімер Малей***; ***Уладзімер Плешчанка*** (*Віцебск*, 10 сутак); ***Раман Салаўян*** (*Віцебск*, 5 сутак); ***Валеры Шчукін*** (*Віцебск*, 10 сутак); ***Зьміцер Піменаў*** (*Віцебск*, 3 сутак); ***Юрась Карпаў*** (*Віцебск*, 3 сутак); ***Генадзь Васілеўскі*** (*Віцебск*, 3 сутак);***Валеры Канавалаў*** (*Віцебск*, штраф – 20 мінімальных заробкаў); ***Ігар Марозаў*** (*Віцебск*, штраф – 20 мінімальных заробкаў); ***В. Мялежка*** (*Віцебск*, папярэджаньне); ***Д. Акулаў*** (*Віцебск*, папярэджаньне).

*Суды будуць працягвацца ў красавіку.*

## НОРАВЫ ХАПАНЬНЯ, ЗЬДЗЕКУ І СУДОЎ

Жыхар Менска ***Сяргей Пціцын*** выйшаў з мэтро на тралейбусны прыпанак. На прыпынку ён сустрэў знаёмага. Не пасьпелі яны павітацца, як убачылі, што міліцыянты цягнуць у „крумкач" жанчыну. Знаёмы абурыўся: „Што вы робіце!" Міліцыянты ўдарылі яго ў твар. Чалавек упаў, і яго пачалі зьбіваць на зямлі пяцёра міліцыянтаў. Сяргея Пціцына схапілі і кінулі ў адзін „крумкач", а яго знаёмага, ***Леаніда Сакольчыка***, – у другі. Адзін апынуўся ў Савецкім РАУС, а другі – на стадыёне. Сяргея Пціцына адвезьлі ў спэцпрыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна, а Леаніда Сакольчыка выкінулі з машыны, разам з дзясяткамі іншых затрыманых, у Лошыцы (месца сталінскіх расстрэлаў людзей).

Сп. Пціцына пацягнулі ў суд (суддзя **Руслан Казадаеў**). Прывезьлі „сьведкаў" (двух ваенных, з тых пяці, што зьбівалі сп. Сакольчыка). Ваенныя (прозьвішчы **Валодзін** і **Бойка**) патлумачылі, што схапілі Пціцына за тое, што „актыўна ўдзельнічаў у мітынгу," якога не было. На пытаньне суддзі („У чым была ягоная актыўнасьць?") адказалі: „Ён не рэагаваў."

Як ні намагаўся суддзя даведацца ў ваенных, на што ж ён „не рэагаваў", так і ня здолеў атрымаць адказ. Паколькі адказу не было, то суддзя прысудзіў Сяргею Пціцыну 50 тысячаў штрафу (гадавы заробак беларуса).

Наступнай разглядалі справу ***Ангеліны Масюты***. Яна атрымала судовае папярэджаньне. Прытым суддзю **Р. Казадаеву** вельмі не спадабалася, што спадарыня Масюта *размаўляла па-беларуску*. Ён нават праігнараваў тое, што супрацоўнікі міліцыі **Галубовіч** і **Барысевіч** схлусілі.

***Аляксандар Гоман*** з Дзятлаўскага раёну Гарадзенскай вобласьці, якога схапілі на вуліцы Менска, таксама атрымаў папярэджаньне *за размову па-беларуску.*

Потым у судовай зале зьявіўся ***Юрась Барук*** (сьвятар рымакаталіцкага касьцёлу, які выконвае абавязкі пробашча ў Бялынічах і Шклове). Ён таксама быў затрыманы падчас вайсковай „зачысткі" ў раёне плошчы Якуба Коласа і двое сутак правёў у спэцпрыёмніку.

Сьвятар паведаміў: „25 сакавіка я знаходзіўся ў Менску па сваіх службовых справах і а $12^{30}$ ішоў у катэдру на плошчы Свабоды. Выходзячы з ЦУМу, я ўбачыў шмат народу. Я не з'арыентаваўся да канца, што там адбывалася, бо на мяне наляцелі супрацоўнікі міліцыі і, брудна лаючыся, нічога не тлумачачы, заламалі мне рукі, пасадзілі ў сваю машыну і завезьлі ў Савецкі РАУС. Я паказаў сваё пасьведчаньне, што я сьвятар і запытаўся прозьвішчы, хто мяне затрымліваў, на якой падставе. Але ніхто нічога не адказаў, ніхто не папрасіў прабачэньня."

Больш таго, сьвятара пацягнулі ў суд, дзе суддзя **Казадаеў** „прысудзіў" яму папярэджаньне.

***Аляксандра Алешку*** схапілі разам з 15-гадовым сынам па дарозе ў мэтро. Ён правёў 2 сутак у спэцпрыёмніку-разьмеркавальніку. Спадар Алешка паведаміў: „Спачатку схапілі майго сына, затым і мяне. Мяне кінулі ў машыну, а сына ў аўтобус. Мяне завезьлі ў Савецкі РАЎС, а куды сына – я ня ведаў і таму вельмі хваляваўся.

2-е сутак я правёў у спэцпрыёмніку, дамоў патэлефанаваць мне не далі. Потым толькі высьветлілася, што сына завезьлі на стадыён, пратрымалі 2 гадзіны і выпусьцілі. У панядзелак нам дахаты патэлефанавалі з Першамайскага РАНА, патрабавалі, каб бацькі напісалі тлумачэньне, што рабіў наш сын 25 сакавіка і чаму затрыманы.

Сын быў вельмі запалоханы. Кругом бронетранспарцёры, сабакі, міліцыянты зьбіваюць нагамі і дубінкамі жанчын, якія ляжаць на зямлі. Гэта ня можа прайсьці бясследна."

Аляксандар Алешка падаў скаргу ў пракуратуру.

## ЦІКАВАЯ АКАЛІЧНАСЬЦЬ

27-28 сакавіка прадаўжаліся суды над затрыманымі на Дзень Незалежнасьці. У Савецкім раённым судзе Менска высьветлілася цікавая акалічнасьць: падчас хапаньня людзей на плошчы Якуба Коласа пахапалі шмат апэратыўнікаў з КГБ і правакатараў у цывільным.

Суддзі атрымалі ўказаньне „працаваць" і пасьля працоўнага дня. Канвеер дзейнічаў дапазна. З „крумкачоў" выводзілі (дзеля хуткасьці) адразу па чатыры асобы. Трэніроўка на людзях ішла пасьпяхова.

Студэнт 1-га курса Інстытута сучасных ведаў ***Алесь Мікалаеў*** паведаміў, што разам зь ім у Савецкім судзе судзілі ***Сяргея Селязеня***, ***Алеся Брэзіна***, ***Ігара Шыманскага***, ***Сяргея Соўчыка, Алеся Алешку***, ***Адама Шпакоўскага***, ***Ніну Брагіну***, ***Лявона Валуя***. Усяго 42 асобы.

## ВЫ РАБЕЦЕ, А МЫ ВАС ПАХАПАЕМ

14-24 сакавіка. Баранавіцкі гарвыканкам даў дазвол „групе грамадзянаў" на правядзеньні мітынгу на Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка. Адначасна даў вуснае распараджэньне міліцыі хапаць арганізатараў. 22 сакавіка міліцыя схапіла пры расклейцы афішаў з запрашэньнем на мітынг ***Мікалая Агародніка*** і ***Рамана Гондара***. Іх зьняважалі, завезьлі ў пастарунак і, пратрымаўшы некалькі гадзінаў, адпусьцілі.

Гэткім жа чынам былі схопленыя міліцыянтамі ***Марына Філімоненка*** і ***Галіна Багдановіч***. (Прозьвішча аднаго зь міліцыянтаў – **Аляксей Шчарбаценка**.)

Гэтак жа сама паводзіла сябе і міліцыя ў Менску. Пры расклейцы налепак з надпісам *„Дзень Волі"* затрымалі шмат непаўнагадовых. Менавіта: ***Віталя Падаляка***, ***Рамана Бронава***, ***Сяргея Касьцюкевіча***, ***Кастуся Дацько***, ***Міколу Сёмуху***, ***Сяргея Жаўлякова***, ***Аляксандра Калантая***.

Пяць гадзінаў іх трымалі ў пастарунку Партызанскага РАУС, зьняважалі, брудна лаяліся, страшылі і пагражалі фізічнай расправай. Каля 2-й гадзіны ночы іх выпусьцілі, адабраўшы ўсе грошы, якія былі ў хлопцаў. (Трэба сказаць, што міліцыя часта рабуе грошы ў людзей, завёўшы іх у пастарунак, асабліва ў маладых.)

## БЕЛАРУСА – У ТВАР

Менск, 30 сакавіка. Адбываліся суды над людзьмі, якіх пахапалі на вуліцах. Суддзя **Р. Казадаеў** аб'явіў „папярэджаньне" ***Андрэю Ганчарову***. Сутнасьць „папярэджаньня" невядомая і самаму суддзю. Але гэта працэсуальная прыступка для далейшага перасьледу асобы.

Вядомая сваім цемрашальствам суддзя **Іна Шыйко** разглядала „справы" схопленых ***Сяргея Явіча*** (папярэджаньне), ***Аляксандра Плескача***, ***Уладзіслава Жывіцы***. Высьветлілася, што зьдзекам над схопленымі кіраваў маёр **Катагараў** (ваенная частка №5448), які ў ваеннай частцы дыктаваў сяржанту **Ярмошку** і іншым тэксты „пратаколаў" на затрыманых. Суды працягваюцца.

Суддзя **А. Рэлява** разглядала „справу" схопленых студэнта Палітэхнічнай Акадэміі ***Аляксандра Зосімава*** (папярэджаньне) і ***Адама Шпакоўскага***.

Адама Шпакоўскага АМАП затрымаў у машыне. Калі спадар Шпакоўскі пачаў высьвятляць прычыну затрыманьня, то ў размове памылкова назваў маёра лейтэнантам (пагоны лёгка зблытаць). Маёр нечакана з усёй сілы ударыў спадара Шпакоўскага ў твар (верагодна, нейкім прадметам). Акрываўленага А. Шпакоўскага схапілі і завезьлі ў Савецкі РАУС. Туды прыйшлося выклікаць хуткую дапамогу (чаго міліцыя стараецца ніколі не рабіць). Потым сп. Шпакоўскі здолеў абсьледвацца ў бюро судовай медыцынскай экспэртызы.

Суддзя **А. Рэлява** адклала прысуд схопленаму спадару Шпакоўскаму да высьвятленьня акалічнасьцяў.

## КУРЫНАЯ СЬЛЕПАТА

Нават з той невялічкай долі падзеяў (якія апісаныя тут) вельмі выразна, бадай, як нідзе, добра відаць прарасейска-акупацыйны характар рэжыму ў Беларусі. Ідзе вайна Расеі супраць беларусаў і супраць усяго беларускага.

Функцыянэры рэжыму нават не хаваюць гэтага. Тым больш цынічна і нахабна не хаваюць сваёй зьвярынай нянавісьці да беларусаў. У дачыненьні да беларусаў службісты і наёмнікі сілавых структураў прамаскоўскага рэжыму паводзяць сябе адкрыта, як тыповыя карнікі з акупацыйным насельніцтвам. Гэта значыць, што беларусаў ня лічаць за народ, годны павагі, не прытрымліваюцца ў дачыненьнях да іх ніякіх праўных і маральных нормаў (акупаванае насельніцтва ў расейцаў пастаўленае па-за правам і па-за маральлю), аднолькава рэпрэсіўна ацэньваюць усіх. Гэта значыць, што для акупацыйных карнікаў аднолькавыя ворагі: і беларускі студэнт, і беларускі селянін; і таленавіты пісьменьнік, і неадукаваны валацуга; і сусьветна вядомы вучоны, і 16-гадовы падлетак; і маладая дзяўчына, і пажылая пэнсіянерка; і загнаны калгасьнік, і вялікі артыст. Усе – беларусы, „все сволочи", усіх дубінкай па галаве, не пытаючыся; усіх носам у бруд, на калені, тварам да сьцяны, усіх разам – у сьмярдзючую камэру, у клетку, у халуйскі суд.

Іншыя б ужо даўно ўзяліся за зброю, каб шчэпкі паляцелі з акупантаў. Цяперашнія ж беларусы, як звычайна, нічога не разумеюць. Іх ужо вараць, а яны радуюцца, што цёпла, і лезуць у чартоўскі кацёл. Ніякага прасьвятленьня ў галаве, хоць яны па ёй дубінай, хоць бомбай. І калі, як у той гісторыі, пазавуць і скажуць прыходзіць на шыбеніцу, то усяроўна спытаюцца пра вяроўку (браць з сабой, ці дадуць). Курыная сьлепата ў курыным інкубатары, у курынагаловым царстве... Але некалі былі іншыя беларусы.

***Т. РЭЙТАН****

## ПАТРЭБНАЯ БАРАЦЬБА З АКУПАНТАМІ

Складваецца ўражаньне, што 25 сакавіка ў Менску былі праведзеныя тактычныя вучэньні (адпрацоўка ўзаемадзеяньня частак і штабоў Менск-Масква на час „Х").

Цяпер ужо няма ніякага сумненьня, што, ***акрамя дзеючага адлеглага пляну этнацыду і разбурэньня беларускага нацыянальнага грамадзтва, вынішчэньня сацыяльных ды грамадзка-палітычных сфэраў беларускага жыцьця, існуе таксама радыкальны плян ліквідацыі беларускай эліты (безадносна да апазыцыі),*** які, калі яму не запабегчы, расейцы пастараюцца прывесьці ў дзеяньне пры першым зручным выпадку.**

Цяпер гучыць даволі злавесна сказаная раней ненавісная фраза Лукашэнкі, што ўся нязгодная беларуская інтэлігенцыя ўмяшчаецца ў 400 чалавек.

***Расейскія спэцслужбы ўжо распрацавалі пляны фільтрацыйных лягераў на Беларусі, адпрацавалі функцыі карных камандаў і пранікненьне расейцаў у беларускія ўнутраныя войскі. Дзейнічае тыпова акупацыйны мэханізм дачыненьняў да акупаванага***

---

* Псэўданім аўтара.

** Маючы на ўвазе вышэй пададзены матэрыял, беларусы абавязкова павінны распрацаваць тактыку „на горшае" – тактыку супроцьдзеяньня гэтаму расейскаму пляну вынішчэньня беларусаў на час „Ікс". Мусіць быць жорсткі і эфэктыўны контрплян. Інакш расеяц паўторыць Курапаты. Беларусы цяпер павінны зьбіраць і накапліваць зьвесткі пра бандытаў, высьвятляць іхныя прозьвішчы, адрасы, месца працы, ведаць факты злачыннай дзейнасьці супраць беларусаў, мець іхныя фатаграфіі, ведаць іх прывычкі, сваякоў, кола знаёмых. Супраць Беларусі вядзецца схаваная вайна, і нам трэба вучыцца ў нашых ворагаў таксама жыць па законах ваеннага часу. Усё гэта прыдасца на судзе над бандатамі, а ў выпадку адкрытай вайны, якую б яны пачалі супроць Беларусі, паслужыць прыняцьцю прэвентыўных захадаў супраць акупацыйнага бандытызму. – *(З. П.)*

***насельніцтва, выпрабаваны ў Чачэніі. Людзей хапаюць па моўнай прыкмеце (за размову па-беларуску), звозяць у адно месца (у звычайным рэжыме – у пастарункі), фатаграфуюць у фас і ў профіль і дакумэнтуюць пад асобным нумарам. Ня мае ніякага значэньня ўзрост, пол, адукацыя, сацыяльнае становішча і значэньне асобы ў грамадзтве***. Усе аднолькавыя перад агрэсіяй, зьнявагай і хамствам.

Тут выразна ***відаць элемэнты генацыду. Чалавека арыштоўваюць, караюць, прыніжаюць і зьбіваюць толькі за тое, што ён беларус.***

У краіне, дзе 82 адсоткі насельніцтва – беларусы, такое магчыма ў тым выпадку, калі ў выніку працы спэцслужбаў адбылася ўнутраная акупацыя з боку чужой дзяржавы. У абставінах вельмі хуткага паўраспаду імпэрыі (СССР) і захаваньня імпэрскай дзяржавы (Расея) гэты выпадак не настолькі ўнікальны, колькі тыповы (нават клясычны). Толькі тут назіраем асаблівую рэваншысцкую мадыфікацыю расейскай палітыкі. Беларусь апынулася слаба падрыхтаванай да такога павароту справаў. Грамадзкае асэнсаваньне (слабое, праўда) адбываецца якраз цяпер, калі ўлада ў Беларусі апынулася ў руках расейцаў і расейскіх спэцслужбаў, калі сталі ўжо відаць вынікі антыбеларускай палітыкі.

Беларусь ня ёсьць дзяржава-самагубца (як гэта мяркуе заходні прафан), што зьнішчае сама сябе, сваю культуру, мову, незалежнасьць і нацыю. Беларусы не вар'яты.

***Беларусь – гэта краіна, акупаваная рускімі спэцслужбамі праз старыя савецкія мэханізмы беларускай улады.*** (Найважнейшыя зь іх – гэта КГБ і савецкая каляніяльная адміністрацыя.)

Зараз у Беларусі намеціўся пералом ў асэнсаваньні рэальнага становішча. Але пакуль не адбудзецца пералом ў галовах беларускай эліты – палітыка акупацыі не пераменіцца.

Асабіста мяне з усіх падзеяў *25 Сакавіка* вельмі ўстрывожыла спроба забойства выконваючага абавязкі *Старшыні Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ* ***Юры Беленькага***. Гэта тыповы злачынны прыём спэцслужбаў – забойства ў натоўпе. (Я быў добра праінфармаваны, што такі плян у 1995 годзе быў распрацаваны і супраць мяне.) На Ю. Беленькага на вуліцы напала група АМАПу у масках. Яго зьбівалі непрытомнага, калі ён ляжаў на зямлі. Прытым цалялі па жыццёва важных частках цела і арганізму. (Такія мэтады практыкавала камуністычнае ЗОМО за часы ваеннага стану ў Польшчы.)

Але скажу самае галоўнае. Што б з намі, беларусамі, ні вытваралі: ці нас бы выганялі з Бацькаўшчыны, ці зьбівалі, ды гнаілі ў турмах, ці нават забівалі, – Беларусь ужо паказала, што беларусаў (як і чачэнцаў) ніколі не пераможа бандыцкі расейскі бруд. Гэтай цёмнай расейскай імпэрыі настане канец. Не ўратуе яе больш ніякі НКВД, ніякі КГБ.

Чуваць, як стукаюць нашыя сэрцы, як з хрустам сьціскаюцца кулакі і мацуецца дух, як грукаюць нашыя крокі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2000, №2(25)*



**74-Д.** ***Менск. 25 Сакавіка 2000 г.***

# ЯК ЭЎРОПА ЗАХОДНЯЯ ЗДАЕ ЭЎРОПУ ЎСХОДНЮЮ

***(прэс-рэліз)***

*Гэтую інфармацыю з польскага друку мы цытуём без камэнтароў, хоць разумеем, што павінны быць ня толькі камэнтары, але і мэтадычныя сістэмныя растлумачэньні для беларускіх элітаў, якія маюць прыблізныя ўяўленьні пра заходні сьвет і думаюць па прынцыпу: „Захад нам дапаможа".*

*Дапаможа – калі мы самы сабе дапаможам. (І калі моцна дапаможам ды цьвёрда станем.) Калі не – здасьць.*

„Атрымаўшы паведамленьне пра перамогу У.Пуціна на прэзыдэнцкіх выбарах, Эўрапэйскі Зьвяз прапанаваў Расеі „стратэгічнае партнёрства"... „Ужо 3-4 красавіка ў Маскву паедзе кіраўнік эўрапейскай дыпляматыі **Хаўер Саляна**."

*27 сакавіка, на другі дзень пасьля выбараў у Расеі*: „прэсавы сакратар Эўрапейскай Камісіі сказаў, што Эўрапейскі Зьвяз спадзяецца, што знойдзе ў новым прэзыдэнце (**У.Пуціне**) партнёра, „вартага павагі". Прэсавы сакратар нагадаў, што Брусэль *занепакоены мэтадамі*, якімі расейская армія стараецца навесьці парадак у Чачэніі, аднак пра магчымасьць з гэтай нагоды ўжыць хоць бы сымвалічныя санкцыі ўжо не гавораць."

„Заходнія экспэрты адзначаюць што раз большае ўзрастаньне значэньня арміі, абмежаваньне свабоды друку, а таксама ўзрастаньне ўплыву спэцслужбаў за пэрыяд кіраваньня Пуціна.

**Мішэль Эмэрсон**, які да нядаўняга часу быў амбасадарам Эўрапейскага Зьвязу ў Маскве, а цяпер незалежны экспэрт прэстыжнага брусэльскага інстытуту CTPS, лічыць, што краіны „15" захаваюць прыхільныя адносіны да Пуціна, бо мяркуюць, што толькі ён можа вярнуць стабільнасьць Расеі. Асяроддзе былога КГБ – гэта адзіная сіла, якая да гэтага здольная. Гэта ня ёсьць людзі, якія асабліва зацікаўленыя ў дэмакратыі. Але шмат хто зь іх – кампетэнтныя. „

„Амбасадар сцьвярджае, што Пуцін выкарыстае цяжкую эканамічную сітуацыю на Украіне, каб падпарадкаваць сабе гэтую краіну (хоць бы, напрыклад, праз замену запазычанасьці перад Расеяй на акцыі ўкраінскіх прадпрыемстваў). Эўрапэйскі Зьвяз хутчэй за ўсё ня будзе пярэчыць гэтым імкненьням."*

*(Паводле „Rzeczpospolita", – 2000, 28.03.)*

Дададзім: тыя, хто схільныя здаць Украіну, тыя Беларусь ужо здаюць. А ўвогуле, яны здольныя здаць усё, нават самых сябе. XX-е стагоддзе, і асабліва 2-я Сусьветная вайна, гэта пацьвярджаюць.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 2(25). Пад псэўд. Т. Ракса).*

---

* *(„Rzeczpospolita", – 2000, 28.03.)*

# БРАВА, МУДРАЦЫ ВЫ НАШЫЯ!

З заявы старшыні АБСЭ, Міністра замежных справаў Аўстрыі Бэніты Фэрэра-Вальднэр: „Як дзейсны старшыня я з задавальненьнем адзначаю шматразовыя абавязацельствы беларускіх уладаў забясьпечыць вольныя, справядлівыя і міжнародна прызнаныя парлямантарныя выбары ўвосень 2000 г. Я вітаю згоду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь з дэклярацыяй Стамбульскага саміту, дзе падкрэсьліваецца, што толькі рэальны палітычны дыялёг у Беларусі можа пакласьці шлях для свабодных дэмакратычных выбараў... Далей я з задавальненьнем адзначаю запрашэньне ўраду Беларусі для правядзеньня міжнароднага назіраньня за выбарамі. На дадзены момант у Беларусі праходзіць складаны працэс трансфармацыі краіны ў дэмакратычную структуру. Інстытуцыі АБСЭ прыкладаюць намаганьні дзеля таго, каб дапамагчы краіне ўсталяваць дэмакратычныя інстытуты, якія адпавядаюць эўрапейскім стандартам.”

Вось гэта Фэрэра! Вось дык АБСЭ! Які „вум”, які палёт! А мы й ня ведалі аб сваім шчасьці!

Для нас, беларусаў, што жывуць на Захадзе, тут, аднак, усё зразумела. Гэтакі стан заходняга розуму новая беларуская эміграцыя абазначае асаблівым тэрмінам – *„тупізм”*. І гэта вельмі дакладна.

Беларусу, які прывучаны думаць, што ўсё лепшае не ў Беларусі, ці таму апазыцыйнаму „грантасмоку”, якому паказалі Амэрыку (праз вокны заказанага аўтобуса) ды Брусэль (праз шыбы сорасаўскага гатэлю), – усё гэта, вядома ніяк не растлумачыш. Калі ён даведаецца, напрыклад, што палова маладых, якія скончылі 8 клясаў гарадзкой школы ў Нью-Ёрку, ня могуць пісаць і, практычна, ня ўмеюць чытаць, ці што маса люду ў Амэрыцы ня ўмее лічыць больш чым да ста, то ён не паверыць, нават калі сам прачытае пра гэта ў *„Нью-Ёрк Таймс”*.

Гэткі мэтрапольны беларус вельмі маркоціцца, калі сустракае дзеякіх заходніх палітыканаў ці турыстаў, якія ня ведаюць, што такое Беларусь. Ня трэба маркоціцца, бо, як правіла, яны ня ведаюць таксама, дзе ёсьць такая Аўстралія і думаюць, што гаворка ідзе пра бэйсбольную каманду ці порна-зорку.

Калі ў вас слабыя нэрвы, катэгарычна ня раю вам пытацца ў сярэдняга заходняга жыхара, колькі, напрыклад, на Зямлі акіянаў ці мацерыкоў, альбо – што большае: Зямля ці Сонца. Гэта, як расейцы кажуць, „чрэвата” вашым аслупяненьнем. Амэрыканскія афіцэрыпілёты, што ў мінулым годзе бамбавалі Сэрбію, ніяк не маглі адшукаць яе на карце, бо нічога ня ведалі пра такую краіну.

Маркоціцца варта б было ад няведаньня той прорвы духоўнага нявольніцтва, у якую самахоць тохціць сябе добры, кемлівы, але бясхрыбетны беларус. Аднак каб пра гэта шкадаваць, ізноў жа – трэба пра гэта ведаць.

Брава, Бэніта!

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 3(26). Пад загалоўкам „Брава, Бэніта!” і пад псэўданімам „Адам Мікша”)*

# БЕЛАРУСЬ МУСІЦЬ БАРАНІЦЬ СВАЮ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

***(Заява)***

Напад міліцыі і ўнутраных войскаў на мірную дэманстрацыю ў цэнтры Менску, якая праводзілася ў гонар 82-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці ***Беларускай Народнай Рэспублікі*** – сьведчыць пра новую фазу сілавых рэпрэсіяў супраць беларусаў. Галоўная артэрыя сталіцы праспэкт імя Ф. Скарыны на працягу 10 *км* быў ачэплены ўнутранымі войскамі, спэцпадразьдзяленьнямі з сабакамі і міліцыяй. Усюды была расстаўлена ваенная бронетэхніка (некалькі дзясяткаў адзінак). На плошчы Якуба Коласа, месцы збору мірных дэманстрантаў, было арыштавана больш за ***500*** грамадзянаў, у тым ліку дзясяткі журналістаў. Схоплены былі таксама прадстаўнік АБСЭ ***Крыстафэр Паніко*** і дэпутат Сэйму Польшчы ***Мар’юш Камінскі***, замежныя госьці і тэлеапэратары. Пераважная большасьць арыштаваных былі інтэрніраваныя на тэрыторыі вайсковых частак.

Арышты праводзіліся з ужываньнем грубай сілы і суправаджаліся жорсткім зьбіцьцём. Асноўнай прыкметай і повадам для арышту была гаворка па-беларуску. Вайсковай апэрацыяй па „зачыстцы” беларускай сталіцы кіраваў Міністар унутраных справаў генэрал **Сівакоў** (расеец і выканаўца загадаў Масквы). Гэты факт быў засьведчаны ягоным уласным выступам у вячэрняй інфармацыйнай праграме Беларускага тэлебачаньня таго самага дня. Раніцай 25 сакавіка адбылася тэлефонная размова Пуціна і Лукашэнкі. І няма сумніву, што старэйшы па рангу кагэбіст аддаў загад („просьбу”) не дапусьціць антыімпэрскіх і антырасейскіх выступленьняў напярэдадні абраньня яго прэзыдэнтам Расеі. Падпарадкаваны Маскве рэжым паслухмяна выканаў загад.

Вайсковая апэрацыя супраць мірнага насельніцтва ў Менску выразна засьведчыла акупацыйны характар існуючага рэжыму ўлады. Акцыя 25 акавіка высьветліла сутнасьць палітычных падзеяў у Беларусі і паказала, што:

– канцэнтрацыя ўвагі на нібыта „перамовах” апазыцыі і рэжыму, трансфармаваных ў нібы-та „дыялёг” (усеагульную гаварыльню),

– падрыхтоўка да выбараў у „палату” (псэўдапарлямант),

– абмеркаваньне ўдзелу апазыцыі ў гэтых выбарах дзеля ўваходжаньня ў „рэальнае” палітычнае поле,

– дэбаты аб выбарчым законе ў псэўдапарлямант –

ёсьць „спэктакаль”, рэжысёры якога знаходзяцца ў Маскве. Мэтамі гэтага „спэктаклю” зьяўляюцца ***прыхаваньне рэальных працэсаў унутраннай акупацыі Беларусі і ў далейшым яе легітымізацыя, узаконьваньне рэжыму Лукашэнкі***.

Заплянавана гэтую легітымізацыю правесьці праз псэўдапарлямант. Для наданьня легітымнасьці створана калабаранцкая „апазыцыя” Лукашэнку, якая падтрымлівае імітацыю „перамоваў” і „дыялёгу” з рэжымам. На жаль, шэраг міжнародных арганізацыяў, і асабліва Група АБСЭ ў Менску, супрацоўнічаюць з калябаранцкай апазыцыяй і падтрымліваюць імітацыю „перамоваў” і „дыялёгу”.

Маштабы, жорсткасьць і характар рэпрэсіяў супраць мірных грамадзянаў 25 сакавіка сьведчаць пра адпрацоўку сцэнару ваеннага (надзвычайнага) становішча ў Беларусі. Стала зразумела, што ўлады робяць стаўку не на перамовы і дэмакратычныя выбары. Рэпрэсіўныя сілы Беларусі знаходзяцца пад камандай расейскіх генэралаў і прарасейскай акупацыйнай улады. Вызначыліся два асноўныя напрамкі расейскай адкрытай агрэсіі: зьнішчальная вайна ў Чачэніі і паступовае ўвядзеньне надзвычайнага становішча ў Беларусі.

Расея ня спыніцца на гэтых двух напрамках. Яна выкарыстоўвае Чачэнію і Беларусь як палігоны для адпрацоўкі яшчэ больш маштабных агрэсіўных дзеяньняў. Маскоўскі агрэсар дэманструе сілу, апрабоўвае тэрарыстычныя мэтады і інфраструктуры, прывучае і адаптуе ўласнае грамадзтва і міжнародную супольнасьць да вайны і гвалту. Захад павінен зразумець сапраўдныя маштабы пагрозы для Цэнтральна-Усходняй Эўропы і ўсяго чалавецтва.

Беларускі Народны Фронт і яго Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ рашуча асуджаюць парушэньне канстытуцыйных правоў і ўжываньне гвалту супраць мірных грамадзянаў.




**78-Д.** ***Угодкі Лістапада на Случчыне адзначае КХП–БНФ.***

Мы прапануем усім партыям і арганізацыям спыніць гульні з незаконным рэжымам ў „дыялёгі" і „дэмакратычныя" выбары і ня ўводзіць у зман беларускае грамадзтва. Прапануем скансалідавацца на галоўнай праблеме для беларускіх грамадзянаў – абароне незалежнасьці Беларусі ад расейскай агрэсіі. Мы зыходзім з таго, што лукашысцкі рэжым утрымлівае ўладу незаконна. Ён нелегітымны. Ён варожы для Беларусі. Таму мы прапануем выказаць агульнае патрабаваньне да Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, яго Старшыні і выконваючага функцыі Прэзыдэнта Беларусі Сымона Шарэцкага тэрмінова прыняць рашучыя захады па стварэньні законнага Ўраду і іншых уладных органаў для далейшага фармаваньня законнай улады ў Беларусі. Беларускае грамадзтва падтрымае такія дзеяньні.

***Усе на абарону Беларусі ад расейскай палітычнай агрэсіі!***

Усе на ліквідацыю антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі!

Усе на барацьбу за свабоду і вольную Беларусь!

*(Прынята кіраўніцтвам Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ 30 сакавіка 2000 г., Менск).*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
***Анатоль КРЫВАРОТ***
***Адказны сакратар Управы Сойму БНФ і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

Зянон Пазьняк
(тэл./факс:+4822 6287673)
30 красавіка 2000 г.

**Сп. Рыгору Барадуліну,**
**сп. Генадзю Бураўкіну,**
**сп. Радзіму Гарэцкаму,**
**сп. Анатолю Грыцкевічу**

Глыбокапаважаныя спадары!

25 сакавіка я меў размову ў Празе з адным з ініцыятараў арганізацыі Ўсебеларускага Сходу за абарону незалежнасьці і суверэнітэту Беларусі спадаром Аляксандрам Старыкевічам. Я падтрымаў ідэю, але выказаў меркаваньні і засьцярогі. Паколькі засьцярогі пацьвярджаюцца, лічу абавязкам напісаць вам гэты ліст.

Сітуацыя, што існуе на Беларусі (акупацыйная палітыка, дзейнасьць рускіх спэцслужбаў, "балотная" апазыцыя), абавязвае арганізатараў Сходу запабегчы галоўных небясьпекаў: прафанацыі Сходу, уплыву антыбеларускай агентуры і дыскрэдытацыі ідэі. Пагроза, па маіх ацэнках, сур'ёзная, і калі яе не ліквідаваць, то беларуская інтэлігенцыя можа быць зганьбаваная, яе нацыянальна-вызвольныя пазыцыі -- страчаныя.

Галоўнае, што, на маю думку, трэба зрабіць арганізатарам, -- выключыць магчымасьці правакацыйных ініцыятываў і абмежаваць іхняе поле дзейнасьці. У арганізатараў Сходу ёсьць адзін інтэрас і адна задача; яе

трэба выканаць, не спакушаючыся на паляпшэньні, пашырэньні ды вырашэньне ўсіх праблемаў.

Посьпеху можна дасягнуць тады, калі вытрымаць наступныя палажэньні:

-- на парадку дня Ўсеагульнага Сходу павінна стаяць толькі адно пытаньне, менавіта: *аб абароне суверэнітэту і незалежнасьці Беларусі;*

-- на абмеркаваньне Сходу прапанаваць (і ў выніку -- прыняць) толькі адзін дакумант: *аб суверэнітэце і дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі як асноўнай каштоўнасьці нацыі;*

-- у арганізацыі Сходу не павінны ўдзельнічаць (і ня мусяць быць прадстаўленыя на Сходзе) палітычныя партыі і палітычныя арганізацыі.

Калі гэтых умоваў не датрымаць, то небясьпека няпосьпеху пастаўленай задачы і яе прафанацыя павялічацца шматкроць.

Адкрыецца дарога для палітычнай агентуры, "балота", апазыцыйнай дэмагогіі і амбіцыяў; зажадаюць грошай ды грантаў, грандыёзных рашэньняў па ўсіх праблемах -- па эканоміцы ды палітыцы, -- парапануюць зьвярнуцца да арганізацыяў Захаду і "дэмакратычнай" Расеі, прапануюць рускі "язык" ды Трэці Ўсебеларускі Кангрэс, і нават дзьве сесіі Кангрэсу запатрабуюць. (Такая тэхналёгія была выкарыстаная пры спробе разбурэньня БНФ.)

Спакуса скампраметаваць, асьмяшыць, зганьбіць ды спляжыць беларускую інтэлігенцыю нібыта яе ўласнымі рукамі (ды яшчэ напярэдадні акупацыйных "выбараў", а заадно -- замараць Раду БНР і Вызвольны Рух) у непрыяцеляў Беларусі вельмі вялікая. Дзеля гэтага ўжо створаныя ўмовы і выканаўцы.

Каб пазьбегнуць некарыснага разьвіцьця падзеяў, неабходна, на маю думку, каб грамадзкая ініцыятыва Сходу ажыцьцяўлялася б на грамадзкім узроўні.

Трэба выбраць вольную і галоўнае -- простую сістэму дэлегаваньня ўдзельнікаў. Скажам, па аднаму ці два ўдзельнікі ад кожнай любой установы і кожнай любой арганізацыі (заводу, партыі і т.п.,), незалежна ад колькасьці асобаў у калектыве (ці там 20 асобаў, ці 20 тысячаў). Велічыня калектыву тут не павінна мець значэньня. Кожны калектыў вырашае сам, пасылаць ці не пасылаць удзельнікаў на Сход. Гэта мусіць быць Сход дэлегаваных грамадзянаў, а не прадстаўнікоў калектываў ды арганізацыяў. Трэба спрасьціць працу, павялічыўшы грамадзянскую свабоду ўдзелу і пазбавіўшыся партыйных квотаў, прэтэнзіяў і амбіцыяў.

Усебеларускі Сход такога значэньня павінен сабрацца хутка і, паўтаруся, ня можа адбывацца двойчы (у дзьве сэсіі). Гэта поўны алягізм і пастка для ініцыятараў.

Глыбокапаважаныя спадары. Пытаньне аб Усебеларускім Сходзе абмяркоўвалася ў кіраўніцтве Фронту, і гэтыя мае меркаваньні адлюстроўваюць нашыя ацэнкі і заклапочанасьць. Усё залежыць ад вас -- ад ініцыятараў і кіраўнікоў грамадзкай ініцыятывы, якія, на маю думку, мусяць быць у гэтым важным нацыянальным пытаньні дастаткова самастойнымі і незалежнымі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"***

**79-Д.** ***Ліст фармальным арганізатарам Усебеларускага Сходу. З. Пазьняк.***

# НАША СІЛА – БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ*

## *Беларус, зважай!*

Над беларускім народам і Беларусяй навісла пагроза. Вуснамі Лукашэнкі і Пуціна агучваюцца пляны маскоўскіх „стратэгаў”. Лукашэнка просталінейна гаворыць пра тое, што *на Беларусі будзе разьмешчаная 300-тысячная армія*. Пуцін больш дыпляматычна – пра тое, што Расея будзе адэкватна рэагаваць на пашырэньне НАТО на Ўсход.

У Расеі камунізм нарадзіў кагэбізм. Да ўлады прыйшоў рэжым, замешаны на крыві чачэнскага народу, на крыві сваіх грамадзянаў, на тэрарыстычных узрывах жылых дамоў у Маскве і Валгадонску, на рабаваньні свайго народу, на заказных забойствах, на фальсіфікацыях, ашуканстве і хлусьні. Цяпер задумана завяршыць працэс акупацыі Беларусі і беларускага народу.

Якую трэба мець балячку ў галаве, каб узбуджаць ваенны псіхоз, нацкоўваць людзей супраць краінаў Захаду, грамадзяне якіх не жадаюць нам зла. Яны вязуць нам гуманітарную дапамогу, прымаюць нашых дзяцей, дапамагаюць выратавацца ад чарнобыльскай бяды. ***Для чаго плянаваць ўвесьці 300-тысячную чужую армію на Беларусь? Хто нам пагражае?*** Ці будзе гэтая чужая армія пагрозай для краінаў НАТО, такіх як Нямеччына ці Францыя? У першую чаргу – гэта пагроза для нас, беларусаў.

Выхаванцы крывавай камуна-кагэбісцкай сістэмы плянуюць паставіць Беларусь (цяпер ужо ў новым стагоддзі) ў эпіцэнтар новай ваеннай катастрофы. Пасьля частковага развалу Савецкага Саюзу рускія імпэрскія рэваншысты пастанавілі аднавіць межы былога СССР. *Першы ўдар наносіцца па Беларусі*. Цераз свайго стаўленьніка Лукашэнку яны ўсталявалі тут рэжым унутранай акупацыі. Але ***рэальная акупацыя замацоўваецца ўвядзеньнем чужога войска на акупаваную тэрыторыю***. Прытым ня мае істотнага значэньня, якім чынам яно будзе ўведзена: ці шляхам адкрытай агрэсіі (як у Чачэніі), ці шляхам змовы і выкананьня фальшывых абавязкаў (як у краінах Балтыі ў 1939-1940 гг., у Польшчы і Чэхаславаччыне пасьля 2-й Сусьветнай вайны і г.д.), ці спосабам стварэньня нібыта сумесных вайсковых груповак на зямлі, што становіцца аб’ектам акупацыі. Менавіта апошні варыянт заплянаваны Масквой для Беларусі, дзе ўжо са згоды прадажнага рэжыму адбываецца таемнае накапленьне расейскіх ваенных сілаў.

Мы з вамі (усе беларусы) будзем адказныя за тое, калі дазволім разьмяшчэньне акупацыйнага расейскага легіёну на нашай тэрыторыі. Мы адказныя перад суседзямі, у першую чаргу – перад народамі Летувы, Латвіі, Украіны і Польшчы. Гэта супраць нас і іх будуць накіраваныя гэтыя акупацыйныя войскі. Каб утрымаць уладу, задаволіць свае хваравітыя амбіцыі, Лукашэнка з Пуціным і ўся расейская ваеншчына ўцягнуць нашыя народы ў новую бойню. Беспакараным гэта застацца ня можа. Варта ўспомніць кропкавыя ракетныя і бомбавыя ўдары войскаў НАТО па аб’ектах Югаславіі. Няўжо нам гэта трэба?

*Мы павінны рыхтавацца да ўсенароднай барацьбы за свабоду і незалежнасьць Беларусі. Але зараз у нас ёсьць час і магчымасьць спыніць рэалізацыю расейскіх злачынных плянаў.* **Трэба рабіць наступнае***:*

**1.** Неабходна разгарнуць масавыя пратэсты па ўсёй Беларусі ***супраць разьмяшчэньня расейскіх ваенных аб’ектаў і базаў на нашай тэрыторыі***.

**2.** Кожная беларуская сям’я павінна падпісаць ліст аб незаконнасьці „дагавору” пра стварэньне „саюзнай дзяржавы” Беларусі і Расеі, які прыдумалі Лукашэнка і Ельцын 8.12.1999 г. Тысячы грамадзянаў Беларусі ўжо падпісалі такія лісты і яны накіраваныя ў *ААН, АБСЭ, амбасады ЗША і Вялікабрытаніі.*

Працу па збору подпісаў праводзіць ***Беларускі Народны Фронт*** і яго ***Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ***.

**3.** Улада Лукашэнкі – нелегальная, а рэжым Лукашэнкі ёсьць незаконная ўлада. Таму абавязкам грамадзянаў Беларусі зьяўляецца ўсталяваньне законнасьці ў нашай дзяржаве і стварэньне законнай беларускай улады. Пры адпаведнай пазыцыі, ініцыятарам стварэньня законнай улады павінен быў бы выступіць Вярхоўны Савет 13-га скліканьня і ягоны Старшыня Сымон Шарэцкі. Яны павінны былі б паклікаць законны ўрад і зьвярнуцца за падтрымкай да грамадзянаў Беларусі дзеля стварэньня тэрытарыяльных органаў самакіраваньня і разам зь імі стварыць неабходныя выканаўчыя органы. Іхняя задача ёсьць арганізацыя і правядзеньне выбараў у законны парлямант Беларусі.

Аднак браць адказнасьць на сябе Вярхоўны Савет ня хоча (ці ня здольны), таму гэтую ініцыятыву прыдзецца браць на сябе *Беларускаму Народнаму Фронту* і арганізацыям *Нацыянальна-Вызвольнага Руху*.

***Трэба падтрымліваць Беларускі Вызвольны Рух і яго мэту – ліквідаваць дыктатуру і акупацыйны рэжым на Беларусі.***

**4.** Грамадзяне Беларусі *не павінны прымаць удзел у недэмакратычных выбарах, якія будуць арганізаваныя рэжымам Лукашэнкі*. Удзел у такіх выбарах замацуе злачынцаў ва ўладзе, дазволіць ім канчаткова зьнішчыць беларускую дзяржаўнасьць, ператварыць нашу моладзь у расейскае гарматнае мяса.

Расейскія палітыкі і ваеншчына разглядаюць Беларусь як тэрыторыю для далейшай экспансіі на Захад, а беларусаў – як па-рабску пакорных выканаўцаў іхняе волі і імпэрскіх задумак.

**5.** Беларусы не павінны трапляць пад узьдзеяньне шулерскіх падманаў, накшталт „перамоваў” і „дыялёгаў”, якія арганізоўвае цяпер рэжым (ці робіць выгляд, што арганізоўвае) і на якія купляецца *„балотная”* і *каляніяльная* апазыцыя. **Гэта ёсьць тэхналёгія падману, прымеркаваная дзеля прыкрыцьця акупацыйных працэсаў, зьнішчэньня дзяржаўнасьці Беларусі.**

На жаль, і *Менская група АБСЭ*, якую ўзначальвае дыплямат зь Нямеччыны *сп.* **Ганс-Георг Вік**, падштурхоўвае апазыцыю да дыялёгу з незаконным лукашысцкім рэжымам і да ўдзелу ў нелегальных лукашэнкаўскіх выбарах. Група АБСЭ актыўна ўдзельнічае ў афармленьні „балотнай” і каляніяльнай апазыцыі. Па працы групы АБСЭ ў Беларусі ўзьнікае шмат пытаньняў. Чаму група АБСЭ ўпарта ня хоча бачыць рэальныя дачыненьні Расеі і Беларусі? Чаму яна ня хоча бачыць, што ***корань зла знаходзіцца ў Маскве***? Чыю палітыку праводзіць група АБСЭ ў Беларусі? Якія ёсьць дамоўленасьці паміж Нямеччынай і Расеяй? Ці ня ёсьць Беларусь разьменнай манэтай ў гандлі Расеі і Нямеччыны за Калінінградзкую вобласьць (Усходнюю Прусію) і нафта-газавыя трубаправоды праз Беларусь?!

*Беларусы павінны быць пільнымі, не паддавацца на розныя падманныя тэхналёгіі.*

***Беларус, паклапаціся пра свой лёс і лёс сваіх дзяцей!*** Нельга паводзіць сябе безабароннай авечкай, як гэта адбывалася пад часы камуністычных крывавых 30-х, 40-х, 50-х гадоў, калі мільёны беларусаў вывозілі з родных мясьцінаў на непасільную рабскую працу і галодную сьмерць, забівалі ў Сібіры і ў Курапатах.

Мы павінны абараніць незалежнасьць Беларусі, абараніць сябе і будучыню сваіх дзяцей. ***Народ мусіць зьберагчы Бацькаўшчыну***.

*Далучайцеся да дзейнасьці Беларускага Вызвольнага Руху!*

* Зварот выкарыстоўваўся як улётка – *(З. П.)*

*Нашае выратаваньне ёсьць **Беларуская Салідарнасьць!***
*Разам мы пераможам!*
***Жыве Беларусь!***

*Прынята Ўправай Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Ўправай Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ 2.05.2000 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
***Анатоль КРЫВАРОТ***
***Адказны сакратар Управы Сойму Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Пратыі – БНФ***
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 3(26)*

# ПРА НАЗВУ ГРАМАДЗКАГА АБ’ЯДНАНЬНЯ „БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

***(Паведамленьне Сойму грамадзкага аб’яднаньня „Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”для ўсіх сябраў Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”)***

Апошнім часам некаторыя сродкі інфармацыі, у тым ліку й недзяржаўныя, ды пэўная група асобаў наўмысна ўносяць блытаніну ў назву грамадзкага аб’яднаньня «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне». У сувязі з гэтым тлумачым, што на VI Зьезьдзе (1-й і 2-ой сэсіях) Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” ды на пасьлязьездаўскіх Соймах *зьмены і удакладненьні ў гістарычную назву Арганізацыі «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» ня ўносіліся*.

13 верасьня 1999 году грамадзкае аб’яднаньне «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» было перарэгістраванае ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь (падчас перарэгістрацыі ўсіх іншых беларускіх аб’яднаньняў і палітычных партыяў). Пасьведчаньне пра перарэгістрацыю за № 00614 і перарэгістраваны Статут па даручэньні Старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянона Пазьняка атрымаў у Мінюсьце выканаўца абавязкаў Старшыні Юры Беленькі. Гэтыя дакументы знаходзяцца ў кіраўніцтве Арганізацыі. У перарэгістраваным Статуце поруч з поўнаю назваю ўтрымліваецца і **скарочаная назва** Арганізацыі: **БНФ «Адраджэньне»**.


**82-Д.** ***Сьцяг Мірона.***

У сьнежні 1999 г. Мінюст прапанаваў Сойму грамадзкага аб’яднаньня «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» скасаваць з назвы арганізацыі слова ***народны***. Мінюст спасылаўся на тое, што «палата» (адзначым: незаконна сфармаваная А.Лукашэнкам) прыняла рашэньне, паводле якога ў назвах палітычных партыяў і грамадзкіх аб’яднаньняў нельга выкарыстоўваць слова „народны.”

***Сойм не пайшоў на выкананьне такога патрабаваньня*** з наступных меркаваньняў: 1. любое іншае неабачлівае рашэньне магло прывесьці да *фактычнага прызнаньня легітымнасьці «палатаў» ды вынікаў так званага рэфэрэндуму 1996 году*; 2. *ні Сойм, ні нават Зьезд ня маюць маральнага права ўносіць зьмены ў гістарычную назву, якая належыць тысячам сябраў Арганізацыі і сотням тысячаў яе прыхільнікаў – гэтая назва навечна ўвайшла ў гісторыю беларускага вызвольнага руху*.

Паведамляем, што група дэлегатаў VI Зьезду, так званыя *прагматыкі*, якую ўзначальвалі Л.Баршчэўскі, В.Вячорка, Ю.Хадыка, не прызнала рашэньне 1-й сэсіі VI Зьезду ад 1 жніўня 1999 году пра абраньне Зянона Пазьняка Старшынём Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”, а на 2-ой сэсіі гэтая група дэлегатаў дэманстратыўна пакінула залю паседжаньня. Пасьля VI Зьезду прадстаўнікі групы „прагматыкаў” празь Мінюст пачалі аспрэчваць рашэньні Зьезду (яны пайшлі на адкрытыя перамовы з функцыянэрамі Мінюсту і яшчэ на некалькі месяцаў уцягнулі фронтаўцаў у бессэнсоўную валтузьню).

У сьнежні 1999 году група „прагматыкаў” перахапіла і ўскрыла ліст зь Мінюсту, зь якога даведалася пра патрабаваньне Мінюсту скасаваць слова народны. Тады ж зьнік бязь сьледу ліст з дакумэнтамі з Берасьцейскага абласнога ўпраўленьня юстыцыі, накіраваны сп. Ю.Беленькаму на адрас Варвашэні, 8. (Гэтак адбылося праз тое, што 13 верасьня 1999г. „прагматыкі” незаконна захапілі штаб-кватэру Беларускага Народнага Фронту – узламалі замкі, памянялі іх, ля дзьвярэй выставілі ўласную ахову зь людзей, якія не зьяўляюцца сябрамі Фронту, і загадалі не ўпускаць прыхільшкаў Зянона Пазьняка. Мэтаю раскольнікаў было справакаваць прылюдныя гвалтоўныя сутычкі і па тым самым сцэнары, які ўжо быў адпрацаваны на ўкраінскім Народным Руху, ушчэнт разбурыць і Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”).

*У сьнежні 1999г. група «прагматыкаў” незаконна ўзяла на сябе функцыі Сойму і аб’явіла ў сродках масавай інфармацыі пра выключэньне з гістарычнае назвы арганізацыі слова* ***народны***. Адпаведныя паперы самаабвешчаныя прагматыкі перадалі ў Мінюст, *чым, фактычна, засьведчылі прызнаньне ня толькі «палатаў», але й легітымнасьць рэжыму.* (І ў іншых канкрэтных паводзінах «прагматыкаў» дамінуе згодніцкая палітыка: невыпадкова ж, яны ўдзельнічалі ў «дыялогах» з рэжымам, „круглых сталах” у рэдакцыі „Советской Болоруссии”, сустрэчах «без гальштукаў» з прадстаўкамі рэжыму). Вядома ж, Мінюст быў усьцешаны такім падарункам ад «ворагаў рэжыму» і паабяцаў узамен задаволіць іхную просьбу пра рэгістрацыю.

Каб найхутчэй зарэгістравацца, *згаданая група распаўсюдзіла хлусьлівую інфармацыю, што быццам бы згублена пасьведчаньне пра перарэгістрацыю Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Статут – дакумэнты, атрыманыя ў верасні 1999 году сп. Ю. Беленькім*. Адзін з «прагматыкаў» падаў абвестку з гэтай хлусьлівай інфармацыяй у газэту «Звязда» ад 23.02.2000г., тым самым жадаючы публічна пашырыць гэтае ашуканства ня толькі сярод фронтаўцаў, але й сярод усяго грамадзтва. Сп. Ю.Беленькі быў вымушаны наведаць рэдакцыю «Зьвязды» з арыгіналамі дакумантаў, каб запатрабаваць абвержаньня, якое й было надрукаванае ў газэце за 25.02.2000г.

Нягледзячы на такі прэцэдэнт, група атрымала ў Мінюсьце пасьведчаньне пра рэгістрацыю свайго грамадзкага аб'яднаньня з поўнай назвай ***БНФ «Адраджэньне»*** й скарочанай – ***БНФ.*** *Гэтакім чынам ініцыятары расколу добраахвотна адракліся ня толькі ад слова* ***народны****, але (фармальна) і ад усяе папярэдняе гісторыі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Уласныя палітычныя амбіцыі гэтыя людзі паставілі вышэй за беларускі вызвольны рух.*

Чаму так адбылося, што Мінюст, перарэгістраваўшы яшчэ 13 верасьня 1999г. ***грамадзкае аб'яднаньне «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» (са скарочанаю назваю БНФ «Адраджэньне»)*** і выдаўшы сп. Ю.Беленькаму адпаведнае пасьведчаньне, праз паўгода ў лютым 2000г. з падачы «прагматыкаў» зноў рэгіструе быццам бы «новую» арганізацыю з поўнаю назваю *БНФ «Адраджэньне» і скарочанаю назваю БНФ*?

Адказ тут вельмі выразны – *задачаю рэжыму было і застаецца зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» ды прыручэньне рэштакў кішэннае апазыцыі, якою лёгка будзе кіраваць (да прыкладу, пасылаючы яе мітынгаваць на балота (на Бангалор) ці яшчэ ў якія гарадзкія тупікі).* У гэтай палітычнай гульні Мінюст нават праігнараваў Артыкул 12 Закону «Аб грамадскіх аб'яднаньнях, дзе гаворыцца, што назвы грамадскіх аб'яднаньняў, у тым ліку скарочаныя, ды сымболіка арганізацыяў павінныя адрозьнівацца ад назваў і сымбаляў іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, зарэгістраваных у Рэспубліцы Беларусь, каб не парушалася права на інтэлектуальную ўласнасьць.

Сойм лічыць, што тыя, хто выкрасьліў з назвы арганізацыі слова **народны**, ня могуць з маральных меркаваньняў называць сябе сябрамі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне." Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» лічыць: адстойваючы законнымі сродкамі гістарычную назву Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», мы тым самым баронім гісторыю і сутнасьць нашай арганізацыі.

*14 траўня 2000 г*
*г. Менск*

# АБ ПЕРАМОВАХ З ВЫКАНАЎЧАЙ УЛАДАЙ

***(Заява)***

Працэс падрыхтоўкі перамоваў палітычных партыяў з выканаўчай уладай на Беларусі доўжыцца ўжо амаль год. За гэты час справа ня зрушылася зь месца. Улады, дэманстратыўна і з выклікам, поўнасьцю праігнаравалі ўсе свае абяцаньні, умовы і нават тэмы перамоваў. Кіраўнік рэжыму А. Лукашэнка ня раз заяўляў пра нежаданьне весьці перамовы з палітычнымі партыямі. Узмацнілася манаполія і кантроль рэжыму над сродкамі масавай інфармацыі, дэманстратыўна парушаюцца правы чалавека, працягваецца антыбеларуская палітыка этнацыду і закрыцьця беларускіх школаў, павялічылася пагроза для незалежнасьці Беларусі – сталі вядомыя змоўніцкія пляны ўвядзеньня расейскага войска на беларускую тэрыторыю. 25 Сакавіка, на Дзень Незалежнасьці Беларусі, улады арганізавалі ў Менску агрэсіўную вайсковую апэрацыю супраць насельніцтва з ужываньнем бронетэхнікі і спэцаддзелаў унутраных войскаў. Схапілі і незаконна затрымалі звыш ***500*** асобаў, шмат каго беспадстаўна і па-зьверску зьбілі. Прытым вайсковай групай быў зроблены напад на Выконваючага абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту і старшыні Партыі БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ) ***Юры Беленькага***. Напад выглядаў як спроба забойства. Сп. Ю. Беленькага зьбівалі нават тады, калі ён ляжаў на зямлі ў стане непрытомнасьці. А. Лукашэнка асабіста (праз тэлефон) кантраляваў вайсковую апэрацыю 25 сакавіка.

Нашыя патрабаваньні да ўладаў пра выбачэньне за агрэсіўныя дзеяньні супраць народа і аб узбуджэньні крымінальнай справы за зьбіцьцё сп. Ю. Беленькага засталіся без адказу.

Выканаўчая ўлада адкрыта праігнаравала дэмакратычныя патрабаваньні і міжнародныя рэкамендацыі пра выбарчае заканадаўства, стварэньне ўмоваў даверу да выкнаўчай улады, доступ да дзяржаўных СМІ апазыцыйных палітычных сілаў. Улады ня выявілі ні добрай волі, ні жаданьня праводзіць рэальныя перамовы з палітычнымі партыямі. Яны рыхтуюць недэмакратычныя выбары па недэмакратычным законе ў бяспраўны ворган псэўдазаканадаўчай улады, дэманстратыўна парушаюць правы народа і грамадзянаў, Канстытуцыю і дамоўленасьці. Гэта ўсё робіцца з адной мэтай – паралізаваць грамадзкія сілы, любымі спосабамі зрабіць імітацыю выбараў і прадоўжыць аўтарытарную дыктатуру. Адказнасьць за нерэалізацыю перамоваў цалкам кладзецца на выканаўчую ўладу ў Рэспубліцы Беларусь.

Падтрымліваючы самую ідэю перамоваў з існуючым рэжымам улады, Партыя БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ), зыходзячы з вышэйсказанага, заяўляе, што прыпыняе сваю дзейнасьць у спробах перамоўнага працэсу палітычных партыяў з выканаўчай уладай. Далейшы ўдзел у імітацыі наладжваньня перамоўнага працэсу немагчымы. Ён будзе выкарыстаны рэжымам для прапагандысцкага прыкрыцьця ўсталяваньня сваёй легітымнасьці.

Мы гаворым пра непатрэбнасьць і шкоднасьць для беларускага грамадзтва прымаць удзел у антыдэмакратычных выбарах, якія рыхтуе аўтарытарная ўлада, ігнаруючы праўныя патрабаваньні. Мэта рэжыму – любымі спосабамі легітымізаваць сваё становішча.

Не адмаўляючы іншых магчымасьцяў, не адмаўляючы магчымасьцяў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, мы лічым, што цяпер трэба шырока зьвярнуцца да прынцыпаў непасрэднай дэмакратыі і сканцэнтраваць працу па стварэньні народнай улады самакіраваньня – ГРАМАДЗЯНСКАГА ПАРЛЯМАНТУ і ГРАМАДЗЯНСКАГА ЎРАДУ САМАКІРАВАНЬНЯ. ***Беларусь ня можа далей заставацца без дэмакратычнай улады, якая б выяўляла інтарэсы беларускай нацыі.***

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту***
***і Партыі БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***
***Анатоль КРЫВАРОТ***
***Адказны Сакратар Управы БНФ і Партыі БНФ***

*Прынята кіраўніцтвам Партыі БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)*
*22 траўня 2000 г.*

*Сьведчаньні антыбеларускай палітыкі:*

# ПРА НЯЎДЗЕЛ У ВЫБАРАХ

***(Заява)***

Ужо амаль год доўжыцца ініцыятыва Менскай місіі АБСЭ і апазыцыйных партыяў пра перамовы з выканаўчай уладай. Лукашэнка і падпарадкаваныя яму выканаўчая ўлада выявілі поўную антыпатыю да апазыцыі і нежаданьне праводзіць перамовы з палітычнымі партыямі. Спробы перамоваў не далі station ўчых вынікаў і зрухаў у

бок усталяваньня дэмакратычных умоваў правядзеньня выбараў ў паўнамоцны парлямант Беларусі.

Незаконны рэжым выйграваў час, каб бесперашкодна дзейнічаць і рыхтаваць выбары на сваіх (як выявілася, недэмакратычных) умовах. Ён праводзіў палітыку, накіраваную на ўцягваньне палітычных партыяў у выбары дзеля легітымізацыі незаконнага захопу (ў 1996 г.) і ўтрыманьня ўлады. Прадстаўнікі АБСЭ спадары **Ганс-Георг Вік** і **Адрыян Севярын** спрыялі такой палітыцы. Хоць вядома, што недэмакратычныя выбары, якія рыхтуе Лукашэнка, ёсьць выбары ў фальшывы парлямант.

У рэальным выяўленьні тут схаваны агрэсіўны інтэрас Расеі – інкарпараваць Беларусь. Дзеля гэтага ёй патрэбна праз выбары легалізаваць уладу Лукашэнкі. На гэтую справу працуюць ня толькі расейскія дыпляматы.

Кіраўнік місіі АБСЭ ў Менску Г.Вік актыўна супрацьдзейнічаў заключэньню ў пакет патрабаваньняў для перамоваў пытаньняў *пра гарантыі суверэнітэту Беларусі і пра спыненьні на пэрыяд перамоваў і выбараў дзеяньняў па аб'яднаньні Беларусі з Расеяй. Неаднаразова выказваў пазыцыю, што АБСЭ катэгарычна супраць пастаноўкі гэтых пытаньняў. Праводзіў адпаведную працу сярод эўрапейскіх палітыкаў.*

Кіраўнік рабочай групы АБСЭ па Беларусі Адрыян Севярын 1-га чэрвеня 2000 г. сустрэўся ў Маскве са старшынёй Дзяржаўнай Думы Расеі камуністам **Генадзем Селязьнёвым**, дзе вёў размовы пра сумесныя дзеяньні Расеі і АБСЭ ў Беларусі па ўцягненьні беларускіх палітычных партыяў у выбары, якія рыхтуе Лукашэнка.

А.Севярын заявіў, што будзе пераконваць беларускія партыі ўдзельнічаць у гэтых выбарах. „Трэба сфармаваць пэўны палітычны клімат, і ў гэтым мы разлічваем на падтрымку дэлегацыі Дзяржаўнай Думы Расеі",– сказаў А.Севярын.

**Дзейнасьць спадароў А.Севярына і Г.Віка ў беларусі цяпер выглядае сумніўна**.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і Партыя БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ)* ***канстатуюць:***

– кампанія правядзеньня перамоваў пра выбары паміж беларускімі палітычнымі партыямі і выканаўчай уладай грунтавалася на падвойных стандартах;

– кампанія правядзеньня перамоваў была плодам скардынаванай палітыкі некаторых заходніх дыпляматаў ды расейскіх „інтэгратараў" з мэтаю забясьпечыць удзел беларускіх апазыцыйных партыяў у сумніўных выбарах;

– задача правядзеньня выбараў у фальшывы парлямант з удзелам апазыцыйных партыяў – гэта наданьне легітымнасьці антыбеларускаму рэжыму Лукашэнкі. Калі такое будзе зроблена, то захоп і падпарадкаваньне Беларусі Расеяй пойдуць шпаркімі крокамі.

***Мы заклікаем усе палітычныя партыі не спрыяць гэтай чужой палітыцы.***

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і *Партыя БНФ* ня будуць удзельнічаць у такіх выбарах. Само жыцьцё пацьвярдждае і паказвае, што нельга прымаць удзел ні ў якіх выбарах, заплянаваных нелегітымным рэжымам Лукашэнкі.

***Недэмакратычныя, фальшывыя выбары не павінны быць прызнаныя беларускім грамадзтвам, краінамі Захаду і міжнароднымі арганізацыямі.***

Мы заклікаем актыўных грамадзянаў Беларусі працягваць змаганьне з рэжымам дзеля абароны нацыянальных інтарэсаў Беларускай дзяржавы, незалежнасьці і ўсталяваньня эўрапейскіх стандартаў якасьці жыцьця. Ёсьць выразная і канкрэтная альтэрнатыва – свабода і незалежнасьць Беларусі. Трэба хутчэй рэалізаваць магчымасьці пераменаў.

*Прынята на Сойме Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Партыі БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)*
*10 чэрвеня 2000 г.*

***Старшыня Зянон ПАЗЬНЯК***
***Адказны сакратар Анатоль КРЫВАРОТ***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 5(28).*

## MUSI BYĆ SĄD NAD KOMUNIZMEM

Sąd nad komunizmem musiał być odrazu po zakonczeniu zimnej wojny (a więc Zachód wygrał tę wojnę). Państwa zachodnie jednak (i najbardziej wtedy prezydent Busz) zadecydowały pomóc Rosji w zbudowaniu demokracji. Teraz juz rosyjska demokracja jest całkowicie zbudowana: dolary wykorzystane, majątek państwowy w posiadaniu nomenklatury, nomenklatura przy władzy, komuniści rządzą, absolutna władza państwowa w rękach KGB--FSB (NKWD); przystąpiono do przywrócenia wielkiego mocarstwa, są sukcesy w Czeczenii, Białorusi, będą większe, będzie lepiej.

Natomiast Zachód też nie śpi i już ma innę, lepszą, iluzję -- popierać Putina. Michael Emerson do niedawna ambasador UE w Moskwie, a obecnie ekspert brukselskiego instytutu CEPS tak powiedział: "Kraje "15" zachowują przychylną postawę wobec Putina, gdyz uwazają, że tylko on moze przywrocić stabilność w Rosji. -- Środowiska byłego KGB to jedyna siła, która jest do tego zdolna. Nie są to ludzie, którym szczegolnie zależy na demokracji. Ale wielu z nich jest kompetentnych".

Najgorzej, że kiedyś Hitler i Stalin, a byli ludźmi zupełnie nie kompetentnymi. No, i właśnie, zrobiono tyle głupoty.

W krajach Europy Wschodniej, które przeżyli komunizm, sytuację oceniają w sposób prawdziwy. Komunizm jeszcze nie pokonany, bo nie ukorany. Zagrorzenie istnieje.

Komunizm rosyjski (a nic innego w Europie nie było) posługiwał się kolonializmem, wzmocnił supermocarstwo i występował jednocześnie jako agresywna forma rosyjskiego imperializmu.

Teraz wszystko wraca. Te same siły, ci sami ludzie, tylko o innym obliczu. Ta sama mocarstwowa agresywna polityka.

Nie przypadkowo (i bardzo aktualnie) stało się, że konkretna inicjatywa osądzenia komunizmu powstała właśnie dziś.

12-14 czerwca w Wilnie w ciągu trzech dni obradował międzynarodowy kongres "Działalnośc i przestępstwa komunizmu", na którym powstał Międzynarodowy Trybunał nad przestępstwami komunizmu. Do Trybynału wybrano 11 prawników i działaczy społecznych z róznych krajów, m. in. Prokuratora Generalnego Białorusi Ryhora Prakapowicza, doktora prawa z Litwy Zitę Szliczitę, prawnika z Czech Stanisława Drobnego i innych przedstawicieli: Albanii, Węgier, Słowacji, Ukrainy, Estonii, Łotwy, Bułgarii.

W ciągu dwu dni przesłuchiwano świadków. Trybunał będzie nadal stale działał. Na jego czele stanął doktor Witautas Zabeła, prawnik z Litwy.

Na Kongres przyjechali przedstawiciele 21 państw; odczytano ponad 50 referatów, odczytów i powiadomień. Na otwarciu w Sejmie wystąpili Witautas Landsbergis i Lech Wałęsa, ogłoszono list prezydenta A. Adamkusa.

W obradowaniach wzięli także udział Przewodniczący Rady Najwyższej i Pełniący funkcję Prezydenta Białorusi Symon Szarecki, deputowany Państwowej Dumy Rosji Sergiej Kowalow i inne znane osoby.

**Zianon PAŻNIAK**
**Przewodniczący Białoruskiego Frontu Narodowego**

12-14.VI. 2000

**85-Д.** ***Павінен быць суд над камунізмам. З. Пазьняк.***

# ЯДНАЙМАСЯ ЗА БЕЛАРУСЬ, СУПРАЦЬ ПАЛІТЫКІ АКУПАЦЫІ Й ПАЛІТЫКІ З Д Р А Д Ы

***(Заява)***

14 ліпеня газэта „Народная Воля” надрукавала зварот да А. Лукашэнкі фракцыяў Дзяржудумы Расейскай Фэдэрацыі. Пра гэты дакумант кіраўнік „аб’яднанай апазыцыі” і старшыня АГП А. Лябедзька яшчэ ў чэрвені 2000 г. інфармаваў сябраў Кансультатыўнага Савету апазыцыйных партыяў і выдаваў у якасьці дасягненьняў удзел АГП і яго асабіста ў „круглым стале” разам з расейскімі партыямі блёку „правых сілаў”. Як пісала „Народная Воля” 22 чэрвеня 2000 г.: „Основной целью „круглого стола”, по мнению председателя ОГП А.Лебедько, стала „необходимость разработки правого взгляда на белорусско-российские отношения” ... Заседание „круглого стола” завершилось заключительным словом А.Лебедько, который высказал удовлетворение прошедшим обменом мнений”.

13 ліпеня 2000 г. прадстаўнік АГП паведаміў па радыё „Свабода”, што кіраўніцтва АГП падрыхтавала тэкст звароту да Лукашэнкі і прапанавала яго на подпіс фракцыям Расейскай Дзяржаўнай Думы.

І вось мы пазнаёміліся з гэтым зваротам і з „правым взглядом на белорусско-российскіе отношения” і, як зноў ацаніў гэты зварот А.Лябедзька, з „очень мощным политическим документом”. *(„Белорусская газета”, – 2000, 17 ліпеня)*

Падпісанты звароту цынічна, з нахабнай імпэрскай упэўненасьцю пішуць: „Мы придаем большое значение развитию отношений между нашими государствами и **усилению интеграционных процессов**. В этой связи **следует нам с двух сторон убирать всё то, что мешает этой исторической перспективе**”.

З тэксту звароту вынікае, што падпісанты прызнаюць „Палату Представителей Национального собрания Беларуси”, *якую не прызнае законнай большасьць грамадзянаў Беларусі й цывілізаваны сьвет*.

Сярод падпісантаў – вядомыя непрыяцелі Беларусі, беларускай дзяржаўнасьці й незалежнасьці: **Я.Прымакоў**, **Н.Харытонаў**, **Г.Райкоў**, **Б.Грызлоў**, сын У.Жырыноўскага **І.Лебедзеў** ды іншыя. Іхная расейска-імпэрская пазыцыя зразумелая, таму яны й просяць Лукашэнку „убирать все то”, што перашкаджае іхнай „исторической перспективе”, а гэта значыць – яшчэ мацней заціснуць і, фактычна, зьнішчыць *Беларускі Вызвольны рух*.

Расейскія вялікадзяржаўнікі зацікаўленыя, каб адбыліся любыя парляманцкія выбары ў Беларусі, каб зьмяніць сытуацыю, легалізаваць рэжым Лукашэнкі й хутчэй аформіць інкарпарацыю Беларусі ў Расею, з апірышчам на легітымнасьць новай „выбранай палаты”. Таму такія прафэсіяналы-кагэбісты, як Прымакоў, патрабуючы „прыняць” з дарогі „ўсё тое, што перашкаджае” інтэграцыі, гатовыя падпісаць усялякае (і на самой справе – пустое) патрабаваньне пра дэмакратычныя выбары ў Беларусі.

Іншая справа – погляды „аб'яднанай апазыцыі”, у якой верхаводзяць кіраўнікі АГП, і пазыцыя самых кіраўнікоў АГП. У барацьбе за ўладу *супраць асабіста Лукашэнкі* (паколькі ён іх пакрыўдзіў, калі выкінуў са сваіх структураў), *яны праводзяць тую самую палітыку, што і рэжым Лукашэнкі*: *наладжваюць хаўрусы з ворагамі Беларусі й гатовыя за ўладу прадаць Беларусь больш танна, чым Лукашэнка*. Незалежнасьць Беларусі, беларуская мова й культура для іх толькі рыторыка, спосаб ашукаць беларусаў.

Мы зьвяртаем увагу на тое, што зварот кіраўнікоў фракцыяў Расейскай Дзярждумы ўтрымлівае ў сабе грубы агрэсіўны выпад супраць беларускіх незалежніцкіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў і зьяўляецца, фактычна, пагрозай нам з боку палітыкаў чужой дзяржавы.

*Мы рашуча заяўляем пратэст супраць альянсаў „аб'яднанай апазыцыі” з імпэрска-”дэмакратычнымі” коламі Расеі, якія нясуць ня меншую небясьпеку для Беларусі, чым рэжым Лукашэнкі. Нам сталі зразумелыя дзеяньні „аб'яднанай апазыцыі”, якая ладзіць „маршы” напярэдадні традыцыйных нацыянальных акцыяў, іхная раскольніцкая пазыцыя адносна Ўсебеларускага Зьезду 29 ліпеня 2000 г. Гэта ёсьць вынік хаўрусу „аб'яднанай апазыцыі” з расейскімі імпэрскімі „дэмакратамі”.*

Мы ёсьць ***Беларускі Вызвольны Рух – Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”***, ***Партыя БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ)***, якія ў 1990-91 гадах дамагліся незалежнасьці Беларусі. Пакуль у грудзях нашых б'ецца сэрца, мы баранілі і будзем бараніць Незалежнасьць Беларусі і не дапусьцім інкарпарацыі ды „інтэграцыі” нашай краіны ў Расейскую посткамуністычную імпэрыю.

Мы не дазволім, каб *Беларускі Вызвольны Рух* разбуралі „з двух бакоў” („убирали”) спадары з Расейскай Дзярждумы й далучаная да іх каляніяльная „аб'яднаная апазыцыя”.

Няма прынцыповай розьніцы паміж мэтамі лукашэнкаўскага рэжыму і мэтамі групы „аб'яднанай апазыцыі”. **Гэта ня ёсьць альтэрнатыва Лукашэнку**. Гэта адна і тая каманда, свае людзі, якія перагрызьліся ва ўладзе і цяпер ня любяць адзін аднаго. Тыя, што апынуліся за бартом, сталі „дэмакратамі” і змагаюцца, каб адпомсьціць былым саўдзельнікам ды вярнуцца ва ўладу, зноў на сьпіне ашуканага беларускага народу.

***Хопіць!*** Цяпер ужо гэта ня пройдзе! Ня будуць ізноў беларусы галасаваць за здраднікаў і прамаскоўскіх папулістаў.

Мы заклікаем беларусаў супраціўляцца палітыцы маскоўскай акупацыі Беларусі і палітыцы нацыянальнай здрады. Мы, беларусы, мусім зразумець, што толькі мы самыя можам вырашыць свой нацыянальны лёс. Ён у нашых руках.

***Мы – беларусы – ёсьць рэальная альтэрнатыва акупацыйнаму антыбеларускаму рэжыму ў Беларусі. Яднаймася ў Беларускі Вызвольны Рух! Змагаймася – і пераможам!***

*Заява абмеркаваная 16.07. 2000 г. на паседжаньні Палiткамітэту Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ у Варшаве і прынятая кіраўніцтвам Партыі БНФ.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.***
***Юры БЕЛЕНЬКІ***
***Выконваючы абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ ў Беларусі.***

*19 ліпеня 2000 г.*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 5(28); Народная Воля, – 2000, 27 ліпеня, (скарочана).*

# АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага Зьезду, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,

– усьведамляючы адказнасьць за будучыню краіны,

– напамінаючы, што Рэспубліка Беларусь зьяўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў,

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

## ЗАЯЎЛЯЕМ:

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасьці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцьвярджае яго дзеля галоўнай мэты – свабоднага разьвіцьця і дабрабыту, годнага жыцьця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасьць краіны ў вонкавых дачыненьнях, вяршэнства, самастойнасьць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеяньні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасьці недапушчальныя і павінны карацца, як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года.* Паводле яе, Беларусь увайшла ў сьвет як нэўтральная, мірная і бязьядзерная дзяржава.

Незалежнасьць Беларусі зьяўляецца набыткам ня толькі сёньняшняга пакаленьня, але і нашых продкаў, і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны ня можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэньні дзяржаўных асобаў і ворганаў, нават праз рэфэрэндум.

Сёньня незалежнасьць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небясьпекай стала дамова аб стварэньні так званай „саюзнай дзяржавы” з Расеяй, падпісаная 8 сьнежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасьць не прызнаецца ў большасьці краінаў сьвету. Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі сьвету, і асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Летувой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасьць і абмежаваць наш суверэнітэт, зьнішчыць нашу краіну.

Незалежнасьць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў эўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасьць.

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага Зьезду,

СЬВЕДЧЫМ

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву зь яе адвечнымі сымваламі – *Бел-Чырвона-Белым сьцягам і гэрбам Пагоня;*

АБВЯШЧАЕМ

незалежнасьць і дзяржаўны суверэнітэт неад’емнай каштоўнасьцю беларускага народа;

ПРЫЗНАЕМ

ня маючымі законнай сілы пагадненьні і рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне суверэнітэту Беларусі;

ЗАКЛІКАЕМ

усіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыньнікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэі Акта Незалежнасьці Беларусі, бараніць незалежнасьць Айчыны;

парляманты і ўрады дэмакратычных дзяржаваў, міжнародныя арганізацыі і сусьветную грамадзкасьць забясьпечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Прынята Ўсебеларускім Зьездам*
*29 ліпеня 2000 года ў Менску*

* Кур’ёзам трэба лічыць, што ў Акце (які плянаваўся як сур’ёзны дакумант) не адзначана найвялікшая (побач з 25 Сакавіка) дата беларускай гісторыі XX стагоддзя – ***25 Жніўня 1991 года***, калі дэпутатамі Апазыцыі БНФ і змагарамі Народнага Фронту пры падтрымцы народу Беларусі ***была дасягнута і зацьверджана рэальная незалежнасьць Беларусі,*** шляхам наданьня Дэклярацыі аб суверэнітэце значэньня Канстытуцыйнага Закону Вярхоўным Саветам Беларусі. У Акце не ўспомнена таксама БССР, выбраныя ворганы ўлады ў якой мелі легітымнае значэньне, і гэта аблегчыла шлях да незалежнасьці. Акт аб незалежнасьці адлюстроўвае палітычны ўзровень інтэлігенцыі таго часу – *(З. П.)*

# ПРА ДЗЕЙНАСЬЦЬ КІРАЎНІЦТВА КНГ АБСЭ Ў МЕНСКУ

***(Заява)***

З 25-га да 28-га ліпеня кіраўнікі менскай місіі АБСЭ спадары **Г.Вік** і **М.Рывалье** ў суправаджэньні кіраўніка арганізацыйнай групы па падрыхтоўцы назіральнікаў на выбары сп. **М. Грыба** ў гг.Берасьце і Горадні праводзілі інструктыўныя сэмінары з удзелам прадстаўнікоў тэрытарыяльных арганізацыяў апазыцыйных партыяў і недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў (арганізацыяў трэцяга сэктару). Кіраўнікі місіі выкладалі рэкамендацыі па ўдзеле ў арганізаваных і прызначаных **А.Лукашэнкам** на 15 кастрычніка 2000 г. выбарах у бясправўную так званую „палату”, агітавалі за вылучэньне прадстаўнікоў апазыцыйных палітычных партыяў у выбарчыя камісіі й за фармаваньне групаў назіральнікаў.

Палітычныя ўмовы ў Беларусі не адпавядаюць правядзеньню адкрытых дэмакратычных выбараў. Палата ня мае заканадаўчых функцыяў, як належыць мець сапраўднаму парляманту.

Рэжым Лукашэнкі ня выканаў ніводнага пункту з пакету патрабаваньняў, выпрацаваных АБСЭ, ПАСЭ і Эўрасаюзам. Гэта пацьверджана прадстаўнікамі Міністэрстваў замежных справаў краінаў Тройкі АБСЭ (Аўстрыі, Румыніі, Нарвэгіі) падчас візыту 4-5 траўня 2000 г. у Менск і прадстаўнікамі Эўрапарляманту і ПА АБСЭ падчас візыту 19-22 чэрвеня 2000 г. На гэтых „выбарах” грамадзянам няма выбару – усё кантралюецца рэжымам Лукашэнкі.

У такіх умовах актыўная дзейнасьць рабочай групы АБСЭ ў Менску па прыцягненьні апазыцыйных арганізацыяў да выбараў у „палату” ёсьць праца, накіраваная на легітымізацыю дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі і садзейнічаньне акупацыі Беларусі Расеяй.

Праз рабочую групу АБСЭ выдзеленыя значныя сродкі для арганізацыі і правядзеньня „сэмінараў” па падрыхтоўцы назіральнікаў на „выбары”. Праз групу пасрэднікаў, якую ўзначальвае сп.М.Грыб, да правядзеньня „сэмінараў” прыцягнутыя розныя грамадзкія арганізацыі, праваабарончыя арганізацыі, некаторыя палітычныя партыі і нават прафсаюзы.

Такім чынам робіцца спроба дэзарыентаваць грамадзтва і дапамагчы рэжыму Лукашэнкі ў правядзеньні недэмакратычных выбараў. **Праекты, якія рэалізуюцца праз менскую місію АБСЭ супярэчаць інтарэсам беларускага грамадзтва**.

Беларуская інтэлігенцыя і дэмакратычнае грамадзтва, усьведамляючы небясьпеку магчымай акупацыі Беларусі кагэбісцка-імпэрскім расейскім рэжымам, прыкладаюць намаганьні па кансалідацыі грамадзянаў Беларусі на барацьбу з прарасейскім рэжымам і дзеля гэтага падрыхтавалі ***Ўсебеларускі Зьезд***, які адбыўся *29 ліпеня 2000 г.* у складзе 1380 дэлегатаў. Усебеларускі Зьезд прыняў гістарычны ***Акт Незалежнасьці Беларусі*** і пацьвердзіў, што дзяржаўная незалежнасьць зьяўляецца найвялікшай каштоўнасьцю беларускага народу.

Перад беларускім грамадзтвам стаіць ясная праграма дзеяньняў:

*– няўдзел і непрызнаньне антыдэмакратычных выбараў у „палату”, прызначаных рэжымам Лукашэнкі на 15 кастрычніка 2000 г.;*

*– разгортваньне шырокага руху ў абарону незалежнасьці Беларусі перад пагрозай інкарпарацыі і акупацыі з боку Расеі.*

**Мы рашуча заяўляем пратэст супраць антыдэмакратычных і антыбеларускіх дзеяньняў чыноўнікаў АБСЭ ў Беларусі. Відавочная ўзгодненасьць гэтых дзеяньняў з расейскімі ўладамі**.

Дзеяньні кіраўніцтва менскай місіі АБСЭ ёсьць працягам той палітыкі, якую праводзіў сп. **Севярын** падчас сустрэчы 1.06.2000

г. са сьпікерам расейскай Дзярждумы **Г.Селязьнёвым**. Назіраецца скаардынаванасьць дзеяньняў з расейскай дыпляматыяй. Пацьвярджэньнем таму ёсьць зварот да Лукашэнкі лідараў фракцыяў Дзяржфдумы РФ ў падтрымку дзеяньняў Лукашэнкі, а таксама візыт у Менск кіраўніка фракцыі ОБР Дзяржфдумы сп. **Я.Прымакова** 29.07.2000 г., падчас якога той сустрэўся з А.Лукашэнкам і падтрымаў антыдэмакратычны выбарчы закон у „палату".

Мы патрабуем спыніць антыбеларускую і антыдэмакратычную дзейнасьць кіраўніцтва Кансультыўна-Назіральнай Групы АБСЭ ў Менску і сумняваемся ў мэтазгоднасьці знаходжаньня сп. Г.Віка ў Беларусі.

*Прынята кіраўніцтвам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ.***
***Юры БЕЛЕНЬКІ***
***Выконваючы абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ у Беларусі.***

*31 ліпеня 2000 г.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 5(28); Пагоня,– 2000, 10 жніўня).*

# НОВАЕ КІРАЎНІЦТВА САЮЗУ ПАЛЯКАЎ НА БЕЛАРУСІ БУДЗЕ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З РЭЖЫМАМ ЛУКАШЭНКІ

У ліпені гэтага году адбыўся зьезд Саюзу палякаў на Беларусі, на якім выбралі новага старшыню – малавядомага дагэтуль **Тадэвуша Кручкоўскага**, які сказаў: „Мы павінны супрацоўнічаць з уладамі – вядома, змагацца за свае правы, але не палітычным спосабам".

Новы старшыня намерваецца пакінуць супрацоўнічаць зь беларускімі дэмакратычнымі арганізацыямі. *Т.Кручкоўскага падтрымалі 70 адсоткаў дэлегатаў.**

Ад самага пачатку 90-х гадоў прыязныя дачыненьні склаліся ў Саюза палякаў зь *Беларускім Народным Фронтам*. ***Тадэвуш Гавін***, былы старшыня арганізацыі, і яго атачэньне добра разумелі, што толькі ў праўнай дэмакратычнай беларускай дзяржаве, за якую змагаецца *Народны Фронт*, будуць рэальныя магчымасьці для задавальненьня сацыяльна-культурных інтарэсаў нацыянальных меншыняў.

* Агентурнае паходжаньне Кручкоўскага ні ў каго не выклікала сумненьня. Тым ня менш, Кручкоўскі быў уключаны ў польскія парляманцкія і палянійныя арганізацыі ў Польшчы, стаўся частым госьцем у Варшаве. Адначасна польская дыпляматыя на Беларусі шчыльна ўзаемадзейнічала з Саюзам палякаў, што было нэгатыўна ўспрынята рэжымам Лукашэнкі. У выніку, праз пэўны час, у сувязі з арыентацыйнай зьменай агентуры (як гэта было ўспрынята рэжымам) адбыўся дыпляматычны скандал з выдаленьнем дыпляматаў, пасьля чаго Саюз палякаў раскалоўся на дзьве арганізацыі – частка засталася з Кручкоўскім, выбраўшы новага старшыню, іншая частка арганізавалася вакол асобы, падтрыманай польскай дыпляматыяй. Тут тыповая зьява, якая адлюстроўвае дзейнасьць спэцслужбаў. Праз такія расколы, па аналягічнай схеме, прайшлі практычна ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі на Беларусі і за мяжой, уключаючы і Беларускі Народны Фронт. – *(З. П.).*

У 1995 г., ужо ў часы рэжыму Лукашэнкі, калі былі выбары ў Вярхоўны Савет, *Народны Фронт* па дамоўленасьці зьняў свайго кандыдата з акругі, дзе балатаваўся Т.Гавін, каб не ствараць канкурэнцыі, і па магчымасьці падтрымліваў Саюз палякаў. Вяліся перамовы аб сьцiслым і рэгулярным грамадзкім супрацоўніцтве паміж *Беларускім Народным Фронтам* і *Саюзам палякаў*.

У лістападзе 1996 г. адбыўся дзяржаўны пераварот, усю ўладу ўзурпаваў Лукашэнка і руская ФСБ-КГБ, што стаіць за яго сьпіной. У Беларусі ўсталяваны рэжым унутранай расейскай акупацыі ўлады. Пачаўся перасьлед усяго беларускага: друку, школаў, мовы, культуры, гістарычнай навукі, адраджэнскіх партыяў і г.д. Сьведамы беларус, інтэлігент стаў ворагам №1 для акупацыйнага рэжыму, а на *Беларускі Народны Фронт* і на іншыя дэмакратычныя арганізацыі пасыпаліся рэпрэсіі.

І вось Саюз палякаў зьмяніў сваё дэмакратычнае кіраўніцтва і павярнуўся на 180 градусаў.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 7(30). Пад псэўд. Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ).*

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

## (МЭМАРАНДУМ) СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ" І СОЙМУ КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ

У Беларусі пачалася падрыхтоўка да выбарчай кампаніі ў „палату". Сэнс гэтых выбараў для Масквы – легітымізацыя рэжыму Лукашэнкі і стварэньне бачнасьці легітымнага парляманту (каб лягчэй праводзіць інкарпарацыю Беларусі ў Расею). Для Лукашэнкі – гэта прыступка да прэзыдэнцкіх выбараў.

Ад самага пачатку было зразумела, што рэжым будзе праводзіць выбары з жорсткім кантролем і адборам кандыдатаў, будуць ужытыя ўсе спосабы, каб не дапусьціць апанэнтаў у „палату". Рэжым ня будзе ствараць сабе праблемаў.

„Мы забясьпечым вам поўны доступ да народу,– сказаў Лукашэнка, выступаючы перад сваімі „палатнікамі". – Не бярыце грошай у жулікаў. Дзяржава ў стане забясьпечыць вам выбарчую кампанію." *(БДГ,– 2000,12 красавіка)*

Выбраньне палаты з пропускам толькі лаяльных рэжыму дэпутатаў, паводле задумы, павінна умацаваць пазыцыі Лукашэнкі перад прэзыдэнцкімі выбарамі. І калі да прэзыдэнцкіх выбараў Эўропа, магчыма, будзе яшчэ гандлявацца (прызнаваць ці не прызнаваць недэмакратычна абраную палату), то ў выпадку перамогі Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах (любым спосабам) леваліберальныя палітыкі Захаду прызнаюць шмат што.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* пакуль што не змаглі эфэктыўна запабегчы антыдэмакратычным дзеяньням рэжыму. Бо вельмі шмат часу і намаганьняў патрацілі на пераадоленьне наступстваў авантуры з выбарамі прэзыдэнта ў 1999 годзе і спробаў антыбеларускіх сілаў ліквідаваць *Беларускі Народны Фронт*. Цяпер мы аднавілі сваю моц і можам прыступіць да ажыцьцяўленьня нашай альтэрнатывы – ***Грамадзянскага Парляманту*** – і канцэпцыі ***Беларускай Салідарнасьці – Грамадзянства БНР***, – якія былі замаруджаныя на два гады з прычыны ўнутраных і вонкавых атакаў на *Фронт*.

Становішча абцяжаранае і тым, што ў той час, пакуль *Фронт* праводзіў унутраную рэарганізацыю, у Беларусі, пры дапамозе лібэральнага Захаду і скрытага спрыяньня Масквы, фармальна стварылася так званая „аб'яднаная апазыцыя", якая складаецца з кіраўніцтва дэмакратычных партыяў, з былых пакрыўджаных паплечнікаў Лукашэнкі (Чыгіра, Фядуты, Лябедзькі, Багданкевіча і інш.), зь недзяржаўных арганізацыяў (НДА), што сядзяць на замежных грантах, і з так званых „незалежных" ад Лукашэнкі сродкаў масавай інфармацыі.

Апірышча „аб'яднанай дэмапазыцыі" – пастаянная фінансавая падтрымка з боку Расеі і асобных заходніх фондаў, а таксама наяўнасьць сваіх СМІ (так званы „незалежны" друк і часткова – радыё „Свобода"), якія вось ужо год, практычна, байкатуюць *Беларускі Народны Фронт* і ўвесь *Беларускі Вызвольны Рух*.

Рэальная сутнасьць „аб'яднанай дэмапазыцыі" – ў непрыняцьці і адмаўленьні ад аб'яднаўчай нацыянальнай беларускай ідэі і адсутнасьці ўласнай аб'яднаўчай ідэі, у слабасьці структураў, у фінансавай і палітычнай залежнасьці ад інвэстараў (несамастойнасьць), у інфільтрацыі спэцслужбамі (перш за ўсё, расейскімі) і галоўнае – у правядзеньні амаральнай палітыкі.

Ведаючы прыроду гэтых асобаў, мы ніколі не сумняваліся, што пры ўсіх калектыўных заявах „аб'яднанай апазыцыі" пра няўдзел ў недэмакратычных выбарах – яны ўсёадно пойдуць удзельнічаць у гэтым фарсе. Што і пацьвярджае рэчаіснасьць.

На сёньняшні дзень „аб'яднаная дэмапазыцыя" зьяўляецца сьляпой прыладай, пры дапамозе якой пэўныя палітычныя сілы ў Расеі і на Захадзе стараюцца стрымаць *Беларускі Вызвольны Рух* і замацаваць свае інтарэсы ў Беларусі праз легалізацыю рэжыму Лукашэнкі.

Шмат якія актывісты „аб'яднанай дэмапазыцыі" засвоілі такія правілы прадажнай палітычнай гульні, якія дазваляюць выкарыстоўваць апазыцыйную працу як крыніцу матэрыяльных выгадаў. Нават тэрмін прыдумалі – „палітычны бізнэс".

Але галоўны зьмест апазыцыйнае дзейнасьці шмат якіх спаборнікаў гэтай „апазыцыі"– прарвацца ды зноў вярнуцца ва ўладу. Любым коштам. І што найгорш – коштам свабоды і незалежнасьці Беларусі.

„Апазыцыянэр" Багданкевіч (што некалі падтрымаў ГКЧП) нават пачаў прасіцца ў Лукашэнкі на прэм'ера ўраду: „Калі ж усё-такі спадар Лукашэнка прапануе мне пасаду прэм'ер-міністра.., то мы ў дэмапазыцыі сур'ёзна абмяркуем гэтую прапанову, і я пастараюся пераканаць сваіх калегаў гэтую прапанову прыняць... Што да легітымнасьці ці нелегітымнасьці Лукашэнкі, то я буду разглядаць прапанову ўзначаліць урад нават у цяперашніх умовах." *(„Народная Воля",– 2000, 30 траўня)*

Дарэчы, Лукашэнка не зьбіраўся ніякіх пасадаў нікому з сваёй апазыцыі прапаноўваць. Багданкевіч, Чыгір, Лябедзька, Фядута ды іншыя яму патрэбныя ў кішэннай апазыцыі, а не ва ўрадзе.

Наш досьвед і аналіз паказвае, што ***беларусам нельга падтрымліваць ніякага кандыдата ад гэтай „аб'яднанай апазыцыі"***. Сытуацыя паказвае, што перамога кандыдата ад гэтай „апазыцыі" (якая спадзяецца на маскоўскія імпэрскія дэмсілы і сродкі) была б яшчэ горшым няшчасьцем для Беларусі, чым прэзыдэнцтва Лукашэнкі. Бо гэтыя людзі, якія будуць ісьці пад імем беларускай апазыцыі і дэмакраты, прададуць Беларусь, не гандлюючыся, – за сто даляраў, за капейку (нават не за маскоўскі трон, як плянаваў Лукашэнка). Тады аншлюс Беларусі будзе „дэмакратычна" афармлены.

Чарговая правакацыя, якую па падказцы замежных зацікаўленых палітыкаў, абвесьціла „аб'яднаная апазыцыя" – гэта правядзеньне ўсенароднага рэферэндуму па падтрымцы 4-х умоваў дэмакратычных выбараў у Беларусі, сфармуляваных АБСЭ.

Справа ня ў зьмесьце пытаньняў (яны не для рэфэрэндуму). Ва ўмовах акупацыйнай дыктатуры выступаць з прапановай праводзіць любы рэфэрэндум могуць толькі палітычна неадукаваныя людзі альбо сьведамыя правакатары. Рэфэрэндум – зброя дыктатара, і дыктатура рэфэрэндумы выйграе заўсёды. Лукашэнку застаецца толькі скарыстаць гэтую ініцыятыву і правесьці рэфэрэндум разам з выбарамі ў палату, уключыўшы туды свае пытаньні, напрыклад, пра „інтэграцыю" з Расеяй.

Калі ж „аб'яднаная дэмапазыцыя" плянуе правесьці свой прыватны рэфэрэндум, кшталту мінулагодняй прамаскоўскай афёры з выбарамі прэзыдэнта, то двойчы адна і тая ж авантура ня пройдзе. (Як, дарэчы, не прайшла яна й у 1999 годзе, хоць *Народны Фронт* панёс вялікія страты.)

***Трэба спыніць гэты „блуд" і гэтую здраду, гэтую імітацыю палітычнай працы пад расейскія грошы і заходнія гранцікі ды падачкі, гэтае глумленьне зь беларускага грамадзтва, гэтыя правакацыйныя „маршы" напярэдадні вялікіх беларускіх сьвятаў, гэтыя звароты ў расейскую Думу, паходы ў „балота" і тупікі, ды гучную дэмагогію пра „вялікія перамогі", якія быццам бы напалохалі Лукашэнку.***

Зрэшты, яны могуць імітаваць, рабіць і зарабляць на чым хочуць, толькі ня коштам інтэлектуальнай уласнасьці *Беларускага Вызвольнага Руху* і ня коштам даверу беларусаў. Кожны чалавек можа займацца палітыкай. Але асобы, якія, знаходзячыся ў апазыцыі, адкрыта засьведчылі сваю сьведамую амаральнасьць, схільнасьць да ашуканства, да паразітаваньня на народнай бядзе – ***такія асобы не павінны быць пры ўладзе***. Беларусам нельга зноў ашукацца і зноў за іх галасаваць.

Мы памятаем, як шэсьць гадоў таму, разам з расейскім КГБ-ФСБ, Лукашэнку вялі да ўлады „маладыя ваўкі" Булахаў, Ганчар, Лябедзька, Сініцын, Шэйман, Кучынскі, Ціцянкоў, Фядута, Чыгір ды іншыя. Яны ведалі, што рабілі, ведалі, як Лукашэнка адмоўна адносіцца да суверэнітэту Айчыны. Потым бальшыня зь іх здрадзіла Лукашэнку, бо ня здолела ім кіраваць. Цяпер гэтыя „разумнікі" зноў шукаюць падтрымку ў Маскве, толькі б вярнуцца ва ўладу, хоць ведаюць, якая Маскве патрэбна расплата. Яны яшчэ тады сьведама здрадзілі Беларусі.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ, увесь Беларускі Вызвольны Рух і франтаўскія арганізацыі ў Беларусі* мусяць расказаць людзям, чаму мы ня ўдзельнічаем у выбарах, і весьці растлумачальную працу сярод насельніцтва, каб не дапусьціць уцягваньня грамадзтва ў чарговую афёру „аб'яднанай дэмапазыцыі" пад назвай „рэфэрэндум".

З гледзішча беларускага суверэнітэту, будучыні Беларусі і беларускіх нацыянальных інтарэсаў, няма прынцыповай розьніцы ў дзейнасьці каманды Лукашэнкі ва ўладзе і дзейнасьці каманды яго былых паплечнікаў у „аб'яднанай дэмапазыцыі". Канчатковы вынік іхнай дзейнасьці аднолькавы.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ* сумесна з грамадзтвам прыклалі шмат намаганьняў, каб не дапусьціць зрыву Усебеларускага Зьезду, які хацела перакуліць „аб'яднаная дэмапазыцыя". ***Найвялікшая падзея апошніх гадоў XX-га стагоддзя – Усебеларускі Зьезд у абарону незалежнасьці – адбыўся***, нягледзячы на нікчэмнае супроцьдзеяньне „аб'яднанай дэмапазыцыі".

***Цяпер пад сьцягам магутнай народнай падтрымкі, адлюстраванай у Акце Незалежнасьці Беларусі, Беларускі Вызвольны Рух будзе надалей змагацца за волю і дэмакратыю, за свабоду і незалежнасьць роднай Беларусі.***

Маючы ўжо міжнародны досьвед, мы разумеем, што цяперашнюю, лева-лібэральную Эўропу, не цікавіць наша нацыянальная

трагедыя – зьнішчэньне беларускай мовы, культуры і незалежнасьці. Мы ведаем узровень іхных лібэральных інтарэсаў і цану іхных лібэральных плянаў. У адрозьненьне ад „аб'яднанай апазыцыі", мы арыентуемся на Эўропу Хрысьціянскую, Эўропу маральную, а не на Эўропу лібэральнай дэмагогіі і падвойных стандартаў.

Мы ня мелі і ня маем ніякіх ілюзіяў адносна імпэрскай Расеі. Пакуль будзе існаваць гэтая каляніяльная імпэрыя, то незалежна ад таго, якая ўлада там будзе, Расея заўсёды, як і дагэтуль, будзе праводзіць антыбеларускую палітыку, каб ліквідаваць нашу дзяржаву, зьнішчыць беларускую нацыю, мову, культуру.

Але што б ні было, нават калі б нам усім пагражала сьмерць, ***мы баранілі і будзем бараніць наш Беларускі Народ, нашу Беларускую Дзяржаву, нашу Беларускую Мову і нашу Беларускую Культуру***, гаворачы народу праўду, і толькі праўду.

– Мы ня ўдзельнічаем у антыдэмакратычных выбарах.

– Мы заклікаем людзей не прымаць удзелу ў фальшывых гульнях ды рэфэрэндумах „аб'яднанай апазыцыі". Тым больш, што шмат хто з гэтых дэмакратычных дзеячоў самы удзельнічаюць у недэмакратычных выбарах.

– Рэальнай апазыцыяй дыктатарскаму рэжыму на Беларусі, палітыцы расейскай акупацыі ды „інтэграцыі" быў і ёсьць *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і *Пратыя БНФ (Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ)*, а цяпер – і ўвесь *Беларускі Вызвольны Рух, беларускі народ*, які прыслаў дэлегатаў на ***Ўсебеларускі Зьезд*** і падтрымаў ***Акт Незалежнасьці Беларусі***.

Грунтам нашага яднаньня супраць расейскай акупацыі павінна стаць *Беларуская Салідарнасьць*, на аснове каштоўнасьцяў беларускай нацыі: ***Беларускай Дзяржавы, яе тэрыторыі і ўласнасьці, Беларускай Культуры і Беларускай Гісторыі***.

***– Мы заклікаем актыўна дэманстраваць гэтую салідарнасьць і далучацца да супольнасьці Грамадзянства БНР***.

***– Мы заклікаем падпісывацца за абарону Незалежнасьці Беларусі***.

***– Мы заклікаем арганізоўваць беларускае самакіраваньне, падтрымліваць выбары і стварэньне Грамадзянскага Парляманту Беларусі***.

Памятайма, што стварэньне ***Грамадзянскага Парляманту*** – у нашых руках. Гэта крок да рэальнай народнай улады ў Беларусі і рух у абарону *Беларускага Чалавека* ад зьдзеку і зьнявагаў акупацыйнага рэжыму.

***Абарона Беларусі – канстытуцыйны абавязак кожнага грамадзяніна. Падтрымлівайце Беларускі Вызвольны Рух!***

*Прыната Соймам Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Соймам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ (Партыі БНФ)*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***
***Юры БЕЛЕНЬКІ***
***Выканаўца абавязкаў Старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ ў Беларусі***
***Анатоль КРЫВАРОТ***
***Адказны Сакратар Управы Сойму Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*12 жніўня 2000г.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000, № 5(28); Берасьце, – 2000, № 10, лістапад.)*

# У АРГАНІЗАЦЫЮ ПА БЯСЬПЕЦЫ І СУПРАЦОЎНІЦТВУ Ў ЭЎРОПЕ

## ЗАЯВА

Дэмакратычная грамадзкасьць Беларусі са зьдзіўленьнем назірае, як некаторыя палітычныя колы Заходняй Эўропы, асабліва нямецкая дыпляматыя, спрыяюць расейскай акупацыйнай палітыцы ў Беларусі. Адным з інструмантаў гэтай антыбеларускай палітыкі актыўна праявіла сабе кансультатыўна-назіральная група АБСЭ ў Менску, якую ўзначальвае нямецкі дыплямат сп. Г.Г.Вік. КНГ АБСЭ актыўна ўключылася ў працэс падрыхтоўкі выбараў у псэўдапарлямант дыктатара. Сп. Вік і ягоныя супрацоўнікі ездзяць па ўсей Беларусі, арганізуюць прапагандысцкую і падрыхтоўчую кампанію да псэўдавыбараў. Праз АБСЭ выдзеленыя значныя сродкі на прапаганду выбараў і падрыхтоўку назіральнікаў. Складваецца ўражаньне, што АБСЭ спрыяе працэсам акупацыі Беларусі і пашырэньню Расейскай імпэрыі. Вынікам такіх дзеяньняў можа быць толькі глыбокі палітычны крызіс у нашай краіне і дэстабілізацыя становішча ва ўсей Усходней і Цэнтральнай Эўропе.

Цяжка паверыць, што КНГ АБСЭ ня ведае аб тым, што дыктатарскі рэжым ня выканаў аніводнай умовы прызнаньня вынікаў выбараў, высунутых міжнароднай супольнасьцю. Безумоўна, ведае. І дзейнічае сьвядома.

У сувязі з гэтым мы патрабуем:
- спыніць дзейнасьць КНГ АБСЭ па прапагандзе і падрыхтоўцы псэўдавыбараў;
- не прысылаць у Беларусь міжнародных назіральнікаў на псэўдавыбары ў кастрычніку 2000 г.;
- зьмяніць кіраўніка КНГ АБСЭ у Менску, сп. Вік свае магчымасьці ў Беларусі вычарпаў.

***Беларускі Народны Фронт „АДРАДЖЭНЬНЕ"***
***і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ***

*25 жніўня 2000 г.*

# ВЫСТУП НА СЬНЕЖАНЬСКІМ СОЙМЕ

## КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ І БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ» (СКАРОЧАНА)

...2-га сьнежня мы зьбіраліся ў Варшаве ўсім кіраўніцтвам і Паліткамітэтам партыі. На мой погляд, абмен думкамі і абмеркаваньне пытаньняў было патрэбным і карысным. Мы ўсе пагадзіліся, што наша палітычная пазыцыя і дзеяньні ў 2000-м годзе былі правільнымі і своечасовымі. Асабліва што датычыць так званага «перамоўнага працэсу», адносінаў да так званай «аб'яднанай апазыцыі», да выбараў, да дзейнасьці нямецкай дыпляматыі, да Ганса Віка і г.д. Спадара Віка неабходна выдаліць зь Беларусі. У гэтай адыёзнай асобе сканцэнтравалася ўся сутнасьць нямецкай антыбеларускай дыпляматыі. У сераду (6.12.2000) ў польскім Сейме выступаў канцлер Нямеччыны Герхард Шродэр і, гаворачы пра Усходняю

Эўропу, зрабіў выгляд, што Беларусі ўжо не існуе. Такія паводзіны толькі пацьвярджаюць, што нас прадаюць.

Але Беларусь жыла і будзе жыць, бяз немцаў і маскалёў. Ганс Вік павінен пакінуць Беларусь. У гэтым яму трэба дапамагчы. Калі ён своечасова ня выедзе, то потым – яму ж горай. Бо ня вечна будзе трываць гэты рэжым на нашай зямлі.

Адносна нямецка-расейскай антыбеларускай палітыкі мы павінны памятаць, што гэтая палітыка ўзьнікла ня сёньня і ня ўчора, а даўно. Яна прывяла да ліквідацыі Рэчы Паспалітай і нашай свабоды, да паняволеньня народаў Усходняй Эўропы, выклікала І-ю і ІІ-ю Сусьветныя войны і працягваецца вось ужо трэцяе стагоддзе. Ня цяжка пралічыць, да чаго яна можа прывесьці.

Свабода Беларусі залежыць не ад добрых стасункаў з Расеяй і Нямеччынай (іх ня будзе, пакуль існуе Расея), а ад самых беларусаў, таксама і ад існаваньня незалежнай Украіны, Польшчы і Летувы, ды добрых дачыненьняў з гэтымі суседзямі. Гэтак сама незалежнасьць Украіны залежыць ад існаваньня вольнай Польшчы, Беларусі і Летувы, а незалежнасьць Польшчы – ад вольнай Украіны, Летувы і Беларусі. Тут ўзаемасувязь.

Для нас – народаў-суседзяў – гэта «абэцэда», правіла, пацьверджанае гісторыяй, якое мы мусім ведаць напамяць. Гэта рэальнасьць, якую мы назіраем. Калі мы хочам вольна, незалежна і добра існаваць у сьвеце, то ўсе мы ва Усходняй Эўропе павінны трымацца салідарна, разам, падтрымліваць адзін аднаго. Гісторыя і рэчаіснасьць пацьвярджаюць, што Захад ёсьць Захад, Усход ёсьць Усход, а мы – ёсьць мы.

Нямецка-расейская палітыка вядзе да таго, каб у пэрспэктыве немцы маглі расправіцца з Польшчай у «аб'яднанай Эўропе», а расейцы – зь беларусамі, украінцамі і летувісамі ў адноўленай Расеі.

Над усёй гэтай тайнай і яўнай палітыкай чадзіць дым дэмагогіі пра дэмакратыю і правы чалавека, у той час, калі добра відаць, што ўсю гэтую дэмакратыю яны, не задумваючыся, здаюць за нейкую лядашчую трубу (ня кажучы ўжо пра «чалавекаў»).

Я лічу, што мы даволі грунтоўна прааналізавалі ў Варшаве пытаньне аб прэзыдэнцкіх выбарах і пра стварэньне законнага Ураду і выпрацавалі канкрэтныя прапановы для Сойму.

Безумоўна, неабходна падтрымаць ініцыятыву пра стварэньне Ураду. Але мы ведаем, што рэальна гэты Урад можа абаперціся толькі на Беларускі Вызвольны Рух. Таму ўзначальваць і дзейнічаць у ім мусяць прадстаўнікі БВР. Ніякіх «палітычных бурбалак» тут не павінна існаваць. Прафанацыя ня будзе намі ўспрынята.

Трэба пацьвердзіць правільнасьць нашага рашэньня аб дачыненьні Партыі і Фронта да выбараў Прэзыдэнта. Варыянт «Лукашэнка, зыходзь!» ужо прамаруджаны, але калі будзе створаны Урад, то гэты лёзунг стане актуалльным. На сёньняшні дзень мы маем адзінага кандыдата ад Беларускага Вызвольнага Руху. Тут сытуацыя прапрацаваная, на мой погляд, ня дррэнна і праца Фронту ня зыйдзе ўхаластую.

Мы разумеем усе складанасьці і ня маем ілюзіяў адносна прафанацыі будучых выбараў. Але сытуацыя складваецца такая, што можа ўзьнікнуць магчымасьць, калі актывізуецца грамадзтва і ўвесь народ. Мы не павінны стаяць убаку ад магчымасьці гэтай калізіі і яе вырашэньня.

Цяпер трэба выразна сьцьвердзіць відавочнае, што толькі Беларускі Вызвольны Рух выяўляе інтарэсы Беларускага Народа і зьяўляецца рэальнай альтэрнатывай усім антынезалежніцкім і шкурным палітыканам, ад Лукашэнкі і Крамля, да «прагматыкаў» з так званай «аб'яднанай апазыцыі»....

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту***
***і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*9 сьнежня 2000 г., Варшава*

2000 г.

**Хто кіруе Рэспублікай Беларусь?**

| Орган дзяржаўнага кіраваньня і пасада | Прозьвішчы кіраўнікоў | Паходжаньне |
|---|---|---|
| Прэм'ер-міністр | Ярмошын Ул. Вас. | расеец |
| Першы намесьнік Прэм'ер-міністра | Кабякоў Андрэй Ул. | расеец |
| Намесьнік Прэм'ер-міністра - Міністр замежных спраў іяго намесьнікі: | Латыпаў Урал Рамдракавіч<br>Мартынаў С. М.<br>Пятроў А. Ул.<br>Дабрамудраў А. А. | расейцы |
| Намесьнік Прэм'ер-міністра | Замяталин Ул. Пятр. | расеец |
| Намесьнік Прэм'ер-міністра | Кокараў Валер. Ів. | расеец |
| Міністр архітэктуры і будаўніцтва і яго намесьнікі: | Курачкін Г. Ф.<br>Голубева Т. Г.<br>Нічкасаў А. І.<br>Філіпаў С. Я. | расеец |
| Міністр унутраных спраў і яго намесьнікі: | Сівакоў Ю. Л.<br>Удовікаў М. Дз.<br>Жадобін Ю. В.<br>Чванкін А. А. | расейцы |
| Міністр лясной гаспадаркі | Зорын Вал. Паўл. | расеец |
| Міністр абароны і яго намесьнікі: | Чумакоў А. П.<br>Казлоў М. Ф.<br>Хрыстафораў А. С. | расейцы |
| Міністрт адукацыі і яго намесьнікі: | Стражаў В. І<br>Хрусталёў Б. М.<br>Іваноў Б. В.<br>Купцоў А. І. | расейцы |
| Міністр па надзвычайных сітуацыях і яго намесьнікі: | Астапаў Валер. Паўл.<br>Барыеў Энвер Рызаевіч<br>Бікінін Б. С.<br>Калбаскін А. М.<br>Барынгольц Б. С. | расейцы |
| Міністр транспарту і камунікацый | Лукашоў А. Вас. | расеец |
| Міністр эканомікі і яго намесьнікі: | Шымаў Ул. Мік.<br>Енін Ю. І.<br>Найдуноў Ул. Андр.<br>Ткачоў С. П. | расейцы |
| Міністр юстыцыі і яго намесьнікі: | Варанцоў Г. Мік.<br>Галаванаў В. Р.<br>Сяргеева Вольга Г. | расейцы |
| Цэнтральная выбарчая камісія і гэтак далей | Ярмошына Л. М. | расейка |

**93-Д.** ***Хто кіруе Рэспублікай Беларусь? 2000 год.***



**94-Д.** ***Мірон устанаўлівае Беларускі Сьцяг у Віцебску. 26.XII. 2000 г.***

# РЫЦАР БЕЛАРУСКАГА СЬЦЯГА

## *(Подзьвігі Мірона)*

Легендарны Мірон ажыцьцявіў новы подзьвіг. *26 сьнежня* на другі дзень Нараджэньня Хрыстовага, апоўдні, ў вышыні над Віцебскам зьявіўся Мірон у барвовым плашчы. Ён узьняў беларускі *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* на 110-мэтровым коміне гарадзкой ТЭЦ. Укленчыўшы там, у гары, ён прачытаў *„Малітву за Беларусь" Рыгора Барадуліна*. Потым пакінуў традыцыйную цыдулку і зьнік.

У цыдулцы было напісана: ***„Беларусь сустракае трэцяе тысячагоддзе пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам. З гэтым сымвалам мы выканаем запавет Кастуся Каліноўскага"***.

*Апрануўшыся ў барвовы плашч, Мірон паказаў усім, што ён ёсьць рыцарам Беларускага Сьцяга. Рыцар сьмелы і высакародны.*

Адвага і сьмеласьць Мірона ўражвае. Больш за 5 гадзінаў у марозны зімовы дзень ён знаходзіўся над горадам у ветранай вышыні. Ня толькі звышмерная цярплівасьць, але й вядомая „няўлоўнасьць" дапамаглі яму ў гэты раз. Унізе яго чакала міліцэйская пастка. Ён ледзь ня быў затрыманы. Але, дзякуючы беларускай кемлівасьці, усё прамінулася, ён здолеў застацца на волі й захаваць у таямніцы свой твар.

Потым у яго спыталі, як яму ўдалося вытрымаць гэтыя марозныя гадзіны. *„Мне дапамагала любоў да маёй сінявокай Беларусі. На гэтай вышыні я бачыў мой родны горад як на далоні. Я бачыў вуліцы, дамы, людзей, якія сьпяшалі на працу. Такі горад, як наш, і ўсю краіну трэба бараніць. БО НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ – ГЭТА ЖЫЦЬЦЁ."*

Сьцяг лунаў над Віцебскам цэлы дзень. Уладам зь цяжкасьцю ўдалося яго зьняць толькі позна вечарам, калі сьцямнела. Дасьціпны Мірон закруціў ланцугом і замкнуў на замок верхнюю пляцоўку на коміне і здымальнікі ніяк не маглі дабрацца да сьцяга. А калі яны паспрабавалі адамкнуць замок, то ў замочнай адтуліне таксама знайшлі цыдулку Мірона, дзе было напісана: *„Заўсёды знойдзецца халуй, які захоча выслужыцца перад рэжымам"*.

Потым журналісты стараліся дакапацца да падрабязнасьцяў подзьвігу. Дзеяньні Мірона былі навідавоку. Іх назірала шмат людзей. У тым ліку старшыня Віцебскай філіі *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ* **Уладзімер Плешчанка** ў якасьці карэспандэнта *вольнай газэты „Выбар"*. Ахоўнікі, на момант страціўшы з поля зроку Мірона, першым чынам, па прывычцы, накінуліся на спадара *Плешчанку* (знаёмы бо). У гэты час Мірон бясследна зьнік, растварыўшыся, нібы дым, у паветры.

Спадара *Плешчанку* тым часам пратрымалі ў пастарунку да 20-ці гадзінаў і потым адпусьцілі, патлумачыўшы, што нібы та пераблыталі яго зь іншым чалавекам, „які зьдзейсьніў злачынства". СЛАВА МІРОНУ!

***(Паводле SANA і матэрыялаў С. Радзько)***

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2000/2001, № 1(31).*

# 2001




**96-Д.** ***„Чарнобыльскі шлях" на рацэ Піне. Пінск. 2001 г., КХП–БНФ.***

# ПРА ЭКАНАМІЧНУЮ АГРЭСІЮ ІМПЭРСКІХ КОЛАЎ РАСЕІ

*(Заява)*

*21 лютага 2001 г.* Дзярждума Расеі ратыфікавала пагадненьне пра ўвядзеньне ў Беларусі расейскага рубля, якое ў лістападзе 2000 г. падпісалі Лукашэнка і Пуцін. Расейская мафія так сьпяшаецца захапіць уласнасьць Беларусі, што нават ня стала чакаць, пакуль гэты антыканстытуцыйны акт ратыфікуе лукашэнкаўская „палата". Дзеяньні прэзыдэнта Расеі Пуціна і Дзяржджумы Расеі ёсьць акт вонкавай агрэсіі.

Па-іншаму кваліфікуецца дзейнасьць асобаў і ворганаў рэжыму зь беларускага боку. Лукашэнка, падпісаўшы пагадненьне, парушыў артыкулы 136,8 і 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэтыя артыкулы ўсталёўваюць наступныя палажэньні:

— Арт. 136: „...***Нацыянальны банк ... валодае выключным правам эмісіі грошай".***

— Арт. 8, абзац 3: „***Не дапускаецца заключэньне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі***".

— Арт. 1, абзац 3: „***Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, канстытуцыйны лад, забясьпечвае законнасьць і правапарадак***".

У адпаведнасьці з падпісаным пагадненьнем Нацыянальны банк Беларусі будзе пазбаўлены права эмісіі, а дзяржава пазбаўляецца асноўнага чыньніку сувэрэнітэту і нацыянальнай бясьпекі — уласных грошай. Лукашэнка сьведама пайшоў на непасрэднае парушэньне асноўнага Закону Рэспублікі Беларусь — Канстытуцыі. Паводле Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (разьдзел 13, гл.32, арт. 356) характар зьдзейсьненага парушэньня ўтрымоўвае ўсе нормы, якія кваліфікуюцца як дзяржаўная здрада. „Статья 356:

... оказание помощи иностранному государству в проведении враждебной деятельности против Республики Беларусь путём совершения преступлений против государства по заданию органов или представителей иностранного государства, умышленно совершённые гражданином Республики Беларусь **в ущерб внешней безопасности Республики Беларусь, её суверенитету,** *территориальной неприкосновенности,* **национальной безопасности и обороноспособности (измена государству),** *наказывается лишением свободы на срок от семи до пятнадцати лет".*

(Вытрымка пададзена па-расейску, бо беларускамоўнага тэксту не існуе).

Да злачынства зьбіраюцца спрычыніцца і дэпутаты незаконнай „палаты". Да веснавой сэсіі яны рыхтуюць дакуманты, каб прагаласаваць за гэтае антыканстытуцыйнае пагадненьне. Ніякім „канстытуцыйным актам" (на што спадзяецца **Малафееў**, **Машэрава** ды ім падобныя) немагчыма будзе прыкрыць злачынства.

Згаданыя артыкулы Канстытуцыі могуць быць зьмененыя толькі шляхам рэфэрэндуму (нават паводле канстытуцыі ў рэдакцыі 1996 г., арт.140).

Злачынства, учыненае Лукашэнкам і ягоным рэжымам, цягне за сабой велізарныя страты і разбурэньні. На працягу сямі гадоў рэжым кансэрваваў савецкія мэтады вядзеньня гаспадаркі, душыў ініцыятыву беларусаў, беларускі бізнэс, не даваў разгарнуцца рэформам. Цяпер, калі расейская агентура завалодала асноўнымі пасадамі ў структурах улады і ў эканоміцы Беларусі, яна адкрыта вядзе акупацыйную палітыку ў інтарэсах расейскіх імпэрскіх колаў, дапамагае расейскім і мафіёзным структурам прыхапіць лепшыя беларускія прадпрыемствы і маёмасьць. Праз эканамічную агрэсію — увядзеньне расейскага рубля ў Беларусі — Расея пляную завершыць акупацыю Беларусі.

Мы зьвяртаем увагу грамадзянаў Беларусі на незаконныя і злачынныя дзеяньні А.Лукашэнкі і ягонага прамаскоўскага рэжыму. Лукашэнка з 20 ліпеня 1999 г. утрымлівае ўладу незаконна, сілавымі мэтадамі. Гэта зь ягонай дапамогай расейская агентура захапіла ключавыя пасады ў выканаўчых структурах улады, прамысловасьці і праводзіць палітыку на зьнішчэньне беларускай дзяржавы , на захоп беларускай уласнасьці, на асіміляцыю беларусаў, на выцясьненьне беларусаў з роднай зямлі.

Мы заяўляем, што змова пра стварэньне так званай „саюзнай" дзяржавы і яе рэалізацыя з боку Расеі ёсьць ***агрэсія супраць Беларусі, а з боку А.Лукашэнкі і ягонага рэжыму ёсьць дзяржаўная здрада***.

Мы зьвяртаемся да грамадзянаў Беларусі з заклікам згуртавацца перад пагрозай расейскай агрэсіі.

Мы заклікаем беларусаў абапірацца ў сваіх дзеяньнях толькі на Канстытуцыю і законнасьць. Указы, дэкрэты, распараджэньні, загады ды іншыя падзаконныя акты, якія супярэчаць Канстытуцыі і заканадаўству, не падлягаюць выкананьню.

*10.03.2001 г.*

***Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ***

**97-Д.** ***Пра эканамічную агрэсію імпэрскіх колаў Расеі. Заява Сойму КХП – БНФ 10.03.2001.*** *Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 001, № 3 (33), с.6).*

# ІДЗЕ ВЯЛІКАЯ ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ВАЙНА!

15 гадоў мінула пасьля катастрофы на Чарнобыльскай АС. Аднак яе наступствы для нас усё яшчэ ня сталі гісторыяй, бо яны моцна трымаюць у сваіх сьмяротных кіпцюрах наш народ.

Ужо відавочна, што **для беларусаў чарнобыльская навала па сваіх дэмаграфічных наступствах значна пераўзыходзіць Другую Сусьветную вайну, калі загінуў *кожны трэці* беларус**. Але яшчэ страшней тое, што мы ня ведаем, на колькі большую за вайну шкоду гэтая катастрофа нам прынясе ў пэрспэктыве, бо наступствы яе толькі разгортваюцца.

Каб ня быць галаслоўным, спашлюся на выніку апошняга перапісу насельніцтва Гомельшчыны (1999г.). Паводле яго пабудавана так званая *дэмаграфічная піраміда,* якая адлюстроўвае структуру насельніцтва па ўзроставых групах (мал.1). У норме такая піраміда павінна мець шырокую *аснову*, масіўнае *цела* і вузкае *наверша*. Шырыня *асновы* залежыць ад колькасьці нованароджаных і дзяцей ва ўзросьце да чатырох гадоў. Вышыня *цела* піраміды залежыць ад сярэдняй працягласьці жыцьця людзей, вышыня *наверша* — ад максімальнай працягласьці жыцьця доўгажыхароў. Плошча ўсёй піраміды прапарцыянальная колькасьці насельніцтва Гомельшчыны.




***Мал.1. Структура насельніцтва Гомельшчыны па полу і ўзросту (Дэмаграфічная піраміда). Паводле перапісу 1999 г.***

Вядома, што ў постчарнобыльскі пэрыяд народанасельніцтва нашай вобласьці няўмольна зьмяншаецца (мал.2). Гэта зьвязана зь няўхільным павелічэньнем сьмяротнасьці, зьніжэньнем нараджальнасьці і скарачэньнем працягласьці жыцьця (мал.3). Як гэта адбілася на форме дэмаграфічнай піраміды, добра бачна, бо за апошнія 15 гадоў яна набыла выгляд падсечанага дрэва: яе *аснова* стала ўдвая вузейшая за *цела*! А гэта ў сярэднетэрміновай пэрспэктыве азначае ***зьмяншэньне насельніцтва рэгіёна ўдвая***! (На малюнку 4 паказаны прагназуемы выгляд дэмаграфічнай піраміды Гомельшчыны. Бачна, што яе плошча ўдвая меншая за цяперашнюю.) Але такі прагноз справядлівы толькі ў тым выпадку, калі сітуацыю ўжо сёньня ўдасца стабілізаваць, калі ўдасца спыніць рост сьмяротнасьці і зьніжэньне нараджальнасьці. Калі ж стабілізаваць гэтыя паказчыкі ня ўдасца, дык можна чакаць ***поўнага выміраньня палешукоў***.




***Мал.2. Дынаміка народанасельніцтва Гомельшчыны.***




***Мал.3. Дынаміка нараджальнасьці і сьмяротнасьці на Гомельшчыне. Дэмаграфічныя нажніцы ўтварыліся ў 1992 г.***

Ня будзе перабольшваньнем сьцьвярджаць, што падобныя тэндэнцыі і прагнозы характэрныя і для іншых, пацярпелых ад катастрофы, рэгіёнаў краіны, і для ўсёй Беларусі цалкам, бо на мапе нашай краіны чарнобыльская навала ў літаральным сэнсе не пакінула „жывога" месца.

Прадбачу аргумант апанэнтаў, што пагаршэньне дэмаграфічнай сітуацыі на Гомельшчыне і па ўсёй Беларусі зьвязана ня толькі з мэдыка-біялягічнымі наступствамі катастрофы на ЧАЭС, але і з сацыяльнымі, эканамічнымі і палітычнымі фактарамі. І з такой тэзай нельга не пагадзіцца. У тэарэтычным пляне сацыяльныя, эканамічныя і палітычныя фактары нашага жыцьця могуць у значнай ступені мінімізаваць наступствы радыяцыйнай катастрофы або ўзмацніць іх.

Бяруся сьцьвярджаць, што ў нашым выпадку ***палітыка кіраўніцтва краіны (каляніяльнай адміністрацыі часоў СССР і Рэспублікі Беларусь) была ськіваваная не на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай бяды, а на іх прыхаваньне, што ў значнай ступені і прывяло да дэмаграфічнай катастрофы, да выміраньня насельніцтва***.

Сапраўды, спачатку савецкімі, а пазьней беларускімі каляніяльнымі ўладамі, быў абраны подлы мэтад зьмяншэньня наступстваў аварыі на ЧАЭС, які можна зьвесьці да формулы: **„хто не нарадзіўся — той ад радыяцыі не памрэ".** Адразу пасьля чарнобыльскай аварыі цяжарным беларускім жанчынам настойліва раілі пазбаўляцца ад плоду, бо нібыта рызыка нарадзіць „чарнобыльскага мутанта" была высокая. Такая рызыка, сапраўды, у той час была больш высокая, чым звычайна, але ці падстава гэта для таго, каб пусьціць пад „нож" цэлае пакаленьне беларусаў? Безумоўна, не. Але працавала іншая, людажэрная лёгіка — лепш забіць 1000 здаровых плодаў, чым сапсаваць постчарнобыльскую статыстыку недахопаў разьвіцьця ад нараджэньня адным дадатковым „мутантам"! На малюнку нумар 3 стрэлкай адзначана рэзкае зьніжэньне нараджальнасьці ў 1987 годзе, якое звязана зь ня менш рэзкім павелічэньнем колькасьці „абортаў па мэдычных паказаньнях".

Аднак адным годам усё ня скончылася. Пасьля адноснага „рэнесансу" 1988 года, калі нараджальнасьць трохі павысілася, назіралася далейшае ўстойлівае зьніжэньне паказчыка нараджальнасьці, зьвязанага са штучным яе стрымліваньнем. Стрымліваць нараджальнасьць было тым лягчэй, што да чарнобыльскага сіндрому (страх нарадзіць непаўнавартаснае дзіця) дадаліся эканамічныя і сацыяльныя праблемы (зьніжэньне ўзроўню жыцьця, разбурэньне сям'і), якія павялічылі няўпэўненасьць у заўтрашнім дні. На гэтым фоне нават невялікія сумненьні гінеколяга адносна разьвіцьця цяжарнасьці ўспрымаліся жанчынамі, як непасрэдны загад на выкананьне аборта. У выніку дайшло да таго, што сёньня ***з кожных трох зачатых плодаў беларусаў двух забіваюць у***

***жываце маці***!!! Фактычна некалькі пакаленьняў беларусаў у літаральным сэнсе былі спушчаны ў бальнічны ўнітаз! Гэта небывалы ў сьвеце і ганебны факт. У кожным разе, Гітлеру такое і ня сьнілася.

Катастрафічнае зьніжэньне нараджальнасьці ўсе гэтыя гады адбывалася на фоне няўмольнага росту сьмяротнасьці і скарачэньня працягласьці жыцьця. У выніку чаго ў 1991-92 годах на Гомельшчыне ўтварыліся так званыя „дэмаграфічныя нажніцы" (мал.3), калі сьмяротнасьць дагнала, а пасля і перагнала нараджальнасьць. Тэмпы выміраньня людзей пачынаюць павялічвацца (мал.2). На цяперашні час адмоўны прырост насельніцтва вобласьці складае мінус пяць чалавек на кожную тысячу. Пры гэтым у асобных раёнах Гомельшчыны (Брагінскі, Буда-Кашалёўскі, Гомельскі, Добрушскі, Лоеўскі, Петрыкаўскі, Рагачоўскі раёны) сьмяротнасьць ў два-тры разы перавышае нараджальнасьць, а адмоўны прырост складае мінус 10-15 чалавек на тысячу!

Якія ж захады прымаюць цяперашнія каланіяльныя ўлады ў сувязі са скарачэньнем насельніцтва? Паказальна, што яны спрабуюць выправіць дэмаграфічную статыстыку, не ратуючы беларусаў, а заахвочваючы каланізацыю Палесься прышлым элемэнтам з усёй прасторы былога СССР. У 1997 годзе Гомельскі аблвыканкам з дазволу Саўміна прымае пастанову, па якой легалізуюцца, атрымліваюць работу, жыхарства, сацыяльныя гарантыі ўсе нелегальныя мігранты ў большасьці раёнаў Гомельшчыны. У выніку такой палітыкі ўладаў на Палесьсе пацягнуліся дзясяткі тысяч бежанцаў, бамжоў і беглых крымінальнікаў з Расеі, Таджыкістану, Афганістану, Узьбекістану, Малдовы, гарачых кропак Каўказу... Па колькасьці мігрантаў Беларусь выйшла на вядучае месца ў Эўропе. Вось так на нашых вачах пад монаэтнічную Беларусь закладаецца бомба будучых міжэтнічных канфліктаў!

У структуры сьмяротнасьці Гомельскай вобласьці першае месца займаюць хваробы кровазвароту (56,6%), другое — новаўтварэньні (13,2%). І ў першым, і ў другім выпадках прасочваецца ўплыў радыяцыйнага фактару: вядома, што менавіта сэрца больш за іншыя органы інкарпаруе радыяцыйны цэзій, вядома таксама, што малыя дозы радыяцыі значна павялічваюць рызыку новаўтварэньняў.

За постчарнобыльскі пэрыяд значна скарацілася сярэдняя працягласьць жыцьця людзей, і асабліва мужчын (62 гады), якія ў большасьці не дажываюць да пэнсійнага ўзросту. Яшчэ горшая статыстыка працягласьці жыцьця вяскоўцаў.




***Мал.4. Прагназуемы выгляд Дэмаграфічнай піраміды Гомельшчыны ў сярэднетэрміновай пэрспэктыве (паказана ў цэнтры дыяграмы). Аптымістычны варыянт разьвіцьця дэмаграфічнай сітуацыі прадугледжвае толькі (!?) двухразовае скарачэньне насельніцтва вобласьці.***

Нягледзячы на такія адмоўныя тэндэнцыі, каланіяльныя ўлады шмат гадоў фактычна ігнаруюць праблемы пацярпелых рэгіёнаў. Заганнай практыкай стала фінансаваньне так званых „чарнобыльскіх праграм" на 10-30% ад запланаванага (ня кажучы ўжо ад неабходнага). Чарговая праграма з помпай прымаецца, закладваецца ў бюджэт, а пасьля не выконваецца. І так з году ў год. Прыкладам, толькі летась Веткаўшчына недаатрымала з чарнобыльскага фонду больш за 100 мільёнаў рублёў. Як вынік такой палітыкі, у пацярпелых ад аварыі Сьвяцілавічах за 15 гадоў ня здолелі нават наладзіць газіфікацыю, і мясцовыя жыхары па-ранейшаму гатуюць ежу на мясцовых жа радыёактыўных дровах у печах, ужо празваных у народзе „атамнымі міні-рэактарамі". Ужо даўно ня йдзе нават гаворкі пра забесьпячэньне людзей чыстымі прадуктамі харчаваньня, вадой. Працягваецца сельскагаспадарчае і бытавое выкарыстаньне зоны адчужэньня. Нідзе пры правядзеньні сельскагаспадарчых работ не выконваюцца нават прымітыўныя мерапрыемствы, накіраваныя на ахову здароўя працоўных.

Характэрна, што за паўтары дзесяцігоддзі на дзяржаўным узроўні ніхто нават не паставіў задачу фармаваньня ў людзей постчарнобыльскай культуры — спэцыфічнага спосабу жыцьця (выжываньня) людзей, якія вымушаны існаваць ва ўмовах узьдзеяньня малых дозаў радыяцыі. Гэтаму ня вучаць дзяцей у школах. Гэтаму ня вучаць настаўнікаў і бацькоў. Таму і ***новае пакаленьне беларусаў таксама ня мае шанцаў на выжываньне***!

Падводзячы вынікі сказанага, можна канстатаваць, што:

— катастрофа на ЧАЭС нясе сьмяротную пагрозу беларускаму народу, які і па сёньня ня здолеў даць адэкватнага адказу на яе выклік;

— мэдыка-дэмаграфічныя наступствы атамнай катастрофы 1986 года для беларусаў ужо пераўзыходзяць наступствы Другой Сусьветнай вайны і ў пэрспэктыве пагражаюць нашаму народу выміраньнем;

— каланіяльная адміністрацыя нашай краіны праводзіць палітыку прыхаваньня наступстваў чарнобыльскай бяды, замест іх ліквідацыі, што спрыяе разгортваньню дэмаграфічнай катастрофы на Беларусі;

— эканамічныя, сацыяльныя і культурныя наступствы ўладарніцтва чужынцаў праяўляюцца ў эканамічным, сацыяльным і культурным заняпадзе краіны, на фоне чаго наступствы чарнобыльскай навалы павялічваюцца шматкроць.

Асэнсаваць праблему і выразна яе сфармуляваць — гэта важная частка справы, але яшчэ ня ўся, бо трэба таксама адказаць на пытаньне: як гэтую праблему можна вырашыць?

Абсалютна відавочна, што вырашэньне акрэсьленай праблемы немагчыма ва ўмовах каланіяльнага існаваньня беларусаў. Калёніі для таго і патрэбныя, каб іх рабаваць. Таму каланіяльны статус Беларусі, яе палітычная і эканамічная падпарадкаванасьць Расеі не пакідаюць нашаму народу шанцаў на выратаваньне.

Вось чаму ***найпершай палітычнай умовай выратаваньня ёсць адхіленьне ад улады каланіяльнай адміністрацыі*** (незалежна ад таго, хто яе ўзначальвае сёньня і хто б яе ні ўзначаліў заўтра) ***і замена яе нацыянальным урадам***, які будзе непасрэдна зацікаўлены ва ўратаваньні нацыі, у сапраўднай ліквідацыі наступстваў аварыі.

Як паказвае вопыт нашых бліжэйшых суседзяў (Польшча, краіны Прыбалтыкі, Чэхія...), рэальная незалежнасьць гарантуе ўздым эканомікі і ўзроўню жыцьця насельніцтва, адраджэньне культуры, што стварае спрыяльны сацыяльна-эканамічны грунт для пераадоленьня наступстваў экалягічнай катастрофы.

***Нацыянальны ўрад павінен распрацаваць рэальную*** (а не дэкляратыўную) ***праграму ліквідацыі наступстваў аварыі і пасьлядоўна яе рэалізаваць***.

На мой погляд, у адным са сваіх разьдзелаў гэта праграма павінна прадугледжваць правядзеньне з дапамогай дзяржаўных СМІ інфармацыйнай палітыкі, накіраванай на давядзеньне да насельніцтва ўсёй небясьпекі пражываньня на забруджаных землях, усіх мэдыка-дэмаграфічных наступстваў катастрофы, а таксама прапаганду постчарнобыльскай культуры, авалодаць якой за кароткі час павінны ня толькі дзеці, але і дарослае насельніцтва. Дашкольныя і школьныя ўстановы краіны таксама павінны будуць заняцца фармаваньнем постчарнобыльскай культуры дзяцей і моладзі.

Адначасова давядзецца прыняць меры па даадсяленьню людзей з тэрыторыяў, дзе бясьпечнае пражываньне немагчымае, астатняе насельніцтва павінна быць забясьпечана радыяцыйна чыстымі прадуктамі харчаваньня і вадой.

Запатрабуе неадкладнага вырашэньня і задача павелічэньня нараджальнасьці і працягласьці жыцьця, а таксама зьніжэньня захворваемасьці і сьмяротнасьці насельніцтва… Але я не зьбіраюся выкладаць нейкую гатовую праграму, бо праблема, якая тут разглядаецца, мае агульнанацыянальны характар і павінна вырашацца на дзяржаўным ўзроўні, з прыцягненьнем лепшых беларускіх і замежных спэцыялістаў.

***Уладзімер СТАРЧАНКА***
***кандыдат педагагічных навук, намесьнік старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ***

* * *

***P.S.*** Фактычна на працягу 15 постчарнобыльскіх гадоў супраць беларусаў каляніяльнымі ўладамі вядзецца неабвешчаная прыхаваная вайна, мэта якой — знішчэньне беларускага народу, вызваленьне жыццёвай прасторы і засяленьне яе прышлым элемэнтам. Дзеля гэтага не выкарыстоўваюцца, як у ранейшыя часы, самалёты, танкі, агнястрэльная зброя, газавыя камэры і не будуюцца „асвенцымы". Хаця і пачалася яна ўвесну 1986 года якраз з таго, што савецкія ваенныя самалёты асаджвалі радыяцыйныя хмары на Гомельшчыну і Магілёўшчыну.

У эпоху інфармацыйных і палітычных тэхналёгіяў у гэтым няма патрэбы. Асабліва калі гаворка ідзе пра зьнішчэньне зрусіфікаванага за 200 гадоў каляніяльнага існаваньня „братняга" беларускага народу, якому нож пад сэрца можна засунуць, гледзячы проста ў вочы і гаворачы пяшчотныя словы пра вечную любоў і інтэграцыю. Нашы даверлівыя людзі ўсяроўна пярэчыць ня будуць. Не чачэнцы ж бо, што змагаюцца і паўстаюць.

***А ўсё ж такі, відаць, прыдзецца нам паўстаць на абарону сваіх дзяцей, бо іншага не дадзена!***

***Не паміраць жа на самой справе ад радыяцыі, інтэграцыі і каляніяльнай адміністрацыі!!!?***

**98-Д.** ***Ідзе вялікая чарнобыльская вайна. Ул. Старчанка.*** *Надрукавана: „ Беларускія Ведамасьці", – 2001, №4(34).*

# STATEMENT IN CONNECTION WITH THE ANTI-BELARUSAN AKTIVITY OF MR. HANS-GEORG WIECK

In September 2000 the head of the OSCE Mission in Minsk **Mr. Hans-Georg Wieck** has made a statement on the international conference in Belastok that during some years he and the OSCE Mission in Minsk are carrying out the policy directed to the incorporation of Belarus into Russia.

I don't touch upon the reasons of such non-diplomatic statement. We know the reasons. The sense of this problem is that Mr. Wieck carried out in Belarus the whole time the activity, which is contradicting to the national interests of our country and is connected with the policy of the Russian neocolonialism with regard to Belarus.

Mr. H.-G. Wieck bear a relation to the attempts of the elimination of the Belarusan Popular Front and of the Belarusan National Liberation Movement, which are fighting against the imperialist policy of Russia and the pro-Moscow regime in Belarus. Mr. Wieck was engaged directly in the organization of the so-called „united opposition" (i.e. the opposition without the ideas of the Belarusan rebirth) with the scope to oppose it to the Belarusan National Liberation Movement in accordance with the principle democracy without sovereignty.

Mr. Wieck's activity has had a double character. From one side – the selected defense of human rights (i.e. of the persons and bodies which he liked; he didn't defent the victims of regime's repressions if they were leaders or members of the Conservative Christian Party – Belarusan Popular Front), from other side – promotion of the legalization and acknowledgment of the Lukashenka regime by the international society. It was obvious in autumn 2000 during the electoral campaign and elections to the pseudo-parliament (Lukazhenka's „chamber"). But then Mr. Wieck couldn't do something.

Mr. Wieck's statement in Belastok was a last drop into the overflowing chalice of patience. The Belarusan Popular Front „Adradzennie" and Conservative Christian Party – BPF have adopted a decision to proclaim Mr. Wieck the persona non grata in the area of the Belarusan National Liberation Movement and requested the international organizations to recall him from Belarus. We have sent the official letters to the OSCE Parliamentary Assembly, to the OSCE chairperson Mrs. Benita Ferrero Waldner and to the Foreign Minister of Germany Mr. Joschka Fischer. I informed personally by letters Mr. Wieck and the German ambassador in Belarus Mr. H. Winkelman about this decision.

The reaction was symptomatic. Immediately after our decision Mr. Lukashenka and his administration have expressed the threats against the OSCE and the „democrats" began to defend Mr. Wieck.

January 29, 2001 the OSCE Mission in Austria has informed me about the examination of our requests and about the sending of them to the new OSCE chairman in Rumania. In accordance with the non-official information Mr. Wieck should be recalled from Belarus in June this year.

But suddenly we hear again the official „threats" to Mr. Wieck from the Belarusan Ministry of Foreign Affairs and the new requests of the „democrats" to defend him.

We are not surprised by the coordinated activity of Mr. Wieck and Moscow functionaries in accordance with Lukashenka's rate, as well as their attempt to represent Mr. Wieck as the martyr of the democracy and to leave him in Minsk.

We insist and repeat once more: **Hans-Georg Wieck ought leave the territory of Belarus.**

His activity doesn't correspond to the national interests of Belarus and contradicts the anti-colonial principles of the struggle against the Lukashenka regime. His activity was ineffective and very harmful.

We don't accept the Moscow style political games of the functionaries from the Foreign Ministry of Belarus and the tricks of the German diplomacy.

We don't consider as a good practice the appointment of the former head of a foreign country's intelligence service (even though he is a pensioner) the head of an international human rights organization. It is very well known how strong is the corporate solidarity of all the intelligence services. The time will come – Belarus will become free and we will rid ourselves of them.

***Zianon PAZNIAK***
***Chairman of the Belarusan Popular Front „Adradzennie"***
*May 22, 2001*

*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2001, № 5(35).*
*(Пераклаў зь Беларускай мовы В. Буйвал)*

# ВЫБАРЧЫ ФАРС

Увесь ход выбарчай кампаніі і заключны яе этап прадэманстравалі грамадзтву і ўсяму сьвету, што рэжым Лукашэнкі працягвае сваю антыдэмакратычную палітыку і не зьбіраецца арыентаваць нашу краіну на шлях дэмакратыі. Парушэньні заканадаўства рэжымам Лукашэнкі мелі такія непараўнальныя маштабы і цынічныя формы, што прэзыдэнцкія выбары 2001 году сталі чарговай антызаконнай акцыяй уладаў.

У склад Цэнтральнай і тэрытарыяльных выбарчых камісіяў ня былі ўключаныя прадстаўнікі палітычных партыяў. Многія тэрытарыяльныя камісіі былі складзеныя з прадстаўнікоў аднаго прадпрыемства або ўстановы. У склад кожнай тэрытарыяльнай камісіі быў уведзены прадстаўнік выканаўчай улады („вертыкалі"). які кіраваў дзейнасьцю камісіі і кантраляваў яе. На этапе збору подпісаў за прэтэндэнтаў у кандыдаты на прэзыдэнцтва зборшчыкі подпісаў ад *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ* падвяргаліся нападам і арыштам з боку прадстаўнікоў улады. Сродкі масавай інфармацыі знаходзіліся пад поўным кантролем рэжыму і працавалі на прапаганду аднаго кандыдата Лукашэнкі. Рэдакцыі і выдавецтвы незалежнай прэсы падвяргаліся паліцэйскім рэпрэсіям. На ўсіх этапах перадвыбарчай барацьбы рэжым шальмаваў, паклёпнічаў і ачарняў альтэрнатыўных Лукашэнку кандыдатаў і апазыцыйныя сілы ў цэлым.

На заключным этапе дзеяньні рэжыму можна кваліфікаваць як сістэматычнае злачынства ў маштабах усяе краіны. Рэжым адкінуў нават зьнешнія формы законнасьці. Адзін з актаў гэтага злачынства — „папярэдняе галасаваньне", арганізаванае 4-8 верасьня. Тое, што прадугледжана законам як выключны момант (на выпадак немагчымасьці выбаршчыку прагаласаваць у дзень галасаваньня), улады выкарысталі як інструмант фальсіфікацыі вынікаў галасаваньня і гвалту над электаратам. З усіх куткоў Беларусі паступілі зьвесткі пра тое, што адміністрацыя прадпрыемстваў і ўстановаў (перш за ўсё, навучальных установаў), камандаваньне вайсковых і міліцэйскіх частак арганізоўвалі масавае папярэдняе галасаваньне падначаленых асобаў у службовы час. Людзей саджалі ў аўтобусы і прымусова везьлі на выбарчыя ўчасткі. Нават паводле зьвестак уладаў, у папярэднім галасаваньні прынялі ўдзел да **15%** выбаршчыкаў. А з некаторых рэгіёнаў нашыя назіральнікі падаюць лічбу да **60%** удзелу ў папярэднім галасаваньні. Гэта было прымусовае галасаваньне, якое яшчэ да выбараў дало магчымасьць уладам Лукашэнкі сфальсіфікаваць галасаваньне ў сваю карысьць. Лёс выбараў быў вырашаны такім чынам яшчэ перад выбарамі.

На многія выбарчыя ўчасткі назіральнікі ад *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ* ня былі дапушчаныя або гвалтоўна выдаляліся, калі пачыналі сваю працу. ***Ніводзін з назіральнікаў*** ад нашай Партыі ня быў дапушчаны да назіраньня ў раённых выбарчых камісіях падчас падліку дадзеных з участковых выбарчых камісіяў; назіральнікаў не дапусьцілі таксама на выніковае паседжаньне гарадзкіх выбарчых камісіяў, дзе падводзіліся папярэднія вынікі галасаваньня. ***На ўсіх выбарчых участках*** назіральнікі ня былі дапушчаныя да месцаў, дзе ішоў падлік бюлетэняў і галасоў, бліжэй, чым на 6-10 мэтраў. Былі прымененыя спосабы падліку галасоў, якія не дазволілі назіральнікам праводзіць кантроль. Такім чынам ***улады не дазволілі кантраляваць вынікі галасаваньня***.

Палітычнае кіраўніцтва Расеі ўсіх узроўняў і амаль усе сродкі масавай інфармацыі (тэлебачаньне, радыё, прэса) адкрыта выступілі ў падтрымку Лукашэнкі, што ёсьць антызаконным умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Беларусі.

Усе гэтыя факты сьведчаць пра сістэматычнае, у маштабах усёй краіны парушэньне рэжымам Лукашэнкі дзейнага заканадаўства і міжнародных дэмакратычных нормаў. Вынікі такіх „выбараў" ня могуць быць прызнаныя беларускім грамадзтвам і міжнароднай супольнасьцю.

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*10 верасьня 2001 г.*

**100-Д1.** ***Выбарчы фарс. Інфармацыя кіраўніцтва КХП – БНФ.*** *Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2001, № 8 (38), с.5).*

# ПРА ПАРУШЭНЬНІ ЗАКОНУ ПАДЧАС ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ У БЕЛАРУСІ

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ (Партыя БНФ)* прынялі актыўны ўдзел у правядзеньні назіраньня за галасаваньнем падчас выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь *4-9 верасьня 2001 г.* Сойм *Партыі БНФ* на сваім паседжаньні 11 жніўня 2001 г. вылучыў 1100 назіральнікаў, якія праводзілі назіраньне ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Падчас назіраньня былі выяўленыя шматлікія грубыя парушэньні ў арганізацыі выбараў, працэдуры галасаваньня, падліку галасоў, афармленьні дакумантаў, галоснасьці і празрыстасьці выбарчага працэсу. Назіральнікі выявілі наступныя парушэньні:

1. Выбарчыя камісіі былі сфармаваныя не ў адпаведнасьці з заканадаўствам. У выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў не былі ўключаныя прадстаўнікі палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, якія апаніруюць рэжыму. Многія ўчастковыя выбарчыя камісіі складаліся з прадстаўнікоў аднаго прадпрыемства або ўстановы, а кіраўніком камісіі прызначаўся прадстаўнік адміністрацыі гэтага прадпрыемства (установы). У склад большасьці выбарчых камісіяў быў уключаны прадстаўнік выканаўчай дзяржаўнай адміністрацыі, які, фактычна, кіраваў камісіяй. Раённыя выбарчыя камісіі знаходзіліся ў будынках раённай дзяржаўнай адміністрацыі і былі пад кантролем гэтай адміністрацыі. У склад выбарчых камісіяў уключаліся нават асобы, якія не зьяўляюцца грамадзянамі Беларусі (грамадзяне Расеі).

2. Фармаваньне сьпісаў выбаршчыкаў праводзілася з грубымі парушэньнямі. Гэтыя сьпісы фармаваліся паводле дадзеных мясцовых камунальных службаў, у якіх не адлюстроўваецца ані грамадзянства плацельшчыкаў, ані іхная прысутнасьць на момант выбараў, ані факт іхнага фактычнага перабываньня, а толькі іхная прапіска. Сьпісы ня былі ўдакладненыя, таму падчас галасаваньня назіральнікі выявілі факты галасаваньня неграмадзянаў Беларусі. Многія грамадзяне, прышоўшы галасаваць, не знаходзілі сябе ў сьпісах. У сьпісы ўключаліся і памерлыя. Пры такім фармаваньні сьпісаў камісіі дазвалялі галасаваць людзям, уносячы іх у дадатковыя сьпісы, не патрабуючы ад іх дакумантаў.

3. Маштабныя фальсіфікацыі адбыліся пры так званым „папярэднім галасаваньні". Асабліва гэта было выяўлена ў сельскай мясцовасьці, дзе адміністрацыя арганізавала прымусовае галасаваньне значнай большасьці выбаршчыкаў (да 60%). Людзей прывозілі на аўтобусах на месца галасаваньня ў працоўны час, выкарыстоўваючы адміністрацыйны ўціск і пагрозы. У школах, дзе знаходзіліся выбарчыя ўчасткі, спэцыяльна склікалі бацькоўскія сходы, пасьля якіх людзей заклікалі датэрмінова прагаласаваць. Такія ж парушэньні адбыліся на шэрагу ўчасткаў у гарадзкой мясцовасьці. Нават значна заніжаныя афіцыйныя зьвесткі (15%) Цэнтральнай Выбарчай Камісіі аб выніках папярэдняга галасаваньня сьведчаць аб адміністрацыйным ціску пры арганізацыі папярэдняга галасаваньня. Вынікі папярэдняга галасаваньня былі поўнасьцю сфальсіфікаваныя, бо скрыні і бюлетэні для галасаваньня знаходзіліся па-за кантролем грамадзкасьці, у распараджэньні ўладаў.

4. Выбарчыя камісіі і выканаўчыя структуры ўлады рабілі максімальныя перашкоды назіральнікам. На шмат якіх выбарчых участках назіральнікам, насуперак закону, было адмоўлена ў акрэдытацыі. Дакуманты назіральнікаў ад *Партыі БНФ* былі выдадзеныя Партыяй у аднолькавай форме. У выніку большасьць назіральнікаў атрымала акрэдытацыю, у тым ліку ў ЦВК. У той жа час на некаторых выбарчых участках назіральнікам *Партыі БНФ* было адмоўлена ў акрэдытацыі. Месцамі кіраўніцтва выбарчых камісіяў пагражала назіральнікам пазбавіць іх акрэдытацыі, калі тыя патрабавалі прадставіць ім інфармацыю пра ход выбараў. Нават меліся выпадкі фізічнага і псіхалягічнага гвалту ў адносінах да нашых назіральнікаў з боку кіраўніцтва выбарчых камісіяў і міліцыі. У шэрагу выпадкаў нашых назіральнікаў гвалтоўна выдалілі з участкаў. Асноўныя фальсіфікацыі рабіліся пры падліку галасоў датэрміновага і асноўнага галасаваньня. Літаральна на ўсіх выбарчых участках месцы падліку галасоў былі арганізаваныя такім чынам, каб назіральнікі не маглі назіраць за працэсам падліку. Міліцыя ўмешвалася і дапамагала аддаляць назіральнікаў ад месцаў падліку. Назіральнікі маглі бачыць толькі плечы членаў камісіі на адлегласьці 6-10 мэтраў. Любыя спробы наблізіцца да месца падліку тут жа гвалтоўна прыпыняліся міліцыяй. Падчас падліку галасоў у памяшканьні знаходзіліся пабочныя асобы, якія мелі доступ да падліку бюлетэняў. Падчас падліку ў некаторых выпадках назіральнікі заўважылі, што колькасьць бюлетэняў зьвяраецца зь нейкімі нефармальнымі сьпісамі. Назіральнікам адмаўлялі ў інфармацыі па статыстыцы галасаваньня на розных этапах, пра колькасьць выбаршчыкаў і г.д.

5. ***На ўсіх участках была выяўлена дыскрымінацыя дзяржаўнай беларускай мовы.*** Інфармацыя была толькі па-расейску. На большасьці ўчасткаў былі вывешаныя толькі агітацыйныя матэрыялы кандыдата Лукашэнкі.

6. У раённых выбарчых камісіях, якія знаходзіліся ў будынках дзяржаўнай улады, праца па падліку зьвестак з пратаколаў участковых камісіяў была арганізаваная такім чынам, што назіральнікі ня мелі доступу да гэтых пратаколаў і да працэсу іх апрацоўкі. Паколькі ўся гэтая праца вялася ў розных пакоях, куды назіральнікаў не дапускалі, а паведамлялі ім толькі канчатковыя лічбы. У той жа час у будынку знаходзілася кіраўніцтва выканаўчай адміністрацыі, якое мела доступ да гэтых дакумантаў.

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

*12 верасьня 2001 г.*

**100-Д2.** ***Пра парушэньні закону падчас прэзыдэнцкіх выбараў Беларусі. Інфармацыя кіраўніцтва КХП – БНФ.*** *Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", -- 2001, № 8 (38), с.5-6).*

# ДЫК ДЗЕ Ж АБ'ЕКТЫЎНАСЬЦЬ?

Спадзяюся, дзясяткі выступаў у падтрымку свабоды слова і асобных журналістаў на сэсіях Вярхоўнага Савету XII скліканьня, абарона прэсы ў Канстытуцыйным Судзе, удзел у заснаваньні Беларускай асацыяцыі журналістаў даюць мне маральнае права выказацца на тэму, якая ўяўляецца істотнай ня толькі ў дачыненьні да журналістаў, але й да ўсяго грамадзтва.

Маю на ўвазе сытуацыю вакол асобы Зянона Пазьняка ў незалежных СМІ. Падчас „альтэрнатыўнай прэзыдэнцкай кампаніі" 1999 г. Пазьняк абвінаваціў аднаго з журналістаў у прадажнасьці, бо той прапанаваў рэдактару пэўнай газэты грошы, каб надрукаваць матэрыялы ў падтрымку аднаго з кандыдатаў. Пра гэта Пазьняку паведаміў сам рэдактар.

Прынятая ва ўсім сьвеце прафэсійная этыка дазваляе журналісту атрымліваць грошы за журналісцкую працу толькі ў рэдакцыі. І толькі ў якасьці зарплаты, ганарару альбо аплаты камандзіровачных выдаткаў. Усё астатняе – хабар.

Так, газэты трымаюцца коштам рэкламы. Так, заплаціўшы, вы можаце надрукаваць камплімэнтарны артыкул – але абавязкова будзе пазначана, што ён друкуецца „ў якасьці рэкламы". Адпаведным будзе і стаўленьне чытачоў. Таму на Захадзе „тэкставая рэклама," практычна, адсутнічае – ёй не давяраюць. А калі б журналіст атрымаў ад нейкай фірмы „ганарар" за тое, што яе пахваліў, – быў бы імгненна звольнены, бо ніводнае выданьне не пажадае трымаць „прадажнага". І ўжо зусім немагчыма ўявіць, каб карэспандэнт браў грошы ад палітыка. У цывілізаванай краіне гэта назаўсёды пахавае рэпутацыю і аднаго, і другога.

Таму Пазьняк меў рацыю, калі вінаваціў у прадажнасьці тых, хто пагадзіўся ўзяць грошы. Яны, дарэчы, зьяўляюцца сябрамі БАЖ, і першае, што павінна была зрабіць гэтая арганізацыя, – на камісіі па этыцы выслухаць абодва бакі. Калі б выявілася, што Пазьняк памыліўся, – ён мусіў бы папрасіць прабачэньня. Але заява Пазьняка выклікала не расьследаваньне, а напад на самога Пазьняка. Рэдактар *Белорусской деловой газеты* Пётар Марцаў адзначыў, што „мэнталітэт Зянона Пазьняка мала чым розьніцца ад мэнталітэту Аляксандра Лукашэнкі" (тут і далей – у перакладзе на беларускую мову) – і заявіў: „Калісьці менавіта прэса спрыяла таму, каб Зянона Станіслававіча пачалі ўспрымаць як палітыка новай, дэмакратычнай фармацыі... Цяпер ён абвінавачвае прэсу ў прадажнасьці.. Можа быць, самы журналісты, якія такі доўгі час ляпілі з Пазьняка вобраз рыцара..., у гэтым вінаватыя..."

Насамрэч Пазьняк ня быў „стварэньнем журналістаў". Прэса яму не спрыяла, хутчэй наадварот. У адрозьненьне ад краінаў Прыбалтыкі ці нават Расеі, нараджэньне беларускай дэмакратыі, якую ўвасабляў БНФ, адбывалася пры поўнай адсутнасьці незалежнага друку і манаполіі камуністычных СМІ. Менавіта камуністычная, а потым і „пракебічаўская" прэса стварыла Пазьняку імідж „фашыста", „экстрэміста", „ахвочага вешаць камуністаў" і г.д.

Вось як актывіст выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет у 1990 г. Уладзімер Крукоўскі прыгадвае спробы абвергнуць паклёп: „Цяжка было прабіцца ў сталічную прэсу. Я асабіста абышоў усе менскія газэты. *Советская Белоруссия* спасылалася на вялікую чаргу, *Знамя юности* – на ўзрост Пазьняка (ня юны), „Мінская праўда" – на кандыдатаў з вобласьці, а *Вечерний Минск* „чэсна" заявіў: „Мы ня можам прапагандаваць нашага палітычнага апанэнта" („НН", 1999 г.).

Пасьля абраньня Пазьняка дэпутатам сытуацыя не нашмат палепшылася. Адзіным выданьнем, дзе Пазьняк мог надрукавацца гарантавана, была створаная Сярэдзічам „Народная газэта". І толькі некалькі журналістаў паспрабавалі аб'ектыўна разабрацца ў тым, чаго ж дамагаецца Пазьняк. Можна назваць артыкулы Анатоля Казловіча, інтэрв'ю Аляксандра Ўліцёнка для кнігі „Іншадумцы", фільм Аляксандра Лукашука і Міхаіла Жданоўскага „Дарога на Курапаты", публікацыі Аляксандра Старыкевіча – здаецца, гэта ўсё (выбачаюся ў рэгіянальных журналістаў, пра публікацыі якіх магу і ня ведаць). Пятра Марцава сярод іх не было – зрэшты, ён у той час працаваў у БелТА шараговым карэспандэнтам, і ад яго там нічога не залежала. Але калі Марцаў стварыў *БДГ* і *Имя*, у якіх ад яго залежала ўсё, – ніводнага станоўчага радка пра Пазьняка ён не надрукаваў.

Даходзіла да абсурду. У красавіку 1996 г. газэта *Имя* абірала шляхам апытаньня „чалавека месяца". „Вынікі нашай красавіцкай экспэртызы, – паведамляла газэта, – вельмі нечаканыя: практычна, адзінагалосна чалавекам месяца быў прызнаны лідэр БНФ у эміграцыі Зянон Пазьняк". Але такі вынік газэту не задаволіў, і ў рэдакцыйным артыкуле адзначылі, што „правадыр вандраваў па краінах і кантынэнтах і практычна ніякага ўдзелу ў беларускай палітыцы не прымаў... і, значыць, чалавекам месяца ня можа быць паводле вызначэньня".

Цікава, калі лідэры „аб'яднанай апазыцыі" выступалі ў камісіі Кангрэсу ЗША, яны ўдзельнічалі ў беларускай палітыцы? Ці гэта быў удзел у палітыцы акругі Калюмбія, дзе месьціцца Капітолій?

У той жа публікацыі быў зьдзеклівы камэнтар да прапановы Пазьняка ўшанаваць хвілінай маўчаньня памяць Дудаева падчас Чарнобыльскага Шляху-96.

Як сёньня наконт Дудаева, калегі? Вы па-ранейшаму лічыце яго бандытам, якога ўдала „зачысьцілі" расейскія спэцслужбы? Ці ўжо нацыянальным героем Чачэніі, у гонар якога чачэнцы назвалі сваю сталіцу?

Ні на каго з палітыкаў у апошнія дзесяцігодзьдзі прэса ня выліла гэтулькі бруду, як на Пазьняка. Спачатку камуністычная і афіцыйная – за Курапаты, за патрабаваньне беларусізацыі, незалежнасьці і ліквідацыі КПСС, за праўду пра Чарнобыль. Потым – „незалежная," за тыя выказваньні ды прагнозы, якія праз нейкі час спраўджваліся.

Асабліва яскрава неаб'ектыўнасьць прэсы выявілася падчас апошняга, „падзельнага" зьезду БНФ.

Вось артыкул Аляксандра Тамковіча ў газэце *Свободные новости* – „Праект «Пазьняк» праваліўся. Эх? Ура?": „Гэта трэба здолець – на апошнім скандальным зьезьдзе БНФ прыхільнікі Зянона прайгралі „вячоркаўцам" у палітфутбол зь лікам 1:20..."

Насамрэч дэлегаты зьезду падзяліліся амаль напалову (у Пазьняка было на чатыры галасы болей). А вынік, які прыводзіць Тамковіч, быў на зьезьдзе прыхільнікаў Вячоркі, сярод якіх, як бачым, некаторыя ўсё роўна галасавалі за Пазьняка.

І далей: „Зянон ня той чалавек, які здольны быць вечным нацыянальным лідэрам…Пазьняк пойдзе на ўсё, каб назад не вярнуцца. Аж да шчыльнага і плённага супрацоўніцтва з уладай…". І яшчэ: „Пазьняк прайграў дзесяць гадоў таму… Менавіта Пазьняк больш за іншых вінаваты ў тым, што адбылося з палітычнай апазыцыяй краіны. Вінаваты, бо не пажадаў аб'яднаць вакол сябе пратэсны электарат, бо дэбільным экстрэмізмам, а часта і таннай папулісцкай хлусьнёй спрабаваў падмяніць ідэю нацыянальнага адраджэньня".

Дзесяць гадоў таму, працуючы ў вайсковай газэце *Во славу Родины*, Аляксандар Тамковіч не асабліва клапаціўся пра лёс апазыцыі – наадварот, зьедліва пісаў і пра яе, і пра ідэі, якія яна адстойвала. Памятаю артыкул, дзе ён зьнішчальна крытыкаваў патрабаваньне БНФ стварыць незалежнае ад Масквы беларускае войска – тады гэта падавалася яму „экстрэмізмам". Ня ведаю, што ён лічыць экстрэмізмам сёньня, але ўжываць тэрмін „дэбільны" не дазваляе сабе нават афіцыйная прэса.

Ірына Халіп хоць бы трымалася навуковай лексікі, заявіўшы ў *Имени*, што „на Пазьняку гэты генэтычны код і спыніцца. Бо ніводная жанчына не пагодзіцца дапамагчы яму ў справе нараджэньня беларусаў”…

Мэтад скажэньня і абразаў з асобы Пазьняка быў перанесены і на партыю, якую ён узначальвае.

„Бальшавікі сыходзяць аднолькава” – гэткі назоў артыкулу Фядуты ў *БДГ*. Аўтар папракае партыю, якую ўзначальвае Пазьняк, у супрацоўніцтве з уладай, бо „з рук гэтай улады спадар Беленькі атрымаў рэгістрацыйныя пасьведчаньні партыяў БНФ і БНФ-КХП”. Цікава, а ад каго атрымалі такія пасьведчаньні іншыя апазыцыйныя партыі? А сама *БДГ*?

„У палітычным жыцьці Зянона Пазьняка былі гераічныя старонкі, – піша Фядута. – Палітычная ж сьмерць ягоная... ганебная, як сьмерць афіцэра, які забыўся пра прызначэньне апошняй кулі ў абойме”...

Гэтыя словы Фядуты, як і ягоны пасаж пра тое, што „лепш ужо куля”, у дачыненьні да жывога чалавека, пакіну без камэнтароў.

А вось на словах зь іншага артыкулу Фядуты – што Пазьняк нібыта падмануў Быкава – спынюся. У сакавіку, наведаўшы Быкава ў Франкфурце, давялося гутарыць зь ім на гэтую тэму. Быкаў сказаў, што не адмаўляецца ад словаў, калі-небудзь сказаных ці напісаных ім пра Пазьняка. „У „Народнай волі” быў надрукаваны ліст чытача „Краіне патрэбны Пазьняк” – дык вось, я падпісваюся там пад кожным радком”, – дадаў Васіль Уладзімеравіч. Сваё стаўленьне да Пазьняка Быкаў пацьвердзіў і падчас нашай сустрэчы ў Празе ў верасьні.

Сёлетняя выбарчая кампанія выклікала новую хвалю зьедлівых публікацыяў. Рэгістрацыя ініцыятыўнай групы Пазьняка камэнтавалася рэзка адмоўна: „Рэгістравацца ня мае права, бо ня жыў у Беларусі”. Пры гэтым факт, што Чыгір доўгі час жыў у Маскве, пад увагу ня браўся (ня дзіва – расейскамоўная прэса дагэтуль успрымае Маскву як „нашу сталіцу”).

Прыёмы „незалежнай прэсы” не адрозьніваліся ад прыёмаў аглядальнікаў лукашэнкаўскага тэлебачаньня: зьнішчальныя тэзісы бяз доказаў, арыентаваныя найперш на моладзь, якая можа і ня ведаць абставінаў фармаваньня беларускай дзяржаўнасьці.

Так, у інтэрв’ю *Свободным новостям* Сініцын заяўляе: „Пазьняк скампрамэтаваў нацыянальную ідэю. Радыкалізм адштурхнуў людзей. У тым, што народ у свой час прагаласаваў за Лукашэнку, – на 50% асабістая заслуга Пазьняка”. Сініцыну, які за часам свайго дэпутацтва ў ВС XII скліканьня не сказаў ні слова па-беларуску, які ў 1994 г. быў кіраўніком выбарчага штабу Лукашэнкі, а ў 1995 у якасьці кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі праводзіў „рэфэрэндум” аб скасаваньні „Пагоні” і Бел-Чырвона-Белага сьцяга і ўвядзеньні дзьвюхмоўя, – пра „нацыянальную ідэю” і „асабістыя заслугі” лепш было б памаўчаць. Паказальна, што газэта ніяк не пракамэнтавала словы Сініцына.

Празь некалькі нумароў тыя ж *Свободные новости* друкуюць артыкул Аляксандра Коктыша ”Няўлоўны Джо – ён жа Зянон Пазьняк”: „Незалежнасьць звалілася на беларусаў, як сьнег на галаву”, „яе ж Зянон Станіслававіч сваёй антырасейскай гістэрыяй, выбачайце, і прафукаў”.

„Нечаканая”, „лёгкая”, „выпадковая” незалежнасьць – улюбёны тэзіс некаторых палітолягаў, якія забываюцца і пра пакаленьні беларусаў, што палеглі за гэтую Незалежнасьць у лягерах ГУЛАГу, і пра ахвярную працу тысячаў актывістаў БНФ і дэмакратычнага руху, якія Незалежнасьці дамагаліся. Але ізноў жа – у чым „антырасейская гістэрыя” Пазьняка, ягоны „радыкалізм”? У патрабаваньні беларускамоўнай адукацыі? У засьцярогах адносна праімпэрскай палітыкі Масквы? У заяве, што шлях Беларусі – шлях у Эўропу?

Яшчэ праз колькі нумароў *Свободные новости* прыводзяць словы лідэра Свабодных прафсаюзаў Генадзя Быкава: „...калі паставіць да сьценкі Зянона Станіслававіча і прапанаваць яму выбар „жыцьцё альбо Беларусь”, апошні, безумоўна, аддасьць жыцьцё” – і ставяць над тэкстам загаловак: „Абярэ сьмерць. Ды хто пульне?” У краінах, дзе пануе закон, такі загаловак быў бы адназначна расцэнены як падбухторваньне. У ЗША, напрыклад, гэта катэгорыя цяжкіх злачынстваў з усімі наступствамі.

Кожны мае права лічыць Пазьняка апосталам нацыі, як Быкаў, ці надаваць яму супрацьлеглую характарыстыку, як некаторыя журналісты. Але ўсе гэтыя словы пра „дэбільны экстрэмізм”, „кулі” ды „генэтычны фонд” – эмоцыі. Журналіст мае права на эмоцыі, але першы ягоны абавязак – даваць чытачу інфармацыю.

Вакол Пазьняка, як і вакол ягонай партыі, цягам апошніх гадоў узьведзеная сьцяна сьвядомага замоўчваньня.

Дзясяткі актывістаў КХП-БНФ былі жорстка зьбітыя на плошчы Якуба Коласа ў час леташняга сьвяткаваньня 25 сакавіка (яны адмовіліся ісьці на Бангалор), але пра гэта ў большасьці незалежных газэтаў – ні радка. Прэсавую канфэрэнцыю, якая адбылася наступнага дня, наведаў толькі адзін журналіст – карэспандэнт Беларускай службы Радыё „Свабода”. Астатнія засталіся вернымі „байкоту”. В.а. старшыні партыі Юры Беленькі некалькі сутак правёў за кратамі – таксама ні слова. Менавіта партыя Пазьняка арганізавала сьвяткаваньне гадавіны Слуцкага паўстаньня – ні радка ў большасьці незалежных выданьняў. Пра тыя дзясяткі акцыяў, што наладзілі актывісты партыі ў Віцебску, іншых рэгіёнах – маўчаньне. І пра пікетаваньне актывістамі партыі г.зв. „народнага сходу” 18 траўня большасьць выданьняў не паведамілі, як і пра тое, што каля сарака пікетчыкаў былі затрыманыя, а кіраўнікі партыі – Мікола Анцыповіч і Ўладзімер Юхо – жорстка зьбітыя.

Увесну 2000 г. галоўнай актуаліяй палітычнага жыцьця Беларусі былі парлямэнцкія выбары. Партыя Пазьняка першай заявіла, што ня будзе браць удзел ня толькі ў выбарах, але і ў перамовах. Інфармацыя пра гэта замоўчвалася.

Праз паўгода аргумэнты Пазьняка прызналі іншыя апазыцыянэры (за выняткам партыі Статкевіча) – але час быў страчаны. Ужо два гады Пазьняк гаворыць пра „своеасаблівае” стаўленьне нямецкай дыпляматыі да беларускай дэмакратыі ў ракурсе меркантыльных расейска-нямецкіх паліўных і транзытных інтарэсаў – гэтыя словы не былі пачутыя (бо не былі надрукаваныя), таму цяперашнія крокі нямецкіх палітыкаў зрабіліся нечаканасьцю (а хутка будуць яшчэ больш непрыемныя сюрпрызы).

У выніку скажонай інфармацыі – памылковыя высновы.

Такія, напрыклад, як у Віктара Марціновіча з *БДГ*. Год таму, калі партыя Пазьняка ладзіла адну за другой акцыі ў сталіцы і ў правінцыі, ён пісаў, што „КХП-БНФ знакаў жыцьця не падае“ і толькі „...бамбардуе рэдакцыі і інфармацыйныя агенцыі факсамі з запозьненымі камэнтарамі Зянона Пазьняка на ўжо неактуальныя для краіны тэмы”.

Праверыў у сваім архіве: перад выхадам артыкулу Марціновіча Пазьняк выказваўся пра ўзмацненьне ролі спэцслужбаў Расеі ў Беларусі, пра небясьпеку вайсковай і фінансавай інтэграцыі з Масквой, пра паглынаньне расейскім капіталам беларускіх прадпрыемстваў, зьнішчэньне беларускамоўных клясаў. Неактуальна?

„Камэнтатар зь Зянона Станіслававіча ніякі, – працягвае Марціновіч. – Дый жыцьцё апазыцыйнага палітыка ў народнай сьвядомасьці вельмі кароткае. Яно складае некалькі гадоў пасьля зьнікненьня з поля зроку. Хто цяпер памятае палітыкаў Булахава і Дабравольскага? Гэтак і Пазьняк паволі забываецца”.

Цікава, што праз некалькі тыдняў пасьля гэтага артыкулу Булахаў быў прызначаны на ключавую пасаду ў выканкаме СНД. А Дабравольскі пераабраны намесьнікам старшыні адной з самых буйных дэмакратычных партыяў.

Ляйтматыў кожнай другой аналягічнай публікацыі – Пазьняка напаткала палітычная сьмерць. У часе чарговых „палітычных хаўтураў" па Пазьняку ў 1999 г. НІСЭПД правёў дасьледаваньне. На пытаньне „За каго б вы сёньня прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах?" атрыманы такі вынік: Лукашэнка – 38,4%, Чыгір – 3,4%, Шушкевіч – 2,4%, Пазьняк – 1,7%, Багданкевіч – 1,4%, Ярмошын – 0,7%.

Такім чынам, у сытуацыі інфармацыйнай блякады Пазьняк быў сярод асобаў, якія займалі альбо займаюць першыя месцы ў дзяржаве (прэзыдэнт, сьпікер, прэм'ер, старшыня Нацбанку), і ў два разы апярэджваў дзейнага прэм'ер-міністра.

А вось вынікі апытаньня менскай моладзі, зьмешчаныя на вэбсайце Маладога Фронту ў той час, калі *БДГ* канстатавала адсутнасьць папулярнасьці Пазьняка ў моладзі (сьнежань 1999 г.): Лукашэнка – 10, Пазьняк – 8, Чыгір – 6, Шушкевіч – 4. У аб'ектыўнасьці МФ, які на „падзельным" зьезьдзе БНФ, практычна, у поўным складзе галасаваў супраць Пазьняка, сумнявацца не даводзіцца.

Існуюць апытаньні, дзе рэйтынг Пазьняка значна вышэйшы, але я сьвядома прыводжу менавіта тыя, дзе ён мінімальны. Бо нават і пры такіх выніках ён уваходзіць у пяцёрку лідэраў. І гэта – пры аплёўваньні як афіцыйнай прэсай, так і большасьцю незалежных выданьняў. Дадам, што ў заходніх краінах палітык лічыцца ўплывовым, калі трапляе ў першую сотню (дарэчы, большасьць кангрэсмэнаў, сустрэчы зь якімі апазыцыянэраў „новай хвалі" падаюцца некаторымі выданьнямі як „міжнародны прарыў", не ўваходзяць у амэрыканскую сотню – але гэта сапраўды ўплывовыя асобы). Нарэшце, пры інфармацыйнай блякадзе і спадзяваньні толькі на свае сілы актывісты КХП-БНФ сабралі за Пазьняка больш як 70 тысячаў подпісаў (гэта тое, што афіцыйна прызнала камісія Ярмошынай).

Сьцьвярджэньне ж, што толькі той „палітычна не памёр", хто зойме пасаду прэзыдэнта, а астатнія нічога ня вартыя, – вельмі нагадвае прапанову скасаваць усе газэты і абмежавацца адной.

Прэса ня толькі паказвала Пазьняка асобай, непапулярнай сярод насельніцтва, – апошнія гады яна падкрэсьлівала, што Пазьняк згубіў папулярнасьць сярод беларускіх патрыётаў.

І вось – апытаньне на вэб-сайце Франака Вячоркі (сына Вінцука) – за каго б вы галасавалі на прэзыдэнцкіх выбарах? У якасьці асноўных кандыдатаў аўтар сайту вызначыў трох – Домаша, Чыгіра і Ганчарыка, але дадзеныя і іншыя імёны (ад якіх, як напісаў аўтар, „нічога не залежыць"). Вынікі (на момант існаваньня сайту): Пазьняк – 34%, Домаш – 28; Быкаў – 15, Сурвілла – 8, Лукашэнка – 3, Чыгір – 2, Казлоўскі – 1. Як вядома, Сурвілла і Быкаў не вылучаліся на гэтых выбарах.

Газэта „Наша Ніва" праводзіла аналягічнае апытаньне на працягу некалькіх месяцаў. Там Пазьняк таксама аказаўся на першым месцы, набраўшы амаль удвая больш галасоў, чым Домаш. Тое, што Пазьняк працягвае заставацца нацыянальным лідэрам, можа камусьці не падабацца. Але гэта – факт.

Абектыўнае, крытычнае, нават жорсткае стаўленьне прэсы да палітыкаў – закон у цывілізаваных краінах. І было б дзіўным прапаноўваць у дачыненьні да нейкага палітыка ў Беларусі (альбо партыі, якую ён узначальвае) іншую танальнасьць. Стаўленьне можа быць станоўчым альбо адмоўным, але абавязкова – адпавядаць фактам.

Ад прэсы залежыць шмат. Калі б перад другім турам парлямэнцкіх выбараў у 1990 г. *Вечерний Минск* не надрукаваў, а рэгіянальныя газэты не передрукавалі паклёпніцкі артыкул пра БНФ, – у Вярхоўным Савеце было б не 30 дэпутатаў БНФ, а 130, і гісторыя пайшла б іншым шляхам.

Каб у свой час журналісты сапраўды падтрымалі Пазьняка (як цяпер Домаша ды Ганчарыка), не ганьбячы за выказваньні, зь якімі потым самі пагаджаліся, – рэйтынг Пазьняка дазволіў бы яму яшчэ сем гадоў таму перамагчы на прэзыдэнцкіх выбарах (праўда, была яшчэ адна ўмова – каб у той час лідэры цяперашняй апазыцыі не прасоўвалі Лукашэнку). Аднак здарылася інакш.

Парадаксальна, але адносіны Пазьняка і прэсы настолькі сапсаваныя, што прэса ўжо ніяк ня здольная зьменшыць гэты самы рэйтынг. Пазьняк цяпер не залежыць ад СМІ, што сапраўды ўнікальна для палітыкаў, якія традыцыйна шукаюць падтрымкі журналістаў.

Але мне падаецца, што нават самыя зацятыя непрыхільнікі Пазьняка пачынаюць разумець, што гэтая фігура – незалежна ад таго, стане Пазьняк прэзыдэнтам ці не – застанецца ў гісторыі Беларусі.

Надоўга застануцца і артыкулы пра яго.

Кажуць, адзін літаратурны крытык усю старасьць патрацію на выразаньне з падшывак бібліятэкаў тагачаснага СССР сваіх артыкулаў часоў барацьбы з „нацдэмамі". Нібыта багата газэт папсаваў.

А ў Інтэрнэце ж нажніцамі не пастрыжэш…

***Сяргей Навумчык***

*Кастрычнік 2001г. Прага.*
*Надрукавана: ( „Наша Ніва", – 2001, 29 кастрычніка)*

***Ліст да сяброў Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Партыі БНФ. 23 сьнежня 2001 г.***

# ТЭЗІСЫ ДА ПАЗЫЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ" І ПАРТЫІ БНФ (КХП – БНФ)

У 1999 годзе сумеснымі намаганьнямі нямецка-расейскай дыпляматыі, агентуры і так званых намэнклятурных „апазыцыянэраў" ды „дэмакратаў" была ажыцьцёўлена генэральная атака на Беларускі Народны Фронт і на нацыянальна-дэмакратычныя сілы беларускага Адраджэньня.

Гэта быў наступ, які рыхтаваўся гадамі. Сутнасьць яго заключалася ў тым, каб выдаліць з кіраўніцтва Фронту адраджэнскую нацыянальна-дэмакратычную верхавіну (і перш за ўсё, старшыню Фронта і яго паплечнікаў), паставіць замест іх людзей, залежных ад замежных рэсурсаў (і адпаведна ад палітычных інтарэсаў замежных лібэральных групаў) і ператварыць Фронт па сутнасьці ў чарговы агульна-дэмакратычны кіруемы наватвор, у „рух" без адраджэнскіх ідэалаў, без беларускай адраджэнскай палітыкі і без Беларускай нацыянальнай ідэі.

Была праведзеная грунтоўная папярэдняя праца. Перад VI Зьездам Фронту ў дэмакратычным бюлетэні „Избиратель" (грантавае выданьне) адзін з разбуральнікаў (на той час намесьнік старшыні Фронта)* агучыў будучую ідэалёгію перавернутага БНФ. Яна выяўлялася наступным чынам: *„Нацыянальна-вызвольная ідэя, якая была стрыжнем у дзейнасьці БНФ з канца 80-х гадоў, у значнай ступені вычарпала сябе...*

*Аптымальна было б не падзяліць Фронт, а аб'яднаць яго з Аб'яднанай Грамадзянскай Партыяй і іншымі партыямі гэтага накірунку." („Избиратель", – 1999, №9, чэрвень)*

* Маецца на ўвазе Ю. Хадыка

У гэты ж час лібэралы з заходніх фондаў папярэдзілі некаторых дрэйфуючых кіраўнікоў БНФ у Менску, што калі на Зьезьдзе БНФ „зноў выбяруць Пазьняка", то „ўсім" (усялякім абаронцам „правоў") будуць спыненыя ўсе гранты і ўсялякае фінансаваньне.

Пагрозы былі ўспрынятыя тымі, каму яны прызначаліся, як справа жыцьця (быць ці ня быць). На VI Зьезьдзе яны арганізавалі крайне непрыстойную і адчайную кампанію супраць старшыні Фронту і ... нягледзячы на ўсё, прайгралі галасаваньне. Мая кандыдатура была выбрана з перавагай у чатыры галасы.

Пасьля няўдачы апанэнты страцілі кантроль над сваімі дзеяньнямі і заявілі, што не прызнаюць вынікаў галасаваньня і выбраньня старшыні. Карыстаючыся маёй адсутнасьцю, яны спынілі паседжаньне і аб'явілі перапынак Зьезду на некалькі месяцаў.

Пасьля гэтага сытуацыя выразна акрэсьлілася. Неабходна было энэргічна спыніць развал Беларускага Адраджэньня. Былі зробленыя радыкальныя рэформы ў Фронце. Партыя БНФ ператварылася з парляманцкай (што дзейнічала толькі ў пэрыяд выбараў) у пастаянна дзеючую палітычную партыю. Падрыхтаваная новая Праграма і новы Статут мадэрнізаванай Партыі Фронта і прапанавана пашыраная яе назва: Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ.

26 верасьня 1999 года сабраўся IV Зьезд Партыі БНФ, згодна Статута і вызначанай квоты дэлегатаў, які зацьвердзіў рэформы. У новай сістэме Фронта галоўную дзейную палітычную ролю стала адыгрываць якраз Партыя, а Фронт павінен быў выконваць функцыі больш вольна арганізаванага і шырокага грамадзкага руху.

30 кастрычніка намі была склікана 2-я сэсія VI Зьезду БНФ строга па квоце і намэнклятуры выбраных на Зьезд дэлегатаў. Усе спробы раскольнікаў замяніць дэлегатаў і ўвесьці іншых былі спыненыя.

Тады стала вядома, што апанэнты ў Фронце, якія назвалі сябе „прагматыкамі", зноў задумалі адчайную правакацыю, каб сарваць Зьезд (хацелі наладзіць грубы канфлікт у зале, згаварыўшыся з адпаведнымі „журналістамі", і скампрамэтаваць дэлегатаў). Але плянуемая правакацыя была намі рашуча спыненая ад пачатку, і апанэнты, бязвынікова пасканадаліўшы, пакінулі Зьезд. Увечары яны сабралі свой „зьезд" з новымі дэлегатамі (збольшага – выпадкова набранымі) і выбралі сваё кіраўніцтва і кіруючыя органы. Гэтак адбыўся раскол у Фронце.

* * *

Мінула два гады. Група „прагматыкаў" БНФ улілася ў вікаўскую „аб'яднаную апазыцыю", у „грамадзянскую кааліцыю" (прыдумкі чужых мэнэджэраў) і згубілася там амаль бясьсьледна; страціла сваё аблічча, уплыў, афіцыйна адмовілася ад назвы „Беларускі Народны Фронт" (пакінулі толькі абрэвіятуру „БНФ"), ад нацыянальнай ідэі, ад актыўнай пазыцыі, пайшла на супрацоўніцтва з камуна-савецкай намэнклятурай, падтрымала „пяцёрку" намэнклятурных кандыдатаў у прэзыдэнты, іхнюю прамаскоўскую дэмагогію і г.д.

А ў выніку – усё правалена. Сваёй „прагматыкай" яны паспрыялі ўмацаваньню рэжыму Лукашэнкі. За два гады гэтымі людзьмі нічога не дасягнута, не набыта ніякага аўтарытэту, не прадэманстравана ніякай самастойнай пазыцыі, не засталося нават прэтэнцыёзных амбіцыяў. Пачуліся спрэчкі наконт выкарыстаньня чужых фінансавых сродкаў ды абвінавачваньні ў іх прысваеньні.

Стала ўсім бачна, што ў гэтых людзей не было агульнанацыянальных ідэяў, што яны ня ведаюць, што рабіць у палітыцы. Тое, чым займаюцца „прагматыкі", гэта, як правіла, – выкарыстаньне палітыкі ў прагматычных і прыватных інтарэсах (спажываньне чужых грошай).

* * *

Цяперака людзі, якія ў якасьці журналістаў прапагандавалі „прагматыкаў" і стваралі пра іх інфармацыйную падзею, бачачы ўмацаваньне нашых франтаўскіх пазыцыяў, пачынаюць пытаць, а якая, маўляў, розьніца паміж „прагматыкамі" і адраджэнцамі, усяроўна, маўляў, – БНФ. Раней яны розьніцу толькі і бачылі, а цяпер, калі нічога не атрымалася, пачынаюць казаць, што розьніцы няма.

Мы з такімі асобамі дыскутаваць не зьбіраемся. Розьніца паміж Адраджэньнем і „адрачэньнем" нікуды ня зьнікла.

Вось чатыры галоўныя палажэньні, па якіх характарызуецца прагматычная пазыцыя.

**1**. Адмовіліся ад Беларускай нацыянальнай ідэі і публічна пра гэта аб'явілі.

**2**. Адмовіліся ад маральнасьці ў палітыцы. Галоўным прынцыпам аб'явілі прагматызм.

**3**. Залежнасьць ад чужых рэсурсаў і, адпаведна, залежнасьць ад чужой палітыкі; выконваюць чужыя праграмы, агучваюць ідэі нямецка-расейскай дыпляматыі (накіраваныя, дарэчы, супраць Беларускага Адраджэньня і незалежнасьці Беларусі).

**4**. Супрацоўніцтва з старой прамаскоўскай камуна-савецкай намэнклятурай; паставілі яе над сабой і сталі дапамагаць яе інтарэсам (пра што засьведчыла нядаўняя кампанія па выбарах прэзыдэнта).

Усе гэтыя чатыры палажэньні кваліфікуюцца так: здрада ідэалам Беларускага Адраджэньня.

Адпаведна нашая пазыцыя па гэтых пунктах выяўляецца ў наступным:

***1***. Вернасьць Беларускай нацыянальнай ідэі і ідэалам Беларускага Адраджэньня. (У гэтым сутнасьць ідэалёгіі Народнага Фронту і нашай палітыкі.)

***2***. Галоўны этычны прынцып нашай палітыкі – справядлівасьць і прыстойнасьць.

***3***. Мы змагаемся супраць дыктатуры і палітыкі нямецка-расейскай дыпляматыі на Беларусі і ні ад каго не залежым ў рэсурсных дачыненьнях.

***4***. Мы не супрацоўнічаем з прамаскоўскай камуна-савецкай намэнклятурай і ні зь якімі прамаскоўскімі арганізацыямі.

Дзесяць гадоў таму мы, Народны Фронт, перамаглі прамаскоўскую камуна-савецкую намэнклятуру ў Вярхоўным Савеце, вярнулі незалежнасьць Беларусі, прыпынілі дзейнасьць КПСС на Беларусі і сьцьвердзілі беларускія нацыянальныя сымвалы ў якасьці дзяржаўных.

* * *

Можа ўзьнікнуць пытаньне: што агульнае ёсьць цяпер у пазыцыях „прагматыкаў" і адраджэнцаў? Мушу адзначыць, што пазыцыі могуць часам разыходзіцца з рэальнай палітыкай. Але калі аналізаваць толькі пазыцыі, то супадзеньні можна адзначыць па двух палажэньнях:

**1**. Змаганьне за дэмакратычны лад супраць дыктатуры акупацыйнага рэжыму.

**2**. Абарона справядлівасьці ў дачыненьні да асобы (правы людзей).

Ёсьць таксама супадзеньні па пытаньнях абароны незалежнасьці, суверэнітэту і нацыянальных інтарэсаў, але розьняцца падыходы і рэальныя шляхі палітычнай дзейнасьці.

* * *

У сувязі з вышэй сказаным, узьнікае пытаньне адносінаў.

Як паказала практыка, разыходжаньне мэтаў, прынцыпаў і пазыцыяў выключае якое б там ні было *арганізацыйна-палітычнае* супрацоўніцтва з „прагматыкамі". Тым часам па пытаньнях, дзе назіраецца супадзеньне пазыцыяў, магчымыя дачыненьні палітычнай *салідарнасьці*.

* * *

16 сьнежня 2001 года ў Менску адбыўся VII Зьезд Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і V Зьезд Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Прыняты асноўныя накірункі адраджэнскай палітыкі на бліжэйшы час.

Зь іх галоўнае:

– Дамагацца новых, нечарговых выбараў прэзыдэнта пад пратэктаратам міжнародных арганізацыяў.

– Ажыцьцяўляць праграму *Беларуская Салідарнасьць*. (Кансалідацыя на аснове беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў і прынцыпаў дэмакратыі Беларускага Адраджэньня; змаганьне з дыктатурай за свабоду, незалежнасьць і справядлівы дзяржаўны лад у Беларусі.)

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***




(Фота З. Пазьняка)

**103-Д.** ***Помнік змагарам за вольную Беларусь. Саўт-Рывэр, ЗША.***

# 2002



**104-Д.** ***Рэжым-2002. Цэнтар Пінска.***

# ПАВАЖАНАМУ ВАСІЛЮ БЫКАВУ

*Зянон ПАЗЬНЯК*
*26 сакавіка 2002 г.*
*Варшава*

Шаноўны Васіль Уладзімеравіч! Высылаю Вам „Парсіваля", пакольки, як высьветлілася, Сяргей Навумчык Вам яшчэ яго не даслаў. Я вельмі задаволены, што ўдалося яго выдаць. Зьбіраўся гэта зрабіць даўно. Цяпер ён ужо ў Беларусі. Мяркую, што гэта добрае здарэньне для беларускай літаратуры. (Хаця й сумняваюся, што нехта ў нас гэтае здарэньне зразумее і добра патрактуе.)

Зараз настаў такі пэрыяд, што трэба хутка і шырока разьвіваць нацыянальнае асьветніцтва, рыхтаваць адраджэнскія сілы, грунт для будучага змаганьня. Інакш – гістарычна прайграем. Сытуацыя, як у 1907-1917 гадах, калі беларускія адраджэнцы праз культурніцкае асьветніцтва і палітычную дзейнасьць падрыхтавалі грунт для БНР.

Цяпер мы працуем інтэнсіўна ў гэтым накірунку. Але цяжка. Бо прыходзіцца змагацца на два бакі. Зь лібэральнага Захаду, часам, ня менш шкоды для Беларусі, чым з Расеі.

Мне здаецца, што неабходнасьць нацыянальнага асьветніцтва ў духу Адраджэньня і патрэбнасьць моманту пачалі адчуваць у грамадстве. Канфэрэнцыя „*Ідэалы БНР і Адраджэньне Беларусі*", якую мы арганізавалі 17 сакавіка гг., адбылася пры перапоўненай залі (больш 300 асобаў), і ніхто не пакінуў канфэрэнцыі заўчасна. Усе даклады былі на ўзроўні, цікавымі і разнастайнымі, і слухалі ўсё – уважліва, у цішыні. А гаворка вялася якраз пра гэта. Нават Ніл Гілевіч прышоў. (Выглядае, што ён ужо канчаткова разьвітаўся з камунізмам.) Выступалі А. Грыцкевіч, Р.Гарэцкі, У.Старчанка, Ю.Беленькі, С.Папкоў, В.Буйвал і інш.

Чаго найбольш не хапае, дык гэта часу. І найбольш яго паглынае партыйная і палітычная праца, якой як бы й не відаць, але без якой – усё замрэ. Шмат часу забірае выданьне „Беларускіх Ведамасьцяў". Але цяпер эканамічныя справы ў Польшчы настолькі згоршалі (і асабліва наш стан), што наўрад ці ўдасца далей выдаваць гэты бюлетэнь (хоць надзеі ня трацім).

Пры ўсім пры тым нахаду імкнуся часам пісаць вершы і рэгулярна (таксама нахаду) фатаграфую ў колеры і ч/б. Хоць наўрад я ўжо калі знайду час сур'ёзна займацца творчасьцю ды навукай. Адрэзана і нагой наступлена, і даўно. Не шкадую (хоць душа і шчыміць). Бо каму была б патрэбная тая „творчасьць" у маскоўскім рабстве. (Яшчэ пытаньне, ці ўвогуле яна каму патрэбная.) Але Беларусь жыве (а магла б ужо й ня быць). Таму няма ў мяне прычыны для пэсымізму.

Факс пра канфэрэнцыю я Вам даслаў, бо эканомія сродкаў (я ўжо казаў пра радыкальнае згоршаньне эканамічнага становішча), хаця я больш люблю гаварыць пра чалавечыя справы па тэлефоне, а не на паперы.

Ваш нэўтралітэт да дачыненьняў у палітыцы я не крытыкую, бо цалкам разумею Вашу сытуацыю, і зусім не ўспрымаю яго з асуджэньнем да Вашай асобы. (Адчуваю толькі шкадаваньне, што так складваюцца справы.)

Цяперака акурат адлятаю ў Нью-Ёрк і потым (як намераваюся) – у Вашынгтон. Пляную шмат там пасьпець, хаця стала значна цяжэй, бо паскудны заходні лібэралізм ня менш салідарны супраць хрысьціянства і нацыянальных традыцыяў культуры, чым камунізм. На Захадзе вельмі добра відаць, як „гэта бітва йдзе сусьветна між сьвятлом і апраметнай" (пра што пісаў Купала ў „Раскіданым гнязьдзе").

Сяргей мне казаў, што ў Чэхіі яны стараюцца аб Вашым пераезьдзе. Добра робяць. Але важна, каб яны пасьпелі ў тэрмін. Мяркую, што ў Чэхіі Вам будзе псыхалягічна лепш. Там больш навокал беларусаў больш, сваіх людзей.

Зычу Вам здароўя і творчага настрою. Прывітаньне Вашай шаноўнай жонцы Ірыне Міхайлаўне. Жыве Беларусь.

Шчыра Ваш і з павагай
Зянон Пазьняк.

# АБ ПАЛІТЫЦЫ РАЗБУРЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ І ЗАХОПЕ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ РАСЕЙСКІМ КАПІТАЛАМ

***Заява***
***Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і ягонай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

У Беларусі прамаскоўскі рэжым распачаў маштабны працэс продажу найбольш эфэктыўных і пэрспэктыўных беларускіх дзяржаўных прадпрыемстваў расейскаму капіталу сумнеўнага паходжаньня. Продаж зьдзяйсьняецца кулуарна, па коштах, заніжаных у дзясяткі і сотні разоў, без адкрытага допуску да яго ўсіх патэнцыйных інвэстараў зь Беларусі ды іншых краінаў. Сярод вызначаных на продаж – шэсьць буйнейшых прадпрыемстваў нафта-хімічнага комплексу, нафта-газавая транспартная сістэма ды іншыя найбольш эфэктыўныя і валютапрыбытковыя прадпрыемствы, якія маюць выключнае значэньне для эканамічнай бясьпекі краіны. Захоп беларускіх прадпрыемстваў расейскім капіталам адбываецца на фоне цынічнага здушэньня рэжымам беларускага нацыянальнага бізнэсу і прамысловасьці. Пашыраецца незаконная перадача беларускіх земляў ва ўласнасьць фірмаў расейскіх алігархаў і расейскай ваеншчыны. У той жа час адсутнічае поўнавартаснае зямельнае заканадаўства, і беларусы пазбаўленыя магчымасьці набываць зямлю ў прыватную ўласнасьць для вядзеньня таварнай гаспадаркі. Усё гэтае сведчыць пра тое, што Масква распачала чарговы этап анэксіі Беларусі.

Мэтанакіраванасьць, вызначаная паслядоўнасьць у дзеяньнях Масквы ў палітычнай, інфармацыйнай, эканамічнай ды іншых сфэрах па захопу Беларусі гаворыць пра тое, што Расея, як і раней, застаецца агрэсіўнай імпэрыяй.

* * *

Пасьля развалу Савецкага Саюзу і набыцьця незалежнасьці Беларусь мела найлепшыя ўмовы для пачатку рэформаў сярод краінаў – былых рэспублік СССР. Беларусь мела нязьнішчаны таварны рынак, кваліфікаваную рабочую сілу і інжынерны пэрсанал, мадэрнізаваныя прамысловасьць і сельскую гаспадарку ў параўнаньні зь іншымі краінамі былога СССР, а таксама разьвітую навуку. Зацікаўленьне ў зьдзяйсьненьні агульных праектаў выказвалі заходнія фірмы. Нягледзячы на сабатаж ураду Кебіча і актыўнае супраціўленьне Масквы, у нашай краіне былі прынятыя шэраг палітычных рашэньняў па прыцягненьні ў Беларусь заходніх інвэстыцыяў. Гэтаму спрыяла наяўнасьць у парляманце краіны дэмакратычнай Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, утварэньне інстытутаў дэмакратыі ў краіне. Большасьць прапанаваных дэпутацкай Апазыцыяй БНФ заканапраектаў правалiў пракамуністычны парлямант, але шэраг палажэньняў пры падтрымцы грамадзтва быў усё ж прыняты. У

красавіку 1992 г. пад кіраўніцтвам Старшыні БНФ Зянона Пазьняка была распрацаваная і прапанаваная Вярхоўнаму Савету і грамадству «Канцэпцыя эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь». Канцэпцыя не была падтрыманая пракамуністычным парлямантам, але шырокае абмеркаваньне ў грамадстве ідэі рэфармаваньня эканомікі, пераводу яе на рынкавы лад мела ўплыў на прыняцьце заканадаўчых актаў. У цэлым у эканоміцы краіны пачалі праяўляцца станоўчыя тэндэнцыі разьвіцьця прадпрымальніцтва.

Сытуацыя рэзка зьмянілася ў горшы бок, калі Маскве ўдалося правесьці на пасаду прэзыдэнта краіны сваю крэатуру – А. Лукашэнку. Амаль адначасна з захопам палітычнай улады пачаўся працэс ліквідацыі інстытутаў дэмакратыі ў дзяржаве: парляманту, незалежнага суду, дэмакратычных СМІ. Наступным этапам стаў працэс ліквідацыі атрыбутаў незалежнай дзяржавы: беларускай нацыянальнай сымволікі, беларускай мовы, адукацыі, беларускага войска і беларускай нацыянальнай эканомікі. На гэтым этапе былі спыненыя і згорнутыя рэформы, найперш тыя структурныя пераўтварэньні, што неабходныя для функцыянаваньня Беларусі як незалежнай дзяржавы. Быў закансэрваваны неэфэктыўны лад вытворчасьці, што застаўся ў спадчыну ад СССР і падлягаў рэфармаваньню. Штучна, пад адміністрацыйным уціскам і з выкарыстаньнем «прапагандысцкага забесьпячэньня» рэжым прымусіў прадпрыемствы павялічваць аб’ёмы вытворчасьці маральна састарэлай і неканкурэнтназдольнай на рынку прадукцыі. Гэта вяло да вынішчэньня рэсурсаў прадпрыемстваў. ***У адміністрацыйным парадку прадпрыемствы, якія ўжо пасьпелі наладзіць узаемавыгадныя кантакты з заходнімі фірмамі, прымусілі пераарыентавацца на Расею – насуперак эканамічнай мэтазгоднасьці.*** Была спыненая рэалізацыя эфэктыўных праектаў з заходнімі фірмамі. Функцыянаваньне неэфэктыўных вытворчасьцяў штучна падтрымлівалася за кошт эмісійных крэдытаў, што інфляцыйным цяжарам ціснула на ўсю эканоміку, душыла вытворчасьць і разам з высокай падатковай нагрузкай прымушала да ўцёкаў капіталу ды пераводу бізнэсу ў цень. Адбылося жорсткае здушэньне нацыянальнага бізнэсу – як аднаго з асноўных інстытутаў незалежнай дзяржавы.

Штучнае тармажэньне разьвіцьця беларускай эканомікі рабілася пад зрэжысіраванае Масквой прапагандысцкае суправаджэньне пра пабудову ў Беларусі «рынкавага сацыялізму» (псэўдатэорыі, якая на практыцы цалкам сябе здэскрыдытавала ў краінах Усходняй Эўропы – былых сатэлітах СССР, што ў канцы 1980-х гадоў вымушаныя былі прызнаць самы камуністы). Аўтарства тэзісу «рынкавага сацыялізму» ў Беларусі прыпісвалася Лукашэнку.

Ва ўмовах стагнацыі рэальнага сэктару эканомікі адбылося зьмяншэньне грашовых паступленьняў у бюджэтную сфэру. Сёньня ніжэй мінімальных патрэбаў забясьпечваюцца сістэма аховы здароўя, адукацыя, навука, пэнсійная сістэма, Беларускае войска. У прыярытэтным плане забясьпечваюцца толькі сілавыя структуры, што гатовыя выканаць любы загад рэжыму, а таксама пазбаўлены кантролю грамадства «прэзыдэнцкі фонд».

Сёньня мы назіраем, як расейская імпэрыя перайшла да ажыцьцяўленьня новага этапу плана па захопу Беларусі.

На фоне павелічэньня маральнай і фізічнай зношанасьці асноўных фондаў большасьці прадпрыемстваў пачаўся захоп эфэктыўных, пэрспэктыўных прадпрыемстваў і цэлых галін народнай гаспадаркі. Праз адпрацаваны механізм штучнага давядзеньня да банкруцтва, з рэзкім заніжэньнем кошту адносна рэальнага рынкавага кошту «выкупляемых» прадпрыемстваў адбываецца цынічнае рабаўніцтва здабыткаў цэлых пакаленьняў беларускага народу. Беларускі народ пазбавілі магчымасьці рэальнага, справядлівага ўдзелу ў прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці, зьдзекліва прапанаваўшы набываць на чэкі «Маёмасьць» акцыі маларэнтабэльных, стратных, зь нявыплачанымі даўгамі прадпрыемстваў. У гэты ж час уключаны механізм перадачы за бясцэнак лепшых, эфэктыўных прадпрыемстваў расейскаму капіталу.

Пры зьдзяйсьненьні планаў захопу беларускай маёмасьці краіну напаткаюць цяжкія наступствы. Прыбытак ад працы прадпрыемстваў будзе выводзіцца зь Беларусі. Будуць спыненыя сацыяльныя праграмы, фінансаваньне культуры, павялічыцца беспрацоўе, адбудзецца зьніжэньне памеру выплачанай рэальнай заработнай платы і пэнсіяў, павялічацца затрымкі зь іх выплатамі. Вынікам будзе рост сацыяльнай напружанасьці, рост злачыннасьці, эміграцыя з краіны. Страта нацыянальнай маёмасьці робіць нацыю палітычна бяспраўнай, а народ пэрманэнтна бедным, вядзе да выміраньня нацыі.

* * *

Мы заяўляем рашучы пратэст супраць палітыкі рабаўніцтва беларускага народу.

Мы зьвяртаемся да беларускага народу з заклікам стаць на абарону беларускай маёмасьці і беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў – стаць на абарону сябе і будучыні сваіх дзяцей. Кожны можа зрабіць свой уклад у справу абароны Бацькаўшчыны і, найперш, людзі, што працуюць у інтэлектуальнай сфэры і ў дзяржаўных структурах – ад іх у значнай ступені залежыць, у якім стане апыніцца Беларусь.

Мы зьвяртаемся да беларускага прадпрымальніцтва з заклікам салідарна, разам з беларускім палітычным незалежніцкім рухам выступіць у абарону беларускай незалежнасьці, беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў, якія зьяўляюцца грунтам для разьвіцьця беларускага бізнэсу, а таксама гарантыяй пэрспэктывы эканамічнага разьвіцьця краіны.

Мы зьвяртаем увагу міжнароднай супольнасьці на маштабнае парушэньне правоў цэлага народу. Мы бачым, як рэалізуюцца цяпер на практыцы скрытыя дамоўленасьці кшталту пакта Молатава-Рыбэнтропа паміж Расеяй і некаторымі заходнімі краінамі па анэксіі Беларусі.

Мы заяўляем, што антызаконны захоп уласнасьці беларускага народа расейскімі структурамі ня будзе прызнаны беларусамі і ня будзе мець міжнародна-прававых наступстваў. Беларусы ніколі не пагадзяцца з крымінальным рабаўніцтвам беларускага нацыянальнага набытку і захопам беларускай нацыянальнай уласнасьці. Ніякія фальсіфікацыі і незаконныя пакты ня будуць прынятыя пад увагу. Створаная Масквой нелегітымная сістэма ўлады на чале з Лукашэнкам узамен разагнаных законных структураў улады ня мае права распараджацца беларускай маёмасьцю, а ўсе іх незаконныя прававыя акты будуць адмененыя пры ўсталяваньні ў краіне законнай улады.

Мы заклікаем беларускае грамадзтва, інтэлігенцыю і палітычную эліту, кіраўнікоў прадпрыемстваў, рабочых, людзей, што займаюцца прадпрыймальніцтвам, прафсаюзы і моладзь усімі сіламі і магчымасьцямі супрацiўляцца захопу беларускай нацыянальнай маёмасьці і рабаваньню Беларусі Расеяй, рашуча змагацца з палітыкай рабаўніцтва нацыі.

Настаў час, калі ўсім стала відавочна, што нас, беларусаў, нашу культуру і нашу дзяржаву адкрыта вынішчаюць пад корань. Унутраная акупацыя ёсьць палітыка вынішчэньня, а не стан існаваньня.

У гэтых умовах мы, беларусы, павінны, не зважаючы на палітычныя разыходжаньні ў нашым грамадзтве, сканцэнтравацца на адной задачы: выратаваць Беларусь. Гэта ёсьць наш агульны нацыянальны інтэрас. Шукайма разам шляхі выратаваньня Бацькаўшчыны і дзяржавы.

Мы бачым выйсце з сытуацыі, што склалася, у правядзеньні новых прэзыдэнцкіх выбараў пад міжнародным пратэктаратам. Толькі беларуская, а не чужынская ўлада будзе гарантам стабільнасьці ў краіне, дабрабыту і разьвіцьця беларускай нацыі, цывілізаваных стасункаў Беларусі зь міжнароднай супольнасьцю.

***Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і ягонай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*19 траўня 2002 г. Менск.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – 2002, № 6(46).*

# АБ ЭТНАЦЫДЗЕ І ВЫНІШЧЭНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

***(Заява)***

Антыдэмакратычны рэжым Лукашэнкі праводзіць на Беларусі вялікадзяржаўную палітыку Расеі (і тых групаў улады, якія кіруюць Расеяй), палітыку этнацыду беларускага народу, вынішчэньня ягоных культурна-этнічных, эканамічных і жыцьцёвых асноваў.

Беларуская нацыя і беларуская культура знаходзяцца пад пагрозай зьнішчэньня.

З сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя пачалося рэзкае зьмяншэньне насельніцтва Беларусі і нараджальнасьці дзяцей. Моцна скарацілася працягласьць жыцьця беларусаў. (У некаторых мясьцінах мужчыны ўжо не дажываюць да пэнсіі). Павялічылася сьмяротнасьць ва ўсіх групах насельніцтва, катастрафічна ўзрастае колькасьць хранічных захворваньняў, асабліва сярод дзяцей. Шырока распаўсюджваюцца хваробы, якія раней ужо былі, фактычна, ліквідаваныя (сухоты, сіфіліс, гепатыт), становіцца праблемай СНІД. Масава распаўсюдзілася п'янства і алькагалізм сярод усіх групаў людзей, у тым ліку – сярод жанчынаў і падлеткаў. За апошнія сем гадоў насельніцтва Беларусі зьменшылася на паўмільёна чалавек і працягвае зьмяншацца з хуткасьцю выміраньня амаль ста тысячаў у год. Усё гэта адбываецца на фоне агульнага зьбядненьня і крыміналізацыі грамадства, павелічэньня колькасьці разбойных нападаў, рабаўніцтва і крадзяжоў. Абнізіўся адукацыйны ўзровень беларускага грамадства, зьменшала колькасьць высокаадукаваных людзей, пагоршыліся магчымасьці атрыманьня адукацыі і працы, павялічылася эміграцыя – ад'езд здаровых, маладых і адукаваных людзей за мяжу.

Працэсы сацыяльнай дэградацыі і выміраньня беларусаў ёсьць вынік этнацыду беларускай нацыі, які праводзіць кіруючы прамаскоўскі рэжым улады. У выніку этнацыду адбываецца зьніжэньне маральнага і культурнага ўзроўню грамадства, дзейнічаюць забароны і выяўляецца немагчымасьць культурна-нацыянальнага разьвіцьця. Беларуская нацыянальная адукацыя практычна зьнішчаная. Амаль поўнасьцю пазачыняныя беларускія школы ў гарадах (дзе найбольшая канцэнтрацыя вучняў) і зачыняюцца па ўсёй краіне. Адукацыя ў вышэйшай школе адбываецца на чужой мове. Беларуская мова, фактычна – забароненая, выгнаная з афіцыйнага ўжытку і сродкаў масавай інфармацыі. Беларуская гуманітарная і фундамэнтальная навука разбураецца, адбываецца зададзеная фальсіфікацыя беларускай гісторыі, зьнішчаюцца магчымасьці нацыянальнай творчасьці і разьвіцьця беларускай літаратуры.

* * *

Фізічнае вынішчэньне беларускага народу, генацыд і этнацыд беларусаў аформіліся як дзяржаўная палітыка Расеі адносна Беларусі задоўга да захопу тэрыторыі Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя, якому папярэднічалі вынішчальныя расейскія нашэсьці на нашую краіну. Беларусь пацярпела велізарныя страты ў культуры, тэрыторыі, эканоміцы і людзкіх рэсурсах. Былі спаленыя тысячы беларускіх кніг, разбураныя старажытныя гарады і тысячы помнікаў беларускай архітэктуры, зьнішчана беларуская школа і царква, забаронена беларуская мова.

Прадуманае вынішчэньне беларусаў і стварэньне штучных умоваў для памяншэньня насельніцтва прывялі да таго, што цягам стагоддзяў беларускае насельніцтва амаль не павялічылася, хоць пры нармальным разьвіцьці на канец XX-га стагоддзя колькасьць беларусаў у Рэспубліцы Беларусь павінна было б складаць у сярэднім 40 мільёнаў чалавек. (Улічым, што ў выніку генацыду беларускае насельніцтва на працягу XX-га стагоддзя не павялічылася: каля 14 мільёнаў – у пачатку XX-га стагоддзя і 10 мільёнаў – у пачатку XXI-га). Асабліва вынішчальнай для Беларусі была палітыка камуністычнай Расеі ў XX-м стагоддзі. У выніку генацыду, рэпрэсіяў і тэрору бальшавікі забілі каля трох мільёнаў беларусаў. Прытым, калі ***ў Расеі бальшавікі (што кіравалі Расеяй) праводзілі палітычны тэрор, то на Беларусі яны тварылі генацыд.*** Беларусь ня мела сувэрэнітэту, не была незалежнай краінай. ***Забойствы рабіла тут чужая адміністрацыя, якая выконвала рускую палітыку зьнішчэньня ўсяго беларускага.*** Зьнішчэньне ўсяго беларускага ўмацавала рускую акупацыйную ўладу і рускую каланіяльную палітыку ў Беларусі.

Расея ў выніку ўнутранага палітычнага тэрору не перастала быць рускай (нікога там не забівалі за рускую мову і рускую нацыянальную ідэю). Расейскія акупанты гвалтоўна спынілі працэс нацыянальнага Адраджэньня і рух беларускага народа да незалежнасьці.

Аналягічная схема вынішчэньня, толькі з абмежаваным ужываньнем уладнага тэрору, стасуецца цяпер у дзеяньнях кантраляванага Масквой рэжыму на Беларусі.

Выкарыстоўваюцца небясьпечныя ўмовы, якія ўтварыліся пасьля Чарнобыльскай катастрофы. Каланіяльная адміністрацыя цяпер (гэтак жа, як некалі ў БССР) праводзіць палітыку прыхаваньня наступстваў Чарнобыльскай бяды, замест іх ліквідацыі, што спрыяе разгортваньню дэмаграфічнай катастрофы на Беларусі. Спыненыя даплаты, праграмы дапамогі і падтрымкі насельніцтва лекамі, вітамінамі і чыстым харчаваньнем. На 2001 год у раёнах Гомельшчыны сьмяротнасьць у 2-3 разы перавысіла нараджальнасьць, а адмоўны прырост насельніцтва (дакладней, выміраньне) складае 10-15 чалавек на тысячу.

У 1986-1987 гадах, адразу пасьля Чарнобыльскага выбуху, прыхаваны генацыд савецкіх уладаў выяўляўся ў жорсткім адміністрацыйным медыцынскім узьдзеяньні на цяжарных беларускіх жанчынаў з патрабаваньне пазбаўляцца ад плоду, каб не нарадзіць, маўляў, непаўнавартаснага дзіцяці. Такая рызыка сапраўды была ў той час, але моцна перабольшаная палітадміністратарамі ад савецкай медыцыны. Гэта не падстава, каб без дасьледваньняў і вывучэньня кожнага выпадку цяжарнасьці пусьціць «пад нож» цэлае пакаленьне беларусаў. А менавіта гэта было зроблена.

Гэткая палітыка працягваецца па сёньняшні дзень і набыла ва ўмовах антыбеларускага рэжыму выраблены кшталт. ***Сёньня з кожных трох зачатых плодаў беларусаў два забіваюць у жываце маці!!!*** Гэта небывалы ў сьвеце ганебны факт. Устаноўлена, што ў асобных раёнах Беларусі пад выглядам чарнобыльскай небясьпекі ўльтыматыўна праводзяць стэрылізацыю жанчынаў. Прыклад: у

2000 годзе ў жаночай кансультацыі горада Барысава загадчыца гінекалягічнага аддзяленьня паведаміла, што іхняя «кансультацыя» праводзіць стэрылізацыю шматдзетных маці, каб пазьбегнуць, маўляў, нараджэньня хворых дзяцей і павелічэньня «асацыяльных» сем'яў. Яна спаслалася, што такі «парадак» стэрылізацыі вызначае Пастанова Савету Міністраў БССР, прынятая летам 1991 года. ***Ніякага змаганьня з наступствамі чарнобыльскага выбуху (70% радыёактыўнага рэчыва выпала на тэрыторыю Беларусі) антыбеларускім рэжымам не праводзіцца. Наадварот, беларускую трагедыю Чарнобыля знарок расьцягваюць у часе, каб скарыстаць вынікі атамнай катастрофы дзеля генацыду беларускага насельніцтва.*** Тых беларусаў і тых вучоных, што супрацiўляюцца вынішчэньню, жорстка перасьледуюць (лёс прафэсара Бандажэўскага).

Аналіз статыстычных дасьледваньняў паказвае, што ў сярэднетэрміновай пэрспэктыве насельніцтва Гомельшчыны паменшыцца ўдвая. Але гэтакае становішча магчымае толькі ў тым выпадку, калі ўжо цяпер удасца спыніць рост сьмяротнасьці і зьніжэньня нараджальнасьці. Калі ж стабілізацыя паказчыкаў не адбудзецца, то можна чакаць поўнага выміраньня палешукоў.

Паказальна, што стварыўшы ўмовы для выміраньня беларускага насельніцтва, антыбеларускі рэжым спрабуе схаваць дэмаграфічную статыстыку, ажыцьцяўляючы чарговы этап генацыду, менавіта: замены выселенага і вымерлага карэннага беларускага насельніцтва прышлым, расейскім. Прытым робіцца гэта па выпрацаваных ужо здаўна імпэрскіх правілах захопу земляў. Вычышчаныя ад мясцовых людзей землі засяляюцца найперш рускім крымінальным элемэнтам (гэтак захоплівалі Паўночны Каўказ, Сібір, Алтай і г.д.). На пакінутыя землі беларускага Палесься перасяляюць тысячы бежанцаў, «бамжоў», беглых крымінальнікаў з Расеі і былога СССР. На сумежнай Берасьцейшчыне таемна будуюць сьмецьцесховішча для радыёактыўных адходаў з Эўропы і Расеі.

У чарнобыльскай сытуацыі прамаскоўскі акупацыйны рэжым на Беларусі дзейнічае па схеме фізічнага вынішчэньня беларускага народу. Для беларусаў Чарнобыльская навала па сваіх дэмаграфічных наступствах значна пераўзыходзіць Другую сусьветную вайну, калі загінуў амаль кожны трэці беларус. Цяпер на Беларусі ідзе вялікая Чарнобыльская вайна. Стаўка тых, хто яе вядзе, – фізічнае зьнішчэньне беларускага народа.

* * *

Планетарная цывілізацыя, і найперш – краіны індустрыяльнага грамадзтва (да якога належыць і Беларусь) – уваходзяць у такую фазу ўзаемадачыненьняў і разьвіцьця, калі жыцьцяздольнасьць кожнага народу, кожнай нацыі, дзяржавы, як і ўсяго чалавецтва, вызначаецца па іх інтэлектуальным патэнцыяле, а не па колькасьці выплаўленага мэталу, здабытай нафты, газу ці іншых вытворчых рэсурсных паказьнікаў.

На Беларусі ***мэтанакіравана створаны надзвычай неспрыяльныя ўмовы для выхаваньня і функцыянаваньня інтэлекту.*** (Зарплата доктара навук, прафэсара бывае роўнай зарплаце сяржанта міліцыі). Краіна масава траціць інтэлігентных людзей, абучаную моладзь, спэцыялістаў, якія выязджаюць за мяжу і за бясцэн прадаюць свае веды. Прытым краіны, куды выязджаюць адукаваныя беларусы, атрымліваюць выгаду – спэцыялістаў, на навучаньне якіх яны не патрацілі ні граша і плацяць ім за раўназначную працу ў некалькі разоў менш, чым сваім грамадзянам. 80% беларускай моладзі заяўляюць, што жадаюць выехаць за межы Беларусі. Страта нацыянальнага інтэлекту – гэта ў цяперашніх умовах страта народнай пэрспэктывы, апушчэньне ў беднасьць, крок да «трэцяга сьвету» і далейшага выміраньня.

На Беларусі скрыжаваліся два працэсы палітычнага імпэрыялізму. З аднаго боку, Расея, імкнучыся далучыць тэрытарыяльныя і людзкія рэсурсы нашай краіны, традыцыйна вядзе сваю зьнішчальную справу. З другога боку, палітыка «адкрытага грамадзтва» Захаду, выцягваньне нашых інтэлектуальных рэсурсаў спрыяе адтоку беларускага інтэлекту на Захад. Гэта зьнешнія формы стратаў. Але ***найбольш небясьпечнай і разбуральнай зьявай для інтэлекту беларускай нацыі ёсьць русіфікацыя*** (як складовая частка этнацыду), асабліва русіфікацыя школы і ў цэлым – адукацыі. Беларуская нацыя назапасіла вялікі станоўчы генетычны інтэлектуальны патэнцыял за стагоддзі разьвіцьця ў сістэме эўрапейскай цывілізацыі. Менавіта праз беларускую мову прачытваецца генетычная памяць беларусаў. Таму непрыяцелі беларускай незалежнасьці імкнуцца задушыць генетычную памяць беларусаў праз русіфікацыю. Бяз доступу да генетычнай памяці беларус становіцца кволай, падзалежнай, нястойкай асобай.

* * *

Спыніць вынішчэньне беларусаў можна толькі пры адной умове: калі спыніць вынішчальную палітыку Расеі, адмежавацца ад гэтай краіны, умацаваўшы нашу незалежнасьць, межы, дзяржаву, культуру, нашае беларускае войска, беларускія грошы, вытворчасьць, сельскую гаспадарку ды эканоміку. Гэта ёсьць найгалоўнейшае пытаньне: як спыніць расейскую палітыку вынішчэньня на Беларусі. Падзеі апошніх гадоў выразна паказалі, што адхіленьне ад улады Лукашэнкі яшчэ ня ёсьць гарантыя рэальных пераменаў. А калі Масква здолее правесьці на вяршыню беларускай улады свайго чарговага (нібы дэмакратычнага) стаўленіка, то вынішчэньне Беларусі толькі паскорыцца.

Ёсьць толькі адна ўмова вратаваньня Бацькаўшчыны. Змагацца!

Мы заклікаем беларусаў, мужчынаў і жанчынаў, моладзь і старэйшых людзей супраціўляцца зьнішчэньню, русіфікацыі, этнацыду. Нельга цярпець, каб нам плявалі ў твар, тапталі ў гразь нашае імя, зьняважалі наш гонар і мову, забіралі маёмасьць. Беларус ня мусіць быць бедным, бо ён працуе і мае Бацькаўшчыну. Хто забірае нашу працу? Куды яна дзяецца?

***Каб змагацца – трэба быць разам. Аб'яднаць беларусаў можа толькі Беларуская нацыянальная ідэя.*** А гэта ёсьць ідэя нашага вольнага нацыянальнага жыцьця ў незалежнай беларускай дзяржаве. Беларусаў ня можа злучыць чужая ідэя ці чужая дэмакратыя, а толькі разлучыць. Вось чаму за сваю ідэю трэба змагацца супраць чужароднага.

Мы заклікаем вольныя краіны, якія дэкляруюць дэмакратыю і правы чалавека, падтрымаць нашу незалежнасьць і нашае змаганьне за жыцьцё і свабоду Бацькаўшчыны. Незалежная Беларусь – гэта павелічэньне вольнага сьвету, гэта ёсьць павелічэньне Эўропы.

Беларусь гістарычна, у выніку свайго геапалітычнага становішча, узяла на свае плечы абарону Эўропы ад варвараў, і гэта падарвала яе сілы. Але трагедыя, здрада і несправядлівасьць XVIII стагоддзя, калі была падзеленая Рэч Паспалітая і Беларусь (якая была сувэрэннай часткай гэтай канфэдэрацыі) запрададзена пад Расею, не павінны больш паўтарыцца.

***Прынята Соймам Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*22 чэрвеня 2002 года, г. Менск*

# ВЫСТУП НА ЖНІВЕНЬСКІМ СОЙМЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ» І КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ПАРТЫІ – БНФ

…Першым чынам хачу вас павіншаваць і падзячыць за мужнае і выніковае адстойваньне Курапатаў, за разуменьне надзвычайнай важнасьці гэтага месца ў нашай гісторыі і ў нашым народным існаваньні.

Вось што значыць для краіны беларуская арганізацыя адраджэнцаў! Краіна была б зусім іншай, калі б ад пачатку разьвівалася нармальна і грамадзтва мела нацыянальныя прыярытэты. Роля нацыянальнага асьветніцтва мусіць быць цяпер вельмі вялікай. Без яго не абыдзецца зараз ніводная адраджэнская справа. Але нашыя высілкі ў асьветніцтве павінны быць скіраваныя на галоўную ўмову: на нацыянальную сьведамасьць асобы, на прыярытэт нацыянальнага. Палітычныя мэты для нас (як палітычнай арганізацыі) ёсьць найважнейшыя. Але мы ня зможам рэалізаваць нацыянальных грамадзкіх мэтаў у пустаце, ня маючы сьведамых людзей.

Тут я адзначу і добрыя нашыя культурныя мерапрыемствы ля помнікаў, і юбілеі, і інфармацыю, і пісаньне патрэбных асьветніцкіх трактатаў, і добры ўзровень нашых палітычных партыйных заяваў.

Вельмі істотна, каб было паболей справаў, і каб у гэтых справах была відаць нашая палітычная праграма. (Лёзунг для самых сябе: у справах – праграма.)

На сёньняшні дзень праграма патрабуе лаканічнай канкрэтызацыі па ўсіх галоўных пытаньнях, якія стаяць перад краінай, перад усімі беларусамі і перад кожным чалавекам. На такія пытаньні (Што ёсьць? Што адбываецца? Што рабіць? Як? Хто? Чаму? Як гэтае і як тое?) усе мы павінны мець дакладны, просты, кароткі і шчыры адказ. Мусіць быць адзіная яснасьць і ў нашых думках. Таму я хацеў бы, каб мы здолелі ў бліжэйшы час сабрацца Паліткамітэтам (хаця б на адзін дзень) і абмеркаваць нашыя задачы.

* * *

Галоўнае пытаньне – пагроза з Усходу, якая павялічваецца і набывае ўсё больш цынічныя і агрэсіўныя формы.

Расейскія гэбоўцы адкрыта заявілі пра пляны захопу (анэксіі) нашай краіны. У нармальных абставінах і ў нармальным грамадзтве да гэтакіх заяваў трэба адносіцца вельмі сур’ёзна, бо гэта ёсьць папярэджаньне пра вайну.

Перад беларусамі стаяць зараз дзьве задачы: палітычна прадухіліць анэксію і падрыхтавацца да барацьбы па абароне краіны (э прычыны пагрозы анэксіі). У выпадку агрэсіі гэтага вымагае грамадзянскі абавязак і Канстытуцыя.

У выпадку анэксіі, калі ня будзе збройнага супраціўленьня акупантам э боку беларусаў, Беларусь гэтай чарговай расейскай акупацыі ўжо можа не пераэжыць. (Нацыю вынішчаць пры дапамозе Захаду па новых тэхналёгіях.) Збройнае змаганьне ў такіх абставінах будзе абавязковай умовай захаваньня незалежнасьці і нацыянальнай будучыні.

Улічваючы становішча, мы мусім арганізаваць надзвычайныя высілкі па першай грамадзкай задачы – палітычным прадухіленьні анэксіі і недапушчэньні захопу нашай краіны.

Мы павінны зыходзіць ня толькі з ужо існуючай рэальнасьці (якая дэманструе нашыя абмежаваныя магчымасьці), але мець на ўвазе і нашу агромністую патэнцыяльную сілу, якая можа паўстаць (пры правільным разуменьні, правільных дзеяньнях і правільнай палітыцы).

Трэба ўлічваць маральна-палітычны заняпад у сьвеце, з прычыны ягонай аднапалярнасьці і дамінацыі левых сілаў. Неабходна мець на ўвазе тэндэнцыі будаўніцтва ў Эўропе новай лібэральнай імпэрыі на базе агульных матэрыяльных інтарэсаў (агульнага рынку) і пры поўнай адсутнасьці ідэяў. Трэба зважаць на нямецка-расейскія інтарэсы і агульную нямецка-расейскую палітыку (асабліва, што датычыць Беларусі, Калінінградзкай вобласьці і Польшчы). Мы мусім зыходзіць з верагоднасьці амэрыкана-іракскай вайны, якая можа справакаваць агрэсію Крамля супраць Беларусі. (Амэрыцы будзе не да нас, а цана на нафту ўзрасьце, што павялічыць прыбыткі і магчымасьці Расеі.)

* * *

Прыходзілася ўжо ня раз пісаць, што нягледзячы на адданасьць Маскве, Крэмль адносіцца да сваіх паслугачоў з гэбоўска-намэнклятурнай грэблівасьцю. Падзеі траўня-чэрвеня (заявы У. Пуціна пра Беларусь) зноў ілюструюць, што Маскве патрэбныя беларуская тэрыторыя, зямля, прамысловасьць, рэсурсы, але не Лукашэнка. Калі б толькі яны Беларусь загрэблі, то Лукашэнка быў бы імі зьнішчаны (спачатку палітычна, а потым і фізічна; спосабаў у іх хапае).

Ня выключана, што узурпатар улады на Беларусі гэта у стане зразумець, але (улічваючы ягоную псіхалогію) наўрад ці паверыць, што такое можа стацца. Сёньня мы бачым, як Масква спрабуе дрэсіраваць свайго васала на дармовую здачу краіны, і як ён няўклюдна не паддаецца, імкнучыся захаваць асабісты інтэрас.

Увага. Тут узьнікаюць складаныя дачыненьні, якія вымагаюць беспамылковых ацэнак. Зьвярніце ўвагу, што ў канфлікце Масквы з Лукашэнкам ягоная «апазыцыя» і ўся гэтая агентурная так званая «дэмакратычная» зборка (якая камэнтуе спрэчныя дачыненьні), прымае неўпрыкмет пазыцыю Крамля. Ім хочацца (усім гэтым «былым», якіх ён вытурыў), каб Масква дала у косьці ўзурпатару і пакарала б іхняга крыўдзіцеля. І ня важна, якой цаной. Хоць справа йдзе пра цану Беларусі, а пазыцыя дыктатара (напрыклад, у жаданьні не аддаваць нацыянальную ўласнасьць задарма) часова супадае зь беларускім нацыянальным інтарэсам.

Вось вам яшчэ адна ілюстрацыя выкарыстаньня Масквой «кіруемага канфлікту» у адзінай сазлучанай сістэме: «рэжым – апазыцыя». Выкарыстоўваецца псіхалогія пакрыўджаных халуёў, з улікам адсутнасьці ў іх сьведамага нацыянальнага думаньня.

Зважайма. Мы – адраджэнцы – ня мусім нічаму перашкаджаць, што спрыяе ўмацаваньню суверэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі (нават калі якія-небудзь дзеяньні вымушана зыходзяць ад нашых праціўнікаў). Але пры гэтым мы павінны праводзіць сваю актыўную нацыянальную палітыку, каб не апынуцца ў залежнасьці ад палітыкі чужой.

Гэта адзін аспэкт нашай паставы ў ацэнцы ўзаемадачыненьняў рэжыму і ягонай «апазыцыі» з Масквой.

Ёсьць другі аспэкт, ня менш важны, які вымагае ад нас пэўнай дыпляматыі і ня мусіць быць на віду. Таму пра яго гаворыцца, але ня пішыцца. З улікам другога аспэкту мы мусім будзем добра прааналізаваць сытуацыю і праводзіць палітыку, якая спрыяла б абароне незалежнасьці краіны і дапамагала б выхаду з дыктатуры.

* * *

Цяпер вельмі выразна і адкрыта відаць «пакрокавая» тактыка Масквы ў падрыхтоўцы захопу нашай краіны і вынішчэньні ўсяго беларускага. З прыходам Пуціна да ўлады ў Расеі дзеяньні рэжыму на Беларусі набываюць асабліва грубы і цынічны, адкрыта акупацыйны характар.

У захопніцкай палітыцы Расея (як і немцы, і любая імпэрыя) заўсёды старалася стварыць на тэрыторыі краіны, якую зьбіраецца акупаваць, канфлікт пакрыўджаных, прэцэдэнт быццам бы парушэньня правоў нейкай групы (за якую Расея пачынае ўступацца). Пасьля гэтага ўламваліся «спасаць» то «праваславіе», то «рускаязычных», то «па просьбе трудзяшчыхся» ды «брацкіх парцій», то каб «зьнішчыць тэрарыстаў» (узарваўшы папярэдне дамы і людзей у Расеі), то проста «з гуманных меркаваньняў», каб «гразіць шведу» і г. д.

Цяпер Масква, выкарыстоўваючы рэжым Лукашэнкі, пачынае акурат новую авантуру на Беларусі: плянуе пасварыць наш народ на рэлігійнай глебе, скарыстаўшы паліканфэсійнасьць беларускай нацыі. Схема канфлікту расплянавана груба і лапідарна. Падрыхтаваны праект закона, дзе ўсе правы даюцца кагэбізаванай Рускай Праваслаўнай Царкве на Беларусі. Чужая царква (якая ў меншасьці) атрымлівае ўсе правы. Астатнія беларускія канфэсіі (якіх большыня) пазбаўляюцца элемэнтарных правоў. Плян просты, як кол. Генэральскае думаньне. Спадзяюцца падставіць папоў (у пагонах), і потым – «зашчышчаць абіжаных».

Я не спыняюся больш падрабязна на гэтай палітыцы Масквы. (Яна тут не складаная і добра вядомая.) Наша пазыцыя выкладзена ў прапанаваным праекце спэцыяльнай заявы Сойму (складзенай на падставе некалькіх праектных прапановаў).

Хачу толькі яшчэ падкрэсьліць для сяброў Сойму, што ***палітычная партыя не павінна ўмешвацца ў канфэсійныя і рэлігійныя дачыненьні.*** Барані нас Божа цягнуць папоў, ксяндзоў, ці якіх-небудзь рэлігійна скасабочаных людзей ў палітыку.Тут – табу. Прасіў бы пра гэта не забывацца. Тым больш, што адзінства нашага народа трымаецца на беларускай нацыянальнай культуры ў шырокім сэнсе (мова, гісторыя, традыцыі і г. д.), а не на рэлігіі (і тым больш не на канфэсіі, якіх у нас некалькі). У цяперашніх варунках самая вялікая дзейнасьць у Беларусі, якая стаіць над усім, – гэта палітыка.

* * *

У заключэньне хацеў бы сказаць пару словаў пра выбары ў мясцовыя органы ўлады. Як мне паведамілі мае калегі, сябры Сойму і намесьнікі, яшчэ няма патрэбы рабіць афіцыйнае высьвятленьне нашай пазыцыі ў дачыненьні да выбараў. Але яна ўжо ня раз абмяркоўвалася між партыйнымі сябрамі-фронтаўцамі і ў кіраўніцтве Партыі. У нас адна думка: Партыі ня трэба ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве.

Не існуе ні заканадаўчых, ні адміністратыўных гарантыяў, што гэтыя выбары (якія нічога не вырашаюць) будуць хоць на паўпрацэнта нармальнымі. Той, хто стане ўдзельнічаць у чарговым брудным фарсе дыктатуры, – мала таго, што сам выпэцкаецца, але яшчэ і дасьць аргумант дзеля легалізацыі і прызнаньня незаконнага рэжыму, які ўсіх выкарыстае ў сваіх інтарэсах, пажуе і – выплюне. Няхай рэжым бавіцца ў легалізацыю са сваёй «апазыцыяй». Яна прывычная.

Мы, аднак, вымушаны будзем гэты фарс паназіраць і пракантраляваць (каб ня даць ім магчымасьці выдумляць потым, што захочуць). Якім чынам ажыцьцяўляць кантроль, стане вядома пазьней.

Ёсьць банальны (але істотны) аспэкт матывацыі ўдзелу ў фарсавых выбарах усёй гэтай „апазыцыі" (гэта тое, што яны называюць «палітбізнэс») – спадзяваньне пацягнуць грошай з заходніх мафіёзных дэмакратаў (прыхільнікаў Расеі). Але пра гэта тут няма патрэбы гаварыць.

Якія яшчэ могуць быць мясцовыя выбары ў мясцовыя органы (якія да таго ж ня маюць гарантыяў выбару і ніякай самастойнасьці), калі ня вырашанае пытаньне законнай ўлады ў дзяржаве?

Пагаджаюся з калегамі, што ў агульных рысах варта цяпер абмеркаваць гэтае пытаньне на Сойме і прыняць да ведама сяброў Партыі пастанову (пратакольным запісам) аб тым, што Партыя БНФ не намерваецца прымаць удзел у плянуемых рэжымам выбарах у мясцовыя органы ўлады. Пры неабходнасьці пра гэта будзе зроблена спэцыяльная заява.

Нашая пастанова абавязковая для выкананьня кожным сябрам Партыі (прашу памятаць асаблівае палажэньне Статута па пытаньнях выбараў).

Паважаныя сябры Сойму, зычу Вам добрай і таварыскай супольнай працы на карысьць Беларускага Вызвольнага Руху і нашай дарагой Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту «Адраджэньне» і***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*10 жніўня 2002 г., Варшава-Менск*

# ПАКАЗЬНІК ПРОЗЬВІШЧАЎ

**Л**



**М**



**Н**

**Э**



**Ю**



**Я**

# ФАТАГРАФІІ

**1996 г.**

1. Партрэт 2006 г. *(Фота Сяргея Капыткі).*
2. 25 Сакавіка 2007 г. «Дэманстрацыя» антыбеларускага рэжыму ў Менску. *(Фота Марта Мартавіча).*
3. 24 сакавіка 1996 г. Менск. Знакаміты мітынг Народнага Фронту ў абарону незалежнасьці Беларусі і супраць лукашэнкаўскага «саюзу» з Расеяй.
4. 24 Сакавіка 1996 г. Менск. Шэсьце Народнага Фронту. *(Фота з Сеціва).*
5. На вуліцах Менска, 1996 г. *(Фота У. Кармілкіна).*

5а. Вайна ў Чачэніі. Чачэнскія ўцекачы. *(Фота з Сеціва).*

6. Рэжым супраць Народнага Фронту. *(Фота з друку).*
7. Сакавік у Менску. 30.03.1996 г. АМАП. *(Фота У. Кармілкіна).*
8. Менск. «Гарылы» рэжыму зьбіваюць дэманстранта. *(Фота з друку).*
9. Менск. «Гарылы» рэжыму б’юць дэманстранта на Нямізе. *(Фота з друку).*
10. Дэманстрацыя ў Менску.
11. Курапаты – 1988. Раскоп №8. Косьці расстраляных (52 асобіны). *(Фотарэпрадукцыя з кн. З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Менск, 1994, стар. 172).*
12. Курапаты – 1988. Парэшткі расстраляных. *(Фотарэпрадукцыя з кн. З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Менск, 1994, стар. 49).*
13. Лошыца – 1996. Засыпаны яр – месца масавых расстрэлаў у 1937 г.

13а. „Гарылы” ў акцыі супраць моладзі. *(Фота з друку).*

14. «Не» зьнішчэньню Беларусі! Пратэст супраць антыбеларускага рэжыму. Менск.
15. Напад на пікет «людзей у цывільным». Менск.
16. Арышт „ворага рэжыму”. Менск. *(Фота У. Кармілкіна).*
17. «Стой! Кто такой?!» *(Фота з Сеціва).*

**1997 г.**

18. Дэманстрацыя БНФ.
19. «Сьмецьце». Так называюць у Менску «плямісты АМАП». *(Фота Ю. Дзядзінкіна).*
20. Малады Фронт. *(Фота Ю. Дзядзінкіна).*
21. Чарнобыльскі шлях у Менску. *(Фота Ю. Дзядзінкіна).*
22. Чарнобыльскі шлях у Менску. Эпізод пасьля нападу «гарылаў.» У цэнтры гарадзенскі фронтавец Р. Фарманян.
23. Антыбеларускі рэжым. Вулічная сцэна ў час нацыянальнага сьвята. Менск.
24. «Квітней Беларусь!» – Стары лёзунг і новая рэчаіснасьць. Менск.
25. Дэманстрацыя Народнага Фронту. Ліпень, 1997 г., Менск. *(Фота В. Федасеенкі).*
26. Моладзь на дэманстрацыі. Менск.
27. Дэманстрацыя БНФ. Ліпень 1997. Менск.
28. Фронтаўскі пікет. Менск. *(Фота з друку).*
29. Дэлегаты V Зьезду БНФ. Менск 21.06.1997 г. *(Фота У. Кармілкіна)*
30. V Зьезд БНФ «Адраджэньне». Заля Зьезду. 21.06.1997 г., Менск. *(Фота У. Кармілкіна).*
31. Аплот антыбеларускага рэжыму. *(Фота У. Кармілкіна).*
32. Падрыхтоўка да дэманстрацыі. Менск, ліпень, 1997 г.
33. Антыбеларускі рэжым. Зьбіваюць чалавека на вуліцы. Менск.
34. Юры Мароз пратэстуе. *(Фота У. Кармілкіна).*
35. Схапілі жанчыну з кветкамі. Гародня. *(Фота з друку).*
36. Адвакат Надзея Дударава. *(Фота з друку).*
37. «Абаронім Беларусь...» *(Фота Ю. Дзядзінкіна).*

**1998 г.**

38. Дэманстрацыя супраць рэжыму. Менск. *(Фота В. Федасеенкі).*
39. Менск. Указаньні па рацыі.
40. Сьцяг Мірона.
41. «Жыве Беларусь!» *(Фота з газэты «Народная Воля»).*

42. «Абы вайны не было». *(Фота з газэты «Ніва»).*
43. Лёзунг Фронту.
44. Акцыя «Грамадзянства БНР.» Менск.
45. Локцевы прыём супраць дэманстранта. Менск.
46. Палачны рэжым. Менск.
47. Касьцёл у Суботніках. *(Фота з Сеціва).*
48. Ларыса Геніюш. Позірк здалёку. *(Калаж З. Пазьняка).*
49. Угодкі Грунвальдзкай бітвы. Менск, 1997 г. *(Фота У. Кармілкіна).*
50. На мітынгу БНФ. Менск.
51. Расейскі змагар за СССР. *(Фота з друку).*
52. Расеяц п’е піва. *(Фота з друку).*
53. Падтрымка Фронту. Мітынг у Менску. *(Фота У. Кармілкіна).*
54. Паштоўка да 10-годдзя БНФ.
55. З. Пазьняк. 1998 г.
56. Высіль Быкаў. 1998 г. *(Фота У. Кармілкіна).*
57. 10-годдзе БНФ. Менск. Заля ўрачыстага сходу. *(Фота Ю. Дзядзінкіна).*
58. Апошнія з бальшавікоў. *(Фота Ю. Дарашкевіч, Менск).*
59. Народны Фронт. Пікет на Цэнтарльнай полшчы.
60. Мітынг БНФ у Менску 24.03.1996. Зь лева на права: М. Чарняўскі, Г. Карпенка, З. Пазьняк, А. Трыпуцін.

**1999 г.**

61. Курапаты 29 кастрычніка 1989 г. Ля Крыжа Пакуты пасьля асьвячэньня.
62. Пішчалаўскі замак (менская турма). *(Фота Алекса К.).*
63. Пагоня.
64. Ідуць на мітынг БНФ. Менск, 1997 г. *(Фота з друку).*
65. Пікет БНФ супраць рсейскай пагрозы. Меснк, 1997 г.
66. Шэсьце Народнага Фронту ў Горадні. 1998 г.
67. Рэквіем у Курапатах.
68. Чачэнскі зыход на фоне рускага браневіка *(Фота «РАР»).*
69. Лістапад на Случчыне. Семежава, 1999 г.
70. З шчасьцем у будучыню. Пінск, 1997 г. *(Фота Я. Шатохіна).*

**2000 г.**

71. Сьнегавік.
72. Народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі. Зь лева на права: сядзяць – А. Бурбіс, Я. Серада, Я. Варонка, В. Захарка; стаяць – А. Смоліч, П. Крэчэўскі, К. Езавітаў, А. Аўсянік, Л. Заяц. Менск. 1918 г.
73. Дэманстарцыя ў Нью-Ёрку перад ААН. 2000 г. *(Фота З. Пазьняка).*
74. Змагар.
74а. Пакінуты дом пад Чарнобылем. *(Фота А. Кляшчука).*
75. «За нашу і вашу свабоду». 23 лютага 2000 г. Нью-Ёрк. Дэманстрацыя БНФ. *(Фота З. Пазьняка)*
76. У кастрычніку 1997 г. у Менску. Дэманстрацыя БНФ.
77. Расейская «клюква развесістая» (супэр-кіч) на Беларусі. *(Фота з Сеціва).*
78. «Гумар-сатыра» на мітынгу БНФ.
79. Беларусы ў турэмнай камэры. У цэнтры (у сьветлай швэдзе) в. а. Старшыні БНФ і КХП-БНФ Юры Беленькі. *(Фота С. П'яных).*
80. Турма ў Менску.
81. Дэманстрацыя БНФ у Менску ў 1998 г.
82. Дэманстрацыя БНФ у Горадні.

**2001 г.**

83. Ваеннае дзяцінства ў Джахар-Гала (былы Грозны разбураны расейскай авіяцыяй). 2000 г.
84. Напад пераапранутай міліцыі і КГБ на пікет КХП-БНФ. У цэнтры экзэкуцыя Улідзімера Івашкевіча (74 гады). Справа міністар МУС Навумаў кіруе нападам. Менск. *(Фота з газэты «Народная Воля»).*
85. У Менску без пераменаў.
85а. Менск. “Зачыстка” ў дварах. *(Кадр з дакумэнтальнага кіно).*
86. Хлопчык са сьцяжком. *(Фота Я. Шатохіна, Пінск).*

